ла ўкараняўся прынцып праўдзівасці і паўнаты ахопу розных праяў рэчаіснасці: высокага і штодзённага клопату пра багацце душы і пра хлеб надзённы. Гэта быў па сваёй сутнасці новы, свецкі, рацыянальны стыль мастацкага бачання. Ф. Скарына праявіў наватарскую смеласць, уключыўшы менавіта гэты стыль на старонкі «святое кнігі» Бібліі. Подпісы і каментарыі Скарыны для ілюстрацый падкрэсліваюць характэрную для прыкладнога мастацтва еднасць прыгожага з карысным, формы з функцыяй. Як і тэксты скарынінскіх прадмоў, ілюстрацыі да кніг маюць выключную яснасць і змястоўную прастату кампазіцыі, яны чытэльныя, рэалістычна дакладныя, прызначаныя фарміраваць уяўленні чытачоў у духу жыццёвасці і праўдзівасці.

Свае віленскія кнігі Ф. Скарына выдаваў таксама на царкоўнаславянскай мове беларускай рэдакцыі. У «Апостале» «на боцех» (палях), як і ў пражскім «Псалтыры», ён зрабіў пераклады цяжкіх для разумення царкоўнаславянізмаў, багаслоўскіх тэрмінаў і ў самім тэксце пераказаў асобныя выслоўі жывою, зразумелаю шырокаму чытачу моваю. Гэтая кніга таксама прызначалася для самастойнага чытання, адукацыі і для набажэнства. На афармленне кніг, якія Ф. Скарына выдаў у Вільні, станоўча паўплывала народная эстэтыка і мясцовы стыль дэкаратыўнага мастацтва. «Малая падарожная кніжка» і «Апостал» маюць большы, чым пражскія выданні, аб'ём дэкору ў параўнанні з тэкстам. Паводле сцверджання асобных даследчыкаў, тэхніка гравіравання тут менш дасканалая, затое ў арнаментах праглядаюцца нацыянальныя асаблівасці дэкору: больш матэрыялу надрукавана чорным і чырвоным колерамі (гл. *Кнігавыдавецкая дзейнасць Ф. Скарыны, Паліграфічная тэхніка выданняў Ф. Скарыны, Мастацкае афармленне кніг Ф. Скарыны, Традыцыі Ф. Скарыны ў мастацтве друкаванай кнігі*).

Мяркуюць, што ў 1525 Ф. Скарына выязджаў у германскі горад *Вітэнберг,* у цэнтр Рэфармацыі, дзе сустракаўся з ідэолагам нямецкіх пратэстантаў Марцінам *Лютэрам.* Мэты гэтай паездкі застаюцца нявысветленымі. Невядома таксама, чаму ў гэтым жа годзе спыніла сваю дзейнасць віленская друкарня Ф. Скарыны.

Цяжкім для Ф. Скарыны аказаўся 1529: летам памёр у Познані яго брат Іван. Францыск паехаў туды, каб заняцца спадчынай нябожчыка. У тым жа годзе раптоўна памерла Маргарыта, пакінуўшы на руках Ф. Скарыны малалетняга сына Сімяона (гл. *Скарына Сімяон Рус*). Родзічы нябожчыцы падалі на Скарыну ў суд, патрабуючы падзелу яе маёмасці. Судовая цяганіна, відаць, для Ф. Скарыны не прайшла бясследна. Падзеі трагічнага года прымусілі яго выехаць у пачатку 1530 у Прусію, пад апеку герцага *Альбрэхта* Гогенцолерна, які, захапіўшыся ідэямі Рэфармацыі, хацеў наладзіць там кнігадрукаванне. *У Кёнігсбергу* Ф. Скарына прабыў нядоўга. Летам ён вярнуўся назад у Вільню з рэкамендацыйнай граматай герцага, які паручаў «выдатнага і многавучонага мужа» зычлівасці віленскага ваяводы Альбрэхта *Гаштольда* і прасіў віленскі магістрат пасадзейнічаць Ф. Скарыне ў рашэнні судовых спраў. У прапускным лісце, які быў таксама выдадзены герцагам Ф. Скарыне, зазначалася, што да сваіх падданых і верных слуг ён залічае і «выдатнага, шырокай эрудыцыі мужа Францыска Скарыну з Полацка, доктара прыгожага мастацтва і медыцыны... Як з увагі на выдатнага мужа непараўнальнага розуму і мастацкага дару, светлага лекарскага таленту і слаўнага вопыту, так і дзеля ўвагі на наш гонар, удзел і спагад усякую прыхільнасць, апякунства і дапамогу чыніць яму». Па невядомых абставінах Ф. Скарыне не ўдалося прадоўжыць на радзіме справу свайго жыцця. Невядома, ці вярнуў яму віленскі магістрат канфіскаваную маёмасць, можа, не шмат чаго засталося і вяртаць, бо ў 1530 у Вільні здарыўся вялікі пажар, які знішчыў дзве трэці будынкаў горада. Прыцiснуты абставінамі, Ф. Скарына становіцца хатнім лекарам і сакратаром віленскага каталіцкага біскупа *Яна.* Біскуп паходзіў з каралеўскай сям'і, быў кансерватыўным і фанатычным царкоўнікам. Па яго злаславых нагаворах польскі кароль выдаў некалькі эдыктаў, якія абмяжоўвалі традыцыйную верацярпімасць і свабоду веравызнання ў Вялікім княстве Літоўскім і давалі прывілеі католікам. У гэтых абставінах цяжка

Я. Драздовіч. Са свету з навукай. 1944.



было аднавіць беларускае кнігадрукаванне. Да таго ж на Ф. Скарыну новай хваляй наваліліся варшаўскія крэдытары нябожчыка брата: заможныя купцы-іудзеі пачалі дамагацца ад яго ўплаты братавых даўгоў. У лютым 1532 яны дамагліся каралеўскага дэкрэта аб арышце Скарыны і ён каля 10 тыдняў быў зняволены ў пазнанскай турме. За Ф. Скарыну заступіўся яго пляменнік Раман, які дамогся аўдыенцыі ў караля *Жыгімонта I* і даказаў яму, што Ф. Скарына не меў прамых адносін да гандлю. 24 мая 1532 кароль загадаў вызваліць Ф. Скарыну і выдаў яму ахоўную грамату (імунітэт), паводле якой яго мог цяпер судзіць толькі каралеўскі суд. Вызваліўшыся, Ф. Скарына ўзбудзіў судовую справу супраць крыўдзіцеляў, патрабуючы вярнуць яму патраты, якія ён панёс у выніку несправядлівага арышту і зняволення. Невядома, ці выйграў ён гэтую справу і ці дапамог яму каралеўскі імунітэт. Жыццёвых нягод, якія абрынуліся на Ф. Скарыну ў 1529—34, хапіла, каб прывыкламу да большай асабістай бяспекі і зычлівай падтрымкі вучонаму дзеячу рашыцца на змену месца жыхарства (гл. *Познань*).

Матэрыял для роздуму можа даць і ўпамінанне, зробленае ў канцы Альшэўскага летапісу пад 1535 годам: «Ксёндз Ян, з князёў літоўскіх, выехаў з Літвы — біскуп віленскі». Далей ідзе абрывак фразы: «Того ж часу пасля яго...» (Поўны збор рускіх летапісаў. М., 1980. Т. 35. С. 192, на рус. мове), на якой канчаецца захаваная да нашых дзён частка рукапісу. Што сталася на віленскім біскупстве пасля ад'езду Яна і што прынесла гэта перамена Францыску Скарыне — невядома. Гэта паставіла перад Ф. Скарынам праблему: ехаць за біскупам ці не. У сярэдзіне 1530-х г. Ф. Скарына прымае запрашэнне чэшскага караля *Фердынанда I* на пасаду каралеўскага медыка і садоўніка ў толькі што адкрытым батанічным садзе ў каралеўскім замку Градчаны. Даследчыкі мяркуюць, што пры чэшскім каралеўскім двары Ф. Скарыну ведалі і цанілі яшчэ з той пары, калі ён прымаў удзел у рабоце дыпламатычнай місіі Жыгімонта I. Новая пасада выглядала павышэннем у рангу нядаўняга лекара і сакратара віленскага біскупа. Каралеўскі садоўнік мог выкарыстоўваць і веды медыка-гамеапата, рыхтаваць уласныя лекі з раслін батанічнага саду і лячыць каранаваных асоб. Некаторыя даследчыкі шукаюць іншыя аргументы, каб зразумець згоду вучонага мужа на пасаду, якую напярэдадні займаў італьянец Франчэска, усяго толькі магістр, а не доктар навук (гл. *Медыка-біялагічная дзейнасць Ф. Скарыны*). Выезд Ф. Скарыны звязваюць таксама з пажарам, які здарыўся ў Вільні. Але гэтыя меркаванні выяўляюць большую дакладнасць у кантэксце агульнай грамадска-палітычнай і культурнай сітуацыі, якая ўзнікла на той час у Цэнтральнай і Заходняй Еўропе.

Інтэнсіўная друкарская і выдавецкая дзейнасць Ф. Скарыны, як вядома, супала з перыядам перамір'яў. У 1515 летапісы адзначаюць знамянальную для стабілізацыі міжнародных адносін сустрэчу імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміляна I Габсбурга, караля Венгрыі і Чэхіі Уладзіслава II Ягелона, караля польскага і Вял. кн. Літоўскага Жыгімонта I Старога (гл. *Венскі кангрэс 1515*). У 1521 «мистр прускии за прозбою своею одержал с королем перемире до чотырох лѣт» (Поўны збор рускіх летапісаў. М., 1980. Т. 35. С. 169, на рус. мове). У 1523 «посол московскии прыходил до короля Жыкгимонта до Кракова в пятисот конеи и постановил с королем перемире на пять лѣт» (там жа). А ў 1525 Альбрэхт «прускии мистр будучы от короля Жыкгимонта перво валькою утисненыи... голъд в Кракове посеред рынку королю Жыкгимонту чынил...» (там жа). У 1529 Жыгімонт I зрабіў 9-гадовага сына Аўгуста вялікім князем літоўскім, а праз год каранаваў яго на польскага караля. Прыжыццёвая каранацыя была беспрэцэдэнтнаю справай, яна сведчыла пра давер і згоду паміж бацькам і сынам, пра лад і спакой у дзяржаве Ягелонаў. Але напярэдадні выезду Ф. Скарыны з краю пачаліся трывогі: у 1530 памёр праваслаўны гетман К. *Астрожскі*, які дзесяткі гадоў удала адбіваў нашэсці татар і аберагаў непарушнасць паўднёвых граніц дзяржавы. Астрожскі быў магутным мецэнатам праваслаўнай царквы і кнігадрукавання. Мяркуюць, што пад яго апекай знаходзілася і друкарская справа Ф. Скарыны ў Вільні. Напярэдадні другога ад'езду Ф. Скарыны ў Прагу адбыліся нядобрыя падзеі ў прыродзе і грамадстве. Летапісцы з трывогай паведамляюць пад 1531: «прышла саранча на Лядскую землю и на Литовскую, около Берестия и около Мѣнска, і Свержна, и Коидонова, Ивенца, и около Вилни видели летаючых, и поели жыто, и ярыну, и траву» (там жа. С. 170). Услед за тым суха запісаў летапісец, што кароль паслаў сваё войска на чале з новым гетманам Юрыем Радзівілам «Москвы воевати». У адказ на гэтыя напады «тое ж зимы приходила Москва к Полоцку и к Витебску» (там жа. С. 236). У час, калі Ф. Скарына пакідаў родную зямлю, Жыгімонт I Стары зноў паслаў гетмана Радзівіла з «воиском литовским на московского, а с ним было поляков много ѣздных і пѣших, наемных литовских на пенезях» (там жа). У гэтай вайне прыняў удзел і віленскі ваявода Гаштольд. Вайна разгаралася, набірала ўсё большую жорсткасць і нялюдскасць. Абставіны на радзіме не спрыялі вучонай дзейнасці Ф. Скарыны. Пражскія гады яго жыцця прайшлі адносна спакойна. Ці не спакою ўрэшце зажадала душа выпрабаванага прыгодамі і нягодамі, ужо немаладога вучонага? Спакой жа для творчага чалавека тады азначаў і прызнанне, і асноўную ўмову далейшай працы, плённасці роздумаў, развагі. Памёр Ф. Скарына не пазней 29.1.1552. Дакументы, што захаваліся, даюць падставу меркаваць, што вучоны-медык

меў у Празе пэўную маёмасць, якая пасля яго смерці перайшла як спадчына сыну СіМяону, аб чым сведчыць акт ад 29.1.1552 чэшскага караля Фердынанда Габсбурга на юрыдычнае права сына на маёмасць бацькі.

Францыск Скарына — вучоны і асветнік — быў не толькі сынам новага часу, а, перш за ўсё, сынам роднага краю. Рэнесансавыя навіны ён прымаў асцярожна, трымаючы курс на асвету. Умеў быць разважлівым і стрыманым, памятаючы, што яго справа і задумы здзяйсняліся ў рэчышчы патрыярхальна-хрысціянскай традыцыі, якая цвёрда панавала на радзіме. Светапогляд Ф. Скарыны нёс у сабе ўласцівую гуманістам ідэю маральнага ўдасканалення грамадства і чалавека. Ён першы ў гісторыі беларускай грамадскай думкі ўзяў на сябе цяжар злучыць свядомасць сваіх землякоў з агульначалавечай скарбніцай маральных каштоўнасцей, у якую ўваходзілі біблейска-хрысціянскія легенды і антычныя міфы, філасофскія вучэнні, кодэксы законаў і звычаі. Усе прадмовы і пасляслоўі да яго выданняў можна чытаць як алегорыі, у якіх поруч з прамым асветніцкім зместам разгортваецца змест іншасказальны, падтэкставы — ланцуг намёкаў на тое, як трэба ўспрымаць родную гісторыю і сучаснае грамадскае жыццё на канве элінска-біблейскага канона, для таго часу — вышэйшай нормы. Ф. Скарына быў прыхільнікам і прадстаўніком рэалістычнай і асветніцкай тэндэнцыі ў духоўным жыцці, навуцы і мастацтве Адраджэння, якая бралася спалучыць пачуцці з розумам і падарыць людзям сінтэз — мудрасць. Праз два стагоддзі гэтая тэндэнцыя зойме ключавое месца ў еўрапейскай культуры і атрымае назву класіцызму. Жывучы доўга на чужыне, Ф. Скарына развіў свае патрыятычныя пачуцці, паглыбіў погляды на радзіму і ўмацаваў сувязь з духоўнымі каштоўнасцямі народа. У яго свядомасці жылі гераічныя падзеі вызваленчых войнаў у Чэхіі, Нідэрландах, Італіі. Як вучоны-гуманіст ён высока ставіў творчыя сілы самой прыроды, а патрыятычныя пачуцці адносіў да натуральных і універсальных прыроджаных здольнасцей усяго жывога. Прывязанасць жывых істот да родных мясцін — гэта ўсеагульная, у разуменні Ф. Скарыны, заканамернасць быцця, дзякуючы якой жыццё індывіда становіцца мэтазгодным і разумным. Дзякуючы гэтаму кожная жывая істота збліжаецца з родам, а чалавечая асоба — з народам, так паўстаюць сувязі чалавека з грамадствам і з роднаю зямлёй. «Понеже от прирождения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по воздъдуху, ведаютъ гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чуют виры своя; ... тако ж и люди, игде зродилися и скормлены... к тому месту великую ласку имають». Гэтыя словы можна лічыць своеасаблівым стрыжнем усяго жыцця Ф. Скарыны (гл. *Патрыятызм Ф. Скарыны, Светапогляд Ф. Скарыны, Традыцыі Ф. Скарыны ў беларускай літаратуры*).

Аб Ф. Скарыне і яго кнігавыдавецкай дзейнасці рускія і еўрапейскія даследчыкі ў поўны голас загаварылі ў канцы 18 ст. Значную вядомасць яго асветніцкая дзейнасць набыла на пачатку 20 ст. і асабліва ў паслякастрычніцкі час. Шырока адзначалася 400 і 450 год беларускага кнігадрукавання. Паводле рашэння ЮНЕСКА (1970), Францыск Скарына поруч з М. Ламаносавым, А. Пушкіным, Т. Шаўчэнкам і інш. быў пазначаны ў спісе «Выдатных дзеячаў славянскай культуры», юбілеі якіх знамянальна адзначаюць ва ўсім славянскім свеце. Ф. Скарына здаўна быў добра вядомы народам Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Чэхаславакіі і слаўны на сваёй радзіме — Беларусі. Яго імем у гарадах Беларусі названы вуліцы, плошчы і ўстановы (гл. *Скарынінскія найменні*). Яго дзейнасць з'яўляецца крыніцай шматлікіх выдатных твораў беларускай літаратуры і мастацтва (гл. *Вобраз Ф. Скарыны ў выяўленчым мастацтве, Вобраз Ф. Скарыны ў мастацкай літаратуры, Кінематаграфічная Скарыніяна, Тэатральная Скарыніяна, Медалі, Філатэлія і філакартыя*). У беларускай савецкай навуцы ўзнікла комплексная дысцыпліна — *скарыназнаўства.*

Жыццёвы шлях Ф. Скарыны ў многім паказальны для людзей Адраджэння, якіх Ф. Энгельс назваў «тытанамі па сіле думкі, страсці і характару, па шматбаковасці і вучонасці». Любоў да ведаў, шырыня адукацыі спалучыліся ў яго з высокаю грамадзянскаю культураю, дзелавітасцю і смеласцю, уменнем ставіць наватарскія задачы і разумна вырашаць іх. Ф. Скарына быў і арыгінальным мысліцелем, і даравітым пісьменнікам, плённым публіцыстам і рупным перакладчыкам, вынаходлівым мастаком і дзелавым чалавекам — першадрукаром. Багацце асобы Ф. Скарыны ставіць яго побач з такімі выдатнейшымі людзьмі Адраджэння, як Леанарда да Вінчы, Рафаэль, Мікеланджэла, Томас Мюнцэр, Эразм Ратэрдамскі, Томас Мор і інш., а беларускую культуру, на ніве якой ён працаваў, — упоравень з культурай еўрапейскай. Скарынінская энцыклапедыя стане яшчэ адной значнай прыступкай у далейшым пазнанні выдатнага жыцця Францыска Скарыны і яго бурнага часу.

*У. А. Калеснік.*



**АВЕРАІЗМ,** кірунак арабскай і зах.-еўрап. сярэдневяковай філасофіі, адна з крыніц *вальнадумства* С.

Заснавальнік — арабскі філосаф і ўрач 12 ст. *Ібн Рушд* (лац.— Авероэс). А. з'явіўся натураліст. і матэрыяліст. трактоўкай вучэння *Арыстоцеля,* што процістаяла тамісцкай версіі (гл. *Тамізм) арыстацелізму.* Асн. ідэі А.: нястворанасць свету, вечнасць матэрыі і руху, смяротнасць чалавечай душы, усеагульная прычынная сувязь прыродных з'яў і інш. А. абвясціў тэорыю *двайстай ісціны,* аддзяліўшы веды ад веры, філасофію ад тэалогіі: несапраўднае з пункту погляду багаслоўя можа быць сапраўдным у філасофіі. Гэтыя рысы А. з'явіліся крыніцай вальнадумства ў зах.-еўрап. філасофіі сярэднявечча, выклікалі жорсткае праследаванне з боку каталіцкай царквы. Еўрап. цэнтрамі А. ў 14—16 ст. сталі Падуанскі і Балонскі ун-ты. Прадстаўнік падуанскай школы А. ў канцы 15 ст. Н. Вернія абгрунтаваў тэзіс пра вечнасць свету і абвяргаў індывідуальнае бессмяроцце. У 16 ст. традыцыя А. прадстаўлена ў вучэннях П. *Пампанацы, Піка дэла Мірандалы,* Дж. Бруна, Дж. Ч. Ваніні і інш.

Ідэі А. знайшлі адлюстраванне ў *светапоглядзе Ф. Скарыны.* Месцам здачы экзамена на ступень доктара медыцыны ён выбраў *Падуанскі універсітэт.* Каб паспяхова здаць экзамен, С. павінен быў добра ведаць не толькі мед. творы Ібн Рушда, але і працы сучасных яму падуанскіх прафесараў — прыхільнікаў А. З гэтай крыніцы чэрпаў С. ўстойлівы інтарэс да прыродазнаўчых ведаў, імкненне з дапамогай розуму набыць уладу над прыродай і самім сабой (гл. с. 36—37). З традыцыяй А. звязваў С. і імкненне вызваліць чалавечую думку з-пад улады дагматычных аўтарытэтаў, зрабіць розум найвышэйшым крытэрыем у зямных справах чалавека. У каментарыях С. выяўляецца ідэя дваістай ісціны, якая служыла сродкам разняволення чалавечага розуму ва ўмовах панавання рэліг.-схаласт. светапогляду. «Житейскую мудрость» С. ставіў нараўне з божай (гл. с. 46). Лічыў, што мудрэц павінен быць прасякнуты не толькі «духом святым», але і філасофіяй (гл. с. 43). С. сцвярджаў, што існуе «двоякая правда: божия и человечия. Двоякій суд: божій и человечій. Двоякая похвала: от бога и от человек» (гл. с. 193). Знаёмства з авераісцкай версіяй арыстацелізму выяўляецца і ў разважаннях С. пра стварэнне свету «из ничего». У прадмове да кн. «Быццё» ён пісаў: «Кто убо от философов мог поразумети, абы господь бог словом своим с ни з чего сотворил вся видимая и невидимая, (по) старейшине их Аристотелю глаголющу: «З ни с чего ничто же бысть» (гл. с. 105).

*Літ.:* Сагадеев А. В. Ибн-Рушд (Аверроэс). М., 1973; Соколов В. В. Средневековая философия. М., 1979.

*Г. У. Грушавы.*




Э. К. Агуновіч. Афіша да спектакля Беларускага тэатра імя Я. Купалы «Напісанае застаецца (Францыск Скарына)». 1979.

**АВЕРО́ЭС,** гл. *Ібн Рушд.*

**АВІЦЭ́НА,** гл. *Ібн Сіна.*

**АГУНО́ВІЧ** Эдуард Канстанцінавіч (н. 1938), беларускі сав. мастак. Засл. работнік культуры БССР (1977). Аўтар афішы, эскізаў, дэкарацый і касцюмаў да спектакля Бел. т-ра імя Я. Купалы «Напісанае застаецца (Францыск Скарына)» А. Л. *Петрашкевіча* (1979). Выканаў (з У. А. Маслыкам, 1980) муляжы скарынінскіх выданняў для выстаўкі, прысвечанай Міколе Гусоўскаму (Дом літаратара ў Мінску). Аўтар копій гравюр С. (1972) для Заслаўскага музея рамёстваў і народных промыслаў (Мінскі р-н). Аформіў вокладку, тытульны ліст, зрабіў ілюстрацыі да рус. выдання кнігі А. Петрашкевіча «Напісанае застаецца. П'есы» (М., 1979). У 1983 зрабіў эскізны праект інтэр'ера друкарні С. для экспазіцыі Рэсп. музея атэізму і гісторыі рэлігіі (г. Гродна).

**АДВЕ́РНІК** Юрый, Адвернікавіч Георгій (? — 1525), заможны віленскі гараджанін, купец, член гар. рады. Мяркуюць, што А. мог фінансаваць кнігавыдавецкую дзейнасць С. ў Празе. С. быў жанаты на ўдаве А. Малкгарыце (Маргарыце).

*Літ.:* 92.

**АДРАДЖЭ́ННЕ,** Рэнесанс (франц. Renaissance Адраджэнне ад renaître адраджацца), эпоха станаўлення раннебурж. культуры ў Зах. і Цэнтр. Еўропе ў 14—16 ст.

Абумоўлена якаснымі зменамі ў сац.-эканам. і паліт. жыцці перадавых краін, развіццём гарадоў, таварна-грашовай гаспадаркі, зараджэннем капіталіст. адносін, фарміраваннем нац. дзяржаў і абс. манархій, узмацненнем антыфеад. і рэліг. барацьбы. Суправаджалася вял. геагр. адкрыццямі, развіццём тэхнікі, навукі, узнікненнем кнігадрукавання і інш. У выніку складвалася новая, пераважна свецкая культура,

аплотам якой станавіліся гарады, а выразнікамі — раннебурж. ідэолагі, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, передавыя грамадскія і паліт. дзеячы. На базе гэтай культуры сфарміраваўся новы, рэнесансава-гуманіст. светапогляд, у якім адлюстраваліся змены, што адбыліся ў поглядах на прыроду, грамадства, чалавека. Аснову гуманізму эпохі А. складаюць тры асн. прынцыпы: уяўленне пра самакаштоўнасць чалавечага жыцця, або адраджэнчаскі *антрапацэнтрызм*, дзе ў цэнтры ўвагі аказваецца не праблема замагільнай узнагароды, а праблема зямнога прызначэння чалавека; вучэнне пра абс. духоўную свабоду, г. зн. пра неабмежаваныя магчымасці чалавека ў яго адносінах да самога сябе, пазнання, творчасці, свету; натуралізм як універсальны спосаб інтэрпрэтацыі чалавека і прыродна-сац. рэальнасці. Характэрная асаблівасць эпохі А.— зварот да культуры антычнасці (гл. *Антычная літаратура і філасофія на Беларусі* ў 15—17 ст.). Аднак імкненне адрадзіць (адсюль і назва — Адраджэнне) антычнае мастацтва, філасофію, навуку і інш. было не простай рэстаўрацыяй, а канкрэтна-гіст. спосабам фарміравання новай культуры. Носьбіты новага светапогляду — гуманісты — з'яўляліся ў асн. выразнікамі заможных і сярэдніх слаёў гараджан, аднак іх погляды мелі больш шырокае прагрэсіўнае значэнне; побач з раннебурж. сац.-класавымі яны сцвярджалі агульначалавечыя каштоўнасці (гл. *Гуманізм*). Культура эпохі А. сац. неаднародная і ідэйна супярэчлівая. Свецкія і натуралістычныя элементы цесна перапляталіся з рэлігійна-містычнымі, грамадзянскі гуманізм — з крайнім індывідуалізмам і амаралізмам, вучэнне пра высокую годнасць чалавека — з усведамленнем яго бяссілля. У розных краінах А. не супадала храналагічна і тыпалагічна. У адрозненне ад класічнага італ. А. рэнесансавую культуру на поўнач ад Альп наз. паўн. А., асаблівасцямі якога былі сувязь з *Рэфармацыяй*, нац.-культ. рух, кампраміс з рэліг.-феад. традыцыяй і інш.

У эпоху А. адбывалася інтэнсіўнае станаўленне нац. культур, развіваліся і дасягнулі вял. поспехаў філалогія, л-ра на нар. мовах, філасофія, прыродазнаўства, гістарыяграфія, педагогіка, выяўленчае мастацтва, архітэктура, музыка, тэатр. Гуманісты-філолагі імкнуліся адрадзіць класічную лацінь, вывучалі стараж.-грэч. і стараж.-яўр. мовы, адшуквалі, аднаўлялі і выдавалі тэксты антычных аўтараў. Адначасова гэты перыяд адзначаны ўзрастаючай цікавасцю да жывых нац. моў, сведчаннем чаго з'яўляецца літ.-філас. спадчына С. Фарміравалася рэнесансавая эстэтыка з яе рэабілітацыяй пачуццёва-цялеснай прыгажосці, секулярызацыяй духоўнага свету чалавека, пераканаінем, што свабода творчай дзейнасці неабмежаваная. Эстэт. праблематыка распрацоўвалася ў адносінах да маст. практыкі, пераважна ў галіне жывапісу, скульптуры, архітэктуры.

У аснове маст. мыслення эпохі — давер да пачуццёвага ўспрыняцця; перспектыўнае, трохмернае, рэльефнае бачанне навакольнага свету. Відазмянялася антычнае паняцце мімесісу: галоўнае не перайманне, а індывідуальна-творчае бачанне самога мастака, для якога мастацтва вышэй за рэальнасць. Вял. значэнне надавалася прафесіяналізму, адукацыі, веданню анатоміі, матэматыкі. Маст. творчасць пачала разглядацца як самастойны від дзейнасці. Аб'ектам маст. адлюстравання ўсё больш станавілася рэальнасць, рэліг. сюжэты секулярызаваліся. Маст. пазнанне сінтэзавалася з навуковым, даследаваліся пытанні перспектывы, прапорцыі, святлаценю. Жывапіс, скульптура, графіка псіхалагічна



Да арт. **Адраджэнне.** Мікеланджэла. Аддзяленне святла ад цемры. Фрэска плафона Сіксцінскай капэлы. 1508—1512. Ватыкан.



Да арт. **Адраджэнне.** Рафаэль. Платон і Арыстоцель. Фрагмент фрэскі «Афінская школа». Станцаэла. Сеньятура. 1509—1511. Ватыкан.

паглыбляліся, выяўлялі жыццялюбства і грамадзянскасць асобы, драматызм і канфліктнасць рэчаіснасці. У архітэктуры рэнесансавы стыль вызначаўся яснасцю, лагічнасцю, прапарцыянальнасцю, суразмернасцю чалавеку. Найб. значных поспехаў у мастацтве і архітэктуры дасягнулі *Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла, Рафаэль*. У л-ры сцвярджаўся ідэал свабоднай, усебакова развітай асобы, ажыццяўляўся сінтэз кніжнай і фальклорнай традыцыі. Тэатр спалучаў літаратурную драматургію з нар. карнавальным мастацтвам. Муз. культура адчувала ўплыў нар. музыкі, у ёй замацоўвалася вакальна-інстр. паліфанія, зараджаліся новыя жанры — сольная песня, кантата, опера.

Філас. думка А. процістаяла схаластыцы, хоць яшчэ не парывала з сярэдневяковай традыцыяй. У развіцці філасофіі вылучалася тры лініі — этыка-гуманістычная, неаплатанічная і натурфіласофская. Этыка-гуманістычная лінія характарызавалася цікавасцю да праблем чалавека, яго прызначэння, унутранага свету. Чалавек разглядаўся як гарманічнае адзінства прыроднага і духоўна-культурнага. Актуалізаваліся і канкрэтызаваліся сац.-этычныя ідэі эпікурэізму (у духу раннебурж. індывідуалізму) і памяркоўнага *стаіцызму* (у духу «грамадзянскага гуманізму», што характэрна таксама і для С.), абвяшчалася неабмежаванасць маральнай свабоды чалавека. Для прадстаўнікоў паўн. А. характэрна спроба гуманіст. перапрацоўкі хрысц. этыкі (*Эразм Ратэрдамскі*, С.). Неаплатанічная лінія філасофіі эпохі А. звязана з пастаноўкай радыкальных анталагічных праблем, стварэннем пантэістычнай карціны свету, распрацоўкай шэрагу дыялект. ідэй (*Мікалай Кузанскі, М. Фічына*). Прадстаўнікі рэнесансавай *натурфіласофіі* (*Парацэльс*, Дж. Кардана, Б. Тэлезіо, А. Доні, Ф. Патрыцы, Дж. Бруна, Т. Кампанела) абапіраліся на вопыт, куды ўваходзілі уласныя назіранні і дасягненні навук, гіст. практыка і нар. мудрасць. Аднак гэта яшчэ не былі навук. веды 17 ст., што абапіраліся на старанна падрыхтаваны навук. эксперымент. Вышэйшы ўзлёт у развіцці філасофіі А.— натуралістычны *пантэізм* (Бруна). Яго аналагам быў містычны пантэізм (Т. *Мюнцэр*, Я. Бёме). З эпохай А. звязана ўзнікненне новага прыродазнаўства (Леанарда да Вінчы, М. *Капернік*). Геліяцэнтрычнае вучэнне абумовіла радыкальны перагляд філас. уяўленняў пра свет. На аснове вучэння Каперніка Бруна распрацоўваў касмалагічнае вучэнне пра бясконцасць Сусвету. Рабіліся спробы аднаўлення сапраўднага філас. вучэння *Арыстоцеля*, скажонага схаластыкай, натуралістычнай інтэрпрэтацыі арыстацелізму (*П. Пампанацы*). Узнікла сац. утопія (Т. *Мор*, Кампанела), развівалася паліт. думка (Н. *Макіявелі*, Ж. Бадэн). Гісторыя трактавалася як вынік мэтанакіраванай дзейнасці людзей; палітыка эмансіпіравалася ад рэлігіі і тэалогіі, разглядалася як самастойная галіна чалавечай дзейнасці. Сац.-паліт. філасофія А. зыходзіла з пераканання ў неабходнасці змянення, удасканалення існуючага грамадства, дзяржавы, нораваў (гэта даволі рэльефна праглядаецца ў прадмовах С.), яна накіравана ў рэальную будучыню. Рэнесансава-гуманіст. ідэі адлюстраваліся ў рэфармац. вучэннях. Аднак, калі гуманісты асн. ролю адводзілі свабоднай волі чалавека, у шэрагу выпадкаў абсалютызуючы яе, то рэфарматары, найперш памяркоўныя, рабілі ўпор на прадвызначэнне чалавечай дзейнасці і лёсу божым наканаваннем.

На Беларусі, якая ўваходзіла ў *Вялікае княства Літоўскае*, а потым Рэч Паспалітую, у 15—16 ст. склаліся пэўныя передумовы для станаўлення культуры А.: рост гарадоў (гл. *Беларускі горад* 15—16 ст.) як цэнтраў рамяства, гандлю, ажыўленай грамадска-паліт. дзейнасці, сац.-класавая барацьба, што ўзмацнялася ў вёсцы, актывізацыя прагрэсіўнага шляхецкага руху за «выпраўленне грамадства і дзяржавы», па-

літ. цэнтралізацыя і дзярж.-прававая стабілізацыя грамадства, фарміраванне бел. народнасці і нац. самасвядомасці, расшырэнне міжнар. узаемасувязей, гуманіст. і рэфармац. рух, секулярызацыя духоўнага жыцця, якая выявілася ў развіцці адукацыі, кнігадрукавання, прытоку разнастайнай кніжнай прадукцыі з-за мяжы і камплектаванні б-к, *мецэнацтве* і ўзнікненні гуманіст. цэнтраў, захапленні антычнай культурай, станаўленні бел. мовы (гл. *Старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова* ў 15—16 ст.), нац. пісьменнасці, у т. л. л-ры, айч. пісьменнасці на лац. і польск. мовах, развіцці мастацтва, гістарыяграфіі, філас. і грамадска-паліт. думкі, прававой практыкі і тэорыі і інш. З культурна-тыпалагічнага пункту гледжання А. на Беларусі адносіцца да ўсх.-еўрап. А., якое ўваходзіць у склад паўн. А. Састаўная частка ўсх.-еўрап. А.— А. на Беларусі — будучы адзінствам агульнаеўрап. і рэгіянальна-нац., мае агульныя і спецыфічныя рысы і заканамернасці. Агульнымі рысамі з'яўляюцца наяўнасць развітай эканам. і сац.-паліт. гарадской культуры, народнасць, якая фарміравалася, і інш. Спецыфічнымі рысамі былі адсутнасць у эканоміцы яскрава выяўленых капіталіст. адзнак, вял. залежнасць гарадоў і мястэчак ад феадалаў, меншая ўдз. в. свецкага пачатку ў культуры, сутыкненне «ўсх.» і «зах». культурна-ідэалагічных і філас. рэліг.-царк. тэндэнцый (гл. *Праваслаўная царква* на Беларусі ў 15—16 ст., *Каталіцкая царква* на Беларусі ў 15—16 ст.), станаўленне духоўнай культуры бел. народнасці ў складзе рознанац. і рознарэліг. дзярж.-рэгіянальнага ўтварэння — Вял. кн. Літоўскага, а потым Рэчы Паспалітай ва ўмовах незавершанага працэсу нац.-духоўнай дыферэнцыяцыі і культ. кансалідацыі бел., укр. і літ. народнасцей, што абумовіла полілінгвізм айч. пісьменнасці. Спецыфічнымі былі таксама ідэя генетычнай і духоўна-культурнай роднасці бел., рус. і укр. народаў, наяўнасць на працягу пэўнага перыяду адноснай верацярпімасці, узаемадзеяння і ўзаемаўплыву бел., рус., укр., літ. і польск. культур, сувязь не толькі з антыфеад., але і нац.-рэліг. рухам, патрыятычная і дэмакр. культурна-асв. тэндэнцыя, спазненне ў параўнанні з Зах. і Цэнтр. Еўропай працэсу развіцця рэнесансавай культуры, функцыяніраванне яе ва ўмовах феад.-каталіцкай рэакцыі, контррэфармацыі. Адным з істотных момантаў А. на Беларусі з'яўляецца станаўленне і развіццё нац. бел. культуры.

У адрозненне ад зах.-еўрап. рэнесансавы гуманізм ва Усх. Еўропе, у т. л. і на Беларусі, меў пэўную спецыфіку. Перш за ўсё гэта выявілася ў поглядах на прызначэнне чалавека. У айч. гуманізме ідэя суб'ектыўнай свабоды ў большай ступені, чым у зах.-еўрап., абмежавана інтарэсамі агульнага дабра, што тлумачылася не толькі больш нізкім узроўнем гарадскога, раннебурж. развіцця, але і магутнай стараж.-рус. грамадска-культ. традыцыяй, абумоўленай спецыфікай гіст. развіцця ўсх.-еўрап. рэгіёна. Ва ўмовах Беларусі ідэя служэння агульнаму дабру набыла нац.-патрыят. і асв.-дэмакр. канкрэтызацыю. Для рэнесансава-гуманіст. свядомасці ўсх.-еўрап. рэгіёна ў большай ступені, чым для зах.-еўрап., характэрны сінтэз натуралізму і тэалагізму, безрэліг. і рэліг.-хрысц. духоўных каштоўнасцей, у сувязі з чым айч. рэнесансавы гуманізм нярэдка прымаў выгляд т. зв. хрысц. гуманізму, г. зн. духоўнага феномена, які не парываў з рэліг.-хрысц. светапоглядам, але адначасова рабіў яму пэўную рэвізію з пазіцый Рэнесанса. Усе гэтыя рысы добра відаць у філас. і сац.-паліт. поглядах С. Рэнесансава-гуманіст. вучэнне на Беларусі цесна звязана з рэфармац., гал. чынам радыкальнымі дактрынамі. З актывізацыяй духоўнага жыцця Беларусі ў эпоху А. звязана станаўленне і развіццё л-ры, мастацтва, гістарыяграфіі, філас. і грамадска-паліт. думкі і ўвогуле культуры бел. народа (гл. *Беларуская літаратура* канца 15 — 1-й паловы 16 ст., *Асвета* на Беларусі да 16 ст.). Літ. шэдэўр культуры Беларусі эпохі А.— паэма Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра», у якой адлюстраваны асобныя рысы рэнесансавага ідэалу чалавека, новыя прынцыпы маст. творчасці, у прыватнасці рэнесансавага рэалізму, любоў да роднай зямлі, простага народа. У 2-й пал. 16 — 1-й пал. 17 ст. рэфармац.-гуманіст. рух, вострая сац.-класавая і нац.-рэліг. і вызв. барацьба нараджаюць плеяду таленавітых літаратараў, мысліцеляў і грамадскіх дзеячаў (*Міхалон Літвін*, Сымон *Будны*, Васіль *Цяпінскі*, Станіслаў *Кашуцкі*, Мялецій Сматрыцкі, Андрэй *Волан*, Афанасій Філіповіч, Стэфан Зізаній, Лаўрэнцій Зізаній, Лявонцій Карповіч, Андрэй Рымша, Язэп *Даманеўскі*, Іпацій Пацей і інш.). Важнай літ. з'явай было нараджэнне высокамаст., палемічна завостранай публіцыстычнай прозы — ліст (пасланне), адказ (водпаведзь), слова (казанне), палемічны трактат і інш. У паэзіі вядучае месца спачатку займала «эпіграма», потым паявілася эпічная, панегірычная і бытавая паэма. Школьны тэатр абумовіў узнікненне драмы. У гэты ж перыяд інтэнсіўна развівалася мемуарная л-ра, што сведчыла пра ўзрослую цікавасць да індывідуальнасці чалавека, пэўнай асобы. Новым было ўзнікненне гумарыстычнай, парадыйна-сатырычнай прозы і паэзіі на нар. мове («Прамова Мялешкі»). Адбываўся працэс станаўлення і развіцця філас. і грамадска-паліт. думкі, у якой рэалізаваліся прынцыпы, нормы, ідэалы рэнесансава-гуманіст. светапогляду. У развіцці айч. рэнесансава-гуманіст. думкі адзначаюцца перыяды ў залежнасці ад спецыфікі грамадскага жыцця, узроўню мысліцельнай культуры, ідэйнай дамінанты. Першы перыяд — філас. і грамадска-паліт. думка Беларусі эпохі ранняга А. (пачатак 16 ст.— 1550—60-я г.) — характарызаваўся станаўленнем, пранікненнем у грамадскую свядомасць ідэі рэфарміравання; другі (сярэдзіна — канец 16 ст.) — актыўным рэфармац.-гуманіст. рухам, які імкнуўся сінтэзаваць тэарэт. гуманізм з сац.-практ. дзейнасцю. У канцы 16—17 ст. вял. значэнне набыла праблема абароны нац.-культурнага існавання бел. народа, абгрунтаванне яго права на свабодны рэліг.-паліт. выбар, ідэя ўз'яднання Беларусі і Расіі.

Новыя анталагічныя і метадалагічна-гнасеалагічныя ўяўленні і ідэі выяўляліся пераважна ў рэліг. форме, таму што гуманісты Беларусі былі ў асн. тэалагічна арыентаванымі мысліцелямі і пануючы царк. светапогляд пераадольвалі праз рэліг. рацыяналізм (С., Будны, Л. Зізаній і інш.). Аднак існаваў і свецкі, уласна філас. спосаб фармулёўкі асн. філас. уяўленняў, выяўлены ў духу атэізму і матэрыялізму (С. Лован, К. Лышчынскі). Закраналіся пытанні паходжання свету, разумення цудаў, крытыкаваўся догмат пра ўзнагароду на тым свеце і індывідуальнае бессмяроцце душы, разглядаліся праблемы суадносін ідэальнага і матэрыяльнага, пазнання рэліг. і прыроднай ісціны, веры і розуму, тэалогіі і філасофіі і інш. Вучэнне пра мараль айч. рэнесансавых мысліцеляў было заснавана на даверы да натуральнай прыроды чалавека, перакананні ў магчымасці яе ўдасканалення праз індывідуальныя намаганні. Абвяшчалася задача маральнага абнаўлення чалавека не толькі праз свецкія вучэнні аб маралі, але і гуманізаваную і секулярызаваную хрысц. этыку, адрадзіліся вучэнні эпікурэйцаў, стоікаў, Цыцэрона, па-новаму інтэрпрэтаваліся платонаўскія і арыстоцелеўскія этычныя ідэі. Асн. з'яўлялася пастаўленая С. праблема чалавека і грамадства. У рамках гэтай глабальнай праблемы абмяркоўваліся пытанні зямнога прызначэння чалавека, агульнага і індывідуальнага дабра, шчасця, духоўна-маральнай свабоды, маральнага і інтэлектуальнага ўдасканалення, грамадзянскага абавязку, індывідуальнай адказнасці і інш. (гл. *Этычная думка на Беларусі*). Прадстаўнікі сац.-паліт. думкі на Беларусі эпохі А. вырашалі шэраг актуальных праблем (гл. *Сацыяльна-палітычная і прававая думка на Беларусі і ў Літве* ў 16 — 1-й пал. 17 ст.). Гэта найперш за ўсё праблема ўдасканалення грамадства і ідэальных сац.-паліт. форм, якую распрацоўваў таксама С. і якая атрымала далейшае развіццё і канкрэтызацыю ў творах рэнесансавых мысліцеляў Беларусі наступнага перыяду (гл. *Светапогляд Ф. Скарыны*). У сац.-паліт. думцы эпохі А. на Беларусі прысутнічалі элементы раннебурж. светапогляду. Аднак рэфармац.-гуманіст. ідэі, на аснове якіх фарміраваўся новы светапогляд, не атрымалі ва ўмовах Беларусі паслядоўна бурж. інтэрпрэтацыі, засвойваліся

кампрамісна, узгадняліся з феадальна-сярэдневяковымі тэалагічнымі ўяўленнямі. Важнейшы вынік духоўна-культ. развіцця бел. грамадства ў эпоху А.— фарміраванне нац. самасвядомасці, што атрымала адлюстраванне ў грамадска-філас. думцы. У гэтым працэсе адзначаюцца два этапы: першы (да канца 16 ст.), калі свецкі этнакультурны кампанент пераважаў над рэлігійным, складвалася пераважна секулярызаваная канцэпцыя нац.-культ. каштоўнасцей і ідэалаў. На другім этапе (канец 16 — 1-я пал. 17 ст.) рэлігія часова становіцца дамінуючай формай выражэння нац. свядомасці, а праблема сцвярджэння паліт. і нац.-культ. суверэнітэту бел. народа выступала пераважна як барацьба за рэліг. свабоду. Нац. самасвядомасць складвалася ў выніку фарміравання бел. народнасці і яе культуры, у цеснай сувязі з сац.-класавай самасвядомасцю. Пераважна свецкі, секулярызаваны тып нац. самасвядомасці беларусаў зафіксаваны ў творах С., Цяпінскага, Буднага і інш. Праяўленнем нац. самасвядомасці бел. народа былі любоў да радзімы, зацікаўленыя адносіны да мінулага, цяперашняга і будучыні сваёй краіны і народа, клопаты пра развіццё нац. форм духоўнай культуры, духоўна-культ. і рэліг. цярпімасць, пачуццё роднасці з рус. і ўкр. народамі і інш. У сувязі з наступленнем феад.-каталіцкай рэакцыі ў нац. самасвядомасці на мяжы 16—17 ст. рэзка ўзрос рэліг. кампанент, паколькі барацьба за рэліг. свабоду выступала як адна з форм абароны нац.-культ. і паліт. суверэнітэту бел. народа. Аднак гэта не азначала, што з нац. самасвядомасці выключаліся свецкія фактары. Іх роля ўзмацнілася, пра што сведчыла выданне граматык Л. Зізаніем і Сматрыцкім, заснаванне Кіева-Магілянскай акадэміі і інш. Вызваленчая нац.-рэліг. барацьба спалучалася з антыфеад. рухам нар. нізоў. Істотны кампанент нац. самасвядомасці бел. народа на ўсіх этапах яе станаўлення — ідэя ўсх.-слав. адзінства. Ідэя матэрыяльна-духоўнага яднання бел., укр. і рус. народаў перарасла ў рух за ўз'яднанне Беларусі, Украіны і Расіі ў адзінае дзярж. цэлае.

У рэнесансава-эстэт. думцы Беларусі мастацтва трактавалася як вынік перайманя і творчай фантазіі мастака, сінтэз цялесна-пачуццёвага і духоўнага, распрацоўваліся паняцці прыгожага, гераічнага, трагічнага, ідэальнага, усведамлялася роля і мера свабоды ў творчым працэсе, указвалася на неабходнасць для мастака прафесіяналізму, эрудыцыі, сцвярджалася эстэт. каштоўнасць музыкі, спеваў, роднай мовы (С., Гусоўскі, Будны, М. К. Сарбеўскі, Сімяон Полацкі і інш.). Гл. *Эстэтычная думка на Беларусі* ў 15—16 ст.

Выяўленчае мастацтва, архітэктура, музыка Беларусі 16—17 ст. развіваліся ва ўмовах узаемадзеяння культуры А. і *барока.* Фарміравалася нац. школа жывапісу, у іканапісе назіраліся адыход ад сярэдневяковых канонаў, спробы рэаліст. трактоўкі аб'екта, выкарыстанне нар. тыпажу, узмацненне жывапіснага пачатку. Узнік свецкі жанравы жывапіс, у асн. парадны партрэт, у якім назіраюцца некат. рысы А.— псіхалагічная паглыбленасць, індывідуальнасць, рэаліст. трактоўка натуры і інш. (партрэты Міхаіла Барысавіча, канец 16 — пач. 17 ст., Соф'і Алелька-Радзівіл, 16 — пач. 17 ст. — Дзярж. маст. музей БССР). Для бел. жывапісу гэтай эпохі характэрны сінтэз рэнесансава-гуманіст. і традыцыйна-сярэдневяковых, усх., г. зн. візантыйскіх і стараж.-рус., і зах. пачаткаў. У графіцы стыль А. найб. ярка прадстаўлены гравюрамі пражскіх і віленскіх выданняў С., асабліва ў яго партрэце. У скарынінскіх гравюрах выявіўся ўплыў А. *Дзюрэра* і Л. Кранаха. Стваралася скульптура, асабліва драўляная. Развівалася бел. архітэктура, горадабудаўніцтва, у якіх назіралася спалучэнне элементаў стылю готыкі, рэнесансу, барока (гл. *Архітэктура Беларусі* ў 15—16 ст.). Больш шырокі размах набыло будаўніцтва свецкіх збудаванняў (ратушы, палацы, жылыя дамы). Істотныя дасягненні назіраліся ў развіцці муз. мастацтва. Узніклі шматгалосыя харавыя спевы, нотны запіс і нотадрукаванне, набылі папулярнасць канты (свецкія песні) і псалмы (рэліг. песні) грамадзянска-патрыят. і бытавога характару, праз батлейку (тэатр лялек) уваходзяць ва ўжытак нар. музыка і спевы. Творчыя дасягненні эпохі А. і перш за ўсё спадчына С. мелі вял. значэнне для наступнага развіцця *культуры Беларусі* (гл. *Мастацтва Беларусі* ў 15—16 ст.).



Да арт. **Адраджэнне.** Партрэт слуцкай князёўны Соф'і Алелька-Радзівіл. Мастак невядомы. 16 — пач. 17 ст.

*Літ.:* Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2. изд. Т. 20. С. 345—347, 508—509; Т. 21. С. 312—315; Ренессанс. Барокко. Класси-







Да арт. **Адраджэнне.** Злева — крэсла. 16 ст. Угодзенскі гісторыка - археалагічны музей. Справа — плітка тэракотавая. 16 ст. Брэсцкая вобл. (уверсе). Кварта шкляная. 16 ст. Гродзенская гута. Дзярж. Эрмітаж. Ленінград.

цизм. М., 1966; Пинский Л. Е. Реализм эпохи Возрождения. М., 1961; Голенищев-Кутузов И. Н. Итальянское Возрождение и славянские литературы XV—XVI веков. М., 1963; Из истории культуры средних веков и Возрождения. М., 1976; Бенеш О. Искусство Северного Возрождения. М., 1973; Брагина Л. М. Социально-этические взгляды итальянских гуманистов (вторая половина XV в.). М., 1983; Копысский З. Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Мн., 1975; Подокшин С. А. Проблема восточноевропейского Ренессанса и гуманизма //Иван Фёдоров и восточнославянское книгопечатание. Мн., 1984; 39; 132; 229; 230.

*С. А. Падокшын.*

**АДЭ́СКАЯ ДЗЯРЖА́ЎНАЯ НАВУКО́ВАЯ БІБЛІЯТЭКА** імя А. М. Горкага. Засн. ў 1829 як гар. публічная б-ка. У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў зберагаецца 7 пражскіх выданняў С.: «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон», «Прытчы Саламона» і «Еклесіяст» пераплецены асобна, а кнігі, якія ўваходзяць у *«Пяцікніжжа»*, сабраны ў канвалют. Выданні С. паступілі з б-кі былога Новарасійскага ун-та (Адэса).

**АЗГУ́Р** Заір Ісакавіч (н. 1908), беларускі сав. скульптар. Герой Сац. Працы (1978). Нар. мастак БССР (1944). Правадз. чл. АМ СССР (1958). Да вобраза С. звярнуўся ў 1924, выканаў бюст (гіпс, знаходзіўся ў Віцебскім краязнаўчым музеі, не захаваўся), адметны партрэтным падабенствам да гравюры з «Біблії» і арыгінальным вырашэннем. У 1927 зрабіў бюст С. (гіпс, не захаваўся), фігуру сядзячага С. (гіпс, не захавалася) і гіпсавую маску «Францішак Скарына — першы кнігавыдавец Беларусі» (экспанавалася на выстаўцы ў Маскве ў 1940, не захавалася). У 1944 стварыў бюст «Скарына — беларускі першадрукар» (гіпс), у 1947 — варыянт гэтага бюста (не захаваўся).

**«АКА́ФІСНІК»**, умоўная назва 8 выданняў, выпушчаных С. у Вільні каля 1522 у складзе *«Малой падарожнай кніжкі»*. Уключае: *«Акафіст магіле гасподняй»*, *«Акафіст архангелу Міхаілу»*, *«Акафіст Іаану Прадцечы»*, *«Акафіст багародзіцы»*, *«Акафіст святому Пятру і Паўлу»*, *«Акафіст святому Міколе»*, *«Акафіст крыжу гасподняму»*, *«Акафіст Ісусу»*. Усе 8 выданняў аб'ядноўвае агульны тытульны ліст з тэкстам у гравіраванай рамцы, які папярэднічае «Акафісту магіле гасподняй». Аднак і астатнія 7 выданняў маюць уласныя тытульныя лісты; гэта дазваляе фармальна лічыць усе выданні самастойнымі. Экземпляр, у якім усе 8 акафістаў заключаны ў адзін пераплёт, захаваўся ў б-цы Вроцлаўскага ун-та (інв. № 305071). У 18 ст. ён належаў б-цы канонікаў кангрэгацыі чына св. Аўгусціна ў Вроцлаве. Значна часцей акафісты пераплятаюць разам з канонамі (гл. *«Акафісты і каноны»*).

*Літ.:* 206, с. 14—18; 642.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**«АКА́ФІСТ АРХА́НГЕЛУ МІХАІЛУ»**, «Акафистъ святому арханъгелу Михаилу и всемъ небеснымъ чином со умилениемъ починаем пети», недатаванае віленскае выданне С., надрукавана каля 1522 (гл. *«Акафіснік»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. Адкрываецца тытульным лістом, на якім назва кнігі набрана ў выглядзе перавернутага трохвугольніка. На арк. 1-м адв.— 10-м адв. тэкст акафіста, уключае 3 вершы, 12 пранумараваных кандакоў і 1 без нумарацыі, 12 пранумараваных ікосаў. На арк. 11—12-м адв. надрукавана «Молитва набожная святому ангелу хранителю своему». У ніжняй частцы арк. 12-га адв. змешчана кароткае пасляслоўе (гл. с. 174). Час і месца выдання ў кнізе не ўказаны. Мова кнігі царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання — 12 арк., сабраных у сшытак. Фармат — у 8-ю долю аркуша. На паласе 19 радкоў. Набор выкананы віленскім шрыфтам С. вышынёй 10 радкоў 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя на верхнім баку аркуша ўнізе справа. Тэкст надрукаваны ў адну фарбу. У верхняй частцы палос размешчаны калонтытул «Радости [на левай паласе развароту] Архангеломъ» [на правай паласе развароту]. Мастацкая аздоба — гравіраваны на дрэве ініцыял «Х» (20×22 мм), змешчаны на арк. 1-м адваротным.

У 1792 «Малая падарожная кніжка» С., што ўключала і акафісты, была ў зборы чэш. славіста І. *Добраўскага.* Пры апісанні свайго падарожжа 1792 у Швецыю і Расію (выд. ў 1796 у Празе) Добраўскі, расказваючы пра гэта выданне, указаў на тое, што С. надрукаваў услед за Псалтыром многія літургічныя творы ў 8-ю долю аркуша. Склад выдання не раскрыты. Экземпляр *«Акафістаў і канонаў»* С. быў вядомы ў 1811 К. Ф. *Калайдовічу,* які назваў яго «Канонікам». Кнігу набыў граф. Ф. Р. *Баузе* ў кнігагандляра І. Ф. Ферапонтава. У час маскоўскага пажару 1812 збор Баузе загінуў. Аднак яго экземпляр «Акафістаў і канонаў», што ўключаў 14 віленскіх выданняў С. і сярод іх «А. а. М.», апісаў у 1813 В. С. *Сопікаў.* У 1817 пецярбургская Публ. б-ка набыла экземпляр «Акафістаў і канонаў» С. (140 арк.) разам са зборам П. К. Фралова. У ім, напэўна, быў і «А. а. М.», які можна атаясаміць з адным з 2 экземпляраў, што зберагаюцца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5. 8[а] і 1.5.8[б]). П. І. *Кепену* ў 1825 былі вядомы 3 экз. «Малой падарожнай кніжкі» С. (належалі Добраўскаму, Калайдовічу і ням. праф. К. Манерту). Апошні экземпляр, які знаходзіўся ў Ландсгуце (Баварыя), Кепен лічыў самым поўным з усіх вядомых. Можна меркаваць, што ў ім быў і «А. а. М.». Лёс экземпляра невядомы. У 1829 П. М. *Строеў* апісаў «Акафісты і каноны» С. са збору Ф. А. *Талстога.* У канвалюце сярод 10 віленскіх выданняў С. быў і «А. а. М.». У 1830 збор Талстога паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку. Яго экземпляр «А. а. М.» можна атаясаміць з адным з 2 названых экземпляраў ДПБ. У 1838 стаў вядомы экземпляр «А. а. М.» са збору А. Дз. *Чарткова.* Экземпляр уваходзіў у канвалют, у якім былі пераплецены 11 акафістаў і канонаў. У 1883 збор Чарткова паступіў у Дзярж. Гіст. музей (ДГМ, Чартк. 519). «А. а. М.», відаць, быў у «Акафістах і канонах» С., якія ў 1847 М. П. *Пагодзін* набыў у кнігагандляра А. Зубава. У 1852 збор Пагодзіна набыла пецярбургская Публ. б-ка. Тут канвалют быў выкарыстаны, каб дапоўніць недастаючымі акафістамі і канонамі два камплекты «Малой падарожнай кніжкі». Паколькі «А. а. М.» ужо быў у Публ. б-цы ў 2 экз., пагодзінскі экземпляр перавялі ў дублетны фонд і ў 1881 перадалі маскоўскаму Румянцаўскаму музею. Экземпляр знаходзіцца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 2045) у складзе канвалюта, што быў пераплецены ў 19 ст. ў скуру зялёнага колеру і ўключаў 7 акафістаў і канонаў С. «А. а. М.» быў і ў складзе «Малой падарожнай кніжкі» са збору П. І. Шчукіна, які ў 1905 перадаў сваю калекцыю ў ДГМ (Меньш. 1430). У 1851 польскі гісторык л-ры М. *Вішнеўскі* апублікаваў звесткі пра экземпляр «Акафістаў і канонаў» С. са збору Ягелонскай б-кі ў Кракаве. Гэта — канвалют, у якім 13 акафістаў і канонаў і сярод іх «А. а. М.». На агульным тытульным лісце канвалюта ёсць запіс пра належнасць кнігі сабору св. Барбары ордэна езуітаў у Кракаве. У 1957 апублікаваны першыя звесткі пра экземпляр «Малой падарожнай кніжкі» з Каралеўскай б-кі ў Капенгагене, у канвалюце якой ёсць і «А. а. М.». У 1978 Ю. А. *Лабынцаў* увёў у навук. ўжытак «Акафіснік» са збору Вроцлаўскага ун-та. Гэты канвалют уключае ўсе 8 акафістаў, якія выпушчаны С. у Вільні. Раней кніга належала Урбану Максіміляну, а ў 18 ст.— б-цы канонікаў кангрэгацыі чына св. Аўгусціна ў Вроцлаве пры касцёле св. дзевы Марыі. Вядома 8 экз. «А. а. м.», усе яны поўныя.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**«АКА́ФІСТ БАГАРО́ДЗІЦЫ»**, «Благовестуеть Гавриил пречистой девици богородици Марии», недатаванае віленскае выданне С., надрукаванае каля 1522 (гл. *«Акафіснік»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. Адкрываецца ўмоўным тытульным лістом з гравіраванай на дрэве ілюстрацыяй — выявай «Благавешчання». На арк. 1-м адв.— 10-м змешчаны тэкст «А. б.» — хвалебнага песнапення ў гонар багародзіцы. Т. зв. вялікі «А. б.» лічаць самым стараж. з акафістаў (напісаны ў 6—7 ст.). Аўтарам яго некат. даследчыкі лічаць па-



З. Азгур. Францыск Скарына. 1924.

трыярха Сергія (610—638), інш.— Рамана Салодкапеўца (пам. пасля 555) ці Георгія Пісіду (7 ст.). На арк. 11—12-м змешчана «Молитва набожная по пресвятеи Богородици Марии по акафисту». На арк. 12-м адв.— пасляслоўе, набранае ў выглядзе трохвугольніка, размешчанага ў цэнтры паласы (гл. с. 175). Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання — 12 арк., сабраных у сшытак. Фармат — у 8-ю долю аркуша. На паласе 19 радкоў. Набор выкананы віленскім шрыфтам С. вышынёй 10 радкоў 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя на верхнім баку аркуша ўнізе справа. Тэкст надрукаваны ў адну фарбу. У верхняй частцы палос размешчаны калонтытул «Радости пречистое». Маст. аздоба, акрамя гравюры на тытуле,— ініцыялы «С» і «Р» (абодва 20×22 мм), надрукаваныя са старых пражскіх дошак. Ініцыял «С» у Празе выкарыстоўваўся 7 разоў, ініцыял «Р» — 3 разы.

Віленскае выданне *«Акафістаў і канонаў»* было вядома яшчэ ў 1796 І. *Добраўскаму*, які, аднак, не раскрыў складу выдання. «А. б.» увёў у навук. ўжытак у 1813 В. С. *Сопікаў* па канвалюту са збору Ф. Р. *Баузе*. Канвалют, які адкрываўся «А. б.», загінуў у 1812 у час пажару Масквы. У 1817 пецярбургская Публ. б-ка набыла асобна пераплецены экземпляр «Акафістаў і канонаў» С., які ўваходзіў раней у збор П. К. Фралова. У яго складзе быў і «А. б.», які можна атаясаміць з няпоўным экземплярам (адсутнічае арк. 1 з гравюрай) Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ). «А. б.» быў і ў поўным экземпляры «Малой падарожнай кніжкі», якія знаходзіўся ў Ландсгуце (Баварыя) у калекцыі праф. К. Манерта. Пра гэты экземпляр упершыню ўпамянуў у 1825 П. І. *Кепен*. Сучаснае месцазнаходжанне яго невядома. У 1829 П. М. *Строеў* апісаў «Акафісты і каноны» С. са збору Ф. А. *Талстога* — канвалют, у якім сярод 10 акафістаў і канонаў быў і «А. б.», уплецены ў канцы тома. Гэты поўны экземпляр захоўваецца ў ДПБ у складзе канвалюта (1.5.8[a]). У 1838 А. Дз. *Чарткоў* упамянуў пра экземпляр «Акафістаў і канонаў», што належаў яму. У зборы Чарткова, які з 1883 знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве, ёсць поўны экземпляр «А. б.» (ДГМ, Чартк. 479), пераплецены разам з фрагментам (8 арк.) *«Часаслоўца»*, *«Акафістам Ісусу»* і 11 арк. *«Саборніка»*. У 1851 М. *Вішнеўскі* упершыню ўпамянуў пра добра захаваны экземпляр «Акафістаў і канонаў» са збору Ягелонскай б-кі ў Кракаве. Канвалют, у якім 13 акафістаў і канонаў, знаходзіцца ў той жа б-цы. «А. б.» змешчаны 11-м (паміж *«Канонам багародзіцы»* і *«Канонам Ісусу»*). На агульным тытульным лісце томіка — запіс 1624 пра належнасць кнігі сабору св. Барбары ордэна езуітаў у Кракаве. Няпоўны (адсутнічае арк. 1) экземпляр з «А. б.» знаходзіцца ў складзе канвалюта, які раней належаў П. І. *Шчукіну*, а з 1905 захоўваецца ў ДГМ (Меньш. 1430). Апісанне канвалюта гл. ў арт. *«Акафіст Іаану Прадцечы»*. У 1957 упершыню ўпамянуты ў друку экземпляр «Малой падарожнай кніжкі» Каралеўскай б-кі ў Капенгагене, у якім ёсць і «А. б.», аднак без 1-га аркуша з гравюрай. Поўны экземпляр «А. б.» ёсць і ў канвалюце б-кі Вроцлаўскага ун-та. Ён быў уведзены ў навук. ўжытак у 1978 Ю. А. *Лабынцавым*. Вядома 7 экз. «А. б.», 4 з іх поўныя.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**«АКА́ФІСТ ІАА́НУ ПРАДЦЕ́ЧЫ»**, «Акафист чесному и въсехвалному пророку Предтечи и крестителю господнью Иоанъну поем», недатаванае віленскае выданне С., надрукаванае каля 1522 (гл. *«Акафіснік»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. Адкрываецца тытульным лістом, на якім змешчана віньетка (64×12 мм) з арнаментам складанага малюнка па заштрыхаваным фоне. Пад віньеткай, набранай у выглядзе перавернутага трохвугольніка, тэкст назвы кнігі. На арк. 1-м — 11-м адв. надрукаваны тэкст акафіста, які ўключае 3 вершы з паслядоўнай нумарацыяй, вершы т. зв. «слава» і «и ныне», 12 пранумараваных кандакоў і ікосаў, якія паслядоўна чаргуюцца. На арк. 12—12-м адв. змешчана «Молитва по акафисту», на арк. 12-м адв.— кароткае пасляслоўе (гл. с. 175). Першыя літары ўсіх вершаў, кандакоў і ікосаў складаюцца ў словы: «Писал доктор Скоринич Францискус». Гэты *акраверш* (у слав. рукапіснай традыцыі называўся краегранесіем) дазваляе меркаваць, што аўтарам «А. І. П.» быў сам С. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання — 12 арк., сабраных у сшытак. Фармат — у 8-ю долю аркуша. На паласе 19 радкоў. Набор выкананы віленскім шрыфтам С. вышынёй 10 радкоў 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя на верхнім баку аркуша ўнізе справа. Тэкст надрукаваны ў адну фарбу. У верхняй частцы палос размешчаны калонтытул «Радости [на левай паласе развароту] Іоанну Предтечи» [на правай паласе развароту]. Мастацкая аздоба, акрамя тытульнай віньеткі,— гравіраваны на дрэве ініцыял «П» (20×28 мм), надрукаваны з дошкі, што выкарыстоўвалася шмат разоў у пражскіх выданнях С.

«Малая падарожная кніжка» С., у якой былі і акафісты, была ў 1790-я г. ў зборы І. *Добраўскага*. Ён увёў яе ў навук. ўжытак у 1796 у апісанні свайго падарожжа ў Швецыю і Расію. Склад выдання не быў раскрыты. Асобна пераплецены экземпляр *«Акафістаў і канонаў»* С. быў вядомы ў 1811 К. Ф. *Калайдовічу*, які пазнаёміўся з ім у зборы Ф. Р. *Баузе*. Збор загінуў у 1812 у час пажару Масквы. Склад гэтага канвалюта быў раскрыты ў 1813 В. С. *Сопікавым*; было 14 акафістаў і канонаў і сярод іх «А. І. П.». Сопікаў увёў у навук. ўжытак гэта выданне С. У 1817 пецярбургская Публ. б-ка набыла асобна пераплецены экземпляр «Акафістаў і канонаў» С. (140 арк.) са збору П. К. Фралова, дзе, відаць, быў і «А. І. П.». Яго можна атаясаміць з адным з 2 экз. гэтага выдання, якія знаходзяцца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў складзе канвалютаў (ДПБ, 1.5.8[а] і 1.5.8[б]). П. І. *Кепен* у 1825, назваўшы экземпляры «Малой падарожнай кніжкі» са збораў Добраўскага і Калайдовіча, упамянуў пра тое, што самы поўны з усіх вядомых яму экземпляраў знаходзіцца ў К. Манерта. У гэтым экземпляры, лёс якога невядомы, быў і «А. І. П.». У 1829 П. М. *Строеў* апісаў «Акафісты і каноны» С., якія належалі Ф. А. *Талстому*. Канвалют Талстога уключаў 10 выданняў, сярод якіх быў і «А. І. П.». У 1830 кніга паступіла ў пецярбургскую Публ. б-ку (гэты экземпляр можна атаясаміць з адным з 2 экз., якія ёсць у б-цы). У 1838 А. Дз. *Чарткоў* апісаў экземпляр «Акафістаў і канонаў», у склад якога ўваходзілі 11 выданняў і сярод іх «А. І. П.». У 1883 збор Чарткова паступіў у Дзярж. Гіст. музей, дзе канвалют знаходзіцца і цяпер (ДГМ, Чартк. 519). «А. І. П.» быў і ў «Акафістах і канонах», што ў 1847 М. П. *Пагодзін* набыў у кнігагандляра А. Зубава. У 1852 збор Пагодзіна паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку. Тут канвалют расплялі і выкарысталі, каб папоўніць сфарміраваныя ў б-цы 2 камплекты «Малой падарожнай кніжкі» акафістамі і канонамі, якія адсутнічалі. Экземпляр «А. І. П.», які належаў Пагодзіну, разам з інш. акафістамі і канонамі С., што ўжо былі ў б-цы, пераведзены ў дублетны фонд і ў 1881 перададзены Румянцаўскаму музею ў Маскве. Скамплектаваны тут канвалют, у якім было 7 акафістаў і канонаў, пераплецены ў скуру зялёнага колеру. На адвароце верхняй вокладкі томіка, які знаходзіцца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 2045), першы зберагальнік аддзела рукапісаў і слав. старадрукаваных выданняў А. Я. *Віктараў* зрабіў запіс: «1881 г. Из Императорской Публичной библиотеки. Вход № 2245. К № 2225». На адвароце ніжняй вокладкі канвалюта наклеены экслібрыс з выявай герба графа М. П. Румянцава і надпісам «Московского Публичного и Румянцевского музеев № 2245». «А. І. П.» быў у складзе канвалюта, што належаў П. І. *Шчукіну* і ўключаў *«Часасловец»*, *«Саборнік»*, 14 акафістаў і канонаў і *«Шасцідневец»*. Кніга пераплецена ў дошкі, абцягнутыя тканінай. На верхняй дошцы прыбіты медныя навугольнікі, на ніжняй — медны сярэднік. Томік мае медныя засцежкі. На адвароце верхняй дошкі наклеены ярлык «Щу 790». У 1905 Шчукін перадаў свой збор у ДГМ, дзе ён знаходзіцца ў складзе збору «Меньших» (Меньш. 1430). У 1957 апублікаваны першыя звесткі пра найб. поўны з усіх вядомых экземпляраў «Малой падарожнай кніжкі», што быў выяўлены ў Каралеўскай б-цы ў Капенгагене. У яго складзе ёсць і «А. І. П.». Гэта выданне маецца і ў канвалюце Ягелонскай б-кі ў Кракаве. У канвалюце 13 акафістаў і канонаў С. Экземпляр апісаны ў 1851 М. *Вішнеўскім*. На агульным тытульным лісце томіка, пераплеценага ў 16—17 ст., ёсць запіс 1624 пра належнасць кнігі сабору св. Барбары ордэна езуітаў у Кракаве. У 1978 Ю. А. *Лабынцаў* увёў у навук. ўжытак «Акафіснік» са збору б-кі Вроцлаўскага ун-та. Гэты канвалют, што ў 18 ст. належаў б-цы канонікаў кангрэгацыі чына св. Аўгусціна ў Вроцлаве, змяшчае ўсе 8 акафістаў, надрукаваных С. у Вільні. Вядома 8 экз. «А. І. П.», 7 з іх поўныя.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**«АКА́ФІСТ ІСУ́СУ»**, «Починаеться акафист пресладкому имени господа нашего Ісуса Христа, глаголемы по вся дни», недатаванае віленскае выданне С. Надрукавана каля 1522 (гл. *«Акафіснік»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. Адкрываецца тытульным лістом, на якім змешчана гравюра «Багародзіца з анёламі», пад ёй — назва кнігі. На арк. 1-м адв.— 11-м адв. змешчаны тэкст акафіста. Пачатковыя літары радкоў утвараюць *акраверш*:«Делал доктор Скоринич Францис-

коус». Гэта ўскосна сведчыць аб тым, што аўтарам «А. І.» быў сам С. На арк. 11-м адв. змешчана «Молитва», на арк. 12-м — пасляслоўе (гл. с. 179). Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання — 12 арк., сабраных у адзін сшытак. На паласе 19 радкоў. Фармат — у 8-ю долю аркуша. Набор выкананы віленскім шрыфтам С. вышынёй 10 радкоў, роўнай 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя размешчана на пярэднім баку аркуша ўнізе справа. На тытульным лісце калонлічба не пастаўлена. Тэкст надрукаваны адной фарбай. У верхняй частцы палос змешчаны калонтытул «Похвала имени Ісусову». «А. І.» мастацкі аздоблены тытульнай гравюрай, 2 застаўкамі (63×10 мм), вялікай буквіцай «Д.», якая раней выкарыстоўвалася ў пражскіх выданнях С., і 20 малымі ініцыяламі (10×15 мм).

«А. І.» быў у экземпляры «Малой падарожнай кніжкі», якая належала чэшскаму славісту І. *Добраўскаму* і апісана ім у пісьме да В. Ф. Дурыха ад 23.5.1791 (пісьмо апублікавана ў 1895). У Расіі «А. І.» стаў вядомы ў 1817, калі пецярбургская Публ. б-ка набыла асобна пераплецены экземпляр 4 *«Акафістаў і канонаў»* са збору П. К. Фралова. Гэты экземпляр можна атаясаміць з няпоўным «А. І.», які ўваходзіць у канвалют Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.4[б], у ім адсутнічае апошні аркуш). У ДПБ ёсць таксама экземпляр «А. І.», магчыма, са збору А. І. Касцерына. Экземпляр уваходзіць у канвалют ДПБ (1.5.4[а/2]), які апісаны ў арт. *«Акафіст святому Пятру і Паўлу»*. Няпоўны экземпляр «А. І.», які знаходзіцца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 2044, у ім адсутнічаюць 3 апошнія аркушы), паходзіць з нацыяналізаванага ў 1919 антыкварнага кніжнага магазіна П. П. Шыбанава. Ён пераплецены разам з няпоўнымі экземплярамі *«Псалтыра»* (1522) і *«Часасло́ўца»*. Пераплёт 19 ст.— дошкі ў чырвонай скуры з залатым цісненнем. Поўны экземпляр «А. І.» збярогся ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве ў складзе канвалюта (ДГМ, Чарт. 479), які ўведзены ў навуковы ўжытак А. Дз. Чартковым у 1838 на старонках «Усеагульнай бібліятэкі Расіі, або каталогу кніг для вывучэння нашай айчыны ва ўсіх адносінах і падрабязнасцях». У ДГМ знаходзіцца яшчэ адзін экземпляр «А. І.», у якім захаваліся аркушы 2-і, 3-і, 5—12-ы; ён паходзіць са збору А. І. Хлудава. Канвалют (ДГМ, Хлуд. Д 142), у які ён уваходзіць, апісаны ў арт. *«Канон святому Пятру і Паўлу»*. Поўныя экземпляры «А. І.» ёсць і ў замежных б-ках — б-цы Вроцлаўскага ун-та, Каралеўскай у Капенгагене, Ягелонскай у Кракаве. Вядома 8 экз. «А. І.», 5 з іх — поўныя. *Я. Л. Немiроўскi.*

**«АКА́ФІСТ КРЫ́ЖУ ГАСПО́ДНЯМУ»,** «Акафіст чесному и животворящему кресту господню починаем во пяток набожъне пети», недатаванае віленскае выданне С., надрукаванае каля 1522 (гл. *«Акафіснік»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. Адкрываецца тытульным лістом, на якім вялікім шрыфтам з пражскіх выданняў С. набрана назва. На арк. 1-м адв.— 11-м змешчаны тэкст «А. к. г.», на арк. 11-м адв.— 16-м — тэкст «Страсти господа нашего Ісуса Христа еже написал святый Иоан евангелист». Далей кароткая «Молитва по акафисту» і пасляслоўе (гл. с. 178). Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання — 16 аркушаў, сабраных у два 8-аркушавыя сшыткі. На паласе 19 радкоў. Фармат — у 8-ю долю аркуша. Набор выкананы віленскім шрыфтам С. вышынёй 10 радкоў 52÷53 мм. Фаліяцыя размешчана на пярэднім баку аркуша ўнізе справа. У напісанні калонлічбаў ёсць варыянты. У капенгагенскім экземпляры на арк. 16-м — калонлічба «15», у адным з ленінградскіх — на арк. 8-м напісана «9». На тытуле ва ўсіх экземплярах, якія зберагліся, калонлічба адсутнічае. Тэкст надрукаваны адной фарбай. У верхняй частцы палос змешчаны калонтытул «Похвала честному кресту». Мастацкі аздоблены застаўкай (63×7 мм), змешчанай перад тэкстам «Страсти господа нашего», і двума гравіраванымі на дрэве ініцыяламі «К» (арк. 1-м адв.) і «И» (арк. 11-ы адв.), якія С. раней былі выкарыстаны ў пражскіх выданнях.

«А. к. г.» знаходзіўся ў экземпляры «Малой падарожнай кніжкі», якая належала чэшскаму славісту І. *Добраўскаму*. Экземпляр быў апісаны ім у пісьме да В. Ф. Дурыха ад 23.5.1791, апублікаванага ў 1895. У навуковы ўжытак «А. к. г.» увёў у 1813 В. С. *Сопікаў* па канвалюту са збору Ф. Р. *Баузе*. Збор загінуў у 1812 у час пажару ў Маскве. У 1817 пецярбургская Публ. б-ка набыла асобна пераплецены экземпляр *«Акафістаў і канонаў»* С. са збору П. К. Фралова. У яго складзе быў і «А. к. г.», які ўмоўна можна атаясаміць з поўным экземплярам 1.5.8[б] Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ). Другі поўны экземпляр у гэтай б-цы (1.5.8[а]) паходзіць са збору Ф. А. *Талстога* (апісаны ў 1829 П. М. *Строевым*). Апісанне двух канвалютаў ДПБ, якія былі сфарміраваны ў сярэдзіне 19 ст., гл. ў арт. *«Акафіст святому Пятру і Паўлу»*. «А. к. г.» быў і ў «Малой падарожнай кніжцы» са збору ням. прафесара К. Манерта (знаходзіўся ў баварскім г. Ландсгуце). У друку ўпершыню аб ім паведаміў П. І. *Кепен* у 1825. «А. к. г.» быў і ў «Акафістах і канонах» С., якія былі апісаны ў 1838 А. Дз. *Чартковым* ва «Усеагульнай бібліятэцы Расіі, або каталогу кніг для вывучэння нашай айчыны ва ўсіх адносінах і падрабязнасцях». Канвалют, які складаўся з 11 акафістаў і канонаў, цяпер знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве (ДГМ, Чартк. 519). Ён пераплецены ў 19 ст. ў кардон, абклеены паперай з мармуровым узорам. Карашок і навугольнікі з зялёнай скуры. На верхняй вокладцы наклеены чырвоны скураны ярлык з ціснёным золатам надпісам: «Акафистник Д[октара] Скорины Вильна 1525 лета». «А. к. г.» уплецены ў канвалют трэцім. У ДГМ цяпер ёсць поўны і няпоўны (адсутнічаюць арк. 1—4) экземпляры «А. к. г.». Першы з іх (Меньш. 1430) са збору П. І. *Шчукіна*, другі (Хлуд. Д. 142) — са збору А. І. *Хлудава*. Канвалюты, у якія яны ўваходзяць, апісаны ў арт. *«Акафіст Іаану Прадцечы»* і *«Канон святому Пятру і Паўлу»*. Поўныя экземпляры ёсць у замежных кнігасховішчах — б-цы Вроцлаўскага ун-та, Ягелонскай у Кракаве, Каралеўскай у Капенгагене. Усяго вядома 8 экз. «А. к. г.», 7 з іх поўныя.

*Я. Л. Немiроўскi.*

**«АКА́ФІСТ МАГІ́ЛЕ ГАСПО́ДНЯЙ»,** «[Акафист] живоносному гробу господню в неделю», недатаванае віленскае выданне С., надрукаванае каля 1522. Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. Адкрываецца агульным тытульным лістом да ўсяго *«Акафісніка»* з тэкстам «Починаются акафисты на всю неделю. Первы живоносному гробу господню въ неделю», заключаным у рамку (памеры 63×100 мм) з 4 дошак. На арк. 1-м адв.—12-м адв. змешчаны тэкст акафіста — хвалебнага песнапення. На арк. 12-м адв. пасляслоўе (гл. с. 173). Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання — 12 арк., сабраных у сшытак. Фармат — у 8-ю долю аркуша. На паласе 19 радкоў. Набор выкананы віленскім шрыфтам С. вышынёй 10 радкоў 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя на верхнім баку аркуша ўнізе справа. Тэкст надрукаваны ў адну фарбу, другі колер (чырвоны) толькі на тытульным лісце і яго адвароце (ініцыял), у верхняй частцы палос — калонтытулы. Мастацкая аздоба — рамка тытульнага ліста, складзеная з 2 вертыкальных і 2 гарызантальных дошак, і 2 ініцыялы. На левай вертыкальнай дошцы (21×100 мм) гравюра з выявай божай маці з дзіцем і 2 «каралёў». На правай дошцы (8×100 мм) выявы вавёркі і арла, абкружаныя раслінным арнаментам. На сярэдніх гарызантальных дошках (па 32×8 мм) раслінна-геам. арнамент. С. выкарыстаў адну з віньетак, распілаваўшы яе папалам. Над ніжняй гарызантальнай дошкай рамкі змешчаны арнамент і канцоўка, складзеная з элементаў наборнага арнаменту. На адвароце 1-га арк. верш 1-ы акафіста пачынаецца вял. (51×48 мм) гравіраваным на дрэве ініцыялам «С.», які з'яўляецца ксілаграфічнай копіяй ініцыяла «И» з «Вялікага загалоўнага алфавіта», гравіраванага на медзі Ізраэлем ван *Мекенемам*. На арк. 3-м змешчаны пражскі ініцыял «В» (20×22 мм), абапал якога выявы фазана і ваўка. Раней гэты ініцыял 5 разоў выкарыстоўваўся ў 4 пражскіх выданнях С.

Пра «Акафіснік» С. упершыню ўпамянуў (называў яго «Канонікам») у 1811 К. Ф. *Калайдовіч*, спасылаючыся на экземпляр, набыты Ф. Р. *Баузе* ў кнігагандляра Ферапонтава. В. С. *Сопікаў* у 1813 раскрыў склад гэтага канвалюта, у якім былі пераплецены 14 акафістаў і канонаў С., у т. л. «А. м. г.». Экземпляр Баузе загінуў у час пажару Масквы ў 1812. У 1817 пецярбургская Публ. б-ка набыла экземпляр «Акафісніка» ў складзе збору П. К. Фралова. У 1825 П. І. *Кепен* упамянуў пра экземпляр са збору праф. К. Манерта ў Ландсгуце (Баварыя). Лёс гэтага экземпляра невядомы. Кепен лічыў яго самым поўным з усіх вядомых экземпляраў «Малой падарожнай кніжкі». У ім, відаць, быў і «А. м. г.». Апошні, магчыма, быў і ў «Акафісніку», што ў 1847 набыў М. П. *Пагодзін* у Ніжнім Ноўгарадзе ў кнігагандляра М. Зубава. У 1852 збор Пагодзіна паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку. У Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына знаходзяцца 2 экз. «А. м. г.» (у складзе канвалютаў ДПБ, 1.5.8[а] і 1.5.8[б]), якія можна ўмоўна атаясаміць з экземплярамі Фралова і Пагодзіна. У 1838 стаў вядомы экземпляр «А. м. г.» са збору А. Дз. Чарткова. Экземпляр знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі (ДГМ,

Чартк. 519). На ім ёсць уладальніцкі запіс: «Из библиотеки Александра Сулакадзева» (19 ст.). «А. м. г.» ёсць і ў складзе канвалюта, які ў 1905 паступіў у ДГМ разам са зборам П. І. Шчукіна (ДГМ, Меньш. 1430). У 1851 польскі гісторык л-ры М. *Вішнеўскі* апублікаваў звесткі пра экземпляр *«Акафістаў і канонаў»* С. са збору Ягелонскай б-кі ў Кракаве. У канвалюце 13 акафістаў і канонаў і сярод іх «А. м. г.». На тытульным лісце запіс 1624 пра належнасць кнігі сабору св. Барбары ў Кракаве. У 1978 Ю. А. *Лабынцаў* увёў у навук. ужытак «Акафіснік» са збору б-кі Вроцлаўскага ун-та. У канвалюце, які раней належаў б-цы канонікаў-аўгусцінцаў, знаходзіцца і «А. м. г.». Вядомы таксама экземпляр «А. м. г.», які захоўваецца ў Каралеўскай б-цы ў Капенгагене. Вядома месцазнаходжанне 7 экз. «А. м. г.», 6 з іх поўныя. *Я. Л. Неміроўскі.*

**«АКА́ФІСТ СВЯТО́МУ МІКО́ЛЕ»,** «Акафист великому чудотворцу Николе архиерею Миръликиіску набожне начинаем пети», недатаванае віленскае выданне С. Выйшла ў свет каля 1522 (гл. *«Акафіснік»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. Адкрываецца тытульным лістом, на якім назва кнігі набрана ў форме перавернутага трохвугольніка. Радкі, што памяншаюцца кнізу, выключаны па цэнтры. На арк. 1-м адв.—11-м змешчаны тэкст «А. с. М.» — хвалебнага песнапення, што ўключае 12 нумараваных кандакоў, 12 нумараваных ікосаў і кандак без нумарацыі. На арк. 11—12-м адв. змешчана «Малітва святому Міколе», на арк. 12-м адв.— пасляслоўе (гл. с. 177). Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання — 12 арк., сабраных у сшытак. На паласе 19 радкоў. Фармат у 8-ю долю аркуша. Набор выкананы віленскім шрыфтам С. вышынёй 10 радкоў 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя размешчана на верхнім баку аркуша ўнізе справа. На тытульным лісце калонлічба адсутнічае. Тэкст надрукаваны ў адну фарбу. У верхняй частцы палос змешчаны калонтытул «Радости с[вя]т[о]му Николе». Мастацкая аздоба — гравіраваны на дрэве ініцыял «Т» (арк. 1-ы адв.) з выявай дзвюх рыб (памер 20×22 мм). Раней гэты ініцыял быў выкарыстаны ў пражскіх выданнях — у *кнігах «Царствы»* і *кнізе «Прарок Данііл»*.

«А. с. М.» быў у экземпляры «Малой падарожнай кніжкі», які належаў І. *Добраўскаму*. Гэты экземпляр падрабязна апісаны ў лісце Добраўскага да В. Ф. Дурыха ад 23.5.1791, які быў апублікаваны ў 1895. У навук. ужытак «А. с. М.» увёў у 1813 В. С. *Сопікаў* па канвалюту са збору Ф. Р. Баузе. Канвалют загінуў у час пажару Масквы ў 1812. У яго ўваходзілі 14 акафістаў і канонаў. «А. с. М.» быў уплецены апошнім. У 1817 пецярбургская Публ. б-ка набыла асобна пераплецены экземпляр *«Акафістаў і канонаў»* С. са збору П. К. Фралова. У яго складзе быў і «А. с. М.», які можна ўмоўна атаясаміць з поўным экземплярам Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.8[б]). Экземпляр уваходзіць у склад канвалюта (гл. *«Акафіст святому Пятру і Паўлу»*). «А. с. М.» быў і ў «Малой падарожнай кніжцы», якая належала К. Манерту і ўведзена ў навук. ужытак у 1825 П. І. *Кепенам*. Сучаснае месцазнаходжанне экземпляра невядома. У 1829 П. М. *Строеў* апісаў акафісты і каноны С. са збору Ф. А. Талстога. У канвалюце з 10 выданняў «А. с. М.» быў змешчаны 9-м. Гэты поўны экземпляр можна атаясаміць з экземплярам з канвалюта ДПБ (1.5.8[а]). «А. с. М.» быў таксама ў складзе акафістаў і канонаў, якія ў 1838 былі ўпамянуты ў каталогу збору А. Дз. Чарткова. Збор з 1883 захоўваецца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве (ДГМ). Месцазнаходжанне экземпляра «А. с. М.», упамянутага ў 1878 І. П. *Каратаевым*, невядома. «А. с. М.» са збору М. П. Пагодзіна захоўваецца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 2045). Поўныя экземпляры «А. с. М.» захоўваюцца ў канвалютах б-кі Вроцлаўскага ун-та, Ягелонскай б-кі ў Кракаве і Каралеўскай б-кі ў Капенгагене. «А. с. М.» ёсць у канвалюце са збору А. І. Хлудава (ДГМ, Хлуд. Д. 142, гл. ў арт. *«Канон святому Пятру і Паўлу»*). Ёсць ён таксама ў канвалюце, што раней належаў П. І. Шчукіну, а цяпер захоўваецца ў ДГМ (Менш. 1430, гл. ў арт. *«Акафіст Іаану Прадцечы»*). Вядома 9 поўных экз. «А. с. М.». *Я. Л. Неміроўскі.*

**«АКА́ФІСТ СВЯТО́МУ ПЯТРУ́ І ПА́ЎЛУ»,** «Акафист светому верховному апостолу Петру и Павлу и вьсем апостолам 12», недатаванае віленскае выданне С. Выйшла ў свет каля 1522 (гл. *«Акафіснік»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. Адкрываецца тытульным лістом, на якім назва кнігі набрана ў форме перавернутага трохвугольніка. На арк. 1-м адв.—16-м змешчаны тэкст «А. с. П. і П.» — хвалебнага песнапення ў гонар 12 апосталаў. Акафіст складаецца з 3 вершаў, 12 кандакоў і 12 ікосаў. На арк. 16—16-м адв. змешчана «Молитва по акафисту». На арк. 16-м адв.— пасляслоўе (гл. с. 176). Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання — 16 арк., сабраных у два аркушавыя сшыткі. На паласе 19 радкоў. Фармат — у 8-ю долю аркуша. Набор выкананы віленскім шрыфтам С. вышынёй 10 радкоў 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя на верхнім баку аркуша ўнізе справа. Тэкст надрукаваны ў адну фарбу. У верхняй частцы палос змешчаны калонтытул «Радости апостоломъ». Мастацкая аздоба — гравіраваны на дрэве ініцыял «К» з выявай казла (памер 20×22 мм). Раней гэты ініцыял быў выкарыстаны ў пражскіх выданнях — у кн. «Ісус Сірахаў» і «Царствы». У «А. с. П. і П.» ён змешчаны на арк. 1-м адв. у пачатку тэксту акафіста.

Віленскае выданне *«Акафістаў і канонаў»* было вядома яшчэ ў 1796 І. *Добраўскаму*, які, аднак, не раскрыў яго склад. В. С. *Сопікаў* у 1813 увёў у навук. ужытак «А. с. П. і П.» па канвалюту са збору Ф. Р. *Баузе*. Канвалют гэты загінуў у 1812 у час пажару Масквы. У 1817 пецярбургская Публ. б-ка набыла асобна пераплецены экземпляр «Акафістаў і канонаў» С. са збору П. К. Фралова. У яго складзе быў і «А. с. П. і П.», які можна атаясаміць з поўным экземплярам Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.8[а]). Экземпляр гэты пераплецены ў 19 ст. разам з *«Часаслоўцам»*, *«Шасцідзнеўцам»*, *«Саборнікам»* і інш. акафістамі і канонамі. Пераплёт выкананы з кардону, абклеенага мармуровай паперай. Карашок і ражкі пераплёту — са скуры. На карашку чырвоны скураны ярлык з цісненымі надпісамі: «Ч. 2. Часасловец, Акафисты, Каноны и Шестодневец. Вильна около 1525». «А. с. П. і П.» быў і ў поўным экземпляры «Малой падарожнай кніжкі», які знаходзіўся ў г. Ландсгуце (Баварыя) у калекцыі граф. К. Манерта. Гэты экземпляр у 1825 П. І. *Кепен* назваў у «Храналагічным роспісе першадрукаваным славенскім кнігам» (час. «Библиографические листы»). Сучаснае месцазнаходжанне экземпляра Манерта невядома. У 1829 П. М. *Строеў* апісаў «Акафісты і каноны» С. са збору Ф. А. Талстога. Канвалют уключаў 10 скарынінскіх акафістаў і канонаў, у т. л. і «А. с. П. і П.», уплецены 8-м (паміж *«Акафістам архангелу Міхаілу»* і *«Акафістам святому Міколе»*). Гэты поўны экземпляр захоўваецца ў ДПБ у складзе канвалюта (1.5.8[б]), пераплецены ў 19 ст. разам з «Часаслоўцам» і 14 інш. акафістамі і канонамі. «А. с. П. і П.» быў і ў «Акафістах і канонах», што ў 1838 упамянуты ў каталогу збору А. Дз. Чарткова. Збор з 1883 знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве (ДГМ). Экземпляр «А. с. П. і П.» пераплецены разам з *«Канонам Іаану Прадцечы»*, *«Канонам святому Пятру і Паўлу»*, «Акафістам святому Міколе», *«Канонам святому Міколе»* (ДГМ, Чартк. 547). «А. с. П. і П.» быў і ў *«Акафістах і канонах»* С., якія ў 1847 М. П. *Пагодзін* набыў у кнігагандляра А. Зубава. У 1852 збор Пагодзіна набыла пецярбургская Публ. б-ка. Канвалют расплялі і выкарысталі для папаўнення акафістамі і канонамі сфарміраваных у б-цы 2 камплектаў «Малой падарожнай кніжкі». Астатнія былі пераведзены ў дублетны фонд і ў 1881 перададзены Румянцаўскаму музею ў Маскве. Скамплектаваны тут канвалют ДБЛ № 2045 змяшчае і поўны экземпляр «А. с. П. і П.». У 1851 М. Вішнеўскі ўпершыню ўпамянуў пра экземпляр «Акафістаў і канонаў» са збору Ягелонскай б-кі ў Кракаве. Канвалют, у якім 13 акафістаў і канонаў С., знаходзіцца зараз у той жа б-цы. «А. с. П. і П.» змешчаны тут 8-м (паміж «Акафістам святому Міколе» і *«Акафістам крыжу господняму»*). Апісанне канвалюта гл. ў арт. *«Акафіст Іаану Прадцечы»*. Поўны экземпляр «А. с. П. і П.» знаходзіцца ў складзе канвалюта, які раней належаў П. І. Шчукіну, а з 1905 захоўваецца ў ДГМ (Меньш. 1430). У 1957 упершыню ўпамянуты ў друку экземпляр «Малой падарожнай кніжкі» Каралеўскай б-кі ў Капенгагене, у якім ёсць і «А. с. П. і П.». Поўны экземпляр гэтага выдання С. ёсць і ў канвалюце б-кі Вроцлаўскага ун-та, які быў уведзены ў навук. ужытак у 1978 Ю. А. *Лабынцавым*. Вядома 7 поўных экз. «А. с. П. і П.» *Я. Л. Неміроўскі.*

**«АКА́ФІСТЫ І КАНО́НЫ»,** умоўная назва 18 выданняў, выпушчаных С. у Вільні каля 1522 у складзе *«Малой падарожнай кніжкі»*. Акафістамі называюць асобыя царк. службы, якія складаюцца з панегірычных, хвалебных песнапенняў і малітваў у гонар Ісуса Хрыста, багародзіцы і святых, а канонамі — песнапенні, складзеныя на аснове біблейскіх песняў старазапаветных прарокаў і прапаведнікаў. «А. і К.» уключаюць: *«Акафіст магіле гасподняй»*, *«Канон магіле гасподняй»*, *«Акафіст архангелу Міхаілу»*, *«Канон архангелу Міхаілу»*, *«Акафіст Іаану Прадцечы»*, *«Канон Іаану Прадцечы»*, *«Акафіст багародзіцы»*, *«Канон багародзіцы»*, *«Акафіст святому Пятру і Паўлу»*, *«Канон святому Пятру і Паўлу»*, *«Акафіст святому Міколе»*, *«Канон святому Міколе»*, *«Акафіст крыжу гасподняму»*, *«Канон крыжу гасподняму»*, *«Акафіст Ісусу»*, *«Канон Ісусу»*, *«Канон пакаяльны»*, «Канон у суботу». Акафісты і каноны найчасцей пераплятаюць у адзін том (экз. са збору Маскоўскага Публ. і Румянцаўскага музеяў — ДБЛ, № 2045;

са збору А. І. Хлудава — ДГМ, Хлуд. Д 142; экз. Ягелонскай б-кі ў Кракаве і інш.). Усе названыя экземпляры рознай ступені паўнаты. *Я. Л. Неміроўскі.*

**АКРАВЕ́РШ** у выданнях Ф. Скарыны (ад грэч. ákros крайні + лац. versus верш), верш, у якім рытмічная выразнасць дапаўняецца зрокавай: першыя літары яго радкоў (прачытаныя зверху ўніз або знізу ўверх) складаюць імя ці фразу. Звычайна гэта ўказанне, каму адрасаваны верш, пажаданне і інш. С.— першы вядомы пісьменнік усх.-слав. рэгіёна, які стварыў А. Да яго гэта вершаваная форма сустракаецца ва ўсх.-слав. л-ры толькі ў аўтараў паўд.-слав. паходжання — Грыгорыя Цамблака і Пахомія Лагафета (15 ст.). У складзе *«Малой падарожнай кніжкі»* С. выяўлены тры тэксты, у якіх чытаюцца А.: «Акафіст Іаану Прадцечы», «Акафіст Ісусу» і «Акафіст святому Пятру і Паўлу». А. ў першых двух акафістах імянныя, яны змяшчаюць указанне на аўтарства С.— «Писал доктор Скоринич Францискус», «Делал доктор Скоринич Францiскоус». Імянныя А. складаюцца з 29 літар кожны. Яны пачынаюцца не з першага кандака, як гэта было прынята ў візант. гімнаграфічнай традыцыі, а са «стихов», якія папярэднічаюць яму (што доказвае прыналежнасць С. і гэтых тэкстаў), і чытаюцца па пачатковых літарах усіх кандакоў і ікосаў. Імянныя А. з «Малой падарожнай кніжкі» сведчаць пра выдатныя версіфікатарскія здольнасці С. Хоць самі А. адрозніваюцца адзін ад аднаго толькі першым словам, аднак словы, за кошт пачатковых літар якіх яны ўтвараюцца, у абодвух акафістах розныя. Уключэнне С. у А. правасл. гімнаў традыц. бел. формы яго прозвішча («Скарыніч») з лац. формай яго імя (Францыскус) сведчыць, што ён быў чалавекам талерантным, верацярпімым і культ. адзінства сваёй радзімы Беларусі ставіў над рознымі веравызнаннямі хрысціянства. А. у «Акафісце святому Пятру і Паўлу» — алфавітны. Ён складаецца з 24 літар, ад А да ѡ з улікам асаблівасцей кірылічнага алфавіта — у ім ёсць літары Б (ікос 1) і Ж (кандак 4). Гэты А. у адрозненне ад двух іншых не закранае «стихов», якія папярэднічаюць 1-му кандаку, і праходзіць толькі праз кандакі і ікосы. Ён (як і сам тэкст акафіста) вядомы ва ўсх.-слав. спісах з 15 ст. У рукапіснай традыцыі аўтарства акафіста прыпісваюць Ісідару, патрыярху Канстанцінопальскаму (1341—49), і ў загалоўку звычайна ўказана на «краестиховну по аз букы» (алфавітны А.).

Перапісчыкі акафістаў С. ў 16—19 ст. не ведалі пра імянныя А. Невядома ні аднаго выпадку, каб тэкст А. быў вынесены імі ў загаловак (як гэта было з А. Грыгорыя Цамблака і Пахомія Лагафета). Сустракаюцца і парушэнні імянных А., аднак яны невялікія (гл. арт. *Гімнаграфічныя творы Ф. Скарыны*).

*Літ.:* 113; 305. *А. А. Турылаў.*

**АКУ́ЛІЧ** Савелій Антонавіч (н. 1927), беларускі сав. мастацтвазнаўца. Даследуе маст. афармленне стараж. бел. рукапіснай і друкаванай кнігі. Асаблівасці



А. Александровіч. Францыск Скарына. Кампазіцыйны партрэт. 1982.

аздаблення кніг С. разглядае ў арт. «З гісторыі афармлення беларускай кнігі (XVI—XIX стст.)» [Матэрыялы навуковай канферэнцыі (да 40-годдзя бібліятэкі), 1965]. У арт. «Славутыя ўзоры Скарыны» (Чырв. змена. 1967. 6 жн.) аналізуе элементы скарынінскай кніжнай графікі. Гал. маст. вартасці скарынінскіх гравюр А. бачыць у арыгінальнасці задумы, прастаце і выразнасці малюнка, адсутнасці статычнасці і аскетызму ў выяве людзей. У арт. «Старажытная кніга — помнік мастацтва» (Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1978. № 2) аналізуе тытульныя лісты, застаўкі і канцоўкі скарынінскіх выданняў. У арт. «Шрыфт, арнамент і ксілагравюра ў выданнях Скарыны» (Выяўленчае мастацтва Беларусі, 1981) разглядае загалоўныя літары-мініяцюры як мастацкае цэлае ў кнігах С. з віньеткамі, застаўкамі і канцоўкамі, якія выконваюць функцыі ілюстрацый, раскрывае сімволіку малюнкаў некат. загалоўных літар. Асобна спыняецца на гравюрах-ілюстрацыях, адзначае выразнасць малюнка, аб'ёмнасць выяў, тэхн. дасканаласць выканання, глыбіню характарыстыкі вобразаў. Коратка разглядае гісторыю вывучэння мастацтва кніг, выдадзеных бел. асветнікам-гуманістам. *А. С. Ліс.*

**АЛЕКСАНДРО́ВІЧ** Анатоль Вячаслававіч (н. 1953), беларускі сав. графік. У 1978 выканаў графічны аркуш «Францыск Скарына» (афорт, 63,5×50 см, уласнасць аўтара). У цэнтры — рэпрадуктаваны з Бібліі і павялічаны партрэт С. На заднім плане барочныя аркі, у праёме якіх від стараж. горада, купцы, воіны і простыя людзі; інтэр'ер сярэдневяковай друкарні. У 1982 стварыў кампазіцыйны партрэт «Францыск Скарына» (афорт, лінарыт, уласнасць мастака). Аркуш умоўна падзелены на 2 часткі: у цэнтры ніжняй — партрэт С., у верхняй — краявід Полацка, крыху вышэй — друкарня з людзьмі і абсталяваннем. *А. Я. Белы.*

**АЛЕКСАНДРО́ВІЧ** Сцяпан Хусейнавіч (1921—86), беларускі сав. літаратуразнавец, крытык і празаік. Д-р філал. н. (1972), праф. (1974). Даследаваў гісторыю л-ры і кнігадрукавання. Асобу і творчасць С. раскрыў у жанры гіст.-літ. эсэ, удала спалучыўшы навуковасць з маст. апавядальнасцю. У нарысах «Францыск, Скарынін сын з Полацка» (1965, 2. выд. 1985), «Па слядах Францыска Скарыны» (1981) даў сацыяльна-духоўную характарыстыку студэнцкага асяроддзя Ягелонскага ун-та з часоў вучобы там С., звярнуў увагу на значную колькасць сярод студэнтаў пасланцаў з Літвы і Беларусі як на праяву пашыранасці асветы на тагачаснай радзіме першадрукара. Даказаў беспадстаўнасць версіі некат. даследчыкаў аб «тактычна-маскіруючым» назначэнні імя Францыск, нібыта запазычаным С. у католікаў. З параўнання графічнага афармлення пражскіх выданняў С. і тагачасных чэшскіх кнігадрукароў (П. Севярын і інш.) зрабіў вывад аб самастойным характары скарынінскага маст. стылю. Аўтар палемічных артыкулаў, у якіх разгледзеў рэцыдывы бурж. гістарыяграфіі (недаацэнка ці замоўчванне ролі С., ужыванне ў сучасным значэнні паняцця «рускі» адносна нац. прыналежнасці, мовы, агульнай накіраванасці твораў бел. першадрукара і інш.).

*Тв.:* 1. *А. К. Каўко.*

**«АЛЕКСАНДРЫ́Я»,** помнік сусв. літаратуры, прысвечаны апісанню жыцця, подзвігаў і прыгод *Аляксандра Македонскага.*

Арыгінал рамана напісаны ў 2—3 ст. у Егіпце на грэч. мове і паслужыў крыніцай для шматлікіх перапрацовак і рэдакцый розных празаічных і вершаваных твораў пра Аляксандра, што ўзніклі і шырока бытавалі ў сярэднявеччы ў краінах Еўропы і Блізкага Усходу. Сюжэт твора займальны, драматычна напружаны, багаты прыгодніцкімі і казачна-фантаст. элементамі. Усходнім славянам «А.» стала вядома ў часы Кіеўскай Русі. На Беларусі бытавала ў 2 рэдакцыях — сербскай і лацінскай. Сербская рэдакцыя больш ранняя, перакладзена на бел. мову ў 15 ст. Непасрэднай крыніцай бел. перакладу лацінскай рэдакцыі было адно з польскіх друкаваных выданняў 16 ст. Бел. пераклады «А.» — каштоўныя помнікі культуры бел. народа, важная крыніца пазнання этычных і эстэт. уяўленняў і маст. густаў бел. чытачоў эпохі феадалізму, вывучэння бел. літ. мовы і гісторыі бел. белетрыстыкі.

Раман карыстаўся вялікай папулярнасцю на Беларусі ўжо ў часы С. Пра гэта сведчыць «Пахвала гетману Канстанціну Астрожскаму», датаваная 1515 і змешчаная ў канцы Супрасльскага летапіснага зборніка пачатку 16 ст. У гэтым творы К. *Астрожскі* параўноўваецца з палкаводцам Антыёхам, адным з гал. герояў «А.», а літоўска-бел. воіны — з храбрымі

македонцамі. Раман пра Аляксандра Македонскага добра ведаў і С. У прадмове да ўсёй «Бібліі» ён пісаў: «Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей, или книги Махавеев, более и справедливее в них знайдеш, нежели во Александрии или во Тройи» (гл. с. 11). С. раіў чытачам, якія захапляюцца творамі гіст. тэматыкі, звярнуць увагу і на асобныя, малавядомыя ім кнігі Бібліі, у якіх ваенна-паліт. падзеі і розныя справы апісаны ў пэўнай меры больш праўдзіва і рэалістычна, чым у «А.». Само параўнанне гэтых твораў пераканаўча паказвае, што першадрукар ставіў іх у адзін жанрава-тэматычны рад як блізкія па характару літаратурныя з'явы.

*Публ.:* Александрыя. Мн., 1962.

*В. А. Чамярыцкі.*

**АЛЕКСЮТО́ВІЧ** Мікалай Астапавіч (1921—67), беларускі сав. філосаф. Канд. філас. н. (1955). Даследаваў грамадска-паліт. і філас. думку Беларусі эпохі сярэднявечча, асветніцкую дзейнасць, літаратурную творчасць і светапогляд С., Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Лаўрэнція Зізанія і інш. Канд. дысертацыя «Перадавая грамадская і філасофская думка на Беларусі ў 16 ст.» і праца «Скарына, яго дзейнасць і светапогляд» (1958) прысвечаны этычным, прававым, эстэт. поглядам гуманіста. Даследчык акрэсліў гал. задачы, якія ставіў перад сабой першадрукар: пашырыць пісьменнасць сярод нар. мас, выхаваць мужнасць, патрыятызм і інш. А. даводзіў, што С. разглядаў Біблію як крыніцу свецкіх ведаў, праз якую можна вывучаць «сем вызваленых навук». А. імкнуўся даць найб. поўную карціну жыцця і дзейнасці С., апіраўся на новыя на той час літаратурныя і гіст. крыніцы і матэрыялы. У працах і артыкулах, прысвечаных С., даводзіў, што хоць С. быў рэліг. чалавекам, сваімі выданнямі ён пазбавіў духавенства і царкву манаполіі на адукацыю, проціпаставіў царкве і феадалам ідэі ранняга хрысціянства. А. сцвярджаў станоўчыя адносіны С. да верацярпімасці. Адзін з першых з пазіцый марксісцка-ленінскай метадалогіі даў навук. аналіз светапогляду С., вызначыў яго характэрныя рысы — рацыяналізм у рэліг. абалонцы, імкненне стаць на навук. аснову ў тлумачэнні з'яў прыроды і авалоданні яе сіламі, самасцвярджэнне чалавечай асобы. Даследчык падкрэсліў важнае месца С. ў гісторыі слав. і сусв. культуры, прасачыў далейшае развіццё яго ідэй на Беларусі, Украіне, у Літве і Расіі.

*Тв.:* 7; 9; 10; 13. *М. Б. Батвіннік.*

**АЛЬБЕ́РЦІ** (Alberti) Леон Батыста (1404—72), італьян. гуманіст, вучоны, архітэктар, пісьменнік, музыкант, культурны дзеяч эпохі Адраджэння. Гуманітарную адукацыю атрымаў у Падуі. Доктар кананічнага права (1428), служыў у папскай канцылярыі ў Рыме (1432—64). Асн. творы: філас.-этычныя трактаты «Пра сям'ю», «Пра спакой душы», «Дамастрой», мастацтвазнаўчыя працы «Пра жывапіс», «Пра дойлідства», камедыя «Аматар славы», алегарычная сатыра «Мом, або Пра гасудара».

У творчасці А. рэнесансава-гуманіст. погляды спалучаліся з пачаткамі навукі новага тыпу, атрымалі практ. накіраванасць. Наватарскія мастацка-эстэт. ідэі А. цесна звязаны з яго маральнай філасофіяй, прасякнутай жыццесцвярджальнымі матывамі годнасці, прыгажосці, мудрасці чалавека. Этыка А. заклікала людзей раскрыць усю сілу прыродных здольнасцей у актыўнай грамадскай дзейнасці дзеля ўдасканалення зямнога жыцця. Праца побач з дабрачыннасцю і ведамі — важнейшая ўмова чалавечага шчасця. Разуменне вышэйшага дабра ў А. мае падкрэслена свецкі характар: гал. мэтай жыццядзейнасці індывіда выступае свядомае служэнне грамадству. Каштоўнасць асобы вызначаецца не толькі яе ўласнымі добрымі якасцямі, але і ўкладам ва ўдасканаленне людзей, у працвітанне свайго народа. Гармонія як прынцып ідэальнага светапарадку аб'ядноўвае індывідум і грамадства, душу і цела, дабрачыннасць і розум. Для А. розум — вышэйшы дар прыроды, аснова дасканалага жыцця, свабоды чалавека, яго панавання над навакольным светам. Каштоўнасць навукі, ведаў вышэй за ўсякае багацце. Яны ўзвышаюць чалавека, прыносяць яму бессмяротную славу, таму што ідуць на карысць чалавецтву.

Ідэі А. знайшлі адлюстраванне ў поглядах С., шмат у чым пераклікаюцца з яго творчай дзейнасцю. Асабліва збліжае двух вял. гуманістаў разуменне жыццёвага ідэалу чалавека. С. ўслед за А. аддае перавагу сац.-актыўнаму, грамадска карыснаму, дзейсна-практычнаму жыццю. Інтэлектуальныя і маральныя дабрачыннасці індывіда набываюць сапраўдную каштоўнасць, паводле С., толькі ў служэнні «посполитому доброму». Вышэйшую годнасць набываюць людзі, якія аддаюць усе сілы і здольнасці «к посполитого доброго розмноженню», «для отчины своея» не шкадуюць «всякого тружания и скарбов» (гл. с. 94). Пафасам сац.-практычнага прызначэння прасякнута і разуменне значэння інтэлекту, навукі, ведаў у С., «абы, научившися мудрости» людзі «добре живучи на свете» (гл. с. 37). Услед за італьян. гуманістам С. імкнуўся да гарманізацыі індывідуальнага і грамадскага дабра, духоўнага і «цялеснага» ўдасканалення чалавека, маральна-высокага і мастацка-прыгожага, бачыў у мастацтве важны сродак выяўлення і сцвярджэння ідэалаў гуманіст. светаразумення. Так, у сваіх прадмовах С. адзначаў асв. і выхаваўчую функцыю маст. афармлення сваіх кніг, «абы братия моя русь, люди посполитые, чтути могли лепей разумети» (гл. с. 77). С. салідарны з А. і ў звароце да роднай мовы ў процівагу класічнай латыні, якой захапляліся многія гуманісты 15 ст. Свае выданні С. адрасаваў усім «людем посполитым руского языка к пожитку» (гл. с. 95), як бы паўтараючы словы А.: «Ці не пахваліць мяне хутчэй чалавек разумны за тое, што, карыстаючыся мовай зразумелай, я больш імкнуся дапамагчы многім, чым спадабацца нямногім?» (А л ь б е р ц і Л. Дзесяць кніг пра дойлідства. М., 1937. Т. 2. С. 172, на рус. мове). Як і А., С. схільны быў бачыць перамогу над канечнасцю індывідуальнага існавання не ў «тым свеце», а ў памяці чалавецтва, імкнуўся «оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою» (гл. с. 44). Погляды С., яго грамадская і творчая дзейнасць — працяг традыцый «грамадзянскага гуманізму», яркім прадстаўніком якога быў А.

*Літ.:* Б р а г и н а Л. М. Итальянский гуманизм: Этические учения XIV—XV веков. М., 1977; А б р а м с о н М. Л. От Данте к Альберти. М., 1979. *Г. У. Грушавы.*

**«Александрыя».** Бітва Аляксандра Македонскага з індыйскім царом Порам. Мініяцюра.



**АЛЬБРЭ́ХТ** (Albrecht) Б р а н д э н б у р г с к і (1490—1568) з роду Гогенцолернаў, апошні гросмайстар (з 1510) Тэўтонскага ордэна, першы герцаг Прусіі (з 1525). Трэці сын Фрыдрыха Брандэнбург-Ансбахскага, маркграфа Ансбаха і Байрэйта і Соф'і — дачкі польск. караля і вял. князя літ. Казіміра IV Ягелончыка. Імкнуўся вызваліць Ордэн ад васальнай залежнасці ад польск. караля (і вял. князя літ.) Жыгімонта I Старога (свайго дзядзькі). Для гэтага спрабаваў шукаць дапамогі ў Германіі і заключыць саюз з маск. вял. князем Васілём III. У 1519—21 вёў вайну з Польшчай, але пацярпеў паражэнне і вымушаны быў заключыць перамір'е. Звярнуўся за дапамогай да Германіі, але імператар Карл V адмовіў яму. Там пазнаёміўся з М. Лютэрам і Ф. Меланхтанам — лідэрамі царк. лютэраўскай Рэфармацыі — і засвоіў іх ідэі. Вырашыў правесці Рэфармацыю на землях Ордэна. Атрымаў у гэтым падтрымку польск. караля і 8.4.1525 заключыў у Кракаве дагавор, паводле якога Прусія ператваралася ў васальнае (адносна да Польшчы) герцагства на чале з А. 10.4.1525 на плошчы Гал. рынку ў

Кракаве А. урачыста прысягнуў у васальнай вернасці каралю Польшчы як свецкі герцаг Прусіі. У Кёнігсбергу сабраў ландтаг і аб'явіў аб секулярызацыі Тэўтонскага ордэна і ўвядзенні ў Прусіі лютэранства. У Прусіі без супрацііўлення была ўведзена Рэфармацыя. Адкрываў у гарадах лацінскія школы, у 1540 у Кёнігсбергу — гімназію, а ў 1544 — універсітэт (Collegium Albertinum). Заснаваў друкарню, каб выдаваць кнігі на ням. (для пашырэння лютэранства), а таксама на літ. мовах. А. меў намер прыцягнуць С. да свайго двара ў сувязі з планамі выдання л-ры ў інтарэсах пратэстантызму, таму ў 1530, відаць, запрасіў яго ў Кёнігсберг. Аднак у хуткім часе абставіны прымусілі С. пакінуць Кёнігсберг. 16.5.1530 герцаг выдаў яму прапускны ліст, а таксама пасланне да віленскага ваяводы Гаштольда з просьбай аказваць садзеянне «выдатнаму і многавучонаму мужу».

*Літ.:* Архив Маркса и Энгельса. Т. 7; 197; 335, с. 404. *А. П. Грыцкевіч.*

**АЛЯКСА́НДР МАКЕДО́НСКІ,** Аляксандр Вялікі (Aléxandros ho Mégas; 356—323 да н. э.), антычны палкаводзец і дзярж. дзеяч, сын македонскага цара Філіпа II. Адукацыю атрымаў пад кіраўніцтвам Арыстоцеля. У 336 стаў македонскім царом. Мабілізаваў эканам. і ваенна-тэхн. сілы Македоніі і Грэцыі, стварыў лепшую для свайго часу армію, заваяваў персідскую дзяржаву і далучыў залежныя ад яе дзяржавы і гарады Блізкага Усходу, у т. л. Палесціну і Егіпет, частку Сярэдняй Азіі і Зах. Індыю (Пенджаб), стварыў самую вял. ў стараж. свеце дзяржаву (сталіца — г. Вавілон). У дэльце Ніла заснаваў г. Александрыю, якая стала цэнтрам узнікшай элліністычнай культуры, што развівалася на аснове сінтэзу духоўных здабыткаў Стараж. Грэцыі і Блізкага Усходу. Можна меркаваць, што С. глыбока цікавіўся гісторыяй заваяванняў А. М. Гал. вынікам дзейнасці А. М. лічыў пашырэнне элліністычнай культуры, адным з найвялікшых дасягненняў якой была Септуагінта — пераклад Біблії на грэч. мову. Пра гэту падзею С. пісаў у прадмове да кн. «Ісус Сірахаў», адзначаючы, што яна адбылася пры *Пталамеі II*, які быў «вторый царь во Египте по Александре Великом Македонском» (гл. с. 43). Другі раз імя А. М. ўпамінаецца ў прадмове С. да кн. «Прамудрасць божая», якую, на думку асветніка, напісаў «Филон Философ греческим языком» у 166 да н. э. пры *Пталамеі IV* — шостым егіпецкім цары «по Александре Великом Македонском» (гл. с. 60).

*Літ.:* Шахермайр Ф. Александр Македонский: Пер. с нем. 2. изд. М., 1986. *У. М. Конан.*

**АЛЯКСЕ́ЕЎ** Пётр Аляксеевіч (1727—1801), выкладчык Маскоўскага ун-та. У працы «Разгляд славянскай старадрукаванай кнігі Апостала, якая спраўлена доктарам Францыскам Скарынаю з Полацка, надрукавана ў Вільні 1525 г. ў чвэрць аркуша» (Вопыт прац Вольнага расійскага сходу пры імп. Маск. ун-це, 1783. Ч. 6) даследаваў выдавецкія традыцыі С., даў дакладнае апісанне кнігі, абгрунтаваў правільнае датаванне віленскага «Апостала», якое на той час было спрэчным.



Аляксандр Македонскі.

**АМІЦЫ́НУС** (Amicinus) Ян (? — 1526), польскі вучоны, царкоўны дзеяч. Магістр вольных мастацтваў (1490), пазней — доктар, праф. права. З 1504 неаднаразова выбіраўся рэктарам, з 1510— віцэ-канцлер *Кракаўскага універсітэта,* у якім вучыўся С. і мог ведаць А.

*Літ.:* 356.

**АНАТА́ЦЫЯ** (ад лац. annotatio заўвага), кароткая абагульняльная характарыстыка кнігі, артыкула і інш. матэрыялу (апублікаванага або неапублікаванага), якая раскрывае іх ідэйна-палітычную накіраванасць, змест, чытацкае прызначэнне, форму і інш. асаблівасці. Анатаванне ў бел. бібліяграфіі бярэ свой пачатак ад літаратурна-публіцыст. спадчыны С.: яго прадмоў і пасляслоўяў да *«Псалтыра» 1517,* асобных кніг *«Бібліі», «Апостала»* і *«Малой падарожнай кніжкі».* У выданнях С. друкуюцца кароткія А. да кожнага раздзела кніг. У кароткай і папулярнай форме ў іх прыведзены асн. звесткі аб гісторыі стварэння асобных кніг, іх аўтарах, змесце і значэнні ў выхаванні, фарміраванні светапогляду і норм паводзін, у гіст. пазнанні свету і набыцці практычных ведаў. Даюцца тлумачэнні да геагр. тэрмінаў, гіст. фактаў, падзей, імён, якія ўпамінаюцца. Прадмовы змяшчаюць элементы будучага навуковага рэферыравання кніг. Яны і ў наш час — узор папулярызацыі кнігі, ведаў, а па форме набліжаюцца да бібліяграф. агляду, захоўваючы літаратурна-публіцыст. асаблівасці. Гэта вытокі бел. рэкамендацыйнай бібліяграфіі і інфармацыі. *В. Н. Дышыневіч.*

**АНІЧЭ́НКА** Уладзімір Васілевіч (н. 1924), беларускі сав. мовазнавец. Д-р філал. н. (1970), праф. (1971). Засл. дз. н. БССР (1976). Працуе ў Гомельскім ун-це. У арт. «Моўныя асаблівасці выданняў Ф. Скарыны і рукапісных спісаў В. Жугаёва» (Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1966. № 1) супаставіў мову біблейскіх кніг бел. першадрукара з фанетычнымі і марфалаг. рысамі мовы спісаў Васіля Жугаёва з Яраслаўля-Галіцкага (1568), якія ўзніклі на базе скарынінскіх выданняў. Разгледзеў ужыванне и, ы замест рэдукаваных ъ, ь, чарграванне заднеязычных г, к, х, са свісцячымі з, ц, с, супадзенні і разыходжанні ў склонавых формах назоўнікаў і інш. Адзначыў, што Жугаёў нярэдка парушаў скарынінскія лексіка-граматычныя нормы, аднаўляючы некат. кніжнаславянскія моўныя элементы, у той час як С. імкнуўся наблізіць іх да жывой народнай мовы. У арт. «Скарынінскія традыцыі на Украіне» (450 год беларускага кнігадрукавання. 1968) паказаў значэнне рэфармацыйнага руху для абуджэння нац. самасвядомасці бел. і ўкр. народаў і для ўзнікнення на Беларусі і Украіне перакладаў царк.-рэліг. л-ры на народную мову. Характарызуе мову рукапісных спісаў Васіля Жугаёва (1568), Дзмітрыя з Зенькава (1575), а таксама мову Цярнопальскага спіса (1569), звяртае ўвагу чытача на зробленыя на Украіне па ўзору скарынінскіх кніг пераклады (Перасопніцкае евангелле 1556—1561), на ўплыў С. на развіццё ўкр. кнігадрукавання («Астрожская біблія» 1581). У артыкуле шырока выкарыстоўвае метад тэкстуальнага параўнання пражскіх выданняў С. з укр. рукапіснымі і старадрукаванымі тэкстамі. У манаграфіі «Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі» (1969) А. адзначае, што выданні С. былі крыніцай ведаў, даступнай простаму народу. Аднак намечаная С. арыентацыя на народную мову праведзена ў біблейскіх тэкстах непаслядоўна. Мова скарынінскіх выданняў, адзначае А., у аснове сваёй кніжнаславянская, хоць месцамі ў ёй адчуваецца моцны ўплыў бел. мовы; аналізуе спісы некат. біблейскіх кніг С. («Іоў», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Прамудрасць божая», «Песня песням»), зробленыя Васілём Жугаёвым. Значная праца А.— *«Слоўнік мовы Скарыны»,* які ўключае лексіку з пражскіх перакладных выданняў С. (1517—1519). Звесткі аб выдавецкай дзейнасці С., ілюстрацыйны матэрыял з яго выданняў А. прыводзіць у працах «Пытанні размежавання беларускіх і ўкраінскіх помнікаў» (Сов. славяноведение. 1965. № 6), «Дыялектызмы ў скарынінскіх друкаваных выданнях» (Тэзісы IV дыялекталагічнай канферэнцыі па вывучэнню гаворак і моўных кантактаў у Прыбалтыйскіх рэспубліках. Вільнюс, 1972, на рус. мове) і інш. Пра ролю літаратурна-пісьмовай спадчыны С. ў развіцці бел. мовы гаворыцца ў арт. А. «Францыск (Георгій) Скарына», змешчаным у час. «Русская речь» (1970. № 3). Устойлівасць скарынінскіх словаўтваральных сродкаў у бел. мове асвятляе ў працы «Складаныя словы ў мове Скарыны» (Беларуская мова. 1980), а семантычнае развіццё стараж.-рус. лексікі яго эпохі ў новых гіст. умовах — «Лёс старажытнарускай лексікі скарынінскай эпохі ў сучаснай беларускай мове»

(Беларуская мова. 1986. Вып. 14). Удзельнік *Скарынінскіх чытанняў*.

**АНТРАПАЦЭНТРЫ́ЗМ** (ад грэч. ánthrōpos чалавек+лац. centrum цэнтр), погляд, згодна якому чалавек ёсць цэнтр і вышэйшая мэта светабудовы. Адно з найбольш паслядоўных увасабленняў тэлеалагічнага вучэння.

У антычнай філасофіі асн. прынцып А. сфармуляваны Пратагорам («Мера ўсіх рэчаў — чалавек»), развіты сафістамі, *Сакратам*, а потым прадстаўнікамі сярэдневяковай філасофіі (*патрыстыка, Аўгусцін* і інш.). Прынцыпова новы гуманіст. характар А. прымае ў вучэннях эпохі *Адраджэння*. Адвяргаючы тэацэнтрызм схаластыкі, рэнесансавая культура звяртае ўвагу на прыгажосць і веліч чалавека, яго годнасць і высокае прызначэнне. Італьян. гуманісты Дж. Манеці (1396—1459), Л. Б. *Альберці, Піка дэла Мірандала*, услаўляючы прыродныя якасці чалавека — прыгажосць, маральнасць, мудрасць, лічыць яго здольным дасягнуць вышэйшай ступені дасканаласці. Пры гэтым гуманіст. А. галоўнае месца адводзіць зямному лёсу чалавека, яго актыўнаму, грамадска карыснаму жыццю. На месца аскетызму і пасіўнасці сярэдневяковай маралі прыходзіць ідэал гарманічна развітай дасканалай асобы, якая зацвярджае сябе ў вял. і прыгожых дзеяннях.

Гуманістычнасць А. эпохі Адраджэння знайшла яркае выяўленне ў светапоглядзе С., які ў сваіх працах сцвярджае высокую годнасць чалавека, самакаштоўнасць яго зямнога жыцця, грамадскага прызначэння яго дзейнасці (гл. *Светапогляд Ф. Скарыны*). Словы «До совѣршен будеть человѣк божий и на всяко дѣло добро уготован...» (гл. с. 19) з'яўляюцца ў С. праграмным лозунгам усёй яго гуманістычна-асветніцкай дзейнасці. У духу А. вышэйшае прызначэнне чалавека С. бачыць у інтэлектуальна-маральным самаўдасканаленні, пераўтварэнні зямнога жыцця, служэнні людзям: «...единому каждому не хвалитися самому в собѣ божествеными духовъными даровании. Но яко уды разно имуще в теле деание, вси вкупе собѣ суть помощни, тако каждый хрестианин свое имея дарование к посполитого доброго размножению да уделяеть...» (гл. с. 196—197). Гуманістычнасць А. дазваляе С. выказаць смелую думку, што бессмяроцце чалавека заключаецца ў тым, каб «...оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою...» (там жа, с. 44).

*Літ.:* Горфункель А. Х. Философия эпохи Возрождения. М., 1980. С. 40—50; Соколов В. В. Европейская философия XV—XVII веков. М., 1984. С. 21—23.

*Г. У. Грушавы.*

**АНТЫКВА** (ад лац. antiquus старажытны), наборны лацінскі шрыфт, першакрыніца сучаснага.

Створана на аснове кніжнага пісьма эпохі Адраджэння, упершыню ўжыта італьян. друкарамі ў канцы 15 ст. А. друкаваліся творы антычных аўтараў, кнігі, звязаныя з культурай гуманізму (у процівагу гатычнаму шрыфту, на якім выдаваліся кнігі, што ўзыходзілі да сярэдневяковых царк. і універсітэцкіх традыцый). У параўнанні з гатычнай тэкстурай А. характарызуецца больш выразнымі геам. формамі і акругласцю абрысаў. Вядома некалькі гістарычна склаўшыхся яе тыпаў, у часы С. існавала старая А. Уплыў А. на графіку шрыфта С. мінімальны.

**АНТЫТРЫНІТА́РЫІ** (ад грэч. anti... супраць +лац. trinitas тройца), у шырокім сэнсе — прыхільнікі грамадска-рэліг. плыняў, вучэнняў, сектаў, якім уласцівы рацыяналістычны падыход да артадаксальнай царк. дактрыны і догмаў, гал. ч.— адмаўленне тройцы; у вузкім — прадстаўнікі радыкальна-рэфармац., рацыяналістычна-гуманіст. руху на тэр. Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы 2-й пал. 16— пач. 17 ст. (вядомы яшчэ як арыяне, літ. і польск. браты, потым — сацыніяне).

Рух і вучэнне А. узніклі ў канцы 2— пач. 3 ст. і выражалі незадаволенасць розных сацыяльна-рэліг. груповак узрастаючым уплывам афіц. царквы, а таксама пратэст супраць ірацыяналізму і дагматызму хрысц. веравучэння. У сярэднявечча ідэі А. развівалі некат. схаласты-наміналісты, рус. ерэтыкі, табарыты, анабаптысты. З новай сілай рух А. разгарнуўся ў эпоху *Адраджэння* і *Рэфармацыі*. У пач. 16 ст. ў Венецыі ўзнікла тайнае таварыства А., прадстаўнікі якога адмаўлялі догмат тройцы, прызнавалі за Ісусам Хрыстом толькі чалавечую сутнасць, выказвалі сумненне ў неўміручасці душы. Ідэолагам А. у 16 ст. быў ісп. вучоны Мігель Сервет, ідэі якога распаўсюдзіліся на Беларусі (*Пётр з Ганёндза*). У 1540-я г. большасць італ. А. уцяклі ад праследаванняў інквізіцыі ў Швейцарыю, потым у Польшчу і Вял. кн. Літоўскае, дзе актыўна ўдзельнічалі ў рэфармац. гуманіст. руху (А. Станкар, Г. Бляндрата, П. Альтыяці, В. Джэнтылі, Ф. Лісмані).

А. Беларусі складалі (у адрозненне ад кальвіністаў, або евангелікаў-рэфарматаў) крайні, рацыяналістычна-гуманіст. кірунак у рэфармац. руху. Светапогляд іх фарміраваўся ў працэсе крытыкі пануючага феад.-царк. вучэння і быў звязаны з сац. і рэліг.-філас. тэндэнцыямі эпохі Адраджэння. З сац. і рэліг.-філас. пункту погляду ў асяроддзі бел. А. вызначаліся 2 кірункі: умераны і радыкальны. Прадстаўнікі першага кірунку (Сымон *Будны*, Васіль *Цяпінскі* і інш.) выражалі інтарэсы гараджан і прагрэсіўна настроенай шляхты, патрабавалі частковых змен у грамадскім жыцці, канструктыўна ставіліся да рэліг.-тэалагічнай і філас. традыцыі, імкнуліся да рэфармавання не толькі сац. і дзярж.-прававых інстытутаў, але і пануючага рэліг.-тэалагічнага светапогляду. Хоць яны адхілялі большую частку царк. абраднасці і дагматыкі, многія палажэнні афіц. хрысц. веравучэння, скептычна адносіліся да схаластыкі, аднак прызнавалі аўтарытэт патрыстыкі, антычнай філасофіі (за выключэннем яе матэрыяліст. лініі), шэрагу ідэолагаў рэнесансавага гуманізму і Рэфармацыі (Л. Валы, *Эразма Ратэрдамскага* і інш.). Услед за еўрап. гуманістамі і рэфарматарамі (на Беларусі ўслед за С.) А. прызнавалі права кожнага чалавека свабодна чытаць і інтэрпрэтаваць Біблію. Найб. рашучыя з іх, напр. Будны, крытыкавалі тыя палажэнні Бібліі, якія супярэчылі розуму і прыродзе, абвяргалі бессмяроцце душы і замагільны свет, абвяшчалі «ісцінным» богам толькі «айца», а Хрыста лічылі простым чалавекам. Умераныя А. прадстаўлялі бога безасабовым пачаткам, абстрагавалі яго ў духу дэізму. На аснове рэліг. рацыяналізму і натуралізму А. фарміравалася бел. атэіст. і матэрыяліст. думка (К. Бекеш, С. Лован, К. Лышчынскі і інш.). У пач. 17 ст. рэліг. філас. вучэнне А. было развіта і паглыблена Ф. Соцынам і яго паслядоўнікамі і атрымала назву сацыніянства. Ідэолагі радыкальнага кірунку А. (Пётр з Ганёндза, *Якуб з Калінаўкі*, Павел з Візны, М. *Чаховіц* і інш.) у спецыфічнай, рэліг.- тэалагічнай форме ілюстроўвалі класавы настрой і грамадскія ідэалы нар. мас, імкнуліся не да частковых рэформаў,а да радыкальных сац.-паліт. змен, указвалі на неабходнасць ліквідацыі прыгону, прыватнай уласнасці, феад. прывілеяў, выступалі супраць свецкай улады, войнаў, сац., нац. і рэліг. няроўнасці, распрацоўвалі утапічныя планы перабудовы грамадства. У рэліг.-філас. сферы радыкальным А. уласцівы даведзены да крайнасці антыаўтарытарызм, спробы татальнага разрыву са старымі духоўна-культурнымі каштоўнасцямі, у прыватнасці філасофіяй, што было своеасаблівай нар. рэакцыяй на адчужаны характар духоўнай культуры ва ўмовах эксплуататарскага грамадства, выкарыстанне яе ў інтарэсах пануючага класа. Радыкальныя А. адмаўлялі антычную філасофію, схаластыку і нават патрыстыку, адзіным аўтарытэтам ім служыла Біблія і цвярозы розум простага чалавека. Яны гуманізавалі і актуалізавалі такія сац.-этычныя паняцці, як роўнасць, справядлівасць, братэрства, чалавекалюбства. А. Беларусі ў 2-й пал. 16 ст. мелі шматлікія абшчыны (Іўе, Лоск, Любча, Навагрудак, Клецк і інш.), органы самакіравання, рэгулярна збіраліся на з'езды (сіноды). У творы Буднага «Пра свецкую ўладу» (1583) падрабязна апісана пасяджэнне сінода ў Іўі ў 1568. У сярэдзіне 17 ст. ў выніку феад.-каталіцкай рэакцыі паслядоўнікі А.— сацыніяне — былі выгнаны за межы Рэчы Паспалітай, у т. л. і з Беларусі. Бел. А. ў сваёй дзейнасці і вучэнні развівалі некат. ідэі С., напр., ідэю індывідуальнага і свабоднага даследавання Бібліі, пазацарк. рэлігійнасці і маралі, свабоды веравызнання, нац.-культ. развіцця і інш.

*Літ.:* Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (Вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970.

*С. А. Падокшын.*

**АНТЫЧНАЯ ЛІТАРАТУ́РА І ФІЛАСО́ФІЯ НА БЕЛАРУ́СІ** ў 15—17 ст. На развіццё л-ры, філас. і грамадска-паліт. думкі і ў цэлым грамадскай свядомасці і культуры Беларусі зрабілі ўплыў антычныя аўтары — філосафы, пісьменнікі, гісторыкі і інш. Гэта выявілася ў даволі шырокім распаўсюджанні кніг антычных пісьменнікаў; у перакладах з каментарыямі арыгінальных твораў; папулярызацыі філас.-этычных ідэй антычных філосафаў, вывучэнні лац. і страж.-грэч. моў, элементаў антычнай філасофіі, гісторыі, л-ры ў школах; наяўнасці ў арыгінальных творах ідэй, цытат, вобразаў, імёнаў антычных пісьменнікаў, імкненні мысліцеляў і грамадскіх дзеячаў Беларусі ўключыць антычную філас. культуру ў кантэкст айч.

сац.-паліт. і філас.-этычнай думкі, адаптаваць сац.-філас. ідэі антычнасці, выкарыстаць іх у светапогляднай барацьбе, сацыяльна-пераўтваральнай дзейнасці і інш. На Беларусь элементы антычнай культуры (л-ры, філасофіі, гісторыі, мастацтва) пачалі інтэнсіўна пранікаць прыблізна з 14 ст. з Зах. Еўропы. На працягу 16—17 ст. з-за мяжы паступалі і асядалі ў прыватных, пераважна магнацкіх, царк., манастырскіх, школьных, ордэнскіх б-ках кнігі антычных аўтараў. Паводле старых вопісаў, у б-ках Беларусі былі творы Гамера, *Арыстоцеля, Платона,* Герадота, Сафокла, Лукрэцыя Кара, *Цыцэрона,* Сенекі, Ціта Лівія, Тацыта, *Вергілія,* Авідзія, Гарацыя, Ювенала, Лукіяна, Тэрэнцыя і інш. У 15—17 ст. на бел. і ўкр. землях былі пашыраны творы Псеўда-Дыянісія Арэапагіта — «арэапагітыкі», якія прапагандавалі ідэі познеантычнага і хрысц. *неаплатанізму.* «Арэапагітыкі» былі папулярныя сярод прапаведнікаў брацтваў і настаўнікаў брацкіх школ у канцы 16—17 ст. У Стараж. Русі, а потым на Беларусі былі вядомы творы, якія ўтрымлівалі ідэі антычнай філасофіі: «Арыстоцелева брама, або тайная тайных», эліністычны раман «*Александрыя*», аповесць «Троя». Аб папулярнасці іх пісаў С. (гл. с. 11).

У эпоху *Адраджэння* на Беларусі кнігі антычных аўтараў перакладаліся, каменціраваліся і выдаваліся айч. культурнымі дзеячамі і мысліцелямі, пераважна на польск. мове. Адным з найб. папулярных антычных пісьменнікаў быў Цыцэрон. У 1576 у друкарні Яна Карцана ў Лоску надрукаваны ў перакл. на польск. мову пракаменціраваны Станіславам Кашуцкім твор Цыцэрона «Пра абавязкі», перавыд. ў Вільні ў 1583, 1593, 1606. Да выдання 1606 дадаваліся перакладзеныя на польск. мову і падрыхтаваныя да друку Бенешам Будным філас.-этычныя трактаты Цыцэрона «Аб старасці» і «Аб дружбе». У 1599 з віленскай друкарні Карцана выйшаў зборнік кароткіх апавяданняў «Апафегматы» Б. Буднага, якія ўключалі жыццяпісы і філас.-этычныя сентэнцыі антычных пісьменнікаў, узятыя з твораў Плутарха і Дыягена Лаэрцкага. Творы антычных пісьменнікаў або фрагменты з іх вывучаліся ў кальвініцкіх, арыянскіх, брацкіх школах Беларусі, каталіцкіх калегіях, Віленскай і Кіева-Магілянскай акадэміях. Выкладчыкі і вучні брацкіх школ у спец. сшыткі запісвалі афарызмы, прыклады, павучальныя гісторыі з жыцця стараж. аўтараў. З 15 ст. на Беларусі пашырыліся ідэі эпікурэізму (гл. *Эпікур*), а ў 16—17 ст. ужо існаваў даволі прыкметны матэрыяліст.-атэістычны рух, вядомы пад назвай «секты эпікуравай». Яе прадстаўнікам (С. Лован, К. Бекеш, Д. Гулевіч і інш.) былі ўласцівы матэрыяліст. погляд на паходжанне свету, элементы рэнесансава пераасэнсаванага геданізму, адмаўленне бога і бессмяроцця душы і інш. Пра існаванне на Беларусі даволі прыкметнай эпікурэйскай філас.-этычнай традыцыі сведчыць Андрэй Волан у сваім трактаце «Пра шчаслівае жыццё, або найвышэйшае чалавечае дабро» (Вільня, 1596). Вял. папулярнасць у рэнесансавай думцы Беларусі 16—17 ст. меў антычны эпікурэйска-стаічны прынцып прытрымлівацца прыроды як адной з крыніц фарміравання канцэпцыі «натуральнай маралі» і «натуральнага права». Пад уплывам твораў антычных філосафаў у айч. думцы фарміраваліся ідэі дыялектыкі. Паняцце «дыялектыка» на Беларусі было вядома як антычны спосаб філас. выяўлення ісціны і як адно з *«сямі вольных мастацтваў»* сярэдневяковай універсітэцкай адукацыі (логіка). С. характарызаваў дыялектыку, або логіку, як навуку, якая «учить с доводом разознати правду от кривды», г. зн. вучэнне пра доказ. Паводле Кашуцкага, дыялектыка — адна з сямі навук, якая дае магчымасць выявіць у рэчах ісціну. «Дыялектыка, пісаў Сымон *Будны,* не выдумана філосафамі.., але дадзена чалавеку богам і як асобы дар звязана з яго прыродай». Сімяон Полацкі прысвяціў антычнай дыялектыцы чатырохрадкоўе:

Диалектика благородным Платоном
Матерью наук всех справедливо наречена,
Истину и мудрость она обнаруживает,
Разум просвещает, узлы распутывает.

Ідэі антычнай філасофіі, л-ры, навукі, культуры істотна паўплывалі на светапогляд С., яго бел. сучаснікаў і паслядоўнікаў. У перакладных выданнях, прадмовах да біблейскіх кніг прысутнічаюць ідэі філас. вучэння *Сакрата,* Платона, Арыстоцеля (гл. *Арыстацелізм* на Беларусі), эпікурэізму, стаіцызму і інш. Услед за піфагарэйцамі, Арыстоцелем, візант. філосафамі ён лічыў, што музыка і спевы прыводзяць у стан гармоніі ўнутраны свет чалавека, аказваюць катарсіснае (грэч. kátharsis ачышчэнне) уздзеянне на псіхіку, удасканальваюць норавы. Разглядаючы праблему чалавека і яго духоўна-маральнага свету, С. ўслед за Сакратам сцвярджаў як вышэйшую мудрасць самапазнанне. Як і Арыстоцель, ён лічыў, што разумныя і маральныя асновы ў чалавеку фарміруюцца і выяўляюцца пераважна ў грамадскім жыцці. На аснове арыстоцелеўскага вучэння ён распрацаваў і напоўніў канкрэтным зместам такія катэгорыі, як «грамадскае дабро» («посполитое доброе») і грамадскі інтарэс («пожиток посполитый»). Як і антычныя мысліцелі, С. падняў паняцце патрыятызму на ўзровень вышэйшых чалавечых дабрачыннасцей. Каменціруючы «Еклесіяст», ён паказаў добрае веданне не толькі арыстоцелеўскай, але і эпікурэйскай і стаічнай канцэпцый вышэйшага дабра. С. не прымаў этыкі эпікурэізму, а імкнуўся сінтэзаваць хрысц. вучэнне пра мараль з маральнымі прынцыпамі арыстацелізму і ўмеранага стаіцызму. Ён падзяляў пункт погляду некат. антычных філосафаў (*Дэмакрыта,* сафістаў і інш.) на тое, што для маральна дасканалага чалавека няма патрэбы ў праве, аднак добра разумеў ролю законаў для рэальнага чалавечага грамадства.

Ярка выяўленыя элементы антычнай паэтыкі прысутнічаюць у творах Міколы *Гусоўскага,* асабліва ў яго паэме «Песня пра зубра». Адначасова Гусоўскі першы ў бел. л-ры крытычна аднёсся да антычных пісьменнікаў, напр., шырока вядомага ў сярэдневяковай Еўропе Плінія Старэйшага, аўтара «Натуральнай гісторыі». Звесткам, часам недакладным, антычных пісьменнікаў ён проціпастаўляў рэальны, практычны вопыт чалавека. Вял. значэнне антычнай культуры, л-ры, філасофіі надаваў С. Будны. У сваіх творах ён звяртаўся да антычных аўтараў — Гамера, Платона, Арыстоцеля, Дэмасфена, Цыцэрона, Сенекі, Тэрэнцыя, Святонія, Катона, Ціта Лівія, Гарацыя і інш. Яго паліт., этычныя і эстэт. погляды ў значнай ступені фарміраваліся пад уплывам платонаўскіх твораў «Дзяржава» і «Законы», арыстоцелеўскіх твораў «Палітыка», «Нікамахава этыка», «Паэтыка». Істотны ўплыў зрабілі антычныя аўтары на філас.-этычныя і сац.-паліт. погляды Волана. Праблемы сэнсу жыцця, шчасця, вышэйшага дабра, паліт. ідэалу, права і інш. Волан вырашаў у значнай ступені пад уплывам філас. ідэй Платона, Арыстоцеля, Цыцэрона. Ён быў прыхільнікам эўдэманісцкай этыкі, лічыў, што шчасце магчыма ва ўмовах зямнога жыцця і заключаецца ў правільнай каштоўнаснай арыентацыі, падпарадкаванні матэрыяльнага дабрабыту ідэальным імкненням чалавечага духу. Спасылаючыся на «Дзяржаву» Платона, Волан абгрунтоўваў дыялектыку катэгорый свабоды і несвабоды. Паліт. ідэалам ён сцвярджаў, як і Платон, «філосафа на троне». Лічыў, што дзярж. дзеяч павінен мець такія дабрачыннасці, як мудрасць, справядлівасць, умеранасць, мужнасць, шчодрасць. Услед за Цыцэронам і С. ён абвяшчаў прыярытэт «агульнага дабра». Згодна з арыстоцелеўска-цыцэронаўскім вучэннем Волан лічыў, што законы павінны адпавядаць «прыроднаму розуму», які сцвярджае права на жыццё і ўласнасць як неад'емнае права чалавека. Спасылаючыся на Платона, пісаў пра неабходнасць прытрымлівацца не толькі літары, але і духу закона, разумна і гуманна падыходзіць да вызначэння меры пакарання. Антычная культура, філасофія, паэзія, міфалогія значна паўплывалі на творчасць грамадскіх дзеячаў, пісьменнікаў, паэтаў, мысліцеляў Беларусі эпохі позняга Рэнесанса і *барока* (М. Смятрыцкі, А. Рымша, Я. Радван, Я. Казакевіч, Я. Даманеўскі, М. К. Сарбеўскі, Д, Набароўскі, А. Алізароўскі, Сімяон Полацкі, К. Лышчынскі і інш.). Апеляцыя да антычнай культуры — адзін са спосабаў звароту да традыцыі, г. зн. да папярэдняга культурна-філас. вопыту. Гэта не было простым запазычаннем, а выступала як канкрэтна-гіст. форма духоўнай творчасці. У культуры Беларусі эпохі С. цікавасць да антычнай філасофіі, гісторыі, л-ры была абумоўлена актуальнымі сац.-паліт. і духоўна-культурнымі задачамі, што стаялі перад грамадствам,— рухам прагрэсіўных ідэолагаў шляхты і гараджан за абнаўленне дзярж.-прававых і царк. інстытутаў,

маральнае аздараўленне народа, перагляд традыц. рэліг.-тэалагічнага светапогляду і інш. Зварот рэнесансавых мысліцеляў і іх паслядоўнікаў да ідэйнай спадчыны антычнай старажытнасці тлумачыцца тым, што яшчэ не была выпрацавана новая тэорыя, якая процістаяла б сярэднявеччу. Ва ўмовах 16—17 ст. ён быў часткай барацьбы бел. і укр. народаў за сац.-паліт. і нац.-культ. незалежнасць, супраць феад.-каталіцкай палітыкі паланізацыі і дэнацыяналізацыі.

*Літ.:* Маркс К., Энгельс Ф. О литературе. М., 1958; 130; 131; 156; 230.

*С. А. Падокшын.*

**АНУ́ФРЫЕЎСКІ МАНАСТЫ́Р** у Львове. Упершыню ўпамінаецца ў дакументах сярэдзіны 15 ст. Знаходзіўся пад кіраваннем Львоўскага брацтва. У 1583 у А. м. пахаваны рус. першадрукар Іван *Фёдараў*. Пры манастыры з даўніх часоў існавала б-ка. Паводле вопісу 12.5.1579 у ёй было 30 кніг, сярод іх «Евангелле вучыцельнае» Фёдарава і П. Мсціслаўца. У 1837 вопіс рукапісаў А. м. апублікаваны Я. Ф. Галавацкім у альманаху «Русалка Днестровая». У вопісу ўказаны 24 рукапісы. Пад № 1 апісана «Библия старога завета — в лист — 7038 листів, без початку і кінця, писау Дмитро из Зѣнкова Писарчик... лѣта 1576 и пізнѣшче, як на 5037 листѣ читаемо». Аб'ём рукапісу, які з'яўляецца спісам біблейскіх кніг С., відаць, указаны Галавацкім памылкова. Частка рукапісу, хутчэй за ўсё ў 1843, была перaслана М. П. Пагодзіну ў Пецярбург Д. І. Зубрыцкім. Пазней яна ў складзе «древлехранилища» Пагодзіна паступіла ў пецярбургскую Публ. б-ку (ДПБ, Паг. 85). Частку, якая засталася ў Львове і ўключае 356 арк., у 1856 пераплёў А. С. Петрушэвіч разам з асн. часткай рукапіснага збору А. м. Яна захоўваецца ў Львоўскай навук. б-цы імя В. Стафаніка (Аддз. рук. МВ 1290). Рукапіс А. м. змяшчае спісы біблейскіх кніг, якія ў друкаваных выданнях С. невядомы (гл. *Спісы з выданняў Ф. Скарыны*). У снежні 1977 у будынку былога А. м. адкрыты *Музей Івана Фёдарава.* *Я. Л. Неміроўскі.*

**А́НУШКІН** Аляксандр Іванавіч (1904—78), савецкі журналіст і гісторык кнігі. Прысвяціў некалькі прац вывучэнню гісторыі віленскай друкарні С. Лічыў, што ў Вільні існаваў гурток гуманістаў, у які ўваходзіў С. У сваіх працах А. падкрэсліваў свецкую накіраванасць ведаў бел. першадрукара, яго любоў да антычнай л-ры, да навукі, праслаўленне прыроды і чалавека. А. прааналізаваў змест, паліграф. арганізацыю тэкстаў і ўзровень маст. аздаблення віленскіх выданняў С. і даў ім высокую ацэнку. Выказаў гіпотэзу, што друкарня С. пачала працаваць у 1519 (у доме бурмістра Я. *Бабіча*). А. даводзіў, што хоць С. прывёз з Прагі розныя прылады, матэрыялы, шрыфты і нават майстра-друкара, арганізаваць працу друкарні яму дапамагалі віленскія майстры-рамеснікі. Прасачыў уплыў выданняў С. на ўсё наступнае бел., літ. і укр. кнігадрукаванне і выданне кніг у Маскве да 19 ст.

*Тв.:* 18; 19; 21. *М. Б. Батвіннік.*

**«АПО́СТАЛ»,** «Книга деания и послания апостольская, зовемая Апостол», першая дакладна датаваная кніга, надрукаваная на тэрыторыі нашай краіны. Выдадзена С. у сак. 1525 у Вільні кірыліцай (гл. с. 181—216). Апошняе па часе друкаванае яго выданне. Тэксту кнігі папярэднічае прадмова С. («Деания светых апостолъ книгъ предмова»). Пасля яе змешчаны саборныя пасланні і пасланні апостала Паўла, у якіх выкладаюцца асновы хрысціянскай веры і ранняя гісторыя *хрысціянства* і да якіх таксама напісаны прадмовы («сказанні») С. У канцы пасланняў апостала Паўла змешчана агульнае пасляслоўе С. да «Дзеянняў» і пасланняў, а таксама тэкст аб ужыванні ў кнізе чырвонага колеру. Услед за кананічным тэкстам, які з'яўляецца кірыла-мефодзіеўскім перакладам з грэч. на царк.-слав. мову, ідуць службовыя раздзелы: «Соборникъ двунадесять месец», «Пятдесятница», «Четырдесятница» і паказальнікі чытанняў. Адной з крыніц «А.» была *«Біблія чэшская ў Венецыі друкаваная»* (1506). Мова перакладу ў аснове царк.-слав. з многімі лексічнымі і граматычнымі асаблівасцямі старабеларускай. Пераклад блізкі да кананічнага тэксту, але не літаральны. Некат. цяжкія для разумення шырокага чытача словы вытлумачаны С. на палях. Кожнай самастойнай ч. «А.» папярэднічае прадмова перакладчыка, напісаная кніжным стылем старабел. мовы, у якой раскрываецца асн. змест твора і яго накіраванасць (гл. *Мова прадмоў Ф. Скарыны*). У зборніку 22 прадмовы, насычаныя маральна-этычнай праблематыкай, клопатамі гуманіста пра духоўную дасканаласць чалавека, аднак у цэлым яны ў параўнанні з прадмовамі да кніг «Біблії» маюць больш царк.-рэліг., схаласт. характар. Нягледзячы на тое, што «А.» — кніга царкоўная, С. адрасаваў яе шырокаму чытачу, таму і надрукаваў «у васьмушку» — у зручным кішэнным фармаце. У кнізе 344 аркушы. Кірылаўская пагінацыя прастаўлена ў правым верхнім вуглу кожнага аркуша — у чатыры лікі (асобна для чатырох раздзелаў кнігі). Прастаўлена з памылкамі — прапушчаны аркушы 5—8-ы 1-га ліку і 1—4-ы 2-га ліку. Таму ў л-ры агульная колькасць аркушаў звычайна даецца памылковая — 351 аркуш, або 702 старонкі. Кніга складаецца з 45 сшыткаў, якія не маюць нумарацыі. Чатыры сшыткі чатырохаркушавыя, астатнія васьміаркушавыя. На паласе 20 чорных радкоў, «чырвоны» радок вынесены на ніжняе поле. У межах адной паласы яны маюць аднолькавую даўжыню, за выключэннем канцавых палос асобных пасланняў, дзе тэкст арганізаваны ў выглядзе абернутага трохвугольніка, які пераходзіць у ромб, або усечанага і інш. Друкарская арганізацыя тэкставага матэрыялу «А.» старанна прадумана. Кнігу адкрывае агульны тытульны ліст.

Другі тытул папярэднічае пасланням апостала Паўла. Асн. раздзелы — саборныя пасланні, пасланні апостала Паўла і «Саборнік» — пачынаюцца спускавой паласой. Рубрыкацыя выяўлена арнаментальнымі сродкамі. Кожнае пасланне пачынаецца віньеткай і ініцыялам. Кожны раздзел у «Дзеяннях» пачаты віньеткай, услед за якой змешчана кароткая анатацыя, што выкладае асн. падзеі, апісаныя далей. Тэкст пачынаецца гравіраваным ініцыялам. «А.» надрукаваны чоткім прыгожым шрыфтам. Вы-





Будынак былога **Ануфрыеўскага манастыра.** Надпіс на надмагільным камені Івана Фёдарава.

шыня 10 радкоў роўная 53 мм, г. зн. памеры шрыфту прыкладна адпавядаюць сучаснаму кеглю 14 пунктаў («мітэль»). Назвы на тытульных лістах і спускавых палосах, а таксама калонтытулы набраны другім шрыфтам (вышыня ачка 4 мм). «А.» надрукаваны дзвюма фарбамі; другая фарба — кінавар — ужыта дзеля таго, каб выявіць рубрыкацыю і аблегчыць карыстанне кнігай. Гэтым выданні С. адрозніваюцца ад паўднёва-слав. выданняў, у якіх кінавар выкарыстоўваўся з чыста дэкаратыўнай мэтай. У асн. тэксце «А.» чырвонай фарбай выкладзены: агульны загаловак кнігі на тытульным лісце і назва першага раздзела — «Дзеянняў» — на адвароце тытула. Другі тытульны ліст надрукаваны чорнай фарбай. Чырвонай фарбай надрукаваны ўказанні на бакавых палях дзён тыдня, да якіх прымеркавана чытанне тых або іншых тэкстаў, а таксама ўказанні на канец чытання чарговых тэкстаў і ўказанні «пад радком» (у ніжняй ч. паласы). У асн. ч. (на арк. 188-м) кінаварам надрукаваны тэкст, які растлумачвае выкарыстанне чырвонай фарбы ў кнізе. Чырвонай фарбай выкананы і шэраг элементаў маст. аздобы — ініцыялы на тытульным лісце і яго адвароце, віньеткі-канцоўкі. С. ўжываў агульную для першадрукарскіх слав. выданняў тэхніку двухпракатнага друку з адной формы. Адзіная ў друкарскай практыцы С. кніга без ілюстрацый, аднак у ёй вял. колькасць застаўак, канцовак, гравіраваных буквіц. У застаўках і ініцыялах пераважаюць раслінныя матывы, часам аб'яднаныя з малюнкамі ўмоўных дэльфінаў, рыб, птушак, масак, сугучных венецыянскай арнаментыцы эпохі Адраджэння. Віньеткі, якія выкарыстоўваліся як застаўкі і канцоўкі, 3 розных фарматаў (63×15, 63×10 і 63×5 мм). У 3 фарматах выкананы і буквіцы. Усяго ў кнізе 280 адбіткаў віньетак і 427 адбіткаў буквіц.

Упамінанні пра «А.» сустракаліся ў вопісах стараж. рус., укр. і бел. б-к у 16—17 ст. Пра пашырэнне «А.» на тэр. Беларусі і Украіны ў 16—17 ст. сведчыць вял. колькасць яго рукапісных копій. Пачатак вывучэння «А.» паклаў П. А. *Аляксееў*, які ў 1783 апублікаваў арт. «Разгляд славянскай старадрукаванай кнігі Апостала, якая спраўлена доктарам Францыскам Скарынаю з Полацка, надрукавана ў Вільні 1525 г. ў чвэрць аркуша» (Вопыт прац Вольнага расійскага сходу пры імп. Маск. ун-це. 1783. Ч. 6). Аляксееў даў дакладнае апісанне складу кнігі, прывёў тэксты прадмоў і пасляслоўяў да яе асобных раздзелаў. Сярод іх вельмі рэдкі тэкст пра выкарыстанне ў кнізе чырвонага колеру. З «А.» Аляксееў пазнаёміўся па экземпляры, які захоўваўся ў б-цы П. П. Курбатава. Пазней гэты экземпляр паступіў у збор Ф. Р. *Баузе*. У 1813 падрабязнае апісанне «А.» паяўляецца ў «Вопыце расійскай бібліяграфіі...» В. С. *Сопікава*. Акрамя прадмоў і пасляслоўяў, тут адноўлены характэрныя выпіскі з тэксту. Сопікаву былі вядомы экземпляры, якія знаходзіліся ў зборах Баузе і П. Я. Чаадаева. Гэтыя ж экземпляры ў 1825 упамянуў П. І. *Кепен* у «Храналагічным роспісе першадрукаваным славенскім кнігам». Пазней ён растлумачыў, што экземпляр «А.» з б-кі Ф. А. *Талстога*, відаць, з'яўляецца адным з упамянутых 2 экз. гэтай кнігі. Экземпляр Талстога ў 1829 падрабязна апісаў П. М. *Строеў* у «Дакладным апісанні старадрукаваных кніг славянскіх і расійскіх, якія захоўваюцца ў бібліятэцы... Фёдара Андрэевіча Талстога». У «Палеаграфічных здымках шрыфтоў», прыкладзеных да апісання, Строеў аднавіў тытульны ліст «А.». У 1830 збор Талстога паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку. Экземпляр знаходзіцца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.7[а]). В. М. *Ундольскі* ў 1848 апісаў экземпляр «А.», што належаў пецярбургскаму калекцыянеру А. І. *Касцерыну*. Лёс гэтага экземпляра невядомы, магчыма, ён пазней папаў у калекцыю А. І. *Хлудава*. Няма звестак таксама пра экземпляры, што належалі ў 19 ст. В. І. Грыгаровічу і М. П. *Пагодзіну*. У 1861 упершыню ўпамянуты «А.», які належаў І. П. *Каратаеву*. Падрабязнае апісанне кнігі паявілася ў 1878 у працы Каратаева «Апісанне славянарускіх кніг, надрукаваных кірылаўскімі літарамі. 1491—1730». Збор Каратаева быў куплены Публ. б-кай. Экземпляр «А.» знаходзіўся там да канца 1860-х г., а потым быў перададзены Румянцаўскаму музею ў Маскве. Кніга захоўваецца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 1348). У 1861 упамянуты ў друку экземпляр «А.» перададзены ў пецярбургскую Публ. б-ку дэпартаментам Генеральнага штаба. Ён знаходзіцца ў ДПБ (1.57[б]). У 1872 А. Папоў апісаў экземпляр са збору Хлудава, магчыма, той самы, які раней належаў Касцерыну. У 1917 б-ка калекцыянера паступіла ў Дзярж. Гіст. музей у Маскве (ДГМ), дзе хлудаўскі экземпляр «А.» знаходзіцца і зараз (Хлуд. 6). Гэта самы поўны з усіх захаваных экземпляраў «А.». Каратаеву ў 1878 было вядома 6 экз. «А.». Толькі адзін з іх да таго часу не ўпамінаўся; ён належаў П. В. *Шчапаву*. Пасля смерці калекцыянера ў 1888 большая частка яго б-кі паступіла ў ДГМ, дзе «А.» знаходзіцца і зараз (Шчап. 115). У 1879 у «Пуцевадзіцелі па Віленскай публічнай бібліятэцы», складзеным Ф. Дабранскім, у навук. ўжытак уведзены «А.», які належаў гэтай б-цы. Кніга знаходзіцца ў Навук. б-цы Вільнюскага дзярж. ун-та імя В. Капсукаса (№ 1323570). Упамінанні пра «А.» ёсць на старонках шматлікіх апісанняў б-кі калекцыянера А. Бурцава. Лёс гэтага экземпляра невядомы. У 1899 упершыню ўпамянуты «А.» Брытанскага музея ў Лондане (зберагаецца ў б-цы музея). У 1905 А. С. *Петрушэвіч* падараваў «А.» Царкоўнаму музею ў Львове. Экземпляр апісаў у 1908 І. С. *Свянціцкі* ў «Каталогу кніг царкоўна-славянскага друку». Кніга знаходзіцца ў Музеі ўкр. мастацтва ў Львове (№ 419). Я. Л. *Неміроўскі* ў 1968 увёў у навук. ўжытак экземпляры «А.», якія знаходзяцца ў Цэнтр. дзярж. архіве стараж. актаў (№ 821) і ў ДБЛ (№ 4356). У л-ры апісана 15 экз. «А.», з іх вядома месцазнаходжанне 10 экз. (гл. *Каталог выданняў Ф. Скарыны*).

*Літ.:* 558; 670. *Я. Л. Неміроўскі.*

**АПРЫМЕ́НЕ** Агота Лаймуце Юозаўна (н. 1933), літоўскі сав. мовазнавец. Канд. філал. н. (1977, тэма дысертацыі — «Мова «Апостала» Францыска Скарыны 1525 г.»). Працуе ў Шауляйскім пед. ін-це. Аўтар арт. «Асаблівасці скланавых форм назоўнікаў у «Апостале» Ф. Скарыны (1525 г.)» (Пытанні лексікі і сінтаксісу. Шауляй, 1974, на літ. мове), «Асаблівасці дзеяслоўных форм у «Апостале» Ф. Скарыны» (Беларуская лінгвістыка. 1975. Вып. 7), «Некаторыя асаблівасці займеннага скланення ў Апостале Ф. Скарыны» (Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1975. № 5), «Некаторыя асаблівасці арфаграфічнай сістэмы Апостала Ф. Скарыны 1525 г.» (Беларуская лінгвістыка. 1982. Вып. 21). А. паказала, што на царк.-слав. мову *«Апостала»* ў значнай ступені паўплывала бел. мова. Гэта выяўляецца як у арфаграфіі, так і ў сістэме форм зменных часцін мовы — назоўніка, займенніка, прыметніка і дзеяслова. Вывучэнне моўных асаблівасцей «Апостала» правяла ў параўн. з тэкстам *«Астрожскай біблії»* 1581, якая ў свой час лічылася эталонам царк.-слав. мовы ўсх. славян. Выявіла, што ў «Астрожскай біблії», выдадзенай больш чым на паўстагоддзе пазней за «Апостал» С., больш архаізаваны тып царк.-слав. мовы. Статыст. метад даў магчымасць наглядна бачыць суадносіны ў мове С. паміж традыц. царк.-слав. формамі і новаўтварэннямі пад уздзеяннем бел. мовы, паказаць, што бел. моўныя рысы ў тэксце «Апостала» выкарыстоўваюцца нераўнамерна, арфаграфічныя правілы ўжывання літар у помніку ў асн. адпавядаюць правапісным нормам бел. літаратурнай мовы пач. 16 ст.; марфалаг. рысы выступаюць па-рознаму: адны з іх праведзены паслядоўна і маюць значэнне асн. нормы, другія можна вызначыць як варыянтныя, трэція маюць спарадычны характар. Выяўлены даследчыцай бел. моўны матэрыял у «Апостале» пацвярджае выказаную раней вучонымі думку аб існаванні зах.-рус. (бел.) варыянта агульнаслав. (царкоўна-слав.) літаратурнай мовы ў межах рус. рэдакцыі і падахвочвае да далейшага даследавання ўсёй сукупнасці помнікаў, што бытавалі ў паўд.-зах. Русі ў часы С.

*А. І. Жураўскі.*

**АРХІТЭКТУ́РА БЕЛАРУ́СІ** ў 15—16 ст. Фарміраванне арх. аблічча нас. мясцін на бел. землях праходзіла ў складаных гіст. умовах — з 2-й пал. 13 да канца 14 ст. тэр. сучаснай Беларусі ўваходзіла ў *Вялікае княства Літоўскае.* А. Б. мела шмат агульнага з манум. дойлідствам інш. тэрыторый Стараж. Русі, адначасова адчувала ўплыў польск., а таксама заходнееўрап. сярэдневяковай архітэктуры. Пры гэтым бел. дойлідства не растварылася ў культуры інш. народаў і захавала свае самабытныя, нацыянальныя рысы.

Развіццё рамеснай вытворчасці і гандлю садзейнічала росту гарадоў, якія былі эканам. і культ. цэнтрамі. Гарады падзяляліся на вольныя і прыватнаўладальніцкія. Вольныя гарады (*Гродна, Віцебск, Полацк* і інш.) вылучаліся значнай тэрыторыяй і развітай планіровачнай структурай (гл. *Беларускі горад* у 15—16 ст.). Існавала таксама вял. колькасць мястэчак, якія займалі прамежкавае становішча паміж горадам і вёскай. У 15—16 ст. многія гарады і мястэчкі атрымалі самакіраванне (магдэбургскае права).

Планіровачная структура большасці гарадоў была веерна-радыяльнай. Сетка вуліц мела свабодныя абрысы і фарміравалася ў адпаведнасці з рэльефам мясцовасці. Вуліцы, якія звычайна пераходзілі ў загарадныя дарогі, сыходзіліся да замка, пабудаванага на месцы стараж.

дзядзінца і гандл. плошчы, якая з'яўлялася грамадскім цэнтрам пасялення. Далейшае развіццё сеткі вуліц прывяло да з'яўлення асобных папярочных напрамкаў, якія злучалі радыусы. Гарадскія кварталы і плошча мелі няправільныя ў плане абрысы, у цэнтр. частцы квартала былі дробныя, да перыферыі яны ўзбуйняліся. Забудова гандл. плошчы складалася з ратушы, гандл. радоў, культавых будынкаў, жылых дамоў заможных гараджан. У Магілёве, Пінску, Крычаве і інш. гарадах плошча гістарычна склалася перад замкам. У Гродне, Мінску, Навагрудку і інш. гарадах плошча сфарміравалася на некат. аддаленні ад замка, што характэрна для заходнееўрап. сярэдневяковага горадабудаўніцтва. Плошча з замкам злучалася вуліцай. У шэрагу гарадоў замак будаваўся за межамі горада (Мір, Ружаны, Нясвіж і інш.). На архітэктурна-планіровачную структуру ўплывалі абарончыя збудаванні, якія складаліся з равоў і земляных валоў з крапаснымі сценамі і вежамі. У гарадах без знешніх умацаванняў абарончую сістэму меў толькі феад. замак (Навагрудак, Слонім, Ружаны, Кобрын і інш.). Гарады са знешнімі ўмацаваннямі, акрамя замка, мелі адзін або два паясы ўмацаванняў, якія займалі значныя тэр. (Магілёў, Віцебск, Пінск, Полацк і інш.). У шэрагу гарадоў (Пінск, Магілёў) фарміравалася радыяльна-паўкальцавая планіровачная сістэма, абумоўленая крывалінейнымі ў плане паясамі ўмацаванняў. На перасячэнні асн. вуліц з лініямі ўмацаванняў размяшчаліся манументальныя абарончыя брамы-вежы. Культавыя збудаванні размяшчаліся ў вузлавых месцах планіровачнай структуры, на важных горадабудаўнічых участках. Многія з храмаў будаваліся на месцах стараж. цэркваў, што сведчыла пра стабільнасць размяшчэння акцэнтаў прасторавай кампазіцыі горада. Планіроўка гарадоў адпавядала сістэме гандл. шляхоў, была гарманічна звязана з прыродным ландшафтам. У канцы 16 ст. на Беларусі пачалося шырокамаштабнае каменнае будаўніцтва ў прыватнаўладальніцкіх гарадах (Нясвіж, Быхаў, Слуцк, Любча). Пад уплывам заходнееўрап. архітэктуры стылю рэнесанс і барока з удзелам італьян. майстроў была



Да арт. **Архітэктура Беларусі.** Маламажэйкаўская царква-крэпасць. 1-я пал. 16 ст.



Да арт. **Архітэктура Беларусі.** Смаргонскі кальвінскі збор.

Да арт. **Архітэктура Беларусі.** Ружанскі палацавы комплекс. 16—18 ст.



сфарміравана прасторава-планіровачная кампазіцыя гэтых гарадоў. Напр., план асн. часткі Нясвіжа быў блізкі да квадрата з прамавугольнымі кварталамі, прамавугольнай плошчай у цэнтры. План Быхава ўяўляў сабой паўкруг, падзелены на 2 часткі вялікай выцягнутай плошчай. Гарады былі абнесены сістэмай земляных умацаванняў геам. правільных абрысаў, якія ўключалі валы з бастыёнамі і равы з вадой. Найб. магутнай крэпасцю быў Слуцк, тэрыторыя якога складала 120 га. План горада прыбліжаўся да круга, перасечанага па дыяметры р. Случ. Характэрнай асаблівасцю было выдзяленне гал. вузла сістэмы абароны, размешчанага ў поясе гарадскіх умацаванняў. Сілуэт ґарадоў 15—16 ст. фарміраваўся крапаснымі сценамі і вежамі, манументальнымі палацавымі пабудовамі, буйнымі аб'ёмамі культавых будынкаў і ратуш, увенчаных вертыкалямі, вежаў. Розныя па абрысах стромкія дахі — двухсхільныя шатровыя, конусападобныя і інш.— вызначалі гатычны характар сілуэта гарадоў (гл. *Готыка* на Беларусі). Разнастайнасць у сілуэт уносілі асобныя купальныя рэнесансавыя формы. Асн. збудаванні, дзякуючы значнай вышыні і развітаму аб'ёмна-пластычнаму рашэнню, стваралі кантраст больш нізкай жыллёвай забудове, чым у многім вызначаліся маст. якасці гарадскога сілуэта.

Асн. тыпам сельскіх паселішчаў на Беларусі ў 15—16 ст. былі вёскі і сёлы з бессістэмнай, лінейнай або радковай планіроўкай (гл. *Беларуская вёска* ў 15—16 ст.). У сёлах, большых за вёскі, размяшчаліся сядзібы феадалаў і царква, з развіццём гандлю вызначалася гандл. плошча. Радковая планіроўка была абумоўлена наяўнасцю берагоў рэк і азёр, уздоўж якіх складвалася пасяленне. Сялянскія сядзібы характарызаваліся вяночным або пагонным тыпам планіроўкі. У вяночным двары ўсе пабудовы згрупаваны ў прамавугольны ў плане «вянок». У пагонным двары хата размяшчалася тарцом або вуглом да вуліцы, а за ёй у адну лінію ставіліся гасп. пабудовы. Сялянскія гаспадарчыя збудаванні падзялялі на 3 групы: складскія, пабудовы для жывёлы — хлявы, вытворчыя пабудовы для сушкі, малацьбы і інш. Сярод вытворчых збудаванняў своеасаблівай архітэктурай вызначаліся млыны.

Да часу С. замкавае дойлідства Беларусі ўжо прайшло складаны шлях развіцця. Існавалі замкі, пабудаваныя на ўзгорках і ў нізінах, дзе непрыступнасць стваралася сістэмай валоў і абвадnення, балоцістай мясцовасцю. Замкі на раўніннай тэрыторыі былі рэгулярныя ў плане: Аршанскі, Лідскі, Крэўскі, Мірскі, Геранёнскі (гл. адпаведныя арт.), пазней Казьянскі (Шумілінскі р-н), Сітнаўскі (Лёзненскі р-н), Красны (Ушацкі р-н), Тураўлянскі і Сокал (Полаччына). Крэпасці на ўзгорках мелі няправільныя, складаныя абрысы, звязаныя з рэльефам мясцовасці (Навагрудак, Гродна, Полацк, Радашковічы). Вежы

дасягалі значнай вышыні і былі прамавугольнымі, васьміграннымі ці круглымі ў плане. У 16 ст. ў шэрагу замкаў яшчэ захаваліся вежы-данжоны — найбольш высокія круглыя накшталт *Камянецкай вежы* 13 ст. (Гродна, Полацк). Замкі часоў С. мелі рысы гатычнай архітэктуры: крыжовыя скляпенні, часта з нервюрамі, аконныя, часам і дзвярныя праёмы стральчатых абрысаў (вароты гал. уязной вежы ў Навагрудскім замку). Побач з гатычнымі асаблівасцямі прасочваліся рысы раманскай архітэктуры — паўцыркульныя аркі, стрыманасць у прымяненні дэталей *(Лідскі замак)*. Багатым, разнастайным дэкорам вежаў у выглядзе ніш і арнаментальных паясоў, выкарыстаннем пабеленых дэкар. элементаў у спалучэнні з чырвонай цэглай адметны быў *Мірскі замак*. У 2-й пал. 16 ст. стыль рэнесанс атрымлівае распаўсюджанне ў палацава-замкавай архітэктуры. Становіцца тыпавым спалучэнне традыц. сістэмы ўмацаванняў з палацам, размешчаным унутры іх. Характэрныя рысы Гродзенскага Старога замка, рэканструяванага ў 1580-я г. па праекту італьян. архітэктара Скота з Пармы,— дэкаратыўны атык, вокны, абрамленне тонкімі ліштвамі, эркеры з фігурнымі завяршэннямі. Будынак быў узведзены на ўзор раскошнага палаца. Формы архітэктуры Адраджэння мелі замак у Смалянах, Рагачоўскі палац, адметны выразнай арачнай галерэяй-лоджыяй. Замкі ў Геранёнах (канец 15 — пач. 16 ст.) і Нясвіжы (канец 16 ст.) з'яўляюцца прыкладамі будаўніцтва на нізкім рэльефе з развітай сістэмай земляных валоў і равоў, выкарыстаннем вадаёмаў. Па сваіх архітэктурна-планіровачных вартасцях яны адпавядалі прагрэсіўным узорам заходнееўрап. фартыфікацыйнага майстэрства. Рысы крапасной манументальнай архітэктуры ў часы С. набылі многія культавыя збудаванні. Храмы мелі масіўныя сцены, вежы, байніцы, у шэрагу выпадкаў абносіліся землянымі валамі. Асобную групу складаюць храмы абароннага тыпу (*Сынковіцкая царква-крэпасць*, Зэльвенскі р-н; Маламажэйкаўская, Шчучынскі р-н), якія маюць прамавугольны трохнефавы план з адной або трыма апсідамі і чатырма крапаснымі вежамі па вуглах. Высокі дах з вострым вільчыкам, спічастыя аркі праёмаў у Сынковіцкай царквы, узорчатыя скляпенні — гатычныя формы. Высокія шчыты гал. фасадаў багата дэкарыраваны шматлікімі нішамі разнастайнай формы. Абодва храмы маюць выразныя самабытныя рысы і служаць характэрнымі прыкладамі архітэктуры Беларусі часоў С.

Сярод культавых будынкаў гэтага перыяду — *Ішкалдскі Троіцкі касцёл*, які вызначаўся арыгінальнай формай гатычнага шчыта і ступеньчатых контрфорсаў, Навагрудская Барысаглебская царква, Гнёзнаўскі касцёл, Чарнаўчыцкі Троіцкі касцёл з элементамі абарончай архітэктуры. Контрфорсы ў культавых пабудовах адыгрывалі больш дэкаратыўную, чым канструкцыйную, ролю і былі адметны разнастайнасцю форм — плоскія, ступеньчатыя, лекальныя. Адна з асаблівасцей гатычнай архітэктуры на тэр. Беларусі — адсутнасць тыповага для гэтага стылю ў Зах. Еўропе выяўленага вертыкалізму кампазіцый. У стылі рэнесансу ўзведзены Прэабражэнская царква са шмат'яруснай вежай у Заслаўі і дэкараваны атыкам храм у Смаргоні. Ранняе барока прадстаўляе касцёл у Нясвіжы, пабудаваны ў 1584—93 Дж. М. Бернардоні пад уплывам творчасці выдатных італьян. дойлідаў Дж. да Віньёла і Дж. дэла Порта, езуіцкі касцёл у Гродне канца 16 ст. Масавая жылая забудова гарадоў была дастаткова шчыльнай, дамы арыентаваліся гал. фасадамі на вуліцу. На ўскраінах дамы размяшчаліся свабодна. Большасць будынкаў былі драўляныя з двухсхільнымі дахамі; часам будынкі ставіліся на падклець. Пашыранымі былі некалькі тыпаў жылля: аднакамерная хата; аднакамерная з невял. прырубам для гасп. патрэб; двухкамерная, злучаная сенцамі, накрытая агульным дахам; двухкамерныя, у якіх да падоўжанага зруба ставіўся пад прамым вуглом другі, больш кароткі; харомы, якія ўяўлялі сабой ускладнены папярэдні тып хаты з ганкамі, абхаднымі галерэямі і вежамі з разнастайным завяршэннем.

Архітэктура 15—16 ст. адлюстравала развіццё сац.-эканам. феад. адносін, спрыяла развіццю грамадскай думкі і культуры. Яна характарызавалася ростам гарадоў, развіццём перадумоў далейшай планавай горадабудаўнічай дзейнасці, вял. разнастайнасцю тыпаў будынкаў. Побач з стылявымі напрамкамі, агульнымі для зах.-еўрап. культуры эпохі сярэднявечча, сфарміраваліся самабытныя для бел. зямель архітэктурныя формы.

*Літ.:* Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. Спб., 1855; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. Спб., 1905; Всеобщая история архитектуры. Т. 6. Архитектура России, Украины и Белоруссии. XIV — первая половина XIX в. М., 1968; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. Т. 1 (Дооктябрьский период). 3. изд. Мн., 1985; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972; Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. [Т. 1—6]. Мн., 1984—87.
*Ю. У. Чантурыя.*

**АРЦЕ́МІЙ** (г. н. невяд.— пач. 1570-х), рускі царк. дзеяч і публіцыст, адзін з ідэолагаў несцяжацеляў. У 1550-я гады выступіў з ерэтычным вучэннем, у якім асуджаў царк. землеўладанне, прывілеі духавенства, крытыкаваў царк. абраднасць. Прапаведаваў маральнае самаўдасканаленне, любоў да ведаў, цярпімасць да ерэтыкоў. Ерась А. мела памяркоўны характар. За свае погляды быў адлучаны ад царквы і сасланы ў Салавецкі манастыр. Каля 1554—55 уцёк на Беларусь. Спачатку жыў у Віцебску, потым пасяліўся ў князя Юрыя Юр'евіча Алелькі. Займаўся перакладам кніг рэліг. зместу на царк.-слав. мову, выкладаў багаслоўе ў школе пры двары князя. А. належаць 14 пасланняў, напісаных бел. паўуставам. У пасланнях Івану Грознаму А. выступае за пашырэнне пісьменнасці сярод рус. народа, раіць цару звяртаць больш увагі на развіццё навукі і адукацыі. На Беларусі ён адыходзіць ад сваіх ерэтычных поглядаў і па асн. дагматычных пытаннях набліжаецца да афіц. вучэння правасл. царквы. А. быў асабіста знаёмы з Сымонам *Будным*. Знаёмства, магчыма, адбылося, калі абодва жылі ў Слуцку. А. вёў перапіску з Будным, што пэўным чынам паўплывала на станаўленне рэліг.-філас. дактрыны апошняга. У адрозненне ад С. А. лічыў, што кнігі Свяшчэннага пісання даступныя простым людзям і на царк.-слав. мове.

*Літ.:* 132; 249; Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (Вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970.
*Я. Н. Мараш.*

**АРШАНСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 14—16 ст. Размяшчаўся ў сутоку Дняпра і Аршыцы на месцы гарадзішча 11 ст. Меў фартыфікацыйнае значэнне на ўсх. рубяжах Вял. кн. Літоўскага. У пач. 16 ст. перабудаваны. Паводле інвентару 1560 быў абнесены драўлянымі абарончымі сценамі (101 гарадня) з 5 драўлянымі вежамі на падмурках стараж. вежаў (вежа-брама мела звон і жалезнае біла). У замку размяшчаліся каралеўскі двор, царква, 28 жылых дамоў. Каля яго на р. Аршыца быў млын. Разбураны цалкам у выніку вайны Расіі з Рэччу Паспалітай у 17 ст. *Ю. А. Якімовіч.*

**АРЫСТАЦЕЛІ́ЗМ** на Беларусі ў 11—16 ст. А.— філас. плыні і школы, у аснове якіх знаходзілася вучэнне *Арыстоцеля*.

Ідэі А. зрабілі моцны ўплыў на айч. гісторыка-філас. працэс і ў прыватнасці на станаўленне і развіццё духоўнай культуры і філас. думкі на Беларусі ў 11—16 ст. У гіст. развіцці А. на Беларусі вылучаюцца наступныя этапы: сярэднявяковы А. (функцыяніраванне арыстоцелеўскіх ідэй на бел. землях у часы Стараж.-рус. дзяржавы і ў пачатковы перыяд гісторыі Вял. кн. Літоўскага 10—15 ст.); А. эпохі *Адраджэння* і *Рэфармацыі* (16— пач. 17 ст.).

Пачатак успрыняцця ідэй А. ва ўсх.-слав., у прыватнасці бел., культуры адносіцца да часу ўвядзення на Русі хрысціянства і пранікнення ва Усх. Еўропу элементаў грэка-візант. і балг. адукаванасці. Грамадска-культ. бытаванне арыстоцелеўскіх ідэй у гэты перыяд вызначаецца фрагментарнасцю, цесным узаемадзеяннем з багаслоўем, сузіральнасцю. Адзін з самых ранніх помнікаў Стараж. Русі, які пазнаёміў усх.-слав. грамадства з прыродазнаўчанавук. і філас. ідэямі Арыстоцеля,— «Шасцідневец» Іаана Экзарха Балгарскага (10 ст.), створаны аўтарам на аснове «Шасціднеўца» візант. багаслова і філасофа Васіля Вялікага, арыстоцелеўскіх твораў і інш. крыніц. У «Шасціднеўцу» ёсць звесткі па астраноміі, геаграфіі, батаніцы, заалогіі, анатоміі і фізіялогіі чалавека і інш., узятыя з прыродазнаўчанавук. твораў Арыстоцеля. Ідэі А. пашыраліся ў Стараж. Русі дзякуючы вял. папулярнасці твораў аднаго з відных візант. мысліцеляў-арыстоцелікаў *Іаана Дамаскіна*, аўтара трактата «Крыніца ведаў», што складаўся з трох частак: «Дыялектыка», «Пра ерасі», «Слова аб праўдзівай веры». «Дыялектыка» была перакладзена на стараслав. мову ў 10 ст. ў Балгарыі, затым пашырылася

16*

на Русі. Яна карысталася шырокім чытацкім поспехам на Беларусі, Украіне, у Расіі, неаднаразова перавыдавалася, напр., каля 1586 у віленскай друкарні Мамонічаў і інш. Філас. крыніцамі «Дыялектыкі» Іаана Дамаскіна былі «Катэгорыі» Арыстоцеля, «Уводзіны ў «Катэгорыі» Арыстоцеля» Парфірыя і інш. Асобныя лагічныя ідэі Арыстоцеля былі змешчаны ў Ізборніку Святаслава 1073. «Ад Арыстоцеля» філасофстваваў таксама Клімент Смаляціч.

З эпохай Адраджэння звязана новая хваля культурна-філас. уплыву антычнасці, у т. л. ідэй А. Асаблівасцю ўспрыняцця А. на Беларусі ў 16 — пач. 17 ст. быў шырокі зварот непасрэдна да твораў Арыстоцеля. Гэта стала магчымым дзякуючы вынаходству кнігадрукавання, інтэнсіўнай перакладчыцка-выдавецкай дзейнасці еўрап. гуманістаў, ідэйна-культурным сувязям з Зах. Еўропай (у 14—16 ст. А. вызначаў філасофію Падуанскай школы). Даволі глыбокаму пранікненню ідэй А. на Беларусь садзейнічалі таксама навучанне некат. часткі моладзі, да якой належаў і С., у замежных ун-тах (Кракаў, Прага, Падуя, Балонья, Вітэнберг, Базель і інш.). Узнікалі пратэстанцкія і праваслаўна-брацкія школы, дзе вывучаліся элементы філасофіі А. Гэты перыяд характарызуецца пераважнай увагай да этычных і паліт. аспектаў А., рэнесансава-гуманіст. (у адрозненне ад сярэдневякова-схаласт.) інтэрпрэтацыяй арыстоцелеўскага вучэння.

У творах С. ўплыў А. асабліва прыкметны. Гэта не выпадкова, таму што ф-т «вольных мастацтваў» *Кракаўскага універсітэта,* які ён скончыў, сучаснікі С. называлі «школай Арыстоцеля». Першы год тут вывучаліся прыродазнаўчанавук. («Фізіка», «Пра душу») і лагічныя [«Першая аналітыка» (вучэнне пра доказ)] творы Арыстоцеля. На другі год студэнты знаёміліся з «Метафізікай», дзе выкладаліся асн. прынцыпы быцця і пазнання А., а таксама з этычнымі і сац.-паліт. трактатамі стараж.-грэч. філосафа («Нікамахава этыка» і «Палітыка»). Спачатку творы Арыстоцеля вывучаліся ў Кракаўскім ун-це на аснове каментарыяў зах.-еўрап. сярэдневяковых філосафаў-схаластаў наміналістычнай або рэаліст. арыентацыі. У 2-й пал. 15 ст. паявіліся навучальныя дапаможнікі кракаўскіх прафесараў-гуманістаў. На погляды С. зрабілі ўплыў ідэі каментарыяў Паўла з Ворчына (к. 1380— к. 1430) да этычнага вучэння Арыстоцеля, у прыватнасці яго думкі аб прымаце грамадска-дзярж. інтарэсаў над індывідуальнымі, аб актыўнай свецкай дзейнасці як вышэйшым дабры і інш. Да пач. 16 ст. этычныя каментарыі Паўла з Ворчына былі афіц. навуч. дапаможнікам на ф-це «вольных мастацтваў». У час вучобы С. ў Кракаве на ф-це «вольных мастацтваў» выкладалі *Ян з Глогава* — каментатар прыродазнаўчанавук. і лагічных прац Арыстоцеля — і *Ян са Стобніцы* — каментатар яго этыка-паліт. твораў. З іх імёнамі звязаны спробы сінтэзу А. з рэнесансава-гуманіст. ідэямі, інтэрпрэтацыі Арыстоцеля на аснове яго ўласных твораў. Многія аспекты светапогляду С. фарміраваліся пад уплывам ідэй А. У адпаведнасці з «Першай аналітыкай» С. трактаваў логіку як вучэнне пра доказ: «она же учить с доводом розознати правду от кривды» (гл. с. 10). Закранаючы асн. анталагічнае пытанне эпохі позняга сярэднявечча — створаны свет богам ці існуе вечна,— С. проціпастаўляў хрысц. канцэпцыю стварэння свету «з нічога» (якую ён апраўдваў) арыстоцелеўскаму вучэнню пра вечнасць і незнішчальнасць матэрыі (якое ён абвяргаў). Відаць, С. прытрымліваўся арыстоцелеўска-пталамееўскай, геацэнтрычнай сістэмы свету. Пра тое, якім аўтарытэтам карыстаўся Арыстоцель у С., сведчыць перакананне яго ў тым, што ў Бібліі скрыта не толькі ўся божая, «Соломонова», але і ўся прыродная, «Аристотелева» мудрасць (гл. с. 46). Пры вырашэнні глабальнай філас. праблемы «чалавек — грамадства» С. ў асн. зыходзіў з этычных і паліт. ідэй А., якія ён спрабаваў сінтэзаваць з гуманістычна пераасэнсаваным хрысц. вучэннем. Гал. прызначэнне чалавека С., як і Арыстоцель, бачыў пераважна ў актыўным грамадскім жыцці, служэнні агульнаму дабру («посполитому доброму»), радзіме, народу. Гэта асн. скарынінская ідэя атрымала далейшае абгрунтаванне ў філас. і грамадска-паліт. думцы Беларусі (Сымон *Будны,* Міхалон Літвін, Андрэй *Волан* і інш.). Істотную ролю ў яе далейшым развіцці адыгралі творы Арыстоцеля «Нікамахава этыка» і «Палітыка». С. падзяляў арыстоцелеўскую ідэю пра тое, што жыццё маральна дасканалага чалавека не патрабуе прававога рэгулявання. Абгрунтоўваючы думку пра прыроднае паходжанне права, С. прыводзіў шэраг крытэрыяў яго сапраўднасці ў адпаведнасці з некат. патрабаваннямі, якія прад'яўляў да заканадаўства Арыстоцель. Напр., ён лічыў, што гал. прызначэнне права — служыць інтарэсам агульнага дабра. Як і Арыстоцель у «Палітыцы», С. пісаў, што ў інтарэсах «пожитку посполитого» неабходна прызначаць такіх службовых асоб, якія б строга прытрымліваліся закона, не бралі хабару, не рабілі свае пасады крыніцай асабістага абагачэння. Услед за піфагарэйцамі, Арыстоцелем, візант. філосафамі С. ў прадмове да «Псалтыра» абгрунтоўваў вучэнне пра музыку і песнапенне, што прыводзяць у стан гармоніі душэўны свет чалавека, ачышчаюць і лечаць чалавечую псіхіку і норавы, г. зн. ён схіляўся да думкі пра выхаваўчую ролю мастацтва. Вял. тэарэт. уплыў зрабілі палітыка-прававыя ідэі А. на заканадаўчую дзейнасць юрыстаў Беларусі і Літвы 16 ст. (Статуты Вял. кн. Літоўскага 1529, 1566, 1588). Арыстоцель у «Палітыцы» сцвярджаў, што ўлада закона — гэта ўлада бога і розуму. Гэту арыстоцелеўскую думку Сапега перафразіраваў у прадмове да Статута Вял. кн. Літоўскага 1588: «А про то он, великий и зацный философ Греческий Арыстотелес поведил, же там бельуа, а по нашому дикое звера, пануеть, где человек водлуг уподобанья // своего владность свою ростегаеть, а где опять право, або статут, гору маеть, там сам Бог всим владнеть» (Лапо І. І. Літоўскі Статут 1588 г. Каўнас, 1938. Т. 2. С. 9—10, на рус. мове). Змест прадмовы Сапегі зводзіўся да паліт. тэзісу А.: дабро грамадзян можа быць гарантавана толькі ў прававой дзяржаве, закону павінны падпарадкоўвацца не толькі падданыя, але і правіцелі. Можна сцвярджаць, што палітыка-прававая навука на Беларусі 16—17 ст. грунтавалася ў асн. на ідэях *Платона,* Арыстоцеля, *Цыцэрона,* пераасэнсаваных у святле патрабаванняў новай эпохі.

Будны, скончыўшы ф-т «вольных мастацтваў» Кракаўскага ун-та, быў добра знаёмы з асн. палажэннямі А. Як і С., ён належаў да ўмерана-гуманістычнага кірунку айч. рэнесансава-гуманіст. сац.-паліт. думкі, які выражаў інтарэсы прагрэсіўнай шляхты і гараджан, усведамляў неабходнасць некат. змен у жыцці грамадства, заклікаў сучаснікаў да ўмеранай сац. актыўнасці. У палітыка-прававой рэфарматарскай дзейнасці ён рэкамендаваў разам з творамі гуманістаў выкарыстоўваць працы стараж.-грэч. філосафаў Платона, Арыстоцеля і інш. Бел. мысліцель-гуманіст Ян Ліцыній Намыслоўскі, аўтар «Дапаможніка для авалодання вучэннем Арыстоцеля» (1586), даказваў памылковасць асн. догматаў *хрысціянства* ў святле арыстоцелеўскай логікі, сцвярджаў вырашальную ролю розуму ў пазнанні прыроднай ісціны, яго істотную ролю ў пазнанні ісціны рэлігійнай. З прыродазнаўчанавук. трактатамі Арыстоцеля быў знаёмы Лаўрэнцій Зізаній. Навукова-філас. ўяўленні рэнесансава-гуманіст. думкі на Беларусі 16—17 ст. базіраваліся не на адным А., хоць апошні і дамінаваў. Альтэрнатывай былі мадыфікаваны эпікурэізм, навукова-філас. ідэі эпохі Адраджэння (Дж. Бруна, Дж. Ваніні, М. Сервет і інш.). Значную ролю адыграў А. у вырашэнні айч. мысліцелямі-гуманістамі, пераемнікамі С., шэрагу этычных праблем — шчасця, індывідуальнага і агульнага дабра, ідэалу і інш. З пазіцый рэнесансавага гуманізму этычныя ідэі Платона, Арыстоцеля, Цыцэрона пераасэнсоўваў Волан, які ў творы «Пра палітычную або грамадзянскую свабоду» (1572) сцвярджаў услед за Арыстоцелем, што сэнс жыцця чалавека ў шчасці. Чалавек трактаваўся ім у адпаведнасці з А. як істота грамадская. Як і С., Волан аддаваў перавагу рэнесансава-гуманіст. канцэпцыі «грамадзянскага абавязку», лічыў, што асн. маральны абавязак чалавека — клопаты аб «агульным дабры». Трактуючы паняцце дабрачыннасці, Волан таксама спасылаўся на Арыстоцеля, аднак сцвярджаў, што «дабрачыннымі не столькі нараджаюцца, колькі становяцца». Абгрунтоўваючы рэнесансава-гуманіст. думку аб прыродным паходжанні права, ён спасылаўся на Арыстоцеля, выкарыстоўваў яго вучэнне пра дыстрыбутыўную і камутатыўную справядлівасць. Зыходзячы з паліт. дактрыны Платона і Арыстоцеля, Волан пісаў аб разумных адносінах да закона. Спрабаваў філасофскі асэнсаваць праблему інтэрпрэтацыі права, звяртаўся да арыстоцелеўскага вучэння пра дыялектыку паняццяў агульнага,

асабістага і адзінкавага. Як і Арыстоцель, лічыў, што агульнае не ў стане выявіць усю разнастайнасць індывідуальна-адзінкавых рэчаў і сувязей паміж імі. Закон павінен карэкціравацца, удасканальвацца, улічваць выпадкі і абставіны, што нараджае рэальнае жыццё. У адпаведнасці з Арыстоцелем трактаваў формы дзярж. улады.

У канцы 16—17 ст. у сувязі з контррэфармацыяй і феадальна-каталіцкай экспансіяй на тэр. Беларусі ўзнікаюць навучальныя ўстановы, заснаваныя рознымі каталіцкімі ордэнамі. У гэты перыяд асновай філас. адукацыі ў каталіцкіх навучальных установах быў схаластызаваны А., які з'яўляўся асновай філас. культуры сярэднявечча. Аднак гэты А. быў ужо мадэрнізаваны, таму што засвоіў некат. ідэі рэнесансавага гуманізму, перапрацаваныя пэўным чынам каталіцкімі філосафамі і тэолагамі-рэфарматарамі (т. зв. «другая схаластыка», у аснове прыродазнаўчанавук. уяўленняў якой былі фіз. ідэі Арыстоцеля).

*Літ.:* 131; 230; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Койре А. В. Очерки истории философской мысли: О влиянии философских концепций на развитие научных теорий. М., 1985; Проблемы истории домарксистской философии: (средневековый способ философствования). М., 1985.

*С. А. Падокшын.*



Арыстоцель.

**АРЫСТО́ЦЕЛЬ** (Aristotélēs; 384—322 да н. э.), стараж.-грэч. філосаф і вучоны-энцыклапедыст. Вучань *Платона,* заснавальнік перыпатэтычнай школы (335), фармальнай логікі. Асн. творы: «Аналітыкі першая і другая», «Катэгорыі», «Топіка» (усе ўвайшлі ў т. зв. «Арганон»), «Метафізіка», «Фізіка», «Гісторыя жывёл», «Пра душу», «Нікамахава этыка», «Палітыка», «Рыторыка», «Паэтыка». Крытыкаваў вучэнне Платона пра ідэі як самаст. сутнасці, адарваныя ад свету пачуццёвых рэчаў. У аснове быцця бачыў 4 пачаткі: форму, матэрыю, крыніцу руху і мэту. Першарухавіком свету і вышэйшай мэтай яго развіцця лічыў бога: тут яго анталогія зліваліся з тэалогіяй, што пазней выкарыстана багасловамі сярэднявечча для рацыяналізацыі рэліг. дагматыкі. У цэлым метафізіка А. насіла аб'ектыўна-ідэаліст. характар. Вял. значэнне мела распрацаваная ім лагічная сістэма, найважнейшая ч. якой — тэорыя сілагізму і доказу. Працэс пазнання разумеў як рух ад адчуванняў да універсалій, паколькі ўсякія навук. веды ёсць веды пра агульнае. Пры класіфікацыі навук падзяляў іх на «тэарэтычныя» (займаюцца самімі ведамі), «практычныя» (этыка і палітыка) і «творчыя» (паэтыка, рыторыка). У касмалогіі стаяў на пазіцыях геацэнтрызму, паводле якога нерухомая Зямля, якая мае форму шара, знаходзіцца ў цэнтры светабудовы. Фізіка А. заснавана на вучэнні пра элементы (агонь, паветра, вада, зямля — зямныя элементы, эфір — нябесны); у жывой прыродзе бачыў мэтазгоднасць, даў апісанне шматлікіх відаў жывёл, спрабаваў класіфікаваць іх. Разглядаючы душу як вышэйшую дзейнасць чалавечага цела, А. вылучыў з яе часткі — «раслінную», «жывёльную» і «розум» (апошнюю лічыў неразбуральнай). Яго этычнае вучэнне разглядае маральныя паводзіны чалавека ў сувязі з закладзеным у ім імкненнем да дабра. Найвышэйшым дабром, або шчасцем, лічыў разумную дзейнасць па ажыццяўленню дабрачыннасцей, прыярытэт аддаваў сузіральна-філас. заняткам, найб. свабодным ад жыццёвых турбот. Аднак калі лёс мудраца — ідэал, то людзі павінны імкнуцца да грамадска-карыснай дзейнасці, грамадзянскай актыўнасці, служэння агульнаму дабру. Паводле паліт. поглядаў быў выразнікам поліснай ідэалогіі: мэта дзяржавы — забеспячэнне шчаслівага жыцця грамадзян, выхаванне ў іх маральных дабрачыннасцей. «Добрымі» формамі дзярж. улады лічыў арыстакратыю, манархію і палітыю (улада сярэдняга класа), «дрэннымі» — тыранію, алігархію і дэмакратыю. Цэнтральным у паліт. дзейнасці прызнаваў прынцып справядлівасці і агульнага дабра. У эстэт. трактатах развіў тэорыю мастацтва, якая збліжалася з рэалізмам, вучэнне пра маст. дзейнасць. Вучэнне А., якое К. Маркс называў вяршыняй стараж.-грэч. філасофіі, аказала моцнае ўздзеянне на наступнае развіццё сусв. філас. думкі.

Ва ўсх.-слав. землях знаёмства з ідэямі А. пачалося ў часы Кіеўскай Русі разам з пранікненнем помнікаў грэка-візант. і балг. пісьменнасці, патрыстычнай л-ры. Урыўкі з твораў А. ўключаліся ў рукапісныя зборнікі, якія ў 14—15 ст. пашыраліся на Беларусі. Цікавасць бел. грамадскай думкі да вучэння А. рэзка ўзмацнілася ў эпоху Адраджэння. Творы А. паявіліся ў бел. б-ках. Гэтаму садзейнічала растучая колькасць выхадцаў з усх.-слав. зямель, што вучыліся ва ун-тах Зах. Еўропы. Там схаластызаванае вучэнне А. складала аснову навучання. Першае сур'ёзнае знаёмства С. з ідэямі А. адбылося ў Кракаўскім універсітэце, дзе ён вучыўся на ф-це «вольных мастацтваў». Пазней, працягваючы адукацыю, С. значна паглыбіў свае веды пра вучэнне А., асабліва яго прыродазнаўчанавук. часткі. Гэта было абавязковай умовай для саіскальнікаў вучонай ступені доктара мед. навук, якую С. атрымаў пасля спец. экзамена ў Падуанскім ун-це (1512). Уплыў ідэй А. на мысленне С. быў рознабаковым і выразна выявіўся ў яго творах. С. так высока цаніў «Аристотелеву мудрость», што ставіў яе нараўне з боскай, «Соломоновой» (гл. с. 46). У гэтым адначасова выяўляецца і разуменне вечнага значэння энцыклапедычнай спадчыны А. і рэнесансава-гуманіст. імкненне рацыянальна-асветніцкі вытлумачыць «библейскую мудрость». Водгукі ідэй А. назіраюцца ў поглядах С. на важную ролю логікі ў фарміраванні правільнага мыслення (гл. с. 10), у даверы да жыццёвага вопыту як крыніцы ведаў і адначасова ў прызнанні практ. прызначэння розуму, «абы, научившися мудрости» людзі «добре живучи на свете» (гл. с. 10). Пры роздуме над праблемай паходжання свету, якая глыбока хвалявала мысліцеляў эпохі Адраджэння, С. зноў звяртаўся да касмалогіі А., параўноўваючы яе з артадаксальна-хрысц. догматам: «Кто убо от философов мог поразумети, абы господь бог словом своим с ни з чего сотворил вся видимая и невидимая, [по] старейшине их Аристотелю глаголющу: «З ни с чего ничто же быть» (гл. с. 105). С. бачыў у А. перш за ўсё «старейшину» філосафаў, а не апору хрысц. тэалогіі і сродак рацыяналізацыі рэліг. канона. С. ішоў уразрэз не толькі з традыцыяй сярэднявечча, але і з тымі рэнесансавымі гуманістамі, якія атаясамлівалі вучэнне А. з перыпатэтычнай схаластыкай. Уплыў ідэй А. адчуваецца ў этычных і сац.-паліт. поглядах С. Лічачы гал. прызначэннем чалавека ўдасканаленне зямнога жыцця, ставячы ў цэнтр праблему «яко ся имамы справовати и жити на сем свете» (гл. с. 33), С. надзейны сродак яе вырашэння бачыў у росце мудрасці, развіцці інтэлекту, пашырэнні ведаў і таму ўсе сілы накіроўваў для «розмножения мудрости, умения, опатрености, разуму и науки» (гл. с. 46). Як і А., ён лічыў мэтай дзярж. дзейнасці дабрабыт грамадзян, каб «был мир и покой по вся времена царства» (гл. с. 33), а яе прынцыпамі — справядлівасць і агульнае дабро: «Справедливе, что справедливаго ест чините, абы есте живи были и владели землею» (гл. с. 100). На гэтым павінна быць заснавана заканадаўства, адступленне ад якога С., як і А., лічыў найвялікшым злом (гл. с. 101). Ставячы ўслед за А. грамадскае дабро вышэй асабістага, С. больш рашуча, чым стараж.-грэч. філосаф, ставіў патрыятызм на ўзровень вышэйшых чалавечых дабрачыннасцей. Любоў да Радзімы і бескарыснае служэнне свайму народу, «людем посполитым» яскрава характарызуюць гуманіст. светапогляд С.

Гл. таксама арт. *Арыстацелізм* на Беларусі ў 11—16 ст.

*Літ.:* 131; 230; Александров Г. Ф. Аристотель: (Философские и социально-политические взгляды). М., 1940; Зубов В. П. Аристотель. М., 1963; Лосев А. Ф. История античной эстетики: Аристотель и поздняя классика. М., 1975; Аристотель и античная литература. М., 1978; Чанышев А. Н. Аристотель. М., 1981; Васильева Т. В. Афинская школа философии. М., 1985.

*Г. У. Грушавы, Ю. А. Лабынцаў.*

**«АСА́ДА ІЕРУСАЛІ́МА»**, «Навходоносор царь вавилонский добыве Ерусалима», гравюра на тытульным лісце 4-й кн. «Царствы» (гл. *Кнігі «Царствы»*), выдадзенай С. у Празе (1518).

У аснове сюжэта гравюры — заваяванне навававілонскім (халдзейскім) царом Навуходаносарам II у 597 да н. э. Іудзейскага царства. Змест гэтай падзеі С. пераказаў у прадмове да 4-й кн. «Царствы».

На гравюры (105×105 мм) мадэрнізаванае адлюстраванне бітвы ля сцен Іерусаліма. У. Стасаў, Дз. Равінскі і інш. лічылі гэту гравюру адной з лепшых у выданнях С. Яна ўспрымаецца завершанай ва ўсіх дэталях кампазіцыяй. Штрыхоўка лаканічная, выразная; цені ад коннікаў на зямлі зроблены гарызантальнымі паралельнымі штрыхамі, якія падкрэсліваюць рух, напружанне барацьбы. Гэтаму садзейнічаюць і яркія водбліскі святла на зямлі, дзякуючы якім добра відаць сілуэты коннікаў. На заднім плане па-майстэрску намаляваны і награвіраваны выразны арх. від горада з гатычнымі будынкамі. Два сцягі з гербамі трымаюць конныя воіны з правага боку. На адным з іх люстраная выява гербасігнета С., на другім (амаль у цэнтры кампазіцыі) — выява змяі (вужа). Гербсігнет С., які ёсць і на шэрагу інш. гравюр, можна растлумачыць праблемай «аўтарскіх правоў». Гравюра спецыяльна зроблена для выданняў С. (у гэтым пераконвае і адпаведнасць яе памераў люстру набору). М. М. Шчакаціхін са спасылкай на Б. Папроцкага меркаваў, што выява змяі — адзін з італьян. гербаў роду каралевы Боны, з якой вял. кн. літоўскі Жыгімонт I ажаніўся ў 1518 (у гэтым жа годзе выйшла кн. «Царствы»).

Гравюра «А. І.» належыць да найб. мастацкіх дрэварытаў у выданнях С. У мініяцюрах бел. рукапісаў гэты сюжэт не адлюстраваны. Невядомы ён і пасляскарынінскай графіцы. Па тэхніцы гравіроўкі (часткова па кампазіцыі) гравюра набліжана да ілюстрацыі з кн. «Трактат», які называецца «Pănrady» (1505) пражскага друкара П. Севярына. Паводле С. Александровіча, яна самастойная і больш дасканалая ў параўнанні з чэш. ілюстрацыяй.

*Літ.:* 390; 564; 792.

*У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**«Асада Іерусаліма».** Гравюра з тытульнага ліста 4-й кнігі «Царствы» Ф. Скарыны.



**АСВЕ́ТА** на Беларусі да 16 ст. Дзейнасць С. мае глыбокія перадумовы ў культуры бел. земляў, пачынаючы з часу Старaж. Русі (гл. *Усходнеславянская культура* 10—15 ст.).

Культура Стараж. Русі ўспрыняла духоўныя каштоўнасці Візантыі, потым узбагацілася агульнай усх.-слав. пісьменнасцю, л-рай. Пачатак слав. пісьменнасці паклалі ў сярэдзіне 9 ст. Кірыл і Мяфодзій, якія стварылі слав. азбуку і пераклалі на стараслав. мову некат. богаслужэбныя кнігі і тым самым заклалі аснову слав. пісьмовай культуры. У гэты час значную ролю адыгрывалі граматы, летапісы, запісы гаспадарскага сэнсу, пазней жыціі. Папярэднікамі С. ў асветнай справе былі *Ефрасіння Полацкая,* якая перапісвала кнігі, пісьменнік, прапаведнік і майстар аратарскай прозы Кірыл Тураўскі (1130—82), царкоўны дзеяч, пісьменнік і мысліцель Клімент Смаляціч. Археал. знаходкі ў розных гарадах Беларусі (берасцяныя граматы, прылады для пісьма, металічныя засцежкі ад пераплётаў кніг і інш.) сведчаць пра высокі тагачасны ўзровень пісьменнасці, асабліва ў Полацку. У стараж.-рус. перыяд пашыраліся (захоўваліся да эпохі С.) рукапісы розных «свяшчэнных» кніг — «Чэцці Мінеі» (месячныя дыдактычныя чытанні), «Пацерыкі» (кнігі пра патрыярхаў і айцоў царквы і інш.), вольныя пераклады *«Александрыі»,* «Троі» і інш. Калі ў 13 ст. на землях Русі працягвалася паласа феад. смуты і адбылося нашэсце мангола-татараў, на бел. землях не перарываліся сувязі са стараж.-рус. культурай, л-рай, пісьменнасцю.

У 14—15 ст. з'явіліся падставы для інтэнсіўнай кансалідацыі ўсх.-слав. элементаў на зах.-рус. землях. У Вял. кн. Літоўскім бел. мова была афіцыйна прызнана дзяржаўнай, што спрыяла яе развіццю і ўдасканаленню, узнікненню рэгіянальнай бел. А. і пісьменнасці. Актыўна перапісваліся Біблія, Евангелле, Псалтыр (напр., Лаўрышаўскае, Аршанскае, Полацкае, Друцкае, Мсціжскае і інш. евангеллі). Узнікла свецкая л-ра, распаўсюджваліся бел.-літоўскія летапісы. Вялікае культ.-асв. значэнне мелі *Статут Вялікага княства Літоўскага 1529,* і статуты 1566, 1588. У 2-й пал. 15 ст. з'явіліся творы панегірычнага жанру («Пахвала Вітаўту», «Пахвала гетману Астрожскаму» і інш.). Элементы А. прысутнічалі ў нар. жыцці, светасузіранні, фальклоры (эпас, песні, прымаўкі, загадкі, казкі). Народная творчасць уздзейнічала на А. не толькі ў «моўных» формах, але і ў жывапісных, дойлідных, музычных. Невычарпальныя скарбы нар. А. выяўляліся ў некат. перадскарынінскіх творах. Значную ролю адыгрывалі стараж.-рус. зборнікі афарызмаў і цытат з твораў антычнасці («Златоструй», «Ізмарагд», «Пчала»), кнігі прыродазнаўчага і філас. зместу, напр., «Фізіялогія», «Талковая Палея», «Арыстоцелева брама». Гал. месца ў кніжна-рукапіснай спадчыне займалі канфесіянальныя творы. Аднак на Беларусі былі вядомы маст. і філас. творы аўтараў антычнасці, зах.-еўрап. сярэднявечча і Адраджэння (Дэмакрыта, Саркрата, Эпікура, Арыстоцеля, Плутарха, Пталамея II Філадэльфа, Васіля Вялікага, Дыянісія Арэапагіта, Іаана Дамаскіна і інш.). Узніклі выдатныя бібліятэчныя сховішчы

(магнацкія, мяшчанскія, купецкія) у Навагрудку, Полацку, Любчы і інш. Пэўны ўплыў на станаўленне А. на Беларусі аказваў культ. скарб наўгародскіх, пскоўскіх і маскоўскіх кніжнікаў. Гл. таксама арт. *Кніжныя зборы* на Беларусі ў 15—16 ст.

У пач. 16 ст. вял. ролю ў развіцці А. адыграў С., у дзейнасці якога атрымалі развіццё традыцыі *вальнадумства,* нар. утопіі, *гуманізму.* Разам з тым ён блізка быў знаёмы з зах.-слав. і зах.-еўрап. асветніцка-рэнесансавымі плынямі, што адбіліся ў шэрагу фундаментальных ідэй духоўнай скарбніцы С.— ідэі чалавечай годнасці, высокай ацэнкі інтэлектуалізму, ідэалу розуму і мудрасці. Асветніцкія рэнесансавыя пазіцыі С. выявіліся ў пытаннях суадносіны веры і розуму, навукі і рэлігіі. Нягледзячы на тое, што С. лічыў хрысц. трактоўку свету ісціннай, ён схіляўся, як і ўсе асветніцкі арыентаваныя філосафы, да таго, каб размежаваць веды і веру, а не абгрунтоўваць веру рацыянальна (як Фама Аквінскі і інш.). Скарынінская інтэрпрэтацыя ролі Біблії ў асвеце «люду паспалітага» сведчыць аб яе свецкай накіраванасці. Біблія выкарыстоўвалася ім як сродак набыцця граматы простым народам, г. зн. асв. дзейнасць С. набывала дэмакратычны характар. У прадмове да ўсёй «Біблії» даецца пералік «навук вызваленых» (гл. *«Сем вольных мастацтваў»),* ведаць якія неабходна чалавеку. Апісанне гэтых навук на мове «рускоі» было значнай асв. акцыяй. Але С. не абмяжоўваецца Бібліяй. Ён прызнае, што, акрамя Біблії, існуюць «иные теже писма и права или уставы», якія «людскими пилностями пописаны были» (гл. с. 65) — створаны стараж. грэкамі і рымлянамі (Лікург, Нума Пампілій, Салон і інш.). «И тым теж обычаем,— працягвае гэту думку С.,— инии цари или люди мудрые иным народом неякии книги, письма, уставы, права, науку или закон оставити суть» (там жа). На прыкладзе «милосников науки и мудрости» Ісуса Сірахава, Пталамея II Філадэльфа, *Саламона* ён сцвярджаў ідэал асветніка, мудраца, чалавека, здольнага да кіравання душамі людзей для дабра і гуманнасці. Значным укладам у станаўленне А. на Беларусі былі думкі С. пра навучанне моладзі і яе выхаванне. Ён раіў навучаць дзяцей на роднай мове, у духу адданасці радзіме, спалучаць вучэнне і імкненне да працы (гл. таксама *Асветніцкая і педагагічная дзейнасць Ф. Скарыны*). Асветніцкая абмежаванасць, уласцівая С., выявілася, напр., у яго утапічных сац.-паліт. поглядах (ідэал асветніка-манарха, мудраца на троне, упэўненасць у паляпшэнні жыцця выключна асв. мерапрыемствамі і інш.). Ён быў перакананы, што ідэальны закон — аснова ўсіх форм дзярж. і грамадзянскага права (прадмова да кн. «Другі закон»). Выданні С. адыгралі вял. ролю ў справе А. на Беларусі. Як усх.-слав. асветнік С. аказаў уплыў на ўвесь слав. рэгіён. Кнігі С. выкарыстоўваліся ў брацкіх, рэфармацкіх і інш. школах Беларусі. На вопыт выданняў С. непасрэдна абапіраўся Лаўрэнцій Зізаній, напр., у тлумачэнні слоў, у выкарыстанні скарынінскіх шрыфтоў у «Азбуцы» і інш. Для маст. афармлення вучэбнай кнігі выкарыстоўваліся застаўкі і ініцыялы выданняў С. (напр., еўеўскі «Буквар» і інш.). Творы С. шырока распаўсюджваліся ў рукапісах (гл. *Скарынінская спадчына ў рукапісах яго паслядоўнікаў на Украіне*). Ёсць меркаванне, што выдатныя рус. асветнікі і першадрукары навучаліся друкарскай справе на Беларусі. Нават у 17 ст. адчуваецца ўздзеянне С. на «Буквары» Спірыдона Собаля, творы Сімяона Полацкага, у б-цы якога былі выданні С. (гл. *Скарына і пачатак кнігадрукавання на Украіне*). Друкарні, якія выдавалі кнігі *кірыліцай*, абапіраліся на вопыт гэтых выданняў (гл. *Кірыліцкае кнігадрукаванне* на Беларусі 16—18 ст., *Культура Беларусі* ў канцы 15—1-й пал. 16 ст.).

*Літ.:* 39; 130; 131; 204; 232.

*Э. К. Дарашэвіч.*

**АСВЕ́ТНІЦКАЯ І ПЕДАГАГІ́ЧНАЯ ДЗЕ́ЙНАСЦЬ Ф. СКАРЫ́НЫ.** Асн. крыніцай вывучэння грамадска-паліт., філас. і маральна-этычных поглядаў С. з'яўляюцца яго *прадмовы*, змешчаныя ў кожнай з выдадзеных ім кніг. З прадмоў відаць, што выданнем біблейскіх кніг С. ставіў перад сабой перш за ўсё асветніцкія, а не багаслоўныя мэты. Ён настойліва падкрэслівае мэту сваёй літаратурнай і выдавецкай дзейнасці — паслужыць простым людзям, памагчы ім пазнаць мудрасць і навуку, «абы научившыся мудрости, добре жили на свете». С. быў добра знаёмы з тагачаснай заходнееўрап. сістэмай адукацыі. Усе свае выданні С. ў першую чаргу і разглядаў як асн. дапаможнікі па гэтых прынятых там сямі «вольных навук». Сваю асветніцкую дзейнасць ён распачаў выданнем «Псалтыра» (1517), які характарызаваў як дапаможнік па вывучэнню граматыкі. Ва ўяўленні С. «Псалтыр» выкарыстоўваецца як кніга, дзе «притчи пак и приповѣсти премудрых учителев добрых обычаев младых и старых наставляють» (гл. с. 19). Універсальны адукацыйны характар гэтай кнігі выяўляецца ў псалмах, якія «якобы сокровище всих драгых скарбов, всякии немощи, духовныи и телесныи, уздавляють, душу и смыслы освѣщають, гнев и ярость усмиряють, мир и покой чинять, смуток и печаль отгоняют, чювствие в молитвах дають, людей в приязнь зводять, ласку и милость укрепляють, бесы изгоняють, ангелы на помощь призывають» (гл. с. 20). На думку С., кожны псалом «Псалтыра» — гэта «покой денным суетам и роботам, защититель младых и радость, старым потеха и песня, жёнам набожъная молитва и покраса, детем малым початок всякое доброе науки, дорослым помножение в науце, мужем моцное утверьжение» (гл. с. 20—21).

Калі «Псалтыр» С. ацэньваў як кнігу, што садзейнічае духоўнаму ўдасканальванню чалавека, то ўсю «Біблію» ў цэлым разглядаў як дапаможнік для вывучэння распаўсюджаных у той час *«сямі вольных мастацтваў».* Аб гэтым ён гаварыў у прадмове да ўсёй «Біблії»: «В сей книзе вси законы и права, ими же люди на земли справоватися имають, нописаны суть. В сей книзе вси лекарства, душевные и телесные, зуполне знайдете. Ту[т] навчение философии добронравное, яко любити бога для самого себе и ближнего для бога, имамы. Ту[т] справа всякого собрания людского и всякого града, еже верою, соединением ласки и згодою посполитое доброе помножено бываеть. Ту[т] научение седми наук вызволеных достаточное» (гл. с. 9—10). Жадаючым вывучаць граматыку С. рэкамендаваў чытаць «Псалтыр», логіку — кн. «Іоў» або пасланні апостала Паўла, рыторыку — кн. Саламонавы. Іншыя біблейскія кнігі С. разглядаў як дапаможнікі для вывучэння навук квадрывіума: для навучання музыцы прыгодны ўсе кнігі «Біблії», арыфметыку трэба вучыць па кн. «Лічбы», геаметрыю і астраномію — па кн. «Ісус Навін». На думку С., біблейскія кнігі даюць шмат звестак і па інш. галінах ведаў, якія выходзяць за рамкі «сямі вольных мастацтваў». Напрыклад, для вывучэння ваен. справы неабходна чытаць кн. «Суддзі» або кн. «Макавеяў» — «более и справедливее в нихъ знайдеш, нежели во Александрии или во Тройи». С. лічыў біблейскія кнігі крыніцай для вывучэння найважнейшых тагачасных навук. Аднак С. не мог не лічыцца з тым, што на той час рэліг. светапогляд аставаўся пануючай ідэалогіяй і таму яго светапогляд быў рэлігійным. Даніну сярэдневяковаму рэліг. светапогляду аддаваў С., калі рэліг. кнігі як крыніцу ведаў ён ставіў вышэй за свецкую л-ру. У тую эпоху Біблія была адной з самых пашыраных кніг у краінах Зах. Еўропы. Гэта вялізная па аб'ёму кніга толькі ў 15 ст. была выдадзена на розных еўрап. мовах 126 разоў. У развіцці культуры і пісьменнасці кожнага народа, які прытрымліваўся хрысціянскай веры, Біблія адыграла вельмі вялікую і часам вызначальную ролю, і гэта С., зразумела, не мог не ўлічваць. Пераклад С. Біблії трэба разглядаць як праяўленне новага погляду на Свяшчэннае пісанне, як імкненне наблізіць біблейскія кнігі да шырокага кола чытачоў, зрабіць іх агульнадаступнымі, вывесці Свяшчэннае пісанне з абмежаванага царк. ўжытку і зрабіць яго здабыткам шырокіх мас грамадства. Выданне ім «Біблії», разлічанай на «посполиты люд», было значным крокам па шляху вызвалення чалавечай думкі з путаў сярэдневяковай схаластыкі. С. у першую чаргу выдаваў менавіта тыя біблейскія кнігі, якія ў тагачасных умовах маглі быць выкарыстаны ў асветніцкіх і выхаваўчых мэтах, з'яўляліся павучальнымі выказваннямі стараж. мудрацоў, змяшчалі звесткі па стараж. гісторыі, летапісныя эпізоды і любоўныя песні.

У сваіх прадмовах С. ставіў за мэту пашырыць кругагляд чытача, узбагаціць яго канкрэтнымі ведамі і наблізіць Біблію да духоўных патрэб свайго часу. У гэтых частках сваіх выданняў С. часта спасылаўся на антычных гіст. асоб — *Арыстоцеля* і *Аляксандра Македонскага, Ромула* і *Нуму Пампілія, Да-*

рыя *I* і *Пталамея II* Філадэльфа, *Ціта* і *Веспасіяна,* а таксама інш. (гл. *Міфалагічна-біблейскія персанажы* ў выданнях Ф. Скарыны). Ён дае звесткі па гісторыі і геаграфіі краін Блізкага Усходу, упамінае аб паасобных знамянальных падзеях у гісторыі сусв. культуры. Напрыклад, у прадмове да кн. «Ісус Сірахаў» С. гаварыў пра славутую бібліятэку цара Пталамея II Філадэльфа, які «имеаше различных книг иных, а иных более нежели четырьдесять тысещей. Таковый убо был милосник наукы и мудрости, иже болей избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою, нежели во тленных великих царских сокровищах». У гэтай жа прадмове ён раіў чытачам звярнуць увагу на тыя месцы кнігі, дзе цар Саламон «учинил размолвение о прирожении древ и былин, поченши от древ кедровых, еже ростуть на горе Ливанской, даже до травы исопф, еже ростеть при муре, И мудре поведал теже о прирожении зверей, птиць, гадов и риб...». Выдавец, каб зацікавіць чытача светам прыроды, паведамляе пра дзяржавы Ст. Усходу, дае кароткія геагр. апісанні зямель, у якіх адбываліся дзеянні біблейскіх кніг (гл. *Геаграфічныя назвы* ў выданнях Ф. Скарыны). У «Малой падарожнай кніжцы», акрамя рэліг. тэкстаў, змешчаны таксама навук. і практычныя звесткі. Тут С. з улікам навейшых астр. звестак унёс некаторыя папраўкі да ўстарэлага юліянскага календара і змясціў зводку зацьменняў сонца і месяца з указаннем гадоў, месяцаў, дзён і гадзін (гл. *Астранамічныя звесткі* ў выданнях Ф. Скарыны, *Каляндар* у выданнях Ф. Скарыны). Характэрная рыса светапогляду С.— імкненне да эмансіпацыі ад устарэлых царк.-феад. традыцый, да абгрунтавання прынцыпу развіцця чалавечай асобы. Яго погляды прасякнуты аптымізмам, верай у сілу чалавечага розуму, у прагрэс. Схіляючыся да рацыяналістыч. прынцыпу незалежнасці мыслення, С. прытрымліваўся думкі, што крытэрыем ісціны ў працэсе пазнання з'яўляецца розум. У прадмове да «Прытчаў Саламона» ён звяртаў увагу чытача, што тут пісалася пра мудрасць, навуку, добрыя звычаі. Імкненне пашырыць веды сярод простага народа, павысіць яго адукацыйны ўзровень выразна відаць і ў другім месцы прадмовы да гэтай кнігі: «Пожиточьны суть сие книги чести всякому человеку, мудрому и безумному, богатому и вбогому, младому и старому, наиболей тым, они же хотят имети добрые обычае и познати мудрость и науку».

Разглядаючы кнігу як найважнейшы сродак распаўсюджання ведаў, С. падпарадкоўваў мэтам лепшага засваення чытачамі зместу і знешняе паліграф. афармленне сваіх выданняў. Усе яго кнігі мелі невялікі фармат, таму былі зручныя для чытачоў і зусім не падыходзілі для пышных царк. рытуалаў. Для сваіх выданняў С. выбраў шрыфт, што імітуе рукапіснае паўустаўнае пісьмо тагачаснай бел. дзелавой пісьменнасці. Ён некалькі спрацаваў кірылічны алфавіт, пазбягаючы ўжывання дублетных царк.-слав. літар. Для лепшага засваення чытачамі зместу тэкст кожнага свайго выдання С. падзяляў на главы, а главы — на вершы. Гэтым мэтам служылі і шматлікія канкарданцыі — змешчаныя на палях спасылкі на іншыя, блізкія па зместу месцы «Бібліі». Усе кнігі С. багата арнаментаваны, для чаго выкарыстаны гравюры, застаўкі, ініцыялы, віньенткі і канцоўкі (гл. *Графічная арнаментыка выданняў Ф. Скарыны*). С. пазбягае пашыранага на той час тэраталагічнага арнаменту з выявай вычварных міфалагічных істот. Яго загаловачныя літары-ініцыялы дэкарыраваны раслінным або жывёльным арнаментам, разлічаным на пашырэнне ведаў чытача ў галіне батанікі і заалогіі. Некаторыя кнігі С. забяспечаны ілюстрацыямі, што тлумачылі тэкст. Такіх ілюстрацый асабліва многа ў 3-й кн. «Царствы». Аб іх прызначэнні сам С. гаворыць у прадмове да кнігі: «А то для того, абы братия моя Русь, люди посполитые, чтучи могли лепей разумети». Гравюры ў выданнях С. арганічна звязаны з сюжэтам, ілюструюць і тлумачаць яго. Асабліва цікавыя гравюры, якія паказваюць рэальныя жыццёвыя працэсы і прадметы — жніво, пабудову храма, сад Іерусаліма, дыспут, арх. дэталі, царк. начынне і інш. (гл. *Ілюстрацыя*).

С. быў сапраўдным паліглотам свайго часу. З яго выданняў відаць, што ён добра валодаў бел., царк.-слав., польскай, чэшскай, стараж.-яўр., грэч. і лац. мовамі. Некаторыя звесткі аб гэтых мовах ён таксама змяшчаў у прадмовах, што пашырала філал. кругагляд чытачоў, напрыклад: «Трое книги написал ест премудрый Саломон, царь Израилев. Первые, рекомые еврейским языком Маслотг, по-грѣческий — Параболе, по латине Провербиа, а по руский — Притчи Соломоновы. Вторые книги написал ест, еже зовутся еврейскым языком Коелеф, по-грѣческы й — Екклесиаст, по латине — Қонционатор, а по рускы и — Соборник. Третии же книгы царя Саломоновы нарицаються Сира сирим, по латине — Қантикум кантыкорум, еже по русскы й исказуется Пѣснь пѣснямъ» (гл. с. 50), у падобных каментарыях, што трапляюцца ў многіх выданнях С., можна бачыць зачаткі пазнейшых шматмоўных слоўнікаў. З несумненна асветніцкімі мэтамі ставіўся С. і да мовы сваіх выданняў. Ва ўсіх яго кнігах традыцыйная царк.-слав. мова была свядома адапціравана ў бок збліжэння з тагачаснай бел. літаратурна-пісьмовай мовай у такой ступені, што многія сучасныя даследчыкі сутыкаюцца з цяжкасцямі пры вызначэнні моўнай асновы яго кніг.

Сваёй перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасцю С. ў многім прадвызначыў шляхі далейшага развіцця асветы і кніжнай культуры славян. Выданні С. мелі шырокае распаўсюджанне ва ўсх. славян у 16—17 ст. Знаёмства з імі ва ўсх.-слав., асабліва ў бел.-укр. асяроддзі, садзейнічала далейшаму пашырэнню асветніцкіх ідэй С. Яго пед. погляды развіваліся і ўдасканальваліся ў новых гіст. умовах жыцця бел. народа, яны аказалі дабратворны ўплыў на асвету і ў пазнейшыя эпохі. Прапагандаваная ім сістэма адукацыі шляхам вывучэння 7 «свабодных навук» пазней была ўспрынята бел. брацкімі школамі, якія ўзнікалі ў многіх гарадах Беларусі ў канцы 16 — пач. 17 ст. і ўзначальвалі культурна-асветніцкую работу сярод бел. насельніцтва. З імем С. звязана паяўленне ў бел. народа шэрагу такіх галін навук, як філалогія, батаніка, медыцына, а таксама выяўленчае мастацтва. *А. І. Жураўскі.*

Э. Астаф'еў. Францыск Скарына. Гіпс. 1978.



**АСТА́Ф'ЕЎ** Эдуард Барысавіч (н. 1942), беларускі сав. скульптар. Аўтар скульптуры «Францыск Скарына» (таніраваны гіпс; 1978; 87×44×32,5 см; Рэсп. музей атэізму і гісторыі рэлігіі, г. Гродна). Аўтар адвольна трактуе партрэтнае падабенства С., імкнецца перадаць настойлівасць, рашучасць, мужнасць, увасобіць у вобразе С. характэрныя рысы вучонага-асветніка эпохі Адраджэння. У вобразе адчуваецца ўпэўненасць, перакананасць у сваёй справе. Пра гэта сведчаць жэст рукі, якой ён трымае раскрытую кнігу, распраўленыя плечы, адухоўлены твар. Выканаў 2 плакеткі і медаль, прысвечаныя С. (гл. арт. *Медалі*). *Я. Ф. Шунейка.*

**АСТАШО́НАК** Віктар Адамавіч (н. 1953), бел. сав. мастак дэкар.-прыкладнога мастацтва. У 1985 пад назвай «Францыск Скарына — вялікі беларускі асветнік, гуманіст» стварыў насценны

каляндар (тканіна, шаўкаграфія, 30×14,5 см) і вымпел (тканіна, шаўкаграфія, 36×15 см), у якіх выкарыстаў гравюрны партрэт С. і элементы графічнага афармлення яго выданняў.

**АСТРАНАМІ́ЧНЫЯ ЗВЕ́СТКІ** ў выданнях Ф. Скарыны. У бел. кірылічнай пісьменнасці 15—1-й пал. 16 ст. касмалагічныя фрагменты, астранам. звесткі знаходзіліся гал. ч. (акрамя Біблії) у творах «айцоў» царквы або ананімных рэліг.-багаслоўскіх зборніках. Пэўнае значэнне ў пашырэнні касмалагічных ведаў мела забароненая царквой «ерэтычная» л-ра, у т. л. астралаг. і астранам. творы. Апісанні нябесных з'яў, асабліва зацьменняў, сустракаюцца ў летапісах, дзе ім нярэдка нададзены хаця і містычны сэнс, але супрацьлеглы наіўнай язычніцкай трактоўцы: «солнце пременися и не бысть свѣтло, но яко и месяць, его же невѣгласи глаголать: «Сиѣда ему сущю». Сиа же знамениа бывають не на добро, мы бо по сему разумеемь...» (Валынскі кароткі летапіс // Поўны збор рускіх летапісаў. М., 1980. Т. 35. С. 118, на рус. мове).

У час С. царк. погляды ў галіне касмалогіі ўжо не вытрымлівалі крытыкі. Вял. геагр. адкрыцці пацвердзілі, што Зямля мае форму шара, што існуюць людзі (антыподы), якія насяляюць дыяметральна супрацьлеглыя яе бакі. З развіццём гандл. і культ. сувязей на Беларусі і Літве становяцца вядомымі дасягненні еўрап. касмалогіі і натурфіласофіі, у найб. значных б-ках з'яўляюцца зах.-еўрап. астранам. і астралаг. творы. Польскі астраном і матэматык В. Брудзеўскі (з 1494 сакратар вял. князя літ. Аляксандра) напісаў і выдаў у Мілане (1494 і 1495) каментарыі да «Новай тэорыі планет» аўстр. астранома Г. Пурбаха. У канцы 15—1-й пал. 16 ст. астраномія не выкладалася ў школах Вял. кн. Літоўскага, большасць якіх кантралявалася духавенствам. С. быў знаёмы з царк. календаром, навучыўся складаць пасхалію, вызначаць (у пэўнай сувязі з астранам. зменамі) рухомыя хрысц. святы. Значную ролю ў развіцці астранам. ведаў С. адыграў *Кракаўскі ўніверсітэт*, які ў канцы 15—16 ст. быў буйным цэнтрам еўрап. навук. думкі. Яго вядучыя матэматыкі і астраномы ўдзельнічалі ў распрацоўцы каляндарных рэформ. Астраномію вывучалі на ф-це artium (філасофіі), студэнты карысталіся т. зв. альфонсавымі табліцамі (былі складзены астраномамі ў 1252 па распараджэнню Кастыльскага правіцеля Альфонса X) і табліцамі руху планет, разлічанымі да 1808 па кракаўскаму мерыдыяну. У 1491—95, крыху раней за С., у Кракаўскім ун-це вучыўся Мікалай Капернік.

У 1512 С. здаў экзамены на ступень доктара медыцыны ў Падуанскім ун-це. Вывучэнне медыцыны ў тыя часы было таксама звязана з астраноміяй. Эфектыўнасць лячэння, паводле тагачасных перакананняў, залежала ад размяшчэння нябесных свяціл, знакаў задыяка і інш. астранам. умоў. Магчыма, і герб-сігнет С. (сонца і месяц) адлюстроўвае




В. Асташонак. Францыск Скарына — вялікі беларускі асветнік, гуманіст. Вымпел. 1985.

астранамічна-астралаг. сімволіку: барацьбу святу і цемры, сіл дабра і зла. Астранам. звесткі змешчаны ў многіх кнігах С. Значная частка іх непасрэдна пераказвае тэкст Біблії і не адлюстроўвае сапраўдных поглядаў С. Найб. цікавыя астранам. звесткі змешчаны ў *«Саборніку»*. Адыходзячы ад старых канонаў царк.-службовай пісьменнасці, С. ўвёў новыя, больш дакладныя і падрабязныя даныя аб працягласці дзённага і начнога часу ў пач. і сярэдзіне кожнага месяца, аб днях паўнадзенства і сонцастаяння. Самы доўгі дзень (17 гадзін), па разліках С., прыпадаў на 12 чэрв. (тут і далей даты па с. ст.), самая доўгая ноч (17 гадз 10 мін) — на 13 снеж., дзень веснавога раўнадзенства — на 10 сак. («Того дни солнце входит во знамя небесное Овен и быва ровен день с нощию»), дзень асенняга раўнадзенства — на 13 верасня. Звесткі, прыведзеныя С., адпавядалі тагачасным астранам. разлікам, але вельмі блізкія да сучасных даных аб працягласці дня і ночы на шыраце і даўгаце Вільнюса. Так, напр., паводле С., у пачатку верасня працягласць дня была 12 гадз 54 мін, ночы — 11 гадз 06 мін, паводле сучасных звестак, з папраўкай на юліянскі каляндар, якім карыстаўся С., працягласць дня і ночы ў такі ж час складае адпаведна 12 гадз 52 мін і 11 гадз 08 мін. У «Саборніку» ёсць і звесткі пра задыякальныя сузор'і. Вядомыя з глыбокай старажытнасці, яны найчасцей называліся імёнамі жывёл (адсюль і назва самога тэрміна «задыяк» ад грэч. zōon жывёла, жывая істота). Па задыяку сонца робіць свой бачны шлях на працягу года, праходзячы кожнае сузор'е прыкладна за месяц. Названы самі сузор'і і вызначаны месячныя даты, калі сонца ўваходзіць у кожнае з іх (гл. табліцу).

Увядзенне ў навук. ўжытак поўнага тэксту «О паскали или о пасце» («Пасхалія»), які захаваўся толькі ў экземпляры *«Малой падарожнай кніжкі»*, што знаходзіцца ў Каралеўскай б-цы ў Капенгагене, дазволіла вучоным азнаёміцца з тымі непасрэднымі астранам. звесткамі, аб якіх С. паведамляў у заключнай частцы сваёй прадмовы да «Малой падарожнай кніжкі»: «...К тому естъли бы которого году была гибель месецова или затемнение солнъцево, то при поскали знайдеш того ж году месяц, день и годину неомылно написану тое гибели месецовы или затмения солнъцева» (гл. с. 168). Па сутнасці, гэта першы ва ўсім усх.-слав. кірылічным кнігадрукаванні 16—18 ст. прагноз зацьменняў. С. прадказаў поўныя месячныя зацьменні 1 сак. 1523 «пол 9 години пополудни», 25 жн. 1523 «по полнощ 3 годи[ны]», 29 снеж. 1525 «2 годины пред полунощ[ью]», 18 снеж. 1526 «полутрети години пред полунощью», 16 кастр. 1529 «шестое годины по полунощи»; частковае месячнае зацьменне, «гибель месяца шестое части» — 4 ліп. 1525 «предъполунощию 2 години»; сонечнае зацьменне, «гибель солнъца большая половина» — 28 сак. 1530 «пол 6 години предполуднем». Супастаўленне рэтраспектыўных разлікаў зацьменняў («Канон Зацьменняў», 1887, Т. Апольцэра і інш.) з прагнозам С. пацвярджае дакладнасць яго звестак. Разыходжанні ў адзін дзень у датах трох зацьменняў (25.8.1523, 16.10.1529, 28.3.1530) тлумачацца асаблівасцямі вылічэння астранам. сутак у той час. Сонечнае зацьменне, якое, паводле падлікаў С., павінна было прыпадаць на 28.3.1530, у той дзень назіралі прафесары Кракаўскага ун-та М. Бем і С. Любарт. «Пасхалія» С., якая адзначала т. зв. зменныя хрысц. святы, разлічана на 21 год (з 1523 да 1543), аднак звесткі аб зацьменняхададзены ў ёй толькі да 1531. Акрамя таго, гадзінны час прадказаных С. зацьменняў у большасці адпавядае мерыдыянам цэнтр. Еўропы, а не даўгаце Вільні. Відаць, складаючы зводку, С. абапіраўся не толькі на літ. крыніцы, у якіх астранам. разлікі былі даведзены да 1531. Такімі крыніцамі маглі быць творы прафесара Цюбінгенскага ун-та І. Штофлера «Новы альманах» (1506) і «Вялікі рымскі каляндар» (1518), у якіх змешча-

ны тыя ж даты зацьменняў, што і ў С. Адзін старадрукаваны экземпляр «Нова-га альманаха» з эфемерыдамі на 1516—31 захоўваецца ў Навук. б-цы Вільнюскага ун-та. Звесткі, прыведзеныя ў «Малой падарожнай кніжцы», сведчаць, што С. свабодна арыентаваўся ў складанай астранам. л-ры таго часу. Ён дакладна вызначаў не толькі даты зацьменняў, але і гады, калі поўных зацьменняў на тэр. Літвы і Беларусі не назіралі.

У «Пасхаліі» ёсць яшчэ адно астранам. прадказанне на 1524: «Сего году не будет гибели солнца ани месеца, но будеть соитие всех седми звезд, блудящих во знамении небесном в Рыбах, месеца февраля. Они же на потом, естли господь бог допустить, великое пременение царств, законов, людей и всех на земли и во водах родящихся, быти знаменують, яковоеж перед тым не бывало». Складаныя арбіты згаданых С. 7 вандроўных планет — Сонца, Месяца (іх лічылі планетамі), Юпітэра, Марса, Венеры, Меркурыя і Сатурна, іх зваротны рух на фоне інш. адносна нерухомых зор, здаўна спараджалі розныя прымхі і забабоны. «Соитие» планет абяцала асаблівыя няшчасці, паколькі яно павінна было адбыцца ў сузор'і Рыбы, вядомым як «водны» знак задыяка. Да таго ж 1524 — высакосны год, «лето преступное или висект», як пісаў С., а Штофлер прадказваў у 1524 сусветны патоп. Астралаг. прадказанні, заснаваныя на «соитии» планет 1524, сустракаліся ў творах многіх еўрап. аўтараў 15 — пач. 16 ст. Вядомы яны былі і на Русі. Але ў С. гэтае прадказанне менш пэўнае, чым у Штофлера, і адзначана пэўным скептыцызмам («естли господь бог допустить»).

«Малая падарожная кніжка» ўпершыню знаёміла параўнаўча шырокія слаі насельніцтва тагачаснай Беларусі, а ў пэўнай ступені і інш. усх.-слав. краін, з некат. ідэямі геацэнтрычнай пталамееўскай астраноміі. Новыя звесткі, якія С. смела дадаў да рэліг. выданняў, сведчаць пра яго асветніцкія намаганні, павагу да астраноміі. Яго трактоўка зацьменняў пазбаўлена багаслоўскага абрамлення, аб'ектыўна падрывала веру ў непрадказанасць прыродных, тым больш нябесных з'яў, у рэліг. догматы аб непазнавальнасці свету. Зразумела, чаму ва ўсіх наступных бел. кірылічных друках 16—17 ст., выданых пры ўдзеле або пад наглядам царквы, гэтыя звесткі аб зацьменнях цалкам адсутнічалі. Бел. кірылічнае кнігадрукаванне 16—17 ст. працягвала карыстацца больш архаічнымі, менш дакладнымі звесткамі, якія ўвайшлі ў практыку кірылічнага кнігадрукавання з часоў Ш. Фіёля («Часаслоў», Кракаў, 1491). Толькі ў 18 ст. ў некат. выданнях прыводзіліся ўсе звесткі аб працяглaсці сутачных фаз у гадавым памесячным вылічэнні, выкладзеныя С. у «Малой падарожнай кніжцы». А. з. ў выданнях С., падрываючы асновы сярэдневяковага тэалагічнага мышлення, сцвярджалі сілу розуму чалавека (гл. таксама *Каляндар* у выданнях Ф. Скарыны).

*Літ.:* 95; 637. *Г. Я. Галенчанка.*



**«Астрожская біблія».** 1581. Тытульны ліст.

Да арт. **Астрожская друкарня.** Новы запавет. Астрог. 1580. Тытульны ліст.



**«АСТРО́ЖСКАЯ БІ́БЛІЯ»,** першае поўнае друкаванае выданне царк.-слав. Бібліі. Тэкст падрыхтаваны членамі Астрожскага культурна-асветніцкага гуртка. Выдадзена ў 1581 у *Астрожскай друкарні* Іванам *Фёдаравым.* Складаецца з 104 сшыткаў, 2 з іх 8-аркушавыя, астатнія 6-аркушавыя. Фаліяцыя прастаўлена зверху справа, асобныя раздзелы кнігі маюць сваю нумарацыю. Першыя 8 лістоў не пранумараваны. Усяго ў «А.б.» 628 лістоў (1256 старонак). Тэкст набраны ў 2 калонкі па 60 радкоў на старонцы. Палоса набору 25 × 14 см. Выкарыстаны 6 шрыфтоў кірылічных і грэчаскіх. Кніга адкрываецца тытульным лістом, тэкст якога размешчаны ў гравіраванай на дрэве рамцы. На адвароце тытула змешчаны герб князя К. К. Астрожскага — арганізатара друкарні, на сродкі якога ажыццёўлена выданне, і вершы на гэты герб, складзеныя Г. Смятрыцкім. Потым ідзе вял. прадмова, напісаная ад імя Астрожскага і надрукаваная на слав. і грэч. мовах. Другая прадмова і вершы да яе напісаны таксама Смятрыцкім. Кнігі Старога запавету надрукаваны ў такім парадку: «Пяцікніжжа», «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», «Царствы», «Параліпаменон», «Ездры» (1-я кн.), «Неемія», «Ездры» (2-я і 3-я кн.), «Товіт», «Юдзіф», «Эсфір», «Іоў», «Псалтыр», «Прытча Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Кнігі пракокаў», «Кнігі Макавеяў». Потым ідуць кнігі Новага запавету. Завяршаюць «А.б.» традыцыйныя даведачныя раздзелы, а таксама пасляслоўе Фёдарава, вядомае ў дзвюх рэдакцыях з датамі выпуску 12.7.1580 і 12.8.1581. Асн. крыніцай для «А.б.» з'явіўся спіс «Генадзіеўскай бібліі». Блізкасць, а часам і тоеснасць складу, рэдакцыі, арфаграфіі «А.б.» і «Генадзіеўскай бібліі» ўстаноўлены даследаваннямі А. В. Горскага і К. І. Невастручева. Пры падрыхтоўцы «А.б.» да друку выкарыстоўваліся грэч., лац. і інш. пераклады. Астрожскім выдаўцам была вядома і «Біблія» С. Адзначана асаблівая блізкасць тэкстаў кн. «Юдзіф», «Плач Ераміі» ў «А.б.» і «Бібліі» С. Заўважана пераемнасць і ў маст. афармленні: тытульны ліст «А.б.» заключаны ў гравіраваную на дрэве рамку. Аналагічная рамка ва ўсх.-слав. кнігах была дагэтуль толькі ў «Бібліі» і «Малой падарожнай кніжцы» С. Хаця асн. маст. сродкі «А.б.» — застаўкі ў пачатку асобных біблейскіх кніг і ініцыялы (буквіцы) у пачатку кожнага раздзела — знешне не супадаюць са скарынінскімі, уплыў С. на выдаўцоў «А.б.» відавочны.

*Літ.:* 217. *Я. Л. Неміроўскі.*

**АСТРО́ЖСКАЯ ДРУКА́РНЯ.** Засн. каля 1578 Іванам *Фёдаравым* у мяст. Астрог (цяпер г. Астрог Ровенскай вобл. УССР) у маёнтку кн. К. К. Астрожскага і на яго сродкі. Звязана з дзейнасцю культурна-асв. гуртка, мецэнатам якога быў князь. Пры Фёдараве тут выдадзены «Азбука» (у параўнанні з «Азбукай», надрукаванай Фёдаравым у Львове ў 1574, мела дадатак — грэчаскі алфавіт і грэка-слав. тэксты, а таксама «Сказан-

не»; 18.6.1578), «Псалтыр і Новы запавет» і алфавітна-прадметны паказальнік да яго «Кнігазбор рэчаў самых патрэбных» (1580), а таксама першая поўная слав. Біблія кірылічнага шрыфту, т. зв. *«Астрожская біблія»*, лістоўка «Храналогія» А. Рымшы (5.5.1581). Выдаўцы перанялі вопыт работы С. Гэта прасочваецца і па зместу і па аздабленню кніг. Значную ролю ў дзейнасці А.д. адыграў Грынь Івановіч, які ўдзельнічаў у аздабленні ўсіх выданняў. Пасля ад'езду Фёдарава (1582) А.д. дзейнічала да 1612; выпусціла каля 25 кніг.

*Літ.:* Исаевич Я. Д. Острожская типография и её роль в межславянских культурных связях (послефёдоровский период) // Фёдоровские чтения, 1978. М., 1981.

*М. Б. Батвіннік.*

**АСТРО́ЖСКІ** Канстанцін, сын Івана (каля 1460—1530). Гетман Вял. кн. Літоўскага з 1497, кашталян віленскі з 1511, ваявода трокскі з 1522, князь. Вызначыўся ў вайне з крымскімі татарамі (перамог больш як у 60 баях). Удзельнічаў у баях з маскоўскім войскам. 14.7.1500 у бітве на р. Вядроша пасля ранення ўзяты ў палон і адвезены ў Волагду. Згадзіўся служыць маск. цару, але ў 1507 уцёк. Узначаліў войскі польск. караля і ў баі пад Оршай у 1514 перамог рус. войскі. Кароль за службу аддаў яму вял. зямельныя надзелы. Жонка А.— слуцкая князёўна Аляксандра таксама мела вял. зямельныя ўладанні на Беларусі. У гарадах Беларусі і Літве на яго сродкі будавалі цэрквы. Ёсць меркаванне, што А. матэрыяльна дапамагаў С. ў друкарскай дзейнасці.

*Літ.:* Ярушевич А. Князь Константин Иванович Острожский и православная Литовская Русь в его время. [Смоленск, 1897].

*М. Б. Батвіннік.*



І. Ахрэмчык. Францыск Скарына. 1953.

**АЎГУСЦІН** Блажэнны (Augustinus Sanctus) Аўрэлій (354—430), хрысц. тэолаг, філосаф, найбуйнейшы прадстаўнік зах. *патрыстыкі.* Прайшоў ідэйную эвалюцыю ад маніхейства і скептыцызму да хрысціянства, з 387 прапаведнік, з 395 епіскап г. Гіпона. Яго гал. творы: «Споведзь» (400), «Пра тройцу» (400—416), «Пра град божы» (413—420). Вучэнне А.— філас.-тэалагічнае абгрунтаванне *хрысціянства* ў духу *неаплатанізму,* дзе важная роля адводзілася верагоднасці чалавечай самасвядомасці; паглыбленне ў сябе прыводзіць да ісціны, якая закладзена ў душы, і праз яе свядомасць узыходзіць да бога. Паводле яго сац.-паліт. канцэпцыі чалавечае грамадства падзяляецца на два процілеглыя царствы: «град зямны» і «град божы». Не адмаўляючы свецкай улады, А. аддаваў прыярытэт духоўнай уладзе і бачыў у будучым абсалютнае панаванне хрысц. царквы. У аўтабіягр. «Споведзі» А. паказаў супярэчлівасць станаўлення чалавечай асобы, прыйшоў да вываду пра неабходнасць божай ласкі для «выратавання» чалавека ад граху. Ідэі А. моцна ўздзейнічалі на развіццё сярэдневяковай думкі. Яго творы былі вядомы на бел. землях ужо ў 11—12 ст. У эпоху Адраджэння цікавасць да А. ўзрасла ў сувязі з разлажэннем тамісцкай схаластыкі. У 15—16 ст. творы А. перавыдаваліся і распаўсюджваліся ва універсітэцкіх цэнтрах Еўропы. Яны, безумоўна, былі вядомы С. і зрабілі пэўны ўплыў на яго духоўнае станаўленне. Як і цалкам патрыстыка, А. прыцягваў С. глыбокаасабістай трактоўкай праблем чалавека, імкненнем да маральна-псіхалагічнага асэнсавання біблейскіх кніг. Важнае значэнне С. надаваў разуменню чалавекам самога сябе, лічыў, што гэта «ест наивышшая мудрость» (гл. с. 29), якая вядзе да ўдасканалення зямнога жыцця людзей. Адначасова С. былі чужымі тэакратычныя ідэі А., яго аскетызм, пагарджанне практычна-зямнымі патрэбамі простага люду. У процілегласць А. ён заклікаў не шкадаваць «всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея» (гл. с. 94). С. абвяргаў і этычны анталагізм А., паводле якога дабро мае пазачалавечую прыроду і далучэнне да яго ажыццяўляецца праз царкву і «божую ласку». Чалавек здольны, лічыў С., уласнымі намаганнямі дасягнуць маральнай дасканаласці, таму што маральны ідэал, прыродны маральны закон «написан ест в серци единого кажного человѣка» (гл. с. 136). Рэнесансава-гуманістычнае вальнадумства С. разбурала цесныя рамкі дагматычнага багаслоўя А., закладвала асновы антысхаласт. светаразумення. Асоба і вучэнне А. былі папулярныя ў бел. пратэстантызме, напр., у творах Андрэя Волана.

*Літ.:* Майоров Г. Г. Формирование средневековой философии. М., 1979; Бычков В. В. Эстетика Аврелия Августина. М., 1984

*Г. У. Грушавы.*

**АХРЫ́МЕНКА** Павел Паўлавіч (н. 1919), беларускі і ўкраінскі сав. крытык, літаратуразнавец і фалькларыст. Д-р філал. н. (1958), праф. (1959). Працуе ў Сумскім пед. ін-це імя А. С. Макаранкі. Прасачыў уплыў кніг С. на ўкр. кніжнасць, кнігадрукаванне і культуру наогул. А. паказаў, што паслядоўнікі С. на Украіне развівалі яго традыцыі, зрабілі далейшы крок па шляху дэмакратызацыі ўкр. пісьменнасці, набліжэнні друкаваной кнігі да простага люду. У вучэбным дапаможніку для студэнтаў «Старажытная беларуская літаратура» (1968, з М. Р. Ларчанкам) ахарактарызаваў дзейнасць С. як вяршыню бел. культуры 16 ст.

*Тв.:* 28; 29; Летапіс братэрства. Мн., 1973.

*У. В. Анічэнка.*

**АХРЭ́МЧЫК** Іван Восіпавіч (1903—1971), беларускі сав. жывапісец. Нар. мастак БССР (1949). Праф. (1964). Аўтар партрэта С. (паводле вядомага гравюрнага партрэта С. 16 ст.; алей, 210×150 см; 1953) для Мінскага дзярж. мед. ін-та.



**БА́БІЧ** Якуб (? — к. 1526), галава магістрата Вільні, «найстаршы бурмістр». На лісце 188-м да «Апостала», дзе С. гаворыць аб ужыванні чырвонага колеру для друкавання кнігі, напісана: «Совершися в дому почтивого мужа Якуба Бабича найстаршего бурмистра славного и великого места Виленского». Гэта дае падставу меркаваць, што віленская друкарня С. знаходзілася ў доме Б. Гэты дом, паводле Х. Ільяшэвіча [Друкарня дома Мамонічаў у Вільні (1575—1622). Вільня, 1938 (на польск. мове)], знаходзіўся на віленскім рынку, пасля перайшоў ва ўладанні Мамонічаў. Паводле Г. Я. Галенчанкі, у 17 ст. Бабічы жылі ў Вільні на «Вялікай вуліцы, за святым Пятром рускім».

*Літ.:* 92. *Я. Л. Неміроўскі.*

**БАБРО́ЎСКІ** Міхаіл Кірылавіч (1784 ці 1785—1848), беларускі славіст, арыенталіст, філосаф. Д-р тэалогіі (1823). Прыхільнік адраджэння бел. культуры, выкарыстання бел. мовы ў сферы афіц. ужытку. У 1823 знайшоў Супрасльскі рукапіс (назва рукапісных зборнікаў, якія да 19 ст. зберагаліся ў б-цы Супрасльскага манастыра, Беластоцкае ваяв., ПНР), а таксама шэраг іншых помнікаў слав. культуры. У пачатку аднаго са зборнікаў, які мае 408 аркушаў, змешчаны спіс з прадмоў С. да яго пражскага «Псалтыра» (1517). Б. аўтар працы «Гісторыя славянскіх друкарняў у Літве» (не публікавалася), у якой разглядалася дзейнасць Заблудаўскай друкарні Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца, верагодна, і друкарская дзейнасць С. Спадчына Б. мала даследавана.

*Літ.:* Улащик Н. Н. Открытие и публикации Супрасльской летописи // Летописи и хроники 1976 г. М., 1976; Лабынцев Ю. А. Первая книга, напечатанная глаголицей, и её исследователь Михаил Бобровский // Сов. славяноведение. 1983. № 4. *У. М. Свяжынскі.*

**«БАГАРО́ДЗІЦА З АНЁЛАМІ»,** гравюра на тытульным лісце *«Акафіста Ісусу»* з «Малой падарожнай кніжкі», выдадзенай С. у Вільні (1522).

Паводле новазапаветнага падання, нараджэнне Хрыста ад бязгрэшнай Марыі і св. духа было найвялікшым цудам і унікальнай з'явай зямнога быцця, яго выратаваннем праз спалучэнне ў абсалютным боскім адзінстве цялеснага і духоўнага пачаткаў. Хрысц. догмат «нарожения сына божия з непорушеное девицы Марии» (гл. с. 146) неаднаразова падкрэсліваецца ў творах С. Яго гравюра ілюструе той момант новазапаветнага падання, калі над яслямі, дзе ляжаў нованароджаны, з'явілася з анёлам вял. войска нябеснае, славячы бога.

Іканаграфія багародзіцы пашырана ў візант. і зах.-еўрап. мастацтве. Вытокі вобраза ўзыходзяць да мастацтва рымскіх катакомб (фрэскі Кіметэрыя Прыстылы — 3 ст. і інш.) і ранневізант. мазаік 6 ст. Пазней вобраз пашырыўся ў іканапісе (іканаграфічныя тыпы «Замілаванне» і «Адзігітрыя», што вядомы ў Візантыі і перайшлі ў стараж.-рус. і бел. мастацтва). У зах.-еўрап. мастацтве сярэднявечча і Рэнесанса да вобраза багародзіцы звярталіся буйнейшыя мастакі (Джота, С. Батычэлі, Мазача, А. Мантэнья, Рафаэль, А. Альтдорфер і інш.). З іканаграфіяй вобраза звязаны такія шэдэўры, як «Сіксцінская мадонна» Рафаэля, «Мадонна з немаўляткам» (мадонна Літа) Леанарда да Вінчы і інш. У бел. мастацтве найб. раннім абразом з'яўляецца «Полацкая Адзігітрыя», якую Ефрасіння Полацкая, паводле падання, прывезла з Візантыі. Гэты амаль зусім не даследаваны твор датавалі 12 ст. У эпоху Рэнесанса і барока вобраз багародзіцы развіваўся пераважна ў іканапісе — «Маці божая Адзігітрыя» (канец 15 — пач. 16 ст.), «Маці божая Адзігітрыя Смаленская» (16 ст.) і інш. (гл. *Мастацтва Беларусі* ў 15—16 ст.). У мініяцюрах рукапісаў Беларусі выява багародзіцы невядома.

**«Багародзіца з анёламі».** Гравюра з тытульнага ліста «Акафіста Ісусу» Ф. Скарыны.



Гравюра «Б. з а.» (41 × 61 мм) разам з інш. дрэварытамі «Малой падарожнай кніжкі» належыць да самых ранніх ва ўсх.-слав. кірылаўскай кнізе. Яе задума і кампазіцыя маюць жанравы характар, адыходзяць ад пашыранай у візант. мастацтве іканаграфіі, набліжаюцца да зах.-еўрап. трактоўкі. Фігура Марыі з немаўляткам-Хрыстом кампазіцыйна звязана з анёламі абапал цэнтр. вобраза, які вылучаецца, дамінуе ў кампазіцыі дзякуючы блікам святла, што акцэнтуе аблічча багародзіцы, яе паставу, маленькага Хрыста на каленях маці і інш. Тэхнічнае выкананне гравюры ўступае задуме. Яна награвіравана тоўстымі, крыху грубаватымі штрыхамі, што сведчыць пра адносна невял. творчы вопыт гравёра. Асабліва спрошчана, схематычна трактаваны твар багародзіцы і маленькі Хрыстос. Больш удала паказаны складкі адзення Марыі. Па манеры гравіроўкі дрэварыт «Б. з а.» прыкметна адрозніваецца ад больш ранніх гравюр «Пражскай бібліі». Шырыня дрэварыта не адпавядае набранай пражскім шрыфтам шырыні загалоўка ўнізе. З гэтага вынікае, што друкары С., магчыма, выкарысталі тут набытае клішэ (як у «Каноне Іаану

Прадцечы» і «Каноне Ісусу»). Але гэтаму меркаванню пярэчыць не надта высокі ўзровень гравіроўкі (хоць не без пэўнай экспрэсіі і жывасці экспромтнай, энергічнай разьбы). Хутчэй за ўсё дрэварыт «Б. з а.» выканаў невядомы рэзчык, які ў 1520-я г. працаваў у віленскай друкарні С. Магчыма, гэтаму рэзчыку належыць і праца «Благавешчанне» з «Малой падарожнай кніжкі». Абедзве гравюры збліжае некалькі эскізная, як бы «сырая» разьба. Іканаграфія дрэварыта «Б. з а.» ў кніжнай гравюры 2-й пал. 16—18 ст. не мела пашырэння.

*Літ.:* 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**БАГДАНО́ВІЧ** Максім Адамавіч (1891—1917), беларускі паэт, празаік, перакладчык, літаратуразнавец. Адным з першых бел. пісьменнікаў узняў у паэзіі, прозе і навукова-папулярных артыкулах скарынінскую тэму, чым актыўна садзейнічаў далейшаму плённаму развіццю маст. і навук. бел. Скарыніяны. Вершы Б. на гіст. тэмы апяваюць высакародную працу і мастацтва, што пакінулі нам у спадчыну продкі — летапісцы, перапісчыкі кніг, першыя бел. друкары, архітэктары, ткачыхі («Летапісец», «Перапісчык», «Кніга», «Безнадзейнасць», «Касцёл св. Анны», «Слуцкія ткачыхі»). З павагаю і гордасцю за талент продкаў бярэ паэт у рукі старажытную кнігу: «Псалтыр, пакрытую няжорсткай бурай кожай, я ўзяў і срэбныя засцежкі адамкнуў...» («Кніга»). Верш пра С. «Безнадзейнасць» (1912) — адзін з першых твораў бел. паэзіі пра рэальную гіст. асобу, пра чалавека, які вызначыў цэлую эпоху ў развіцці айчыннай культуры. «Скарына, доктар лекарскіх навук у доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры...». У цыкле вершаў «Старая Беларусь» Б. паказаў Беларусь часоў С.— час «багатых кніжных традыцый і ... цемры». У празаічным творы Б. «Апавяданне аб іконніку і залатару...» (1914) не ўпамінаецца імя С., але мова ўсяго апавядання стылізавана аўтарам пад прадмовы С. і добра перадае каларыт яго выслоўяў. У арт. аб гісторыі развіцця бел. культуры «Беларускае адраджэнне» (нап. 1914) Б. напісаў аб ролі С. ў гэтым працэсе. У лісце да супрацоўнікаў рэдакцыі «Нашай нівы» ад 21.10.1913 Б. пісаў: «Узяўся б і напісаць жыццёапісанне Скарыны, калі б таварыства (выдавецкае — *аўт.*) даручыла мне гэта». У наступным лісце ад 7.11.1913 паведамляе: «Я ўзяўся за Уладзімірава (аўтар навук. даследавання пра С.— *аўт.*), але вось якое пытанне: якой меры «папулярнасці» трэба дамагацца ў выкладзе? І другое: аб палажэнні і развіцці беларускай культуры за той час пісаць ці не?..» Новую інфармацыю пра гэты артыкул змяшчае ў сабе ліст ад 23.5.1914: «Што да Скарыны, дык вось якая рэч: я напісаў апрач яго ўласнай біяграфіі асобны раздзел, дзе падаў характарыстыку папярэдняга беларускага культурнага жыцця і пісьменнасці. Але гэты раздзел заняў столькі ж месца, як і сам Скарына. Здаецца, занадта. А між тым гэты раздзел удаўся. Што рабіць — скарачаць ці не?..» З гэтых пісьмаў вядома, што Б. напісаў спецыяльны артыкул пра С., але тэкст яго да нас не дайшоў. У рукапісным архіве Б., які ў 1923 здаў у Інбелкульт яго бацька і які загінуў у час Вял. Айч. вайны, таксама не было поўнага тэксту гэтага артыкула. У тэксце вопісу аўтографаў Б., зробленым В. Мачульскім у 1928, пазначана: «18. Пачатак чыставога артыкула аб Францішку Скарыне і чарнавы накід аб ім жа.— 13 с. 2°».

*Тв.:* Зб. тв. Т. 1—2. Мн., 1968.

*Літ.:* Пічэта У. М. Багдановіч як гісторык беларускага адраджэння // Вестн. Народного Комиссариата просвещения ССРБ. 1922. № 5—6 (вып. 7—8); Пранevіч Г. М. Скарынінскі прататып у творчасці Максіма Багдановіча // Весн. Беларус. ун-та. Сер. 4: філалогія, журналістыка, педагогіка, псіхалогія. 1983. № 2. *Н. Б. Ватацы.*

**БАЙРА́ЧНЫ** Мікалай Іванавіч (н. 1950), беларускі сав. мастак. Да XI Міжрэсп. конкурсу «Мастацтва кнігі» (Мінск, 1979) зрабіў памятную керамічную плакетку з партрэтам С., максімальна набліжаным да гравюры 16 ст. (гл. *Медалі*). Аформіў і праілюстраваў кнігу А. Клышкі «Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга» (1983). Каляровая пабудова ілюстрацый запазычана з іканаграфічных апісанняў жыццій святых. С. паказаны ў Полацку, затым у Кракаўскім і Падуанскім ун-тах, у Празе і Вільні за друкаваннем кніг, а таксама ў апошнія гады жыцця ў Празе, дзе ён працаваў каралеўскім садоўнікам.

**БАКМЕ́ЙСЦЕР** Іван Рыгоравіч (Іаган Вольрат; ? — 1788), рускі кнігазнавец і бібліёграф. Працаваў у Б-цы АН у Пецярбургу. Выдаў на франц. мове (1776) кароткі нарыс гісторыі і агляд фондаў гэтай б-кі (у рус. перакладзе — «Вопыт аб бібліятэцы і кабінеце рэдкасцей і гісторыі натуральнай Санктпецярбургскай імператарскай Акадэміі навук», 1779). «Вопыт аб бібліятэцы» — першая выдадзеная ў Расіі праца, дзе ўпамінаецца імя С. У ёй аўтар падрабязна апісаў экземпляр «Пяцікніжжа» С., расказаў аб гравюрах, арнаментыцы выдання, параўнаў тэксты С. з Бібліямі 1663 і 1751. Тым самым быў пакладзены пачатак мастацтвазнаўчаму і тэксталагічнаму даследаванню скарынінскіх выданняў. Б. выказаў меркаванне, што С. пераклаў з Бібліі 4 кнігі Параліпаменона, яму быў вядомы таксама «Апостал» С., выданне якога памылкова датаваў 1517 замест 1525. Б. сцвярджаў са спасылкай на ням. даследчыка В. Рынгельтаўба, што выданні С. былі выкарыстаны Сымонам *Будным* пры перакладзе Бібліі на польскую мову. Праца Б. адзначана залатым медалём АН (1778).

*Літ.:* 210. *Я. Л. Неміроўскі.*

**БАКМЕ́ЙСЦЕР** Логін Іванавіч (1730—1806), рускі бібліёграф, гісторык, географ, лінгвіст. Аўтар прац па гісторыі і этнаграфіі Расіі і па параўнальнай лінгвістыцы. У 1772—89 рэдагаваў першы ў Расіі бібліяграфічны часопіс «Russische Bibliothek zur Kenntnis des gegenwärtigen Zustandes der Literatur in Rußland» — «Руская бібліятэка для пазнання сучаснага стану рускай літаратуры». У 1783 апублікаваў у часопісе рэцэнзію на «Вопыт прац Вольнага расійскага сходу пры імп. Маск. ун-це», дзе ўпамянуты арт. П. А. Аляксеева і І. Г. Штрытэра, прысвечаныя выданням С.; у 1786 змясціў інфармацыю «Розныя весткі з Пецярбурга», у якой паведамлялася пра продаж у Пецярбургу выдадзеных С. кн. «Царствы», а таксама канвалюта, які ўтрымліваў кн. «Царствы» (тры), «Еклесіяст», «Ісус Сірахаў», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Іоў» і фрагмент «Псалтыра» 1517. Б. упершыню ўвёў у навук. ўжытак звесткі пра 5 пражскіх выданняў С.: «Еклесіяст», «Ісус Сірахаў», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Псалтыр». Падкрэсліў выключную рэдкасць выданняў С., пацвердзіў, што біблейскія кнігі С. друкаваў у Празе Чэшскай, а «Апостал» выпусціў у Вільні. *Я. Л. Неміроўскі.*

М. Байрачны. Ілюстрацыя да кнігі А. Клышкі «Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга». Мінск. 1983.



**БА́НТКЕ** (Bandtkie) Ежы Самуэль (1768—1835), польскі гісторык і кнігазнавец. У 1811 у Кракаўскім ун-це атрымаў вучоную ступень доктара філасофіі, працаваў прафесарам бібліяграфіі універсітэта і дырэктарам Ягелонскай б-кі. У 1812 выдаў навук. працу, прысвечаную слав. першадрукару Ш. Фіёлю («Аб першых кракаўскіх друкарскіх інкунабулах»). У манаграфіі «Гісторыя кракаўскіх друкарняў» (1815) расказаў аб выдавецкай дзейнасці С., сцвярджаў, што С. выкарыстаў тэкст св. Іераніма пры перакладзе асобных раздзелаў Бібліі на «рускі дыялект, якім карыстаюцца каля Полацка». Б. былі вядомы пражскія выданні С.: «Пяцікніжжа», кн. «Царствы», «Эсфір», «Руф», «Іоў» і «Прарок Данііл». Аб «Апостале» ён пісаў, што гэта «першая руская кніга, якая выдадзена ў Вільні». Пра выдавецкую дзейнасць С. ў Празе і Вільні Б. расказаў у манаграфіі «Гісторыя друкарняў у Каралеўстве Польскім і Вялікім княстве Літоўскім» (1826). Неаднаразова ўпамінаў С. ў перапісцы з чэш. філолагам-славістам І. *Добраўскім*.

*Літ.*: 209. *Я. Л. Неміроўскі.*

**БАРАБА́НЦАЎ** Віктар Кірылавіч (н. 1947), беларускі сав. мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Аўтар серыі мазаічных пано «Выдатныя дзеячы Беларусі» (смальта, 190×150 см), СШ № 5 г. Маладзечна). Цэнтр. месца сярод іх займае выява С., створаная паводле гравюрнага партрэта з «Бібліі». Унізе арнамент з дубовых лістоў і васількоў. На абрамленні надпіс «Францыск Скарына» і разное дубовае лісце. У 1982 Б. (з В. *Ціханавым*) выканаў фрэскавы роспіс «Горад юнацтва» ў СШ № 67 г. Мінска, у кампазіцыі якога сярод славутых сыноў бел. народа паказаны С.

**БАРАЗНА́** Лявон Цімафеевіч (1929—72), беларускі сав. мастак. Разам з П. *Захаранкам* падрыхтаваў альбом «Гравюры Францыска Скарыны» (1972, на бел. і рус. мовах). Гэта першае асобнае, найб. поўнае выданне дрэварытаў і графічных аздоб выданняў С. (мастакі У. *Басалыга* і М. *Басалыга*). У альбоме змешчаны ўступны артыкул і 51 фотарэпрадукцыя гравюр, заставак і іх павялічаныя фрагменты. Дадзены таксама амаль усе ініцыялы выданняў С. і асобныя іх старонкі, цікавыя з маст. боку. Ва ўступным артыкуле Б. характарызуе эпоху С., спрабуе абгрунтаваць аўтарства гравюр, дае мастацтвазнаўчы іх аналіз. Б. лічыў С. адзіным аўтарам усіх гравюр і заставак, змешчаных у яго кнігах. У аснове класіфікацыі Б. ляжыць прынцып кампазіцыйнай будовы гравюр, што выклікала заўвагі рэцэнзентаў.

*Літ.*: Немировский Е. Л. Альбом старопечатных гравюр // В мире книг. 1973. № 2; Голенченко Г. Я. Гравюры Франциска Скорины // Книга: Исслед. и материалы. М., 1974. Сб. 28. *В. Ф. Шматаў.*

**БАРА́ШКА** Іллары (Іларыён Мацвеевіч, 1905—68), беларускі сав. пісьменнік. Аўтар сцэнарыя дакумент. фільма «Георгій Скарына» (рэжысёр У. Скітовіч, аператар Р. Масальскі, 1963). Абмежаванасць іканаграфічных матэрыялаў, няведанне асобных фактаў біяграфіі С., яго дзейнасці як вучонага прымусілі Б. шырока выкарыстаць дакументы, што ўскосна знаёмілі з эпохай, у якую жыў і тварыў асветнік (карціны, стараж. гравюры, афорты, выданні С.— кн. «Бібліі», «Апостал» і «Малая падарожная кніжка»).

**БАРО́КА** (італьян. barocco літар. вычварны, дзіўны), вызначальны стыль у еўрап. мастацтве канца 16 — сяр. 18 ст. Узнік на аснове сярэдневякова-хрысціянскіх і рэнесансавых ідэйна-эстэт. традыцый, спалучэння рэліг. светапогляду і свецкай культуры. Складанае і супярэчлівае мастацтва Б. арыентавалася на экспрэсіўна-патэтычнае выяўленне проціпастаўленых, але ўзаемадзейных пачаткаў быцця — ідэальнага і матэрыяльнага, рацыянальнага і пачуццёвага, нябеснага і зямнога. Асн. катэгорыі эстэтыкі *Адраджэння* (ідэальнае, праўдзівае і прыгожае) у маст. культуры Б. (паэтыка, рыторыка, сінтэз тэатр., выяўл. і муз. мастацтваў, архітэктура) страцілі гарманічнасць і цэласнасць, пераважнае значэнне набыло выяўленне трагічнага, камічнага, гратэскнага, паэтычнай і рытарычнай дасціпнасці. Станаўленне Б. адбывалася ў перыяд складвання нацый: асноватворныя эстэт. канцэпцыі сплаўляліся з маст. традыцыямі розных народаў, што спрыяла фарміраванню яго нац. разнавіднасцей.

У бел. эстэтыцы і маст. культуры, поруч з рэгіянальна своеасаблівай разнавіднасцю Б. заходнееўрап. тыпу (палемічная проза, лацінскія курсы паэтыкі і рыторыкі, эстэтыка М. К. Сарбеўскага і яго паслядоўнікаў, школьны езуіцкі тэатр і касцёльная архітэктура) сфарміравалася ўсходнеслав. плынь: сілабічная паэзія, драўлянае дойлідства, кніжная графіка і інш., якая развівалася пад непасрэдным ці ўскосным уплывам асветніцкай спадчыны С. Прадстаўнікі гэтага кірунку М. Сматрыцкі, А. Філіповіч, А. Рымша, Сімяон Полацкі прадаўжалі літаратурна-эстэт., маст.-тэхн. традыцыю бел. першадрукара, следам за ім імкнуліся спалучаць тагачасную навуку з сярэдневяковым хрысц. традыцыяналізмам, арыентуючыся на гуманіст., пераважна маральна-эстэт. інтэрпрэтацыю Бібліі і раннехрысц. літаратуры, далейшага развіцця ўзаемасувязей пісьмовай літаратуры і фальклору. У іх літаратурнай творчасці грунтоўна распрацоўвалася сілабічнае вершаскладанне, зачынальнікам якога на Беларусі быў С. У кніжнай графіцы ранняга формы Б. прасочваюцца ў геральдычных кампазіцыях заблудаўскіх выданняў І. *Фёдарава* і П. *Мсціслаўца*, характэрны для многіх тытульных аркушаў кніг, выдадзеных друкарнямі ў Вільні, Еўі, Куцейне. Майстры кнігі 17—18 ст. выпрацавалі непаўторны графічны стыль бел. Б., вызначаны стрыманасцю форм, сувяззю з нар. мастацтвам. *У. М. Конан.*

В. Барабанцаў. Францыск Скарына. Мазаічнае пано. 1986.



**БАСАЛЫ́ГА** Міхаіл Самуілавіч (н. 1942), беларускі сав графік. Афарміў разам з У. С. *Басалыгам* альбом «Гравюры Францыска Скарыны» (складальнік Л. *Баразна*, фотарэпрадукцыі П. *Захаранкі*; 1972). У тэхніцы афорта на медзі выканаў іл. да кн. А. Петрашкевіча «Напісанае застаецца: Францыск Скарына» (1982); партрэт С., тэматычныя лісты (сцэны сустрэчы С. з Міколам Гусоўскім, Марцінам Лютэрам і інш.). Гал. тэму — проціпастаўленне сіл дабра і зла, адлюстраванне барацьбы ідэй і светапоглядаў — мастак раскрывае шляхам перадачы ўнутранага стану героя. Ілюстрацыі яго спакойныя і ўраўнаважаныя па кампазіцыі, своеасаблівая статычнасць надае ім велічнасць.

**БАСАЛЫ́ГА** Уладзімір Самойлавіч (н. 1940), беларускі сав. графік. Асн. месца ў творчасці займае станковая графіка, адметная тонкасцю выканання, арыгінальнасцю кампазіцыйнага вырашэння. Афарміў разам з М. С. *Басалыгам* альбом «Гравюры Францыска Скарыны» (складальнік Л. *Баразна*, фотарэпрадукцыі П. *Захаранкі*; 1972). У альбоме ўдала размешчаны тэматычныя гравюры, партрэты, буквіцы і графічныя ўпрыгожанні з усіх вядомых у нашай краіне выданняў С. Захаваны фармат арыгіналаў, размешчаны павялічаныя фрагменты, што дае магчымасць бачыць дасканаласць тэхнікі гравюр. Тэкст падзелены арнаментальнымі застаўкамі. На белым фоне супервокладкі кнігі дадзены фрагмент партрэта С. Маст. афармленне альбома адзначана *Дыпломам імя Францыска Скарыны* на рэсп. конкурсе «Мастацтва кнігі» 1973 і дыпломам 3-й ступені на XIV Усесаюзным конкурсе «Мастацтва кнігі» 1973.

**БАТВІ́ННІК** Марат Барысавіч (н. 1928), беларускі сав. гісторык. Канд. гіст. н.

(1970). Працуе ў Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Вывучае ролю спадчыны С. ў дзейнасці бел. друкароў і выдаўцоў 2-й пал. 16—17 ст. Даследаваў дарэвалюц. і сав. гістарыяграфію, прысвечаную дзейнасці С. Аўтар арт. «Вывучэнне жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны ў БССР» (Беларускі асветнік Францыск Скарына і пачатак кнігадрукавання на Беларусі і ў Літве. М., 1979), «Скарынінскія традыцыі і першая граматыка і дыялектыка ўсходніх славян» (Даклады да XI канферэнцыі маладых вучоных БССР, 1967). Адзін са складальнікаў кн. «Іван Фёдараў і ўсходнеславянскае кнігадрукаванне» (1984), дзе шмат увагі ўдзелена творчым традыцыям С. Удзельнік *Скарынінскіх чытанняў.* *Г. Я. Галенчанка.*

**БА́УЗЕ** Фёдар Рыгоравіч (1752—1812), рускі гісторык, калекцыянер рукапісаў і старадрукаваных кніг. Скончыў Лейпцыгскі ун-т. У 1782—1811 прафесар, адначасова з 1807 рэктар Маскоўскага ун-та. У б-цы Б. былі выданні С.: канвалют, у які ўваходзілі акафісты і каноны з «Малой падарожнай кніжкі», кн. «Іоў» і «Апостал». Б-ка згарэла ў час пажару Масквы ў 1812.

**БАХАНЬКО́Ў** Арцём Яфімавіч (н. 1924), беларускі сав. мовазнавец. Д-р філал. н. (1986). Працуе ў Ін-це мовазнаўства імя. Я. Коласа АН БССР. У арт. «Сінтаксіс скарынінскіх выданняў» (450 год беларускага кнігадрукавання, 1968) даследуе, як адлюстраваліся ў перакладах С. некат. сінтаксічныя з'явы, што ў пач. 16 ст. складалі спецыфіку бел. мовы. Паказаў, што па характару ўжывання другога вінавальнага склону і яго заменнікаў скарынінскія пераклады не адрозніваюцца ад тагачаснай жывой народнай гаворкі беларусаў, што пераважаюць народныя формы і ў сінтаксічнай сувязі лічэбнікаў **два, тры, чатыры** з назоўнікамі, аднак па ўжыванню злучніка бо С. прытрымліваўся кніжна-слав. традыцыі. *А. М. Булыка.*

**БЕЛАРУ́СКА-ЛІТО́ЎСКІ ЛЕ́ТАПІС 1446,** першы агульнадзяржаўны летапісны звод *Вялікага княства Літоўскага,* прысвечаны гісторыі ўсходніх славян і Літвы. У аснове ляжыць летапіс, складзены каля 1430 на падставе рус. і бел.-літ. гіст.-літаратурных крыніц у Смаленску невядомай асобай духоўнага сану з асяроддзя мясц. епіскапа. Прадоўжаны пасля да 1446. Храналагічна ахоплівае перыяд ад сярэдзіны 9 да сярэдзіны 15 ст. Звесткі па гісторыі Русі за 854—1427 запазычаны з рускіх летапісаў, тэкст якіх быў значна скарочаны, але не перакладзены на старабел. мову, а змешчаны ў арыгінале. З мясц. твораў у гэты звод увайшлі Смаленская хроніка, «Пахвала Вітаўту» і *«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх».* Вылучаецца багаццем зместу і шырынёй гіст. канцэпцыі.

Б.-л. л. 1446— звод агульнарускі. Паліт. гісторыя Літвы, Беларусі і часткова Украіны 14—1-й пал. 15 ст. пададзена ў сувязі з гісторыяй Маскоўскай Русі і ў непасрэднай пераемнасці з гісторыяй Кіеўскай Русі. Шмат увагі аддадзена ў творы апісанню гераічнай барацьбы ўсх. славян з іншаземнымі заваёўнікамі, а таксама гісторыі княжання Вітаўта — гал. героя арыгінальнай, бел.-літ. ч. зводу. У ёй сцвярджаецца паліт. магутнасць і высокі міжнар. аўтарытэт гэтага князя, апраўдваецца яго аб'яднаўчая палітыка на Русі. У летапісе аб'яднаны ў адным зводзе самыя розныя па паходжанню і характару творы, напісаныя ў Кіеве і Маскве, Вільні і Смаленску, у велікакняжацкай канцылярыі і ў асяроддзі духавенства. Мова зводу старажытнарус. і старабел., стыль свецкі дзелавы і кніжна-слав., што надае яму пэўную стракатасць і незавершанасць, выгляд гіст.-літаратурнай кампіляцыі. Аднак адзінства тэмы і агульнай канцэпцыі, дзярж. погляд на падзеі робяць гэты летапісны звод адносна цэласным творам. Аўтар праводзіў ідэю гіст. адзінства ўсх. славян, неабходнасці і заканамернасці іх паліт. аб'яднання ў складзе Вял. кн. Літоўскага. У летапісе адбіліся погляды перадавых грамадскіх колаў Літвы, Беларусі і Украіны 1-й пал. 15 ст., упершыню асэнсавана і раскрыта важная гіст. роля Вял. кн. Літоўскага ва Усх. Еўропе. Першы бел.-літ. летапісны звод складзены пад уплывам літаратурных традыцый усх.-слав. летапісання. Старажытнарус. летапісы выразна адбіліся на яго змесце і жанравай форме. Аднак своеасаблівасць грамадска-паліт. і духоўнага жыцця Беларусі і Літвы 15 ст., надзённых ідэйна-мастацкіх задач, што стаялі перад бел. летапісцамі, надалі гэтаму помніку шмат у чым адметны, непаўторны характар. У ім спалучаны традыцыйная, пагадовая форма выкладу з прагматычным, звязным апавяданнем пра мінулае, гіст. аповесці з кароткімі дзелавымі запісамі, літаратура і дакумент. «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» і «Пахвала Вітаўту» — найб. значныя з'явы ўласна бел. арыгінальнай літаратуры 15 ст. і стаяць каля вытокаў бел. гіст. прозы. Б.-л. л. 1446 — важная крыніца па гісторыі народаў Усх. Еўропы, каштоўны помнік бел.-літ. летапісання і бел. літаратурнай мовы свайго часу, сведак актыўных культ. узаемасувязей бел., літ. і рус. народаў эпохі сярэднявечча. Захаваў шэраг звестак па гісторыі Паўночна-Усх. Русі 14—1-й трэці 15 ст., якіх няма ў інш. летапісах, таму ён мае значэнне і для вывучэння рускага летапісання. Паслужыў крыніцай для *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», «Хронікі» Быхаўца* і інш. летапісных твораў, што складаліся ў Вял. кн. Літоўскім і ў Расіі ў 16—17 ст. Адкрыты і ўпершыню выдадзены І. Даніловічам у 1823—24.

Б.-л. л. 1446 шырока бытаваў на Беларусі ў часы С.: яго чыталі, перапісвалі, перараблялі. У 1490-я г. на аснове тэксту першапачатковай рэдакцыі, якая не дайшла да нашага часу, відаць, у Смаленску ўзнікла другая рэдакцыя першага зводу, каля 1500 — трэцяя, скарочаная. Усе асн. спісы гэтага помніка бел. пісьменнасці датуюцца канцом 15 (Нікіфараўскі спіс) — 1-й пал. 16 ст. (Супрасльскі і Слуцкі спісы). Яго, напэўна, чыталі і ў старaж. Полацку, адкуль паходзяць таксама адзіны вядомы сёння спіс летапісу Аўраамкі і шэраг інш. гіст. зборнікаў. Цікавасць палачан да Б.-л. л. 1446 была выклікана як агульным павышэннем увагі да гісторыі ў эпоху Адраджэння, ростам гіст. і нац. самасвядомасці народаў, так і тым, што ў гэтым летапісе адлюстраваны некат. яркія старонкі мінулага іх роднага горада, якія адыгралі выдатную ролю ў грамадска-паліт. і культ. жыцці Ст. Русі і Вял. кн. Літоўскага. У летапісе змешчана запазычанае з старaж.-рус. летапісаў апавяданне пра князя Уладзіміра і полацкую князёўну Рагнеду, шэраг звестак з гісторыі Полацка 2-й пал. 14—1-й пал. 15 ст., у т. л. пра князя Андрэя Полацкага і інш. Калі не ўвесь гэты летапісны звод, то змест найб. арыгінальных і цікавых яго частак, «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх» і «Пахвалы Вітаўту»,



М. Басалыга. Ілюстрацыя да кнігі А. Петрашкевіча «Напісанае застаецца: Францыск Скарына». 1982.


**Беларуска-літоўскі летапіс 1446.** Урывак з Нікіфараўскага спіса.

прысвечаных пераважна літоўска-бел. гісторыі, С., відаць, ведаў.

*В. А. Чамярыцкі.*

**БЕЛАРУ́СКАЯ БІБЛІЯТЭ́КА І МУЗЕ́Й ІМЯ́ ФРАНЦЫ́СКА СКАРЫ́НЫ Ў ЛО́НДАНЕ,** культурная (грамадская) установа, якая існуе пераважна на добраахвотныя ахвяраванні.

Супярэчлівая ў сваёй дзейнасці: праводзяцца нацыяналістычна-клерыкальныя па сваіму характару мерапрыемствы і адначасова папулярызуюцца бел. савецкія кнігі і перыядычныя выданні. Афіцыйна адкрыта (у асобным будынку) 15.5.1971. Узначальвае б-ку рада, куды ўваходзяць бел. эмігранты і англ. вучоныя. У 1981 налічвала звыш 12 тыс. назваў кніг, з якіх больш палавіны выдадзены ў БССР. У фондах ёсць фрагмент 1-й кн. «Царствы» С., куплены на аўкцыёне б-кі С. Дзягілева ў Монтэ-Карла, фотакопіі асн. выданняў С., бел., рус. і заходнееўрап. працы пра яго жыццё і дзейнасць. У б-цы рэдкія бел. кнігі, надрукаваныя ў Куцейне пад Оршай, Вільні і Супраслі, дарэв. выданні Я. Купалы («Жалейка», «Адвечная песня», «Сон на кургане», «Шляхам жыцця»), Я. Коласа («Батрак», «Родныя з'явы»), М. Багдановіча («Вянок»), М. Гарэцкага («Рунь»), Ядвігіна Ш. («Васількі») і інш. У калекцыі рукапісаў захоўваюцца аўтографы Я. Купалы (у т. л. паэма «Курган» з аўтарскімі праўкамі), Я. Коласа, бел. дакументы 1499—1682 і інш. Б-ка вядзе выдавецкую дзейнасць («Пантыфікальная літургія» 17 ст., зборнік бел. паэтаў пач. 20 ст. і інш.), наладжвае штогадовыя курсы лекцый па беларусазнаўству, вечары паэзіі, навуковыя сесіі (у кастр. 1982 праведзена сесія, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа, у кастр. 1985 — Скарынінская сесія). У музеі экспануюцца ўзоры бел. нар. ткацтва і вышыўкі, с.-г. і хатнія прылады, вырабы народных умельцаў, два слуцкія паясы, арнат, сшыты з слуцкіх паясоў, калекцыя манет Вял. кн. Літоўскага і інш. Выстаўлены жывапісныя і графічныя работы К. Кастравіцкага (К. Каганца), П. Сергіевіча, П. Мірановіча (партрэт Скарыны), М. Навумовіча і інш., фотапартрэты Я. Купалы і Я. Коласа, рэпрадукцыі з гравюр С. Б-ка атрымлівае бел. сав. газеты і часопісы, вядзе кнігаабмен з Дзярж. б-кай БССР імя У. І. Леніна і Цэнтр. б-кай імя Я. Коласа АН БССР.

*Літ.:* The Francis Scoryna Byelorussian Library and Museum. 1971—1981. London, 1981.

*А. І. Мальдзіс.*

**БЕЛАРУ́СКАЯ ВЁСКА** ў 15—16 ст. Асн. відам сельскіх паселішчаў на тэр. Беларусі ў 15—16 ст. былі вёскі. Існавалі таксама сёлы — больш буйныя сельскія паселішчы з царквою, звычайна гаспадарчы і адм. цэнтр для навакольных вёсак. Спачатку вёскі складаліся з 2—5 двароў. Забудоўваліся бессістэмна (скучаная забудова) або радковым метадам (лінейная забудова). У канцы 1550-х г. у час правядзення аграрнай рэформы ў Вял. кн. Літоўскім (валочнай памеры) значная частка вёсак была ўзбуйнена. У масавым парадку вёскі былі перасялены ў сярэдняе поле (існавала трохпольная сістэма земляробства) паводле ўстаўнога стандарту, у т. зв. ўстаўныя вёскі. У мэтах проціпажарнай бяспекі жылыя будынкі ставіліся ў рад на адным баку вуліцы, гаспадарчыя — на другім. Надзелы ворнай зямлі знаходзіліся абапал сядзібы. За мяжой ворнай зямлі былі выган, сенажаць, лясныя ўчасткі, балоты, падзеленыя на маргі (0,72 га). *А. П. Грыцкевіч.*

**БЕЛАРУ́СКАЯ ЛЕ́КСІКА** ў выданнях Ф. Скарыны. Даследчыкамі ўстаноўлена, што мова выданняў С.— спалучэнне царк.-слав., бел., польск. і чэшскай моўных стыхій. Элементы гэтых стыхій найбольш выразна выяўляюцца ў слоўнікавым складзе. На фоне пануючай царк.-слав. і бел. лексікі лексічныя паланізмы і чэхізмы займаюць другараднае месца (гл. *Заходнеславянская лексіка* ў выданнях Ф. Скарыны).

У часы С. слоўнікавы склад бел. мовы — цалкам афармленая лексічная сістэма, якая ўключала розныя па паходжанню сродкі. Частка з іх была агульнай для большасці тагачасных слав. моў, а частка выступала як уласнабел. і надавала пэўную спецыфіку бел. мове. Лексічны склад скарынінскіх перакладаў змяшчае вял. разрад агульнаслав. лексікі. Сюды адносяцца, напр., назоўнікі **бегъ, беда, бой, братъ, векъ, вера, весна, вино, вода, война, гневъ, грехъ, денъ, домъ, дубъ, дымъ, жена, зима, лето, медъ, мечъ, мужъ, небо, нога, обедъ, поле, садъ, сынъ, тело;** дзеясловы **бегати, бити, брати, быти, верити, горети, дати, делити, ехати, жити, ловити, любити, носити, плакати, седети, судити, ходити, хотети;** прыметнікі **белый, богатый, весёлый, высокий, живый, зелёный, малый, новый** і г. д. Словы гэтага разраду праз стараж.-рус. мову атрыманы ў спадчыну ад агульнаслав. мовы-асновы. Яны з'яўляюцца ядром слоўнікавага складу сучаснай бел. мовы, служаць базай для ўтварэння новых слоў і таму ў адносінах да выданняў С. яны беларускія ў такой самай ступені, як кваліфікуюцца польскімі ў польскай мове, чэшскімі — у чэшскай і г. д. Такая агульнаслав. лексіка выкарыстоўваецца і ў інш. тагачасных бел. помніках.

Для характарыстыкі слоўніка С. вялікае значэнне маюць такія разрады лексікі, якія надаюць спецыфіку слоўнікаваму складу бел. мовы. Да іх адносяцца нар. гутарковая лексіка, што ўводзіцца ў літаратурны ўжытак, каб замяніць ёю традыцыйную кніжную лексіку, індывідуальная лексічныя наватворы пісьменніка і запазычанні з інш. моў. Сярод запазычанняў трэба адрозніваць іншамоўныя словы, упершыню ўжытыя аўтарам, і запазычанні, якія ўвайшлі ў бел. мову значна раней, цалкам асіміляваліся тут у фанетычных, марфалагічных і семантычных адносінах і прынцыпова нічым не адрозніваюцца ад спрадвечна бел. слоў. Разрад такой бел. лексікі ў перакладных выданнях С. адносна вялікі. Яго ўтвараюць агульнаслав. словы ў спецыфічна бел. фанетычным афармленні, чым яны адрозніваюцца ад адпаведных царк.-слав. слоў. Сюды адносяцца, напр., уласцівыя бел. мове поўнагалосныя формы тыпу **берегъ, беремя, борона, боронити, волочити, голова, голодъ, долото, молотъ, оборона, огородъ** (параўн. царк.-слав. **брегъ, бремя, влачити, глава, гладъ** і г. д.), словы з усх.-слав. рэфлексамі **ж, ч** у адпаведнасці з царк.-слав. **жд, щ (надежа, одежа, ночный)**, словы з пачатковым **о** ў адпаведнасці з царк.-слав. **е (озеро, олей, олень)**, словы з прыстаўным пачатковым **в (воко, вось, вужъ)**, словы з прыстаўным галосным **и (илняный, иржавети, иртуть)**, словы з мяккім канцавым **н (вышиня, должиня, ширина)** і інш. лексемы з бел. фанетычнымі адзнакамі (вихоръ, попелъ, суседъ). Беларускімі ў выданнях С. трэба лічыць таксама і агульнаслав. словы, якія перасталі ўжывацца ў некат. слав. мовах, але захаваліся ў бел. мове і надаюць пэўную спецыфіку бел. лексіцы **(вежа, волотъ).** Сюды адносяцца і словы, якія ў бел. мове змянілі, пашырылі або звузілі сваё першапачатковае значэнне **(бокъ, ведати, великий, година, часъ).** Найбольшую колькасць лексічных беларусізмаў у выданнях С. ўтвараюць назоўнікі тыпу **ботъ, ботьянъ, вага, взоръ, войско, ворожбитъ, гай, господаръ, гроши, гукъ, гулня, детинство, дубецъ, зброя, згода, клопотъ, кошикъ, кривда, криница, кропля, кутъ, моцъ, надея, осотъ, подлога, помста, праца, пригода, прикладъ, промень, пыха, речъ, светло, скарбъ, смутокъ, справа, страва, ужитокъ, цнота, шибеница, ярмо** і інш. Колькасць бел. лексікі ў тэкстах С. значна павялічваецца за кошт шматлікіх дзеясловаў рознага паходжання, якія з'яўляюцца спецыфічнай прыналежнасцю слоўнікавага складу бел. мовы: **будовати, важити, виноватити, втекати, гуляти, дбати, дозволяти, досегати, дяковати, жадати, забити, заховати, лаяти, малевати, мовити, мусити, нахилити, обецати, орати, пановати, помстити, працовати, привитати, робити, уживати, ховати** і г. д. Прыкметную бел. афарбоўку тэкстам С. надаюць і шматлікія прыметнікі накшталт **борздый, вдячный, горший, даремный, добрый, дорослый, дужий, лагодный, лепший, моцный, певный, пилный, приветливый, пригожий, смутный, чуйный, шаленый** і інш. З часта ўжывальных можна адзначыць прыслоўі **борздо, вельми, доловъ, досыть, лепей, николи, пилне,** злучнікі **або, абы, але.**

Беларусізмамі трэба лічыць таксама і словы, адносна якіх ёсць падставы сцвярджаць, што яны былі ўтвораны самім С. Матэрыялам для такіх утварэнняў служыў бел. каранясло́ў, афармлены па словаўтваральных мадэлях бел. мовы. Моватворчая дзейнасць С. асабліва яскрава праявілася ва ўжыванні своеасаблівых назоўнікаў, што абазначаюць дзейных асоб: **возотай, выкладачъ, вышивачъ, гадачъ, драпежца, играчъ, насмевца, оборонатай, последовникъ, посмевачъ, продавачъ, хороняка.** Прадуктыўным у С. выступае разрад аддзеяслоўных назоўнікаў, утвораных ад бел. і запазычаных дзеясловаў: **втекание, выхование, жадание, загинутие, кохание, малевание, нарожение, недбание, панование, погоршение, полепшение, пытание, спотканиe** і інш.

У слоўніку С. вял. колькасць кніжных слоў, якія пашырыліся ў бел. пісьменнасці стараж. перыяду, але, відаць, зусім абмежавана ўжываліся ў жывой бел. мове, яе дыялектных адгалінаваннях. Гэта прыкметны разрад абстрактных назоўнікаў, утвораных ад асноў якасных прыметнікаў пры дапамозе суфікса **-ость: белость, близкость, великость, верность,**

**вечность, высокость, глубокость, гордость, горкость, далекость, долгость, легкость, пильность, полность, темность, тихость, узкость, чуйность** і інш. Падобныя беларусізмы адзначаюцца не толькі ў перакладных выданнях С., але і ў царк.-слав. тэкстах «Псалтыра» і «Апостала». Пры выданні гэтых твораў С. часам малазразумелыя царк.-слав. словы перадаваў адпаведнымі лексічнымі эквівалентамі тагачаснай бел. літаратурна-пісьмовай мовы. Гэта становіцца асабліва прыкметным пры параўнанні скарынінскіх выданняў з «Псалтыром» і «Апосталам» «Астрожскай біблії» 1581, у аснову якой пакладзены адзін са спісаў «Генадзіеўскай біблії» 1499. З пункту погляду паходжання і структуры гэты скарынінскі лексічны матэрыял можна падзяліць на 2 групы. Першую з іх, найбольшую па колькасці, складаюць словы, якія адрозніваюцца ад адпаведных царк.-слав. сваімі каранямі: у С.— **бокъ**, у «Астрожскай біблії» — **страна**, адпаведна **бедный — нищий, видети — зрети, взяти — пріати, велми — зело, владаръ — игемонъ, господаръ — владыка, добрий — благий, знайти — обрести, злый — лукавый, кожеделъ — усмарь, купити — стяжати, листь — послание, мусити — подобати, мовца — риторь, навченъ — худогъ, надармо — всуе, надежа — упованіе, одежа — риза, оковы — юзы, обувь — плесница, опять — паки, поведати — глаголети, поле — село, полкъ — спира, слово — глаголъ, соборъ — сомнище, столъ — трапеза, темница — узилище, часъ — время** і інш. Другую групу скарынінскіх ужыванняў складаюць словы, якія з'яўляюцца агульнымі з царк.-слав. лексікай па каранях, але адрозніваюцца словаўтваральнымі сродкамі — суфіксамі або прыстаўкамі: **болесть — болезнь, великий — велий, вывести — извести, выбрати — избрати, далеко — далече, забити — убити, злость — злоба, писмо — писание, царство — царствіе.**

Традыцыя ўвядзення бел. моўных сродкаў у рэліг. тэксты на царк.-слав. мове складалася на Беларусі ў канцы 15 ст. Яркім узорам таму служыць вядомая Чэцця 1489, перапісчык якой паповіч Бярозка з Навагрудка прыклаў усе намаганні, каб наблізіць мову царк.-слав. тэкстаў да мясц. беларускай. Гэта прагрэсіўная на той час тэндэнцыя была развіта ў моватворчай дзейнасці С. Выкарыстаная ім бел. лексіка надае яго выданням моцную мясц. афарбоўку. Яна істотна аддаляе мову выданняў С. ад традыцыйнай царк.-слав. мовы ўсх.-слав. рэдакцыі, хоць у колькасных адносінах уступае царк.-слав. стыхіі. Вызначаны С. кірунак выкарыстання бел. мовы прадоўжаны шматлікімі паслядоўнікамі, якія ў рэліг.-асв. мэтах поўнасцю перайшлі на бел. мову.

*Літ.:* 69; 335.

*У. В. Анічэнка, А. І. Журайскі.*

**БЕЛАРУ́СКАЯ ЛІТАРАТУ́РА** канца 15 — 1-й паловы 16 ст. Асаблівасці развіцця бел. л-ры часоў С. вызначаліся новымі культ.-гіст. ўмовамі, якія склаліся ў той час на тэр. Беларусі. Умацаванне паліт. цэнтралізацыі бел. земляў у складзе Вял. кн. Літоўскага, завяршэнне працэсу фарміравання бел. народнасці, актывізацыя грамадска-паліт. і культ. жыцця краіны, выхад на гіст. арэну новых творчых сіл, шляхты і гараджан са сваімі эстэт. густамі і культ. патрэбамі садзейнічалі больш актыўнаму развіццю ўсёй бел. культуры канца 15 — 1-й пал. 16 ст. Важнымі фактарамі, якія стымулявалі актывізацыю літаратурнага працэсу на бел. землях, былі пашырэнне гуманіст. ідэй, узнікненне кнігадрукавання, а таксама даволі спрыяльныя ўмовы для развіцця і ўдасканалення бел. мовы, якая выконвала ў Вял. кн. Літоўскім ролю агульна-дзяржаўнай і на якой была створана багатая дзелавая пісьменнасць. У цэлым у бел. л-ры ў часы С. завяршыўся складаны працэс станаўлення і пачаўся новы перыяд, характэрнымі асаблівасцямі якога былі няпростае спалучэнне і сінтэз старога і новага, традыцыйнага і наватарскага, іншаземнага і ўласна беларускага.

У канцы 15 — 1-й пал. 16 ст. на Беларусі па-ранейшаму шырока распаўсюджвалася тыповая для эпохі сярэднявечча л-ра пераважна царк.-рэліг. характару, грэка-візантыйскага і стараж.-рус. паходжання, з усімі асн. відамі і жанрамі, сістэма якіх склалася яшчэ ў 12—14 ст. Найбольшай папулярнасцю карысталіся кнігі Бібліі, асабліва Евангелле і Псалтыр, творы аратарскай прозы, перакладныя і арыгінальныя (словы Іаана Златавуста, Васіля Вялікага, Кірыла Тураўскага і інш. прапаведнікаў), шматлікія жыціі (Аляксея, Барыса і Глеба, Ефрасінні Полацкай, Аўрамія Смаленскага, т. зв. літоўскіх пакутнікаў), якія змяшчаліся ў пралогах, пацерыках, чэццях-мінеях і зборніках змешанага складу. Бытавалі таксама розныя апокрыфы, перакладныя свецкія аповесці пра Аляксандра Македонскага *(«Александрыя»)* і Траянскую вайну *(«Троя»)*, стараж.-рус. летапісы. Шмат якія з гэтых твораў былі, несумненна, вядомы ў 15—16 ст. і ў Полацку, дзе было шэраг значных б-к, у т. л. багаты кніжны збор пры Сафійскім саборы. Ідэйна-маст. і маральна-этычныя каштоўнасці эпохі сярэднявечча былі на Беларусі ў часы С. яшчэ даволі жывыя і актуальныя, літаратурная спадчына стараж. Русі актыўна служыла задавальненню ідэйна-выхаваўчых патрэб і пазнавальных інтарэсаў нашых продкаў. На традыцыі мінулага шырока абапіралася ў сваім развіцці, асабліва ў пару станаўлення, і бел. л-ра, якая ў цэлым працягвала захоўваць службовы і сінкрэтычны характар. Аднак у часы С. старая літаратурная спадчына не магла ўжо цалкам задаволіць узрослыя культ. інтарэсы і густы ўсіх слаёў бел. грамадства. Само жыццё вымагала абнаўлення строга кніжнага фонду, творчага ўзбагачэння літ. традыцый. Час патрабаваў і новых твораў, больш адпаведных надзённым задачам рэальнага жыцця, і новага падыходу да старой спадчыны, хоць гэта і не падтрымлівала хрысц. царква, кансерватыўнае духавенства, імкнучыся захаваць у непарушнасці «вечныя» ідэйна-маст. каштоўнасці эпохі сярэднявечча. Не зусім задавальняла чытачоў і кніжная, далёкая ад жывой нар. гаворкі царк.-слав. мова, на якой была напісана ўся клерыкальная л-ра на ўсх.-слав. землях. Таму ўжо ў часы С. з'явіліся першыя пераклады на старабел. мову асобных кніг Бібліі, розных рэліг. аповесцей *(«Жыціе святога Аляксея», «Пакуты Хрыста»)* і інш. Тэндэнцыя да перааціэнкі старых ідэйна-маст. каштоўнасцей найб. ярка выявілася ў асяроддзі перадавых слаёў бел. шляхты і гараджан. Бліскучы прыклад новага, гуманіст. падыходу да Свяшчэннага пісання, творчага развіцця літаратурнай традыцыі — «Біблія» С.

З усіх жанраў бел. л-ры ў канцы 15 — 1-й пал. 16 ст. найбольш актыўна развіваўся летапіс. У часы С. не толькі працягвалі бытаваць (перапісваліся, перарабляліся, дапаўняліся іншымі матэрыяламі) ранейшыя бел. летапісы *«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»* і *«Беларуска-літоўскі летапіс 1446»,* але і ствараліся новыя летапісныя помнікі. У другой чвэрці 16 ст. ўзніклі *«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»* і *«Хроніка» Быхаўца,* у якіх творча выкарыстаны традыцыі стараж.-рус. і бел.-літ. летапісання, а гіст. мінулае Беларусі і Літвы асветлена з агульнадзярж. патрыятычных пазіцый. Тады ж быў створаны выдатны помнік дзелавой пісьменнасці — першы *Статут Вялікага княства Літоўскага 1529.* Літаратурныя традыцыі свецкай панегірычнай прозы, адным з першых узораў якой у бел. л-ры была «Пахвала вялікаму князю Вітаўту» (каля 1430), працягваў невядомы аўтар «Пахвалы гетману Канстанціну Астрожскаму» (1515).

Новай з'явай у культ. жыцці Беларусі 16 ст., якая мела важнае значэнне і для развіцця л-ры, было пашырэнне лац. мовы і кнігі, пранікненне якіх на бел. землі было выклікана развіццём узаемасувязей з зах.-еўрап. краінамі. Дзякуючы ім адкрываўся шырокі доступ да багатай антычнай і рэнесансавай л-ры. На перадавых еўрап. літаратурных традыцыях вырас як паэт адзін з пачынальнікаў гуманіст. л-ры ва Усх. Еўропе Мікола *Гусоўскі.* Яго патрыятычная, самабытная, вял. ідэйна-мастацкай сілы «Песня пра зубра» (апубл. ў 1523) — першы выдатны твор рэнесансавага рэалізму ў бел. л-ры.

У бел. л-ры часоў С. яшчэ пераважалі сярэдневяковыя ідэйна-маст. прынцыпы, яна працягвала захоўваць сінкрэтычны і службова-дзелавы характар, цесную сувязь і пераемнасць з л-рай Стараж. Русі. Адначасова ўсё выразней стала выяўляцца і мацнець тэндэнцыя да развіцця і пераадолення старых традыцый, сведчаннем чаго былі новыя пераклады помнікаў замежнай л-ры, далейшае ўдасканаленне бел. літаратурнай мовы, узбагачэнне жанравай сістэмы, секулярызацыя і дэмакратызацыя л-ры. Этапную ролю ў гэтым працэсе адыграў сваёй рознабаковай дзейнасцю С.

*Літ.:* 111; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; Гісторыя бела-

рускай літаратуры. Старажытны перыяд. Мн., 1985. *В. А. Чамярыцкі.*

**БЕЛАРУ́СКІ ГО́РАД** у 15—16 ст. У крыніцах 11—16 ст. ёсць упамінанні пра 42 гарады на Беларусі, у т. л. *Брэст, Віцебск,* Ваўкавыск, *Гродна,* Клецк, Мінск, Магілёў, Мсціслаў, *Навагрудак,* Оршу, Пінск, *Полацк,* Слуцк. Да сярэдзіны 17 ст. было больш за 350 гарадскіх паселішчаў. Пераважная большасць з іх — невялікія паселішчы з некалькімі вуліцамі, 200—300 дамоў. Але былі асобныя буйныя Б. г. з 10 і больш тысячамі жыхароў (Полацк, Віцебск). Насельніцтва такіх гарадоў складалі рамеснікі розных прафесій, якія аб'ядноўваліся ў цэхі. Цэнтрамі рамяства і гандлю з 14 ст. былі Брэст, Віцебск, Гродна, Полацк, Слуцк. Важным адм.-паліт. цэнтрам у раннефеадальны перыяд быў Навагрудак, які некат. час быў рэзідэнцыяй Вял. кн. Літоўскага. Буйныя гарады феад. эпохі ўзнікалі на берагах, часцей у вусці суднаходных рэк, што падкрэслівае важную ролю ў жыцці Б. г. гандлёвых сувязей з інш. землямі. Насельніцтва фарміравалася і папаўнялася таксама за кошт збеглых сялян, а таксама перасяленых феадалам рамеснікаў з яго прыгонных. Гарады былі дзяржаўнымі, велікакняжацкімі і прыватнаўласніцкімі. Жыхары першых з'яўляліся падданымі дзяржавы, другіх — падданымі ўладара горада — феадала. Гэта розніца захоўвалася і пасля атрымання гарадамі права на самакіраванне (звычайна паводле *магдэбургскага права*). З ростам эканам. ролі гарадоў расшыраліся іх грамадскія функцыі ў якасці адм. цэнтраў часткі тэр. феад. дзяржавы, асяродкаў развіцця асветы, культуры і архітэктуры (гл. *Архітэктура Беларусі* ў 15—16 ст.). Феадальны горад меў выразныя аграрныя рысы: у жыцці гараджан вял. значэнне мелі с.-г. заняткі.

У бел. гарадах 15—16 ст. апрацоўка скур, выраб з іх абутку, адзення, рэчаў гасп. і хатняга ўжытку былі найб. распаўсюджанымі і развітымі відамі рамесніцкай дзейнасці. Сярод гарбароў у гэты час з'явіўся шэраг новых спецыяльнасцей: сырамятнік, дубільшчыкі, кажамякі, замшанікі. Асн. сыравінай служылі скуры буйной рагатай жывёлы, коней, свіней. Баўтушнікі апрацоўвалі ласіныя скуры. Большасць рамеснікаў выраблялі юхт — добра прадубленыя ялавічныя скуры. Юхт слуцкіх і мінскіх рамеснікаў карыстаўся вялікім попытам як у мясцовага насельніцтва, так і за мяжой. Майстрамі «каляровай работы» былі саф'яннікі. Саф'ян выраблялі з авечых і казіных шкур, потым фарбавалі ў жоўты, чырвоны або зялёны колеры. З яго шылі абутак для магнатаў і паноў. Больш дробная спецыялізацыя закранула і шавецкае рамяства. Тут з'явіліся майстры «чорнай, простай работы», «гусарскай работы» і інш. Асн. маса гарадскіх шаўцоў шыла абутак для простых людзей. У час археалаг. раскопак у гарадскіх слаях 15—16 ст. сустракаецца шмат кавалкаў скуры і дэталей абутку, што несумненна сведчыць аб распаўсюджанасці скуранога абутку сярод простага насельніцтва. Пісьмовыя крыніцы гэтага часу называюць боты, чаравікі і інш. Чаравікі мелі тоўстую падэшву, наборны з кавалкаў скуры абцас з металічнай падкоўкай, цвёрды заднік з устаўкай з бярosты і сырамятны раменьчык замест шнурка. Боты былі вываратнымі, з цвёрдай падэшвай і абцасам. Магнаты і шляхта насілі боты і «полботки с каптями» і «бачками с каптями сафьяновыми». Для войска шаўцы «гусарскай работы» шылі боты з халявамі да кален і цісненнем. Са скуры выраблялася таксама кашалькі, ножны, сумкі, рамяні, збруя, вокладкі для кніг і інш. рэчы.

У канцы 15 — першай палове 16 ст. Б. г. ператварыліся ў цэнтры рамяства і гандлю. Склаліся некат. рысы спецыялізацыі эканам. дзейнасці гарадоў (гарбарнае рамяство ў Слуцку, будаўнічае ў Віцебску, зброевае ў Мінску і Полацку і г. д.). Вылучаліся цэнтры гандлю (Полацк, Гродна, Віцебск, Брэст). У буйных гарадах узнікла цэхавая сістэма, што садзейнічала развіццю тэхнікі і прафесійнага майстэрства.

Феадальныя гарады адыгралі важную ролю ў развіцці грамадскага жыцця, росце вытв-сці, развіцці культуры. Жыхары гарадоў аб'ядноўваліся ў брацтвы, якія садзейнічалі развіццю адукацыі насельніцтва і мелі пэўны ўплыў на фарміраванне поглядаў С.

*Літ.:* Грушевский А. С. Города Великого княжества Литовского в XIV — XVI вв.: Старина и борьба за старину. Киев, 1918; Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI — XVIII вв.: (социально-экономическое исследование истории городов). Мн., 1975; Капыскі З. Ю. Структура і колькасць гарадоў Беларусі ў XVI — першай палавіне XVII ст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1965. № 1; яго ж. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Мн., 1966.

*З. Ю. Капыскі, В. Е. Собаль.*

**БЕЛАРУ́СКІЯ СТАРАДРУ́КІ** у сучасных бібліятэках. Да Б. с. адносяцца выданні кірылаўскага шрыфту 16—18 ст., якія былі выдадзены ў бел. друкарнях.

Асноўныя зборы Б. с. зберагаюцца ў буйнейшых рус. б-ках. Старадрукаваныя бел. кнігі вывозілі ў Расію і там прадавалі ўжо ў 16—18 ст. нягледзячы на прыкметнае працідзеянне кансерватыўных колаў духоўнай і свецкай феад. знаці, царквы. У канцы 18 ст. ў некат. б-кі (пераважна пецярбургскія) паступіла частка кніжных фондаў, што раней належалі бел., літоўскім, польскім магнатам (Радзівілам, Замойскім і інш.), асобным царк., навучальным арганізацыям. У наступныя стагоддзі Б. с. назапашваліся ў б-ках Расіі дзякуючы перш за ўсё ахвяраванням прыватных асоб, бібліяфілаў, купцоў, гісторыкаў, археографаў і інш., якія нярэдка мелі унікальныя кніжныя зборы.

У сав. перыяд асаблівае значэнне набылі планамерныя археаграфічныя экспедыцыі, якія штогод арганізуюць Б-ка АН СССР і Пушкінскі дом у Ленінградзе, Навук. б-ка МДУ імя М. Горкага і інш. навукова-даследчыя ўстановы, абмен дублетамі, ідэнтыфікацыя дэфектных экземпляраў. Шмат бел. старадрукаваных выданняў, у т. л. кнігі С. (гл. *Каталог выданняў Ф. Скарыны),* паступіла ў Дзярж. б-ку СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ) у 1918—20 разам з нацыяналізаванымі прыватнаўладальніцкімі і царк.-манастырскімі зборамі. ДБЛ, Дзярж. Гіст. музей у Маскве (ДГМ) аказалі значную дапамогу ў арганізацыі і пашырэнні фондаў старадрукаванай кнігі многіх інш. б-к краіны, у т. л. Дзярж. б-кі БССР імя У. І. Леніна (паступленні 1965 і інш.). У 4 найбуйнейшых б-ках СССР захоўваюцца больш за 90 % усіх вядомых бел. выданняў кірылаўскага шрыфту 16—18 ст.: ДБЛ (без дублетных і неідэнтыфікаваных экземпляраў) — 299, Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ) — 291, ДГМ — 228, Б-цы АН СССР — каля 200. Буйныя зборы бел. старадрукаваных кірылаўскіх выданняў ёсць у Цэнтр. дзярж. архіве старaж. актаў у Маскве (ЦДАСА), Музеі ўкр. мастацтва ў Львове, Дзярж. публічнай гіст. б-цы РСФСР (Масква), Навук. б-цы МДУ імя М. Горкага, Львоўскай навук. б-цы імя В. Стафаніка АН УССР (БАН УССР, Львоў), Цэнтр. навук. б-цы АН Літ. ССР (ЦНБ АН Літ. ССР), Навук. б-цы Вільнюскага дзярж. ун-та, Цэнтр. навук. б-цы АН УССР (БАН УССР, Кіеў). 70 выданняў выяўлена ў гіст. і краязнаўчых музеях Беларусі (Мінск, Гродне, Пінску, Ветцы і інш.). У Дзярж. б-цы БССР імя У. І. Леніна захоўваецца 77 старадрукаваных бел. выданняў, 56 у Цэнтр. навук. б-цы імя Я. Коласа АН БССР (ЦНБ АН БССР). Невял. зборы Б. с. ёсць у Адэскай дзярж. навук. б-цы імя М. Горкага, Занальнай навук. б-цы Саратаўскага дзярж. ун-та, Дзярж. публ. навук.-тэхн. б-цы імя М. Г. Чарнышэўскага ў Новасібірску, Навук. б-цы Ленінградскага дзярж. ун-та, Навук. б-цы Львоўскага дзярж. ун-та, Кіева-Пячэрскім дзярж. гісторыка-культ. запаведніку і інш. У кнігасховішчах СССР знаходзяцца ўсе кірыліцкія выданні бел. першадрукароў: 232 з 234 захаваных экземпляраў пражскіх кніг С., 108 з 154 віленскіх, абодва экземпляры «Евангелля» Васіля Цяпінскага 1570-х г. (ДПБ — у складзе рукапіснага зборніка і Архангельскі краязнаўчы музей); 8 з 10 экз. «Катэхізіса» 1562 Сымона Буднага; 40 з 44 экз. «Евангелля вучыцельнага» 1569; 2 з 3 экз. «Псалтыра з Часасloўцам» 1570; 103 з 110 экз. віленскіх выданняў Пятра Мсціслаўца; усе 37 экз. віленскіх выданняў Васіля Гарабурды. Канцэнтрацыя бел. старадрукаваных кніг у б-ках СССР дазволіла даследчыкам выявіць многія унікальныя і асабліва рэдкія выданні; выпушчаныя Мамонічамі «Зборнік павучанняў» 1585 (ДПБ 1.5.41), «Граматыка славянская» 1586 (ДПБ), «Дыялектыка» каля 1586 Іаана Спангенберга (пераклад Андрэя Курбскага, ЦДАСА), «Трыядыён» (1615, БАН УССР, Львоў); брацкімі выдаўцамі ў Вільні і Еўі — «Трэбнік» 1617 (ЦНБ Літ. ССР), «Прычыны ад'езду з Італіі» Марка Антонія, архіепіскапа спалаценскага (пасля 1618, БАН УССР, Львоў), «Лямант на смерць Лявона Карповіча» (1620, Адэская навук. б-ка імя А. М. Горкага), «Слова душы карыснае» Кірыла Александрыйскага (1643, Музей укр. мастацтва ў Львове), «Буквар» (1652, ДПБ); Куцеінскай друкарняй — «На «Ойча наш» выклад» Іаана Златавуста (1636, БАН УССР, Кіеў), «Псалтыр» (1642, БАН СССР); перасоўнай друкарняй Спірыдона Собаля — «Буквар» (1631, Куцейна, Музей укр. мастацтва ў Львове), «Псалтыр» (1635, в. Буйнічы Магілёўскага р-на) і «Буквар» (1636, Магілёў; абодва ДГМ). У Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна і ЦДАСА захоўваюцца





В. Шматаў. **Беларускія старадрукі.** 1968. Кнігасховішча Навуковай бібліятэкі імя А. М. Горкага МДУ, дзе зберагаюцца выданні Ф. Скарыны.

адзіна вядомыя ў наш час экземпляры палемічных выданняў: «Апісанне і абарона брэсцкага сабора» П. Скаргі і «Антырызіс, або Пярэчанне на Апокрысіс і Отпіс» (абодва 1597, друкарня Мамонічаў) У Б-цы АН СССР у Ленінградзе захоўваецца ананімны твор (Іпація Пацея?) «Справядлівае апісанне ўчынку і справы сінодавай і абарона згоды і еднасці звершанай на сінодзе берасцейскім у годзе 1596» (1597, друкарня Мамонічаў), які даследчык стараж.-рус. л-ры І. Яромін лічыў згубленым і спрабаваў рэканструяваць па ўскосных звестках аднаго з пасланняў І. Вішанскага. Рэдкія таксама брацкія выданні, што выйшлі ў Магілёве ў сярэдзіне і ў канцы 17 ст., у т. л. «Акафісты і каноны» 1693, упрыгожаныя металагравюрамі М. Вашчанкі (экз. ЦДАСА, ДПБ, БАН СССР). У Дзярж. б-цы БССР імя У. І. Леніна ёсць супрасльскія выданні: «Лексікон, або Славеснік славенскі» 1722, энцыклапедыя стараж.-рус. л-ры — зб. «Альфа і Амега» (1788) і інш. Зборы старадрукаваных выданняў, надрукаваных лацінкай на тэр. Беларусі, меншыя па памерах. Параўнальна добра захаваліся экземпляры самага раскошнага, рэнесансавага выдання — «Брэсцкай бібліі» 1563 (ЦНБ АН БССР, ЦНБ АН Літ. ССР, БАН СССР і інш.). Цікавасць маюць гіст. творы Любчанскай друкарні, падрыхтаваныя П. Дземітровічам («Кампендыум» 1625, ЦНБ АН БССР, БАН УССР, Львоў), Доўгірдам («Генеалогія, або Кароткае апісанне дзеянняў вялікіх князёў літоўскіх» Мацея Стрыйкоўскага 1626, экз. ДПБ). Кніга С. Косава «Cherubin» («Херувім»), прысвечаная памяці грамадскага і царк. дзеяча бел. пісьменніка І. Бабрыковіча, выдадзена ў друкарні віленскага брацтва (1635, БАН СССР). У многіх б-ках СССР (ДБЛ СССР, ДПБ, БАН УССР, Кіеў, ЦНБ АН Літ. ССР і інш.) захаваліся палемічныя творы Мялецін Сматрыцкага, надрукаваныя ў той жа друкарні: «Frinos» («Лямант», 1610), «Obrona verifiсасуі» («Абарона ісціннасці», 1621, 2 выданні), «Elenchus pism uszerypliwych» («Паказальнік палемічных твораў», 1622). Вял. тыражамі ў 1614, 1616, 1619, 1623 выходзілі на польск. мове Статуты Вял. кн. Літоўскага і інш. праваўыя выданні Мамонічаў (ДБЛ СССР, ЦНБ АН Літ. ССР, Дзярж. б-ка БССР імя У. І. Леніна, Каўнаская публ. б-ка, БАН ССР). Асаблівую ўвагу заслугоўвае фундаментальнае выданне альбома медзярытаў: «Партрэты роду Радзівілаў» (Нясвіж, 1757, Цэнтр. дзярж. гіст. архіў БССР). 165 гравюр для гэтай кнігі рыхтавалі мясц. майстры, якія былі добра знаёмы са зборам карцін у Нясвіжскім замку. З перакладной белетрыстыкі самы выдатны твор — кніга англ. сатырыка Дж. Свіфта «Падарожжа капітана Гулівера ў розныя краіны» (Супрасль. 1784. ЦНБ АН БССР). Праз 5 год у супрасльскай друкарні была надрукавана польск. аповесць «Lińska Hrabinia» («Графіня Лінъская»; экз. ЦНБ АН БССР). Рэдкімі з'яўляюцца экземпляры кніг Слуцкай друкарні: «Ziemianin albo Hospodarz Inflandski» («Землеўладальнік, або Гаспадар інфляндскі») І. Германа (1673, экз. ДПБ) і інш. У віленскай Троіцкай друкарні ў 1697 надрукавана кніга «Пра сакраменты», якую ў старой бібліяграфіі лічылі полацкім выданнем (унікальны экз. — ДГМ). У Полацку апублікаваны «Лаціна-польскі слоўнік для карыстання навучальнай моладдзю» (1795, Дзярж. б-ка БССР). Юрыд. збор расійскіх узаконенняў Ф. Ланганса з дадаткам матэрыялаў па «Белоруссии», экз. ЦНБ АН БССР, Харкаўскай дзярж. навук. б-кі імя У. Г. Караленкі, экз. магілёўскага выдання кнігі Богуша-Сестранцэвіча «O Rossyi Zachodniey» («Пра Заходнюю Расію», 1793, захаваўся ў фондзе Росіка ў ДПБ).

У бібліятэчных, архіўных, музейных зборах СССР і асабістых кніжных калекцыях захавалася больш за 200 экз. старадрукаваных лаціна-польскіх выданняў, што выйшлі ў Брэсце, Гродне, Лоску, Любчы, Мінску, Магілёве, Нясвіжы, Пінску, Полацку, Ашмяне Мураванай, Слоніме, Слуцку, Супраслі. Яны — важная складаная частка культ. спадчыны Беларусі, Літвы, Польшчы, сведчанне шматвяковых культ. сувязей з інш. краінамі.

У выніку розных гіст. абставін зборы стараж. кірыліцкай кнігі непасрэдна на тэр. Беларусі невялікія. У час 2-й сусв. вайны знішчаны бел. выданні, надрукаваныя ў Брэсце ў сярэдзіне 16 ст., якія захоўваліся ў Польшчы, з Мінска ў Германію былі вывезены пражскія выданні С., інш. рэдкія старадрукі. Колькасць Б. с. і ў замежных б-ках параўнальна нязначная, але ў іх захоўваюцца выданні практычна ўсіх бел. друкарняў 16—17 ст. Асобныя экз. маюць вялікую каштоўнасць сваёй паўнатой і якасцю захаванасці, на некат. ёсць уладальніцкія надпісы, рукапісныя каментарыі. Большасць старадрукаў знаходзіцца ў польскіх б-ках, менш іх прадстаўлена ў швед., англ., італ., ням., франц. кнігасховішчах.

Акрамя пражскіх і віленскіх кніг С., у замежных б-ках зарэгістраваны кірыліцкія выданні Нясвіжскай («Катэхізіс»

1562 — Дзярж. б-ка ЧСР, Прага; Нац. музей, Кракаў), Заблудаўскай («Евангелле вучыцельнае» 1569 — Нац. і універсітэцкая б-кі, Варшава; Публ. б-ка, Дублін, Ірландыя; б-ка Маціцы сербскай, Нові-Сад, Югаславія) друкарняў. З трох захаваных экз. заблудаўскага «Псалтыра з Часаслоўцам» 1570 Івана Фёдарава найб. поўны ў зборах Ламбецкага палаца ў Лондане (у прадмове «Псалтыра» ёсць звесткі аб распаўсюджванні кнігадрукавання ў Вял. кн. Літоўскім, арганізацыі друкарскага «варштата» ў Заблудаве). Адзіны камплектны экз. «Часоўніка» сярэдзіны 1570-х г. з 5 вядомых, надрукаваны Пятром Мсціслаўцам у Вільні, памылкова апісаны англ. бібліёграфамі як астрожскае выданне (б-ка Бодлі, Оксфард, Англія). Большая частка кірыліцкіх выданняў, што захоўваюцца ў замежных б-ках,— вучэбныя кнігі, некат. з іх у адзінкавых экземплярах. Гэта выяўленыя ў пасляваенны перыяд такія невядомыя нашай бібліяграфіі выданні, як «Часоўнік з азбукай» 1596 друкарні віленскага брацтва (коледж св. Тройцы, Кембрыдж, Англія), «Азбукі і Граматыкі» 1593—1601, 1618, 1621 друкарні Мамонічаў, Вільня (б-ка Бодлі), «Граматыка» 1618, Еўе (Каралеўская б-ка, Капенгаген; Дзярж. б-ка ЧСР), «Буквары» 1637, 1640, каля 1645, віленскае брацтва (б-ка ў Оламаўцы, ЧСР; Брытанскі музей, Лондан; Універсітэцкая б-ка, Упсала, Швецыя). Пры вывучэнні б-кі ірландскага архіепіскапа Марша (Дублін) знойдзена невядомае куцеінскае выданне «Буквара» 1653, у гар. б-цы г. Гота (ГДР) — унікальны «Буквар» 1648 Магілёўскай друкарні. Знойдзеныя за мяжой бел. вучэбныя выданні даюць новую інфармацыю пра бел. кнігадрукаванне 16—17 ст. У замежныя сховішчы трапілі таксама юрыдычныя, палемічныя, літургічныя выданні, у т. л. унікальны экз. «Абарона сабору фларэнційскага» 1604 І. Пацея, друкарні Л. Мамоніча (Ватыканская б-ка), першае выданне «Евангелля вучыцельнага» 1616 «простай» бел. мовай віленскага брацтва (Нацыянальны музей, Кракаў; б-ка Польскай АН, Курнік), «Акафісты» 1628 з тэкстамі С., друкарні віленскага брацтва (Народная б-ка, Бялград). На тэр. Рэчы Паспалітай у канцы 16 — пач. 17 ст. распаўсюджваліся кірыліцкія і польскія (лац.) выданні Статутаў Вял. кн. Літоўскага (1588, 1614, 1619). Захавалася таксама найб. значная калекцыя сеймавых канстытуцый 1589, 1590, 1591, 1593 і інш. друкарні Мамонічаў (Б-ка імя Асалінскіх, Вроцлаў). У замежных зборах (гал. чынам у Польшчы) багата прадстаўлены таксама выданні рэфармацыйных друкарняў Брэста, Нясвіжа, Лоска, Любчы. Сярод іх амаль усе творы Буднага, у т. л. унікальны экз. «Пра свецкую ўладу» 1583, Лоск (збор Чартарыйскіх, Нац. музей, Кракаў). Дзеячы эпохі еўрап. Адраджэння і Рэфармацыі праяўлялі вял. цікавасць да біблеістыкі, новых рэдакцый і перакладаў Свяшчэннага пісання. Багатае рэнесансавае выданне «Брэсцкай біблії» 1563, упрыгожанае выдатнымі гравюрамі, трапіла ў б-кі Парыжа, Лондана, Оксфарда, Познані, Варшавы, Упсалы і інш. У фондах Брытанскага музея захавалася адно з найб. ранніх, дакладных і маляўнічых апісанняў турэцкай дзяржавы («Турэцкая манархія, апісаная Рыко»), выдадзенае ў Слуцку ў 1678. Яно ўпрыгожана медзярытамі выдатнага бел. гравёра М. Вашчанкі. Пазней гравюры былі скапіраваны без указання крыніцы для выдадзенай у Пецярбургу «Турэцкай манархіі» 1741. Вывучэнне бел. старадрукаў, што захаваліся за мяжой, адкрывае новыя старонкі ў гісторыі культ. сувязей Беларусі з рознымі краінамі Еўропы ў 16—17 ст., дапамагае прасачыць уздзеянне скарынінскіх традыцый, папаўняе агульную карціну развіцця бел. кнігадрукавання ў яго найб. ранні перыяд.

*Літ.:* 491; 558; 648; 807; 809; 831; Зернова А. С. Книги кирилловской печати, хранящиеся в заграничных библиотеках и неизвестные в русской библиографии // Тр. Гос. б-ки СССР. М., 1958. Т. 2; Barnicot J. D. A., Simmons J. S. G. Some unrecorded early-printed Slavonic books in English libraries // Oxford Slavonic Papers. 1951. Vol. 2; Simmons J. S. G. Early-printed Cyrillic books in archbishop Marsh's library. Dublin //The Irish Book. 1963.

*Г. Я. Галенчанка.*

**БЕЛАРУ́СЫ.** У 14—16 ст. такая назва насельніцтва, якое пражывала на сучаснай тэрыторыі Беларусі, не ўжывалася. У той час Б. называлі *ліцвінамі* або па назве мясцовых княстваў (берасцейцы, палачане і інш.). У больш ранні час іх называлі неўрамі, нарцамі, а ў 9 ст. сустракаліся назвы: крывічы, радзімічы, драговічы і інш. Як рускія і ўкраінцы, Б. паходзяць ад стараж.-рус. народнасці, якая склалася ў 9—13 ст. на аснове ўсх.-слав. плямёнаў у выніку разлажэння ў іх першабытнаабшчыннага ладу, устанаўлення класавага грамадства і стварэння стараж. рус. раннефеад. дзяржавы — Кіеўскай Русі. У 11—12 ст. рост вытворчых сіл, узнікненне новых эканам. цэнтраў, узмацненне ўлады феадалаў на месцах, а ў выніку гэтага феад. раздробленасць, пастаянныя міжусобіцы прывялі да распаду Кіеўскай Русі. Адным з першых з-пад улады Кіева пачало адасабляцца Полацкае княства, потым Тураўскае і інш. княствы. У 13 — сярэдзіне 14 ст. беларускія землі ўваходзілі ў склад *Вялікага княства Літоўскага.* З ростам таварна-грашовых адносін, развіццём унутранага рынку і эканам. сувязей, ва ўмовах барацьбы з феад. прыгнётам, нашэсцямі крыжакоў і набегамі татараў (гл. *Татарскія набегі на Беларусь* у 2-й палове 15 — 1-й палове 16 ст.) усё мацней выяўляліся моўныя і этнакульт. асаблівасці жыхароў Беларусі, фарміравалася бел. народнасць (14—16 ст.). З 13 ст. пачалі праяўляцца характэрныя рысы бел. мовы, у 15—16 ст. яны замацоўваюцца ў помніках пісьменнасці. Бел. мова ў Вял. кн. Літоўскім выконвала функцыі дзярж. мовы. Складванне бел. народнасці суправаджалася развіццём асн. форм матэр. і духоўнай культуры народа, якія ўзнікалі на стараж.-ўсходнеслав. аснове, мелі многа агульных рыс з культурамі братніх народаў — рускіх і ўкраінцаў (гл. *Усходнеславянская культура* ў 10—15 ст.). Этнічная своеасаблівасць культуры бел. народнасці праяўлялася ў тыпах паселішчаў, у гасп. занятках, жыллі, адзенні, ежы, абрадах і звычаях, у народнай мастацкай творчасці.

Асн. вытворцамі былі сяляне і рамеснікі (гл. ў арт. *Сялянства*). Сельская гаспадарка Б. развівалася на аснове дасягненняў земляробчай тэхнікі стараж. славян. Распаўсюджанымі былі такія земляробчыя прылады, як саха, барана, каса, серп, цэп і інш. Б. вырошчвалі збожжавыя і агародныя культуры. Развіта было садоўніцтва. Вял. значэнне ў гаспадарцы мела жывёлагадоўля. Дапаможнымі заняткамі былі паляванне, рыбалоўства, бортніцтва, лясныя промыслы, хатнія рамёствы. У Б. былі распаўсюджаны такія спосабы палявання, як гоны з сабакамі, аблавы, засады, прыёмы рыбалоўства — запруда («яз», «ез»), лучэнне восцямі, лоўля рыбы стаўнымі і сеткавымі прыладамі, на вуду. Найб. пашыраныя рамёствы і промыслы — сталярства, цяслярства, бондарства, ганчарства, кавальства, ткацтва, пляценне, кравецтва, шавецтва і інш.

Сац.-эканам. ўмовы развіцця, клімат. асаблівасці, традыцыі, атрыманыя ў спадчыну ад стараж.-рус. культуры, парадзілі характэрныя для Б. тыпы пасяленняў і жылля. На тэр. Беларусі здаўна існавалі разнастайныя тыпы гарадскіх і сельскіх пасяленняў (гл. *Беларускі горад* у 15—16 ст., *Беларуская вёска* ў 15—16 ст.). У перыяд фарміравання бел. народнасці адбываецца прыкметны рост гарадоў, павялічваецца іх насельніцтва. У гэты ж перыяд інтэнсіўна пачынае развівацца ў Беларусі такі тып пасялення, як мястэчка. Існавалі і такія пасяленні, як пагост, слабада. У 16 ст. паяўляюцца фальваркі, аколіцы, засценкі, выселкі. Найб. ярка своеасаблівасць матэрыяльнай культуры беларусаў у 15—16 ст. праяўлялася ў народным адзенні. Вызначальны рысай бел. народнага касцюма быў белы колер. Састаўнымі часткамі мужч. касцюма былі белая палатняная кашуля тунікападобнага крою з прамым разрэзам па цэнтры грудзей, вузкія палатняныя, паўсуконныя ці суконныя нагавіцы, каляровы пояс. Жаночы касцюм складаўся таксама з белай палатнянай доўгай кашулі, тунікападобнай або з прамымі палікамі, палатнянай ці шарсцяной спадніцы, фартуха. У гэты час ва ўжытак уваходзяць жаночыя гарсэты. Цёплым верхнім адзеннем служылі світы, сярмягі, кажухі, у жыхароў гарадоў і мястэчак — жупаны. Арыгінальнасць народнаму бел. касцюму надавалі галаўныя ўборы — наміткі ў жанчын, лямцавыя, аўчынныя ці саламяныя капелюшы і шапкі ў мужчын. Абуткам служылі лыкавыя ці лазовыя лапці, пасталы з сырамятнай скуры, боты і чаравікі, узімку — валёнкі. Адзенне магнатаў і гарадской знаці развівалася ў рэчышчы зах.-еўрап. моды. Шылася з дарагіх тканін, аздаблялася залатой і сярэбранай вышыўкай, дэкаратыўнымі гузікамі, каштоўнымі камянямі. Абутак — скураныя

боты, чаравікі рознай формы і аздаблення.

У час фарміравання бел. народнасці складвалася і своеасаблівая народная кулінарыя. Бел. кухня вызначалася багаццем і разнастайнасцю мучных страў. Акрамя жытняга квашанага хлеба, пяклі праснакі з пшанічнай, жытняй, аўсянай, ячменнай, гарохавай, грэцкай мукі, варылі вадкія мучныя стравы — кулагу, саладуху, зацірку, кулеш, галушкі, кісялі. З круп ячменю, проса, пшаніцы — крупнікі, куццю і розныя кашы. Шырока ўжывалі розную гародніну. З мяса перавагу аддавалі свініне. Малочныя прадукты елі ў асн. у натуральным выглядзе. Рабілі масла, сыры. У посныя дні значнае месца ў харчаванні Б. займала рыба. У ежы, напітках, у нар. медыцыне шырока выкарыстоўвалі мёд.

Бел. народнасць мела сваю самабытную духоўную культуру. У сямейным і грамадскім побыце Б. доўга існавалі элементы абшчыннай арганізацыі. У перыяд фарміравання народнасці на тэр. Беларусі яшчэ шырока была прадстаўлена сямейная абшчына, т. зв. дворышча, у склад якога ўваходзіла 5—10 і больш сваяцкіх сем'яў, што жылі асобнымі дварамі, але супольна валодалі зямлёй, прыладамі працы, вялі агульную гаспадарку, а прадукты працы дзялілі пароўну. У 14—16 ст. праходзіў працэс паступовага распаду дворышча як вытворчай адзінкі на асобныя сем'і, якія жылі сял. дварамі (дымамі). Зямля стала ўласнасцю феадала, у 16 ст. асн. падатковай адзінкай становіцца служба (зямельны ўчастак, які знаходзіўся ў карыстанні 2 і больш дымоў). Сям'я звычайна была вялікай і магла ўключаць да 50 чалавек па прамой і бакавых лініях сваяцтва. У такой сям'і існавалі патрыярхальныя адносіны, эканам. і маральная ўлада знаходзілася ў руках бацькі, гаспадара, астатнія члены сям'і былі падначалены яму. Асабліва ў цяжкім залежным становішчы знаходзіліся нявесткі, прымакі. Вельмі моцнымі на вёсцы былі сваяцкія і суседскія сувязі. Шырока бытавалі звычаі сябрыны (таварыства ў якой-н. працы), талакі (суседская ўзаемадапамога).

Паводле веравызнання Б. былі ў асн. праваслаўнымі хрысціянамі. З канца 10 ст. хрысціянства пачало паступова выцясняць на тэр. Беларусі дахрысціянскія вераванні. У 13 ст. сюды пранікае каталіцызм, уплыў якога ўзмацніўся асабліва пасля Крэўскай (1385) і Гарадзельскай (1413) уній. Але побач з хрысціянскай рэлігіяй з язычніцкіх часоў у народзе захоўвалася вера ў духаў прыроды — русалку, лесуна, вадзеніка, палевіка, дамавіка, у злыдняў, чорта і інш., вера ў язычніцкіх багоў (Пярун, Ярыла, Цёця і інш.). У каляндарным цыкле абрадаў вылучаліся каляды, вялікдзень, радаўніца, юр'я, сёмуха (тройца), купалле, большасць з якіх хаця і былі прыстасаваны царквой, мелі дахрысціянскае паходжанне і святкаваліся калектыўна, з выкананнем стараж. рытуалаў і звычаяў. Чыста працоўную аснову мелі такія абрады гадавога цыкла, як зажынкі, дажынкі. У Б. трывала захоўваўся з язычніцкіх часоў культ продкаў, у гонар якіх вясной і ўвосень спраўлялі спецыфічны абрад — дзяды. Асн. сямейныя абрады — радзіны, вяселле, пахаванне — народныя па сваёй сутнасці, адзначаліся як калектыўнае прыняцце ў род новага чалавека, новай сям'і або як развітанне з нябожчыкам, падтрымка яго сям'і. Пазней яны былі царквой прыстасаваны, як і большасць каляндарных абрадаў, да рэлігійных таінстваў, але народ рэлігійны бок абрадаў доўга не прымаў. У перыяд фарміравання бел. народнасці сяляне часта не лічылі абавязковымі вянчанне, хрышчэнне, што жорстка каралася царквой.

Асн. формай выяўлення мастацкага мыслення, самай даступнай крыніцай ведаў, кодэксам маральных норм на працягу стагоддзяў была народная творчасць. Б. стварылі багатую і высокамаст. каляндарна-абрадавую паэзію (вяснянкі, юраўскія, валачобныя, троіцкія, купальскія, жніўныя, восеньскія, калядныя, шчадроўскія песні), сямейна-абрадавую паэзію (радзінныя, вясельныя песні, галашэнні), народную лірыку, балады. Спецыфіка бел. эпасу выявілася ў мностве казак (чарадзейных, сацыяльна-бытавых, пра жывёл). На аснове фальклору развіваліся мастацтва скамарохаў, інтэрмедыі, у 16 ст. з'явіўся бел. народны лялечны тэатр — батлейка. Шырока бытавалі народныя песні, танцы, былі вядомы разнастайныя музычныя інструменты: варган, біла, гуслі, бубны, дудкі, рог, труба, з 16 ст. — скрыпка. Народнае выяўленчае мастацтва было цесна звязана з побытам і мела прыкладны характар — ганчарства, кераміка, выраб кафлі, разьба па дрэве. Гл. таксама арт. *Мастацтва Беларусі.*

Прафесійнае мастацтва і л-ра бел. народа ўзыходзяць да часоў Кіеўскай Русі, культ. спадчына якой аднолькава належыць рускім, украінцам і беларусам. На станаўленне ўласна бел. культуры і л-ры ў 12—13 ст. паўплывала творчасць дзеячаў культуры Кірыла Тураўскага, Ефрасінні Полацкай, Аўрамія Смаленскага, Клімента Смаляціча. У 14—16 ст. бел. л-ра была прадстаўлена жыціямі святых, пацерыкамі, апокрыфамі, хаджэннямі, летапісамі, перакладнымі творамі. Вяршыняй тагачаснай бел. л-ры стала гуманіст. дзейнасць С., у асобе якога бел. культура выйшла на міжнар. арэну. Аб росце гіст. і этнічнай самасвядомасці бел. народнасці сведчылі напісанне і змест агульнадзярж. беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік 14—16 ст. (*«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх», Беларуска-літоўскі летапіс 1446, «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», «Хроніка» Быхаўца;* гл. таксама арт. *Беларуская літаратура* канца 15 — 1-й паловы 16 ст.). *Статут Вялікага княства Літоўскага 1529* — адзін з першых у Еўропе сістэматызаваных збораў законаў. На Беларусі распаўсюджваліся ідэі *Адраджэння.*

Яшчэ ў 12 ст. на тэр. Беларусі склаліся самабытныя мастацкія цэнтры — Полацк, Гродна і інш., развіўся манументальны жывапіс (фрэскі), іканапіс. З'яўленне бел. кнігадрукавання ў пач. 16 ст. выклікала да жыцця такі від выяўленчага мастацтва, як гравюры на дрэве, заснавальнікам якой стаў С. Для муз. прафесійнай культуры былі характэрны бел. тып знаменных песнапенняў, шматгалосся радковыя спевы. У 16 ст. паявіліся свецкія хоры, капэлы, аркестры. Высокага ўзроўню развіцця ў перыяд фарміравання бел. народнасці дасягнула архітэктура (гл. *Архітэктура Беларусі* ў 15—16 ст.). Асн. мастацкімі кірункамі гэтага перыяду былі раманскі стыль, готыка (гл. *Готыка* на Беларусі), пазней рэнесанс. Манументальная архітэктура вызначалася збудаваннямі абарончага характару. У 14—16 ст. пашырылася актавая пісьменнасць. У Вял. кн. Літоўскім на бел. мове вяліся справаводства і судаводства, пісаліся статуты, граматы, сеймавыя пастановы, летапісы, хронікі, а таксама маст. і царк. творы. У Полацку, Слуцку, Гродне, Навагрудку, Брэсце існавалі б-кі і цэнтры рукапіснага мастацтва. Сістэма школьнай адукацыі знаходзілася ў руках царквы. З канца 14 ст. дзеці шляхты, мяшчан вучыліся ў Кракаўскім, Пражскім і іншых ун-тах Еўропы. Побыт і культура Б. перыяду фарміравання народнасці сталі той жыватворчай глебай, на якой пазней вырасла бел. нац. культура як у яе прафесійных, так і ў фальклорна-этнагр. формах. Гл. таксама арт. *Беларусь* у 15—16 ст., *Культура Беларусі* ў канцы 15 — 1-й пал. 16 ст.

*Літ.:* Гринблат М. Я. Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968; Карнейчык Я. Беларуская нацыя: Гістарычны нарыс. Мн., 1969; Пилипенко М. Ф. Этнография Белоруссии. Мн., 1981. *Э. Р. Сабаленка.*

**БЕЛАРУ́СЬ** у 15—16 ст. У канцы 13 — сярэдзіне 14 ст. бел. землі ўваходзілі ў склад *Вялікага княства Літоўскага,* што было абумоўлена сац.-эканам. і паліт. працэсамі: феад. раздробленасцю зямель Русі, іх аслабленнем мангола-татарскім нашэсцем, націскам з боку крыжакоў, узмацненнем раннефеад. Літоўскай дзяржавы, абвастрэннем класавых супярэчнасцей ва ўмовах развіцця феад. адносін і зацікаўленасцю бел. феадалаў у моцнай дзярж. уладзе, здольнай абараняць іх класавыя інтарэсы. Вярхоўная ўлада ў Вял. кн. Літоўскім належала вял. князю — гаспадару. Яму падпарадкоўваліся князі і буйныя феадалы — паны, якія кіравалі асобнымі землямі і княствамі.

У канцы 15 — 1-й пал. 16 ст. на Беларусі жыло прыкладна 1250—1500 тыс. чал. (каля 7 чал. на 1 км$^2$). На выдадзенай у 1507 у Рыме карце Еўропы адзначаны бел. гарады: Барысаў, Брэст, Гродна, Крэва, Ліда, Навагрудак, Полацк, на карце С. Мюнстэра (1540) — Бабруйск, Гомель, Гродак (Давыд-Гарадок), Гродна, Капыль, Мазыр, Навагрудак, Орша, Пінск. Складальнік карты Літвы і Беларусі 1613 Т. Макоўскі ў дадатку да яе пісаў: «Вялікае княства Літоўскае — вялізнейшая і багацейшая краіна з рыбнымі сажалкамі і азёрамі, вялікімі і славутымі рэкамі, з якіх суднаходнымі

з'яўляюцца Хранон, які называецца Нёман, Рубон — цяпер Дзвіна, Барысфенес, цяпер у народзе званы Днепр, Буг, Прыпяць, Вілія, Бярэзіна, Шчара, Свента, Нявяжа, Свіслач, Случ, Лань. У гэтай краіне шмат лясоў, якія даюць добрую здабычу ў паляванні, зборы мёду, будаўнічы матэрыял і попел... Немалаважнае значэнне маюць гарады Трокі, Коўна, Гродна, Брэст, Полацк, Мінск, Магілёў, Навагрудак і іх раёны, Слуцк, Нясвіж і Біржы і аднайменныя княствы». Гл. таксама арт. *Белая Русь.*

У 15 ст. Вял. кн. Літоўскае некалькі разоў заключала дзярж. уніі з Польшчай (1401, 1413 і інш.), але аб'яднання абедзвюх дзяржаў не адбылося. У знешняй палітыцы яны выступалі ў асн. узгоднена. Вялікі кн. Вітаўт, які кіраваў дзяржавай у 1392—1430, праводзіў палітыку ўмацавання незалежнасці Вял. кн. Літоўскага, у канцы свайго панавання імкнуўся разарваць унію з Польшчай і прыняць каралеўскі тытул і карону, але гэтаму перашкаджалі магнаты Польшчы. Пашыраўся паліт. уплыў Вял. кн. Літоўскага на паўн.-ўсх. рус. княствы. Уключэнне ўкр. зямель (паўд. Падоліі) у склад дзяржавы дало выхад Вял. кн. Літоўскаму да Чорнага мора. Вялікія князі літ. пашыралі правы феад. класа. У 1387 феадалам Вял. кн. Літоўскага дадзены правы перадаваць нашчадкам у спадчыну маёнткі і распараджацца імі (са згоды вял. князя). Феадалам-католікам было дадзена права займаць вышэйшыя адм. пасады (ваяводаў і кашталянаў віленскіх і трокскіх). Прывілеямі 1432 і 1434 пашыраны маёмасныя і асабістыя правы правасл. князёў і баяраў бел., укр. і рус. зямель, фармальна былі ўраўнаваны іх правы з правамі феадалаў-католікаў. Прывілеем 1447 зацверджаны шляхецкія правы ўсім феадалам, уладальнікам маёнткаў дадзена права суда над насельніцтвам гэтых маёнткаў, аформлена запрыгоненне часткі сялян, якія ператвараліся ў «айчызных падданых». Феадалы маглі іх прадаваць, закладваць, дарыць і завяшчаць разам з зямлёй. Феадалы вызваляліся ад падаткаў з сваіх маёнткаў, за выключэннем стацыі і фартыфікацыйных работ. За літ., бел., укр. феадаламі замацоўвалася выключнае права займаць дзярж. пасады.

Важную ролю ў 15 — 1-й пал. 16 ст. ў дзярж. кіраванні адыгрывала гаспадарская рада — паны-рада, у яе ўваходзілі найбуйнейшыя феадалы (маршалкі, канцлеры, падскарбіі, гетманы, ваяводы, кашталяны, намеснікі і інш.), а таксама каталіцкія епіскапы. Спачатку рада была дарадчым органам пры вял. князю, паступова яе значэнне ўзрасло. З канца 15 ст. яна пачала абмяжоўваць велікакняжацкую ўладу. Паводле прывілея 1492 без згоды паноў-рады вял. князь не меў права вырашаць важнейшыя пытанні дзярж. палітыкі. Члены паноў-рады, нягледзячы на іх этнічную і рэліг. прыналежнасць, былі аднолькава забяспечаны земскімі прывілеямі. Гэта кансалідавала феад. саслоўе, умацоўвала паліт. лад дзяржавы. Супярэчнасці, якія ўзнікалі на аснове этнічнай і рэліг. розніцы, не былі антаганістычнымі. Літ., бел. і ўкр. феадалы аднолькава былі зацікаўлены ва ўмацаванні дзяржавы, аднолькава жорстка эксплуатавалі і прыгняталі нар. масы. У 16 ст. прыналежнасць да той ці інш. рэлігіі сярод феадалаў не адыгрывала значнай ролі. Члены сям'і (асабліва ў асяроддзі магнатаў) маглі належаць да рознай веры. Над рэліг. розніцай дамінавала паняцце адзінага грамадзянства. Пад словам «Літва» разумелася Вял. княства, а пад тэрмінам «ліцвін» — грамадзянін гэтай дзяржавы. Спробы раскалоць дзяржаву на аснове рэліг., этнічнай розніцы феадалаў у 2-й пал. 15 — пач. 16 ст. поспеху не мелі. Змова правасл. літ. князёў у 1481, на чале якой стаялі нашчадкі Альгерда, феад. мяцеж феадала-католіка М. Глінскага ў 1507—08 не мелі падтрымкі бел. і ўкр. феадалаў.

У 15 ст. дзейнічаў вольны сейм, які ўзнік на аснове стараж. вечавых сходаў і выражаў інтарэсы больш шырокіх колаў літ., бел. і ўкр. феадалаў. У 16 ст. роля сейма ўзмацнілася, у сярэдзіне 16 ст. ён набыў значэнне найвышэйшага заканадаўчага, кантрольнага органа. На ім дэпутаты ад шляхты выступалі з наказамі ад феадалаў сваіх зямель. Сістэма мясц. кіравання ў розных землях Вял. кн. Літоўскага была неаднолькавая. У Полацкай і Віцебскай землях, на Падляшшы і інш. існавалі мясц. сеймы. На чале мясц. кіравання стаялі намеснікі, ваяводы, старосты, якія мелі шырокія правы і паўнамоцтвы. Ніжэйшае звяно ў сістэме кіравання — соцкія, дзесяцкія, цівуны і валасныя старцы.

У пач. 16 ст. была праведзена адм. рэформа. На тэр. Беларусі былі створаны Віцебскае, Полацкае і Навагрудскае ваяводствы. Рэформа была накіравана на абмежаванне паліт. улады мясц. феад. знаці Беларусі. Аднак асобныя землі ў Вял. кн. Літоўскім, у т. л. на Беларусі, карысталіся пэўнай аўтаноміяй (Давыд-Гарадоцкае, Клецкае, Кобрынскае, Мсціслаўскае, Пінскае, Слуцкае і інш. княствы). Для ўтрымання і захавання бел. і ўкр. зямель у складзе Вял. кн. Літоўскага вял. князі літ. давалі гэтым землям устаўныя граматы (прывілеі). Устаўныя граматы Вітаўта, Свідрыгайлы, Казіміра, Аляксандра, Жыгімонта і Жыгімонта Аўгуста Полацкай і Віцебскай землям пацвярджалі шэраг правоў баяр (феадал) і мяшчан. Асн. прывілеі на розныя правы і «вольнасці» Віцебскай зямлі 1503 і 1561, Полацкай зямлі 1511 і 1547 пацвярджалі права жыхароў гэтых зямель мець велікакняжацкага намесніка або ваяводу «па іх волі», захоўвалі даўняе права мясц. феадалаў замяняць ваяводу: «А который будеть воевода наш нелюб им ино нам им воеводу иншого дати по их воли». Улада намесніка (ваяводы) была абмежавана радай (саветам) мясц. баяр. З павелічэннем колькасці ваяводстваў у 16 ст. на пасады ваяводаў на тэр. Беларусі і Украіны ўсё часцей назначаюцца прадстаўнікі бел. і ўкр. феадалаў. Гл. таксама арт. *Дзяржаўнае кіраванне* на Беларусі ў 15—16 ст.

У 14—16 ст. у Вялікім княстве Літоўскім адбываўся працэс афармлення саслоўяў феадалаў, шляхецкага саслоўя. У 14—15 ст. вышэйшай групай феадалаў былі князі. У 15 ст. яны былі практычна пазбаўлены ўлады ў былых удзельных княствах. Частка князёў ператварылася ў сярэдніх і нават дробных землеўладальнікаў-вотчыннікаў або баяр (т. зв. служылыя княжаты). Асн. маса феадалаў Беларусі называлася баярамі (на працягу 16 ст. гэты тэрмін выцеснены словам шляхта). Шляхта набывала выключнае права валодаць зямлёй. Рэформа суд. органаў, рост уплыву павятовых сеймікаў у сярэдзіне 16 ст., узмацненне значэння сеймаў, кадыфікацыя феад. права — усё было накіравана на ўзвышэнне паліт. ролі шляхты, якая ў сярэдзіне 16 ст. стала саюзніцай вярх. улады ў барацьбе супраць буйной знаці. Шляхта дамагалася і расшырэння эканам. правоў (у 1551 бязмытны вываз за мяжу лясных тавараў, у 1559 — збожжа і жывёлы, у 1565 бяспошлінны ўвоз на свае патрэбы замежных тавараў і інш.). Але да сярэдзіны 16 ст. рост магнацкага і дробнашляхецкага землеўладання не спыняўся, зямельныя ўладанні сярэдняй шляхты меншалі.

У 15—16 ст. захоўвалася значная група ваеннаслужылых сялян, якія ў 15 ст. наз. слугі путныя, а ў 16 ст.— баяры панцырныя, баяры путныя. Некат. ваеннаслужылыя людзі мелі ў невял. колькасці залежных сялян. У 1552 у Полацкім ваяводстве было 1115 сем'яў ваеннаслужылых людзей. 59 ваеннаслужылых людзей (5,3 % ад агульнай колькасці) валодалі 155 сялянскімі сем'ямі. З гэтай групы 45 баяр і слуг, якія знаходзіліся на службе ў феадалаў, валодалі 104 сялянскімі сем'ямі, 14 слуг панцырных і путных, што знаходзіліся на службе ў вял. князя, валодалі 51 сялянскай сям'ёй. Гэтыя даныя сведчаць аб развіцці васальных адносін на Беларусі, дзе асн. масу феад. грамадства складала *сялянства.*

У 15 — 1-й пал. 16 ст. на Беларусі было каля 40 гарадоў і 200 мястэчак. Прывілей 1444 з усіх гарадоў Вял. кн. Літоўскага вылучаў 15 лепшых гарадоў, у т. л. 7 бел.: Полацк, Віцебск, Слуцк, Мінск, *Навагрудак, Брэст, Гродна* (гл. таксама арт. *Беларускі горад* у 15—16 ст.). Самым буйным горадам Беларусі ў 16 ст. быў Полацк, радзіма С. У 15 — 1-й пал. 16 ст. каля 50 гарадоў і мястэчак мелі *магдэбургскае права.* Гарадское насельніцтва ў асн. масе складалі *беларусы.* З канца 14 ст. ў зах.-бел. гарадах і мястэчках пражывалі таксама яўрэі, у цэнтр. частцы Беларусі — татары. У канцы 15 ст. на Беларусі ўзніклі рамесныя цэхі, якія ствараліся па трохчленнай формуле: майстар, чаляднік (падмайстар), вучань. Унутр. лад цэха вызначаўся статутамі, якія рэгламентавалі вытв-сць і збыт рамесных вырабаў, якасць сыравіны і гатовай прадукцыі, час і ўмовы працы майстроў і чаляднікаў, тэхналогію вытв. працэсу, колькасць

вучняў у майстра, час і ўмовы іх працы і інш.

Узмацненне феадальна-прыгонніцкага прыгнёту рэзка абвастрыла класавыя супярэчнасці ў Вял. кн. Літоўскім. З 2-й пал. 16 ст. ўзмацніліся антыфеад. выступленні сялян і гар. бедначы. Асн. формы барацьбы: уцёкі сялян, процідзеянне правядзенню валочнай памеры, адмаўленне выконваць феад. павіннасці. Атрады казакоў, сярод якіх былі і бел. сяляне, з 90-х г. 16 ст. часта прыходзілі на Пд Беларусі і грамілі маёнткі феадалаў. У кастрычніку — снежні 1595 Пд і У Беларусі ахапіла антыфеад. паўстанне, ядром якога стаў атрад казакоў пад кіраўніцтвам С. Налівайкі. Да атрада далучаліся бел. сяляне, гар. бедната, дробныя феадалы. Паўстанцы занялі Петрыкаў, Слуцк, Магілёў. Класавая барацьба сялян, рамеснікаў, гар. бедняты ўзмацнілася ў пач. 17 ст.

Рост таварна-грашовых адносін, развіццё ўнутр. рынку садзейнічалі ўмацаванню эканам. сувязей унутры Вял. кн. Літоўскага ў цэлым і ў межах этнічнай тэр. Беларусі. З пачатку 15 ст. ўзмацніліся тэндэнцыі цэнтралізацыі вярх. улады. З 13 ст. складваліся характэрныя рысы нац. мовы, якія адрознівалі яе ад роднасных моў усх.-слав. народнасцей. На працягу 15—16 ст., спецыфічныя рысы бел. мовы замацаваліся і выразна выявіліся ў афіц. дакументах і інш. помніках бел. л-ры і пісьменнасці. Развіваліся асаблівасці гасп. і грамадскага побыту, матэрыяльнай і духоўнай культуры — у тыпах жылля, яго ўбранні і начынні, у адзенні, ежы, абрадах і звычаях, у маст. творчасці, фальклоры. Канец 15 — 1-я пал. 16 ст.— перыяд, калі жыў і тварыў С.,— былі часам далейшага развіцця і ўзбагачэння бел. культуры, эпохай станаўлення культуры *Адраджэння* на Беларусі. Гл. таксама арт. *Культура Беларусі* ў 15—16 ст.

*Літ.:* 38; Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Т. 1. Мн., 1972; Грыцкевіч А. П. Беларусь у канцы XV — першай палавіне XVI ст. (Да 450-годдзя беларускага кнігадрукавання) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1967. № 3. *А. П. Грыцкевіч.*

**БЕ́ЛАЯ РУСЬ,** назва некат. зямель Паўн.-Усх. Русі ў 12—16 ст. і Беларусі з 14 ст. Паходжанне тэрміна канчаткова не высветлена. Паводле адной версіі, «Б. Р.» называлі тыя рус. і бел. землі, якія ў пэўны час не залежалі ні ад мангола-тат. ханаў, ні ад літ. князёў: «белая» ў дадзеным выпадку — вялікая, незалежная, вольная, свабодная. Паводле другой версіі, гэта назва паходзіць ад белага колеру адзення (белых світак, сукенак, кашуль) жыхароў гэтых зямель або ад іх фізічных адзнак — бландзіны. Трэцяя версія тлумачыла, што «Б. Р.» называлі землі, насельніцтва якіх было хрысціянскае, у процівагу Чорнай Русі, дзе быццам бы больш доўгі час захоўвалася язычніцтва (што не адпавядала сапраўднасці). Вучоныя больш схіляюцца да 1-й версіі.

В. М. Тацішчаў адзначаў, што ўпершыню тэрмін «Б. Р.» згадваецца ў Раскольніцкім і Растоўскім рукапісах пад 1135 пры назве Растова-Суздальскага княства. Яго часцей ужывалі з 2-й пал. 12 ст. Так называлі да 15 ст. і Маскоўска-Уладзімірскае княства. Маскоўскі князь Іван III у 2-й пал. 15 ст. афіцыйна ўвёў тэрмін «Б. Р.» для абазначэння Рускай дзяржавы (атаясамлівалася з паняццем Вялікая Русь). У далейшым гэты тэрмін для абазначэння Маск. Русі не ўжываўся. Адносна бел. зямель назва «Б. Р.» упершыню паявілася ў 14 ст. ў Іпацьеўскім летапісе, пры апавяданні пра жаніцьбу (1325) польск. караля Казіміра з дачкой вял. князя літоўскага Гедыміна Ганнай. Назву «Б. Р.» ужываў у «Хроніцы Польшчы» (1333—85) вядомы польскі храніст 14 ст., падканцлер Янка з Чарнкова. Ён называе Полацк «крэпасцю Белай Русі». Тэрмін «Б. Р.» у 16 ст. адносілі пераважна да бел. Падзвіння і Падняпроўя, што адзначалася ў тагачасных хроніках. Паступова ён пашырыўся на большую тэрыторыю. Папскі нунцый у Варшаве Торэс у сваім лісце ў Рым (1622) адзначаў: «Белая Русь, якая працягваецца ад Рыгі, сталіцы Ліфляндыі, да Маскоўскай мяжы і ўключае Полацк, Оршу, Віцебск, Магілёў...» У звароце правасл. шляхты Беларусі і Украіны да сейма (1623) пералічаны гарады Б. Р.: Полацк, Віцебск, Мсціслаў, Орша, Магілёў, Дзісна і інш. Польскі пісьменнік, гісторык і публіцыст С. Старавольскі ў кн. «Польшча ці апісанне становішча каралеўства Польскага» (1632, на лац. мове, 1976, на польскай мове) адносіў да Б. Р. 6 ваяводстваў: Навагрудскае, Мсціслаўскае, Віцебскае, Мінскае, Полацкае і Смаленскае, г. зн. большую ч. зямель Беларусі. У 17 ст. ўрад Рускай дзяржавы Б. Р. лічыў Полацкую, Віцебскую, Мсціслаўскую і Смаленскую землі, г. зн. усх. частку Беларусі і Смаленскую зямлю. Астатнія бел. землі ён называў літоўскімі (адсюль назва гарадоў Брэст-Літоўскі, Камянец-Літоўск і г. д.). У самым пачатку руска-польскай вайны 1654—67 цар Аляксей Міхайлавіч у даранай грамаце баярыну Бутурліну 8.5.1654 упершыню назваўся «Гасудар, цар і вялікі князь усяя Вялікія і Малыя і Белыя Расіі самадзержац». А калі рус. войскі занялі большую ч. тэр. Беларусі, Украіны і Вільню, цар асобнай граматай 3.9.1655 афіцыйна і канчаткова дадаў да свайго тытула «вялікі князь Літоўскі, Белыя Расіі і Падольскі». З 1-й пал. 17 ст. ўсх. ч. Беларусі ў дакументальных матэрыялах трывала называецца Беларуссю. У прадмовах і пасляслоўях С. назва «Б. Р.» не сустракаецца. Землі сваёй радзімы С. называў тэрмінам «Русь» («братия моя Русь»), які на працягу некалькіх стагоддзяў існаваў разам з назвай «Б. Р.» і даволі часта атаясамліваўся з ёй.

*Літ.:* Татищев В. Н. История Российская. Т. 1. М.; Л., 1962. С. 355—356; Соловьёв А. Великая, Малая и Белая Русь // Вопросы истории. 1947. № 7; Крапівін П. Ф. Паходжанне назваў «Русь», «Белая Русь», «Чорная Русь» і «Чырвоная Русь» // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1956. № 3; Юхо І. Аб паходжанні назваў Белая і Чорная Русь // Беларусь. 1956. № 9; яго ж. Пра назву «Беларусь» // Полымя. 1968. № 1. *А. П. Грыцкевіч.*

**БЕЛЫ** Анатоль Яфімавіч (н. 1940), калекцыянер твораў бел. мастацтва, выкладчык філасофіі БДУ імя У. І. Леніна. У яго калекцыі зберагаецца каля 130 твораў жывапісу, графікі, скульптуры, медальернага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, прысвечаных С. З твораў калекцыі арганізоўваліся выстаўкі «Скарыніяна» ў БДУ (снежань 1985) і АН БССР (кастрычнік 1986).

**БЕМ,** Марцін з Олькуша (к. 1470—9.11.1540), прафесар Кракаўскага ун-та ў час вучобы ў ім С. У 1488 атрымаў вучоную ступень бакалаўра, у 1491 — магістра, з 1517 доктар тэалогіі. У 1491—94 чытаў лекцыі па матэматыцы, «растлумачваў» працы Арыстоцеля, з 1496 выкладаў астралогію. У 1500—01 дэкан аддзялення «вольных навук». У 1514—15 напісаў трактат «Аб рэформе рымскага календара» (надрукаваны ў 1518). У апошнія гады жыцця выконваў абавязкі дэкана тэалагічнага аддзялення і рэктара ун-та. Меў багатую на той час асабістую б-ку (каля 150 тамоў) па астраноміі, матэматыцы, філасофіі (працы Эразма Ратэрдамскага), тэалогіі (у т. л. каментарый Феафілакта, архіепіскапа Балгарскага, да 4 Евангелляў), а таксама 58 інкунабулаў і 67 палеатыпаў, якія зберагаюцца ў Ягелонскай б-цы ў Кракаве. С. мог карыстацца кнігамі Б. *Я. Л. Неміроўскі.*

**БЕ́РКАЎ** Павел Навумавіч (1896—1969), рускі сав. літаратуразнавец, бібліёграф, гісторык кнігі. Чл.-кар. АН СССР (1960), Германскай АН у Берліне (1967), праф. Ленінградскага ун-та (1936). У арт. «Ф. Скарына і пачатак усходнеславянскага вершаскладання » (450 год беларускага кнігадрукавання, 1968) выказаў меркаванне, што С. ўяўляў сабе вершаскладанне не па прынцыпах сілабікі, а па прынцыпах біблейскай паэтыкі, заснаванай на т. зв. паралелізме членаў (асаблівае, нібы паралельнае развіццё ідэі ў паэтычнай «адзінцы» — вершы). На думку Б., менавіта гэтыя прынцыпы і былі выкарыстаны С. пры напісанні вершаў і толькі ў паэтычным пераладжэнні дзесяці запаведзей, змешчаных у кн. «Выхад», С. робіць спробу спалучэння біблейскай паэтыкі і сілабізму, які ў той час толькі пачынаў развівацца. Падкрэсліваў ролю С. як заснавальніка ўсх.-слав. філалаг. тэрміналогіі (ім уведзены тэрміны «словесные науки», «стишки»). У кн. «Гісторыя савецкага бібліяфільства (1917—1967)» (М., 1971, 2. выд., 1983) гаворыць аб спробе сав. бібліяфілаў 1920-х г. вызначыць каштоўнасць і унікальнасць «Бібліі» С. *У. М. Свяжынскі.*

**БІ́БЛІЯ** (грэч. biblia літар. кнігі), старажытны помнік пісьменнасці, зборнік твораў фалькл. і літаратурнага паходжання, «свяшчэнная кніга» іудзейскай (Стары запавет) і хрысціянскай (Стары і Новы запаветы) рэлігій.

Складалася на працягу 1-га тысячагоддзя да н. э. — 2 ст. н. э. на стараж.-яўр. і стараж.-грэч. мовах. У цэлым адлюстроўвае жыццё ў святле ідэалогіі класавага грамадства, прасякнута апалогіяй вярхоўнай улады

і грамадскай нярэўнасці. Поўны тэкст Старога запавету ў іудаістаў і пратэстантаў уключае 39, у праваслаўных і католікаў 50 кніг і падзяляецца на Пяцікніжжа Майсея, або Закон (Быццё, Выхад, Левіт, Лічбы, Другазаконне), кнігі прарокаў (Ісуса Навіна, Суддзяў, Царстваў, Ераміі і г. д.) і Пісанні (Псалтыр, Прытчы, Песня песням, Хронікі, Еклесіяст і інш.). Новы запавет, у якім выкладзены асновы хрысц. веравучэння, аб'ядноўвае 4 Евангеллі (ад Мацвея, Марка, Лукі, Іаана), Апостал і Апакаліпсіс. Б.— адзін з самых багатых і складаных помнікаў сусв. культуры, многія старонкі якога насычаны глыбокай жыццёвай мудрасцю і вызначаюцца вял. маст. сілаю. Яна ўвабрала міфы і легенды, гіст. аповесці, дыдактычныя апавяданні, свецкія і рэліг. песні, публіцыстычныя прапаведзі і філас. афарызмы, зводы маральна-юрыд. правіл і інш. творы народаў Б. Усходу, чым тлумачыцца супярэчлівасць яе зместу, адсутнасць ідэйнага і стылявога адзінства. Прызнаная зводам «боганатхнёных» твораў, кодэксам веры і маралі, энцыклапедыяй ведаў, Б. з'яўлялася асновай светапогляду сярэдневяковага чалавека, была адначасова богаслужэбнай і самай масавай кнігай для індывід. чытання, на аўтарытэт якой апіраліся і рэліг. фанатыкі і ерэтыкі-вальнадумцы. У Б. людзі шукалі адказы на хвалюючыя пытанні грамадскага жыцця, чалавечых узаемаадносін. На працягу стагоддзяў выкарыстоўвалася і выкарыстоўваецца пануючымі класамі і царквой у рэакц. мэтах: для пропаведзі пакорлівасці і цярпення, апраўдання сац. прыгнёту і несправядлівасці, умацавання містычных і фідэістычных уяўленняў пра свет і грамадства. Як эстэт. каштоўнасць біблейская міфалогія служыла ў мінулым своеасаблівым арсеналам для л-ры і мастацтва. Да яе сюжэтаў, матываў, вобразаў актыўна звярталіся пісьменнікі і мастакі розных часоў і народаў, адны — на службе клерыкальных задач, другія — у барацьбе за гуманіст. ідэалы. Вял. колькасць крылатых слоў і афарызмаў, узятых з Б., увайшла ў скарбніцу многіх моў свету, а шматлікія маст. сімвалы сталі агульнавядомымі (голуб — добры веснік, змей — каварны спакуснік і г. д.). Першы слав. пераклад асобных кніг Б. зрабілі ў 9 ст. балг. асветнікі Кірыл і Мяфодзій. Упершыню надрукавана па-славянску ў 1488 у Чэхіі.

На Беларусі Б. стала вядома ў часы Кіеўскай Русі. Біблейскія кнігі, відаць, перапісвала Ефрасіння Полацкая. Б. багата цытаваў, пранікнёна каменціраваў і глыбока выкарыстоўваў у сваіх творах Кірыл Тураўскі. У эпоху сярэднявечча артадаксальнае духавенства было супраць азнаямлення з поўным тэкстам Б. і яе перакладу на жывыя нар. мовы. Таму на Беларусі распаўсюджваліся на царкв.-слав. мове вузкаслужбовыя Псалтыр, Евангелле і Апостал (Полацкае, Друцкае, Аршанскае, Лаўрышаўскае, Мсціжскае евангеллі, Смаленскі Псалтыр 1395, і інш.). Першыя пераклады асобных біблейскіх кніг на старабел. мову зроблены ў 15 ст. Заснавальнікам гуманіст. падыходу да Б. на Беларусі і ўсх.-слав. землях увогуле стаў С., які бачыў у гэтым творы крыніцу ведаў, дзейсны сродак усеагульнай адукацыі, разумнага ўдасканалення чалавека і грамадства. С. належыць першы друкаваны, ілюстраваны, навучальна-асветніцкі пераклад асн. часткі Б. (Прага, 1517—19) моваи, набліжанай да бел. мовы таго часу і адрасаваны шырокаму дэмакр. чытачу (гл. *«Біблія»*), а таксама першае ва ўсх.-слав. свеце выданне *«Апостала»* на царк.-слав. мове бел. рэдакцыі (Вільня, 1525). Свой пераклад Б. ён лічыў выдатнай культ.-гіст. з'явай і ставіў яго ў адзін рад са славутым перакладам *Еранімa Блажэннага* (гл. *Вульгата*), якога называў сваім вялікім папярэднікам (гл. таксама *Скарына — перакладчык і рэдактар Бібліі).* Важнае пазнавальнае і выхаваўчае значэнне надавалі Б. дзеячы бел. Рэфармацыі, якія падыходзілі да яе з пазіцый рацыяналізму і бралі на ўзбраенне ў крытыцы царквы і духавенства. Вывучэннем Б. ў 2-й пал. 16 ст. займаўся Сымон *Будны.* Ён зрабіў першыя на Беларусі і ў Усх. Еўропе сур'ёзныя спробы філал. аналізу тэксту Б. і пераклад яе на польск. мову (Нясвіж, 1572). Гэта і інш. выданні на польск. мове бытавалі ў асяроддзі беларусаў-католікаў як крыніца для самастойнага далучэння да Свяшчэннага пісання. Евангелле на старабел. мову ўпершыню (1570-я г.) пераклаў і часткова надрукаваў Васіль *Цяпінскі.* На змест Б. шырока апіраліся бел. пісьменнікі, прадстаўнікі царкоўна-палемічнай л-ры канца 16—17 ст. (Л. і С. Зізаніі, Л. Карповіч, І. Пацей, М. Сматрыцкі, А. Філіповіч і інш.).

*Літ.:* Маркс К., Энгельс Ф., Ленин В. И. О религии. 2. изд. М., 1983; Происхождение Библии. М., 1964; Крывелев И. А. Книга о Библии. 2. изд. М., 1959; Лившиц Г. М. Очерки историографии Библии и раннего христианства. Мн., 1970; Косидовский З. Библейские сказания: Пер. с пол. 4. изд. М., 1978; его ж. Сказания евангелистов: Пер. с пол. 3. изд. М., 1981. *В. А. Чамярыцкі.*

**«БІБЛІЯ»**, «Бивлия руска», сукупнасць пражскіх выданняў С., якая ўключае: *«Псалтыр» 1517, кнігу «Іоў», «Прытчы Саламона», кнігу «Ісус Сірахаў», «Еклесіяст», «Песня песням», кнігу «Прамудрасць божая», кнігі «Царствы», кнігу «Ісус Навін», кнігу «Юдзіф», кнігу «Суддзі», кнігу «Быццё», кнігу «Выхад», кнігу «Левіт», кнігу «Лічбы», кнігу «Другі закон», кнігу «Руф», кнігу «Эсфір», кнігу «Плач Ераміі», кнігу «Прарок Даніїл».* Гэтыя выданні надрукаваны паміж 6.8.1517 і 15.12.1519. Агульны тытульны ліст і «Предъсловие доктора Франъциска Скорины с Полоцька во всю Библию рускаго языка» змешчаны ў пач. кн. «Быццё» (гл. с. 7—17). У прадмове, акрамя ўказаных кніг, названы таксама «Паралiпаменон», «Эзра», «Тавіёт», кнігі 16 прарокаў, «Макавеяў». Названы таксама кнігі Новага запавету. У рукапісных спісах «Б.», зробленых у 2-й пал. 16 ст., некат. з гэтых кніг захаваліся. Гэта сведчыць, што С. пераклаў, а магчыма і надрукаваў, усе кнігі Старога запавету, але яны да нас не дайшлі. У каталогах і апісаннях слав. старадрукаваных кніг «Псалтыр» 1517 звычайна не ўключаюць у склад «Б». Гэта традыцыя, што ўзыходзіць да І. П. Каратаева і В. М. Ундольскага, памылковая. У апошні час прынята кнігі, якія ўваходзяць у склад «Б.», лічыць асобнымі выданнямі.
*Я. Л. Неміроўскі.*

**БІБЛІЯ НА ЧЭШСКАЙ МОВЕ.** Чэшскае кнігадрукаванне ў канцы 15— пач. 16 ст. дасягнула высокага ўзроўню развіцця; у чэш. культ. асяроддзі існавалі даўнія і трывалыя традыцыі перакладаў біблейскіх тэкстаў на нар. мову. Б. на ч. м. значна паўплывала на літаратурную, рэдакцыйна-выдавецкую і друкарскую дзейнасць С. Гэта адным з першых адзначыў чэш. філолаг І. *Добраўскі.* Хоць асн. крыніцай для С. была *«Біблія чэшская ў Венецыі друкаваная»,* ён не мог не ведаць і інш. перакладаў гэтага помніка на чэш. мову. Паводле чэш. даследчыка Я. Мерэла, з стараж.-чэш. спісаў біблейскіх кніг цяпер вядома 25 поўных перакладаў, 27 перакладаў Старога запавету, 35 перакладаў Новага запавету, 22 пераклады Псалтыра, 17 перакладаў Евангелляў і шэраг фрагментаў.

Узнікненне першых перакладаў біблейскіх кніг на стараслав. мову ў значнай ступені звязана з Вялікамараўскай дзяржавай, дзе з 863 дзейнічалі стваральнікі слав. пісьменнасці салунскія браты Канстанцін (Кірыл, п. у 869) і Мяфодзій (п. у 885). Аднак пасля смерці апошняга іх вучні пад моцным націскам ням.-лац. духавенства былі выгнаны з краіны. У богаслужэнні быў устаноўлены лац. абрад. Гэта барацьба, якую падтрымлівалі і чэш. феад. правячыя колы, мела выразны паліт. характар. У такіх абставінах намаганні па стварэнню перакладаў біблейскіх кніг на чэш. мову набывалі нар.-патрыятычны, для той эпохі глыбока прагрэсіўны характар, садзейнічалі развіццю чэш. культуры і сцвярджэнню незалежнасці Чэшскага каралеўства. Ад 11—12 ст. захавалася некалькі чэш. глос у лац. Бібліі, актыўны пераклад яе тэксту на чэш. мову адбываецца ў 14 ст. Менавіта ў гэты перыяд, асабліва ў час праўлення чэш. караля Карла IV (1346—78), *Чэшскае каралеўства* становіцца адной з вядучых дзяржаў сярэдневяковай Еўропы. Уздым эканомікі краіны, рост гарадоў і пашырэнне пісьменнасці садзейнічалі агульнаму ўздыму культуры. З 2-й пал. 14 ст. ў краіне ўзмацніліся сац. супярэчнасці, якія выклікалі ў грамадска-паліт. сферы рост антыкаталіцкіх настрояў і прывялі да стварэння ідэалагічных асноў гусіцкага руху.

У 14 ст. на чэш. мову перакладзены асобныя біблейскія кнігі, напр., Псалтыр (першыя спробы, магчыма, адносіліся да 10—11 ст.). Захавалася некалькі спісаў гэтага помніка, якія адносяцца да канца 14— пач. 15 ст. Яны былі выкананы з тэксту лац. *Вульгаты.* Зварот да гэтай тэматыкі, якая мела актуальнае грамадска-паліт. і культ. значэнне, садзейнічаў развіццю і ўдасканаленню чэш. літаратурнай мовы. Значны ўклад унёс у гэта чэш. пісьменнік Т. Шчітны (каля 1333—1405) — адзін з папярэднікаў гусізму, які крытыкаваў феад. парадкі і каталіцкую царкву. Усё гэта прывяло да з'яўлення ў 2-й пал. 14 ст. поўнага збору біблейскіх тэкстаў на чэш. мове. Стараж. спіс чэш. Бібліі, т. зв. Лескавецкі кодэкс, адносіцца да 1370. Арыгінал яго загінуў у час 1-й сусв. вайны. Ён быў пісаны гатычным мінускулам і складаўся з 685 аркушаў. Захавалася яшчэ 3 спісы першапачатковай рэдакцыі перакладу—Літамержыцка-Тршэбаньскі (напісаны ў 1411—15 Мацеем з Прагі), Эмаўскі (напісаны глаголіцай па-чэшску

ў пач. 15 ст.) і Оламаўцкі (1417). На мяжы 14—15 ст. паявілася 2-я рэдакцыя стараж.-чэш. перакладу Бібліі. Ва ўсіх выпадках у аснове тэксту была Вульгата. У маст. адносінах найб. каштоўнасць мае Оламаўцкі рукапіс. Чэш. пераклады біблейскіх кніг у асн. прызначаліся для рэліг.-палемічных мэт, былі сціпла афармлены. У час гусіцкага руху (1419—37) і пазней, ужо ў 2-й пал. 15—16 ст., чэш. пераклад Бібліі быў ідэалаг. зброяй у руках дзеячаў мяшчанска-плебейскай апазіцыі феадалізму і каталіцкай царкве. Ён адыграў важную ролю ў моўна-літаратурным развіцці, быў першым перакладам гэтага тэксту на нар. мову ў слав. свеце. У 1475 без назвы месца выдання і імя друкара выпушчаны чэш. пераклад Новага запавету (209 арк. у 2 слупкі па 36 радкоў). Затым былі 2 перавыданні — у 1487 і 1498 (у друкарні Я. Севярына). Першыя выданні Псалтыра адносяцца да 1487 (у друкарні пражскага друкара Іонаты з Высокага Мыта) і 1499 (у друкарні М. Бакаларжа). Пасля выйшлі ў свет публікацыі поўнага тэксту Бібліі на чэш. мове, якія адначасова былі і першымі яго друкаванымі ўзнаўленнямі на нар. мове ў слав. народаў. Першая друкаваная Біблія на чэш. мове была выдадзена ў друкарні Я. Кампа ў Празе ў 1488 на сродкі 4 пражскіх мяшчан: Я. Пытліка, С. Крамаржа, Яна з Чапы і Мацея з Белага Львa. Стваральнікі кнігі ўказвалі, што яна выдадзена «к похвале божией и доброй и уважаемой короны славной земли чешской и к благу верных чехов и мораван». Яны падкрэслівалі грамадска-культурны сэнс выдання. Яно было набрана ў 2 слупкі без ілюстрацый па 48 радкоў. У 1489 у друкарні Марціна з Тышнава (Кутна-Гора) выйшла 2-е выданне чэш. Бібліі. Яна была набрана таксама ў 2 слупкі, але па 50—51 радку. У адрозненне ад папярэдняга выдання ў кнізе 109 ілюстрацый, у т. л. да тэкстаў Старога запавету, Апакаліпсіса, да Евангелля (выявы евангелістаў). Трэцяй была «Біблія чэшская ў Венецыі друкаваная». Асаблівай увагі заслугоўвае 2-томная чэш. Біблія, якую выпусціў Севярын у Празе ў 1519, што супадае з часам знаходжання там С., які, магчыма, ведаў пра падрыхтоўку гэтага выдання. Пытанне гэта патрабуе спец. параўнальнага даследавання. У 1518 на аснове Вульгаты ў Млада-Болеславе пастгусіцкая абшчына чэш. братоў (мараўскіх братоў) выпусціла Новы запавет па-чэшску. Гэта выданне таксама заслугоўвае параўнальнага кнігазнаўчага аналізу з выданнямі С. На працягу 16 ст. ў шэрагу гарадоў чэшскіх земляў неаднаразова перавыдаваліся поўныя тэксты Бібліі і яе асобныя часткі. Асаблівае значэнне для развіцця і кадыфікацыі чэш. літаратурнай мовы мела т. зв. «Кралiцкая біблія» (6 т.), выдадзеная ў мараўскім мяст. Кралiцы ў 1579—94. Яна была створана гуртком дзеяча чэш. л-ры і грамадскай думкі Я. Благаслава (1523—71), у поглядах якога рэфармац. пазіцыі абшчыны чэш. братоў спалучаліся з моцным уздзеяннем гуманіст. ідэй еўрап. Адраджэння. Культурна-патрыятычныя ідэі чэш. перакладаў біблейскіх кніг, разуменне ролі гэтых перакладаў ва ўдасканаленні і развіцці нар. мовы былі блізкія пазіцыі С. як стваральніка «Бивлии рускай» (гл. *«Біблія»*).

*Літ.:* 203; Kyas V. První český překlad bible. Praha, 1971. *А. С. Мыльнікаў.*

**«БІ́БЛІЯ ЧЭ́ШСКАЯ Ў ВЕНЕ́ЦЫІ ДРУКАВА́НАЯ»,** трэцяя пасля пражскай (1488) і кутнагорскай (1489) друкаваная Біблія на чэшскай мове, якая з'явілася важнейшай крыніцай пры падрыхтоўцы С. перакладаў біблейскіх кніг. Надрукавана ў 1506 у венецыянскай друкарні ням. майстра П. Ліхтэнштэйна. Месца выдання выбрана невыпадкова: на мяжы 15—16 ст. Венецыя стала адным са значных цэнтраў ранняга кнігадрукавання на слав. мовах, славілася ўмелымі друкарамі. Па свайму складу і паходжанню гэта Біблія цалкам звязана з культурна-паліт. развіццём Чэхіі таго часу. Яе выдаўцы Ян Глаўса, Вацлаў Сава і Бурыян Лазар былі пражскімі мяшчанамі-чашнікамі, г. зн. паслядоўнікамі памяркоўнага антыкаталіцкага крыла постгусіцкай плыні чэшскай грамадскай думкі. Карэктарамі былі таксама чэхі Ян Йіндржышскі з Жатца і Томаш Молек з Градца-на-Лабе. «Б. ч. ў В. д.» — рэдкае выданне, у СССР яе экземпляр захоўваецца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ). Гэтым экземплярам карыстаўся ў 1880-я г. П. У. Уладзіміраў пры даследаванні скарынінскіх выданняў. У падрабязнай прадмове (10 стар.) сфармуляваны мэты, якія стаялі перад выдаўцамі, у т. л. праслаўленне багатых выяўленчых магчымасцей чэшскай мовы і імкненне садзейнічаць пашырэнню біблейскіх тэкстаў не толькі сярод чэхаў, але і інш. слав. народаў, перш за ўсё, відаць, у польскім асяроддзі, дзе на той час барацьба паміж каталіцызмам і ідэямі ранняй Рэфармацыі была вельмі вострай. «Б. ч. ў В. д.» павінна была, на думку выдаўцоў, служыць сродкам барацьбы супраць рымскай курыі, у абарону развіцця слав. л-ры на нар. мове. Тэкст яе ўяўляў развіццё і ўдасканаленне традыцыі чэшскіх біблейскіх перакладаў, уключаючы пражскае і кутнагорскае іх выданні. Пры падрыхтоўцы венецыянскага выдання выкарыстаны «парады вучоных пражскіх мужоў» (найхутчэй прафесараў Пражскага ун-та). У тэксце і на палях змешчаны «кантынуацыі» (кароткі змест адпаведнай кнігі ў пачатку кожнага раздзела) і «канкардацыі» (указанне паралельных месцаў Старога і Новага запаветаў з перакрыжаванымі спасылкамі). Некат. раздзелы папоўнены, напр., уведзены чэшскі пераклад 4-й кн. «Ездры», які адсутнічае ў папярэдніх чэшскіх выданнях. «Б. ч. ў В. д.» багата ілюстравана, у ёй 109 гравюр на дрэве, у экземпляры ДПБ яны размаляваны ад рукі. Ад рукі выкананы і ініцыялы па радковых літарах, якія надрукаваны як узоры. На думку Уладзімірава, гравюры запазычаны з лац. Бібліі, што выдадзена ў Венецыі ў 1498. Аднак значная частка ілюстрацый была папулярнай у чэшскай рукапіснай кнізе папярэдніх стагоддзяў, з традыцыямі якой звязана і выданне 1506. «Б. ч. ў В. д.» моцна паўплывала на наступныя чэшскія выданні, у т. л. на выданні 1529, 1537, 1540, 1549, і аж да апошняй чвэрці 18 ст. выкарыстоўвалася не толькі чэшскімі пратэстантамі, але і каталікамі.

*Літ.:* 69, с. 59—63; Merell J. Bible v českých zemich od nejstarších dob do současnosti. Praha, 1956. S. 43—44.

*А. С. Мыльнікаў.*

Бібліятэка АН СССР у Ленінградзе.



**БІБЛІЯТЭ́КА АН СССР** у Ленінградзе. Заснавана ў 1714. Аснову яе фондаў складалі кнігі і рукапісы царскіх б-к і былога Аптэкарскага прыказа, вывезеныя ў 1712 з Масквы. Фонд выданняў С. ў б-цы папаўняўся паступова. Ужо ў 18 ст. б-ка мела канвалют «Пяцікніжжа» (кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы» і «Другі закон», апісаныя ўпершыню ў 1776 І. Р. *Бакмейсцерам).* У 1829 П. М. *Строеў* набыў канвалют з 8 пражскімі выданнямі С., які быў перададзены б-цы (не збярогся). У 1842 б-цы перададзены канвалют з калекцыі А. С. Шыраева, у якім змяшчаліся кн. «Суддзі», «Ісус Навін» і «Еклесіяст», а таксама віленскі «Псалтыр». У 1902 рус. філолаг У. І. Сразнеўскі набыў для б-кі канвалют, у які ўваходзілі кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф» і 4-я кн. «Царствы». У 1920-я гады са Строганаўскага палаца-музея ў б-ку паступіў канвалют, дзе змяшчаліся кн. «Іоў», «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў», «Прамудрасць божая» і «Руф». У фондах б-кі (1984) зберагаецца 18 экз. выданняў С.— 17 пражскіх і адно віленскае. Пражскія выданні прадстаўлены 14 назвамі, сабраны ў 4 канвалюты. Асобна пераплецена кн. «Ісус Сірахаў».

*Літ.:* 495. *Я. Л. Неміроўскі.*

**«БІЧАВА́ННЕ ІО́ВА»,** гравюра на тытульным лісце старазапаветнай кананічнай *кнігі «Іоў»*, выдадзенай С. у Празе (1517).

У аснове сюжэта гравюры біблейская апавесць пра пакуты і вызваленне легендарнага Іова. Паводле легенды Іоў быў багатым чалавекам, набожным і справядлівым. Аднак сталася так, што бог паспрачаўся з д'яблам за душу Іова, вырашыў выпрабаваць праведніка бядою і пакутамі, аддаўшы яго часова ва ўладу нячысціка. Жадаючы памерці, Іоў робіць выклік самому богу, выкрываючы несправядлівасць зямнога жыцця, дзе добрыя пакутуюць, а злыя радуюцца. Яго суцяшаюць трое сяброў, і ў іх гарачым

дыспуце абмяркоўваецца праблема маральнага апраўдання быцця і яго стваральніка бога перад тварам сусв. зла.

Гравюра (87×86 мм) змешчана ў 2 вядомых варыянтах кн. «Іоў». Прызначэнне і месца яе ў кнізе ў абодвух варыянтах



Выданні Ф. Скарыны, што зберагаюцца ў **Бібліятэцы АН СССР** у Ленінградзе.

**«Бічаванне Іова».** Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Іоў» Ф. Скарыны.



не аднолькавае. У адзіным вядомым варыянце кнігі, які захоўваецца ў Дзярж. б-цы імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 6334), яна адціснута на арк. 4-м. У пашыраным варыянце кн. «Іоў» гравюра дадзена двойчы: на тытуле (арк. 1-ы) і на арк. 4-м. Усе гэтыя адбіткі зроблены з адной дошкі. У цэнтры кампазіцыі паказаны аголены Іоў на ложку накшталт стала. За праву руку яго трымае д'ябал і бязлітасна б'е па голым целе. За сцэнай бічавання спакойна назіраюць жанчына справа і тры барадатыя мужчыны злева. Штрыхоўка гравюры даволі разнастайная: на падлозе пакоя і на сцяне справа доўгія паралельныя лініі, на выявах персанажаў — кароткія, крыху закругленыя штрыхі, на падушцы каля галавы Іова, а таксама на сцяне за акном — перакрыжаваная штрыхоўка. Па маст. узроўні гравюра саступае лепшым дрэварытам у выданнях С. Перспектыва ў ёй выраша на не зусім дакладна, штрыхі месцамі механічныя. Голае цела Іова (гэта адзін з ранніх прыкладаў трактоўкі аголенага цела ў бел. мастацтве) вырашана не надта ўпэўнена; асабліва спрошчана намаляваны рукі. Магчыма, на белай палосцы зверху быў нейкі надпіс, які гравёры С. зрэзалі, прыстасаваўшы гравюру да кн. «Іоў». Гэта меркаванне як быццам пацвярджае і неадпаведнасць памераў гравюры (па шырыні) памеру набору. Асобныя мужчынскія тыпы гравюры «Бічаванне Іова» іканаграфічна блізкія да вобразаў на гравюры «Дыспут» з кн. «Ісус Сірахаў», якая спецыяльна выконвалася для кніг С. Магчыма, абодва творы зрабіў адзін мастак (аднолькавая штрыхоўка на падлозе, на мужчынскіх фігурах і на сцяне). У мініяцюрах бел. рукапісаў сюжэт «Бічаванне Іова» невядомы. Не звярталіся да яго і бел. гравёры пасля С.

*Літ.:* 564; 792.

*У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**«БЛАГАВЕ́ШЧАННЕ»,** «Благовествуеть Гавриіл пречистой девици Богородици Марии», гравюра на тытульным лісце да *«Акафіста багародзіцы»* з «Малой падарожнай кніжкі», выдадзенай С. у Вільні (каля 1522).

Паводле новазапаветных паданняў, нараджэнне Хрыста ад бязгрэшнай Марыі і св. духа (богаўвасабленне) неаднаразова прадказвалася ў сімвалічных вобразах і сюжэтах Старога запавету. Гэта сакраментальная падзея (таінства богаўвасаблення) выяўлена ў гравюры да кніжкі С., адносна акафіста — гэта ілюстрацыя да слоў велічальнай малітвы.

Кампазіцыя гравюры (87×64 мм) традыцыйная для выяў «Благавешчання», якія маюць агульныя рысы ў візант. і зах.-еўрап. мастацтве: справа выява Марыі на каленях перад аналоем, злева — архангела Гаўрыіла; у расчыненым акне выразным сілуэтам паказаны св. дух у выглядзе галубка. Фрагмент, падзеленай на квадраты падлогі, а таксама зацененая паралельнай штрыхоўкай сцяна, на фоне якой вылучаюцца выявы Марыі і Гаўрыіла, гарысты краявід удалечыні за акном ствараюць у кампазіцыі пэўную прастору. Штрыхоўка ў

гравюры ясная і выразная. У трактоўцы аналою і сцяны выкарыстаны доўгія паралельныя лініі, фігуры выкананы кароткімі, паўкруглымі штрыхамі. На адзенні Гаўрыіла (ля галавы) перакрыжаваныя штрыхі. П. У. Уладзіміраў, які звязваў графіку кніг С. з Нюрнбергскай гравёрнай школай, даводзіў, што «Б.» С. запазычана з «Сусветнай хронікі» (1493) Г. Шэдэля. Беспадстаўнасць гэтага сцвярджэння паказаў М. М. Шчакаціхін, слушна заўважыўшы, што выявы «Благавешчання» ёсць і ў інш. тагачасных зах.-еўрап. выданнях: чэшскім Новым законе (1498), страсбурскім «Hortulus animae» (1507), нюрнбергскім «Hortulus animae» (1520). Таксама выяўлена некалькі аналагічных дрэварытаў у аўгсбургскіх і нюрнбергскіх выданнях: «Люстра вылячэння» (Аўгсбург, 1476), «Кніга мастацтваў, праз якую цывільны можа зрабіцца духоўным» (Аўгсбург, 1477), «Пра дзяцінства і пакуты Хрыста» (Аўгсбург, 1491), «Жыціе святых» (Нюрнберг, 1488), «Званочак часу» (Нюрнберг, 1493). Параўнанне гравюры С. з дрэварытамі названых ням. выданняў (у т. л. «Хронікі» Шэдэля) сведчыць пра пэўныя агульныя рысы ўсіх твораў. Апошняе тлумачыцца не «запазычаннем», а ўстойлівай іканаграфіяй выявы «Благавешчання» ў зах.-еўрап. мастацтве. С., безумоўна, ведаў тагачасную ням. кніжную гравюру, пра што сведчыць іканаграфія «Б.», якая ў аснове сваёй узыходзіць да названых вышэй выяў. Але ад ілюстрацыі «Хронікі» Шэдэля, як і інш., гравюра С. шмат у чым адрозніваецца. У названых ням. выданнях Марыя глядзіць на Гаўрыіла; у «Малой падарожнай кніжцы» Марыя засяроджана моліцца; рукі скрыжаваны на грудзях, вобраз авеяны паэтычнасцю, чалавечай цеплынёй. Да таго ж у ілюстрацыі «Хронікі» (яе выканаў, відаць, настаўнік А. Дзюрэра — М. Вольгемут, што прымаў удзел у ілюстраванні славутага нюрнбергскага выдання) і выява св. духа амаль непрыкметная і няма кнігі на аналоі перад Марыяй, якую дае мастак С. (кніга, аднак, ёсць у інш. ням. гравюрах). Менш выразна выяўлены ў «Хроніцы» інтэр'ер. Адметная і тэхніка гравіравання: у «Б.» С. дамінуюць прамыя, паралельныя, даволі грубыя і схематычныя штрыхі (выкананыя, відаць, рэзчыкамаматарам), а ў гравюры «Хронікі» Шэдэля штрыхоўка больш тонкая і майстэрская, адчуваецца рука вопытнага і спрактыкаванага майстра. Адрозніваюцца і памеры гравюр: нюрнбергскае «Благавешчанне» — 82×73 мм. Ствараючы «Б.», ілюстратар «Малой падарожнай кніжкі» С., магчыма, як дапаможнік выкарыстаў другую ілюстрацыю «Хронікі» — «Нараджэнне Хрыстова». Відаць, апошняя ілюстрацыя падказала мастаку «Малой падарожнай кніжкі» рух галавы Марыі, яе скрыжаваныя на грудзях рукі, а таксама паставу фігуры Гаўрыіла. Аднак гэта было не пераайманне, а істотная мастакоўская перапрацоўка, якую Шчакаціхін назваў



**«Благавешчанне».** Гравюра з тытульнага ліста «Акафіста багародзіцы» Ф. Скарыны.

**«Благаславенне».** Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Прамудрасць божая» Ф. Скарыны.



«нямецкім тыпам, перапрацаваным на славянскім грунце».

Пасля С. сюжэт «Б.» атрымаў развіццё ў бел. кніжнай гравюры: «Благавешчанне» з «Часаслова» Мамонічаў (Вільня, 1617), акафістаў і канонаў (Магілёў, 1693, два варыянты) і інш. У гэтых гравюрах назіраецца прыкметны адыход ад стылістыкі «Б.» С. У іканапісе Беларусі сюжэт «Благавешчання» прадстаўлены вельмі сціпла і моцна адрозніваецца ад самай ранняй іканаграфіі «Б.» С. (Жывапіс Беларусі XII—XVIII стагоддзяў. 1980. № 96, 98).

*Літ.:* 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**«БЛАГАСЛАВЕ́ННЕ»,** «П р е м у д р о с т ь  Б о ж и я», гравюра тытульнага ліста да некананічнай старазапаветнай *кнігі «Прамудрасць божая»,* выдадзенай С. у Празе (1518).

Адлюстроўвае благаславенне на мудрасць, якое дае Хрыстос у вобразе нябеснага настаўніка і цара ўдзячнаму вучню ў мантыі вучонага, які малітвенна схіліўся ля ног мудраца. Сюжэт адпавядае зместу і стылю кнігі, напісанай, як адзначае С., грэч. мовай філосафам Філонам у 166 г. да н. э. Асн. думка кн. «Прамудрасць божая» — адзінства ісціны, дабра, красы і святасці. Ідэя праўды — крыніца жыцця, якой працівіцца няпраўда — прычына зла і смерці. Па жанру кніга медытатыўна-ды-

дактычная, павучальная, складаецца з маральных прадпісанняў, філасоф.-рэліг. сентэнцый, пакаянняў, велічанняў і малітваў. У дачыненні да прадмоў С. гравюра ілюструе яго словы: «И нарицается сия книга Премудрость того ради, понеже пишеть в ней о премудрости вечной, еже ест слово божие избавитель наш Ісус Христос» (гл. с. 61).

Адна з найб. майстэрскіх і загадкавых гравюр кніг С. У ніжняй частцы кампазіцыі (104×105 мм) — умоўная выява Сусвету (у выглядзе кола), на якім паказаны Хрыстос з кнігай у левай руцэ. У правым ніжнім кутку выява ўкленчанага юнака. Твар награвіраваны выразна, экспрэсіўна з вял. разнастайнасцю штрыхоўкі. Пластычна намалявана фігура юнака ў мантыі вучонага, з працягнутымі рукамі для прыняцця благаславення, дэкаратыўна вырашаны аблокі, а таксама Сусвет. М. М. Шчакаціхін адносіў гравюру «Б.» да вызначанай ім паводле стылёвых адзнак і ўзроўню выканання 4-й групы гравюр С., называў яе «Хрыстос і Саламон». Па кампазіцыі і манеры выканання гэты дрэварыт вельмі блізкі да гравюры «Хрыстос і нявеста» (кн. «Песня песням», 1518). Асабліва падобны малюнак аблокаў, херувімаў, характар дэкаратыўнай паўкруглай штрыхоўкі. Ствараючы «Б.», мастак ведаў гравюру А. Дзюрэра «Сем свяцільнікаў» з серыі «Апакаліпсіс» 1498, але значна перапрацаваў яе. Загадкавай з'яўляецца фігура юнака. П. У. Уладзіміраў і Л. Ц. Баразна сцвярджалі, што гэта фігура С., Шчакаціхін назваў юнака Саламонам, а гравюру лічыў сімвалічнай ілюстрацыяй да кн. «Прамудрасць божая». Але адлюстраваны юнак не падобны на вобраз Саламона. Мудры біблейскі цар у мастацтве звычайна паказваўся ў пышным царскім адзенні з каронай на галаве (фрэскі Пьера дэла Франчэска «Наведванне царыцаю Саўскай цара Саламона», 1452—66; Рафаэля «Суд Саламона», 1509—11, і інш.). У царскім адзенні, з каронай, упрыгожанай каштоўнасцямі, выяўлены цар Саламон і ў 2 гравюрах з кн. С.: *«Суд Саламона»*, *«Саламон і царыца Саўская»*. Іканаграфічны тып Саламона ў гэтых творах не падобны на выяву юнака ў гравюры «Б.». Тыпаж і ўся яго фігура — свецкая, юнак нагадвае вучонага, а не цара або святога. Акруглы твар, доўгія валасы вучонага і доктарская мантыя не пярэчаць вобразу С., паказанаму на яго сапраўдных партрэтах. Магчыма, што ў гравюры «Б.», як меркаваў Уладзіміраў і Баразна, сапраўды адлюстраваны С., хоць пэўных доказаў на карысць такога меркавання няма.

*Літ.:* 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*




Пячатка каралевы **Боны.** 16 ст.

**«Бог і Майсей».** Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Левіт» Ф. Скарыны.



**«БОГ І МАЙСЕ́Й»,** «Господь Богъ глаголет к Мойсею у храму Сведения», гравюра на тытульным лісце старазапаветнай кананічнай *кнігі «Левіт»*, выдадзенай С. у Празе (1519). Адлюстроўвае драматычныя падзеі станаўлення монатэістычнай рэлігіі, апісаныя ў 2-й і 3-й кн. Бібліі («Выхад» і «Левіт»).

Паводле біблейскага падання, у 3-і месяц пасля выхаду сыноў Ізраіля з егіпецкага палону іх правадыр Майсей сустрэўся на гары Сінайскай пустыні «тварам у твар» з богам, які прадыктаваў яму 10 запаведзей, вынікаючыя з іх законы і маральныя нормы, а таксама ўмовы своеасаблівага «дагавору» паміж богам і народам. Аднак апошні, будучы яшчэ ва ўладзе язычніцкіх уяўленняў, стварыў літую выяву «залатога цяльца» і пакланяўся яму, суправаджаючы гэты абрад рознымі гульнямі. Моцна абурыўся Майсей, разбіў скрыжалі (дзве каменныя дошкі з запісанымі на іх запаведзямі), пакараў смерцю каля трох тысяч чалавек, а сам паставіў сабе палатку («скинея собрания») па-за станам народа. С. ў прадмове і ілюстрацыі да кн. «Левіт» атаясамлівае яе з храмавай палаткай (скініяй), у якой знаходзіліся ківот з адноўленымі Майсеем скрыжалямі Старога запавету, ахвярнік і інш. прадметы культу. Да Майсея звяртаецца бог праз воблачны слуп ля «храма Сведения» і тлумачыць сістэму ахвярапрынашэнняў, якія складалі аснову новай рэліг. абраднасці, падрабязна апісанай (разам з дакладнай рэгламентацыяй грамадскага побыту і асабістай гігіены) у кн. «Левіт».

Гэты момант і адлюстраваны на гравюры «Б. і М.» (105×1055 мм), кампазіцыя якой пазбаўлена прасторы. «Храм Сведения» максімальна набліжаны да папярэдняга плану. У воблаках паказаны Саваоф, рукі якога працягнуты да Майсея. Гравюра па маст. якасцях саступае інш. ілюстрацыям Бібліі. Яна некалькі плоскасная ў прасторавым вырашэнні, форма выяўлена шчыльнымі штрыхамі, пакладзенымі ў розных напрамках. Гравюру можна аднесці да т. зв. манументальных па стылі дрэварытаў Бібліі. У гэтым пераконвае падабенства вобразаў гравюры. Так, выява Майсея, увенчанага рагамі (адзнака сілы), блізкая да яго ж выявы з гравюры *«Майсей*

*перад народам».* Вобраз Саваофа нагадвае аналагічную выяву з гравюры *«Стварэнне свету».* Блізкая да манументальных дрэварытаў і тэхніка гравіроўкі з яе каларытнай штрыхоўкай. Малюнак «храма Сведения» нагадвае малюнак скініі з гравюры «Ізраільскія палкі ля храма». Гравюра «Б. і М.» адзначана гербам-сігнетам С. (выява сонца і месяца), што назіраецца і на інш. творах названай групы. На гравюры змешчаны таксама знак ₼, якога няма на інш. творах гэтай стылістычнай групы. М. М. Шчакаціхіну гэта праца не была вядома. Першы яе рэпрадуктаваў А. Ф. Коршунаў (Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі, 1969. С. 81), затым Л. Ц. Баразна (Гравюры Францыска Скарыны, 1972. № 22). *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**«БОГ У РАІ»**, гравюрная застаўка на 9-м аркушы *кнігі «Быццё»*, выдадзенай С. у Празе (1519). Ілюструе вынік божага стварэння свету, пра якое апавядаецца ў кнізе.

Рай у яго першапачатковым значэнні (і ў перакладзе са стараж.-яўр. мовы) — гэта сад, ідэальная «айкумена» першачалавека. У значэнні сада, ідэальнага месца жыцця паняцце раю ўжывалася ў антычнай (Парадыс, Агад), стараж.-ўсх. (Эдэм) і новаеўрап. л-рах, у т. л. ў бел. фальклоры. Аднак з усталяваннем хрысц. светапогляду адбывалася паступовая палярызацыя матэрыі і духу, зямлі і неба, рэальнасці і ідэалу. Узнікла паняцце «раю нябеснага», духоўнага, свабоднага ад прасторы і часу ідэальнага месцазнаходжання душ святых і праведнікаў у адзінстве з богам.

У гравюрнай застаўцы «Б. у р.» (54×105 мм) божае стварэнне свету вырашана не ў сімвалічным, а ў жанрава-бытавым плане (гэта амаль адзіная жанравая застаўка ў Бібліі). Кампазіцыя застаўкі разгорнута па гарызанталі. У цэнтры на пярэднім плане ў поўны рост адлюстраваны Саваоф, які ўпэўнена стаіць на зямлі. Правай рукой ён паказвае на досыць схематычнага, умоўна намаляванага льва, які ляжыць побач з аленем. Справа — рэчка, у якой плаваюць рыбы і качка. На процілеглым беразе — дрэва, на галінках якога сядзяць дзве птушкі. На небе васьміканцовыя зоркі, злучаныя сонца і месяц — друкарскі герб-сігнет С. Паводле тыпажу, выяўленчай стылістыкі, асобных дэталяў і манеры разьбы застаўка «Б. у р.» блізкая да гравюры *«Стварэнне свету»*, асабліва да 5-га яе малюнка. На абедзвюх гравюрах вельмі падобны тып Саваофа — прыземленага, мужыкаватага, каларытнага. У застаўцы «Б. у р.» ён без традыцыйнага німба, што яшчэ больш прызямляе вобраз. Параўнальны аналіз гравюр «Б. у р.» і «Стварэнне свету» сведчыць, што іх рабіў адзін майстар. Абедзве яны змешчаны ў кн. «Быццё». Малюнак у працах некалькі ўмоўны, але канструктыўна дакладны. Штрых розны: прамы, паралельны (складкі адзення, зямля), паўкруглы (трактоўка звяроў, вады, птушак), зігзагападобны (трава). М. М. Шчакаціхін параўноўваў гэту гравюру з аналагічнай ілюстрацыяй чэшскай Бібліі (1506) і адзначаў яе маст. адметнасць.



**«Бог у раі».** Гравюра з кнігі «Быццё» Ф. Скарыны.

У мініяцюрах рукапісаў Беларусі і гравюрах старадрукароў 16—18 ст. выява сюжэта не сустракаецца.

*Літ.:* 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**БО́НА** (Bona Sforza; 1494—1557), каралева Рэчы Паспалітай, жонка караля Польшчы і вял. князя Вял. кн. Літоўскага *Жыгімонта I* Старога (з 1518), маці Жыгімонта II Аўгуста. Імкнулася ўзмацніць паліт. уладу караля і вял. князя ўмацаваннем яе эканам. асновы. Значна пашырыла зямельную ўласнасць дынастыі Ягелонаў, абараняла дзярж. землі ад незаконнага прысвойвання іх феадаламі. У выніку падараванняў і куплі толькі на тэр. Беларусі сканцэнтравала ў сваіх руках воласці: Аболецкую, Езярышчанскую, Клецкую, Кобрынскую, Рагачоўскую, Пінскую, Шарашоўскую і інш. Выкупляла дзярж. ўладанні, якія былі ў закладзе ў магнатаў (Гродзенскае староства). У судовым парадку вярнула ў склад гаспадарскіх (велікакняжацкіх) уладанняў многія захопленыя феадаламі дзярж. землі. Каб павялічыць свае даходы, у некат. сваіх маёнтках (напр., у Клецкім і Пінскім староствах) рэарганізавала сістэму феад. эксплуатацыі сялянства на аснове ўвядзення новай адзінкі абкладання (валокі) і новых норм павіннасцей. Садзейнічала асваенню сялянамі лясоў і пераўтварэнню іх у с.-г. ўгоддзі. Прынцыпы Б. па рацыяналізацыі феад. гаспадаркі выкарыстаны пры ажыццяўленні аграрнай рэформы ў Вял. кн. Літоўскім. У 1556 выехала на радзіму ў Італію, захапіўшы з сабою вялізарныя каштоўнасці з казны княства. Яе маёнткі перайшлі да Жыгімонта II Аўгуста.

*Літ.:* 249, с. 11—42; Pociecha W. Królowa Bona (1494—1557): Czasy i ludzie Odrodzenia. T. 4. Poznań, 1958. *М. Ф. Спірыдонаў.*

**БРА́ЦКАЕ КНІГАДРУКАВА́ННЕ** ў 16—17 ст. Брацкае бел. кнігадрукаванне — асн. пераемнік выдавецкіх, мастацка-паліграфічных, літаратурных, моўных, дэмакр. і асв. традыцый С. Па сваёй культурнай, грамадска-паліт. і ідэалаг. накіраванасці, па функцыях і ўплыву ў «посполитым» асяроддзі бел. насельніцтва яно аб'ектыўна адыграла вядучую ролю ва ўсім бел. кнігадрукаванні 16 — 1-й пал. 17 ст. Брацкія друкарні, якія выкарыстоўвалі пераважна кірылічныя шрыфты, друкавалі кнігі на зразумелай нар. масам «рускай» (бел., бел.-укр.) або царк.-слав. мове (традыцыйнай у сферы бел. і ўсх.-слав. кніжнасці). Уладальніцкія запісы на лацінa-польскіх выданнях (гал. прадукцыі каталіцкіх і рэфарм. друкарняў) і брацкіх кірылічных кнігах паказваюць, што этнічны і сац. арэал іх пашырэння не быў тоесным. Нягледзячы на ўзрастаючую паланізацыю мясц. феадалаў, часткі мяшчанства (перш за ўсё заможных гандлёва-прадпрымальніцкіх слаёў), што тлумачылася канкрэтнымі грамадска-паліт. ўмовамі развіцця Беларусі і Украіны, адчуваўся першаступенны ўплыў брацкіх кніг (ім «лепей ниж евангелии верят»).

Станаўленне Б. к. арганічна звязана з этапамі фарміравання і развіцця брацтваў — спецыфічных нац.-рэліг. арганізацый бел. і ўкр. правасл. гарадскога насельніцтва з адносна шырокімі грамадска-паліт., культ. і сац.-эканам. функцыямі. Буйнейшыя бел. брацтвы ўзніклі ў Вільні, Магілёве, Брэсце, Мінску, Пінску, Слуцку і інш. У брацтвы ўваходзілі прадстаўнікі 3 саслоўяў: шляхты, мяшчанства, духавенства. Ва ўсіх вял. брацтвах вырашальную ролю адыгрывала мяшчанства, рамеснікі, купцы, члены гарадской рады. Брацтвы актыўна выступалі супраць каталіцкай экспансіі, царк. уніі, нац.-рэліг. прыгнёту. Іх дзейнасць садзейнічала фарміраванню шырокай паліт. апазіцыі, у якой удзельнічала большая ч. мяшчанства, сялянства, пэўныя слаі казацтва, духавенства, правасл. шляхты. Пад іх уплывам бел. і ўкр. насельніцтва адмаўлялася прызнаваць уніяцкую царк. іерархію, распараджэнні ўрада Рэчы Паспалітай, які падтрымліваў контррэфармацыю, каталіцкую экспансію і унію. Брацтвы выступалі таксама за абмежаванне царк. улады вышэйшага правасл. духавенства, падпарадкаванне кліру брацкіх цэркваў свецкаму «стану». Брацтвы адыгралі вял.

ролю ў развіцці пэўных сфер культуры, л-ры, пісьменнасці, музыкі (спеваў), іканапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, у дэмакратызацыі і секулярызацыі школьнай сістэмы адукацыі. Яны стварылі сац., матэрыяльныя і духоўныя перадумовы Б. к., якое выявіла ў сваёй дзейнасці гал. нац.-патрыятычныя, грамадска-паліт. і культ. патрэбы бел. і ўкр. народаў. Дзякуючы дзейнасці С., брэсцкіх і нясвіжскіх друкароў, Івана *Фёдарава,* Пятра *Мсціслаўца* і іх паслядоўнікаў на Беларусі і ў Літве да гэтага часу быў назапашаны значны тэхн. вопыт, друкарскае майстэрства (у т. л. гравёрнае) стала адной з параўнальна даступных галін рамеснай вытворчасці. Узнікненне шэрагу прыватных друкарняў на Беларусі і ў Літве ў апошнія дзесяцігоддзі 16 ст. сведчыла пра фарміраванне даволі шырокага кніжнага рынку, рост попыту на друкаваную прадукцыю. Аднак пастаянна дзейнічала тады толькі адна вял. друкарня, якая актыўна выкарыстоўвала кірылічныя шрыфты — друкарня *Мамонічаў* у Вільні. Грамадска-паліт. пазіцыя Мамонічаў, а таксама сувязі з заможнымі слаямі Вільні і вялікакняжацкай канцылярыяй (у т. л. Львом Сапегам) дазволілі дамагчыся афіц. прызнання іх дзейнасці. Гэта была адзіная бел. друкарня 16—18 ст., якая тры разы атрымлівала каралеўскія прывілеі на права выпуску царк.-рэліг. і свецкіх выданняў (у т. л. Статутаў Вял. кн. Літоўскага). Арганізацыйнае афармленне ў 1584 бел. Троіцкага (пазней Святадухаўскага) брацтва ў Вільні дало магчымасць прыступіць да стварэння ўласнай друкарні. У статуце брацтва, афіцыйна зацверджаным у 1589, прадугледжвалася буд-ва школ і друкарні для выдання кніг на грэч., слав., «рус.» і польск. мовах. Першыя крокі бел. і ўкр. мяшчанства па арганізацыі Б. к. адразу выклікалі ўмяшанне правасл. іерархіі, якая імкнулася абмежаваць дзейнасць брацкіх друкарняў вузкацарк. рамкамі. Пытанні арганізацыі Б. к. былі вынесены на разгляд брэсцкіх сабораў 1590, 1591, 1594. Саборныя пастановы прадпісвалі манапалізацыю брацкага бел. і ўкр. кнігадрукавання ў Львоўскай і Віленскай друкарнях, устанаўленне епіскапальнай цэнзуры, арганізацыю камісіі праўшчыкаў-карэктараў, фінансаванне выдавецкай дзейнасці за кошт сродкаў, сабраных ва ўсіх епархіях Кіеўскай мітраполіі. Брацтвам удалося адстаяць права выдаваць кнігі рознага зместу. У саборным вызначэнні 1591 адзначалася, што брацтвы ў сваёй выдавецкай дзейнасці павінны кіравацца дараванай граматай канстанцінопальскага патрыярха 1589. Грамата дазваляла львоўскаму Успенскаму брацтву друкаваць не толькі царк., але і розныя навучальныя, гіст. выданні, у т. л. «хроники сиреч летописцы». Грамадска-паліт. барацьба, якая рэзка абвастрылася ў сярэдзіне 1590-х г., пераход большай часткі правасл. іерархіі на бок уніі ператварылі ўсе пастановы брэсцкіх сабораў у намінальныя. Пытанні далейшай арганізацыі Б. к., яго фінансавання, збыт кніг сталі ўнутр. справай брацтваў.

У сярэдзіне 1590-х г. віленскае брацтва ўзначаліў актыўны працаўнік уніі, дзеяч бел. і ўкр. асветы, пісьменнік-палеміст Стэфан Зізаній. Пад яго кіраўніцтвам брацкая друкарня ў 1595—96 выпусціла не менш як 11 выданняў (больш за 2200 арк.). Да гэтага часу толькі Пражская друкарня С. набліжалася да такога ўзроўню інтэнсіўнай выдавецкай дзейнасці. На працягу некалькіх гадоў пасля Брэсцкай уніі 1596 брацкая друкарня ў Вільні амаль поўнасцю бяздзейнічала. Сучаснай бібліяграфіі не вядомы кірылічныя выданні, выпушчаныя брацкай друкарняй у 1597—1607, за выключэннем «Часоўніка», што зберагаецца ў Оксфардскай б-цы, які па некат. маст.-арнамент. адзнаках, напр., па выкарыстанню ініцыялаў Віленскай друкарні С., можа быць аднесены да выданняў гэтага брацтва. У крыніцах 17 ст. ўпамінаецца навучальны «Катэхізіс», апублікаваны брацтвам каля 1600. У 1594—1608 перарвалася або аслабла дзейнасць брацкай друкарні ў Львове. Віленскае брацтва, адлучанае ад Троіцкага манастыра, вымушана было расходаваць значныя сродкі на стварэнне новага культавага цэнтра (буд-ва мураванай Святадухаўскай царквы), судовыя іскі і інш. Некалькі палемічных выданняў, выпушчаных брацтвам на польск. мове ў 1608—10 (ананімныя выданні Мялеція Смятрыцкага), прывялі да закрыцця друкарні, арышту яе вядучых дзеячаў, у т. л. гал. натхняльніка і арганізатара, прапаведніка, пісьменніка, рэктара брацкай школы Л. Карповіча. У складаных грамадска-паліт. умовах брацкая друкарня з 1611 стала дзейнічаць у мястэчку Еўе (гл. *Еўінская друкарня).* Шляхецкая юрысдыкцыя ў некат. ступені абмяжоўвала брацтва ад умяшання уніяцкага духавенства, гаспадарскай і магістрацкай адміністрацыі ў справы друкарні. З 1618 да сярэдзіны 17 ст. брацтва выпускала свае выданні то ў Вільні, то ў Еўі. Амаль усе брацкія выданні таго часу друкаваліся з выкарыстаннем адных і тых жа арнаментальна-маст. матэрыялаў, шрыфтоў. Вядомыя дзеячы Б. к. таго часу — Самуіл Рагаля і Гаўрыла Івановіч. Друкарня віленскага брацтва (Вільня — Еўе) была буйнейшай у гісторыі бел. Б. к. У 1652 яна спыніла сваю дзейнасць. У 2-й чвэрці 17 ст. арганізацыя брацкіх друкарняў непасрэдна на тэр. Беларусі была абумоўлена актывізацыяй грамадска-паліт. і культ. дзейнасці бел. мяшчанства, пашырэннем брацкай сістэмы адукацыі, культ. сувязей з Украінай і Расіяй. Невыпадкова ў арганізацыі Б. к. ў Куцейне (гл. *Куцеінская друкарня)* і Магілёве значную ролю адыграў магіляўчанін С. Собаль, які да таго друкаваў у Кіеве. Нягледзячы на адсутнасць каралеўскіх і вялікакняжацкіх прывілеяў, якія пацвярджалі правы аршанскага брацтва, актыўны ўдзел у дзейнасці Куцеінскай друкарні магілёўскіх і аршанскіх братчыкаў дазваляе аднесці яе да ліку брацкіх. Куцеінскай друкарняй кіраваў член магілёўскага Багаяўленскага брацтва ігумен І. Труцэвіч — аўтар шматлікіх прадмоў да ку-


ГРАММАТІКА
СЛОВЕНСКА

Съвершеннаго искуства осми частій слова, и иныхъ нужныхъ.

Ново съставленна, Л, Z.

ВЪ ВИЛНИ

Въдрукарни Братской.

Да арт. **Брацкае кнігадрукаванне.** «Граматыка славянская» Л. Зізанія. Друкарня віленскага брацтва. 1596. Тытульны ліст.

Да арт. **Брацкае кнігадрукаванне.** «Казанне святога Кірыла» С. Зізанія. Друкарня віленскага брацтва. 1596. Тытульны ліст.


KAZANЬE

СТГО КИРИЛЛА

KAZANIE.

S. Cyrylla Patryarchy Ierozolimskiego / o Antichryście / y Znakoch iego / z rozszyrzeniem nauki przeciw heretyom roznym.

W Wilnie.

цеінскіх выданняў. У сярэдзіне 17 ст. ў сувязі з працяглымі войнамі, разарэннем брацтваў, значным пагаршэннем грамадска-паліт. умоў спынілася дзейнасць амаль усіх брацкіх друкарняў: у Вільні, Еўі, Куцейне і Магілёве. У канцы 17—18 ст. працягвала выпускаць кнігі толькі Магілёўская Багаяўленская друкарня (большую частку яе прадукцыі складалі літургічныя выданні на царк.-слав. мове).

Канец 16— сярэдзіна 17 ст.— асн. перыяд у дзейнасці бел. Б. к., калі поўнасцю раскрылася яго культ. і грамадска-паліт. значэнне. У гэты час асабліва выразна выявілася пераемнасць, што звязвала Б. к. з творчасцю С. Этнічная аснова Б. к. і выдавецкай дзейнасці С. была аднатыпнай. Кнігі С. прызначаліся перш за ўсё «рускому» насельніцтву Вял. кн. Літоўскага, адрасатам іх былі «братия моя, русь», «люди посполитые руского языка», землякі С. Паняцце «руский народ», «русины» ў 1-й пал. 16 ст. ў стараж.-бел. і ўкр. пісьменнасці азначала ўвесь усх.-слав. этнас Вял. кн. Літоўскага і Польшчы, не дыферэнцыраваны ў больш вузкім сэнсе. Выданні С. ў больш шырокім плане прызначаліся таксама для ўсяго «руского» насельніцтва Вял. кн. Літоўскага і Польшчы. Узнікненне Б. к. ў канцы 16 ст. было таксама абумоўлена жыццёвымі патрэбамі культ. і грамадска-паліт. развіцця Беларусі і Украіны. Таксама як і С., брацкія друкары неаднаразова падкрэслівалі сваё імкненне служыць «рускому народу», распаўсюджваць свае выданні на ўсе расійскія краіны (тэрмін «Расія» ў брацкім кнігадрукаванні канца 16—1-й пал. 17 ст. звычайна быў адэкватны тэрміну «Русь» у выданнях С.). Адначасова бел. і ўкр. кніжнікі адрознівалі «большую Россию, то ест Москву». Кнігадрукарская дзейнасць С. і брацтваў мела аднатыпную сац. аснову (слаі насельніцтва, якія адыгралі вырашальную ролю ў арганізацыі першых бел. і пазнейшых брацкіх друкарняў, а таксама тое сац. асяроддзе, якому пераважна прызначаліся і былі даступныя гэтыя выданні). У дзейнасці Пражскай і Віленскай друкарняў С. ўдзельнічалі прадстаўнікі бел. мяшчанства, гандлёва-прадпрымальніцкіх колаў Вільні (гл. арт. Багдан *Онкаў*, Якуб *Бабіч*, Юрый *Адвернік*). Асобы, якія падтрымлівалі выдавецкую дзейнасць С., уваходзілі ў склад «панского и бурмистровского» брацтваў, што аб'ядноўвалі гандлёва-прадпрымальніцкія колы горада. Сац. аснова Б. к. ў канцы 16—1-й пал. 17 ст. некалькі пашырылася. Крыніцы адносна поўна дазваляюць меркаваць пра сац. склад двух найбольш буйных бел. брацтваў, паколькі захаваліся рэестры гэтых арганізацый. Гал. бел. брацтвам у канцы 16—17 ст., якое адыгрывала першаступенную ролю ва ўсёй грамадска-паліт., царк.-рэліг. і асв. дзейнасці антыуніяцкай апазіцыі, было Троіцкае (з пач. 17 ст.— Святадухаўскае). Брэсцкая унія 1596 выклікала раскол у віленскім брацтве, ад яго адышла большая частка шляхты, гарадскога патрыцыяту, што істотна дэмакратызавала склад брацтва. Прыкладна ў гэты час пачала дзейнічаць 1-я брацкая друкарня. У магілёўскім Багаяўленскім брацтве ў 1-й пал. 17 ст. моцныя пазіцыі займалі члены гарадскога магістрату, купецтва, якія актыўна ўдзельнічалі ў гандлі з Масквой і інш. рус. гарадамі. У практычнай дзейнасці буйных бел. брацтваў вядучую ролю адыгрывала правасл. мяшчанства, якое выступала ў абарону бел. культуры, супраць каталіцкай экспансіі і уніі. Гэтыя ж слаі насельніцтва былі асн. адрасатам брацкіх выданняў.

Брацтвы збіралі сродкі для фінансавання выдавецкай і грамадска-паліт. дзейнасці з многіх гарадоў і мястэчкаў. Новай з'явай у сац. дзейнасці бел. брацтваў былі іх грамадска-паліт. сувязі з укр. казацтвам. Віленскае брацтва садзейнічала падрыхтоўцы некат. петыцый казакоў да ўрада Рэчы Паспалітай. Выдавецкая і грамадска-паліт. дзейнасць брацтваў стварала пэўныя перадумовы для аб'яднання нар. мас Беларусі і Украіны ў барацьбе супраць нац.-рэліг. і сац. прыгнёту. Вял. значэнне ў развіцці Б. к. мела культ.-асв. і ідэйная спадчына С. У Б. к., як і ў выданнях С., адлюстраваліся рэнесансавыя і рэфарм. тэндэнцыі, якія выявіліся ў значнай меры на фоне сярэдневяковай культ. спадчыны. Яны адчувальныя ў змесце некат. кніг, прадмовах, афармленні. Брацкія выдаўцы арыентаваліся на стараж.-рус., стараж.-бел. (у больш шырокім плане — усх.-славянскую) культуру. Аднак яны ў пэўнай меры ўспрынялі таксама некат. філас. і светапоглядныя ідэі антычнасці, ранняга хрысціянства. Агульнай рысай кірылічнага кнігадрукавання ў пачатковы перыяд яго развіцця ва ўсіх усх.-слав. народаў было тое, што літургічныя тэксты складалі адносна вял. частку брацкіх выданняў (33,33 %). У рус. кнігадрукаванні літургічныя выданні складалі абсалютную большасць прадукцыі. Гэта тлумачылася не толькі пануючым уплывам царк. ідэалогіі ў эпоху феадалізму, але і пэўнымі спецыфічнымі патрэбамі правасл. царквы на Беларусі, у Літве, на Украіне ў канцы 16—1-й пал. 17 ст.: неабходнасцю ўпарадкаваць і нармалізаваць сістэму богаслужэння, процістаяць уніяцкаму і каталіцкаму ўплыву і інш. Брацтвы мелі свае культавыя цэнтры, забяспечвалі іх кнігамі. Ідэалагічная і культ.-асв. дзейнасць іх развівалася ў рэчышчы рэліг. светапогляду. Гэта не выключала пэўнага абміршчэння і дэмакратызацыі бел. кнігадрукавання. Нават у літургічныя выданні нярэдка ўстаўляліся тэксты або раздзелы палемічнага, асв. зместу, некат. з іх знаёмілі чытачоў з творамі антычнай і стараж.-рус. пісьменнасці, гіст. героямі. Пэўныя канфесіянальныя выданні адначасова выкарыстоўваліся ў літургіі і ў хатнім чытанні, напр., «Псалтыр з паследаваннем» — адно з найб. частых выданняў брацтваў, якое аднаўляла асн. структуру «Малой падарожнай кніжкі» С. У «Месяцаслове» (заключнай частцы «Псалтыра с паследаваннем») змяшчаліся некат. элементы царк. календара, блізкія да звестак «Малой падарожнай кніжкі», апускаўся астранам. прагноз зацьменняў, упаміналіся канонізаваныя імёны агульнаслав., стараж.-рус. і рус. дзеячаў. Абміршчэнне брацкіх канфесіянальных выданняў, якое працягвала дэмакр. і асв. традыцыі С., выяўлялася ў значным пашырэнні саслоўна-прафесіянальнага кола чытачоў. Уплыў чытацкага асяроддзя асабліва адчуваўся ў імкненні брацтваў узняць грамадскі прэстыж свецкіх, непрывілеяваных саслоўяў. Упершыню ў царк.-рэліг. пісьменнасці сцвярджалася, што нямала «святых» і «пакутнікаў» былі «з купцов», «мытников», «жолнеров». Прыкметную частку брацкай выдавецкай прадукцыі складала т. зв. Чэцця кніга, якая прызначалася для келейнага або хатняга чытання: творы Іаана Златавуста, Макарыя Егіпецкага, Фікарыя Святагорца, павучальная л-ра («Дыёптра» ў перакладзе Віталія) і інш. Секулярызацыйныя тэндэнцыі, якія выяўляліся ў дзейнасці брацтваў, найб. адбіліся на ўзрастанні ўдз. в. белетрыстычных, вучэбных, палемічных выданняў. Узорам маст.-апавядальных выданняў быў сярэдневяковы агіяграфічны раман «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа», які выйшаў у 1637 у Куцейне (выдаўцы прыпісалі яго Іаану Дамаскіну, бел. пераклад зрабіў архімандрыт магілёўскага Багаяўленскага манастыра І. Полаўка).

С. выступаў супраць сярэдневяковай абмежаванасці, падкрэсліваў асв., выхаваўчае, грамадскае значэнне сваіх кніг, гіст. вопыту, свядомай чалавечай дзейнасці. Ён быў прыхільнікам шырокай сістэмы адукацыі, якая ўключала асн. гуманітарныя, свецкія навукі таго часу. Брацтвы ўвасобілі ў жыццё многія пед. і адукацыйныя ідэі С. Пад апекаю буйнейшых брацтваў (Вільня, Магілёў) узніклі школы новага тыпу, т. зв. брацкія школы, у якіх поўнасцю або часткова выкладаўся комплексны курс сямі «вызваленых» навук, што ўпамінаюцца ў пражскіх выданнях С. Брацтвы падрыхтавалі некалькі важных граматычных і слоўнікава-лексіграф. выданняў: «Граматыка славянская» Лаўрэнцыя Зізанія (1596), «Граматыкі славянскія» Сматрыцкага (1619), «Лексікон славянароскі» Памвы Бярынды (1653). Масавымі тыражамі выходзілі школьныя падручнікі, што прызначаліся для навучання дзяцей асновам кніжна-слав. пісьменнасці. З 1590-х г. да 1654 бел. друкарні выпусцілі 16 буквароў (8 брацкіх) — больш за палову ўсіх аналагічных выданняў, што выйшлі ў той час ва ўсх.-слав. землях. Стараж. брацкія буквары мелі некалькі рэдакцый, якія істотна адрозніваліся,— «фёдараўскую», у аснову якой пакладзены львоўскае і астрожскае выданні «Азбукі» Фёдарава (1574 і 1578), еўінскую («Буквар», 1618), што паслужыла ўзорам для большасці пазнейшых бел. выданняў. Арыгінальным па зместу быў «Буквар» — «Навука ку читаню и розуменю писма словенского», складзены Л. і С. Зізаніямі. Акрамя азбукі, у яго ўвайшлі вучэбны слоўнік з каментарыямі — «Лексіс» і «Катэхізіс» Стэфана Зізанія антыкаталіцкай накіраванасці.

Асв. мэтам служылі таксама глосы (шырока выкарыстоўвалі С., Сымон Будны, Васіль Цяпінскі) — каментары да фразаў іншамоўных лексічных запазычанняў (з польск., лац., грэч. і інш. моў), пераклады малазразумелых слоў у самім тэксце, прадмовы выдаўцоў, аўтараў, перакладчыкаў, устаўныя раздзелы свецкага зместу. У Б. к., як і ў дзейнасці брацтваў наогул, выяўляліся пэўныя рэфарм. тэндэнцыі. Брацкія ідэолагіі выступалі супраць рэфарм. рухаў, што аформіліся ў самастойныя кірункі ў Рэчы Паспалітай (кальвінізм, лютэранства, антытрынітарызм, сацыніянства), але яны многае запазычылі і перапрацавалі з ідэйнай спадчыны еўрап. рэнесансавай культуры і Рэфармацыі. Для прадстаўнікоў уніяцкай іерархіі была відавочная ідэйная сувязь першых брацкіх выдаўцоў (Зізанія і інш.) з іх папярэднікамі, пачынаючы са С. Уніяцкі палеміст А. Сялява пісаў у 1622, звяртаючыся да братчыкаў: «Хіба не вы ўласна дазваляеце атручвацца... людзям сваім вучэннем іншаверцаў? І прад тым яшчэ, даўно, пры продках вашых, вам падобных, Русь была нямала атручана: да уніі быў Скарына, гусіт ерассю, які па-руску друкаваў вам кнігі ў Празе. Прымалі іх з удзячнасцю, дастаткова таго было, што зваўся Русін з Полацку, як падпісваўся. Смактавалі яго друкі, гаварылі, што чалавек годны, русін, брат наш, гэта друкаваў. Сымон Будны і Лаўрэнцій Крышкоўскі, сваю арыянскую атруту па-руску надрукаваўшы, рассеялі паміж папоў» (Архіў Пауд.-Зах. Расіі. Кіеў, 1914. Ч. 1, т. 8, в. 1. С. 717, на рус. мове). Асобнае месца ў жанравай структуры Б. к. заняла палемічная публіцыстыка. Палемічнае кнігадрукаванне было накіравана супраць контррэфармацыі, каталіцкай экспансіі, царк.-рэліг. уніі, якія падрывалі грамадска-паліт., культ. і рэліг. агульнасць усх.-слав. народаў, тэндэнцыі да адзінства, звужалі магчымасць развіцця бел. і ўкр. культур і садзейнічалі паланізацыі феадалаў, мяшчанства, абвастралі нац.-рэліг. і сац.-класавыя супярэчнасці. Палемічная публіцыстыка садзейнічала росту нац. і грамадска-паліт. свядомасці бел. і ўкр. народаў, падымала прэстыж бел. і ўкр. культуры, выступала за развіццё міжслав. культ. сувязей, верацярпімасць. Антыкаталіцкія і антыуніяцкія ідэі палемічнай публіцыстыкі былі па-свойму выкарыстаны нар. масамі Беларусі і Украіны ў барацьбе супраць нац.-рэліг. і сац. прыгнёту, у бунтах, сялянска-казацкіх войнах і выступленнях. Развіваючы традыцыі С., брацкія выдаўцы нямала ўвагі надавалі прававым пытанням. На першы план выступілі праблемы заканадаўчай рэгламентацыі права, выкарыстання яго ў інтарэсах усіх саслоўяў, у т. л. мяшчанства, абмежавання феад. свавольства і насілля. Ідэолагі брацкай палемічнай л-ры (Смятрыцкі) лічылі, што пісанае права, якое адпавядала прыродным патрэбам чалавека і саслоўна-класавай градацыі грамадства, непрадузятае судаводства, выкананне ўсіх прынятых нормаў і законаў здольны забяспечыць унутраны мір у краіне, пакончыць з нац.-рэліг. разладам, папярэдзіць нар. бунты і хваляванні, аслабіць сац. напружанне. У 2-й пал. 1620-х—30-х г. палемічная рэліг. публіцыстыка ў брацкім кнігадрукаванні саступіла месца новым свецкім


ЛАМЕНТЪ
Ѹ свѣта оубогихъ,
На жалосное преставленїе Святобливого: а в особѣ добродѣтели богатого Мужа а Бл҃е Веліеного. Г(оспо)дна Ѿц(а)
ЛЕОНТІА КАРПОВИЧА,
АРХІМАНДРІТА ОБЩІА
Обителѧ, при Церкви сошествїѧ Ст҃го Дх҃а,
Братства церковного Віленского.
Пра: Гре:
Ѵ Вилни, в друкарни Братской.
Лѣта ѿ воплощенїѧ Бг҃а Слова. ах҃к.

Да арт. **Брацкае кнігадрукаванне.** «Лямант на смерць Лявонція Карповіча». Друкарня віленскага брацтва. 1620. Тытульны ліст.

Да арт. **Брацкае кнігадрукаванне.** «Граматыка славянская» М. Сматрыцкага. Еўе. 1619. Тытульны ліст.


ГРАММАТІКИ
Славенскиѧ правилное
Сѵнтагма,
Потщанием Многогрѣшнагω Мниха
Мелетїѧ Смотрискогω, в
Киновїи Братства Церковнагω
Виленскагω, при храмѣ соше
ствїѧ Пресвятагω и животворящагω Дх҃а
...
Лѣта ѿ воплощенїѧ Бг҃а Слова ах҃ѳі.
Правящу Апостолский престол
великиѧ Божиѧ Константинопо
лскиѧ Церкве Вселенскому Па
триархе Г: Ѿцу Тимофию.
Виленскому же Киновїю пред
стателствующу Г:
Ѿцу Леонтию Карповичу
Архимандриту.
в Еве Ю.

гісторыка-прававым выданням. Ідэолагі кансерватыўнага крыла ў брацтвах разлічвалі, што кіруючыя колы дзяржавы, феад. знаць і шляхта змогуць вырашыць асн. грамадска-паліт. праблемы. Гісторыка-прававыя выданні таго часу адрасаваны сеймавым і сенацкім «станам». Адступленнем ад традыцый С. было пераважнае выкарыстанне польск. мовы ў палемічных выданнях (толькі 2 з 10 былі надрукаваны поўнасцю або часткова кірыліцай), а таксама прыкметны кансерватызм у ацэнцы некат. прагрэс. з'яў зах. культуры, у т. л. прыродазнаўчых навук. Агульную жанравую структуру брацкага кірылічнага кнігадрукавання ў канцы 16—1-й пал. 17 ст. можна абагульніць наступным чынам: літургіка, статуты, дагматычнае багаслоўе —33 выданні, Новы запавет і Евангеллі — 7, творы стараж. пісьменнікаў, чэцця кніга — 11, белетрыстыка, палемічная л-ра, панегірыкі — 8, падручнікі —12, выданні, якія выкарыстоўваліся ў літургіі і ў школьнай справе —16. Брацкія выдаўцы працягвалі моўныя традыцыі С. ў кнігадрукаванні, які шмат зрабіў для далейшага развіцця бел. літ. мовы. У бел. кнігадрукаванні 16—1-й пал. 17 ст. толькі прывілеяваная друкарня Мамонічаў і брацкія друкары шырока выкарыстоўвалі бел. мову ў сваіх выданнях. Брацкія друкарні па агульнай колькасці выданняў на бел. мове прыкладна ў 1,5 раза апярэджвалі друкарню Мамонічаў. З пачатку дзейнасці да 1654 брацкія выдавецтвы выпусцілі 17 кніг на бел. мове, 1 з паралельным польск. перакладам (Казанье Кирилла, патриарха иерусалимского, 1596), а таксама двухмоўны «Лексікон славянароскі» Бярынды. Удз. в. ўсёй гэтай групы ў агульнай колькасці захаваных брацкіх выданняў — прыкладна 22 %, па колькасці аркушаў — каля 10 %. У 27 выданнях сустракаюцца фрагменты бел. тэксту: прадмовы, пасляслоўі, тлумачэнні на палях, адасобленыя раздзелы: арт. С. Зізанія «Казанне пра рымскі вялікдзень», паследаванне (саборнік 12 месяцам) і інш. У некат. выданнях, як напр., у «Трэбніку» (1621), гэтыя артыкулы агаворáны ў прадмове: «Наконец придалисмо простым языком предмову пред шлюбом малженским, Науку пред споведю, пытанне в споведи, и материа казаня на погреб». Выданні з фрагментамі бел. тэксту і раздзеламі складаюць каля 31 %, а разам з вышэй названай групай —53 % ад колькасці захаваных брацкіх выданняў.

Брацкія выдаўцы, працягваючы традыцыі С., шмат зрабілі для далейшай дэмакратызацыі бел. літаратурна-пісьмовай мовы, укаранення яе ў кнігадрукаванне, замены кніжнаслав. мовы беларускай у некат. канфесіянальных жанрах. Найб. актыўна ўжывалася бел. мова ў тых брацкіх выданнях, якія выкарыстоўваліся як чэцця кніга, па-за сферай богаслужэння і ў палемічных выданнях, надрукаваных кірыліцай. Брацкія выдаўцы адраджалі таксама аўтарытэт кніжнаслав. мовы, што тлумачылася не толькі архаічнымі кансерватыўнымі тэндэнцыямі. Кніжнаслав. (царк.-слав.) мова

ў канцы 16 ст. была аб'ектам інтэнсіўнай палемікі з ідэолагамі ваяўнічага каталіцызму (перш за ўсё П. Скаргам), якія сцвярджалі, што яна не прымальная для тэалогіі, развіцця духоўнай культуры, гуманітарных навук. Брацкія выдаўцы, якія абаранялі грамадскае значэнне кніжнаслав. мовы, адстойвалі працяглыя і багатыя гіст. традыцыі бел. і ўсёй усх.-слав. культуры. Выкарыстанне кніжнаслав. мовы брацкімі выдаўцамі (як і Мамонічамі) аблягчала культ. сувязі з інш. ўсх.-слав. народамі. Большасць брацкіх і інш. бел. кірылічных выданняў, якія пашыраліся ў Рус. дзяржаве ў канцы 16—1-й пал. 17 ст., былі надрукаваны на кніжнаслав. мове, якая непадзельна панавала ў маскоўскім кнігадрукаванні. Друкаваныя выданні брацкіх і інш. бел. друкарняў з канца 16 ст. сталі адыгрываць гал. ролю ў нармалізацыі бел. пісьмовай мовы, выпрацоўцы і замацаванні яе граматычнага ладу, арфаграфічных і лексічных рыс. Б. к. ўспрыняло ад С. многія вонкавыя формы і асаблівасці друкаваных выданняў (фармат, маст.-арнаментальнае афармленне, гравюры, двухфарбавы пракат і інш.), большасць элементаў унутранай структуры кнігі: тытульны ліст, прадмовы, калафоны, розныя прыёмы вёрсткі і набору тэксту. У адрозненне ад інш. кірылічных друкарняў — Фёдарава і Мсціслаўца ў Заблудаве, Мсціслаўца, Гарабурды, Мамонічаў у Вільні — у Б. к. намнога шырэй ужываліся характэрныя для С. паменшаныя фарматы кніг: з 87 брацкіх кірылічных выданняў 31 надрукавана фарматам у 4° (як пражскія выданні С.), 34 у 8° (як віленскія выданні С.), у т. л. ўсе граматыкі і буквары. Брацкія выдаўцы пайшлі яшчэ далей у памяншэнні фармату кнігі, прыстасоўваючы яго да патрэб вандроўных купцоў, рамеснікаў і інш. слаёў бел. «паспольства»: 17 выданняў надрукаваны фарматам у 12—18°. Зусім малыя фарматы брацкіх кірылічных выданняў (адэкватныя кнігам С. і яшчэ больш мініяцюрныя) складаюць 94,25 % усіх захаваных выданняў. Падобныя фарматы кніг успрыняты Б. к. непасрэдна ад С., што пацвярджаецца поўным падабенствам найменняў гэтых выданняў у тэрмінах, прынятых бел. першадрукаром: «малые кніжкі» (параўн. «Малая падарожная кніжка»), «подорожные» і да т. п. Практычны памер (як і скарынінскіх выданняў) адпавядаў патрэбам свецкіх саслоўяў, мяшчанства. У прадмове да адной з сваіх «книжек малых» брацкія выдаўцы адзначалі: «Для тых еднак, которыи не часто в ц[е]ркви бывают, а асобливе для подорожных. Не всим абовем целый Оустав пре скудость его з друку мети, а пре великость его з собою возити зыйдеться». Малы фармат дазваляў таксама рабіць брацкія выданні таннейшымі і даступнейшымі. Услед за С. брацкія выдаўцы сталі выкарыстоўваць у сваіх кнігах гравюры разнастайнага зместу розных маст.-стылявых форм. Б. к. ў гэтых адносінах уласціва адметная своеасаблівасць: ніводная з гравюр С. не была надрукавана ў брацкай (як і ў інш. бел. і ўкр.) друкарні непасрэдна з яго дошак (магчыма, гэтыя ксілаграфічныя матэрыялы загінулі). Невядомы таксама блізкія копіі яго гравюр. Адной з прычын гэтага, на нашу думку, з'яўляецца тое, што кніжнае мастацтва брацкіх бел. і ўкр. друкарняў у канцы 16—1-й пал. 17 ст. развівалася пад уплывам інш., перш за ўсё мясцовых, маст.-прыкладных традыцый. Гравюры брацкіх выданняў (нягледзячы на іх эвалюцыю і нац. спецыфіку) у значна большай ступені, чым пражскія ксілаграфіі С., былі звязаны са спадчынай стараж.-рус. і ўсх.-слав. выяўленчага мастацтва. Яны былі больш статычныя і кананічныя ў сваіх сюжэтных схемах. Пышны ілюстрацыйны, адкрыта рэнесансавы характар пражскіх гравюр С. не зусім упісваўся ў тыя ідэйныя канцэпцыі, якія прапаведавалі размежаванне «лацінскага» і ўсх., «грэка-праваслаўнага» мастацтва і інш. сфер культуры. На практыцы брацкія кнігадрукары пастаянна адступалі ад некат. канонаў правасл. артадоксіі. Падобна С., які сінтэзаваў у сваіх выданнях дасягненні сталага еўрап. кнігадрукавання і айч. традыцый рукапіснай кніжнасці, яны творча ўспрымалі вопыт еўрап. краін. Гэта выяўлялася ў пашырэнні літаратурных крыніц арыгінальных брацкіх выданняў, асабліва палемічных, у развіцці некат. рэфарм. ідэй, у перакладах і выданнях асобных кніг еўрап. аўтараў (Гаспаднеціча), узбагачэнні маст.-стылявых сродкаў кніжнага афармлення. Невыпадкова ў Еўінскай друкарні ўпершыню ў гісторыі бел. Б. к. была выкарыстана металагравюра свецкага зместу, на якой паказаны купал неба са знакам задыяка і некат. планетамі («Панегірык на шлюб Аляксандра Слушкі, ваяводы мінскага», 1634). Найб. яўна жыватворны ўплыў кніжнага мастацтва С. выявіўся ў арнаментальна-маст. асаблівасцях брацкіх выданняў. Віленская Святадухаўская і Еўінская друкарні былі прамымі наследнікамі сапраўдных друкарскіх матэрыялаў С.— яго віленскіх заставак і ініцыялаў у рамках з раслінным арнаментам. Дошкі С. выкарыстоўваліся ў Б. к. аж да 1640-х г. Адначасова брацкія выдаўцы нярэдка капіравалі або імітавалі яго віленскія аздобы. Амаль усе факты гэтай пераемнасці прасочваюцца ў бібліяграфічных працах В. І. Лук'яненкі. Паводле нашых падлікаў, у 19 віленскіх і еўінскіх брацкіх выданнях 1595 — пачатку 1640-х г. выкарыстаны сапраўдныя арнаментальныя ксілаграфіі С. Дошкі С. (некат. вял. ініцыялы) і блізкія да іх копіі сустракаюцца таксама ва ўкр. кірылічных выданнях канца 16 — першых дзесяцігоддзяў 17 ст. Духоўная і матэрыяльная пераемнасць Б. к., якое ўспрыняло і працягвала многія творчыя традыцыі С., развівалася складана, неадназначна. У паліт., сац.-эканам. і культ. умовах канца 16 — сярэдзіны 17 ст. Б. к. адлюстравала новы ўзровень грамадска-паліт. патрыятычнай свядомасці гараджан (апасродкавана больш шырокіх слаёў бел. насельніцтва) і рост унутрысаслоўных супярэчнасцей, развіццё дэмакр. і гуманіст. тэндэнцый і ўзмацненне ўплыву царквы ў 2-й палове 17 ст. Класавы саюз феадалаў Вял. кн. Літоўскага і Польшчы, у якім вырашальная роля належала польск. феад. знаці, а ў ідэалаг. і духоўнай сферах — каталіцкай царкве, да сярэдзіны 17 ст. стварыў крайне неспрыяльныя ўмовы для далейшага развіцця бел. і ўкр. культуры. Аслабленне брацтваў было звязана таксама з дзяржаўнаадміністрацыйнымі рэпрэсіямі, пагаршэннем матэрыяльнага становішча, неаднародным сац. складам, што выяўлялася ў розных, часам супярэчлівых паліт. і сац. тэндэнцыях. Да сярэдзіны 17 ст. Б. к. вычарпала свае грамадска-паліт. магчымасці. Да нашага часу дайшло 87 кірылічных выданняў (агульным аб'ёмам больш за 20 600 арк.) і 25 надрукаваных лац. шрыфтам (больш за 1700 арк.). Выданні бел. брацтваў шырока распаўсюджваліся на Украіне, паступалі ў Расію. У 1639 свае паслугі ў развіцці маскоўскага кнігадрукавання прапаноўваў С. Собаль і друкар П. Магіла. У 1648 ігумен Бізюкоўскага манастыра Гедэон адпраўлены ў Маскву з рэкамендацыйным лістом Труцэвіча, хадайнічаў аб вял. партыі кніг маскоўскага друку. Гедэон прапанаваў цару Аляксею Міхайлавічу выдаць «зеловеликолепные» кнігі яго рэдакцыі. У 1654—55 у Расію пераехалі ўсе куцеінскія друкары і гравёры, значная частка манахаў на чале з Труцэвічам. Перавезена было таксама абсталяванне друкарні. Многія брацкія друкары выкарыстоўвалі выданні маскоўскага Друкарскага двара і рус. рукапісы. Ідэі С. пра пашырэнне «рускай» друкаванай кнігі ва ўсх.-слав. землях, расшырэнне культ. і духоўных узаемасувязей з усімі народамі атрымалі яшчэ адно пацвярджэнне і развіццё ў дзейнасці Б. к.

*Літ.:* 39; 335; 584, с. 113—156, 282—307; 789; Исаевич Я. Д. Преемники первопечатника. М., 1981; его ж. Роль братств в издании и распространении книг на Украине и Белоруссии (конец XVI—XVIII в.) // Книга и графика. М., 1972. *Г. Я. Галенчанка.*

**БРУ́КНЕР** (Brückner) Аляксандр (1856—1939), польскі філолаг-славіст, гісторык культуры. Чл. Пецярбургскай АН (1890). У арт. «Дзе атрымаў вучоную ступень Скарына?» (1892) прывёў выпіску з Кнігі Святой калегіі паноў артыстаў і медыкаў Падуанскага ун-та за 1512—25, у якой на арк. 5-м і 6-м пад датай 5.11.1512 ёсць запіс пра С. (гэты запіс Б. знайшоў у «Матэрыялах да гісторыі палякаў у Падуі», 1892, т. 7, С. Віндакевіча, які апублікаваў скарочаныя спісы з універсітэцкіх актаў у Італіі). Б. паведаміў, што па просьбе С. і з улікам яго матэр. становішча яму была паменшана плата за навучанне, што гэта была найб. ранняя доктарская ступень, атрыманая «рускім», а бацьку С. звалі Лука і ён паходзіў з Полацка. Тым самым Б. першы звярнуў увагу не толькі на час і месца атрымання дыплома доктара С., але падкрэсліў яго «рускае» паходжанне і назваў імя бацькі. У арт. «Францыск Скарына» (1927) Б. даў тлумачэнні да публікацыі М. Вайцахоўскай у «Квартальніку гістарычным» (т. 40. Львоў,

1926) пра некат. факты з жыцця С., устаноўленыя на падставе гар. актаў Познані (пра прыезд С. ў Познань па справе спадчыннага іску ў сувязі са смерцю брата Івана, пра кароткатэрміновую службу С. ў герцага Альбрэхта ў Кёнігсбергу, пра арышт С. па лжываму абвінавачванню пры паўторным наведанні Познані ў 1532, і інш.). Пра дзейнасць С. пісаў у публікацыі «З беларускай нівы» (1918) і ў «Нарысе гісторыі славянскіх літаратур і літаратурных моў» (1929, у сааўт.).

*Літ.:* Gutschmidt K. Zur belorussischen Philologie // Zeitschrift für Slawistik. 1980. Bd. 25, h. 2. *В. Л. Вярэніч.*

**БРЭСТ,** летапісны Бярэсце, горад (зараз цэнтр Брэсцкай вобл.). Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1019. У 16 ст. адзін з гал. эканам. і культ. цэнтраў Вял. кн. Літоўскага. Налічваў каля 8 тыс. жыхароў. У 1554 горад атрымаў герб з выявай мураванай чатырохграннай шатровай вежы ў сутоку 2 рэк, што адлюстравала яго ролю як важнай крэпасці. Б. быў таксама адным з буйнейшых на тэрыторыі Беларусі культ. цэнтраў. Тут працавала шмат дойлідаў, мастакоў, рамеснікаў, што выраблялі па-мастацку аздобленыя рэчы хатняга ўжытку, зброю і інш. У 1563 у кальвінскай друкарні, заснаванай М. Радзівілам Чорным (брэсцкім старостай), надрукавана сусветна вядомая *«Брэсцкая біблія»*. У 16 ст. адкрыта аптэка, у 1590 — свецкая школа (адна з першых на Беларусі).



Герб **Брэста.** 16 ст

**Брэст.** З гравюры 16 ст.



«Патоп». Ілюстрацыя да **«Брэсцкай біблії».**



Горад складаўся з 3 асн. звязаных паміж сабой частак: замка, «места» і Замухавечча. Замак размяшчаўся на востраве, утвораным Бугам і Мухаўцом, на месцы дзядзінца стараж. Бярэсця. Паводле інвентара 1566 у ім вылучаўся т. зв. малы замак — асн. гар. цытадэль. Ён быў драўляны і абнесены абарончымі сценамі — гароднямі. Сярод іх стаяла 5 абарончых вежаў, на адной з якіх быў гадзіннік, на другой — вялікі набатны звон, 2 вежы з'яўляліся брамамі. У сярэдзіне 16 ст. пабудаваны 2 новыя брамы. У некат. гароднях у ніжніх частках знаходзіліся каморы. Усе жылыя будынкі ўзведзены на абарончых сценах. Цэнтр дзядзінца быў незабудаваны. Верхнія ярусы сцен вежаў і інш. пабудоў завершаны невысокімі драўлянымі брустверамі, якія служылі пагрудным прыкрыццём абаронцаў замка. Па-за межамі малога замка, дадаткова ўмацаванага бастыёнамі ў 2-й пал. 16 ст., размяшчаўся арсенал — двухпавярховы драўляны будынак на падмурку; у верхнім паверсе яго знаходзіліся 4 каморы, дзе захоўвалася ручная зброя і баявыя прыпасы (порах, ядры, кулі і інш.), у ніжнім стаялі гарматы. Асн. сялібная тэрыторыя горада размяшчалася на ўсход ад замка, на другім беразе Мухаўца і Буга. Яна складалася з 2 частак: «места» і Замухавечча, раздзеленых рукавом Мухаўца. «Места» складалася з меншай умацаванай цэнтр. часткі і большай перыферыйнай, якая не мела абарончых сцен, а толькі была абнесена валамі з бастыёнамі. Асновай планіроўкі цэнтр. часткі «места» з'яўлялася паўавальная ў плане гандл. плошча, злучаная мостам цераз Мухавец з замкам. Тут знаходзіліся ратуша з высокай гадзіннікавай вежай (час апавяшчаў гар. трубач), друкарня, саляны склад, аптэка, васкабойня і 23 сядзібы. Ад плошчы ў радыяльных напрамках адыходзілі 3 вуліцы, на якіх размяшчаліся 170 сядзіб гараджан, двор праваслаўн. епіскапа з мураванай Мікалаеўскай царквой, фарны касцёл з плябаніяй, гар. шпіталь і інш. Перыферыйная частка «места» ўключала 20 невял. вуліц, тут размяшчаліся 401 сядзіба гараджан, 3 касцёлы (пры адным з іх быў кляштар, пры другім шпіталь, трэці парафіяльны называўся Варварынскім), Васкрасенская і Міхайлаўская цэрквы. Своеасаблівасць забудовы «места» — спалучэнне сядзіб гар. і сельскага тыпаў (многія гараджане не парывалі сувязі з сельскай гаспадаркай). У цэнтры і на магістральных вуліцах сяліліся гараджане, якія не займаліся сельскай гаспадаркай, а жылі за кошт рамяства і гандлю. На шэрагу ўчасткаў сядзібы размяшчаліся не на саміх вуліцах, а паміж імі, займалі тыльны фронт вулічнай забудовы. Некат. перыферыйныя вуліцы ўзніклі як чыста «агародныя» і толькі з цягам часу пачалі забудоўвацца. Шчыльнасць забудовы розных вуліц была нераўнамернай і неаднолькавай. Так, некат. вуліцы мелі двары сярэдняй плошчай 11,8—21,3 м². Такія двары маглі змясціць усяго адну невял. хатку. Будынкі ставіліся надзвычай шчыльна. Былі вуліцы з больш прасторнай забудовай, аднак памеры двароў не перавышалі 189,6 м². На некат. вуліцах спачатку будынкі ставілі з аднаго боку, а з другога размяшчаліся агароды. З цягам часу забудова пераходзіла на другі бок вуліцы. «Замухавечча», размешчанае на ПнУ ад гіст. цэнтра горада, мела 2 вуліцы. На іх пабудаваны 229 сядзіб гараджан, Спаская царква, Сімяонаўскі і Раждзественскі манастыры (апошні меў цэрквы Нараджэння багародзіцы і Чэснага Крыжа). Гэта частка горада была аграрнай, толькі 7 сядзіб складаліся з аднаго двара, астатнія мелі агароды і сенажаці. Існавалі таксама агародныя і сенажатныя ўчасткі без двароў, якія належалі жыхарам Брэста, што жылі ў інш. частках горада. Усяго ў горадзе ў 1566 каля 1000 сядзіб.

Дакладных звестак пра наведванне С. горада няма. Аднак не выключана, што на працягу жыцця ён мог пабываць у другім па значэнні (пасля Вільні) горадзе княства. Выданні С. былі вядомы ў Б. Пра гэта сведчыць збор 1624 брэсцкага мешчаніна, купца, члена брэсцкага магістрата Гурына Федаровіча. У яго «тэстаменце» ўпамянуты кнігі, якія ён адпісаў розным асобам і царк. установам, у т. л.: «До Словатич, до св. Покровы — библию», «Грицку Фесеви, апостол, псалтырь друку Скоринина», «апостол друку Скоринина — Грицку Поповичу».

*Літ.:* Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Брэсцкая вобласць. Мн., 1984.

*П. Ф. Лысенка, Ю. А. Якімовіч.*

**«БРЭ́СЦКАЯ БІ́БЛІЯ»** «Радзівілаўская біблія», помнік польскамоўнага кнігадрукавання на Беларусі. Выдадзена ў 1563 на сродкі Мікалая Радзівіла Чорнага — старосты брэсцкага, аднаго з кіраўнікоў кальнівістаў. На той час была адным з роўных і лепшых выданняў на тэр. Вял. кн. Літоўскага і Польшчы. Дакладныя імёны перакладчыкаў «Б.б.» невядомы. У выданні, відаць, прымаў удзел Ц. Базылік, які ў той час кіраваў Брэсцкай друкарняй, на што ўскосна ўказвае новае выданне ў Брэсце ў 1566 часткі Бібліі з імёнамі Базыліка і С. Жука. «Б. б.» мае назву «Біблія святая, гэта значыць Кніга Старога і Новага запавету з яўрэйскай, грэцкай і лацінскай нанава на польскую мову са стараннасцю і дакладна перакладзеная». Ёсць і ўказанне: «Друкавана ў Брэсце Літоўскім паводле загаду і коштам Сіяцельнага Пана, Пана Мікалая Радзівіла, Князя на Алыцы і на Нясвіжы, ваяводы Віленскага, у Вялікім княстве Літоўскім найвышэйшага маршалка і канцлера». Кніга — вял. фаліянт, апраўлены ў скураную вокладку з малюнкамі і дакладным графічным афармленнем. На тытульным лісце з аднаго боку гравюра з Адамам і Евай пад яблыняй, з другога — распятага Ісуса Хрыста. Унізе іншыя гравюры. Асобныя гравюры паводле кампазіцыі і малюнка, некат. дэталей узыходзяць да гравюр С. На некат. экземплярах графіка на тытульным лісце іншая: уверсе распяты Ісус Хрыстос і дзве выявы жанчын, а другая гравюра — Ева падае яблык Адаму. Амаль на кожнай старонцы на палях каментарыі да тэксту. Упершыню ў гісторыі кнігадрукавання на Беларусі змешчаны прадметны паказальнік. У кнізе ёсць прадмова, у якой перакладчыкі адзначаюць, што за ўзор афармлення бралі Біблію на франц. мове (выдадзена гугенотамі). Экземпляры «Б. б.» зберагаюцца ў Дзярж. б-цы імя Леніна ў Маскве, Цэнтр. б-цы АН Літ. ССР і ў Ягелонскай б-цы ў Кракаве, няпоўны экз. — у Цэнтр. навук. б-цы імя Я. Коласа АН БССР.

*Літ.:* Нікалаеў В. «Зроблена ў Брэсце 1563 года, месяца верасня чацвертага дня...» // Беларусь. 1980. № 12.

*А. П. Грыцкевіч.*

**БРЭ́СЦКАЯ ДРУКА́РНЯ,** першая на тэр. Беларусі друкарня, якая дзейнічала ў 1550—70-х г. у Брэсце пад апекай канцлера Вял. кн. Літоўскага, віленскага ваяводы і брэсцкага старосты М. Радзівіла Чорнага. Узнікненню друкарні садзейнічаў значны ўздым у культ. развіцці Беларусі, расшырэнне міжнар. культ. сувязей і ўплыў Рэфармацыі. Друкары і кнігавыдаўцы: Б. Ваявудка (1553—54), С. Мурмэліус (1558—60-я г.), Ц. Базылік (1560—70-я г.). Першыя выданні друкарні, выпушчаныя Ваявудкам, адпавядалі патрэбам рэфармацыйнага руху (Вялікі і Малы Катэхізісы, перакладныя тэалагічныя сачыненні Крыштафа Імлера, Урбана Рэгіуса). З выданняў Мурмэліуса вядомы: «Два пасланні» (1559) — адказ папскаму нунцыю Ліпамано, дзе рэзка крытыкавалася царк.-рэліг. палітыка рымскай курыі, яе бесцырымоннае ўмяшанне ў справы інш. краін; «Гісторыя пра папу Іаана VIII, які быў жанчынай» (1560), збор прававых сачыненняў Б. Граіцкага — «Артыкулы права магдэбургскага», «Судовы працэс» (1560) і інш. Пэўная колькасць выданняў выйшла без назвы друкара: шэдэўр кнігадрукарскага мастацтва — манументальная «ў ліст» *«Брэсцкая біблія»* (1563); сатырычная антыкаталіцкая паэма «Пратэй, або Пярэварацень» (1564), у якой высмейваюцца некат. звычаі і традыцыі шляхты; «Размова паляка з ліцвінам» (каля 1564), дзе ўзняты важныя праблемы дзярж. і грамадска-паліт. ладу Польшчы і Вял. кн. Літоўскага напярэдадні Люблінскай уніі 1569. Найб. росквіту Б. д. дасягнула пад кіраўніцтвам прадстаўніка рэнесансавай культуры, паэта, перакладчыка, кампазітара, выдаўца Базыліка. У гэты час выйшлі розныя белетрыстычныя, гіст., паліт. выданні, у т. л. пераклад кнігі М. Барлетыуса (1450—1512), прысвечанай герою вызв. вайны супраць туркаў — Г. Скандэрбегу (1569). Рэлігійныя ганенні ў Зах. і Цэнтр. Еўропе асуджае кампілятыўны твор «Гісторыя жорсткіх ганенняў царквы божай» (1567). Адна з гравюр кнігі адлюстроўвае пакаранне смерцю выдатнага чэшскага рэфарматара Яна Гуса. У 1570 выйшаў ананімны твор, пабудаваны па фалькл. і літаратурных матывах — «Працэс чарцей супраць людского роду». Б. д. выпусціла больш за 40 выданняў на польск. і лац. мовах рознага зместу, у якіх знайшлі яркае адлюстраванне духоўныя і ідэйныя сувязі прагрэсіўных дзеячаў польск., бел. і літ. культуры. Брэсцкія выдаўцы адрасавалі значную частку сваіх кніг «простым», «посполитым» чытачам. Многія выданні былі надрукаваны скарынінскімі фарматамі. У іх афармленні шырока выкарыстоўваліся рэнесансавая графіка, наборны арнамент, гатычныя шрыфты, застаўкі,

**«Будаўніцтва храма ў Іерусаліме».** Гравюра з тытульнага ліста 3-й кнігі «Царствы» Ф. Скарыны.



канцоўкі, фігурныя ксілаграфіі. Як і ў выданнях С., адчуваецца сувязь з кніжным мастацтвам краін Паўночнага Адраджэння.

*Літ.:* Парэцкі Я. І. Антырэлігійная сатыра Брэсцкага друкарскага двара ў XVI ст. // Беларуская літаратура. Мн., 1979. Вып. 7; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław; Kraków, 1959. *Г. Я. Галенчанка.*

**«БУДАЎНІЦТВА ХРАМА Ў ІЕРУСАЛІМЕ»,** «Цар Саломон ставит храм господу богу въ Ерусалиме», гравюра на тытульным лісце 3-й *кнігі «Царствы»,* выдадзенай С. у Празе (1518).

Паводле біблейскага падання, Іерусалімскі храм разам з царскім палацам і гарадскімі сценамі будавалі ў 10 ст. да н. э. 70 тыс. муляраў і 80 тыс. каменячосаў, якімі кіравалі 3600 «прыстаўнікоў».

Адносна гравюры С. адзначыў у прадмове: «Положил есми в сих книгах образци храму господъня и сосудов его и дому царева, еже оставил ест Саломон-царь. А то для того, абы братия моя русь, люди посполитые, чтучи могли лепей разумети» (гл. с. 77).

На гравюры (105×105 мм) адлюстраваны момант, калі буд-ва наведаў цар Саламон са сваёй світай (яны паказаны на пярэднім плане злева) і адзін з «прыстаўнікоў» дае яму тлумачэнні. Цэнтр. месца ў кампазіцыі займае выява храма — гатычнага будынка з контрфорсамі і вокнамі з паўцыркульным завяршэннем. На рыштаваннях будынка і вакол храма — будаўнікі, каменячосы, справа ўдалечыні другі «прыстаўнік» дае рабочым указанні. Пышна апранутай свіце Саламона мастак як бы проціпастаўляе занятых цяжкай працай рабочых у зрэбнай вопратцы. Гравюра знаёміць з тагачасным будаўнічым працэсам і будаўнічай тэхнікай (ручная апрацоўка каменных пліт, прымітыўныя пад'ёмныя прыстасаванні і інш.). «Б. х. ў І.» належыць да найб. мастацка-пераканаўчых ілюстрацый «Бібліі» С., што адзначалі Дз. А. Равінскі і М. М. Шчакаціхін. Яна выдатна, «карцінна» скампанавана, зроблена энергічна, упэўнена. Уражвае рэалізм, з якім адлюстравана буд-ва, у кампазіцыйных адносінах добра знойдзены суадносіны масы храма (выступае выразным сілуэтам на белым фоне) і групы людзей на пярэднім плане. Штрыхоўка разнастайная, маляўнічая, каларытная. П. У. Уладзіміраў лічыў, што «Б. х. ў І.» мастакі С. запазычылі з «Сусветнай хронікі» (1493) Г. Шэдэля або ў Нікала дэ Ліра. Беспадстаўнасць гэтага сцвярджэння паказаў Шчакаціхін, які адзначыў адметны характар ілюстрацыі С.— выдатнай па сіле малюнка і разьбе. У мініяцюры рукапісаў Беларусі і гравюры 16—18 ст. сюжэт не адлюстраваўся.

*Літ.:* 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**БУДЗІЛОВІЧ** Антон Сямёнавіч (1846—1908), рускі мовазнавец-славіст. Чл.-кар. Пецярбургскай АН (1882). Аўтар шматлікіх даследаванняў па слав. філалогіі, дзе асвятляў таксама пытанні бел. мовы. У працы «Агульнаславянская мова ў шэрагу іншых агульных моў старажытнай і новай Еўропы» (Т. 2. Узнікненне агульнай мовы на славянскім Усходзе. Варшава, 1892) пра мову «Бібліі» С. пісаў, што яна вельмі далёкая ад жывой мовы. У грунтоўнай рэцэнзіі на працу П. У. Уладзімірава «Доктар Франциск Скарына, его переклады, друкаваныя выданні і мова» (Запіскі імп. Акадэміі навук. Спб. 1892. Т. 69, кн. 1, на рус. мове) сцвярджаў, што нарыс эпохі С. невыразны, абцяжараны другараднымі матэрыяламі, у спіс дапаможных выданняў не ўключаны польск., чэш., лац., ням. кнігі. Б. лічыць думку Уладзімірава пра ўплыў на выданні С. кракаўскіх, венецыянскіх, нюрнбергскіх выданняў таго часу, а на іх мову чэшскай Бібліі 1506 бясспрэчнай, а думку аб мясц. паходжанні мовы С. і аб тым, што яго выданні — помнікі бел. гаворкі пач. 16 ст., памылковай. *У. М. Свяжынскі.*

**БУ́ДНЫ** Сымон (каля 1530, в. Буды ў Мазовіі, Польшча — 1593), беларускі гуманіст і асветнік, рэлігійны рэфарматар, прадаўжальнік культурна-асветніцкай і рацыяналістычнай традыцыі С. З сям'і дробнага шляхціца. Скончыў ф-т вольных мастацтваў Кракаўскага ун-та (паступіў у 1544), а потым, магчыма, тэалагічны ф-т Базельскага ун-та. З 1558 выкладаў на бел. мове катэхізіс у пратэстанцкай школе ў Вільні. З 1560 кальвіністы прапаведнік у Клецку. Разам з Лаўрэнціем Крышкоўскім і Мацеем *Кавячынскім* быў адным з ініцыятараў стварэння *Нясвіжскай друкарні,* дзе надрукаваны на бел. мове *«Катэхізіс» 1562.* Пры ўдзеле Б. ў гэтай друкарні выдадзены яшчэ некалькі кніг на бел. мове (не захаваліся). У сярэдзіне 1560-х г. вёў пісьмовую палеміку з рускім праваслаўным багасловам Арцеміем, устанавіў сяброўскія кантакты з Іванам *Фёдаравым* і Пятром *Мсціслаўцам.* У 1564 разам з Крышкоўскім пераклаў на польск. мову і выдаў у Нясвіжы «Гутаркі святога Юсціна, філосафа і пакутніка, з Трыфанам іудзеем». У 1572 выдаў Біблію, аднак яго каментарыі і заўвагі да яе не былі змешчаны выдаўцамі. У 1574 у Лоску (каля Валожына) выдаў Новы запавет з прадмовай, каментарыямі і заўвагамі, якія з'явіліся першай у сусв. л-ры спробай радыкальнай рацыяналіст. крытыкі евангельскіх кніг. З гэтай прадмовы вядома, што Б. выкарыстоўваў у сваім перакладзе скарынінскую «Біблію». Прымаў удзел у рабоце арыянскіх сінодаў, вёў вострую рэліг.-філасофскую і сац.-паліт. палеміку. У 1580 апублікаваў у Лоску матэрыялы сац.-паліт. дыскусіі свайго аднадумца Якуба Палеалога з радыкальным сац. мысліцелем Паўлам з Бжэзін пад загалоўкам «Абарона сапраўднага вучэння аб свецкай уладзе». У творы «Пра свецкую ўладу» (1583) апісаў гісторыю сваіх сац. і рэліг.-філасофскіх рознагалоссяў з «левымі». У 1589 у Полацку палемізаваў з езуіцкімі тэолагамі, абвяргаючы догмат пра бессмяротнасць душы.

С. Будны. Скульптар С. Гарбунова.



Самым надзейным аўтарытэтам у справах веры і пазнання Б. лічыў Біблію. Крытэрый біблейскай ісціны — індывідуальны розум і сац.-прыродны вопыт чалавека. Рацыяналістычна-натуралістычна трактаваў паняцці таго свету і пасмяротнай узнагароды, божую тройцу, біблейскія цуды і інш. Матэр. субстанцыю лічыў першаснай адносна духоўнай. З пазіцый наміналізму абвяргаў тэалагічнае вучэнне пра перадзіснаванне Хрыста. Выказваўся за неабходнасць выкарыстання філас. ведаў у галіне тэалогіі, палітыкі, маралі, аднак прызнаваў за філасофіяй толькі прыкладную, дапаможную ролю. Высока цаніў культурна-філас. спадчыну антычнага свету, у прыватнасці сац.-паліт. вучэнне Платона, Арыстоцеля, Цыцэрона, арыстоцелеўскую логіку і інш. Прызнаваў аўтарытэт патрыстыкі, але крайне насцярожана і нават адмоўна ставіўся да схаластыкі, лічыў яе апалогіяй каталіцызму. Станоўча ацэньваў філас. думку эпохі Адраджэння (выказванні Л. Валы, Эразма Ратэрдамскага, Піка дэла Мірандалы і інш.). Сапраўдны маральны выбар, на думку Б., чалавек робіць, кіруючыся розумам і сумленнем, а не страхам перад тагасветнымі пакутамі або надзеяй на пасмяротную ўзнагароду. Чалавек уласнымі намаганнямі можа дасягнуць маральнага ўдасканалення без дапамогі царквы. Маральная прырода чалавека дэтэрмінавана і сац. асяроддзем. Сац.-паліт. погляды Б. памяркоўна-гуманістычныя. Прызнаваў асн. грамадскія і дзярж. асновы феадалізму: прыватную ўласнасць, саслоўна-класавую няроўнасць, форму феад. залежнасці сялянства і інш. Аднак указваў на неабходнасць пэўных змен і рэформ у жыцці грамадства і дзярж. структуры, крытыкаваў феад. свавольства, беззаконне, захопніцкія войны, быў заступнікам верацярпімасці

і інтэлектуальнай свабоды. Сцвярджаў нац. годнасць славян, у т. л. беларусаў, адзначаў іх багатыя і разнастайныя духоўныя традыцыі, неабходнасць развіцця бел. культуры на роднай мове. У духу скарынінскіх традыцый пісаў, звяртаючыся да Радзівілаў: «...абы ваши княжацкие милости не только в чужоземских языцех кохали, але бы ся теж... и того здавна славного языка словенского размыловати и оным ся бавити рачили...». Ідэі Б. аб развіцці бел. мовы, культуры былі адным з фактараў станаўлення нац. самасвядомасці. Быў таленавітым літаратарам (пісаў на бел., польск. і лац. мовах), празаікам і паэтам, вучоным-філолагам, перакладчыкам. Абгрунтоўваў думку пра пазнавальнае значэнне мастацтва і яго маральнавыхаваўчую ролю. Яго эстэтычным поглядам уласцівы рыгарызм. Разуменне Б. прыгожага мела рацыяналіст. характар: прыгожае тое, што сапраўднае. Прыгажосць зместу ў яго дамінуе над прыгажосцю формы. Б. ўласціва тэндэнцыя рэаліст. падыходу да Бібліі, набліжэння яе да літ.-маст. твору. Усведамляў вял. ролю свабоды ў творчасці. З'яўляецца папярэднікам рацыяналіст. кірунку ў эстэтыцы.

У 1982 у Нясвіжы Б. пастаўлены помнік.

*Тв.:* Катихисис то ест наука стародавная христианьская от светого писма, для простых людей языка руского, в пытаниах и отказех събрана. Несвіж, 1562; Из предисловия к переводу Нового завета. Приписки к переводу некоторых мест Нового завета. Из письма к Фоксу // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962.

*Літ.:* 156; 229; Алексютович Н. А. Будный — идеолог гуманизма и реформации в Белоруссии и Литве // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962; Парэцкі Я. І. Сымон Будны. Мн., 1975. *С. А. Падокшын.*

**БУ́КВІЦА,** гл. *Ініцыял.*

**БУ́ЛАХАЎ** Міхаіл Гапеевіч (н. 1919), беларускі сав. мовазнавец. Д-р філал. н. (1966), праф. (1967). Засл. дз. н. БССР (1971). Працуе ў Мінскім пед. ін-це імя А. М. Горкага. У арт. «Аб словаўтварэнні скарынінскіх выданняў» (450 год беларускага кнігадрукавання, 1968) падрабязна разгледзеў асаблівасці выкарыстання С. мадэлей, на якіх утвараліся ў старажытнасці назоўнікі муж., жан. і ніякага родаў. Вылучыў прадуктыўныя, малапрадуктыўныя і непрадуктыўныя словаўтваральныя тыпы ў скарынінскіх выданнях, высветліў узаемаадносіны паміж традыцыйна-кніжнымі і жывымі народнымі словаўтваральнымі нормамі ў тэкстах С. Даў характарыстыку заходнеслав. словаўтваральных сродкаў, выкарыстаных С., выявіў прычыны іх пашырэння ў тагачасных бел. народных гаворках. Усе палажэнні ілюстраваны вял. колькасцю прыкладаў з выданняў С. і з помнікаў бел. дзелавой пісьменнасці 15—17 ст. Скарынінскія выданні разглядае як важную крыніцу гіст. вывучэння словаўтваральных працэсаў і звязаных з імі з'яў семантычнага развіцця розных катэгорый лексікі. На аснове аналізу фактычнага матэрыялу Б. сцвярджае, што С. ў сваіх выданнях адлюстраваў тыповыя рысы словаўтваральнай сістэмы бел. літаратурна-пісьмовай мовы 1-й пал. 16 ст., адначасова выкарыстаў традыцыйна-кніжныя сродкі стараслав., старажытнарус., старапольск. і старачэшскай моў, якія давалі магчымасць значна расшырыць межы існавання сінаніміі і паспяхова вырашыць задачу агульнадаступнага тлумачэння і перакладу царк.-слав. тэкстаў. У артыкуле пра С., змешчаным у бібліяграф. слоўніку «Усходнеславянскія мовазнаўцы» (Т. 1, 1976), пасля біяграф. звестак аб першадрукару Б. дае агульную ацэнку яго перакладчыцкай, рэдактарска-каментатарскай і паліграф. дзейнасці. Апошняя, на думку аўтара, непасрэдна звязана з вял. лінгва-стыліст. працай С., накіраванай на дэмакратызацыю састарэлай кніжна-слав. мовы з дапамогай беларускай. Прадмовы і пасляслоўі С. былі напісаны, лічыць Б., «узорнай для таго часу беларускай літаратурнай мовай» і даюць багаты матэрыял для меркавання аб скарынінскіх прынцыпах літ. апрацоўкі роднай мовы. Характарызуючы ролю глос у выданнях С., адзначае, што бел. першадрукар стаяў ля калыскі ўсходнеслав. мовазнаўства і яго трэба лічыць пачынальнікам лінгвіст. работы ў Беларусі. Вял. лінгвіст. эрудыцыя С. дазволіла яму намеціць і практычна ажыццявіць прынцыпы лексікалаг. вывучэння родных моў. Б. падкрэслівае выдатную ролю С. ў абнаўленні і пераўтварэнні графічнай сістэмы ўсходнеслав. моў, у першую чаргу беларускай. Б. выкарыстоўвае прыклады з выданняў С. ў даследаваннях, прысвечаных прыметніку ў бел. мове. *А. М. Булыка.*



М. Бушчык. Асветнік Францыск Скарына. 1986.

**БУЛЫ́КА** Аляксандр Мікалаевіч (н. 1935), беларускі сав. мовазнавец. Д-р філал. н. (1981). Працуе ў Ін-це мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР. Працы ў галіне гісторыі бел. графікі і арфаграфіі, гіст. марфалогіі і лексікалогіі. У сувязі з 450-годдзем бел. кнігадрукавання апублікаваў арт.: «Скарына і яго час» (Беларусь. 1967. № 8), дзе ахарактарызаваны выдавецкая дзейнасць, маст. асаблівасці выданняў і значэнне С. ў развіцці кнігавыдавецкай справы на Беларусі; «450 год беларускага кнігадрукавання» (Кніга: Даслед. і матэрыялы. М. 1967. Зб. 14, на рус. мове), «Мова старабеларускіх друкаваных кніг» (два апошнія ў сааўт. з А. І. Жураўскім, Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1967. № 3). Паказаў суадносіны бел. і царк.-слав. рыс скарынінскіх выданняў у галіне арфаграфіі, граматыкі і лексікі. У арт. «Адлюстраванне фанетычных рыс беларускай мовы ў выданнях Ф. Скарыны» (450 год беларускага кнігадрукавання, 1968) і кн. «Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы» (1970) паказаў, што арфаграфія скарынінскіх выданняў прынцыпова нічым не адрозніваецца ад помнікаў іншых жанраў бел. пісьменнасці таго часу. Вывучэнне іншамоўнай лексікі ў старабел. мове дало магчымасць даследчыку выявіць найважнейшыя запазычанні ў выданнях С. У слоўніку «Даўнія запазычанні беларускай мовы» (1972) прыведзена больш за 70 старабел. запазычанняў, большасць якіх упершыню адзначаецца ў выданнях С. Лексічныя запазычанні С. асобна разгледжаны таксама ў арт. «Чэшская лексіка ў выданнях Ф. Скарыны» (Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1970. № 4) і «Заходне-славянская лексіка ў выданнях Францыска Скарыны» (Беларускі асветнік Францыск Скарына і пачатак кнігадрукавання на Беларусі і ў Літве. М., 1979). *А. І. Жураўскі.*

**БУ́ШЧЫК** Мікалай Уладзіміравіч (н. 1948), беларускі сав. жывапісец. Аўтар тэматычнай карціны «Асветнік Францыск Скарына» (1986, палатно, алей, 90×110 см; уласнасць мастака). С. паказаны ў майстэрні, за адчыненымі дзвярамі — краявіды Беларусі.

**БЯДУ́ЛЯ** Змітрок (сапр. Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886—1941), беларускі сав. пісьменнік. У 1919 г. напісаў невялікае эсэ «Францішак Скарына», у якім гаворыцца аб кнігах С., яго клопатах пра асвету для народа. Да імя С. звяртаўся ў 1922 у вершы «Беларусь» (зб. Пад родным небам). У паэтычных радках паўстаюць вобразы роднай прыроды, вераванні, лёс народа, яго светапогляд. У гэтым жа годзе Б. апублікаваў верш «Паходні», у якім прагучала хвала на славу «адвечных скрыжаляў роднае зямлі», песень гусляроў, «песняроў-прарокаў», кніг С.



**ВАДЗЯНЫ́ ЗНАК,** філігрань (італьян. filigrana ад лац. filum нітка+granum зерне), унутраны, бачны на прасвет відарыс на паперы, які наносіцца ў працэсе яе вырабу. Упершыню В. з. паявіўся ў Італіі ў канцы 13 ст., у Расіі — у 2-й пал. 16 ст. На тэр. Беларусі выраб сваёй паперы наладжаны ў 16 ст. У якасці арыгінала В. з. выкарыстоўваліся гербы, эмблемы, малюнкі жывёл, раслін і інш. В. з. выданняў С. вывучаны слаба. Большасць яго пражскіх кніг надрукавана на грубай паперы без В. з. З 13 ст. папера ў Еўропе, як правіла, маркіравалася. У Чэхіі пачатак папяровай вытворчасці супаў з дзейнасцю С. ў Празе, ён і выкарыстаў для сваёй «Бібліі» гэту неўдасканаленую паперу. П. У. Уладзіміраў выявіў у «Псалтыры» 1517 В. з. двух малюнкаў: «галава быка з вачамі і ноздрамі і Т-падобнай фігурай паміж рагамі» і «чатырохканцовы крыж». У 15—16 ст. паперу з В. з. «галава быка» выраблялі многія паперні Еўропы і такі відарыс хутчэй абазначаў яе гатунак, а не месца вытворчасці. У адным з экз. кн. «Ісус Сірахаў» знойдзены В. з. з выявай дзяржавы, увянчанай крыжам. У віленскіх выданнях С. выкарыстоўваў у асн. паперу, агульнаўжывальную на той час у Вял. кн. Літоўскім. У іх Уладзіміраў выявіў В. з. 10 малюнкаў «галава быка з вачамі і ноздрамі, крыжам і змяёй паміж рагамі» і варыянты яго, «кабан», «ражок», «карона, увянчаная крыжам». Э. Лаўцявічус знайшоў у «Апостале» 7 выяў В. з.: варыянты «галавы быка» і «кабана».

*Літ.*: 69; 653; 819. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ВАЗНЯ́К** Міхаіл Сцяпанавіч (1881—1954), украінскі сав. літ.-знавец. Акад. АН УССР (1929). Аўтар «Гісторыі ўкраінскай літаратуры» (т. 1—3, 1920—24), у якой адчуваецца ўплыў бурж. ідэалогіі. У 2-м томе гэтай працы прыведзены матэрыялы пра ўплыў выданняў С. на ўкраінскую пісьменнасць, пра ўкраінскія спісы «Бібліі» і «Апостала». *Я. Дз. Ісаевіч.*

**ВАКА́Р** Сяргей Міхайлавіч (н. 1928), беларускі сав. скульптар. Засл. дз. маст. БССР (1978). Аўтар скульптурнай кампазіцыі «Францыск Скарына» (1964; таніраваны гіпс, вышыня 46 см). Асветнік і першадрукар сядзіць паглыблены ў роздум, у руках гравіравальная дошка — сімвал працы і майстэрства.

**ВАЛТАСА́Р** (біблейская форма імя Белшарусура), сын апошняга вавілонскага цара Набаніда. Забіты ў 539 да н. э. пры ўзяцці Вавілона персамі. С. ўпамінае В. ў прадмове да кн. «Прарок Данііл».

**ВАЛЬНАДУ́МСТВА,** адмаўленне рэліг. дагматыкі і царк. абраднасці з рацыяналіст. пазіцый, адстайванне свабоды розуму і навукі ад рэлігіі.

Як плынь грамадскай думкі склалася ў эпоху разлажэння феадалізму. Адыграла важную ролю ў фарміраванні антыфеад. ідэалогіі, станаўленні свецкай гуманіст. культуры, секулярызацыі літаратурнага працэсу. Стымулявала развіццё навук. даследаванняў, матэрыяліст. і атэіст. думкі. Тэрмін «В.» пачаў ужывацца з 18 ст., аднак вытокі духоўнай традыцыі разнявольвання розуму — у ідэйным змесце культуры Адраджэння. Найвышэйшага росквіту В. дасягнула ў асветніцкім, філас. і грамадска-паліт. мысленні. У Зах. Еўропе развівалася на аснове дэістычнага светаразумення (Х. Чэрберы, П. Бейль, Вальтэр), ва ўсх.-слав. культурах канцэнтруецца пераважна вакол гуманістычна-асветніцкага антыклерыкалізму.



С. Вакар. Францыск Скарына. Гіпс. 1964.

В. глыбока паўплывала на культурнагіст. развіццё Беларусі. Ужо ў ерасях 14—15 ст. (гусіты, несцяжацелі і інш.) былі элементы В.: рэзка крытыкавалася пануючая царква, духавенства, каталіцкая абраднасць і культы. Якасна новы характар В. набыло ў светапоглядзе і творчасці С. У 1512 ён прыбыў экзаменавацца ў *Падуанскі універсітэт* — буйнейшы цэнтр *авераізму* ў Еўропе таго часу, дзе панаваў найбольш блізкі С. дух «падуанскага вальнадумства», вызначальны ўклад у фарміраванне якога ўнёс П. *Пампанацы.* У С. выразна выяўлена імкненне гуманізаваць рэліг. свядомасць чалавека, узбагаціць духоўныя традыцыі хрысціянства элементамі антычнай культуры, узвысіць чалавечы розум, абудзіць цікавасць да свецкіх ведаў, садзейнічаць маральнаму ўдасканаленню чалавека і справядлівай перабудове грамадства. Літаратурна-асв. дзейнасць С. падрывала кананізаваную традыцыю выдання царк. кніг, пракладвала дарогу самастойнаму існаванню і развіццю свецкай культуры. У прадмовах да біблейскіх тэкстаў С. адстойваў права чалавечага розуму самому «разознати правду от кривды» (гл. с. 33—42), свабодна звязваў біблейскія і свецкія тэмы, клапоцячыся не столькі пра літару догмата, колькі пра карысць і дабро свайго народа, таму што «сего ради святые писма ўставлѣна суть к нашему навчению, исправлѣнию, духовному и телесному, различными обычаи» (гл. с. 19). Скарынінская «Біблія», дэмакратызуючы

Свяшчэннае пісанне, робячы яго даступным «людем посполитым», адстойвала прынцып асабістых адносін чалавека да веры, адкрывала магчымасці індывідуальнага прачытання і разумення святых ісцін «богу ко чти и людем посполитым к научению» (гл. с. 72), незалежна ад афіц. царк.-тэалагічных аўтарытэтаў. С. вызваляецца ад дагматызму, артадаксальнасці, традыцыяналізму не толькі ў спосабе мыслення, лічачы, што «наивысшая мудрость ... познание самого себе» (гл. с. 29), але і ў трактоўцы самой веры. Лічыў, што яе падтрымлівае не знешняя сіла царк. аўтарытэту, а ўнутраны маральны абавязак кожнага чалавека: «прежде всех законов или прав писаных закон прироженый всем людем» (гл. с. 137). У гэтай сувязі для С. трацяць сілу безумоўнага закона творы «айцоў царквы», пастановы царк. сабораў і інш. Хоць у працэсе інтэрпрэтацыі біблейскіх кніг С. часам і звяртаўся да думак вядомых багасловаў (*Фамы Аквінскага, Аўгусціна,* прадстаўнікоў *патрыстыкі*), яны ў яго ўраўноўваюцца з разважаннямі разумнага і адукаванага чалавека, таму што «тым же обычаем и нынѣ единый кажный человек, имея розум, познаеть» (гл. с. 137). Скарынінскае В. выразна выяўляецца і ў падыходзе да Бібліі як твора асветніцкага, які абуджае інтэлектуальныя сілы чалавека, раскрывае каштоўнасць розуму і прыродных ведаў, дзе «научение седми наук вызволеных достаточное» (гл. с. 10). У шматлікіх каментарыях С. імкнуўся падкрэсліць тыя аспекты біблейскіх тэкстаў, адцяніць той сэнс, які закранае актуальныя грамадскія і маральна-філас. праблемы свайго часу, важныя для працвітання роднага народа, «абы, научившися мудрости» людзі «добре живучи на свете» (гл. с. 37). Гэта было рэзкім кантрастам з афіц. экзагетыкай артадаксальных хрысц. ідэолагаў, але не спыняла вальнадумца-гуманіста, які імкнуўся «послужити посполитому люду рускаго языка» (гл. с. 118). Жаданне вызваліць чалавечую думку ад руціны і коснасці дагматычнай артадоксіі, узвысіць прыродны розум над бездухоўнасцю царк. аўтарытэту выразна выяўляецца і ў імкненні ведаць «все науки быти минущие» (гл. с. 11), і ў скарынінскім вызначэнні мудраца як чалавека, які спалучае ў сабе біблейскую і філасофскую мудрасць, «духа святого и философии» (гл. с. 43) поўнага. Арыентуючыся на гуманіст. антрапалогію, С. часам вельмі вольна тлумачыць *хрысціянства* ў духу вучэння пра чалавечую мараль, што супадае з прыродным законам: «Закон прироженый в том наболей соблюдаем бываеть: то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети». Гэты закон «прежде всех законов... всем людем от господа бога дан ест» (гл. с. 136—137).

Нягледзячы на тое, што С. не абвяргаў хрысц. рэлігіі, заставаўся ў межах рэліг. светаразумення, яго В. было рэзка адмоўна ацэнена прадстаўнікамі кансерватыўна-правасл. і контррэфармацыйна-каталіцкай царквы, якія называлі яго «гусіцкім ерэтыком» (Анастасій Сялява) і бачылі ў скарынінскай «Бібліі» крыніцу ерасей, якія ўзніклі ў зах. праваслаўі. Андрэй *Курбскі* лічыў, што «Біблія» С. «растленна» і супярэчыць «всем апостольским и святым уставам». Ацэньваючы ўклад С. ў духоўнае абнаўленне свайго народа, у прагрэс еўрап. культуры, неабходна асобна падкрэсліць значэнне яго В. для ўкаранення і паглыблення працэсу секулярызацыі і рацыяналізацыі прагрэсіўнай грамадскай думкі ўсх.-слав. народаў. Гл. таксама арт. *Светапогляд Ф. Скарыны.*

*Літ.:* История свободомыслия и атеизма в Европе. М., 1966; Из истории свободомыслия и атеизма в Белоруссии. Мн., 1978; Лившиц Г. М. Свободомыслие и атеизм в древности и средние века. Мн., 1973.

*Г. У. Грушавы.*



**Вадзяныя знакі** на паперы выданняў Ф. Скарыны.

**ВАСТО́КАЎ** Аляксандр Хрыстафоравіч (1781—1864), рускі мовазнавец, паэт. Акад. Пецярбургскай АН (1841). У 1815—44 працаваў у пецярбургскай Публ. б-цы. Член т. зв. Румянцаўскага гуртка. Дапамагаў П. І. *Кепену* ў выпуску «Библиографических листов» (1825—26), дзе апубл. матэрыялы пра С. (апісанне яго выданняў у межах храналаг. спіса слав. старадрукаў). У «Апісанні рускіх і славенскіх рукапісаў Румянцаўскага музеума» (1842) даў палеаграфічную і лінгвістычную характарыстыку 473 рукапісаў розных слав. рэдакцый, увёў у навук. ўжытак спіс 17 ст. «Пяцікніжжа», кн. «Прарок Данііл», «Ісус Навін», «Юдзіф», «Эсфір» у перакладзе С. Адзначыў, што ў гэтым спісе захаваны назвы і пасляслоўі С., але яго імя нідзе не названа. У загалоўках перапісчык пераймаў шрыфт выданняў С., аднак у асн. тэксце выкарыстаў, па вызначэнню В., «валынскі або польска-рускі паўустаў». У параўнанні з выданнямі С. зменены таксама правапіс. На думку В., С. быў «іншаверцам», гэта значыць каталікам. У «Апісанні...» былі дадзены звесткі таксама пра спісы шэрагу дакументаў Румянцаўскага музея, якія характарызавалі эпоху С. Сярод іх — прывілей 1498 аб дараванні Полацку *магдэбургскага права.*

*Літ.:* Срезневский И. И. Обозрение научных трудов А. Х. Востокова, между прочим и неизданных. Спб., 1865; Булахов М. Г. Восточнославянские языковеды: Биобиблиогр. словарь. Т. 1. Мн., 1976.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**ВАХНЯ́НІН** Анатоль (Наталь) Кліменцьевіч (1841—1908), украінскі кампазітар, пісьменнік, муз.-грамадскі дзеяч. Скончыў Венскі ун-т (1868). Выкладаў укр. мову і л-ру ў Львоўскай укр. гімназіі. Па ініцыятыве В. ў 1870—80-я г. ў навуч. праграму было ўключана вывучэнне дзейнасці С. і напісанне гімназістамі сачыненняў на скарынінскую тэму. Апублікаваў першае на ўкр. мове даследаванне пра С. «Аб доктару Францыску Скарыне і яго літаратурнай дзейнасці» (Львоў, 1879), у якім асветлены асобныя пытанні біяграфіі С., складзены кароткі бібліяграф. спіс яго пражскіх і віленскіх выданняў. Акрамя асн. л-ры па тэме, В. выкарыстаў кнігі С., што захоўваліся ў б-цы Чартарыйскіх у Сеняве. Праца была станоўча ацэнена сучаснікамі, да яе неаднаразова звярталіся скарыназнаўцы. *М. Б. Баяніўская.*

**ВА́ШЧАНКА** Гаўрыла Харытонавіч (н. 1928), беларускі сав. мастак-манументаліст і жывапісец. Засл. дз. маст. БССР (1977). Прафесар (1980). Вобраз С. ўвасобіў у роспісе «Асветнікі» ў Доме настаўніка ў Мінску (1976; 50 $м^2$, энкаўстыка). У пано адлюстравана галерэя выдатных дзеячаў бел. культуры і навукі — ад С. да першага касманаўта-беларуса П. Клімука. У вобразе С. мастак акцэнтуе творчы пачатак, паказвае энергічнага, рухавага, палкага чалавека, апантанага ідэяй асветы народа. У карціне «Роднае слова. Францыск Скарына» (1983, алей, драўнянавалакністая пліта, 275×122 см; уласнасць аўтара) створаны вобраз С.-вучонага, падкрэслена яго роля як першадрукара, стваральніка першай у гісторыі бел. народа друкаванай кнігі.

**ВЕ́ЙНРЭЙХ** Ганс (Ян; к. 1490, Гданск — 1560), друкар з Кёнігсберга, кнігагандлёвец. Друкарскую дзейнасць пачаў у Гданску ў канцы 1512 ці пач. 1513, выкарыстаўшы матэрыялы друкарні М. Трэтара (памёр к. 1506), надрукаваў некалькі лятучых выданняў. У 1513—19 вучыўся і працаваў у друкарнях Германіі. У 1520

вярнуўся ў Гданск і выдаў некалькі брашур рэфармацыйнага характару па заказу вял. магістра ордэна крыжаносцаў герцага Альбрэхта. У канцы 1523 — пач. 1524 перамясціў друкарню ў Кёнігсберг. Вядома 103 кёнігсбергскія выданні В. на розных мовах. У канцы жыцця пераехаў у Гданск і выдаў там у 1555 кнігу. Некат. даследчыкі мяркуюць, што С. быў добра знаёмы з друкарскай справай і выданнямі В. і што С. падрыхтаваў да друку твор Яна Зомерфельда Малодшага, які В. выдаў у 1531. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ВЕ́НСКІ КАНГРЭ́С 1515,** Венскі з'езд, сустрэча ў Вене імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміляна I Габсбурга, караля Венгрыі і Чэхіі Уладзіслава II Ягелона, караля Польшчы і Вял. кн. Літоўскага Жыгімонта I. Максімілян I намагаўся стварыць антытурэцкую кааліцыю, пашырыць свой уплыў на Чэхію і Венгрыю шляхам дынастычных шлюбаў. Уладзіслаў II шукаў апоры ў імператара супраць пагрозы турэцкага нашэсця і сялянскіх рухаў. Жыгімонт I намагаўся прадухіліць пагрозу ваеннага нападу на Польшчу з боку імператара ў час руска-літоўскай вайны 1512—22, а таксама ліквідаваць патранат імператара над Тэўтонскім ордэнам. Перад кангрэсам Уладзіслаў II і Жыгімонт I сустрэліся ў канцы сакавіка 1515 у Браціславе, дзе абмеркавалі сумесныя пазіцыі, а таксама правялі папярэднія перагаворы з прадстаўніком імператара кардыналам Лянгам. Чэшскі і венгерскі каралевіч Людовік Ягелон заручыўся з унучкай імператара Марыяй, а яго сястра каралеўна Ганна заручылася з унукам імператара Фердынандам. На кангрэсе было дамоўлена, што калі род Уладзіслава II згасне, то Чэхія і Венгрыя далучацца да Габсбургаў, а калі згасне род Габсбургаў, то Аўстрыя далучыцца да чэшска-венгерскіх Ягелонаў. Максімілян I адмаўляўся ад патранату над Тэўтонскім ордэнам, даў згоду на сваё пасрэдніцтва ў перагаворах з вял. кн. маскоўскім Васілём III аб спыненні рускалітоўскай вайны. Жыгімонт I і Уладзіслаў II абяцалі ўступіць у антытурэцкую кааліцыю, якую павінен быў узначаліць рымскі папа Ляон X. Прынятыя пагадненні прадугледжвалі дружалюбныя адносіны паміж Свяшчэннай Рымскай імперыяй, Польшчай і Вял. кн. Літоўскім. В. к. 1515, сучаснікам якога быў С., садзейнічаў далейшаму развіццю адносін паміж краінамі Усх. і Цэнтр. Еўропы. *А. П. Грыцкевіч.*

**ВЕРГІ́ЛІЙ** (Vergilius) Марон Публій (70—19 да н. э.), рымскі паэт. Аўтар зб. «Буколікі» («Пастухоўскія песні», 42—38 да н. э.), дыдактычнай паэмы «Георгікі» («Паэма пра земляробства», 36—29), гераічнага эпасу «Энеіда» пра падарожжа траянца Энея — вяршыні рымскай класічнай паэзіі. Эпікурэйскія і ідылічныя матывы яго твораў спалучаліся з інтарэсамі да паліт. праблем, ідэалізавалі рымскую імперыю. Аказаў вял. ўплыў на л-ру сярэднявечча, эпохі Адраджэння. С. вывучаў творчасць В. ў Кракаўскім ун-це. Погляды яго на прыроду, мяркуючы па прадмовах да кн. «Прытчы Саламона» і да кн. «Юдзіф», блізкія да поглядаў В.



Г. Вашчанка. Роднае слова. Францыск Скарына. 1983.

**ВЕСПАСІЯ́Н** (Vespasianus) Ціт Флавій (9—79), рымскі імператар з 69, заснавальнік дынастыі Флавіяў. С. ўпамінае В. ў прадмове да кн. «Плач Ераміі», дзе гаворыцца аб прароцтве разбурэння Іерусаліма ў часы В.

**ВЕ́РСТКА,** працэс вырабу друкарскай формы шляхам састаўлення палос (старонак) пэўнага фармату з гранак набранага тэксту і клішэ, з якіх друкуюцца ілюстрацыі і арнаментыка. У выданнях С. гранкі фарміраваліся з асобных шрыфтавых літар і прабельнага матэрыялу, у якасці клішэ ўжываліся ксілаграфічныя дошкі. С. і яго памочнікі дасканала валодалі прыёмамі В. Тэкст, як правіла, вярсталі ў адну калонку; у дзве калонкі набраны толькі 10 запаведзей у прадмове да кн. «Выхад». Умела выканана В. адсылак да біблейскіх тэкстаў і *глосаў.* На верхнім полі размешчаны калонтытулы і калонлічбы. Для размяшчэння ілюстрацый і заставак С. звычайна выкарыстоўваў адкрытую В., калі элементы маст. аздобы кнігі знаходзіліся паміж тэкстамі (зверху — калонтытулы або назвы ілюстрацый). У некат. выпадках ужыта закрытая В. (клішэ абкружана тэкстам з 3 бакоў, «Псалтыр» 1517). С. ўжываў закрытую В. і пры размяшчэнні ў тэксце гравіраваных на дрэве *ініцыялаў.* Пры В. тытульных палос, дзе тэкст размешчаны ў арнаментальных рамках, складзеных з 4 або 2 дошак, тэкст выключаецца па цэнтру. Умелая і вытанчаная В. выкарыстана С. пры афармленні канцавых палос з фігурным наборам у выглядзе перакуленага трохвугольніка або ромба. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ВІЕ́ТАР** (Wietor) Еранім [1480(?) — 1546(?)], польскі друкар і выдавец. У 1499 у Кракаўскім ун-це атрымаў ступень бакалаўра. Пад 1504—08 неаднаразова ўпамінаецца ў кракаўскай гарадской дакументацыі як кнігагандлёвец і пераплётчык. С., які ў гэтыя гады вучыўся тут, мог быць знаёмы з В. Пасля 1509 В. пасяліўся ў Вене, дзе заснаваў друкарню, у 1517 вярнуўся ў Кракаў. Тут заснаваў новую друкарню, выпускаў творы антычнай л-ры і гуманістаў, навучальную л-ру на польскай, лац., ням., венг. і інш. мовах. Для выданняў В., якія безумоўна былі вядомы С., характэрны высокі ўзровень паліграф. выканання і маст. афармлення.

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. T. 1. Małopolska. Cz. 1. Wiek XV — XVI. Wrocław etc., 1983. S. 325—327.
*Я. Л. Неміроўскі.*

**ВІ́КТАРАЎ** Аляксей Ягоравіч (1827—83), рускі археограф і кнігазнавец. Чл.-кар. Пецярбургскай АН (1879). У 1852—62 працаваў у Маскоўскім гал. архіве Мін-ва замежных спраў. З 1862 загадчык Аддзела рукапісаў і слав. старадрук. кніг Румянцаўскага музея (зараз у складзе Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна). Ініцыятар стварэння ў гэтым музеі калекцыі выданняў С., у якую ўвайшлі экземпляры са збораў М. П. Румянцава, І. Я. Лукашэвіча, дублеты з пецярбургскай Публ. б-кі. У арт. «Цудоўнае адкрыццё ў старажытнарускім кніжным свеце» (1867) упершыню апісаў «Псалтыр» (1517) С. са збору А. І. Хлудава. Прывёў звесткі пра аб'ём і фармат кнігі, парадак напісання фаліяцыі, шрыфт, заставкі і ініцыялы. Значная частка артыкула прысвечана лінгвістычнаму аналізу «Псалтыра». В. даў спіс глосаў на палях выдання, у якіх С. тлумачыў незразумелыя чытачам словы і словазлучэнні, параўнаў тэкст выдання С. з рукапіснымі стараж.-рус. Псалтырамі 13—15 ст., з *«Генадзіеўскай біблія»*, з друкаваным чарнагорскім «Псалтыром з паследаваннем» 1494. На яго думку, «Псалтыр» С. тэкстам блізкі да «Генадзіеўскай бібліі», а таксама рус. рукапісаў і друкаваных выданняў 16 ст. В. выявіў рэдактарскую працу С., адной з крыніц якой лічыў *Вульгату* — лац. пераклад Бібліі. У артыкуле прыведзены агульныя звесткі пра выдавецкую дзейнасць С., выказана меркаванне аб яго правасл. веравызнанні. В. падрыхтаваў да друку выдадзены ў 1871 «Нарыс славяна-рускай бібліяграфіі» В. М. *Ундольскага*, дзе былі на-

званы ўсе выданні С. і ўказана месцазнаходжанне многіх экземпляраў. У архіве В. (Дзярж. б-ка СССР імя У. І. Леніна) сярод складзеных ім вопісаў збораў старадрук. кніг упамінаюцца і выданні С. Там жа захоўваецца і «Запісная кніжка для ўнясення старадрукаваных выданняў», у якой падрабязна апісваецца «Біблія» С. Абгрунтаваў гіпотэзу пра існаванне ў 1553—63 у Маскве т. зв. ананімнай друкарні і апісаў выдадзеныя ёю кнігі.

*Літ.*: Толстяков А. П. Алексей Егорович Викторов// Федоровские чтения. 1974. М., 1976. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ВІЛЕНСКІ ПЕРЫЯД У ЖЫЦЦІ І ДЗЕЙНАСЦІ Ф. СКАРЫНЫ** (1520—21 — сярэдзіна 1530-х). Не пазней 1521 С. пераехаў з Прагі (гл. *Пражскія перыяды ў жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны*) у сталіцу Вял. кн. Літоўскага — *Вільню*, якая была асн. цэнтрам сац.-эканам. і паліт. развіцця дзяржавы. Дзякуючы гандл. сувязям, геагр. палажэнню, канцэнтрацыі дзярж. і царк. устаноў, шматэтнічнаму складу насельніцтва Вільня вылучалася асабліва ажыўленым культ. жыццём, якое адлюстроўвала розныя паліт., царк.-рэліг., культ. і ідэалаг. павевы. Віленскае купецтва ў 15—1-й пал. 16 ст. актыўна ўдзельнічала ў мясц. і транзітным гандлі з Польшчай, Рус. дзяржавай, Прускім герцагствам і інш. краінамі. Сваю друкарню С. заснаваў у доме «найстаршего» бурмістра Якуба *Бабіча* ў адным з т. зв. Рускіх кварталаў (былі размешчаны ў раёне Рынка і, мяркуючы па тапаграфіі правасл. цэркваў, ішлі да Замкавай і Бернардзінскай вуліц). Дакладна невядома, ці змог С. даставіць друкарскі станок з Прагі ці яго зрабілі на месцы. Друкарскія матэрыялы, выкарыстаныя С. у віленскіх выданнях, паказваюць, што загаловачны шрыфт, частка ініцыялаў, некат. ксілаграф. формы былі прывезены ім з Прагі. Застаўкі, радковыя шрыфты і большасць віленскіх фігурных гравюр, відаць, зроблены нанава. Першае віленскае выданне — *«Малая падарожная кніжка»* — выйшла каля 1522. Па меркаванню В. І. Лук'яненкі, Я. Л. Неміроўскага, выданне выходзіла асобнымі выпускамі, склад якіх мог вар'іравацца. Агульны загаловак і змест указваюць на тое, што кніга планавалася ў цэлым як агульны зборнік, які аб'ядноўваў найб. распаўсюджаныя ў правасл. асяроддзі вучэбныя і рэліг. кнігі «Псалтыр», «Часасловец», «Шасцідневец», «Святцы» і інш. Пазней у выдавецкай практыцы бел. і ўкр. друкарняў падобныя выданні называлі «Псалтыр з паследаваннем». Адрозненні ў афармленні розных частак «Малой падарожнай кніжкі» далі даследчыкам магчымасць меркаваць, што іх друкавалі ў розны час некалькі друкароў. Гэта наўрад ці так. Адсутнасць пэўнага ліку рамеснікаў, майстроў кнігадрукавання прымусіла С. ў Вільні непасрэдна заняцца многімі справамі друкарні. У пасляслоўях да віленскіх выданняў С. неаднаразова падкрэслівае сваю ролю ў друкарскай дзейнасці. У сакавіку 1525 С. выпусціў другую кнігу — *«Апостал»*. У адрозненне ад пражскай «Бібліі» абедзве кнігі надрукаваны на царк.-слав. мове бел. рэдакцыі і больш адпавядаюць традыцыям правасл. пісьменнасці. Хаця крыніцы «Малой падарожнай кніжкі» і «Апостала» дастаткова не вывучаны, можна меркаваць, што ў аснову іх былі пакладзены ўсх.-слав., у т. л. маскоўскія, рукапісы. Аб гэтым сведчыць склад «Святцаў», сістэма каляндарна-храналаг. звестак, змест саміх кніг. Падобна першадрукарам і выдаўцам ад Іагана Гутэнберга да Івана Фёдарава, С. выкарыстоўваў аўтарытэт традыцыйнай л-ры і пісьменнасці, каб зацвердзіць правы і прэстыж кнігадрукавання на сваёй радзіме. Яго віленскія кніжкі прызначаліся перш за ўсё гарадскім слаям насельніцтва, гандлярам, рамеснікам, міранам для хатняга чытання, навучэння пісьму, грамаце. У тэксце «Малой падарожнай кніжкі» змешчаны фрагменты свецкага асветніцкага характару, звесткі па астраноміі, прагноз зацьменняў. Прадмовы, пасляслоўі, «надписания», некат. акафісты ўяўляюць арыгінальныя літаратурныя творы самога С. (гл. *Гімнаграфічныя творы Ф. Скарыны*). Віленскія выданні выкарыстоўваліся таксама на Беларусі і Украіне ў палемічных мэтах у барацьбе з каталіцызмам. Віленскі этап выдавецкай дзейнасці С. адзначаны далейшым развіццём мастацтва і тэхнікі кнігадрукавання: выданні вылучаліся практычным фарматам (у 8-ю долю аркуша), выразным прыгожым шрыфтам, гарманічным маст.-паліграф. афармленнем. Частка тыражу «Апостала» надрукавана ў тэхніцы двухколернага друку з адной формы. Агульны аб'ём віленскіх выданняў — звыш 780 аркушаў, арнаментальных ксілаграф. форм (застаўкі, канцоўкі, віньеткі) — больш 140, адбіткаў з іх — каля 1,5 тысячы.

Акрамя кніг С. і судовых матэрыялаў, якія закраналі гал. чынам сферу маёмасна-фінансавых адносін, няма інш. крыніц, якія б асвятлялі яго шматгранную дзейнасць у Вільні. Даследчыкі выказвалі меркаванне, што С. быў адным са складальнікаў *Статута Вялікага княства Літоўскага 1529*, прымаў удзел у дыспутах з еўрап. медыкам *Парацэльсам*, які наведваў Вільню. Актавыя дакументы дазваляюць сцвярджаць, што сувязі С. з рознымі паліт., грамадскімі і культ. дзеячамі былі сапраўды шырокімі. С. меў зносіны з канцлерам і віцэ-падскарбіем віленскага епіскапа Мікалая Вайноўскага Юрыем Хвальчэўскім, прыхільнікам гуманітарных навук Якубам Сташкоўскім, велікакняжацкім «лацінскім» сакратаром Станіславам Якубовічам Скопам, прадстаўніком рэнесансавай культуры, доктарам «абодвух праў», знаўцам грэч. мовы Янам Сільвіусам Аматусам і інш. Як сакратар віленскага епіскапа *Яна* С. ўступаў у дзелавыя адносіны з членамі гаспадарскай рады (А. Хадкевіч, кн. Юрый Алелькавіч, *Радзівілы*, А. *Гаштольд*), віленскім капітулам, пісарамі велікакняжацкай канцылярыі. Несумненна, С. працягваў у гэтыя гады мед. практыку. Ва ўсіх афіцыйных дакументах таго часу адзначана яго вучоная годнасць — «у лекарскіх навуках доктара». Кнігавыдавецкую дзейнасць С. падтрымлівалі бел. мяшчане ў Вільні, некат. частка віленскага патрыцыяту. Багдан *Онкаў*, Бабіч і, магчыма, Юрый *Адвернік* доўгі час уваходзілі ў склад віленскага магістрата. Магчыма, што фінансавую падтрымку С. аказвалі яго брат, полацкі і віленскі купец Іван Скарына, а таксама «панскае і бурмістраўскае» брацтва, якое патраніравала некат. правасл. цэрквы ў Вільні. Як лічаць даследчыкі, якія падзяляюць гіпотэзу А. Флароўскага, у

**Я. Драздовіч. Друкарня Ф. Скарыны ў Вільні. 1940.**



сярэдзіне 1520-х г. С. мог наведаць *Маскву*, куды вазіў свае кнігі, надрукаваныя «рускім» шрыфтам. Апошняе звяртанне С. да спраў кнігадрукавання звязана з паездкай С. ў *Кёнігсберг*, які ён пакінуў праз некалькі месяцаў, у сярэдзіне 1530. У пасланнях герцага *Альбрэхта* «сенатарам, праконсулам, консулам і гараджанам слаўнага горада Вільня» выказвалася надзея, што гарадскія ўлады пасадзейнічаюць С. ў рашэнні судовых спраў, звязаных са спадчыннай маёмасцю яго жонкі *Маргарыты*. У апошнім пасланні ад 26.5.1530 Альбрэхт паведамляе віленскаму ваяводзе Гаштольду, што С. тайна забраў з сабой двух падданых герцага — урача (імя невядома) і друкара (паводле меркавання К. Форстрэйтара — Ганса *Вейнрэйха)*. Герцаг прасіў прыняць рашучыя меры для вяртання ўпамянутых асоб і пакарання доктара С. Асабліва цікавы факт сувязі С. з друкаром Кёнігсберга, які сведчыць, што нават у пач. 1530-х г. С. меў на мэце прадоўжыць кнігадрукаванне ў Вільні. Невядома, якія абставіны перашкодзілі С. ажыццявіць яго планы. Відаць, апошняе пасланне герцага мела нейкія канкрэтныя вынікі — пра дзейнасць кёнігсбергскага друкара ў Вільні нічога невядома. Да пачатку 30-х г. ні аднаго з былых мецэнатаў С. (Онкаў, Бабіч, Адвернік) ужо не было ў жывых, а ў 1529 памёр у Познані брат С. Іван, з якім першадрукар удзельнічаў у некат. камерцыйных аперацыях. Судовыя іскі і цяжбы з пазнанскімі крэдыторамі паўплывалі на фінансавае становішча С., што не магло не адбіцца на яго выдавецкіх справах.

У 1530 у Вільні ад вялікага пажару больш за ўсё пацярпела арыстакратычная частка горада. Рускі квартал, паўднёвей Бернардзінскай вуліцы, пацярпеў менш. Дом Маргарыты, значная частка друкарскіх матэрыялаў С. засталіся цэлымі. Застаўкі і ксілаграф. ініцыялы С. выкарыстоўвалі ў выданнях брацкай друкарні ў Вільні ў канцы 16 — 1-й пал. 17 ст. і ў Астрожскай друкарні ў канцы 16 ст. (гл. *Брацкае кнігадрукаванне* ў 16—17 ст.). У 1531 узнікла эпідэмія, якая хутка распаўсюджвалася. Але не гэтыя катастрафічныя стыхійныя бедствы, відаць, прымусілі С. пакінуць Вільню. З'яўленне свецкага кнігадрукавання, якое падрывала манаполію царквы, выклікала процідзеянне з боку як каталіцкага, так і правасл. духавенства. Сінод віленскай епархіі ў 1526 прыняў рашэнне аб узмацненні барацьбы з рэфармацыйным павевам. Вярхоўная ўлада Польшчы і Вял. кн. Літоўскага выдала эдзікты, якія забаранялі распаўсюджанне ерэтычных замежных выданняў. Каталіцкі епіскапат Вільні не мог адобрыць беспрэцэдэнтную дзейнасць першадрукара, вядомага сваімі сувязямі з гусіцкай Чэхіяй, «лютэранскімі» краінамі, які прызначаў свае кнігі «рускаму» насельніцтву Вял. кн. Літоўскага. Не выпадкова віленскі капітул заказаў кнігі не ў Віленскай друкарні С., а ў кракаўскіх выдавецтвах. 1520-я гады адзначаны рэзкім сутыкненнем віленскага патрыцыяту з



Герб **Вільні.** 16 ст. Рэканструкцыя.



Да арт. **Вільня.** Касцёл святой Ганны. 16 ст.



Да арт. **Вільня.** Касцёл святога Мікалая. 16 ст.

простым «поспольствам», якое выступала супраць злоўжыванняў магістрата, нераўнамернага абкладання падаткамі, парушэння старых правоў і вольнасцей, растрачвання гарадскіх сродкаў і г. д. Улічваючы дэмакратызм С., яго гуманіст., этычныя і прававыя погляды, не цяжка меркаваць, каго падтрымліваў ён у сац.-паліт. барацьбе ўнутры гарадскога саслоўя ў Вільні. Відаць, гэтыя абставіны ў нейкай меры таксама адбіліся на лёсе Віленскай друкарні. У сярэдзіне 30-х г. С. канчаткова пакінуў Вільню і пераехаў у Прагу. У канкрэтных эканам., сац.-паліт. і культ. умовах першай трэці 16 ст., пры яўным процідзеянні царквы, яшчэ адносна вузкай грамадскай падтрымцы кнігавыдавецкая дзейнасць С. некат. час заставалася адзінкавай, але яркай з'явай. Патрабавалася некалькі дзесяцігоддзяў, каб справа С. была прадоўжана на новай грамадска-паліт. аснове бел. друкарамі і выдаўцамі.

*Літ.*: 6; 19; 39; 69; 71; 92; 335; 789.

*Г. Я. Галенчанка.*

**ВІЛЬНЯ** (з кастр. 1939 Вільнюс). Горад, размешчаны на р. Нярыс (Вілія) пры ўпадзенні ў яе р. Вільня (Вілейка). Ад апошняй і паходзіць назва горада.

Першы гіст. запіс пра горад датуецца 1323. Вялікі кн. літ. Гедымін перанёс у В. сталіцу з Трок (Тракай). На Туравай гары (цяпер Гедымінавай) быў пабудаваны замак Гедыміна (пазней Верхні замак). У 14 ст. пабудаваны Ніжні замак (перабудаваны ў 1550—60-я г. ў стылі рэнесансу). Трэці замак — Крывы горад — стаяў на другім беразе р. Вілейка. Каля Ніжняга замка і забудоўваўся горад. З 14 ст. насельніцтва В. мяшанае: літоўцы, беларусы (сяліліся ў т. зв. Рускім горадзе), ням. і польск. купцы і рамеснікі, яўрэі. У 2-й пал. 14 ст. за час праўлення вял. кн. Альгерда (1345—77) колькасць бел. насельніцтва значна павялічылася. Пасля смерці Альгерда ў В. пачаў правіць яго сын Ягайла. Ажаніўшыся з польск. каралевай Ядвігай, ён стаў польск. каралём. Паводле ўмоў Крэўскай уніі 1385, Ягайла абавязаўся хрысціць па каталіцкаму абраду ўсіх літоўцаў-язычнікаў. Былі пабудаваны каталіцкія касцёлы, заснавана Віленская каталіцкая епархія. У 1387 В. атрымала прывілей на абмежаванае самакіраванне паводле *магдэбургскага права*. Гэта садзейнічала развіццю рамяства і гандлю. Супраць палітыкі падпарадкавання Польшчы, якую праводзіў Ягайла, выступіў князь Вітаўт Кейстутавіч. У вер. 1390 ён захапіў горад і штурмаваў замкі. У 1392 было падпісана Востраўскае пагадненне, паводле якога Вял. кн. Літоўскае захавала шырокую аўтаномію, а Вітаўт фактычна станавіўся вял. князем літоўскім (афіцыйна з 1413).

У 1432 вял. кн. Жыгімонт Кейстутавіч даў В. новы прывілей (на лац. і бел. мовах): самакіраванне горада паводле магдэбургскага права пашыралася. Да 1413 горад аставаўся цэнтрам Віленскага княства, а з 1413 да 1795 — Віленскага ваяводства і павета. З 1416 рэзідэнцыя правасл. мітрапаліта Вял. кн. Літоўскага. В. стала важным паліт. цэнтрам Усх. Еўропы, куды накіроўваліся пасольствы з розных краін. У 15 ст. мела гандл. сувязі з Рыгай, гарадамі Ганзы, Прусіяй, укр. гарадамі, а таксама з рус. (Масквою, Ноўгарадам, Псковам) і польскімі (Гданскам, Познанню, Кракавам, Варшавай). У 1430 з'езд феадалаў у

В. выбраў вял. кн. літ. Свідрыгайлу Альгердавіча. Ён праводзіў палітыку непадпарадкавання Польшчы, апіраўся ў значнай меры на бел. і ўкр. феадалаў. Гэта выклікала змову літ. баяр, якую падтрымала Польшча. У 1432 Свідрыгайла звергнуты, вял. князем абвешчаны Жыгімонт Кейстутавіч. У 1440 ён быў забіты ў выніку змовы літ. і ўкр. феадалаў, прыхільнікаў Свідрыгайлы, незадаволеных рэпрэсіўнай палітыкай Жыгімонта. Вялікім князем быў выбраны малодшы брат польск. караля — Казімір Ягайлавіч (Ягелончык). Новы ўрад намагаўся прыцягнуць на свой бок гараджан В. Казіміравым прывілеем 1441 купцы былі вызвалены ад выплаты пошлін 14 найб. гарадам Вял. кн. Літоўскага, што павінна было пашырыць гандл. абарот В. і ўзбагаціць мясцовых купцоў.

У пач. 16 ст. В. (Стары горад) была абнесена мураванай сцяною з 5 брамамі. Мураваная сцяна (2,4 км) пачыналася ад Ніжняга замка (цяпер плошча Гедымінаса) і паварочвала на поўдзень да Медніцкай, або Вострай брамы (захавалася). Адсюль сцяна ішла ва ўсх. кірунку, а потым на поўнач і канчалася каля бернардынскага касцёла. Месца ад бернардынскага касцёла да Верхняга замка было вельмі забалочана, тут на правым беразе р. Віліі былі высокія ўзгоркі, таму мураваная сцяна была непатрэбна. Унізе муры былі з камення, а верхняя частка з цэглы. Далей В. развівалася па-за межамі гар. сцяны. Гарадскія прадмесці заселены ў 1-й пал. 16 ст. У канцы 15 ст. ў горадзе 14 правасл. цэркваў і 7 каталіцкіх касцёлаў. Сігізмунд *Герберштэйн*, які праязджаў праз В. ў 1517, адзначыў: «Цяпер Вільня апаясана сцяною, і ў ёй будуецца шмат храмаў і каменных дамоў... Але храмаў рускіх там значна больш, чым Рымскага веравызнання». Будаваліся мураваныя палацы магнатаў. У 1536 пабудаваны першы мост на Віліі. Архіт. помнікі таго часу (акрамя замкаў) — гатычныя касцёлы Мікалая і Ганны. Драўляны горад часта спусташалі пажары. У 1399 згарэў амаль увесь драўляны горад, у 1530 — 2/3 драўляных дамоў. Насельніцтва цярпела ад эпідэмій (1420, 1502, 1531) і голаду (самы страшэнны ў 1544). Для пашырэння гандл. сувязей у 1503 пабудаваны Рускі гасціны двор, а ў 1523 — Маскоўскі і Нямецкі.

Не стаяла на месцы і культ. жыццё горада. Развівалася пісьменнасць на бел. мове. Самакіраванне гараджан садзейнічала росквіту рамёстваў. У 15 ст. віленскія рамеснікі пачалі аб'ядноўвацца ў цэхі (брацтвы), першы з іх кушнерскі (1458). У 1495 засн. цэхі краўцоў і залатых спраў майстроў. Да сярэдзіны 16 ст. ў В. 20 рамесных цэхаў. Усяго на той час у горадзе налічвалася 42 рамёствы. У канцы 14 ст. быў адкрыты манетны двор, у сярэдзіне 16 ст. чака-




Від **Вільні.** З атласа Г. Брауна. 16 ст.

Да арт. **Вільня.** Медніцкая брама. 16 ст. Унутраны дворык на месцы дома, у якім была друкарня Ф. Скарыны.







**Віньеткі** з выданняў Ф. Скарыны.

нілі манеты ўжо больш за 30 майстроў. У 1524 вял. князь выдаў дазвол на пабудову паперні. У 1547 адкрыта гута шкла. З ростам эканам. значэння горада развівалася і самакіраванне. У 1536 вял. кн. Жыгімонт Казіміравіч выдаў В. новы прывілей, дзе ўдакладняліся функцыі гаррады. Палавіна радцаў і бурмістраў складалася з правасл. мяшчан, палавіна — з католікаў. Усе яны былі з патрыцыяту. Феад. юрыдыкі захоўваліся. Паміж уладальнікамі юрыдык і магістратам адбываліся пастаянныя сутыкненні. Грамадска-культ. і рэліг. дзейнасць вялі правасл. брацтвы. У 15—16 ст. узнікла 5 правасл. брацтваў. В. стала буйным культ. цэнтрам Усх. Еўропы. У 15 ст. тут пашыраюцца гуманіст. ідэі. Маладыя людзі ездзілі вучыцца ў Кракаўскі, Пражскі, Лейпцыгскі, Балонскі і інш. ун-ты. У 1413 горад наведаў паплечнік Яна Гуса Еранім Пражскі, быў прыняты пры двары Вітаўта і каля года правёў у Літве, дзе распаўсюджваў гуманіст. ідэі гусітаў. Пры двары вял. кн. Аляксандра Казіміравіча (1492—1506), у Ніжнім замку, знаходзіліся вядомы астраном Войцех з Брудзева і публіцыст Эразм *Вітэлій*. Жыгімонт Аўгуст сабраў карцінную галерэю і да 1545 багатую б-ку. Акрамя кафедральнай (з канца 14 ст.), у 1513 адкрыта і гар. школа пры касцёле св. Яна. У 1520-я г. у В. пашырыліся ідэі Рэфармацыі. Гуманіст А. Кульвецiс разам з С. Рапаліёнісам у 1539 адкрылі школу, у якой Кульвецiс прапагандаваў ідэі Рэфармацыі, але ў 1542 з-за праследаванняў каталіцкага біскупа П. Гальшанскага вымушаны быў эміграваць у Кёнігсберг.

У пач. 16 ст. В. стала і цэнтрам кнігадрукавання. Сюды з Прагі пераехаў С. і заснаваў першую на сучаснай тэр. СССР друкарню (гл. *Віленскі перыяд у жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны*). На доме, які стаіць на месцы друкарні С., устаноўлена мемарыяльная дошка, а ва ўнутраным двары — скульптура «Летапісец».

*Літ.*: Василевский В. Г. Очерк истории города Вильны//Памятники русской старины в западных губерниях империи. Спб., 1872—74. Вып. 5—6; Добрянский Ф. Старая и Новая Вильна. 3. изд. Вильна, 1904; Дружчыц В. Места Вільня ў першай палове XVI сталецця//Чатырохсотлецце беларускага друку. 1525—1925. Мн., 1926.

*А. П. Грыцкевіч.*

**ВІНЬЕ́ТКА** (франц. vignette) у кніжнай графіцы, невялікая, кампазіцыйна завершаная выява арнаментальнага або выяўленчага характару. Змяшчаецца на вонкавых элементах кнігі ці яе старонках, тытульных, пачатковых, канцавых. Прымянялася і ў рукапісах (найб. ранняя на Беларусі — у Супрасльскім рукапісе, 11 ст.), асабліва развіццё атрымала ў друкаваных кнігах 16—18 ст. Значэнне В. ў аздобе кірыліцкай кнігі ўпершыню глыбока ўсвядоміў С., які ў «Малой падарожнай кніжцы» пісаў: «За каждою кафісмою заставица болшая, а по каждой славе заставица меншая для лепшего разделения чтущим положены суть» (гл. с. 166). Можна меркаваць, што пад вызначэннем «заставица меншая» С. разумеў уласна В. Напр., у «Псалтыры» некалькі псалмоў, што складаюць «славу», С. аддзяліў «заставицай меншай», а некалькі слоў, што складаюць «кафісму», выдзеліў «заставицай болшай». Ён сфармуляваў і функцыянальнае прызначэнне В.— «для лепшего разделения чтущим». Папярэднікі С., друкары кірыліцкіх кніг Ш. *Фіёль* і *Макарый* ужывалі аздабленне (у асн. балканскага стылю) толькі з чыста дэкаратыўнымі мэтамі. С. выкарыстаў аздобы тыпу В. ўжо ў пражскай «Бібліі». Яны былі некалькіх малюнкаў, розных памераў, адціснуты часцей у канцы тэксту, перад пасляслоўем кн.: «Прамудрасць божая», «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў», «Царствы», «Быццё», «Юдзіф», «Суддзі», «Эсфір», «Прарок Данііл», «Псалтыр», «Іоў», «Еклесіяст». У пражскіх выданнях добра прадуманым размяшчэннем В. ствараюць пэўны дэкар. рытм тэксту, спрыяюць зручнасці чытання. У віленскіх выданнях іх значэнне ўзрастае. У «Малой падарожнай кніжцы» — каля 260 «заставіц», вялікіх і малых (з 30 дошак). У «Апостале» змешчана каля 280 «заставіц», большасць якіх узята з «Малой падарожнай кніжкі». Асобныя з іх надрукаваны кінаварам. Пераважаюць памеры 5×62, 5×64, 4×64 мм. Многія В. ўжыты таксама для рамак тытульных лістоў, для маст. афармлення загалоўных літар, у якасці *заставак* і *канцовак*, што надае кніжным старонкам асаблівую дэкаратыўнасць. Большасць В. выкананы ў рэнесансавым стылі. Кампазіцыя іх сіметрычная, пераважае раслінны арнамент. Мяккі пластычны рытм стылізаваных раслін стварае прыгожы дэкаратыўны ўзор. У раслінны асабліва ўкампанаваны выявы драконаў, птушак і інш., часам сярод галін і кветак выява галавы чалавека. Гл. таксама арт. *Графічная арнаментыка выданняў Ф. Скарыны.*

*Літ.*: 564; 789. *В. Ф. Шматаў.*

**ВІТЭ́ЛІЙ** Эразм, Цёлк, [1474(?) — 1522], дзяржаўны, рэліг. і культ. дзеяч Вял. кн. Літоўскага і Польшчы, публіцыст. Скончыў Кракаўскі ун-т (1487), атрымаў вучонае званне бакалаўра ў 1487, у 1491 — магістра. Працаваў сакратаром велікакняжацкай канцылярыі, быў служыцелем культу ў Вільні, Плоцку. У 1501, 1505, 1518—21 узначальваў пасольскія місіі Вял. кн. Літоўскага і Польшчы ў Ватыкане з мэтай стварэння кааліцыі хрысц. дзяржаў супраць Турцыі і Крымскага ханства. У 1521 вызвалены ад абавязкаў пасла, астаўся ў Рыме, дзе і памёр. На грабніцы В. ў храме св. Марыі дэль Попала выбіта эпітафія яго сакратара Міколы *Гусоўскага*. Славіўся як мецэнат, збіральнік рукапісаў (у яго б-цы знаходзіўся помнік бел.-літ. летапісання 15 ст. «Origo regis»). У публіцыстыцы на лац. мове (эпісталяр-

ная спадчына, дыпламат. прамовы і выступленні, выдадзеныя ў 1518 і 1519 у Аўгсбургу і Рыме, а пазней у «Актах Таміцыяна» і інш. выданнях) услаўляў у зах.-еўрап. свеце гісторыю, побыт і культуру Беларусі і Літвы, выявіў рэнесансава-гуманіст. погляды.

*В. І. Дарашкевіч.*

**ВІ́ТЭНБЕРГ** (Wittenberg), горад у Германіі (зараз ГДР), на р. Эльба. Першае ўпамінанне пра В. адносіцца да 1180. У 1502 адкрыты ун-т. У 16 ст. В.— адзін з гал. цэнтраў *Рэфармацыі.* У 1517 тут выступіў са сваімі тэзісамі М. *Лютэр.* Ёсць звесткі, што ў 1525 В. наведаў Францыск Паляк (Franciscus Polonus), якога некат. даследчыкі атаясамліваюць са С. Пратэстанцкі багаслоў Ф. *Меланхтан* пазнаёміў Францыска з Лютэрам, які нібыта прыняў яго за чарнакніжніка і тайнага агента каталіцызму. Па патрабаванню Лютэра магістрат В. арыштаваў Францыска, але пазней вызваліў яго. Звесткі пра знаходжанне Францыска Паляка ў В. апублікаваў у 1839 В. *Копітар,* які адзначыў, што тоеснасць гэтага чалавека і С. можа быць устаноўлена толькі ў тым выпадку, калі ў архівах В. будуць знойдзены больш дакладныя звесткі.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**ВІ́ЦЕБСК** (летапісны В и д б е с к, В и д е б с к, В и т е п е с к, В и т ь б е с к), адзін з старажытнейшых і буйнейшых гарадоў Беларусі (зараз цэнтр Віцебскай вобл.). Размешчаны на ўзвышаных берагах р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе рэк Віцьба (адсюль назва) і Лучоса. Як паселішча крывічоў існаваў з 9 ст. Паводле рукапісу 18 ст., заснаваны ў 974. У стараж.-рус. летапісах упершыню ўпамінаецца пад 1021 як уладанне полацкага князя Брачыслава Ізяславіча. Пасля 1101 стаў цэнтрам удзельнага Віцебскага княства. У канцы 13 ст. В. залежаў ад смаленскіх князёў. З 1320 і да ўз'яднання з Расіяй (1772) у складзе Вял. кн. Літоўскага, потым Рэчы Паспалітай. Карыстаўся пэўнай аўтаноміяй. Поруч з *Полацкам* меў прывілеяванае, у параўнанні з інш. бел. гарадамі, становішча, замацаванае і пацверджанае ўстаўнымі граматамі 1503, 1509, 1547, 1561; у пэўнай ступені захоўваў паліт., сац., прававы парадак, які склаўся тут раней. З 1506 цэнтр Віцебскага ваяводства. У 1597 горад атрымаў *магдэбургскае права* і герб. У 15—16 ст. В.— квітнеючы гандл.-рамесны цэнтр са значным насельніцтвам, пра што сведчыць прывілей 1441, дзе ён названы ў ліку 15 найбуйнейшых гарадоў Вял. кн. Літоўскага.



Герб **Вітэнберга.** 16 ст. Рэканструкцыя.




Герб **Віцебска.** 16 ст.

Для архітэктуры, выяўл. мастацтва В. характэрна захаванне стараж.-рус. традыцый, іх развіццё ў новых гіст. умовах і пашырэнне творчага ўплыву мастацтва Зах. Еўропы. Структурна В. уяўляў сабой два ўмацаваныя замкі — Верхні і Ніжні, якія складалі звязную сістэму абарончых пабудоў, акружаных ярамі і вадзянымі перашкодамі (Віцьба, Ручай, Зах. Дзвіна), да якіх далучаліся слабоды: Заручаўская, Задунаўская, Задзвінская, Узгорская. У канцы 16 — пач. 17 ст. сфарміраваўся Узгорскі замак. Адна з гал. вуліц В. 16 ст.— Вялікая, ішла праз Ніжні замак; ад яе ў Верхні праз Замкавую браму вяла вул. Прабойная. Да іх далучаўся шэраг перыферыйных вуліц і завулкаў: вузкіх, мошчаных драўляным насцілам, шчыльна забудаваных драўлянымі дамамі. Бяднейшыя дамы былі аднаэрубнымі (клець) з невял. вокнамі, стаялі на грунце, паліліся «па-чорнаму». Насельніцтва сярэдняга дастатку жыло ў дамах, якія былі двухзрубнымі, злучаныя сенцамі і накрытыя адным двухсхільным дахам. Вылучаліся грамадскія будынкі, двор ваяводы (Верхні замак). З культавых збудаванняў існавалі багата ўпрыгожаная фрэскамі мураваная Віцебская Благавешчанская царква, узведзеная яшчэ ў 12 ст. на левым беразе Зах. Дзвіны, драўляныя цэрквы Святадухаўская, Успенская, Васкрасенская, Увядзенская.

В. быў адным з цэнтраў рукапіснага мастацтва, у ім існавалі б-кі. Знойдзеная тут берасцяная грамата 13—14 ст. сведчыць пра пашырэнне пісьменнасці сярод яго жыхароў. Ерэтычныя браджэнні, вядомыя на Беларусі з часоў Кіеўскай Русі, набывалі антыфеад. і антыпрыгонніцкую накіраванасць; такой была ерась віцебскага гараджаніна А. Каладынскага. З канца 15 ст. ў В. ўзмацніўся прыток уцекачоў з Маскоўскай дзяржавы: княжацкай апазіцыі, ерэтыкоў, вальнадумцаў. У сярэдзіне 16 ст. тут некат. час жыў *Арцемій,* актыўна дзейнічаў вядомы рускі ерэтык Феадосій Касы са сваімі аднадумцамі і паслядоўнікамі. Пашыраўся рэфармацыйны рух (яшчэ на пач. 15 ст., у спробах знайсці прыхільнікаў у суседніх слав. землях, сярод інш. гарадоў Вял. кн. Літоўскага В. наведаў чэшскі рэфарматар, паплечнік Яна Гуса, Еранім Пражскі). Рэфармацыя садзейнічала складванню свецкіх культ. цэнтраў, станаўленню свецкага кнігадрукавання; у гуманіст. тэндэнцыях нараджаліся ідэйныя вытокі асветніцтва, рацыяналізму, вальнадумства. Гісторыя В. ў агульнай плыні бел. гісторыі мела і сваю асаблі-




Да арт. **Віцебск.** Схема віцебскіх замкаў 16 ст. I. Верхні замак. II. Ніжні замак.



Рэшткі Віцебскай Благавешчанскай царквы пасля кансервацыі.



**«Вобраз двух херувімаў».** Гравюра з 3-й кнігі «Царствы» Ф. Скарыны.

Да арт. **Вобраз Ф. Скарыны ў выяўленчым мастацтве.** Я. Кругер. Францыск Скарына. Алей. 1925. З. Азгур. Скарына — беларускі першадрукар. 1947.





васць, якая надавала пэўную стрыманасць культ. жыццю з прычыны прыгранічнага становішча горада: 16 ст. адзначана амаль бесперапыннымі пагранічнымі канфліктамі, нападамі рускіх войск. Сімяон Полацкі, прадаўжальнік літаратурных традыцый С., звязваў з Полацкам і В. паняцце радзімы, бел. зямель. Імем С. ў В. названа вуліца.

*Літ.*: Чарняўская Т. І. Архітэктура Віцебска: З гісторыі планіроўкі і забудовы горада. Мн., 1980; Левко О. Н. Витебск XIV — XVIII вв.: (Стратиграфия, хронология, социально-историческая топография и технология производств). Мн., 1984.

*Т. І. Чарняўская.*

**ВІШНЕ́ЎСКІ** (Wiszniewski) Міхал (1794—1865), польскі гісторык літаратуры, археограф, філосаф. Праф. (1831) Кракаўскага ун-та. У «Гісторыі польскай літаратуры» (т. 8, Кракаў, 1851) прысвяціў спец. раздзел старабел. пісьменству: падаў самыя поўныя на той час звесткі пра жыццё і творчасць С., яго пераклад Бібліі ацэньваў як «найцудоўнейшы твор беларускай літаратуры», звярнуў увагу на ўласна бел. характар мовы выданняў С., хоць услед за С. Б. *Ліндэ* перабольшваў яе залежнасць ад польск. мовы. Звесткі пра С. чэрпаў з прац І. Г. Штрытэра, І. Добраўскага, В. С. Сопікава, П. М. Строева. Упершыню ўвёў у навук. ўжытак звесткі пра вучобу С. ў Кракаўскім ун-це і атрыманне ім ступені доктара медыцыны і вольных навук. Гэтыя звесткі, акрамя памылковага сцвярджэння В. аб перавыданнях кніг С. ў Вільні, паўтарыў пазней А. К. Ельскі. В. адзначаў, што сучасныя яму польск. даследчыкі мала знаёмы са спадчынай С., садзейнічаў пашырэнню сярод прадстаўнікоў польск. грамадскай думкі зацікаўленасці да яго творчасці. У сваёй кнізе змясціў факсіміле тытульнага ліста «Акафістаў» С.

*Літ.:* 69; 332; Bańka J. Poglądy filozoficzno-społeczne Michała Wiszniewskiego. Warszawa, 1967.

*А. К. Каўко.*

**«ВО́БРАЗ ДВУХ ХЕРУВІ́МАЎ»,** «Образ дву херувимовъ в молитовници», гравюра на 135-м аркушы 3-й кнігі «Царствы», выдадзенай С. у Празе (1518).

Велічныя статуі херувімаў ля «святая святых» старазапаветнай царквы — ківота са скрыжалямі божага запавету. Вобраз цікавы сваёй падвоенай сімволікай. Ківот («ковчег») сімвалізаваў выратаванне «выбранага» народа ад граху і смерці (гл. *«Узор ківота»*). Херувімы, што тварамі павернуты да ківота, а крыламі прыкрываюць яго, сімвалізавалі ахову найвялікшай святыні, недаступнай для недасведчаных тайны яднання чалавека з богам. Яны, як і ўсе інш. анёлы, уяўляліся бесцялеснымі разумнымі духамі, якія маглі набываць чалавечы воблік і з'яўляцца людзям, каб перадаць божую волю і папярэдзіць пра небяспеку або бяду.

Кампазіцыя гравюры (104×105 мм) разгорнута ў прасторы: інтэр'ер царквы з гатычнымі крыжовымі і нервюрнымі скляпеннямі і стральчатым акном. На разбітай квадратамі падлозе — ківот, пабапал яго ў поўны рост выявы двух херувімаў, якія трымаюць у руках арнаментаванае века. Гравюра вылучаецца добрай перспектывай. Фігуры херувімаў, адзенне і складкі на ім намаляваны

вельмі дакладна, з пачуццём пластыкі. У мадэліроўцы памяшкання пераважаюць кароткія і перакрыжаваныя штрыхі. Херувімы мадэліраваны паўкруглымі лініямі. Выразна і пераканаўча, як ні ў якой інш. ілюстрацыі С., паказаны інтэр'ер храма (аналагічныя скляпенні характэрны для помнікаў бел. дойлідства 15—16 ст.). Параўнанне гравюры С. «В. д. х.» з ілюстрацыямі з ням. выданняў сведчыць пра яе маст. самастойнасць, большую дасканаласць (Пасцілы — Нюрнберг, 1481, Кёльн, 1485; Бібліі Пасцілы — Страсбур, 1491, 1492; Бібліі — Базель, 1498, і інш.). Мастак С. добра ведаў тагачасную ням. гравюру, але быў далёкі ад яе капіравання. У мініяцюры і бел. гравюры 16—18 ст. аналагічны сюжэт невядомы.

*Літ.*: 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**ВО́БРАЗ Ф. СКАРЫ́НЫ Ў ВЫЯЎЛЕ́НЧЫМ МАСТА́ЦТВЕ.** Адлюстраванне вобраза С. ў мастацтве — важная частка гіст. жанру бел. выяўленчай творчасці. Яркая і незвычайная асоба С., яго гуманізм, шматгранная дзейнасць сталі нестарэючай тэмай, якая глыбока хвалюе мастакоў. Скарыніяна атрымала ўвасабленне ў жывапісе (станковым і манументальным), скульптуры, кніжнай і станковай графіцы, плакаце, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. Яна прыкметна ўзбагачае тэматычны дыяпазон выяўленчага мастацтва, садзейнічае эстэт. і патрыятычнаму выхаванню. Самы ранні маст. твор — партрэт С. з «Бібліі», выкананы ў тэхніцы падоўжнай ксілаграфіі (гл. *Гравюрны партрэт Ф. Скарыны*). Асаблівая каштоўнасць партрэта ў тым, што ён адзіная ў свеце прыжыццёвая выява першадрукара. Унікальны твор, які дайшоў да нас у арыгінале, выканаў невядомы гравёр. Загадкавым застаецца адлюстраванне юнака ў мантыі вучонага на гравюры *«Благаславенне»* з кн. «Прамудрасць божая». П. У. Уладзіміраў сцвярджаў, што гэта выява С. ў профіль. Яго думку падзяляў і Л. Баразна. Але гэта толькі гіпотэза; сапраўднай выявай С. трэба лічыць яго партрэт, што ўпершыню змешчаны ў кн. «Ісус Сірахаў» (1517) і мае «сапраўды гістарычнае значэнне» (А. А. Сідараў). У 19 ст. з гэтага партрэта рус. мастакі (А. Фралоў і інш.) зрабілі копіі, якія па маст. якасцях уступаюць арыгіналу. Прыжыццёвыя партрэты С. і копіі з'явіліся іканаграфічнай асновай пераважнай большасці ўсіх пазнейшых маст. твораў, прысвечаных С. Кастр. рэвалюцыя адкрыла новую старонку ў развіцці маст. Скарыніяны. Вызначаюцца некалькі этапаў маст. даследаванння жыцця і дзейнасці С. Першыя творы маст. Скарыніяны адносяцца да 1920-х г. У 1925 шырока адзначалася 400-годдзе бел. кнігадрукавання і была арганізавана 1-я Усебел. маст. выстаўка ў Мінску. Гэтыя падзеі садзейнічалі стварэнню маст. твораў пра С.: скульптур, жывапісных палотнаў, графічных аркушаў (творы А. Касцялянскага, Я. Кругера, А. Бразера і інш.). 1930-я г. былі менш плённымі, што звязана з рэзкімі выпадамі супраць С. крытыкаў-вульгарызатараў. У 1940-я г.



А. Б р а з е р. Першы беларускі друкар Францішак Скарына. Літаграфія. 1926.



А. К і ш ч а н к а. Францыск Скарына. Мазаічнае пано. 1978.




А. М а р а ч к і н. Францыск Скарына. Дыван. Алей. 1983.

было створана некалькі жывапісных палотнаў аб жыцці С. Больш плённымі былі канец 1950-х — пач. 1960-х г., калі да вобраза С. звярнуліся многія мастакі. У 1970—80-я г. вобраз С. ўвасабляецца ў жывапісе і графіцы, манум. мастацтве, чаканцы, габелене, кераміцы і інш. Сучасны этап у развіцці Скарыніяны характарызуецца з'яўленнем вял. колькасці новых твораў, значных па сваіх маст. асаблівасцях.

С т а н к о в ы і м а н у м е н т а л ь н ы ж ы в а п і с. У 1927 бел. жывапісец Я. *Драздовіч* стварыў на аснове гравюрнага партрэта з «Бібліі» партрэт С. У ім перададзены вобраз асветніка, які ўсведамляе свой абавязак перад народам, натхнёны ідэяй служэння асвеце. У 1944 Драздовіч напісаў некалькі сюжэтна-тэматычных карцін, прысвечаных С.: «Развітанне з Полацкам», «Са свету з навукай», «Скарына ў Віленскай друкарні 1525 года», «Кніганабыўцы ў Скарынавай друкарні». У гэтых карцінах адлюстраваны розныя этапы жыцця і дзейнасці С. Гэта найб. поўны ў бел. мастацтве біягр. цыкл палотнаў пра С. Па сваёй выяўленча-маст. форме гэтыя работы блізкія да т. зв. прымітывісцкага жывапісу. Нягледзячы на пэўную спрошчанасць (а часам і наіўнасць) маст. мовы, яны вабяць шчырасцю, цеплынёй і непасрэднасцю ўвасаблення тэмы. У канцы 1950-х г. партрэты С. напісалі А. *Кроль* (для Бел. дзярж. музея гісторыі Вял. Айч. вайны ў Мінску), У. *Кухараў* (для Полацкага краязнаўчага музея), І. *Ахрэмчык* (для Мінскага мед. ін-та; аўтарства дакументальна не ўдакладнена). Сярод твораў жывапіснай Скарыніяны вылучаюцца працы П. *Сергіевіча* «Скарына ў Віленскай друкарні» (1957) і «Скарына ў рабочым кабінеце» (1960). Ім уласціва пераканаўчасць асвятлення тэмы, майстэрская кампазіцыя, дакладны малюнак, выразны тыпаж, рэаліст. трактоўка вобраза першадрукара. Абодва палотны Сергіевіча належаць да лепшых жывапісных твораў пра С. Партрэт «Ф. Скарына ў друкарні ў Вільні» (1966) стварыў А. *Марыкс*. У 1968 І. *Давідовіч* напісаў тэматычнае палатно «Першадрукар Францыск Скарына», дзе асветнік паказаны сярод людзей побач з дзяўчынкай, якая трымае кнігу. Задума і кампазіцыя карціны маюць ілюстрацыйны характар. Больш арыгінальна вырашана палатно У. *Стальмашонка* «Слова пра Беларусь», на якім партрэт С. дадзены сярод партрэтаў бел. асветнікаў і вядомых дзеячаў бел. культуры. Праца Стальмашонка ў сваёй стылістыцы блізкая да габелена або манум. пано. Свядомая манументалізацыя вобраза С. характэрна працы А. *Марачкіна* «Пачатак. Францыск Скарына» (1976). Вобраз тут вырашаны нетрафарэтна: натхнёны, некалькі аскетычны твар, падкрэсленая духоўнасць, прыўзнятасць над штодзённасцю. Марачкін таксама адлюстраваў вобраз С. ў дыване «Францыск Скарына» (1983). Мастак В. *Ціханаў* у партрэце С. з дыпціха «Слова аб Радзіме» (1980) выкарыстаў традыцыі бел. абразоў, разьбы па дрэве,

маст. магчымасці іх спалучэння з тэмперным жывапісам. Ідэйная задума, якая аб'ядноўвае С. і М. Гусоўскага, падкрэсліваецца ўключанымі ў кампазіцыю словамі С. («Тако ж и люди, и где зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають») і Гусоўскага («Гэтая песня — далёкае водгулле пушчаў»). У розны час да вобраза С. ў жывапісе звярталіся таксама мастакі М. *Бушчык*, У. *Кіслы*, І. *Пратасеня*, А. *Цыркуной*, Л. *Шчамялёў*. Скарынінскую тэматыку распрацоўвалі Л. Грыцэнка, В. Шматаў і інш. Першы твор пра С. ў манум. мастацтве — фрэска італ. мастака Дж. *Форна* ў зале Сарака Падуанскага ун-та (1942). Іканаграфія С. ў фрэсцы прынцыпова адрозніваецца ад графічнага партрэта з «Бібліі» С. У пач. 1980-х г. у Доме настаўніка ў Мінску створаны роспіс Г. *Вашчанкі* «Асветнікі» (1976, энкаўстыка), у якім С. паказаны сярод іншых бел. асветнікаў, дзеячаў культуры, навукі, рэв. руху. Гэта адна з першых спроб адлюстравання вобраза С. ў манум. мастацтве рэспублікі. Сцянны фрэскавы роспіс «Горад юнацтва» выкананы ў 1982 у Мінскай СШ № 67 В. Ціханавым і В. *Барабанцавым*, у кампазіцыю якога ўведзена постаць С. Вобраз С. ўвасоблены ў манументальна-дэкар. мазаічным пано А. *Кішчанкі* (на тарцы жылога дома ў мікрараёне Усход-1 у Мінску, 1978). Над скарынінскай тэмай у мазаіцы працавалі таксама Р. Несцераў, Барабанцаў, у тэхніцы сграфіта — В. Чарнуха і інш., у камбінаваным вітражы — Стальмашонак і В. *Дайгала*. У станковым і манум. жывапісе заўважаецца тэндэнцыя паглыбленага адлюстравання вобраза С. Паступова да яго звяртаюцца мастакі розных жанраў — станкавісты, пазней майстры манум. роспісу, мазаікі, вітражу і інш.



В. Барабанцаў, В. Ціханаў. Горад юнацтва. Насценная фрэскавая размалёўка. 1982.



Г. Лойка. Эскіз помніка Ф. Скарыне. 1985.



Г. Вашчанка. Асветнікі. Насценны роспіс у Доме настаўніка ў Мінску. Фрагмент. 1976.

С к у л ь п т у р а. Ёсць звесткі, што першы скульптурны партрэт С. выканаў Драздовіч. У 1917 ён перадаў гэты твор паэтэсе К. Буйло. Далейшы лёс яго невядомы. У 1925 на 1-й Усебел. маст. выстаўцы ў Мінску экспанаваўся вял. бюст С. (не захаваўся) скульптара Бразера. У 1920-я г. да вобраза С. звярта-ецца З. *Азгур.* У 1924 ён выканаў скульптурны партрэт С., які быў устаноўлены ў Віцебскім краязнаўчым музеі. У 1947 А. *Глебаў* ажыццявіў першы варыянт будучага помніка С. ў рост, з раскрытай кнігай у руцэ, а ў 1954 зрабіў выяву С. з дрэва. У гэтай рабоце ўдала выкарыстаны магчымасці дрэва, яго цёплы залацісты колер, разнастайнасць фактуры. У далейшым Глебаў паглыбіў філас. сутнасць вобраза для помніка на радзіме С. ў Полацку, які быў адкрыты 11.8.1974. Просты і ясны па кампазіцыі, ён арганічна звязаны з наваколлем (іл. гл. ў арт. *Полацк*). Скульптар У. *Хмызнікаў* у 1960—70-я г. выканаў некалькі партрэтаў асветніка (гіпс, тэракота). Да вобраза С. ў скульптуры таксама звярталіся Э. *Астаф'еў,* С. *Вакар,* Ю. *Гудзіновіч,* М. *Несцярэўскі,* Ю. *Платонаў,* У. Слабодчыкаў і інш. У 1985 Г. Лойка выканаў эскіз помніка С. Шэраг выяў С. зроблена ў медальерным мастацтве (гл. *Медалі*).

Г р а ф і к а. Выяўленчая Скарыніяна пачалася, па сутнасці, з графічных твораў. Да 400-годдзя выхаду ў свет скарынінскай «Бібліі» быў створаны новы гравюрны партрэт С., самая ранняя з вядомых яго рэпрадукцый змешчана ў кн. «Беларусь» (Берлін, 1919) і «Гісторыя беларускай літаратуры» М. Гарэцкага (Вільня, 1920). Аўтар яе, мяркуюць,— віленскі мастак Арлоўскі. С. паказаны ў момант працы, ён толькі на хвілінку адарваўся ад рукапісу, каб абдумаць прачытанае. Простая па задуме гравюра прыцягвае ўвагу яснасцю кампазіцыйнай будовы, лаканізмам, цеплынёй. У 1925 яна была ў перапрацоўцы выкарыстана пры афармленні вокладкі кастр. нумара час. «Малады араты», прысвечанага юбілею бел. кнігадрукавання (лічаць, што копію зрабіў графік П. Гуткоўскі). Гэта гравюра разам з партрэтам С. з «Бібліі» належыць да ліку лепшых у графіцы таго часу. У 1926 скульптар Бразер стварыў літаграфію «Першы беларускі друкар Францішак Скарына». Працуючы над партрэтам, Бразер, відаць, карыстаўся не арыгіналам, а копіяй Фралова, якая дае спрошчаную і нават агрубленую трактоўку вобраза С. Вобраз С. пазбаўлены ўласцівай яму тонкасці ўнутранай псіхал. характарыстыкі. Ёсць звесткі, што літаграфія Бразера была тыражавана. Два партрэты вугалем стварыў С. *Герус:* кампазіцыйны партрэт 1954 па задуме нагадвае карціну Сергіевіча «Скарына ў Віленскай друкарні»; у рабоце 1967 аўтар засяродзіў увагу на партрэтным падабенстве С. Вобраз С. ў тэхніцы афорта ў 1963 стварыў Л. *Ран* (кампазіцыйны партрэт). Афорт вылучаецца жывапіснасцю прыёмаў, умелым выкарыстаннем



В. Ч а р н у х а і інш. Францыск Скарына. Насценны роспіс у Мінскім паліграфічным камбінаце. 1972.




Л. Г р ы ц э н к а. Францыск Скарына. Бацік. 1986.

кантрастаў, паўтонаў, светлых плям. Аднак выява некалькі тэатралізаваная, празмерна павялічаная фігура С. слаба звязана з фарматам, навакольным асяроддзем. Ва ўсіх названых працах (у графіцы і жывапісе) С. паказаны анфас (радзей у тры чвэрці), таму што прыжыццёвы гравюрны партрэт быў першакрыніцай для амаль усіх мастакоў. Першую выяву С. ў профіль у 1969 зрабіў А. Кашкурэвіч. Яго партрэт С. адметны, па-свойму выразны, нагадвае выявы на старых медалях. Эскіз партрэта выкарыстаны мастаком пры стварэнні юбілейнага медаля ў 1967 і ў экслібрысе выд-ва «Літаратура і мастацтва» (1980). В. *Шарангові*ч у 1971 выканаў гравюру (лінарыт) С. з «Бібліяй», набліжаючы яго да вядомага партрэта 16 ст. Пазней ён адлюстраваў вобраз С. ў літаграфіі «А хто там ідзе?» (1976), прысвечанай Я. Купалу. Вобраз С. арганічна ўпісаны ў кампазіцыю, мастак падкрэсліў непарыўную сувязь бел. асветніка з лёсам свайго народа. На аснове партрэта з «Бібліі» ў тэхніцы сухой іголкі Я. *Цікановіч* выканаў партрэт С. (1975), дапоўнены патрыятычнымі радкамі з прадмовы С. да кн. «Юдзіф». У 1980 Ю. *Кухараў* выканаў кампазіцыйныя партрэты М. Гусоўскага і С. У вобразе С. ён імкнуўся перадаць энергію, унутраную сабранасць асветніка-гуманіста. Графічны аркуш Г. *Скрыпнічэнкі* «Сімяон Полацкі і Францыск Скарына» з серыі «Выдатныя дзеячы беларускай культуры» (1981) характарызуецца строгай і простай кампазіцыяй, яснасцю, лаканічнасцю ў вырашэнні тэмы. У канцы 1970-х г. да вобраза С. звяртаюцца бел. графікі малодшага пакалення. А. *Александровіч* без істотных змен выкарыстаў у афорце (1978) партрэт С. з «Бібліі». У 1982 мастак стварыў кампазіцыйны партрэт (афорт, лінарыт) на тэму «Скарына — вучоны, гуманіст, выдавец і мысліцель». Абедзве работы Александровіча вызначаюцца складанай кампазіцыйнай будовай. Мастак выкарыстоўвае прыёмы калажу і мантажу. Новую інтэрпрэтацыю вобраза С. даў у літаграфіі 1980 С. *Прывада.* С. паказаны ў профіль з кнігай у руцэ. Партрэт С.-юнака прыцягвае непасрэднасцю, імкненнем аўтара паказаць адвечны парыў маладосці да ведаў, яе рамантызм. Лінарытную копію партрэта С. з «Бібліі» зрабіў у 1977 В. Мікіта. Работа атрымала новае гучанне, захаваўшы маст. якасці арыгінала. Тэатральны мастак Я. *Ждан* у 1984 зрабіў графічны аркуш «Францыск Скарына», у 1985 М. Карпук выканаў графічны аркуш паводле партрэта С. з «Бібліі». У кніжнай ілюстрацыі скарынінская тэма пачала развівацца ў сувязі са з'яўленнем першых гісторыка-біягр. твораў пра С.— драматычнай паэмы М. Клімковіча «Георгій Скарына» і аднайменнага гіст. рамана М. Садковіча і Я. Львова: у 1947 А. Сапетка зрабіў вокладку да паэмы, выкарыстаў матывы скарынінскага арнаменту; у 1951 А. *Тычына* аформіў раман. Серыю гравюр па матывах рамана Садковіча і Львова зрабіў у 1966 А. Салькоў. Лепшая з іх — выява С. ў друкарні з аркушам-адбіткам і высока ўзнятай запаленай свечкай. Яркае полымя свечкі на цёмным фоне інтэр'ера друкарні засяроджвае ўвагу на фігуры С. У гравюры перада-




В. Шарангові ч. «А хто там ідзе?». Аўталітаграфія. 1976.



Невядомы мастак. Францыск Скарына. Гравюра. 1918—19.

Вокладка часопіса «Маладыя араты». Мінск. 1925. А. Кашкурэвіч. Ф. Скарына. Гравюра на пластыку. 1969.







дзена напружаная творчая атмасфера. Ксілаграфічныя ілюстрацыі да рамана «Георгій Скарына» зрабіў у 1966 А. *Зайцаў*. Ён праілюстраваў асн. кульмінацыйныя моманты развіцця тэмы, паказаў гуманізм С., самаадданасць у барацьбе за асвету. Імкненне да пашырэння тэматычна-жанравага дыяпазону графічнай Скарыніяны ўласціва афортам М. *Басалыгі* да кнігі А. Петрашкевіча «Напісанае застаецца. Францыск Скарына» (1982). Графік выканаў партрэт С. да мініяцюрнага выдання зб. вершаў «Гімн кнізе» (1980).

Графічны матэрыял выданняў С. выкарыстоўваўся ў афармленні навук. выданняў. Пры афармленні юбілейнага зб. «450 год беларускага кнігадрукавання» мастак В. *Сайчанка* выкарыстаў элементы графічнай спадчыны скарынінскіх кніг (аздоба, ініцыялы). Графік І. *Немагай* пры афармленні працы С. Майхровіча «Георгій Скарына» (1966) выкарыстаў гравюры з выданняў С., яго сігнет, некат. элементы арнаменту, буквіцы. Аформілі альбом «Гравюры Францыска Скарыны» (1972) мастакі М. Басалыга і У. Басалыга, дзе на чыстым белым фоне супервокладкі дадзены фрагмент партрэта з «Бібліі» — фігура С. У 1960—70-х г. скарынінская тэма, распачатая ў 1920-я г. Я. Мініным, актыўна загучала ў бел. экслібрысах. У іх выкарыстаны графічны партрэт С., элементы графічных аздоб яго выданняў. Да вобраза С. звяртаюцца ў сваіх экслібрысах Тычына, Я., В. і Г. Ціхановічы, Кашкурэвіч, А. Крывенка, М. Лазавы, П. Герасімовіч, Ю. Баранаў, М. Рыжы, Г. Фралоў, М. Я. і М. М. Веліканавы, Г. Грак, М. Селяшчук, Шматаў, М. Купава, М. Мінавіч, А. Жыжэнка, Г. Галубовіч, Л. Алімаў. Экслібрысы значна пашыраюць графічную Скарыніяну. Бел. кніжныя знакі калекцыяніруюцца ў Беларусі і за межамі рэспублікі, што садзейнічае папулярызацыі вобраза асветніка-першадрукара. Для пашырэння маст. Скарыніяны важнае значэнне мела адлюстраванне вобраза С. ў плакаце. Плакаты на скарынінскую тэму з'явіліся ў канцы 1970-х — пач. 1980-х г. У. *Крукоўскі* зрабіў плакат «Францыск Скарына» (1976). У тым жа годзе Л. Ліпень выканаў фотаплакат, прысвечаны 460-годдзю бел. кнігадрукавання. Плакаты вылучаюцца адкрытай публіцыстычнасцю маст. задумы, прафесійным выкананнем. Першыя тэатральныя плакаты выканалі мастакі М. *Якунін* і Э. *Агуновіч* у сувязі з прэм'ерамі спектакляў па п'есе А. Петрашкевіча «Напісанае застаецца» (1978—79) у Гродзенскім абл. драм. тэатры і ў тэатры імя Я. Купалы. У 1986 В. Смаляк зрабіў плакат «Францыск Скарына — вялікі беларускі асветнік-гуманіст», прысвечаны 500-годдзю з дня нараджэння С. Тэматычна-жанравы дыяпазон графічных работ пра С. даволі шырокі, мастакі звяртаюцца да розных тэхнік (ксілаграфіі, лінарыта, афорта, літаграфіі і інш.), каб глыбока і ўсебакова раскрыць характар і шматгранную дзейнасць С.

Дэкаратыўна - прыкладное мастацтва. Матывы скарынінскага арнаменту выкарыстаны ўжо ў арнаментальных і сюжэтных кампазіцыях на вырабах урэцка-налібоцкіх майстроў 18 ст., бел. кафлі 17 ст. У 1920-я г. студэнты Віцебскага маст. тэхнікума пад кіраўніцтвам М. П. Міхалапа зрабілі керамічнае пано «Скарына» (не захавалася). Мастакі Р. Несцераў і У. Новак стварылі дэкаратыўнае керамічнае пано пра С. (1967) для магазіна «Падпісныя выданні» ў Мінску, выкарыстоўваючы для вырашэння тэмы магчымасці матэрыялу, колер, фактуру, умоўнасць фарбы і інш. А. *Концуб* выканаў прасторавую кампазіцыю «Спадчына» (1977) з партрэтамі выдатных дзеячаў бел. культуры. М. *Шайцова* 460-годдзю бел. кнігадрукавання прысвяціла дэкаратыўную вазу з рэльефным надпісам «Доктар Францыск Скарына з Полацка». Для аздобы выкарыстаны скарынінскі шрыфт і арнамент, якія арганічна звязаны з каляровым вырашэннем. Вобраз С. ўвасоблены ў металапластыцы і чаканцы (партрэт С., 1968—69, Марыкса). Кампазіцыйны партрэт «Скарына — першадрукар» выканаў у 1972 Я. Пакаташкін. Сярод работ самадзейных мастакоў вылучаецца чаканка А. Пракалушчанкі «Францыск Скарына» (1967). У тэхніцы гравіроўкі па метале Я. *Кулік* выканаў лаканічны і просты партрэт С. для Літаратурнага музея Янкі Купалы (1976). У пачатку 1980-х г. да скарынінскай тэматыкі ў дэкаратыўна-прыкладным мастацтве таксама звярталіся В. *Асташонак*, А. *Зіменка*, М. *Корабаў*, Л. Крыжаноўская, А. *Ліпень*, Несцярэўскі, С. Трацціннікаў, Л. Шчасная і інш.

У традыцыйнае бел. ткацтва вобраз С. ўвайшоў у 1970-я г. Цікавыя эскізы для габеленаў «Скарына» і «Трыумф Скарыны» выканаў Л. *Баразна* (1971). Л. Іофе стварыла вял. партрэт-габелен «Францыск Скарына» (1975). Адна з лепшых дыпломных работ студэнтаў Бел. дзярж. тэатральна-маст. ін-та — тэматычны габелен Г. Несцяровіч «Асветнікі» (Скарына і яго паслядоўнікі), 1979. Каларыт габелена вылучаецца характэрным для бел. нар. ткацтва насычаным сакавітым цёмна-вішнёвым фонам, у ім умела выкарыстаны кантраст цёплых і халодных тонаў. Найбольш выдатнай сярод габеленаў, прысвечаных С., з'яўляецца праца Кішчанкі «Першадрукар» з дыпціха «Асветнікі» (1985). Арыгінальна выкананы і чорна-белы габелен Г. Крываблоцкай «Францыск Скарына» (1986). В. Санкова і С. Астроўская звярнуліся да скарынінскай тэмы ў афармленні інтэр'ера мінскай б-кі № 18 (1983), выкарыстоўваючы традыцыйнае бел. палатно, цісканне па скуры — дэкаратыўныя пласціны з партрэтам С., тэкстамі, яго арнаментам, буквіцамі, шрыфтамі. Адлюстраванне вобраза С. ў мастацтве з кожным годам набывае новыя рысы, да неўміручай тэмы звяртаецца ўсё больш аўтараў. Яны паказваюць С. не толькі як першадрукара-асветніка, але і як вучонага-гуманіста, пісьменніка-патрыёта, перакладчыка, віднага дзеяча эпохі Адраджэння. Вобраз С. знайшоў шырокае ўвасабленне таксама ў тэатральна-дэкаратыўным мастацтве (гл. *Тэатральная Скарыніяна*).

*Літ.*: 881; 882; Бадзін Р. Р. Першая мастацкая... // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1973. № 1; Выяўленчае мастацтва Беларусі. Мн., 1981.

*В. Н. Дышыневіч, В. Ф. Шматаў.*



М. Несцярэўскі. Францыск Скарына. Пано. Шамот. 1985.

**ВО́БРАЗ Ф. СКАРЫ́НЫ Ў МАСТА́ЦКАЙ ЛІТАРАТУ́РЫ.** Літаратурна-маст. адлюстраванне дзейнасці С. і яго эпохі пачалося ў перыяд паскоранага развіцця бел. л-ры, росту нац. самасвядомасці і прагрэс. грамадска-паліт. думкі — у канцы 19 — пач. 20 ст. Пісьменнікі і мысліцелі рэв.-дэмакр. кірунку мелі пільную патрэбу ў асвятленні культурна-гіст. традыцый свайго народа, каб мабілізаваць гэтыя духоўныя каштоўнасці для абгрунтавання яго права на сваю мову, л-ру, нац. самавызначэнне на аснове роўнасці і брацкага супрацоўніцтва з інш. слав.



А. Салькоў. Францыск Скарына. Графічны аркуш. 1966.

А. Марыкс. Францыск Скарына. Металапластыка. 1969.

А. Пракалушчанка. Францыск Скарына. Чаканка. 1967.



























народамі. На спадчыну С. спасылаліся К. Каліноўскі і Ф. Багушэвіч, абгрунтоўваючы гіст. права беларусаў на сваю родную мову, якая, на іх думку, была высокаразвітой дзярж. і літаратурнай мовай некалькі стагоддзяў таму назад. У публіцыстыцы газ. «Наша ніва» і ў працах першых бел. гісторыкаў абгрунтоўвалася думка пра рэнесансавы тып бел. культуры 16 ст., у т. л. творчасці С. Пры гэтым не абышлося, асабліва ў паэзіі і літаратурнай публіцыстыцы нац.-дэмакр. друку 1916—20, без пэўнай рамантычнай ідэалізацыі гэтай эпохі як «духоўнага адраджэння» і «залатога веку» нац. культуры.

Рэалістычнае, гістарычна праўдзівае і рамантычна-ўзнёслае адлюстраванне вобраза С. і яго эпохі пачалося ў творчасці М. *Багдановіча* — аднаго з першых даследчыкаў бел. Адраджэння 16 ст., аўтара манаграфічнага артыкула пра С. (1913, не збярогся). Яго цыкл вершаў «Старая Беларусь» (1912) — высокамаст. адлюстраванне духоўнай красы нашых сярэдневяковых асветнікаў і эстэт. каштоўнасці плёну іх працы — кнігі. У гэтым жа цыкле змешчаны ўзор гісторыка-філас. лірыкі Багдановіча «Безнадзейнасць» — першы твор у бел. л-ры, у якім глыбока раскрываюцца трагічныя супярэчнасці жыцця скарынінскай эпохі: «Скарына, доктар лекарскіх навук,// У доўгай опратцы на вежы сочыць зоры.//Яны спрыяюць! Час! З рухавых




Вобраз Ф. Скарыны ў экслібрысе.

рук//Скарыны пье адвар пан земскі пісар хворы...». Але па тым, як імгліцца ізумруд у «пярсцёнку залатым», пісар з болем зразумеў, што яму ўжо не вярнуцца да жыцця (Багдановіч М. Вянок. Вільня, 1913. С. 46). Вобраз С. ўвасабляе ў вершы творчаактыўны пачатак тагачаснай культуры пераходнага перыяду ад сярэдневякоўя да новага часу: ён адукаваны ўрач і батанік, знаўца традыцыйнай і нар. медыцыны; адначасова ён, як і яго сучаснікі, еўрап. вучоныя,— астролаг, перакананы ў існаванні таямнічай сувязі паміж рухам зор і душэўна-цялесным станам чалавека. Яго ж пацыент, земскі пісар, яшчэ не выходзіць за межы сярэдневяковай веры ў фатальнае прадвызначэнне свайго лёсу, які пазнаецца па розных лакальных прыкметах. Але «боль безнадзейнасці» закранае душу і доктара С., бо ён апярэдзіў сваю эпоху, ад якой чакаў актыўнага сустрэчнага руху да сваёй асв. дзейнасці.

У Грамадзянскую вайну і ў першыя гады сацыяліст. буд-ва бел. пісьменнікі востра адчувалі адказнасць л-ры за лёс Радзімы, за нац.-дзярж. і культ. самавызначэнне народа. Адрадзілася рамантычная канцэпцыя гісторыі, у святле якой вобраз С. бачыўся сімвалам самаахвярнага служэння дэмакр. інтэлігенцыі свайму народу (верш у прозе З. *Бядулі* «Францішак Скарына», 1919). У імпрэсіі М. *Гарэцкага* «Фантазія» (1921) дзейнасць С. ўсведамляецца як першаснае звяно ў развіцці нац. л-ры, стваральнікамі якой сталі В. Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч, Цётка, Я. *Купала*, Я. Колас, Багдановіч; падкрэсліваецца яе прарочае, духоўна-пераўтваральнае прызначэнне ў народным жыцці. Вершы З. Бядулі са зб. «Пад родным небам» (1922)

паклалі пачатак характэрнай для сучаснай бел. паэзіі плыні ўзнёсла-рамантычнага раскрыцця вобраза С., патрыятычна-асв. дзейнасць якога пластычна выявілася ў красе Радзімы, у духоўным абліччы яе лепшых сыноў і дачок, у культ. спадчыне і ў сучасным жыцці народа, скарынінскіх нашчадкаў. Звяртаючыся да бацькаўшчыны, паэт пісаў: «Ты — летапіс з аповесцяў вячыстых,//Акропалены слязамі дудароў.//Ты — агняцвет ад водгулляў агністых//Жняёў, касцоў і старцаў-дудароў...//Тут кожны век пакінуў знак-пячаць.//Па тых знаках, па тых шляхох па млечных//Ідуць сыны свой край адбудаваць.//І край магіл, той край, дзе жыў Скарына,//Зноў нарадзіў пракокаў і байцоў» («Беларусь»). Вобраз С. ў паэтычным мысленні Бядулі — гэта вяршыня ў духоўным развіцці эпохі, прарок, які прадвызначае шляхі народа ў будучыню: «Пад спеўнымі званамі залачоных вежаў,//Пад паляўнічым рогам у явах таямніц,//З'явіўся наш Скарына кветкай родных межаў,//Вясёлкай з-пад туману.//На мове паспалітай простых пастыроў//Тлумачыў ён прарокаў сказы-светапісы.//Жыў твор яго ў народзе, нібы ў жылах кроў,//Праменіўся над краем сонечнаю рысай...» («Паходні»).

У сувязі са святкаваннем 400-годдзя бел. друку (1925) скарынінская тэма адлюстравалася ў рэв.-рамантычнай паэзіі ранняга «Маладняка». Для яе характэрна кантраснае супастаўленне змрочнага мінулага Беларусі з яе светла-сонечнай явай паслякастрычніцкага перыяду, цытатнае выкарыстанне абагуленых фальклорных вобразаў і прасталінейнае, без уліку якаснай несумяшчальнасці розных гіст. эпох вывядзенне сацыяльна-культ. пераўтварэнняў у БССР з літаратурна-асв. традыцыі С. У вершы А. Дудара «Полацк» (1926) гіст. мінулае горада малюецца толькі змрочнымі фарбамі: гісторыя ўпісала яго ў свае скрыжалі руінамі, «мурамі Рагнедзінымі», «сцягамі Рагвалодаў», шчытамі нармандскіх каралёў, панаваннем «бандытаў Захаду, цароў Усходу». І толькі сёння горад непазнавальна абнавіўся: «Замест Сафійскае — гара Скарыны//і над Дзвіной чырвоны сцяг.//Тваё пажарышчы, твае руіны//у мінулым толькі шалясцяць». Паэтэса Ганна Брэская ўслед за Я. Купалам і З. Бядулем напаўняла новым зместам традыцыйны для ўсх.-слав. народаў сімвалічны вобраз сейбіта-асветніка: «Ой, вы родныя спелыя нівы!//Хто вам цвёрдую глебу ўзняў...//Мне прыпомніўся вобраз Скарыны//З поўнай жменяй жамчужын-зярнят.//Запаліў ты праменнем іскрыстым//Крыўдай вечнай засмучаны край...».

У альманаху «Наддзвінне» (1926) выйшаў у свет першы эпічны твор пра С.— аповесць С. Хурсіка «Францішак Скарына». У аснове яе сюжэту гіст. факт — пажар у Вільні летам 1530. Герой аповесці С. разам са сваімі сябрамі — бурмістрам Я. Бабічам, друкарамі Данілам і Цімохам — змагаецца за паліт. незалежнасць і культ. самабытнасць Беларусі. Паводле аўтарскай канцэпцыі, С. быў народным асветнікам, які не цікавіўся рэліг. пытаннямі, адмаўляў планы царк. уніі, выкрываў антынародны характар лютэранства і каталіцызму, хоць фармальна сам перайшоў у каталіцтва, каб вучыцца ў Кракаўскім ун-це. Сваю высакародную мэту — выратаваць сялянства ад прыгнёту сродкамі адукацыі — ён хацеў ажыццявіць пры фінансавай падтрымцы Троіцкага кляштара. Аднак ігумен гэтага манастыра Анісім, калі не прама, то ўскосна садзейнічаў катастрофе скарынінскай місіі. Ён прамаўчаў, хоць і ведаў, што па нагавору польска-каталіцкага агента Кубінскага сельскі стараста падпаліць дом Бабіча, дзе С. абсталяваў сваю друкарню. Разам з друкарняй згарэла ўся надзея С.— яго кнігі і яго маленькія сыны. У роспачы ён кідае выклік богу («Ты — вар'ят, бог!.. А можа цябе зусім няма!»). Аднак не пакідае людзей у няшчасці: з друкаром Данілам ідзе ў горад, каб памагаць бедным пагарэльцам. Нягледзячы на рамантычную ўзнёсласць вобраза С. і фабульную займальнасць аповесці, менавіта з яе пачынаюцца негатыўныя тэндэнцыі адвольнай літ.-маст. інтэрпрэтацыі гіст. асобы С. і яго эпохі ў жанрах прозы і драматургіі, калі па сутнасці ігнараваліся факты, дакументальна ўстаноўленыя ў айч. і еўрап. навук. скарыназнаўстве.

Паяўленне адразу пасля Вял. Айч. вайны значных па аб'ёму маст. твораў пра С. і яго час у жанрах прозы і драматургіі абумоўлена ўздымам патрыят. свядомасці ўсх.-слав. народаў. Найб. супярэчлівы з іх — раман М. *Садковіча* і Я. Львова «Георгій Скарына» (1946—51). Пры ўсіх станоўчых рысах гэтага твора яго гісторыка-маст. каштоўнасць зніжаецца ілюстрацыйнасцю, мадэрнізацыяй вобраза С. і вульгарна-сацыялагічнай канцэпцыяй айч. гісторыі. Найб. удалася аўтарам экспазіцыя, у якой пластычна выяўлена грамадска-паліт. і эканам. жыццё Полацка ў пач. 16 ст. і юнацтва С. Аднак яны ігнаруюць агульнавядомы ў гіст. навуцы факт гар. самакіраўніцтва палачан на аснове магдэбургскага права, малююць тагачасную Беларусь як ахвяру таталітарнай і тыранічнай дзяржавы. Аўтары памылкова лічылі, быццам бы сапраўднае імя С. было Георгій, а імя Францішак ён прыняў, каб паступіць у Кракаўскі ун-т. Яны імкнуліся даказаць, што С. мала што ўзяў ад тагачаснай еўрап. навукі, арыентаваўся пераважна на правасл. брацтвы. З гэтай мэтай яны дамыслілі яго паездку ў Кіеў «за навукай». Апісанне жыцця героя за мяжой не пазбаўлена канспектыўнасці. Сустракаюцца фактычныя памылкі, напр., экзамены С. ў Падуанскім ун-це «перанесены» з 1512 на 1515. Парушаючы адзінства сваёй жа канцэпцыі адносна славяна-рус. арыентацыі асв. дзейнасці С., аўтары ўводзяць у твор эпізод, у якім бел. першадрукар выдаў у Прусіі лютэранскія кнігі на ням. мове. Не вынікае з логікі развіцця светапогляду С. і фінальная частка рамана, дзе асветнік і гуманіст схіляецца да ўзброенага паўстання сялян супраць феад. парадкаў.

М. *Клімковіч* у драматычнай паэме-трылогіі «Георгій Скарына» (1946—55) паставіў задачу намаляваць манум. вобраз гуманіста-асветніка ў традыцыях шэкспіраўскай і пушкінскай драматургіі, выкарыстаўшы выяўленчыя магчымасці белага верша. Спрошчаныя, не абгрунтаваныя фактамі тагачасныя ўяўленні пра эпоху С. (мадэрнізацыя гісторыі, канцэпцыя «Русі Літоўскай», якая быццам бы ўжо ў самым пач. 16 ст. была ў «польскім палоне», перабольшанне нац. і рэліг. супярэчнасцей, аднабока адмоўная ацэнка зах.-еўрап., ням. і польск. традыцый культуры) пашкодзілі маст. праўдзівасці і гіст. пераканаўчасці трылогіі. Аднак аўтару ў пэўнай ступені ўдалося стварыць каларытныя вобразы С., яго сяброў і паслядоўнікаў і іх маральна неперабарлівых, агідных і нізкіх праціўнікаў. Імкнучыся стварыць нар. драму, наблізіць яе да масавага тэатральнага гледача, аўтар уводзіць шмат прыгодніцкіх эпізодаў і гратэскавых вобразаў, якія, паводле яго задумы, павінны былі б падкрэсліваць гуманізм і дэмакратызм С., яго грамадзянскую мужнасць у барацьбе за шчасце свайго народа, за брацкі саюз усх.-слав. народаў. Ён парушае прынцыпы гістарызму, калі нагрувашчвае эпізоды засілля каталікаў, ням. і польск. феадалаў на Беларусі і ў Літве ў пач. 16 ст., перабольшвае матэрыяліст. тэндэнцыі ў светапоглядзе С., а ў эпілогу зблізкае яго з атэістамі.

Язэп Дыла ў незакончанай драме «Падуанскі студэнт» (нап. каля 1945, апублікавана ў кн.: Дыла Я. Творы, 1981), грунтуючыся на маст. верагоднасці, узнаўляе важны ў духоўным развіцці С. эпізод падуанскага студэнцкага жыцця ў таварыстве вучоных і мастакоў гуманіст. кірунку, жыцця светлага, упрыгожанага сяброўствам з калегамі па ун-ту — палякам Наскоўскім і чэхам Томашакам, асветленага чыстым каханнем да таленавітай Атэны — дачкі прафесара Джавані Кастра. Аднак калі Томашак пад уплывам гусіцкага руху далучыўся да класавай барацьбы на баку падмайстраў, інтэлектуальная ідылія жыцця сяброў закончылася: спынілася жыццё Томашака пад сякерай палача. С. дае клятву аддаць «усе свае сілы, усё сваё жыццё, каб пашыраць шляхам кнігадруку навуку, веды і тую асвету, якая паможа людзям перамагчы цемру і несправядлівасць» (с. 228).

У аснове фабулы гіст. драмы А. *Петрашкевіча* «Напісанае застаецца» (1978) — востры канфлікт ідэй, процілеглых сац. і маральных арыентацый, кантраснае супастаўленне змрочных сіл рэакцыі і святла розуму, трагічны шлях да свайго народа асветніка і гуманіста С., які апярэдзіў свой час, падняўшыся над эгаізмам класавых інтарэсаў каталіцкіх і лютэранскіх феадалаў. Герой драмы сваім жыццём, барацьбой і самаахвярнай працай сцвярджае духоўныя каштоўнасці народа, яго гіст. права на родную мову, л-ру, навуку. Напружанасць дзеяння грунтуецца на палярызацыі і барацьбе светлых і цёмных сіл гісторыі: на адным баку гэтай барыкады — С., яго настаўнікі, сябры і паслядоўнікі (М. Капернік, М. Гусоўскі, П. Мсціславец, Маргарыта,

Ю. Адвернік), на другім — каталіцкія інквізітары і ням. шавіністы, Лютэр і яго паслядоўнікі, рознага роду шпіёны-двурушнікі, паліт. і рэліг. хамеліёны. Дзеянне канцэнтруецца вакол гістарычна верагоднай падзеі — паездкі С. з Адвернікам у Вітэнберг, дзе яны хацелі набыць абсталяванне для друкавання сваіх кніг. У стоенай барацьбе за душу С. каталіцкая інквізіцыя закатавала да смерці Адверніка і ледзь не ўзвяла на касцёр бел. асветніка. Дасягаючы значнай напружанасці драмы, пісьменнік часам празмерна палярызуе процілеглыя сілы розных кірункаў тагачасных грамадска-паліт. і рэліг. плыняў. Шырока карыстаецца ён перыфразамі скарынінскіх прадмоў і пасляслоўяў, якімі асветнік абгрунтоўваў сваю гуманіст. канцэпцыю жыцця і культуры. Вобраз С., асабліва ў яго маналогах і рэпліках, не пазбаўлены супярэчнасцей: з аднаго боку, ён схіляецца да праваслаўя, заяўляючы пра сваю салідарнасць з Максімам Грэкам («адзінай веры служым»); з другога — герой у аўтарскай трактоўцы паўстае ў абліччы пазарэлігійнага інтэлектуала.

Да вобраза С.— сімвала духоўнай пераемнасці ў жыцці беларусаў — у былой Зах. Беларусі звярталіся песняры рэв. барацьбы М. Танк і В. Таўлай. У грозныя гады Вял. Айч. вайны адрадзілася характэрная для сучаснай бел. паэзіі канцэпцыя адзінства патрыятычных традыцый С. з прыгажосцю роднай зямлі, нязломнасцю яе народа ў барацьбе з ворагам. Якраз у бел. паэзіі зарадзілася ідэя пра агульнаслав. і агульначалавечае значэнне асв. дзейнасці першадрукара, які «што зоры рассыпаў па роднай краіне, крыштальныя словы навукі-святла». Развіваючы гэтую думку-вобраз, П. Броўка пісаў у паэме «Беларусь» (1943): «Нямала народаў з крыніц яго піла//І брала ад мудрасці вечны агонь,//У літарах першых знаходзячы сілу...//Ты слаўна, зямля, што вякам нарадзіла//Такога выдатнага сына свайго!».

Цікавасць да спадчыны С. і яго непаўторнага чалавечага лёсу на высокім маст. узроўні выявілася ў паэзіі 1950—60-х г. Прынцыпова новым у ёй было ўсведамленне няспыннасці айч. культ. традыцыі, адкрыццё маральнай і эстэт. каштоўнасці духоўнага подзвігу папярэднікаў і паслядоўнікаў С., даніна павагі сучасным палачанам — «нашчадкам Скарыны» (верш С. Грахоўскага «Палачанка», 1959). Паэтычная інтуіцыя і маст. выдумка ў бел. лірыка-эпічнай Скарыніяне спалучаецца з вобразнай інтэрпрэтацыяй твораў, светапогляду і вядомых фактаў біяграфіі С. У вершы «Скарына ў Празе» (1962) С. Шушкевіч намаляваў вобраз вучонага-батаніка: доўга ён не мог апазнаць адну зёлку, пакуль не прыпомніў сціплыя кветкі, «што ў нас растуць каля Абалянкі». У роздуме пра славу Радзімы і бацькоўскую мову Н. Гілевіч успамінае, як «цiснуў» кнігі на мове бацькоў людзям для дабра С., каб зрабіць даступнай для простага люду «мудрасць вякоў» (вершы «Высока ў гарах», 1963; «Мара Скарыны», 1965). Сціпла-ўзнёслы вобраз С., сэрца якога напаўняецца шчасцем ад надзеі, што «Звыклым людзям кнігі прынясуць пажытак//І краіне роднай павялічаць славу»,— у вершы А. Барскага «Францішак Скарына» (1962). Лірычны герой паэмы «Хмары над бухтай» А. Бачылы (1978) успамінае С., ходзячы па вуліцах старой Вільні. Там «доктар лекарскіх навук» лячыў не толькі цела, але і душу: «Каб кожны жыў зямною верай,//Любіў і шанаваў яе,//Бо ўжо нашто бяздомцы звяры,//А норы ведаюць свае». Гэта — паэтычная перыфраза фрагмента з прадмовы С. да кн. «Юдзіф». Ва ўсёй паўнаце яна ўзнаўляецца ў паэтычных радках раздзела «Скарына» з паэмы Г. Бураўкіна «Ленін думае пра Беларусь» (1977):

Кожная птушка ў сваё гняздо вяртаецца з выраю.<br>
Кожны бадзяга-звер знаходзіць сваю бярлогу.<br>
Кожная рыба свайго трымаецца віру.<br>
Дык ці ж магу я забыцца матчынага парогу?

Паэт выкарыстоўвае класічны матыў з паэмы Гамера «Адысея»: як герой антычнага эпасу, шмат пабачыўшы людзей і розных цудаў на зямлі, усё ж вярнуўся на свой востраў Ітаку, так і С. міжволі заплакаў ад радасці, калі здалёк угледзеў купал полацкай Сафіі. Скарынінскую думу пра бацькаўшчыну паэт перадае ўрачыста-ўзнёслымі радкамі:

Мне віначэрпіі Падуі, Кракава, Прагі<br>
З сонечным сокам кубкі падносілі залатыя,<br>
Ды не маглі наталіць яны смагі<br>
Так, як звычайны карэц,<br>
Калі чэрпну маёй Палаты я.

Воляю лёсу С. закончыў свой жыццёвы шлях «каралеўскім лекарам і батанікам» у гасціннай Празе. Але не знайшоў і там зелля ад тугі па Айчыне; і толькі ў грудзях да канца жыцця нёс «вузельчык з роднаю зямелькаю, цёплай і вечнай». Вобраз С. спадарожнічаў творчасці У. *Караткевіча* ў паэзіі, гіст. прозе і публіцыстыцы. У эсе «Зямля пад белымі крыламі» (1977) ён паказваў С. як аднаго з самых выдатных дзеячаў Адраджэння. Яго выключную ролю ў гісторыі бел. культуры пісьменнік раскрыў у нарысе «Вера ў сілу дабрыні, або Сын Беларусі, сын Прагі» (1977). У вершы «Багдановічу» (1969) паэт нечакана павярнуў вобразную думку Багдановічавага верша «Беззадзейнасць», надаўшы ёй значэнне запавета, звернутага да «Скарынавых унукаў», нашых сучаснікаў:

Ёсць у вас, як і ў іншых, святыня.<br>
Не давайце святыні псам!<br>
Не давайце з яе глуміцца...<br>
Бо святы ізумруд заімгліцца<br>
У пярсцёнку тваім, Беларусь.

Матыў непарыўнасці традыцый С. з сучаснымі духоўнымі скарбамі Радзімы характэрны для многіх вершаў сучасных паэтаў лірычнага складу. У вершы «Спадчына» (1979) Р. Барадулін услаўляе Беларусь, што «Не дбала пра кубло//Са слепатой курынаю — //Ты несла ў свет святло//Кірыліцай Скарынавай». Ад свайго асветніка-першадрукара народ пераняў гасціннасць і душэўную шчодрасць: «З суседзямі падзелімся скарынкаю.//Адно не ўмееш з торбаю прасіць. //Як ластаўка, з падстрэшша рук Скарынавых//Тваё крыляла слова на Русі» («Мая бацькаўшчына», 1978). Услед за Караткевічам і Барадуліным рэмінісцэнцыі скарынінскай тэмы арыгінальна выявіліся ў асобных вершах В. Віткі (паэма «Беларуская калыханка»), Я. Сіпакова («Кантрабанда» з цыкла «Веча славянскіх балад»), Р. Семашкевіча («Вяртанне кніг»), С. Панізніка («Скарына», «Шлях маіх продкаў»), К. Цвіркі («Францыск, Скарынін сын»), В. Іпатавай («Вільнюсу»), А. *Лойкі* («Скарына — каралеўскі садоўнік на Градчанах»), Л. Забалоцкай («Згаданае»), А. Разанава («Радзіме»), П. Марціновіча («Скарына»), М. Пракаповіча («Радзіме»), М. Арочкі («Слова да Скарыны») і інш. сучасных паэтаў. Усе яны стварылі арыгінальныя вобразы Радзімы, у якіх гісторыя і сучаснасць, штодзённы побыт і культура, прырода і чалавечая духоўнасць злучаны ў пластычна адчувальную, разгорнутую ў прасторы і часе цэласнасць. Родны край для Д. Бічэль-Загнетавай — «гаючы бальзам», кубак, перапоўнены «прысмакам працы і ласкі»; ён — як музыка жалейкі, як песня зязюлек і жанчын, як празрыстасць паветра, сатканага жаўрукамі. Гэты лірычны зачын — экспазіцыя да скарынінскай і купалаўскай тэмы: «Твае гасцінцы — палотны//У расе зарніца купала.//Сувой раскруціў на святло навукі//лекар Скарына» («Рыска», 1979). Панарама разгорнутага адзінства роднай зямлі, яе гісторыі і культуры дасягаецца ў вершы шматузроўневай вобразнай асацыятыўнасцю: сутыкненне двух вобразаў-метафар стварае новы, «дапаўняльны» вобраз дарог, «згорнутых» як сувой палатна. Ён сімвалізуе і далёкія шляхі-дарогі С., і духоўныя каштоўнасці народа, і, урэшце, скрутак белай паперы ў руках першадрукара. С. і яго нашчадак Я. Купала не дапусцілі, каб іх цудоўны край аблогам пыліўся «на гарышчы Зямлі», яны ўвасабляюць працай творчыя ўзлёты ў гісторыі народа. Ларыса Геніюш называе сябе «ўнучкай Скарыны», удзячнай Чэхаславакіі за гасціннасць і падтрымку бел. інтэлігенцыі («Бывай»). Лаканічнымі паэтычнымі сродкамі яна ўзнаўляе эпоху С., гарманічны яе рэнесансавы дух (неба над горадам, «як сны мастакоў Адраджэння»), драматычны лёс бел. культуры, трагічны воблік «пакутных унукаў Скарыны» («Скарына», 1967). Дзейнасць першадрукара выяўляецца як высокі ўзлёт агульнаслав. асв. традыцый, ля вытокаў якіх былі Кірыл і Мяфодзій, а на Беларусі — полацкая княжна Ефрасіння (Геніюш Л. На чабары настоена. 1982. С. 29). А. *Клышка* ў папулярным нарысе-эсэ «Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга» (1983) раскрыў асн. этапы жыцця і творчай дзейнасці С.

Скарынінская тэма стала ўжо традыцыйнай у творах бел. паэтаў, што апяваюць красу Радзімы, бласлаўляюць яе таленавіты народ шчодрай душы, узнаўляюць старонкі яго багатага культ.-гіст.

мінулага. Аднак у эпічных жанрах за апошнюю чвэрць стагоддзя не з'явілася значных твораў, у якіх бы сродкамі маст. слова на аснове сучасных дасягненняў гіст. і літаратуразнаўчай навукі раскрыўся б духоўны ўклад усх.-слав. першадрукара і асветніка ў сусв. культуру.

*У. М. Конан.*

**ВО́ЙЦЕХ З БРУ́ДЗЕВА** (Wojciech z Brudzewa; 1446—95), польскі астраном і матэматык. У 1469 студэнт Кракаўскага ун-та. У 1470 атрымаў вучоную ступень бакалаўра, у 1474 — магістра. З 1476 выкладчык матэматыкі і астраноміі гэтага ж ун-та. Яго вучнем быў М. *Каперні*к. У 1485 дэкан ф-та вольных мастацтваў. Займаўся таксама пытаннямі тэалогіі, атрымаў ступень бакалаўра тэалогіі (1490). Аўтар шэрагу прац па астраноміі, якія садзейнічалі фарміраванню прыродазнаўча-навуковых поглядаў С. Быў блізкі да гуманіст. кругоў, якія садзейнічалі ўзнікненню кнігадрукавання ў Польшчы. Перапісваўся з ням. пісьменнікам Конрадам Цэльтысам, які ў вершах услаўляў вынаходніцтва кнігадрукавання. У 1494 В. з Б. сакратар вял. кн. літ. Аляксандра. Памёр у Вільні. Разам з Міхалам Фалькенерам з Вроцлава, *Янам з Глогава* і інш. вучонымі садзейнічаў стварэнню ў Кракаўскім ун-це спрыяльнай атмасферы для выхавання тут Каперніка, С. і інш. выдатных прадстаўнікоў навукі і культуры 1-й пал. 16 ст.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**ВО́ЛАН** Андрэй (1530—1610), ідэолаг рэфармац. руху на Беларусі і ў Літве, паліт. дзеяч, філосаф і правазнаўца, адзін з заснавальнікаў свецкага кірунку ў сац.-паліт. думцы. Адукацыю атрымаў у ун-тах Франкфурта-на-Одэры і Кёнігсберга. Выбіраўся паслом ад шляхты Ашмянскага пав. ў сейм Рэчы Паспалітай. Быў сакратаром вял. кн. літ., караля Польшчы Жыгімонта Аўгуста. В. зрабіў значны ўклад у развіццё грамадскай, паліт. і прававой думкі на Беларусі і ў Літве. Аўтар каля 30 прац (палеміка-тэалагічныя творы, палітыка-прававыя і этычныя трактаты, прамовы). Пісаў на лац. мове. У рэліг.-палемічных творах з пазіцый кальвінізму рэзка крытыкаваў асн. догматы, арганізацыйную будову каталіцкай царквы і папскай улады. Адстойваў прынцыпы верацярпімасці. Вёў палеміку з езуітамі, выкрываў рэакц. характар іх дзейнасці. Яго творы былі занесены ў «Індэкс забароненых кніг». Антыкаталіцкія працы В. перавыдаваліся гугенотамі Францыі і пратэстантамі Германіі. Гуманіст. накіраванасць маюць яго працы: «Пра палітычную або грамадзянскую свабоду» (Кракаў, 1572), «Прамова да сената...» (1572, выд. 1906, Кракаў), «Пра шчаслівае жыццё, або найвышэйшае чалавечае дабро» (Вільня, 1596), «Пра гасудара і ўласцівыя яму дабрачыннасці» (Гданск, 1608). У іх выступаў за рэформы ў сац. і паліт. адносінах, праве і дзярж. кіраванні; распрацоўваў канцэпцыю свабоды чалавека (абарона маёмасці, асабістай бяспекі, усеагульнай згоды і міру ў грамадстве). У творчасці В. развіты некат. ідэі, выказаныя ў свой час С. Іх аб'ядноўвае імкненне да вырашэння грамадскіх супярэчнасцей на маральным, фармальна-юрыд. узроўні, на шляхах рацыянальнай і мэтанакіраванай дзейнасці саслоўяў, сац. груп, кіруючых колаў на чале з манархам, абвяшчэнне ў якасці ідэалаг. лозунгаў агульнай карысці і сац. гармоніі. Як і С., ён звяртаўся да тэорыі натуральнага права і выкарыстоўваў для яе характарыстыкі той жа раннехрысц. маральны прынцып: «І гэтак, як ва ўсім, як хочаце, каб з вамі паступалі людзі, так і вы паступайце з імі». В. у параўнанні са С. не абмяжоўваўся аналізам сац. рэчаіснасці праз прызму абноўленага хрысціянства і асветніцтва, а імкнуўся знайсці натуральныя прычыны існавання рэчаў і з'яў. Таму дзяржаву, права і інш. сац.-паліт. інстытуты ён разглядаў як вынік чалавечай дзейнасці, аб'екты ўвасаблення людскіх рацыянальных пошукаў і мудрасці, што падкрэслівала яго прыхільнасць да свецкага складу мыслення.

*Літ.:* 232, с. 175—186; Сокол С. Ф. Социологическая и политическая мысль в Белоруссии во II половине XVI века. Мн., 1974; Падокшын С. А., Шатон В. К. Андрэй Волан і яго трактат «Пра шчаслівае жыццё, або найвышэйшае чалавечае дабро» // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1981. № 1. *С. Ф. Сокал.*

**ВО́ЛЬГЕМУТ** (Wolgemut) Міхель (1434—1519), ням. жывапісец, гравёр-ксілограф. Быў знаёмы з мастакамі школы Яна Ван Эйка. Пасля 1480 разам са сваім пасынкам В. Плейдэнвурфам паставіў гравюры ў буйнейшую еўрап. друкарню 15 ст. ў Нюрнбергу, якая належала А. Кобергеру, для ілюстравання 2 найб. вядомых выданняў: «Скарбніца» (1491; 96 ксілаграфій) і «Сусветная хроніка» Г. Шэдэля (1493; 645 ксілаграфій, 1809 адбіткаў). У апошнім выданні, якое выйшла на лац. і ням. мовах вял. тыражом, змешчаны асабліва цікавыя віды гарадоў, у т. л. Кракава і Падуі. Частка ксілаграфій для выданняў Кобергера выконвалася падручнымі В. пад яго наглядам. Маст. аздоба «Сусветнай хронікі» атрымала высокую ацэнку спецыялістаў. Гравюры В. пераймалі многія еўрап. майстры кніжнай графікі і кнігадрукавання. Даследчыкі творчасці С. яшчэ ў 19 ст. выказалі меркаванне, што некат. гравюры з «Малой падарожнай кніжкі» ўзыходзяць да ням. першаўзораў. Гэта гіпотэза была пацверджана ў 1978 у адносінах да 2 гравюр — «Хрыстос у храме» і *«Хрышчэнне ў Іардане»*. Абедзве гравюры надрукаваны з дошак, зробленых, напэўна, В. і Плейдэнвурфам або іх памочнікамі (крыніцы не даюць падстаў для правільнага вызначэння майстра). Магчыма, некат. гравюры былі прыдбаны С. ці яго пасрэднікам у час стварэння Віленскай друкарні ў 1520-я гады.

*Літ.:* 40; 789; Кристеллер П. История европейской гравюры XV—XVIII века: Пер. с нем. М., 1939.

*Г. Я. Галенчанка, М. І. Ткачэнка.*

**ВОЎК-ЛЕВАНО́ВІЧ** Іосіф (Язэп, Восіп), Васілевіч (1891—1943), беларускі сав. мовазнавец. У працы «Гістарычнае вывучэнне беларускай мовы ў славянскай філалогіі» (1925) упершыню разгледзеў даследаванні культ. спадчыны С. (працы Ф. Буслаева, Я. Ф. Галавацкага, І. І. Первольфа, А. І. Сабалеўскага, П. У. Уладзімірава, Я. Ф. Карскага) і даў ім аб'ектыўныя ацэнкі, якія не страцілі свайго значэння да нашага часу. У арт. «Мова выданняў Францішка Скарыны» (Чатырохсотлецце беларускага друку. 1926; асобнае выданне, 1927) даў грунтоўны і аб'ектыўны аналіз поглядаў даследчыкаў на мову скарынінскіх выданняў. Адзначыў памылковасць кваліфікацыі мовы С. як беларускай у аснове (Уладзіміраў), беларускай актавай мовы (А. С. Будзіловіч) ці як сумесі элементаў рознага паходжання (Галавацкі). Сцвярджаў, што мова С.— у большасці сваёй царк.-слав. з моцным элементам жывой бел. мовы і са слядамі літаратурнага ўплыву чэш. і польск. моў; што С. не меў на мэце пераклад цалкам, а толькі пераклад незразумелых царк.-слав. і грэч. слоў. У гэтым сэнсе і трэба разумець яго словы «выклад», «выложенный». Аналізуючы мову выданняў С., адзначаў, што бел. элемент у іх настолькі значны і яркі, што яны дазваляюць атрымаць даволі поўнае ўяўленне і аб жывой бел. мове першай чвэрці 16 ст. Аднак В.-Л. разглядаў толькі беларусізмы без уліку суадносін іх з элементамі царк.-слав., чэш. і польск. моў, прыклады даваў без аўтарскай характарыстыкі. Гэта стварала ўражанне, што бел. моўная стыхія ў выданнях С. пераважае. Пасля манаграфіі Уладзімірава праца В.-Л. з'явілася пэўным этапам у вывучэнні мовы бел. першадрукара.

*Літ.:* Германовіч І. К. І. В. Воўк-Левановіч // Весн. БДУ імя У. І. Леніна. Сер. 4. 1971. № 1; Булахов М. Г. Восточнославянские языковеды. Биобиблиогр. словарь. Т. 2. Мн., 1977. *У. М. Свяжынскі.*

**ВУЛЬГА́ТА,** лацінскі пераклад Бібліі, завершаны каля 405 адным з «айцоў» царквы *Еранімам Блажэнным*.

Трыдэнцкі сабор 1545—47 прызнаў у 1546 тэкст В. кананічным. Вядома каля 8 тыс. спісаў В., старэйшыя з іх Фульдэнскі (541—546) і Харлеянскі (6 ст.) кодэксы. В. пакладзена ў аснову перакладаў Бібліі на многія мовы, у т. л. 42-радковай Бібліі І. *Гутэнберга* (выдадзена ў 1452—55). У рукапісах і друкаваных выданнях В. звычайна змяшчаліся агульная прадмова Ераніма (т. зв. «Ліст да Пауліна») і асобныя прадмовы да пэўнай біблейскай кнігі (у выглядзе лістоў Ераніма да розных асоб).

С. пры складанні прадмоў да некат. пражскіх выданняў у пэўнай ступені выкарыстаў лісты Ераніма. На думку П. У. Уладзімірава, прадмова С. да «Еклесіяста» напісана пад уплывам тлумачэння Ераніма да гэтай кнігі. У прадмове да кн. «Прамудрасць божая» С. спасылаецца на «предмолъву» да гэтай кнігі Ераніма (св. Герасіма). Уладзіміраў лічыць, што і 2-я ч. прадмовы С. да ўсёй «Бібліі» складзена пад непасрэдным уплывам «Ліста да Пауліна». Як і Еранім, С. сярод кніг Старога запавету за «Пяцікніжжам» называе кн. «Іоў», а сярод кніг Новага запавету за «Чатырох евангеллем» — пасланні апостала Паула. У некат. прадмовах і заўвагах да асобных раздзелаў біблейскіх кніг («Прарок Даніііл», «Эсфір» і інш.). С. ўказвае на В. як адну з крыніц для сваіх перакладаў. Уладзі-

міраў і інш. даследчыкі гал. крыніцай перакладу С. лічылі «Біблію чэшскую ў Венецыі друкаваную» (1506). Разам з тым С. карыстаўся і стараж.-яўр. арыгіналам і стараж.-слав. перакладамі.

*Літ.:* 69; 227. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ВЫДАВЕ́ЦКАЯ МА́РКА,** фірменны знак выдаўца або выд-ва, які паказвае на паходжанне і прыналежнасць выдання. Першай В. м. лічаць марку І. Фуста і П. Шофера на «Псалтыры» (г. Майнц, 1457). У ранні перыяд кнігадрукавання як В. м. выкарыстоўваліся гербы, эмблемы, ініцыялы выдаўца (гл. *Сігнет, Манаграма*). Ставіліся на калафоне, пазней — тытульным лісце. Сусветна вядомы В. м. ў кнігах Альда *Мануцыя* (якар і дэльфін), *Эльзевіраў* (падарожнік пад дрэвам), якія сталі аздабленнем кніг. Бел. выдавецкая марка бярэ пачатак ад сігнета С.— выявы сонца і месяца, якія паўтараюцца ў яго выданнях у выглядзе своеасаблівага герба. В. м. ў выглядзе герба мелі пазней выданні Івана Фёдарава і інш. кнігавыдаўцоў. *В. Н. Дышыневіч.*



Да арт. **Выдавецкая марка.** Выдавецкі герб І. Фёдарава.




Да арт. **Выдавецкая марка.** Выдавецкі герб князя К. Астрожскага.

**ВЫДА́ННЕ ЮНЕ́СКА ПРА Ф. СКАРЫ́НУ.** У 1970 XVI сесія Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА прыняла рашэнне аб выданні на ўсіх еўрап. мовах кніг серыі «Выдатныя дзеячы славянскай культуры», у якую поруч з М. Ламаносавым, А. Пушкіным, Т. Шаўчэнкам і інш. быў уключаны С. ЮНЕСКА звярнулася да вучоных БССР с просьбай напісаць для гэтай серыі навукова-папулярны нарыс пра выдатнага бел. першадрукара, асветніка і гуманіста. Рукапіс кнігі «Францыск Скарына» на рус. мове падрыхтавалі бел. скарыназнаўцы Г. Галенчанка, В. Чамярыцкі, В. Шматаў. Кніга выдадзена ў Парыжы ў 1979 на франц. мове (пер. Ж. Гаш), у 1980 — на англ. мове. Складаецца з 6 раздзелаў. У 1-м — «Беларусь у канцы 15—16 стагоддзях» — дадзена характарыстыка эканам., грамадска-паліт. і духоўных перадумоў з'яўлення гуманіст. ідэй на Беларусі. У раздзеле «Францыск, Скарынін сын, з слаўнага града Полацка» расказваецца пра дзіцячыя і юнацкія гады С. ў Полацку, пра яго вучобу ў Кракаўскім ун-це, пра атрыманне ім вучонай ступені доктара медыцыны ў Падуанскім ун-це. У 3—5-м раздзелах разглядаецца выдавецкая дзейнасць С. ў Празе і Вільні, паведамляецца пра наведванне ім Кёнігсберга, падкрэсліваецца высокі ўзровень паліграф. майстэрства яго выданняў, аналізуецца гуманіст. светапогляд першадрукара. 6-ы раздзел — «Шляхамі Скарыны» — прысвечаны развіццю бел. кнігадрукавання ў 16—17 ст., у ім аналізуецца дзейнасць паслядоўнікаў першадрукара — Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, якія прадоўжылі як выдавецкія традыцыі, так і гуманіст. і асветніцкія ідэі С., прасочваецца ўплыў выданняў С. на ўзнікненне і развіццё кнігадрукавання ў Расіі і на Украіне. У заключэнні даецца кароткая характарыстыка дасягненняў бел. народа ў галіне духоўнай культуры (у т. л. і кнігадрукавання) за гады Савецкай улады. Кніга служыць справе культ. ўзаемаабмену і ўзаемаўзбагачэння народаў, умацаванню іх дружбы і ўзаемаразумення, неабходных для трывалага міру на планеце і далейшага прагрэсу чалавецтва.

*Літ.:* Шалькевич В. О Скорине — зарубежному читателю // Неман. 1982. № 10. *В. Ф. Шалькевіч.*

**ВЫДА́ННІ Ф. СКАРЫ́НЫ Ў ЗАХО́ДНЕЕЎРАПЕ́ЙСКІХ ВУЧО́НЫХ І КНІ́ЖНІКАЎ** 16 ст. Кнігі С. як выданні рэдкія, арыгінальныя і каштоўныя выклікалі заканамерны інтарэс вучоных, выдаўцоў, бібліяфілаў, адукаваных людзей еўрап. краін. Пасля выхаду ў свет яны набывалі вядомасць, попыт і пашырэнне. Імі карыстаўся выдатны італ. лінгвіст, праф. ун-та ў Падуі Тэзей А. Альбанезі. У 1539 ён выдаў «Уводзіны ў мовы халдзейскую, сірыйскую, армянскую і іншыя...», дзе ў якасці ілюстрацыі асаблівасцей «рускай мовы» змясціў вял. цытату з 2-й кн. «Царствы» С. Сучаснік С., тэолаг, першы пратэстанцкі біскуп Прусіі П. Сператус меў «Псалтыр» з «Малой падарожнай кніжкі». Відаць, ён атрымаў гэты экземпляр ад самога С. ў час знаходжання яго ў Кёнігсбергу. Пра пашырэнне кніг С. ў краінах Зах. Еўропы ўскосна сведчаць выяўленыя іх фрагменты, у асн. аркушы пражскіх выданняў, якімі былі пераплецены канвалюты. У г. Вроцлаве быў пераплецены канвалют (зберагаецца ў Дзярж. б-цы ЧСР, Прага) з франкфурцкім і лейпцыгскімі выданнямі 1-й пал. 16 ст., у якім П. Пакорны знайшоў фрагменты кн. «Суддзі» С. У канцы 19 ст. дырэктар вроцлаўскай б-кі праф. Маркграф выявіў у пераплёце вроцлаўскай гар. кнігі стараж. судзебных актаў «Liber procuratorium» (1535—71) каля 18 арк. (72 стар.) з розных кніг «Бібліі» С. Мяркуюць, што гэтыя фрагменты — частка матэрыялаў, прададзеных ці закладзеных С. у Празе або канфіскаваных у яго як ерэтычныя ў Вроцлаве ў час пераезду з Прагі ў Вільню. Чэшскі даследчык І. Добраўскі выявіў у пераплёце кнігі «Інтэрпрэтацыі Гамера» (Страсбур, 1539) 2 арк. з кн. «Плач Ераміі». Адзін з экз. віленскай «Малой падарожнай кніжкі» выяўлены ў Капенгагене ў Каралеўскай б-цы. Добрая захаванасць кнігі можа сведчыць пра тое, што яе вывезлі з Вял. кн. Літоўскага як своеасаблівы кніжны рарытэт адразу пасля надрукавання.

Даследчыкі лічаць, што высокі маст.-тэхн. ўзровень выданняў С. аказаў уплыў на дзейнасць цюбінгенскай друкарні паўд.-слав. асветніка і выдаўца славенскіх кніг П. Трубара. Цікавіліся выданнямі С. царкоўнікі. Нямала кніг пакінуў С. ў Празе свайму сыну Сімяону; яны асобна ўпамянуты ў грамаце чэшскага караля Фердынанда І ад 29.1.1552 (гл. *Дакументы пра Ф. Скарыну,* с. 45).

У наш час у краінах Еўропы захавалася нязначная частка кніжнай спадчыны С. (гл. *Каталог выданняў Ф. Скарыны*).

*Літ.:* 68; 69; 370; 816. *Г. Я. Галенчанка.*

**ВЫКАРЫСТА́ННЕ ПЕРАКЛА́ДАЎ Ф. СКАРЫ́НЫ.** Пераклады С. біблейскіх кніг зрабілі значны ўплыў і на рукапісную традыцыю і на друкаванае ўзнаўленне тэкстаў Бібліі. Пасля выхаду ў свет пражскіх выданняў С. іх пачалі перапісваць. Здымаліся копіі і з перакладаў тых біблейскіх кніг, якія С. не надрукаваў або якія ў друкаваным выглядзе да нас не дайшлі. Захаваўся шэраг рукапісных спісаў 16 ст. з выданняў С. з узнаўленнем яго прадмоў і ўпамінаннем яго імя. У Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ) знаходзяцца кн. «Ісус Сірахаў» у зборы М. П. Пагодзіна і зборнік 16 ст. са збору Ф. А. Талстога, у якім ёсць спісы з пражскіх выданняў С. («Прытчы Саламона», «Прамудрасць божая», «Песня песням», «Еклесіяст», «Ісус Сірахаў»). У зборы Талстога ёсць і датаваныя 1568 спісы кн. «Іоў», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст» і «Прамудрасць божая» з прадмовамі да пражскіх

выданняў, дзе імя С. заменена імем Васіля Жугаёва (або Жугаевіча) з Ярослава (Зах. Украіна). У 1543 Парфен з Кобрынскага і Пінскага староставаў перапісаў віленскі «Псалтыр» 1522. У 1593—94 у с. Цеслугоў свяшчэннік *Гермаген* Ціханеня перапісаў віленскі «Апостал» 1525 (рукапіс у Харкаўскай навук. б-цы імя У. Г. Караленкі). Асабліва цікавыя рукапісы 16 ст., у якіх захаваліся пераклады С., невядомыя цяпер у друкаваных выданнях. Такі спіс зрабіў у 1575 «пісарчык» Дзмітрый з Зенькава «в неславном же граде Маначине» (цяпер с. Маначын Валачыскага р-на Хмяльніцкай вобл.). Рукапіс належаў Віцінскаму манастыру, а ў 19 ст. знаходзіўся ў манастыры св. Ануфрыя ў Львове, дзе быў выяўлены і ў 1865 апісаны Я. Ф. *Галавацкім* (цяпер у Львоўскай навук. б-цы імя В. Стафаніка). Працяг гэтага рукапісу ў 19 ст. трапіў у збор Пагодзіна і зараз зберагаецца ў ДПБ. У рукапісе (пачатку і працягу) — «Пацікніжжа», кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», «Царствы», «Юдзіф», «Эсфір», «Іоў», «Прытчы Саламона» і інш., у т. л. 4 кн. «Ездры», «Товіт», «Параліпаменон» і 12 раздзелаў 1-й кн. «Макавеяў», якія ў друкаваных выданнях не захаваліся. Невядомыя ў друку пераклады С. былі і ў рукапіснай Бібліі, спісанай у 1569 «повеленим же и пильностию худаго человека на имя Луки в неславном же гради Тернополи». У прадмове рукапісу, які раней захоўваўся ў б-цы Варшаўскага ун-та і апісаны С. Б. *Ліндэ*, пералічаны ўсе кнігі Старога і Новага запаветаў. У самім рукапісе былі толькі кнігі Старога запавету — ад «Пяцікніжжа» да кн. «Ісус Сірахаў». Сярод іх — 2 кн. «Параліпаменон», 4 кн. «Ездры», кн. «Товіт», у друкаваным выглядзе невядомыя. Рукапісныя копіі кніг прарокаў, якія (акрамя кн. «Прарок Данііл» і «Плач Ераміі») таксама ў друкаваным выглядзе не выяўлены, вядомы па рукапісах са збораў Пагодзіна з ДПБ. У 18—19 ст. пераклады С. ў даволі шматлікіх спісах бытавалі ў асяроддзі стараабрадцаў. Спасылкі на кн. «Ісус Сірахаў» ёсць у палемічных «Паморскіх адказах» пач. 18 ст. У 1-й чвэрці 19 ст. з'явіўся зборнік з копіямі прадмовы і асобных раздзелаў кн. «Прарок Данііл» (збор М. І. Папова, Дзярж. б-ка СССР імя Леніна, ДБЛ). У тым жа зборніку прыведзены кароткія звесткі пра С. і змаляваны філіграні з яго выданняў. Копіі прадмоў С. да біблейскіх кніг змешчаны ў рукапісным спісе *«Генадзіеўскай біблії»* сярэдзіны 16 ст. (захоўваецца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве). У ДБЛ зберагаецца надрукаваны Іванам Фёдаравым у 1581 экз. *«Астрожскай біблії»*, у які ўплецены 26 аркушаў рукапіснага тэксту 16 ст. з копіямі прадмоў С.: «Предисловие во всю Библию выложено на русский язык доктором Франциском Скорининым сыном из славного града Полоцка», прадмовы да «Пяцікніжжа», кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», «Царствы», «Юдзіф», «Эсфір», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Прарок Данііл», «Плач Ераміі», а таксама анатацыі асобных раздзелаў іх. Тут змешчаны таксама «Сказание Иаанна пророчества сказано Феодоритом» и «Святого Епифания епископа Кипрского о именех пророчьских и откуду бешя сами и како умрошя и где лежат мощи их», у друкаваным выглядзе невядомыя. П. У. *Уладзіміраў* адзначыў блізкасць тэкстаў кн. «Юдзіф» і «Плач Ераміі» ў «Астрожскай біблії» і ў пражскіх выданнях С. Значна паўплывалі на наступную рукапісную і друкаваную традыцыю тэксты акафістаў і канонаў з «Малой падарожнай кніжкі». Больш або менш дакладныя копіі тэкстаў С. ёсць у рукапісным аноніку 1604—05 са збору Я. Я. Ягорава (ДБЛ), у друкаваных кіеўскіх Акафістах 1627, у стараабрадчым гектаграфаваным зборніку 1890 і інш. Гл. таксама арт. *Спісы з выданняў Ф. Скарыны.*

*Літ.:* 69; 533; 560. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ВЫСТАЎКІ.** З дарэвалюц. часоў выданні С. паказваюцца на ўсіх найб. значных выстаўках па гісторыі кнігі ў музеях і б-ках нашай краіны і за яе межамі. Да юбілеяў арганізуюцца спец. выстаўкі. Першая бел. кніжная выстаўка, прысвечаная С., павінна была адбыцца ў Мінску ў 1917 у сувязі з 400-годдзем выдання першай кнігі С. (звесткі з газетнай хронікі), але напружаныя паліт. падзеі спынілі падрыхтоўку. У снежні 1926 у сувязі са святкаваннем юбілею бел. кнігадрукавання Бел. дзярж. б-ка сумесна з Бел. дзярж. музеем і Інбелкультам арганізавала кніжную выстаўку, дзе экспанаваліся інкунабулы, кнігі кірылічнага шрыфту Ш. Фіёля (Кракаў, 1491), віленскія выданні Мамонічаў, выданні друкароў з Еўя, Магілёва, «Слуцкае евангелле» князя Юрыя Алелькавіча (16 ст.), першае выданне Статута Вял. кн. Літоўскага 1588 і інш. Гал. месца займалі кнігі «Бібліі» С., набытыя б-кай у 1925 у ленінградскага бібліяфіла Камарніцкага. Да выстаўкі зроблены спец. плакат, упрыгожаны арнаментам з скарынінскіх выданняў, копія гравюрнага партрэта С. з «Бібліі». Экспанаваліся графічны партрэт С. работы А. Бразера, узоры бел. нар. ткацтва. Да 500-годдзя зах.-еўрап. кнігадрукавання ў снежні 1940 у Дзярж. б-цы БССР імя У. І. Леніна была арганізавана кніжная выстаўка, на якой былі шырока паказаны інкунабулы і выданні паслядоўнікаў І. Гутэнберга ў Зах. Еўропе (16—17 ст.), бел. старадрукі. Гал. сярод іх — кнігі С. У афармленні выстаўкі мастак А. Кроль удала выкарыстаў графічную спадчыну выданняў С.: шрыфты, буквіцы, арнамент з яго кніг. Спецыяльна да выстаўкі М. Гусеў напісаў партрэты Гутэнберга і С. паводле вядомага партрэта маст. Я. Кругера (1925). Са збору Дзярж. б-кі БССР кнігі С. экспанаваліся на выстаўцы ў час Дэкады бел. мастацтва ў Маскве ў 1940. Кнігі С., матэрыялы пра яго і яго эпоху, заходне- і ўсходнееўрап. друк 15—16 ст. былі паказаны на юбілейнай выстаўцы «450 год беларускай друкаванай кнігі» (1967) у аддзеле рэдкай кнігі і старадрукаў Дзярж. б-кі БССР, на выстаўцы «Мікола Гусоўскі і яго час» (1980 — пач. 1981).

Адна з кніг С. знаходзіцца на пастаяннай выстаўцы па гісторыі кніг у Дзярж. б-цы БССР. У Дзярж. музеі БССР у асн. экспазіцыі па гісторыі культуры Беларусі знаходзіцца муляж «Бібліі» С. У 1979 музеем арганізавана перасоўная выстаўка «Скарына і яго час» (з муляжоў старадрукаў, рэпрадукцый і фотадакументаў), якая паказана ў навуковых, культурна-асветных і навучальных установах Мінска і рэспублікі.

Да Фёдараўскіх чытанняў (1977), прысвечаных 460-годдзю выхаду ў свет першай кнігі С., аддзел рэдкіх кніг Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна падрыхтаваў выстаўку «Пачатак кнігадрукавання ў Літве і на Беларусі. Жыццё і дзейнасць Францыска Скарыны», дзе было паказана каля 170 выданняў, цэнтр. месца займалі 40 кніг з фондаў скарынінскіх выданняў, што захоўваюцца ў б-цы са збору М. Румянцава, І. Лукашэвіча, М. Бірукова, П. Шыбанава і інш., у т. л. кн. «Юдзіф», «Плач Ераміі», «Апостал» і інш. Былі паказаны арнамент, ілюстрацыі, шрыфты з выданняў С., л-ра аб жыцці і дзейнасці С., пачынаючы з 18 ст., творы выяўленчага мастацтва, прысвечаныя С. Выданні С. экспанаваліся таксама на юбілейнай выстаўцы ў час Фёдараўскіх чытанняў

Да арт. **Выданні ЮНЕСКА пра Ф. Скарыну.** «Францыск Скарына». На французскай мове. Парыж. 1979. Франтыспіс і тытульны ліст. «Францыск Скарына». На англійскай мове. Парыж. 1980. Вокладка.



1983. Кніжныя выстаўкі да 450-годдзя (1972) і да 460-годдзя (1982) пачатку кнігадрукавання ў Літве і на Беларусі арганізаваны ў Вільнюсе (Вільнюскі ун-т, АН Літ. ССР, Дзяр. б-ка Літ. ССР). Юбілейныя кніжныя выстаўкі, прысвечаныя С., адбыліся ў сувязі з 450-годдзем бел. друку ў Празе ў Славянскай б-цы, у Лондане ў Беларускай б-цы і музеі імя Ф. Скарыны, у Нью-Йоркскай публ. б-цы. У апошняй ініцыятыва арганізацыі выстаўкі належала слав. аддзелу пры ўдзеле сав. кнігазнаўца Л. І. *Уладзімірава*. На ёй экспанаваліся слав. старадрукі, гравюры часоў С., друкарскае абсталяванне, л-ра пра развіццё культуры і друкарскай справы на Беларусі, пра жыццё і дзейнасць С., шырока былі паказаны мясціны, дзе ён жыў і працаваў,— Полацк, Кракаў, Падуя і асабліва Прага і Вільня. Да адкрыцця выстаўкі быў выдадзены спец. плакат з выявай гравюрнага партрэта С. з «Бібліі». Ён экспанаваўся ў вышэйшых школах і б-ках Нью-Йорка. У 1982 Славянская б-ка (Прага) арганізавала выстаўку «Кірылічны друк», на якой з глыбока навук. падыходам быў паказаны ўклад С. і бел. друкароў у развіццё ўсх.-слав. кнігадрукавання. У Цэнтр. навук. б-цы АН БССР да першых *Скарынінскіх чытанняў* (1986) была арганізавана выстаўка «Скарыніяна» з калекцыі А. Я. Белага.

Творы выяўленчанага мастацтва, прысвечаныя С., экспануюцца на рэсп., персанальных, тэматычных бел. мастацкіх выстаўках (напр., на юбілейнай выстаўцы, прысвечанай 460-годдзю выдання паэмы Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра», якая адбылася ў снежні 1983 у Гродне, экспанаваліся работы А. Марыкса, А. Марачкіна і самадзейных мастакоў У. Кіслага, А. Ліпеня, В. Іванова). Асобныя творы знаходзяцца ў Дзярж. музеі БССР, Дзярж. маст. музеі БССР, Рэсп. музеі атэізму і гісторыі рэлігіі (Гродна), Полацкай маст. галерэі і краязнаўчым музеі, у Доме літаратара (Мінск), у Музеі медыцыны (Рыга), Беларускай б-цы і музеі імя Ф. Скарыны (Лондан), у «Зале Сарака» Падуанскага ун-та (Італія). *В. Н. Дышыневіч.*

**ВЯЗЬ,** стараж. дэкаратыўнае пісьмо, пры якім літары звязаны ў непарыўны арнамент. Выкарыстоўвалася ва ўсх.-слав. рукапісах, а пазней і ў друкаваных кнігах, гал. чынам для напісання назваў асобных раздзелаў. Для В. характэрна шырокае выкарыстанне лігатур (злітнага напісання суседніх знакаў), усячэнне асобных літар з мэтай іх збліжэння адна з другой, размяшчэнне літары ўнутры другой і г. д. Адзіны выпадак чыстага ўжывання В. ў выданнях С.— подпіс «Доктор Франциск Скорина», змешчаны ў картушы пад *гравюрным партрэтам Ф. Скарыны* (выкарыстанне В. для подпісу свайго імя мае на Русі даўнія традыцыі). Элементы В. выкарыстаны ў загалоўках «Малой падарожнай кніжкі» каля 1522 і «Апостала» 1525 — асобныя літары значна меншага памеру, чым усе астатнія. Часам гэтыя літары («о», «е», «ъ») змяшчаюць каля ніжняга краю радка, часам — па цэнтры радка.



Герб **Вялікага княства Літоўскага.** «Пагоня». Малюнак 1575.

**ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ** (афіц. назва з сярэдзіны 15 ст. Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае), феад. дзяржава на тэр. Літвы, Беларусі (у 13—18 ст.), Украіны (да 1569), часткі Расіі (да 30-х г. 16 ст.); з 1569 у складзе Рэчы Паспалітай. Сталіца — Вільня, у 13 ст. рэзідэнцыяй вял. князёў літ. быў Навагародак (*Навагрудак*).

Барацьба за аб'яднанне карэнных літ. зямель у адзіную дзяржаву з цэнтр. велікакняжацкай уладай, за манархію Літвы адбывалася ва ўмовах неаднаразовых феад. войнаў і была звязана з імем мацнейшага з аукштайцкіх нобіляў — князя Міндоўга (1230—60-я г.). Яму ўдалося падпарадкаваць сваёй уладзе літ. князёў, стварыць адносна адзіную Літ. дзяржаву, пашырыць сваю ўладу на некат. бел. землі. Пераемнікі Міндоўга, вял. князі В. к. Л. Войшалк [1264—67], Віцень [1293—1316], Гедымін [1316—41] і інш. прадаўжалі палітыку ўмацавання адзінаўладдзя, цэласнасці Літ. дзяржавы. Землі Беларусі ў склад княства ўключаліся паступова (гл. арт. *Беларусь* у 15—16 ст.), баярства і князі якіх спадзяваліся ў садружнасці з літ. феадаламі адбіць знешніх агрэсараў і захаваць свае ўладанні. Феадалам Беларусі патрэбна была таксама моцная вярх. ўлада, якая магла б абараніць іх класавыя інтарэсы. Працэс уключэння бел. зямель у склад В. к. Л. быў складаным і доўгім: пачаўся ў 1-й пал. 13 ст., завяршыўся ў 60-я г. 14 ст. Шляхі і спосабы ўключэння зямель былі розныя (дыпламатычныя дагаворы, захопы, шлюбныя сувязі, добраахвотнае падпарадкаванне). У 14 ст. літ. князі паступова падпарадкавалі сваёй уладзе таксама большую частку ўкр. і некат. рус. землі, у выніку чаго была створана буйная ў тэр. адносінах феад. дзяржава — В. к. Л. Увахожданне ў яго склад бел., укр. і рус. зямель з больш развітымі грамадскімі адносінамі і культурай садзейнічала далейшаму больш паспяховаму развіццю феад. адносін і культуры ў дзяржаве.

У 14—15 ст. у В. к. Л. сфарміравалася ўнутрыпаліт. сістэма ўлады, на чале якой стаяў вял. князь — гаспадар. Яму падпарадкоўваліся князі і буйныя баяры — паны, што кіравалі асобнымі землямі і княствамі. Князі тых бел. зямель, якія на рубяжы 14—15 ст. яшчэ захавалі некат. аўтаномію (паводле статутных даравальных грамат — Полацкая і Віцебская землі), з'яўляліся васаламі вял. князя. З 15 ст. ўсё большую ролю ў паліт. жыцці дзяржавы адыгрывала гаспадарская рада, якая к канцу 15 ст. з дарадчага органа ператварылася ў распарадчы, што пачаў абмяжоўваць велікакняжацкую ўладу. На працягу 15 ст. ролю заканадаўчага і кантрольнага органа набыў вальны (агульны) сейм, які выражаў інтарэсы пануючага класа. Уніі з Польшчай (Крэўская унія 1385, Віленска-Радамская 1401, Гарадзельская 1413) прывялі да расшырэння прывілеяў феадалаў-католікаў (гл. *Дзяржаўнае кіраванне* ў 15—16 ст.).

Пад уплывам росту значэння таварна-грашовых адносін у эканам. жыцці вядучае месца з 1560—90-х г. заняў працэс станаўлення паншчынна-прыгонніцкай гаспадаркі — фальварка. Больш выразна ён праявіўся ў гэты час на бел. землях, дзе ў 30-я г. 16 ст. пачалося правядзенне валочнай памеры. Разгортванне пануючым класам у Беларусі фальварковa-паншчыннай гаспадаркі ўзмацніла імкненне феадалаў павялічыць лік асабіста залежных сялян за кошт вольных («пахожых») і нават баярства, ператварыць іх у цяглых, якія павінны несці паншчыну. Не выпадкова з пач. 16 ст. бел. баяры сталі звяртацца да вял. князя з просьбай выдаць граматы, што пацвярджалі іх асабістую свабоду. Так, напр., зрабілі баяры Віцебскага ваяводства, якім вял. кн. Аляксандр у пач. 16 ст. прадпісаў адну павіннасць — «служыць канём і даспехам». Перавод у разрад цяглых прыгонных сялян на працягу 1-й пал. 16 ст. ахапіў усю тэр. В. к. Л. Гэтаму ў немалой ступені садзейнічала вярх. ўлада, якая граматамі 1434, 1447, *Статутам Вялікага княства Літоўскага 1529* гарантавала ўсім феадалам В. к. Л. асабістую свабоду, права распараджацца сваёй маёмасцю, уладу над падданымі ў сваіх уладаннях. Разрастанне прыгонніцкіх адносін выклікала шырокае незадавальненне сялянства, спараджала іх пратэст не толькі ў форме калектыўных скаргаў валасцямі, але і адкрытага непадпарадкавання, хваляванняў (асабліва ў 1530 у велікакняжацкіх маёнтках і валасцях.

Неаднолькавы ўзровень сац.-эканам. развіцця, паліт. і нац.-рэліг. супярэчнасцей затрымлівалі працэс цэнтралізацыі дзяржавы. Унутраныя і асабліва знешнія войны аслабілі яе. У 1-й палове 16 ст. паміж Рус. дзяржавай і В. к Л. вяліся войны за землі Беларусі і Украіны (1500—03, 1507—08, 1512—22, 1534—37). Гл. ў арт. *Міжнародныя адносіны ва Усходняй Еўропе* ў 15—16 ст.

Важным вынікам развіцця таварна-грашовых адносін у канцы 15 — 1-й пал. 16 ст. з'явіўся рост у В. к. Л. гар. паселішчаў як цэнтраў рамяства, гандлю, унутр. рынку. Прывілей 1444 вылучыў у В. к. Л. у якасці «лепшых» 15, у т. л. 7 бел. (Полацк, Віцебск, Слуцк, Мінск, Навагрудак, Брэст, Гродна) гарадоў. На

тэр. Беларусі, Літвы, Жамойціі ў 14—1-й пал. 16 ст. ў крыніцах упамінаюцца ўсяго 274 гар. пасяленні, з іх 173 беларускія. У урбанізацыйным працэсе актыўную ролю адыгрывалі буйныя феадалы. Яны перасялялі частку сваіх сялян, занятых рамяством, у гарады, асноўвалі невял. гар. тыпу пасяленні — ***мястэчкі***, абавязвалі сялян прадаваць прадукты сваёй гаспадаркі на гар. рынку. Гэтымі мерамі феадалы расшыралі крыніцы грашовых даходаў. Пануючы клас тармазіў развіццё гарадоў, перашкаджаючы перасяленню ў іх сельскага насельніцтва, патрабуючы ад гар. улад вяртання беглых, што выклікала супраціўленне гараджан. Гараджане адмаўляліся выдаць беглых сялян, таму ўзнікалі адкрытыя сутыкненні гарадоў, якія мелі магдэбургскае права, з феадаламі. Значная ўдз. в. прыватнаўласніцкіх мястэчак ва ўмовах В. к. Л. з'яўлялася адной з прычын замаруджанага развіцця гарадоў, спецыфічных рыс гар. жыцця, заснаванага на актыўным разгортванні прамысл. дзейнасці, ажыўленых міжгар. сувязей, якія падрыхтавалі глебу для фарміравання адзінага ўнутр. рынку. Апошні так і не склаўся ў В. к. Л., застаўся на ўзроўні замкнутых лакальных рынкаў. Для эканам. і духоўнага жыцця В. к. Л. вял. значэнне мелі гандл. сувязі многіх гарадоў Украіны, Беларусі і Літвы з гарадамі Рускай дзяржавы, асабліва з Масквой, Ноўгарадам, Псковам, Цвер'ю. На З пастаяннымі былі гандл. сувязі з Рыгай і Кёнігсбергам, гарадамі Польшчы і Германіі. Купцы прыдняпроўскіх гарадоў Беларусі (Оршы, Магілёва, Шклова, Быхава, Рэчыцы) гандлявалі на рынках Кіева, Любеча, Чарнігава. Гл. таксама арт. *Беларускі горад* у 15—16 ст.

Унія з Польшчай прывяла да разгортвання каталіцкай экспансіі ў В. к. Л. Гэта стала прычынай узмацнення ўнутрысаслоўнага канфлікту сярод феадалаў на рэліг. і паліт. глебе — паміж прыхільнікамі праваслаўя і каталіцызму. Вострыя нац.-рэліг. і паліт. супярэчнасці прывялі да ўнутр. феад. вайны ў 1430-я г., якая ахапіла значную частку тэр. Беларусі, Украіны і Літвы. У выніку яе правасл. феадалы дабіліся расшырэння сваіх саслоўных прывілеяў і асабістых правоў (гл. арт. *Каталіцкая царква* на Беларусі ў 15—16 ст., *Праваслаўная царква* на Беларусі ў 15—16 ст.).

Сац.-эканам. і паліт. ўмовы налажылі свой адбітак на развіццё культуры, грамадскай думкі (гл. арт. *Культура Беларусі* ў 15—16 ст.). З'явіліся шматлікія помнікі архітэктуры, мастацтва (гл. *Архітэктура Беларусі* ў 15—16 ст., *Мастацтва Беларусі* ў 15—16 ст.), узнікла і дасягнула значнага росквіту бел. кнігадрукаванне, заснаванае С. (гл. *Кнігадрукаванне ў Вялікім княстве Літоўскім* у 15—16 ст., *Кірыліцкае кнігадрукаванне* на Беларусі), развівалася арыгінальнае летапісанне, з'явіліся творы свецкай л-ры, бел. мова становіцца мовай л-ры і дзярж. устаноў. Важным сведчаннем росту гіст. самасвядомасці, абагачэння і ўскладнення духоўнага жыцця былі летапісы. Адным з такіх твораў з'яўляецца *Беларуска-літоўскі летапіс 1446*. Другі твор, хоць і названы *«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*, уяўляе сабой гіст. сачыненне з раздзеламі, якія расказваюць аб праўленні кожнага вял. князя літоўскага. Толькі ў канцы тэксту ў летапіснай манеры дадзены пагадовы запіс падзей да 1548. Выразна выступае свецкая накіраванасць усяго выкладання, якое набывае адценне паліт. хронікі. Выдатным помнікам гуманіст. л-ры гэтага часу з'яўляюцца творы сучаснікаў С. — паэма «Пруская вайна» Яна Вісліцкага і «Песня пра зубра» М. Гусоўскага. У гэтых творах, як і ў творчасці С., культура і грамадская думка В. к. Л. на працягу 1-й пал. 16 ст. дасягнула больш высокай ступені, якая адлюстроўвала новы ўзровень развіцця феад. грамадства ў В. к. Л.

У складаных унутр. і знешніх паліт. умовах развівалася бел. культура, у стварэнні якой выдатную ролю адыграў С. Гады яго жыцця і дзейнасці былі часам глыбокіх і вострых супярэчнасцей у сац.-эканам., паліт., рэліг., культ. жыцці грамадства. Яны не маглі не зрабіць пэўнага ўплыву на творчыя пошукі бел. першадрукара, мысліцеля-гуманіста. Гл. таксама арт. *Віленскі перыяд у жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны.*

*Літ.:* 38; 249; Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2. изд. М., 1915; Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. М., 1959; Соловьев С. М. История России с древнейших времен. Кн. 3 (Т. 5—6). М., 1960; Статут Великого княжества Литовского 1529 года. Мн., 1960; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972; Полное собрание русских летописей. Т. 35. Летописи белорусско-литовские. М., 1980; Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983.

*З. Ю. Капыскі, В. І. Мялешка.*



**ГАЛАВА́ЦКІ** Якаў Фёдаравіч (1814—88), украінскі гісторык, этнограф, філолаг, паэт. Скончыў Львоўскі ун-т (1841). З 1848 — праф., з 1849 — рэктар гэтага ун-та. Адзін з пачынальнікаў новай укр. л-ры ў Галіцыі, якая знаходзілася пад прыгнётам Аўстрыі. У 1850-я г. быў блізкі да славянафілаў, пазней перайшоў у лагер рэакцыі. У 1867 перасяліўся ў Расію, працаваў старшынёй Віленскай археаграф. камісіі, дзе многа зрабіў для публікацыі важных стараж. актаў і дакументаў. У б-цы *Ануфрыеўскага манастыра* ў Львове выявіў рукапісную «Біблію», якую ў 1575 перапісаў «Дмитро из Зенкова писарчикъ». У працы «Некалькі слоў пра Біблію Скарыны і пра рукапісную рускую Біблію з XVI стагоддзя, якая знаходзіцца ў бібліятэцы манастыра Св. Ануфрыя ў Львове» (1865) даў кароткую характарыстыку эпохі, калі была надрукавана праца С. Звязваў пераклад Бібліі з нарастаннем рэфарм. руху ў Еўропе, адзначыў месца скарынінскага перакладу Бібліі сярод інш. перакладаў яе, апублікаваных у 16 ст. Лічыў, што «Біблія» С. напісана не беларускай, а кніжнай штучнай мовай з моцным дамешкам рускай (бел. і ўкр. словы), а таксама чэш. і польск. слоў і зваротаў, і што С. перакладаў непасрэдна з чэш. Бібліі з дапамогай царк.-слав. перакладу. Параўноўваў друкаваны тэкст «Бібліі» С. з рукапісам некат. кніг Старога запавету з б-кі Ануфрыеўскага манастыра. Прывёў паралельна ўрыўкі абодвух тэкстаў, даказваў, што гэты рукапіс — копія перакладу С.

*Літ.:* 306; Пашаева Н. М. Головацкий Я. Ф. // Славяноведение в дореволюционной России: Биобиблиогр. словарь. М., 1979.
*Н. М. Пашаева.*

**ГАЛЕ́Н** (Galenus) Клаўдзій [130(?) — 200 (?)], рымскі ўрач і натураліст, класік антычнай медыцыны. Вывучаў медыцыну і філасофію *Платона, Арыстоцеля.* Напісаў больш за 400 трактатаў па медыцыне і філасофіі (захавалася каля 100). Абагульніў вопыт многіх пакаленняў медыкаў, пачынаючы з *Гіпакрата,* сістэматызаваў асн. палажэнні антычнай медыцыны, стварыў сістэму мед. поглядаў, упершыню ў гісторыі ўвёў у практыку медыцыны эксперымент. У якасці ўрача лічыўся бясспрэчным аўтарытэтам на працягу ўсяго сярэднявечча. У час вучобы С. ў Падуанскім ун-це працы і вучэнне Г. былі там абавязковымі ўмовамі асветы. Як медык С. вывучаў працы Г. і імкнуўся зразумець прыроду, перш за ўсё прыроду чалавечага цела (гл. ў арт. *Медыка-біялагічная дзейнасць Ф. Скарыны*).
*Э. К. Дарашэвіч.*

**ГАЛЕ́НЧАНКА** Георгій Якаўлевіч (н. 1937), беларускі сав. гісторык і кнігазнавец. Канд. гіст. н. (1965). Даследуе гісторыю бел. кнігадрукавання 16—18 ст. У складзеным ім «Бібліяграфічным спісе беларускіх старадрукаваных выданняў XVI—XVII стст.» (1961) названы выданні С. У арт. «Рускія першадрукары і Сымон Будны» (1965) упершыню для вывучэння дзейнасці Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца на Беларусі даследаваў матэрыялы прадмовы да выдання Буднага «Новы запавет» (Лоск, 1574). Аўтар арт. «Васіль Цяпінскі — паслядоўнік скарынінскай справы» (1968). Важнае значэнне ў гістарыяграфіі скарыназнаўства маюць даследаванні Г., прысвечаныя астранам. і храналаг. аспектам «Малой падарожнай кніжкі» С.: «Астранамічныя звесткі ў «Малой падарожнай кніжцы» Скарыны» (1974), «Каляндар» Францыска Скарыны» (1976), «Астранамічныя звесткі ў выданнях Францыска Скарыны» (1979). У арт. «Новае пра Францыска Скарыну» (1976) увёў у навук. ужытак шэраг новых дакументаў пра С. і яго асяроддзе ў Вільні — Я. Бабіча, Ю. Адверніка, Б. Онкава. Апісаў экземпляры выданняў С., што захоўваюцца ў Дзярж. б-цы БССР імя У. І. Леніна (1974). Аўтар арт. «Кнігі Францыска Скарыны ў беларускіх, рускіх і ўкраінскіх зборах XVI—XVII стст.» (1979), гістарыяграф. даследаванняў, артыкулаў пра С. для навукова-папулярных выданняў. Адзін з аўтараў навукова-папулярнай кнігі «Францыск Скарына» (з В. Чамярыцкім і В. Шматавым), выдадзенай ЮНЕСКА ў Парыжы на франц. і англ. мовах (1979 і 1980). Складальнік раздзела «Старадрукаваныя кірылічныя выданні XVI—XVIII ст.» у зводным каталогу *«Кніга Беларусі»* 1517—1917 (1986), дзе зрабіў падрабязнае апісанне ўсіх выданняў С. Удзельнік *Скарынінскіх чытанняў.*
*Я. Л. Неміроўскі.*

**ГА́ЛЕР** (Haller) Ян (каля 1467—1525), польскі друкар і выдавец. Працаваў у Кракаве ў час вучобы С. ва ун-це. Магчыма, меў сувязь з першай друкарняй кірылічнага шрыфту, заснаванай у Кракаве Ш. *Фіёлем* у пач. 1490-х гадоў. З 1494 займаўся выдавецкай справай, друкаваў кнігі ў Нюрнбергу па заказу царк. улад і ун-та. У 1499—1500 надрукаваў у лейпцыгскай друкарні В. Шчёкла працы прафесара Кракаўскага ун-та *Яна з Глогава*, лекцыі якога слухаў С. Падтрымліваў сувязь з вядомым венецыянскім выдаўцом А. *Мануцыем.* У 1503 запрасіў у Кракаў ням. друкара К. *Хохфедара,* які ў яго доме адкрыў друкарню. У 1505 друкарня перайшла ва ўласнасць Г., у якой да 1525 надрукавана 238 лац. і адна ням. кніга. Выдаваў творы класікаў антычнай л-ры, працы прафесараў Кракаўскага ун-та, падручнікі, навуч. дапаможнікі, літургічную л-ру. Выданні Г. добра арнаментаваны і ілюстраваны, у іх змешчана 178 гравюр на дрэве. Меў асабісты друкарскі знак. Займаўся кнігагандл. дзейнасцю. У 1510 набыў папяровы млын, пабудаваны ў канцы 15 ст. Ф. Шыленгам. С. мог пазнаёміцца з асновамі друкарскага майстэрства ў Г. і з дапамогай яго ўстанавіць сувязь з друкарамі Нюрнберга.

*Літ.:* 216, с. 64—67. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ГАЛЬША́НСКІ** Павел (? — 1555), князь, з стараж. роду князёў Гальшанскіх, сын Аляксандра Юр'евіча, кашталяна віленскага, і Соф'і з Хожава. Сучаснік С., вучыўся філасофіі ў Кракаўскім ун-це ў 1504—07. З 1507 каталіцкі біскуп у Луцку, у 1515 атрымаў дадаткова пасаду віленскага архідыякана. З 1536 біс-

куп віленскі, з 1527 староста пінскі. У 1512 удзельнік царк. сабору ў Вільні. Быў уладальнікам багатых маёнткаў: Гальшан, Лебедзева, Хожава, Дунілавіч, Волпы, Глуска і Раманава. Добра ведаў сучасную яму л-ру, меў б-ку. Праследаваў прыхільнікаў Рэфармацыі.

*Літ.:* Ochmański J. Biskupstwo wileńskie w średniowieczu. Poznań, 1972. S. 16—17. *А. П. Грыцкевіч.*

**ГАРАБУ́РДА** Васіль Міхайлавіч, беларускі друкар і кнігавыдавец 16 ст. Большасць даследчыкаў лічаць яго сынам дыпламата, дзярж. сакратара Вял. кн. Літоўскага Міхайлы Гарабурды (памёр у 1586). Аднак у завяшчанні апошняга Васіль названы «сыноўцам» (пляменнікам). Праўдападобна, што Васіль — сын Анцуты (Міхайлы) Гарабурды, дробнага гаспадарскага шляхціца, уладальніка маёнтка Макрэц (Гродзенскі павет). Гарабурды мелі цесныя сувязі з Іванам Фёдаравым, Пятром Мсціслаўцам, Мамонічамі, кн. Андрэем Курбскім, А. Валовічам і інш. культ. і паліт. дзеячамі, якія падтрымлівалі бел. кнігадрукаванне і асвету. Пры іх дапамозе, магчыма, пры непасрэдным удзеле Мамонічаў Г. арганізаваў друкарню ў Вільні. Каля 1580 выдаў «Евангелле вучыцельнае» — блізкую копію заблудаўскага 1569, у 1582 — «Актоіх» («Васьмігалоснік») з пасляслоўем, падпісаным ім. Г. працягваў выдавецкія традыцыі *Заблудаўскай друкарні,* выдаваў кнігі на царк.-слав. мове буйным фарматам, у 2 колеры. Раслінны арнамент заставак у кнігах нагадвае львоўска-маскоўскія ўзоры Фёдарава. Выхадныя звесткі кн. «Васьмігалоснік» дадзены ў двух каляндарных стылях, як у некат. віленскіх выданнях С. Захавалася каля 35 экз. кніг І. Друкарня яго перайшла да Мамонічаў, якія з 1583 узнавілі выдавецкую дзейнасць. Не выключана, што Г. стаў адным з тых друкароў, якім гэта друкарня была абавязана сваім доўгім і прадукцыйным існаваннем.

*Літ.:* 19; Зернова А. С. Типография Мамоничей в Вильне (XVII век)//Книга: Исслед. и материалы. М., 1959. Сб. 1. *Г. Я. Галенчанка.*

**ГАРЭ́ЦКІ** Максім Іванавіч (1893—1939), беларускі сав. пісьменнік, літаратуразнавец, фалькларыст і лексікограф. У «Гісторыі беларускае літаратуры» (Вільня, 1920; 4 выд., 1926) прысвяціў С. біягр. нарыс, у якім змясціў гравюрны партрэт першадрукара (у 3 выд., М.; Л., 1924; партрэт вынесены на вокладку). Адзначыў вял. ролю літаратурна-асв. дзейнасці С. ў станаўленні бел. і ўсх.-слав. кнігадрукавання, нац. л-ры, у т. л. паэзіі і публіцыстыкі. На думку Г., па свайму светапогляду С. быў прадстаўніком гуманізму, або адраджэння, выдатным дзеячам культуры свайго часу, які ў сваіх працах спалучыў рэліг. традыцыі з каштоўнасцямі свецкай культуры, узнёсла сказаў аб вял. сіле патрыятызму. У «Хрэстаматыі беларускае літаратуры. XIX век — 1905 год» (Вільня, 1922) змясціў партрэт С., фрагменты яго прадмоў да кн. «Бібліі» (у арыгінале і з паралельным перакладам на сучасную бел. мову), а таксама вершы асветніка. У «Выпісах з беларускае літаратуры» (у сааўт., ч. 1—2, 1925) акцэнтаваў увагу на еўрап. адукаванасці, гуманізме і патрыятызме С. Апавяданне Г. «Фантазія» («Беларускія ведамасці», 24.10.1921, без подпісу) у экспрэсіўнай, вобразнай форме раскрывае традыцыі народнасці і дэмакратызму бел. л-ры, яе заклікальна-прарочае прызначэнне, якому служыў С. і яго паслядоўнікі — Я. Купала, М. Багдановіч, Ф. Багушэвіч, Цётка і інш. бел. пісьменнікі. Раннім творам Г. была ўласціва рамантычная ідэалізацыя часу С., у далейшым ён адмовіўся ад гэтай канцэпцыі.

*Літ.:* Бугаёў Дз. Максім Гарэцкі. Мн., 1968; Мушынскі М. І. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 20—30-я гады. Мн., 1975. С. 65—87. *У. М. Конан.*

**ГАШТО́ЛЬД** Альбрэхт (?—1539), дзярж. дзеяч Вял. кн. Літоўскага. Каля 1492 вучыўся ў Кракаўскім універсітэце. У 1503—06 намеснік навагрудскі, у 1505—08 падчашы літоўскі, з 1508 ваявода навагрудскі. У 1503 удзельнічаў у бітве з крымскімі татарамі каля Давыд-Гарадка, у рус.-літ. вайну 1507—08 — у баях пад Смаленскам і Оршай. У 1513 ваявода полацкі, у 1515 староста мазырскі. Суправаджаў караля Польшчы і вял. князя Вял. кн. Літоўскага Жыгімонта І на *Венскі кангрэс 1515.* З 1519 ваявода трокскі. У 1522 Г. ваявода віленскі і канцлер вял. літоўскі. У 1525 староста барысаўскі. На чале групоўкі літ.-бел. магнатаў выступаў за поўную незалежнасць дзяржавы, супраць уніі Вял. кн. Літоўскага з Польшчай. На віленскім сейме 1522 правёў у жыццё план каралевы *Боны* абвяшчэння яе сына Жыгімонта ІІ Аўгуста пераемнікам літ. трона, хоць гэтаму супраціўляліся прыхільнікі уніі. З 1525 Г. у апазіцыі да каралевы Боны, вёў барацьбу супраць яе да сваёй смерці. Адначасова ўстанавіў адносіны з аўстр. дваром, з 1529 — з прускім герцагам *Альбрэхтам* Гогенцолернам. Уплыў Г. ў Вял. кн. Літоўскім быў вялікі, ён здолеў сканцэнтраваць у сваіх руках буйныя маёнткі ў Ашмянскім, Трокскім, Віленскім, Луцкім паветах, у Падляшшы, а таксама Койданаў, Біржы, Любчы. У 1528 Радзівілы заключылі пагадненне з Г., аддалі яму некат. спрэчныя маёнткі і сумесна выступалі супраць каралевы Боны, якая пачала адсуджваць у магнатаў і скупляць маёнткі ў Вял. кн. Літоўскім. У 1537 Г. ажаніў свайго сына Станіслава з малодшай дачкой Юрыя Радзівіла Барбараю (потым жонка караля Жыгімонта ІІ Аўгуста). Яго маёнткі атрымаў сын Станіслаў, пасля смерці якога яны адышлі вял. кн. літ. Жыгімонту II. Г. удзельнічаў у рэдагаванні *Статута Вялікага княства Літоўскага 1529.* Меў вял. б-ку. С. быў знаёмы з Г. Захавалася пасланне да Г., выдадзенае С. Альбрэхтам Гогенцолернам у 1530, дзе герцаг прасіў Г. аказаць садзеянне ў хутчэйшым разглядзе судовай справы, звязанай з маёмаснай спадчынай жонкі С. (гл. *Дакументы пра Ф. Скарыну,* с. 20). *А. П. Грыцкевіч.*

**ГЕАГРАФІ́ЧНЫЯ НА́ЗВЫ** ў выданнях Ф. Скарыны. Змешчаны ў прадмовах і пасляслоўях да віленскіх і пражскіх выданняў С. Найб. пашыраныя геагр. назвы:

**Александрыя** (Аль-Іскандарыя) — горад у Егіпце, на ўзбярэжжы Міжземнага мора, у зах. частцы дэльты Ніла. Засн. ў 332—331 да н. э. *Аляксандрам Македонскім.* Буйны прамысл., гандл., транспартны і культ. цэнтр Стараж. свету. У 305—30 да н. э. сталіца дзяржавы Пталамеяў, цэнтр эліністычнай культуры, адзін з цэнтраў ранняга хрысціянства. Упамінаецца С. у прадмовах да кн. «Ісус Сірахаў», «Прамудрасць божая» і да ўсёй «Бібліі».

**Аравія** — рымская правінцыя ў Зах. Азіі; утворана ў выніку заваявання рымлянамі тэр. Набацейскага царства. Існавала ў 2—3 ст. н. э. Упамінаецца С. у прадмовах да кн. «Ісус Навін» і «Другі закон».

**Асірыя,** Асірыйскае царства — стараж. дзяржава ў Паўн. Двурэччы (на тэр. сучаснага Ірака). У 14—9 ст. да н. э. неаднаразова падпарадкоўвала ўсю Паўн. Месапатамію і прылеглыя раёны. Перыяд найб. магутнасці Асірыі — 2-я пал. 8—1-я пал. 7 ст. да н. э. У 605 да н. э. знішчана кааліцыяй Мідыі і Вавілоніі. Упамінаецца С. у прадмовах да кн. «Юдзіф» і да ўсёй «Бібліі».

**Вавілонскае царства,** Вавілонія — стараж. рабаўладальніцкая дзяржава на Пд Месапатаміі (сучасная тэр. Ірака). Існавала з пач. 2-га тысячагоддзя да 539 да н. э. Заваявана персамі. С. ўпамінае Вавілонскае царства ў прадмовах да кн. «Прарок Даніїл», «Плач Ераміі», «Суддзі», «Юдзіф», «Эсфір» і да 4-й кн. «Царствы».

**Іардан** — рака ва Усх. Міжземнамор'і, упадае ў Мёртвае мора. Праслаўляецца ў легендах Старога і Новага запаветаў. С. неаднаразова ўпамінае Іардан у прадмовах да ўсёй «Бібліі», кн. «Ісус Сірахаў», «Лічбы», «Прарок Даніїл», «Ісус Навін», на тытульным лісце апошняй змешчана гравюра *«Пераход цераз Іардан».*

**Ідумея,** Эдом — стараж. горная краіна ў Пярэдняй Азіі, на Пд ад Палесціны, паміж Мёртвым морам і залівам Акаба. Была ў залежнасці ад ізраільскіх плямён (11—9 ст. да н. э.), Асірыі (9—7 ст. да н. э.), Вавілоніі (7—6 ст. да н. э.), Набацейскага царства. Упамінаецца С. у прадмове да кн. «Ісус Навін».

**Іерусалім** — горад у Палесціне, на З ад Мёртвага мора. Рэліг. цэнтр («святы горад») хрысціян, іудзеяў і мусульман. Першыя ўпамінанні пра яго адносяцца да сярэдзіны 2-га тысячагоддзя да н. э. Крэпасць хананеяў на гандл. і ваен. шляхах паміж Егіптам і Месапатаміяй. Пазней у складзе розных дзяржаў: Іудзейскага царства, Ст. Рыма, Візантыі, Араб. халіфата і інш. На пач. 16 ст. пад уладай Асманскай імперыі. С. шматразова ўпамінае горад у прадмовах да кн. «Ісус Навін», «Юдзіф», «Прарок Даніїл», «Эсфір», «Плач Ераміі», «Руф», 2-й і 4-й кн. «Царствы» і да ўсёй «Бібліі»; у пасляслоўях да кн. «Еклесіяст», «Прытчы Саламона», «Песня песням», а таксама ў прадмовах да «Апостала» і апостальскіх пасланняў св. Якава, св. Паўла. Сярод ілюстрацый да кніг С. ёсць гравюры, прысвечаныя Іерусаліму: *«Будаўніцтва храма ў Іерусаліме», «Асада Іерусаліма», «Плач Ераміі».*

**Іерыхон** — горад у 7—2 ст. да н. э. ў Палесціне (на тэр. сучаснай Іарданіі). Паводле біблейскага міфа сцены Іерыхона абваліліся ад гукаў труб заваёўнікаў [адсюль выраз «іерыхонскія (ерыхонскія) трубы»]. У прадмовах да ўсёй «Бібліі», кн. «Ісус Навін» С. апісвае заваяванне Іерыхона, а таксама ўпамінае яго ў прадмове да кн. «Лічбы».

**Іудзея,** Іудзейскае царства — раннерабаўладальніцкая дзяржава ў Паўд. Палесціне. Існавала каля 928—586 да н. э.

Сталіца г. Іерусалім. С. ўпамінае Іудзею ў прадмовах да кн. «Ісус Навін», «Царствы», «Прытчы Саламона» і да ўсёй «Бібліі».
**Мідыя** — гіст. вобласць у паўн.-зах. ч. Іранскага нагор'я. У 670-я г.— сярэдзіне 6 ст. да н. э.— царства са сталіцай у г. Экбатан. Упамінаецца С. у прадмовах да кн. «Юдзіф» і «Прарок Данііл».
**Нікея** (сучасная назва Ізнік) — стараж. горад у Малой Азіі. Засн. ў канцы 4 ст. да н. э., называўся Антыгоніяй. Пазней перайменаваны ў Нікею. У 1 ст. да н. э. перайшоў да Рыма. З канца 4 ст. да н. э. да пач. 13 ст.— буйны гандлёва-рамесны і культ. цэнтр Візантыі. У 325 і 787 у Нікеі праходзілі Усяленскія саборы. Сабор, скліканы ў 325 рымскім імператарам Канстанцінам І, выпрацаваў «Сімвал веры», у якім сфармулявана веравучэнне артадаксальнай хрысц. царквы. У сувязі з дзейнасцю Усяленскага сабору С. ўпамінае Нікею ў прадмове да кн. «Юдзіф».
**Ніневія** — найстараж. горад Асірыі. З сярэдзіны 5-га тысячагоддзя да н. э. пасяленне. У канцы 8—7 ст. да н. э. сталіца Асірыі. Былі пабудаваны царскія палаты са скульптурамі крылатых быкоў і львоў, а таксама са шматлікімі рэльефамі, якія адлюстроўвалі сцэны ваен. паходаў, буд-ва і палявання. У 7 ст. створана царская б-ка, дзе захоўвалася больш за 30 тыс. клінапісных таблічак. У 612 да н. э. разбурана войскамі Вавілоніі і Мідыі. С. пісаў пра Ніневію ў прадмове да кн. «Юдзіф».
**Рымскае царства** — стараж. рабаўладальніцкая дзяржава на Апенінскім паўвостраве, якая існавала з 754/753 да 510/509 да н. э. Упамінаецца С. у прадмове да кн. «Прарок Данііл».
**Самарыя** (суч. Себастыя) — стараж. горад у Палесціне, сталіца Ізраільскага царства. Засн. каля 880 да н. э. Часам Самарыяй называюць усё Ізраільскае царства (да 722 да н. э.). Упамінаецца С. у прадмове да кн. «Ісус Навін». У прадмовах да 1-й, 3-й, 4-й кн. «Царствы» і ў агульным пасляслоўі да кн. «Царствы» С. пісаў пра цароў Самарыі.
**Сінай,** Сінайскі паўвостраў на З Азіі, паміж залівамі Чырвонага мора Суэцкім і Акаба. Упамінаецца С. у прадмовах да кн. «Выхад», «Другі закон», «Ісус Сірахаў», «Лічбы», «Псалтыр» 1522.
**Хеўрон,** Хеброн, сучасны Эль-Халіль — горад у Іарданіі. Засн. каля 1700 да н. э. Упамінаецца С. у прадмовах да 2-й кн. «Царствы» і да кн. «Быццё».

*У. У. Багамольнікаў.*

**«Генеалагічнае дрэва Ісуса».** Гравюра з «Псалтыра» Ф. Скарыны. 1517.



**«ГЕНА́ДЗІЕЎСКАЯ БІ́БЛІЯ»,** першы ў Расіі поўны тэкст Бібліі. Складзена ў 1499 у Ноўгарадзе па ініцыятыве наўгародскага архіепіскапа *Генадзія* гуртком царк. публіцыстаў і кніжнікаў для барацьбы супраць наўгародска-маскоўскай ерасі. Зберагаецца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве.

У «Г. б.» ўключаны кірыла-мефодзіеўскія пераклады Бібліі, частка перакладзена з *Вульгаты* (кн. «Эсфір»). Напісана царк.-слав. мовай паўуставам некалькімі почыркамі на 1007 арк. Фаліяцыя ў 2 падлікі: 1—16, 1—989. На адвароце арк. 2-га калафон. На арк. 1-м другога падліку прамавугольная застаўка: выява чалавека (магчыма, Майсея), што сядзіць за сталом і піша кнігу, у абрамленні расліннага арнаменту. Тут жа вялікі ініцыял «І», складзены з пераплеценых галінак сіняга, зялёнага і ружовага колераў. Вядома некалькі позніх спісаў «Г. б.». Адзін з іх быў пакладзены ў аснову *«Астрожскай біблії»* 1581 Івана Фёдарава.

Шэраг кніг і раздзелаў «Бібліі» С. («Псалтыр», першыя раздзелы кн. «Быццё», кн. «Іоў» і інш.) блізкія да царк.-слав. тэксту. Гэта сведчыць, што С. мог карыстацца царк.-слав. перакладамі Бібліі, магчыма, і адным са спісаў «Г. б.». Залежнасць перакладчыцкай дзейнасці С. ад дзейнасці наўгародскага гуртка кніжнікаў прасачыла Т. М. *Капрэева* па спісах перакладаў С., якія не дайшлі ў друкаваных выданнях. Яна прыйшла да вываду, што С. побач з тэкстам чэшскай Бібліі 1506 карыстаўся нейкім спісам наўгародскага перакладу, які выконваў ролю падрадкоўніка (напр., ДПБ., Паг., № 85). Але С. не ішоў слепа за тэкстам, а ўдакладняў, дапаўняў пераклад, папраўляў фразу, ажыўляў яе новымі эпітэтамі, дзе трэба, перастаўляў словы. Ён, як лічыць Капрэева, пайшоў далей за наўгародскіх кніжнікаў і ў тым, што яму ўдалося, хоць і не поўнасцю, давесці пераклад да друкарскага станка.

*Літ.:* 160; Горский А. В., Невоструев К. И. Описание славянских рукописей Московской синодальной библиотеки. Отд. 1. М., 1855. С. 1—161; Евсеев И. Е. ...Геннадиевская библия 1499 года. М., 1914; Левочкин И. В. Кодикологическая характеристика Геннадиевской библии // Федоровские чтения, 1981. М., 1985.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**ГЕНА́ДЗІЙ** (каля 1410—1505), рускі царк. і паліт. дзеяч. У 1470—80 архімандрыт Чудава манастыра ў Маскве. З 1484 наўгародскі архіепіскап. Праводзіў у Наўгародскай зямлі палітыку ўзмацнення велікакняжацкай улады. Па ініцыятыве Г. было арганізавана жорсткае праследаванне прадстаўнікоў ерасі. Для барацьбы з ерэтыкамі Г. стварыў у Ноўгарадзе літаратурны гурток, які займаўся і перакладчыцкай дзейнасцю, склаў першы поўны кодэкс кніг слав. Бібліі. У працэсе працы над ёй былі выкарыстаны стараж.-рус. пераклады Бібліі. Частка кніг, якіх не было ў слав. перакладзе, перакладзена з лац. і стараж.-яўр. арыгінала. Вядомы самы старажытны спіс *«Генадзіеўскай біблії»* (1499).

*Літ.:* Геннадий // Русский биографический словарь. М., 1914. Т. Гааг — Гербель; Казакова Н. А., Лурье Я. С. Антифео-

дальные еретические движения на Руси XIV — начала XVI века. М.; Л., 1955.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**ГЕ́НДЭРСАН** (Henderson) Эбеназар (1784—1858), шатландскі філосаф-багаслоў. Пераклаў на шатландскую мову Новы запавет. Па справах даследавання і друкавання біблейскай л-ры выязджаў у Індыю, Данію, Швецыю, Расію. У кн. «Біблейскія даследаванні і падарожжы ў Расію...» (Лондан, 1826) разгледзеў дзейнасць С. Падтрымаў гіпотэзу І. Добраўскага аб удзеле С. ў дыпламат. місіі *Жыгімонта I* у Вену (1515). На падставе прадмоў бел. першадрукара выказаў меркаванне, што С. пераклаў кнігі ўсіх пракокаў і меў намер перакласці і надрукаваць усю Біблію. Дачаснае вяртанне С. з Прагі тлумачыў паліт. разыходжаннямі, што ўзніклі паміж кіруючымі дварамі Багеміі і Польшчы. Лічыў таксама, што С. адправіў у Літву і Беларусь усе надрукаваныя ў Празе экземпляры сваіх кніг, паколькі ніводную з іх адшукаць у Чэхіі не ўдалося. Даў апісанне «Бібліі» і «Апостала» С., змясціў факсіміле тытульнай старонкі «Бібліі». Правёў параўнальна-тэксталагічны аналіз фрагментаў скарынінскага перакладу і лац., царк.-славян. і грэч. біблейскіх тэкстаў. Выказаў думку, што асновай для С. была *Вульгата*, хаця перакладчык не заўсёды прытрымліваўся гэтай крыніцы, у выніку зроблены ім на старажытнабел. мову пераклад атрымаўся самастойны. Падкрэсліўшы, што на гэтай мове «да сённяшняга дня працягваюць размаўляць простыя людзі, што насяляюць правінцыю, вядомую пад назвай Белая Русь», у інш. месцы Г. памылкова называе бел. мову польска-рускім дыялектам. Звярнуў увагу на тое, што ў прадмове да «Апостала» С. як доктар-лекар зазначае такі ж самы прафесійны характар дзейнасці апостала Лукі з мэтай падмацаваць сваё права на ўмяшанне ў тую вобласць, якая ў яго часы лічылася выключна прывілеяй дзеячаў царквы. Праца Г.— адна з першых скарыназнаўчых публікацый у англамоўным рэгіёне.

*Літ.:* Мальдзіс А. Англійскі дзённік // Полымя. 1985. № 12. *А. К. Каўко.*

**«ГЕНЕАЛАГІ́ЧНАЕ ДРЭ́ВА ІСУ́СА»,** «Сій есть корень Иесеовъ. С него же изыде царь Давыдъ и Соломонъ и иные цари Израілевы, и господь наш Ісус Христос», гравюра на 1-м арк. старазапаветнай кананічнай кн. *«Псалтыр» 1517*, выдадзенай С. у Празе.

Большасць псалмоў прыпісвалася другому цару старажытна-ізраільскай дзяржавы Давіду, да роду якога, паводле новазапаветнага пісання, належаў Ісус Хрыстос у сваім зямным жыцці. Змешчаныя ў «Псалтыры» песні і малітвы С. лічыў «от царя Давыда и от иных божиих певцев сложеными» (гл. с. 19) і таму праілюстраваў сваю кнігу сімвалічным радаслоўным дрэвам царскага роду заснавальніка хрысціянства. На гравюры (памер 130×110 мм) намаляваны Іясей, які ляжыць ля вады. З яго грудзей вырасла вялікае дрэва, у кароне якога — Давід, Саламон і інш. цары, а на верхавіне — маці божая з Хрыстом-дзіцем на руках.



Сігізмунд Герберштэйн. Гравюра 16 ст.

Храналагічна — гэта самая ранняя ілюстрацыя ў «Бібліі» С. ў бел. і ўсх.-слав. кнігадрукаванні ўвогуле. Кампазіцыя пазбаўлена прасторы, двухмернае выяўленне дадзена ў гравюры па плоскасці. Галіны, што нагадваюць акант з паўфігурнымі выявамі святых, запаўняюць усю плоскасць аркуша, утвараюць арнаментальна-дэкар. цэлае. Выканана гравюра некалькі грубавата, лініі ў ёй даволі схематычныя, але сакавітыя і каларытныя. Стылістычна яны добра звязаны з подпісам пад гравюрай. Арнаментальнасць вобразна-пластычнай будовы гравюры прыкметна адрознівае яе ад інш. ілюстрацый «Бібліі». Гравюра «Г. д. І.» знаходзіцца ля вытокаў генеалагічных дрэў, якія пазней, у эпоху барока, атрымалі пэўнае развіццё ў айч. графіцы (вядомы радаслоўныя дрэвы Радзівілаў, Палубінскага і інш.). М. М. Шчакаціхін заўважыў, што гравюра «Г. д. І.» блізкая да аналагічных гравюр з «Хронікі» (1493) Г. Шэдэля і чэшскай Бібліі 1506. Аднак у нам. гравюры кампазіцыйна дамінуюць выявы святых с подпісамі, а вінаградная лаза толькі намечана. Генеалогія Хрыста ў «Хроніцы» ў адрозненне ад гравюры ў «Псалтыры» ідзе ад Адама і Евы. У скарынінскай гравюры фігуры і расліннае асяроддзе «ўроўнены ў правах». У кампазіцыйных адносінах яна адрозніваецца большай сіметрыяй у размяшчэнні святых на аркушы. Розная і манера выканання: гравюра ў «Псалтыры» выканана тоўстымі, прамымі або некалькі закругленымі штрыхамі; нам.— тонкімі, малюнак фігур больш пераканаўчы, пластычны, аб'ём і форма мадэліруюцца кароткімі, упэўнена награвіраванымі штрыхамі. Яшчэ больш адрозніваецца скарынінская гравюра ад аналагічнай гравюры ў чэшскай Бібліі 1506, дзе генеалагічнае дрэва без галін, а трактоўка фігур і тыпаў набліжаецца да лінеарнага стылю венецыянскай школы гравюры. Шчакаціхін аднесіў «Г. д. І.» з «Псалтыра» ў адну стылістычную групу з некат. гравюрамі з віленскай «Малой падарожнай кніжкі» (1522) С. Больш позніх віленскія гравюры істотна адрозніваюцца ад пражскіх, іх, безумоўна, выканалі інш. (відаць, мясцовыя) майстры.

*Літ.:* 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**ГЕРАНЕ́НСКІ ЗА́МАК,** помнік палацава-замкавай архітэктуры канца 15 — пач. 16 ст. Пабудаваны каля в. Геранёны (Іўеўскі р-н).

Стаяў на штучнай выспе, быў абкружаны абарончым валам (выш. 9—10 м, шыр. ў аснове 15 м), умацаваным з унутр. боку мураванай сцяной (таўшчыня 1,25 м, выш. 4,5 м) і 2 равамі (вонкавы даўж. 700 м) з вадою. Уваход у замак праз пад'ёмны мост. Мураваныя сцены (таўшчыня 2 м) утваралі квадратнае ў плане збудаванне (27×27 м) на высокім падмурку з цыліндрычнымі вежамі на вуглах (дыяметр 8 м). Сцены і вежы з каменю на вапнавым растворы, звонку — цагляная абліцоўка з гатычнай муроўкай. Каля паўд. сцяны замка размяшчаўся 2-павярховы мураваны палац, пабудаваны ў канцы 16 ст. на месцы драўлянага. Усе 12 акон палаца выходзілі на дзядзінец. Шатровыя дахі вежаў, дахі над бакавым ходам сцен і ў палацы былі чарапічныя. Асталіся руіны.

**ГЕРБЕРШТЭ́ЙН** (Herberstein) Сігізмунд (1486—1566), нямецкі дыпламат, падарожнік. Узначальваў пасольства імператара Максіміляна I і эрцгерцага Фердынанда ў 1517 і 1526 у Маскве. У мэтах стварэння кааліцыі дзяржаў для барацьбы супраць Турцыі беспаспяхова дамагаўся ў 1517 заключэння міру паміж Вял. кн. Літоўскім і Рускай дзяржавай. Неаднаразова праязджаў па тэр. Беларусі (Барысаў, Брэст, Віцебск, Гродна, Друцк, Дуброўна, Крэва, Мінск, Орша, Полацк і інш.). У 1549 у Вене быў выдадзены на лац. мове яго твор «Запіскі аб маскоўскіх справах» (дапоўненае выданне, Базель, 1556; уласны пер. Г. на ням. мову, Вена, 1557; на рус. мову А. І. Малеіна. Спб., 1908). У творы Г. выкарыстаў розныя пісьмовыя зах.-еўрап. і ўсх.-слав. крыніцы, матэрыялы ўласных гутарак і назіранняў. Ёсць звесткі гіст.-этнагр., паліт. і культ. зместу пра Беларусь і Літву часу С.: апісаны заняткі (земляробства, жывёлагадоўля, паляванне, некат. промыслы), побыт насельніцтва, рэліг. вераванні, абрады, гандл. сувязі, а таксама буйныя рэкі, крэпасці, узаемаадносіны Вял. кн. Літоўскага з інш. дзяржавамі. Пры апісанні Вільні Г. адзначыў неаднолькавы этн. склад гар. насельніцтва, значную колькасць каталіцкіх і асабліва «рускіх» (праваслаўных) храмаў, крапасныя ўмацаванні. Нягледзячы на недакладнасць і паліт. тэндэнцыйнасць, кніга Г.— каштоўная гіст. крыніца, карысталася вял. папулярнасцю ў зах.-еўрап. гістарыяграфіі 16—

17 ст., неаднаразова перавыдавалася. На падставе «Запісак...» створаны шматлікія еўрап. карты Расіі і Вял. кн. Літоўскага. У Вільні Г. мог сустрэцца з бел. першадрукаром, калі наведваў віленскага біскупа *Яна*, асабістым сакратаром якога ў той час быў С. Г. апісаў таксама гандл. і пасольскі шлях паміж Вільняй і Полацкам, якім неаднаразова карыстаўся С., але пра сам Полацк пакінуў мала звестак.

*Літ.:* Замысловский Е. Герберштейн и его историко-географические известия о России. Спб., 1884; Грыцкевіч В. П., Мальдзіс А. І. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980. *Г. Я. Галенчанка.*

**ГЕРМАГЕ́Н** Ціханеня Яцковіч, святар. У 1593—94, знаходзячыся ў Цеслугове, перапісаў «Апостал» С. Некат. яго старонкі аздоблены арнаментам, які нагадвае вышыўку. Рукапіс у 1895 выяўлены краязнаўцам Г. І. Ісаевічам у с. Верба (Дубнаўскі р-н Ровенскай вобл. УССР) і перададзены ў Валынскае епархіяльнае сховішча старажытнасцей (г. Жытомір), зберагаецца ў *Харкаўскай навуковай бібліятэцы* імя У. Г. Караленкі (шыфр рукапісу — 819172).

*Літ.:* 135. *Я. Дз. Ісаевіч.*

**ГЕРМЕНЕ́ЎТЫКА** (грэч. hermēneutikē ад hermēnéuō растлумачваю), экзегетыка (грэч. exēgētikē ад exēgéomai вытлумачваю), мастацтва і тэорыя вытлумачэння (разумення) тэкстаў. Зарадзілася адначасова з паяўленнем пісьменнасці, у класавым грамадстве становіцца відам спецыялізаванай дзейнасці. У залежнасці ад прадмета і метадаў інтэрпрэтацыі адрозніваюць Г. філас., філал., тэалагічную, юрыд. і інш.

У эпоху антычнасці культывавалася мастацтва тлумачэння міфалаг. сімволікі, распрацаваны прыёмы граматычнай інтэрпрэтацыі твораў стараж. паэтаў. Сярэдневечча ў цэнтры духоўнага развіцця паставіла праблему разумення і вытлумачэння тэксту «свяшчэнных кніг», а таксама твораў настаўнікаў і «айцоў» царквы. Распрацаваныя схаластыкай тэорыя і метады інтэрпрэтацыі кананічных кніг ляглі ў аснову тэалагічнай Г. каталіцызму. Прынцыпова новы змест Г. атрымала ў эпоху *Адраджэння*. Бурж. рэфарматары хрысціянства абверглі манаполію царквы на тлумачэнне Бібліі, пераклад якой на нац. мовы адкрыў перад кожным чалавекам магчымасць самастойнага разумення асноў веравучэння. Важны ўклад у духоўнае разняволенне чалавечай думкі ўнеслі рэнесансавыя гуманісты, якія распрацавалі прынцыпы гісторыка-крытычнага філал. аналізу пісьмовых крыніц старажытнасці (Іаган Рэйхлін, Эразм Ратэрдамскі і інш.). Філал. Г. гуманізму была накіравана не толькі на ачышчэнне тэксту біблейскіх кніг ад схаласт. скажэнняў, але і на выяўленне за рэліг. сімволікай зямнога, практычна карыснага сэнсу, па сутнасці свецкіх ведаў, прызначаных развіваць нар. свядомасць. Гэта ставіла гуманіст. Г. ў апазіцыю не толькі папскай царкве, але і пратэстанцкай артадоксіі (як і ўсякай інш. рэліг. дагматыцы).

Прагрэсіўныя рысы рэнесансава-гуманіст. Г. ярка выявіліся ў творчасці С. Скарынінская «Біблія», якая дэмакратызавала Свяшчэннае пісанне, рабіла яго даступным «людем посполитым», адстойвала прынцып асабістых адносін чалавека да веры, адкрывала шлях да



С. Герус. Францыск Скарына. 1967.

індывідуальнага разумення і вытлумачэння рэальнага сэнсу «божых запаведзей». У сваіх каментарыях С. імкнуўся падкрэсліць, вылучыць тыя аспекты біблейскіх тэкстаў, якія закраналі актуальныя грамадскія і маральна-філас. праблемы свайго часу. Герменеўтычнае мастацтва вытлумачэння служыць С. не для высвятлення эзатэрычных раздзелаў Бібліі, якія «суть трудны ко зразумению» і «над розум людскый» (гл. с. 105), а для выяўлення звестак практычна карысных і даступных разуменню чалавека. Гэта звязана са скарынінскім поглядам на Біблію як крыніцу ведаў, якая абуджае інтэлектуальныя сілы чалавека, раскрывае каштоўнасць прыроднага розуму, у якой «научение седми наук вызволеных достаточное» (гл. с. 10). Нават калі пры інтэрпрэтацыі біблейскіх тэкстаў С. звяртаўся да поглядаў вядомых багасловаў (патрыстаў, «айцоў» царквы), ён іх па сутнасці ўраўноўваў з меркаваннем любога разумнага чалавека, паколькі «тым же обычаем і нынѣ единый кажный человек, имея розум, познаетъ» (гл. с. 136). Рэнесансава-гуманіст. Г., якую С. глыбока асэнсоўваў і бліскуча ўжываў у сваёй творчасці, з'яўляецца важным элементам яго светапогляду (гл. *Светапогляд Ф. Скарыны*).

*Літ.:* Герменевтика: история и современность. М., 1985. *Г. У. Грушавы.*

**ГЕ́РУС** Сямён Пятровіч (н. 1925), беларускі сав. графік. Аўтар кампазіцыйнага партрэта «Францыск Скарына» (вугаль; 1954; 60×45 см). С. паказаны побач з друкаром у друкарні з адбіткам кніжнага аркуша ў руцэ. Мастак перадаў атмасферу эпохі, стварыў жывы і непаўторны вобраз С., у якім спалучаюцца глыбокі розум, энергія і цеплыня душы. Выканаў таксама партрэт «Францішак Скарына» (вугаль; 1967; 80×60 см; Дзярж. маст. музей БССР). *В. Я. Буйвал.*

**ГІМНАГРАФІ́ЧНЫЯ ТВО́РЫ Ф. СКАРЫ́НЫ,** паэтычныя тэксты, напісаныя ў форме традыц. царк. песнапенняў. Тэксты гэтых твораў дайшлі ў складзе *«Акафісніка»* «Малой падарожнай кніжкі» і ў спісах 16—19 ст., якія ўзыходзяць да яго ж. Бясспрэчнае аўтарства С. адносна «Акафіста Іаану Прадцечы» і «Акафіста Ісусу». Яно ўстанаўліваецца на аснове *акравершаў* з імем С., якія чытаюцца па пачатковых літарах «вершаў», кандакоў і ікосаў у гэтых акафістах. С.— роданачальнік жанру акафіста ва ўсх.-слав. гімнаграфіі, які пашырыўся ў бел., рус. і ўкр. л-рах 17—18 ст. Зварот С. да складанай паэтычнай формы акафіста сведчыць пра добрае веданне ім помнікаў візант. і слав. гімнаграфіі, іх паэтыкі і стылістыкі. Прычыны стварэння С. названых акафістаў (тэксты астатніх ён запазычыў з сучаснай яму рукапіснай традыцыі) застаюцца невысветленымі. Пры іх стварэнні С. арыентаваўся на ўстойлівую жанравую схему, што склалася ў візант. гімнаграфіі яшчэ ў 6 ст. («Акафіст багародзіцы» Рамана Салодкапеўца),— 12 пар чаргаваных кандакоў і ікосаў. Адной з крыніц «Акафіста Ісусу», відаць, паслужыў для С. «Акафіст Ісусу...», які прыпісваюць Феакцісту Студыту (9 ст.) і вядомы ва ўсх.-слав. спісах з 15 ст. Індывідуальныя асаблівасці акафістаў С.: 5 строф (3 «стиха» з нумарам, «слава», «и ныне»), што папярэднічаюць 1-му кандаку; неаддзельнасць гэтых «вершаў» ад тэксту ўласна акафістаў падкрэслена ў С. тым, што з іх пачынаецца акраверш з імем аўтара. У візант. гімнаграф. традыцыі, якая ідзе ад «Акафіста багародзіцы» (6 ст.), помнікі гэтага жанру мелі азбучны акраверш з 24 літар грэч. алфавіта (падобны акраверш, часткова трансфармаваны ў адпаведнасці з асаблівасцямі кірыліцы, захаваны ў слав. перакладзе «Акафіста святому Пятру і Паўлу», які ёсць і ў «Малой падарожнай кніжцы»). У слав. перакладах з грэч. мовы і ў арыгінальных акафістах 17—18 ст. пачаткі кандакоў і ікосаў ідуць за тэкстам адпаведных песнапенняў «Акафіста багародзіцы», у перакладзе якога азбучны акраверш не быў захаваны. Кожны з ікосаў «Акафіста Ісусу» завяршаецца асобым воклічам, тады як у візант. традыцыі (у «Акафісце Іаану Прадцечы» С. ідзе за ёю) усе ікосы акафіста маюць аднолькавы заключны вокліч. Індывідуальныя асаблівасці акафістаў С. не адлюстраваліся ў пазнейшай слав. гімнаграфіі. Спісы акафістаў С. 16—19 ст. сведчаць, што гэтыя асаблівасці ўспрымаліся часам чытачамі і рэдактарамі як адхіленне ад агульнапрынятай нормы. Акрамя гэтых двух акафістаў, С. ў «Малой падарожнай кніжцы», магчыма, напісаў таксама пяціградкоўі, што папярэднічаюць тэксту астатніх 5 акафістаў, і малітвы «по акафисту». «Вершы» гэтыя ў адрозненне ад тэксту саміх акафістаў (вядомых ва ўсх.-слав. спісах з 15 ст.), відаць, з'яўляюцца аўтарскім дадаткам С. да больш ранніх тэкстаў з мэтай надання ім структуры, ідэнтычнай створаным ім самім гімнам. Пытанне пра рэдагаванне С. тэксту саміх акафістаў

(за выключэннем лексічнай праўкі) практычна не распрацавана.Назіранні П. У. Уладзімірава і А. М. Папова засн. на супастаўленні тэкстаў «Малой падарожнай кніжкі» з бел. і ўкр. выданнямі акафістаў 17 і 18 ст. і не пацвярджаюцца дaскарынінскай і сучаснай С. ўсх.-слав. рукапіснай традыцыяй. Мова гімнаграф. твораў, якія ўваходзяць у склад «Малой падарожнай кніжкі» (створаных С. і тых, што існавалі раней), уніфікавана С. да такой ступені, што адрозненне іх паходжання не заўважаецца. Слабая вывучанасць гімнаграф. спадчыны С. (у скарыназнаўчай л-ры да апошняга часу адсутнічала пастаноўка гэтага пытання) — вынік нераспрацаванасці праблемы ўсх.-слав. гімнаграфіі цалкам. У 1888 Уладзіміраў паставіў пытанне толькі пра магчымасць ажыццяўлення С. новых перакладаў гімнаграф. твораў з грэч. мовы і выразаў яго адмоўна. У 1903 Папоў выявіў індывідуальныя асаблівасці «Акафіста Іаану Прадцечы» і «Акафіста Ісусу» ў складзе «Малой падарожнай кніжкі», але разглядаў іх толькі як тэксты, выдадзеныя С. Аўтарства С. адносна тэксту гэтых двух акафістаў было ўстаноўлена А. А. Турылавым (1979). Выказанае ім у 1982 меркаванне аб прыналежнасці С. таксама «Акафіста апосталам Пятру і Паўлу» далейшымі даследаваннямі не пацвердзілася.

Найменш вывучаным аспектам праблемы культ. спадчыны С. з'яўляецца рукапісная традыцыя яго гімнаграф. твораў. Гэта тлумачыцца агульным станам справы ў галіне вывучэння ўсх.-слав. гімнаграфіі і яе рукапіснай традыцыі. У апісаннях рукапісаў гімнаграф. зборнікі не маюць паартыкульнага роспісу, што ўскладняе выяўленне спісаў твораў С., якія не маюць у загалоўку ўказанняў на аўтарства. Усе знойдзеныя спісы гімнаграф. твораў С. складаюць толькі нязначную частку іх рэальна вядомай колькасці, але і яны сведчаць пра шырокае распаўсюджанне твораў С. ў рукапіснай традыцыі ўсх. і паўд. славян. На сёння вядома 12 рукапісаў 16—19 ст., у складзе якіх гімнаграф. творы С., і 2 выданні (Кіеў, 1677; М., 1890), што ўзыходзяць да рукапіснай традыцыі. Старэйшы дакладна датаваны спіс гімнаграф. твораў С. (Яраслаўскі дзярж. гісторыка-архіт. музей-запаведнік, № 15230) зроблены ў 1598, відаць, у Вільні асобай, звязанай з друкарняй Мамонічаў. Большасць дайшоўшых да нас рукапісаў з гімнаграф. твораў С.— велікарус. паходжання. Значная частка іх бытаваннем і паходжаннем звязана з буйнымі кнігапіснымі цэнтрамі 16—17 ст. Старэйшы дакладна датаваны спіс (ДБЛ, ф. 98, збор Ягорава, № 1834) «Акафіста Іаану Прадцечы» ўваходзіць у зборнік, перапісаны ў 1604—05 «кніжным майстрам Багданам Падвінцам з Завостраўскай воласці», відаць, для Салавецкага манастыра. 17 ст. датуецца і салавецкі спіс «Акафіста славутаму імені Ісуса Хрыста» (ДПБ, Салавецкі збор, № 916/1026). Тры спісы таго ж помніка (ДБЛ, ф. 113, збор Іосіфа-Валакаламскага манастыра, № 295; ДГМ, Епархіяльны збор, № 239/322 і 275/367) — усе 16 ст., паходзяць са збору падмаскоўнага Іосіфа-Валакаламскага манастыра, а яшчэ адзін спіс 17 ст.— з б-кі Кірыла-Белазерскага манастыра (ДПБ, Кірыла-Белазерскі збор, № 481/738). Яшчэ 2 спісы 16—17 ст. (ДГМ, Сінадальны збор, № 774 і 934) належалі ў 17 ст. адпаведна дзячку Златавустаўскага манастыра (відаць, у Маскве) і бібліяфілу і спраўшчыку Друкарскага двара Нікіфару Сімяонаву, Віленскі спіс 1598 не пазней сярэдзіны 17 ст. таксама апынуўся ў Расіі: ён належаў у гэты час пастрыжаніку Барысаглебскага манастыра пад Растовам Аўраамію і быў укладзены ім у 1642 у яраслаўскі Афанасьеўскі манастыр. Укр. спісы гімнаграф. твораў С. невядомы, але на іх існаванне ўказвае асобая рэдакцыя «Акафіста Іаану Прадцечы» ў выданні «Пречестныи акафисты» (Кіеў, 1677), выяўленая ў 1903 Паповым. Гімнаграф. творы С. рана сталі вядомымі ў паўд. славян. Вядомы сербскі спіс «Акафіста славутаму імені Ісуса Хрыста» (датуецца апошняй чвэрцю 16 ст.; ДПБ, збор М. П. Пагодзіна, № 337), які ў 17 ст. знаходзіўся ў Старой Сербіі і паўд. Далмацыі, і 2 спісы 17 ст. (ДПБ, збор Пагодзіна, № 348). Асаблівасці лексікі сербскіх спісаў гэтага акафіста разам з адсутнасцю паўд.-слав. рукапіснай традыцыі інш. твораў С. дазваляюць меркаваць, што гэты тэкст стаў вядомы ў Сербіі праз усх.-слав. спісы (магчыма, праз Афон, Венгрыю або румынскія землі). Працяглaсць існавання рукапіснай традыцыі гімнаграф. твораў С. (аж да канца 19 ст.) выклікана тым, што помнікі ўвайшлі ў кола стараверскай пісьменнасці. Вядомы стараверскі спіс «Акафіста славутаму імені Ісуса Хрыста», які датуецца 1-й трэццю 19 ст. (ДБЛ, ф. 98, збор Ягорава, № 1834, дадатак да рукапісу 1604—05). Каля 1890 гэты ж акафіст быў выдадзены гектаграфічным спосабам у складзе богаслужэбнага зборніка (ДБЛ, ф. 739, Яраслаўскі збор, № 68), падрыхтаванага да выдання іераманахам Арсеніем. Гімнаграф. творы С. адлюстраваліся ў рукапіснай традыцыі не ў аднолькавай ступені. Найб. колькасць спісаў прыпадае на «Акафіст Ісусу», магчыма, з-за навізны тэмы (Папоў адзначаў у 1903 нават перавагу гэтага акафіста С. ў рукапіснай традыцыі над «Акафістам славутаму Ісусу» Феакціста Студыта). «Акафіст Іаану Прадцечы» пашыраны значна менш — відаць, тут адыграла ролю існаванне ў рукапіснай традыцыі двух інш. акафістаў Прадцечы (прыпісваюцца ў рукапісах Ісідару, патрыярху Канстанцінопальскаму), вядомых ва ўсх.-слав. спісах з 15 ст. Менш пашыраны ў рукапіснай традыцыі «вершы» перад акафістамі і малітвы «по акафисте», магчыма, таксама напісаныя С. Акрамя спіса 1598 (дзе цалкам перапісаны акафіснік «Малой падарожнай кніжкі»), яны прадстаўлены як самастойны жанр у зб. № 774 Сінадальнага збора, дзе змешчаны асобна ад тэксту акафістаў як асобныя раздзелы. Пашырэнню гімнаграф. твораў С. ў рукапіснай традыцыі (асабліва рускай) садзейнічала адсутнасць упамінання аб аўтары ў загалоўках тэкстаў. Пра існаванне акравершаў перапісчыкі не здагадваліся, але нягледзячы на гэта ў большасці спісаў яны добра захаваліся.

У рукапіснай традыцыі акафісты С. зазналі шэраг змен (ступень і характар іх у розных спісах неаднолькавыя). Перш за ўсё змены закранулі мову помнікаў, якая ў лексіцы і формах больш блізкая да царк.-слав. нормаў, чым у друкаваным выданні «Малой падарожнай кніжкі». Лексічныя варыянты прыведзены на палях ужо перапісчыкам віленскага зборніка 1598, у інш. спісах змены ўносяцца ў тэкст (асабліва паказальныя ў гэтых адносінах сербскія рукапісы). Лексічныя замены адбіліся і на захаванасці акравершаў: так, замена пачатковага слова ў 5-м «вершы» «Акафіста Ісусу» («лекарю» ў друкаваным тэксце, «целителю» — у Сінадальным 774 і ўсіх сербскіх спісах) парушыла канчатак 1-га слова акраверша. У сербскіх рукапісах тэкст «Акафіста славутаму імені Ісуса Хрыста» мэтанакіравана перапрацаваны. Тут назіраецца збліжэнне гэтага акафіста С. з «Акафістам Ісусу славутаму», які прыпісваюць Феакцісту Студыту. У спісах Пагодзіна пачатковыя «вершы» аддзелены ад 1-га кандака песнапеннямі з «Канона Ісусу славутаму» Феакціста Студыта, што разарвалі акраверш. Венскі спіс 17 ст.— асобая рэдакцыя помніка: тут ва ўсіх кандаках і ікосах тэксту С. папярэднічаюць пачатковыя словы з «Акафіста Ісусу славутаму». Акраверш тут захаваўся толькі ў пачатковых «вершах», далей ён у залежнасці ад пунктуацыі страціўся або ператварыўся ў мезаверш, які чытаецца па пачатках 2-й фразы песнапенняў (у кандаках 1—3-м, 5—7-м, 11-м; ікосах — 1-м, 3-м, 5-м, 6-м, 8-м, 11-м, 12-м). Новыя рэдакцыі акафістаў С. вядомы і ва ўсх. славян. Так, Папоў у 1903 устанавіў, што «Акафіст Іаану Прадцечы» ў кіеўскім выданні «Акафістаў» 1677 з'яўляецца пераробкай тэксту, змешчанага ў «Малой падарожнай кніжцы». Пры рэдагаванні тэксту быў выкарыстаны адпаведны акафіст, які прыпісваецца Ісідару, патрыярху Канстанцінопальскаму. Акраверш у гэтай рэдакцыі «Акафіста Іаану Прадцечы» парушаны цалкам. Са стараверскай традыцыяй звязаны скарочаны від «Акафіста Ісусу» (без пачатковых «вершаў»), у рагожскім гектаграфічным выданні якога акраверш таксама страчаны.

*Літ.:* 69; 305; Попов А. Православные русские акафисты, изданные с благословения святейшего Синода. История их происхождения и цензуры, особенности содержания и построения: Церковно-литературное исследование. Казань, 1903. *А. А. Турылаў.*

**ГІПАКРА́Т** (Hippokrátēs; каля 460—377, па інш. звестках 356 да н. э.), старажытнагрэчаскі ўрач, рэфарматар антычнай медыцыны. Прадстаўнік матэрыялізму ў медыцыне, вызваляў яе ад жрэчаскага ўплыву і вызначаў шляхі яе самастойнага развіцця, адмаўляў звышнатуральнае паходжанне хвароб. Заклаў эмпірычныя асновы амаль усіх клінічных дысцыплін. Г. прыпісваюць тэкст т. зв. урачэбнай клятвы («Клятва Гіпакрата»), у якой сфармуляваны асн. маральна-этычныя нормы паводзін урача. Яго некат. працы ўвайшлі ў зборнік твораў шэрагу старажытнагрэч. урачоў («Зборнік Гіпакрата»). Ва ун-тах часоў С. вывучалі тэксты «Зборніка Гіпакрата» і каментары да іх, але іх часцей тлумачылі зыходзячы з царк. догм, прыстасоўваючы да пануючай на той час ідэалогіі феад. класа. С., відаць, ведаў творы Г. і іншых стараж. урачоў (гл. арт. *Медыка-біялагічная дзейнасць Ф. Скарыны*).

*В. П. Грыцкевіч.*

**ГІСТАРЫ́ЧНЫ МУЗЕ́Й** у Маскве, Дзяржаўны Гістарычны музей. Заснаваны ў 1872, адкрыты ў 1883. У аддзеле рукапісаў зберагаецца багаты фонд выданняў С., які складаўся паступова. У 1883 з б-кай А. Дз. Чарткова ў музей паступіў дастаткова поўны экземпляр «Малой падарожнай кніжкі», уключаючы «Часасловец» і «Шасцідневец» і сабраныя ў 2 канвалютах акафісты і каноны. У 1888 па завяшчанню П. В. Шчапава ў музей паступіла яго б-ка з 2 канвалютамі пражскіх выданняў С., а таксама «Апостал» (1525). Са зборам П. І. Шчукіна, які ўваходзіць у т. зв. Збор «Меньшых», музей атрымаў пражскі «Еклесіяст» і канвалют з віленскімі выданнямі («Псалтыр», «Часасловец», «Шасцідневец», «Саборнік», 14 акафістаў і канонаў). У 1917 аддзел рукапі-

саў музея папоўніўся 5 канвалютамі, у якіх пераплецены 18 пражскіх выданняў С. са збору старадрукаваных кніг І. М. Царскага. З б-кі А. І. Хлудава паступіў пражскі «Псалтыр» 1517, канвалют пражскага «Пяцікніжжа» (кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон») і віленскі «Апостал». У музеі зберагаецца 19 пражскіх (адсутнічае толькі кн. «Плач Ераміі») і 22 віленскія выданні С. Усяго ў музеі 84 экз. выданняў С., у т. л. пражскіх — 36 і віленскіх — 48.

*Літ.*: 796. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ГІСТАРЫЯГРА́ФІЯ СКАРЫНАЗНА́ЎСТВА.** Першая гістарыяграф. праца па *скарыназнаўству* — «Агляд літаратуры прадмета» ў манаграфіі рус. даследчыка 19 ст. П. У. *Уладзімірава* «Доктар Францыск Скарына. Яго пераклады, друкаваныя выданні і мова» (Спб., 1888). Аўтар даследаваў усе вядомыя яму артыкулы, прысвечаныя С., пачынаючы з першых нататкаў 1779 бібліятэкара Пецярбургскай АН І. Бакмейсцера. Ён праверыў і ўдакладніў па першакрыніцах супярэчлівыя меркаванні, выправіў памылкі і фактычныя недакладнасці, выкарыстаўшы вял. колькасць замежных і айч. першакрыніц. Яго гістарыяграф. агляд — адначасова і першы вопыт рэфератыўнай бібліяграфіі прадмета. Асн. ўвагу Уладзіміраў аддаў выданням С., іх мове, выдавецкай дзейнасці і канфесійнай прыналежнасці першадрукара. З пазіцый сучасных дасягненняў скарыназнаўства некат. ацэнкі і меркаванні вучонага спрэчныя, аднак яго кніга і гістарыяграф. агляд не страцілі цікавасці і ў нашы дні. У 1926 апублікавана «Scoriniana» У. І. *Пічэты.* Метадам супастаўлення і крытычнага аналізу асобных айч. і замежных даследаванняў ён паказаў стан вывучэння спадчыны С., разгледзеў спрэчныя пытанні і вывады, паказаў памылковае асвятленне некат. фактаў, падвёў вынікі скарыназнаўства за 150 год (1776—1926). Высока ацаніў манаграфію Уладзімірава і адначасова падкрэсліў неабходнасць стварэння новай фундаментальнай працы на базе глыбокага вывучэння матэрыялаў эпохі, матэр., сац.-паліт. і культ. жыцця беларусаў у Вял. кн. Літоўскім і асаблівай увагі да вывучэння светапогляду С., яго гуманізму. У 1968 апублікавана гістарыяграф. «Scoriniana» А. В. *Флароўскага.* У ёй падведзены вынік скарыназнаўства за 40 год (замежная л-ра, у асн. працы чэш. вучоных, прыведзена да 1962). Разглядаюцца складаныя і спрэчныя пытанні, даецца крытычная ацэнка многіх работ і іх значэння ў агульным развіцці навукі. Аўтар не толькі паказаў дасягненні і вызначыў асн. напрамкі і перспектывы навук. пошуку, але і ўнёс свае прапановы, выявіў недакладнасці ў выкарыстанні крыніц, супярэчлівасць і памылковасць ацэнак і інш. Ён даў прынцыповую водпаведзь ілжываму асвятленню асобных пытанняў у л-ры 1920—30-х г., выступіў супраць недастатковай абгрунтаванасці сцвярджэнняў, якія датычаць біяграфіі С. Асаблівую ўвагу аддаў аўтар характарыстыцы і выкарыстанню новых дакументаў пра С., падкрэсліў значэнне гіст. дакументаў для разумення асаблівасцей і ролі выданняў С. Адзначаючы важнасць вывучэння спадчыны С. сучаснымі вучонымі, Флароўскі на канкрэтных прыкладах яскрава паказаў значэнне інфармаванасці даследчыкаў пра ўвесь аб'ём айч. і замежнай л-ры па тэме і своечасовасці выкарыстання звестак пра зноў адкрытыя дакументы. Для гістарыяграфіі Флароўскага, як і Пічэты, характэрна глыбіня навук. аналізу літаратуразнаўчых крыніц, вызначэнне перспектыў даследаванняў, канцэнтраванне ўвагі на асн. праблемах і нявырашаных гіпотэзах скарыназнаўства.

У 1979 з працай «Вывучэнне жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны ў БССР» выступіў М. Б. *Батвіннік.* Свой агляд ён пачаў з апублікаванага ў Петраградзе арт. Я. Ф. Карскага ў час. «Чырвоны шлях» (1918). З'яўленне асобных прац аўтар разгледзеў у сувязі з агульным станам грамадскага жыцця рэспублікі і развіццём гіст. навукі, выкарыстаў матэрыялы навук. канферэнцый, сесій, абмеркаванняў, якія сталі этапнымі ў ацэнцы светапогляду і дзейнасці С. Прыводзяцца звесткі не толькі аб працах, прысвечаных С., але і аб агульных даследаваннях у галіне літаратуразнаўства, філасофіі, гісторыі, якія маюць цікавасць для скарыназнаўства. У аглядзе адзначаны ўклад бел. вучоных у даследаванне філас., грамадска-паліт., этычных і эстэт. поглядаў С., асабліва праца М. А. Алексютовіча «Скарына, яго дзейнасць і светапогляд» (1958). Аналіз стану распрацоўкі бел. вучонымі асобных праблем скарыназнаўства і вызначэнне перспектыў іх далейшага вывучэння засталіся за межамі агляду. Гістарыяграф. распрацоўку складанай тэмы, якая мае вял. ідэалаг. значэнне, уяўляе сабою арт. Г. Я. *Галенчанкі* «Крытыка буржуазна-нацыяналістычных пабудоў у вывучэнні жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны» (1979), якія носіць канцэптуальны характар. У 1976 В. Ф. *Шматаў* апублікаваў гістарыяграф. агляд «Мастацкая аздоба выданняў Ф. Скарыны», у якім разгледзеў маст. якасці скарынінскіх палеатыпаў, пачынаючы з першых упамінанняў у л-ры 2-й пал. 18 ст. Падкрэсліў уклад рус. вучоных 19 ст. ў ацэнку ксілаграфіі ў выданнях С., паказаў новы падыход да вывучэння тэмы ў сав. час з пазіцый прызнання самастойнасці бел. нац. культуры. Агляд бібліяграфічна насычаны, у ім сабраны выказванні і ацэнкі маст. спадчыны С. У 1979 Шматаў знач-



**Гістарычны музей у Маскве.**



Кнігі Ф. Скарыны з **Гістарычнага музея ў Маскве.**

на дапоўніў агляд у сваім артыкуле «Мастацтва выданняў Францыска Скарыны».

Пачаткам гістарыяграф. Скарыніяны ў мовазнаўстве можна лічыць гісторыка-метадычны нарыс І. В. *Войк-Левановіча* «Гістарычнае вывучэнне беларускай мовы ў славянскай філалогіі» (1925). А. І. *Жураўскі* ў кн. «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» (т. 1, 1967) прааналізаваў шматлікія крыніцы, звязаныя з ацэнкай мовы выданняў С. з боку яе структуры і функцыянальнай ролі і значэння ў развіцці бел. літаратурнай мовы. Кароткі агляд літаратурных крыніц дадзены ў працах Л. М. *Шакуна*. Ю. С. Пшыркоў шырока ўключыў айч. і замежныя матэрыялы пра С. ў раздзел «Гістарыяграфія беларускай дакастрычніцкай літаратуры» ў кн. «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (т. 1, 1968), дзе паказаў сутнасць бурж.-нацыяналіст. і вульгарна-сацыялаг. домыслаў пра С.

*Літ.*: 52; 74; 94; 114; 248; 312; 343.

*В. Н. Дышыневіч.*

**ГІСТО́РЫЯ АДКРЫЦЦЯ́ ВЫДА́ННЯЎ Ф. СКАРЫ́НЫ.** Пражскія і віленскія выданні С. здаўна былі вядомы на Беларусі, у Расіі і на Украіне. У 16—17 ст. яны неаднаразова ўпаміналіся ў вопісах манастырскіх і прыватных б-к. Старэйшае бібліяграф. апісанне выданняў С.— рус. бібліяграф. звод «Змест кніг, хто іх склаў» — было зроблена каля 1666. Складальніку, якім сучасныя даследчыкі лічаць С. Мядзведзева, былі вядомы 8 пражскіх выданняў С.: кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», «Эсфір», «Іоў», «Прамудрасць божая», «Плач Ераміі», «Прарок Данііл». Гэты звод быў апубл. толькі ў 1846. Упершыню ў друкаваным выданні канкрэтныя кнігі С. былі названы ў 1776 І. Р. *Бакмейсцерам*, які апісаў «Пяцікніжжа» (кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон»), якое зберагалася ў Б-цы АН у Пецярбургу. Бакмейсцер ведаў і пра існаванне «Апостала», выдадзенага ў Вільні, аднак гэтай кнігі ён не бачыў, таму і датаваў яе памылкова — 1517. Гісторык Г. Ф. Мілер яшчэ да 1766 набыў у Пецярбургу «Пяцікніжжа», а пазней, калі пераехаў у Маскву, купіў тут канвалют з 6 пражскімі выданнямі С. (кн. «Царствы», «Юдзіф», «Эсфір», «Руф», «Іоў», «Прарок Данііл»). Абодва канвалюты ён перадаў у б-ку Маскоўскага архіва Калегіі замежных спраў. У 1783 І. Г. *Штрытэр* увёў названыя выданні ў навук. ўжытак, апісаў іх на старонках час. «Опыт трудов Вольного российского собрания при имп. Московском университете» (ч. 6). Там жа апубл. праца П. А. *Аляксеева*, прысвечаная «Апосталу» С. (быў апісаны экземпляр, што знаходзіўся ў зборы П. П. Курбатава). У 1786 пецярбургскі кнігагандляр І. Вогак набыў канвалют, у якім былі кн. «Царствы», «Еклесіяст», «Ісус Сірахаў», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Іоў», а таксама ўрывак з пражскага «Псалтыра» 1517. У навук. ўжытак звесткі пра гэтыя выданні ў 1786 увёў Бакмейсцер. Гэтая яго публікацыя не была заўважана, і ўсім даследчыкам



А. Глебаў. Францыск Скарына. 1954.

(апрача І. *Добраўскага*), якія пісалі пра С., засталася невядомай. У 1796 Добраўскі ўвёў у навук. ужытак «Малую падарожную кніжку». Экземпляр гэтага зборніка віленскіх выданняў С. з яго асабістай б-кі не быў поўны: у ім адсутнічалі «Псалтыр» і «Пасхалія» з «Сборніка». Але Добраўскі ведаў пра існаванне гэтых выданняў, бо ў яго экземпляры было агульнае пасляслоўе да «Малой падарожнай кніжкі». Аднак чэшскі вучоны не ўказаў, якія канкрэтна выданні ўваходзілі ў склад «Малой падарожнай кніжкі». Экземпляр «Каноніка» з б-кі Ф. Р. Баузе быў у 1811 вядомы К. Ф. *Калайдовічу*, які таксама не раскрыў яго складу. Упершыню ўсе пражскія (за выключэннем «Псалтыра» 1517) і амаль усе віленскія выданні С. назваў у 1813 В. С. *Сопікаў*. Ён упершыню ўвёў у навук. ўжытак кн. «Суддзі», «Ісус Навін», «Прытчы Саламона», «Плач Ераміі». Тры з іх былі вядомы яшчэ Мядзведзеву, аднак у друкаваным выданні да Сопікава ніколі не ўпаміналіся. Сопікаў упершыню назваў таксама 14 акафістаў і канонаў, з якімі ён азнаёміўся па канвалюту са збору Баузе. Заставаліся невядомымі яму «Акафіст Ісусу» і «Канон Ісусу». Сопікаў таксама ўпершыню апісаў канкрэтны экземпляр віленскага «Псалтыра», які прадатаваў прыкладна 1525. Гэты экземпляр знаходзіўся у зборы Калайдовіча. Астатнія выданні, што ўваходзілі ў склад «Малой падарожнай кніжкі», увёў у навук. ўжытак у 1826 П. І. *Кепен*. «Саборнік» ён лічыў двума выданнямі, называючы іх «Кароткія святцы» і «Пасхалія». Поўны экземпляр «Малой падарожнай кніжкі» Кепен бачыў у зборы граф. Манерта ў Ландсгуце (Баварыя). У 1860-х г. А. І. *Хлудаў* набыў на Ніжагародскім кірмашы экземпляр «Псалтыра» 1517, які добра захаваўся. Паколькі паведамленне Бакмейсцера пра гэта пражскае выданне было забыта, кніга другі раз была ўведзена ў навук. ўжытак А. Я. *Віктаравым*, які падрабязна апісаў экземпляр Хлудава. Адзіны вядомы ў цяперашні час экземпляр «Пасхаліі» з «Саборніка» быў выяўлены ў Каралеўскай б-цы ў Капенгагене (першае паведамленне адносіцца да 1957). «Пасхалія» разлічана на 1523—43. Гэта дазволіла датаваць «Малую падарожную кніжку» каля 1522. Шэраг перакладаў С. захаваўся толькі ў позніх спісах (гл. *Спісы з выданняў Ф. Скарыны*). Ці былі выдадзены гэтыя пераклады, невядома. Пра гісторыю адкрыццяў асобных экземпляраў выданняў С. гл. адпаведныя артыкулы.

*Я. Л. Неміроўскі, В. У. Чапко.*

**ГЛЕ́БАЎ** Аляксей Канстанцінавіч (1908—68), беларускі сав. скульптар. Нар. мастак БССР (1955). У 1946 зрабіў мадэль помніка С. для г. Полацка [гіпс, 113×62×44 см, Дзярж. маст. музей БССР (адліўка 1968 г., бронза); Полацкі краязнаўчы музей, Дзярж. б-ка імя У. І. Леніна (гіпс)], у 1954 г.— статую С. (дрэва, 217×60×87 см, Дзярж. маст. музей БССР). Скульптура вызначаецца архітэктанічнай ураўнаважанасцю, дасканаласцю пластыкі; абагульненасць у трактоўцы аблічча спалучаецца з канкрэтнасцю ў адлюстраванні адзення 16 ст. і кнігі тых часоў, якая арганічна ўваходзіць у кампазіцыю. Пазней скульптар неаднаразова звяртаўся да вобраза С., у 1967 выканаў мадэль помніка С. для Полацка, які ўстаноўлены ў 1974 скульптарамі І. М. Глебавым і А. М. Заспіцкім, архітэктарам В. Марокіным. Вышыня фігуры 5,5 м (бронза); пастамента — 6,5 м (граніт). Манументальна-ўрачысты, просты і ясны па кампазіцыі, помнік арганічна спалучаецца з навакольным асяроддзем. Выразнасць сілуэта, гарманічнасць і ўраўнаважанасць форм у трактоўцы фігуры ўзмацняюць эмацыянальнае гучанне вобраза, адзенне 16 ст. надае яму гіст. канкрэтнасць. Дзярж. прэмія БССР 1976.

**ГЛІ́НСКІЯ,** княжацкі род, прадстаўнікі якога ў 15—17 ст. мелі буйныя ўладанні на Беларусі і Украіне, займалі дзярж. пасады ў Вял. кн. Літоўскім і Рус. дзяржаве. Першыя князі Барыс і Іван упамінаюцца ў грамаце 1437. Сучаснікі С.— Васіль Львовіч, Міхаіл Львовіч, Алена Васілеўна.

Васіль Львовіч (? — 1515), падстолі літоўскі (1502—07), намеснік васілішкаўскі (1501), слонімскі (1505), староста брэсцкі (1506). Адзін з кіраўнікоў паўстання Глінскіх (1508) супраць вял. князя літоўскага Жыгімонта I. Пасля падаўлення паўстання ўцёк да маскоўскага князя Васіля III, атрымаў ва ўладанне г. Мядынь і інш.

Міхаіл Львовіч (1470—1534), намеснік уценскі (з 1499), маршалак дворны літ. (з 1500), кіраўнік Віленскага манетнага двара з 1501. У 1506 разбіў пад Клецкам татарскае войска. Узначаліў паўстанне Глінскіх (1508). Без надзеі на поспех паўстання прыняў прапанову Васіля III і перайшоў да яго ў падданства. У канцы 1508 атрымаў ва ўладанне землі і гарады Малаяраславец і Бараўск. У рус.-літ. вайну 1512—22 спрабаваў вярнуцца да Жыгімонта I, але быў схоплены рус. войскамі і зняволены (1514—26), вызвалены ў 1527. У апошнія гады праўлення Васіля III меў значны ўплыў пры маскоўскім двары. Камандаваў войскамі ў паходзе на Казань (1530). У 1534 зноў зняволены ў турму, дзе і памёр.

Алена Васілеўна (? — 1538), дачка Васіля Львовіча, жонка вял. кн. маскоўскага Васіля III, вял. княгіня (з 1526). Мела 2 сыноў — Івана (будучага цара Івана IV Грознага) і Юрыя. Пасля смерці Васіля III (1533) рэгентка Рус. дзяржавы пры малалетнім сыне Іване. У склад рэгенцтва ўваходзіў М. Глінскі. Урад Алены праводзіў палітыку цэнтралізацыі. У часы яе праўлення рус. войска атрымала шэраг перамог, у т. л. ў рус.-літ. вайну 1534—37. З Вял. кн. Літоўскім было заключана выгаднае для Масквы перамір'е. Мяркуюць, што была атручана баярамі.

Род Г. вымер у пач. 17 ст.

*Літ.*: Лобанов-Ростовский А. Б. Русская родословная книга. Т. 1. 2. изд. Спб., 1895; Смирнов И. И. Очерки политической истории Русского государства 30—50-х годов XVI века. М.; Л., 1958. *В. У. Чапко.*

**ГЛО́ГАЎСКІ ЯН,** гл. *Ян з Глогава.*

**ГЛО́СА** (ад грэч. glōssa мова, гаворка; устарэлае ці дыялектнае слова і выраз), заметка перапісчыка або чытача, зробленая на палях кнігі або ўпісаная ў тэкст паміж радкоў для тлумачэння незразумелага слова ці выразу.

Г. шырока выкарыстоўваліся ў старажрус. перакладных мастацкіх, рэліг. і навук. творах, дзе сустракалася многа іншамоўных слоў. У старажытнасці ствараліся і так званыя гласарыі — спец. слоўнікі незалежных ад канкрэтнага тэксту Г., веданне якіх неабходна было тагачаснаму чытачу.

Выкарыстоўваліся Г. і ў старабел. пісьменнасці. Імі забяспечыў С. «Псалтыр» 1517, у прадмове да якога ён даволі выразна гаворыць аб прызначэнні Г. (гл. с. 24). Усяго на палях гэтага выдання налічваецца звыш 60 Г. Усе яны паўтараюцца і ў «Псалтыры» 1522. Г. раскрываюць сэнс назваў прадметаў побыту, раслiннага і жывёльнага свету, прыродна-геагр. паняццяў і з'яў, царк.-культавых рэчаў, уласных імён і назваў, розных іншамоўных слоў. Асаблівасць скарынінскіх тлумачэнняў заключаецца ў тым, што пры дапамозе Г. раскрываецца не ўвесь сэнсавы аб'ём незразумелага слова, а толькі тое значэнне, з якім гэтае слова выступае ў даным кантэксце. Г. звычайна маюць тую ж граматычную форму, што і незразумелае слова ў тэксце, напр., у тэксце **буи** — на полі **дурнии,** адпаведна **внезапу — нагле, вретище — власеница, горлица — сівоворонка, імскъ — мулъ, инокъ — одинец, конобъ — горнец, лоза — винничина, неясыти — пельликанови, онагри — лоси, пажить — былие, пругомь — усеницамъ, рамна — осоту, сионъ — гору, скуменъ — лвенять, стакти — ладан, тимъпанъ — бубенъ, тросконъ — былие, туне — всуе, хлябiи — продухъ, холми — узгорки** і г. д. Невял. колькасць Г. ёсць і ў перакладных біблейскіх кнігах С. і ў «Апостале» 1525, напр., у тэксце **артемиде** — на полі **богыни,** адпаведна **Боозъу — твержение, Буля — октября, Вегелмофъ — слонъ, Зия — Априля, ковчегъ — корабль, кивотъ — скриня, кифе — петрови, крату — решетку, крижали — дьски, сикарей — лотровъ, сиклев — лотов, таланты — цетнери, тигрисъ — зубрь, яхимъ — крепость** і інш. С. забяспечваў Г. не толькі паасобныя словы, але і цэлыя словазлучэнні: **да насладится — приятна будеть, тмами темъ — десети тысещми.** Некат. адзінкавыя царк.-слав. словы ён тлумачыў словазлучэннямі: **утреневати — предсвітаніем воставати, югъ — ветръ полуденный.** Маюць месца выпадкі тлумачэння спалучэнняў прыназоўнікаў з назоўнікамі: **въ дебрехъ — в долинахъ, на зди — на кровли, на ырищи — на дому, на троскотъ — на былие, от юга — от полудня.** Для тлумачэння незразумелых слоў С. ў большасці ўжываў лексічныя сродкі тагачаснай бел. літаратурнай мовы, дзе былі як уласна бел. словы, так і даўнія запазычанні: **бубенъ, былие, ветръ, горнецъ, долина, домъ, дурний, дьска, зубрь, китъ, кремень, лвеня, лось, лотръ, лотъ, осотъ, полудень, почка, решётка, світаніе, сівоворонка, скриня, слонъ, узгорокъ, умывалница, усеница, цетнеръ** і інш. Разам з тым у якасці тлумачальных слоў С. выкарыстоўваў і лексіку царк.-слав. паходжання: **власеница, врабъ, всуе, западъ, кровля, повразъ, пределъ, пропасть, страна, воставали, испытати, упредити** і інш. Выдавец улічваў пры гэтым знаёмства чытачоў не толькі з лексікай, але і з граматычным ладам царк.-слав. мовы. Некат. дзеясловы ў Г. ён падае ў форме аорыста, які выступае і ў тэксце: **непщевахъ — ожидах, предъвариша — упредиша, прозябоша — вознікоша.**

Скарынінскі прыём тлумачэння незразумелых слоў пры дапамозе Г. быў выкарыстаны і ўдасканалены бел. кніжнікамі пазнейшага часу. З бел. кніг 16 ст. своеасаблівым характарам Г. вылучаецца «Евангелле» Васіля Цяпінскага, перакладзенае на бел. мову і выдадзенае каля 1580. Г. тут у большасці ўяўляюць сабой цэлыя сказы і нават невялічкія афармленыя па сэнсу артыкулы. У адных з іх прыводзіцца тлумачэнне іншамоўных слоў і выразаў, другія змяшчаюць звесткі аб паходжанні такіх слоў, у трэціх адзначаюцца розначытанні адпаведных месц з інш. перакладамі, асобныя Г. адсылаюць чытача да папярэдніх старонак кнігі, дзе ўжо давалася тлумачэнне адпаведнага слова. З бел. помнікаў пазнейшага часу значнай колькасцю аднаслоўных Г. скарынінскага тыпу характарызуецца друкаваны «Апакрысіс» канца 16 ст. і рукапісныя «Александрыя» і «Біблія» пач. 17 ст. Традыцыя выкарыстання Г. фактычна працягваецца і ў наш час у выглядзе зносак, якімі ў маст. л-ры ўнізе старонак часам тлумачацца рэдкія іншамоўныя, устарэлыя і дыялектныя словы.

*Літ.*: 755. *А. І. Журайскі.*



Да арт. **Готыка** Гнезнаўскі касцёл.

**ГО́ТЫКА** (італ. gotico літар. гоцкі ад назвы герм. племя готаў), мастацкі стыль, пашыраны ў краінах Зах., Цэнтр., часткова Усх. Еўропы паміж сярэдзінай 12 і 15—16 ст. Перыяды: ранняя Г.— 12 ст., сталая — 13—14 ст., позняя («палымяная») Г. з моцнымі дэкар. тэндэнцыямі — 15 ст. Прыйшла на змену раманскаму стылю. Вызначальная роля ў развіцці Г. належала архітэктуры. Развіццё мастацтва Г. адлюстравала змены ў структуры сярэдневяковага грамадства: пачатак фарміравання цэнтралізаваных дзяржаў, рост і ўзмацненне гарадоў, якія сталі буйнымі заказчыкамі архіт. твораў, больш высокі ўзровень развіцця рамёстваў і тэхнікі, аслабленне асноў сярэдневяковых рэліг.-дагматычных светапоглядаў і інш.

Стыль Г. зарадзіўся на Пн Францыі. Найб. спецыфічная Г. ў Італіі (там збераглiся моцныя антычныя традыцыі) і Іспаніі. Канструкцыйны прынцып культавага дойлідства Г.— каркас з каменю, які пазбавіў пабудовы груваскасці раманскіх сабораў. Унутраныя слупы гатычных сабораў пераходзілі ўверсе ў стральчатыя аркі нервюраў тонкага крыжовага скляпення, цяжар ад якога перадаваўся на контрфорсы. Гатычныя саборы вылучаліся вял. вышынёй, стральчатымі вокнамі з каляровымі вітражамі. Гал. фасады сабораў упрыгожваліся карункамі разнога дэкору, ажурнымі вежамі, глыбокімі «перспектыўнымі» парталамі, у цэнтры

часта мелі вял. круглае акно (ружу). Гал. відам выяўл. мастацтва была скульптура, якая ўпрыгожвала фасад сабора і яго інтэр'ер.

На Беларусі ў 15—16 ст. сфарміраваўся своеасаблівы стыль, для якога характэрны гарманічнае спалучэнне рысаў Г. і рэнесансу, традыцый стараж.-рус. манум. дойлідства і ўплыў руска-візант. стылю, што ўзбагаціла бел. Г., надало яе помнікам непаўторны каларыт і маст. каштоўнасць. Аб'ёмы вырашаны скульптурна, маюць мяккую прарысоўку ліній, архіт. дэкор адыгрывае другарадную ролю (*Ішкалдскі Троіцкі касцёл*). Асн. дэкар. элементы — абрамленні парталаў і аконных праёмаў, разнастайныя па малюнку нішы, аркатура (Навагрудская Барысаглебская царква). Нярэдка завяршэнні праёмаў і парталаў мелі не спецыфічную для Г. стральчатую, а паўцыркульную форму. Маляўнічасць будынкам надавала 2-колернае вырашэнне фасадаў: заглыбленыя часткі бялілі, а выступы не атынкоўвалі, пакідалі натуральны колер чырвонай цэглы (Мураванкаўская царква-крэпасць). Тэндэнцыю развіцця культавых абарончых збудаванняў у 16 ст. ярка адлюстроўвае *Сынковіцкая царква-крэпасць*, якая мае стройную і гарманічную архіт. кампазіцыю. Іншыя кампазіцыйныя прыёмы развіваліся ў 1-нефавых храмах з вежай-званіцай на гал. фасадзе. Манум. кампактныя аб'ёмы, умацаваныя контрфорсамі, кантраставалі з высокімі яруснымі вертыкальнымі вежамі, якія надавалі будынкам рысы дынамічнай асіметрыі (Гнезнаўскі касцёл, в. Гнезна Ваўкавыскага р-на; Дзераўноўскі кальвінскі збор, в. Дзераўная Стаўбцоўскага р-на). Архіт. формы канструкцыі і буд. тэхніка стылю Г. найб. характэрны для замкавага дойлідства 16 ст. (Гродзенскі Стары замак, *Навагрудскі замак, Мірскі замак*). С. мог бачыць не толькі вышэй названыя гатычныя архіт. помнікі, а таксама помнікі гарадоў, дзе яму давялося жыць і працаваць.

*Літ.*: Янкявічэне А. С. Самабытныя рысы беларускай готыкі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1974. № 1; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. 2. изд. Мн., 1977. С. 29—104.

**ГРАВЮ́РНЫ ПАРТРЭ́Т Ф. СКАРЫ́НЫ.** Змешчаны ў «Бібліі» С. 1517—19. Зроблены хутчэй за ўсё з натуры ў 1517 — у самым пачатку друкарскай дзейнасці С. На думку даследчыкаў (У. С. Люблінскі, А. А. Сідараў і інш.), гэта — адзін з самых ранніх, калі не першы з партрэтаў друкароў наогул, які мае сапраўднае гіст. значэнне. У «Бібліі» партрэт С. змешчаны двойчы: упершыню ў кн. «Ісус Сірахаў» (1517, арк. 82-і), потым у 4-й кн. «Царствы» (1518, арк. 242-і). У экземпляры кн. «Быццё», які захоўваецца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (Ленінград), на асобным, не зніταваным з кнігай аркушы ёсць яшчэ адзін адбітак (вельмі сцёрты) партрэта С., аднак яго няма ва ўсіх вядомых інш. экземплярах кн. «Быццё».

Адбіткі з кн. «Ісус Сірахаў» і «Быццё» аднолькавага памеру — 160×105 мм і падобныя ва ўсіх дэталях. На адбітку з кн. «Царствы» (160×106 мм) зверху выразна чытаецца слова «Царств». У правым ніжнім вуглу адсутнічае выява пчалы, а ў левым няма ***манаграмы*** гравёра МЗ (або, магчыма, МТЗ). Адрозненні ствараюць уражанне, быццам гэта гравюра з'яўляецца варыянтам партрэта С., змешчанага ўпершыню ў кн. «Ісус Сірахаў». Але ў абодвух адбітках супадаюць усе дэталі кампазіцыі, манера выканання, колькасць і характар штрыхоўкі, дата (1517). Відаць, яны былі зроблены з адной дошкі. Выява пчалы і манаграма гравёра МЗ маглі быць зрэзаны з клішэ неўзабаве пасля выдання кн. «Ісус Сірахаў». Кампазіцыя ўсіх адбіткаў партрэта С. тоесная. На гравюры С. паказаны ў сваім рабочым пакоі. Ён сядзіць у крэсле за невысокім столікам з пяром у правай руцэ. Перад ім разгорнута кніга, злева на пюпітры — другая кніга, да якой скіраваны позірк С. Калі часам нараджэння С. лічыць прапанаваны П. У. Уладзіміравым 1490, то

Гравюрны партрэт Ф. Скарыны з «Бібліі».



ў момант стварэння партрэта яму было ўсяго 27 гадоў. Але на партрэце С. выглядае значна старэйшым. У сувязі з гэтым выказвалася меркаванне, што С. нарадзіўся ў 1470-я г. і ў 1517, калі выдавалася кніга «Ісус Сірахаў», яму было 40—45 год (Ясінскі А. З культурнае гісторыі Чэхіі пачатку XVI-га сталецця // Чатырохсотлецце беларускага друку, 1926. С. 40). Апрануты С. ў доктарскую мантыю, на галаве — берэт, з-пад якога маляўніча выбіваюцца валасы. Столік пакрыты вузкім арнаментаваным абрусам (малюнак узораў блізкі да бел. арнаментаў) з выявай герба — сігнета С. (сонца і месяц). Вакол С. крыху ў беспарадку расстаўлены розныя рэчы: пясочны гадзіннік, рэфлектар, збанкі, кошыкі і інш. У правым верхнім вуглу гравюры «глобус сусвету», вакол шмат кніг. Амаль на ўзроўні галавы С. сіметрычна размешчаны выявы двух львоў, якія трымаюць шчыты са знакамі і . Першы знак нагадвае мед. шалі, другі — схематычную выяву тагачаснага друкарскага станка. Але сапраўдны сэнс знакаў, якія маюць, відаць, геральдычнае паходжанне (адлюстраваны на шчытах), пакуль што не высветлены (гл. *Знакі і* ). На заднім плане — 2 архіт. калоны, увенчаныя гірляндамі з дубовага лісця, утвараюць трыумфальную арку. Уверсе на светлай пласцінцы — дата «АФЗІ» (1517). Аналагічная пласцінка чорнага колеру змешчана ў ніжняй рамцы гравюры. На ёй надпіс слав. вяззю: «Доктар Францыск Скорыно» (або, магчыма, «Доктор Франціско Скорино»). У левым вуглу над кошыкам — манаграма гравёра. Дэталі на гравюры адыгрываюць істотную ролю ў раскрыцці партрэта, падкрэсліваюць інтарэсы С. ў галіне кнігадрукавання, медыцыны, астраноміі, мастацтва. Асобныя дэталі маюць сімвалічны характар, напр., кошыкі — атрыбуты збору лекавых раслін, што ўказваюць на прафесію лекара, вада ў збанах — сімвал жыцця. Працавітая пчала, якая награвіравана ў правым ніжнім вуглу партрэта, нагадвае пра руплівасць, працаздольнасць С. «Глобус сусвету» сведчыць пра заняткі С. астраноміяй. Пясочны гадзіннік злева ад С. побач са знакам , відаць, сімвалізуе час, яго хуткацечнасць, падкрэслівае атмасферу напружанасці, у якой ажыццяўлялася грандыёзная задума С. — пераклад і выданне Бібліі. Правей ад пясочнага гадзінніка над кнігамі — 4 ксілаграф. дошкі, наяўнасць якіх сярод асабістых рэчаў першадрукара гаворыць, відаць, пра яго сувязь з мастацтвам. На партрэце С. няма ніводнага царк. сімвала або атрыбута, усе дэталі гавораць пра свецкі характар яго дзейнасці. Нягледзячы на шматлікія дэталі, фігура С. дамінуе ў гравюры, адразу прыцягвае да сябе ўвагу. Партрэт вылучаецца прыкметным псіхалагізмам, у ім выразна перададзены мэтанакіраванасць і сіла волі С.

Як і ўсе астатнія дрэварыты ў выданнях С., партрэт выкананы ў тэхніцы абразной падоўжнай ксілаграфіі, якая панавала ў зах.-еўрап. практыцы ў 15—16 ст. Твор вылучаецца значнай маст. дасканаласцю. Фігура С. ўдала закампанавана ў інтэр'ер. Пераканаўча перададзена перспектыва пакоя, тонка награвіраваны вобраз, шматлікія дэталі, надпісы, знакі і інш. Форма скрозь мадэліравана ўпэўненымі паралельнымі ці крыху закругленымі штрыхамі, якія добра перадаюць аб'ём, складкі адзення. Адчуваецца, што гравёр бездакорна валодаў разцом. У. В. Стасаў пісаў, што партрэт С. не саступае самым выдатным ням. гравюрам таго часу па характару малюнка, сіле і каларытнасці гравюры. Даследчык кнігі і гравюры А. А. Сідараў у арт. «Вузлавыя праблемы і нявырашаныя пытанні гісторыі рускага кнігадрукавання» пісаў: «З пачуццём уласнага гонару, якое ўпершыню ўзнікла ў славянскім свеце, Скарына змяшчае — і не раз! — у сваіх выданнях (калі не богаслужэбных, то свяшчэнных традыцыйных кніг) не выяву легендарных святых, а ўласны партрэт. ...На гэтым партрэце, што мае сапраўды гістарычнае значэнне, Скарына паўстае перад намі ў зусім новым абліччы. Ён не прадпрымальнік, як Фіёль, і не манах, як Макарый. Скарына — ВЫДАВЕЦ, а не друкар, не работнік станка. Ён — вучоны, інтэлігент, пісьменнік, перакладчык, ён — ідэолаг, рэдактар, мовазнаўца і грамадскі дзеяч. Ён перш за ўсё патрыёт і асветнік» (Кніга: Даслед. і матэрыялы. М. 1964. Зб. 9. С. 24, на рус. мове).

У 19 ст. з партрэта С. былі зроблены копіі, якія даследчыкі і сёння часам памылкова прымаюць за арыгіналы. Першую копію ў тэхніцы медзярыту выканаў рус. мастак А. Фралоў. Гэта копія каля ніжняй рамкі злева мае манаграму «Гр. Ал. Ф.» (Гравіраваў Аляксей Фралоў). Другая копія зроблена для выдання І. П. Сахарава «Агляд славянарускай бібліяграфіі» (Спб., 1849, т. 1, кн. 2, табл. 15). Яна не мае вертыкальнага адгалінавання на гарызантальным штрыху літары «З».Абедзве копіі даюць вельмі спрошчаную характарыстыку аблічча С., значна саступаюць арыгінальнаму партрэту — лепшай гравюры ў «Бібліі» С.

*Літ.*: 554; 788. *В. Ф. Шматаў.*

**ГРАВЮ́РЫ Ў ВЫДА́ННЯХ Ф. СКАРЫ́НЫ,** гл. ў арт. *Ілюстрацыя, Мастацкае афармленне кніг Ф. Скарыны.*

**ГРАМЫ́КА** Міхайла (Міхаіл Аляксандравіч; 1885 — 1969), беларускі сав. пісьменнік і вучоны. Аўтар першай п'есы пра С. — «Скарынін сын з Полацка» (1925), напісанай да 400-годдзя бел. кнігадрукавання. Ставілася п'еса пад назвай «Скарына — сын з Полацка» ў БДТ-1 (Бел. тэатр імя Янкі Купалы) у пач. 1926 у час святкавання юбілею. Не друкавалася. Паводле ўспамінаў сучаснікаў прэм'еры п'еса ўслаўляла кнігу, дзейнасць С.-першадрукара. Напісана была як гісторыка-біягр. твор з вял. увагай да гіст. дэталей матэр. культуры эпохі, касцюма, дэкарацый. Паводле сведчання аўтара, рукапіс п'есы загінуў у час Вял. Айч. вайны. *В. Н. Дышыневіч.*

**ГРАФІ́ЧНАЯ АРНАМЕ́НТЫКА ВЫДА́ННЯЎ Ф. СКАРЫ́НЫ.** Значную частку мастацкай аздобы «Бібліі» С. складаюць арнаментальныя гравюры (*застаўкі, канцоўкі, віньеткі* і *ініцыялы*), якія арганічна дапаўняюць фігурныя выявы (гл. *Ілюстрацыя*), ствараючы ў афармленні адзіны ансамбль. М. *Шчакаціхін* адзначаў, што ў дэкар. аздабленні кніг С. зроблены значны крок уперад у параўнанні з зах.-еўрап. выданнямі, дзе ў той час выкарыстанне чыстай арнаментыкі было даволі абмежаваным; у славянскім жа кнігадрукаванні кнігі С. па багаццю, разнастайнасці і майстэрству арнаментальных элементаў у той час не мелі сабе роўных. Напр., у кірыліцкіх друкароў, папярэднікаў С., графічная арнаментыка выканана ў традыцыях рукапісаў і мела чыста дэкар. прызначэнне. Нават у добра афармленых венецыянскіх кірыліцкіх кнігах («Служэбнік», 1547, надрукаваны В. Вукавічам, і інш.) яна толькі ўпрыгожвае старонкі.

С. першы глыбока ўсвядоміў, асэнсаваў і сфармуляваў эстэтычнае і функцыянальнае, змястоўнае значэнне арнаментальных гравюр. Падкрэсліваючы ідэйна-зместавае значэнне заставак, ён пісаў: «За каждою кафісмою заставица болшая, а по каждой славе заставица меншая для лепшего разделения чтущим положены суть» (гл. с. 166). Гэта адно з першых у сусв. кнігадрукаванні выказванняў пра ролю арнаментальных гравюр. Аналіз аздобы кніг С. пацвярджае яго тэарэт. выказванні. Меншыя застаўкі (віньеткі) у «Бібліі» садзейнічаюць ідэйна-зместавай і дэкаратыўна-прасторавай арганізацыі старонак, дзеляць тэкст на раздзелы і главы, арганізуюць найб. ёмкае ўспрыманне напісанага (надрукаванага). Адначасова сваім дэкорам надаюць старонкам прыгажосць, святочнасць, фарміруюць ансамбль маст. аздобы кніг у цэлым. Асабліва выразныя дэкар. «болшие» застаўкі, дзе ўмоўныя выявы людзей (часам путці) умела аб'яднаны з раслінным арнаментыкай рэнесансавага стылю — пластычна награвіраванымі лісцямі аканта (першыя адбіткі ў кн. «Песня песням», «Юдзіф», «Ісус Сірахаў», «Псалтыр»). Гэтыя застаўкі звычайна размешчаны пасля прадмовы ў пачатку тэксту кнігі, яны адзначаюць «пачатак» чытання і адначасова выконваюць раздзяляльную функцыю. У пражскіх выданнях іх 4. Паводле А. І. Някрасава пражскі арнамент С. ўяўляе арнамент італ. рэнесансу, перапрацаванага на ням. глебе. У Вільні шматлікія арыгінальныя дошкі арнаментальна-дэкар. упрыгожанняў спачатку былі выкарыстаны ў «Малой падарожнай кніжцы», потым паўтораны ў «Апостале». У «Малой падарожнай кніжцы» каля 257 адбіткаў заставак і віньетак (з 30 дошак) і каля 600 адбіткаў арнаментаваных ініцыялаў: у «Апостале» — 280 адбіткаў заставак і 427 адбіткаў ініцыялаў. На некат. старонках іх па 2 або па 3. Паводле стылю арнаментыка віленскіх выданняў С. блізкая да венецыянскай графікі эпохі Адраджэння. Падобныя выяўл. матывы трапляюцца ў аздобе кніг, якія выйшлі з майстэрняў Атавіяна, Скота, І. Такуіна, А. Петручы і інш. майстроў кніжнай справы. Аналогіі застаўкам «Малой падарожнай кніжкі» знойдзены таксама на

дэкар. рэльефах палаца герцагаў Д'есце, выкананых венецыянскім скульптарам Антоніо Ламбардзі (1458—1516). Аднак у застаўках С. значна перапрацаваны венецыянскія першакрыніцы. Яны ствараюць самабытныя ўзоры арнаментальнай аздобы, зыходзячы з іх функцыянальнага прызначэння і праблемы дэкаратыўнай арганізацыі выданняў. Гэта быў новы крок на шляху зацвярджэння ў кнізе друкарскай эстэтыкі і ўсведамлення ідэйна-зместавай ролі дэкар.-арнаментальных гравюр.

У выданнях С. акрамя ксілаграфічнага выяўлены літы наборны арнамент накшталт матыву ўмоўнай птушкі. Упершыню ён ужыты ў «Псалтыры» 1517 (арк. 2-і, 3-і, 5-ы і інш.) для афармлення калонтытулаў. У першых выданнях (кн. «Іоў», «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў») наборныя ўпрыгожанні вельмі лаканічныя — па аднаму матыву на старонцы (часцей за ўсё побач з *фаліяцыяй*). Потым яны выкарыстоўваліся друкаром больш вынаходліва — з асобных элементаў ствараліся больш складаныя ўзоры. Пры гэтым наборны арнамент часцей за ўсё выконваў ролю канцовак. У кн. «Лічбы» (арк. 74-ы) адбіты 4 элементы ў адзін радок. У кн. «Царствы» (арк. 291-ы) умоўныя птушкі ўтвараюць круг накшталт сонца. У канцы кн. «Ісус Сірахаў» ужо 6 элементаў у 3 рады. Наборным арнаментам аформлены і інш. выданні С. (Ш м а т а ў В. Ф. Наборныя ўпрыгожанні ў выданнях Францыска Скарыны // Помнікі культуры: Новыя адкрыцці, 1985). Гэта значыць, што ў слав. кірыліцкую кнігу літы арнамент першы ўвёў С., а не Сымон Будны, як лічыў М. П. Кісялёў (К і с я л ё ў М. П. Наборныя ўпрыгожанні ў выданнях Івана Фёдарава // Кніга: Даслед. і матэрыялы. М., 1964. Зб. 9). Новаўвядзенне С. садзейнічала пранікненню ў кнігу друкарскай эстэтыкі, пашырала магчымасці мастацтва кнігі. Пры выкананні ксілаграф. арнаментыкі афармленне кнігі цалкам залежала ад мастака-гравёра, а наборны арнамент даў гэту магчымасць наборшчыку, работніку друкарскага станка. Не выпадкова ў 2-й пал. 16 ст. да літых упрыгожанняў звярталіся Іван *Фёдараў, Будны,* Васіль *Цяпінскі* і інш.



Герб **Гродна.** 16 ст.



Да арт. **Гродна.** Барысаглебская царква.

Для стварэння дэкар. рытму тэксту віленскіх выданняў С. выкарыстаў таксама віньеткі і ініцыялы, графічная арнаментыка якіх у гэтых выданнях адрозніваецца рэдкім багаццем. Іх майстэрскае выкананне адзначаў У. В. *Стасаў*. Як і ў «Бібліі», розныя кампаненты афармлення віленскіх кніг удала аб'яднаны паміж сабой.

*Літ.*: 564. *В. Ф. Шматаў.*

**ГРО́ДНА** (летапісныя Гарадзень, Гарадня, Гародна, Гародня), адзін з старажытнейшых і буйнейшых гарадоў Беларусі (зараз цэнтр Гродзенскай вобласці). Матэрыялы археал. раскопак сведчаць пра існаванне стараж. Г. ў 11 ст., пра развіццё там рамёстваў, гандл. сувязей са старажытнабел., рус., укр. гарадамі, Прыбалтыкай, Польшчай і пра высокую культуру дойлідства ў 12 ст. Упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1128 як цэнтр удзельнага Гарадзенскага княства.

З 1240-х г. у складзе Вял. кн. Літоўскага. Горад няраз разбураны і спалены крыжакамі (1284, 1306, 1311, 1328, 1393). У 1314 і 1318 гродзенцы на чале са старостай Давыдам Гарадзенскім перамагалі крыжакоў і рабілі паходы на Прусію. Воіны з Г. ўдзельнічалі ў Грунвальдскай бітве 1410. З 1376 уладанне Вітаўта, пры якім Г. стаў другой сталіцай Вял. кн. Літоўскага. У 1391 атрымаў няпоўнае, а ў 1496 поўнае магдэбургскае права. З 1413 у складзе Трокскага ваяводства, з сярэдзіны 16 ст. цэнтр павета. У 16 ст. ў Г. было больш за 700 дамоў, каля 4 тыс. жыхароў.

Першаасноваи горада быў стараж. дзядзінец канца 11 ст. на высокім пагорку пры ўпадзенні ў Нёман р. Гараднічанкі. У 12—13 ст. горад складаўся з крэпасці з княжацкімі палатамі (Гродзенскі Стары замак), прылеглых да яе гандлёва-рамесных пасадаў і Барысаглебскага манастыра з царквой на суседнім пагорку. Магчыма, побач з крэпасцю размяшчалася гандл. плошча. На планіровачную структуру горада аказаў уплыў перасечаны, выразны рэльеф мясцовасці. У 12 ст. ў крэпасці была пабудавана саборная Ніжняя царква, на месцы якой у 14 ст. ўзведзена Верхняя царква, а на тэ-

**Гродна.** Гравюра 16 ст.





Да арт. **Гродна.** Стары замак.

рыторыі пасада — Прачысценская. У 15 ст. Г. атрымаў далейшае архіт.-планіровачнае развіццё. Пры вял. кн. Вітаўце стараж. крэпасць была перабудавана ў пяцівежавы гатычны Верхні замак; на бліжэйшым пагорку ўзведзены Ніжні замак, які злучаўся мостам з Верхнім. У адрозненне ад другіх пасяленняў Г. не меў знешняй лініі абарончых збудаванняў, што збліжала яго з зах.-еўрап. горадам, дзе асн. элементам умацаванняў былі замкі феадалаў. Сістэму абароны горада ўзмацнялі фарпосты — цэрквы-крэпасці. У 15—16 ст. расшыраюцца граніцы горада, пры гэтым асн. забудова складвалася на тэрыторыі паміж Нёманам і Гараднічанкай. У гэты час Г. меў развітую планіровачную сетку вуліц, якая была нерэгулярнай і характарызавалася няправільнымі абрысамі кварталаў, больш дробных у цэнтр. частцы горада, крывымі вуліцамі, якія сыходзіліся да замка і гандл. плошчы. У больш пазнейшым усх. раёне сфарміравалася некалькі рэгулярных напрамкаў, прыкладна паралельных вул. Віленскай і Азерскай. Важнай асаблівасцю гэтага перыяду было перамяшчэнне грамадскага цэнтра горада на У ад замка. Ім стала новая гандл. прамавугольная ў плане плошча, якая склалася на перасячэнні асн. магістралей і мела замкнутую кампазіцыю. Плошча злучалася з замкам Замкавай вуліцай. Асн. элементамі забудовы плошчы былі драўляны касцёл (закладзены каля 1389), на месцы якога ў 16 ст. ўзведзены мураваны касцёл, ратуша (1496), прыходская Сімяонаўская царква, гандл. рады, карчма, жылыя дамы заможных гараджан. Будынак ратушы вылучаўся шмат'яруснай вежай — гал. вертыкаллю ў сілуэце горада. У паўн. частцы была малая гандл. плошча — Нямецкі рынак. У першай палове 16 ст. на месцы руін Ніжняга замка быў пабудаваны каралеўскі палац, які меў манум. аб'ём з высокім гатычным двухсхільным дахам. Разам з іншымі асн. пабудовамі Г. палац стаў важным элементам гар. панарамы з боку Нёмана. Значнымі збудаваннямі былі 2 корпусы каралеўскіх канюшняў 15 ст. Культавыя будынкі займалі вяршыні прыбярэжных пагоркаў, вузлавыя месцы планіровачнай структуры і служылі дамінантамі прасторавай кампазіцыі горада. Многія храмы размяшчаліся ў завяршэнні відавых перспектыў вуліц. Гэтая асаблівасць, абумоўленая функцыянальнымі і эстэт. патрабаваннямі, на працягу стагоддзяў з'яўлялася горадабудаўнічай традыцыяй. Масавая жылая забудова Г. была ў асн. драўляная або мела фахверкавую канструкцыю. Дамы былі арыентаваны гал. тарцовымі фасадамі на вуліцу, у шэрагу выпадкаў аб'яднаны ў групы



Ю. Гудзіновіч. Францыск Скарына. Бронза. 1986.

па 3—4, без прысядзібных участкаў. Будынкі часта ўзводзілі на падклецях з галерэямі. У сярэдзіне 16 ст. ў склад Г. ўключаны Занёманскі форштат, дзе было некалькі вуліц, рынак і звярынец. Абедзве часткі горада злучаліся мостам на апорах і з вежай на правым беразе (упершыню ўпамінаецца ў 1486), а таксама паромным перавозам. Развіццё планіроўкі і забудова спалучаліся з гар. добраўпарадкаваннем. Вуліцы брукаваліся, з 1541 вядомы водаправод. У 16 ст. сфарміраваліся асновы прасторавай структуры Г., якія атрымалі развіццё ў перыяд архітэктуры барока і пазней. Склалася сетка вуліц, вызначыліся месцы дамінуючых збудаванняў.

У часы С. горад — важны палітычны цэнтр, цэнтр рукапісання, рамёстваў, дэкар.-прыкладнога і выяўленчага мастацтва, кавальства і маст. ліцця. У 1543 у Г. засн. т. зв. Літоўская капэла (адзін з найб. ранніх аркестравых калектываў на тэр. Беларусі). З канца 16 ст. асяродкам муз. культуры горада стала правасл. брацтва.

*Літ.*: Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гродно, 1910; Кудряшов В. И. Гродно. М., 1960; Квитницкая Е. Д. Планировка Гродно в XVI—XVIII вв.// Архитектурное наследство. М., 1964, № 17; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии (Дооктябрьский период). 3. изд. Мн., 1985. *Я. Н. Мараш* (гісторыя), *Ю. У. Чантурыя* (архітэктура).

**ГРУШЭЎСКІ** Міхаіл Сяргеевіч (1866—1939), украінскі буржуазны гісторык. Аўтар прац «Гісторыя Украіны — Русі» (т. 6, Кіеў; Львоў, 1907), «Культурна-нацыянальны рух на Украіне ў XVI—XVII ст.» (Кіеў; Львоў, 1912), «Гісторыя ўкраінскай літаратуры» (т. 5, вып. 1, Кіеў, 1926), у якіх даў характарыстыку дзейнасці С., прывёў біягр. звесткі. Адзначыў, што С. для перакладаў карыстаўся чэш. Бібліяй 1506 і царк.-слав. тэкстамі асобных біблейскіх кніг, надрукаваных слав. першадрукаром Ш. Фіёлем. Выдавецкую дзейнасць С. лічыў працягам яго справы. Меркаваў, што блізкасць скарынінскіх перакладаў да нар. мовы — вынік уплыву чэш. нац. руху. Адзначаў адсутнасць сувязі спраў С. з якой-небудзь рэліг. дактрынай. Лічыў С. праваслаўным, а дзейнасць яго тлумачыў матывамі нац. і культ. характару. Сцвярджаў, што кнігі С. зрабілі пэўны ўплыў на бел. і укр. грамадства. Адводзіў важную ролю прадмовам С., звязваў пералічаныя ў іх навукі з патрэбамі тагачаснай школьнай справы. Падкрэсліў, што да друкаванай кн. «Быццё» С. на ўкр. і бел. землях у 15 і 16 ст. не было поўнага тэксту Бібліі. *А. А. Варатнікова.*

**ГРЫГО́РЫЙ І** (Gregorius) Вялікі (каля 540—605), царкоўны пісьменнік, рымскі папа ў 590—604. З сям'і патрыцыя. Быў рымскім прэтарам, пакінуў пасаду, усё сваё багацце аддаў на заснаванне 7 манастыроў, сам стаў манахам. Пасля смерці папы Пелагія II выбраны на папскі прастол. Г. І належыць шэраг новаўвядзенняў у знешнім і ўнутраным жыцці рымскай царквы. Рэфарматар царк. песнапення. Напісаў шэраг твораў багаслоўскага і рэлігійна-маральнага характару, з іх «Пастырскае правіла» было на працягу многіх гадоў сапраўдным кодэксам для духавенства. Прылічаны хрысціянскай царквою да святых. Творы Г. І былі вельмі пашыраны ў краінах Еўропы. У ўсх. славян спісы яго твораў вядомы з 12 ст. У прадмове да ўсёй «Бібліі» С. цытуе Г. І. *Ю. А. Лабынцаў.*

**ГРЫЦКЕ́ВІЧ** Анатоль Пятровіч (н. 1929), беларускі сав. гісторык. Д-р гіст. н. (1985). Працуе ў Мінскім ін-це культуры. Аўтар прац па гісторыі Беларусі феад. эпохі. У кнізе «450 год беларускага кнігадрукавання» (1968, з В. У. Чапко) змясціў нарыс «Эпоха Ф. Скарыны», у якім ахарактарызаваў паліт., гасп., сац. і культ. развіццё Беларусі ў 15 — 1-й палове 16 ст.; абгрунтаваў вывад, што дзейнасць С. была падрыхтавана ўсім ходам гіст. развіцця Беларусі. У шэрагу артыкулаў асвятляе пытанні ўплыву С. на развіццё кнігадрукавання

і ўвогуле культуры як на Беларусі, так і ў Расіі, падтрымлівае гіпотэзу пра магчымае наведванне С. Масквы. Г. лічыць, што Іван Фёдараў быў прадаўжальнікам спраў С. ў галіне кнігадрукавання.

*Тв.*: Выходцы из Белоруссии в общественной и культурной жизни Русского государства в XV — первой половине XVI в.//Славянские культуры и мировой культурный процесс. Мн., 1982; Белоруссия во времена Ивана Фёдорова//Иван Фёдоров и восточнославянское книгопечатание. Мн., 1984; Іван Фёдараў у Беларусі//Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1984. № 3. *В. У. Чапко.*

**ГРЫЦКЕ́ВІЧ** Валянцін Пятровіч (н. 1933), беларускі сав. гісторык. Канд. мед. н. (1963). Працуе ў Ваенна-медыцынскім музеі ў Ленінградзе. Аўтар артыкулаў па пытаннях гісторыі Беларусі, гісторыі медыцыны і краязнаўству. Вывучаў дзейнасць С. як даследчыка прыроды і ўрача. У арт. «Месца Беларусі і Літвы ў распаўсюджанні прыродазнаўчанавуковых ведаў у XVI ст.» (Культурныя сувязі народаў Усходняй Еўропы ў XVI ст.: Праблемы ўзаемаадносін Польшчы, Расіі, Украіны, Беларусі і Літвы ў эпоху Адраджэння. М., 1976) разглядае дзейнасць С. ў якасці каралеўскага садоўніка ў Празе, аднаго з заснавальнікаў securityнічнага саду. Выказвае меркаванне аб шырокай вядомасці С. як батаніка, які атрымаў ступень доктара медыцыны ў Падуанскім ун-це, вядомым сваім прыродазнаўчым напрамкам навук. даследаванняў. Дзейнасць С. як урача ў Вільні і Празе асвятляе ў арт. «З мінулага беларуска-чэхаславацкіх сувязей у галіне медыцыны» (з А. А. Федзінцом, Советское здравоохранение. 1968. № 5) і інш. *В. У. Чапко.*

**ГУДЗІНО́ВІЧ** Юрый Уладзіміравіч (н. 1952), беларускі сав. мастак дэкар.-прыкладнога мастацтва. Працуе ў металапластыцы. У 1986 на аснове іканаграф. матэрыялу з «Бібліі» стварыў бюст «Францыск Скарына» (бронза, ліццё, 8×6×4 см, калекцыя А. Я. Белага).

**ГУМАНІ́ЗМ** (ад лац. humanus чалавечы, чалавечны), у шырокім сэнсе філасофска-светапоглядная пазіцыя, якая сцвярджае высокую годнасць чалавека — творцу зямнога шчасця, прызнае яго права на свабоднае развіццё сваіх здольнасцей, ставіць дабро чалавека крытэрыем грамадскага прагрэсу, абараняе ідэалы справядлівасці, чалавекалюбства, свабоды і дасканаласці асобы. Зарадзіўся ў старажытнасці. Ідэі Г. ўпершыню афарміліся ў цэласную сістэму поглядаў, кірунак грамадскай думкі ў эпоху *Адраджэння*, прайшлі шэраг этапаў у сваім развіцці і атрымалі найб. поўнае выяўленне і навук. абгрунтаванне ў марксізме. Сацыялізм стаў рэальным увасабленнем прынцыпаў марксісцкага Г., абвясціўшы дэвізам грамадскага развіцця: «Усё ў імя чалавека, для дабра чалавека».

У вузкім канкрэтна-гіст. сэнсе Г.— культурны рух эпохі Адраджэння, выкліканы глыбокімі зменамі ў эканам. і паліт. развіцці Еўропы перыяду распаду феадалізму і зараджэння капіталіст. спосабу вытворчасці. Зарадзіўся ў Італіі (14 ст.), пашырыўся ў многіх еўрап. краінах (15—16 ст.). Гал. прадстаўнікі Г. Адраджэння — Ф. Петрарка, К. Салютацы, Л. Вала, Л. Б. Альберці, Піка дэла Мірандала, Эразм Ратэрдамскі, К. Цэльтыс, І. Рэйхлін, Т. Мор і інш.Італ. гуманісты абазначалі сваю дзейнасць як «Studia humanitatis» — дзейнасць, накіраваная на засваенне ўсяго багацця антычнай культуры, стварэнне новага свецкага светапогляду, фарміраванне свабоднай, духоўна разняволенай асобы. Этыка-філал. інтарэсы гуманістаў абумовілі пераважную ўвагу да вывучэння рыторыкі, граматыкі, паэзіі, гісторыі, маральнай філасофіі і прывялі да стварэння новай, антысхаласт. сістэмы адукацыі. У цэнтры светапоглядных пошукаў Г. паўстала праблема чалавека, яго зямнога прызначэння, выхавання і ўдасканалення, усебаковага развіцця здольнасцей і служэння грамадскім ідэалам. Яркая рыса гуманіст. погляду — культ ведаў, узвышэнне асветнага розуму над сляпой верай, прызнанне мудрасці, разважнасці, шырокай адукаванасці гал. якасцямі чалавека, якія вызначаюць і яго маральную дасканаласць. Кожны індывід ад прыроды надораны здольнасцю інтэлектуальнага і маральнага самаўзвышэння, дасягнення шчасця ў зямным жыцці. Г. сцвярджаў гармонію асабістага інтарэсу і грамадскага дабра, адстойваў прынцып служэння грамадству, унёс значны ўклад у працэс культ. самавызначэння еўрап. нацый. У 16 ст. Г. Адраджэння пашырыў свае ідэйныя граніцы і адначасова страціў самастойнасць, звяртаючыся да тэалагічнай, натурфілас., прыродазнаўчанавук. праблематыкі і ўступіўшы ў цесную сувязь з сац.-рэліг. рухам гэтай эпохі (гл. *Рэфармацыя*). На Беларусі рэнесансава-гуманіст. культура пачала складвацца ў канцы 15 — 1-й пал. 16 ст. Асаблівасці гіст. развіцця ўсх.-слав. рэгіёна абумовілі блізкасць бел. Г. да культуры Паўн. Адраджэння, якая характарызавалася сувяззю з рэліг.-рэфармац. вучэннямі, нац.-патрыятычнай самасвядомасцю, ярка выяўленай рэліг.-этычнай накіраванасцю і інш. Гуманіст. думку на Беларусі характарызуе дэмакратычная і асветніцкая накіраванасць, пафас служэння агульнаму дабру, Радзіме, зварот да шырокіх слаёў простага народа, «людзей простых, посполитых руского языка». Арыентацыя айч. Г. на грамадскія інтарэсы, патрыят. імкненні істотна абмежавалі прэрагатывы рэнесансавага індывідуалізму, якія ярка выявіўся ў Зах. Еўропе.

Дэмакратычная трактоўка духоўнай культуры выявілася ў асн. дзейнасці С., звароце да роднай мовы, непрыняцці схаласт. вучонасці. Характэрная рыса гуманіст. свядомасці на Беларусі — імкненне сінтэзаваць ідэйна-культ. каштоўнасці антычнасці і хрысціянства, з пазіцый рэнесансавай культуры пераасэнсаваць рэліг. ідэалы ў духу т. зв. хрысціянскага гуманізму. Першую спробу аб'яднаць «Саламонову и Аристотелеву божественную и житейскую мудрость» зрабіў С. (гл. с. 46). У светапоглядзе і грамадскай дзейнасці С. выявіліся і нацыянальна-своеасабліва адлюстраваліся важнейшыя рысы гуманіст. культуры Адраджэння. С.— заснавальнік рэнесансава-гуманіст. кірунку ў бел. філас. і грамадска-паліт. думцы. Як мысліцель-гуманіст ён звярнуўся да праблемы чалавека і грамадства, прызначэння і сэнсу жыцця, духоўна-маральнай свабоды і годнасці асобы, гармоніі грамадства і індывідуальнага дабра, грамадзянскай актыўнасці і служэння свайму народу. С. імкнуўся даць гуманістычна-асв. інтэрпрэтацыю Свяшчэннага пісання як крыніцы практычна карысных, у т. л. і свецкіх, ведаў, дзе «научение седми наук вызволеных достаточное» (гл. с. 10). Пры дапамозе біблейскіх тэкстаў ён абгрунтоўваў рэнесансавыя ідэалы духоўнага разняволення чалавека, яго інтэлектуальна-маральнага ўдасканалення: «да совѣршен будеть человѣк божий и на всяко дѣло добро уготован» (гл. с. 19). Разважаючы ў прадмовах да кн. «Прытчы Саламона», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў» і інш. пра вышэйшае дабро і сэнс чалавечага існавання, С. сцвярджаў, што гал. прызначэнне чалавека — удасканаленне зямнога жыцця, набыццё мудрасці і развіццё дабрачыннасцей, грамадска-карысная дзейнасць. Карэннае маральнае пытанне, што паўстае перад кожным чалавекам,— «яко ся имамы справовати и жити на сем свете» (гл. с. 33), і менавіта на яго павінна адказаць філасофія. Сярод маральных дабрачыннасцей С. на 1-е месца ставіў любоў як вышэйшы прынцып узаемаадносін паміж людзьмі, таму што «каждый хрестианин... наиболей любовь ко всим да соблудаеть, еже ест совершена над все иные дарования, без нея же ничто проспешно ест» (гл. с. 196—197). Адсюль вынікаюць гуманіст. патрабаванні прызнання годнасці кожнага чалавека, верацярпімасці, роўнасці, справядлівасці, «братолюбия», «друголюбия», «незлобия» (гл. с. 186). Чалавечае супольнае жыццё, лічыў С., павінна быць заснавана на ўсеагульным міры і згодзе. Гуманіст. этыка С. выхоўвала сац.-актыўнага чалавека, грамадзяніна і патрыёта, гатовага служыць «пожитку посполитому» ўсімі сіламі і здольнасцямі, праслаўляла людзей, якія «всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея не лютовали» (гл. с. 94). У духу рэнесансавага Г. імкнуўся С. да гарманізацыі грамадскага і індывідуальнага дабра, сац. абавязкаў і духоўнай свабоды чалавека, інтэлектуальнага і «цялеснага» ўдасканалення індывіда. Антыфеад. светапоглядная накіраванасць выяўляецца ў поглядах С. на сапраўдную годнасць і высакароднасць чалавека, якія залежаць не ад паходжання, знатнасці і багацця, а вызначаюцца прыроднымі здольнасцямі індывіда, яго мудрасцю, маральнай дасканаласцю, грамадскай карысцю, якую ён прыносіць. С. ясна разумеў высокую агульначалавечую каштоўнасць «Studia humanitatis», яго характарызуе сапраўды рэнесансавая шырыня навук. інтарэсаў, універсальнасць творчых здольнасцей, глыбокая філал. эрудыцыя, бліскучае веданне антычнай культ. спадчыны. Ва ўзвышэнні чалавечага духу С., як і ўсе вял. гуманісты Адраджэння, бачыў сваё прызначэнне. Ён праслаўляў тых, хто «болѣй избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою, нежели во тленных великих царскых сокровищах» (гл. с. 43). Гуманіст. светапогляд С., яго асветніцкая дзейнасць заклалі асновы шматвяковай традыцыі Г. ў бел. культуры. Гл. таксама ў арт. *Светапогляд Ф. Скарыны.*

*Літ.:* 130; 156; 233; Петросян М. И. Гуманизм. М., 1964; Проблемы гуманизма в марксистско-ленинской философии: (История и современность). М., 1975; Горфункель А. Х. Гуманизм и натурфилософия

итальянского Возрождения. М., 1977; Немилов А. Н. Немецкие гуманисты XV века. Л., 1979; Баткин Л. М. Итальянские гуманисты: стиль жизни и стиль мышления. М., 1978. *Г. У. Грушавы.*

**ГУ́РЫН ФЕДАРО́ВІЧ,** купец, член брэсцкага гарадского магістрата («райца»), уладальнік б-кі. У сваім завяшчанні, пададзеным для ўнясення ў брэсцкія «местские» (гарадскія) кнігі 24.5.1624, у ліку розных друкаваных і рукапісных кірыліцкіх кніг упамянуў некалькі выданняў «друку Скоринина», якія падараваў: Грыцку Фесеві — «Апостал», «Псалтыр» (пражскае ці віленскае выданне — невядома), Грыцку Паповічу — «Апостал». Акрамя гэтых кніг, у завяшчанні Г. Ф. ўпамінаецца кніжны ўклад у царкву: «До Словатич, до св. Покровы — библию». Магчыма, размова ідзе таксама пра пражскія выданні бел. першадрукара.

*Літ.:* Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией. Т. 6. Вильна, 1872.

**ГУС** (Hus) Ян (1371—1415), нацыянальны герой чэш. народа, прапаведнік, мысліцель, ідэолаг чэш. *Рэфармацыі.* У 1393 скончыў Пражскі (Карлаў) ун-т, у 1396 магістр, у 1401—02 дэкан ф-та вольных мастацтваў, 1409—10 — рэктар гэтага ун-та. З 1402 прапаведнік Віфлеемскай капліцы ў Празе. У сваіх пропаведзях крытыкаваў несправядлівасць, бязлітасную эксплуатацыю простага народа свецкімі і духоўнымі феадаламі, рэзка выступаў супраць гандлю індульгенцыямі, выкрываў каталіцкае духавенства, патрабаваў вяртання да прынцыпаў ранняга хрысціянства, ураўнавання ў правах міран з духавенствам. Яго творы і дзейнасць выклікалі непрымірымую нянавісць царквы. Асуджаны царк. саборам як ерэтык і спалены. Пакаранне Г. прывяло да ўзмацнення нац.-вызваленчага руху чэш. народа (т. зв. гусіцкі рэвалюцыйны рух). У сваёй гал. працы «Пра царкву» (1413) асн. законам адносін паміж людзьмі лічыў пазнаны розумам «закон божы», якім абавязаны кіравацца кожны чалавек. У працы «Выкладанне веры» разглядаў сац. і маральныя праблемы Свяшчэннага пісання. Праца Г. напісана на роднай мове, дзе вольна трактуюцца тэксты Свяшчэннага пісання. Г. вучыў народ самастойна мысліць, лічыў, што кожны мае права на вольнае выкладанне Свяшчэннага пісання. Распрацаваў арыгінальную філасофскую канцэпцыю, дзе абгрунтаваў прынцыповую роўнасць людзей, хаця і дапускаў у структуры грамадства «тры катэгорыі народа» і захаванне ўлады ў руках пануючых класаў. Калі вышэйшая норма справядлівасці — «закон божы» — парушаецца, то народ мае права на паўстанне. Вывучэнне Г. залажыла аснову як бюргерскай, так і сялянска-плебейскай рэвалюц. ідэалогіі, зрабіла ўплыў на фарміраванне ідэй ням. Рэфармацыі. Г. абараняў нац. правы чэш. народа і яго культуру.

У пач. 15 ст. ідэі Г. пачалі пранікаць на Беларусь. Г. пасылае з асобай місіяй свайго вучня і паплечніка Ераніма Пражскага ў Германію, Венгрыю, Польшчу. У 1413 ён прыехаў у Віцебск, правёў у ім 2 месяцы, жыхарам горада даў высокую ацэнку, назваў іх «добрымі хрысціянамі» (наперакор рэзкай адмоўнай ацэнцы каталіцкага епіскапа). Распаўсюджанню ідэй Г. на Беларусі і ў Літве спрыяла падтрымка чэхамі барацьбы бел. і літ. народаў супраць Тэўтонскага ордэна. Вынікі Грунвальдскай бітвы (1410) былі з задавальненнем прыняты Г. і яго аднадумцамі, якія глядзелі на суседнія слав. народы як на саюзнікаў у барацьбе. У Вял. кн. Літоўскім была падтрымана вайна чэхаў за незалежнасць. У 1422 у Чэхію было паслана 5-тысячнае бел.-літ. войска на чале з пляменнікам Вітаўта Жыгімонтам Карыбутам. Пазней, зразумеўшы ваяўніча-антыфеад. характар гусізму, феадалы адазвалі войска, але просты народ усё больш пранікаўся спачуваннем да гусітаў. Важным цэнтрам распаўсюджання ідэй Г. быў Кракаўскі ун-т, у якім вучылася нямала беларусаў, у т. л. і С., дзе ён, як лічаць З. Ю. Капыскі, С. А. Падокшын, В. У. Чапко, пазнаёміўся з вучэннем Г. Даследчыкі мяркуюць, што пры перакладзе Біблії С. апіраўся перш за ўсё на вопыт Г. і што не выпадкова месцам выдання кніг на бел. мове была Прага (А. С. Мыльнікаў, П. У. Уладзіміраў, А. В. Флароўскі, Падокшын). У працах С. сустракаюцца думкі, блізкія па духу Г., напр., пра значэнне роднай мовы ў асвеце народа, пра самастойнае вывучэнне, маральнае і пазнавальнае значэнне тэкстаў Свяшчэннага пісання, пра роўнасць усіх народаў, пра ролю сумленнасці ў асабістых і грамадскіх справах і інш. У С. і Г. падобныя тэндэнцыі можна адзначыць у трактаванні сац. з'яў, маралі, надзеі на светлае будучае простага народа. Абодва мысліцелі маюць агульныя тыпалаг. рысы. Ім характэрна прызнанне праў народа на шчаслівае жыццё, якое адпавядае прыродзе чалавека і законам сумлення. Але Г. быў настроены больш рэвалюцыйна. Эвалюцыя ідэй Г. і гусізму, лёс нац.-вызваленчага руху табарытаў знайшлі значнае адлюстраванне на Беларусі, дзе атрымалі падтрымку прадаўжальнікі спраў Г. «чэшскія браты», «мараўскія анабаптысты». Ідэі гусізму прапагандавалі: *Пётр з Ганёндза,* Лаўрэнцій Крышкоўскі, Сымон Жак. Выдадзены Сымонам Будным *«Катэхізіс» 1562* змяшчаў пэўныя адгалоскі ідэй Г. Асабліва прыкметна сувязь яго ідэй з рэвалюцыйна-плебейскім крылом рэфарматараў у Польшчы, на Беларусі і ў Літве *(Якуб з Калінаўкі,* Павел з Візны, Марцін Чаховіц).

*Літ.:* Энгельс Ф. Крестьянская война в Германии//Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2 изд. Т. 7; 132; 203; 228; Неедлы З. Ян Гус//Славяне. 1944. № 7. *Э. К. Дарашэвіч.*

Ян Гус.




**ГУСО́ЎСКІ** Мікола [1470 (?) — 1533 (?)], паэт-гуманіст і асветнік эпохі Адраджэння, прадстаўнік навалац. усх.-еўрап. школы, дзеяч славянскай культуры. З сям'і паляўнічага. Адукацыю атрымаў на Беларусі, паглыбляў веды ў Вільні, Польшчы, Італіі. Вял. ролю ў лёсе Г. адыграў мецэнат Э. Вітэлій — сакратар велікакняжацкай канцыляры, біскуп плоцкі. У 1518 у складзе польска-літ. дыпламат. місіі, якую ўзначальваў Вітэлій, Г. трапіў у Рым. У Італіі канчаткова сфарміраваліся яго творчая індывідуальнасць і літаратурнае крэда. Выконваючы заказ Вітэлія для папы Льва X, які хацеў пачуць праўдзівае паэт. слова пра паляванне на зубраў, Г. стварыў у 1522 у Рыме свой лепшы твор «Carmen de statura feritate ac venatione bisontis» («Песня пра постаць, дзікасць зубра і паляванне на яго», перавыд. ў 1855, 1894, 1974, 1977, 1980), дзе выклаў шматгранную ідэйна-эстэт., пед.-асв. праграму. У 1523 у Кракаве выдаў у друкарні Ераніма Віетара паэт. зборнік «Песня пра зубра», які складаўся з празаічнага прысвячэння, аднайм. паэмы і 11 вершаў, напісаных пераважна ў рымскі перыяд. У прысвячэнні, адрасаваным каралеве *Боне,* паэт прасіў яе ўзяць на сябе дзярж. апякунства над таленавітымі і спрактыкаванымі ў навуцы і мастацтве людзьмі. Паэт змог прыўзняцца над вузкасаслоўным, каставым мысленнем і выступіў як выразнік перадавых грамадска-паліт. і эстэт. поглядаў таго часу і як папулярызатар гісторыі і культуры Беларусі і Літвы на сусв. арэне, прадстаўнік рэнесансавага рэалізму. У паэме яскрава выражаны патрыятычны заклік да яднання і дружбы розных па веры і культуры еўрап. народаў перад пагрозай турэцкага і татарскага нашэсця, услаўленне дзейснай, свабоднай, гарманічна развітай і мужнай асобы, ідэя патрыятызму і антываенны пафас, рэнесансава-утапічная канцэпцыя гарманічных узаемадачыненняў чалавека, грамадства і прыроды, міждзярж. адносін. Усе часткі твора аб'яднаны тэмай лёсу радзімы, адданасці роднай зямлі. Г. стварыў маст.-гіст. гімн прыгажосці сваёй зямлі. Зубр у паэме — алегарычны вобраз роднага краю, сімвал яго былой магутнасці. Вял. заслуга Г. ў пастаноўцы ім праблемы аховы прыроды, беражлівых адносін да яе, рац. выкарыстання і памнажэння прыродных багаццяў радзімы. Для Г. прырода — усенародны здабытак і крыніца здароўя, радасці, выхавання высокіх патрыятычных і

эст. пачуццяў. Паэт першы ў слав. л-ры ўбачыў і адлюстраваў пачатак крызісу сац.-паліт. ладу Вял. кн. Літоўскага, крытыкаваў сацыяльна-класавую палітыку Польшчы і Вял. кн. Літоўскага, быў выразнікам настрояў баяр, шляхты і гараджан. Унутраная супярэчлівасць яго светапогляду ў абстрактнасці гуманізму, супярэчнасці паміж верай і ведамі, артадоксіяй і вальнадумствам, ідэалізмам і стыхійным матэрыялізмам. З абурэннем паэт пісаў пра пакуты простага народа. З мэтай маральна-этычнага ўдасканалення грамадства, павышэння яго адукаванасці Г. прапагандаваў сістэму лац. еўрап. адукацыі («сем свабодных навук»).

У войнах паэт бачыў адну з найважнейшых прычын няшчасцяў чалавецтва і пакут радзімы, народа. Ён заклікаў пакончыць з міжусобіцамі ўладароў хрысц. Еўропы, прапаведаваў роўнасць народаў. Грамадзянскай пазіцыяй пісьменніка ён лічыў абуджэнне нац. свядомасці свайго народа. Г. даў цудоўныя ўзоры грамадзянскай патрыят. лірыкі. Заклікаў суайчыннікаў задумацца над цяжкім становішчам радзімы, усвядоміць, што гал. біч — гэта палітыка ўладароў. Пясняр прыроды, працы і свабоднага чалавека ў бел. і ўвогуле ўсх.-еўрап. л-ры, Г. выказаў замілаванасць і гарачую любоў да роднай зямлі. Ярка паказана жыццё мужных, працавітых людзей, паляўнічых, ратнікаў, бортнікаў, аратых, іх працоўная і ратная дзейнасць, побыт і звычаі, ідэалізаваны вобраз вял. князя Вітаўта. Беражлівыя, хоць і не да канца паслядоўныя адносіны Г. да звычаяў і фальклору бел. народа. У нар. мудрасці ён бачыў невычэрпную крыніцу паэзіі, інфармацыі і адну з прычын стойкасці нар. духу. Паэт паклаў пачатак збіранню народнай мудрасці беларусаў. Ён авалодаў скарбамі бел. нар. гумару, прынцыпамі яго выкрывальнага ўздзеяння; выступіў супраць тых, хто лічыў, што вучоная лац. паэзія па свайму характару несумяшчальная з творчасцю народа. «Песня пра зубра» напісана на класічнай латыні, але ў ёй ёсць прыкметы жывой бел. мовы. Паэзія Г. паўплывала прама і апасродкавана на станаўленне гістарыяграфіі Вял. кн. Літоўскага, росквіт лац., уласнабел., польскай і польска-бел. л-р. Творчасць Г. паўплывала і на развіццё такіх жанраў ва ўсх.-еўрап. л-ры, як лірыка-эпічная, гіст. і сатыр. паэма, элегія, эпіграма, на палемічна-публіцыст. трактат і нарматыўную паэтыку. Г.— таксама аўтар паэм «Новая і славутая перамога над туркамі ў ліпені месяцы» (Кракаў, 1524) і «Жыццё і подзвігі св. Гіяцынта» (Кракаў, 1525).

Г. ў «Песні пра зубра» пісаў, што яму былі добра вядомыя «рускія кнігі». Сярод іх маглі быць і кнігі «Бібліі» С. Аб магчымым знаёмстве Г. з выданнямі С. сведчыць такая дэталь. Тытульны ліст «Песні пра зубра» зроблены, хутчэй за ўсё, па ўзору і падабенству тытульнага ліста «Бібліі» і застаўак «Малой падарожнай кніжкі» С. Ён складаецца, як і ў «Бібліі» С., з 4 асобных белаштрыхавых застаўак, зробленых на чорным фоне. Па кампазіцыйнаму размяшчэнню асобных дэталей расліннага арнаменту і архіт. матываў, па стылю выканання назіраецца падабенства з застаўкамі «Малой падарожнай кніжкі». Агульная культ. арыентацыя Г. і С. вызначаецца іх імкненнем да сцвярджэння раўнацэннасці стараж.-слав. і антычных традыцый, агульначалавечага пачатку ў культ. каштоўнасцях мінулага. Г. і С. сталі па праву пачынальнікамі эстэт. навукі Беларусі. Духоўная агульнасць у светапоглядзе і жывая сувязь творчых імкненняў сведчыць аб іх прыналежнасці да адзінай нац. культ. традыцыі.




Мікола Гусоўскі. Мастак М. Басалыга.



Іаган Гутэнберг.

*Літ.:* 111; 156; Порецкий Я. И. Николай Гусовский. Мн., 1984. *В. І. Дарашкевіч.*

**ГУ́ТЭНБЕРГ** (Gutenberg) Іаган [паміж 1394—99 (або ў 1406) — 1468], ням. вынаходца кнігадрукавання (друку з наборнай формы, інструменту для стандартнай адліўкі літар, друкарскага сплаву і фарбы, прэса для друкавання). Нарадзіўся ў Майнцы ў багатай сям'і. Паводле дакументаў, Г. быў «залатых спраў» майстрам, ведаў латынь. У 1418—20 вучыўся ў Эрдгірцкім ун-це. У 1428 — пач. 1429 па паліт. матывах быў вымушаны пакінуць родны горад. У 1434 і 1436—44 жыў у Страсбуры, з 1448 зноў у Майнцы. Пачатак яго вынаходніцтва адлюстраваны ў страсбурскіх актах 1439 пра судовую справу з братамі Дрытцан; з іх вынікае, што ў 1436 Г. рабіў нейкае вынаходства, звязанае з кнігадрукаваннем, і з гэтай мэтай арганізаваў т-ва. Дакладных звестак пра дзейнасць т-ва няма. Выкарыстанне вынаходства зафіксавана дакументам ад 6.11.1455, з якога вынікае, што ў 1450 на арганізацыю друкарні Г. узяў у майнцкага бюргера І. Фуста пазыку і той не пазней пачатку 1452 стаў кампаньёнам Г. па кнігапрадпрыемству. У канчатковым выніку друкарня, 3 буйныя шрыфты, гарнітура ініцыялаў для каляровага друку, а таксама 42-радковая Біблія і пачаты друкаваннем т. зв. Майнцкі псалтыр у 1455 перайшлі ў рукі Фуста і ён разам з памочнікам П. Г. Шэферам развіў кнігавыдавецкую дзейнасць. Але Г. і пасля гэтага працягваў друкаваць кнігі. Ёсць меркаванне, што ён у 1459 арганізаваў архіепіскапскую друкарню ў Майнцы. Устанавіць даты выхаду кніг Г. цяжка, бо выданняў з яго імем не выяўлена. Толькі шляхам вывучэння друкаваных помнікаў 15 ст. выдзелена група выданняў і шрыфтоў, якія суадносяцца з дзейнасцю Г. Зберагліся выданні, надрукаваныя першым гутэнбергаўскім шрыфтам (т. зв. шрыфт данатаў і календароў): фрагменты выданняў страсбурскага перыяду, у т. л. «Сівілінай кнігі», выданне якой можна датаваць 1440; Астранамічны каляндар на 1448, Турэцкі каляндар 1454. Дробныя шрыфты ўпершыню былі выкарыстаны ў індульгенцыях 1454—55 у абарону Кіпра ад турак. Шэдэўрам Г. была т. зв. 42-радковая Біблія, надрукаваная ў 1452—55. У Г. пасля суда з Фустам, відаць, застаўся толькі яго першы шрыфт і ім ён у 1456—59 друкаваў падручнікі, календары і інш. дробныя выданні. У 1459—61 Г. выдаў, відаць, у Бамбергу на сродкі мясц. епіскапа т. зв. 36-радковую Біблію. У Майнцкай архіепіскапскай друкарні ў 1460 упершыню быў выпушчаны лац. тлумачальны слоўнік «Каталікон» І. Бальба, пасляслоўе якога безымянна ўсхваляе вынаходцу кнігадрукавання. Ёсць звесткі, што ў 1462 Г. надрукаваў адозву майнцкага архіепіскапа Д. фон Ізенбурга, які ўзняў мяцеж супраць папы. Новы архіепіскап у 1465 дабіўся ад Г. прысягі ў вернасці, вызваліў ад падаткаў і абяцаў падтрымку ў кнігавыдавецкай дзейнасці. Пра апошнія гады Г. звестак вельмі мала. Уплыў лепшых узораў выданняў Г. не мог не сказацца на кнігавыдавецтве ў Чэхіі. У сваю чаргу пражскія выдаўцы аказалі ўздзеянне на выдавецкую дзейнасць С.

*Літ.:* 181; Варбанец Н. В. Йоханн Гутенберг и начало книгопечатания в Европе: Опыт нового прочтения материала. М., 1980; Пятьсот лет после Гутенберга. 1468—1968. М., 1968. *В. У. Чапко.*



**ДАВІ́Д,** цар Ізраільска-Іудзейскай дзяржавы (канец 11 ст.— каля 950 да н. э.). Абвешчаны царом Іудзеі пасля гібелі Саула. Паводле біблейскай легенды, перамог філісцімлянскага волата Галіяфа. С. неаднаразова ўпамінае Д. ў прадмовах да розных кн. «Бібліі»: «Псалтыр», «Ісус Навін», «Быццё», «Левіт», 1-й і 2-й кніг «Ца́рствы».

**«ДАВІ́Д ПЕ́РАД КІВО́ТАМ»,** «Ц а р ь Д а в и д ъ и г р а е т ь в г у с л е н е с я к и в о т г о с п о д е н ь: ц а р и ц а ж е М и х о л ь в и д я и п о г о р д е и б е н е п л о д н а», гравюра на тытульным лісце 2-й *кнігі «Царствы»,* выдадзенай С. у Празе (1518). Ілюстрацыя эпізодаў, апісаных у 5—7-м раздзелах гэтай кнігі.

**«Давід перадківотам».** Гравюра з тытульнага ліста 2-й кнігі «Царствы» Ф. Скарыны.



Захапіўшы каля 1000 да н. э. Іерусалім, Давід вырашыў зрабіць яго сваёй сталіцай і загадаў перавезці сюды ківот божы. 30 тыс. выбраннікаў суправаджалі калясніцу са свяшчэнным сімвалам народа, аднак па дарозе памёр адзін з тых, хто вёз калясніцу. Цар загадаў вярнуць ківот, і толькі праз 3 месяцы яго панеслі на руках. Калі тыя, што неслі ківот, праходзілі па 6 крокаў, цар прыносіў ахвяры, а сам, адзеты ў кароткую простую вопратку, скакаў пад воклічы і трубныя гукі народа. Гэты ветхазапаветны эпізод яскрава выяўляе патрыярхальны перыяд дзяржаўнасці, калі яшчэ не ўстанавіўся ўрачысты этыкет прыдворных паводзін: другі па ліку іудзейскі цар, учарашні пастух, радуецца шчыра і па-простаму. Літаратурны сюжэт і адпаведная яму графічная кампазіцыя з цэнтр. амбівалентным вобразам цара-скамароха сведчаць пра наяўнасць у Бібліі фальклорных, у дадзеным выпадку карнавальных, матываў.

На гравюры (105 × 105 мм) адлюстраваны момант, калі ківот пераносяць у Іерусалім. Працэсію ўзначальвае вясёлы цар Давід, які, ідучы перад ківотам, іграе на гуслях і скача. Злева — гатычны будынак з вежамі і контрфорсамі (нагадвае царкву ў Сынковічах 15—16 ст.), у акне з паўцыркульным завяршэннем царыца, якая з дакорам пазірае на цара. Маст. якасці гэтай гравюры ацэньваліся па-рознаму. У. В. Стасаў і Дз. А. Равінскі лічылі яе адной з найб. дасканалых у «Бібліі» С. З такой ацэнкай не згаджаўся М. М. Шчакаціхін. Адзначыўшы, што Давід на гравюры іграе на гуслях левай рукой, Шчакаціхін пісаў, што ўжо адзін гэты факт не дазваляе згадзіцца з ацэнкамі Стасава і Равінскага. Але па кампазіцыі, дасканаласці выканання гэта гравюра — адна з лепшых у «Бібліі» С. Усё ў ёй гарманічна, прадумана. Бездакорна паказаны выявы людзей на пярэднім плане, асабліва Давіда. Удала перададзена пластыка, складкі адзення на персана-

жах. Выкананы лёгкімі контурнымі лініямі гарысты краявід удалечыні надае кампазіцыі прастору і глыбіню. Вобразы гравюры, асабліва Давід, трактуюцца з пэўнай доляй гумару, што падкрэслена і падвешаным да акна гербам-сігнетам С. Тое, што Давід іграе на гуслях левай рукой, не зніжае маст. якасцей гравюры. Аналагічнае назіраецца і ў некат. іншых гравюрах С., (напр., у гравюры *«Руф у полі»*, дзе жняцы жнуць не правымі, а левымі рукамі). Магчыма, на падрыхтоўчых малюнках усё было наадварот, а на гравюрным люстраным адбітку Давід, як і жняцы з гравюры «Руф у полі», зрабіўся леўшуном. У бел. рукапіснай мініяцюры і гравюры 16—18 ст. гэты сюжэт невядомы.

*Літ.:* 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**ДАВІДО́ВІЧ** Ісак Аронавіч (н. 1911), беларускі сав. жывапісец і графік. У 1968 напісаў карціну «Першадрукар Ф. Скарына» (памер 160×205 см, уласнасць Маст. фонду БССР). На пярэднім плане светлавалосая дзяўчынка ў бел. нац. адзенні з кнігай у руках. За яе спіной — С. Засланяючы дзяўчынку ад манаха, ён як бы сімвалізуе перамогу розуму і асветы над сярэдневяковым панаваннем рэлігіі. У творы сцвярджаецца гуманізм дзейнасці С., яго цесная сувязь з народам.

**ДАМАНЕ́ЎСКІ** (Даманоўскі) Язэп (2-я пал. 16 ст.—1-я пал. 17 ст.), беларускі паэт, мысліцель-гуманіст эпохі позняга Адраджэння і барока. Як сацыніянін 25.1.1594 у Навагрудку ўдзельнічаў у дыспуце з філосафам-схаластам С. Сміглецкім. З пазіцый *наміналізму* адмаўляў прадіснаванне Хрыста. У канцы 1590-х г. наблізіўся да атэізму, за што быў выключаны з сацыніянскай абшчыны. На польск. і лац. мовах у Любчы ў 1620—23 надрукаваны яго маральна-павучальныя вершаваныя творы «Жыццё сельскае і гарадское», «Перасцярога і заахвочванне тым, хто многа гаворыць і думае, але нічога не робіць», «Суцяшэнне тым, каму мужы перашкаджаюць паводзіць сябе з годнасцю», «Некаторыя эмблемы», «Афарызмы Саламона ў паэтычным выкладанні». Месца чалавека ў грамадстве Д. вызначаў яго саслоўна-класавай прыналежнасцю. Ён лічыў, што чалавек павінен праявіць сябе ў тых абставінах, у якіх ён апынуўся воляю лёсу. Працавітасць — асн. маральная дабрачыннасць чалавека, залог яго шчаслівага жыцця, гал. крыніца багацця. Як і С., яго цікавіла пераважна маральна-этычная праблематыка, значна меней — сацыяльная. Д. працягваў гуманіст., філас.-этычны кірунак у айч. думцы, ля вытокаў якога стаяў С.

*Літ.:* 130; Парэцкі Я. Язэп Даманеўскі // Полымя. 1968. № 2. *С. А. Падокшын.*

**«ДАНІІЛ З ІЛЬВА́МІ»**, «Даниилу седящему со львы принесе Аввакум обед», гравюра на тытульным лісце *кнігі «Прарок Даніїл»*, выдадзенай С. у Празе (1519).

У аснове сюжэта — цудадзейнае выратаванне прарока Даніїла. Паводле біблейскай версіі, пераказанай С. у прадмове да кнігі, Даніїл выхоўваўся пры двары цара Навуходаносара ў перыяд т. зв. вавілонскага палону яўрэяў. Ён быў прызначаны на пасаду кіраўніка прыдворных мудрацоў апошніх вавілонскіх цароў Навуходаносара II і Валтасара, а пасля заваявання Вавілоніі персамі стаў адным з уплывовых кіраўнікоў урада Кіра II і Дарыя I. Вавілонскія язычнікі прымусілі пасадзіць Даніїла на 6 дзён у роў з ільвамі за тое, што ён знішчыў іх багоў Віла і Дракона. Матывы ўзаемаразумення і райскай гармоніі паміж чалавекам і драпежнымі жывёламі, нават выратавання апошнімі казачнага героя здаўна пашыраны ў сусв., у т. л. бел., фальклоры.

На гравюры (105×104 мм) на пярэднім плане ў рове сядзіць Даніїл з разгорнутай кнігай на каленях; вакол яго мірна ляжаць паслухмяныя львы, паказаныя крыху схематычна і наіўна (іх трактоўка нагадвае льва з гравюры *«Бог у раі»* — сведчанне таго, што абедзве працы, відаць, выконваў адзін майстра). З правага боку Авакум нясе Даніілу пасланы богам абед. За яго спіной — херувім, а злева ад яго паўфігурныя выявы: цар, язычнікі і інш. У левым кутку на слупе — гербсігнет С. Гэтую гравюру М. М. Шчакаціхін лічыў некалькі наіўнай паводле зместу і кампазіцыі, але адной з лепшых паводле тэхнікі гравіроўкі. Кампазіцыйна гравюра некалькі перагружана фігурамі, асабліва на другім плане, што пазбаўляе яе прасторы, робіць плоскаснай (чаго няма ў іншых ілюстрацыях С.). Але яна вылучаецца шчырасцю і непасрэднасцю; манера яе гравіроўкі ўпэўненая, хоць і крыху адвольная паводле танальнасці, аднолькавая на першым і другім плане. А. А. Сідараў меркаваў, што да тыпажу Даніїла ўзыходзіць вобраз цара Давіда з заблудаўскага Псалтыра 1570. У рукапісах і старадруках Беларусі сюжэт не адлюстроўваўся.

*Літ.:* 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**ДАРАШКЕ́ВІЧ** Віктар Іванавіч (н. 1949), беларускі сав. літаратуразнавец. Канд. філал. н. (1977). Працуе ў Ін-це л-ры імя Янкі Купалы АН БССР. Даследуе гісторыю бел. стараж. л-ры. У манаграфіі «Новалацінская паэзія Беларусі і Літвы. Першая палавіна XVI ст.» (1979) значную ўвагу аддаў характарыстыцы творчай дзейнасці С., паказу яго ролі ў развіцці ўсх.-слав. кнігадрукавання і слав. л-р, тыпалагічнаму супастаўленню рэнесансава-гуманіст. светапогляду і творчасці С. і паэтаў-лацініstaў Беларусі 16 ст. У арт. «Францыск Скарына і Мікола Гусоўскі» (Неман. 1979. № 1), пасляслоўі «Паэма жыцця» да выдання «Песні пра зубра» Гусоўскага (1980) разгледзеў пытанне вытокаў і своеасаблівага светапогляду С. і Гусоўскага як гуманістаў. У арт. «Традыцыі «Слова аб палку Ігаравым» у беларускай літаратуры XVI ст.» (Весці АН БССР. Сер.

**«Даніїл з ільвамі».** Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Прарок Даніїл» Ф. Скарыны.



грамад. навук. 1976. № 6), «Станаўленне беларускай культуры і літаратуры эпохі Адраджэння і традыцыі Кіеўскай Русі» (Славянскія культуры і сусветны культурны працэс, 1985) паказаў асноватворную ролю стараж. рус. традыцый у фарміраванні бел. літаратуры 14—16 ст., у тым ліку творчасці С. Падрыхтаваў зб. дакументаў і матэрыялаў аб С. і яго родзічах. Удзельнік *Скарынінскіх чытанняў*.



В. Даўгала, У. Стальмашонак. Свята зямлі беларускай. Вітраж. 1981.



І. Давідовіч. Першадрукар Ф. Скарына. 1968.

**ДАРАШЭ́ВІЧ** Энгельс Канстанцінавіч (н. 1931), беларускі сав. філосаф. Д-р філас. н. (1985). Працуе ў Ін-це філасофіі і права АН БССР. Даследуе гісторыю філас., эстэт. і грамадска-паліт. думкі Беларусі. У манаграфіі «Нарыс гісторыі эстэтычнай думкі Беларусі» (М., 1972, з У. Конанам) разглядае эстэт. погляды С. ў агульным кантэксце развіцця бел. нац. культуры ва ўзаемасувязі з еўрап. і ўсх.-слав. культурамі, паказвае ўвасабленне яго эстэт. поглядаў у гравюрах. Выказаў меркаванне аб блізкасці гравюр С. да творчасці А. Дзюрэра.

**ДА́РЫЙ I,** Дараявауш, цар у Ст. Персіі ў 522—486 да н. э. з дынастыі Ахеменідаў. На працягу ўсяго праўлення вёў войны з суседзямі, расшырыў свае ўладанні, падаўляў паўстанні народаў захопленых тэрыторый. Правёў шэраг рэформ: падзяліў краіну на ваен.-адм. акругі (сатрапіі), арганізаваў рэгулярныя іх зносіны са сталіцай дзяржавы, упарадкаваў падатковую сістэму і інш.; вёў вял. буд-ва. Час царавання Д. I — перыяд найвышэйшай магутнасці Ахеменідаў. С. ўпамінае Д. ў прадмовах да кн. «Юдзіф» і «Прарок Данііл».

**ДАЎГА́ЛА** Валерый Цімафеевіч (н. 1947), беларускі сав. мастак. Аўтар вітража «Свята зямлі беларускай» (з У. І. *Стальмашонкам*, 6,7 × 42 м, Мінскі дом мод-2, 1980—81). У 1984 у тэхніцы энкаўстыкі выканаў размалёўку сцяны («Спадчына», 3,14 × 18 м, з А. І. Яскіным) у фае Палаца культуры саўгаса-камбіната імя 60-годдзя БССР (в. Лошніца Барысаўскага р-на). Сцяна падзелена на некалькі частак, на кожнай выявы жанчын і дзяцей з кветкамі. Дзеянне разгортваецца на фоне паэтычнага бел. пейзажу. У пачатку кампазіцыі партрэтныя выявы Ф. Скарыны, А. Пашкевіч (Цёткі), М. Багдановіча, якія сімвалізуюць пераемнасць розных пакаленняў у бел. паэзіі, павагу народа да культуры мінулага. *І. М. Паньшына.*

**ДА́УКША** Мікалоюс (паміж 1527 і 1538—1613), адзін са стваральнікаў літоўскай пісьменнасці. Быў каталіцкім канонікам, адміністратарам Жэмайцкай епархіі. У 1595 пераклаў з польск. мовы і выдаў у друкарні Віленскай акадэміі «Катэхізіс» Я. Лядэсмы і «Кароткі спосаб спавядання грахоў» — першыя кнігі на літ. мове, выпушчаныя ў свет на тэр. Вял. кн. Літоўскага. Асн. праца Д.— пераклад з польск. мовы зб. казанняў Я. Вуйка «Пасціла каталіцкая» (1599). Тытульны ліст гэтай кнігі афармлены рамай франтыспіса, скапіраванай з рамкі «Апостала», выдадзенага ў Маскве ў 1564, але яна не тоесная. Віленскую раму, магчыма, рыхтаваў Пётр Мсціславец, які прымаў удзел у выданні маск. «Апостала». В. Абрамавічус лічыць, што Мсціславец быў вучнем С., што друкарскай справе ён вучыў Івана Фёдарава. Уступнае слова Д. да зборніка ўтрымлівае заклік у абарону літ. мовы і з'яўляецца ўзорам публіцыстыкі таго часу. Гаворачы аб любві да роднай мовы, Д. выказвае тыя ж ідэі, што і С.: «Кожны чалавек

ад свайго нараджэння з малаком маці ўпітвае любоў да роднай мовы».

*А. Ю. Апрымене.*

**«ДАЧКА́ ФАРАО́НА І МАЙСЕ́Й»,** «Д щ е р а ф а р а о н о в а з н а ш л а о т р о ч а М о й с е я у в о д е», або «Знаходжанне Майсея», гравюра на тытульным лісце *кнігі «Выхад»,* выдадзенай С. у Празе (1519). У аснове сюжэта — пачатак легендарнай біяграфіі Майсея, якому іудзейская і хрысц. традыцыі прыпісваюць аўтарства першых пяці кніг Бібліі («Пяцікніжжа» Майсея).

Паводле біблейскай гісторыі, егіпецкі фараон загадаў тапіць у рэчцы ўсіх нованароджаных яўр. хлопчыкаў. Адна маці, ратуючы свайго сына, паклала яго ў прасмалены кош і схавала ў чароце ля ракі. Дачка фараона, убачыўшы прыгожае дзіця, загадала служанцы ўзяць яго да сябе. Царэўна ўсынавіла яго і дала яму імя Майсей, што значыць «з вады вынятьі». У сталыя гады Майсей узначаліў свой народ і вывеў яго з егіпецкага палону.

На пярэднім плане гравюры (104 × × 105 мм) маладая жанчына-маці, нахіліўшыся, працягвае рукі да кошыка са спавітым немаўляткам. За ёю ў цэнтры дачка фараона ў кароне і мантыі, побач злева — служанка. На заднім плане — вялікі каменны будынак, а крыху бліжэй, справа — каменны мост, з якога слугі фараона кідаюць у рэчку аголеных дзяцей. Жудасную сцэну абыякава назірае з акна мужчына ў кароне (фараон?). Злева ў акне дзве жанчыны ў намітках. У верхнім левым кутку — герб-сігнет С. Кампазіцыя гравюры арыгінальная. У працах зах.-еўрап. мастакоў на гэту тэму (Джарджоне, П. Веранезе і інш.) звычайна паказваўся толькі момант выратавання немаўляці дачкой фараона. На гравюры С. кампазіцыйна аб'яднана некалькі розначасовых падзей (утапленне дзяцей, пакуты іх маці, выратаванне Майсея і інш.). Пераканаўча паказаны жаночыя вобразы пярэдняга плана, асабліва служанка злева, яскравае слав. аблічча якой вылучаецца жыццёвасцю, канкрэтнасцю тыпажу. Выразная постаць бліжэйшай да гледача жанчыны, яна ўся ў дынаміцы, складкі адзення добра выяўляюць анатомію. Манера выканання гравюры жывая, маляўнічая. Светлыя мясціны ўдала спалучаюцца з заштрыхаванымі, лініі ўпэўненыя. М. М. Шчакаціхін бачыў аналогію гэтай гравюры з дрэварытамі ў лац. (1498) і чэш. (1506) Бібліях. Але іх яднаюць толькі асобныя дэталі архітэктуры задняга плана. Кампазіцыя, трактоўка фігур і тыпаж у гравюры С. цалкам адметныя. Малюнак у лац. Бібліі мае спрошчаны, контурны характар. У гравюры «Д. ф. і М.» форма ўсюды добра апрацавана штрыхом. Ад гравюры ў чэш. Бібліі скарынінская ксілаграфія розніцца трактоўкай архітэктуры, людзей, лепшай распрацаванасцю аб'ёму. Больш аналогій для гравюры «Д. ф. і М.» можна знайсці ў іншых выданнях С. Так, цэнтральная фігура дачкі фараона вельмі блізкая да вобраза Эсфір з гравюры *«Эсфір перад Асверам»*. У абедзвюх фігурах падобны тыпаж, адзенне, карона на галаве, складзеныя на грудзях рукі. Бачна, што мастак амаль без змен перанёс жаночую фігуру з адной (больш ранняй) кампазіцыі ў другую. Вобраз служанкі з гравюры «Д. ф. і М.» таксама запазычаны з гравюры «Эсфір перад Асверам», дзе такая ж жанчына награвіравана злева. Вобразы дачкі фараона і Эсфір прыкметна набліжаюцца да вобраза Юдзіфі з гравюры *«Юдзіф і Алаферн»*. Гэта дае падставу меркаваць, што названыя гравюры выконваў адзін мастак. У кніжнай гравюры Беларусі пасля С. сюжэт не адлюстроўваўся.

*Літ.*: 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**ДВАІ́СТАЯ ІСЦІНА́,** вучэнне пра падзел філас. і багаслоўскіх ісцін, паводле якога няісціннае з пункту погляду тэалогіі можа быць ісцінным у філасофіі і наадварот. Веды аддзяляюцца ад веры, філасофія — ад тэалогіі.

Вучэнне пра Д. і. зарадзілася ў сярэднія вякі ў сувязі з пашырэннем і перапрацоўкай ідэй *арыстацелізму,* перш за ўсё ў арабамоўных краінах. Гал. прадстаўнік — *Ібн Рушд* (Авероэс). Пад уплывам яго ідэй у Зах. Еўропе сфарміравалася філас. традыцыя *авераізму,* заснаваная на вучэнні пра Д. і. З гэтага вучэння зыходзілі і прадстаўнікі англ. наміналізму Дунс Скот, У. Окам. Яно стала крыніцай *вальнадумства* ў зах.-еўрап. філасофіі эпохі феадалізму, што выклікала жорсткае супраціўленне з боку царк. артадоксіі. Вельмі пашырылася яно ў філас. думцы *Адраджэння.* Рэнесансавыя гуманісты выкарыстоўвалі вучэнне пра Д. і. з мэтай вызваліць чалавечую думку з-пад улады дагматычных аўтарытэтаў, зрабіць розум вышэйшым крытэрыем у зямных справах людзей. Найб. выразна гэта вучэнне выявілася ў поглядах прадстаўнікоў падуанскага авераізму *Піка дэла Мірандалы,* П. *Пампанацы,* Дж. Бруна (гл. ў арт. *Падуанскі ўніверсітэт*).

С., глыбока ўспрыняўшы гуманіст. культуру Адраджэння, пранікся блізкімі да вучэння пра Д. і. ідэямі вальнадумства. У каментарыях да кніг «Бібліі» ён сцвярджаў высокую каштоўнасць чалавечага розуму, імкнуўся ўсебакова развіць яго прыродныя здольнасці для «розмножения мудрости; умения, опатрености, разуму и науки» (гл. с. 46). У духу вучэння пра Д. і. ён «житейскую мудрость» ставіў аднолькава з «божественной», лічыў, што мудрэц павінен быць поўны не толькі «духа святого», але і філасофіі (гл. с. 43). У С. выразна назіраецца ідэя падзелу і самастойнага значэння веры і розуму, Д. і., таму што існуе «двоякая правда: божия и человечия» (гл. с. 193). Тут — крыніца самакаштоўнасці свецкай культуры, рацыяналіст. светаразумення. *Г. У. Грушавы.*

**ДВАРЧА́НІН** Ігнат Сымонавіч (1895—1937), беларускі літаратуразнавец, паэт, культ.-асв. і грамадскі дзеяч. Скончыў Карлаў ун-т у Празе (1926) са ступенню д-ра філасофіі. Гады вучобы Д. ва ун-це супалі з падрыхтоўкай і святкаваннем 400-годдзя бел. кнігадрукавання, якое

**«Дачка фараона і Майсей».** Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Выхад» Ф. Скарыны.



шырока адзначалася ў многіх слав. краінах, у т. л. і ў Чэхаславакіі, дзе былі выдадзены першыя бел. кнігі. Гэта падзея паслужыла штуршком для вывучэння Д. дзейнасці і светапогляду С. Даследаванні Д. перараслі ў доктарскую дысертацыю «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай глебе». У ёй Д. разглядаў С. як прадстаўніка гуманізму на Беларусі, накіраванага супраць запрыгоньвання асобы і феад. свавольства, выразніка інтарэсаў апазіцыйных да феад. ладу грамадскіх сіл. Паводле А. В. Флароўскага, даследаванне Д. і для нашых дзён мае пэўны навуковы інтарэс. У арт. «Аб годзе нараджэння Фр. Скарыны» (Родныя гоні. Вільня, 1927. Кн. 1) Д. падтрымаў гіпотэзу М. Шчакаціхіна, паводле якой датай нараджэння С. трэба лічыць 6.3.1486.

*Літ.:* 312; Мірачыцкі Л. Імя, не забытае народам // Беларусь. 1965. № 5.

*В. Ф. Шалькевіч.*

**ДВУХФА́РБАВЫ ДРУК,** узнаўленне тэкставага і ілюстрацыйнага матэрыялу друкаваных выданняў у два колеры. У слав. старадруках кірыліцкага шрыфту ўжываўся друк чорнай і чырвонай фарбамі, які з адной формы мог быць аднапрагонны ці двухпрагонны. С. выкарыстоўваў апошні варыянт. Пад літары і радкі, якія ў адбітку павінны быць чырвонымі, падкладвалі металічныя брускі так, каб гэтыя літары ўзвышаліся над формай. Потым на ўзвышаныя ўчасткі наносілі чырвоную фарбу (кінавар), на форму накладвалі аркуш паперы і атрымлівалі чырвоны адбітак. Такія адбіткі рабілі для ўсяго тыражу. Потым літары, што ўзвышаліся над асн. узроўнем формы, замянялі прабельным матэрыялам. Форму набівалі чорнай фарбай, накладвалі на яе аркуш з чырвоным адбіткам і другі раз прапускалі праз друкарскі станок. Прыкметы гэтага спосабу Д. д.— змяшчэнне (у асобных выпадках) чырвоных радкоў адносна чорных і дубліраванне чорных літар або асобных іх участкаў чырвонай фарбай. У пражскіх выданнях С. выкарыстоўваў Д. д. двойчы. Чырвоным колерам надрукаваны *тытульны ліст «Бібліі»,* заключаны ў чорную арнаментальную рамку. Чырвоны колер ужыты і ў «Песні песням»: чырвоныя загаловак на тытульным лісце, загалоўкі прадмоў і асобных раздзелаў, указанні ў тэксце на парадак чытання, устаўкі ў тэкст, асобныя фразы і літары. Часцей Д. д. выкарыстоўваўся ў віленскіх выданнях. У «Псалтыры» 1522 ён толькі на тытульным лісце. У «Часаслоўцы» чырвоная фарба носіць як функцыянальны, так і дэкаратыўны характар. Чорным колерам тут надрукаваны той тэкст, які на літургіі вымаўляецца ўслых, а чырвоным — розныя ўказанні і тлумачэнні для ўдзельнікаў служэння. Найбольш значныя часткі службаў вылучаны чырвонымі застаўкамі і вял. чырвонымі ініцыяламі. Чырвоным шрыфтам вылучаны таксама ўказанні на канец службы (напр., «Конец полунощнице в суботы»). Чырвоным надрукаваны амаль усе ініцыялы «Часаслоўца», а таксама калонтытулы ў верхняй частцы старонак, якія абазначаюць назвы службаў. У віленскіх «Акафістах» Д. д. няма, акрамя «Акафіста магіле господняй», дзе чырвонай фарбай надрукаваны загаловак на тытульным лісце. У «Канонах» чырвоны колер сустракаецца часта. У некат. з іх, напр., у «Каноне архангелу Міхаілу» ім набраны ўсе віньеткі і ініцыялы. З чырвоных заставак і ініцыялаў пачынаецца кожная песня канона. Унутры песні кінаварнымі радкамі вылучаны назвы сціхоў («Сціх першы», «Слава айцу» і г. д.). У «Апостале» чырвоная фарба служыць для рубрыкацыі і зручнасці карыстання кнігай. Ёю надрукаваны тэкст на агульным тытульным лісце, а таксама розныя ўказанні — у якія дні, як і ў якім парадку павінны чытацца тыя ці іншыя тэксты, дзе іх канец. У апошнім раздзеле «Апостала» — «Саборніку двунадзесяць месяц» чырвоным надрукаваны агульны і асобныя загалоўкі, назвы месяцаў, калонтытулы і калонлічбы, індэксы на бакавых палях, тэкст пасляслоўя і інш. У большай частцы тыражу «Апостала» (у 6 з 9 вядомых экземпляраў) чырвонага колеру ў асн. тэксце няма. На 188-м арк. чырвонай фарбай надрукаваны прынцыпы выкарыстання чырвонага колеру ў кнізе: «Імать паки в сей книзе, мой любимы приятелю, хто ж будеши яе чести. Зачала каждого послания чорным вызнаменованы. Початки и концы всякому апостолу яко во церкви божии чтется. К тому и дни месяцей в них же прочитаются. На празники божие и светых его знайдешь положено червеным. Главы же яко и во всех книгах Бивлии... чорным исправлены розделе узриши».

*Літ.:* 670; Немировский Е. Л. Полиграфическая техника Ивана Федорова и его учеников // Вопросы истории естествознания и техники. 1984. № 1. *Е. Л. Неміроўскі.*

**«ДЗЕСЯТАГЛА́Ў»,** рукапіс 16 ст., у які ўваходзяць біблейскія кнігі Старога і Новага запаветаў і кніга Менандра. Створаны ў 1502—07 у Вільні і Супраслі. Для скарыназнаўства «Д.» цікавы як славянскамоўны звод біблейскіх кніг, храналагічна непасрэдны папярэднік скарынінскага перакладу на мову, набліжаную да народнай. Разам з «Пяцікніжжам», перапісаным дзяком Фёдарам у 1514, «Д.» склаў асобны ад *«Генадзіеўскай бібліі»* поўны цыкл кніг Бібліі. Перапісчык «Д.» Мацей Іаанавіч (Мацей Дзесяты) зрабіў пераклад асобных частак і кампіляцыю ўсяго зводу па даручэнню пісара вял. кн. літ. Фёдара (найб. верагодна — Фёдара Янушэвіча). Родны брат Мацея Дзесятага Яўхім у пач. 16 ст. быў ігуменам полацкага манастыра Іаана Прадцечы і мог быць асабіста знаёмы з сям'ёй Скарынаў. «Д.» багата ўпрыгожаны ў неавізантыйскім стылі і з'яўляецца шэдэўрам маст. аздобы бел. рукапіснай кнігі. Тэкст перапісаны чарнілам сіняга, чорнага, чырвонага і залатога колеру, упрыгожаны больш як 250 шматколернымі ініцыяламі, мініяцюрамі, багатымі застаўкамі. У арнаментах выкарыстаны раслінныя матывы, некат. з ініцыялаў упрыгожаны рэалістычна выкананымі выявамі птушак і звяроў. «Д.» захоўваўся ў Супрасльскім манастыры. У 1840-я г. вывезены П. Дабрахотавым, ад яго трапіў у калекцыю акад. І. Сразнеўскага. З 1910 зберагаецца ў аддзеле рукапісаў Б-кі АН СССР у Ленінградзе.

*Літ.:* Воўк-Левановіч О. В. Кароткія заўвагі на некаторыя помнікі беларускае мовы ў Ленінградзе // Запіскі аддзела гуманітарных навук. Мн., 1929. Кн. 9, т. 11; Алексеев А. А., Лихачева О. П. Супрасльский сборник 1507 г. // Материалы и сообщения по фондам Отдела рукописной и редкой книги б-ки АН СССР. Л., 1978.

*М. В. Нікалаеў.*

**ДЗЮ́РЭР** (Dürer) Альбрэхт (1471—1528), ням. жывапісец, гравёр, тэарэтык мастацтва. Буйнейшы мастак ням. Адраджэння. Працаваў у станковай графіцы, жывапісе, а таксама ў галіне мастацтва кнігі. Вучыўся ў М. *Вольгемута.* Мяркуюць, прымаў удзел у стварэнні гравіраваных на дрэве ілюстрацый да «Сусветнай хронікі» Г. *Шэдэля* (1493). У 1488—90 праілюстраваў шэраг нюрнбергскіх, у 1491—92 — базельскіх выданняў. Аўтар некалькіх трактатаў па тэорыі мастацтва, найб. цікавыя аб перспектыве і прапорцыях чалавечага цела. Сярод вышэйшых творчых дасягненняў Дз.— серыя гравюр на дрэве «Апакаліпсіс», якую ў 1498 надрукаваў у Нюрнбергу А. *Кобергер* (складаецца з 15 аркушаў і тытула). Яна набыла рэдкую папулярнасць, шматлікія копіі з яе зафіксаваны ў выданнях Страсбура, Венецыі, Вітэнберга, Базеля, Нюрнберга, Амстэрдама, Парыжа, Ліёна і інш. гарадоў.

Імкнучыся выдаваць кнігі на дасканалым маст. узроўні, у афармленні С. арыентаваўся на вышэйшыя дасягненні еўрап. мастацтва, таму мог звярнуцца і да «Апакаліпсіса» Дз. Прасочваецца, напр., падабенства ніжняй часткі скарынінскай гравюры *«Тройца»* (кн. «Быццё», арк. 1-ы б) і працы Дз. «Бітва архангела Міхаіла з д'ябламі» з серыі «Апакаліпсіс». Гравюры С. і Дз. падобны: ладам кампазіцыі; размяшчэннем у ёй выявы архангела Міхаіла, становішчам яго рук, узнятых з кап'ём над галавой; кампазіцыйным размяшчэннем анёлаў; малюнкам іх крылаў. Але мастакі С. не механічна і слепа капіравалі першаўзор вял. ням. мастака, а творча яго перапрацавалі, істотна перарабілі, што можна прасачыць па розніцы паміж гэтымі гравюрамі: у гравюры Дз. сцэна барацьбы з д'ябламі паказана на фоне неба, а ў С.— на зямлі; адсутнічае выява верхняга анёла з мячом, 4-фігурная кампазіцыя заменена 3-фігурнай; фігура архангела Міхаіла ў С. павернута тварам управа; у ніжняй частцы кампазіцыі адсутнічае краявід; д'яблы паказаны на зямлі і мадэліраваны сілуэтамі (у Дз. яны светлыя); у гравюры С. крылы архангела Міхаіла распасцёрты на ўсю шырыню кампазіцыі, яго фігура больш манументальная, экспрэсіўная; поўнасцю зменены тыпаж архангела Міхаіла і анёлаў; у С. персанажы адлюстраваны больш наіўна, але іх твары ў параўнанні з вобразамі Дз. больш персаніфікаваны. Адрозніваецца і манера гравіроўкі: тонкія, артыстычныя штрыхі Дз., якія нагадваюць тэхніку гравюры на метале, у працы С. ўступілі месца больш абагуленым каларытным і сакавітым штрыхам, якія як бы сцвярджаюць спе-

цыфіку абразной ксілаграфіі. Акрамя таго, у трактоўцы д'яблаў мастакі С. выкарысталі чысты чорны колер, які выступае тут як сродак характарыстыкі адмоўнага пачатку. Рэзкія кантрасты чорнага і белага ўзмацняюць драматызм і накал барацьбы. Дз. у сваёй працы такімі кантрастамі не карыстаўся. Устаноўлена, што гравюра Дз. «Бітва архангела Міхаіла з д'ябламі» выканана пад моцным уплывам аналагічнай гравюры М. Шонгаўэра. Дз. амаль дакладна паўтарыў кампазіцыю, але ў люстэркавым адлюстраванні. Мастак С. паказаў Міхаіла з тварам, павернутым управа, як у Шонгаўэра. Да працы Дз. «Сем свяцільнікаў» з той жа серыі кампазіцыйна ўзыходзіць і гравюра *«Благаславенне»* з кнігі С. «Прамудрасць божая» (арк. 1-ы). Абедзве гравюры маюць аналогіі: кампазіцыйнае размяшчэнне ўкленчанага юнака перад Хрыстом, які ў левай руцэ трымае кнігу; стылізаваныя аблокі вакол выявы Хрыста; пастава юнака, рух яго рук. Разам з тым гравюры істотна адрозніваюцца: у С. кампазіцыя дадзена ў люстэркавым адбітку (юнак паказаны справа, а не злева, як у Дз.); у «Сямі свяцільніках» Дз. Хрыстос працягнуў правую руку да зорак, у працы С. ён благаслаўляе ёю юнака; у «Благаславенні» Хрыстос паказаны з німбам, які адсутнічае ў працы Дз.; моцна розніцца ў гравюрах тыпаж; у С. няма выяў свяцільнікаў, Хрыстос паказаны на зямной сферы, а не на вясёлцы, як у Дз.; па абодва бакі дадзены 2 шасцікрылыя архангелы. Хутчэй за ўсё С. мог азнаёміцца з «Апакаліпсісам» непасрэдна, а не праз копіі. Перад прыездам у Прагу ён, магчыма, наведаў Нюрнберг, дзе мог асабіста пазнаёміцца з Дз. і набыць «Апакаліпсіс». Выява «Апакаліпсіса» не характэрна для стараж. ўсх.-слав. мастацтва: творчыя перапрацоўкі мастакамі С. прац Дз. з'яўляюцца самымі ранейшымі прыкладамі пранікнення гэтага новазапаветнага сюжэту з Захаду на Усход (пазнейшыя запазычанні з'явіліся толькі ў 17—18 ст.). Варта адзначыць, што мастакі С. (несумненна, пры яго асабістым наглядзе, кансультацыях) не механічна выкарыстоўвалі творы Дз., а істотна іх перараблялі, падпарадкаваўшы мэтам і задачам бел. друкарства. Гэты працэс звязаны з пэўным адыходам ад рэліг. эстэтыкі і набліжэннем да пазітывізму новага часу. Так, у гравюры С. «Тройца» ярчэй выяўляюцца рэнесансавыя рысы, у той час як «Бітва архангела Міхаіла з д'ябламі» Дз. выканана ў стылі позняй готыкі. Гэтыя і інш. адрозненні сведчаць пра свядомы працэс, накіраваны на творчую перапрацоўку лістоў «Апакаліпсіса» і ўключэнне класічных узораў у нац. мастацтва. Мяркуюць, што Дз. належыць выява сонца і месяца да «Сусветнай хронікі» Шэдэля, якая магла стаць адной з крыніц стварэння *сігнета* С. Геральдычны шчыт на гэтым сігнеце дадзены з паўкруглым зрэзам-паглыбленнем (тытул «Эпісталаў» з «Апостала» 1525 і інш.). Аналагічная выява шчыта сустракаецца на гравюрах Дз. Усё гэта сведчыць пра ўздзеянне на бел. графіку мастацтва Паўночнага Рэнесанса.



Альбрэхт Дзюрэр.

*Літ.:* Нессельштраус Ц. Альбрехт Дюрер. 1471—1528. Л.; М., 1961; Чилингиров А. Влияние Дюрера и современной ему немецкой графики на иконографию поствизантийского искусства // Древнерусское искусство: Зарубежные связи. М., 1975.

*В. Ф. Шматаў.*

**ДЗЯРЖА́ЎНАЕ КІРАВА́ННЕ** ў 15—16 ст. Вял. кн. Літоўскае, якое склалася як вынік бел.-літ. грамадскага сінтэзу, захоўвала ў сваім дзярж. ладзе гал. рысы сац.-паліт. сістэмы, што бытавала ў княствах Стараж. Русі: Полацкім, Мінскім, Навагрудскім, Тураўскім і інш. Уся сістэма органаў дзярж. улады будавалася на агульных прынцыпах феад. права: стварэння льгот і пераваг феадалам і шляхце, забароны простым людзям займаць камандныя пасады ў дзярж. апараце. Кіраўніком дзяржавы і гал. асобай ва ўсёй сістэме кіравання прызнаваўся вял. князь (гаспадар), нярэдка ён быў аднначасова і каралём Польшчы. Вял. князь меў шырокія паўнамоцтвы: права весці міжнар. справы, уступаць у саюзы, абвяшчаць вайну і заключаць мір, распараджацца ўзброенай сілай дзяржавы, быў кіраўніком усіх вышэйшых выканаўча-распарадчых органаў. Яму належала права заканадаўчай ініцыятывы, і за яго подпісам выдаваліся ўсе найважнейшыя заканадаўчыя акты. Але ажыццяўляў гэтыя паўнамоцтвы вял. князь не аднаасобна, а з удзелам паноў-рады, сейма і службовых асоб вярх. кіравання. Прававое становішча вял. князя літ. было тыповым для становішча абмежаванага феад. манарха і ў некат. ступені было падобным на прававое становішча прэзідэнта ў рэспубліцы: яго правы грунтаваліся на выбарнай аснове, хоць у заканадаўчых актах і падкрэслівалася, што ўлада яму дадзена ад бога, «з ласкі божай». Паліт. уплыў вял. князя на дзярж. справы аслабляўся яго частымі і працяглымі ад'ездамі ў Польшчу. Так, Жыгімонт I выехаў у Польшчу ў 1523 і вярнуўся ў Вял. кн. Літоўскае толькі ў 1528. Выязджалі ў Польшчу і інш. вял. князі, якія былі аднначасова і каралямі Польшчы. У час знаходжання ў Польшчы вял. князь не меў права займацца дзярж. справамі Вял. кн. Літоўскага. Імі займалася рада, якая была пастаянна дзейным выканаўча-распарадчым, заканадаўчым, кантрольным і судовым органам. Свае ўладарныя паўнамоцтвы рада ажыццяўляла самастойна. Права засядаць у радзе мелі: каталіцкія біскупы, ваяводы, кашталяны, некат. старосты, а таксама службовыя асобы вярх. кіравання: маршалак земскі і дворны, канцлер, гетман найвышэйшы, падскарбій і інш. На пасяджэнне рады персанальна запрашаліся таксама некат. буйныя феадалы. Кампетэнцыя рады была такой жа шырокай, як і самога гаспадара. Яна вырашала пытанні абароны дзяржавы, міжнар. адносін, бягучага кіравання, фінансава-дзярж. дзейнасці, назначэння на вышэйшыя дзярж. пасады. Толькі з удзелам рады рыхтаваліся і прымаліся новыя заканадаўчыя акты, выдаваліся граматы і прывілеі. Рашэнні, прынятыя з удзелам рады, не маглі быць зменены або адменены аднаасобна вял. князем.

Выканаўча-распарадчую і кантрольную функцыі рада ажыццяўляла або ў поўным складзе, заслухоўваючы справаздачы і даклады асобных службовых асоб, або даручаючы радным панам праводзіць асобныя мерапрыемствы, праверкі і рэвізіі. Рада магла назначыць спец. камісараў і рэвізораў з асоб, якія не ўваходзілі ў яе склад. Асн. бягучую работу па кіраванню дзярж. справамі ад імя рады выконвалі «старэйшыя паны-рада», да якіх адносіліся: епіскап віленскі, ваявода віленскі, кашталян віленскі, ваявода трокскі, кашталян трокскі, староста жамойцкі і некат. службовыя асобы вярх. кіравання. Напр., пры выдачы пацвярджаючай граматы жыхарам г. Бярэсця на магдэбургскае права ў 1511 у радзе прысутнічалі: князь Войцех, епіскап віленскі; ваявода віленскі, ён жа канцлер пан Мікалай Мікалаевіч; ваявода трокскі, ён жа маршалак дворны пан Рыгор Станіслававіч Асціковіч; кашталян трокскі, ён жа староста жамойцкі пан Станіслаў Янавіч; ваявода полацкі пан Станіслаў Глебавіч; староста гарадзенскі пан Станіслаў Пятровіч; ваявода віцебскі, ён жа маршалак і сакратар пан Іван Сапега; маршалак, ён жа староста берасцейскі і лідскі пан Юрый Ільініч; маршалак, намеснік мельніцкі пан Няміра Грымаліч і інш. асобы.

У сістэме органаў дзярж. улады першаступеннае значэнне меў агульнадзярж. (вальны) соім (сейм), на пасяджэнні якога запрашаліся ўсе буйныя феадалы, што ўваходзілі ў склад рады, службовыя асобы цэнтр. і часткова мясц. кіравання, вярхі каталіцкага і правасл. духавенства, а таксама па 2 дэпутаты ад шляхты з кожнага павета. Усе шляхціцы мелі права з'яўляцца на сеймы, але паколькі яны ўхіляліся ад яўкі на сеймы, у 1512 быў прыняты закон, паводле якога павятовай шляхтай выбіраліся па 2 дэпутаты ад кожнага павета. Іншыя слаі насельніцтва сваіх прадстаўнікоў на сейме не мелі. На сеймах выпрацоўваўся агульны кірунак

знешняй і ўнутр. палітыкі дзяржавы. Сеймы павышалі паліт. актыўнасць усяго саслоўя шляхты, замацоўвалі ідэю адзінства інтарэсаў усёй дзяржавы. Сейм быў форумам вострай ідэалаг. барацьбы. Уся работа сейма загадзя рыхтавалася панамі-радай, якая назначала час і месца склікання сейма, рыхтавала праекты сеймавых пастаноў. Прадстаўнікі ад паветаў падавалі просьбы і скаргі ад імя шляхты сваіх паветаў, адказы на якія даваў гаспадар, параіўшыся толькі з панамі-радай. Кампетэнцыя сейма не была дакладна вызначана. На сейме маглі разглядацца самыя розныя пытанні. Абавязкова разглядаліся на сейме толькі выбранне вял. князя, абвяшчэнне вайны, устанаўленне падатку на вядзенне вайны і вызначэнне памераў вайск. службы з феад. маёнткаў. На сейме прымаліся заканадаўчыя акты і па інш. пытаннях, асабліва па выкананню правасуддзя.

Функцыі цэнтр. органаў галіновага кіравання выконвалі службовыя асобы, сярод якіх гал. роля належала маршалку земскаму, гетману, канцлеру, падскарбію. Маршалак земскі старшынстваваў на пасяджэннях сейма і рады, абвяшчаў пастановы гаспадара і рады на гэтых пасяджэннях, быў даглядчыкам за парадкам і этыкетам пры двары, кіраваў прыёмам замежных паслоў, дапушчаў да гаспадара просьбітаў са скаргамі і чалабітнымі, судзіў за злачынствы, зробленыя на сейме. Гетман найвышэйшы камандаваў узброенымі сіламі дзяржавы. У час ваен. дзеянняў ён меў самыя шырокія паўнамоцтвы адносна ўсіх падначаленых асоб. Яму належала права караць вінаватых. Канцлер кіраваў работай дзярж. канцылярыі, пад яго наглядам ажыццяўлялася падрыхтоўка законапраектаў, прывілеяў, грамат і інш. дакументаў з дзярж. канцылярыі. Ён быў ахоўнікам дзярж. архіва — Літоўскай метрыкі. У яго знаходзілася вял. дзярж. пячаць, без якой ніводзін закон не мог уступіць у сілу, ён падпісваў і найважнейшыя дзярж. акты. Падскарбій земскі быў даглядчыкам дзярж. казны і кіраўніком фінансава-гасп. дзейнасці ў дзяржаве, ажыццяўляў кантроль за ўсімі дзярж. даходамі і расходамі.

Мясц. кіраванне на бел. землях у 1-й пал. 16 ст. ў розных мясцовасцях было рознае, залежала ад гіст. мінулага мясцовасці, адм.-тэр. падзелу і ад уладальніка тэрыторыі. Найб. буйныя стараж. княствы (Полацкае, Віцебскае, Берасцейскае, Навагародскае) у 1-й пал. 16 ст. былі пераўтвораны ў ваяводствы, іншыя — у паветы, а такія, як Слуцкае, Кобрынскае і некат. іншыя, заставаліся княствамі. Асаблівае кіраванне было ў гарадах, якія атрымалі магдэбургскае права. Гал. службовай асобай у сістэме мясц. органаў быў ваявода, які ўзначальваў адм., гасп., ваен. і судовыя органы на тэр. ваяводства. Назначаўся ваявода вял. князем і радаю пажыццёва з буйных феадалаў, ураджэнцаў Вял. кн. Літоўскага. Пры назначэнні ваяводы ў Полацкае або Віцебскае ваяводства вял. князю і радзе неабходна было заручыцца згодаю мясц. феадалаў прыняць кандыдата на пасаду ваяводы. Аднак і пасля назначэння ваяводы феадалы гэтых земель мелі права патрабаваць яго зняцця. Пасада ваяводы спалучала як функцыі мясц. органа, залежнага ад цэнтр. кіравання, так і незалежнага мясц. самакіравання, а таксама прадстаўніка інтарэсаў мясц. феадалаў у вярх. органах, таму што ваявода на пасадзе ўваходзіў у склад рады і абавязаны быў прысутнічаць на пасяджэннях сейма. Асн. абавязкі ваяводы заключаліся ў падтрыманні феад. правапарадку на тэр. ваяводства, ажыццяўленні агульнага кіраўніцтва выкарыстаннем усіх крыніц дзярж. і велікакняжацкіх даходаў, арганізацыі абароны, выканання правасуддзя. Бліжэйшымі памочнікамі ваяводы былі: кашталян — камандаваў ваен. сіламі гал. замка ваяводства і апалчэннем ваеннаабавязаных асоб, прыпісаных да гэтага замка (ён, як і ваявода, уваходзіў у склад рады і ўдзельнічаў у пасяджэннях сейма); падваявода — намеснік ваяводы па адм.-судовых справах, кіраваў работай ваяводскай канцылярыі, у адсутнасць ваяводы або па яго даручэнню старшынстваваў у замкавым (гродскім) судзе, сведчыў розныя роду дакументы; ключнік — наглядаў за зборам даніны і чыншаў; гараднічы — камендант замка, які клапаціўся аб рамонце і ўтрыманні замка, а ў адсутнасць ваяводы і кашталяна ўзначальваў гарнізон замка; ляснічы і лоўчы — наглядалі за ляснымі промысламі і паляваннем; стайнік — загадваў дзярж. стайняй у ваяводстве. Адміністрацыю ў павеце ўзначальваў староста. Ён назначаўся гаспадаром і радай з буйных феадалаў. Прававое становішча старосты залежала ад павета, які ён узначальваў, і ад таго, хто гэту пасаду займаў, ад яго сваяцкіх сувязей і паходжання. Староста, як і ваявода, абавязаны быў сачыць за парадкам на падведамнай тэрыторыі, наглядаў за гаспадаркай дзярж. маёнткаў і за паступленнем дзярж. даходаў, клапаціўся пра баявую гатоўнасць замкаў, збіраў апалчэнне ў выпадку ваен. небяспекі, разглядаў крымінальныя і дзярж. справы, сачыў за выкананнем судовых рашэнняў. У сваёй дзейнасці па мясц. кіраванню старосты карысталіся шырокімі правамі, якія не залежалі ад улады ваявод, іх паўнамоцтвы былі заснаваны на старых традыцыях кіравання мясц. васальных князёў. У павеце захоўваліся таксама старыя пасады ключніка, стайніка, гараднічага, лясвічага, цівуна, харунжага — павятовага сцяганосца, які збіраў усіх ваеннаабавязаных людзей павета ў выпадку ваен. небяспекі. Памочнікам старосты па ваен. справах быў павятовы маршалак, які камандаваў павятовым апалчэннем шляхты. Адміністрацыйна-судовыя функцыі ў павеце мог выконваць памочнік старосты — падстароста.

Саслоўна-прадстаўнічымі органамі ў ваяводстве і павеце былі ваяводскі і павятовы сеймікі. На гэтых сейміках маглі прысутнічаць усе шляхціцы павета або ваяводства. Тут абмяркоўваліся як мясц., так і агульнадзярж. справы. Павятовыя сеймікі збіраліся штогод або нават некалькі разоў на год у павятовым цэнтры. Старшынстваваў на сейміку або найбольш высокі па пасадзе пан або павятовы маршалак. На павятовых сейміках выбіраліся дэпутаты на вальны (агульны) сейм, выпрацоўваліся для іх інструкцыі і наказы, а таксама хадайніцтвы і просьбы да ўрада, заслухоўваліся справаздачы і інфармацыі аб сеймах, выбіраліся кандыдаты на судовыя і інш. пасады, вызначаліся памеры падаткаў на патрэбы павета. Пры дапамозе сеймікаў павятовая шляхта абараняла свае мясц. інтарэсы перад цэнтр. органамі.

Ніжэйшым звяном у сістэме органаў мясц. дзярж. кіравання былі кіраўнікі дзярж. і велікакняжацкіх маёнткаў (двароў і замкаў) — дзяржаўцы (у больш даўні час наз. цівунамі). У 16 ст. даволі часта дзярж. маёнткі аддаваліся ў дзяржанне буйным феадалам. Яны назначалі сваіх намеснікаў, якія выконвалі функцыі як дзярж. кіравання маёнткам, так і органа мясц. улады, карысталіся правам суда над усімі простымі людзьмі, што жылі ў воласці. Дзяржаўцы, як ваяводы і старосты, адказвалі за сваю дзейнасць непасрэдна перад урадам. Для нагляду над сялянамі старосты і дзяржаўцы назначалі соцкіх, сельскіх войтаў, сарочнікаў, дзесяцкіх, якія сачылі за парадкам у вёсках і выкананнем феад. павіннасцей сялянамі. У мясцовасцях, дзе жылі дзярж. сяляне і не было замкаў або дзярж. маёнткаў, г. зн. не было дзяржаўцаў і цівуноў, дзейнічалі органы сялянскага самакіравання — сялянскія сходы і выбраныя імі старцы. На сялянскіх сходах вызначалі даніны, чарговасць выканання інш. павіннасцей, разбіралі спрэчныя справы паміж сялянамі. Старцы наглядалі за выкананнем грамадскіх работ і павіннасцей, збіралі і адвозілі даніну, арганізоўвалі абарону ад разбойных нападаў, удзельнічалі ў выкананні правасуддзя на капе.

Развіццё рамяства і гандлю ў гарадах, а таксама вылучэнне гараджан у саслоўе мяшчан стварылі неабходныя перадумовы вылучэння бел. гарадоў у адм. адзінкі з адасобленымі органамі кіравання. Прававое становішча гарадскіх органаў кіравання вызначалася спец. прывілеямі, выдадзенымі Брэсту ў 1390 і 1511, Гродну ў 1391, Полацку ў 1498, Мінску ў 1499, Навагрудку ў 1511, Слоніму ў 1531, Магілёву ў 1577, Пінску ў 1581. Падобныя граматы мелі і інш. бел. гарады. У адпаведнасці з гэтымі граматамі на чале гар. кіравання стаялі войт, бурмістры, гар. рада. Войт назначаўся вял. князем пажыццёва, звычайна з феадалаў. Парадак назначэння бурмістраў і членаў гар. рады вызначаўся таксама ў граматах. Напр., па Полацкай грамаце 1498 войт назначаў 20 радцаў (саветнікаў) з полацкіх мяшчан, якія потым разам з войтам выбіралі па 2 бурмістры на кожны год. Гарадскі войт займаўся пытаннямі агульнага кіравання справамі, сачыў за парадкам у горадзе, зборам сродкаў у дзярж. казну і на агульнагар. патрэбы, ажыццяўляў правасуддзе па найбольш цяжкіх крымінальных злачынствах. Бурмістры займаліся вырашэннем бягучых спраў: пытанняў гандлю, рамяства, гар. добраўпарадкавання, клапаціліся аб добрым

стане гар. абаронных збудаванняў, выконванні вартавой службы насельніцтва і інш., ажыццяўлялі правасуддзе па дробных справах.

Гар. рада ў большасці бел. гарадоў складалася з 6—20 чалавек. У адных гарадах рада выбіралася мяшчанамі, у другіх сам войт камплектаваў яе. У раду ўваходзілі найбольш багатыя купцы, цэхмістры (кіраўнікі рамесных цэхаў) і багатыя майстры-рамеснікі. Гар. рада вызначала агульны кірунак развіцця гар. гаспадаркі, займалася пытаннямі добраўпарадкавання і абарончых збудаванняў, выносіла рашэнне аб зборы з насельніцтва неабходных сродкаў на гар. патрэбы, кантралявала іх расходаванне. Члены гар. рады ўдзельнічалі ў выкананні правасуддзя разам з войтам або бурмістрамі. Функцыі ніжэйшых службовых асоб у гарадах па збору падаткаў, кантролі за дзейнасцю гандляроў і рамеснікаў, за падтрыманнем парадку выконвалі соцкія, дзесятнікі і «слугі месцкія», якія падпарадкоўваліся войту і бурмістрам. У вырашэнні агульнагар. спраў істотнае значэнне працягвалі захоўваць агульныя сходы мяшчан — сеймы, веча і копы. На гэтых сходах заслухоўваліся справаздачы бурмістраў аб расходаванні гар. грошай, рыхтаваліся скаргі і чалабітныя ўраду, выносіліся пастановы аб зборы сродкаў на гар. патрэбы, выказваліся патрабаванні аб зняцці тых або інш. асоб, замене гар. кіравання. Копныя сходы мяшчан займаліся расследаваннем і разглядам крымінальных спраў. З ростам гарадоў і ўзмацненнем класавай дыферэнцыяцыі гар. насельніцтва агульныя сходы мяшчан паступова трацілі сваё значэнне.

Структура і характар дзейнасці вышэйшых і мясц. дзярж. органаў, якія дзейнічалі ў Вял. кн. Літоўскім у 16 ст., паказвае, што ў іх спалучаліся рэшткі старых форм кіравання, уласцівых земскадварцовай сістэме, з новым дзярж. галіновым кіраваннем пры значнай цэнтралізацыі. На ўсе больш або менш важныя і даходныя дзярж. пасады назначаліся толькі феадалы-шляхціцы хрысц. веры і ўраджэнцы Вял. кн. Літоўскага. Назначэнне на пасаду было пажыццёвым, і пазбаўленне пасады магло быць зроблена толькі па суду за цяжкае крымінальнае злачынства. Гл. таксама арт. *Полацкае права* ў 15—16 ст.

*Літ.:* Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической комиссиею. Т. 2. Спб., 1848; B a r d a c h J. Studia z ustroju i prawa Wielkiego księstwa Litewskiego XIV—XVII w. Warszawa, 1970. *І. А. Юхо.*



**Дзяржаўная бібліятэка БССР** імя У. І. Леніна

**ДЗЯРЖА́ЎНА-ПРАВАВЫ́Я ПО́ГЛЯДЫ Ф. СКАРЫ́НЫ,** гл. ў арт. *Светапогляд Ф. Скарыны.*

**ДЗЯРЖА́ЎНАЯ БІБЛІЯТЭ́КА БССР** імя У. І. Леніна, цэнтральнае кнігасховішча БССР, навукова-метадычны і навук. бібліяграф. цэнтр у галіне бібліятэказнаўства і бібліяграфіі. Заснавана ў 1922. У 1932 ёй прысвоена імя У. І. Леніна. Да Айч. вайны мела 10 выданняў С. (набыты ў 1925 у ленінградскага бібліяфіла Камарніцкага). У Айч. вайну вывезены ў Германію. Пасля вайны вернуты ў б-ку і зберагаюцца ў 7 адзінках захавання: кн. «Іоў» (адсутнічаюць 18—24-ы, 38—51-ы арк.); кн. «Ісус Сірахаў» (2 экз., у адным экз. 1-ы арк. дэфектны, мае 8 рукапісных арк., у другім адсутнічаюць 1—72-і арк.); «Еклесіяст»; «Песня песням» (захаваліся 4 дэфектныя арк.); кн. «Прамудрасць божая» (адсутнічаюць 4-ы, 7—14-ы арк., 5 арк. дэфектны); 1-я кн. «Царствы» (адсутнічаюць 1—7-ы, 9-ы, 16-ы, 18—22-і, 56-ы арк.); 2-я і 3-я кн. «Царствы», 4-я кн. «Царствы» (адсутнічаюць 183-і, 238—240-ы арк.); кн. «Прарок Данііл» (адсутнічаюць 17—18-ы, 23—40-ы арк.; ёсць меркаванне, што кніга з'яўляецца рукапіснай копіяй).

*Літ.:* 556. *В. Н. Дышыневіч.*

**ДЗЯРЖА́ЎНАЯ БІБЛІЯТЭ́КА СССР** імя У. І. Леніна, нацыянальная б-ка СССР, адна з найбуйнейшых б-к



Выданні Ф. Скарыны, якія зберагаюцца ў **Дзяржаўнай бібліятэцы БССР** імя У. І. Леніна.

свету, кнігазнаўчы і бібліяграф. навук. цэнтр СССР. У яе аснову быў пакладзены збор М. П. Румянцава, які стаў крыніцай утварэння ў Пецярбургу ў 1832 Румянцаўскага музея. Затым збор быў перавезены ў Маскву, дзе ў 1862 заснаваны Румянцаўскі музей у Маскве, у складзе якога заснавана б-ка. З 1924 Расійская б-ка імя У. І. Леніна, з 1925 Дзярж. б-ка СССР імя У. І. Леніна. Фонд выданняў С. ў б-цы папаўняўся паступова. Канвалюты, у якія ўваходзілі кн. «Іоў», «Еклесіяст», «Прамудрасць божая», «Другі закон», «Юдзіф», «Эсфір», «Прарок Данііл», былі ў калекцыі М. П. Румянцава. У 1870 музей набыў збор старадрукаваных кніг І. Я. Лукашэвіча, куды ўваходзілі пражскія выданні С.: «Прытчы Саламона», кн. «Ісус Сірахаў», «Еклесіяст», 4 кн. «Царствы» і канвалют, куды ўваходзілі кн. «Выхад», «Левіт» і «Прамудрасць божая». Шэраг выданняў С. паступіў з пецярбургскай Публ. б-кі. Сярод іх — 4 пражскія выданні і віленскі «Апостал». У 1917 б-ка набыла «Прытчы Саламона» са збору М. М. Бірукова. У 1919 папоўнілася пражскімі выданнямі С. за кошт нацыяналізаванага збору старадрукаваных кніг рус. букініста-антыквара П. П. Шыбанава. У 1920-я г. калекцыя выданняў С. павялічылася за кошт збораў кніг Маскоўскай духоўнай акадэміі, *Опцінай пустыні*, у 1930-я г.— 2 канвалютамі навук. б-кі Саратаўскага ун-та, некалькімі пражскімі выданнямі з калекцыі Г. П. Георгіеўскага. У фондах б-кі (1946) зберагаецца 82 экз. выданняў С., у т. л. 69 пражскіх і 13 віленскіх. 33 экз. пражскіх выданняў пераплецены асобна, 36 экз.— у 8 канвалютах. Віленскія выданні прадстаўлены 2 экз. «Апостала», «Часаслоўцам» і 2 канвалютамі (у адным пераплецены «Часасловец», «Псалтыр» і «Акафіст Ісусу», у другім — 7 акафістаў і канонаў). З 42 выданняў С. ў б-цы зберагаецца 29, многія з іх па некалькі экземпляраў: кн. «Царствы» (7 экз.), «Прытчы Саламона» (6 экз.), кн. «Іоў», «Прамудрасць божая», «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Эсфір» (па 4 экз.). Адзін экз. кн. «Іоў» адрозніваецца ад усіх вядомых экз. тым, што не мае прадмовы. Кніга пачынаецца аркушам з фаліяцыяй «2». Тут змешчана назва кнігі і чатырохрадкоўе, а ў інш. экземплярах — на першым лісце. Адварот аркуша пусты.

*Літ.*: 668; 670. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ДЗЯРЖАЎНАЯ ПУБЛІЧНАЯ БІБЛІЯТЭКА** імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе. Заснавана ў 1795, адкрыта ў 1814, імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына прысвоена ў 1932. Адзіная ў свеце б-ка, якая мае ў сваіх фондах усе выданні С. Фонд выданняў С. ў б-цы папаўняўся паступова. У 1817 у складзе калекцыі кніг П. К. Фралова паступіў канвалют, у якім змяшчаліся акафісты і каноны. У 1830 Ф. А. Талстой перадаў б-цы 7 канвалютаў, дзе змяшчаліся 19 пражскіх выданняў С., «Апостал» і канвалют з 10 акафістамі і канонамі. Шэраг выданняў С. б-ка набыла з калекцыямі кніг М. П. Пагодзіна (1852), І. П. Каратаева (1861). У 1860 дэпартамент Генеральнага штаба арміі перадаў «Апостал». У 1904 б-ка папоўнілася рэдкім пражскім выданнем С.— «Псалтыром» 1517 (вядома толькі 2 экз.). У фондах б-кі зберагаецца (1986) 81 экз. выданняў С., у т. л. пражскіх 41, віленскіх 40. Пражскія выданні прадстаўлены 2 камплектамі біблейскіх кніг і асобна пераплеценым «Псалтыром». Першы камплект з трох канвалютаў мае 19 пражскіх выданняў, другі таксама з трох канвалютаў і асобна пераплеценай кн. «Суддзі» (усяго 18 пражскіх выданняў, адсутнічае кн. «Ісус Навін»). Віленскія выданні прадстаўлены 2 асобна пераплеценымі экз. «Апостала», адным экз. «Псалтыра» 1522 і 2 канвалютамі, дзе змешчаны «Часасловец», акафісты і каноны (па 2 экз.), «Шасціднёвец», «Саборнік». У б-цы зберагаецца шэраг рукапісных копій выданняў С. Найб. цікавыя: рукапіс са збору Пагодзіна (шэраг кніг Старага запавету ў пер. С., перапісаных у 2-й пал. 16 ст.) і рукапіс са збору Талстога (Галіцка-Яраслаўскі спіс 1568 В. Жугаёва).

*Літ.*: 648, 671. *Я. Л. Неміроўскі.*



**Дзяржаўная бібліятэка СССР** імя У. І. Леніна.



Дзяржаўная **Публічная бібліятэка** імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе.



Выданні Ф. Скарыны, якія зберагаюцца ў **Дзяржаўнай Публічнай бібліятэцы** імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына.

**ДЗЯРЖАЎНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ**, гл. *Гістарычны музей.*

**ДЛУГАШ** (Dlugosz) Ян (1415—80), польскі гісторык, дыпламат. Вучыўся ў Кракаўскім ун-це (1428—31). З 1436 кракаўскі канонік, у 1480 архіепіскап львоўскі. Аўтар агіяграфічных і гіст. прац. Сярод іх найб. вядомая «Гісторыя Польшчы», інакш «Летапісы, або Хронікі, слаўнага Каралеўства Польскага» (12 кн. на лац. мове; 1-е выд. часткі 1614—15, поўнае выд. 1701—02). Хроніка Д.— помнік гіст. прозы, вяршыня польскай сярэдневяковай гістарыяграфіі (ахоплівае перыяд ад старажытнасці да 1480), каштоўная крыніца па гісторыі Літвы і Беларусі 14—15 ст. Засн. на багатых пісьмовых крыніцах, успамінах сведак падзей, асабістых уражаннях. У ёй падрабязна апісана Грунвальдская бітва 1410. Твор Д.— найб. ранні помнік еўрап. гістарыяграфіі, у якім непасрэдна выкарыстаны бел.-літ. летапісы, у т. л. «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх». Моцна паўплываў на польскую хранаграфію 16—17 ст., праз творы М. Стрыйкоўскага часткова адбіўся ў «Вялікай хроніцы» (бел.-укр. хранографе 17 ст.). У хроніцы Д. змешчаны шэраг звестак па гісторыі Полацкай зямлі эпохі Старaж. Русі і Вял. кн. Літоўскага, найб. пра князёў Усяслава Брачыславіча (Чарадзея) і Андрэя Полацкага. Хоць твор Д. не быў апублікаваны ў 16 ст., імя храніста, які большую частку жыцця правёў у Кракаве, С., напэўна, ведаў. Менавіта ў пач. 16 ст. пачала ўзнімацца слава Д. Гэтаму садзейнічаў і польскі вучоны Мацей з Мяхова, прафесар і рэктар Кракаўскага ун-та, якога С. асабіста ведаў. Мацей вельмі высока ставіў Д., лічыў сябе яго вучнем і шырока абапіраўся на яго «Гісторыю Польшчы» ў сваёй кн. «Хроніка палякаў» (Кракаў, 1519, 1521).

*В. А. Чамярыцкі.*

**ДОБРАЎСКІ** (Dobrovský) Іосеф (1753—1829), чэшскі асветнік, адзін з заснавальнікаў славяназнаўства і дзеяч чэш. Адраджэння, першы ў чэш. навуцы даследчык жыцця і дзейнасці С. Вучыўся на філас. (1767—71) і багаслоўскім (1771—72) ф-тах Карлава ун-та ў Празе; у 1776 скончыў яго. Быў членам ордэна езуітаў (1772—73). З 1784 чл. Каралеўскага



Выданні Ф. Скарыны, якія зберагаюцца ў **Дзяржаўнай бібліятэцы** СССР імя У. І. Леніна.

т-ва навук у Празе. Ганаровы чл. Расійскай акадэміі (1820). З 1779 удзельнічаў у грамадска-паліт. жыцці Чэшскіх зямель, выпускаў асветніцкія крытыка-бібліяграф. часопісы. Прытрымліваўся рацыяналістычнай крытыкі рэліг. догмаў, за што выклікаў нянавісць з боку рэакц. дзярж. і царк. дзеячаў. Займаўся біблеістыкай, вывучаў слав. пераклады Бібліі, даследаваў гісторыю слав. і чэш. культуры і пісьменнасці. Цікавіўся рус. навукай і культурай, перапісваўся з А. Х. *Вастокавым* і інш. рус. даследчыкамі. Як член Чэшскага т-ва навук наведаў Расію (1792—93). Вынікі сваёй працы ў б-ках і архівах Пецярбурга і Масквы выклаў у сваіх навук. працах, а таксама ў выдадзенай ім у Празе навук. справаздачы «Літаратурныя весці...» (1796, на ням. мове). У 1796 увёў у навук. ўжытак «Малую падарожную кніжку» С. У «Літаратурных весцях» Д. паведаміў пра вывучаны ім у б-цы Пецярбургскай АН (цяпер Б-ка АН СССР) экземпляр «Пяцікніжжа» С. У справаздачы дэталёва апісаў вонкавы выгляд скарынінскіх кніг, іх склад, шрыфт. Адначасова зацікавіўся бел. першадрукаром і выказаў правільнае меркаванне, што ўзорам для яго магло быць якое-н. слав. выданне ў Венецыі



Я. Драздовіч. Скарына. 1927.

(пазней было ўстаноўлена, што найважнейшай крыніцай для С. была *«Біблія чэшская у Венецыі друкаваная»*, 1506). Д. выказаў гіпотэзу, што С. быў сярод асоб, якія суправаджалі польскага караля Жыгімонта I у яго дыпламат. паездцы на Венскі кангрэс 1515, а пасля гэтага пасяліўся ў Празе, дзе разгарнуў сваю перакладчыцкую і выдавецкую дзейнасць. Гэта гіпотэза Д. пазней выклікала сумненне ў А. В. *Флароўскага.*

*Літ.:* 203; 309. *А. С. Мыльнікаў.*

**ДО́КТАР** (ад лац. doctor настаўнік). У старажытнасці і раннім сярэднявеччы тэрмін ужываўся ў адносінах да настаўнікаў.

З 12 ст. Д. стаў ганаровым званнем і паступова набыў ранг вышэйшай навук. ступені. Першыя навук. ступені Д. права сталі прысуджаць прыкладна з 1130 у Балонскім ун-це асобам, якія вывучалі рымскае права. Пазней, калі рымскае і каталіцкае права сталі вывучацца сумесна, абедзве ступені зліліся ў адну і сталі прысуджацца ступені Д. абодвух праў (г. зн. грамадзянскага і кананічнага). У 13 ст. прысвойваліся званні Д. багаслоўя, медыцыны, логікі, граматыкі і інш. Атрыманню ступені Д. павінна была папярэднічаць наяўнасць ступеняў бакалаўра і ліцэнцыята. Некат. час ступені Д. была раўназначная ступень магістра, але з 16 ст. на юрыд., мед. і багаслоўскім ф-тах больш ганаровым лічыўся доктарскі тытул, на філас. ф-тах 18 ст.— званне магістра. Каб атрымаць ступень Д., патрэбна было здаць спец. экзамены або напісаць і абараніць дысертацыю.

Заходнееўрапейскі **друкарскі станок.** Гравюра. 1521.




**С. атрымаў ступень Д. медыцыны 9.11.1512 пасля здачы «асобага экзамену» ў прысутнасці вядучых вучоных *Падуанскага універсітэта* і вышэйшых чыноў каталіцкай царквы. У пасляслоўях да «Паслання апостала Іуды» і да кн. «Ісус Навін»** (гл. с. 189, 190) С. называе сябе Д. «в науках вызволеных». У склад такіх навук уваходзілі: граматыка, дыялектыка, рыторыка, арыфметыка, геаметрыя, музыка, астраномія (гл. *«Сем вольных мастацтваў»*). Пытанне, як С. атрымаў гэты тытул, застаецца невысветленым. Асабіста С. надае розныя сэнсавыя адценні свайму доктарскаму званню. Часцей ён называў сябе «в лекарских науках доктором» або проста Д., «ученым мужем и в лекарских науках доктором» у пасляслоўі да кн. «Быццё» (гл. с. 106), в лекарстве и в науках доктором» у пасляслоўі да кн. «Руф» (гл. с. 146), «в науках и в лекарстве учителем» у пасляслоўі да кн. «Эсфір» (гл. с. 151), у пасляслоўі да кн. «Суддзі» (гл. с. 102) і інш. Такую неаднолькавасць можна вытлумачыць тым, што ў адных месцах пад Д. навук пераважна разумелі вучоную ступень, у другім — вучонае званне (настаўніка). У асобных выпадках за выключныя заслугі прысвойвалася званне Д. як ганаровае. У цэлым жа ў часы С. ступень Д. ўключала ў сябе адначасова (толькі ў розным спалучэнні) навук. ступень, навук. званне і ганаровае званне.

*С. Ф. Сокал.*

**ДО́ЎНАР-ЗАПО́ЛЬСКІ** Мітрафан Віктаравіч (1867—1934), беларускі гісторык ліберальна -бурж. кірунку, фалькларыст і этнограф. Д-р гіст. н. (1905), праф. (1902). Аўтар прац па сац.-эканам. гісторыі Беларусі і Літвы, этнаграфіі і фальклору. У арт. «У сувязі з даследаваннямі Уладзімірава. Доктар Ф. Скарына» (Минский листок. 1888. № 42, 44) і «Да юбілею беларускага кнігадруку» (Гістарычна-археалагічны зборнік. 1927. № 1) даў характарыстыку эпохі С., прывёў звесткі пра яго жыццё. Лічыў, што С. пераклаў Біблію на бел. мову, а крыніцай для перакладаў былі чэш. тэксты разам з лацінскімі і грэчаскімі. Аналізуючы светапогляд С., адзначаў «шырокае пачуццё грамадскасці з нахілам у бок «простых» людзей». Цытаваў кн. «Біблii» С., у якіх ідзе гаворка пра сувязь людзей з прыродай, ролю ведаў, неабходнасць карыснай працы для народа. Падкрэсліў, што С. ставіў перад кнігадрукам высокія задачы, называў яго энтузіястам кнігі, выдатным дзеячам эпохі, які вызначыў яе асноўныя вехі.

*А. А. Варатнікова.*

**ДРАЗДО́ВІЧ** Язэп Нарцызавіч (1888—1954), беларускі графік, жывапісец, скульптар. Адзін з першых бел. мастакоў стварыў вобраз С. У 1910 выканаў бюст С. У 1927 для Радашковіцкай бел. гімназіі, якая насіла імя Ф. Скарыны, напісаў партрэт С. паводле гравюры з «Бібліі» (алей, 70 × 50 см; экспанаваўся на персанальнай выстаўцы ў 1928). Працаваў над серыяй карцін «Жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны». Упершыню

скарынінскі цыкл «Развітанне з Полацкам» (алей 1944, 66×53 см), «Са свету з навукай» (алей, 1944, 65×53 см), «Скарына ў Віленскай друкарні 1525 года» (алей, 1940, 66×94 см; усе ў Музеі стараж.-бел. культуры Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР) і «Кніганабыўцы ў Скарынавай друкарні» (алей, 1940—43, 73×65 см; уласны збор А. Марачкіна) экспанаваўся на выстаўцы, прысвечанай 90-годдзю з дня нараджэння мастака. На палатне «Развітанне з родным Полацкам» С. ў глыбокім роздуме глядзіць на родны яму горад. Праз плячо перакінуты берасцяны кош (вярэнька) і невялікая палатняная торба з пажыткам на дарогу. За шырокай Дзвіной — Сафійскі сабор. Энергічны імклівы вобраз С. стварае мастак у карціне «Са свету з навукай». Цёмны сілуэт надае ўсёй постаці ўпэўненасць і веру ў сябе. С.— само дзеянне, рух. Ён на роднай зямлі, на сваёй Бацькаўшчыне, дзеля якой пазнаваў навуку. Вобраз маладога кнігадрукара сярод паплечнікаў паўстае з карціны «Скарына ў Віленскай друкарні 1525 года». Кампазіцыя шматфігурная. Злева сам С., у цэнтры — друкар за станком. На пярэднім плане яшчэ адна фігура друкара, што набірае шрыфты і драўляным валікам наносіць фарбу на літары. Збоку — шафы з кнігамі. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*А. А. Марачкін.*

**ДРУКА́РСКІ СТАНО́К** 16—18 ст. Аснову паліграф. тэхнікі бел. друкароў 16—18 ст. складаў ручны Д. с.: «варстат друкаръский» («Евангелле», Заблудаў, 1569), «станок і шуруп» (вопіс маёмасці Куцеінскай друкарні, сярэдзіна 17 ст.), «прасса типографичная» («Служэбнік», Супрасль, 1727—32). Друкарская тэхніка таго часу была аднолькавай ва ўсёй Еўропе, канструкцыя «друкарскага праса» (за выключэннем ўдасканалення асобных дэталей) з часоў С. да канца 18 ст. практычна не мянялася. Д. с.— масіўнае драўлянае збудаванне з 2 вертыкальнымі бакавымі апорамі, замацаванымі папярочнымі перакладзінамі. У сярэдняй перакладзіне гайка, у якой хадзіў вертыкальны вінт — латунны або жалезны «шуруп» («шруба»), да ніжняй часткі якога прымацоўвалася націскная дошка («тынгль медный», «тигель», рус. «пиан»). Гняздо ў «тынглі» давала яму магчымасць пры кругавым і адначасова прамавугольным вертыкальным руху вінта рабіць толькі вертыкальныя хады: уніз на набор і ўверх. Вінт прыводзілі ў рух доўгім рычагом — «вагай» (рус.— «кука»), пры дапамозе якога аркуш прыціскаўся да друкарскай формы, пакрытай фарбай. Друкаванне патрабавала значных намаганняў майстра, таму апоры нярэдка мацаваліся распорамі да столі і вінтамі да падлогі. На ніжняй частцы Д. с. змяшчаўся плоскі стол («талер», «торель», «тарель»), які выцягваўся з дапамогай меднага калаўрота з зубцамі (у ранніх варыянтах уручную за петлі). Ён даваў магчымасць пасля падняцця націскной дошкі вывезці друкарскую форму наверх для далейшых аперацый (змена паперы, друкарскай формы, ксілаграфій і інш.). На друкарскую форму накладвалася драўляная рамка — рашотка («тимпан»), абклееная цялячай скурай («опойками»). Каб аркуш не западаў на форме, не пэцкалася поле і прабельныя месцы фарбай, яго прыкрывалі знізу плоскай пергаментнай (пазней металічнай) рамкай з вокнамі («рашкетом», «врашкетом», «фрашкетам»). Д. с. у апісаннях бел. друкароў 16—18 ст. называўся часам медным або жалезным, але металічнымі былі толькі асн. рабочыя часткі. Апоры і стол былі драўлянымі. На выраб Д. с. ў 16—18 ст. ішло каля 30 пудоў дубовай драўніны, 7—9 пудоў медзі і жалеза. Кошт Д. с. вагаўся ў залежнасці ад складанасці і колькасці абсталявання. Чэшскія друкарні ў час знаходжання С. ў Празе каштавалі ад 150 да 1500 мішэнскіх коп. Д. с. Івана Фёдарава «из дерева, бронзы и меди» быў набыты *Мамонічамі* ў 1588 за 120 літ. грошаў, маёмасць Супрасльскай друкарні разам са «словолитней» у 1803 прададзена беластоцкаму друкару за 1140 рэйхсталераў. Друкарні С. ў Празе і Вільні мелі адзін Д. с. Брэсцкая друкарня Ц. Базыліка (1560—70-я гады) мела 2 Д. с., 3 друкарскія формы. Некалькі Д. с. мела самая буйная прыватнаўласніцкая бел. друкарня Мамонічаў. У 16 ст. Д. с. абслугоўвалі 1—3 работнікі, у 17—18 ст.— да 5. Беларускія Д. с. 16—18 ст. не збераглiся. Апошні ўзор такога станка да Вял. Айч. вайны зберагаўся ў Полацкім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Голенченко Г. Я. Техника белорусского книгопечатания XVI—XVIII веков // Материалы науч. конф. (к 40-летию библиотеки). Мн., 1965. *Г. Я. Галенчанка.*



**Друкарскі станок.** 16 ст. Мадэль.

**ДЫЛА** Язэп (Восіп Лявонавіч; псеўданім Назар Бываеўскі, Тодар Кулеша, Л. Жорсткі; 1880—1973), беларускі грамадскі дзеяч і пісьменнік. У 1944—45 працаваў над п'есай «Падуанскі студэнт», прысвечанай С. (не скончана, асн. варыянт п'есы апубл. ў яго кн. Творы, 1981). Асн. змест яе — станаўленне характару і светапогляду маладога бел. асветніка, яго ўдзел у бурным жыцці Падуі, якая ў 16 ст. была цэнтрам навукі. Накіды п'есы сведчаць аб глыбокім вывучэнні аўтарам вял. гіст. матэрыялу эпохі. Варыянты рукапісу п'есы захоўваюцца ў Дзярж. архіве-музеі л-ры і мастацтва БССР. *В. Н. Дышыневіч.*

**ДЫПЛО́М ІМЯ́ ФРАНЦЫ́СКА СКАРЫ́НЫ,** вышэйшая ўзнагарода БССР за выдатныя дасягненні ў маст. афармленні і паліграф. выкананні друкаваных выданняў. Установлены ў 1967 у сувязі з 450-годдзем бел. кнігадрукавання. Прысуджаецца штогод на Рэсп. конкурсе па мастацтву кнігі. Арганізатары конкурсу — Дзяржкамітэт БССР па справах выд-ваў, паліграфіі і кніжнага гандлю і Рэсп. навук.-тэхн. т-ва паліграфіі, выд-ваў і кніжнага гандлю. У склад журы ўваходзяць прадстаўнікі гэтых арг-цый і Саюза мастакоў БССР. У 1968—75 лаўрэатам конкурсаў адначасова з дыпломам уручаўся юбілейны медаль С., выраблены ў 1967 паводле эскіза мастака А. М. Кашкурэвіча. Дыпломамі ў 1968—86 адзначаны 30 друкаваных выданняў (гл. табл.), а таксама выд-ва «Беларусь» за высокую якасць у маст. афармленні выданняў (1975). *В. Н. Дышыневіч.*

**Дыплом імя Ф. Скарыны.** Тытул. Разварот.





**«Дыспут».** Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Ісус Сірахаў» Ф. Скарыны.

**«ДЫ́СПУТ»,** гравюра тытульнага ліста да некананічнай старазапаветнай *кнігі «Ісус Сірахаў»,* выдадзенай С. у Празе (1517).

На думку даследчыкаў (Л. Баразна), яна не ілюструе змест кнігі, а выяўляе звычайны для сярэднявечча і пазнейшых часоў дыспут ці спрэчку з нагоды публ. абароны дысертацыі. Аднак этымалаг. тлумачэнні першадрукара і жанр твора «Ісус Сірахаў» сведчаць пра пэўную сэнсавую сувязь графічнай выявы і біблейскай кнігі. Па-грэчаску, зазначае С., яна называецца Панарэтас, па-латыні Эклезіястыкус, што па-руску перакладаецца Царкоўнік, «понеже церкви святой ест сия книга велми потребна, все бо в ней о церковной науце и о нравех добрых пишеть» (гл. с. 45). Сам твор без пэўнай падзеі-фабулы, з выразнай дыдактычнай кампазіцыяй, напісаны ў форме павучання. Ён шырока выкарыстоўваўся ў царк. казаннях і лекцыях па практычнай філасофіі, або этыцы. Таму гравюру можна тлумачыць як ілюстрацыю, якая падкрэслівае функцыянальнае прызначэнне самой кнігі.

Кампазіцыя гравюры «Д.» (105×106 мм) выразная і лаканічная. Дзея адбываецца ў памяшканні з гатычнымі скляпеннямі. Справа за кафедрай — выява сівавалосага мужчыны, які чытае кнігу; злева — групы слухачоў старога ўзросту, што ажыўлена гутараць паміж сабой. 2 фігуры паказаны ў глыбіні кампазіцыі, што спрыяе перадачы прасторы, якая падкрэсліваецца лініямі кафедры, скляпеннямі, калонамі і інш. Тыпаж выяў жыццёва пераканаўчы, індывідуалізаваны (асобныя тыпы набліжаюцца да персанажаў гравюры *«Бічаванне Іова»*). Гравюра выканана жывымі экспрэсіўнымі штрыхамі. На адзенні фігуры за кафедрай перакрыжаваная штрыхоўка, астатняе мадэліравана паралельнымі, крыху закругленымі лініямі, якія пакладзены скрозь па форме, падкрэсліваюць аб'ём. У кн. «Ісус Сірахаў» гравюра дадзена разам з партрэтам С., таму можна было б меркаваць, што яе выканаў аўтар партрэта. Але «Д.» не адзначаны гербам-сігнетам С. і па манеры выканання крыху адрозніваецца ад партрэта (М. Шчакаціхін адносіў «Д.» да «чацвёртай» стылістычнай групы, а партрэт С.— да другой). Падабенства тыпажу і штрыхоўкі ў гравюрах «Д.» і «Бічаванне Іова» дазваляе меркаваць, што яны выкананы адным майстрам. Але «Д.» — больш мастацкая гравюра, спецыяльна зробленая для кн. «Ісус Сірахаў», аб чым сведчыць адпаведнасць яе памераў люстру набора кнігі.

*Літ.:* 564; 792.

*У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**ДЫШЫНЕ́ВІЧ** Валянціна Нічыпараўна (н. 1930), беларускі сав. бібліёграф. У галіне скарыназнаўства выступае з 1970-х г. Складальнік 1-га рэтраспектыўнага паказальніка твораў бел. л-ры і мастацтва пра С. «Францыску Скарыне прысвечаныя» (1982; паэзія, проза, драматургія, выяўленчае мастацтва, тэатр, кіно). Асн. раздзелам паказальніка папярэднічаюць агляды з характарыстыкай твораў. У бібліяграф. частцы ўказаны публікацыі, рукапісы, рэпрадуцыраваныя і нерэпрадуцыраваныя творы мастацтва і л-ра пра іх. Дадзена атрыбуцыя твораў мастацтва, указаны месцы захавання. Выданню

**ВЫДАННІ, АДЗНАЧАНЫЯ ДЫПЛОМАМ ІМЯ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ**

| №№ п/п | Аўтар і назва кнігі | Год узнагароды | Выдавецтва | Паліграф. прадпрыемства | Мастакі | Маст. рэдактары | Тэх. рэдактары |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 1. | Купала Янка. Курган. | 1968 | «Беларусь» | Паліграфкамбінат імя Я. Коласа | А. М. Кашкурэвіч | М. Ц. Гуціеў | Г. Г. Федарук |
| 2. | Колас Якуб. Новая зямля. | 1969 | » | » | Г. Г. Паплаўскі | М. Ц. Гуціеў | Я. С. Шляшынская |
| 3. | Серыя: Беларускія народныя казкі. | 1970 | » | » | Н. М. Паплаўская | В. П. Жыжэнка | Я. С. Шляшынская |
| 4. | Маякоўскі У. У. Уладзімір Ільіч Ленін. | 1971 | » | » | В. П. Шарангович | Л. Я. Прагін | І. С. Шаршульскі |
| 5. | Гравюры Францыска Скарыны. Альбом. | 1973 | » | » | У. С. Басалыга, М. С. Басалыга, фатограф П. М. Захаранка | В. П. Курусь В. У. Харэўскі | |
| 6. | Гусоўскі М. Песня пра зубра. | 1974 | «Мастацкая літаратура» | » | А. М. Кашкурэвіч | Л. Я. Прагін | Г. Г. Федарук |
| 7. | Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, т. 1—12. | 1976 | «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» | Паліграфкамбінат імя Я. Коласа, друкарня выдавецтва ЦК КПБ, | | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8. | Клышка А. К. Буквар. | » | «Народная асвета» | ф-ка ГУГК Паліграфкамбінат імя Я. Коласа | С. Р. Кавалёў | І. М. Андрыянаў | Г. У. Івашка |
| 9. | Гётэ І. В. Фауст. | 1977 | «Мастацкая літаратура» | » | А. М. Кашкурэвіч | Л. Я. Прагін | Г. Г. Федарук |
| 10. | Панамарова Я. С. Інтэр'ер і абсталяванне грамадзянскіх будынкаў (на рус. мове). | » | «Вышэйшая школа» | » | Э. Э. Жаковіч | В. М. Валянтовіч | М. М. Кіслякова |
| 11. | Ленін У. І. Бальшавікі павінны ўзяць уладу; Марксізм і паўстанне; Крызіс наспеў; Парады староннягa; Пісьмо членам ЦК. | 1978 | «Беларусь» | » | У. І. Шолк | І. Р. Славянін, М. А. Шырокаў | Я. С. Шляшынская |
| 12. | Вітка В. Ладачкі-ладкі. Нар. калыханкі, пацешкі, гульні, лічылкі. | | «Мастацкая літаратура» | » | У. С. Басалыга, А. Г. Лось, Н. М. Паплаўская | В. П. Жыжэнка | С. А. Абрамчук |
| 13. | Купала Янка. Паэмы. | 1979 | » | » | В. П. Шарангові́ч | Л. Я. Прагін | М. П. Панкова |
| 14. | Савецкая Беларусь. Фотаальбом. | | «Беларусь» | » | афармленне М. І. Ганчарова і Г. М. Галубовіча | макет і маст. рэдакцыя В. П. Курусь | І. С. Шаршульскі |
| 15. | Брэжнеў Л. І. Адраджэнне. Малая зямля. | » | » | » | М. І. Ганчароў, М. А. Шырокаў | І. Р. Славянін, Г. Р. Малышаў | Л. Л. Грамовіч, М. А. Шабалінская |
| 16. | Быкаў В. У. Пайсці і не вярнуцца. | 1980 | «Мастацкая літаратура» | » | А. М. Кашкурэвіч | В. П. Жыжэнка, Г. І. Труханава | С. А. Абрамчук |
| 17. | Аганезаў А. М. Увага, хлеб! (на рус. мове). | » | «Ураджай» | » | Ю. М. Цюрын | П. Ф. Барздыка | А. М. Хейфец |
| 18. | Дрэва кахання: Легенды, паданні, казкі. | 1981 | «Мастацкая літаратура» | » | Г. Г. Паплаўскі, Н. М. Паплаўская | В. П. Жыжэнка В. І. Клімёнка | Т. М. Сокал |
| 19. | Пісьмы працоўных Беларусі У. І. Леніну (на рус. мове). | » | «Беларусь» | » | В. П. Масцераў | І. Р. Славянін | Я. С. Шляшынская |
| 20. | Гусоўскі Мікола. Песня пра зубра. | » | «Мастацкая літаратура» | » | Я. С. Кулік | Л. Я. Прагін | Г. Г. Федарук |
| 21. | Колас Якуб. Выбранае (на рус. мове). Купала Янка. Выбранае (на рус. мове). | 1982 | » | » | Ю. П. Герасіменка, Ю. К. Зайцаў, афармленне А. К. Шэверава | В. П. Жыжэнка | Т. М. Сокал |
| 22. | Сцякольнікаў Л. І., Мурах В. І. Лекавыя кладоўкі прыроды (на рус. мове). | » | «Ураджай» | » | В. Кавалёў | А. І. Яўменаў | Р. С. Цімашчук |
| 23. | Колас Якуб. Выбранае. | 1983 | «Мастацкая літаратура» | » | Г. Г. Паплаўскі, афармленне М. Р. Казлова | В. П. Жыжэнка, Г. І. Труханава | Г. Г. Федарук |
| 24. | Батвіннік М. Б. Адкуль паходзіць буквар (на рус. мове). | » | «Вышэйшая школа» | » | У. І. Шолк | В. М. Валянтовіч | М. М. Кіслякова |
| 25. | Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі, т. 1. | 1984 | «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Пет- | » | В. М. Валянтовіч | І. М. Пратасеня, А. М. Хількевіч | М. І. Грыневіч |

ўласціва спалучэнне асаблівасцей маст. каталогу і бібліяграф. дапаможніка. Ёсць раздзел пра маст. асаблівасці выданняў С. Аўтар артыкулаў, прысвечаных С. У арт. «Сігнет Францыска Скарыны» (Неман. 1979. № 11) выказала меркаванне, што знак С. (сонца і месяц) — сінтэз аўтарскага сігнета выдаўца і мастака. У арт. «Скарыназнаўства: Некаторыя пытанні гістарыяграфіі і бібліяграфіі» (Кніга ў Беларусі: Кнігазнаўства, крыніцы, бібліяграфія. 1983. Вып. 2) падкрэсліла неабходнасць крытычнага агляду з пазіцый сав. метадалогіі замежных публікацый у галіне скарыназнаўства. У арт. «Аб крыніцазнаўчым аналізе спадчыны Ф. Скарыны» (Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1985. № 3), «Скарына і адносіны да першакрыніц» (Полымя, 1985. № 12) адзначыла скажэнні і недакладнасці ў выкарыстанні і інтэрпрэтацыі тэкстаў С. Упершыню даследавала праблему выкарыстання літаратурных крыніц у прадмовах С.: патрыстыкі, біблейскіх тэкстаў. *Г. Я. Галенчанка.*

**ДЫЯКРЫТЫ́ЧНЫЯ ЗНА́КІ** (ад грэч. diakritikós распазнавальны), надрадковыя, падрадковыя, радзей унутрырадковыя знакі, якія выкарыстоўваюцца ў літарным і часткова ў складовым тыпах пісьма для змянення або ўдакладнення значэння асобных знакаў. Д. з. ў выданнях С. адпавядаюць складанай сістэме знакаў націску і т. зв. прыдыхання слав., стараж.-рус., бел. правапісу; частка сістэмы надрадковых знакаў. Сістэма гэта называлася прасодыя. С. шырока выкарыстоўваў Д. з. «оксия» або «острая» /, «вария» або «тяжкая» \, «псилия» або «густая» с, «исо» ?/, «апостраф» ?|, «ерик» або «паерок» и. «Оксию» С. ставіў над «е» у канцы слова, «варию» — над «и» у канцы слова (асабліва ў значэнні «и» кароткае), «ю», «я» і інш. галоснымі, «исо» — над шырокім «о», над злучнікамі «а», «и», над «омегой», «апостраф» — над асобна напісаным «е». Часта «ерик» выкарыстоўваўся для паказання цвёрдага вымаўлення зычных пасярэдзіне і ў канцы слова, замяняў «ъ». Д. з. для выданняў С. адліваліся разам з літарамі.

*Літ.:* Черепнин Л. В. Русская палеография. М., 1956. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ДЭМАКРЫ́Т** (Dēmókritos; каля 460—каля 370 да н. э.), стараж.-грэч. філосаф-матэрыяліст, адзін са стваральнікаў атамізму, вучоны-энцыклапедыст. Вывучаў практычна ўсе галіны стараж. ведаў — матэматыку, астраномію, медыцыну, механіку, этыку, палітыку і інш. Аўтар шматлікіх твораў (да 70 назваў), з якіх да нас дайшло каля 300 фрагментаў у асн. з яго этычных трактатаў. Развіваючы атамістычныя ідэі Леўкіпа, стварыў паслядоўна матэрыяліст. філас. сістэму. Паводле Д., у аснове быцця ляжаць непадзельныя, неразбуральныя, вечныя атамы, якія рухаюцца ў пустой прасторы. Яны адрозніваюцца толькі формай, становішчам, велічынёй. Віхрападобны рух атамаў з прыроднай неабходнасцю прыводзіць да ўтварэння асобных цел і цэлых светаў, колькасць якіх бясконцая. Атамы недаступныя пачуццям, іх можна спасцігнуць толькі

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | руся Броўкі | | | | |
| 26. | Слова аб палку Ігаравым. | » | «Юнацтва» | » | Г. Г. Паплаўскі | В. І. Клімєнка | С. А. Абрамчук |
| 27. | Лось А. Дзесяць дзён у Барку. | » | » | » | А. Лось | А. В. Ружо | Г. Ф. Дуброўская |
| 28. | Міцкевіч А. Пан Тадэвуш. | 1985 | «Мастацкая літаратура» | » | В. П. Шарангович | Л. Я. Прагін | Г. Г. Федарук |
| 29. | Энцыклапедыя прыроды Беларусі, т. 1—5. | 1986 | «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі | » | А. К. Шэвераў | Г. І. Емец<br>С. П. Русак | М. І. Грыневіч<br>А. У. Шэметавец |
| | Прырода Беларусі: Папулярная энцыклапедыя (на рус. мове). | » | » | Мінская фабрыка каляровага друку | А. К. Шэвераў | Г. І. Емец | М. І. Грыневіч |
| 30. | Цётка. Выбранае (на рус: мове). | » | «Юнацтва» | Паліграфкамбінат імя Я. Коласа | У. П. Савіч | В. І. Клімєнка | Г. Ф. Дуброўская<br>Н. П. Дасаева |

розумам. Пачуццёвы вобраз свету не дакладны, адчуванні суб'ектыўныя. Чалавечая душа таксама складаецца з атамаў, якія пасля смерці чалавека пакідаюць цела і рассейваюцца ў прасторы. Вял. ўвагу надаваў пытанням этыкі і сац. жыцця людзей. Маральныя паводзіны чалавека вызначаюцца розумам; дабрачыннае жыццё вынікае з глыбокіх ведаў пра свет. Мудрасць, паводле Д., выяўляецца не толькі ў правільным мысленні, але і ў маральна бездакорных учынках. Розум вядзе чалавека да шчасця, дасягнення гал. мэты асабістага жыцця — добрага настрою духу. Годнасць чалавека вызначаецца не паходжаннем і багаццем, а набытымі ведамі, назапашанай мудрасцю. Д.— безумоўны прыхільнік дэмакратыі. Грамадзянскі абавязак ён лічыў адной з вышэйшых запаведзей разумнага чалавека. Добра кіруемая дзяржава — залог шчаслівага жыцця людзей, таму яе інтарэсы трэба ставіць вышэй за асабістыя. Клопаты пра захаванне строгай законнасці, бездакорную сумленнасць правіцеляў, выхаванне грамадзянскіх якасцей народа вядуць да росквіту грамадства. Гэтай жа мэце служыць развіццё навук, мастацтваў, рамёстваў. Вучэнне Д. аказала моцнае ўздзеянне на далейшае развіццё філас. думкі. «Лініяй Дэмакрыта» назваў У. І. Ленін усю матэрыяліст. традыцыю ў гісторыі філасофіі.

У часы С. інтарэс да ідэй антычнай атамістыкі садзейнічаў росту аўтарытэту Д. ў рэнесансавай філасофіі. Асабліва значэнне надавалася яго сац.-этычнаму



Дэмакрыт.

вучэнню. Менавіта гэты бок ідэйнай спадчыны Д. ў кантэксце ўспрыняцця антычнай культуры знайшоў адлюстраванне і ў поглядах С. Ён, па сутнасці, падзяляў пункт гледжання Д. на ролю розуму ў маральных паводзінах чалавека, непарыўную сувязь мудрасці і дабрачыннасці. Розум дае магчымасць чалавеку адрозніваць дабро і зло, справядліва паступаць у адносінах да інш. людзей (гл. с. 136—137). С. бачыў гал. мэту асветніцкай дзейнасці ў тым, каб людзі маглі «имети добрые обычае и познати мудрость и науку» (гл. с. 36). Як і Д., С. надаваў важнае значэнне справядліваму ладу грамадскага жыцця, выхаванню грамадзянскіх дабрачыннасцей у сваіх суайчыннікаў. Хоць С. быў прыхільнікам манархічнай улады, аднак у ідэальным правіцелі ён бачыў асветнага, дабрачыннага, мудрага гасудара, які строга прытрымліваецца ўстаноўленых законаў (гл. с. 83). Беззаконне С. трактаваў як вял. зло, божае наканаванне людзям (гл. с. 99—101). Услед за Д. і інш. старажгрэч. мысліцелямі ён высока ставіў ідэю грамадскага дабра. Толькі ў грамадстве жыццё чалавека мае сапраўдны сэнс, але яно патрабуе бескарыснага служэння «пожитку посполитому», адданасці грамадскім інтарэсам; «каждый хрестианин свое имея дарование к посполитого доброго размножению да уделяеть» (гл. с. 196—197). Блізкі да Д. ён і ў трактоўцы патрыятызму як вышэйшай дабрачыннасці чалавека, заклікаў не шкадаваць «всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея» (гл. с. 94). С. падзяляў перакананне Д. ў тым, што для дасканалага чалавека, мудраца фармальнае права залішняе, таму што ён робіць па ўнутранаму пераконанню тое, што інш. робяць баючыся строгасці законаў. Мудрасць і дабрачыннасць не з'яўляюцца нейкімі прыроджанымі якасцямі, а выхоўваюцца, фарміруюцца ўпартай працай, даступнай кожнаму чалавеку, таму што «и нынѣ единый кажный человек, имея розум, познаеть», што ёсць дабро, а што ёсць зло (гл. с. 137). Этычны рацыяналізм, патрыятызм, дух дэмакратызму — гэтыя рысы поглядаў Д. праз антычную культурную традыцыю атрымалі глыбокае праламленне і развіццё ў творчасці С.

*Літ.:* Маркс К., Энгельс Ф. Избранных произведений. М., 1956. С. 17—98; Тимошенко В. Е. Материализм Демокрита. М., 1959; Асмус В. Ф. Демокрит. М., 1960; Лосев А. Ф. История античной эстетики (ранняя классика). М., 1963.

*Г. У. Грушавы.*



**ЕВА́НГЕЛЛІ** (грэч. euangélion літар. добрая вестка), раннехрысціянскія творы-сказанні пра жыццё і вучэнне Ісуса Хрыста.

Узніклі на мяжы 1—2 ст. н. э. Царква прызнае «богонатхнёнымі» 4 Е. (ад Матфея, Марка, Лукі, Іаана) і ўключае ў Новы запавет, астатнія адвяргае як апакрыфічныя. У Е. шмат супярэчнасцей, гіст. і геагр. памылак, якія сведчаць, што Е. складаліся і рэдагаваліся ў розны час многімі людзьмі. Вытокі евангельскіх легенд, апавяданняў пра цудатворнае нараджэнне, жыццё і ўваскрэсенне Хрыста — старазапаветныя прароцтвы пра месію, грэка-рым. міфы пра багоў, некат. высновы антычных філосафаў-ідэалістаў. Е. вучаць прымірэнню з жыццёвымі пакутамі, непраціўленню злу, абяцаючы вечнае шчасце ў раі пасля смерці. Выкарыстоўваюцца эксплуататарскімі класамі як пропаведзь пакорлівасці і класавага міру.

На Беларусі Е. ў стараслав. перакладзе бытуюць з часоў увядзення хрысціянства. Найстарэйшыя Е., якія дайшлі да нас у рукапісах,— Тураўскае (11 ст.), Аршанскае (13 ст.), Полацкае (13—14 ст.), Друцкае, Лаўрышаўскае, Мсціжскае (усе 14 ст.), Жыровіцкае (15 ст.), Шарашоўскае (канец 15 ст., паводле інш. звестак сярэдзіна 16 ст.) — вызначаюцца майстэрствам устаўнога пісьма і маст. аздаблення (арнаментальныя пачатковыя літары, застаўкі, мініяцюры). Новазапаветныя прытчы і легенды, вобразы і афарызмы выкарыстоўвалі і тлумачылі ў сваіх творах Кірыл Тураўскі і С. ў сваіх прадмовах і пасляслоўях. З літаратурна-маст. пункту гледжання С. аддаваў перавагу Е. ад Лукі («...святый Лука писал есто слове божием наивышшей, наистей и нарядней, нежели иные»), але спасылаўся і на Е. ад Марка, Матфея і Іаана. Евангельскія вобразы тройцы, Хрыста, багародзіцы выкарыстоўваюцца С. з мэтай падкрэсліць святасць, богаўгоднасць сваёй справы. Ён выдае кнігі з «божиим произволением», «божиею ласкаю», «напрѣд богу в троици единому и его пречистой матери-девици Марии ко чти и людем посполитым к доброму научению», але «працею и пилностию» и «повелением и працею» «ученаго мужа Франциска Скорины из славного града Полоцка». Пры вызначэнні часу гісторыі стварэння той ці іншай біблейскай кнігі С. спасылаўся на гіст. дзеячаў: «Книгу сию, рекомую Премудрость, написал ест Филон Философ...».



Аршанскае **евангелле.** Евангеліст Лука. Мініяцюра.



Ініцыял з Аршанскага **евангелля.**

Сымон Будны крытыкаваў евангельскія тэксты і развенчваў міфы пра боскасць і ўваскрэсенне Хрыста, бяссмяротнасць душы. У перыяд *Рэфармацыі* з асв. мэтамі ў перакладзе на старабел. мову «Евангелле» надрукаваў Васіль Цяпінскі. Да Е. звярталіся пісьменнікі-палемісты 2-й пал. 16—17 ст. Л. і С. Зізаніі, Л. Карповіч, М. Смятрыцкі, А. Філіповіч і інш. Сюжэты, змест, вобразы Е. выкарыстоўвалі майстры скульптуры, жывапісу, кніжнай гравюры розных часоў, пісьменнікі Сімяон Полацкі, М. Багдановіч, Я. Колас, К. Крапіва, У. Караткевіч і інш.

*Л. Л. Кароткая.*

**ЕЗУ́ІТЫ** (ад лац. формы імя Ісус Jesus), члены манаскага каталіцкага ордэна «Таварыства Ісуса», створанага ісп. дваранінам І. Лаёлам у 1534 для барацьбы з *Рэфармацыяй,* умацавання каталіцызму і ўлады папства.

Ордэн афіцыйна зацверджаны папам Паўлам III у 1540. Пабудаваны на аснове строгай цэнтралізацыі, суровай дысцыпліны і беспярэчнага падпарадкавання ніжэйшых звенняў кіраўніцтву. На чале ордэна стаяў т. зв. «чорны папа» — генерал, які выбіраўся пажыццёва і непасрэдна падначальваўся толькі папу рымскаму. Прыстасоўваючыся да мясц. умоў і кіруючыся прынцыпам «мэта апраўдвае сродкі», Е. актыўна ўмешваліся ў палітыку, навуку, асвету, выхаванне моладзі. Для больш паспяховай дзейнасці Е. дазвалялася весці свецкі вобраз жыцця (яны не насілі манаскага адзення, неабавязковым было наведванне царк. службаў). Сваю дзейнасць разгарнулі ва ўсіх краінах свету.

На Беларусі і ў Літве Е. распачалі дзейнасць у 2-й пал. 16 ст. Мэта — умацаванне пазіцый каталіцкай царквы, задушэнне рэфармацыйнага руху, акаталічванне бел. насельніцтва. Е.— натхняльнікі Брэсцкай уніі 1596. У 16—18 ст. на Беларусі стварылі 91 апорны пункт — рэзідэнцыі, місіі, калегіі. Былі заснаваны навуч. ўстановы ў Вільні, Полацку і інш. Першая іх вышэйшая навуч. ўстанова ў Еўропе — Віленская езуіцкая акадэмія

(1579). Е. ўнушалі народным масам ідэі пакорнасці, цярпення і падпарадкавання эксплуататарам, абараняючы гэтым асновы феадальна-прыгонніцкіх парадкаў. Строгі кантроль быў устаноўлены за дзейнасцю друкарняў і кнігарняў. Па загаду віленскага біскупа знойдзеныя «ерэтычныя» кнігі павінны былі знішчацца. Е. разгарнулі выдавецкую дзейнасць па выпуску каталіцкай л-ры на польск. і бел. мовах, выдавалі заклікі да беларусаў, якія агітавалі да аб'яднання з каталіцкай царквой. Усе гэтыя мерапрыемствы былі накіраваны на выцясненне бел. і рус. кніг, выдадзеных у 16 ст. С., Сымонам Будным, Васілём Цяпінскім, Іванам Фёдаравым і інш.

*Літ.:* Михневич Д. Е. Очерки из истории католической реакции: (Иезуиты). 2. изд. М., 1955; Великович Л. Н. Иезуиты вчера и сегодня // Новая и новейшая история. 1967. № 4; Мараш Я. Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. *Я. Н. Мараш.*

**«ЕКЛЕСІЯ́СТ» («Эклезіяст»)**, «Еклесиастесъ, или Соборникъ премудрого царя Саломона», пражскае выданне С., якое выйшла ў свет 2.1.1518 (гл. с. 49—53).

«Е.» — помнік стараж.-яўр. афарыстычнай л-ры, які ўзнік у 4—3 ст. да н. э., уваходзіць у раздзел «Пісанні Старога запавету». Прыпісваецца цару Саламону. Асн. матыў «Е.» — марнасць чалавечых спроб пазнаць сэнс жыцця.

Выданне адкрываецца тытульным лістом з гравюрай і назваю кнігі. Тут жа ўказана: «Зуполъне выложеный на рускый языкъ докторомъ Францискомъ Скорининымъ сыномъ с Полоцка». На арк. 1-м адв.— 2-м адв. змешчана «Предисловие доктора Франъциска Скорины въ книгу Премудраго Саломона рекомую Еклесиастесъ». С. гаворыць пра 3 кнігі, якія нібыта напісаў Саламон,— «Е.», «Прытчы Саламона» і «Песня песням», прыводзіць іх яўр., грэч., лац. і рус. назвы. Апавядаючы пра змест «Прытчаў», С. спасылаецца на сваю прадмову да гэтай кнігі і падкрэслівае, што ў ёй ідзе гутарка «О науце людей младых, якобы отецъ сына научаючи единаго каждого особно». Анатуючы змест «Е.», С. сцвярджае, што Саламон «пишет о науце всех людей посполите сущих в летех мужества, приводячи им на памеать суету, беду и працу сего света». Асн. думку кнігі С. перадае словамі «Е.»: «Суета над суетами и все суетно и утиснение духово». Паказана марнасць спроб знайсці сэнс жыцця «в царствах и в пановании», «в богатестве и в скарбах», «в роскошном ядении и питии и в любодеянии». Слова «Е.» С. перакладае як Саборнік, тлумачыць гэту назву так: «Нарицается же сия книга Соборник, понеже не ко единому человеку в ней пишеть, но ко всему собору людей, а не единаго человека мысль и кохание являеть, но всего собора». На арк. 3—18-м надрукаваны тэкст 12 раздзелаў кнігі, на арк. 18-м — пасляслоўе. Мова кнігі царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання ў 1/4 аркуша. Аб'ём кнігі 18 арк., сабраных у адзін сшытак. Набор выкананы пражскім шрыфтам С.— вышыня 10 радкоў 75 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя змешчана на верхнім баку кожнага аркуша ўверсе злева. Маст. аздоба «Е.»: гравюра *«Саламон і царыца Саўская»* (арк. 1-ы), 2 застаўкі і 14 ініцыялаў, надрукаваных з 14 дошак. Перад асн. тэкстам на арк. 3-м — вял. застаўка (памер 106 × 53 мм) з выявай «диких людей» і паміж імі гербавы шчыт з «зацьменнем сонца». Малая застаўка (85 × 15 мм) змешчана перад тэкстам пасляслоўя на арк. 18-м. Ініцыяламі адзначаны пачатак раздзелаў і інш. тэкстаў.



Да арт. **Еўінская друкарня.** «Евангелле вучыцельнае» Каліста. 1616.

Разварот Шарашоўскага **евангелля.**



«Е.» уведзены ў навук. ўжытак *Л. І. Бакмейстерам*. У 1813 В. С. *Сопікаву* было вядома 2 экз. гэтага выдання С. Адзін з іх знаходзіўся ў б-цы бібліяфіла, заснавальніка «Дэпо манускрыптаў» (Аддзела рукапісаў) пецярбургскай Публ. б-кі П. П. Дуброўскага. Сучаснае месцазнаходжанне гэтага экземпляра, які ўваходзіў у канвалют (кн. «Іоў», «Е.», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Прытчы Саламона», «Песня песням»), невядома. Другі названы Сопікавым экземпляр уваходзіў у канвалют са збору Ф. А. *Талстога*. Пры паступленні ў 1830 у Публ. б-ку гэты канвалют быў расплецены. На тытульным лісце кнігі быў надпіс: «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына радци места Виленьского». Такі ж запіс у экземпляры Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.4 6/4). Магчыма, гэта той самы экземпляр. У 1829 у «Дакладным апісанні старадрукаваных кніг славянскіх і расійскіх... Ф. А. Талстога» П. М. *Строеў* адзначыў, што ў зборы быў і другі экземпляр «Е.», які ўваходзіў у канвалют (кн. «Прытчы Саламона», «Е.», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў»). Канвалют такога складу цяпер невядомы. П. І. *Кепену* ў 1825 быў вядомы экземпляр са збору М. П. Румянцава. Яго ўмоўна можна атаясаміць з экземплярам Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 6332). У 1833 уведзены ў навук. ўжытак экземпляр «Е.» са збору А. С. Шыраева, што ўваходзіў у канвалют з кн. «Суддзі» і «Ісус Навін». Канвалют потым знаходзіўся ў зборы Расійскай Акадэміі, а ў 1842 з далучэннем яе да Акадэміі навук паступіў у б-ку Акадэміі навук, дзе і знаходзіцца зараз (БАН, 37.1.2). У 1836 Строеў апісаў экземпляр «Е.», які належаў І. М. *Царскаму*, а цяпер знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі (ДГМ, Цар. 9) у складзе канвалюта: кн. «Прытчы Саламона», «Е.», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Прарок Данііл». В. М. Ундольскі ў 1848 увёў у навук. ўжытак экземпляр «Бібліі» С. за збору А. І. Касцерына. І. П. Сахараў у 1849 паве-

даміў, што ў ім быў і «Е.» Ведаў Сахараў і пра экземпляры «Е.» са збору І. П. Каратаева, М. П. Пагодзіна, купцоў Якаўлевых. Экземпляр Касцерына або Пагодзіна можа быць атаясамлены з экземплярам ДПБ (1.5.4$^{а/3}$). У гэтай б-цы знаходзіцца і асобна пераплецены экземпляр з экслібрысам «Из библиотеки Ивана Прокофьевича Коротаева» (1.5.4$^{в}$). Месцазнаходжанне экземпляра Якаўлевых невядома. У 1870 Маскоўскі Публ. і Румянцаўскі музеі набылі збор старадрукаваных кніг І. Я. *Лукашэвіча*, у якім быў і экземпляр «Е.» Паведамленне пра гэта ў 1873 змешчана ў «Справаздачы» музеяў. Экземпляр цяпер знаходзіцца ў ДБЛ (№ 6313). У 1878 экземпляр «Е.» названы ў «Каталогу Бібліятэкі імп. Наварасійскага універсітэта». Цяпер ён знаходзіцца ў Адэскай дзярж. навук. б-цы (№ 1/9066). Я. Л. ***Неміроўскі*** ў 1968 увёў у навук. ўжытак 4 экз. ДБЛ (№ 6317, 6332, 6521, 6522), 2 экз. ДГМ (Шчап. 69, Меньш. 1427) і экземпляр Львоўскага музея ўкр. мастацтва (Q1181). Поўны экземпляр «Е.», што добра захаваўся (ДБЛ, № 6521), знаходзіцца ў складзе канвалюта (кн. «Эсфір», «Прытчы Саламона», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Песня песням», «Е.» і «Плач Ераміі»), які ў пач. 1930-х г. паступіў з б-кі Саратаўскага ун-та імя М. Г. Чарнышэўскага. Другі экземпляр, што таксама добра захаваўся (ДБЛ, № 6522), з вял. палямі (не ўсе аркушы захаваліся), знаходзіцца ў складзе канвалюта («Е.», «Песня песням», 4 кн. «Царствы») са збору Г. П. Георгіеўскага. Экземпляр ДБЛ № 6317 раней быў у зборы П. П. Шыбанава. Канвалют ДГМ, які паходзіць са збору П. В. *Шчапава*, быў вядомы яшчэ ў 1878 Каратаеву. Ён неаднаразова ўпамінаўся ў друку, аднак ніхто не раскрыў яго зместу. Другі экземпляр (ДГМ, Меньш, 1427) паходзіць са збору П. І. *Шчукіна*. У 1974 Г. Я. *Галенчанка* апісаў экземпляр «Е.», які цяпер знаходзіцца ў Дзярж. б-цы БССР імя У. І. Леніна (ДБ БССР $\frac{09}{4042}$). Ён быў набыты ў 1925 у ленінградскага калекцыянера Камарніцкага. У 4 экз. «Е.» зроблены (напэўна, яшчэ ў друкарні) запіс «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына радци места Виленьского». Усяго цяпер вядома 15 экз. «Е.», з іх 7 поўныя.

*Літ.:* 556; 558; 668; Книга Экклесиаст // Поэзия и проза Древнего Востока. М., 1973.
*Я. Л. Неміроўскі.*

**ЕРАНІМ БЛАЖЭННЫ** (330—419), пісьменнік, багаслоў, адзін з так званых айцоў царквы, кананізаваны ў святыя. Нарадзіўся ў Далмацыі, вучыўся ў Рыме, Аквілеі, Трыры. Многія гады правёў на Усходзе, добра ведаў некат. ўсх. мовы. Зроблены ім у 386—406 лац. пераклад (гал. чынам са стараж.-яўр. тэксту з выкарыстаннем лац. перакладу са стараж.-грэч. мовы) Старога запавету быў пакладзены ў аснову каталіцкай Бібліі. Пад назвай *Вульгаты* пераклад Е. Б. з 7 ст. быў пашыраны ў царкве Зах. Еўропы, у 1545 на Трыдэнцкім саборы кананізаваны. Е. Б.— аўтар шэрагу дагматычных, палемічных, гіст. твораў. Яго спадчына была шырока вядома ў еўрап. краінах. Імя Е. Б. і яго пераклад С. ўпамінае ў прадмовах да кн. «Прарок Данііл» і «Эсфір».
*Ю. А. Лабынцаў.*

**ЕЎІНСКАЯ ДРУКАРНЯ.** Існавала з 1610 да сярэдзіны 17 ст. ў мяст. Еўе каля Вільні (г. Вевіс Літ. ССР). Заснавана правасл. брацтвам ва ўладанні падкаморыя трокскага, старосты віленскага правасл. брацтва Б. Агінскага пасля часовай забароны дзейнасці брацкай бел. Святадухаўскай друкарні ў Вільні. Узначальваў выдавецкую дзейнасць Л. Карповіч (да 1620), пазней ігумен еўінскага Успенскага манастыра друкар Гаўрыла Івановіч. Выпусціла больш за 25 выданняў, у т. л. «Новы запавет з Псалтыром» (1611), «Дыёптра» (1612, у перакладзе Віталія), «Казанне двое...» Карповіча (1615), «Буквар славянскай мовы» і «Кінавіён» (1618), «Граматыка» М. Сматрыцкага (1619), «Ірмалой» (1642) і інш. У 7 выданнях пазначана месца друку (Еўе і Вільна). Кнігі, надрукаваныя кірыліцай, вызначаліся высокімі маст.-паліграф. якасцямі, своеасаблівым арнаментам і гравюрамі, шырока выкарыстоўваліся бел. і ўкр. брацтвамі ў навуч.-асв. і царк.-рэліг. дзейнасці. У аздобе кніг выкарыстоўваліся дошкі віленскай друкарні С. (ініцыялы і застаўкі). Больш 2/3 выданняў, як і віленскіх С., выйшлі малым фарматам (у 8, 12, 16-ю долю аркуша). Кнігавыдаўцы Е. д. працягвалі і развівалі моўныя традыцыі С.: выдалі 4 кнігі на бел. мове, у т. л. «Евангелле вучыцельнае» Каліста (1616), у шэрагу інш. выданняў на бел. мове друкавалі прадмовы і пасляслоўі, каментарыі на палях. Па сваёй рэдакцыі асобныя выданні Е. д. блізкія да выданняў С. (напр., «Новы запавет з Псалтыром»). Як і выданні С., кнігі друкарні прызначаліся адносна шырокім «посполитым» слаям насельніцтва. У прадмовах выдаўцы падкрэслівалі патрыятычныя матывы сваёй дзейнасці, жаданне распаўсюдзіць кнігі на ўсе «расійскія» краіны, садзейнічаць развіццю «народа рускага». Выданні распаўсюджваліся на Беларусі, Украіне, часткова вывозіліся ў Расію.

*Літ.:* 19; 247; 558.
*Г. Я. Галенчанка.*



**Крыж Ефрасінні Полацкай.**

Старонка з Аршанскага евангелля.



**ЕФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ** [свецкае імя Прадслава; 1110 (?) — 73], князёўна, ігумення манастыра Св. Спаса ў Полацку, асветніца перыяду Кіеўскай Русі, першая жанчына на Русі, якую царква кананізавала ў святыя. Дачка кн. Святаслава Усяславіча, унучка полацкага кн. Усяслава Брачыславіча (Чарадзея). Не жадаючы выходзіць замуж, пастрыглася ў манашкі. Перапісвала царк. кнігі. Мяркуюць, што пісала летапісы і арыгінальныя творы. Пабудавала на ўласныя сродкі 2 царквы ў Полацку, заснавала жаночы і мужчынскі манастыры, якія сталі асяродкамі асветы ў Полацкім княстве. Па яе заказу Лазар Богша ў 1161 зрабіў крыж — узор мясцовага маст. рамяства. Мужчынскаму манастыру падаравала выдатны твор візант. мастацтва — абраз «Маці божая Адзігітрыя Эфеская» (зберагаецца ў Дзярж. рус. музеі ў Ленінградзе). Паломнічала ў Іерусалім, дзе і памерла. Звесткі пра Е. П.— у «Жыціі Ефрасінні Полацкай» (12—13 ст.). Пахавана ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Любоў да кніг, асветніцкія тэндэнцыі ў дзейнасці на зямлі Полаччыны робяць Е. П. своеасаблівай папярэдніцай вялікай культ. місіі яе земляка С. У сваіх прадмовах С. не ўпамінае Е. П., але добра ведаючы гісторыю «слаўнага града Полацка», ён не мог не ведаць пра яе дзейнасць.

*Літ.:* 636.



**ЖДАН** Яўген Іванавіч (н. 1939), беларускі сав. тэатральны мастак. У 1984 выканаў графічны аркуш «Францыск Скарына» (уласнасць мастака). У цэнтры — выява першадрукара ў поўны рост. Ён нібы заклікае свой народ прачнуцца ад цемры векавечнай і ісці ў свет пазнання. Дынамічная постаць характарызуе С. як страснага змагара, асветніка, які не баіцца цяжкіх выпрабаванняў.

**ЖУРА́ЎСКІ** Аркадзь Іосіфавіч (н. 1924), беларускі сав. мовазнавец. Чл.-кар. АН БССР (1980). Д-р філал. н. (1968), праф. (1970). Засл. дз. н. БССР (1978). Дырэктар Ін-та мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР. Сярод прац Ж., прысвечаных С., найб. значная — «Мова выданняў Скарыны» (Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 1967. Т. 1). Прасачыўшы лёс царк.-слав. мовы на Беларусі і выявіўшы прычыны пашырэння грамадскіх функцый бел. мовы, даследчык паказаў значэнне друкаваных кніг у гісторыі бел. народа, даў характарыстыку выдавецкай і перакладчыцкай дзейнасці бел. першадрукара. Прыводзіць два процілеглыя погляды на мову выданняў С., выказаныя ў л-ры: што яна ў аснове сваёй беларуская (П. У. Уладзіміраў, Ц. П. Ломцеў, М. А. Алексютовіч) і што яна мае царк.-слав. моўную аснову (С. Б. Ліндэ, А. І. Сабалеўскі, І. В. Воўк-Левановіч). Вывады аб мове С., на думку Ж., могуць быць надзейнымі і пераканаўчымі толькі пры ўмове, калі яны будуць грунтавацца на вывучэнні ўсёй сукупнасці моўных фактаў як сістэмы. У галіне фанетыкі, граматычнага ладу і лексікі даследчык падрабязна разглядае бел., царк.-слав. і іншамоўныя рысы, выяўляе суадносіны паміж імі, скарынінскія пераклады супастаўляе з адпаведным тэкстам «Астрожскай бібліі» 1581 — узору традыцыйнай царк.-слав. мовы. Вучоны прыходзіць да вываду, што ў мове С. вядучае месца займаюць царк.-слав. фанетычныя, марфалаг. і лексічныя рысы. Яе можна кваліфікаваць як царк.-слав. або кніжнаславянскую, з моцным элементам жывой бел. мовы і са слядамі літаратурнага ўплыву чэш. і польск. моў. Біблейскія кнігі С. адносіць да бел. тыпу царк.-слав. мовы і разглядае іх як прамежкавае звяно ў працэсе пераходу ад царк.-слав. мовы да бел. у сферы рэліг. ўжытку. У арт. «Мова друкаваных выданняў Ф. Скарыны» (450 год беларускага кнігадрукавання, 1968) аўтар дапаўняе ілюстрацыйную частку даследавання новымі прыкладамі з выданняў С., падмацоўвае некат. вывады стат. данымі. Падкрэслівае, што ўвядзенне С. у Свяшчэннае пісанне грамат. форм і лексічных сродкаў жывой бел. мовы мела рашаючае значэнне для далейшага лёсу рэліг. пісьменнасці на тэр. Беларусі. Насычэнне элементамі бел. мовы тэкстаў Свяшчэннага пісання парушыла многавяковую традыцыю выкарыстання для гэтых мэт канвенцыяльнай царк.-слав. мовы з яе амярцвелымі формамі і лексікай. Паслядоўнікі скарынінскіх традыцый Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Стэфан Зізаній і інш. дзеячы ў сваіх рэліг.-асв. мэтах ужо поўнасцю перайшлі на бел. мову. У арт. «Мова прадмоў Францыска Скарыны» (Беларускі асветнік Францыск Скарына і пачатак кнігадрукавання ў Беларусі і Літве. М., 1979, на рус. мове) даследчык вызначае моўную аснову скарынінскіх прадмоў, не звязаных, як непасрэдна біблейскія тэксты, з царк.-слав. традыцыямі. Асн. ўвагу канцэнтраваў на разглядзе фанетычных, марфалаг. і лексічных асаблівасцей прадмоў. Аўтар разглядае мову выданняў С. ў арт. «Да пытання аб асноўных тыпах старажытнай беларускай літаратурнай мовы» (Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. 1961. Вып. 8), «Некаторыя асаблівасці ўзаемадзеяння старaславянскай і беларускай літаратурных моў» (Советское славяноведение. 1965. № 2), «Аб беларускім варыянце царкоўна-славянскай мовы» (Мовознавство. 1967. № 4) і інш. Удзельнік *Скарынінскіх чытанняў.* *А. М. Булыка.*



Пячатка **Жыгімонта** I.

Я. Ж д а н. Францыск Скарына. 1984.



**ЖЫГІМО́НТ I** (Зыгмунт, С і г і з м у н д) С т а р ы (1467—1548), вялікі князь Вял. кн. Літоўскага і кароль Польшчы (1506—48), сын Казіміра IV, унук Ягайлы. Спрабаваў умацаваць дзярж. ўладу ваен. і фінансавымі рэформамі, законам, які абмяжоўваў прывілеі шляхты. Аднак праекты не былі зацверджаны сеймам. Пры Ж. I бел., літ. і ўкр. шляхта

дамаглася ўраўнення сваіх правоў з магнацкімі, выбарнасці дэпутатаў у сейм, быў уведзены адзіны кодэкс законаў для ўсіх феадалаў — *Статут Вялікага княства Літоўскага 1529*. Ж. І вёў войны з Рус. дзяржавай (1507—08, 1512—22, 1534—37). У 1515 заключыў пагадненне з імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі Максімілянам І, якое падрыхтавала пераход Чэхіі і Венгрыі ад Ягелонаў да Габсбургаў, згадзіўся на пераўтварэнне Тэўтонскага ордэна ў свецкае Прускае герцагства, залежнае ад Польшчы (гл. таксама *Венскі кангрэс 1515*). Уключыў у склад Польшчы Мазовію. Ж. І быў мецэнатам, меў значную б-ку. Прыняў актыўны ўдзел у лёсе С.— выдаў яму абарончыя граматы (гл. *Дакументы пра Ф. Скарыну*, №№ 33—34). С. называе Ж. І у пасляслоўі да «Апостала».

*Літ.:* История Польши. Т. 1. М., 1954. С. 164—174; Wojciechowski Z. Zygmunt Stary (1506—1548). Warszawa, 1979.

*В. У. Чапко.*

**ЖЫЦЕ́ЦКІ** Павел Ігнатавіч [1836 (37) — 1911], украінскі філолаг, чл.-кар. Пецярбургскай АН (1898). У працы «Аб Перасопніцкім рукапісе» (Працы 3-га Археалагічнага з'езду ў Расіі... Кіеў, 1878. Т. 2) разгледзеў паходжанне Перасопніцкага евангелля, перапісанага на Украіне ў 1556—61, дае яго палеаграфічнае апісанне. Адзначыў, што мова помніка ўяўляе сабой укр. рэдакцыю царк.-слав. мовы з чэш. і польск. элементамі. Выказаў меркаванне, што перапісчыкі гэтага твора імкнуліся, як і С., даць народу зразумелы тэкст Свяшчэннага пісання, маглі натхніцца прыкладам С. або для іх і для С. пабуджальным фактам аказаўся рэфармацыйны рух. Перавагу царк.-слав. элементаў у мове Перасопніцкага евангелля Ж. тлумачыў няздольнасцю перапісчыкаў пазбавіцца ад царк.-слав. мовы як мовы сталай, якая служыць узорам для ўсх.-слав. пісьменнікаў старажытнасці, у т. л. і С. Вынікам уплыву ідэй пратэстантызму Ж. лічыў факт, што перапісчыкі Евангелля адрасавалі свой пераклад не толькі праваслаўным, але і католікам. У працы «Нарыс гукавой гісторыі маларускай гаворкі» (Кіеў, 1876) даследаваў некат. пытанні паходжання ўкр. мовы, прасачыў развіццё яе гукавога складу на помніках пісьменнасці. Для супастаўлення прывёў факты бел. мовы. Гаворачы аб супадзенні ва ўсх.-слав. мовах гукаў «ѣ» і «е», аўтар адзначаў, што гэта з'ява развівалася пад уплывам бел. вымаўлення і характэрна для выданняў С. (напр., вкупе, звери, вечнаго замест вкупѣ, звѣри, вѣчнаго і інш.). Ж. зазначаў таксама, што Біблія з Ануфрыеўскага манастыра, перапісаная ў 1575 Дзмітрыем з Зенькава (паводле Я. Ф. Галавацкага, з'яўляецца спісам згубленых кніг С.), адрозніваецца ад кніг С. ўкр. афарбоўкай мовы. Аб мове ўкр. перакладу кн. «Песня песням» Ж. пісаў, што яна ўяўляе сабой укр. варыянт царк.-слав. мовы са шматлікімі чэш. і польск. элементамі і што такі ж тып мовы — царкоўна-слав. з бел. афарбоўкай — і ў выданнях С. Выказванне Ж. садзейнічала фарміраванню правільнага погляду на мову скарынінскіх выданняў, што пацвярджаецца сучаснымі даследаваннямі.

*У. М. Свяжынскі.*



Жыгімонт I. Гравюра. 16 ст.

**«ЖЫЦІЕ́ СВЯТО́ГА АЛЯКСЕ́Я»,** помнік беларускай перакладной л-ры, агіяграфічны твор блізкаўсх. паходжання, папулярны ў хрысц. свеце ў эпоху сярэднявечча.

Усх. славянам вядомы з часоў Кіеўскай Русі. Распаўсюджваўся ў пралогах, чэццях-мінеях, розных зборніках. На бел. мову перакладзены ў 15 ст., хутчэй за ўсё з лац. тэксту ў свецкім асяроддзі, пра што сведчаць і асаблівасці мовы перакладу, пазбаўленай царкоўнаславянізмаў. Гал. герой аповесці — сын багатых рымлян, які глыбока пранікся верай у бога і хрысц. ідэалы, пакідае бацькоў, маладую жонку і выпраўляецца ў падарожжа на Бл. Усход. Пражыўшы некалькі гадоў у Сірыі аскетам-падзвіжнікам, Аляксей як жабрак-пілігрым вяртаецца дамоў. Не пазнаны бацькамі, 17 гадоў ён правёў у родным доме (толькі пасля яго смерці адкрылася, што гэта быў іх сын). У «Ж. с. А.» шырокага дэмакр. чытача прываблівала не толькі сюжэтная займальнасць, псіхал. напружанасць сітуацыі, якую стварыў гал. герой, але і яго мужнасць і самаахвярнасць, незвычайная сіла волі, а таксама своеасаблівая паэтызацыя жыцця простага чалавека, асуджэнне свету багатых, іх мяшчанскіх ідэалаў.

С. добра ведаў папулярныя творы агіяграфічнай л-ры, чытаў нямала розных жыцій святых, у т. л., напэўна, і «Ж. с. А.». У прадмове да кн. «Ісус Сірахаў» ён сцвярджаў, што другая частка гэтага твора «приводит нас к святости и к добрым делом путем прикладу, припоминаючи нам жития святых». Бел. гуманіст надаваў жыціям важнае выхаваўчае значэнне, бачыў у іх дзейсны сродак духоўнага самаўдасканалення чалавека. Аднак інш. выказванні С., увесь характар яго жыцця і рознабаковай дзейнасці, незвычайная шырыня яго інтарэсаў і захапленняў, імкненне быць у гушчы жыцця, жыць надзённымі, зямнымі клопатамі свайго народа, служыць яму практычнымі справамі пераканаўча паказваюць, што аскетычныя ідэі некат. агіяграфічных твораў не захаплялі яго.

*В. А. Чамярыцкі.*



**ЗАБЛУ́ДАЎСКАЯ ДРУКА́РНЯ.** Існавала ў 1568—70. Заснавана Іванам Фёдаравым і яго паплечнікам Пятром Мсціслаўцам на сродкі гетмана Вял. кн. Літоўскага Р. А. Хадкевіча ў Заблудаве Гродзенскага пав. (цяпер тэр. ПНР). Шрыфты, гравіраваныя дошкі заставак, канцовак і буквіц, нескладаны інструмент былі прывезены з Масквы, друкарскі стан зрабілі на месцы. Спачатку Фёдараў і Мсціславец працавалі разам у Заблудаве. Тут 8.7.1568—17.3.1569 яны надрукавалі кірыліцай «Евангелле вучыцельнае», на старонках якога змешчаны першы друкаваны помнік стараж.-рус. л-ры «Слова на ўшэсце Кірыла Тураўскага». «Евангелле вучыцельнае» было папулярным, неаднаразова перавыдавалася. Значная частка кніг трапіла ў Рускую дзяржаву. Цяпер вядома больш 40 экз. заблудаўскіх выданняў «Евангелля вучыцельнага». Пасля ад'езду Мсціслаўца ў Вільню памочнікам Фёдарава, магчыма, стаў яго вучань Грынь Івановіч, пазней вядомы як гравёр і друкар. У З. д. 26.9.1569—23.3. 1570 яны надрукавалі «Псалтыр» (з «Часаслоўцам», захаваліся 3 экз.). У аздабленні заблудаўскіх выданняў спалучаюцца рысы маскоўскага і бел. кнігадрукавання. У іх прадмовах указвалася, што выдаўцы працавалі «выразумения ради простых людей преложити на простую мову», што сведчыць аб уплыве скарынінскіх традыцый. Фёдараў развіў і памножыў лепшыя традыцыі С. ў друкарскай справе, узбагаціў іх вопытам маскоўскіх майстроў. З. д. адыграла значную ролю ў станаўленні і развіцці кнігадрукавання на Беларусі [былі адкрыты друкарні ў Куцейне (пад Оршай), Буйнічах (пад Магілёвам), у Мінску, Гродне, Полацку і інш.].

*Літ.:* 220; Ісаевич Я. Д. Першодрукар Іван Федоров і виникнення друкарства на Україні. 2. вид. Львів, 1983. *Я. Н. Мараш.*

**ЗАГАЛО́ВАЧНАЯ ЛІТАРА,** гл. *Ініцыял.*

**ЗА́ЙЦАЎ** Анатоль Цімафеевіч (н. 1939), беларускі сав. графік. Стварыў ілюстрацыі да кн. М. Садковіча і Я. Львова «Георгій Скарына» (1966). Кнігу адкрывае франтыспіс з партрэтам С. Сімвалічныя элементы арганічна ўваходзяць у жыццёвую структуру партрэтнай кампазіцыі, асацыятыўна ўзбагачаюць яе. Барацьба святла і цемры — адзін з вобразна-мастацкіх пластоў гравюры — раскрывае сутнасць жыцця і дзейнасці асветніка. Шрыфтавое вырашэнне вокладкі кнігі пераклікаецца з шрыфтамі эпохі Адраджэння.

Да арт. **Заблудаўская друкарня.** Старонка «Евангелля вучыцельнага». 1569.



**ЗАКАРПА́ЦКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Засн. ў 1945 у г. Ужгарад Закарпацкай вобл. У музеі зберагаецца больш за 60 старaж.-рус. рукапісаў, некалькі дзесяткаў старадрукаў, у т. л. «Лексікон» П. Бярынды (Куцейна, 1653), «Святцы» (Супрасль, 1788) і інш. Найб. каштоўным кніжным экспанатам музея з'яўляецца канвалют пражскіх выданняў С.: «Ісус Навін», арк. 1—2-і, 7—47-ы; «Суддзі», арк. 1—48-ы; «Руф», арк. 1—8-ы; «Юдзіф», арк. 1—26-ы; «Эсфір», арк. 1—25-ы. Шыфр М-434, на ніжняй дошцы пераплёту наклейка $\frac{\text{Арх 7084}}{\text{ЗКМ}-13244}$. Пераплёт больш позні, каляровы, абцягнуты скурай. Філіграні адсутнічаюць. Паходжанне экз. невядома. Паводле В. Мікітася, кнігі набыты ў 16 ст. епіскапамі мукачаўскай правасл. (потым грэка-лац.) епархіі. На ўнутраным баку верхняй дошкі пераплёту запіс на польск. мове «Самуэль Мычкоўскі Барвінкаўскага прыходу». Раней склад канвалюта быў іншым, што бачна з запісу на кн. «Руф», арк. 8-ы: «Сия книга зовемая I[су]с Навин и книги Судей и Книги Юдиф и книги Ефрем належащая до них Стефана и Прокопа поповичов Быстрянских, которая... куплена чрес родича нашего за 1(10) немецкых во роке 1739 м[еся]ця мая...». Экземпляр падрабязна ў бібліяграфіі не апісваўся.

*Літ.:* 655; 656. *Г. Я. Галенчанка.*

**«ЗАКО́Н ПІ́САНЫ»,** тэрмін для абазначэння ў перыяд сярэднявечча нарматыўных актаў, якія выдаваліся дзярж. уладай і зафіксаваны ў пісьмовай форме.

Паяўленне тэрміна звязана з працэсам выцяснення агульнадзярж. прававымі актамі звычаёвага права. Аб'ектыўна пашырэнне «пісанага» права было звязана з развіццём таварна-грашовых адносін і цэнтралізацыяй улады і мела на мэце даць адзінае агульнадзярж. тлумачэнне норм права, забяспечыць іх аднолькавае прымяненне. У сувязі з гэтым да 16 ст. «пісанае права» атрымала вял. сац. значнасць. З ім была звязана актывізацыя нарматворчай дзейнасці, рух за кадыфікацыю

праваых норм, барацьба за іх ідэйны і класавы змест. Прыкладам таму з'яўляецца выданне на працягу 16 ст. трох Статутаў Вял. кн. Літоўскага (1529, 1566, 1588). Статут 1529 дазваляў суддзям у выпадку адсутнасці «пісанай» нормы вырашаць справу «водлуг старога обычая» (раздз. VI, арт. 1). Статут 1566 патрабаваў ужывання толькі «пісанага» закону (раздз. IV, арт. 30). Статут 1588 быў надрукаваны.

Пытанні «пісанага» права, яго мэты, ідэалы, крыніцы, структура і накіраванасць С. разглядае ў сваёй прадмове да кн. «Другі закон». Тэрмін «пісанае» права ён ужывае ў шырокім і вузкім сэнсах. У шырокім сэнсе да яго С. адносіць нормы, якія «ідуць ад бога», уваходзячыя ў «книги Моисеевы и святое Евангелие», і нормы, створаныя заканатворчай дзейнасцю людзей: «правіла светых отець, на соборех пописаные» — кананічнае права; «права земская, еже единый кажный народ с своими старейшими ухвалили». У вузкім сэнсе пад «пісаным правам» ім разумеецца толькі сістэма норм свецкага права. Менавіта ў адносінах да апошняга найб. ярка праяўляюцца гуманіст. асновы светапогляду С. Важнейшае яго патрабаванне заключаецца ў тым, каб свецкія пісаныя законы асноўваліся і адпавядалі прынцыпам натуральнага права «прироженому закону» (гл. *«Закон прироженый»*), і найперш узятаму з раннехрысц. л-ры прынцыпу: «то чинити иным всем, что самому любс ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети». Неабходную ўмову праватворчай дзейнасці С. бачыў у тым, каб закон быў «почтивый, справедливый, можныи, потребныи, пожиточныи подлѣприрожения, подлуг обычаев земли, часу и месту пригожии, явныи, не имея в собе закритости, не к пожитку единого человека, но к посполитому доброму написаныи». У зробленую ім класіфікацыю відаў свецкага права ўваходзяць: паспалітае, язычніцкае, царскае, рыцарскае, месцкае (гарадское), марское, купецкае. У л-ры ёсць меркаванне, што С. меў не толькі тэарэтычнае, але і практычнае дачыненне да падрыхтоўкі вядомага пісанага зводу законаў — Статута Вял. кн. Літоўскага 1529 (Юхо І. Хто складаў Літоўскі Статут? // Беларусь. 1958. № 3. С. 31). Гл. таксама арт. *Светапогляд Ф. Скарыны.*
*С. Ф. Сокал.*

**«ЗАКО́Н ПРИРО́ЖЕНЫЙ»,** скарынінская форма выражэння паняцця «натуральнага права», аднаго з распаўсюджаных у гіст. развіцці паліт. і прававой думкі. Пад натуральным правам разумелася сукупнасць вечных і нязменных прынцыпаў, правіл, каштоўнасцей, што паходзілі з самой прыроды чалавека.

Гэта паняцце заўсёды разглядалася як ідэал у адносінах да існуючага права, якое ў працілегласць першаму з'уляецца часовым і зменлівым. Класавая сутнасць тэорыі натуральнага права залежала ад канкрэтных гіст. умоў і сац.-паліт. пазіцыі яе выразнікаў. Першая натуральна-прававая канцэпцыя прысутнічае ўжо ў Гамера. У далейшым яна распрацоўваецца сафістамі, стоікамі, Сакратам, Платонам, Арыстоцелем, Цыцэронам, рымскімі юрыстамі. На мысліцеляў Беларусі 16—17 ст. асабліва моцны ўплыў аказалі стоікі, Цыцэрон і Арыстоцель. Сярэдневяковыя тэолагі падначалілі тэорыю натуральнага права сваім мэтам. Фама Аквінскі выводзіў асновы натуральнага права з вечнага закону божай мудрасці, які выступае ў якасці універсальнага закону Сусвету. Чалавечы закон мае сілу тады, калі адпавядае натуральнаму. А паколькі каталіцкая царква прэтэндавала на манаполію тлумачэння Свяшчэннага пісання, то рашэнне пытання аб такой адпаведнасці павінна належаць толькі ёй. Падобную трактоўку натуральнага права царкоўнікі выкарыстоўвалі ў барацьбе са свецкай уладай, аб'яўляючы некат. яе рашэнні супярэчнымі божым прадпісанням, г. зн. і натуральнаму праву, а таму не абавязковым для выканання. У эпоху Адраджэння і Рэфармацыі і асабліва новага часу назіраецца абасабленне тэорыі натуральнага права ад багаслоўя, на аснове цеснай сувязі з эмпірычным, індуктыўным і рацыяналіст. метадамі пазнання. Вялікі ўклад у яе развіццё ўнеслі Маджэўскі, Ж. Бадэн, Г. Гроцый, Т. Гобс і інш. еўрап. мысліцелі, якія лічылі магчымым знайсці крыніцу дзяржавы, права, справядлівасці ў прыродзе і пазнаць яе з дапамогай розуму. У класавых адносінах тэорыя натуральнага права стала выразнікам інтарэсаў раннебурж. слаёў. Ф. Энгельс назваў яе «юрыдычным светапоглядам», сутнасць якога базіравалася на веры ў творчую моц палітыка-прававых інстытутаў, прагрэсіўную ролю заканадаўства.

Да арт. **Заблудаўская друкарня.** Старонка «Часаслоўца». 1570.


му, пррчьство двво ꙗвисѧ. да
коиждо оуготовисѧ къбудущему.
седмыинонастоѧи, осмыиже бу
даи. нонововоскрнiн хвѣ. и бо
естьднь. н. н. н. і. н. а.
Внемже молитсѧ прркъ, ѿзлаго
свѣтiѧ свѣтасего свободитисѧ.
Спсимѧ гн, ꙗко оскудѣ
прпбныи, ꙗко оумалишѧ
сѧ истинны ѿснвъ члчь
скихъ. свѣтнаѧ гла ко

А. З а й ц а ў. Ілюстрацыя да кнігі М. Садковіча і Я. Львова «Георгій Скарына». 1966.



**Закарпацкі краязнаўчы музей** у Ужгарадзе.



С. быў пачынальнікам гуманіст. інтэрпрэтацыі натуральнага права на Беларусі. Прызнаючы божую крыніцу натуральнага права, ён імкнуўся звязаць яго сутнасць з раннехрысц. маральнымі ідэаламі, а перш за ўсё з прынцыпам: «то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети» (гл. с. 136). Адзначаны закон, на яго думку, напісаны ў сэрцы кожнага чалавека, нават язычніка. С. выступаў як прыхільнік характэрнай для рэнесансавых гуманістаў пантэістычнай канцэпцыі адзінства прыроды і бога, так як божую крыніцу права шукаў у самім чалавеку. У адрозненне ад сярэдневяковых тэолагаў, якія з дапамогай натуральнага права імкнуліся абгрунтаваць справядлівасць і непахіснасць існуючых феадальных парадкаў, а падпарадкаванне, насілле і эксплуатацыю аб'яўлялі адпавядаючымі «прыродзе чалавека», С. лічыў, што прыродзе чалавека адпавядаюць узаемная любоў і згода. Жаданне С. пабудаваць натуральна-прававую тэорыю на маральных прынцыпах ранняга хрысціянства, паказвае блізкасць яго да ідэй і каштоўнасцей Рэфармацыі, якая пачыналася ў Еўропе. На аснове норм, стварэючых ідэал «природжанага права», па яго меркаванню, павінна распрацоўвацца «пісанае права». Гэта думка ў той час была актуальнай, так як 16 ст.— перыяд бурнай заканадаўчай дзейнасці ў жыцці Вял. кн. Літоўскага.

Характэрнае для С. разуменне зместу натуральнага права, сувязі яго з прынцыпамі раннехрысц. этыкі атрымала адлюстраванне і ў шэрагу іншых крыніц палітыка-прававой думкі Беларусі ў 16—17 ст. (творы дзеячаў Рэфармацыі; ананімныя творы «Размова паляка з ліцвінам», 1564; «Апалагетыкус», 1581). Пазней, у творах Андрэя Волана; Аляксандра Алізароўскага, развіваецца свецкая, рацыяналістычная трактоўка натуральнага права. Азначаныя тэорыі стварылі базу для аналізу і крытыкі несправядлівых феад. палітыка-прававых інстытутаў. Гл. таксама арт. *Светапогляд Ф. Скарыны.*
*С. Ф. Сокал.*

**ЗАСТА́ЎКА,** невял. кампазіцыя арнаментальнага або выяўленчага характару (на шырыню наборнай паласы, часам вузей), якая вылучае і ўпрыгожвае пачатак раздзела кнігі ці часопіса.

Як элемент маст. аздаблення характэрна для ўсх.- і паўд.-слав. рукапісных кніг і старадрукаў; у зах.-еўрап. кнізе сустракаецца рэдка. Звычайна прамавугольнай формы, бываюць і ў выглядзе літары П. У слав. рукапісных кнігах і кнігах кірыліцкага шрыфту З. часцей за ўсё — кампазіцыя элементаў геам. або расліннага арнаменту, часам выява пэўнай фігуры ці сюжэтны малюнак.

Побач з іншымі элементамі аздобы кніг С. шырока ўжываў і З. У пражскіх выданнях ён ужыў З. чатырох малюнкаў. У «Псалтыры» на арк. 5-м перад асн. тэкстам змешчана З. ў выглядзе літары П (памер: 84 × 45 мм). Выканана ў тэхніцы ксілаграфіі. Разьба мае т. зв. металаграфскі характар (белы штрых па чорным фоне). Малюнак фігурна-арнаментальнага тыпу. Бакавыя палі заняты выявамі фантаст. істот з чалавечымі тварамі і лапамі з кіпцюрамі. У цэнтры З. выгравіравана ваза, выдавецкі знак С.— «зацьменне сонца». З. астатніх пражскіх выданняў строга прамавугольныя, у чорнай рамцы, выкананы чорным штрыхом па белым фоне. Памер — 106 × 52 ÷ 53 мм. На адной з З. выява «дзікуноў» з рагацінамі. «Дзікуны» абапіраюцца на гербавыя шчыты, палі якіх чыстыя. У некат. экз. выданняў С. у шчыты ўпісаны ад рукі розныя манаграмы. У цэнтры такіх З. у абрамленні вінаграднай лазы з гронкамі ягад фігурны шчыт з выявай выдавецкага знака С. З. з «дзікунамі» ў пражскіх выданнях С. выкарыстаў 9 разоў: у кн. «Ісус Сірахаў», «Еклесіяст», «Царствы» (ужыта 4 разы), «Выхад», «Песня песням» і «Прамудрасць божая» (тут З. выкарыстаны ў якасці *канцоўкі* на апошнім аркушы). Другая фігурная З.— выява двух хлопчыкаў (пуцці), змешчаных паабапал гербавага шчыта з выдавецкім знакам С. Выдавецкі знак у вельмі паменшаным выглядзе паўтораны і ў верхняй цэнтр. частцы гравюры. З. з выявамі хлопчыкаў у пражскіх выданнях С. выкарыстаны 4 разы: у кн. «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Левіт», «Лічбы». На трэцяй фігурнай З. выявы русалак. У цэнтры яе таксама шчыт з выдавецкім знакам С. З. з «русалкамі» сустракаюцца 8 разоў: у кн. «Ісус Навін», «Другі закон», «Юдзіф», «Руф», «Суддзі», «Эсфір», «Плач Ераміі» і «Прарок Даніїл». У віленскіх выданнях ролю З. і канцовак выконваюць невялікія *віньеткі*. У «Псалтыры» (каля 1522) выкарыстана 79 адбіткаў З., у т. л. адна вялікая (63 × 15 мм) на тытульным лісце, 25 сярэдніх (63 × 10 мм), 53 малыя (6 × 5 мм). У «Часаслоўцы» каля 1522 З. і віньетак больш як 32, у «Шасціднеўцу» 31, у «Саборніку» (на першых 14 арк.) 18. У віленскіх акафістах З. амаль няма. Выключэнне складаюць «Акафіст магіле гасподняй» (віньеткі ў складзе тытульнага ліста), «Акафіст Іаану Прадцечы» (адна З.), «Акафіст крыжу гасподняму» (адна З.), «Акафіст Ісусу» (дзве З.). Па 6—13 З. і віньетак у кожным з віленскіх канонаў. Найб. З. і віньетак у «Апостале» — 280 адбіткаў. З. віленскіх выданняў уяўляюць сабой падоўжаныя прамавугольнікі, запоўненыя пераважна раслінным арнаментам. Часам сустракаюцца геам. элементы (сферы, трохвугольнікі). Амаль ва ўсіх З. і канцоўках змешчаны гербавыя шчыты з выдавецкім знакам С. і манаграмай. Частка З. у віленскіх выданнях выканана кінаварам. Наконт сюжэтных і арнаментальных вытокаў З. у выданнях С. выказваліся самыя розныя меркаванні, але і да гэтага часу яны дакладна не высветлены.



**Застаўка-ініцыял** з «Малой падарожнай кніжкі» Ф. Скарыны.

**Застаўкі** з пражскіх выданняў Ф. Скарыны.

*Літ.:* 564; 672; 787; 789. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ЗАХА́РАНКА** Пётр Мікалаевіч (н. 1926), беларускі сав. фотажурналіст. У 1972 з Л. *Баразной* падрыхтаваў альбом «Гравюры Францыска Скарыны» (мастакі М. і У. Басалыгі), у якім змясціў выкананыя з арыгіналаў у натуральную велічыню фотарэпрадукцыі гравюр і графічнай арнаментыкі С., аднавіў метадам фотарэстаўрацыі тытульны ліст «Бібліі», гравюры «Тройца», «Стварэнне свету» і тытульны ліст «Псалтыра» 1517, тым самым увёў іх у навуковы ўжытак. Асаблівую каштоўнасць уяўляе публікацыя двух малавядомых дрэварытаў «Малой падарожнай кніжкі»: «Хрыстос у храме» (№ 29) і «Хрышчэнне ў Іардане» (№ 30), вядомых толькі з літаратурных крыніц (іх упамінаў П. У. Уладзіміраў).









*Літ.:* Пуцко В. Р. Гравюры першадрукара // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1973. № 3. *С. В. Кузьмін.*

**ЗАХОДНЕЕЎРАПЕ́ЙСКАЯ НАВУКО́ВАЯ І ФІЛАСО́ФСКАЯ ДУ́МКА** ў 15—16 ст. Эпоха *Адраджэння* ў краінах Зах. і Цэнтр. Еўропы характарызавалася ўздымам навукі, л-ры і мастацтва. Найб. важнымі з'явамі гэтай эпохі былі: у эканоміцы — зараджэнне капіталіст. спосабу вытворчасці; у сац.-паліт. жыцці — фарміраванне і станаўленне класа буржуазіі; у навуцы — разрыў з тэалогіяй і схаластыкай, укараненне эксперым. метадаў даследавання і тэхн. выкарыстання дасягненняў прыродазнаўства; у філас. думцы — узнікненне свабоднай ад багаслоўя *натурфіласофіі,* распаўсюджанне *гуманізму* і звязаных з ім новых этычных, эстэт., пед. і інш. поглядаў і плыней; у мастацтве — сцвярджэнне рэаліст. вобраза чалавека, прыгажосці і годнасці дзейнай асобы. Гуманісты выступалі супраць кантролю каталіцкай царквы над дзейнасцю чалавека і складам яго думак. Цэнтрам светабудовы быў абвешчаны чалавек як частка прыроды, як найб. дасканалае яе стварэнне.

Буржуазія, якая толькі нараджалася, была зацікаўлена ў развіцці навук. прыродазнаўства як асновы стварэння прамысловасці і тэхнікі. Шматлікія навук. адкрыцці былі непасрэдна звязаны з патрэбамі вытворчасці (гарызантальныя ткацкія станкі, вентыляцыя руднікоў, машыны і механізмы для водаадліву, помпы, градуснікі, падзорная труба, прылады для навігацыі, доменны працэс выплаўкі жалеза і інш.). Вынаходства мікраскопа і тэлескопа, вял. геагр. адкрыцці, а таксама вынаходства І. *Гутэнбергам* (1399—1468) кнігадрукавання рухомымі літарамі садзейнічалі развіццю і распаўсюджанню навук. ведаў, пашырэнню кругагляду чалавека. Вял. ўклад у развіццё навук. думкі зрабілі італ. вучоныя, сярод якіх найб. вылучаюцца жывапісец, скульптар, архітэктар і інжынер *Леанарда да Вінчы* (1452—1519), які ўзбагаціў амаль усе галіны ведаў, таленавіты матэматык М. Тарталь (1499—1557), які працаваў у галіне механікі, балістыкі, геадэзіі і фартыфікацыі, матэматык Дж. Кардана (1501—76), які рашыў няпоўнае кубічнае ўраўненне, і інш. На аснове дасягненняў механікі і геаметрыі развіваюцца буд-ва і архітэктура. Значны зрух адбыўся ў навук. пазнанні жывой прыроды. У галіне медыцыны пачалося вывучэнне працэсу абмену рэчываў. Ісп. вучоны М. Сервет (1511—53) блізка падышоў да адкрыцця кровазвароту ў арганізме. Адначасова з медыцынай развіваліся хім. даследаванні. Т. *Парацэльс* (1493—1541) даследаваў хім. злучэнні ртуці, свінцу, жалеза, даў пачатак мінеральнай фармакалогіі. На яго думку, усё ў свеце ўзнікае ад руху і злучэння элементаў; працэсы, што адбываюцца ў чалавечым арганізме, аналагічныя прыродным. Вял. змены ў светапоглядзе і ў навуцы выклікала адкрыццё М. *Капернікам* (1473—1543) геліяцэнтрычнай сістэмы свету, паводле якой Зямля не займае цэнтр. становішча ў Сусвеце, а з'яўляецца адной з планет, якія абарачаюцца вакол Сонца і сваёй восі. Эпоха Адраджэння, якая зрабіла вял. зрух у аб'ектыўным пазнанні рэчаіснасці, не магла стварыць умоў для плённай працы вучоных і даследчыкаў, паколькі дзярж. лад не садзейнічаў развіццю навукі з прычыны яе залежнасці ад мецэнатаў і феад. правіцеляў.

Зах.-еўрап. філасофія ў канцы 15 — 1-й пал. 16 ст. развівалася як ідэалогія перыяду крызісу феадалізму і зараджэння капіталізму. Светапогляд мысліцеляў гэтай эпохі быў супярэчлівы. Барацьба новага са старым выяўлялася ў станаўленні рацыяналіст. гуманіст. тэндэнцый, процiпастаўленых тэалагізму. Яна ўвасаблялася ў розных формах — ад распаўсюджання ерасей, якія расхіствалі рэліг. дагматыку і расчышчалі шлях навук. поглядам, да адкрытага выступлення супраць тэалогіі і каталіцкіх аўтарытэтаў з падтрымкай і распаўсюджваннем матэрыялізму антычных філосафаў. Найб. усебакова філасофія ў гэты час развівалася ў Італіі. Гуманіст Л. Вала (1407—57) у трактаце «Аб асалодзе як сапраўднай дабраце» абараняў філасофію і этыку *Эпікура,* якую процiпастаўляў хрысц. аскетызму, крытыкаваў аўтарытэт царкоўнікаў, прапаведаваў верацярпімасць. Ён адзін з першых падверг навук. крытыцы Біблію. Яму належыць думка аб нябоскасці Хрыста, што апосталы не былі аўтарамі «сімвалу веры». Арганізатар Платонаўскай акадэміі ў Фларэнцыі М. *Фічына* (1433—99) развіў філас. сістэму — арыгінальную перапрацоўку неаплатанізму і містычных вучэнняў позняй антычнасці ў духу ўзгаднення з асн. догмамі *хрысціянства.* Тэндэнцыю *пантэізму,* якая праяўлялася ў філасофіі Фічына, развіў *Піка дэла Мірандала* (1463—94).

У гэты час узніклі новыя погляды на чалавечае грамадства і яго гісторыю, на дзяржаву і права. Абгрунтоўвалася неабходнасць моцнай манархічнай улады (Н. *Макіявелі*), але развенчвалася тэалагічная версія пра яе «божую» прыроду. Узніклі першыя сацыяліст. утопіі, у якіх паказваўся ўяўны ідэальны дзярж. лад без прыватнай уласнасці і эксплуатацыі чалавека чалавекам (Т. *Мюнцэр,* Т. *Мор,* Т. Кампанела). Многія прадстаўнікі філас. думкі былі выразнікамі гуманізму (*Эразм Ратэрдамскі,* У. Гутэн, Ф. Рабле). Вял. ўплыў на філас. думку зрабіла *Рэфармацыя* (Мюнцэр, М. *Лютэр*), якая спрыяла развіццю атэіст. плыні. Дасягненні зах.-еўрап. навук. і філас. думкі значна ўздзейнічалі на фарміраванне *светапогляду Ф. Скарыны,* стварылі ўмовы для яго плённай кнігавыдавецкай і асветніцка-гуманіст. дзейнасці (гл. *Кнігавыдавецкая дзейнасць Ф. Скарыны, Асветніцкая і педагагічная дзейнасць Ф. Скарыны*).

*Літ.:* Из истории культуры средних веков и Возрождения. М., 1976; Горфункель А. Х. Философия эпохи Возрождения. М., 1980; Лосев А. Ф. Эстетика Возрождения. М., 1982; Соколов В. В. Европейская философия XV — XVII веков. М., 1984. *Э. К. Дарашэвіч.*

**ЗАХОДНЕСЛАВЯ́НСКАЯ ЛЕКСІКА** ў выданнях Ф. Скарыны. Слоўнікавы склад выданняў С. ўключае ў сябе розныя па паходжанню разрады лексікі. Найб. месца займае ў ім агульнаслав. лексіка, якая ўзыходзіць да агульнаслав. лексічнага фонду і захоўваецца ў сучаснай бел. і іншых слав. мовах. Шырока прадстаўлены таксама традыц. царк.-слав. лексічныя сродкі, уласцівыя ў стараж. перыяд кніжным стылям і не звязаныя непасрэдна са слоўнікавым матэрыялам бел. нар. гаворак, жывая нар. лексіка, уведзеная бел. першадрукаром у літаратурны ўжытак, і лексіка іншамоўнага паходжання, запазычаная з грэч., лац. і суседніх еўрап. моў. Сярод апошняй самы значны пласт складаюць словы зах.-слав. паходжання — чэшскія і польскія.

Пытанне аб ролі і месцы чэхізмаў у выданнях С. даўно прыцягвала да сябе ўвагу вучоных. У канцы 19 ст. чэшскі лексічны струмень у скарынінскіх біблейскіх тэкстах заўважыў першы даследчык яго мовы П. У. Уладзіміраў. На літаратурны ўплыў чэшскай мовы на мову скарынінскіх выданняў указвалі мовазнаўцы С. К. Буліч, І. В. Воўк-Левановіч, А. В. Флароўскі, А. І. Жураўскі. Гэтыя лексічныя сродкі з'явіліся вынікам непасрэдных кантактаў бел. першадрукара з чэхамі ў перыяд яго выдавецкай дзейнасці ў Празе (1517—19) і выкарыстання ім у якасці асн. дапаможніка пры апрацоўцы біблейскіх тэкстаў «Бібліі» ў венецыянскім выданні 1506. Адносна лексічнай сістэмы старабел. літаратурнай пісьмовай мовы чэшскія па паходжанню лексемы ў біблейскіх кнігах С. можна падзяліць на чатыры групы. Найбольшую па колькасці складаюць лексічныя чэхізмы. Гэта — словы, адметныя ад тэрмінаў, якія ўжываліся для абазначэння адпаведных прадметаў, з'яў і паняццяў у старабел. мове: **вчерашекъ** — учарашні дзень, **рыбникъ** — сажалка, **смыркъ** — елка, **ятра** — печань і інш. Усе яны паслядоўна перадаюцца С. у тым жа арфаграф. афармленні, у якім выступаюць у чэшскай мове. Група лексічных чэхізмаў значна дапаўняецца лексемамі. Пры выкарыстанні іх С. ў адпаведнасці з патрабаваннямі царк.-слав. і старабел. арфаграф. сістэм дапускае некат. змены. У 2-ю групу ўваходзяць словы, якія адрозніваюцца ад старабел. марфалаг. афармленнем. Утвораныя, як і старабел. адпаведнікі, на базе агульнаслав. каранясловa, яны супадаюць з апошнімі па каранях і вылучаюцца спецыфікай выкарыстання словаўтваральных сродкаў: **недуживый** — хваравіты, **одреный** — абадраны, **словутный** — славуты і інш. Да гэтых лексем чэш. паходжання далучаецца значная колькасць слоў з разнастайнымі словаўтваральнымі фармантамі, якія служаць паказчыкамі пэўных граматычных катэгорый. Найб. характэрныя чэхізмы мужчынскага роду — назоўнікі з суфіксамі **-ец,** жаночага роду з суфіксам **-ость.** Да 3-й групы належаць фанетычныя чэхізмы, г. зн. словы, якія адрозніваюцца ад старабел. толькі фанет. формай. Усе яны агульнаслав. паходжання, але набылі на чэшскай глебе рысы, уласцівыя фанет. сістэме чэшскай мовы, напр.: **блазе** — добра, **сладце** — соладка, старабел. **бо-**

**лозе, солодко.** Сюды адносяцца лексемы са спалучэннем **-дл-**, адпаведным усх.-слав. і царк.-слав. **-л-**: **отпочивадло** — пляцоўка, **радлица** — лямеш і інш. Чацвёртую групу чэхізмаў утвараюць лексемы, уласцівыя і старабел. лексічнай сістэме, але ў чэш. мове з інш. значэннямі. Гэта т. зв. семантычныя чэхізмы: **бегунъ** — валацуга (старабел. «уцякач»), адпаведна: прылада (настрой), **обруба** — шляк (участак зямлі). Колькасць семантычных чэхізмаў, магчыма, можна павялічыць. Аднак яны з-за свайго знешняга супадзення з бел. словамі вельмі цяжка выяўляюцца ў стараж. тэксце. Словы чэш. паходжання ўтвараюць у скарынінскіх выданнях значны пласт — разам з вытворнымі іх каля 200. Па ужывальнасці яны не аднолькавыя.

Лексіка польск. паходжання, выкарыстаная бел. першадрукаром, у колькасных адносінах значна ўступае чэшскай. Сярод паланізмаў у пражскіх выданнях С. самую вял. групу складаюць назоўнікі рознай лексіка-семантычнай характарыстыкі: **драпежца** — грабежнік, **живелъ** — стыхія, **чловекъ, яскиня** — пячора і інш. Некалькі слабейшае польск. лексічнае ўздзеянне на іншыя часціны мовы: **восполокъ** — сумесна, **дбати** — клапаціцца, **шемрати** — наракаць. Польск. мова для С.— таксама крыніца многіх слоў зах.-еўрап. паходжання, напр. л а ц і н с к і х: **алоесъ** — альяс, **ахатесъ** — агат, **берилъ** — берыл, **яцинктъ** — гіяцынт; н я м е ц к і х: **рада, салитра, скиба, смакъ, спижа** — харчы, **танецъ, фарба, фікга, флястръ** — пластыр, **фунтъ** і інш.

У мове С. сустракаецца шэраг слоў, па значэнню і форме аднолькава ўласцівых польск. і чэш. мовам, напр.: **власный, прудкий** — хуткі, **родина** — сям'я, **смертельный** і інш. Частка з іх ужо ў пач. 16 ст. ўжывалася ў старабел. мове дзякуючы польск. ўплыву. Аднак тое, што бел. першадрукар пры апрацоўцы біблейскіх тэкстаў выкарыстоўваў чэш. арыгіналы, дазваляе лічыць большасць адзначаных запазычанняў у яго выданнях чэшскімі. Шырокае распаўсюджанне іх у помніках бел. пісьменнасці пазнейшага перыяду звязана з польск. уздзеяннем.

*А. М. Булыка.*

**«ЗВО́ДНЫ КАТАЛО́Г СТАРАДРУКАВА́НЫХ ВЫДА́ННЯЎ КІРЫ́ЛАЎСКАГА І ГЛАГАЛІ́ЧНАГА ШРЫФТО́Ў»**, універсальны крыніцазнаўчы бібліяграфічны даведнік, які ствараецца міжнар. рэдкалегіяй на чале з Я. Л. Неміроўскім з 1976 па ініцыятыве Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна. Прымаюць удзел сав. кнігасховішчы, архівы, музеі, а таксама нацыянальныя б-кі НРБ, ГДР, ПНР, ЧССР, СФРЮ. У аснову пакладзены прынцып паэкземплярнага ўліку апісання старадрукаваных выданняў. Выдадзена 8 выпускаў метадычных указанняў. У 1-м з іх змешчаны «Папярэдні спіс старадрукаваных выданняў кірылаўскага шрыфту 15 — 1-й пал. 16 ст.», дзе ўлічаны ўсе вядомыя цяпер экз. пражскіх і віленскіх выданняў С. Прадугледжаны выпуск уласна «Зводнага каталога» і «Апісанняў старадрукаваных выданняў кірылаўскага шрыфту асобных друкарняў». У 1979—85 выйшлі вып. 1-ы «Апісанне выданняў друкарні Швайпольта Фіёля» (скл. Неміроўскі), вып. 15-ы «Апісанне выданняў Нясвіжскай друкарні і друкарні Васіля Цяпінскага», вып. 19-ы «Друкарня Нічыпара Тарасіева і Нявежы Цімафеева» (абодва скл. Ю. А. Лабынцаў). Выпуск 5-ы мяркуецца прысвяціць выданням Пражскай, а вып. 8-ы Віленскай друкарняў С. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ЗЁРНАВА** Антаніна Сяргееўна (1883—1964), сав. кнігазнавец, бібліёграф. У 1922—58 — навук. супрацоўнік Аддзела рэдкіх кніг Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна. Шмат увагі надавала вывучэнню дзейнасці бел. друкароў і выдаўцоў 16—1-й пал. 17 ст. У пач. 1950-х г. напісала даследаванне пра С. (лёс рукапісу невядомы). У апублікаваных З. матэрыялах фрагментарна змяшчаюцца каштоўныя звесткі аб маст.-паліграф. асаблівасцях кніг С. ў параўнанні з інш. слав. выданнямі і рукапісамі, адзначаецца своеасаблівасць маст. аздаблення скарынінскіх выданняў, выхадных даных, паркушавай фаліяцыі і г. д. Падкрэслівала асветніцкія рысы дзейнасці С., сувязь яго кніжнага мастацтва з зах.-еўрап. кнігавыдавецкімі традыцыямі. Першай устанавіла факт выкарыстання сапраўдных дошак С., копій ці перайманняў з іх у выданнях Віленскай брацкай (з 1590-х г.), Астрожскай (канец 16 ст.) друкарняў, у выданнях А. Нявежы і некат. інш. маскоўскіх друкароў пач. 17 ст. Вызначыла наяўнасць агульных рыс кніг рэфармацыйных друкарняў Нясвіжа, Цюбінгена, «Евангелля» Васіля Цяпінскага з выданнямі С. Не лічыла Пятра Мсціслаўца вучнем С. На падставе вывучэння арнаментыкі віленскіх выданняў С. зрабіла вывад, што «Малая падарожная кніжка» выйшла раней «Апостала» (магчыма ў 1523—24), што пазней было пацверджана выяўленым капенгагенскім экземплярам выдання. На погляд З., на Беларусі ў 16 ст. С. лічылі ерэтыкам, пераклад Бібліі на «гутарковую» мову збліжаў яго з пратэстантамі, таму ўплыў скарынінскіх выданняў на далейшае бел. кнігадрукаванне было параўнальна абмежаваным.

*Тв.:* 124; 595; Типография Мамоничей в Вильне (XVII век)//Книга: Исслед. и материалы. М., 1959. Сб. 1; Первопечатник Петр Тимофеев Мстиславец//Тамсама. М., 1964. Сб. 9; Книгопечатание в Белоруссии XVI—XVII вв. (разам з Т. С. Гарбуновым)//400 лет русского книгопечатания. М., 1964. Т. 1.

*Г. Я. Галенчанка.*

**ЗІМЕ́НКА** Аляксандр Іванавіч (н. 1946), беларускі сав. мастак дэкар.-прыкладнога мастацтва. Аўтар керамічнага рэльефу (1971; 4×5,5 м; зала Бел. аддзялення агенцтва друку «Навіны») і медаля, прысвечанага фотаклубу «Мінск» (1981, 10,5 см, кераміка паліваная), у якіх выкарыстаў сімвалы і герб С. Аўтар медаля «Францыск Скарына» (гл. *Медалі*).

**ЗНА́КІ** [illegible] і [illegible], відарысы на гравюрах у кнігах С. Першы змешчаны на *гравюрным партрэце Ф. Скарыны.* Ён сустракаецца на тытульных гравюрах *«Ізраілевы палкі ля храма»* (кн. «Лічбы»), *«Бог і Майсей»* (кн. «Левіт»), а таксама на прыкладных ілюстрацыях у кн. «Выхад»: *«Узор ківота»*, *«Узор стала»*, *«Узор свяцільніка»*, *«Узор трэбніка»*, *«Узор рыз»*; побач з гербам-сігнетам С. ён змешчаны на *тытульным лісце «Бібліі»* (кн. «Быццё»). Акрамя пражскіх выданняў, ёсць і ў віленскіх: у «Малой падарожнай кніжцы» і «Апостале». Знак [illegible] не расшыфраваны. І. Г. Штрытэр бачыў у ім літару Б (у звычайным і люстраным абрысах — Бабіч?), П. Уладзіміраў — злучэнне літар Д і Т (доктар?), У. Стасаў — літару Т, М. Шчакаціхін — БО (Багдан Онкаў?). Акрамя таго, Шчакаціхін бачыў аналогію знака ў гербе «Котвіца» (якар), што належаў вайсковым баярам Калантаям, род якіх быў звязаны з Навагрудскім ваяводствам і Ваўкавыскім паветам. Другі знак — [illegible] — фігуруе толькі аднойчы на партрэце С. Паводле Э. П. Гячаўскаса, мае аналогію ў гербе Жабаў — магнатаў з Полаччыны. Значэнне абодвух З. застаецца нявысветленым. У чэш. і ням. геральдыцы яны невядомы. Несумненна адно — знакі маюць дачыненне да асобы С. або да асоб з яго бліжэйшага асяроддзя (мецэнатаў, фінансістаў і інш.).

*В. Ф. Шматаў.*

**ЗО́МЕРФЕЛЬД** Ян Старэйшы (? — 22. 10.1501), прафесар Кракаўскага ун-та. Запісаўся ва ун-тэт у 1479, у 1481 атрымаў вучоную ступень бакалаўра, у 1485 — магістра «вольных навук». Каменціраваў Арыстоцеля, класіку антычнай л-ры і працы гуманістаў. Аўтар прац па граматыцы і эпісталаграфіі, з якімі быў знаёмы С. Меў б-ку (больш за 230 кніг), дзе былі працы па розных галінах ведаў, маст. л-ра. У зборы З. першы ў гісторыі бібліяфільскі трактат Рычарда дэ Беры (1281—1345) «Філабіблон, або пра любоў да кнігі». Пасля смерці З. яго б-ка паступіла ва ун-т.

**ЗЯМКЕ́ВІЧ** Рамуальд Аляксандравіч [1881—1943(1944)], беларускі бібліяфіл, бібліёграф, публіцыст і гісторык бел. л-ры. Папулярызаваў жыццё і творчасць С. ў бел. перыядычным друку пач. 20 ст. У арт. «Беларуская бібліяграфія» (Першы беларускі каляндар «Нашае нівы» на 1910 г.) сярод старадрукаў 16—18 ст. апісаў кнігі С.— «Біблію», «Псалтыр», «Апостал», «Малую падарожную кніжку». 400-годдзю выдавецкай дзейнасці С. і бел. кнігадрукавання прысвяціў спец. арт. «400-лецце беларускага друку» (Вольная Беларусь. 1917. 8 жн.), «Значэнне Скарыны ў беларускай культуры» (там жа. 11 жн.), «Друк Скарыны і друк сучасны» (там жа. 23 жн.). Падкрэсліў ролю С. ў развіцці айч. л-ры і нац. літаратурнай мовы, аднак недаацэньваў уплыву на творчасць С. культурных традыцый, звязаных са стараж. агульнарус. перыядам у гісторыі Беларусі. Асабліва падкрэсліваў маст.-паліграф. якасці кніг С., што забяспечылі ім шматвяковую трываласць. У арт. «Францішак Скарына» (Беларускае жыццё. 1919. № 3) праводзіў ідэю ўсебаковага і агульнанар. даследавання і засваення творчай спадчыны С. (заснаванне т-ва і навук. б-кі імя С., адкрыццё помніка на радзіме, факсімільнае перавыданне яго твораў). *А. К. Кайко.*



**ІАА́Н ДАМАСКІ́Н** (Iōánnēs Damaskénōs; каля 675 — каля 753), візантыйскі багаслоў, філосаф, паэт, адзін з т. зв. айцоў царквы. Нарадзіўся ў Дамаску ў знатнай арабскай сям'і хрысц. веравызнання. Атрымаў рознабаковую адукацыю. Спачатку, відаць, быў прыбліжаным халіфа, пасля выступленняў у абарону праваслаўя зведаў ганенні, пайшоў у манастыр (да 700), дзе займаўся літаратурнай працай. Быў ідэйным праціўнікам іканаборства. І. Д. — завяршальнік і сістэматызатар грэч. *патрыстыкі.* Імкнучыся ўпарадкаваць сучасныя навукі пад эгідай царк. догмы і на аснове арыстоцелевай логікі, заклаў асновы схаласт. метаду сярэдневяковай тэалогіі. Рознабаковасць ведаў дала яму магчымасць аб'яднаць неаднародны ідэйны матэрыял у адзіную замкнёную сістэму. Гал. яго твор «Крыніца ведаў» (каля 742) — своеасаблівая энцыклапедыя філас. і багаслоўскіх звестак — у скарочаным выглядзе і перакладах быў пашыраны ў Зах. Еўропе, славянскіх краінах, у т. л. ў Стараж. Русі. У гісторыю л-ры І. Д. увайшоў як выдатны паэт-гімнолаг. С. неаднаразова ўпамінае яго імя і творы ў пасляслоўі да «Малой падарожнай кніжкі».

*Ю. А. Лабынцаў.*

**ІБН РУШД,** Ібн Рошд (лацінізаванае — Авероэс, 1126—98), арабскі філосаф, урач, прадстаўнік усх. *арыстацелізму.* Стварыў энцыклапедычны збор мед. ведаў сярэднявечча ў 7 кнігах. Яго філас. працы прысвечаны каментарыю твораў Арыстоцеля. Развіваў рацыяналіст. і матэрыяліст. тэндэнцыі арыстацелізму. Насуперак рэліг. артадоксіі лічыў свет нястворaным, вечным і бясконцым, як і бог. Стаяў на пазіцыях прыроднага дэтэрмінізму. Матэрыялістычна разумеў сувязь душы з целам, бессмяротным лічыў толькі ўсеагульны розум чалавецтва. Абараняючы навуку і розум ад фанатыкаў-багасловаў, абвясціў тэзіс пра два спосабы спасціжэння боскіх ісцін: рацыянальны і алегарычна-вобразны. На гэтай аснове зах.-еўрап. авераісты развілі тэорыю *дваістай ісціны.* Грамадска-паліт. погляды І. Р. заснаваны на ідэях Платона («Дзяржава»). Аказаў вял. ўплыў на развіццё філас. думкі сярэднявечча. Ужо ў 13 ст. сфарміравалася традыцыя *авераізму,* адным з гал. цэнтраў якой у Зах. Еўропе 14—16 ст. быў *Падуанскі ўніверсітэт.* С., безумоўна, быў добра знаёмы з мед. творамі І. Р., бо гэта было неабходнай умовай паспяховай здачы экзамена на ступень д-ра медыцыны. У каментарыях да біблейскіх кніг С. выявіў блізкія І. Р. погляды на дваісты характар разумення (заснаванага на розуме і веры) Свяшчэннага пісання. Як і арабскі мысліцель, С. быў прыхільнікам рацыяналістычнага прачытання Свяшчэннага пісання, таму што «святые писма уставлѣна суть с нашему навчению» (гл. с. 19). Ён ішоў услед за лац. авераістамі ў трактоўцы тэорыі дваістай ісціны, ставіў «житейскую мудрость» нараўне з «божественной» (гл. с. 46.), сцвярджаў, што існуе «двоякая правда: божия и человечия» (гл. с. 193).

*Літ.:* Григорьян С. Н. Средневековая философия народов Ближнего и среднего Востока. М., 1966; Сагадеев А. В. Ибн Рушд (Аверроэс). М., 1973. *Г. У. Грушавы.*

Ібн Сіна.



**ІБН СІ́НА** (лацінізаванае — Авіцэна; 980—1037), вучоны, філосаф, урач, прадстаўнік усх. *арыстацелізму.* Жыў у Бухары, Харэзме, Іране, быў прыдворным урачом і візірам пры розных правіцелях. Гал. творы: «Канон урачэбнай навукі» (энцыклапедычны збор у 5 частках), «Кніга збавення» (у 18 частках), «Кніга ўказанняў і настаўленняў», «Кніга ведаў» (кароткая філас. энцыклапедыя). Займаўся паэт. творчасцю; пісаў філас. аповесці, выступаў тэарэтыкам л-ры (каментарыі да «Паэтыкі» Арыстоцеля). Прызнаваў ісціннасць рэліг. светаўспрымання, аднак адмаўляў шэраг яго важнейшых догматаў: створанасць свету ў часе, дзеянне звышнатуральных сіл у прыродзе, перавага веры над розумам і інш. Пісаў пра магчымасць самастойнага існавання рэлігіі і філасофіі, надаваў вял. значэнне навукам, заснаваным на дасягненнях чалавечага розуму. У грамадскім жыцці гал. прынцыпам лічыў справядлівасць, што ляжыць у аснове маральных дабрачыннасцей чалавека. У мед. творах адмаўляў вучэнне астролагаў пра ўплыў сузор'яў на лёс, учынкі, здароўе людзей, на ход і канец хвароб. Найб. вядомасць у сярэднявечча меў яго «Канон...», які шматразова перакладаўся на еўрап. мовы, толькі на лац. мове перавыдадзены больш за 30 разоў. Да 17 ст. «Канон...» быў абавязковым дапаможнікам пры падрыхтоўцы вучоных-медыкаў. З гэтым энцыклапедычным творам, безумоўна, быў глыбока знаёмы С., паколькі на экзамене ў Падуанскім ун-це было

прызнана, што ён «валодае дастатковымі ведамі ў галіне медыцыны...», і С. быў абвешчаны «ва ўстаноўленым парадку доктарам у галіне медыцынскіх навук». С. блізкі да І. С. і шырынёй інтэлектуальных інтарэсаў, асв. пафасам сваёй творчасці, высокай ацэнкай чалавечага розуму і навук, рэліг. вальнадумствам, імкненнем да «розмножения мудрости, умения, опатрености, розуму и науки» (гл. с. 46).

*Літ.*: Завадовский Ю. Н. Абу Али ибн Сина: Жизнь и творчество. Душанбе, 1980; Шидфар Б. Я. Ибн Сина. М., 1981.
*Г. У. Грушавы.*

**ІВА́Н ЧО́РНЫ** (? — да 1490), кніжнік, перапісчык пры двары маскоўскага вял. кн. Івана III, удзельнік маскоўскага гуртка рэліг. рэфарматараў. У 1485 упершыню ўпамінаецца як перапісчык Елінскага летапісу — збору ўсеагульнай гісторыі, у склад якога былі ўключаны некат. біблейскія кнігі (напр., «Кніга прарока Данііла»), а таксама стараж. аповесці («*Александрыя*»). Да Елінскага летапісу І. Ч. даў глосы, дзе крытыкаваў правасл. духавенства. У 1487 перапісаў «Лествіцу» Іаана Лествічніка. І. Ч. прыпісваюць рукапісы Біблейскага зборніка, які змяшчаў «Пяцікніжжа», кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», «Царствы», «Эсфір», «Прытчы Саламона», «Песня песням» (у 2 розных перакладах) і інш., а таксама Кнігі прароцтваў Старога запавету. Пераклады біблейскіх кніг, што былі ў рукапісах І. Ч., папярэднічалі «Генадзіеўскай біблії» і перакладам С. Пасля 1487 І. Ч., баючыся ганення за ўдзел у ерэтычным руху, уцёк у Вял. кн. Літоўскае. Знаходжанне яго на Беларусі дае магчымасць меркаваць, што з біблейскімі кнігамі ў спісах І. Ч. мог пазнаёміцца С.

*Літ.:* Казакова Н. А., Лурье Я. С. Антифеодальные еретические движения на Руси XIV— начала XVI века. М., 1955; Клибанов А. И. Народная социальная утопия в России. Период феодализма. М., 1977.
*Я. Л. Неміроўскі.*

**«ІЗРА́ІЛЕВЫ ПАЛКІ́ ЛЯ ХРА́МА»**, «Людие Ізраилевы с полки своими около храму божия», гравюра на тытульным лісце *кнігі «Лічбы»*, выдадзенай С. у Празе (1519).

Паводле старазапаветнага падання, у перыяд вандравання ізраільцян з Егіпту ў «зямлю абетаваную» кожны род павінен быў вылучыць войскі для аховы пераноснай царквы — скініі. Вызначаўся дакладны рэгламент размяшчэння і следавання гэтага вялікага апалчэння, падзеленага паводле рода-племянных адзнак на асобныя «станы», якія мелі свае сцягі і інш. знакі адрознення. У час руху і на прывалах усе войска размяшчалася вакол скініі па сваіх «парадках», што і знайшло адлюстраванне ў гравюры С.

На гравюры (105×105 мм) вялікае войска маналітнай масай запаўняе ўсю плошчу кампазіцыі. У руках воінаў-ахоўнікаў — сцягі. Малюнак іх фігур некалькі ўмоўны, схематычны. Тыпаж воінаў, адзенне, зброя, ваенныя сцягі выразныя, у кампазіцыі адчуваецца напрамак руху войска (з левага боку ў правы). Ён падкрэслены плямамі святла і ценю, энергічнымі паралельнымі штрыхамі, трапятаннем сцягоў і інш. Звяртаюць на сябе ўвагу нявывучаныя выявы гербаў (або сімвалічных знакаў) на сцягах, знак [знак] (гл. *Знакі [знак] і [знак]*), двухгаловы арол (герб Свяшчэннай Рымскай імперыі), літара ж (герб «Еліта»), кружок са стрэлкай уверсе і ўпісанай у яго зоркай (герб князёў Астрожскіх?), літара W, тры ражкі (герб «Трубы»?), карона з зоркай і інш. Не выключана, што гэтыя гербы на сцягах маюць дачыненне да пэўных асоб (магнатаў, фінансістаў, пакравіцеляў), якія спрыялі кнігавыдавецкай дзейнасці С.

*Літ.:* 564; 792.
*У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**ІЛЮСТРА́ЦЫІ** (ад лац. illustratio асвятленне, наглядная выява) у выданнях Ф. Скарыны.

З дзейнасцю С. звязаны новы этап развіцця І. ў слав. кірылічным друкарстве. У яго выданнях змешчаны І. амаль усіх відаў і жанраў: партрэт, сюжэтна-тэматычныя гравюры, І. прыкладнога характару. Большасць І. спецыяльна зроблена для кніг С., пра што сведчаць адпаведнасць іх памераў набору кніг. У кірылічным кнігадрукаванні гэта найбольш ранція творы, бо Ш. Фіёль у Кракаве і друкары Балкан у 1490-я г. ў галіне ілюстравання рабілі толькі першыя крокі («Распяцце» ў «Актоіху» 1491, шэсць дэкар. І. у «Васьмігалосніку» Макарыя). Слав. папярэднікі С. яшчэ не звярталіся да І. як да сродку арганізацыі ў маст. вобразах зместу кнігі. Такую задачу ва ўсёй яе складанасці першы вырашыў С., які па-сапраўднаму ўсвядоміў сілу і значэнне выяўл. мастацкага вобраза ў кнізе, ролю І. як сродку дапамагчы чытачу глыбей і паўней зразумець літаратурную першакрыніцу, ясней уявіць сабе герояў кнігі, успрыняць яе змест і г. д. Ідэйна-сэнсавае значэнне І. сфармуляваў С. ў прадмовах да 3-й кн. «Царствы» (гл. с. 77). С. падкрэсліў асветніцкае значэнне І., што было важным крокам у яе развіцці. У выданнях С. зафіксавана (з паўторнымі адбіткамі) 51 І., з іх 47 у «Бібліі», 5 — у віленскай «Малой падарожнай кніжцы». Усе І. зроблены ў тэхніцы падоўжнага (абразнога) дрэварыту (гл. *Ксілаграфія),* які панаваў у Еўропе ў 15—16 ст. У большасці гравюр «Бібліі» спалучаюцца стылі готыкі і рэнесансу. Сярод гравюр на тэмы Старога запавету: *«Цар Давід», «Бічаванне Іова», «Дыспут», «Суд Саламона», «Саламон і царыца Саўская», «Памазанне Давіда», «Давід перад кіvotам»*, *«Будаўніцтва храма ў Іерусаліме», «Руф у полі», «Ізраілевы палкі ля храма», «Юдзіф і Алаферн», «Самсон і леў», «Плач Ераміі», «Хрыстос і нявеста», «Эсфір перад Асверам», «Дачка фараона і Майсей», «Пераход цераз Іардан», «Майсей перад народам»* і інш. 13 І. прыкладнога характару




**«Ізраілевы палкі ля храма».** Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Лічбы» Ф. Скарыны.

з выявай храма, херувімаў, дома Саламона, ківота, стала, свяцільніка і інш. ўпрыгожваюць кн. «Выхад», «Левіт» і 3-ю кн. «Царствы». Новазапаветныя І.—*«Хрышчэнне ў Іардане», «Хрыстос у храме», «Багародзіца з анёламі»* — змешчаны ў «Малой падарожнай кніжцы».

Шэраг І. не звязаны з тэкстам кніг С. і з'яўляюцца як бы самастойнымі станковымі творамі: *гравюрны партрэт Ф. Скарыны, «Благаславенне»*. Маст. ўзровень скарынінскіх І. розны, але многім з іх уласціва гарманічная «карцінная» кампазіцыя, канструктыўны малюнак, упэўненая віртуозная тэхніка гравіроўкі. Фігуры людзей у І. нярэдка даюцца буйным планам, як бы набліжаны да гледача, што спрыяе манументалізацыі кампазіцый. Малюнак часам некалькі ўмоўны, стылізаваны, у адносінах да выяў чалавечых галоў часам крыху павялічаны, што робіць іх каржакаватымі, дужымі. Тыпаж персанажаў вылучаецца тонкай перадачай індывідуальных характарыстык, тэхніка гравіроўкі сакавітая, упэўненая і смелая. І. вылучаюцца жыццёвым рэалізмам вобразаў, арыгінальнасцю сюжэтаў, майстэрскай трактоўкай формы, якая мадэліруецца энергічнай, разнастайнай штрыхоўкай. Пераважная большасць І. змешчана на тытульных лістах кніг, што ўзмацняе іх функцыянальнае прызначэнне і абумоўлівае пэўную дэкаратыўнасць і «рэкламнасць» (у тыя часы кнігі паступалі ў продаж без пераплётаў, таму тытул выконваў рэкламныя функцыі). Асветніцкі характар кнігавыдавецкай дзейнасці С. паўплываў і на яго І. У гэтым пераконваюць выказванні С., апавядальнасць І., а таксама простыя і даходлівыя подпісы да іх. С. імкнуўся зрабіць кнігу як мага больш даступнай шырокай аўдыторыі, гэтай мэце падпарадкаваны яго І. У лепшых І. С. адышоў ад схематызму ранніх еўрап. кніжных гравюр, сляпога і рабскага пакланення «літары» кананічных тэкстаў. Лепшыя скарынінскія І. ў пэўнай ступені адлюстроўваюць новы этап рэалістычных заваёў еўрап. кніжнай гравюры. Яснасць задумы, прастата і выразнасць кампазіцыі сведчаць пра тое, што І. С. разлічаны на «посполитых людей». Паводле стылю яны не аднолькавыя. Даследчыкі *(М. Шчакаціхін, Л. Баразна)* вылучаюць некалькі стыліст. груп, што сведчыць аб выкананні іх некалькімі майстрамі, на партрэце С. адзін з іх пакінуў сваю ***манаграму***. Астатнія творы ананімныя. Многія І. пазначаны гербам-***сігнетам*** С., што сведчыць пра непасрэднае дачыненне першадрукара да гэтых твораў. Бясспрэчна, С. быў асноўным ініцыятарам ілюстравання сваіх выданняў, арганізатарам усіх работ у сваёй (або арандаванай) друкарні, а магчыма, і аўтарам асобных малюнкаў да гравюр, кампазіцый; яму належаць усе подпісы да І. У асобных дрэварытах адчуваецца ўплыў бел. культуры (слав. тыпаж, характар арнаментыкі, матывы помнікаў дойлідства, што ўваходзяць у кампазіцыю, і інш.). Але ўсх.-слав. Біблій з мініяцюрамі на тэмы Старога запавету не існуе («Генадзіеўская біблія» 1499, якой, мяркуюць, карыстаўся С., пазбаўлена І.), таму пры ілюстраванні пражскіх і віленскіх выданняў С. выкарыстаў вопыт зах.-еўрап. майстроў гравюрнай І. Так, І. «Тройца», «Благаславенне» створаны пад пэўным уплывам гравюр А. *Дзюрэра* з серыі «Апакаліпсіс» 1499, «тлумачальныя» дрэварыты (выявы хлябоў, казанца і інш.) — гравюр «Сусветнай хронікі» (1493) *Г. Шэдэля* і інш. Аднак непасрэдных аналогій выяўлена не шмат; скарынінскія І. ў цэлым адрозніваюцца ад ням. першакрыніц і нярэдка пераўзыходзяць іх. І. віленскай «Малой падарожнай кніжкі» па маст. узроўні ўступаюць І. «Бібліі», іх выконвалі, відавочна, інш. майстры. І. «Малой падарожнай кніжкі» — «Хрыстос у храме» і «Хрышчэнне ў Іардане» — запазычаны з «Сусветнай хронікі» Шэдэля. Параўнальны аналіз сведчыць, што абодва творы не копіі, а, відаць, надрукаваны з арыгіналаў дошак «Сусветнай хронікі». Выкарыстанне С. дрэварытаў з «Сусветнай хронікі» сведчыць, што бел. першадрукар арыентаваў сваіх гравёраў на самыя дасканалыя ўзоры сусв. друку і гравюры, бо «Сусветная хроніка» пасля Бібліі Гутэнберга — самая славутая інкунабула.

І. выданняў С., у адрозненне ад яго арнаментыкі (гл. *Графічная арнаментыка выданняў Ф. Скарыны*) і *ініцыялаў*, не зрабілі істотнага ўплыву на фарміраванне стылістыкі І. бел. старадрукаў 16—18 ст., выдадзеных у друкарнях Вільні, Еўя, Заблудава, Куцейна, Супрасля, Магілёва. Яны «засталіся нейкімі зусім асобнымі фактамі, якія адзінока стаяць сярод усёй масы гравюр на дрэве, створанай пазнейшымі славянскімі школамі» (У. Стасаў). Агульныя рысы з тлумачальнымі І. С. можна знайсці толькі ў асобных ксілаграфіях *«Брэсцкай бібліі»* 1563. Скарынінскія І. былі правадніком зах.-еўрап. ўздзеяння на бел. мастацтва і арыентавалі майстроў бел. старадрукаванай кнігі на прафесійнае майстэрства.

*Літ.*: 564; 750; 789; 792. *В. Ф. Шматаў.*

**ІМЯ І ПРОЗВІШЧА Ф. СКАРЫНЫ.** На працягу ўсяго перыяду вывучэння жыцця і дзейнасці С. ў навук. і папулярнай л-ры яго імя ўжывалася рознымі аўтарамі ў некалькіх варыянтах: Францыск, Францішак, Георгій і Юрый. У гэтай разнастайнасці форм знайшоў сваё адлюстраванне неаднолькавы падыход аўтараў да вызначэння канфесіянальнай прыналежнасці С., да ацэнкі яго асветніцкай дзейнасці і светапогляду.

Для правільнага вызначэння сапраўднай формы імя С. неабходна высветліць, як называў ён сябе сам у сваіх выданнях і як называлі яго сучаснікі. У кожным сваім выданні С. ўказваў сваё імя і прозвішча звычайна не менш трох разоў: на тытульным лісце, у пачатку прадмовы і ў пасляслоўі. Некат. вядомыя ў наш час кнігі С. дэфектныя, не маюць пачатковых ці апошніх аркушаў, таму немагчыма ўстанавіць дакладную колькасць ужытых ім форм свайго імя і прозвішча. У вядомых выданнях С. зусім няма імён Георгій або Юрый. Форма **Францишекъ** ужыта ім тры разы ў ранніх пражскіх выданнях 1517— у «Псалтыры», у кн. «Іоў» і «Прытчы Саламона» (адзін раз гэта форма захавана і ў перадрукаванай прадмове да «Псалтыра» 1522). Ва ўсіх пазнейшых пражскіх выданнях і ў віленскім «Апостале» С. ўжо не ўжывае гэтай формы. У прадмове да 1-й кн. «Царствы» адзін раз ужыта форма назоўнага склону **Франциско**, ва ўсіх астатніх кнігах яго імя 64 разы зафіксавана ў форме роднага склону **Франциска** 150 разоў у форме творнага склону **Францискомъ**. З гэтых ускосных форм можа быць выведзена зыходная форма **Францискъ** або **Франциско**, але не **Францишекъ**.

У вядомых актавых запісах часоў С. на лац. і бел. мовах імя С. ўжыта таксама многа разоў. У дакументах на лац. мове форма Franciscus (разам з формай ускосных склонаў) адзначана 27 разоў: 2 разы ў запісах Кракаўскага ун-та 1504—06, 7 разоў у актавых матэрыялах Падуанскага ун-та 1512, 9 разоў у граматах 1530 прускага герцага Альбрэхта і 9 разоў у граматах 1532 Жыгімонта І. У дакументах на бел. мове, што захаваліся ў складзе *Метрыкі Вялікага княства Літоўскага*, імя С. ўжыта 8 разоў у форме **Францышко**. З лацінскай формы Franciscus лёгка выводзіцца бел. адпаведнік **Францискъ**, бо пры пранікненні ў бел. мову лацінізмы на -us страчвалі гэты канцовы фармант (параўн. лац. apparatus, articulus, versus, defectus, legatus і стараж.-бел. апаратъ, артыкулъ, вершъ, дефектъ, легатъ). Аднак ужытая С. ў прадмове да 1-й кн. «Царствы» форма **Франциско** і зафіксаваны ў актах метрыкі варыянт **Францышко** сведчаць, што ў размоўна-бытавым ужытку імя С. мела і варыянт з канчаткам **-о**. Формы імён на **-о, -ко** наогул былі вельмі распаўсюджанымі ў старабел. мове. У канцылярскіх дакументах 15—17 ст. многія формы мужчынскіх імён зафіксаваны ў разнастайных фанетыка-словаўтваральных варыянтах, з ліку якіх асабліва выдзяляюцца паралелі тыпу Аверкий — Аверко, Александръ — Александро, Андрей — Андрейко, Василь — Василько, Григорий — Григорко, Давидъ — Давидко, Кирилъ — Кирилко, Маркъ — Марко і г. д. У такіх суадносінах знаходзяцца і варыянты **Францискъ — Франциско (Францышко).** Першы з іх трэба лічыць асноўнай, афіцыяльнай формай, а другі — дамашняй, сямейнай, гутарковай. **Францыскам** называецца С. таксама ў пазнейшых рукапісных копіях яго кніг, у каталогах манастырскіх і прыватных б-к, у працах пазнейшых дзеячаў рэлігійнай палемікі. Агульная колькасць зафіксаванага ў стараж. крыніцах імя С. **Францыск** (у розных варыянтах) больш за 150.

Аб імені С. **Георгій** сталі гаварыць у 2-й палове 19 ст., пасля таго, як у 1858 М. Круповіч апублікаваў копіі дзвюх грамат на лац. мове польск. караля Жыгімонта І (1532), у якіх лацінізаваная форма Franciscus (у розных склонавых формах) ужыта 9 разоў. У адной з грамат перад імем Franciscus стаяць лац. прыметнікі egregium et famatum у значэнні «паважаны, славуты». У другой жа грамаце слову egregium першай граматы

адпавядае форма georgii. Гэта адзіная форма і паслужыла падставай пазнейшым даследчыкам лічыць, што сапраўдным імем С. было **Георгій**, і гэты факт быў выкарыстаны як довад правасл. паходжання С. Услед за гэтым П. Петрушэвіч выказаў гіпотэзу: каб паступіць у каталіцкі Кракаўскі ун-т, С. вымушаны быў замяніць сваё правасл. імя **Георгій** на каталіцкае **Францыск**. Пазней гэта гіпотэза знайшла прыхільнікаў і дажыла да нашага часу ў многіх друкаваных працах пра С. і ў кінафільме «Я, Францыск Скарына». Імя **Георгій** (нават у скажоным напісанні **Георгі**) асабліва часта ўжывалася ў пасляваенны час аж да канца 1960-х г. Грэч. паходжанне імя **Георгій** у стараж.-рус. эпоху было засвоена вусным шляхам у форме **Юрый**. На падставе гэтага некат. аўтары пачалі прыпісваць С. імя **Юрый.** Такая форма таксама траплялася ў друку ў пасляваенны час. У 1925 польскі гісторык Г. Лаўмянскі (пры агульнай вельмі тэндэнцыйнай ацэнцы дзейнасці С.) паказаў, што ўжытая ў адной з грамат Жыгімонта I форма georgium — гэта толькі апіска замест формы egregium. З гэтым меркаваннем пагаджаецца большасць даследчыкаў С.

Асабліва стракатым было ўжыванне імя С. ў 1950—60-я г., калі ў друку трапляліся ўсе магчымыя варыянты: **Францыск, Францішак, Георгій і Юрый.** У сувязі з гэтым у 1967 — у год правядзення 450-гадовага юбілею бел. кнігадрукавання — пытанне аб імені С. разгледжана на бюро Аддзялення грамадскіх навук АН БССР, дзе была прынята кампрамісная пастанова: пры скарочаным найменні С. пісаць **Францыск Скарына,** а пры поўным — **Францыск (Георгій) Скарына.** У наш час найчасцей прынята пісаць **Францыск Скарына**, хоць у папулярных працах сустракаецца і варыянт **Францішак.** Аднак для ўжывання такой формы няма дастатковых падстаў, паколькі ад яе адмовіўся сам С. ў пазнейшы перыяд сваёй выдавецкай дзейнасці.

Побач са сваім імем С. ўжыў 21 раз у якасці прозвішча выразы «Скорининъ сынъ», «Скоринина сына» і «Скорининымъ сыномъ». Але значна часцей (94 разы) ён ужывае формы роднага і творнага склонаў «Скорины» і «Скориною», з якіх выводзіцца лёгка зыходная форма «Скорина», адзін раз зафіксаваная ў форме назоўнага склону «Скорина» ў прадмове да 1-й кн. «Царствы». Акрамя таго ў «Малой падарожнай кніжцы» ў акравершах зафіксавана таксама форма «Скоринич» (гл. арт. *Акраверш* у выданнях Ф. Скарыны). У сучасным бел. напісанні згодна з фанетычным прынцыпам правапісу прозвішча С. заканамерна пішацца **Скарына.** Аднак і цяпер у жывым вымаўленні прозвішча С. ўжываецца ў двух варыянтах: з націскам на аснове (Скары́на) і на канчатку (Скарына́). Як вымаўлялася гэта прозвішча ў старажытнасці, дакументальных даных няма: у выданнях С., як і наогул у пісьменнасці яго часу, націск не абазначаўся (традыцыя абазначаць націск замацавалася ў бел. друкаваных кнігах з канца 16 ст.). Таму вырашаць гэта пытанне прыходзіцца на падставе ўскосных меркаванняў. З пункту погляду акцэнтна-словаўтваральнай сістэмы бел. мовы больш апраўданым уяўляецца варыянт з націскам на аснове. У прозвішчы **Скарына** адлюстравалася старажытнае слова «скора» ў значэнні **«шкура»**, яно з'яўляецца роднасным са словамі **«кара»**, **«скура»**, **«шкура»**, **«шкарлупіна»**. Ад слова «скора» (скура) ўтварылася і старабел. слова **«скорина»** (скарынка) у значэнні цвёрды вонкавы слой хлеба. Гэта слова зафіксавана, напрыклад, у Баркулабаўскай хроніцы пач. 17 ст.: «коли муку житную у хлебе спекуть, то тесто печеное солодко, а за скорину хотя ложку клади, а в печи не печется». У зборніку павучальных навел сярэдзіны 17 ст. зафіксаваны і лексікалізаваны варыянт памяншальнай формы **«скоринка»**, якая ўласціва і сучаснай бел. мове. У старабел. мове многія іншыя назоўнікі ўжываліся ў зыходнай, нейтральнай форме без ускладнення памяншальным суфіксам -к-, прычым з націскам на аснове, аб чым сведчаць пазнейшыя друкаваныя кнігі, дзе сістэматычна абазначаўся націск: вну́ка, сусе́да, ху́ста і г. д. У сучаснай бел. мове гэтыя словы захаваліся з націскам на аснове, але ў лексікалізаванай, гістарычна памяншальнай форме: уну́чка, сусе́дка, ху́стка. З гэтымі назоўнікамі па тыпу словаўтварэння і па акцэнталагічнаму афармленню і суадносіцца вядомае сучаснай бел. мове слова «скарынка»: стараж. «скорина» — сучаснае «скарынка» (як вну́ка — уну́чка, сусе́да — сусе́дка, ху́ста — ху́стка). Адзначаная мадэль словаўтварэння вельмі распаўсюджана ў бел. мове, яна прадстаўлена тут шматлікімі парамі тыпу асіна — асінка, маліна — малінка. З гэтага можна заключыць, што стараж. слова **«скорина»** таксама мела націск на аснове. Так належыць вымаўляць і прозвішча **Скары́на.** Пры вырашэнні пытання аб вымаўленні прозвішча **Скарына** трэба прымаць пад увагу і тое, што бел. першадрукар значную частку свайго жыцця правёў за межамі Беларусі, у прыватнасці ў польск. і чэшск. асяроддзях, дзе яго прозвішча не магло вымаўляцца з націскам на канчатку, бо такое вымаўленне пярэчыла б акцэнталагічнай сістэме польскай і чэшскай моў. *А. І. Жураўскі.*

**ІНІЦЫЯ́Л** (ад лац. initialis пачатковы), б у к в і ц а, павялічаная загалоўная (пачатковая) літара пэўнага раздзела, самастойнай часткі ў рукапіснай ці друкаванай кнізе; стараж. элемент аздаблення кнігі. Ён звычайна выконваўся ў колеры, размалёўваўся складаным раслінным, зааморфным арнаментам. Першыя на Беларусі І., выкананыя ў візант. стылі, ужыты ў рукапісных кнігах 11 ст. (Супрасльскі рукапіс, Тураўскае евангелле).

У кірылічным друкарстве І. з'явіліся ў выданнях Ш. Фіёля і Макарыя ў 1490-я г. І. ў кракаўскіх выданнях Фіёля цалкам залежныя ад рукапісаў. І. Макарыя па стылю ўзыходзяць да венецыянскай графікі эпохі Рэнесанса. С. прадоўжыў гэтую традыцыю маст. арыентацыі не на рукапісы, а на зах. друкаваныя выданні 2-й пал. 15 — пач. 16 ст. У яго «Бібліі» каля 100 адбіткаў І., якія закампанаваны ў прамавугольнікі, упрыгожаны малюнкамі кветак, пладоў, ягад, звяроў, пуцці, чалавечых фігур і інш. Сустракаюцца характэрныя для Беларусі васількі, канюшына. Асобныя І. ўжыты ў «Бібліі» С. 39 разоў (літара П з малюнкам канюшыны). У пражскіх выданнях І. сустракаюцца каля 1000 разоў. Большасць іх мае памер 20×28 мм, сустракаюцца літары памерам 20×20, 20×35 мм. У віленскіх выданнях І. цесна ўзаемадзейнічаюць з ілюстрацыямі і *застаўкамі*, ствараючы адзіны ансамбль маст. афармлення. Яны азначаюць пачатак глаў, устанаўліваюць паміж імі разбіўку. Акрамя таго, яны звязваюць застаўкі з тэкстам, г. зн. з'яўляюцца пераходным дэкорам ад упрыгожання да чытання. Усе арыгінальныя дошкі віленскіх І. спачатку выкарыстоўваліся ў «Малой падарожнай кніжцы» (у асноўным у канонах), а затым — у «Апостале». Яны, як і пражскія, маюць прамавугольную форму, мадэліраваны светлым штрыхом па чорным фоне. Фігурныя выявы тут адсутнічаюць, І. ўпрыгожаны раслінным арнаментам рэнесансавага стылю. «Малую падарожную кніжку» ўпрыгожваюць І. 3 тыпаў. У канонах фігурыруюць упамянутыя вышэй загалоўныя літары «Бібліі», якія С. прывёз у Вільню з Прагі. Іх: Б, Д, П, И, К, Р, С, Т, Х. Толькі літара Х была зроблена ў Вільні, гравіроўка яе даволі грубая. Найб. значную групу складаюць І., якія спецыяльна ствараліся для віленскіх кніг. Іх памеры: 15×10 мм; 20×14 мм; 20×12 мм; 9×6 мм; 9×7 мм. Гэтыя І. закампанаваны ў прамавугольнікі і ўпрыгожаны тонка награвіраваным раслінным арнаментам: А, Б (3 рысункаў), В (4), Г, Д (4), Е, З (2), И (5), І (3), К (2), М (2), О, У (2), П (2), Р, С (5), Т (5), Х (2), Я (2) і інш. І. адметны прыгожым дэкорам, вял. тонкасцю гравіроўкі. Складаная арнаментацыя не перашкаджае ўспрыняццю літар. Рэзка адрозніваецца ад астатніх вялікі І. «С» з «Акафіста магіле гасподняй» (арк. 1-ы б). Яго памер 50×50 мм. І. выразны па форме літары (ён не прамавугольны) і надрукаваны чырвоным колерам. Усё цела літары запоўнена багатым, пластычна награвіраваным лісцем, што нагадвае акант. Як адзначыў М. П. Кісялёў, гэты І. з'яўляецца ксілаграфічнай копіяй І. з «Вялікага прапіснога алфавіта» нямецка-нідэрландскага гравёра *І. Мекенема.* Мастак рабіў яе з лац. І. Устаўляючы ў набор, друкары С. павярнулі лац. літару ўправа на 90°, атрымалася кірылічнае «С». Арнаментыка гэтага І. садзейнічала фарміраванню т. зв. старадрукарскага стылю, які ў 2-й пал. 16 ст. атрымаў вял. развіццё ў рус., бел. і укр. кнізе. У І. гэты стыль адзначаны ўпершыню ва Усх. Еўропе. Пасля Вільні ён з'явіўся ў Маскве (магчыма, з Вільні). Асобныя скарынінскія І. ўжываліся ў выданнях С. *Буднага,* В. *Цяпінскага,* С. Зізанія. Іх выкарыстоўвалі ў выданнях друкарняў Вільні («Часоўнік» і «Азбука», 1596), Астрога (Біблія, 1581), Еўя (гл. таксама



**Ініцыялы** з пражскіх выданняў Ф. Скарыны.



**Ініцыялы** з пражскіх выданняў Ф. Скарыны.



**Ініцыялы** з пражскіх выданняў Ф. Скарыны.






**Ініцыялы** з пражскіх выданняў Ф. Скарыны.

**Ініцыялы** з віленскіх выданняў Ф. Скарыны.



арт. *Графічная арнаментыка выданняў Ф. Скарыны*).

*Літ.:* 564; 789; Стасов В. В. Картины и композиции, скрытые в заглавных буквах древних русских рукописей//Собр. соч. Спб., 1894. Т. 1; Каталог белорусских изданий кирилловского шрифта XVI—XVII вв. Л., 1973. Вып. 1. С. 20, 28.

*М. Б. Батвіннік, В. Ф. Шматаў.*

**ІНКУНА́БУЛЫ** (ад лац. incunabula ранняе дзяцінства, калыска, пачатак), першыя друкаваныя выданні ў Еўропе, выпушчаныя ў ранні перыяд кнігадрукавання; умоўна — ад першых спроб Іагана *Гутэнберга* ў 1440-я г. да 1.1.1501.

Да 1500 друкарні ўзніклі прыкладна ў 260 гарадах Зах. і Цэнтр. Еўропы. Было надрукавана больш за 40 тыс. кніг тыражом звыш 10 млн. экз. Значным цэнтрам кнігадрукавання з'яўлялася Венецыя, дзе да пач. 16 ст. было заснавана каля 150 друкарняў. Першапачатковa І. па свайму знешняму выгляду нагадвалі рукапісныя кнігі (адсутнічаў тытульны ліст, выхадныя звесткі размяшчаліся ў канцы тэксту, у калафоне, загалоўныя літары — ініцыялы — афармляліся ад рукі), але паступова набылі рысы, характэрныя для друкаванай кнігі. Друкаваліся І. пераважна гатычным шрыфтам. Для выданняў антычных аўтараў і пісьменнікаў-гуманістаў ужывалі *антыкву*, а пасля і інш. шрыфты. Першыя кнігі слав. тыпаў шрыфту — глаголіцы — надрукаваны ў 1483, *кірыліцы* — у 1491 (Кракаў, друкар Швайпольт *Фіёль*). Па зместу І. ахопліваюць увесь сфарміраваны да таго часу фонд еўрап. кніжнай творчасці, а таксама вядомую еўрапейцам кніжную культуру народаў Усходу і адроджаную гуманістамі антычную л-ру. Царк. кнігі складалі да 1/3 выданняў, у т. л. Бібліі на нац. мовах, якія адыгралі станоўчую ролю ва ўсталяванні тагачасных нац. л-р. Былі выдадзены пераклады стараж. філосафаў, працы па медыцыне, праву, апублікаваны ўвесь збор вядомых да таго часу твораў антычных аўтараў. Шырока выдаваліся вучэбныя дапаможнікі, гіст. хронікі, паліт. памфлеты, маст. л-ра і інш. І. з'яўляюцца важнымі крыніцамі для вывучэння гісторыі культуры ад глыбокай старажытнасці да 15 ст. Зберагаюцца ў буйнейшых кнігасховішчах свету, наладжан іх міжнар. ўлік і бібліяграф. апісанне, выдаецца «Зводны каталог інкунабулаў» (Gesamtkatalog der Wiegendrucke. Bd. 1—8, 1925—76), зводныя нац. каталогі выдадзены ў ЗША, Італіі і інш. У СССР зберагаецца шмат І. (Дзярж. б-ка СССР імя У. І. Леніна, Б-ка АН СССР у Ленінградзе і інш.), калекцыя Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына налічвае звыш 5 тыс. тамоў — адзін з самых буйных збораў І. У СССР выдадзены каталогі асобных збораў І. Дзярж. б-ка СССР імя У. І. Леніна выпускае «Інвентар інкунабулаў» (вып. 1—5, 1939—85), рыхтуецца зводны каталог І. Сав. Саюза.

На тэр. Беларусі І. з'явіліся ў 15—16 ст. Трапілі сюды дзякуючы студэнцкай моладзі, якая навучалася ў еўрап. ун-тах, а таксама гандл. сувязям Вял. кн. Літоўскага з Захадам. Кнігазнаўчыя крыніцы сведчаць, што І. захоўваліся ў манастырах, навучальных установах, у кнігазборах прыватных асоб. Значная калекцыя І. мелася ў б-цы Радзівілаў у Нясвіжы, 11 з якіх у сучасны момант знаходзяцца ў Б-цы АН СССР. Захаваліся 3 кнігі з б-кі Храптовічаў у Шчорсах. Б-кі Вільнюса налічваюць больш за 100 І. з літ. і бел. збораў Гродна (б-кі кляштараў дамініканцаў і кармелітаў, езуіцкага калегіума), Нясвіжа, Слоніма, Полацка, Жыровіцкага базыльянскага манастыра, Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі і інш. Шмат І. у 17—18 ст. знаходзілася ў калекцыях магнатаў. Дзярж. б-ка БССР імя У. І. Леніна налічвае ў сваім зборы 42 І., 4 экз. зберагаюцца ў Цэнтр. навук. б-цы АН БССР. І. бел. паходжання няма, бо першая друкаваная кніга была выдадзена С. у 1517 (гл. *Палеатып*).

*Літ.:* Ловягин А. М. Основы книговедения. Л., [1926]; Голубева О. Д., Гольдберг А. Л. На полках Публичной библиотеки. 2 изд. М., 1983. Указатели и каталоги инкунабулов. М., 1979. *Г. А. Маслыка.*

**ІСАЕ́ВІЧ** Яраслаў Дзмітрыевіч (н. 1936), украінскі сав. гісторык і кнігавед. Д-р гіст. н. (1979). Супрацоўнік Ін-та грамадскіх навук АН УССР у Львове. Навук. працы прысвечаны гісторыі ўкр. культуры, у т. л. ўкр. кнігадрукаванню, жыццю і дзейнасці С. У 1966 у арт. «Бібліятэка Львоўскага брацтва» расказаў аб выданнях С., якія значыліся ў рукапісных каталогах 17 ст. У манаграфіі «Першадрукар Іван Фёдараў і ўзнікненне кнігадрукавання на Украіне» (1975, 2-е выд. 1983) змясціў спец. раздзел аб вытоках бел. друкаванай кнігі. На яго думку, С. мог карыстацца ў Празе паслугамі аднаго з чэшскіх друкароў. Аналізуючы маст. афармленне пражскіх выданняў С., заначыў, што змешчаны малюнак будынка на 133-й стар. 3-й кн. «Царствы» нагадвае будынак Бурсы ўбогіх у Кракаве, у якім жылі студэнты Кракаўскага ун-та. І. лічыць, што віленскае выданне трэба называць не «Малая падарожная кніжыца», а «Малая падарожная кніжка», бо С. апошняе слова ўжываў у месным склоне — «у кніжцы». І. даследуе распаўсюджванне выданняў С. і іх рукапісных копій, а таксама спадчыну С. на Украіне. *Я. Л. Неміроўскі.*

**І́СНЕР** Ян (каля 1345—1411), польскі вучоны. З 1382 выкладаў тэалогію ў Празе, з 1399 праф. Пражскага ун-та. У канцы 14 ст. арганізаваў аддзяленне тэалогіі ў Кракаўскім ун-це, у 1401—11 — праф. тэалогіі гэтага ун-та. У 1409 заснаваў на свае сродкі інтэрнат для студэнтаў — т. зв. Бурсу ўбогіх, прызначаную пераважна для бедных студэнтаў з Беларусі, Літвы, Украіны. Верагодна, што ў гэтай бурсе жыў С. ў час вучобы ў Кракаўскім ун-це. І. быў уладальнікам вял. для таго часу б-кі, якую ён завяшчаў Бурсе ўбогіх. Захаваліся 23 рукапісы з гэтага збору (Ягелонская б-ка), 9 з іх — каментарыі да розных кніг Бібліі. У зборы І. было 2 тамы (рукапісы № 1470 і 1471 Ягелонскай б-кі) каментарыяў да Бібліі *Нікала дэ Ліра*, якія пазней былі выкарыстаны С. Сам І. таксама складаў каментарыі да Бібліі (захаваліся яго каментарыі да Евангелляў Матфея і Іаана). Не выключана, што С., жывучы ў Бурсе ўбогіх, карыстаўся кнігамі са збору І. і менавіта тут упершыню пазнаёміўся з працамі Нікала дэ Ліра.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**ІСУ́С НАВІ́Н,** біблейскі персанаж, слуга, паслядоўнік і пераемнік прарока Майсея. Паводле старазапаветнага падання, узначаліў яўр. родаплемянны саюз, які ў 13 ст. да н. э. заваяваў Зах. Палесціну, падзяліў паміж родамі заваяваныя землі, пры ім канчаткова ўстанавілася сістэма ваенна-дэмакратычнага кіравання. Дзейнасць І. Н. як палкаводца і заснавальніка дзяржавы падрабязна выкладзена ў кананічнай *кнізе «Ісус Навін»*, якую С. пераклаў і выдаў у складзе «Бібліі». Ён адносіў гэту кнігу да гіст.-летапісных твораў. С. рэкамендаваў кн. «Ісус Навін» у якасці крыніцы ведаў па геаметрыі і астраноміі. Ён высока цаніў дыдактычна-асветніцкія магчымасці тых падзей, што адлюстраваліся ў біблейскіх легендах пра І. Н. *У. М. Конан.*

**ІСУ́С СІРА́ХАЎ,** мысліцель эпохі элінізму, аўтар кананічнай біблейскай «Кнігі Прамудрасці Ісуса, сына Сірахава». Дакладных звестак пра аўтара і час напісання кнігі не захавалася. Даследчыкі мяркуюць, што яна была створана ў Іерусаліме каля 200 г. да н. э. на ста-

**Ішкалдскі Троіцкі касцёл.** 2-я пал. 15 ст.



раж.-яўр. мове (на рубяжы 19—20 ст. знойдзена большая частка арыгінала). І. С. і вывеў з Біблії суму жыццёвай мудрасці ў форме маральных сентэнцый і рэліг. павучэнняў, на змест якіх значна паўплывала эліністычная філасофія, асабліва этыка стоікаў. С. пераклаў і выдаў у складзе «Бібліі» *кнігу «Ісус Сірахаў»*. У прадмове адзначыў яе асветніцкі характар, упершыню ў айч. біблеістыцы звярнуў увагу на сінтэз біблейскай мудрасці і антычнай філасофіі: «вся бо Саломонова и Аристотелева божественная і житейская мудрость в сей книзе краткыми словы замкнена ест» (гл. с. 46). У агульнай прадмове да ўсёй «Бібліі» С. двойчы зазначае пераважна этычны характар зместу кн. «Ісус Сірахаў», якая, на яго думку, змяшчае «всю науку о добрых нравах». Апалогія адной з самых філас. і «эліністычных» рэліг. кніг, якую заснавальнікі рацыяналіст. плыні пратэстанцтва лічылі апокрыфам і выключылі з біблейскага канона, яшчэ раз сведчыць пра філасофска-асветніцкі, літаратурна-эстэт. падыход С. да Бібліі.

*Літ.:* Рождественский А. П. Книга Премудрости Иисуса сына Сирахова. Спб., 1911. *У. М. Конан.*

**ІСУ́С ХРЫСТО́С** [грэч. ад яўр. імя Ешу (а) — памагай бог, выратаванне; грэч. Christós літар. памазанік, выратавальнік, адсюль стараслав. Спас], у артадаксальнай хрысц. тэалогіі заснавальнік *хрысціянства,* які спалучаў у сабе ўсю паўнату божай і чалавечай прыроды. Жыццё, смерць і ўваскрэсенне, вучэнне І. Х. апісаны ў Новым запавеце, кананічных Евангеллях ад Матфея, Марка, Лукі і Іаана. У навук. л-ры існуюць 2 канцэпцыі ў поглядах на І. Х.: міфалагічная, паводле якой заснавальнік хрысц. рэлігіі — міфалагічны зборны вобраз, і гістарычная, прадстаўнікі якой бачаць у І. Х. міфалагізаваную рэальна-гіст. асобу вандроўнага філосафа і прапаведніка. Тэалагічныя дыскусіі пра асобу І. Х. выклікалі шэраг унутрыцарк. ідэйных рухаў, якія асабліва актывізаваліся ў эпоху Адраджэння і Рэфармацыі (у т. л. *антытрынітарыі* на Беларусі). Вобраз І. Х. займаў важнае месца ў сярэдневяковай л-ры і мастацтве, у творчасці мастакоў Адраджэння. У прадмовах і пасляслоўях да сваіх кніг С. неаднаразова ўпамінае яго імя, каменціруе і тлумачыць змест шматлікіх сюжэтаў, прама ці ўскосна звязаных з вобразам і асобай І. Х. Выкарыстоўваючы Біблію ў маральна-асветніцкіх мэтах, С. разам з тым падкрэсліваў артадаксальнасць свайго разумення вобраза І. Х. і асн. догматаў хрысц. веры. С.— аўтар акафіста І. Х. з акравершам (гл. *«Акафіст Ісусу», Акраверш*). У выданнях С. змешчаны гравюры з выявай І. Х. *У. М. Конан.*

**І́ШКАЛДСКІ ТРО́ІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры 15 ст. Пабудаваны ў 1472 у в. Ішкалдзь (Баранавіцкі р-н) у стылі готыкі. Мураваны храм зальнага тыпу.

Кампактны асн. прамавугольны ў плане аб'ём накрыты высокім 2-схільным дахам з стромкімі шчытамі на тарцах. Выцягнутая 5-гранная алтарная апсіда накрыта ніжэйшым шматсхільным дахам. З паўн. боку ад апсіды прылягаюць невысокая сакрысція і паўкруглы аб'ём з вітымі ўсходамі. Масіўныя сцены ў ніжняй ч. арнаментаваны сеткавай мураўкай (пазней атынкаваны) і ўмацаваны на бакавых фасадах вертыкальнымі, а на вуглах ступеньчатымі контрфорсамі. Пластычныя ступеньчатыя шчыт і контрфорсы на гал. зах. фасадзе аздоблены сіметрычна размешчанымі плоскімі нішамі (круглымі і з паўцыркульнымі завяршэннямі). Аконныя праёмы таксама маюць паўцыркульныя завяршэнні, праём увахода — стральчатае. Ахоўваецца дзяржавай.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. 2. изд. Мн., 1977. С. 95—96. *У. А. Чантурыя.*



**КАВЯЧЫ́НСКІ** Мацей (канец 1520-х — 1-я пал. 1572), бел. кнігавыдавец, перакладчык, рэфармацыйны дзеяч. У 40-я г. вучыўся ў Вітэнбергскім ун-це, з канца 50-х г. жыў на Беларусі. Нясвіжскі намеснік («справца всех замков и дворов») М. Радзівіла Чорнага. Заснаваў порт на р. Узда, паперню ў Нясвіжы. Удзельнічаў у кальвінскім, пазней у арыянскім руху на Беларусі, у Літве і Польшчы. У 1561—62 з Сымонам *Будным* і Л. Крышкоўскім заснаваў *Нясвіжскую друкарню,* якая ў 1562 надрукавала першыя на тэр. Беларусі выданні на бел. мове — *«Катэхізіс» 1562* і «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам» Буднага. Аўтар некат. прадмоў да нясвіжскіх выданняў. У пачатку сваёй кнігавыдавецкай дзейнасці, пад значным уплывам Буднага, намагаўся распаўсюджваць выданні сярод «рускага» (бел. і ўкр.) насельніцтва. Большасць кніг друкарні выходзіла, як у С., зручнымі малымі фарматамі, у афармленні і прадмовах некат. выданняў адчувальны ўплыў бел. першадрукара. Паводле рус. бібліёграфаў (В. Сопікаў, І. Каратаеў), К. пры дапамозе падскарбія земскага літ. Астафія Валовіча перавёз з Вільні ў Нясвіж кірыліцкія шрыфты С. Тыпаметрычны аналіз, нягледзячы на сапраўднае падабенства шрыфтоў і ініцыялаў, не пацвярджае гэтай гіпотэзы. Пасля смерці К. маёмасць перайшла яго братам, а друкарню купіў Я. *Кішка.* *Г. Я. Галенчанка.*

**КАЛАЙДО́ВІЧ** Канстанцін Фёдаравіч (1792—1832), рускі археограф, гісторык, філолаг, бібліёграф. Чл.-кар. Пецярбургскай АН (1825). Збіраў і даследаваў стараж. ўсх.-слав. помнікі, выпрацаваў навук. прынцыпы іх выдання. У архіве калегіі замежных спраў і ў зборах графа Ф. А. *Талстога* і Ф. Р. *Баузе* выявіў «Біблію» С. (Стары запавет), біблейскую кн. «Іоў», «Канонік» (з «Малой падарожнай кніжкі») і «Апостал» 1525, а таксама рукапісныя копіі з некат. друкаваных кніг С. Апісаў гэтыя знаходкі, даследаваў іх мову, маст. і паліграф. афармленне. Разглядаў аздобу выданняў С. як крыніцу далейшага развіцця бел. і цалкам усх.-слав. кнігадрукавання. Лічыў С. выдатным прадстаўніком бел. культуры.

*Літ.:* Бессонов П. А. К. Ф. Калайдович: Биогр. очерк. Т. 1—2. М., 1861—62; Булахов М. Г. Восточно-славянские языковеды. Т. 1. Мн., 1976. *М. Б. Батвіннік.*

**КАЛЕ́СНІК** Уладзімір Андрэевіч (н. 1922), беларускі сав. крытык і літаратуразнавец. Канд. філал. н. (1958), праф. (1983) Брэсцкага дзярж. пед. ін-та. Засл. работнік вышэйшай школы БССР (1979). Даследуе зах.-бел. л-ру і інш. пытанні бел. л-ры ад старажытнасці да нашых дзён. Дзярж. прэмія БССР імя Я. Коласа 1980 за ўдзел у даследаванні «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» і «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры» (1977, на рус. мове). У нарысе «Вяртанне зор» (1975) на аснове параўнальнага даследавання творчасці С. і Міколы Гусоўскага раскрыў дэмакратызм і гуманізм бел. асветніка і першадрукара, ахарактарызаваў яго як аднаго з першых нац. пісьменнікаў і мысліцеляў, які быў на ўзроўні выдатных дзеячаў культуры еўрап. Адраджэння, раскрыў розныя аспекты светапогляду, літаратурнай і асв. дзейнасці С. У арт. «Пчала Скарыны» (Полымя. 1979. № 9) і ў раздзеле «Францыск Скарына» (Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд, 1985) К. падсумаваў асн. вынікі айч. скарыназнаўства, ахарактарызаваў спецыфічныя для рэнесансавай эпохі сац.-эканам. тэндэнцыі і духоўныя рысы, самаахвярны жыццёвы шлях С., яго грамадска-паліт., маральна-філас. і эстэт. погляды, якія істотна паўплывалі на станаўленне гуманіст. культуры на Беларусі, стваральнікі якой арыентаваліся на сцвярджэнне гарманічных суадносін асобы і грамадства. На думку даследчыка, С. быў прадстаўніком рэаліст. тэндэнцый у мастацтве эпохі Адраджэння. Удзельнік *Скарынінскіх чытанняў.* *У. М. Конан.*

**КАЛЯНДА́Р** у выданнях Ф. Скарыны. У пражскіх і віленскіх выданнях С. прыводзяцца шматлікія каляндарныя звесткі, якія ў 16 ст. мелі важнае прыродазнаўчае значэнне.

Пасля ўвядзення хрысціянства ў 10 ст. Стараж. Русь успрыняла візант. летазлічэнне і каляндар, заснаваны на сонечным годзе і сямідзённым тыдні. Адлік гадоў вёўся ад «стварэння свету», якое нібыта адбылося за 5508 гадоў да нараджэння міфічнага Хрыста. У візант. календары, што змяніў старыя язычніцкія сістэмы летазлічэння, у наступныя стагоддзі адбываліся некат. змены. У 14—15 ст. у розных помніках слав. пісьменнасці (часасловах, псалтырах з «восследованием», святцах, пасхаліях і г. д.) сустракаюцца складаныя элементы календара, табліцы месецавага круга, «вруцелето» і інш. Выкарыстоўваліся некат. новыя метады каляндарных разлікаў.

У пражскіх выданнях (1517—19) С. выкарыстаў больш прагрэсіўнае, т. зв. хрысц. летазлічэнне, прапанаванае ў 6 ст. рым. манахам Дыянісіем Малым (пачатковай эрай служыць «нараджэнне Хрыста», якое адбылося нібыта 25 снеж. 753 ад заснавання Рыма). Гэта сістэма ў 8—10 ст. стала пануючай у Зах. Еўропе. У 13 ст. яна часам выкарыстоўвалася на тэр. Полацкай, Галіцкай і Смаленскай Русі, пазней і на некат. зах.-рус. землях, што ўвайшлі ў Вял. кн. Літоўскае. Ёю таксама нярэдка карысталіся ў дзелавой пісьменнасці Полацка ў гады пражывання ў ім С. У справаводстве ж полацкай епархіі, як і ўсёй Кіеўскай мітраполіі, у асн. традыц. жанрах л-ры і пісьменнасці ў канцы 15— пач. 16 ст. (уключаючы летапісы) па-ранейшаму амаль безраздзельна панавала візантыйскае (стараж.-рус.) летазлічэнне «ад стварэння свету». Т. ч., С. першы пашырыў летазлічэнне ад новай (нашай) эры на пэўныя сферы ўсх.-слав. л-ры і пісьменнасці. Пасля С. хрысц. летазлічэнне шырока выкарыстоўвалася ў розных выданнях бел. друкарняў 2-й пал. 16—18 ст. і сустракаецца ў помніках бел. пісьменнасці побач з візантыйскім летазлічэннем. У Расіі 1 студзеня 1700 указам Пятра І была ўведзена новая эра.

Асн. каляндарныя звесткі выкладзены С. у «Малой падарожнай кніжцы» (у

святцах, пасхаліі). Па форме і з пункту гледжання тэалогіі гэтыя раздзелы адпавядалі кананічным рукапісам правасл. царквы. Аднак у іх змесце праявіліся новыя прагрэсіўныя тэндэнцыі, развіццю якіх імкнулася перашкодзіць царква. Гэта было новае па характару выданне, якое сваім прызначэннем свецкім «мірскім» слаям насельніцтва істотна адыходзіла ад старых узораў царк.-службовай л-ры. С., добра разумеючы асаблівы характар заключнай часткі свайго выдання, характарызуючы яе, звяртаў увагу не на царк.-рэліг. ці кананічныя рысы кнігі, а на новы яе змест: «Светци краткие, имеющи в собе разделены времена на нашу землю, колико которые дни в году или нощи держать часов и дробных, и яко година прибудеть которому дню или нощи,— все написано ест...». С., відаць, улічваючы трываласць літ. традыцыі і распаўсюджанасць ва ўсх.-слав. землях сістэмы летазлічэння «ад стварэння свету», часткова выкарыстоўвае яе ў пасхаліі. Аднак асн. сістэмай летазлічэння ва ўсіх выданнях С. была хрысціянская. Ён ужываў яе на ўсіх тытульных лістах, дзе пададзены поўныя звесткі пра яго кнігі. У сувязі з рознымі сістэмамі летазлічэння С. выкарыстоўваў 2 каляндарныя стылі. У пражскіх выданнях ён ужываў студзеньскі стыль (год пачынаўся з 1 студз.), распаўсюджаны ў Еўропе з часоў каляндарных рэформ Юлія Цэзара. Ва ўсх.-слав. пісьменнасці з канца 15 ст. быў прыняты вераснёўскі (візантыйскі) стыль, да гэтага пачаткам года лічылі таксама і 1 сакавіка. Вераснёўскі стыль (побач са студзеньскім) выкарыстоўваўся ў дзелавой пісьменнасці на землях Вял. кн. Літоўскага, у скарынінскім календары «Малой падарожнай кніжкі» новы год пачынаецца з верасня. Разам з рымскімі назвамі месяцаў С. дае іх бел. эквівалент: «месець септеврий зовемы вресень» і г. д. (гл. табліцу).

Падобнага роду супастаўленні, захоўваючы пэўную пераемнасць у развіцці культ.-гіст. традыцый, садзейнічалі ўспрыняццю новай каляндарнай сістэмы на тэр. Беларусі і ў шырокім асяроддзі ўсх.-слав. чытачоў.

У месяцаслове і пасхаліі «Малой падарожнай кніжкі» С. карыстаўся сучаснай сістэмай 24-гадзінных сутак. Ён ужывае тэрміны «година», «дроби» (минуты), тэрмін «суткі» ў яго выданнях не сустракаецца. У правасл. палемічных выданнях канца 16 ст. гэта сістэма наз. «лацінскай». У адным з астрожскіх выданняў 1598 яна апісана так: 1 гадзіна — 60 мінут, 1 мінута — 60 секунд, 1 секунда — 60 тэрцый. «Месяцавае цячэнне», або лунацыя, па гэтай сістэме ўключала 29 дзён, 12 гадзін, 44 мінуты, 3 секунды і 36 тэрцый. У пасхаліі сустракаюцца адносна традыц. элементы правасл. календара, у т. л. высакосныя гады («лето переступное или висект» — 1524, 1528, 1532, 1536, 1540) і «круг сонца» (3—23, 1523—43). Для вызначэння веснавой поўні, неабходнай для вылічэння даты Вялікадня («хто хощеть паскалью водить и о празницех разуметь»), ужываўся цыкл Метана (5 ст. да н. э.), або «круг луны», у адпаведнасці з якімі 235 лунацый раўняліся 19 трапічным гадам. «Круг луны» ў «Малой падарожнай кніжцы» складае поўны цыкл (1—19, 1523—41) і пачатак наступнага (1—2, 1542—43). Разлікі С. адносна кругоў Месяца і Сонца на 1523—43 наогул дакладныя, калі не лічыць асобных памылак друку.

Каляндарныя і *астранамічныя звесткі* ў выданнях С. сведчаць пра яго зацікаўленасць у аб'ектыўным пазнанні навакольнага асяроддзя, пра асветніцкія і гуманіст. імкненні. Кнігі С. садзейнічалі росту грамадскай цікавасці да прыродазнаўчых навук. эмпірычных даследаванняў, больш паглыбленай распрацоўцы праблем каляндарнай рэформы, якія сталі адным з вузлавых пунктаў палемікі дзеячаў бел. і ўкр. брацтваў з ідэолагамі каталіцызму і уніі ў канцы 16 — пач. 17 ст.

*Літ.:* 91. *Г. Я. Галенчанка.*

**КАМП** (Kamp) Ян, чэшскі друкар канца 15 ст., выданні якога значна паўплывалі на чэш. кнігадрукаванне таго часу. У 1488—1500 (1501) працаваў у Празе, дзе, відаць, і памёр. Лічаць, што сумесна з Я. *Севярынам* або самастойна К. выпусціў на чэш. мове 10—11 кніг: у т. л. «Рымскую хроніку» (1488), «Паліцэйскі статут» (1492), творы Ф. Петраркі (1501) і, магчыма, Эзопа (1488), першую друкаваную Біблію на чэш. мове (1488) і «Новы запавет» (1498). Унёс шэраг новаўвядзенняў у мастацтва кнігадрукавання. З 1497 у яго выданнях сталі ўжывацца тытульныя лісты. Спачатку гэта была назва кнігі, выкананая ў тэхніцы гравюры на дрэве, без ілюстрацый (арыгінальны шрыфт — бастарда ў стылі чэш. рукапіснага шрыфту). К. быў звязаны з памяркоўнымі прыхільнікамі постгусіцкіх ідэй, аднак у адносінах да каталіцкага лагера займаў прагматычную пазіцыю, прадыктаваную камерцыйнымі меркаваннямі. Паказальная ў гэтых адносінах кніга пра жыцці святых і пакутнікаў «Пасіянала» (1495), выдадзеная ў 2 варыянтах: адзін для чытачоў-католікаў, другі для чытачоў постгусіцкага толку, для якіх, напр., у кнізе змешчаны нарыс жыцця і смерці Яна Гуса і яго саратніка Ераніма Пражскага. З выданнямі К., безумоўна, быў знаёмы С.

*Літ.:* V o l f J. Dějiny českého knihtisku do roku 1848. Praha, 1926; H o r á k F. Česká kniha v minulosti a jeji výzdoba. Praha, 1948. *А. С. Мыльнікаў.*

**КАМЯНЕ́ЦКАЯ ВЕ́ЖА,** К а м я н е ц к і с т о ў п, Б е л а я в е ж а, помнік стараж.-рус. абарончага дойлідства. Паводле звестак Іпацьеўскага летапісу пабудавана ў г. п. Камянец паміж 1276—88 дойлідам Алексам па загаду валынскага князя Уладзіміра Васількавіча як парубежны апорны пункт. Рэстаўрыравана ў 1903 (арх. В. Суслаў).

Круглае ў плане мураванае збудаванне (выш. 30 м, вонкавы дыяметр 13,5 м, таўшчыня сцен 2,5 м) перакрыта нервюрным скляпеннем з кранштэйнамі, завершана баявой галерэяй з 14 прамавугольнымі масіўнымі зубцамі са скразнымі адтулінамі. Унутры вежа падзялялася драўлянымі памостамі на 5 ярусаў. Будынак складзены з цёмна-чырвонай і жоўтай брусчатай цэглы (26,5 × 13,5 × 8 см) з канаўкамі на адной з плоскасцей. Муроўка балтыйская. Сцяна дэкарыравана атынкаванымі плоскімі арачнымі нішамі, прарэзана байніцамі (у 1—4-м ярусах — вузкія шчылінападобныя, у 5-м — стральчатыя). У тоўшчы сцяны на баявую галерэю вядуць (з 5-га яруса) цагляныя ўсходы, асветленыя вузкімі акенцамі. Маст. выразнасць пабудовы дасягаецца маналітнасцю аб'ёму, лаканічнасцю архіт. вырашэння, удалым размяшчэннем вежы на ўзгорку, які быў абнесены валам з драўлянымі сценамі наверсе (не захаваліся). Ахоўваецца дзяржавай. З 1960 г. ў К. в. філіял Брэсцкага абл. краязнаўчага музея.

*Літ.:* Т к а ч о ў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978. С. 18—23; Ч а н т у р и я В. А. Архитектурные памятники Белоруссии. Мн., 1982. С. 34—36. *У. А. Чантурыя.*

**КАНО́Н,** гл. *«Акафісты і каноны».*

**«КАНО́Н АРХА́НГЕЛУ МІХАІ́ЛУ»,** «В п о н е д е л о к ъ: К а н о н с [вя] т о м у а р х а н г е л у М и х а и л у с о в с е м и н е б е с н ы м и ч и н ы...», недатаванае віленскае выданне С., надрукаванае каля 1522 (гл. *«Акафісты і каноны»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. «К. а. М.» — царк. песнапенне з некалькіх песняў. Тытульнага ліста не мае. На арк. 1—6-м адв. надрукаваны тэкст канона, на арк. 6-м адв.—8-м — «Молитва архангелом, гл[аго]лемая по каноне», на арк. 8-м — пасляслоўе (гл. с. 174). Арк. 8-ы адв. пусты. Мова

**Параўнальная табліца назваў месяцаў**

| Стараж.-слав. назва | «Малая падарожная кніжка» | | Псалтыр Астрог, 1598 | Сучасная беларуская назва |
|---|---|---|---|---|
| | рымскія назвы | беларускія | | |
| верасень | септеврий | вресень | вресень | верасень |
| листопад | октоврий | листопад | паздерник | кастрычнік |
| грудень | ноемврий | грудень | листопад | лістапад |
| студень | декаврий | прасинець | грудень | снежань |
| сечень | генуарь | стычень | стычень | студзень |
| лютый | февраль | люты | лютый | люты |
| березозол | март | марець | березозол | сакавік |
| цветень | априль | кветень | кветень | красавік |
| травень | май | май | травень | май |
| червень | июнь | чирвець | червец | чэрвень |
| липец | июль | липець | липец | ліпень |
| серпень | август | серпень | серпень | жнівень |

кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання — 8 арк., сабраных у сшытак. Фармат — у 8-ю долю аркуша. На паласе — 19 радкоў. Набор выкананы віленскім шрыфтам С.— вышыня 10 радкоў 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя на верхнім баку аркуша ўверсе справа. Тэкст надрукаваны ў 2 фарбы. У верхняй частцы палос змешчаны калонтытул «Канон архангелом». Маст. аздоба — 3 вял. (63×10 мм) і 9 малых (63×5 мм) заставак, 1 вял. (13×20 мм) і 9 малых (8×10 мм) ініцыялаў. Усе застаўкі і ініцыялы надрукаваны чырвонай фарбай.

Пра каноны С. ўпершыню ўпамянуў К. Ф. Калайдовіч у 1811, спасылаючыся на экземпляр, набыты Ф. Р. Баузе ў кнігагандляра І. Ф. Ферапонтава. Склад гэтага канвалюта, у якім пераплецены 14 акафістаў і канонаў С., у т. л. «К. а. М.», раскрыў у 1813 В. С. Сопікаў. Экземпляр Баузе загінуў у час маскоўскага пажару 1812. П. І. Кепен у 1825 назваў 3 экземпляры «Малой падарожнай кніжкі», што належалі Калайдовічу, І. Добраўскаму і К. Манерту. Толькі апошні экземпляр, які знаходзіўся ў Ландсгуце (Баварыя), быў поўны, г. зн. у ім быў і «К. а. М.». Лёс гэтага экземпляра невядомы. У 1829 П. М. *Строеў* апісаў экземпляр «К. а. М.», які ўваходзіў у склад канвалюта са збору Ф. А. *Талстога.* У канвалюце, які Строеў ахарактарызаваў як «чысты», было пераплецена 10 акафістаў і канонаў С. Збор Талстога ў 1830 паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку. Цяпер у Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе ёсць 2 экз. «К. а. М.» ў складзе канвалютаў 1.5.8[а] і 1.5.8[б]. Адзін з іх можна атаясаміць з экземплярам Талстога, а другі — з экземплярам П. К. Фралова, калекцыю якога набыла пецярбургская Публ. б-ка ў 1817. «К. а. М.», відаць, быў і ў «Акафісніку», што набыў М. П. Пагодзін у 1847 у кнігагандляра М. Зубава. У 1852 збор Пагодзіна паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку. Яго «Акафіснік» быў выкарыстаны, каб папоўніць 2-гі экз. Публ. б-кі акафістамі і канонамі, якія адсутнічалі. Усё, што засталося, у 1881 перададзена Румянцаўскаму музею ў Маскве. Тут кнігу перапляталі ў кардон у зялёнай скуры. На карашку томіка залатое цісненне з памылковым указаннем месца выдання: «Скорина. Акафисты. Прага 1525 г». У склад канвалюта ўваходзяць 7 акафістаў і канонаў, у т. л. «К. а. М.». На адвароце ніжняй вокладкі пераплёту наклеены экслібрыс: Московского Публичного и Румянцевского музеев № 2245». Экземпляр знаходзіцца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 2045). У 1838 стаў вядомы экземпляр «К. а. М.» са збору А. Дз. *Чарткова*, які захоўваецца ў Дзярж. Гіст. музеі (ДГМ). Раней канвалют належаў збіральніку стараж. рукапісаў А. Сулакадзеву. «К. а. М.» ёсць і ў складзе «Малой падарожнай кніжкі», якая паступіла ў 1905 у ДГМ разам са зборам П. І. *Шчукіна* (Меньш. 1430). Тры аркушы з «К. а. М.» ёсць і ў канвалюце ДГМ са збору А. І. *Хлудава* (Хлуд. Д 142). У 1957 уведзены ў навук. ўжытак экземпляр «Малой падарожнай кніжкі», што належаў Каралеўскай б-цы ў Капенгагене. У яго складзе ёсць і «К. а. М.». Усяго вядома 7 экз. «К. а. М.», у т. л. фрагмент са збору Хлудава. *Я. Л. Неміроўскі.*

**«КАНО́Н БАГАРО́ДЗІЦЫ»,** «Канон благодарственъ пресвятей Богородици», недатаванае віленскае выданне С., надрукаванае каля 1522 (гл. *«Акафісты і каноны»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі».* Тытульны ліст адсутнічае. На арк. 1—8-м змешчаны тэкст «К. б.» — царк. песнапенне, на арк. 8-м адв.— «Молитва пресвятей Богородици». У ніжняй частцы арк. 8-га адв.— пасляслоўе (гл. с. 176). «К. б.» — адзіны з акафістаў і канонаў, у пасляслоўі якога адзначана, што ён перакладзены з грэч. мовы С. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання 8 арк., сабраных у сшытак. Фармат у 8-ю долю аркуша. На паласе 19 радкоў. Набор выкананы віленскім шрыфтам С.— вышыня 10 радкоў 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя на верхнім баку аркуша ўверсе справа чырвонай фарбай. У верхняй частцы палос калонтытул «Канон пречистое». Выданне надрукавана ў 2 фарбы. Маст. аздоба «К. б.» — 2 вял. (63×10 мм) і 10 малых (63×5 мм) заставак, 10 ініцыялаў. Застаўкі і ініцыялы надрукаваны чырвонай фарбай.

У навук. ўжытак «К. б.» ўвёў у 1813 В. С. *Сопікаў.* Ён апісаў канвалют з 14 акафістаў і канонаў са збору Ф. Р. *Баузе.* «К. б.» ў ім быў уплецены 9-м (паміж «Акафістам крыжу господняму» і «Канонам крыжу господняму»). Збор Баузе загінуў у час пажару Масквы ў 1812. У 1817 пецярбургская Публ. б-ка набыла экземпляр «Акафістаў і канонаў» С. (раней належаў П. К. Фралову). У ім быў і «К. б.», які можна атаясаміць з экземплярам, што зберагаецца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.8[а]). П. І. *Кепен* у 1825 у «Храналагічным роспісе першадрукаваным славенскім кнігам» упамянуў пра «Малую падарожную кніжку», якая належала К. *Манерту.* Экземпляр яе быў поўны, і ў ім, хутчэй за ўсё, быў і «К. б.». Сучаснае месцазнаходжанне кнігі невядома. У 1829 П. М. *Строеў* апісаў канвалют з 10 акафістаў і канонаў С. (раней належаў Ф. А. *Талстому*). «К. б.» ў ім быў змешчаны 3-м (паміж «Канонам архангелу Міхаілу» і «Канонам святому Міколе»). Гэты поўны экземпляр «К. б.» ў 1830 паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку. Цяпер захоўваецца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.8[б]). У 1838 А. Дз. *Чарткоў* увёў у навук. ўжытак поўны экземпляр «К. б.» з уласнага збору. Экземпляр захоўваецца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве (ДГМ, Чартк. 519). У 1851 М. *Вішнеўскі* апублікаваў звесткі пра канвалют Ягелонскай б-кі ў Кракаве (Сіт. 651). «К. б.» ў ім пераплецены разам з 12 інш. акафістамі і канонамі; ён змешчаны 10-м (паміж «Акафістам крыжу господняму» і «Акафістам багародзіцы»). Поўныя экземпляры «К. б.» знаходзіліся таксама ў зборах А. І. *Хлудава* і П. І. *Шчукіна.* Зборы паступілі ў ДГМ (Хлуд. Д412; Меньш. 1430). «К. б.» ёсць і ў «Малой падарожнай кніжцы», што знаходзіцца ў Каралеўскай б-цы ў Капенгагене і ўведзена ў навук. ўжытак у 1957. Вядома 7 экз. «К. б.», усе поўныя. *Я. Л. Неміроўскі.*

**«КАНО́Н ІАА́НУ ПРАДЦЕ́ЧЫ»,** недатаванае віленскае выданне С., надрукаванае каля 1522 (гл. *«Акафісты і каноны»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай*

**Камянецкая вежа.** Байніца. Фрагмент інтэр'ера.







*кніжкі»*. Адкрываецца тытульным лістом, на якім змешчана гравюра з выявай хрышчэння Ісуса Хрыста Іаанам Прадцечай. На арк. 1-м адв.— 7-м тэкст «К. І. П.» — царк. песнапення. На арк. 8-м — «Молитва по каноне великому во пророцех чесному и всехвалному Предтечи и крестителю господню Иоанну», у ніжняй яго частцы — пасляслоўе (гл. с. 175). Аркуш 8-ы адв. пусты. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання 8 арк., сабраных у сшытак. Фармат — у 8-ю долю аркуша. На паласе 19 радкоў. Набор выкананы віленскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 52÷÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя на верхнім баку аркуша ўверсе справа (у т. л. і на тытульным лісце). У верхняй частцы палос змешчаны калонтытул «Канон Іоану Предтечи». Выданне надрукавана чорнай і чырвонай фарбамі. Маст. аздоба, акрамя гравюры на тытульным лісце,— 1 вял. (63×10 мм) і 10 малых (63×5 мм) заставак, 10 буквіц. Частка заставак і ініцыялы-буквіцы надрукаваны чырвоным.

«К. І. П.» ўпершыню ўведзены ў навук. ўжытак у 1813 В. С. *Сопікавым*, якому быў вядомы канвалют са збору Ф. Р. *Баузе* (у канвалюце 14 акафістаў і канонаў). Б-ка Баузе загінула ў час пажару Масквы ў 1812. У 1817 пецярбургская Публ. б-ка набыла экземпляр «Акафістаў і канонаў», што належаў П. К. Фралову. Экземпляр «К. І. П.», што быў у ім, захоўваецца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.8[а]). У ім адсутнічаюць першыя 2 аркушы. П. І. *Кепену* ў 1825 быў вядомы поўны экземпляр «Малой падарожнай кніжкі» са збору К. *Манерта*, г. зн. ў ім быў і «К. І. П.». Месцазнаходжанне гэтага экземпляра невядома. У 1838 А. Дз. *Чарткоў* увёў у навук. ўжытак акафісты і каноны з уласнага збору, у складзе якіх быў і «К. І. П.». Гэты поўны экземпляр захоўваецца ў Дзярж. Гіст. музеі (ДГМ, Чартк. 547). Поўны і добра захаваны экземпляр «К. І. П.» з даўніх часоў знаходзіўся і ў Ягелонскай б-цы ў Кракаве (Сіт. 561). Ён пераплецены разам з інш. 12 акафістамі і канонамі. Канвалют уведзены ў навук. ўжытак у 1851 М. *Вішнеўскім*. Два аркушы (арк. 2-і, 3-і) з «К. І. П.» маюцца ў канвалюце ДГМ са збору А. І. *Хлудава* (Хлуд. Д142). У 1957 з'явіліся першыя звесткі пра экземпляр «Малой падарожнай кніжкі» са збору Каралеўскай б-кі ў Капенгагене. У яго складзе маецца і «К. І. П.». Усяго вядома 5 экз. «К. І. П.» (у т. л. і хлудаўскі фрагмент). *Я. Л. Неміроўскі.*

**«КАНО́Н ІСУ́СУ»**, «Стихеры господу Ісусу пѣваемы и со акафистом, ему же краеграние Ісусе сладкий спаси мя грешнаго», недатаванае віленскае выданне С., надрукаванае каля 1522 (гл. *«Акафісты і каноны»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. На 1-м аркушы выдання гравюра. На арк. 1—8-м адв. змешчаны тэкст канона, на арк. 8-м адв.— пасляслоўе (гл. с. 179). Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання — 8 арк., сабраных у сшытак. На паласе — 19 радкоў. Набор выкананы віленскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя размешчана на верхнім баку аркуша ўверсе справа. На тытульным лісце калонлічба не пастаўлена. Тэкст надрукаваны ў дзве фарбы. Маст. аздоба (акрамя тытульнай гравюры) — 1 вялікая (63×10 мм) і 8 малых (63×5 мм) заставак (7 з іх надрукаваны кінаварам), 9 ініцыялаў (таксама надрукаваны кінаварам).

«К. І.» быў у экземпляры «Малой падарожнай кніжкі», якая належала І. *Добраўскаму* і была апісана ім у лісце да В. Ф. Дурыха ад 23.5.1791 (апубл. ў 1895). В. С. *Сопікаў*, які ўвёў у навук. ўжытак большасць акафістаў і канонаў С., гэтага канона не ведаў. У рус. навуцы ён стаў вядомы ў 1817, калі пецярбургская Публ. б-ка набыла няпоўны (без 1-га аркуша) экземпляр са збору П. К. Фралова. Гэты экземпляр можна атаясаміць з тым, які ўваходзіць у канвалют (ДПБ, 1.5.8[а/2]) Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына. Тры няпоўныя экземпляры «К. І.», што знаходзяцца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве (ДГМ), раней належалі П. І. Шчукіну (Меньш. 1430; зберагліся арк. 2—4-ы), А. І. Хлудаву (Хлуд. Д142, зберагліся арк. 2—8-ы) і А. Дз. Чарткову (Чартк. 519; зберагліся арк. 2—8-ы). Поўныя экземпляры «К. І.» захоўваюцца ў Каралеўскай б-цы ў Капенгагене і ў Ягелонскай б-цы ў Кракаве. Вядома 6 экз. «К. І.», але толькі 2 з іх поўныя. *Я. Л. Неміроўскі.*

**«КАНО́Н КРЫ́ЖУ ГАСПО́ДНЯМУ»**, «В пяток. Канон чесному и животворящему кресту господа нашего Ісуса, певаемый со акафистом...», недатаванае віленскае выданне С., надрукаванае каля 1522 (гл. *«Акафісты і каноны»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. Тытульны ліст адсутнічае. На арк. 1—6-м адв. змешчаны тэкст канона, на арк. 6-м адв.— 8-м — пасляслоўе (гл. с. 178). Апошняя старонка выдання пустая. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання — 8 арк., сабраных у сшытак. На паласе — 19 радкоў. Фармат — у 8-ю долю аркуша. Набор выкананы віленскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 52÷÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя змешчана на верхнім баку аркуша ўверсе справа. Тэкст надрукаваны ў 2 фарбы. У верхняй частцы палос змешчаны калонтытул «Канон чесному кресту». Маст. аздоба — 3 вял. (63×10 мм) і 8 малых (63×5 мм) заставак, вялікі (13×20 мм) і 9 малых (8×10 мм) ініцыялаў. Вял. застаўкі надрукаваны чорнай, малыя — чырвонай фарбай. Вял. ініцыял «Г» (арк. 6-ы адв.) раней выкарыстоўваўся ў пражскіх выданнях.

«К. к. г.» быў падрабязна апісаны ў лісце І. *Добраўскага* да В. Ф. Дурыха ад 23.5.1791. У навук. ўжытак «К. к. г.» ўвёў у 1813 В. С. *Сопікаў*. Яму быў вядомы экземпляр, што належаў Ф. Р. *Баузе*, б-ка якога загінула ў 1812. У 1817 пецярбургская Публ. б-ка набыла асобна пераплеценыя акафісты і каноны С. разам з б-кай П. К. Фралова. У іх складзе быў і «К. к. г.», які можна атаясаміць з няпоўным экземплярам (адсутнічаюць арк. 5—8-ы) Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (ДПБ, 1.5.8[б]). Другі таксама няпоўны (адсутнічае апошні аркуш) экземпляр канона гэтай б-кі, што ўваходзіць у канвалют ДПБ, 1.5.8[а/2], узыходзіць, відаць, да збору А. І. Касцерына. «К. к. г.» быў і ў «Малой падарожнай кніжцы», што належала К. Манерту. Экземпляр упершыню ўведзены ў навук. ўжытак П. І. *Кепенам* у 1825. «К. к. г.» быў і ў акафістах і канонах С., апісаных у 1838 А. Дз. Чартковым. Канвалют, у які ён уваходзіць, захоўваецца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве (ДГМ, Чартк. 519; яго апісанне гл. ў арт. *«Акафіст крыжу господняму»*). У ДГМ захоўваюцца яшчэ 2 няпоўныя экземпляры «К. к. г.», адзін з якіх раней належаў П. І. Шчукіну (Меньш. 1430, зберагліся арк. 2—8-ы), а другі — А. І. Хлудаву (Хлуд. Д 142, зберагліся арк. 1—4-ы). Поўны экземпляр «К. к. г.» знаходзіцца ў складзе «Малой падарожнай кніжкі» Каралеўскай б-кі ў Капенгагене. Вядома 6 экз. «К. к. г.», толькі адзін з іх поўны. *Я. Л. Неміроўскі.*

**«КАНО́Н МАГІ́ЛЕ ГАСПО́ДНЯЙ»**, «В неделю. Правило акафисту живоносному гробу и воскресению господа нашего Ісуса Христа», недатаванае віленскае выданне С., надрукаванае каля 1522 (гл. *«Акафісты і каноны»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. «К. м. г.» — царк. песнапенне з 8 паслядоўна пранумараваных (1, 3—9) песняў і трапара (малітоўны верш). Тытульны ліст адсутнічае. На арк. 1-м кінаварам надрукаваны ўступны тэкст, на арк. 1-м адв.— 7-м адв.— тэкст канона, на арк. 7-м адв.— 8-м адв.— «Молитва по каноне». У ніжняй частцы арк. 8-га адв.— кароткае пасляслоўе (гл. с. 173). У прозвішчы С. зроблена памылка друку. Месца выдання не ўказана. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання 8 арк., сабраных у сшытак. Фармат у 8-ю долю аркуша. На паласе 19 радкоў. Набор выкананы віленскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя на верхнім баку аркуша ўверсе справа. У верхняй частцы палос калонтытул «Канон (на левай паласе развароту) гробу господню» (на правай паласе). Выданне надрукавана чорнай і чырвонай фарбамі. Маст. аздоба — 2 вял. (63×10 мм) і 11 малых (63×5 мм) заставак, 1 вял. (10×15 мм) і 9 малых (8×10 мм) буквіц. Застаўкі і буквіцы выкананы ў тэхніцы гравюры на дрэве. Кожная песня пачынаецца застаўкай, якая 9 разоў надрукавана чырвонай фарбай і 4 — чорнай. Усе буквіцы надрукаваны чырвонай фарбай.

У 1813 В. С. *Сопікаў* раскрыў склад канвалюта віленскіх выданняў С., які належаў Ф. Р. *Баузе*. У ім былі пераплецены 14 акафістаў і канонаў С., у т. л. і «К. м. г.». П. І. *Кепен* у 1825 назваў поўны экземпляр «Малой падарожнай кніжкі» К. *Манерта*, дзе быў і «К. м. г.». Лёс гэтага экземпляра невядомы. У 1817 пецярбургская Публ. б-ка набыла збор П. К. Фралова, у якім быў экземпляр «Акафістаў і канонаў» С. (140 арк.). Магчыма, у ім быў і «К. м. г.». Экземпляр «Акафістаў і канонаў» са збору Ф. А. Талстога апісаў у 1829 П. М. *Строеў*. Ён змяшчаў 10 акафістаў і канонаў і сярод іх «К. м. г.». Збор Талстога паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку ў 1830. «К. м. г.», відаць, быў і ў канвалюце, што набыў М. П. *Пагодзін* у 1847 у кнігагандляра А. Зубава. У 1852 збор Пагодзіна набыла пецярбургская Публ. б-ка, дзе канвалют быў выкарыстаны, каб дапоўніць 2 камплекты «Малой падарожнай кніжкі» акафістамі і канонамі, якія адсутнічалі. Астатняе перададзена ў 1881 маскоўскаму Румянцаўскаму музею, дзе кнігу пераплялі ў кардон, абцягнуты цiснёнай зялёнай скурай. На карашку томіка — залатое цісненне з памылковым указаннем месца выдання: «Скорина. Акафисты. Прага 1525 г.». У склад канвалюта ўваходзіць 7 акафістаў і канонаў, у т. л. «К. м. г.». На адвароце

ніжняй вокладкі пераплёту наклеены экслібрыс «Маскоўскага Публічнага і Румянцаўскага музеяў № 2245». Экземпляр знаходзіцца ў экспазіцыі Музея кнігі Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 2045). У 1838 стаў вядомы экз. «К. м. г.», які належаў А. Дз. *Чарткову* (збор у 1883 паступіў у Дзярж. Гіст. музей; ДГМ, Чартк. 519). «К. м. г.» ёсць і ў складзе «Малой падарожнай кніжкі», што належала П. І. *Шчукіну* і паступіла ў ДГМ у 1905 (Меньш. 1430). У гэтым экземпляры захаваліся толькі апошнія 4 арк. Вядомы 2 экз. «К. м. г.», якія знаходзяцца ў зарубежных б-ках. Адзін з іх зберагаецца ў Ягелонскай б-цы ў Кракаве ў складзе канвалюта з 13 акафістаў і канонаў (Сіт 561). Канвалют раней належаў кракаўскаму сабору св. Барбары ордэна езуітаў. Адпаведны запіс аб прыналежнасці датаваны 1624. Усяго вядома 7 экз. «К. м. г.» (у т. л. няпоўны экземпляр са збору Шчукіна). *Я. Л. Неміроўскі.*

**«КАНО́Н ПАКАЯ́ЛЬНЫ»,** «Покаяльный канонъ глаголемыи на утрени по вся дни», недатаванае віленскае выданне С., надрукаванае каля 1522 (гл. *«Акафісты і каноны»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. На арк. 1—4-м адв. змешчаны тэкст «К. п.», на арк. 5—8-м — тэкст «В суботу канон глаголемыи на утрени». Тытульнага ліста і пасляслоўя выданне не мае. Яно складаецца з сшытка аб'ёмам 8 арк. (адваротны бок арк. 8-га пусты). Фармат — у 8-ю долю аркуша. Набор выкананы віленскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя (на першых 4 аркушах чырвонай фарбай) размешчана на верхнім баку аркуша ўверсе справа. Маст. аздоба — 2 застаўкі (5×63 мм), змешчаныя на арк. 1-м і 5-м перад тэкстамі канонаў, і 20 ініцыялаў (10×8 мм). 18 ініцыялаў надрукаваны чырвонай фарбай, адзін (на арк. 4-м адв.) — чорнай, адзін (на арк. 5-м) — чорнай паверх чырвонай. Ініцыяламі падкрэслены пачаткі «песняў» канонаў.

Выданне захавалася ў 2 поўных і адным няпоўным экземплярах. У канвалюце Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.8$^{а/2}$). «К. п.» уплецены паміж «Шасціднеўцам» і «Саборнікам», у канвалюце Дзярж. Гіст. музея са збору А. Дз. Чарткова (Чартк. 519) — паміж «Канонам Ісусу» і «Канонам багародзіцы», у канвалюце (ДПБ, 1.5.8$^{б}$), які ўключае «Часасловец», акафісты і каноны,— у самым канцы тома (толькі арк. 5—8-ы). *Я. Л. Неміроўскі.*

**«КАНО́Н СВЯТО́МУ МІКО́ЛЕ»,** «Правило акафисту святому великому чудотворцу Николе, епископу мирликийских», недатаванае віленскае выданне С., надрукаванае каля 1522 (гл. *«Акафісты і каноны»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. Тытульны ліст адсутнічае. На арк. 1—7-м адв. змешчаны тэкст «К. с. М.», на арк. 8-м — «Молитва великому чудотворцу святому Николе глаголема по каноне». Паміж канонам і малітвай на арк. 7-м адв.— кароткае пасляслоўе (гл. с. 177). Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання — 8 арк., сабраных у сшытак. На паласе — 19 радкоў. Фармат — у 8-ю долю аркуша. Набор выкананы віленскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя змешчана на верхнім баку аркуша ўверсе справа. Тэкст надрукаваны ў 2 фарбы. У верхняй частцы палос змешчаны калонтытул «Канон с[вя]т[о]му Николе». Маст. аздоба — 4 вял. (63×10 мм) і 9 малых (63×5 мм) заставак, а таксама вялікі (10×16 мм) і 10 малых (8×10 мм) ініцыялаў. Застаўкі надрукаваны з розных форм. Малыя застаўкі аднолены кінаварам.

«К. с. М.» быў апісаны ў лісце І. *Добраўскага* да В. Ф. Дурыха ад 23.5.1791. У навук. ўжытак «К. с. М.» ўвёў у 1813 В. С. *Сопікаў* па канвалюту са збору Ф. Р. *Баузе*. Канвалют загінуў у 1812 у час пажару Масквы. У 1817 пецярбургская Публ. б-ка набыла асобна пераплецены экземпляр акафістаў і канонаў С. са збору П. К. Фралова. У яго складзе быў і «К. с. М.», які ўмоўна можна атаясаміць з няпоўным (адсутнічаюць арк. 5-ы і 8-ы) экземплярам Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (ДПБ, 1.5.8$^{б}$). Экземпляр уваходзіць у склад канвалюта, апісанне якога гл. ў арт. *«Акафіст святому Пятру і Паўлу»*. «К. с. М.» быў і ў «Малой падарожнай кніжцы», што належала К. *Манерту*. П. І. *Кепен* увёў яе ў навук. ўжытак у 1825. Месцазнаходжанне экземпляра невядома. У 1829 П. М. *Строеў* апісаў акафісты і каноны са збору Ф. А. Талстога. У канвалюце з 10 выданняў «К. с. М.» быў пераплецены чацвёртым. Пазней гэты поўны экземпляр, відаць, увайшоў у склад канвалюта ДПБ, 1.5.8$^{а}$ (апісанне гл. там жа). Поўны экземпляр «К. с. М.» быў і ў акафістах і канонах, што ў 1838 былі ўпамянуты ў каталогу збору А. Дз. Чарткова. Збор у 1883 паступіў у Гіст. Музей у Маскве (ДГМ). У канвалюце ДГМ (Чартк. 547) трэцім уплецены «К. с. М.» (апісанне гл. там жа). Поўныя і добра захаваныя экземпляры «К. с. М.» ёсць у канвалютах Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна (№ 2045), Ягелонскай б-кі ў Кракаве і Каралеўскай б-кі ў Капенгагене. На кракаўскім экземпляры «К. с. М.» ёсць надпіс 18 ст. аб прыналежнасці кнігі езуіцкаму сабору св. Барбары: «Domus Praecelsae Crac. S. J. ad S. Barbaram». Канвалют ДГМ (Меньш. 1430), што змяшчае «К. с. М.», паходзіць са збору П. І. Шчукіна (апісанне гл. ў арт. *«Акафіст Іаану Прадцечы»*). Вядома 7 экз. «К. с. М.», 6 з іх поўныя. *Я. Л. Неміроўскі.*

**«КАНО́Н СВЯТО́МУ ПЯТРУ́ І ПА́ЎЛУ»,** «В четвертокъ. Канон Святымъ верховным апостоломъ Петру и Павлу и всем дванадесяти...», недатаванае віленскае выданне С., надрукаванае каля 1522 (гл. *«Акафісты і каноны»*). Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. Тытульны ліст адсутнічае. На арк. 1—6-м адв. змешчаны тэкст канона — царк. песнапення, якое праслаўляе апосталаў. На арк. 6-м адв.— 8-м надрукавана «Молитва в четвертокъ, святымъ апостолом, глаголемая по каноне». На арк. 8-м — пасляслоўе (гл. с. 176). Аркуш 8-ы адв. пусты. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём выдання 8 арк., сабраных у сшытак. Фармат у 8-ю долю аркуша. На паласе 19 радкоў. Набор выкананы віленскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя на верхнім баку аркуша ўверсе справа. Усе кірылічныя лічбы фаліяцыі надрукаваны чырвонай фарбай. У верхняй частцы палос калонтытул «Канонъ апостоломъ». Выданне надрукавана ў 2 фарбы. Маст. аздоба — 1 вялікая (63×10 мм) і 8 малых (63×5 мм) заставак, а таксама 1 вялікі (13×20 мм) і 9 малых (8×10 мм) ініцыялаў. Вялікая застаўка надрукавана чорнай, малыя — чырвонай фарбай.

У навук. ўжытак «Канон...» увёў у 1813 В. С. *Сопікаў*. Ён апісаў канвалют з 14 акафістаў і канонаў са збору Ф. Р. *Баузе*. Збор загінуў у час пажару Масквы ў 1812. У 1817 пецярбургская Публ. б-ка набыла экземпляр «Акафістаў і канонаў», што належаў П. К. Фралову. У ім быў «Канон...», які можна атаясаміць з экземплярам, што зберагаецца ў ДПБ, 1.5.8$^{а}$. «Канон...» быў і ў поўным экземпляры «Малой падарожнай кніжкі», што належаў К. *Манерту*. П. І. *Кепен*, азнаёміўшыся ў Ландсгуце са зборам Манерта, у 1825 назваў яго ў «Храналагічным роспісе першадрукаваным славенскім кнігам» (час. «Библиографические листы»). Сучаснае месцазнаходжанне экземпляра невядома. У 1838 А. Дз. *Чаркоў* увёў у навук. ужытак поўны экземпляр «Канона...» з уласнага збору (з 1883 збор знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве). «Канон...» з гэтага збору (Чартк. 547) пераплецены разам з «Акафістам святому Пятру і Паўлу», «Канонам Іаану Прадцечы», «Акафістам святому Міколе», «Канонам святому Міколе». У 1848 В. М. Ундольскі ўвёў у навук. ўжытак экземпляр «Акафістаў і канонаў» са збору А. І. *Касцерына* (збор паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку ў 1848). Экземпляр «Канона...» з гэтага збору можна ўмоўна атаясаміць з няпоўным экземплярам Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.8$^{б}$), у якім зберагліся арк. 2-і, 3-і, 5—8-ы. Поўны экземпляр «Канона...» знаходзіцца ў складзе канвалюта, што належаў П. І. *Шчукіну*, а з 1905 зберагаецца ў ДГМ (Меньш. 1430). Апісанне канвалюта гл. ў арт. *«Акафіст Іаану Прадцечы»*. Няпоўны экземпляр «Канона...» (захаваліся толькі арк. 3-і, 4-ы, 6-ы) знаходзіцца ў складзе канвалюта са збору А. І. Хлудава, ён зберагаецца ў ДГМ (Хлуд. Д142). Канвалют уключае «Канон багародзіцы», «Канон...», «Акафіст святому Міколе», «Канон Іаану Прадцечы», «Акафіст крыжу гасподняму», «Акафіст Ісусу», «Канон Ісусу». Кніга пераплецена ў 19 ст. ў кардон, абцягнуты скурай з арнаментальным цісненнем. У канцы канвалюта скорапісам 19 ст. аднолены тэкст агульнага пасляслоўя да «Малой падарожнай кніжкі». У 1957 упершыню ўпамянуты ў друку экземпляр «Малой падарожнай кніжкі» Каралеўскай б-кі ў Капенгагене, у складзе якога ёсць і «Канон...». Усяго вядома 6 экз. гэтага канона, з іх 4 поўныя. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КАНЦО́ЎКА,** невялікая арнаментальная або сюжэтная кампазіцыя, якая ўпрыгожвае або вылучае канец тэксту кнігі ці яе раздзел.

Ва ўсх.-слав. рукапісах К. шырока не прымяняліся; іх ролю выконвалі сукупнасці прамых і хвалістых ліній, кропак, лісця раслін. Нескладаныя К. ўжыты ўжо ў Астраміравым евангеллі 1056—57. У 15—16 ст., пад уплывам зах.-еўрап. рукапіснай практыкі, больш складаныя арнаментальныя К. з'явіліся ў бел. і ўкр. рукапісах.

У пражскіх выданнях С., пры адносна шырокім выкарыстанні *заставак*, К. ўжываліся рэдка (друкаваліся з тых жа дошак, што і застаўкі). Напр., у кн. «Прытчы Саламона» пасля прадмоў на арк. 4-м адв. надрукаваны К. з той жа самай дошкі, што і застаўка на арк. 130-м кн. «Псалтыр» 1517 і на арк. 2-м у кн. «Іоў». Пазней тая ж дошка выкарыстана

для ўзнаўлення заставак у «Еклесіясце» і інш. выданнях. Невял. К. (50×8 мм) змешчана ў канцы тэксту кн. «Песня песням» на арк. 11-м. Дошку, з якой яна надрукавана, С. прымяніў адзін раз; больш яна ў яго пражскіх выданнях не сустракаецца. На пустым арк. 12-м кн. «Песня песням» вялікая гравюра (106×53 мм) з адлюстраваннем немаўлят, якія трымаюць гербавы шчыт з друкарскім знакам С., выконвае ролю агульнай К. да ўсяго выдання. Другая вялікая гравюра (106×53 мм) з адлюстраваннем «дзікіх людзей», што падтрымліваюць гербавыя шчыты, змешчана ў кн. «Прамудрасць божая» на арк. 32-м пасля пасляслоўя ў якасці К. Доўгая вузкая К. (105×8 мм) завяршае апошні аркуш (241) тэксту кн. «Царствы». Раней і потым дошку, з якой яна надрукавана, С. неаднаразова выкарыстоўваў для ўзнаўлення заставак. К. (105×112 мм) з арнаментам з лісця аканта змешчана на арк. 6-м у канцы прадмовы да кн. «Левіт». Дошку, з якой яна надрукавана, С. выкарыстаў у кн. «Лічбы» на арк. 74-м у якасці К. і ў кн. «Плач Ераміі» на арк. 12-м — у якасці застаўкі. У кн. «Прарок Данііл» на арк. 4-м адв. пасля прадмоў К. надрукавана з той жа дошкі, што і ў «Прытчах Саламона», яна ж ужыта ў многіх інш. выданнях у якасці застаўкі. Многія канцавыя палосы пражскіх выданняў С. завяршаў фігурным наборам (у выглядзе перакуленага трохвугольніка) або знакамі прыпынку («сцішыцай»). У віленскіх выданнях С. адны і тыя ж К. служаць часта ў якасці *віньетак* і заставак, што завяршаюць папярэдні і адкрываюць наступны тэкст. У некат. выпадках адносна выкарыстання віньетак у віленскіх выданнях можна гаварыць толькі пра К. Напр., чыстымі К. з'яўляюцца арнаментальныя аздобы на арк. 161-м, 163-м, 164-м адв. 3-га ліку і інш. «Апостала» 1525. У якасці К. на арк. 112-м 3-га ліку ўжыта вялікая, надрукаваная чырвоным колерам віньетка з выявай выдавецкага знака С. (Гл. таксама арт. *Графічная арнаментыка выданняў Ф. Скарыны*).

*Літ.:* 564; 672; 789. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КАПЕНГА́ГЕН** (København) сталіца Даніі, гандл.-эканам., паліт. і культ. цэнтр краіны, адзін з буйнейшых портаў Паўн. Еўропы.

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1043 як вёска Хаўн (гавань), з 1170 — К. У 1254 атрымаў гарадскі статус, з 1433 — сталіца і каралеўская рэзідэнцыя. У 1479 заснаваны ун-т. Да пачатку 16 ст. К. меў развітую сістэму абарончых збудаванняў: муры, умацаваныя землянымі насыпамі, вежы. Асн. астраўныя раёны К. злучаліся мастом з пад'ёмным цэнтр. пралётам, пад якім маглі праходзіць буйныя марскія судны. Нерэгулярны па планіроўцы горад быў шчыльна забудаваны драўлянымі і фахверкавымі дамамі, у цэнтры пераважалі мураваныя жыллёвыя будынкі з высокімі вільчыкавымі дахамі. Горад упрыгожвалі каралеўскі замак і некалькі іншых буйных манументальных збудаванняў (саборы, цэрквы, ратушы) у гатычным стылі.

У К., магчыма, жыў С. ў сярэдзіне 1510-х г. Падставу для падобнай гіпотэзы даў кароткі запіс на адным з экзаменацыйных дакументаў Падуанскага ун-та, у якім С. названы — «secrtarius regis Datiae», або «Daciae» («сакратар караля Даніі, або «Дакій»). Гэты дакумент, выяўлены італ. прафесарам Этора Ла Гата, стаў вядомы даследчыкам у 1937. На думку А. В. *Флароўскага,* прыгаданы запіс дазваляе меркаваць, што С. пасля заканчэння Кракаўскага ун-та і да экзамена ў Падуі ў 1512 выконваў сакратарскія абавязкі пры каралеўскім двары ў Даніі. На карысць гэтай гіпотэзы сведчыць тое, што ступень доктара свабодных навук пасля завяршэння вучобы ў Кракаве С. атрымаў у адным з еўрап. ун-таў. Паводле Л. І. *Уладзімірава,* С. мог выконваць сакратарскія абавязкі ў пасольстве польскага караля і вял. князя літ. *Жыгімонта І,* накіраваным у К. у 1509 да заключэння дагавору аб дружбе. Пасля ад'езду пасольства С. мог нейкі час працаваць у дацкай каралеўскай канцылярыі. Веданне лац. мовы давала С. магчымасць свабодна выконваць сакратарскія абавязкі ў любой еўрап. краіне, мець зносіны з дзярж., паліт. дзеячамі, вучонымі, педагогамі, студэнтамі. Сакратарская практыка С., верагодна, адыграла немалую ролю ў атрыманні ім месца ў канцылярыі віленскага біскупа *Яна* ў 1520-я г. У *Каралеўскай бібліятэцы* ў К. зберагаецца экземпляр «Малой падарожнай кніжкі» С. з «Пасхаліяй».

*Літ.:* 68; 312. *Г. Я. Галенчанка.*



Герб **Капенгагена.** 16 ст. Рэканструкцыя.




М. Капернік.

**КАПЕ́РНІК** (Kopernik, Copernicus) Мікалай (1473—1543), польскі астраном, стваральнік геліяцэнтрычнай сістэмы свету. Вучыўся ў Кракаўскім ун-це (1491—95), удасканальваў веды ў італ. ун-тах Балоньі, Падуі, Ферары, дзе вывучаў кананічнае права і медыцыну, матэматыку, астраномію. У 1503 атрымаў ступень доктара права ў ун-це Ферары. З 1512 жыў у г. Фромбарку, дзе арганізаваў абсерваторыю і больш як 30 гадоў вёў астранам. назіранні. Вынікі навук. даследаванняў абагульнены К. у творы «Пра абарачэнне нябесных сфер» (шэсць кніг, апубл. ў 1543), які завяршаў распрацоўку новай тэорыі пабудовы свету — геліяцэнтрычнай. Яе асновай паслужылі вылічаныя К. залежнасці паміж бачным рухам планет і Сонца. Паводле вучэння К., Зямля не займае цэнтр. становішча ў Сусвеце, а з'яўляецца адной з планет, што абарачаецца вакол Сонца і сваёй восі. Гэта поўнасцю адмаўляла традыцыйную для сярэднявечча геацэнтрычную (з Зямлёй у цэнтры) сістэму свету Пталамея. Геліяцэнтрызм К. адзначаў рэв. пераварот у поглядах на прыроду, фарміраваў ідэю адзінства свету, агульнасці фізічных законаў, якія кіруюць «нябеснымі» і «зямнымі» працэсамі, наносіў сакрушальны ўдар па рэлігійна-схаласт. уяўленнях аб стварэнні свету. Погляды К. неслі на сабе адбітак пэўнай гіст. абмежаванасці: захаваў уяўленне пра канечны Сусвет, абмежаваны сферай нерухомых зорак, прынцыпы раўнамернага руху планет на кругавых арбітах. Сапраўдна рэвалюцыйны характар вучэння К. царква зразумела толькі ў 17 ст., калі яго твор быў уключаны ў «Індэкс забароненых кніг» (1616).

Паколькі С. быў сучаснікам К., то зусім магчыма, што ён быў знаёмы з яго дзейнасцю і поглядамі. Упершыню імя К. магло стаць вядома С., калі ён вучыўся ў Кракаўскім ун-це, які за некалькі гадоў да гэтага закончыў К. Менавіта ў гэты час, пасля вяртання з Італіі (1504), К. некалькі месяцаў знаходзіўся ў Кракаве і наведваў ун-т. Сярод універсітэцкіх выкладчыкаў былі і тыя, што вучылі С. і добра ведалі К. (напр., *Ян з Глогава*). Вядома, што С., каб атрымаць ступень доктара медыцыны, у 1512 накіраваўся ў Падуанскі ун-т, дзе незадоўга да гэтага на мед. ф-це вучыўся К. (1501—03). Іх яднае не толькі адукацыя і ідэйнае развіццё. У сваёй шматбаковай дзейнасці С. займаўся таксама і астранам. даследа-

ваннямі (гл. *Астранамічныя звесткі* ў выданнях Ф. Скарыны), уважліва сачыў за навейшымі адкрыццямі ў астраноміі. Яму былі вядомы «Астранамічныя табліцы» Іагана Рэгіямантана, што з'яўляліся настольнай кнігай К. Усё гэта дае падставу меркаваць, што ў канцы свайго жыцця С. мог пазнаёміцца з кнігай К. «Пра абарачэнне нябесных сфер», хоць сам ён прытрымліваўся традыц. арыстоцеле-пталамеевай сістэмы свету.

*Тв.*:Рус. пер. О вращении небесных сфер. М., 1964.

*Літ.*: Николай Коперник: К 500-летию со дня рождения, 1473—1973. М., 1973; Цукерман А. Я. Вучэнне Мікалая Каперніка ў Беларусі (канец XVII—60-я гады XVIII ст.) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1975. № 4. *Г. У. Грушавы.*

**КАПРЭ́ЕВА** Таццяна Мікалаеўна (н. 1917), рускі сав. кнігазнавец, бібліёграф, гісторык-славіст. З 1970-х г. даследуе асобныя пытанні ў галіне скарыназнаўства. Упершыню паспрабавала абгрунтаваць непасрэдную сувязь кнігавыдавецкай дзейнасці С. з рус. рукапіснай кніжнай традыцыяй. На яе думку, у якасці крыніц сваіх тэкстаў Біблії С. выкарыстаў (акрамя зах.-еўрап., старaслав., бел. і укр.) пераклады наўгародскага гуртка кніжнікаў канца 15 ст. К. лічыць, што на сац. погляды С.— ідэал утапічнага хрысц. камунізму, уяўленні аб гарманічным квітнеючым грамадстве, заснаваным на прынцыпах сац. справядлівасці і братэрства,— паўплывалі ідэі чэш. Рэфармацыі, зах.-еўрап. і ўсх.-слав. гуманістычна-адраджэнцкая думка. Падкрэслівае дэмакратызм, гуманіст. і асв. накіраванасць дзейнасці С., яе непарыўнасць з культ.-гіст. працэсам ва ўсх.-слав. краінах. У сваіх працах К. шмат увагі аддае ідэйным і культурным сувязям Беларусі, Расіі, Украіны ў 15—16 ст.

*Тв.*: Западные источники в работе новгородских книжников конца XV — начала XVI в.// Фёдоровские чтения, 1979. М., 1982; Иван Фёдоров, Острожская Библия и новгородский кружок книжников конца XV в.// Тамсама, 1981. М., 1985. *Г. Я. Галенчанка.*

**КАРАЛЕ́ЎСКАЯ БІБЛІЯТЭ́КА** ў Капенгагене, навуковая б-ка Даніі і ўсёй Скандынавіі. Адкрыта ў 1793. Мае багаты фонд слав. рукапісаў і старадрукаваных кніг, у т. л. адзіны з двух захаваных экземпляраў «Азбукі» (1573) Івана Фёдарава. У б-цы зберагаецца найб. поўны экземпляр «Малой падарожнай кніжкі» С. з «Пасхаліяй» на 1523—43, паводле якой даследчыкі мяркуюць, што «Малая падарожная кніжка» надрукавана каля 1522. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КАРАМЗІ́Н** Мікалай Міхайлавіч (1766—1826), рускі пісьменнік, гісторык, публіцыст. Прадстаўнік сентыменталізму ў рус. л-ры і кансерватыўнай дваранскай гістарыяграфіі 1-й чвэрці 19 ст. Выдаваў «Московский журнал» (1791—92), заснаваў часопіс «Вестник Европы» (1802). Апошнія дзесяцігоддзі жыцця працаваў над складаннем «Гісторыі дзяржавы Расійскай» (т. 1 — 12, 1816—29) — апалагетыкі самаўладства. Характарызуючы ў заўвагах да 1-га т. «Гісторыі...» узровень адукаванасці ў Стараж. Русі, К. адзначыў існаванне розных перакладаў Біблії. На яго думку, пераклад С. «Пяцікніжжа», кн. «Царствы», некат. «Прарокаў», «Апостала» істотна адрозніваўся ад «нашага старажытнага славянскага перакладу» (маецца на ўвазе астрожскае выданне Біблії 1581). На погляд К., мова скарынінскіх перакладаў значна бліжэй да тагачаснай рус. мовы, чым мова стараж.-слав. Біблії, якую пераклалі ў Маравіі. Напэўна, К. не была вядома як бібліяграфічная праца В. *Сопікава,* бо некалькі пражскіх кніг С. (кн. «Царствы», «Эсфір», «Юдзіф» і інш.), якія былі ў яго б-цы, ён умоўна далучаў да выданняў першадрукара, зыходзячы толькі з падабенства шрыфту. К. ведаў і віленскі «Апостал» 1525 і, спасылаючыся на пасляслоўе да яго, сцвярджаў, што С. пераклаў усю Біблію. У тых жа заўвагах да 1-га т. «Гісторыі...» К. параўноўваў фрагменты тэкстаў з кн. «Іоў», якая выдадзена С. у Празе, з стараж.-слав. перакладам. Лёс кніг С., якія належалі К., невядомы. *Г. Я. Галенчанка.*

**КАРАТА́ЕЎ** Іван Пракопавіч (1817—86), рускі бібліёграф, бібліяфіл. Меў багатую калекцыю старадрукаваных кірыліцкіх кніг пятроўскага часу, календароў, каталогаў (больш як 750 тамоў), якую ў 1861 набыла пецярбургская Публ. б-ка. У калекцыі былі некат. кнігі пражскай «Бібліі» С., «Апостал» 1525, інш. бел. выданні. Аўтар рэтраспектыўных апісанняў «славяна-рускіх» старадрукаваных кніг 15—18 ст., сярод якіх каля 150 бел. выданняў. У «Бібліяграфічных заметках пра старaславянскія друкаваныя выданні 1491—1730» (Спб., 1872) сфармуляваў асн. прынцыпы апісання стараж. кірыліцкіх кніг. Адзін з першых рус. бібліёграфаў звярнуў увагу на выяўлены А. Я. Віктаравым у зборы А. І. Хлудава пражскі «Псалтыр» 1517. У бібліяграф. працах зрабіў поўнае і разгорнутае апісанне ўсіх вядомых у цяперашні час выданняў С. (23 кнігі пражскай «Бібліі», віленскія выданні — «Апостал» і ўсе часткі «Малой падарожнай кніжкі»). Адзначыў таксама месцы зберагання (11 б-к і ўласных збораў, якія маюць пражскія кнігі С., 6 — віленскія). К. звярнуў увагу на мову выданняў С., падабенства шрыфтоў нясвіжскага «*Катэхізіса» 1562* з шрыфтамі С., прыпіскі Багдана Онкава на некат. экземплярах пражскіх выданняў С. На аснове прадмоў С. да *«Саборніка»* К. лічыў, што С. пераклаў усю «Біблію». «Апостал» са збору К. апісаны Я. Л. *Неміроўскім.* Архіў К. не знойдзены.

*Літ.:* 670; Лабынцев Ю. А. К биографии И. П. Каратаева//Фёдоровские чтения, 1979. М., 1982. *Г. Я. Галенчанка.*

**КАРАТКЕ́ВІЧ** Уладзімір Сямёнавіч (1930—84), беларускі сав. пісьменнік. Лаўрэат Дзярж. прэміі імя Я. Коласа (1984) і Літ. прэміі СП БССР імя І. Мележа (1983). У вершы «Скарына пакідае радзіму» адлюстраваў любоў С. да Радзімы. Велічны вобраз С. спадарожнічае паэту і ў вершы «Багдановічу», у якім ён беларусаў называе ўнукамі С. У рамане К. «Каласы пад сярпом тваім» (1965), прысвечаным К. Каліноўскаму, ёсць сцэна, напоўненая болем за лёс кнігі С. У рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» (1966) і ў кн. «Зямля пад белымі крыламі» (1977, раздзел «Беларускія гуманісты») К. даў асн. звесткі пра жыццё С., падкрэсліў прагрэсіўнае значэнне яго асв. дзейнасці. Адзначыў, што кнігі С. былі сродкамі для пашырэння пісьменнасці, асветы, культуры, а пераклад «Бібліі» стаў узорам бел. літ. мовы 16 ст. К. пісаў, што С. аддана служыў свайму народу, змагаўся за родную культуру, мову, у прадмовах да сваіх выданняў заклікаў быць памяркоўнымі да ўсіх народаў, лічыў бел. мову не горшай за латынь. У арт. «Подзвіг Францыска Скарыны» (Беларусь. 1980. № 4) К. ахарактарызаваў стан навукі пачатку 16 ст., тагачаснае разуменне зямлі і космасу, рэлігію, класавыя ўзаемаадносіны, азнаёміў з поглядамі першадрукара, адзначыў, што дзейнасць С. яшчэ не ацэнена па заслугах. У арт. «Людзям простым для добрага навучэння» (Ніва. Беласток. 1967. 6 жн.) К. ахарактарызаваў эпоху, у якую жыў і дзейнічаў С., паказаў яго як вучонага, асветніка. Даў ацэнку кнігам «Бібліі» С., падкрэсліў іх паліграф. майстэрства і дэмакратычны характар, назваў іх «сапраўдным цудам паліграфіі гэтых гадоў», «кнігамі-працаўнікамі, кнігамі-сябрамі і спадарожнікамі кожнага дня, у дарозе і дома». У эсэ «Вера ў сілу дабрыні, або Сын Беларусі, сын Прагі» (ЛіМ. 1977. 11 сак.) К., паказваючы складаны жыццёвы шлях С., імкнуўся перадаць яго думкі і пачуцці. Напісаў уступ да Падуанскіх дакументаў аб С., апублікаваных Я. *Парэцкім* (Неман. 1967. № 8). *Н. Б. Ватацы.*

**КА́РСКІ** Яўхім Фёдаравіч (1860—1931), савецкі філолаг-славіст, заснавальнік беларускай філалогіі, фалькларыст, этнограф. Акад. Пецярб. АН, Правадз. чл. Інбелкульта (1922), Чэшскай АН (1929). К. належаць шматлікія працы ў галіне бел. мовазнаўства, л-ры і фальклору, дыялекталогіі і гісторыі, бел. і рус. моў, славяназнаўства, палеаграфіі. Важнейшая фундаментальная праца К. «Беларусы» (т. 1—3, 1903—22) прысвечана гісторыі бел. народа, яго мове, л-ры і фальклору. У працы «Што такое старажытная заходнеруская гаворка» (1897) назваў С. вядомым перакладчыкам «Бібліі» на бел. мову. У 1-м томе «Беларусаў» (Варшава, 1903) К. на падставе даведніка І. Каратаева «Апісанне славянарускіх кніг, надрукаваных кірылаўскімі літарамі» (т. 1. Спб., 1883) даў поўны пералік скарынінскіх выданняў, якія разглядаў як крыніцы вывучэння бел. мовы. К. прывёў вядомыя ў яго час звесткі пра месца зберагання гэтых кніг, апісанне іх даследчыкамі, урыўкі і здымкі са скарынінскіх кніг у навук. выданнях 19 ст. У гэтым жа раздзеле прыведзены выказванні асобных вучоных аб мове С. У 2-м выпуску 3-га тома «Беларусаў» (выд. ў 1921, прысвечаны старой зах.-рус. пісьменнасці) змясціў нарыс аб выдавецкай і літ. дзейнасці С., дзе прывёў вядомыя ў той час біягр. звесткі пра С. Падкрэсліваў, што дзейнасць С. і яго выданні — выдатная з'ява зах.-рус. культуры, у асобе С. бачыў самага адукаванага чалавека таго

часу. К. звярнуў увагу, што перад выданнем сваіх кніг С. ставіў больш адукацыйныя, чым канфесіянальныя мэты і гэтым мэтам падпарадкаваў нават многія знешнія асаблівасці сваіх выданняў: фармат, шрыфт, паперу, ілюстрацыі і інш. Услед за П. У. *Уладзіміравым* К. адзначаў бел. аснову мовы С.

*Літ.:* Булахов М. Г. Е. Ф. Карский. Мн., 1981. *А. І. Жураўскі.*

**КАРЦАН** Ян (Joannes Veliconsis, ? — каля 1611), друкар і кнігавыдавец на Беларусі і ў Літве. З 1576 (пасля ад'езду Д. *Ланчыцкага*) друкар *Лоскай друкарні*. Надрукаваў 7 кніг на польск. і лац. мовах. Выдаў твор С. *Буднага* «Аб галоўных палажэннях хрысціянскай веры» (на польск. мове, 1576), творы М. Чаховіца, Я. Палеалога, А. Маджэўскага Фрыча і інш. У 1580 пераехаў у Вільню, дзе заснаваў уласную друкарню, у якой выдаў больш за 100 назваў кніг на польск., лац. і грэч. мовах. З К. супрацоўнічалі (былі аўтарамі або перакладчыкамі) А. Рымша, Я. Казаковіч, С. Будны і Б. Будны, Я. Ліцыній Намыслоўскі і інш. Былі перакладзены і выдадзены творы Цыцэрона, іншых антычных аўтараў, «Апафегматы» Б. Буднага (1599), паэма Казаковіча «Арэх валоскі» (1603), палемічныя выданні, «Масковія» А. Пасевіча (1586), календары, мед. дапаможнікі, падручнікі. Большая частка віленскіх выданняў К. — свецкія кнігі. К. прадаўжальнік выдавецкіх традыцый С., кнігі, што ён выдаваў, вылучаліся высокім узроўнем друкарскага майстэрства. Пасля смерці К. друкарня перайшла да яго сына Іосіфа.

*Літ.:* 19; 130; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wrocław; Krakow, 1959. S. 107—115. *М. Б. Батвіннік.*

**КАСПЯРОВІЧ** Мікалай Іванавіч (1900—45), беларускі сав. этнограф, мовазнавец і літаратуразнавец. У арт. «Культура беларускай кніжкі» (Маладняк. 1926. № 10) вылучыў праблему распрацоўкі бел. кнігадрукаваннем нац. стылю на падставе спалучэння лепшых набыткаў скарынінскай, усёй старабел. друкарскай традыцыі з патрэбамі новай, сацыяліст. кнігатворчасці. Перасцерагаючы ад фармальна-вонкавага наследавання спадчыны С., падкрэсліў неабходнасць творчага развіцця яе гал. прынцыпаў: прастаты, адпаведнасці шрыфту фанетычным асаблівасцям бел. мовы, гарманічнага аздаблення кніг, знешняй успрымальнасці. У артыкуле пра Беларускі краязнаўчы музей ў Вільні (Наш край. 1929. № 3) зазначыў сярод музейных кніжных фондаў частку (70 арк.) «Біблії» С. і інш. бел. стерадрукі 16—17 ст. *А. К. Каўко.*

**КАСЦЕРЫН** Аляксей Іванавіч (? — 1847), пецярбургскі купец, калекцыянер рукапісаў і старадрукаваных кніг. У б-цы К. было 1026 старадрукаваных слав. кніг, у т. л. амаль усе пражскія выданні С. (адсутнічаў «Псалтыр» 1517), «Апостал» 1525 і поўны экземпляр «Малой падарожнай кніжкі». Падрабязнае апісанне збору К. зрабіў рускі этнограф-фалькларыст, археолаг і палеограф І. П. Сахараў (выданне не выйшла, захаваліся яго карэктурныя аркушы, якія зберагаюцца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна). У 1848 В. М. Ундольскі склаў і надрукаваў каталог збору К. У кн. «Эсфір», «Плач Ераміі» (зберагаюцца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе) ёсць уладальніцкія запісы 1663 смаленскага бурмістра С. С. Жукава. Пасля смерці К. яго б-ка была куплена С. Ф. Салаўёвым, які ў 1848 падараваў яе Публ. б-цы ў Пецярбургу.

*Літ.:* 766. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА** на Беларусі ў 15—16 ст., адна з асн. (разам з праваслаўнай) хрысц. цэркваў, якія існавалі ў Вял. кн. Літоўскім, у т. л. на Беларусі. Адрозніваецца ад правасл. асобнымі догматамі, абрадамі, канонамі і інш. (гл. *Праваслаўная царква* на Беларусі ў 15—16 ст., *Хрысціянства).*

Пранікненне каталіцызму на землі Літвы і Беларусі пачалося яшчэ ў 13—14 ст. і спачатку мела спарадычны характар. У 1251 вялікі князь Вял. кн. Літоўскага Міндоўг па паліт. матывах прыняў каталіцкае веравызнанне, згадзіўся адкрыць касцёл у Навагрудку і ў 1253 прыняў ад рымскага папы каралеўскую карону. У 1260 Міндоўг вярнуўся ў язычніцтва. Пранікненне каталіцызму на Беларусь было часова прыпынена. У пач. 14 ст. з Рыгі ў Полацк перасяліліся група католікаў; у 1323 вял. князь літоўскі Гедымін запрасіў манахаў дамініканцаў і францысканцаў перасяліцца ў Літву. Уплыў К. ц. на тэр. Вял. кн. Літоўскага пашырыўся пасля Крэўскай уніі 1385, адной з умоў якой было хрышчэнне літоўцаў-язычнікаў паводле каталіцкага абраду. У 1387 вял. кн. літоўскі і кароль польскі Ягайла (Уладзіслаў) сабраў у Вільні з'езд літ. баяр і ахрысціў іх. Баяры не пярэчылі гэтаму, бо каталіцызм, які ўмацоўваў уладу феадалаў, адпавядаў іх інтарэсам. Аднак у каталіцтва перайшла не ўся знаць Літвы, у т. л. князі з дынастыі Гедымінавічаў, што раней былі ахрышчаны паводле правасл. абраду, і феадалы, якія мелі надзелы і маёнткі на Беларусі і Украіне. Нар. масы Літвы не прынялі новай рэлігіі і на працягу яшчэ 2 стагоддзяў заставаліся язычнікамі. Вял. кн. літоўскія (з 1386 католікі) апякалі К. ц., бо яна ўмацоўвала іх уладу і была прыхільніцай саюзу з Польшчай, з якой яны былі звязаны дынастычнымі сувязямі або самі былі польскімі каралямі. Спачатку каталіцызм у Вял. кн. Літоўскім пашыраўся на ўсх. Літву і бел. землі, блізкія да Вільні. У 1387 утворана Віленская каталіцкая епархія (у 1388 зацверджана рымскім папам), 7 каталіцкіх парафій, у т. л. 3 на тэр. Беларусі: у Крэве (Ашмянскі р-н), Абольцах (Талачынскі р-н), Гайне (Лагойскі р-н). Напачатку епархія падпарадкоўвалася папе, з 1415 — прымасу польскай К. ц. архібіскапу гнезненскаму. Да канца 14 ст. ў Вял. кн. Літоўскім існавала 12 касцёлаў, з іх 6 на Беларусі (у Быстрыцы, Гродне, Лідзе, Навагрудку і інш.), да 1430—27, у т. л. 12 на Беларусі. Дзярж. ўлады Вял. кн. Літоўскага стваралі для К. ц. прывілеяванае становішча. Яе зямельныя надзелы павялічваліся за кошт падараванняў ад вял. князёў. У 1387 Ягайла перадаў ва ўласнасць Віленскай епархіі некалькі валасцей (у т. л. на Беларусі Дуброўну каля Ліды і Бакшты) з 50—60 вёскамі, больш за 600 «дымоў». Гэта была першая царк. латыфундыя ў дзяржаве. У 1399 епархія атрымала ад Вітаўта Стрэшынскую воласць (цяпер Жлобінскі р-н) з 10 вёскамі і 100 «дымамі», у 1430 — Ігуменскую воласць з 15—20 вёскамі і 350 «дымамі». Паводле прывілея Ягайлы ад 22.2.1387 К. ц. атрымлівала поўны імунітэт у сваіх маёнтках у фінансавых і судовых пытаннях, вызвалялася ад дзярж. падаткаў і павіннасцей, а насельніцтва маёнткаў трапляла ў поўную залежнасць ад царквы. 21.10.1430 Ягайла пашырыў гэты прывілей і на маёнткі, якія К. ц. атрымае ў будучым. Да сярэдзіны 16 ст. Віленскай епархіі належала 285 вёсак і 16 мястэчак (каля 40 тыс. жыхароў, 1,5 % нас. дзяржавы). 2/3 гэтай латыфундыі было на Беларусі. За 1387—1550 на тэр. епархіі заснавана 259 парафій (85 вял. князямі, 163 феадаламі, 11 царквой), у т. л. 93 на бел. землях. Размяшчаліся яны пераважна на захадзе Беларусі — да лініі Іказнь — Будслаў — Нясвіж — Пінск. Да сярэдзіны 16 ст. К. ц. панавала на землях Літвы і паўн.-зах. Беларусі. Правасл. царква захоўвала свой уплыў на насельніцтва большай ч. Беларусі, у т. л. і зах. раёнаў; ва ўсх. раёнах (Магілёў, Мсціслаў, Орша) касцёлаў не было да пач. 17 ст. (у канцы 16 ст. адзін касцёл існаваў у Полацку). У 1528 каталіцкая царква мела значную частку феад. уладанняў Вял. кн. Літоўскага. У 14—15 ст. у Вял. кн. Літоўскім заснаваны 4 каталіцкія епархіі: Віленская, Кіеўская, Луцкая (уваходзіла і Брэсцкая зямля) і Жмудская. Епархіі падзяляліся на дэканаты, апошнія — на парафіі. Біскупаў выбіралі капітулы (саветы вышэйшага духавенства) у епархіях. З 1383 да 1550 было 12 віленскіх біскупаў: першыя 4 з іх былі палякі, астатнія з Вял. кн. Літоўскага. З 1508 усе біскупы — прадстаўнікі вышэйшай знаці Вял. кн. Літоўскага. У 16 ст. ў К. ц. ў Вял. кн. Літоўскім служылі выключна мясцовыя ўраджэнцы. К. ц. мела ў дзяржаве вял. паліт. правы. Яе біскупы займалі месцы ў панахрадзе — вышэйшым органе дзярж. улады, які фактычна і юрыдычна абмяжоўваў правы вял. князя. Магнацкае паходжанне біскупаў давала ім магчымасць дадаткова ўплываць на дзярж. справы. Па сацыяльных матывах паліт. пазіцыі магнатаў і вярхоў К. ц. ў Вял. кн. Літоўскім, уключаючы і Беларусь, супадалі.

У эпоху феадалізму К. ц. прыўносіла ў Вял. кн. Літоўскае элементы польскай і пераважна зах.-еўрап. культуры. Такі ўплыў адыграў пэўную ролю ў развіцці грамадска-паліт. думкі, культавага і абарончага дойлідства, музыкі, пашырэнні асветы. Выхадцы з Беларусі вучыліся ў Кракаўскім ун-це, у іх ліку і С. (1504—06). Ён, безумоўна, ведаў, што ў 1491 у Кракаве ў друкарні Ш. Фіёля былі выдадзены першыя кнігі на слав. мове, і, напэўна, быў знаёмы з імі. Не мог С. не ведаць таго, што польская К. ц., якой падпарадкоўвалася арганізацыйна К. ц. на тэр. Літвы, Беларусі і Украіны, абвінавацiла Фіёля ў распаўсюджанні варожых каталіцызму ідэй і забараніла далейшае выданне кніг кірыліцкім шрыфтам. Не выключна, што яшчэ ў Кракаве С. прыйшоў да думкі аднавіць слав. кнігадрукаванне. Выданне С. у Празе ў 1517—19 кніг Бібліі на бел. мове для людзей «паспалітых к доброму научению» пярэчыла дагматам К. ц., якая прызнавала кананічнай толькі Біблію на лац. мове і рабіла ўсё, каб пазбавіць простых веруючых магчымасці самім чытаць Свяшчэннае пісанне. Таму выдавецкая дзейнасць С. ва ўмовах каталіцкай рэакцыі патрабавала грамадзянскай мужнасці і смеласці, у ёй адлюстраваўся дух таго мяцежнага часу, вядомага як Рэфармацыя. Як на адну з магчымых прычын спынення выдавецкай дзейнасці

С. ў Празе ўказваюць на ўзмацненне рэакцыі К. ц. ў Чэхіі і праследаванне ерэтычнай л-ры. Існуе версія, што пры пераездзе С. з Прагі ў Вільню ў Вроцлаве мясц. ўлады або К. ц., западозрыўшы друкара ў прыхільнасці да Рэфармацыі, канфіскавалі ў яго кнігі і значную частку друкарскага матэрыялу. Канфесіянальная прыналежнасць С. дакладна не вызначана, але вядома, што ён служыў сакратаром у віленскага біскупа *Яна.*

*Літ.:* Мчедлов М. П. Католицизм. 2. изд. М., 1974; Мараш Я. Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. *А. П. Грыцкевіч.*

**КАТАЛО́Г ВЫДА́ННЯЎ Ф. СКАРЫ́НЫ.** Сярод крыніцазнаўчых прац пра жыццё і дзейнасць С. асаблівае значэнне мае зводны каталог яго выданняў з падрабязным апісаннем усіх захаваных экземпляраў. Кожны экземпляр старадрукаваны кнігі па-свойму унікальны. Асаблівую цікавасць для даследчыкаў маюць разнастайныя маргіналіі і запісы на старонках кніг. Яны часам даюць важныя звесткі пра абставіны паяўлення выданняў, умовы іх распаўсюджання, склад чытальніцкага асяроддзя і г. д. Гэтай тэме прысвечаны працы Я. Л. Немірoўскага «Пражскія выданні Францыска Скарыны ў фондзе Аддзела рэдкіх кніг» (Працы Дзяржаўнай б-кі СССР імя У. І. Леніна, 1976. Т. 13) і «Апостал» 1525 г. Францыска Скарыны: Вопыт кнігазнаўчага апісання» (там жа, 1978. Т. 14). Працы прысвечаны калекцыі Дзярж. б-кі СССР імя Леніна, аднак у іх падрабязна апісаны ўсе пражскія выданні, а таксама віленскі «Апостал» С.; улічаны ўсе вядомыя ў цяперашні час экземпляры, указана камплектнасць гэтых экземпляраў, прыведзены ўладальніцкія запісы і г. д. Рыхтуецца (1988) *«Зводны каталог старадрукаваных выданняў кірылаўскага і глаголічнага шрыфтоў».* Аддзелам рэдкіх кніг Дзярж. б-кі імя Леніна выдадзены бібліяграф. даведнік «Пачатак кнігадрукавання ў Беларусі і Літве. Жыццё і дзейнасць Францыска Скарыны. Апісанне выданняў і паказальнік літаратуры. 1517—1977» (М., 1978). У кожным з 42 вядомых у цяперашні час выданняў С. прыведзены пачатковыя словы тытульных лістоў або першых аркушаў, указаны фармат (у долях аркуша), аркушавая формула, колькасць радкоў на паласе, вышыня 10 радкоў шрыфту, даныя аб фаліяцыі, колькасці фарбаў, якімі надрукавана выданне. Звесткі аб мастацкай аздобе маюць спасылкі на аркушы кнігі, дзе надрукаваны ілюстрацыі, застаўкі, віньеткі, ініцыялы, а таксама на колькасць адбіткаў і ў асобных выпадках дошак. Дадзены пералік экземпляраў, што збераглiся, з указаннем шыфраў або інвентарных нумароў кнігасховішчаў, а таксама камплектнасці тых экземпляраў, з якімі можна было азнаёміцца. Апублікаваны найбольш цікавыя ўладальніцкія запісы.

Экземпляры выданняў С. ў цяперашні час зберагаюцца ў б-ках і архівасховішчах Масквы, Ленінграда, Кіева, Мінска, Вільнюса, Львова, Адэсы, Казані, Ужгарада, Цюмені, Вроцлава, Лондана, Прагі, Капенгагена, Кракава, Любляны. Фрагменты скарынінскіх выданняў ёсць у Варшаве, Кракаве, Кембрыджы. Цяпер вядомы 390 экземпляраў выданняў С., у т. л. 239 пражскіх і 151 экз. віленскіх. Пражскія выданні знаходзяцца пераважна ў кнігасховішчах нашай краіны. Калі не лічыць фрагментаў, мы ведаем толькі пра наяўнасць 4 кн. «Царствы» ў Б-цы Брытанскага музея ў Лондане і кн. «Ісус Сірахаў» у Пражскім Нацыянальным музеі. Фрагменты асобных кніг пражскай «Бібліі» знаходзяцца ў Народнай б-цы ў Варшаве, у Б-цы Мацiцы славацкай (ЧССР), Нью-Йоркскай публ. б-цы і ў Ягелонскай б-цы ў Кракаве. Варшаўскі фрагмент — 8 невялікіх аркушаў — выняты з пераплёту базельскага выдання 1525 каментарыяў Марціна Лютэра да паслання апостала Паўла галатам.

З 151 экземпляра ўлічаных віленскіх выданняў 107 знаходзяцца ў нашай краіне, 44 — за мяжою. Нядаўна апісаны адзін з найб. поўных экземпляраў «Малой падарожнай кніжкі», які знаходзіцца ў Каралеўскай б-цы ў Капенгагене. Ва універсітэцкай б-цы Любляны зберагаецца віленскі «Псалтыр» 1522, у Б-цы Брытанскага музея — віленскі «Псалтыр» і «Апостал» 1525. Асаблівую каштоўнасць мае канвалют з выбранымі акафістамі і канонамі з «Малой падарожнай кніжкі», які знаходзіцца ў Кракаве ў Ягелонскай б-цы. У 1624 канвалют належаў езуіцкай калегіі пры кракаўскім касцёле св. Барбары. Аб гэтым сведчаць запісы на тытульным лісце і на арк. 4 «Канона святому Міколе». Экземпляр акафістаў з «Малой падарожнай кніжкі», які добра захаваўся, выяўлены ў б-цы Вроцлаўскага ун-та; яго падрабязна апісаў Ю. А. Лабынцаў (Працы Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна, 1978. Т. 14).

Усе выданні С. выключна рэдкія, асабліва віленскія. З пражскіх выданняў часцей за іншыя сустракаюцца «Пяцікніжжа» (кн. «Выхад» і «Лічбы» вядомы ў 18 экз.) і кн. «Царствы» (20 экз.). Самае рэдкае з пражскіх выданняў — «Псалтыр», вядомы толькі ў 2 экземплярах, якія знаходзяцца ў Дзярж. Гіст.

Табліца 1

**Пражскія выданні Скарыны. Экземпляры, якія збераглiся**

| Выданні | ДБЛ | ДПБ | ДГМ | БАН (Ленінград) | ДБ БССР | Музей укр. мастацтва (Львоў) | ДНБ (Адэса) | МДУ | БАН ЛССР | ЦДАСА | Краязнаўчы музей (Цюмень) | ЛДНБ (Львоў) | Навук. б-ка Сарат. ун-та | ЦНБ (Кіеў) | ЗДКМ (Закарпацце) | Навук. б-ка Казанскага ун-та | Уладзіміра-Суздальскі музей-запаведнік | Сав. кнігасховішчы | Замежныя кнігасховішчы | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| «Псалтыр» | | 1 | 1 | | | | | | | | | | | | | | | 2 | | 2 |
| Кніга «Іоў» | 4 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | | | | 1 | | | | | | | | 12 | | 12 |
| «Прытчы Саламона» | 6 | 2 | 2 | 1 | | 1 | 1 | | | | | | | 1 | | | | 14 | | 14 |
| Кніга «Ісус Сірахаў» | 3 | 2 | 2 | 2 | 1 | 1 | | | | | | | | 1 | | | | 12 | 1 | 13 |
| «Еклесіяст» | 5 | 3 | 3 | 1 | 1 | 1 | 1 | | | | | | | | | | | 15 | | 15 |
| «Песня песням» | 3 | 2 | 2 | | 1 | 1 | | | | | | | 1 | | | | | 10 | | 10 |
| Кніга «Прамудрасць божая» | 4 | 2 | 2<br>1 | 1 | 1 | | | | | | | | | 1 | | | | 10 | | 10 |
| Чатыры кнігі «Царствы» | 7 | 2 | 1 | 1 | 1 | 2 | | 1 | | 2 | | 1 | | | | 1 | | 19 | 2 | 21 |
| Кніга «Ісус Навін» | 2 | 1 | 1 | 2 | | 1 | | 1 | | | | | 1 | | 1 | | | 10 | | 10 |
| Кніга «Быццё» | 4 | 2 | 3 | 1 | | 1 | 1 | | | 1 | 1 | | | 1 | | | 1 | 16 | | 16 |
| Кніга «Выхад» | 4 | 3 | 3 | 1 | | 2 | 1 | | | 1 | 1 | | | 1 | | | 1 | 18 | | 18 |
| Кніга «Левіт» | 4 | 3 | 3 | 1 | | 1 | 1 | | | 1 | 1 | | | 1 | | | 1 | 17 | | 17 |
| Кніга «Лічбы» | 4 | 2 | 3 | 1 | | 2 | 1 | | 1 | 1 | 1 | | | 1 | | | 1 | 18 | | 18 |
| Кніга «Другі закон» | 3 | 2 | 3 | 1 | | 1 | 1 | | 1 | 1 | 1 | | | 1 | 1 | | 1 | 15 | | 15 |
| Кніга «Юдзіф» | 3 | 2 | 1 | | | | | | | 1 | | | | 1 | 1 | | | 9 | | 9 |
| Кніга «Руф» | | 2 | 1 | 2 | | | | | | 1 | | | | | 1 | | | 8 | | 8 |
| Кніга «Суддзі» | 3 | 2 | 1 | 2 | | 1 | | 1 | | | | | | | 1 | | | 11 | | 11 |
| Кніга «Эсфір» | 4 | 2 | 1 | | | | | 1 | | 1 | | | | | 1 | | | 9 | | 9 |
| Кніга «Плач Ераміі» | 2 | 2 | | | | | | | | | | | | | | | | 4 | | 4 |
| Кніга «Пророк Данііл» | 4 | 2 | 1 | | | | | | | 1 | | | | | | | | 8 | | 8 |
| Усяго: | 69 | 41 | 35 | 18 | 6 | 16 | 7 | 4 | 1 | 12 | 5 | 1 | 2 | 9 | 5 | 1 | 5 | 237 | 2 | 239 |

Скарачэнні: ДБЛ — Дзяржаўная бібліятэка СССР імя У. І. Леніна; ДПБ — Дзяржаўная Публічная бібліятэка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына; ДГМ — Дзяржаўны Гістарычны музей у Маскве; БАН — Бібліятэка Акадэміі навук СССР у Ленінградзе; ДБ БССР — Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна; ДНБ — Дзяржаўная навуковая бібліятэка ў Адэсе; МДУ — Навуковая бібліятэка Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта; БАН ЛССР — Бібліятэка Акадэміі навук Літоўскай ССР; ЦДАСА — Цэнтральны дзяржаўны архіў старажытных актаў; ЛДНБ — Львоўская дзяржаўная навуковая бібліятэка АН УССР; ЦНБ — Цэнтральная навуковая бібліятэка АН УССР у Кіеве; ЗДКМ — Закарпацкі дзяржаўны краязнаўчы музей.

музеі і ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе. З асобных выпускаў «Бібліі» найб. рэдкая кн. «Плач Ераміі» (у Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна і Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, 4 экз.). Сярод віленскіх выданняў часцей за іншыя сустракаюцца «Апостал» (10 экз.), «Псалтыр» (10 экз.) і «Часасловец» (9 экз.). Самыя рэдкія віленскія выданні «Шасцідневец», «Канон пакаяльны», вядомыя толькі ў 3 экземплярах кожны.

Падрабязнае вывучэнне выданняў С. пачата з экземпляраў, якія знаходзяцца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна. У аддзеле рэдкіх кніг тут зберагаюцца ўсе пражскія выданні С., за выключэннем «Псалтыра» (вядомы толькі 2 экз.) і кн. «Руф» (вядома 8 экз.). Агульная колькасць экземпляраў пражскіх выданняў у б-цы — 69. З іх 33 пераплецены асобна, 36 у складзе 8 канвалютаў. Пражскія выданні прадстаўлены 2—3, часам большай колькасцю экземпляраў. Сярод 4 экз. кн. «Іоў» ёсць адзін унікальны. Ён адрозніваецца ад звычайных экземпляраў размяшчэннем матэрыялу на 1-м і 2-м аркушах. У б-цы ўсяго 13 экз. віленскіх выданняў С.: тры з іх пераплецены асобна, 10 у складзе 2 канвалютаў. З 21 выпуску «Малой падарожнай кніжкі» ёсць толькі 10, а «Апостала» — 2 экземпляры. У табліцах 1-й і 2-й прыведзены звесткі пра месцазнаходжанне пражскіх і віленскіх выданняў С. ў СССР і за мяжою. *Я. Л. Неміроўскі.*

**«КАТЭХІЗІС» 1562,** праца Сымона *Буднага,* першая кніга на бел. мове, выдадзеная на тэр. Беларусі. Надрукаваны ў Нясвіжскай друкарні «накладом боголюбивых мужей пана Матфиа Кавечинского, наместъника несвижского, Симона Будного, Лавърентиа Крышковъского». У кнізе 262 арк., фаліяцыя размешчана на верхнім баку кожнага аркуша ўнізе справа. Складаецца з 64 чатырохаркушавых і шасціаркушавага сшыткаў. Сігнатура сшыткаў адсутнічае. Надрукаваны ў 2 фарбы. Адкрываецца тытульным лістом, упрыгожаным вял. застаўкай арабескавага характару. За тытулам змешчана прысвячэнне князям Радзівілам, якім належаў Нясвіж. Мае прадмову палемічнага характару — «К всем благоверным христианом языка руского предъсловие в Катихисию». Яна пачынаецца вызначэннем: «Катихисис слово есть греческого языка, сказует же ся на словенскую речь оглашение или гласом учение». У ёй растлумачаны мэты выдання, асновы хрысц. веры. Складаецца з 4 частак. Змест «К.» 1562 сведчыць аб тым, што побач з рэлігійна-дагматычнымі пытаннямі ў рэфармацыйным руху Беларусі, Літвы, Украіны і Польшчы ў той час важнае месца займалі вострыя праблемы сацыяльна-класавага і паліт. характару. Тэкст пададзены ў форме пытанняў і адказаў. У кароткім пасляслоўі названы імёны выдаўцоў, назначана месца і дата выхаду «К.» ў свет (10.6. 1562). Друкарскае афармленне — застаўка на тытуле і канцоўка, аздоба з наборнага арнаменту.




**«Катэхізіс» 1562.** Тытульны ліст.

«К.» 1562 вядомы ў л-ры даўно. У 1696 упомнены ў прадмове маскоўскага патрыярха Андрыяна да «Праваслаўнага спавядання веры» П. Магілы. Вядома 10 экз. «К.» 1562, якія знаходзяцца ў Нац. музеі ў Кракаве, Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (3 экз.), Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна ў Маскве (2 экз.), Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве (2 экз.), Навук. б-цы Маск. дзярж. ун-та і ў Нац. б-цы ЧСР у Празе. У Празе зберагаецца таксама 20 асобных аркушаў, выяўленых у 1977. Найб. поўныя ленінградскія экземпляры «К.» 1562 падрабязна апісалі бібліёграфы П. А. Гільтэбрант, І. П. Каратаеў, В. І. Лук'яненка, Ю. А. Лабынцаў.

Асветныя ідэі Буднага, выкладзеныя ў прысвячэнні, прадмове і пасляслоўі, зазналі пэўны ўплыў ідэй С. Да скарынінскіх тэкстаў узыходзіць і формула, што тлумачыць мэты выдання,— «богу ко чти и посполитым людем языка руского к наказанью и доброму наученью». Шрыфт і сістэма набору вельмі падобныя на шрыфт і сістэму набору выданняў С. Раней лічылі, што шрыфт С. трапіў да Буднага і быў ім выкарыстаны. На самай справе «К.» 1562 надрукаваны шрыфтам новай адліўкі, зробленай на ўзор шрыфту С. Вышыня 10 радкоў набору ў выданнях С.— 75 мм, у «К.» 1562 — 83 мм, г. зн. шрыфт буйнейшы, чым у С. Прысвячэнне і прадмова набраны дробным шрыфтам (10 радкоў — 56 мм), які нагадвае віленскі шрыфт С. Тэхніка вырабу шрыфту ў С. і Буднага розная. Майстар шрыфту С. адліваў надрадковыя знакі разам з літарамі, майстар шрыфту Буднага — асобна.

*Літ.:* Гильтебрандт П. «Несвижский катехизис» 1562 года //Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1870. Т. 7; Голенченко Г. Я. Симон Будный: Книгоиздательская деятельность в Белоруссии // Из истории книги, библиотечного дела и библиографии в Белоруссии. Мн., 1970; Описание изданий Несвижской типографии и типографии Василия Тяпинского // Описание старопечатных изданий кирилловского шрифта. М., 1985. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КАЎКО́** Аляксей Канстанцінавіч (н. 1937), беларускі сав. гісторык. Канд. гіст. н. (1971). Гал. рэдактар час. «Са-

Табліца 2

**Віленскія выданні Скарыны. Экземпляры, якія збераглiся**

| Выданні | ДБЛ | ДПБ | ДГМ | БАН (Ленінград) | Музей укр. маст. ў Львове | ЦДАСА | Навук. б-ка Вільнюскага ун-та | Усяго ў сав. кнігасховішчах | Ягелонская б-ка ў Кракаве | Б-ка Кембрыдж. ун-та | Каралеўская б-ка ў Капенгагене | Б-ка Брыт. музея ў Лондане | Універсітэцкая б-ка ў Любляне | Б-ка Вроцлаўскага ун-та | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| «Псалтыр» | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | | 6 | | 1 | 1 | 1 | 1 | | 10 |
| «Часасловец» | 2 | 2 | 2 | | | 1 | | 7 | | | 1 | | 1 | | 9 |
| «Акафіст магіле господняй» | | 2 | 2 | | | | | 4 | 1 | | 1 | | | 1 | 7 |
| «Канон магіле господняй» | 1 | 2 | 2 | | | | | 5 | 1 | | | | | | 6 |
| «Акафіст архангелу Міхаілу» | 1 | 2 | 2 | | | | | 5 | 1 | | 1 | | | 1 | 8 |
| «Канон архангелу Міхаілу» | 1 | 2 | 2 | | | | | 5 | | | 1 | | | | 6 |
| «Акафіст Іаану Прадцечы» | 1 | 2 | 2 | | | | | 5 | 1 | | 1 | | | 1 | 8 |
| «Канон Іаану Прадцечы» | | 1 | 2 | | | | | 3 | 1 | | 1 | | | | 5 |
| «Акафіст багародзіцы» | | 2 | 2 | | | | | 4 | 1 | | 1 | | | 1 | 7 |
| «Канон багародзіцы» | | 2 | 3 | | | | | 5 | 1 | | 1 | | | | 7 |
| «Акафіст святому Пятру і Паўлу» | 1 | 2 | 2 | | | | | 5 | 1 | | 1 | | | 1 | 8 |
| «Канон святому Пятру і Паўлу» | | 2 | 3 | | | | | 5 | | | 1 | | | | 6 |
| «Акафіст святому Міколе» | 1 | 2 | 2 | | | | | 6 | 1 | | 1 | | | 1 | 9 |
| «Канон святому Міколе» | 1 | 2 | 2 | | | | | 5 | 1 | | 1 | | | | 7 |
| «Акафіст крыжу господняму» | | 2 | 3 | | | | | 5 | 1 | | 1 | | | 1 | 8 |
| «Канон крыжу господняму» | | 2 | 3 | | | | | 5 | | | 1 | | | | 6 |
| «Акафіст Ісусу» | 1 | 2 | 2 | | | | | 5 | 1 | | 1 | | | 1 | 8 |
| «Канон Ісусу» | | 1 | 3 | | | | | 4 | 1 | | 1 | | | | 6 |
| «Шасцідневец» | | 1 | 2 | | | | | 3 | | | | | | | 3 |
| «Канон пакаяльны» | | 2 | 1 | | | | | 3 | | | | | | | 3 |
| «Саборнік» | | 1 | 2 | | | | | 3 | | | 1 | | | | 4 |
| «Апостал» | 2 | 2 | 2 | | 1 | 1 | 1 | 9 | | | | 1 | | | 10 |
| Усяго: | 13 | 39 | 48 | 1 | 2 | 3 | 1 | 107 | 13 | 1 | 18 | 2 | 2 | 8 | 151 |

ветское славяноведение». Даследуе гісторыю Польшчы, культуру Беларусі, бел.-польск. культ. сувязі. Шэраг публікацый прысвяціў С., у т. л. арт. «Свята Айчыны» (Брыганціна, М., 1980, на рус. мове) і «Нацыянальныя і агульначалавечыя матывы ў дарэвалюцыйнай творчасці Янкі Купалы» (Ніва. 1983. № 3), «Гаворыць з намі праз стагоддзі: Скарына ў водгуках нашых сучаснікаў» (Голас Радзімы. 1986. 4—11 сн.), дзе паказаў пераемнасць скарынінскай традыцыі ў новай бел. л-ры, пастаяннае эстэт., маральна-выхаваўчае значэнне спадчыны С. У арт. «Што чытаў Скарына» (Гісторыя кнігі, кніжнай справы і бібліяграфіі ў Беларусі, 1986, на рус. мове) разглядае ролю айч. духоўна-культ. асяроддзя ў станаўленні бел. асветніка-гуманіста. Пераклаў на рус. мову нарыс С. Александровіча «Па слядах Францыска Скарыны» (1980).

*Л. П. Мірачыцкі, В. С. Талстой.*

**КАШКУРЭ́ВІЧ** Арлен (Арсен) Міхайлавіч (н. 1929), беларускі сав. графік. Засл. дз. мастацтваў БССР (1973). Працуе ў галіне кніжнай і станковай графікі. Сярод твораў кніжнай графікі многія былі адзначаны *дыпломам імя Францыска Скарыны.* Аўтар партрэта С. (1969, гравюра на пластыку, 15×12,5; Дзярж. б-ка БССР імя У. І. Леніна). Партрэт вызначаецца глыбокім зместам вобраза, сканцэнтраванасцю на духоўнай сутнасці С. Гэта адна з лепшых прац бел. графікі. У 1980 у экслібрысе для выд-ва «Мастацкая літаратура» мастак выкарыстаў у мініяцюры сваю гравюру на пластыку. Строгая ўрачыстасць яе добра перададзена ў кніжным знаку. Удала ўвасобіў вобраз С. ў медалі, зробленым да 450-годдзя бел. кнігадрукавання (мастак К., гравёр М. Р. Іофе; бронза, 75 мм; 1967). З 1968 медаль (да 1975 разам з дыпломам) штогод прысуджаецца лепшым у маст. і паліграф. адносінах кнігам Беларусі. Дзярж. прэмія БССР 1972.

*Літ.:* Г а н ч а р о ў М. І. А. М. Кашкурэвіч. Мн., 1976.

**КАШУ́ЦКІ** Станіслаў (? — 1559), перакладчык твораў антычных аўтараў, паэт, мысліцель-гуманіст. Адзін з першых прыхільнікаў Рэфармацыі ў Вял. кн. Літоўскім. Як мяркуецца, скончыў Вітэнбергскі ун-т. Каля 1547 паступіў на службу да *Радзівілаў*, быў сакратаром польск. каралевы Барбары. Пасля яе смерці пасяліўся ў Вільні, дзе да канца жыцця займаў пасаду бібліятэкара Жыгімонта II Аўгуста. Пераклаў з лац. на польск. мову трактат Цыцэрона «Пра абавязкі» (1559). Акрамя каментарыяў, напісаў падрабязную біяграфію рымскага філосафа — «Жыццё Цыцэрона» (выд. Лоск, 1575), якую склаў на аснове твораў Плутарха, Апіяна, Ціта Лівія, Салюстыя. Твор некалькі разоў перавыдаваўся (1583, 1593, 1606, 1766). Пераклаў на польск. мову твор Рэйнхарда Лорыха «Кніга пра выхаванне і адукацыю начальніка», які быў выдадзены ў 1558 разам з перакладам «Прамовы Ісакрата аб кіраванні дзяржавай» Эразма Глічнера. Аўтар некалькіх паэт. твораў, прысвечаных Жыгімонту II Аўгусту і Мікалаю Радзівілу. У сваіх каментарыях да трактата Цыцэрона «Пра абавязкі» імкнуўся ўстанавіць тоеснасць некат. філас.-этычных каштоўнасцей, уласцівых хрысц. і антычнай культурам, што збліжае яго са С. К. адзначаў адзінства агульнага і асаблівага ў чалавечай прыродзе, абгрунтоўваў правa чалавека на індывідуальнасць, непаўторнасць. Чалавек, паводле К., знаходзіцца ва ўладзе неабходнасці і адначасова мае свабоду волі. Як і С., аддаваў перавагу дзейснаму жыццю, падпарадкаванаму інтарэсам агульнага дабра, лічыў справядлівасць асн. дабрачыннасцю. Рашуча абараняў прынцып заканапраўя.

*Літ.:* 131. *С. А. Падокшын.*



А. К а ш к у р э в і ч. Францыск Скарына. Медаль, прысвечаны 450-годдзю беларускага кнігадрукавання. 1967.

Герб **Кёнігсберга.** 16 ст. Рэканструкцыя.



**КЁПЕН** Пётр Іванавіч (1793—1864), рускі кнігазнавец, бібліёграф, этнограф. Акад. Пецярбургскай АН (1837). У 1814 скончыў Харкаўскі ун-т. Быў адным з заснавальнікаў Вольнага т-ва аматараў расійскай славеснасці (1816) і Рус. геагр. т-ва (1845). У 1821—24 падарожнічаў па слав. землях, Аўстра-Венгрыі, Германіі, дзе знаёміўся з слав. рукапісамі і старадрукаванымі кнігамі. У Ландсгуце (Баварыя) у б-цы граф. К. Манерта выявіў поўны экземпляр «Малой падарожнай кніжкі». У 1825 выдаваў у Пецярбургу крытыка-бібліяграфічны часопіс «Библиографические листы», у якім апублікаваў «Храналагічны роспіс першадрукаваным славянскім кнігам», дзе зарэгістраваны выданні С. («Малая падарожная кніжка» была апісана як «Псалтыр»). Упершыню ўвёў у навук. ўжытак «Шасцідневец» і «Саборнік», у якія ўключаў «Святцы» і «Пасхалію», указваў б-кі, дзе захоўваліся вядомыя яму выданні С., у двух экземплярах пражскіх выданняў («Еклесіяст» і кн. «Іоў») выявіў надпісы: «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына радци места Виленского». На гэтай падставе ён сцвярджаў, што пераклады С. друкаваліся за кошт радцы віленскага Багдана Онкава. К. неаднаразова ўпамінаў С. ў перапісцы з чэшскім філолагам-славістам І. *Добраўскім.*

*Літ.:* К е п п е н Ф. П. Биография П. И. Кеппена. Спб., 1911. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КЁНІГСБЕРГ** (з 4 ліпеня 1946 К а л і н і н г р а д, польск. Крулевец, у бел. летапісах Кралевец), горад, размешчаны абапал р. Прэголя.

У 1255 крыжакамі Тэўтонскага ордэна на беразе р. Прэголя заснаваны замак К. Каля замка ў 1256 пабудаваны Стары горад. У 1286 атрымаў самакіраванне паводле холмінскага права. У 1300 крыху на ўсход ад Старога горада заснаваны Новы горад, які таксама атрымаў самакіраванне паводле холмінскага права. У 1327 на выспе р. Прэголя, на поўдзень ад замка і Старога горада, заснаваны Кнайпгоф, 3-я ч. К. У кожнай з трох частак былі свае органы самакіравання. Афіцыйна ўсе часткі зліліся ў адзіны горад толькі ў 1724. К. хутка развіваўся як рамесна-гандлёвы горад і порт для вывазу транзітных тавараў. Асабліва спрыяльныя ўмовы для яго развіцця склаліся ў 1457, калі К. стаў сталіцай дзяржавы. У 15—16 ст. К.— порт, куды прывозілі збожжа з літ. і бел. фальваркаў і латыфундый на экспарт у Зах. Еўропу. Сюды прыязджалі літ. і бел. купцы і гандл. прадстаўнікі магнатаў. З 1525 да 1618 К.— рэзідэнцыя прускіх герцагаў. У 1544 тут заснаваны пратэстанцкі ун-т (Альберціна, або Калегіум Альберцінум), куды прускі герцаг Альбрэхт запрашаў вучоных з Германіі і Літвы, у т. л. А. Кульвецiса. Сюды ехалі вучыцца студэнты з Жэмайціі. У 1547 у К. надрукавана 1-я кніга на літ. мове «Простыя словы катэхізму» М. Мажвідаса. З К. накі-

роўваліся лютэранскія прапаведнікі ў Літву. У 16 ст. ў К. існавалі тры ратушы, сабор у гатычным стылі (1332, перабудаваны ў 1856), у якім пахавальні герцагаў, крыжацкіх гросмайстраў, пазней І. Канта; у прадмесцях К.— мураваны касцёл у Штайндаме (13 ст.) і касцёл у Нойрасгартэне (1467). У герцагскім замку (паўн. ч. захавалася з 1255, астатнія перабудаваны ў 16 ст.) вылучалася Маскоўская зала (даўж. 80 м, шыр. 27 м і выш. 5,7 м), названая так у 1516, калі герцаг Альбрэхт заключыў у ёй саюз з пасламі Васіля III.

У 1530 Альбрэхт запрасіў С. ў К. С. знаходзіўся на службе ў прускага герцага нядоўга, абставіны прымусілі яго пакінуць К. у маі 1530.

*Літ.:* 197. *А. П. Грыцкевіч.*

**КІНЕМАТАГРАФІЧНАЯ СКАРЫНІЯНА.** Вобразу С. прысвечаны маст. і дакумент. фільмы, сюжэты кінахронікі, тэлеперадачы. У 1963 на Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакумент. фільмаў створаны фільм «Георгій Скарына» (сцэнарый І. Барашкі). Рэжысёр У. Скітовіч і аператар Р. Масальскі сродкамі дакумент. кіно далі дынамічную і эмацыянальную трактоўку вобраза гуманіста-першадрукара, выкарыстаўшы пры гэтым скульптуру А. К. Глебава. У 1970 на кінастудыі «Беларусьфільм» (рэж. Б. Сцяпанаў) створаны гісторыка-біягр. маст. фільм «Я, Францыск Скарына...» паводле рамана М. *Садковіча* і Я. Львова «Георгій Скарына» (сцэнарый Садковіча), які атрымаў ганаровы дыплом «За плённую распрацоўку гістарычнай тэмы і выяўленчае рашэнне» на IV Усесаюзным кінафестывалі ў Мінску, 1970. Бел. кінематаграфісты імкнуліся перадаць дух часу і стварыць праўдзівы вобраз С., паказаць яго жыццёвы шлях, данесці да гледача яго думкі, ідэі, гарачы патрыятызм і апантанасць ідэяй асветы народа. Фільм вострасюжэтны, драматычна-напружаны, выклікаў цікавасць у гледачоў і прыхільны водгук у прэсе. Адзначаліся своеасаблівасць рэжысёрскай трактоўкі, каляровага і выяўленчага вырашэння (мастак-пастаноўшчык У. Дзяменцьеў, мастак па касцюмах А. Кавецкая), высокае аператарскае майстэрства (В. Нікалаеў), эмацыянальнасць кульмінацыйных масавых сцэн, муз. афармлення (У. Чараднічэнка), дынамізм дзеяння, сучаснасць агульнай канцэпцыі. Была звернута ўвага і на недахопы твора: маст. незавершанасць сцэнарыя, некат. вольнасць у абыходжанні з эпохай, недастатковую маштабнасць вобраза С., залішнюю ўвагу да перыпетый асабістага жыцця замест паглыбленага паказу грамадскай сутнасці ўчынкаў, меладраматызм асобных сцэн, залішняе захапленне займальнасцю сюжэта, недастатковую гіст. верагоднасць некат. узноўленых на экране падзей. Створаны акцёрам А. *Янкоўскім* вобраз С. вызначаецца праўдзівасцю, маральнай чысцінёй, чалавечнасцю, блізкасцю сучаснаму гледачу сваім унутраным настроем, актыўным гуманізмам. Акцёр стварыў вобраз абаяльнага, разумнага і сардэчнага чалавека, свабодалюбівага і бясстрашнага барацьбіта за асвету народа. У фільме таксама здымаліся М. Грыцэнка — Рэйхенберг, Г. Віркава — Маргарыта, Я. Грацінь — Глагоўскі, Р. Янкоўскі — І. Скарына. Фільм — прыкметны ўклад у развіццё маст. Скарыніяны.



Да арт. **Кінематаграфічная Скарыніяна.** Кадр з мастацкага фільма «Я, Францыск Скарына».

| Кірыліца: Літары і іх назвы | Кірыліца: Лічбавае значэнне | Грэчаскае ўстаўнае пісьмо | Кірыліца: Літары і іх назвы | Кірыліца: Лічбавае значэнне | Грэчаскае ўстаўнае пісьмо |
|---|---|---|---|---|---|
| А — аз | 1 | Α | Х — хер | 600 | Χ |
| Б — букі | | | Ѡ — амега | 800 | ω |
| В — ведзі | 2 | Β | Ц — цы | 900 | |
| Г — глаголь | 3 | Γ | Ч — чэрв | 90 | |
| Д — дабро | 4 | Δ | Ш — ша | | |
| Є — есць | 5 | Є | Щ — шта | | |
| Ж — жывеце | | | Ъ — ер | | |
| Ѕ — зяло | 6 | S | Ы — еры | | |
| Ꙁ — зямля | 7 | Z | Ь — ер | | |
| І — і | 10 | Ι | Ѣ — яць | | |
| Н — іжэ | 8 | Η | Ю — ю | | |
| К — кака | 20 | Κ | Ꙗ — я | | |
| Л — людзі | 30 | λ | Ѥ — е | | |
| М — мыслеце | 40 | Μ | Ѧ — юс малы | | |
| N — наш | 50 | Ν | Ѫ — юс вялікі | | |
| О — он | 70 | Ο | Ѩ — ётаваны юс малы | | |
| П — пакой | 80 | Π | Ѭ — ётаваны юс вялікі | | |
| Р — рцы | 100 | Ρ | Ѯ — ксі | 60 | Ξ |
| С — слова | 200 | С | Ѱ — псі | 700 | Ψ |
| Т — цвёрда | 300 | Τ | Ѳ — фіта | 9 | Θ |
| Оу — ук | 400 | | Ѵ — іжыца | | Υ |
| Ф — ферт | 500 | Φ | | | |

**Кірыліца.**

На бел. тэлебачанні створаны тэлефільм «Нашчадкі Скарыны» (рэжысёр У. Карпенкаў, аператар І. Скорынаў, сцэнарый Э. Варашылава; 1968) — пра кнігі, што атрымалі Дыплом імя С. і медаль на рэсп. конкурсах за лепшае маст. афармленне і паліграф. выкананне, пра іх стваральнікаў — майстроў кніжнай графікі.

*Літ.:* 881; 900; 933; 942. *В. Н. Дышыневіч.*

**КІР II** Вялікі (грэч. Kýros, старaж.-перс. Куруш, Цір, г. н. невяд.— 530 да н. э.), першы цар (з 558) дзяржавы Ахеменідаў. Заваяваў Мідыю, Лідыю, грэч. гарады Малой Азіі, частку Сярэдняй Азіі, Вавілон і Месапатамію. С. ў прадмовах да кн. «Юдзіф», «Суддзі» расказвае пра дзейнасць К. II.

**КІРШЧЫНА** Тамара Іосіфаўна (н. 1950), беларускі сав. мастак-кераміст. Аўтар кампазіцыі «Францыск Скарына» (1981, шамот, уласнасць У. І. Бровікава) — круглага медальёна (60 см) з партрэтам С. ў абрамленні лаўровага вянка на фоне рэнесансавай архітэктуры. Пабудова кампазіцыі блізкая да класічнай, асобныя элементы выклікаюць пэўныя асацыяцыі з мастацтвам Адраджэння. У каларыце пераважаюць залацістыя, карычневыя і зялёныя колеры з украпінамі белага.

**КІРЫ́ЛІЦА,** адна з дзвюх старажытных слав. азбук.

Назва паходзіць ад імя слав. асветніка Канстанціна (Кірыла) Філосафа. Мяркуюць, што створана ў 9 ст. на аснове глаголіцы і грэчаска-візант. ўстаўнога пісьма. У 11 ст. К. мела 43 літары (24 візант. паходжання і 19 адносна самастойных для перадачы гукаў непасрэдна слав. мовы). 27 літар выкарыстоўваліся для абазначэння лічбаў (літара з цітлай уверсе). Да 11—12 ст. К. і глаголіца ўжываліся паралельна, у далейшым К. выцесніла глаголіцу, таму што яе графіка больш простая і выразная. З цягам часу К. мянялася. На змену ўставу прыйшоў *паўустаў*, потым скарапіс (у бытавой і дзелавой перапісцы), арнаментальная вязь (у кніжных загалоўках).

У 14—18 ст. існавала ў бел. пісьменнасці. У 15—16 ст. з'явіліся першыя кнігі, друкаваныя К. Бел. паўустаўнае пісьменства (акты, граматы і г. д.) аказала ўплыў на шрыфты выданняў С. У загалоўных літарах шрыфты носяць адбітак чэш. і ням. мастацтва, у малых літарах — бел. пісьменства. У загалоўках кніг С. ўжывалася арнаментальная *вязь.* С. упершыню ўвёў у друкаванай кнізе кірылаўскую літарную нумарацыю па аркушах (адваротны бок аркуша без лічбы). У Расіі стараж.-слав. варыянт К. існаваў да 1708, на змену яму прыйшоў грамадзянскі шрыфт. На аснове К. створаны алфавіты большасці народаў СССР, Балгарыі, Югаславіі, МНР.

*Літ.:* 69; Истрин В. А. Возникновение и развитие письма. М., 1965; Карский Е. Ф. Славянская кирилловская палеография. М., 1979; Сказания о начале славянской письменности. М., 1981. *М. Б. Батвіннік.*

**КІРЫ́ЛІЦКАЕ КНІГАДРУКАВА́ННЕ** на Беларусі, асн. від бел. кнігавыдання 16—18 ст. Друкарні, якія выкарыстоўвалі кірыліцкія шрыфты, выпускалі выданні на царк.-слав. і бел. літаратурнай мовах, ужывалі кірыліцкі алфавіт, уласцівы стараж.-рус., пазней бел., рус. і укр. пісьменнасці. Кірыліцкая кніга звязвала бел. і укр. кнігадрукаванне з рускім, дзе кірыліца займала манапольнае становішча. У канцы 15 — пач. 16 ст. з тэхналогіяй і майстэрствам кнігадрукавання прама ці ўскосна былі знаёмы ўсе краіны Еўропы, у т. л. Беларусь, якая ў той час уваходзіла ў склад Вял. кн. Літоўскага (з 1569 — Рэчы Паспалітай). Пашырэнне кнігадрукавання было звязана з высяпаваннем на Беларусі і ў Літве яго сац. перадумоў, развіццём прадукц. сіл і вытв. адносін. Сац. актыўнасць розных слаёў грамадства, пэўны эканам. і культ. ўздым, пашырэнне міжнар. сувязей садзейнічалі развіццю ўсіх форм кніжнай пісьменнасці. У станаўленні бел. кнігадрукавання гал. ролю адыгрывалі гандлёва-прадпрымальніцкія слаі гар. насельніцтва, мяшчане, якія падтрымлівалі ідэі развіцця бел. культуры, школьнай справы, асветы. Узнікненне бел. кнігадрукавання ў

1-й чвэрці 16 ст. звязана з дзейнасцю С. Першы этап яго кнігавыдавецкай дзейнасці прайшоў у «славном месте Празском» (гл. *Пражскія перыяды ў жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны*). Даўнія гандл. і культ. сувязі Чэшскага каралеўства і Вял. кн. Літоўскага, некат. асаблівасці духоўнага і грамадска-паліт. жыцця Чэхіі (уплыў гусіцкай Рэфармацыі), а таксама прывілеі, якімі карысталася тут кнігадрукаванне, палягчалі арганізацыю друкарні С. ў Празе. У Пражскай друкарні С. ў 1517—19 выдаў 23 кнігі Старога запавету агульным аб'ёмам каля 1200 арк. (каля 2400 стар.). Можна меркаваць, што ў Пражскай друкарні працавалі чэш. майстры кнігадрукавання і суайчыннікі С. Відаць, у пач. 1520-х г. С. пераехаў у Вільню — найбуйнейшы паліт., эканам., культ. цэнтр і сталіцу Вял. кн. Літоўскага (гл. *Віленскі перыяд у жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны*). У Віленскай друкарні, арганізаванай у доме бурмістра Я. Бабіча, надрукаваны «Малая падарожная кніжка» (каля 1522) і «Апостал» (1525). У адрозненне ад еўрап. гуманістаў Адраджэння, чые творы друкавалі прафесіяналы, С. ствараў рукапісы і ажыццяўляў іх выданне. Можна толькі здзіўляцца таму, на якім высокім узроўні і ў які сціплы час былі вырашаны гэтыя задачы. Ён здолеў выдаць высокамаст. творы якія прадвызначалі канчатковую перамогу друкарскага станка над рукапісным стварэннем кніг. Наватарскія мастацка-паліграф. асаблівасці яго выданняў звязаны з усведамленнем маст. і грамадскай сутнасці друкавання кнігі як з'явы сінтэтычнай, што патрабуе адэкватных форм выяўлення. Зручны паменшаны фармат, шырокае выкарыстанне ілюстрацыйных гравюр, тытульных лістоў, асаблівасці шрыфтоў, набору, арнаменту, каментары і глосы, уся ўнутраная архітэктоніка яго выданняў падпарадкаваны мэтам дэмакратызаваць і ўзвысіць кнігу, зрабіць яе эстэтычна прыгожай, зразумелай і даступнай «людем посполитым к пожитку». Выданні С. вызначаліся гуманістычнай, асветніцкай, дэмакратычнай накіраванасцю, сцвярджалі рэнесансавую культуру. Аб'ектыўна яны падрывалі духоўную манаполію царквы, садзейнічалі развіццю секулярызацыйных і рэфармацыйна-рацыяналістычных тэндэнцый, новых моўных працэсаў у бел. л-ры і пісьменнасці, фарміраванню этнічнай самасвядомасці, пашырэнню культ. сувязей з Расіяй і Украінай. Друкарні, заснаваныя С. у Празе і Вільні, адыгралі выдатную ролю ў сцвярджэнні прэстыжу друкаванай кнігі і пашырэнні яе на Беларусі, у Літве, на Украіне і ў Расіі. Яны дэманстравалі высокія эстэт. якасці друкаванай кнігі і яе невычэрпныя духоўныя магчымасці.

Пераемнікамі С. ў К. к. былі нясвіжскія кнігавыдаўцы С. *Будны*, М. *Кавячынскі*, Л. Крышкоўскі. Духоўным кіраўніком Нясвіжскай друкарні ў пач. 1560-х г. быў Будны. Друкарня выпусціла некалькі кірыліцкіх выданняў, з якіх да нашых часоў дайшоў толькі *«Катэхізіс» 1562*. Паводле сцвярджэння *Арцемія*, у другім кірыліцкім выданні Нясвіжскай друкарні — «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам» (1562) — адчуваліся рысы антытрынітарскай ерасі.

Сучаснікам і паплечнікам Буднага быў дробны бел. шляхціц Васіль *Цяпінскі*. З вял. цяжкасцю яму ўдалося заснаваць друкарню на Полаччыне, відаць, у родавым маёнтку Цяпіна (цяпер Лепельскі р-н). Цяпінскі ўтрымліваў друкарню на свае сродкі, гэта дазваляла яму больш адкрыта выказваць погляды, вызначаць напрамкі выдавецкай дзейнасці.


Починаетсѧ вто
раѧ часть катихисі о вѣре.
Пытанье.
Поведѣлъ єси на почятку сеє розмовы,
іако чотыри суть части наоуки Хрїстіанской, и сказалъ єси іако першаѧ чѧ єсть десѧтеро божїе приказанье, другаѧ, вызнанье вѣры, третѧѧ, молитва гдна, четвертаѧ часть, наоука о таинѣх хвыхъ.

Да арт. **Кірыліцкае кнігадрукаванне.** «Катэхізіс». Нясвіж. 1562. Фрагмент старонкі.

«Евангелле вучыцельнае». Заблудаў. 1569. Старонка.




Друкарня выпусціла «Евангелле», надрукаванае паралельна на дзвюх мовах — царк.-слав. (у традыцыйнай рэдакцыі, пашыранай ва ўсіх усх.-слав. краінах) і бел., са шматлікімі глосамі. Па філігранях і іншых адзнаках можна меркаваць, што кніга выдадзена ў 1570-я г. У адным з экземпляраў друкаванага выдання «Евангелля» Цяпінскага захавалася яго рукапісная прадмова. У бел. л-ры і пісьменнасці таго часу гэта найб. яскравае палымянае выступленне ў абарону айч. культуры, бел. і слав. моў, супраць паланізатарскіх тэндэнцый, што абмяжоўвалі сац. і матэр. магчымасці духоўнага развіцця бел. народа, гнеўнае абвінавачванне той часткі феад. знаці і духавенства, якая абыякава ставілася да лёсу свайго народа, імкнулася задаволіць толькі свае вузкія класавыя інтарэсы і патрэбы.

У 2-й палове 16 ст. ў развіцці бел. кнігадрукавання актыўны ўдзел прынялі рус. першадрукары І. *Фёдараў* і П. *Мсціславец*. У *Заблудаўскай друкарні* (мястэчка Заблудаў, цяпер Беластоцкае ваяводства ПНР) яны выпусцілі ў 1569 «Евангелле вучыцельнае» — зборнік павучанняў і тлумачэнняў евангельскіх тэкстаў, якія ўключалі розныя творы візант., балгарскай, стараж.-рус. пісьменнасці, у т. л. «Слова на ўшэсце» Кірыла Тураўскага. У 1570 Іван Фёдараў выпусціў «Псалтыр з Часаслоўцам», які шырока выкарыстоўваўся ў тыя часы таксама для навучання пачатковай грамаце. У друкарні, магчыма, працаваў вучань Фёдарава мясц. ураджэнец Грынь Іванові, вядомы пазней майстар па вырабу шрыфтоў. Выдавецкая дзейнасць Фёдарава і Мсціслаўца ў Заблудаве зрабіла значны ўплыў на далейшы лёс бел. і станаўленне ўкр. кнігадрукавання. Аднačасова яны многае ўспрынялі з вопыту кніжнага майстэрства і друкарскай справы на Беларусі. У выданнях Заблудаўскай друкарні шырока выкарыстоўваліся новая арнаментыка, буйныя фігурныя ксілаграфіі, з'явіўся тытульны ліст з выхаднымі данымі. Заблудаўскія выданні амаль у тоесным выглядзе неаднаразова перавыдаваліся ў друкарнях Віленскага брацтва, В. М. *Гарабурды*, братоў *Мамонічаў*. У сувязі з грамадска-паліт. умовамі, якія ўскладніліся пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай, а таксама хваробай пратэктара друкарні Р. А. Хадкевіча ў пач. 1570-х г. Заблудаўская друкарня спыніла сваю дзейнасць. Фёдараў пераехаў на Украіну, дзе арганізаваў друкарні ў Львове і Астрозе. Мсціславец з 1569 пасяліўся ў Вільні, куды быў запрошаны заможнымі бел. купцамі Мамонічамі для развіцця кірыліцкага кнігадрукавання.

Друкарня Мамонічаў адрадзіла кірыліцкае кнігадрукаванне ў Вільні праз паўстагоддзе пасля спынення выдавецкай дзейнасці С. Яна выпускала манум. прыгожа афармленыя выданні, якія вызначаліся высокай культурай друку: шырокімі палямі, выразным паўустаўным шрыфтам, багатым выкарыстаннем кінавару, інш. яскравымі элементамі мастацка-паліграф. афармлення, выдатнай, хоць і некалькі ўскладненай манерай выканання

фігурных гравюр, буйных дэкар. застаўак старадрукаванага стылю. У 1576 Мсціславец быў вымушаны пакінуць друкарню Мамонічаў, якія абмяжоўвалі самастойную дзейнасць кнігадрукара і імкнуліся перш за ўсё да камерцыйнай выгады. Сляды яго выдавецкай дзейнасці выяўлены пазней у Астрозе. Дзейнасцю Мсціслаўца і віленскага друкара Гарабурды (1580-я г.) заканчваецца перыяд існавання прыватных бел. кірыліцкіх друкарняў, заснаваных намаганнямі аднаго, у лепшым выпадку некалькіх універсалаў-друкароў без арганізаванай падтрымкі шырокіх колаў грамадскасці. Выключэнне складае прывілеяваная друкарня Мамонічаў, якая ў пач. 1580-х г. атрымала магчымасць працягваць сваю дзейнасць дзякуючы паліт. кампрамісу выдаўцоў з урадам. Друкарня Мамонічаў выпусціла першыя ў бел. кнігадрукаванні кірыліцкія выданні прававога характару: «Трыбунал...» (1586) і Статут Вял. кн. Літоўскага 1588. У сваёй кнігавыдавецкай дзейнасці Мамонічы ўлічвалі патрэбы і культ. традыцыі розных слаёў насельніцтва, ахвотна ішлі на ўкараненне друкарскіх наватвядзенняў (напр., курсіўнага шрыфту, які перадае почырк канцылярскага пісьма). Выданні, прызначаныя для продажу ў Маскве, афармляліся некалькі інакш у параўнанні з выданнямі, што паступалі на ўнутраны рынак. Друкарня праіснавала да пач. 1620-х г.

У адрозненне ад Расіі, дзе К. к. (да паяўлення раскольніцкага кнігадрукавання) уяўляла сабой ідэалагічна цэласны кірунак, на Беларусі, у Літве, на Украіне яно не было так уніфікавана, цэнтралізавана і не карысталася дзярж. падтрымкай. Друкарні, якія выкарыстоўвалі кірыліцкі шрыфт, выпускалі прадукцыю, разлічаную ў асн. на бел.-ўкр. насельніцтва, але прытрымліваліся канфесіянальнай (у пэўнай меры таксама сацыяльна-паліт. і культурнай) арыентацыі. Найважнейшым кірункам у бел. К. к. з канца 16 ст. становіцца *брацкае кнігадрукаванне,* што ўзнікла пад апекай шырокасаслоўных грамадскіх арганізацый (брацтваў) бел. правасл. насельніцтва, у якіх сац. аснову складала мяшчанства. Брацкія і звязаныя з імі інш. кірыліцкія друкарні (Віленская, *Еўінская друкарня, Куцеінская друкарня,* Магілёўская) садзейнічалі фарміраванню маст. цэнтраў, якія вызначаліся значнай своеасаблівасцю кнігавыдавецкага майстэрства. Мастакі і гравёры, якія супрацоўнічалі з брацтвамі, часта выконвалі і іншыя віды работ (жывапіс, складаная разьба па дрэве, метале і інш.), што садзейнічала ўзаемаабагачэнню і развіццю розных галін «артыстычнага» рамяства і мастацтва. У дзейнасці брацкіх друкарняў выразна адлюстраваліся эвалюцыя бел. К. к., пераемнасць традыцый выдавецкай дзейнасці С., Цяпінскага, Фёдарава, Мсціслаўца, сувязі з мастацка-эстэт. і ідэйнай спадчынай стараж.-рус., усх.-слав. л-ры і пісьменнасці. У Віленскай і Еўінскай брацкіх друкарнях яшчэ ў сярэдзіне 17 ст. выкарыстоўваліся (побач з інш.)



Евангелле. Вільня. 1575. Застаўка і вязь.



«Псалтыр». Вільня. 1576. Фрагмент старонкі.



Да арт. **Кірыліцкае кнігадрукаванне.** «Трыбунал Вялікага княства Літоўскага». Вільня. 1586. Тытульны ліст.

дошкі С., яго віленскія застаўкі і значная частка ксілаграф. ініцыялаў. Асаблівай разнастайнасцю тэматыкі і мастацка-паліграф. афармлення выданняў адзначаны першы перыяд у дзейнасці брацкіх друкарняў — да 1654. У выніку ўзмацнення сац.-паліт. і нац.-рэліг. прыгнёту, палітыкі абмежавання брацкага кнігадрукавання, якая праводзілася ўрадам Рэчы Паспалітай у саюзе з каталіцкай царквой, у 2-й чвэрці 17 ст. назіраецца перамяшчэнне гал. цэнтраў К. к. з зах. абласцей Вял. кн. Літоўскага ва ўсходнія — у Магілёў і Куцейна (каля Оршы). Атрымалі пашырэнне перасоўныя друкарні, фактычна цесна звязаныя з брацтвамі. Творчая ўзаемасувязь усх.-слав. народаў у галіне кнігадрукавання асабліва яскрава ўвасоблена ў дзейнасці вандроўнага бел. друкара С. Собаля. У 1620-я г. ён заснаваў друкарню ў Кіеве, потым перавёз яе на Беларусь, у 1637 прывёз вядомаму маскоўскаму друкару Васілю Бурцаву матрыцы для адліўкі шрыфтоў і інш. друкарскія матэрыялы. На Беларусь неаднаразова паступалі буйныя партыі маскоўскіх і ўкр. выданняў. У сярэдзіне 1650-х г. у Расію пераехалі куцеінскія друкары на чале з І. Труцэвічам. Куцеінская друкарня была дастаўлена ў Іверскі манастыр пад Ноўгарадам, дзе працягвала кнігадрукаванне. У 1676 яе маёмасць была перададзена на Друкарскі двор у Маскве. З 2-й пал. 17 ст. бел. К. к. ўступіла ў паласу зацяжнога крызісу, абумоўленага агульным сац.-эканам. і паліт. крызісам Рэчы Паспалітай. У тэматыцы друкаваных кніг узрасла ўдз. в. літургічных выданняў. У гэты час практычна дзейнічала толькі адна брацкая друкарня ў Магілёве. Нягледзячы на зробленыя ў канцы 17— пач. 18 ст. спробы палепшыць вонкавы выгляд выданняў (глыбокі друк з металагравюр), прыцягненне таленавітых гравёраў (М. і В. Вашчанкі, Ф. Ангілейка і інш.), мастацка-паліграф. афармленне выданняў пагаршалася.

Адноснае развіццё ў гэты час атрымала уніяцкае К. к., цэнтр якога ў канцы 17 ст. перамясціўся з Вільні ў Супрасль (цяпер Беластоцкае ваяв. ПНР). У 1-й чвэрці 18 ст. Супрасльская друкарня атрымала манапольнае права на выданне літургічнай уніяцкай л-ры новай царк. арыентацыі. Гэта паставіла яе ў спрыяльныя ўмовы, дазволіла пашырыць друкарню і выпускаць выданні вял. для таго часу тыражамі. Новы свецкі змест і змены вонкавага выгляду кнігі характарызуюць польска-лац. выданні друкарні ў 2-й пал. 18 ст. У 18 ст. Магілёўская брацкая, Гродзенская (каралеўская), Супрасльская, Троіцкая віленская друкарні выпусцілі шэраг выданняў для раскольнікаў. На Беларусі іх пасяленні з'явіліся ў 2-й палове 17 ст., і стараверская абшчына зрабіла спробы наладзіць у бел. друкарнях выданне раскольніцкай л-ры паводле ўзораў рус. «даніканаўскіх» кніг. Стараверскія кнігі, многія з якіх выдаваліся з недакладнымі ці фіктыўнымі выхаднымі данымі, распаўсюджваліся таксама ў Расіі і на Украіне. На думку сучасных даследчыкаў, гэта — значная з'ява ў

гісторыі рус. «нізавой» дэмакр. л-ры 18 ст. Уз'яднанне Беларусі з Расіяй у канцы 18 ст. прывяло да значных пераўтварэнняў у кнігадрукаванні. З'яўляюцца новыя друкарні, пашыраецца грамадзянскі шрыфт. Кнігадрукаванне і выдавецкая справа становяцца часткай агульнага гісторыка-культ. працэсу, які развіваўся ў Расіі, Беларусі, на Украіне. Гл. таксама табліцу.

*Літ.:* 19; 48; 69; 159; 206; 220; 332; 334; 335; 558; 564; 648; 789. *Г. Я. Галенчанка.*

**КІСЛЫ** Уладзімір Нікадзімавіч (н. 1957), беларускі сав. самадзейны мастак. Аўтар партрэта «Францыск Скарына — беларускі асветнік і першадрукар» (59×45; палатно, алей; 1981; краязнаўчы школьны музей у в. Гальшаны Ашмянскага р-на). С. паказаны ў сваёй майстэрні, схіліўшыся за пісьмовым сталом. Майстэрня ахутана вячэрнім змрокам, за акном высока ў небе — першыя зоркі. С. асэнсоўвае зробленае, марыць пра заўтрашні дзень — будучыню свайго народа. Сувязь С. з народам, з Радзімай мастак падкрэсліў радкамі з прадмовы да кн. «Юдзіф», якія змешчаны ў ніжняй частцы карціны.

**КІШКА** Ян (? — 26.7.1592), літоўска-беларускі магнат Вял. кн. Літоўскага. Меў маёнткі на Беларусі (Іўе, Лоск, Любча, на Падляшшы). Вучыўся ў 1563 у Базелі, з 1654 у Цюрыху, потым у Рыме, Неапалі і Балоньі. З 1569 крайчы літоўскі. У Лівонскую вайну ў 1580 на чале свайго атрада ўдзельнічаў у паходзе караля Стэфана Баторыя на Вялікія Лукі. У 1579 кароль назначыў яго падчашым літ. і старостам жмудскім (з 1579 сенатар Рэчы Паспалітай), з 1588 кашталян віленскі, з 1589 ваявода брэсцкі, дзяржаўца быстрыцкі і цівун эйрагольскі. У сваіх маёнтках пашыраў арыянства, замяняючы кальвіністкіх міністраў (пастараў) арыянскімі. У Іўі заснаваў арыянскую акадэмію, у Венграве на Падляшшы — друкарню (1570), якую пераве́ў у Лоск (існавала ў 1574—92). На арыянскіх сінодах у Лоску ў 1578 і 1581, а таксама ў 1582 у Любчы выступіў супраць левага радыкальнага цячэння ў арыянскім руху. Аўтар некалькіх рэліг. трактатаў. На сейме 1589 выступіў у абарону верацярпімасці. У кнігадрукаванні працягваў традыцыю С. *А. П. Грыцкевіч.*

**КІШЧАНКА** Аляксандр Міхайлавіч (н. 1933), беларускі сав. жывапісец. Засл. дз. маст. БССР (1980). Аўтар цыкла з шасці габеленаў (1985; тэатр оперы і балета ў Мінску), які складаецца з тэматычных дыпціхаў. У дыпціх «Асветнікі» ўваходзяць габелены «Першадрукар» і «Песняры Беларусі». Габелен «Першадрукар» (3,40×6 м) уяўляе вертыкальную трох'ярусную кампазіцыю.

Табліца

**Кірыліцкія друкарні 16—18 ст.**

| Назва друкарні, выдавец або друкар | Месцазнаходжанне друкарні | Час дзейнасці друкарні (па выхадных даных захаваных выданняў) | Колькасць захаваных выданняў |
|---|---|---|---|
| Ф. Скарына | Прага, Вільня | 1517—1519, каля 1522—1525 | 1(23) 2(22) |
| С. Будны, М. Кавячынскі, Л. Крышкоўскі | Нясвіж | 1562 | 1 |
| В. Цяпінскі | Цяпіна (?) | 1570-я г. | 1 |
| І. Фёдараў, П. Мсціславец | Заблудаў | 1569 | 1 |
| І. Фёдараў | Заблудаў | 1570 | 1 |
| П. Мсціславец у друкарні Мамонічаў | Вільня | 1575—76 | 3 |
| В. Гарабурда | Вільня | каля 1580—82 | 2 |
| Мамонічы | Вільня | 1583—1621 | 51 |
| Брацкая друкарня | Вільня | 1595—1652, 1693—97, 1705 | 75 |
| | Еўе | 1611—19 і 1636—46 | |
| Павел Дамжыў Люткавіч | Мінск (?) | 1622 | 1 |
| Троіцкая уніяцкая друкарня | Вільня | 1628, 1691, 1767—1800 | 48* |
| С. Собаль | Куцейна, Буйнічы, Магілёў | 1631 — канец 1630-х г. | 13 |
| І. Труцэвіч | Куцейна | 1636—54 | 14 |
| Брацкая друкарня | Магілёў | пач. 1640-х — 1649, канец 17 ст.— канец 18 ст. | 16 |
| М. Вашчанка | Магілёў | 1693 — каля 1707 | 16** |
| Без указання друкарні | Магілёў | пач. 18 ст.— 1761 | 9 |
| Супрасльская | Супрасль | 1690-я г.— канец 18 ст. | 99 |
| Акадэмічная | Вільня | 1779, 1791 | 2 |
| Гродзенская (каралеўская) | Гродна | 1781—95 | 29 |
| Усяго: | | | 385 |

* Уключаны віленскія выданні, якія выйшлі без указання друкарні ў апошняй трэці 18 ст. і большасць якіх надрукавана ў Троіцкай друкарні.

** Уключаны выданні, надрукаваныя ў друкарні Магілёўскага брацтва.

Асобныя яе часткі змешчаны ў круглых медальёнах па цэнтр. вертыкальнай восі. Фон для медальёнаў — вертыкальныя промні святла. Яны ўспрымаюцца як нацягнутыя струны арфы, ствараюць уражанне, нібыта габелен стаіць, упіраючыся промнямі ў падлогу і столь. Асн. змест прыпадае на верхнюю частку твора, дзе змешчаны партрэт С. ў абрамленні атрыбутаў, вядомых па гравюрнаму партрэту С. з «Бібліі». Вобраз першадрукара мае адначасова дакладна-партрэтныя і гістарычна-абагульненыя рысы вучонага-гуманіста. Партрэт дапаўняе выява магутнага дрэва, што ідзе каранямі з разгорнутай кнігі. У ніжняй частцы выява Арфея ў залатым вянку з арфай у руках. Медальён з партрэтам С. (1978; 2,5×2,5 м) К. уключыў таксама ў кампазіцыю мазаічнага пано на тарцы дома ў мікрараёне Усход-1 у Мінску. *П. П. Васілеўскі.*

**КЛІМКО́ВІЧ** Міхась (Міхаіл Мікалаевіч; 1899—1954), беларускі сав. пісьменнік. Значнае месца ў творчасці займаюць гіст. творы з эпохі 16. ст. Аўтар драм. паэмы-трылогіі «Георгій Скарына» (1946—55), прасякнутай ідэяй дружбы слав. народаў. Паэма вызначаецца паказам класавай, рэліг., нац. і вызв. барацьбы 16 ст. У ёй асветлены жыццёвы шлях С., яго асабістыя пачуцці, гуманізм, адданасць ідэі асветы роднага народа, данесены каларыт эпохі. Паводле скарочанага варыянта паэмы зроблены радыёспектакль (рэж. М. Троіцкая, 1964), напісана лібрэта оперы (аўтар С. М. Клімковіч, 1980, кампазітар Дз. *Смольскі*).

*Літ.:* 877; Глебка П. Гістарычныя творы М. Клімковіча // Глебка П. Паэзія барацьбы і перамогі. Мн., 1973. *В. Н. Дышыневіч.*

**КЛЫШКА** Анатоль Канстанцінавіч (н. 1935), беларускі сав. пісьменнік, крытык, перакладчык. Аўтар папулярнага нарыса «Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга», выдадзенага ў 1983 асобнай кнігай, у якім ахарактарызавана эпоха С., раскрыты асн. этапы жыцця і творчай дзейнасці С. (Полацк, Кракаў, Падуя, Прага, Вільня, Прага), яго нац. вытокі, значэнне подзвігу першадрукара для развіцця бел. культуры, паўстае яркі вобраз асветніка-гуманіста, грамадзяніна-патрыёта, які бачыў сэнс жыцця ў самаахвярным служэнні свайму народу, у яго духоўным узвышэнні. Даецца кароткая гісторыя рукапіснай кнігі, што дапамагае лепш зразумець сапраўды рэвалюцыйнае значэнне кнігадрукавання ў культ. гісторыі чалавецтва. У 1986 у скарочаным выглядзе надрукавана ў перакладзе на рус. мову ў вып. 20 «Альманаха бібліяфіла» ў Маскве. Увёў матэрыял пра С. ў «Буквар». *В. А. Чамярыцкі.*

**«КНІ́ГА БЕЛАРУ́СІ» 1517—1917**, зводны каталог, які ўключае бібліяграфічныя апісанні кніг на бел. мове (незалежна ад месца выдання) і кніг на рус. мове і мовах народаў СССР і замежных краін, што выдадзены на тэр. Беларусі ад пачатку бел. кнігадрукавання да Кастр. рэвалюцыі.

Выйшаў у 1986 на бел. і рус. мовах (навук. рэдактары С. Х. Александровіч,

Н. Б. Ватацы, І. П. Хаўратовіч). Уключае 3 раздзелы: «Старадрукаваныя кірылічныя выданні XVI—XVIII ст.» (складальнік Г. Я. Галенчанка), «Выданні на беларускай мове. XIX — пачатак XX ст.», «Выданні на рускай мове. XIX— пачатак XX ст.» (складальнікі Т. В. Непарожная і Т. К. Радзевіч). У 1-м раздзеле апісаны 390 кніг з 19 друкарняў (Прага, Вільня, Нясвіж, Цяпіна, Заблудаў, Еўе, Мінск, Куцейна, Буйнічы, Магілёў, Супрасль, Гродна). Раздзелу папярэднічае ўступны нарыс пра гісторыю бел. кнігадрукавання кірыліцкім шрыфтам. Пры апісанні кожнага выдання даюцца бібліяграф. характарыстыка і спасылка на л-ру, у якой апісана гэта выданне, месца захавання экземпляраў. Бібліяграф. характарыстыка ўключае імя і прозвішча аўтара, скарочаную або ўмоўную назву кнігі, звесткі пра месца выдання, друкарню і дату выхаду кнігі ў свет; прыведзена і поўная назва кнігі па тытульнаму лісту або пачатковай паласе; указаны фармат кнігі (у долях аркуша), фармат паласы набору, колькасць радкоў на паласе, вышыня 10 радкоў шрыфту, пералік асн. раздзелаў кнігі са спасылкамі на нумарацыю аркушаў або старонак. Дадзены звесткі пра наяўнасць кустод (у старадрукаваных кнігах — 1-е слова або яго частка наступнай старонкі, змяшчалася ў ніжнім правым вуглу папярэдняй старонкі), пра сігнатуры, фаліяцыі, арнамент (застаўкі, канцоўкі, ініцыялы) і гравюры, змешчаныя ў кнізе, подпісы гравёраў. Пры месцы захавання экземпляраў прыводзяцца скарочаныя індэксы б-к і шыфры, прысвоеныя экземплярам. У бібліяграф. спасылках прыведзены скарочаныя абазначэнні каталогаў і апісанняў старадрукаваных кніг, а таксама манаграфій і навук. артыкулаў, у якіх ёсць апісанні гэтага выдання.

А. Кішчанка. Першадрукар. Габелен. 1985.



У раздзеле «Старадрукаваныя кірылічныя выданні XVI—XVIII ст.» падрабязна апісаны выданні С.— 23 пражскія (кожная з 4 кн. «Царствы» змешчана пад асобным нумарам) і 23 віленскія («Канон у суботу на ютрані» змешчаны пад асобным нумарам). Нумарацыя ў гэтым выпадку падвойная. Самастойныя пазіцыі (ад № 1 да № 3) прысвоены «Бібліі» 1517—19, «Малой падарожнай кніжцы» каля 1522 і «Апосталу» 1525. Асобныя кнігі з «Бібліі» і «Малой падарожнай кніжкі» абазначаны двайнымі індэксамі. Улічаны ўсе вядомыя экземпляры выданняў С. Бібліяграф. апісанні размешчаны ў храналаг. парадку (па даце выхаду ў свет). Навук. апарат 1-га раздзела ўключае паказальнікі: імянны, назваў выданняў (па месцы і часе іх выхаду, друкарнях, друкарах), геаграфічны, а таксама спіс скарочаных абазначэнняў асн. бібліяграф. і літ. крыніц.

**КНІГА «БЫЦЦЁ»,** Первыя книги Моисеовы рекомые Бытия», пражскае выданне С., якое выйшла ў свет у 1519. Першая з кніг т. зв. *«Пяцікніжжа»*, якім пачынаецца Стары запавет (гл. с. 7—17, 103—106). Адкрываецца тытульным лістом да ўсёй «Бібліі».

У гравіраванай рамцы — тэкст, надрукаваны кінаварам: «Бивлия руска выложена докторомъ Францискомъ Скориною из славного града Полоцька, богу ко чти и людемъ посполитымъ к доброму научению». На адвароце тытула гравюра. На арк. 2—6-м адв. «Предъсловие доктора Францыска Скорины с Полоцька во всю Бивлию рускаго языка». У прадмове С. растлумачыў слова «Біблія». Указаў, што ў склад «Бібліі» ўваходзяць «вси книги Ветхаго и Новаго закону», прывёў цытаты з Адкравення св. Іаана, Паслання да рымлян апостала Паўла і

з Евангелля ад Матфея, якія ён адносіў да Бібліі. Даў разгорнутую характарыстыку Бібліі, якая гіпербалізавана ў поўнай адпаведнасці з поглядамі эпохі. С. спрабаваў звязаць Біблію з асн. універсітэцкім курсам *«сямі вольных мастацтваў»*. Ён апісаў структуру Бібліі, якая «делиться на двое: у ветхий закон и у новый». Пералічыў кнігі Старога запавету і прывёў звесткі пра склад Новага запавету, коратка анатаваў іх змест. «Предъсловие да ўсёй Библіі» С. заканчвае словамі: «О сих книгах всея Библии, подле малости розуму моего, розделы вократце положих. А в чем быхся омылих [памыліўся], разумнейшие поправте, прошу вас для бога и для посполитого доброго». Такі зварот да чытача быў традыцыйным заканчэннем твораў стараж. усх.-слав. кніжнасці.

На арк. 7—8-м К. «Б.» змешчана «Сказание во первые книги Моисеовы рекомые Бытия доктора Франъциска Скорины». Гэта разгорнутая анатацыя зместу кнігі. У канцы прадмовы С. падкрэсліў цяжкасць успрымання К. «Б.» і інш. раздзелаў Бібліі — «книг Езехииля-пророка» і «Песні песням». На арк. 9—93-м адв. прыведзены тэкст 50 раздзелаў кнігі, на арк. 94-м — пасляслоўе. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання — у чвэрць аркуша, аб'ём — 94 арк., якія сабраны ў 12 сшыткаў (11 васьміаркушавых і 1 шасціаркушавы). Набор выкананы пражскім шрыфтам С.—10 радкоў вышынёй 75 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя на верхнім баку аркуша ўверсе справа. Памылковая фаліяцыя «ИІ» на арк. 20-м і «К» на арк. 22-м закрэслена кінаварам і выпраўлена чарнілам ад рукі ва ўсіх вядомых экземплярах; гэта было зроблена яшчэ ў друкарні. Маст. аздоба — 3 ілюстрацыі, застаўка, 54 ініцыялы (з 25 дошак) і арнаментальная рамка тытульнага ліста. На адвароце тытульнага ліста гравюра *«Тройца»*, якая трактуе сюжэт «бітва анёлаў з д'ябламі». Над гравюрай — калонтытул: «Книги І Моисеовы». На арк. 8-м адв.— гравюра *«Стварэнне свету»*, на якой адлюстраваны 6 дзён тварэння. На арк. 9-м, дзе пачынаецца асн. тэкст К. «Б.», у якасці застаўкі (53×107 мм) выкарыстана гравюра *«Бог у раі»*. Перад пасляслоўем на арк. 94-м вузкая (105×8 мм) застаўка. Рамка тытульнага ліста складаецца з 4 частак. Вертыкальныя яе часткі (167×18 мм) запоўнены арнаментальным малюнкам. Верхняя частка (42×69 мм) змяшчае гербавы шчыт, акружаны раслінным уюнком. Галіны ўюнка ўнізе завяршаюцца змяінымі галовамі. Ніжняя частка рамкі (37×69 мм) запоўнена 2 гербавымі шчытамі, на адным з якіх выява «зацьмення сонца», на другім — манаграма (не расшыфравана). Ініцыялы змешчаны ў пачатку раздзелаў і прадмоў. У некат. экземплярах ілюстрацыі і арнаментальныя аздабленні размаляваны ад рукі.

К. «Б.» упершыню апісаў у 1776 І. Р. *Бакмейсцер,* якому быў вядомы экземпляр б-кі Пецярбургскай АН (БАН, 37.1.1). Разам з інш. кнігамі «Пяцікніжжа» ён у пераплёце 18 ст. (кардон у скуры з арнаментальным залатым цісненнем на карашку і старонках). На карашку ціснёны надпіс: «Библия. Часть 1». Абрэз афарбаваны. Як форзац выкарыстана мармуровая папера 18 ст. Тытульны ліст і гравюра на адвароце яго ў гэтым поўным экземпляры захаваліся параўнальна добра, хаця і падклеены па краях. На падклейцы — подпіс 18 ст.: «Василий Лукич Машков». І. Г. *Штрытэр* у 1783 увёў у навук. ўжытак 2-і экз. К. «Б.», які на той час знаходзіўся ў Маск. архіве Калегіі замежных спраў. Канвалют, што змяшчае ўсё «Пяцікніжжа», захоўваецца ў Цэнтр. дзярж. архіве стараж. актаў (ЦДАСА, ф. 1250, № 963). Пераплёт тома новы, зроблены пры рэстаўрацыі. На адвароце верхняй вокладкі наклеены экслібрыс: «Государственного древлехранилища памятники письменные, 5-й отдел, рубрика IV, № 1, ч. 1-я». Канвалют набыў (да 1766) у Пецярбургу Г. Ф. Мілер. У 1825 П. І. *Кепен* упершыню ўпамянуў пра 3-і экз. К. «Б.», які разам з астатнімі часткамі «Пяцікніжжа» знаходзіўся ў *Суздальскім Спаса-Яўхіміеўскім манастыры.* Цяпер кніга ва Уладзіміра-Суздальскім музеі-запаведніку. Канвалют пераплецены ў дошкі, пакрытыя цёмна-вішнёвым аксамітам. У кнізе адсутнічаюць 2 арк.— тытульны і 8-ы. Чацвёрты экземпляр К. «Б.» ўвёў у навук. ўжытак у 1829 П. М. *Строеў.* Кніга знаходзілася ў зборы Ф. А. *Талстога.* Экземпляр быў няпоўны, у ім адсутнічалі 12 аркушаў. Цяпер кніга захоўваецца ў Дзярж. б-цы імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 6535). Яна пераплецена у дошкі, абцягнутыя скурай. На верхняй дошцы — ціснёная выява арла, на яе адвароце наклеены экслібрыс: «Из библиотеки графа Ф. А. Толстова. Отдел VII, № 5». Тут жа рукою А. Я. Віктарава зроблена памета: «Вх. № 1572. Из Императ. Публ. Библ. ноября 1874 г.». У 1836 Строеў увёў у навук. ўжытак 5-ы экз. «Пяцікніжжа» С., дзе была і К. «Б.». Гэты канвалют, пераплецены ў дошкі, абцягнутыя скурай, знаходзіўся ў зборы І. М. *Царскага* (пазней збор набыў А. С. Увараў). Кніга захоўваецца ў Дзярж. Гіст. музеі (ДГМ, Цар. 5). У ёй няма першых 18 арк. І. П. *Сахараву* ў 1849 былі вядомы ўжо 9 экз. «Пяцікніжжа», 5 з іх упершыню ўводзіліся ў навук. ўжытак. Гэта экземпляры са збораў А. І. *Касцерына,* І. П. *Каратаева,* Лабкова, І. Т. Якаўлева і Троіцкай духоўнай акадэміі. Зборы Касцерына ў 1848 і Каратаева ў 1861 паступілі ў пецярбургскую Публ. б-ку. Экземпляр Касцерына можна атаясаміць з экземплярам Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.4[а]/[1]). Ён пераплецены ў 19 ст. Старонкі пераплёту кардонныя, карашок скураны з залатым цісненнем: «Библия, переведенная Скориною 1517—1519. Часть 1». Экземпляр цікавы тым, што ў ім змешчана выканане ад рукі факсімільнае аднаўленне партрэта С. У той жа б-цы знаходзіцца і экземпляр Каратаева (1.5.4[б]/[1]). Ён у пераплёце з дошак у ціснёнай скуры. На адвароце верхняй вокладкі наклеены экслібрыс: «Из библиотеки Ивана Прокофьевича Коротаева». У 1-м і 2-м экземплярах ДПБ няма першых двух аркушаў, яны заменены літаграфаванымі факсіміле. Экземпляр Троіцкай духоўнай акадэміі (пазней паступіў у Маскоўскую духоўную акадэмію) знаходзіцца ў ДБЛ (№ 6533). Ён вельмі добра захаваўся, хоць і ў новым, зробленым пры рэстаўрацыі пераплёце. Месцазнаходжанне экземпляраў Лабкова і Якаўлева невядома. У 1872 А. М. Папоў увёў у навук. ўжытак экземпляр «Пяцікніжжа» са збору А. І. Хлудава, у ім была і К. «Б.». Кніга знаходзіцца ў ДГМ (Хлуд. 5). Яна пераплецена ў 18 ст. ў дошкі, абцягнутыя скурай. Форзац з сіняй паперы. На адвароце верхняй дошкі наклеены экслібрыс: «Из библиотеки А. И. Хлудова». Экземпляр поўны. На адным з яго аркушаў уладальніцкі запіс канца 18— пач. 19 ст.: «Сия книга Епифанского уезднаго суда капеиста Петра Иванова сына Крафтлеса». У 1878 зарэгістраваны экземпляр «Пяцікніжжа», які знаходзіўся ў б-цы Новарасійскага ун-та. Цяпер ён у Адэскай дзярж. навук. б-цы (№ 1/9066). У 1878 Каратаеў у «Апісанні славяна-рускіх кніг» упамянуў, што «Біблія» С. ёсць і ў асабістай б-цы П. В. *Шчапава,* аднак не раскрыў камплектнасць гэтага экземпляра. Збор Шчапава ў 1888 паступіў у ДГМ, дзе ёсць і канвалют з «Пяцікніжжам» (Шчап. 70). У К. «Б.» гэтага канвалюта не хапае першых 8 аркушаў. У 1888 у Львове адбылася Археалагічна-бібліяграф. выстаўка. Каталог яе склаў А. С. Петрушэвіч, які ўпершыню апісаў і экземпляр «Пяцікніжжа», які належаў Перамышльскай капітульнай б-цы. Лёс гэтага экземпляра невядомы. У 1924 уведзены ў навук. ўжытак экземпляр «Пяцікніжжа», што змяшчаў і К. «Б.». Раней ён належаў Кіеўскай духоўнай акадэміі, а пасля Кастр. рэвалюцыі паступіў у Музей Кіева-Пячэрскай лаўры. Цяпер канвалют знаходзіцца ў Цэнтр. навук. б-цы ў АН УССР у Кіеве (Кір. 687). Першыя 9 арк. К. «Б.» ў ім адсутнічаюць. У 1968 Я. Л. *Неміроўскі* ўвёў у навук. ўжытак 2 раней невядомыя экземпляры ДБЛ (№ 6534 і 6536), экземпляр Музея ўкр. мастацтва ў Львове (Q 1180). Першы з экземпляраў ДБЛ раней знаходзіўся ў навук. б-цы Саратаўскага дзярж. ун-та імя М. Г. Чарнышэўскага. Ён пераплецены ў 19 ст. ў дошкі, абцягнутыя скурай. На карашку наклеены ярлыкі з зялёнай скуры з залатым цісненнем «Библия Скоринина». На адвароце верхняй дошкі наклеены ярлык: «Отд. І. Сочинения Главн. библиотеки № 6». Другі экземпляр ДБЛ раней знаходзіўся ў б-цы Казельскай Опцінай пустыні. Кніга пераплецена ў 19 ст. ў дошкі, абцягнутыя замшай з маляўнічым арнаментальным цісненнем. У 1975 М. М. Пакроўскі паведаміў, што экземпляр «Пяцікніжжа» ёсць у Цюменскім абл. музеі, куды ён паступіў са збору цюменскага купца Чукмалдзіна. Усяго вядома 15 экз. К. «Б.», толькі 2 з іх поўныя.



**«Кніга Беларусі».** Зводны каталог. Вокладка. 1986.

Фрагмент К. «Б.» ёсць у Ягелонскай б-цы ў Кракаве.

*Літ.:* 668; 707. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КНІГА «ВЫХАД»,** «Книги вторыи Моисеовы, зовемые Исходъ», недатаванае пражскае выданне С., якое выйшла ў свет каля 1519. Другая з кніг т. зв. «Пяцікніжжа» (гл. с. 107—115). На тытульным лісце кнігі пад гравюрай змешчана назва кнігі і тэкст: «Зуполне выложены на руский языкъ доктором Франъциском Скориною з Полоцька богу въ Троици единому и пречистой матери его ко чти, и людем посполитым к науце». На арк. 1-м адв.— 4-м адв.— «Предословие доктора Франъциска Скорины с Полоцька во книги Исход Моисеовы». У прадмове каратка анатуецца змест К. «В.», пералічаны 10 запаведзей, якія выкладзены гутарковай бел. мовай, напр.: «Отца и матку чтити», «А не бери надармо имени его». Далей тлумачыцца змест кнігі. На арк. 5—76-м ідзе тэкст 40 раздзелаў К. «В.», арк. 76-м — кароткае пасляслоўе. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання — у 4-ю долю аркуша. Аб'ём 76 арк., сабраных у 8 васьміаркушавых і 2 шасціаркушавыя сшыткі. Набор выкананы пражскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 75 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя на верхнім баку аркуша ўверсе справа; на арк. 15-м яна перададзена літарамі «ІЕ» (замест «ЕІ»). Памылковая фаліяцыя «68» на арк. 70-м закрэслена кінаварам у большасці экз. і выпраўлена чарніламі (відаць, яшчэ ў друкарні). Маст. аздоба К. «В.» — 6 ілюстрацый, гравіраваных на дрэве, застаўка і 43 ініцыялы, надрукаваныя з 24 дошак. На тытульным лісце гравюра *«Дачка фараона і Майсей»*. На арк. 45-м адв.— гравюра *«Узор ківота»*, на арк. 46-м адв.— гравюра *«Узор стала»*, на арк. 47-м адв.— гравюра *«Узор свяцільніка»*. Гравюра *«Узор трэбніка»* змешчана на арк. 50-м адв. На арк. 52-м адв.— гравюра «Узор рыз». На арк. 5-м перад асн. тэкстам застаўка (106×53 мм) з выявай «диких людей», якія апіраюцца на незапоўненыя гербавыя шчыты. Паміж імі шчыт з «зацьменнем сонца». Такая самая застаўка сустракаецца яшчэ ў 5 пражскіх выданнях С. У кн. «Царствы» яна адціснута 4 разы. Гравіраваныя на дрэве ініцыялы папярэднічаюць асобным раздзелам К. «В.», тэкстам на тытульным лісце і прадмове.

К. «В.» упершыню апісаў у 1776 І. Р. *Бакмейсцер*. Яе звычайна пераплятаюць разам з 4 інш. кнігамі «Пяцікніжжа», таму гісторыя адкрыцця асобных экземпляраў гэтага выдання С. такая самая, як і астатніх частак «Пяцікніжжа» (гл. ў арт. *Кніга «Быццё»*). Тыя канвалюты, у якія кн. «Быццё» не ўваходзіць, звычайна вынік дзейнасці бібліятэкараў 19 ст. У той час у б-ках у канвалюце «Пяцікніжжа» замянялі асобныя некамплектныя часткі нанава набытымі экземплярамі, астатнія фрагменты пераводзілі ў дублетны фонд — напр., канвалют Дзярж. Публ. б-кі (1.5.4$^{в}$/2), які ўключае толькі К. «В.» і кн. «Левіт». Пераплёту канвалют не мае. У складзе К. «В.» захаваліся толькі арк. 1-ы, 30-ы, 41-ы, 45—48-ы, 52-і, 71-ы, 76-ы. Паходжанне экземпляра невядома. У навук. ўжытак яго ўвёў у 1968 *Я. Л. Неміроўскі*. У экземпляры К. «В.», які пераплецены разам з кн. «Лічбы» і знаходзіцца ў Музеі укр. мастацтва ў Львове (Q415/07511), захаваліся (часткова ў невял. фрагментах) арк. 10—42-і, 44-ы, 46—48-ы, 50—55-ы, 57—76-ы. Пераплёт новы: кардон, аклеены форзацнай паперай. І гэты экземпляр уведзены ў навук. ўжытак у 1968. Усяго вядома 17 экз. К. «В.», з іх 3 поўныя.

*Літ.:* 668; 707. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КНІГА «ДРУГІ ЗАКОН»,** «Книги пятыи Моисеовы зовемыи от еврей Гельгадворимъ, по гречески Девтерономосъ, по латине Секунда Лекс, а по руски Вторый закон», пражскае выданне С., якое выйшла ў свет у 1519. Пятая з кніг *«Пяцікніжжа»* (гл. с. 135—143). На тытульным лісце пад гравюрай змешчана назва кнігі і ўказана: «Зуполне выложены докторомъ Франъциском Скориною с Полоцька». На арк. 1-м адв.— 4-м адв.— «Сказание доктора Франъциска Скорины с Полоцька въ книги Втораго закону Моисеова». У прадмове С. разглядае сутнасць *«закона пісанага»* і *«закона прироженого»*, што адлюстроўвае яго сацыяльна-прававыя погляды. Далей С. спаслаўся на сваю прадмову да 1-й кн. «Царствы», дзе ён каратка выклаў гісторыю заканадаўства. Сярод законаў С. адрозніваў права «посполитое», «языческое», «царское», «рицерское», «местьское», «морское», «купецькое». Каратка выклаў змест усіх гэтых «праў» (напр., «рицерское или военное, еже на войне соблюдаемо бываеть. Яко справовати полки, знати своя места, розумети глас труб, делити користи, давати оброки»). На думку С., усе чалавечыя «права или уставы божий закон в собе замыкаеть». У заключэнне С. тлумачыць сэнс Старога і Новага запаветаў. На арк. 5—66-м змешчаны тэкст 34 раздзелаў К. «Д. з.», на арк. 66-м — пасляслоўе. Мова К. «Д. з.» — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання ў 4-ю долю аркуша. Аб'ём 66 арк., сабраных у 8 сшыткаў (7 васьміаркушавых і дзесяціаркушавы). Набор выкананы пражскім шрыфтам С. —10 радкоў вышынёй 75 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя размешчана на верхнім баку аркуша ўверсе справа. У нумарацыі раздзелаў зроблена памылка друку: «Глава 33» замест «34». Маст. аздоба — гравіраваная на дрэве ілюстрацыя, застаўка і 37 ініцыялаў, надрукаваных з 24 дошак. На тытульным лісце змешчана гравюра *«Майсей перад народам»*. Асн. тэксту К. «Д. з.» на арк. 5-м папярэднічае застаўка (106×52 мм) з выявай «русалак» з рыбінымі хвастамі, паміж якімі гербавы шчыт з «зацьменнем сонца». Такая застаўка сустракаецца яшчэ ў 7 пражскіх выданнях С. Гравіраванымі на дрэве ініцыяламі пачаты раздзелы, а таксама тэксты тытульнага ліста і прадмовы.

К. «Д. з.» упершыню ўвёў у навук. ўжытак у 1776 І. Р. *Бакмейсцер*, якому быў вядомы экземпляр «Пяцікніжжа» (захоўваецца ў Б-цы АН СССР; 37.1.1). К. «Д. з.» звычайна пераплятаюць разам з 4 інш. кнігамі «Пяцікніжжа», таму гісторыя адкрыцця асобных экземпляраў гэтага выдання С. такая самая, як і астатніх частак «Пяцікніжжа» (гл. *Кніга «Быццё»*). Вядома 14 экз. К. «Д. з.», з іх 5 поўныя.

*Літ.:* 668; 707. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КНІГА «ІОЎ»,** «Книга светого Иова починается еже словеть Иовъ», другое вядомае пражскае выданне С., якое выйшла ў свет 10.9.1517. Адносіцца да т. зв. аддзела «Пісанні» Старога запавету (гл. с. 26—30). Адкрываецца тытульным лістом з гравюрай, назвай кнігі і чатырохрадковымі вершамі. На арк. 1-м адв.— 2-м адв. змешчана «Предъсловие в книгу Иов», у якім С. піша пра значэнне кнігі, анатуе яе змест. На арк. 3—4-м змешчаны тэкст «О житии светого Иова и о роде его выписуеться». На арк. 51-м адв.— кароткае пасляслоўе з указаннем імя выдаўца, месца друкавання («у старом месте Празском») і часу выхаду кнігі ў свет. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Выданне вядома ў 2 варыянтах. У 2-м варыянце тытул змешчаны на арк. 2-м, адварот якога пусты; прадмова адсутнічае. Фармат выданняў у 4-ю долю аркуша. Аб'ём кнігі — 52 арк. (52-і арк. пусты). У кнізе 6 сшыткаў, у 1-м і апошнім з іх 10 арк., у астатніх па 8. На паласе 22 радкі. Набор выкананы пражскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 75 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя змешчана ўверсе аркуша справа. Маст. аздоба — 2 аднолькавыя гравюры *«Бічаванне Іова»*, якія надрукаваны на арк. 1-м і 4-м (у 2-м варыянце толькі на арк. 4-м) з той самай дошкі, застаўка і 46 ініцыялаў, надрукаваных з 34 дошак. На арк. 1-м адв. (у 2-м варыянце на арк. 2-м) змешчана віньетка, якая раней была выкарыстана ў «Псалтыры». Пазней з той самай дошкі былі надрукаваны віньеткі і ў інш. выданнях С. У верхняй частцы аркушаў калонтытул «Книга» (на адваротным баку аркуша), «Светого Иова» (на верхнім баку аркуша).

Першае ўпамінанне пра К. «І.» адносіцца да 1783 і належыць І. Г. *Штрытэру*, якому быў вядомы экземпляр Архіва Мін-ва замежных спраў (знаходзіцца ў Цэнтр. дзярж. архіве стараж. актаў). Экземпляр гэты набыты ў Маскве гісторыкам Г. Ф. Мілерам, (1705—1783). У 1786 экземпляр К. «І.» у канвалюце, дзе былі таксама кн. «Царствы», «Еклесіяст», «Ісус Сірахаў», «Песня песням», «Прамудрасць божая» і ўрывак «Псалтыра», набыты пецярбургскім кнігагандляром І. Вогакам. Лёс гэтага экземпляра невядомы. У 1813 В. С. *Сопікаў* увёў у навук. ўжытак яшчэ 3 экземпляры. Першы з іх знаходзіўся ў канвалюце, які належаў бібліяфілу П. П. Дуброўскаму (1754—1816). У ім былі пераплецены кн. «Еклесіяст», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», К. «І.». У 1804 Дуброўскі прадаў свой збор Аляксандру І; на яго аснове было створана «Дэпо манускрыптаў» (пазней Аддзел рукапісаў) Публ. б-кі. Ці паступіў у б-ку канвалют з пражскім выданнем С., невядома. Зараз мы не можам атаясаміць з ім ні адзін з захаваных экземпляраў. Другі з апісаных Сопікавым экземпляраў К. «І.» належаў прафесару Маскоўскага ун-та Ф. Р. *Баузе*; ён быў пераплецены асобна. Б-ка Баузе загінула ў час маскоўскага пажару 1812. Трэці вядомы Сопікаву экземпляр К. «І.» знаходзіўся ў канвалюце, які змяшчаў кн. «Ісус Сірахаў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», «Пра-

мудрасць божая», «Юдзіф», «Эсфір», «Плач Ераміі», «Прарок Данііл» і К. «І.». Канвалют знаходзіўся ў зборы Ф. А. *Талстога.* Пазней уладальнік збору, відаць, пераразмеркаваў экземпляры пражскіх выданняў С., якія належалі яму, і пераплёў іх, таму што ў 1829 П. М. *Строеў* апісаў у зборы Талстога другі канвалют, што змяшчаў кнігі «Юдзіф», «Эсфір» і К. «І.». У далейшым гэты экземпляр трапіў у збор І. М. Царскага; цяпер ён у Дзярж. Гіст. музеі (ДГМ, Цар. 8). У 1814 чэшскі славяназнавец І. *Добраўскі* апісаў новы экземпляр К. «І.» з канвалюта, што належаў Епіскапскай б-цы ў Мункачы (цяпер Мукачава, УССР). Акрамя К. «І.», канвалют змяшчаў кн. «Руф», «Ісус Навін», «Суддзі», «Юдзіф», «Эсфір». Частка гэтага канвалюта знаходзіцца ў Закарпацкім краязнаўчым музеі ў Ужгарадзе, але К. «І.» у ёй няма. У 1825 П. І. *Кепену* былі вядомы 6 экземпляраў К. «І.». Упершыню ўпамінаўся экземпляр са збору М. П. Румянцава. Гэта — канвалют, які змяшчае кн. «Эсфір», «Юдзіф», «Прарок Данііл» і К. «І.»; цяпер ён у Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна (№ 6520). У 1848 В. М. *Ундольскі* ўвёў у навук. ўжытак «Біблію» С. са збору А. І. *Касцерына,* не раскрыўшы, аднак, яе зместу. З паведамлення І. П. *Сахарава* (1849) вядома, што ў ёй была і К. «І.». Збор Касцерына ў 1848 паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку. Тут з экземпляраў, што належалі Талстому і Касцерыну, сфарміравалі камплект пражскай «Бібліі» С., які цяпер знаходзіцца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ 1.5.4 $^{a}/^{3}$). Паколькі экземпляр К. «І.» са збору Талстога трапіў да І. М. Царскага, можна сцвярджаць, што ў названым вышэй канвалюце ДПБ знаходзіцца экземпляр Касцерына. Сахараву быў вядомы таксама экземпляр К. «І.» са збору Якаўлевых; дзе ён зараз, невядома. І. П. *Каратаеву* ў 1878 быў вядомы экземпляр Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Знаходзіўся ён у канвалюце, які ўключаў, акрамя К. «І.», кн. «Ісус Сірахаў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Юдзіф», «Эсфір», «Плач Ераміі» і «Прарок Данііл». Канвалют у 1884 падрабязна апісаны А. С. *Радоскім;* лёс яго невядомы. У 1879 Ф. Н. Дабранскі ўпамянуў, а ў 1908 А. І. *Мілавідаў* апісаў экземпляр К. «І.», які належаў Віленскай публ. б-цы. Экземпляр заключаны ў скураны ціснёны пераплёт 17 ст. Гэта адзіны захаваны экземпляр 2-га варыянта К. «І.». Цяпер ён знаходзіцца ў ДБЛ (№ 6334). У 1923 А. Увядзенскі апісаў экземпляр К. «І.» са збору купцоў і прамыслоўцаў *Строганавых;* на той час ён знаходзіўся ў Строганаўскім палацы-музеі на Мойцы ў Петраградзе. Гэты канвалют, які ўключае, акрамя К. «І.», кн. «Руф», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў» і «Прытчы Саламона», зберагаецца ў Б-цы АН СССР (№ 37.1.17). Я. Л. *Неміроўскі* ў 1968 увёў у навук. ужытак 2 раней невядомыя экземпляры ДБЛ$_{6}$(№ 6518 і 6520), экземпляры ДПБ (1.5.4$^{6}$/$^{4}$), ДГМ (Шчап. 69) і Музея укр. мастацтва ў Львове (Q 1181). Адзін з экземпляраў ДБЛ паступіў са збору Г. П. Георгіеўскага, другі (у канвалюце, які змяшчаў таксама кн. «Эсфір», «Прытчы Саламона», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Песня песням», «Еклесіяст» і «Плач Ераміі») — з навук. б-кі Саратаўскага дзярж. ун-та імя М. Г. Чарнышэўскага. Канвалют ДПБ, які змяшчаў, акрамя К. «І.», таксама кн. «Плач Ераміі», «Прамудрасць божая», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Ісус Сірахаў», «Прарок Данііл», «Юдзіф» і «Эсфір», скамплектаваны ў 19 ст. з экземпляраў пражскіх выданняў С. са збораў Каратаева і М. *Пагодзіна.* У Пагодзіна К. «І.», відаць, не было. Магчыма, гэты экземпляр паходзіць са збору Каратаева, хоць у яго паказальніках ён не ўпамінаўся. Экземпляр «Бібліі» С. са збору ДГМ паходзіць з б-кі П. В. *Шчапава;* гэты канвалют змяшчае таксама кн. «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў», «Еклесіяст» і «Песня песням». Ён быў вядомы яшчэ ў 1878 Каратаеву, які, аднак, не раскрыў яго зместу. У 1961 Г. Я. *Галенчанка* ўвёў у навук. ўжытак, а ў 1974 апісаў няпоўны экземпляр К. «І.» (захавалася толькі 29 арк.), што знаходзіцца ў Дзярж. б-цы БССР імя У. І. Леніна $\frac{09}{4038}$. Экземпляр набыты ў 1925 у ленінградскага бібліяфіла Камарніцкага. У 5 экз. К. «І.» захаваліся запісы, зробленыя, відаць, у самой друкарні С.: «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына радци места Виленского», «А накладом Богдановым Онкович з Виленскаго места». Усяго вядома 10 экз. 1-га варыянта К. «І.» і два экз. 2-га варыянта. З 12 экз. толькі 5 поўных. Пусты арк. 52-і захаваўся толькі ў адным экземпляры.

*Літ.:* 556; 668. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КНІГА «ІСУ́С НАВІ́Н»,** «Книги Ісуса Навина еже от евреи называются Егошуа бин нунъ», пражскае выданне С., якое выйшла ў свет 20.12.1518. Уваходзіць у склад раздзела «Пракрокі» Старога запавету (гл. с. 82—90). Адкрываецца тытульным лістом з гравюрай і назвай кнігі. Тут жа ўказана: «Зуполъне выложены на руский языкъ докторомъ Францискомъ Скориною изъ славнаго града Полоцька...». На арк. 1-м адв.— 4-м змешчана «Предсоловие доктора Франъциска Скорины с Полоцька в книги Исуса сына Навина» (гл. с. 82). На арк. 5—47-м адв. змешчаны асн. тэкст кнігі, на арк. 48-м — пасляслоўе. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання — у чвэрць аркуша. Аб'ём кнігі — 48 арк., якія сабраны ў 6 васьміаркушавых сшыткаў. Набор выканаы пражскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 75 мм. На паласе — 22 радкі. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя змешчана на верхнім баку аркуша ўверсе справа. Маст. аздоба — гравюра *«Пераход цераз Іардан»,* змешчаная на тытуле, застаўка і 27 ініцыялаў, надрукаваных з 23 дошак. Застаўка (52 × 106) з выявай «сірэн» з рыбінымі хвастамі і гербавага шчыта з «зацьменнем сонца» папярэднічае асн. тэксту. Ініцыялы змешчаны ў пачатку раздзелаў і інш. тэкстаў.

К. «І. Н.» была вядома яшчэ складальніку стараж.-рус. бібліяграф. збору «Змест кніг, хто іх склаў», што напісаны каля 1666, але ўпершыню апублікаваны толькі ў 1846. К. «І. Н.» упершыню апісаў у 1813 В. С. *Сопікаў.* Яму быў вядомы экземпляр, які знаходзіўся ў б-цы Ф. А. *Талстога* ў канвалюце: кн. «Прамудрасць божая», «Прарок Данііл», «Юдзіф», «Суддзі», «Еклесіяст», «Эсфір», «Прытчы Саламона», К. «І. Н.». Лёс канвалюта невядомы. Магчыма, ён быў расплецены. Пазней бібліёграфы пры апісанні збору Талстога прыводзяць звесткі пра канвалюты інш. складу. У 1814 чэшскі славіст І. *Добраўскі* апісаў К. «І. Н.» па экземпляры Мукачаўскага манастыра. Экземпляр цяпер знаходзіцца ў Закарпацкім краязнаўчым музеі ў Ужгарадзе (№ М-434). І. *Лялевель* у 1823 увёў у навук. ужытак экземпляр К. «І. Н.», які знаходзіўся ў складзе канвалюта б-кі Варшаўскага універсітэта. Канвалют уключаў кн. «Суддзі», «Эсфір», «Еклесіяст», «Руф», «Песня песням» і К. «І. Н.». У Нацыянальнай б-цы ў Варшаве быў экземпляр «Бібліі» С. (Cim. 8240), загінуў у час 2-й сусв. вайны. У 1829 П. М. *Строеў* апісаў канвалют са збору Талстога, які змяшчаў К. «І. Н.» і кн. «Суддзі». Экземпляр паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку, дзе быў расплецены і ў лістападзе 1874 перададзены ў маскоўскі Публічны і Румянцаўскі музеі (цяпер ДБЛ, № 6527). У 1833 быў уведзены ў навук. ўжытак экземпляр са збору А. С. Шыраева (знаходзіцца ў Б-цы АН СССР — БАН, 37.1.2, зберагліся толькі асобныя аркушы). У 1836 Строеў апісаў параўнальна поўны (адсутнічаюць толькі арк. 1-ы і 48-ы) экземпляр са збору І. М. Царскага (знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве — ДГМ, Цар. 6). У 1848 В. М. Ундольскі ўвёў у навук. ўжытак экземпляр са збору А. І. Касцерына. Пазней экземпляр паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку (цяпер ДПБ, 1.5.4$^{a}$). І. П. Сахараву ў 1849 былі вядомы экземпляры Нацыянальнай б-кі ў Варшаве (загінуў у час 2-й сусв. вайны) і купцоў Якаўлевых (месцазнаходжанне экземпляра невядома). У 1902 У. Сразнеўскі набыў для б-кі Пецярбургскай Акадэміі навук экземпляр К. «І. Н.», пераплецены разам з кнігамі «Суддзі», «Руф» і «Царствы» (цяпер БАН, 37.1.3). У 1908 А. І. Мілавідаў увёў у навук. ўжытак канвалют, які належаў Віленскай публічнай б-цы і змяшчаў К. «І. Н.» і кн. «Суддзі» (цяпер ДБЛ, № 6528). Раней канвалют належаў прафесару Віленскага ун-та М. К. Баброўскаму. У 1968 Я. Л. *Неміроўскі* ўвёў у навук. ўжытак экземпляры Музея ўкр. мастацтва ў Львове (№ 1182/070519), навук. б-кі Маскоўскага дзярж. ун-та (№ 314128) і навук. б-кі Саратаўскага дзярж. ун-та (№ 853/9). У львоўскім экземпляры К. «І. Н.» пераплецена разам з кн. «Суддзі». Пераплёт новы, кардонны. Экземпляр Маскоўскага ун-та, у якім адсутнічаюць першыя 8 арк., заключаны ў канвалют, які змяшчае К. «І. Н.», кн. «Руф», «Суддзі» і «Царствы». Згублены тэкст адноўлены ад рукі ў 1770-я г. У 18 ст. зроблены і пераплёт кнігі — дошкі ў цёмна-карычневай скуры з ціснennем, экземпляр паступіў у б-ку Маскоўскага ун-та ў сярэдзіне 19 ст. Экземпляр навук. б-кі Саратаўскага дзярж. ун-та пераплецены асобна. Пераплёт кардонны. На адвароце верхняй вокладкі ярлык «Отд. І. Сочинения главной библиотеки № 9». Першыя аркушы кнігі страчаны і адноўлены ад рукі. Фрагмент К. «І. Н.» (2 арк.) знаходзіцца ў Ягелонскай б-цы ў Кракаве. Усяго вядома 10 экз. К. «І. Н.», з іх толькі адзін поўны (у ДПБ).

*Літ.:* 668; 702. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КНІГА «ІСУС СІРА́ХАЎ»,** «Книга Исуса Сирахова рекомая Панаретосъ Еклесиастыкусъ или Церъковникъ», пражскае выданне С., якое выйшла ў свет 5.12.1517. У адпаведнасці з рэдакцыяй «семидесяти толкователей» · («Септуагинта») уваходзіць у склад Старога запавету (гл. с. 40—48). Адкрываецца тытульным лістом з гравюрай і назвай кнігі. Тут жа ўказана: «Зуполне выложена на рускый языкъ докторомъ Францискомъ Скориною с Полоцка». На арк. 1-м адв.— 2-м змешчана «Предъсловие Исуса сына Сирахова в книгу, рекомую Церъковникъ», на арк. 2-м адв.— 4-м адв.—«... Другая предъмолъва доктора Франъциска Скорины въ книгу Исуса Сирахова». На арк. 5—81-м адв. змешчаны тэкст 51 раздзела кнігі. На арк. 81-м адв.— кароткае паслясловЕ. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання — у чацвёртую долю аркуша. Аб'ём кнігі — 82 арк., сабраныя ў 10 сшыткаў — 9 васьміаркушавых і адзін дзесяціаркушавы. Набор выкананы пражскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 75 мм. Сігнатура

адсутнічае. Фаліяцыя размешчана на верхнім баку аркуша ўверсе злева. На арк. 28-м памылкова прастаўлена фаліяцыя «ks» (26), на арк. 30-м — «ки» (28). У большасці вядомых экземпляраў памылкі выпраўлены ўручную — памылковыя лічбы закрэслены, а правільныя дапісаны побач кінаварам. Гэта, відаць, зроблена ў самой друкарні. У некат. экземплярах захавалася рукапісная сігнатура (нумарацыя сшыткаў), якая змешчана на верхнім баку першых і адваротным баку апошніх аркушаў сшыткаў. Маст. аздоба К. «І. С.» — 2 гравіраваныя на дрэве ілюстрацыі, 2 застаўкі і 32 ініцыялы, надрукаваныя з 19 дошак. Ілюстрацыя *«Дыспут»* на тытульным лісце паказвае дыспут на сярэдневяковым вучоным сходзе. На арк. 82-м змешчаны гравіраваны на дрэве партрэт С. Малая застаўка (памер 105×8 мм) папярэднічае першай прадмове. Вялікая застаўка (памер 106×53 мм) з «дзікімі людзьмі» і гербавым шчытом з «зацьменнем сонца» змешчана перад асн. тэкстам. Ініцыяламі вылучаны пачаткі раздзелаў і інш. тэкстаў. У Хранографе зах.-рус. рэдакцыі (гл. Поўны збор рус. летапісаў, т. 22) ёсць запіс пра пераклад К. «І. С.» — «...преложена с латынского на руский по рожестве Христове в лето 1517».

К. «І. С.» уведзена ў навук. ўжытак у 1786 Л. І. *Бакмейсцерам,* які паведаміў пра канвалют, набыты пецярбургскім кнігагандлярам І. Вогакам, што ўключаў таксама кн. «Царствы», «Еклесіяст», «Песня песням», «Прамудрасць божая» і «Іоў». В. С. *Сопікаву* ў 1813 былі вядомы 4 экз. гэтага пражскага выдання С. Адзін з іх знаходзіўся ў складзе канвалюта, які належаў бібліяфілу П. П. Дуброўскаму (1754—1816). Акрамя К. «І. С.», у яго ўваходзілі кн. «Іоў», «Еклесіяст», «Прамудрасць божая», «Прытчы Саламона». Месцазнаходжанне экземпляра невядома. Два экземпляры К. «І. С.», паводле Сопікава, захоўваліся ў Кірыла-Белазерскім манастыры (Валагодская вобл.), лёс іх таксама невядомы. Чацвёрты вядомы Сопікаву экземпляр знаходзіўся ў зборы Ф. А. *Талстога.* Гэта быў канвалют, у якім, акрамя К. «І. С.», знаходзіліся кн. «Іоў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Юдзіф», «Эсфір», «Плач Ераміі» і «Прарок Даніїл». У 1829 у «Дакладным апісанні старадрукаваных кніг славянскіх і расійскіх... Ф. А. Талстога» П. М. *Строева* апісаны канвалют ужо некалькі іншага складу. Аднак Сопікаў і Строеў указваюць, што на К. «І. С.» са збору Талстога меўся надпіс пра прыналежнасць кнігі ў мінулым Кіева-Пячэрскай лаўры. Паводле Сопікава, кніга куплена ў красавіку 1811. Канвалют паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку ў 1830 і тут быў дапоўнены кн. «Іоў», «Плач Ераміі» і «Прарок Даніїл», якія паходзілі са збору А. І. Касцерына. У такім выглядзе ён зараз знаходзіцца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.4$^{a/3}$). У К. «І. С.» гэтага канвалюта ўладальніцкі запіс паўуставам 16 ст.: «Сія книга е[с]т[ь] власная м[о]н[а]стыра Печерског[о] Кіевского». У 1836 Строеў апісаў канвалют, што належаў І. М. *Царскаму.* У ім сабраны кн. «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Прарок Даніїл» і К. «І. С.». Канвалют знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве (ДГМ, Цар. А9). У 1848 В. М. Ундольскі апісаў экземпляр К. «І. С.», які належаў А. І. Касцерыну. Канвалют з касцерынскага збору знаходзіцца ў ДПБ (1.5.4$^{a/3}$). Аднак К. «И. С.» у гэтым канвалюце заменена экземплярам са збору Ф. А. Талстога. І. П. Сахараву ў 1849 былі вядомы 5 экз. К. «И. С.». Адзін з іх, які належаў купцам Якаўлевым, упершыню ўводзіўся ў навук. ўжытак. У 1867 бібліятэкар Маскоўскага ун-та П. А. Бяссонаў падараваў экземпляр кнігі К. «І. С.» супрацоўнікам Чэшскага музея А. Я Врцятка і А. Пацеры. Гэты экземпляр зараз знаходзіцца ў б-цы Народнага музея ў Празе (шыфр 64D7). У 1870 Маскоўскі Публічны і Румянцаўскі музеі набылі збор слав. старадрукаваных кніг І. Я. Лукашэвіча, у якім былі 7 пражскіх выданняў С., у т. л. К. «І. С.». Гэты экземпляр упершыню названы ў «Справаздачы Маскоўскага Публічнага і Румянцаўскага музеяў за 1870—1872 гг.» (М., 1873). Цяпер ён знаходзіцца ў Дзярж. б-цы імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 6225). І. П. Каратаеў упершыню ўпамянуў пра экземпляр К. «І. С.», што знаходзіўся ў б-цы Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Канвалют, у які ён уваходзіў, змяшчаў таксама кн. «Іоў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Юдзіф», «Эсфір», «Плач Ераміі» і «Прарок Даніїл». Канвалют быў падрабязна апісаны А. С. Радоскім у 1884; дзе ён зараз, невядома. У 1923 А. А. Увядзенскі апісаў экземпляр К. «І. С.» са збору купцоў і прамыслоўцаў Строганавых; на той час ён знаходзіўся ў Строганаўскім палацы-музеі на Мойцы ў Петраградзе. Гэты канвалют, які ўключае, акрамя К. «І. С.», кнігі «Іоў», «Руф», «Прамудрасць божая» і «Прытчы Саламона», захоўваецца ў Б-цы АН СССР (БАН, 37.1.17). Я. Л. *Неміроўскі* ўвёў у 1968 у навук. ўжытак экземпляры ДБЛ (№ 6328 і 1439), ДПБ (1.5. 4$^{б/4}$), ДГМ (Шч. 69), Б-кі АН СССР (БАН, XIV. 6.25), Музея ўкр. мастацтва ў Львове (Q 1181). Экземпляр ДБЛ № 6328, які знаходзіцца ў канвалюце, што змяшчае таксама кн. «Эсфір», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Прамудрасць божая», «Песня песням», «Еклесіяст» і «Плач Ераміі», паступіў у ДБЛ у пачатку 1930-х г. з навук. б-кі Саратаўскага дзярж. ун-та імя М. Г. Чарнышэўскага. Другі экземпляр (ДБЛ, № 1439) паходзіць са збору Г. П. Георгіеўскага. На першым аркушы яго зроблены запіс «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына радци места Виленьского». Экземпляр ДПБ (1.5.4$^{б/4}$) уплецены ў канвалют, на карашку якога ёсць ярлык «Из древлехранилища Погодина». Але ў М. П. *Пагодзіна* К. «І. С.» не было; канвалют, відаць, больш позняга паходжання. У яго склад увайшлі кнігі С. з розных збораў. Экземпляр «Бібліі» С., дзе знаходзілася і К. «І. С.», быў яшчэ ў 1878 вядомы І. П. *Каратаеву,* які, аднак, не раскрыў зместу канвалюта. У 1961 Г. Я. *Галенчанка* ўвёў у навук. ўжытак, а ў 1974 апісаў экземпляр К. «І. С.» з Дзярж. б-кі БССР імя У. І. Леніна. Ён паходзіць са збору ленінградскага бібліяфіла Камарніцкага, што набыла ў 1925 б-ка БДУ. У 1978 В. П. Коласава ўпершыню апісала друкавана-рукапісны канвалют палемічнага характару са збору аддзела рукапісаў Цэнтр. навук. б-кі АН СССР у Кіеве. У першай частцы яго — 4 пражскія выданні С., сярод іх параўнальна поўны экземпляр К. «І. С.». Канвалют раней належаў Сафроніева-Маўчанскаму манастыру (непадалёку ад Пуціўля). У 1880-я г. ён быў перададзены Курскай духоўнай семінарыі. У 1920-я г. кнігу набыў у Курску член-кар. АН УССР П. М. Папоў. Усяго зберaглося 13 экз. К. «І. С.», з іх поўных 3. Партрэт С. — у экземплярах ДГМ, Цар. 9; БАН, 37.І.17; ДПБ, 1.5.4$^{a}$/$^{3}$; ЦНБ АН УССР.

*Літ.:* 556; 668. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КНІГА «ЛЕВІТ»,** «Книга третие Моисеовы, зовемые Леувить», недатаванае пражскае выданне С., якое выйшла ў свет каля 1519. Трэцяя з кніг *«Пяцікніжжа»* (гл. с. 116—125). На тытульным лісце пад гравюрай прыведзен назва кнігі і ўказана: «Зуполне выложены на руский языкъ доктором Францыском Скориною с Полоцька богу в Троици єдиному и пречистой матери его Марии ко чти и людем всимъ к науце». На арк. 2—6-м «Предъсловие доктора Франъциска Скорины с Полоцька во книги Леувить Моисеовы». На арк. 7—54-м змешчаны тэкст 27 раздзелаў К. «Л.», на арк. 54-м — кароткае пасляслоўе. Мова К. «Л.» — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання ў 4-ю долю аркуша. Аб'ём 54 арк., сабраныя ў 7 сшыткаў (6 васьміаркушавых і шасціаркушавы). Набор выкананы пражскім шрыфтам С. — 10 радкоў вышынёй 75 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя на верхнім баку аркуша ўверсе справа. Памылковая фаліяцыя «41» на арк. 42-м выпраўлена ад рукі ва ўсіх захаваных экземплярах, што, відаць, было зроблена ў самой друкарні. Маст. аздоба — 3 ілюстрацыі, гравіраваныя на дрэве, застаўка, канцоўка і 30 ініцыялаў, надрукаваных з 19 дошак. На тытульным лісце — гравюра *«Бог і Майсей».* На адвароце тытула — гравюра *«Сей есть Аарон»* (з той самай дошкі, што і ў кн. «Выхад»). На арк. 6-м адв. змешчана ілюстрацыя *«Узор трэбніка».* Гэта гравюра таксама адціснута з той самай дошкі, што і ў кн. «Выхад». На арк. 6-м у канцы пасляслоўя змешчана канцоўка (105× 12 мм), якая вар'іруе матыў калоны з акантавым лісцем. Пазней адбіткі той самай віньеткі сустракаюцца яшчэ ў 2 пражскіх выданнях С. Перад асн. тэкстам на арк. 7-м змешчана застаўка (106×12 мм) з выявай дзяцей, паміж якімі шчыт з «зацьменнем сонца». Застаўка выкарыстана ў пражскіх выданнях С. 4 разы. Гравіраваныя на дрэве ініцыялы папярэднічаюць асобным раздзелам кнігі, тэкстам на тытульным лісце і прадмове.

К. «Л.» упершыню ўвёў у навук. ўжытак у 1776 І. Р. *Бакмейсцер.* К. «Л.» звычайна пераплятаюць разам з 4 інш. кнігамі «Пяцікніжжа», таму гісторыя адкрыцця асобных экземпляраў гэтага пражскага выдання С. супадае з гісторыяй адкрыцця астатніх частак «Пяцікніжжа» — гл. *Кніга «Быццё», Кніга «Выхад»* (экз. ДПБ, 1.5.4$^{в}$/$^{1}$). Вядома 15 экз. К. «Л.», з іх 6 поўныя.

*Літ.:* 668; 707. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КНІГА «ЛІЧБЫ»,** «Книги четвертые Моисеевы, зовемые Числа», недатаванае пражскае выданне С., якое выйшла ў свет каля 1519. Чацвёртая з кніг *«Пяцікніжжа»* (гл. с. 126—134). На тытульным лісце пад гравюрай змешчана назва кнігі і ўказана: «Зуполне выложены на руский языкъ доктором Францыском Скориною с Полоцька богу отцу и сыну и светому духу ко чти и людем посполитым к доброму научению». На арк. 1-м адв.— 4-м адв. «Предъсловие доктора Францыска Скорины с Полоцька во книги Числа Моисеовы». На арк. 5—74-м змешчаны тэкст 36 раздзелаў К. «Л.», на арк. 74-м — пасляслоўе. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання ў 4-ю долю аркуша. Аб'ём 74 арк., сабраныя ў 8 сшыткаў (7 васьміаркушавых і дзесяці-

аркушавы). Набор выкананы пражскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 75 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя на верхнім баку аркуша ўверсе справа. Памылковая фаліяцыя «5» на арк. 7-м выпраўлена ад рукі толькі ў некат. экземплярах, што захаваліся. На арк. 7-м адв. зроблена памылка друку ў нумарацыі раздзелаў: «3» замест «2». Маст. аздоба — на тытульным лісце гравюра *«Ізраілевы палкі ля храма»,* застаўка, канцоўка і 39 ініцыялаў, надрукаваных з 20 дошак. Асн. тэксту на арк. 5-м папярэднічае застаўка (106×53 мм) з выявай дзяцей па абодва бакі шчыта з «зацьменнем сонца». Такая самая застаўка сустракаецца яшчэ ў 3 пражскіх выданнях С. На арк. 74-м пад пасляслоўем змешчана канцоўка (105×12 мм), якая вар'іруе матыў калоны з акантавым лісцем. Аналагічная канцоўка сустракаецца яшчэ ў 2 пражскіх выданнях С. Гравіраванымі на дрэве ініцыяламі пачаты асобныя раздзелы К. «Л.», тэксты тытульнага ліста і прадмова.

К. «Л.» упершыню апісаў у 1776 І. Р. *Бакмейсцер.* К. «Л.» звычайна пераплятаюць разам з 4 інш. кнігамі «Пяцікніжжа», таму гісторыя адкрыцця асобных экземпляраў гэтага выдання С. такая самая, як і астатніх частак «Пяцікніжжа» (гл. *Кніга «Быццё»*). Асобна пераплецены ў кардон экземпляр б-кі АН Літоўскай ССР (R—16), у якім захаваліся арк. 2—37-ы. Раней кніга зберагалася ў Беларускім музеі ў Вільні. Захавалася 18 экз. К. «Л.», з іх 7 поўныя.

*Літ.:* 668; 707. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КНІГА «ПЛАЧ ЕРАМІІ»,** «Книжка рекомая Плачь Еремінъ починаеться», пражскае выданне С., якое выйшла ў свет у 1519. Уваходзіць у склад раздзела «Пісанні» Старога запавету (гл. с. 152—156). На тытульным лісце змешчана гравюра і пашыраная назва. У апошнюю, акрамя ўласна загалоўка, уваходзіць указанне на перакладчыка і мэту выдання: «Зуполне выложена на руский языкъ доктором Францыском Скориною с Полоцька напредъ богу в Троіци единому ко чти и людем посполитым к доброму навчению». У назве дапушчана памылка друку: слова «книжка» пачата гравіраваным ініцыялам «К» і ў ім яшчэ раз паўторана вял. літара «К». На арк. 1-м адв.— 2-м адв. змешчана «Предословие доктора Франъциска Скорины с Полоцька въ книжки Плачу Еремиина». На арк. 3—11-м адв. змешчаны тэкст 5 раздзелаў кнігі, на арк. 12-м — пасляслоўе. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання — у чвэрць аркуша. Аб'ём кнігі — 12 арк., сабраных у сшытак. Набор выкананы пражскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 75 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя змешчана на верхнім баку аркуша справа. Маст. аздоба — гравюра *«Плач Ераміі»,* змешчаная на тытуле, 2 застаўкі і 8 ініцыялаў, надрукаваных з 8 форм. Асн. тэксту на арк. 3-м папярэднічае вял. застаўка (106×52 мм) — выявы аголеных «сірэн» з рыбінымі хвастамі; паміж імі на гербавым шчыце — «зацьменне сонца». Малая застаўка (105×12 мм) з выявай калоны, якая абвіта акантавым лісцем, папярэднічае пасляслоўю на арк. 12-м. Гравіраванымі на дрэве ініцыяламі пачынаюцца асобныя раздзелы, тэкст тытульнага ліста і прадмова.

К. «П. Е.» была вядома ў 17 ст. складальніку рус. бібліяграф. збору «Змест кніг, хто іх склаў». У друку К. «П. Е.» апісаў упершыню ў 1813 В. С. *Сопікаў,* якому быў вядомы экземпляр, што ўваходзіў у канвалют наступнага складу: кн. «Ісус Сірахаў», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Юдзіф», «Эсфір», «Прарок Даніїл» і К. «П. Е.». Канвалют знаходзіўся ў зборы Ф. А. *Талстога.* Пазней Талстой нанава пераплёў пражскія выданні С., якія знаходзіліся ў яго. У апісанні гэтага збору, складзеным П. М. *Строевым* у 1829, К. «П. Е.» ўказана як пераплеценая асобна і адзначана, што экземпляр даволі чысты. Гэты экземпляр можна ўмоўна атаясаміць з тым, які цяпер уваходзіць у канвалют Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (1.5.4$^{a/3}$) наступнага складу: кн. «Іоў», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», К. «П. Е.», «Прарок Даніїл». Збор Талстога паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку ў 1830, камплект выданняў С. быў тут перафарміраваны і нанава пераплецены. Чэшскі славіст І. *Добраўскі* ў 1815 апублікаваў артыкул, прысвечаны К. «П. Е.». З гэтым выданнем ён пазнаёміўся, выявіўшы 1-ы і 6-ы яго аркушы, што былі выкарыстаны пры пераплёце лац. выдання Гамера (1539). Сучаснае месцазнаходжанне фрагмента невядома. Добраўскі параўнаў тэкст К. «П. Е.» з лац. Вульгатай і з маскоўскім выданнем Бібліі 1663. П. І. *Кепен* у 1825 увёў у навук. ўжытак экземпляр К. «П. Е.», які належаў М. П. Румянцаву. Экземпляр гэты зараз знаходзіцца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 6532). Кніга пераплецена ў 1975, раней зберагалася без пераплёту ў сіняй вокладцы, на якой рукою першага зберагальніка Аддзела рукапісаў і слав. старадрукаваных кніг Румянцаўскага музея А. Я. Віктарава зроблена памета: «9 № 21 Библия Скорины XIX. Плач Иеремии. Румянц.». І. П. *Сахараву* ў 1849 былі вядомы 3 экз. К. «П. Е.», якія належалі пецярбургскай Публ. б-цы, А. І. Касцерыну і І. Т. Якаўлеву. З экземплярам Касцерына можна атаясаміць другі экземпляр Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.4$^{6/4}$), які ўваходзіць у канвалют: кн. «Прамудрасць божая», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Іоў», «Ісус Сірахаў», «Прарок Даніїл», «Юдзіф», «Эсфір» і К. «П. Е.». Канвалют, на пераплёце якога наклеены ярлык «Из древлехранилища Погодина», а на партрэце С., выкананым ад рукі і ўклееным у пачатку тома, ёсць запіс «Из собрания Петра Фролова», быў сфарміраваны і пераплецены ў Публ. б-цы. У яго ўвайшлі кнігі з розных збораў. На К. «П. Е.» з гэтага канвалюта ёсць запісы «Сия книга смоленскаго... Артемона Семёновича Жукова 171 (г. зн. 1663) года» і польскі запіс 1551. У 1884 А. С. *Радоскі* апісаў канвалют б-кі Пецярбургскай духоўнай акадэміі, у які ўваходзілі 9 выданняў С.: кн. «Ісус Сірахаў», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Юдзіф», «Эсфір», К. «П. Е.», «Прарок Даніїл». Паводле Радоскага, усе 9 кніг «Бібліі» С. ў моцным пераплёце з дошкамі, абцягнутымі скурай. Экземпляр добра збярогся, вельмі рэдкі, у ім была гравюра (паміж кн. «Ісус Сірахаў» і «Іоў» па-за лікам) з выявай С. Месцазнаходжанне гэтага экземпляра цяпер невядома. У 1968 Я. Л. *Неміроўскі* ўвёў у навук. ўжытак экз. К. «П. Е.» ДБЛ (№ 6321). Экземпляр уваходзіць у канвалют: кн. «Эсфір», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Песня песням», «Еклесіяст» і К. «П. Е.» (раней належаў навук. б-цы Саратаўскага дзярж. ун-та імя М. Г. Чарнышэўскага). Ен пераплецены ў 19 ст.— дошкі ў цісненай скуры, з меднымі засцежкамі. Вядомы 4 экз. К. «П. Е.», з іх 2 поўныя. Гэта 2-е па рэдкасці пражскае выданне С. (пасля «Псалтыра» 1517, які захаваўся ў 2 экз.).

*Літ.:* 668. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КНІГА «ПРАМУДРАСЦЬ БОЖАЯ»,** «Премудрости божией книга», пражскае выданне С., якое выйшла ў свет 19.1.1518 (гл. с. 59—63). Уваходзіць у склад Старога запавету ў рэдакцыі «семидесяти толкователей» («Септуагінта»). Адкрываецца тытульным лістом з гравюрай і назвай кнігі. Тут жа ўказана: «Зуполне выложена на рускый языкъ докторомъ Франъцискомъ Скорининымъ сыномъ из славнаго града Полоцька». На арк. 1-м адв.— 2-м адв. змешчана «Предословие доктора Франциска Скорины в книгу Премудрости божией». На арк. 3—30-м адв. змешчаны тэкст 19 раздзелаў кнігі. На арк. 31—31-м адв. змешчана «Молитва Манасии царя иудина его же молящесся къ господу богу поименый в неволи Вавилонъской». Тэкст гэтай малітвы ў 1574 Іван Фёдараў уключыў у склад сваёй львоўскай «Азбукі». На арк. 32-м С. друкуе тэкст пасляслоўя. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання ў чацвёртую долю аркуша. Аб'ём кнігі 32 арк., якія сабраны ў 4 васьміаркушавыя сшыткі. Набрана пражскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 75 мм. На паласе 22 радкі. К. «П. б.» — адзінае выданне С., у якім фаліяцыя змешчана не на верхнім, а на адваротным баку аркуша ўверсе справа. Сігнатура адсутнічае. Маст. аздоба — гравіраваная на дрэве ілюстрацыя *«Благаславенне»,* 2 застаўкі, канцоўка і 22 ініцыялы, надрукаваныя з 18 дошак. Застаўка (106×53 мм) з выявай 2 голых дзяцей, якія падтрымліваюць гербавы шчыт з «зацьменнем сонца», папярэднічае асн. тэксту кнігі. За пасляслоўем на арк. 32-м змешчана малая застаўка (85×15 мм). У ніжняй частцы гэтага ж аркуша змешчана як канцоўка арнаментальная аздоба з выявай «дзікіх людзей» і гербавага шчыта з «зацьменнем сонца» (памер 106×53 мм). Ініцыялы папярэднічаюць пачатку раздзелаў і інш. тэкстаў К. «П. б.».

Упершыню ўведзена ў навук. ўжытак у 1776 Л. І. *Бакмейсцерам,* які паведаміў пра знаходку пецярбургскага кнігагандляра І. Вогака, што набыў канвалют: кн. «Царствы», «Еклесіяст», «Ісус Сірахаў», «Песня песням», кн. «Іоў» і К. «П. б.»; месцазнаходжанне канвалюта невядома. В. С. *Сопікаву* ў 1813 былі вядомы 3 экз. К. «П. б.». Адзін з іх знаходзіўся ў б-цы калекцыянера П. П. Дуброўскага ў складзе канвалюта (кн. «Іоў», «Еклесіяст», К. «П. б.», «Ісус Сірахаў», «Прытчы Саламона», «Песня песням»); месцазнаходжанне канвалюта невядома. Два інш. экземпляры належалі Ф. А. *Талстому.* Знаходзіліся яны ў складзе 2 канвалютаў (кн. «Прарок Даніїл», «Юдзіф», «Суддзі», «Еклесіяст», «Эсфір», «Прытчы Саламона», «Ісус Навін», К. «П. б.»; 2 кн. «Ісус Сірахаў», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», «Юдзіф», «Эсфір», «Плач Ераміі», «Прарок Даніїл» і К. «П. б.»). Канвалюты такога складу зараз невядомы. Выданні, якія ўваходзілі ў іх, былі перараземкаваны і нанава пераплецены самім Ф. А. Талстым, а пазней у другі раз — пецярбургскай Публ. б-кай, куды ў 1830 паступіў збор Талстога.

Умоўна можна атаясаміць адзін з экземпляраў Талстога з экземплярам, што зараз знаходзіцца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.4$^{a/3}$). У другім экземпляры Талстога не хапала першых 7 арк.; месцазнаходжанне яго невядома. Невядомы і лёс экземпляра К. «П. б.» з б-кі М. П. Румянцава, які быў упершыню ўпамянуты П. І. Кепенам у 1825. Магчыма, гэта няпоўны экземпляр Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ № 6330). У 1836 П. М. *Строеў* увёў у навук. ўжытак экземпляр К. «П. б.» са збору І. М. Царскага, што ўваходзіў у склад канвалюта («Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Ісус Сірахаў», «Прарок Даніїл» і К. «П. б.»), які цяпер знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі (ДГМ, Цар. 9). К. «П. б.» з гэтага канвалюта мае зроблены ў друкарні С. надпіс: «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына радци места Виленьского». У 1848 В. М. Ундольскі ўвёў у навук. ўжытак «Біблію» С. са збору А. І. *Касцерына*, не раскрыўшы, аднак, яе зместу. І. П. Сахараў у 1849 указаў, што ў экземпляры Касцерына была і К. «П. б.». Сахараў назваў таксама экземпляры К. «П. б.» са збораў М. П. *Пагодзіна* і купцоў Якаўлевых. Зборы Касцерына ў 1848, а Пагодзіна ў 1852 паступілі ў пецярбургскую Публ. б-ку. Тут з іх скамплектавалі пераплецены ў 4 тамы экземпляр «Бібліі», які зберагаецца ў ДПБ. К. «П. б.» ўваходзіць у канвалют ДПБ, 1.5.4$^{б/4}$ (кн. «Плач Ераміі», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Іоў», «Ісус Сірахаў», «Прарок Даніїл», «Юдзіф», «Эсфір» і К. «П. б.»). У 1884 А. С. *Радоскі* апісаў канвалют (кн. «Ісус Сірахаў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», «Юдзіф», «Эсфір», «Плач Ераміі», «Прарок Даніїл» і К. «П. б.»), які належаў б-цы Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Канвалют такога складу цяпер невядомы. У 1923 А. А. Увядзенскі ўвёў у навук. ўжытак канвалют (кн. «Руф», «Ісус Сірахаў», «Прытчы Саламона», «Іоў» і К. «П. б.»), што належаў купцам і прамыслоўцам Строганавым і захоўваўся ў Строганаўскім палацы-музеі на Мойцы ў Петраградзе. Пазней экземпляр паступіў у Б-ку Акадэміі навук СССР у Ленінградзе (БАН, 37.1.17). На ніжнім полі тытульнага ліста гэтага экземпляра ёсць запіс, зроблены дробным скорапісам 16 ст.: «Сия книга глаголемая Премудрости божия, царя Саломона, Исуса Сирахова, Иева праведнаго и Руфь есть властная отца Ми[хаила] Конопельского протопопа церкви святого Феодора...». У 1968 Я. Л. *Неміроўскі* ўвёў у навук. ўжытак 2 экз. К. «П. б.» са збору ДБЛ. Першы з іх (№ 6525) уваходзіў у склад канвалюта (кн. «Эсфір», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў», «Песня песням», «Еклесіяст», «Плач Ераміі», К. «П. б.»), які раней належаў навук. б-цы Саратаўскага ун-та імя М. Г. Чарнышэўскага. Другі экземпляр (ДБЛ, № 6315) паступіў з нацыяналізаванага ў 1918 антыкварыяту П. П. Шыбанава. Г. Я. *Галенчанка* ў 1961 увёў у навук. ўжытак, а ў 1974 апісаў няпоўны экземпляр Дзярж. б-кі БССР імя У. І. Леніна (ДБ БССР $\frac{09}{4039}$), дзе, як і ў экземпляры *Царскага*, ёсць запіс пра Багдана Онкава. Экземпляр набыты для б-кі БДУ у 1925 у ленінградскага калекцыянера Камарніцкага. У 1978 В. П. Коласава ўпершыню апісала экземпляр К. «П. б.», якая разам з кн. «Ісус Сірахаў», «Юдзіф» і «Прытчы Саламона» ўплецена ў палемічны зборнік 1580—90-х г. Канвалют раней належаў Сафроніева-Маўчанскаму манастыру (непадалёку ад Пуціўля), потым Курскай духоўнай семінарыі. У 1920-я г. кнігу набыў П. М. Папоў, у далейшым яна разам з яго архівам паступіла ў Цэнтр. навук. б-ку АН УССР у Кіеве. Усяго вядома 10 экз. К. «П. б.», з іх поўных 6.

*Літ.:* 556; 668. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КНІГА «ПРАРОК ДАНІІЛ»**, «Книги светого пророка божия Даниила починаються», пражскае выданне С., якое выдадзена ў 1519. Уваходзіць у склад раздзела «Пісанні» Старога запавету (гл. с. 157—165). На тытульным лісце змешчаны гравюра і пашыраная назва, у склад якой уваходзяць указанні пра перакладчыка і мэту выдання: «Зуполъне выложены на русъкий языкъ доктором Франъциском Скориною изъ славного града Полоцька напредъ богу ко чти и людем посполитым к науце». На арк. 1-м адв.— 4-м адв. змешчана «Предословие доктора Франъциска Скорины с Полоцька въ книги Даниила пророка». На арк. 5—34-м змешчаны тэкст першых 12 раздзелаў кнігі, якія ёсць у халдзейскім арыгінале, прыведзена кароткае пасляслоўе да гэтага раздзела. На арк. 34-м адв.— 40-м С. апублікаваў тэкст 13—14-га раздзелаў кнігі, крыніцай для перакладу якіх былі грэч. і лац. тэксты. Гэтым раздзелам папярэднічае загаловак: «Речи же ниже и положеные во книгах Данила пророка знашолъ есмъ в писме греческом выкладу Феотосиева и во книгах латинъских Ерасимовыхъ и выложих на руский языкъ». На арк. 4-м — пасляслоўе. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання — у чацвёртую долю аркуша. Аб'ём кнігі — 40 арк., якія сабраны ў 5 васьміаркушавых сшытках. Набор выкананы пражскім шрыфтам С.—10 радкоў вышынёй 75 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя змешчана на верхнім баку аркуша ўверсе справа. Маст. аздоба К. «П. Д.» — ілюстрацыя *«Даніїл з ільвамі»*, 3 застаўкі і канцоўкі і 20 буквіц-ініцыялаў, якія надрукаваны з 18 форм. Канцоўка (85×15 мм) на арк. 4-м адв. змешчана ў канцы прадмовы. Асн. тэкст адкрывае вял. застаўка (106×52 мм) з выявай аголеных «сірэн» з рыбінымі хвастамі; паміж імі на гербавым шчыце — «зацьменне сонца». Гэта застаўка з той жа дошкі надрукавана і ў 7 інш. пражскіх выданнях С. На арк. 34-м адв. загалоўку перад раздзеламі 13—14-м папярэднічае віньетка (105×8 мм). Гравіраванымі на дрэве ініцыяламі пачынаюцца раздзелы, тэкст тытульнага ліста і прадмова.

К. «П. Д.» была вядома яшчэ ў 17 ст. складальніку рус. бібліяграф. збору «Змест кніг, хто іх склаў». У друку К. «П. Д.» апісаў упершыню ў 1783 І. Г. *Штрытэр* па канвалюту Маскоўскага архіва Калегіі замежных спраў. Канвалют, які змяшчае кн. «Царствы», «Юдзіф», «Эсфір», «Руф», «Іоў» і К. «П. Д.», знаходзіцца ў Цэнтр. дзярж. архіве стараж. актаў. В. С. *Сопікаву* ў 1813 былі вядомы 3 экз. К. «П. Д.». Акрамя экземпляра Маскоўскага архіва, ён указаў 2 экз., што знаходзіліся ў б-цы Ф. А. Талстога. Першы з іх уваходзіў у канвалют: кн. «Прамудрасць божая», «Юдзіф», «Суддзі», «Еклесіяст», «Эсфір», «Прытчы Саламона», «Ісус Навін» і К. «П. Д.», другі — у канвалют: кн. «Ісус Сірахаў», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Юдзіф», «Эсфір», «Плач Ераміі», К. «П. Д.». Пазней Талстой перафарміраваў і нанава пераплёў выданні С., што знаходзіліся ў яго. У апісанні б-кі Талстога, якое склаў у 1829 П. М. *Строеў*, К. «П. Д.» указана як пераплеценая асобна, адзначана, што экземпляр чысты. Збор Талстога ў 1830 паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку. Камплект выданняў С. быў тут перафарміраваны і яшчэ раз пераплецены. Экземпляр Талстога можна ўмоўна атаясаміць з тым, які ўваходзіць у канвалют Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.4$^{a/3}$): кн. «Іоў», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Плач Ераміі», К. «П. Д.». У 1825 П. І. *Кепен* увёў у навук. ўжытак 3 экз. К. «П. Д.», якія знаходзіліся ў зборы М. П. Румянцава. Іх можна атаясаміць з экземплярамі Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 1440, 6318, 6319). Два апошнія экземпляры пераплецены асобна (пераплёт новы, зроблены пры рэстаўрацыі), а 1-ы ўваходзіць у канвалют: кн. «Іоў», «Эсфір», «Юдзіф», К. «П. Д.». Том у старым скураным пераплёце з меднымі засцежкамі. У 1836 Строеў увёў у навук. ўжытак экземпляр К. «П. Д.» са збору І. М. *Царскага*. Кніга ўваходзіла ў канвалют: «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў» і К. «П. Д.». Канвалют пераплецены ў пач. 19 ст. ў кардон, абцягнуты скурай з залатым цісненнем. На карашку скураныя ярлыкі з цісненымі надпісамі: «Библия Скорины» і «5». Форзац з «мармуровай» паперы. Абрэз кнігі пафарбаваны. На адвароце верхняй вокладкі наклеены экслібрыс: «Из библиотеки Ив. Ник. Царского». Канвалют знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі (Цар. 9). І. П. *Сахараву* ў 1849 былі вядомы 6 экз. К. «П. Д.». Упершыню ўводзіліся ў навук. ўжытак экземпляры І. Т. Якаўлева і А. І. *Касцерына*. Апошні можна атаясаміць з экземплярам, што ўваходзіць у канвалют (ДПБ, 1.5.4$^{б/4}$): кн. «Плач Ераміі», «Прамудрасць божая», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Іоў», «Ісус Сірахаў», «Юдзіф», «Эсфір», К. «П. Д.». Канвалют сфарміраваны і пераплецены ў пецярбургскай Публічнай б-цы. У яго ўвайшлі кнігі з розных збораў (гл. *Кніга «Плач Ераміі»*). У 1884 А. С. *Радоскі* апісаў канвалют б-кі Пецярбургскай духоўнай акадэміі, у які ўваходзілі 9 выданняў С.: кн. «Ісус Сірахаў», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Юдзіф», «Эсфір», «Плач Ераміі», К. «П. Д.». Месцазнаходжанне гэтага экземпляра невядома. Я. Л. *Неміроўскі* ў 1968 увёў у навук. ўжытак экземпляр ДБЛ (№ 6320), што паступіў у 1918 з нацыяналізаванага антыкварыяту П. П. Шыбанава. У экземпляры, які зберагаецца без пераплёту, ёсць толькі арк. 12—23-і. Невялікі фрагмент К. «П. Д.» знаходзіцца ў Ягелонскай б-цы ў Кракаве. Усяго вядома 8 экз. К. «П. Д.», з іх 5 поўных.

*Літ.:* 668. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КНІГА «РУФ»**, «Книга ѡ Руфее еже была баба Јѡсеѡѣа ѡтца царя Давыдова», пражское выданне С., якое выйшла ў свет у 1519 (дакладная дата не ўказана). К. «Р.» адносіцца да раздзела «Пісанні» Старога запавету (гл. с. 144—146). Адкрываецца тытульным лістом з гравюрай і назвай кнігі. Тут жа ўказана: «Зуполне выложена доктором Франциском Скориною изъ славнаго града Полоцька». На адвароце тытульнага ліста змешчана «Сказание доктора Франъциска Скорины с Полоцька въ книги Руф прабабы Давыдовы» (гл. с. 145). На арк. 2—8-м змешчаны тэкст 4 раздзелаў К. «Р.». На арк. 8-м — пасляслоўе (гл. с. 146). Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання — у чацвёртую долю аркуша. Аб'ём кнігі 8 арк., сабраных у адзін сшытак. Аркуш 8-ы адв. пусты. На паласе 22 радкі. Набор выкананы пражскім шрыфтам С.—10 радкоў вышынёй 75 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя змешчана на верх-

нім баку аркуша ўверсе справа. Аздоба — гравіраваная на дрэве ілюстрацыя *«Руф у полі»,* застаўка і 7 ініцыялаў. У некат. экземплярах (напр., БАН 37.1.3) гравюра размалявана. Застаўка (52× ×106 мм) з выявай «сірэн» з рыбінымі хвастамі і шчыта з «зацьменнем сонца» змешчана на арк. 2-м перад асн. тэкстам кнігі. Ініцыялы, надрукаваныя з 7 дошак, змешчаны ў пачатку раздзелаў і інш. тэкстаў.

К. «Р.» была вядома яшчэ складальніку першага рус. бібліяграф. збору «Змест кніг, хто іх склаў», якім сучасныя даследчыкі лічаць пісьменніка і гісторыка Сільвестра Мядзведзева (1641—91). У «Змесце...», што заставаўся неапублікаваным да 1846, апісаны канвалют, які змяшчаў 8 пражскіх выданняў С.: кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Эсфір», «Іоў», «Прамудрасць божая», «Плач Ераміі», «Прарок Даніїл», К. «Р». У друку К. «Р.» упершыню апісана у 1783 І. Г. *Штрытэрам* па экземпляры Маскоўскага архіва Мін-ва замежных спраў. Экземпляр, што зараз знаходзіцца ў Цэнтр. дзярж. архіве стараж. актаў у Маскве, быў уплецены ў канвалют, які змяшчаў кн. «Царствы», «Юдзіф», «Эсфір», «Іоў», «Прарок Данііл», К. «Р.». Канвалют гэты быў набыты гісторыкам Г. Ф. Мілерам (1705—83) у Маскве, паводле В. С. *Сопікава,* выпадкова ў невядомага чалавека. У 1814 чэшскі славіст І. *Добраўскі* ўвёў у навук. ўжытак новы экземпляр К. «Р.», які знаходзіўся на той час у Епіскапскай б-цы ў Мукачава ў складзе канвалюта: кн. «Іоў», «Ісус Навін», «Суддзі», «Юдзіф», «Эсфір», К. «Р.». Цяпер канвалют знаходзіцца ў Закарпацкім краязнаўчым музеі ў Ужгарадзе (№ М — 434). У 1823 польскі гісторык І. *Лялевель* увёў у навук. ўжытак канвалют б-кі Варшаўскага ун-та, які змяшчаў кн: «Ісус Навін», «Суддзі», «Эсфір», «Еклесіяст», «Песня песням» і К. «Р.»; лёс кнігі невядомы. Новы, 4-ы экземпляр К. «Р.» апісаны ў 1829 П. М. *Строевым.* Кніга знаходзілася ў зборы Ф. А. *Талстога* і ўяўляла сабой канвалют, дзе да К. «Р.» былі прыплецены кн. «Царствы». Экземпляр гэты быў поўны і чысты. У 1830 збор Талстога быў набыты пецярбургскай Публ. б-кай. Пазней тут сфарміравалі 2 камплекты пражскіх выданняў С., выкарыстаўшы экземпляры з калекцый Талстога, М. П. *Пагодзіна* і А. І. *Касцерына.* Канвалюты расплялі, перакамплектавалі і пераплялі нанава. Строеўскі канвалют уцалеў, яго толькі нанава пераплялі: кардон у чырвонай скуры з залатым цісненнем на карашку і старонках. У цэнтры верхняй вокладкі золатам выціснута надпіс «Скоринъ». На карашку наклеены чырвоны скураны ярлык: «Из древлехранилища Погодина». Ярлык наклеены памылкова. Пра сапраўднае паходжанне канвалюта сведчыць экслібрыс на адвароце верхняй крышкі: «Из библиотеки графа Ф. А. Толстова. Отдел VII. № 7». Абрэз канвалюта пазалочаны, з цісненнем. Цяпер гэты экземпляр знаходзіцца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5.4[б]). У 1836 Строеў апісаў 5-ы экземпляр К. «Р.», які на той час знаходзіўся ў зборы І. М. Царскага ў складзе канвалюта: кн. «Ісус Навін», «Суддзі», К. «Р.». Цяпер канвалют знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі (ДГМ, Цар. 6). Ён пераплецены ў 19 ст. ў кардон, абцягнуты скурай з залатым цісненнем. На карашку наклеены чырвоныя скураныя ярлыкі з залатымі цісн{ё}нымі надпісамі: «Библия Скорины» і «2». Форзац—з «мармуровай» паперы 19 ст. На адвароце верхняй вокладкі наклеены экслібрыс: «Из библиотеки Ив. Ник. Царского». У экземпляры захаваліся паметы Строева. І. П. Сахараву ў 1849 было вядома ўжо 6 экз. К. «Р.». З іх упершыню ўпаміналіся экземпляры Касцерына і І. Т. Якаўлева. Збор Касцерына ў 1848 паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку. Можна атаясаміць касцерынскі экземпляр К. «Р.» з экземплярам ДПБ, 1.5.4$^{a/2}$, што ўваходзіць у канвалют: кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Царствы», «Юдзіф», «Эсфір», К. «Р.». Лёс экземпляра са збору Якаўлева невядомы. У 1902 У. І. Сразнеўскі набыў канвалют, які ўключаў кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Царствы» і К. «Р.». Гэты стары (нядаўна рэстаўрыраваны) экземпляр знаходзіцца ў Б-цы АН СССР у Ленінградзе (БАН 37.1.3). У навук. ўжытак ён уведзены ў 1904. У 1923 А. А. Увядзенскі ўпершыню ўпамянуў пра канвалют пражскіх выданняў С., што знаходзіўся ў Строганаўскім палацы-музеі на Мойцы ў Петраградзе. У яго склад уваходзілі К. «Р.», кн. «Прамудрасць божая», «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў» і «Іоў». Канвалют цяпер знаходзіцца ў Б-цы АН СССР (БАН, 37.1.17). Ён у пераплёце работы 16—17 ст. На карашку залатое цісненне: 5 разоў з аднаго і таго ж штампа адціснуты малюнак — птушка на галінцы і гняздо з птушанятамі. У 1968 Я. Л. Неміроўскі ўвёў у навук. ўжытак канвалют з Навук. б-кі МДУ (№ 314128), які ўключаў кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Царствы», К. «Р.». Кніга ў пераплёце 2-й пал. 18 ст. Зберагліся медныя засцежкі. На форзацы з сіняй паперы 18 ст. пячатка «Императорского Московского университета». Канвалют гэты ў 1979 падрабязна апісаны І. В. Паздзеевай. Усяго зараз вядома 8 экз. К. «Р.».

*Літ.:* 702. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КНІГА «СУ́ДДЗІ»,** «Книга судей еже от еврей называются Шофътимъ», пражскае выданне С., якое выйшла ў свет 15.12.1519 (гл. с. 96—102). Адкрываецца тытульным лістом з гравюрай і назвай кнігі. Тут жа ўказана: «Зуполъне выложены на русъкий языкъ доктором Франъциском Скориною из славнаго града Полоцка богу ко чти и людем посполитым к науце починаются». На арк. 1-м адв.—3-м адв. змешчана «Предословие доктора Франъциска Скорины с Полоцька в книги судей Израилевых». На арк. 4—47-м адв. змешчаны тэкст 21 раздзела кнігі, на арк. 48-м — пасляслоўе. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання — у чвэрць аркуша. Аб'ём кнігі — 48 арк., якія сабраны ў 6 васьміаркушавых сшыткаў. Набор выкананы пражскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 75 мм. На паласе — 22 радкі. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя змешчана на верхнім баку аркуша ўверсе справа. Маст. аздоба — гравіраваная на дрэве ілюстрацыя *«Самсон і леў»,* 2 застаўкі, канцоўка і 24 ініцыялы, надрукаваныя з 19 дошак. Паказаны 12-ы з суддзяў Самсон, які раскрывае пашчу льва. Застаўка (52×106 мм) з выявай «сірэн» з рыбінымі хвастамі ў цэнтры гербавага шчыта з «зацьменнем сонца» папярэднічае асн. тэксту (арк. 4-ы). Другая малая застаўка (8×105 мм) змешчана на арк. 48-м перад пасляслоўем. Канцоўка (15×85 мм) на арк. 3-м адв. завяршае тэкст прадмовы. Ініцыялы змешчаны ў пачатку раздзелаў і інш. тэкстаў.

К. «С.» была вядома яшчэ аўтару стараж. бібліяграф. збору «Змест кніг, хто іх склаў», якім многія даследчыкі лічаць Сільвестра Мядзведзева (1641—91) — вучня Сімяона Полацкага. У друку К. «С.» упершыню апісаў у 1813 В. С. *Сопікаў,* якому быў вядомы экземпляр са збору Ф. А. Талстога, што ўваходзіў у канвалют: кн. «Прамудрасць божая», «Прарок Данііл», «Юдзіф», «Еклесіяст», «Эсфір», «Прытчы Саламона», «Ісус Навін», К. «С.». Канвалют быў расплецены і перафарміраваны Талстым. Калі П. М. *Строеў* апісваў яго збор, ён у 1829 зарэгістраваў канвалют інш. складу: «Ісус Навін», К. «С.». Пасля таго як у 1830 збор Талстога паступіў у пецярбургскую Публ. б-ку, канвалют зноў расплялі. Кн. «Ісус Навін» з яго, якая ўжо была ў Публ. б-цы ў 2 экз., у лістападзе 1874 перададзена ў Маскоўскі Публічны і Румянцаўскі музеі. А К. «С.» засталася без пераплёту (цяпер экземпляр ДПБ, 1.5.4$^{6/2}$). У 1814 чэшскі славіст І. *Добраўскі* ўвёў у навук. ўжытак новы экземпляр К. «С.», які знаходзіўся на той час у Епіскапскай б-цы ў Мукачава (цяпер Закарпацкая вобл. УССР) у складзе канвалюта: кн. «Іоў», «Руф», «Ісус Навін», «Юдзіф», «Эсфір», К. «С.». Цяпер гэты экземпляр знаходзіцца ў Закарпацкім дзярж. краязнаўчым музеі ў Ужгарадзе (№ М-434). У 1822 апісаны экземпляр К. «С.» са збору А. С. Шырасва. Ён быў уключаны ў канвалют: К. «С.», кн. «Ісус Навін» і «Еклесіяст». Збор быў набыты Расійскай акадэміяй, а ў 1842 паступіў у Б-ку Акадэміі навук (БАН, 37.1.2). Яго пераплёт — дошкі ў скуры з цісненнем на карашку і старонках. У 1823 І. *Лялевель* паведаміў, што К. «С.» знаходзіцца ў б-цы Варшаўскага ун-та ў канвалюце: кн. «Ісус Навін», «Эсфір», «Еклесіяст», «Руф», «Песня песням» і К. «С.». Лёс гэтага экземпляра невядомы, магчыма, ён загінуў у час 2-й сусв. вайны. П. І. *Кепен* у 1825 ведаў пра 3 экз. К. «С.». Два з іх са збору Талстога і Епіскапскай б-кі ў Мукачава, 3-і — са збору М. П. Румянцава—упершыню ўводзіўся ў навук. ўжытак. Яго можна атаясаміць з асобна пераплеценым экземплярам Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 6323). У 1836 Строеў апісаў са збору І. М. Царскага поўны экземпляр К. «С.», які ўваходзіў у канвалют: кн. «Ісус Навін», «Руф» і К. «С.». Канвалют пераплецены ў 19 ст. ў кардон, абцягнуты скурай з залатым цісненнем на карашку і старонках. На карашку наклеены чырвоныя скураныя ярлыкі з залатым цісненнем «Библия Скорины» і «2». На адвароце верхняй вокладкі — экслібрыс: «Из библиотеки Ив. Ник. Царского». Экземпляр К. «С.» поўны, гравюра яго размалявана. Кніга знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве (ДГМ, Цар. 6). У 1848 В. М. Ундольскі ўвёў у навук. ўжытак экземпляр К. «С.» са збору А. І. *Касцерына.* Пры паступленні яго ў пецярбургскую Публ. б-ку ў 1848 ён быў уключаны ў канвалют: кн. «Ісус Навін», «Руф», «Царствы», «Юдзіф» «Эсфір» і К. «С.». Канвалют, што знаходзіцца ў ДПБ (1.5.4$^{a/2}$), заключаны ў пераплёт 19 ст. з кардоннымі вокладкамі і скураным карашком, на якім золатам выціснена: «Библия, переведенная Скориною 1517—1519. Часть II». Сярод 6 экз. К. «С.», якія былі вядомы ў 1849 І. П. Сахараву, былі названы і адзін новы. Ён належаў купцу-бібліяфілу І. Т. Якаўлеву. Лёс кнігі невядомы. У 1902 У. І. Сразнеўскі набыў для б-кі Пецярбургскай АН экземпляр К. «С.», пераплецены разам з кн. «Ісус Навін», «Руф» і «Царствы». Стары скураны пераплёт кнігі рэстаўрыраваны. Кніга знаходзіцца зараз у БАН (37.1.3). У 1908 А. І. Мілавідаў апісаў экземпляр К. «С.» Віленскай публічнай б-кі, што ўваходзіў у канвалют: кн. «Ісус Навін», К. «С.». Раней кніга належала прафесару Віленскага ун-та М. К. Баброўскаму (1784—1848), цяпер канвалют знаходзіцца ў ДБЛ (№ 6322). Ён пераплецены ў 19 ст. ў чорную скуру, на карашку — цісн{ё}ны надпіс: «Praga 1519». Я. Л. *Неміроўскі* ў 1968 увёў у навук. ўжытак экземпляры Музея укр. мастацтва ў Львове (Q 1182—070519) і Навук. б-кі Маскоўскага ун-та (№ 314128). Першы з іх заключаны ў новы кардонны пераплёт разам з кн. «Ісус Навін». Экземпляр Маскоўскага

ун-та, які ў 1979 падрабязна апісала І. В. Паздзеева, уплецены ў канвалют: кн. «Ісус Навін», «Руф», «Царствы», К. «С.». Кніга пераплецена ў 19 ст.: дошкі ў скуры з цісненнем на старонках, пераплётныя вокладкі маюць медныя засцежкі. У б-ку Маскоўскага ун-та канвалют паступіў у сярэдзіне 19 ст. У 1976 Неміроўскі ўвёў у навук. ўжытак яшчэ адзін экземпляр ДБЛ, які паходзіць з нацыяналізаванага ў 1918 антыкварыяту П. П. Шыбанава. У Дзярж. б-цы ЧССР у Празе знойдзены фрагмент К. «С.», які складаецца з арк. 41-га, 42-га, 47-га, 48-га. Яны былі выцягнуты з пераплёту 1541, выробленага ў Вроцлаве. Усяго вядома 11 экз. К. «С.», 4 з іх поўныя.

*Літ.:* 668; 702; 829. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КНІГА «ЭСФІР»**, «Книга Есѳеръ еже от евреи называютъся Мъгиля», пражскае выданне С., якое выйшла ў свет у 1519. К. «Э.» адносіцца да раздзела «Пісанні» Старога запавету (гл. 147—151). Адкрываецца тытульным лістом з гравюрай і назвай кнігі. Тут жа ўказана: «Зуполне выложены на русъкий языкъ доктором Франциском Скориною с Полоцька града славного. Богу ко чти и людем посполитым к науце починаются». На арк. 1-м адв.— 2-м адв. змешчана «Предословие доктора Франъциска Скорины с Полоцька в книги Есъфера цариці». На арк. 3—17-м адв. змешчаны тэкст першых 9 раздзелаў кнігі, у канцы якога — кароткае пасляслоўе. Аркуш 18-ы — шмуцтытул, на якім адноўлена тая ж гравюра, што і на арк. 1-м, і дадзены тэкст: «Сие же речи нижей положеные написаны суть во книгахъ греческаго и латинъскаго языка выкладу посполитого. И абы не было уменъшено в руском языку, положилъ есмъ яко в тых писмахъ все зуполне». На арк. 18-м адв.— 25-м адв. змешчаны тэкст 10—16-га раздзелаў кнігі. Завяршае кнігу кароткае пасляслоўе. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання — у чвэрць аркуша. Аб'ём кнігі — 26 арк. (адв. бок 26-га арк. пусты), якія сабраны ў 3 сшыткі — 2 васьміаркушавыя і дзесяціаркушавы. На паласе 22 радкі. Набор выкананы пражскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 75 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя змешчана на верхнім баку аркуша ўверсе справа. Маст. аздоба — 2 аднолькавыя гравіраваныя на дрэве ілюстрацыі *«Эсфір перад Асверам»*, 2 застаўкі, канцоўка і 20 ініцыялаў, надрукаваных з 19 дошак. Вялікая застаўка (52×106 мм) з выявай «сірэн» з рыбінымі хвастамі і ў цэнтры гербавага шчыта з «зацьменнем сонца» папярэднічае 1-му раздзелу. Малая застаўка (8×105 мм) змешчана перад пасляслоўем на арк. 26-м. Канцоўка (15×85 мм) завяршае пасляслоўе да першых 9 раздзелаў на арк. 17-м адв. Ініцыялы змешчаны ў пачатку раздзелаў і інш. тэкстаў.

К. «Э.» была вядома яшчэ складальніку 1-га рус. бібліяграф. збору «Змест кніг, хто іх склаў», якім сучасныя даследчыкі лічаць пісьменніка і гісторыка Сільвестра Мядзведзева (1641—91). У «Змесце...», які не быў апублікаваны да 1846, апісаны канвалют з 8 пражскіх выданняў С.: кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», «Іоў», «Прамудрасць божая», «Плач Ераміі», «Прарок Данііл», К. «Э.». У друку К. «Э.» упершыню апісаў у 1783 І. Г. *Штрытэр* па экземпляры Маскоўскага архіва Мін-ва замежных спраў. Экземпляр, які знаходзіцца ў Цэнтр. дзярж. архіве стараж. актаў у Маскве, уплецены ў канвалют: кн. «Царствы», «Юдзіф», «Руф», «Іоў», «Прарок Данііл», К. «Э.». Канвалют быў набыты гісторыкам Г. Ф. Мілерам (1705—83) у Маскве. В. С. *Сопікаву* ў 1813, акрамя названага экземпляра, былі таксама вядомы 2 экз. К. «Э.», якія знаходзіліся ў зборы Ф. А. *Талстога*. Адзін з іх быў уплецены ў канвалют: кн. «Прамудрасць божая», «Прарок Данііл», «Юдзіф», «Суддзі», «Еклесіяст», «Прытчы Саламона», «Ісус Навін», К. «Э.», другі — у канвалют: кн. «Ісус Сірахаў», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Юдзіф», «Плач Ераміі», «Прарок Данііл», К. «Э.». Канвалюты такога складу цяпер невядомы. У 1829 П. М. *Строеў* у каталозе збору Талстога апісаў канвалют, у якім, акрамя К. «Э.», знаходзіліся кнігі «Юдзіф» і «Іоў». Экземпляр потым трапіў у збор І. М. *Царскага*, цяпер ён знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве (ДГМ, Цар. 8). Кніга заключана ў пераплёт 19 ст.: кардон у скуры з залатым цісненнем. На карашку — чырвоныя скураныя ярлыкі з ціснёнымі надпісамі «Библия Скорины» і «4». У зборы Талстога канвалют названага складу лічыўся 4-м томам «Бібліі» С. У 1814 чэшскі славіст І. *Добраўскі* ўвёў у навук. ўжытак новы экземпляр К. «Э.», які знаходзіўся на той час у Епіскапскай б-цы ў Мукачава (цяпер УССР) у складзе канвалюта: кн. «Іоў», «Руф», «Ісус Навін», «Суддзі», «Юдзіф», К. «Э.». Гэты канвалют знаходзіцца ў Закарпацкім краязнаўчым музеі ў Ужгарадзе (М-434). У 1823 І. *Лялевель* паведаміў пра канвалют б-кі Варшаўскага ун-та, які змяшчаў кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Еклесіяст», «Руф», «Песня песням» і К. «Э.». Лёс кнігі невядомы. Магчыма, яна загінула ў час 2-й сусв. вайны. П. І. *Кепену* ў 1825 было вядома ўжо 7 экз. К. «Э.», 5 экз. іх упаміналіся раней. Упершыню ў навук. ўжытак уводзіліся 2 экз. К. «Э.», што знаходзіліся ў зборы М. П. Румянцава. Збор гэты лёг у аснову б-кі маскоўскага Публічнага і Румянцаўскага музеяў, цяпер — Дзярж. б-ка СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ). Іх можна атаясаміць з экземплярамі ДБЛ (№ 6531 і 6325). Першы з гэтых экземпляраў знаходзіцца ў канвалюце, які ўяўляе сабой том, заключаны ў пераплёт 18—19 ст.,— дошкі ў ціснёнай скуры з меднымі засцежкамі. Канвалют змяшчае кн. «Іоў», «Прарок Данііл», «Юдзіф», К. «Э.». Пра паходжанне экземпляра сведчыць запіс на пераплётных аркушах рукою А. Я. Віктарава — зберагальніка аддзела рукапісаў і слав. старадрукаваных кніг Румянцаўскага музея: «Из Румянц. собр.». Другі экземпляр ДБЛ, які можна атаясаміць з румянцаўскім, заключаны ў пераплёт 20 ст., зроблены параўнальна нядаўна пры рэстаўрацыі кнігі. В. М. *Ундольскі* ў 1848 увёў у навук. ўжытак «Біблію» С. са збору А. І. *Касцерына*, у якой знаходзіўся і экземпляр К. «Э.». Збор у 1848 паступіў у Пецярбургскую Публ. б-ку. Можна атаясаміць касцерынскі экземпляр з адным з 2 экз., што знаходзяцца ў ДПБ, менавіта з экземплярам $1.5.4^{a/2}$. Ён уваходзіць у склад канвалюта: кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», «Царствы», «Юдзіф», К. «Э.». У экземпляры ўладальніцкі запіс 17 ст. смаленскага бурмістра С. С. Жукава, зроблены на лац. мове. І. П. *Сахараву* ў 1849 было вядома 8 экз. К. «Э.». З іх упершыню ўводзіліся ў навук. ўжытак 2-і экз. пецярбургскай Публ. б-кі і экземпляр са збору І. Т. Якаўлева. Лёс апошняга экземпляра невядомы. Другі экземпляр Публ. б-кі мог паходзіць са збору П. К. Фралова. Збор паступіў у б-ку ў 1817. Цяпер 2-і экз. ДПБ пераплецены разам з кн. «Плач Ераміі», «Прамудрасць божая», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Іоў», «Ісус Сірахаў», «Прарок Данііл» і «Юдзіф» ($1.5.4^{074}$). На пераплёце канвалюта наклеены чырвоны скураны ярлык «Из древлехранилища Погодина». Але збор Пагодзіна паступіў у Публ. б-ку толькі ў 1852, таму ўлічаны Сахаравым у 1849 экземпляр не мог паходзіць з гэтага збору. Адказ дае зроблены ўручную тытульны ліст названага канвалюта, на якім ёсць надпіс: «Часть Библии, изданной доктором Франциском Скорининым сыном в Празе 1517 года. Из собрания Петра Фролова». У 1884 А. С. *Радоскі* апісаў К. «Э». у складзе канвалюта б-кі Пецярбургскай духоўнай акадэміі, што ўключаў таксама кн. «Юдзіф», «Ісус Сірахаў», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Прамудрасць божая», «Плач Ераміі» і «Прарок Данііл». Канвалют у такім складзе цяпер невядомы. У 1968 Я. Л. *Неміроўскі* ўвёў у навук. ўжытак яшчэ 2 экз. К. «Э.» ДБЛ. Адзін з іх (№ 1441) знаходзіўся ў складзе канвалюта, што раней належаў навук. б-цы Саратаўскага ун-та імя М. Г. Чарнышэўскага. Канвалют уключае кн. «Іоў», «Прытчы Саламона», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Песня песням», «Еклесіяст», «Плач Ераміі» і К. «Э.». Пераплёт 19 ст.— дошкі ў ціснёнай скуры з меднымі засцежкамі. Другі экземпляр (№ 6324) паступіў у ДБЛ у 1918 разам з нацыяналізаваным антыкварыятам П. П. Шыбанава. Кніга ў новым пераплёце работы 1975. На пустым адвароце арк. 26-га напісаны ад рукі бел. вершы. Захавалася 9 экз. К. «Э.», з іх 4 поўныя.

*Літ.:* 668. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КНІГА «ЮДЗІФ»**, «Книги Иудифъ вдовици», пражскае выданне С., якое выйшла 9.2.1519. У адпаведнасці з рэдакцыяй «семидесяти толкователей» («Септуагинта») уваходзіць у склад Старога запавету (гл. с. 91—95). Адкрываецца тытульным лістом з гравюрай і назвай кнігі. Тут жа ўказана: «Зуполъне выложены на руский языкъ докъторомъ Франциском Скориною изъ славнаго града Полоцька напредъ богу ко чти и людемъ посполитым к научению». На арк. 1-м адв.— 2-м адв. змешчана прадмова, у якой С. коратка выкладае гісторыю Асірыйскай, Вавілонскай і Персідскай дзяржаў, абставіны патрыятычнага ўчынку Юдзіфі. У заключэнне С. ўказвае, што К. «Ю.» першапачаткова была напісана на халдзейскай мове. На арк. 3—26-м змешчаны тэкст 16 раздзелаў К. «Ю.». На арк. 26-м — пасляслоўе. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання — у чвэрць аркуша. Аб'ём кнігі — 26 арк. (адварот апошняга аркуша пусты), сабраных у тры сшыткі. У двух першых — па 8 аркушаў, у трэцім — 10. На паласе — 22 радкі. Набор выкананы пражскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 75 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя размешчана на верхнім баку аркуша ўверсе злева. Маст. аздоба кнігі — гравіраваная на дрэве ілюстрацыя *«Юдзіф і Алаферн»*, застаўка, віньетка і 19 ініцыялаў, надрукаваных з 15 дошак. У некат. экз. Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (ДПБ, $1.5.4^{a/2}$) гравюра размалявана. Застаўка (52×106 мм) з выявай «сірэн» з рыбінымі хвастамі і гербавага шчыта з «зацьменнем сонца» змешчана на арк. 3-м перад асн. тэкстам. Віньетка (105×8 мм) выкарыстана ў якасці канцоўкі, якая завяршае тэкст прадмовы. Ініцыялы змешчаны ў пачатку раздзелаў і іншых тэкстаў.

К. «Ю.» упершыню апісана ў 1783 І. Г. *Штрытэрам* па экз. Архіва Мін-ва замежных спраў у Маскве. Гэта быў канвалют, што ўключаў кн. «Царствы», «Эсфір», «Руф», «Іоў», «Прарок Даніїл» і К. «Ю.». В. С. *Сопікаў* у 1813 паведаміў, што кніга з гэтага канвалюта дасталася прафесару-гісторыёграфу, члену Пецярбургскай Акадэміі навук Г. Ф. Мілеру (1705—1783), які купіў яе ў Маскве ў невядомага чалавека. Канвалют пазней папаў у Цэнтр. дзярж. архіў стараж. актаў (ЦДАСА, 1250, № 1). Сопікаву ў 1813 былі вядомы яшчэ 2 экз. К. «Ю.», што знаходзіліся ў зборы Ф. А. *Талстога.* Першы з іх уваходзіў у склад канвалюта: кн. «Прамудрасць божая», «Прарок Даніїл», «Суддзі», «Еклесіяст», «Эсфір», «Прытчы Саламона», «Ісус Навін» і К. «Ю.», другі — у склад канвалюта: кн. «Ісус Сірахаў», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Эсфір», «Плач Ераміі», «Прарок Даніїл», К. «Ю.». Канвалюты такога складу цяпер невядомы, яны былі расплецены і пераразмеркаваны яшчэ самім Талстым. У 1829 П. М. *Строеў,* апісваючы збор Талстога, указаў, што тут знаходзіўся канвалют: кн. «Эсфір», «Іоў» і К. «Ю.». Экземпляр гэты, відаць, пазней папаў у збор І. М. *Царскага;* цяпер ён знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве (ДГМ, Цар. 8). Кніга ў пераплёце 19 ст.: кардон у скуры з залатым цісненнем. На карашку — чырвоныя скураныя ярлыкі з залатым цісненнем «Библия Скорины» і «4». У зборы Талстога канвалют указанага складу лічыўся 4-м томам «Бібліі» С. П. І. *Кепену* ў 1825 былі вядомы 7 экз. К. «Ю.». Акрамя экземпляра Архіва Мін-ва замежных спраў і канвалюта Талстога, ён называў кнігі, якія знаходзіліся ў Епіскапскай б-цы (Мукачава) і ў зборы М. П. Румянцава (у апошнім было 3 экз. К. «Ю.»). Першы з экземпляраў, улічаных Кепенам, цяпер знаходзіцца ў Закарпацкім краязнаўчым музеі ў Ужгарадзе (М—434). Ён заключаны ў кардонны, абцягнуты скурай пераплёт. Экземпляр Румянцава цяпер знаходзіцца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 6520, 6331 і 6326). Першы з іх уваходзіць у склад канвалюта: кн. «Іоў», «Прарок Даніїл», «Эсфір» і К. «Ю.». Кніга заключана ў пераплёт — дошкі ў скуры з меднымі засцежкамі. Другі і трэці экземпляры пераплецены асобна пры рэстаўрацыі. І. П. *Сахараву* ў 1849 былі вядомы экземпляры Архіва Мін-ва замежных спраў, Епіскапскай б-кі, зборы Царскага, І. Т. Якаўлева, А. І. *Касцерына,* пецярбургскай Публ. б-кі, Румянцаўскага музея і Б-кі Акадэміі навук. Лёс экземпляра Якаўлева невядомы. Экземпляр Касцерына можа быць атаясамлены з экземплярам, які ў сучасны момант знаходзіцца ў ДПБ ($1.5.4^{a/2}$) у складзе канвалюта: кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», «Царствы», «Эсфір», К. «Ю.». Канвалют заключаны ў пераплёт 19 ст. з кардоннымі вокладкамі і скураным карашком, на якім золатам выціснена: «Библия, переведенная Скориною 1517—1519. Часть II». Другі экземпляр (ДПБ, $1.5.4^{6/4}$) знаходзіцца ў складзе канвалюта: кн. «Плач Ераміі», «Прамудрасць божая», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Іоў», «Ісус Сірахаў», «Прарок Даніїл», «Эсфір», К. «Ю.». Канвалют пераплецены ў чырвоную скуру. На карашку яго чырвоны ярлык «Из древлехранилища Погодина». У Б-цы Акадэміі навук К. «Ю.» магла знаходзіцца ў складзе 8 выданняў С., якія прыдбаў у 1829 Строеў; лёс гэтага экз. невядомы. У 1884 А. С. *Радоскі* апісаў К. «Ю.» у складзе канвалюта Пецярбургскай духоўнай акадэміі, які ўключаў кн. «Ісус Сірахаў», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Юдзіф», «Эсфір», «Плач Ераміі» і «Прарок Даніїл». Паводле Радоскага, «усе гэтыя 9 кніг скарынінскай Бібліі пераплецены ў адзін моцны пераплёт з дошкамі, абцягнутымі трывалай старадаўняй скурай. Экземпляр добра захаваўся». Лёс канвалюта невядомы. У 1978 В. П. Коласава ўвяла ў навук. ужытак экз. К. «Ю.» са збору Аддзела рукапісаў Цэнтр. навук. б-кі АН УССР у Кіеве. Знаходзіцца ён у складзе рукапісна-друкаванага канвалюта, які змяшчае 4 выданні С. і шэраг рукапісных тэкстаў, сярод якіх вершаваны палемічны тэкст «Скарга нищих до бога». Канвалют належаў Сафроніева-Маўчанскаму манастыру (непадалёку ад Пуціўля), а затым Курскай духоўнай семінарыі. У 1920-х г. яго набыў укр. вучоны, пазней чл.-кар. АН УССР П. М. Папоў. Фрагмент К. «Ю.» нядаўна быў знойдзены ў Ягелонскай б-цы ў Кракаве (арк. 11—14). Цяпер вядома 9 экз. К. «Ю.».

*Літ.:* 668. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КНІГАВЫДАВЕ́ЦКАЯ ДЗЕ́ЙНАСЦЬ Ф. СКАРЫНЫ.** Пачалася ў *Празе,* дзе была заснавана друкарня. Прага была на той час цэнтрам нац.-вызв. і антыфеад. барацьбы, перадавой філас. думкі, мела ўсе неабходныя культ. і тэхн. ўмовы для кнігавыдавецкай дзейнасці. Тут ужо ў 1470-я г. пачалося кнігадрукаванне, якое ў 1520-я г. дасягнула высокага ўзроўню. З усіх слав. народаў на родную мову Біблія была перакладзена толькі ў чэхаў — зрабіў гэта выдатны дзеяч чэш. нац.-вызв. руху і культуры канца 14— пач. 15 ст. Ян Гус. Першай кнігай, выдадзенай 6.8.1517 С. у Празе, быў *«Псалтыр» 1517,* найб. распаўсюджаная ў слав. краінах кніга. Здаўна ў рукапісах яна служыла не толькі для богаслужэння, але і ў якасці дапаможніка для вучэння дзяцей грамаце. Выданнем гэтай кнігі С. паклаў пачатак шматлікім наступным выданням, т. зв. вучэбнага Псалтыра. У прадмове да «Псалтыра» С. ўказваў, што кніга гэта — «початок всякое доброе науки детем малым». У Празе С. выдаў 22 кнігі, у пасляслоўях да 12 з іх, выдадзеных у 1517—18, указаны год, месяц і дзень выпуску; у кнігах 1519, за выключэннем першай — «Юдзіф» і апошняй — «Суддзі», пазначаны толькі год. Датаванне выхаду кніг С. дае па агульнаеўрап. летазлічэнню — ад нараджэння Хрыста.

Выданні С.: *кніга «Іоў»* (51 арк.) — 10.9. 1517, кніга *«Прытчы Саламона»* (48 арк.) — 6.10.1517, *кніга «Ісус Сірахаў»* (82 арк.) — 5.12.1517, кніга *«Еклесіяст»* (18 арк.) — 2.1.1518, кніга *«Песня песням»* (12 арк.) — 9.1.1518, *кніга «Прамудрасць божая»* (32 арк.) — 19.1.1518, 4 *кнігі «Царствы»* (242 арк.) — 10.8.1518, *кніга «Ісус Навін»* (48 арк.) — 20.12.1518, *кніга «Юдзіф»* (26 арк.) — 9.2.1519, *кніга «Суддзі»* (48 арк.) — 15.12.1519; у 1519 выпушчаны таксама: *кніга «Быццё»* (94 арк.), *кніга «Выхад»* (76 арк.), *кніга «Левіт»* (54 арк.), *кніга «Лічбы»* (74 арк.), *кніга «Другі закон»* (66 арк.), *кніга «Прарок Даніїл»* (40 арк.), *кніга «Плач Ераміі»* (12 арк.), *кніга «Эсфір»* (26 арк.), *кніга «Руф»* (8 арк.).

Сярод названых вышэй няма кніг «Прарокаў» і «Параліпаменон». Рус. гісторык М. П. *Пагодзін* меў рукапісны спіс бібл. кніг скарынінскай рэдакцыі, у т. л. і «Прарокаў». У 1865 Я. Ф. *Галавацкі* ў б-цы Ануфрыеўскага манастыра ў Львове выявіў «Параліпаменон» у рукапісным спісе біблейскіх кніг скарынінскай рэдакцыі. Напэўна, С. пераклаў усе біблейскія кнігі, але выдаць «Прарокаў» і «Параліпаменон» па нейкіх прычынах не змог. Магчыма, ён выдаў іх, але да гэтага часу яны або не выяўлены, або не зберагліся. Парадак выдання С. кніг Бібліі не кананічны (той пачынаецца з кн. «Быццё»), а абумоўлены парадкам вывучэння асноў т. зв. *«сямі вольных мастацтваў»,* пры вывучэнні якіх у якасці вучэбных дапаможнікаў С. рэкамендаваў тую ці іншую біблейскую кнігу. С. імкнуўся надаць біблейскім кнігам агульнаадукацыйны характар (гл. арт. *Асветніцкая і педагагічная дзейнасць Ф. Скарыны*). У пражскай друкарні С. выдаў агульным аб'ёмам 1195 аркушаў. Да нас не дайшлі дакладныя звесткі, па якіх прычынах С. спыніў выдавецкую дзейнасць у Празе. У пач. 1520-х г. ён заснаваў друкарню ў Вільні, у доме заможнага купца і члена гарадскога самакіравання Якуба Бабіча. З надрукаваных у ёй кніг вядомы дзве — *«Малая падарожная кніжка»* і *«Апостал».* Абодва віленскія выданні аднолькавыя па фармату і знешняму афармленню. Такі невялікі фармат зручны для карыстання: кніга змяшчалася ў кішэні.

Асаблівасцю ўсіх кніг, выдадзеных у Празе і Вільні, з'яўляецца наяўнасць у іх *прадмоў, пасляслоўяў.* Тым самым С. імкнуўся садзейнічаць распаўсюджанню перакладзеных ім на зразумелую чытачу мову біблейскіх кніг сярод «простых людей посполитых» з мэтай пашырэння асветы. Прадмовы з'яўляюцца плёнам самастойнай літаратурнай творчасці бел. вучонага і кнігавыдаўца і могуць служыць узорам літаратурнай публіцыстыкі пач. 16 ст. У кнігах С. ёсць вершаваныя пералажэнні ўрыўкаў біблейскіх тэкстаў (гл. *Скарына і беларускае вершаскладанне*), якія надаюць ім больш жывасці і даходлівасці (кн. «Выхад», «Эсфір», «Іоў», «Левіт», «Еклесіяст» і інш.). Пры абазначэнні біблейскіх персанажаў С. ўжываў сучасныя яму азначэнні і тэрміны: «ваявода», «гаспадар», «багатыр», словы «грамата», «дваране», «дружына», «найміт», «аброкі», «вотчына», «поп», «пасады», «староства» і інш. З мэтай шырокага распаўсюджання сваіх кніг С. выдаваў іх невял. фарматам, ужываў выразныя прыгожыя *шрыфты, застаўкі,* па-мастацку аздабляў загалоўныя літары, змяшчаў *ілюстрацыі* (гл. *Графічная арнаментыка выданняў Ф. Скарыны*). Кнігі С. амаль усе пачынаюцца прыгожа аформленым загалоўкам. Тэкст падзелены на раздзелы, у пач. кожнага дадзены напісаны С. кароткі змест. Разам з тым С. захаваў і традыцыі старaслав. рукапісаў — застаўкі з візантыйскай арнаментыкай. С. змясціў у слав. кнігі ілюстрацыі — гравюры, якія дапамагаюць чытачу лепш зразумець тэкст. Безумоўна, С. старанна вывучаў вопыт кнігадрукавання ў Італіі, Чэхіі, азнаёміўся з лепшымі ўзорамі выдадзеных у той час кніг, за ўзор браў тыя, якія яму найб. спадабаліся, не пераймаючы поўнасцю сучасныя яму зах.-еўрап. выданні. Выпушчаныя ім кнігі з'яўляюцца арыгінальнымі выданнямі і сведчаць аб самастойнасці выдаўца, аб яго ўласнай творчай ініцыятыве. С. быў

арганізатарам і кіраўніком работы сваіх друкарняў як у Празе, так і ў Вільні, забяспечваў іх вопытнымі майстрамі, друкарамі, мастакамі, магчыма, удзельнічаў у распрацоўцы шрыфтоў і ілюстрацый (гл. таксама арт. *Віленскі перыяд у жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны, Пражскія перыяды ў жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны).*

Кнігавыдавецкая дзейнасць С. мела выключна важнае значэнне ў гісторыі развіцця бел. культуры. Яна праходзіла ў перыяд завяршэння працэсу фарміравання бел. народнасці, развіцця бел. мовы і культуры ў цяжкіх умовах паліт. панавання польскіх і літ. феадалаў і ўмацавання каталіцкай царквы. Пераклаўшы на бел. мову біблейскія кнігі, якія былі шырока распаўсюджаны ва ўсіх еўрап. краінах, і выдаўшы іх значным для таго часу тыражом, С. тым самым садзейнічаў станаўленню і замацаванню бел. літаратурнай мовы, аказаў вял. уплыў на далейшае яе развіццё. Кнігадрукаванне на зразумелай народу мове ён рабіў з высокіх грамадзянскіх пабуджэнняў «послужити люду посполитому». Выданні С. шырока распаўсюдзіліся не толькі ў Беларусі, але і ў Літве, Польшчы, на Украіне, у Рус. дзяржаве, а таксама ў паўд.-слав. краінах. Іх друкарскія асаблівасці — фармат, шрыфты, афармленне, характар і змест прадмоў і пасляслоўяў — аказалі значны ўплыў на далейшае развіццё бел., рус. і ўкр. кнігадрукавання (гл. арт. *Брацкае кнігадрукаванне).*

*Літ.:* 39; 206; 734. *В. У. Чапко.*

**КНІГАДРУКАВА́ННЕ ЕЎРАПЕ́ЙСКАЕ** ў 15 ст. Кнігадрукаванне ўзнікла ў эпоху *Адраджэння,* калі ствараліся перадумовы развіцця сусв. гандлю, закладваліся асновы прамысловасці; яно выклікана дасягнутым узроўнем і патрэбамі развіцця грамадства. Вынаходства друку надзяліла кнігу значнымі сац. і культ. функцыямі. У ім увасобілася жывая сувязь працэсаў духоўнай творчасці з матэрыяльнай вытворчасцю, адлюстраваліся заканамернасці грамадска-паліт., сац.-эканам. і культ. развіцця. Дзякуючы вытворчым магчымасцям, уніфікацыі, масавасці, адноснай таннасці і даступнасці, друкаваная кніга стала важнейшым сродкам духоўнага ўзбагачэння, ідэалагічнай і паліт. барацьбы, садзейнічала фарміраванню нац. культур, развіццю міжнар. сувязей. Насуперак імкненням царквы і пануючых класаў падпарадкаваць і выкарыстаць друкаванае слова ў сваіх інтарэсах кнігадрукаванне пашырала вузкія рамкі сярэдневяковых уяўленняў аб свеце, знаёміла чалавецтва з сучаснымі яму дасягненнямі, несла ў лепшых творах веды, ідэі асветы, гуманізму і Адраджэння. Яно падрывала манаполію духавенства ў духоўным жыцці грамадства, спрыяла станаўленню бурж. адносін.

Раннім спосабам узнаўлення тэкстаў была *ксілаграфія* — друкаванне з гравіраваных на дрэве форм, якое пачалося на мяжы 14—15 ст. Узнікненне якасна новага тыпу кнігадрукавання (друк з набортай формы, словалітны прыбор і стандартныя літары, друкарскі станок) адносіцца да 1440-х г. і звязана з дзейнасцю



Да арт. **Кнігадрукаванне еўрапейскае.** Старонка 42-радковай Бібліі І. Гутэнберга. 1452—55.



Да арт. **Кнігадрукаванне еўрапейскае.** Друкарня. Гравюра І. Амана. 16 ст.

Іагана *Гутэнберга.* Кнігадрукаванне хутка пашырылася і ахапіла амаль усю Зах., Цэнтр. і Паўд. Еўропу. У 1450-я г. друкарні дзейнічалі ў Майнцы, Бамбергу (Германія), Страсбуры (Францыя), з 1465— у Італіі, каля 1468— у Швейцарыі, з 1470 — у Францыі, з 1473 — у Бельгіі і Венгрыі, каля 1473 — у Польшчы, з 1476 — у Чэхіі (першая дакладна датаваная кніга) і Англіі, з 1482 — у Аўстрыі, Даніі, з 1483 — у Швецыі, з 1487 — у Партугаліі; значным цэнтрам кнігадрукавання стала Венецыя. Першыя кнігі слав. глагалічнага шрыфту надрукаваны ў 1483, кірылаўскага — у 1491 (Кракаў, друкар Швайпольт *Фіёль*). Да канца 15 ст. ў гарадах Еўропы дзейнічалі сотні друкарняў, агульная колькасць выпушчаных імі экземпляраў падлічвалася ў мільёнах. Большасць друкарняў былі малапрадукцыйнымі (сярэдні тыраж 200—300 экз.), абслугоўваліся адным ці некалькімі майстрамі-універсаламі, працавалі кароткачасова. Разнастайнасцю і інтэнсіўнасцю кнігапрадукцыі, высокім узроўнем маст.-паліграф. афармлення вылучаліся друкарні П. Шэфера, І. Ментэліна, А. *Кобергера* (Германія), Н. Енсана, А. *Мануцыя,* У. Гана (Італія), У. Кекстана (Англія) і інш., у арганізацыі якіх ужо меліся элементы капіталіст. мануфактуры — вялікая колькасць станкоў, шырокае выкарыстанне наёмнай працы. Першыя друкаваныя кнігі ўзнаўлялі характэрныя рысы рукапісных, аднак друкарскія, формныя, ілюстрацыйныя працэсы пастаянна ўдасканальваліся і ў канцы 15 ст. ўжываліся амаль усе пазнейшыя асн. элементы паліграфіі: тытульны ліст, прадмова, змест, фаліяцыя, сігнатура сшыткаў, калафоны (пасляслоўі), пракат у некалькі фарбаў і г. д. З'явіліся розныя па сваім функцыянальнаму прызначэнню і маст.-графічных асаблівасцях тыпы стандартызаваных шрыфтоў (гатычны, стараж.-грэч., *антыква, кірыліца* і інш.). Поруч з пераважаючай у цэлым арнаментальнай і сюжэтнай ксілаграфіяй узнікла кніжная гравюра на медзі. У практыку друкавання ўвайшлі выданні малых серыйных фарматаў — у 4-ю, 8-ю, 12-ю долю аркуша. Паводле зместу кніга ахапіла ўсе жанры л-ры і пісьменнасці. Назапашаны выдавецкі вопыт, прыцягненне да афармлення першакласных мастакоў-прафесіяналаў дазволіла і на раннім этапе кнігадрукавання ствараць сапраўдныя шэдэўры друкарскага мастацтва («Сусветная хроніка» 1493 Шэдэля са шматлікімі краявідамі еўрап. гарадоў і інш.). Кнігі, выдадзеныя ў Еўропе да 1501, наз. *інкунабуламі.*

Еўрап. друкаваныя выданні былі вядомы на Беларусі і ў Літве ўжо ў канцы 15 — пач. 16 ст. дзякуючы шырокім гандл., культ. і паліт. сувязям з Польшчай і інш. суседнімі краінамі (гл. арт. *Кнігадрукаванне ў Вялікім княстве Літоўскім* ў 15—16 ст., *Кнігадрукаванне ў Польшчы* ў 15—16 ст.). Канкрэтныя звесткі пра еўрап. друкароў і выдаўцоў, пра гісторыю К. е. змяшчаліся ў выданнях Брэсцкай, Нясвіжскай, Лоскай рэфармацыйных друкарняў 1550—70-х г. Непасрэднае знаёмства С. з высокай тэхнікай і мастацтвам кнігадрукавання ў Польшчы, Італіі, Чэхіі і інш. аказала значнае ўздзеянне на маст.-паліграф. аблічча яго выданняў, якія ўнеслі свой уклад у разнастайную і багатую культ. спадчыну еўрап. народаў.

*Літ.:* 216; 347; 558; Пятьсот лет после Гутенберга. 1468—1968. М., 1968.

*Г. Я. Галенчанка.*

**КНІГАДРУКАВА́ННЕ НА БЕЛАРУ́СІ** на польскай і лацінскай мо-

вах у 15—16 ст., гл. ў арт. *Рэфармацыйнае кнігадрукаванне.*

**КНІГАДРУКАВА́ННЕ Ў ВЯЛІ́КІМ КНЯ́СТВЕ ЛІТО́ЎСКІМ** у 16 ст. На мяжы 15—16 ст. друкаваная кніга стала важным элементам у грамадскім жыцці княства. Царква як духоўны манапаліст сярэдневяковага грамадства выкарыстоўвала кнігі літургічнага, тэалагічнага, палемічнага зместу ва ўнутрыцарк. дзейнасці, у барацьбе з ерасямі, вальнадумствам, для ўмацавання сац. пазіцый духавенства. Па заказу віленскага каноніка Марцінаса ў Гданьску ў 1499 надрукавана кніга царк. абрадаў «Агенда» (на лац. мове). У друкаванай кнізе мелі патрэбу феадалы, кіруючыя колы, што імкнуліся ўмацаваць сваё паліт. і ідэалаг. становішча, абагульніць і нармалізаваць дзярж. заканадаўства, гар. насельніцтва, зацікаўленае ў развіцці свецкай пісьменнасці, школьнай справы, адукацыі. Арганізатарамі першай у Вял. кн. Літоўскім віленскай друкарні С. былі гараджане, якія актыўна займаліся гандл.-прадпрымальніцкай і грамадскай дзейнасцю (гл. *Віленскі перыяд у жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны*). У другой палове 16 ст. попыт на кнігі павялічыўся ў сувязі з развіццём феад. грамадскіх адносін, пашырэннем Рэфармацыі і абвастрэннем царк.-рэліг. барацьбы, рэалізацыяй паліт. планаў, у т. л. дзярж. уніі з Польшчай, і інш. Супрацьборчыя бакі адкрывалі друкарні, выпускалі л-ру на розных мовах (лац., стараслав., ням.). Вялікае значэнне ва ўсталяванні і развіцці кнігадрукавання ў 2-й пал. 16 ст. мелі творчыя ўзаемасувязі бел., літ., укр. друкароў і выдаўцоў з прагрэсіўнымі дзеячамі рус. і польск. культуры. У той час пачалі дзейнічаць *Брэсцкая друкарня, Нясвіжская друкарня, Лоская друкарня.* У канцы 1560-х г. працавала заснаваная маскоўскімі першадрукарамі Іванам Фёдаравым і Пятром Мсціслаўцам *Заблудаўская друкарня.* У 1570-я г. кароткі час дзейнічала невял. прыватная друкарня Васіля *Цяпінскага* (мабыць, у маёнтку Цяпіна на Полаччыне). У канцы 16 ст. сталіца Вял. кн. Літоўскага Вільня стала буйнейшым цэнтрам усх.-слав. кнігадрукавання. Працавалі друкарні *Мамонічаў* (засн. ў сярэдзіне 1570-х г.), М. К. Радзівіла (1576—86), В. *Гарабурды,* Я. Карцана (1580-я г.), Я. Маркунаса (з 1592), Д. Ланчыцкага (з 1594) і інш. У 1590-я г. на тэр. княства пры падтрымцы гал. чынам бел. мяшчанства паявілася *брацкае кнігадрукаванне* (гл. таксама арт. *Кірыліцкае кнігадрукаванне* на Беларусі). У 1570-я г. кнігадрукаванне засн. на тэр. Украіны (гл. *Скарына і пачатак кнігадрукавання на Украіне).*

Першыя кнігі на літ. мове выйшлі ва Усх. Прусіі па ініцыятыве прагрэс. колаў літ. інтэлігенцыі («Катэхізіс» 1547, складзены М. Мажвідасам, друкарня Г. Вейнрэйха, Кёнігсберг; уключае катэхізіс, буквар і песеннік). Кёнігсбергскія друкары, якія працавалі ў непасрэднай блізкасці ад Літвы, выдавалі літ. кнігі і на працягу 16 ст. Вял. ўклад у развіццё нац. кнігадрукавання зрабіў гуманіст і асветнік М. *Даукша,* «Катэхізіс» 1595 (Вільня) у яго перакладзе — найб. вядомая з літ. кніг, якія захаваліся. У прадмовах, каментарыях да сваіх выданняў і перакладаў Даукша падкрэсліваў значэнне друкаванага слова ў развіцці і ўздыме нац. культуры, л-ры, пісьменнасці, сцвярджаў правa літ. мовы на самастойнае існаванне. Кнігі на літ. мове выходзілі ў друкарнях М. Пяткявічуса, Маркунаса, але неспрыяльныя грамадска-паліт. ўмовы і паланізацыя значна тармазілі развіццё ўласна літ. кнігадрукавання. У канцы 16— пач. 17 ст. асн. цэнтрам лац.-польскага друку Вял. кн. Літоўскага стала друкарня Віленскай акадэміі (да 1586 належала Радзівілу). Яна падпарадкоўвалася езуіцкаму калегіуму, таму ў яе тэалагічных, рэліг.-палемічных выданнях выразна праяўляліся контррэфарм., паланізатарскія тэндэнцыі. Але паколькі друкарня належала вучэбнай установе, яна выпускала таксама слоўнікі, падручнікі, навуковую л-ру. Па падліках А. Анушкіна друкарні Вял. кн. Літоўскага ў 16 ст. выпусцілі больш як 320 выданняў на польск., лац., царк.-слав., бел., літ. і інш. мовах. Высокага ўзроўню дасягнула маст.-паліграф. майстэрства. Лепшыя ўзоры кнігапрадукцыі вылучаюцца разнастайнасцю шрыфтоў, шырокім выкарыстаннем наборных упрыгожанняў, арнаменту, фігурных ксілаграфій. З канца 16 ст. царк., брацкае, прыватнапрадпрымальніцкае кнігадрукаванне стала пастаянным фактарам культ., грамадска-паліт., царк.-рэліг. жыцця краіны.

*Літ.:* 19; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wrocław; Kraków, 1959; Lebedys J. Mikalojus Daukša. Vilnius, 1963; Stankiewicz M. Bibliografia litewska. T. 2. Kraków, 1899.

*Г. Я. Галенчанка.*

**КНІГАДРУКАВА́ННЕ Ў ПО́ЛЬШЧЫ** ў 15—16 ст. Першая друкарня ў Польшчы ўзнікла ў Кракаве каля 1473, дзе ананімны т. зв. майстар Турэкрэматы (відаць, Каспер Штраўбэ з Баварыі) выпусціў 4 выданні на лац. мове. Там жа каля 1491 Ш. *Фіёлем* была засн. першая ў Еўропе слав. друкарня кірылаўскага шрыфту (надрукавала 4 выданні). У апошняй чвэрці 15 ст. кароткі час дзейнічалі друкарні К. Эліяна (Вроцлаў, 1475—83), К. Баумгартэна (Гданск, 1488—99), Я. Карвейзе (Мальбарк, 1492), невядомага майстра «Пасланняў папы Льва I» (1473—78). У 16 ст. Кракаў стаў асн. цэнтрам К. ў П.— больш за 20 друкарняў, з іх найб. значныя Я. *Галера* (выпускала гал. чынам літургічныя кнігі і вучэбныя дапаможнікі для Кракаўскага ун-та), К. *Хохфедара,* Ф. *Унглера.* Асветніцкі характар мела друкарска-выдавецкая дзейнасць звязанага з гуманіст. коламі Е. *Віетара.* З 2-й пал. 16 ст. ў Кракаве інтэнсіўна працавалі друкары Л. Андрэевіч, М. Віжбента, які купіў абсталяванне Б. Ваявудкі з Брэста, Я. Янушоўскі. Друкарні былі таксама ў Гданску, Торуні, Вроцлаве і інш. гарадах. У 16 ст. друкаваная кніга стала зброяй ідэалаг. і рэліг. барацьбы. Важным цэнтрам рэфарм. кнігадрукавання быў Крулевец (Кёнігсберг, цяпер Калінінград), сталіца Прускага герцагства, «леннай» зямлі Польшчы, дзе з 1540-х г. узніклі прадпрыемствы Г. *Вейнрэйха,* Я. Даўбмана, Г. Остэрбергера і інш. Пасля Люблінскай уніі 1569 у новае дзярж. фарміраванне Рэч Паспалітую ўвайшлі неаднародныя па нац. складу і веравызнанню землі Беларусі, Літвы, Украіны, што адбілася на характары ўнутрыпаліт. жыцця краіны, узмацненні сац. барацьбы, рэфарм. руху. Гэта ажывіла кнігавыдавецкую дзейнасць. Значная колькасць пратэстанцкіх друкарняў узнікла на землях Рэчы Паспалітай, куды ўваходзілі зах. Беларусь, Літва, Падляшша. Контррэфарм. кнігі выдаваліся ў Познані, Браневе, Вільні. Усяго на тэрыторыі, падуладнай польскай кароне, функцыяніравала 55 друкарняў у 24 пунктах, яны выпусцілі больш за 3 млн. экз. кніг. Некат. значныя творы польск. аўтараў параўнальна часта выдаваліся за мяжой: у Базелі, Антверпене, Кёльне, інш. еўрап. гарадах.

Польск. кнігадрукаванне эпохі сярэднявечча адыграла вял. ролю ў развіцці і станаўленні л-ры, пісьменнасці, мовы, ідэй гуманізму, культуры наогул. Выходзілі кнігі розных жанраў: белетрыстычныя, літургічныя, прававыя, навуковыя, палемічныя і інш. У Кракаве друкаваліся працы выкладчыкаў і выпускнікоў Кракаўскага ун-та, у т. л. тых, хто вучыў С. (*Ян з Глогава, Ян са Стобніцы,* Міхал з Быстрыкава), класічныя творы антычнай л-ры, гуманістаў, прадстаўнікоў рэнесансавай культуры Эразма Ратэрдамскага, М. Рэя, Я. Каханоўскага, А. Маджэўскага Фрыча. Значную частку друкаванай прадукцыі складалі кнігі па гуманітарных і прыродазнаўчых навуках (філасофія, астраномія, матэматыка, медыцына). У выданнях гіст. жанру (хронікі і інш. творы Яна Длугаша, М. Кромера, М. Мяхоўскага) ёсць каштоўныя звесткі па паліт. гісторыі, аб жыцці насельніцтва Вял. кн. Літоўскага. У друкарні Унглера ў 1513 выйшла 1-я кніга на польск. мове — «Raj duszny», у 1528— карта Польшчы і Вял. кн. Літоўскага, складзеная Б. Вапоўскім, у выданнях гэтага прадпрыемства змешчана больш за 1000 ксілаграфій. Удз. в. польскамоўных кніг у агульнай прадукцыі кракаўскай друкарні Віжбенты на канец 16 ст. складала 70—80 %. Удасканальваліся форма, знешні выгляд выданняў, шырока ўжываліся арнаментальныя матэрыялы гатычнага і рэнесансавага стыляў, сустракаецца фігурная, сюжэтная гравюра, пашыраюцца выявы гербаў, сігнетаў, эмблем. У кніжнае ілюстраванне пачалі пранікаць традыцыі нар. мастацтва.

Паліграф. дасягненні польск. майстроў зрабілі значны ўплыў на развіццё кнігадрукавання на Беларусі і ў Літве, асабліва рэфармацыйнага. Многія друкарскія матэрыялы бел. і літ. выдаўцамі Брэста, Нясвіжа, Лоска, Вільні набываліся, несумненна, у Польшчы. У сваю чаргу значная частка рэфарм. выданняў, якія выходзілі на польск. мове ў Беларусі, распаўсюджваліся ў Польшчы. У Кракаве выдаваліся паэтычныя творы Міколы *Гусоўскага* (друкарня Віетара, 1523—

25). Развіццё прыватнапрадпрымальніцкага К. ў П. нярэдка ўскладнялася ўмяшаннем царк. цэнзуры, органаў улады. Неаднаразова падвяргаўся цэнзурным ганенням А. Родзецк, які друкаваў з 1574 антытрынітарскія выданні (некат. з памылковымі, у т. л. «брэсцкімі» выхаднымі звесткамі). Відаць, неспрыяльныя паліт. ўмовы і асабліва каталіцкая апазіцыя былі адной з прычын, што перашкодзілі арганізацыі друкарні С. ў Польшчы. З 1603 у Рэчы Паспалітай стаў выдавацца польск. інквізітарскі «Індэкс забаронеых кніг», у яго траплялі таксама многія бел. і літ. выданні.

*Літ.:* Русско-польские связи в области книжного дела. М., 1980; Polonia Typographica saeculi sedecimi. Z. 1—12. Wrocław, etc, 1936—81; Kawecka-Gryczowa A. Z dziejów polskiej księżki i okresie Renesansu Wrocław, 1975; яе ж. Dzieje drukarstwa w Polsce XV i XVI wieku: Stan badań i postulatu//Dawna księżka i kultura Wrocław etc, 1975; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 3—6. Wrocław, 1959—77.
*Г. Я. Галенчанка.*

**КНІГАДРУКАВА́ННЕ ЧЭ́ШСКАЕ** ў канцы 15 — пач. 16 ст.

Сталіца Чэхіі — *Прага* — займала вядучае месца не толькі сярод еўрап., але і сярод слав. кнігадрукавання. К. ч. ўзнікла ў канцы 1460-х — сярэдзіне 1470-х г. і з'яўляецца адным з найб. ранніх у Еўропе. Рост грамадскай патрэбнасці ў кнізе стымуляваўся паскораным распаўсюджаннем пісьменнасці сярод мясц. насельніцтва, што было выклікана шэрагам фактараў. Па-першае, права на чытанне біблейскіх кніг на роднай мове было непасрэдным вынікам гусіцкага руху. Ва ўмовах таго часу гэта патрабаванне мела ярка выяўлены грамадска-паліт. характар. Выстаўленае дзеячамі чэш. культуры яшчэ ў 2-й пал. 14 ст., яно было тэарэтычна абгрунтавана і практычна пацверджана Янам *Гусам*. Напярэдадні і ў гады гусіцкага руху пісьменнасць атрымала параўнаўча шырокае распаўсюджанне ў гар. і сельскім асяроддзі. Па-другое, значную ролю адыграла ўзмацненне пазіцыі гарадоў, у прыватнасці каралеўскіх, у эканам. і паліт. жыцці краіны. Пісьменнасць станавілася здабыткам адносна шырокіх колаў чэш. грамадскасці, характэрнай рысай жыцця якіх з'яўлялася патрэбнасць у кнізе. Спосаб рукапіснай кнігавытворчасці ў чэш. землях меў даўнія традыцыі, аднак задаволіць попыт на кнігу ён ужо не мог. Але калі грамадскія патрабаванні стымулявалі развіццё кнігавыдавецтва, то складанае становішча, у якім апынулася *Чэшскае каралеўства* ў канцы 15 — пач. 16 ст., не спрыяла пашырэнню друкарскай справы. Гэта адбілася як на дынаміцы кнігавыдання, так і на яго тэматыцы. Да сярэдзіны 1480-х г. выданні выходзілі нерэгулярна ў невял. колькасці назваў (ад 1 да 3 у год). З 1487 колькасць іх павялічылася, паменшылася і рэгулярнасць выпуску. Прозвішчы першых друкароў невядомыя, зберагліся кнігі, надрукаваныя без указання месца выхаду ў свет і імя друкароў. Як мяркуюць, першая кніга — пераклад на чэш. мову «Траянскай хронікі» Г. дэле



Да арт. **Кнігадрукаванне чэшскае.** Друкарня. Гравюра. 1519.

Калоне (13 ст.) — была надрукавана ў г. Пльзені каля 1470. Усяго да 1500 на чэш. землях было выдадзена больш за 50 інкунабулаў (па некат. крыніцах — 54), у т. л. 43 кнігі надрукаваны на чэш., 16 — на лац. і адна — на ням. мовах. Па зместу не менш за 30 кніг былі свецкага характару і могуць быць аднесенымі да дзелавых («Законнік Уладзіслава», пастановы сеймаў, календары), ці займальных (белетрыстыка, апісанні падарожжаў і т. п.). Астатнія інкунабулы былі звязаны з рэліг. тэматыкай. Паміж зместам і мовай выданняў існавала пэўная залежнасць. Амаль усе кнігі на лац. мове былі богаслужэбныя або багаслоўскія. Асабліва гэта датычыцца Маравіі, дзе кнігадрукаванне ўзнікла па ініцыятыве каталіцкай царквы. Адбіўся і працяглы адрыў гэтай часткі каронных земляў ад Чэшскага каралеўства (1468—90). Кнігі на чэш. мове ў мараўска-сілезскім рэгіёне да канца 15 ст. не выдаваліся. Вядучую ролю ў развіцці К. ч. доўгі час адыгрывала Чэшскае каралеўства, дзе выдавецкая дзейнасць набыла прыватнапрадпрымальніцкі характар — яе накіраванасць сведчыла аб цеснай сувязі з грамадска-культ. развіццём эпохі. Гэта адносіцца не толькі да свецкай, але і да царк. кнігі, якая па абставінах таго часу выконвала і паліт. функцыі. Першае выданне чэш. перакладу «Новага запавету» (1475), напрыклад, было звязана з асяроддзем чашнікаў (прадстаўнікі ўмеранага крыла гусіцкага руху). Пазней у 1520-х г. разгарнулася выдавецкая дзейнасць паслядоўнікаў Абшчыны чэшскіх братоў, вяршыняй якой стала чэш. Біблія, выдадзеная ў мараўскім горадзе Краліцы (1579—94). Амаль з першых крокаў мясц. друкавання Біблія з'явілася важным элементам ідэалаг. супрацьстаяння паміж каталіцызмам і яго праціўнікамі на чэш. землях (гл. таксама *Біблія на чэшскай мове*). Пад канец 15 ст. выдавецкая справа пераўтвараецца ва ўстойлівы ін-т чэш. культуры. Адным з істотных паказчыкаў гэтага было з'яўленне адносна трывалых друкарскіх фірм і вядомых сваёй прадукцыяй друкароў М. Бакаларжа, Я. *Кампа*, М. Конача, *Севярынаў* і інш. Удасканальвалася і кніжнае мастацтва. Конач увёў тытульны ліст, пад канец 1-й чвэрці 16 ст. чэш. бастарду выцісну ў гатычны шрыфт, з'явілася кніжная гравюра, двухколерны друк і г. д. Усё гэта падрыхтоўвала бурны росквіт чэш. кнігадрукавання 2-й пал. 16 — пач. 17 ст. Аднак пад уплывам неспрыяльных унутрыпаліт. падзей пач. 16 ст. ў кнігавыдавецкай дзейнасці абазначыўся часовы спад. На Маравіі яна спынілася на некалькі гадоў, а ў Чэхіі ішла да змяншэння ці спарадычна заяўляла аб сабе ў перыферыйных гарадах (Літамішль, Млада-Болеслаў і інш.). Цяжкасці з выпускам кніг у Чэшскім каралеўстве прывялі да некат. развіцця чэш. кнігадрукавання за рубяжом, адным з цэнтраў якога становіцца Венецыя. Тут выйшла *«Біблія чэшская ў Венецыі друкаваная»* (1506), якая была важнай крыніцай перакладу С. біблейскіх кніг на бел. мову. Пытанне аб тым, дзе і калі пазнаёміўся ён з гэтым выданнем, мае значэнне не толькі для ўстанаўлення творчай гісторыі «Бібліі» С., але і для ўдакладнення часу яго прабыцця ў Чэхію. Паявіліся ў Чэхіі пры С. і новыя віды выданняў — папярэднікі газет, т. зв. «лятучыя ліс ткі». Адной з першых чэш. друкаваных «газет» была лістоўка з перакладам паведамлення Амерыга Веспучы пра падарожжа да берагоў амер. кантынента. Для вывучэння біяграфіі С. прадстаўляе цікавасць і першая «газета» Конача (1515), прысвечаная *Венскаму кангрэсу 1515*, на якім, як мяркуе І. *Добраўскі*, у свіце *Жыгімонта* І знаходзіўся С. З сярэдзіны 1520-х г., ужо пасля ад'езду С. на радзіму, не толькі ў Празе, але і ў правінцыі кнігадрукаванне ажыўляецца, удасканальваецца паліграф. мастацтва. Да 1533 адносіцца спроба ўкаранення ў практыку чэш. набору гуманіст. лац. шрыфту *(антыквы)*, падобнага на той, што шырока ўжываўся тады італ. друкарамі. Калі ў сярэдзіне 1530-х г. С. зноў прыехаў у Прагу, ён не мог не зацікавіцца пераменамі ў чэш. кнігадрукаванні. Гл. таксама арт. *Пражскія перыяды ў жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны.*

*Літ.:* 129; 149; 202; 452.
*А. С. Мыльнікаў.*

**КНІ́ГІ Ф. СКАРЫНЫ ВА ЎСХОДНЕСЛАВЯ́НСКІХ ЗБО́РАХ** 16—18 ст. Папулярнасці кніг С. ва ўсх.-слав. краінах садзейнічала тое, што гэта былі першадрукаваныя «рускія» кнігі, якія прыцягвалі да сябе асаблівую ўвагу ўсіх, хто цікавіўся або прафесійна займаўся літаратурай, кніжнай пісьменнасцю, кнігадрукаваннем. Акрамя некат. раздзелаў «Малой падарожнай кніжкі», гэта былі выданні найб. аўтарытэтнай на той час

кнігі — Бібліі, якая выкарыстоўвалася царквой, духавенствам і свецкімі адукаванымі чытачамі, дзеячамі культуры, Рэфармацыі, ерэтыкамі і вальнадумцамі. Кнігі С. былі больш зразумелымі і даступнымі чытачам Беларусі, Украіны, Расіі, чым польска-лацінскія і зах.-еўрапейскія. У выданнях С., як адзначаў М. А. Алексютовіч, «...найбольш поўна і ярка ўвасобілася гістарычнае адзінства рускай, беларускай і ўкраінскай культуры таго часу, якое вынікала з агульнасці паходжання брацкіх народаў». Кнігі С. вылучаліся рэнесансавым знешнім аблічам, дасканаласцю маст.-паліграф. афармлення, эстэт. выразнасцю. Многіх чытачоў вабіла іх патрыятычная накіраванасць, гуманіст. і асв. ідэі.

Найб. ранні збор кніг належаў самому С. *Гравюрны партрэт Ф. Скарыны* дае некат. уяўленне пра яго пражскі збор. Гэта былі гал. чынам рукапісы, *інкунабулы, палеатыпы* «ін-фоліо» або вял. квартант (1/4 долю аркуша). Несумненна, у Вільні С. меў яшчэ большы збор, лёс якога невядомы. На адным з экземпляраў «Пяцікніжжа» (Прага, 1518) ёсць адзіны запіс з імем бел. першадрукара, зроблены, магчыма, пры яго жыцці: «И на торъге пан Скорина...». Кнігі, што належалі С., упамінаюцца ў грамаце чэш. караля Фердынанда Габсбурга 1552. Разам з іншай маёмасцю «доктора Франциска Руса из Полоцка» яны перайшлі да Сімяона Руса *Скарыны*. Кнігі С. атрымалі шырокае распаўсюджанне перш за ўсё сярод яго суайчыннікаў. Выданні С. былі ў распараджэнні многіх «рускіх» членаў віленскага магістрата, што прама або ўскосна падтрымлівалі яго пачын. Значная частка пражскіх кніг належала Багдану *Онкаву*, які аказваў фінансавую падтрымку друкарні. Гэта адзначана ў рукапісных надпісах на некат. ранніх выданнях: «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына радци места Виленского» («Псалтыр», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў», 1517, «Еклесіяст» і «Прамудрасць божая», 1518). Онкаў, як і амаль усе буйныя бел. купцы, меў сувязі з рус. гарадамі і сярод інш. тавараў, магчыма, прадаваў і кнігі. Выданні С., напэўна, былі ў кніжных зборах найстаршага бурмістра Якуба *Бабіча*, у доме якога размяшчалася друкарня першадрукара, віленскага радцы (саветніка) Юрыя *Адверніка*, брата Івана *Скарыны*, доўгі час звязанага з Францыскам сумеснымі гандл. інтарэсамі. Несумненна, кнігі свайго земляка асабліва ахвотна куплялі полацкія і віцебскія купцы, іншыя слаі бел. гар. «паспольства». У 1543 па распараджэнню пінскага і кобрынскага старосты Івана Міхайловіча пісцом Парфенам быў перапісаны пражскі «Псалтыр» С. Да 1-й пал. 16 ст. адносяцца найб. ранняя звесткі пра з'яўленне выданняў С. ў буйных манастырскіх б-ках. У вопісе кірыліцкіх кніг Супрасльскага манастыра, набытых да 1532, упамінаюцца 5 «бітых» (друкаваных). У 1-й трэці 16 ст. толькі друкарня С. выпускала друкаваныя выданні на ўсёй тэр. Вял. кн. Літоўскага. Сярод новых кніг, якія паступалі ў 1532—57, былі 2 «бітыя» выданні С.: «Псалтыр» і «Апостал». У вопісе 1645 адзначана «Иова Великого друку Скорининого, 3». Кн. «Іоў» у скураным пераплёце зберагалася ў манастыры да 1836. Папулярнасць кніг С. сярод «рускіх» чытачоў улічвалася бел. друкарамі і выдаўцамі. Яны запазычвалі некат. формы кніжнага афармлення, прадаўжалі маст. і асв. традыцыі першадрукара. Непасрэднае знаёмства нясвіжскіх кнігавыдаўцоў — Сымона Буднага, М. Кавячынскага, Л. Крышкоўскага — з кнігамі С. пацвярджаецца блізкасцю шрыфтоў, стыліст. і фразеалагічным паходжаннем асобных фрагментаў прадмоў, пасляслоўяў (гл. *«Катэхізіс» 1562*). Пражскія і віленскія «книжицы» С. былі добра вядомы Буднаму, які выкарыстаў іх у сваіх перакладах Свяшчэннага пісання. У лоскім выданні «Новага запавету» (1574) ён неаднаразова параўноўвае тэксты С. з выданнямі Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца. Ксілаграф. рамкавыя ініцыялы ў «Евангеллі» Васіля Цяпінскага выразна імітуюць віленскія першадрукі.

У канцы 16—1-й пал. 17 ст. кнігі С. выкарыстоўваліся ў палемічнай брацкай л-ры, у школьнай справе, кнігадрукаванні. «Псалтыр» С. ў 1604 зберагаўся ў доме Івана Рабко ў Вільні. Віленскі «Апостал» (1525) і пражскі або віленскі «Псалтыр» завешчаны ў 1624 брэсцкім купцом, членам гар. рады Гурынам Фёдаровічам брэсцкім мяшчанам Грыцку Фесеві і Грыцку Паповічу. Кн. «Суддзі» (1519) і некалькі інш. пражскіх выданняў належалі уніяцкаму мітрапаліту Рафаілу Корсаку (Навагрудскі павет). У рэестры маёмасці бел. купца, бурмістра Стэфана Лябедзіча, складзенага камісіяй віленскага магістрата ў 1649, упамінаецца «Апостал Скорины в 8° грошей — 10». Кнігі ляжалі ў гандл. «каменіцы», ідаць, на продаж.

Кнігі С. зрабілі істотны ўплыў на развіццё кніжнай пісьменнасці, л-ры і кнігадрукавання на Украіне. Даследчыкі адзначаюць, што большасць стараж. спісаў скарынінскіх выданняў звязана з укр. землямі. Да іх адносяцца некалькі спісаў «Апостала»: з сяла Данілаўцы, 1571, Цеслугова на Валыні, перапісаны ў 1593—94 папом Гермагенам Яцковічам з Торчына, спісы, якія захоўваліся ў зборах Перамышльскага грэка-каталіцкага капітула, і інш. У некат. спісах імя С. падмянялася імем перапісчыка або заказчыка рукапісу (спіс Васіля Жугаевіча 1568 з Яраслаўля). Асабліва цікавыя спісы, у якіх, паводле меркавання некат. даследчыкаў, захаваліся таксама копіі нявыдадзеных кніг С., або тых, якія да нас не дайшлі: Цярнопальскі (належаў укр. царк. і грамадскаму дзеячу Ф. Цеханоўскаму (1759—1828), напісаны ў 1569 «пилностию худаго человека на имя Луки», рукапісны кодэкс «пісарчыка» Дзмітрыя з Зенькава, 1575, завершаны нейкім іерэем «в неславнем же граде Маначине». Кнігі С. паўплывалі на пераклад Крэхаўскага евангелля і *Перасопніцкага евангелля*, напісаных «простай» мовай, выкарыстоўваліся рэдактарамі, друкарамі ў выданнях *Заблудаўскай друкарні*, у *«Астрожскай бібліі»*, віленскім «Псалтыры» (1583, 1593). Мяркуюць, што яны былі вядомы ўкр. пісьменніку-палемісту канца 16 — пач. 17 ст. І. Вішанскаму, цытаваліся дзеячам брацкай асветы З. Капысценскім. Наперакор пашыраным у гістарыяграфіі ўяўленням тэксты С. ўключаліся нават у правасл. антырэфармацыйныя, антыерэтычныя творы. Напр., у ананімным творы ўкр. палемічнай публіцыстыкі 2-й пал. 16 ст.— «Супраць аповесці сучасных бязбожных ерэтыкаў...» — выкарыстаны фрагменты з прадмовы С. да ўсёй «Бібліі». «Біблія» С. (у складзе некалькіх пражскіх выданняў) і «Прамудрасці Саламона» ўпамінаюцца ў рэестры б-кі Львоўскага Успенскага стаўрапігіяльнага брацтва (1601). Кн. «Ісус Сірахаў» у 16—17 ст. была «власной» кнігай буйнейшага на Украіне Кіева-Пячэрскага манастыра. У 1680-я г. кн. «Царствы» належала ўкр. гетману Івану Самойлавічу і яго сынам Рыгору і Якаву. Рэдкі ўзор укр. фальклорнага запісу зроблены ў экземпляры «Пяцікніжжа» С. свяшчэннікам Сучэнскай Троіцкай царквы Алексіем.

Пра папулярнасць кніг С. на «Літоўскай зямлі» (Вял. кн. Літоўскае) пісаў у 1560-я г. князь Андрэй *Курбскі* ў пасланні старцу Васьяну Мурамцаву. Уніяцкі публіцыст А. Сялява тлумачыў гэта тым, што кнігі С., надрукаваныя «русінам», выклікалі пачуцці гордасці сярод бел., укр., рус. насельніцтва княства. Пра распаўсюджанне кніг С. на Беларусі і Украіне («тут на Руси») паведамляў у пач. 17 ст. польскі пісьменнік С. Старавольскі.

Друкаваныя кнігі С. ў 16—17 ст. былі вядомы ў Рускай дзяржаве. Іх вывозілі з сабой рускія «госці», дыпламаты, палонныя, якія вярталіся на радзіму. У 1520-я г. невядомы падданы Жыгімонта I (С. або Багдан Онкаў) наведаў *Маскву* з мэтай распаўсюджання бел. інкунабул. Няўдала быў выбраны час, улічваючы ўскладненыя знешнепалітычныя адносіны, кансерватыўную пазіцыю рус. мітрапаліта Данііла, які актыўна выступаў супраць мясц. ерасей і «западных» павеваў. Па загаду вял. кн. маскоўскага Васіля III кнігі С. былі канфіскаваны і спалены. Тым не менш у сярэдзіне 16 ст. выданні С. ўваходзілі ў склад заможнай вотчыннай б-кі рус. купца, прамыслоўца, землеўладальніка Анікея Фёдаравіча Строганава (некат. пражскія выданні, «Малая падарожная кніжка», «Апостал»), з 1570-х г.— кніжных збораў яго пераемнікаў — Сямёна Анікеевіча, Максіма Якаўлевіча, Мікіты Рыгоравіча *Строганавых*. Гандаль з Вял. кн. Літоўскім, выкарыстанне «литовских» выхадцаў як служылых людзей, «рудознатцев», пісараў, дзякаў, справаводаў садзейнічала збіранню «литовских» кніг у зборах Строганавых. У канцы 16—1-й трэці 17 ст. «Псалтыр», каноны і акафісты з «Малой падарожнай кніжкі», кн. «Царствы» зберагаліся ў хатняй б-цы яраслаўскага купца Ягора Траццяка Лыткіна. У яго зборы былі добра прадстаўлены выданні

бел. і укр. друкарняў. «Біблію» С. і інш. бел. выданні ўпамінаў асветнік, прыхільнік слав. адзінства, серб Юрый Крыжаніч у час знаходжання ў Табольску: «...Белорусци при тискованьи Библиьи, Лексикона, Граматики и јних писем много пременьен е учинишя и новини розмаити вимислишя...». У 2-й пал. 17 ст. выданні С. (кн. «Іоў», «Прамудрасць божая», «Ісус Навін») былі візуальна апісаны ананімным стваральнікам першай рускай рэтраспектыўнай бібліяграфіі «Змест кніг, хто іх складаў» (каля 1666, прыпісваецца С. Мядзведзеву). Несумненна, кнігі С. былі вядомы такім буйным дзеячам бел. і рус. асветы, пісьменнікам, бібліяфілам, кніжнікам, як Сімяон Полацкі, І. Іяўлевіч. Распаўсюджанню бел. выданняў садзейнічала перасяленне бел. насельніцтва ў Расію ў руска-польскую вайну 1654—67. Некат. кнігі былі вывезены з Беларусі рус. служылымі людзьмі. На экземпляры кн. «Царствы» з Цэнтральнага дзярж. архіва старaж. актаў (ЦДАСА, ф. 1250, № 1, арк. 15—32) збярогся ўладальніцкі запіс: «Сия книга Алексеева дому Петровича Гладкова, а взятa сия книга в литовской земли в городе Гродно лета 7163 (1655) году месяца августа в КЗ (27) день». Па-рознаму да выданняў С., як і да інш. «литовских» кніг, адносілася рус. правасл. духавенства. Царк. артадоксаў насцярожваў агульны гуманізм і дэмакратызм выданняў, незвычайнае вонкавае афармленне, мова, пераклад. Даследчыкам невядомы станоўчыя водгукі пра кнігі С. царк. іерархаў 16—18 ст. Асабліва неспрыяльнымі былі ўмовы для распаўсюджання кніг С. ў сярэдзіне 16 ст., у час Лівонскай вайны 1558—83, калі актывізаваліся выступленні царквы супраць ерэтыкоў, вальнадумцаў, рэфармацыйных павеваў. Звесткі пра наяўнасць кніг С. ў б-цы Іосіфа-Валакаламскага манастыра (вопіс 1545, 1573), якія сустракаюцца ў л-ры, крыніцамі не пацвярджаюцца. Але выданні С. рознымі шляхамі траплялі ў манастырскія зборы (гал. чынам Масквы, Падмаскоўя, Рускай Поўначы), асабліва выкарыстоўваліся ў манастырскіх скрыпторыях, рэдакцыйна-перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасці, спраўшчыкамі Друкарскага двара. Пра гэта сведчаць рус. спісы з кніг С., фрагменты яго тэкстаў, глосы ў некат. маскоўскіх выданнях («Псалтыр папа Нікана», 1619), імітаванне віленскіх арнаментальных матэрыялаў першадрукара (друкар А. Ц. Нявежа, «Псалтыр», 1602). Найб. цікавае выкарыстанне кніг С. 2-й пал. 16 ст. ў спісах *«Генадзіеўскай біблії»*. У канцы 16—17 ст. выданні С. былі ў б-ках манастыроў: Салавецкага (вопіс 1597, дзве Бібліі «литовской печати в четверть»), Мікалаеўскага Карэльскага (1601, «Бытия в полдесть печатная»), Ціхвінскага (1634, «Книга Царственная печатная»), Кірыла-Белазерскага (сяр. 17 ст.; дзве кн. «Ісус Сірахаў», «печатные в десть, бумага малая ветха»), Чарнагорскай пустыні на Пінезе (1635, уклад Я. Лыткіна — 6 кніг пражскай «Бібліі» і «Малая падарожная кніжка»), Уладзімірска-Раждзественскага (1637, «Царствы», «ветха печатная»), Маскоўскага Нова-Спаскага (1638, «Книга Моисеев исход, в полдесть, печать Литовская»), Суздальскага Спаса-Яўфіміева (1650, «Пяцікніжжа»), Новаіерусалімскага на р. Істра (1674—75, «Царствы»). У 1675 спраўшчыкам маскоўскага Друкарскага двара Яўфіміем зроблены вопіс кніг, якія паступілі ў рызную казну патрыяршай б-кі з Іверскага падвор'я. Пры гэтым выпраўлена памылка, зробленая пры вопісе кніг Новаіерусалімскага манастыра: «№ 361. В большой шкапе. Описание о Иудейской земли, книга печатная немецкая, в полдесть. А по нынешнему осмотру книга Царств, переведена с немецкаго языка, печатная белоруская, Францышка Скорины». Кн. «Царствы» ў 1670-х г. была ў царскага духоўніка Андрэя Савіновіча. Фактычна кніг С. было значна больш у рус. свецкіх і манастырскіх б-ках, таму што ў большасці вопісаў 16—17 ст. «литовския» і «беларускія» выданні апісаны няпоўна, без указання выхадных звестак, фармату і інш. неабходных даных для атаясамлівання бібліяграф. прыкмет.

Значнае пашырэнне сац. складу чытачоў кніг С. адбываецца ў 18 ст. Да гэтага часу адносяцца ўладальніцкія запісы на пражскім «Псалтыры» селяніна Пашахонскага павета Ухтомскай воласці сяла Клімаўскага, вотчыны Кірыла-Белазерскага манастыра, Логіна Мацвеевіча, жыхара сяла Данілоўскага Андрэва, паручніка артылерыі Фёдара Шалачынскага, надворнага саветніка і кавалера Паўла Іванова, бел. пружанскага мешчаніна Казьмы Аляксандрава, святара казлінскай царквы Сімяона Газеўскага, «произвозденского» папа Пятра, «капеиста» (пісца-перапісчыка) Епіфанскага павятовага суда Пятра Іванова сына Крафтлеса. Датаваныя аўтографы пакінулі на сваіх кнігах падпаручнік Васіль Аляксеевіч Цевашоў у 1749 («Царствы», раней належала стольніку Феадору Якаўлевічу Цевашову і яго сыну Аляксею), казак данскога войска з г. Чаркас Панцялей Васільеў, 1766 («Прарок Данііл»), ніжагародскі мешчанін Міхаіл, 1801 («Псалтыр», 1522). У адстаўнога салдата ў 1760-я г. нейкім Бялеўцавым у Маскве куплены віленскі «Псалтыр». Распаўсюджанне кніг С. сярод простых чытачоў поўнасцю адпавядала яго задумам: «Тако ж и мы, братия, не можем ли во великих послужити посполитому люду рускаго языка, сие малые книжки праци нашее приносимо им» (гл. с. 118—119).

У апошняй чвэрці 18 ст. паявіліся бібліяграф. працы, у якіх асаблівая ўвага звернута на апісанне скарынінскіх рарытэтаў у кніжных зборах АН у Пецярбургу (*Л. Бакмейсцер, І. Добраўскі*, І. Міхаеліс). Вял. артыкул прысвяціў экземпляру «Апостала», які захоўваўся ў б-цы стацкага саветніка П. П. Курбатава, протаіерэй маскоўскага Архангельскага сабора, акад. П. А. *Аляксееў*. Экземпляр «Бібліі» С., які належаў гісторыку Г. Ф. Мілеру, апісаны ў працы І. Г. *Штрытэра*. Другі канвалют С. быў у б-цы рус. гісторыка і калекцыянера Ф. Р. *Баузе*.

Кнігі С. выконвалі неаднолькавую культ., грамадска-паліт. ролю ў розныя перыяды гіст. развіцця Беларусі, Расіі, Украіны. Асабліва важным быў іх уплыў на пачатковым этапе станаўлення ўсх.-слав. кнігадрукавання, калі выспявалі яго сац., ідэйныя, маст. і матэр. перадумовы. Яны зрабілі грунтоўны ўклад у развіццё культуры ўсх.-слав. народаў, пашырэнне і ўмацаванне культурных узаемаадносін, рост этнічнай і агульнаслав. свядомасці. Значная колькасць кніг, што збераглiся ва ўсх.-слав. краінах, уладальніцкія запісы, паметы чытачоў на бел., рус., укр. мовах, вопісы старaж. б-к, спісы і тэкстуальныя запазычанні, сведчанні пісьменнікаў 16—18 ст.— бясспрэчны гіст. доказ шырокага распаўсюджання выданняў С. ва ўсім усх.-слав. рэгіёне. Гл. таксама *Выданні Ф. Скарыны ў заходнееўрапейскіх вучоных і кніжнікаў* 16 ст.

*Літ.:* 6; 69; 335; 557; 641; 664; 668; 734.
*Г. Я. Галенчанка.*

**КНІГІ «ЦА́РСТВЫ»,** К н и г и ц а р ь с т в ъ, пражскае выданне С., якое выйшла ў свет 10.8.1518. У К. «Ц.» выкладзена гісторыя Ізраільска-Іудзейскай дзяржавы (гл. с. 64—81). Адкрываецца тытульным лістом з гравюрай і тэкстам: «Книги первыи царьствъ починаються. Зуполне выложены на руський языкъ доктором Францискомъ Скорининымъ сыномъ изъ славнаго града Полоцька. Богу ко чти и людемъ посполитымъ к научению». На арк. 1-м адв.— 4-м змешчана «Предословие доктора Франъциска Скорины с Полоцька въ книги перъвыи царствъ». На арк. 4-м адв. змешчана «Сказание въ первыи книги царъствъ» — анатацыя зместу, дзе пералічаны асн. падзеі, апісаныя ў кнізе («о царствовании Саулове и о битвах его с филистымляны», «како Давыд убил Голиафа» і інш.). На арк. 5—64-м адв. надрукаваны тэкст 31 раздзела 1-й К. «Ц.», на арк. 64-м адв.— пасляслоўе. На арк. 65-м — тытульны ліст 2-й К. «Ц.» з гравюрай і тэкстам: «Вторыи книги царьствъ починаються. Зуполне выложены на руський языкъ доктором Францискомъ Скорининымъ сыномъ с Полоцька». На арк. 65-м адв. надрукавана «Предословие доктора Франъциска Скорины с Полоцька въ книги вторыи царствъ». На арк. 66—117-м адв. змешчаны тэкст 25 раздзелаў 2-й К. «Ц.», на арк. 118-м — кароткае пасляслоўе. Аркуш 118-ы адв.— пусты, 119-ы служыць тытульным лістом 3-й К. «Ц.». Тут аднаўлена гравюра і надрукаваны тэкст: «Третии книги царьствъ починаються. Зуполне выложены на руський языкъ доктором Францискомъ Скорининымъ сыномъ с Полоцька». На арк. 119-м адв. змешчана «Предословие доктора Франъциска Скорины с Полоцька въ книги третии царств». На арк. 120—182-м адв. змешчаны тэкст 22 раздзелаў 3-й К. «Ц.», на арк. 182-м адв.— кароткае пасляслоўе, якое паводле зместу блізкае да папярэдніх. Аркуш 183-і служыць тытульным лістом 4-й К. «Ц.». Тут пад гравюрай змешчаны тэкст: «Книги четвертыи царств по-

чинаються. Зуполне выложены на руський языкъ доктором̃ъ Франъцискомъ Скорининымъ сыномъ с Полоцька». На арк. 183-м адв. надрукавана «Предословие доктора Франъциска Скорины с Полоцька в книги четвертыи царствъ», дзеададзена анатацыя зместу кнігі. На арк. 184—241-м надрукаваны тэкст 25 раздзелаў 4-й К. «Ц.». На арк. 241-м адв. змешчаны пасляслоўі да 4-й К. «Ц.» і да ўсіх К. «Ц.» (гл. с. 81). Мова К. «Ц.» — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання — у чвэрць аркуша. Аб'ём кнігі — 242 арк., якія сабраны ў 31 сшытак. Сшыткі 1—14-ы і 16—29-ы васьміаркушавыя, а 15-ы, 30-ы і 31-ы шасціаркушавыя. Набор выкананы пражскім шрыфтам С.— 10 радкоў вышынёй 75 мм. На паласе — 22 радкі. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя прастаўлена на верхнім баку аркуша ўверсе справа. Друк у адну фарбу. На арк. 49-м памылкова прастаўлена фаліяцыя «θМ» (замест «М0»). Маст. аздоба К. «Ц.»— 12 гравіраваных на дрэве ілюстрацый, 5 заставак, надрукаваных з 2 дошак, і 115 ініцыялаў, надрукаваных з 62 дошак. Чатыры ілюстрацыі змешчаны на тытульных лістах кожнай з 4 К. «Ц.». Сем ілюстрацый змешчаны ў 3-й К. «Ц.». Шэсць з іх дакументальнага характару, 7-я — «Саламон і царыца Саўская» (арк. 149-ы). У канцы кнігі (арк. 242-і) змешчаны *гравюрны партрэт Ф. Скарыны,* надрукаваны з той жа формы, што і ў кн. «Ісус Сірахаў». Сюжэтныя ілюстрацыі: *«Давід перад ківотам»* (арк. 65-ы), *«Будаўніцтва храма ў Іерусаліме»* (арк. 119-ы), *«Асада Іерусаліма»* (арк. 183-і); подпісы пад дакументальнымі: *«Узор храма»* (арк. 133-і), *«Вобраз двух херувімаў»* (арк. 135-ы), *«Узор дома»* (арк. 136-ы адв.), *«Узор двух слупоў»* (арк. 137-ы адв.), *«Узор мора»* (арк. 139-ы), *«Узор дзесяці падставак»* (арк. 139-ы адв.). Паводле Я. Дз. Ісаевіча і інш. даследчыкаў, на гравюры з выявай храма Саламона на самой справе паказаны будынак Бурсы ўбогіх у Кракаве, дзе, магчыма, жыў С. ў час навучання ў Кракаўскім ун-це. 4 вял. застаўкі (105 × 52 мм), надрукаваныя з адной дошкі, папярэднічаюць тэксту кожнай з 4 К. «Ц.». На іх паказаны «дзікія людзі», якія апіраюцца на незапоўнены гербавыя шчыты. Вядомы экземпляры, у якіх у шчыты ўпісаны ад рукі манаграмы «θСН». У цэнтры застаўкі шчыт з выявай «зацьмення сонца». На арк. 241-м змешчана доўгая вузкая канцоўка (105 × × 8 мм). Ініцыялы папярэднічаюць раздзелам і інш. тэкстам.

К. «Ц.» неаднаразова ўпамінаецца ў бел., рус. і укр. вопісах кніг 16—17 ст «Выбойная Кніга Царства» названа ў завяшчанні ад 9.5.1522 Матфея, іерэя царквы св. Георгія ў Вільні. «Кніга Царств», переведена с немецкого языка, печатная белорусская, Францышка Скорины» ўпамянута ў вопісе 1575 кніг, узятых у Патрыяршую рызную казну. Кніга «4 Царства» названа ў вопісе б-кі купцоў і прамыслоўцаў Строганавых, складзеным 5.6.1578. «Кнuга в полдесть 4 царства...» названа ў 1635 у складзе б-кі яраслаўскага купца Ягора Траццяка Лыткіна, «Вопіс сцяпенных манастыроў» сярэдзіны 17 ст. ўпамінае пра наяўнасць «Книги Царственной» у б-ках Ціхвінскага і Уладзімірска-Раждзественскага манастыроў. «Книг Царских в одной книзе 4» называе вопіс ад 6.8.1645 б-кі Супрасльскага манастыра. К. «Ц.» ўпамянута і ў вопісе 1661 Краснагорскага манастыра на Пінезе і ў вопісе маёмасці (каля 1690) укр. гетмана Івана Самойлавіча. У навук. ўжытак К. «Ц.» ўвёў у 1783 І. Г. *Штрытэр.* Яму быў вядомы экземпляр Маскоўскага архіва Мін-ва замежных спраў. Гэта быў канвалют, які змяшчаў кн. «Юдзіф», «Эсфір», «Руф», «Іоў», «Прарок Данііл» і К. «Ц.». Экземпляр знаходзіцца ў Цэнтр. дзярж. архіве стараж. актаў (ЦДАСА, ф. 1250, № 1). На ім уладальніцкі запіс: «Сия книга Алексеева дому Петровича Гладкова, а взята сия книга в Литовской земле в городе Гродне лета 7163 (1655) году месяца августа в 26 день». У 1786 стала вядома пра 2 экз. К. «Ц.». Адзін з іх быў набыты пецярбургскім кнігагандлярам Аўчыннікавым, другі — пецярбургскім кнігагандлярам І. Вогакам. Лёс гэтых экземпляраў невядомы. В. С. *Сопікаў* у 1813 увёў у навук. ўжытак экземпляр К. «Ц.», што належаў б-цы Маскоўскай духоўнай (пазней — сінадальнай) друкарні. Потым гэты экземпляр трапіў у б-ку Маскоўскай духоўнай акадэміі, а пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі — у Дзярж. б-ку СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 6222). Па вонкавым бакавым полі кнігі зроблены запіс, які шматразова паўтараецца: «Московской Синодальной типографской конторы директорский товарищ надворный советник и кавалер... Левашов». Кніга ў пераплёце 17—18 ст.: дошкі ў скуры з цісненнем на верхняй і ніжняй вокладкі. Пераплёт раней служыў другой кнізе, пра што сведчыць ціснёны надпіс арнаментальнага срэдніка верхняй вокладкі: «Кніга глаголемая Охтай». У экземпляры адсутнічае арк. 242-і з партрэтам С. У 1823 І. Лялевель у працы «Дзве бібліяграфічныя кнігі» назваў экземпляр К. «Ц.», які знаходзіўся ў б-цы Варшаўскага ун-та. Відаць, гэта той самы экземпляр, пра які П. І. *Кепен* пісаў, што ён знаходзіцца ў Нац. б-цы ў Варшаве. Сучаснае месцазнаходжанне яго невядома. Магчыма, гэта экземпляр Сіт. 8240, які знаходзіўся ў Нац. б-цы ў Варшаве і загінуў у час 2-й сусв. вайны. У 1829 П. М. *Строеў* апісаў экземпляр К «Ц.», пераплецены разам з кнігай «Руф», са збору Ф А. Талстога Канвалют знаходзіцца ў Дзярж. Публ б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5 4.$^{6/3}$). Ён пераплецены ў кардон у чырвонай скуры з залатым цісненнем на карашку і старонках. На верхняй вокладцы ў цэнтры залатой фальгой выціснены надпіс «Скоринъ». На карашку наклеены чырвоны скураны ярлык з надпісам «Из древлехранилища Погодина». Пераплёт і ярлык пазнейшага паходжання, пра што сведчыць наклеены на адвароце верхняй вокладкі экслібрыс: «Из библиотеки графа Ф. А. Толстова. Отдел VII, № 7». Апошні раз кніга перапляталася ў 19 ст., калі быў пазалочаны і яе абрэз. У экземпляры адсутнічае толькі арк. 242-і (з партрэтам С.). У 1837 Строеў увёў у навук. ўжытак экземпляр К. «Ц.» са збору І. М. *Царскага.* Кніга гэта знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве (ДГМ, Цар. 7). Яна пераплецена ў пач. 19 ст. ў кардон у скуры з залатым цісненнем. На адвароце верхняй вокладкі экслібрыс: «Из библиотеки Ив. Ник. Царского № 7». Аркуш 242-і адсутнічае і ў гэтым экземпляры. На адным з аркушаў кнігі запіс ад 3.12.1600, зроблены Р. А. Крыцкім. І. П. Сахараву ў 1849 былі вядомы 8 экз. К. «Ц.». Тры з іх — са збору М. П. Пагодзіна, А. І. Касцерына і І. Т. Якаўлева — упершыню ўводзіліся ў навук. ўжытак. Лёс экземпляра Якаўлева невядомы. З экземпляраў Пагодзіна і Касцерына скамплектаваны экземпляр ДПБ (1.5.4$^{a/2}$), які цяпер уваходзіць у канвалют: кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», «Юдзіф», «Эсфір» і К. «Ц.». Пераплёт канвалюта зроблены ў 19 ст.— кардонныя вокладкі і скураны карашок з залатым цісненнем: «Библия, переведенная Скориною 1517—1519. Часть II». Ніжэй выціснены дзярж. герб Расійскай імперыі і літары «ИБ» (Імператарская б-ка). У 1870 няпоўны экземпляр К. «Ц.» паступіў у маскоўскі Публічны і Румянцаўскі музеі з калекцыяй І. Я. Лукашэвіча. Пра гэта паведамлялася на старонках чарговай «Справаздачы» музеяў (1873). Экземпляр быў дапоўнены аркушамі з інш. экземпляраў. Ён захоўваецца ў ДБЛ (№ 6224). Кніга пераплецена ў 19 ст. ў зялёную скуру; старонкі пераплёту пакрыты залатым арнаментальным цісненнем. На адвароце верхняй вокладкі наклеены экслібрыс: «Из библиотеки Ивана Лукашевича». На асобных аркушах — пячатка і ўладальніцкі запіс А. К. Качуева, якому раней належала кніга. У экземпляры збярогся запіс: «...по наслецтву от столника Феодора Яковлевича Тевяшова сыну ево Алексею Феодоровичу Тевяшову ж в лето от воплощения слова божия г[оспо]да нашева Ісуса Христа тысеща семьсот четыредесят девятого году м[еся]ца маия сия ж книга от Алексея Феодоровича Тевяшова по наслецтву досталась с[ы]ну ево в то время... лейбгвардии Преображенского полку салдату. А поныне подписана число года и м[еся]ца подпоручика ему Василью ж Алексееву с[ы]ну Тевяшову. А подписал я Василей Тевяшов своею рукою тысеща седмьсот шесдесят перваго году м[еся]ца сентября осмаго на десять дня в царствующем граде Москве». У 1891 І. А. Шляпкін паведаміў пра экземпляр К. «Ц.» з б-кі А. Савіновіча. Сучаснае месцазнаходжанне экземпляра невядома. У канцы 19 ст. ўведзены ў навук. ўжытак экземпляр К. «Ц.», які знаходзіцца ў Брытанскага музея ў Лондане (шыфр С. з 36.f.4). У 1902 У. І. Сразнеўскі набыў для б-кі Пецярбургскай АН канвалют, які змяшчаў кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф» і К. «Ц.». Знаходка была апісана ў «Весцях Аддзялення рускай мовы і славеснасці АН» у 1904. Канвалют гэты знаходзіцца ў Б-цы АН СССР (БАН, 37.1.3). На адным з яго аркушаў запіс 18 ст.: «Сия книга Семенки Мясникова». У 1908 І. С. Свянціцкі ўвёў у навук. ўжытак экземпляр К. «Ц.», які ў 1905 падараваў Царкоўнаму музею ў Львове А. С. Петрушэвіч. Кніга знаходзіцца ў Музеі ўкр. мастацтва ў Львове (Q 415—070510). Яна заключана ў пераплёт з пергаміну (са змытым грэч. тэкстам). На адным з аркушаў ёсць запіс 1725. У 1961 Г. Я. *Галенчанка* ўвёў у навук. ўжытак, а ў 1974 апісаў экземпляр К. «Ц.» са збору Дзярж. б-кі БССР імя У. І. Леніна $\left(\frac{09}{4036}\right)$, набыты ў 1925 у ленінградскага бібліяфіла Камарніцкага для БДУ. На адной з старонак кнігі запіс: «Кніга называемая Чатырох царстваў роду Цевяшовых». У 1968 Я. Л. Неміроўскі ўвёў у навук. ўжытак 3 экз. К. «Ц.» ДБЛ (№ 5165, 6223, 6526), экземпляры Навук. б-кі Маскоўскага ун-та (№ 314128), Цэнтральнага дзярж. архіва стараж. актаў (ЦДАСА, ф. 1250, № 820), Львоўскай навук. б-кі імя В. Стэфаніка (Ст. 54594), Музея ўкр. мастацтва ў Львове (Q 415—070509). Добра захаваўся (адсутнічае толькі арк. 183-і) экз. ДБЛ (№ 5165), які раней належаў Навук. б-цы Саратаўскага ун-та імя М. Г. Чарнышэўскага. Ён заключаны ў пераплёт 19 ст.: дошкі ў скуры з цісненнем на карашку і старонках. На адвароце верхняй вокладкі наклеены ярлык: «Аддз. І. Творы Галоўн. бібліятэкі № 8». Экз. ДБЛ № 6223 уваходзіць у канвалют: кн. «Еклесіяст», «Песня песням», К. «Ц.». Кніга ў пераплёце з дошак, абцягнутых скурай, раней належала Г. П. Георгіеўскаму. Экз.

ДБЛ № 6526 няпоўны, мае экслібрыс збору Лукашэвіча. Некат. з аркушаў кнігі былі перанесены сюды з экземпляра ДБЛ № 6224, які належаў Лукашэвічу. Аднак большая частка кнігі паходзіць з невядомага збору. Экземпляр Маскоўскага ун-та ўваходзіць у канвалют: кн. «Ісус Навін», «Руф», «Суддзі», К. «Ц.» (пераплёт — дошкі ў скуры з цісненнем на карашку і старонках). Канвалют падрабязна апісала ў 1979 І. В. Паздзеева. У Навук. б-ку Маскоўскага ун-та ён паступіў у сярэдзіне 19 ст. Экземпляр ЦДАСА № 820 паходзіць, відаць, з б-кі Маскоўскага архіва Мін-ва замежных спраў. У экземпляры Львоўскай навук. б-кі імя В. Стафаніка 4-я К. «Ц.» адсутнічае. У экземпляры Музея ўкр. мастацтва ў Львове (Q 415—070509) ёсць пячатка «Музей А. С. Петрушэвіча», якая сведчыць пра тое, што ён раней належаў гэтаму вучонаму. У 1976 Я. Л. *Немироўскі* апісаў яшчэ 2 экз. К. «Ц.» са збору ДБЛ (№ 8089, № 8092), якія паходзяць з нацыяналізаванага ў 1918 антыкварыяту П. П. Шыбанава. У апошні час стаў вядомы экземпляр Навук. б-кі Казанскага ун-та (№ 1485). Кніга паходзіць з б-кі Р. А. Пацёмкіна, у 1799 была перададзена 1-й Казанскай гімназіі, а потым паступіла ва універсітэцкую б-ку. Фрагменты К. «Ц.» ёсць у б-ках Кембрыджскага ун-та, Кембрыджскага каледжа св. Тройцы і ў Бел. б-цы і музеі імя Ф. Скарыны ў Лондане. Ва універсітэцкую б-ку яны паступілі ў 1919, у б-ку каледжа — у 1943. Для Бел. б-кі і музея імя Ф. Скарыны фрагменты набыты ў 1975 на распродажы ў Манака б-кі С. П. Дзягілева. Усе 3 фрагменты — адны і тыя ж несфальцаваныя арк. 19—22-і, якія ніколі не ўваходзілі ў склад падабранага і пераплеценага экземпляра. У апошні час фрагменты К. «Ц.» выяўлены ў пераплёце адной з кніг ДПБ. Няпоўны экземпляр кнігі паступіў у Нью-Йоркскую публ. б-ку. Усяго вядома 21 экз. К. «Ц.», сярод іх толькі 2 поўныя (у ДПБ і Б-цы Брытанскага музея). Партрэты С. зберагліся ў 4 экземплярах.

*Літ.*: 556; 668; 702. *Я. Л. Немироўскі.*

**КНІЖНЫЯ ЗБОРЫ** на Беларусі ў 15—16 ст.

На тэр. Беларусі, як і ва ўсіх краінах Еўропы ў 15—16 ст., найб. распаўсюджанымі былі царк. і манастырскія кніжныя зборы. Царкве патрэбны былі кнігі для выканання сваіх спецыфічных царк., сац. і ідэалаг. функцый, падрыхтоўкі кліра, навучання дзяцей і дарослай «паствы» асновам рэлігіі. Адначасова царк. кніжныя зборы выкарыстоўваліся ў прыходскіх школах, некат. кнігі выдаваліся для хатняга чытання, задавальняючы духоўныя патрэбы пэўнай часткі свецкага насельніцтва. Даследчыкі мяркуюць, што ў правасл. храмах у той час налічвалася каля 20 тыс. кніг. Улічваючы рухомасць кніжнага фонду, можна меркаваць, што агульная колькасць толькі літургічных кніг у 15—16 ст. магла быць значна большай. У касцёлах выкарыстоўвалася не менш як 2000 літургічных кніг на лац. і польскай мовах. Удз. в. літургічных кніг на польск. мове значна ўзрасла ў 2-й пал. 16 ст. ў сувязі з пашырэннем Рэфармацыі.

По няпоўных дакументальных даных можна меркаваць, што ў сярэдзіне 16 ст. існавала звыш 30 адносна буйных царк. і манастырскіх б-к у Полацку і наваколлі, 20 — у Віцебску, 18 — у Пінску, 15 — у Брэсце, 12 — у Навагрудку, 9 — у Гродна і г. д. У Вільні на час знаходжання там С. мелася 29 кніжных збораў, не лічачы біскупскіх і капітульных. Рэдкія вопісы манастырскіх збораў, якія зберагліся да нашага часу, дазваляюць меркаваць пра іх агульныя памеры і жанравую структуру. У Слуцкім Троіцкім манастыры паводле вопісу 1494 значылася 46 кніг, Кобрынскім Спаскім (1549) — 24 кнігі, Купяціцкім (Пінскі р-н) — 23 кнігі, Мінскім манастыры Ушэсця (1579) — 26, Ляшчынскім (каля Пінска; 1588) — 34. Найб. жанравай разнастайнасцю вызначаліся буйныя б-кі. Рэестр рухомай маёмасці Супрасльскага манастыра 1557 зафіксаваў 214 кніг, у т. л. 118 біблейскіх і багаслоўскіх, патрыстыка, царк.-навучальныя зборнікі і публіцыстыка склалі 58 кніг, гісторыя, права, геаграфія — 12. Значныя зборы меліся ў б-ку Полацкага Сафійскага сабора. Па сведчанню гісторыка Р. Гейдэнштэйна, захопленыя ў час Лівонскай вайны 1558—83 войскам С. Баторыя кніжныя багацтвы Полацкага Сафійскага сабора лічыліся не меншай каштоўнасцю, чым уся астатняя здабыча. Сярод іх было шмат летапісаў, патрыстычных твораў, перакладзеных на слав. мовы. Асобныя з гэтых рукапісаў зберагаюцца цяпер у матэрыялах ардынацыі Замойскіх (Нацыянальная б-ка ў Варшаве), у т. л. Пскоўскі першы летапіс 1548, і інш. Да часу С. адносяцца першыя звесткі аб стварэнні прыватных збораў у «паспалітым» асяроддзі бел. насельніцтва. Стараж. пергаментныя і новыя друкаваныя («бітыя») кнігі набывалі не толькі матэр. каштоўнасць. Не выпадкова бел. першадрукар з такім шчырым захапленнем пісаў пра заснаваную ў час кіравання цара Пталамея славутую Александрыйскую б-ку, якая мела ў сваім зборы больш за 40 тыс. кніг. Кнігі часам станавіліся аб'ектам судовых спрэчак (у 1539 віцебчанін П. Віхроў абвінавачваў гараднічага Р. Герасімовіча ў тым, што ён на працягу 7 гадоў не вярнуў яму летапісы, у 1540 гродзенскі мешчанін Б. Фядзьковіч падаў скаргу ў мясцовы суд на былую жонку, якая прысвоіла 5 кніг). Сучаснік С. бел. мешчанін Груша захоўваў свае кнігі ў віленскай царкве, лічачы яе надзейным месцам. Рэдкія ілюмінаваныя рукапісы чвэрці Евангелля належалі ў сярэдзіне 16 ст. млынару Сідару з Княжполя і мінскаму бургамістру Васілю. Землякі С. полацкія мяшчане адыгралі немалую ролю ў набыцці кніг для збораў мясц. храмаў. Вядомы іх уклады 1560-х г. (рукапісы Іаана Златавуста, «Жыція Марыі Егіпецкай» і інш.) ва Уваскрасенскі манастыр на Мошанцы ў Полацку. Значнымі кніжнымі зборамі ў канцы 16 — пач. 17 ст. валодалі бел. купцы Мамонічы, Лебедзічы і інш. Найб. буйныя прыватныя б-кі на тэр. Літвы і Беларусі належалі свецкім і духоўным феадалам. Вялікі кнігазбор меў віленскі біскуп Ян, сакратаром у якога ў 1520—30-я г. працаваў С. Магчыма, С. меў доступ таксама і да б-кі віленскага капітула. Сярод прыватных б-к свецкіх асоб вылучаліся збор Жыгімонта I, павялічаны яго пераемнікамі за кошт зах.-еўрап. рэнесансавых выданняў, зборы віленскага ваяводы Гаштольда, кн. Астрожскіх і Гальшанскіх, а таксама Солтанаў, Тышкевічаў, Сапегаў і інш. Сац.-эканам. і культ. развіццё Беларусі, рэнесансавыя і рэфармацыйныя павевы, актывізацыя грамадска-паліт. жыцця, узросшы міжнар. кніжны гандаль, поспехі бел. кнігадрукавання садзейнічалі ўзнікненню ў 2-й пал. 16 ст. значна большай, чым раней, колькасці асабістых кнігазбораў, якія вылучаліся разнастайнасцю і шматмоўем рукапісаў і друкаваных выданняў. Адна з буйнейшых б-к на тэр. Беларусі ў сярэдзіне 16 ст. была створана ў Нясвіжскім замку М. Радзівілам Чорным. Б-ка была павялічана яго сынам Мікалаем Крыштофам Сіроткам і наступнымі нясвіжскімі ардынатамі. Да таго часу яна налічвала звыш 700 тамоў (у т. л. шмат канвалютаў), якія былі сістэматызаваны ў 30 раздзелах: 6 раздзелаў ахоплівалі царк. і багаслоўскую л-ру, 8 — разнамоўныя друкаваныя кнігі і манускрыпты, 16 — пераважна вольныя мастацтвы. Найб. багатымі былі раздзелы грамадзянскай гісторыі з дадатковым раздзелам па гісторыі Польшчы і Вял. кн. Літоўскага, права, палітыкі, паэзіі. У б-цы Радзівілаў знаходзіліся таксама і забароненыя каталіцкай царквой кнігі (напр., «Шэсць кніг пра рэспубліку» Ж. Бадэна, «Гісторыя Польшчы і Літвы» С. Сарніцкага і інш.— усяго 14 тамоў). Падобныя кнігазборы ў 2-й пал. 16 ст. існавалі і ў інш. уладаннях Радзівілаў. Антычная, рэнесансавая, рэфармацыйная л-ра, гістар., юрыдыч., картаграф. і геаграф. выданні былі шырока прадстаўлены ў кнігазборах Радзівілаўскіх маёнткаў у Біржы, Слуцку, Койданаве, Любчы. У адрозненне ад царк. збораў у буйных прыватных б-ках пераважалі друкаваныя выданні. Гэтымі б-камі побач з іх уладальнікамі часта карысталіся людзі «свабодных» прафесій, прадстаўнікі «інтэлектуальных» рамёстваў, частка дваровай адміністрацыі. М. Стрыйкоўскі, аўтар «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» (1582), які доўгі час жыў на Беларусі, выявіў шмат рэдкіх гістар. і літаратурных матэрыялаў (у т. л. каля 15 бел. летапісаў) у б-ках гродзенскага старосты Хадкевіча, кн. Заслаўскіх, Алелькавічаў. Рознымі кнігазборамі з Вільні, Клецка, Нясвіжа, Лоска (Валожынскі р-н) карыстаўся С. Будны, літаратурная эрудыцыя якога ўражвае сваёй рознабаковасцю (кнігі С., Івана Фёдарава, Пятра Мсціслаўца, кракаўскіх, пражскіх, нюрнбергскіх друкароў, творы Эразма Ратэрдамскага, Марціна Лютэра і інш.). Далёкія паездкі па кнігі прадпрымаў, па яго ўласнаму прызнанню, В. Цяпінскі. З канца 16 ст. складваўся кнігазбор бел. паэта-лацініста С. Рысінскага. Ён налічваў каля тысячы тамоў (усе вядомыя паэмы Гамера, трагедыі Сафокла, камедыі Арыстафана, Плаўта, творы выдатных дзеячаў еўрап. Рэнесанса — Н. Макіявелі, Э. Геса, П. Рамэ, «Утопія» Томаса Мора, палемічныя выданні бел. брацкіх друкарняў і інш.).

Пашырэнне прыватных б-к і свецкай л-ры падрывала духоўную манаполію царквы, адлюстроўвала істотныя зрухі ў жыцці феад. грамадства, выхад яго за межы сярэдневяковага светапогляду, рост секулярызацыйных тэндэнцый, расшырэнне міжнар. культ. сувязей, абмяжоўвала магчымасці дзярж. і царк. цэнзуры.

*Літ.:* 111; Цыбуля В. А. Манастырскія і царкоўныя бібліятэкі ў Беларусі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1970. № 3; Покало М. И. История библиотечного дела в БССР. Мн., 1986; Евженко И. Е. Белорусский читатель и книга (по опубликованным источникам 16—18 вв.) // История книги, книжного дела и библиографии в Белоруссии. Мн., 1986; Щапов Я. Н. Библиотека Полоцкого Софийского собора и библиотека Академии Замойской // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976; Библиотечное дело в Белоруссии (XVI в.— 1917 г.): Библиогр. указатель. Мн., 1982. *Г. Я. Галенчанка.*

**КОБЕРГЕР** (Koberger) Антон (1445—1513), нямецкі друкар, выдавец, кнігагандлёвец, адзін з найб. вядомых дзеячаў ранняга перыяду еўрап. кнігадрукавання. Кнігавыдавецкую дзейнасць пачаў каля 1470 у Нюрнбергу. У яго друкарні было 24 друкарскія станкі і больш як 100 работнікаў. Да 1500 К. надрукаваў каля 250 кніг (першая датуецца пач. 1470-х гадоў). Выпускаў юрыд. і тэалагічную л-ру, творы антычных аўтараў, італ. і ням. гуманістаў. Меў сваіх агентаў і кніжныя склады ў Кракаве, Вроцлаве і інш. Пасля смерці К. яго справу прадоўжыў Крэўны Іаган, пазней сын Антон (1498—

1532). Выданні К. адрозніваюцца багатым маст. афармленнем, ілюстрацыямі, выкананымі ў тэхніцы гравюры на дрэве. Асабліва вылучаецца «Сусветная хроніка» (1493) Г. *Шэдэля* — кампілятыўны збор тагачасных ведаў пра Сусвет, адна з найб. славутых кніг інкунабульнага перыяду еўрап. друкарства. У пасляслоўі сказана, што гравюры да яе зрабілі М. *Вольгемут* і В. Плейдэнвурф. Мяркуюць, што ў выкананні асобных прац (выявы сонца і месяца, гравюры «Танец смерці» і інш.) мог удзельнічаць малады А. *Дзюрэр,* які вучыўся ў нюрнбергскай майстэрні Вольгемута. «Сусветная хроніка» была вядома С., відаць, яшчэ з часоў вучобы ў Кракаўскім ун-це.

У «Малой падарожнай кніжцы» С. змешчаны 2 гравюры — ***«Хрыстос у храме»*** і ***«Хрышчэнне ў Іардане»,*** якія ўзыходзяць да аналагічных ілюстрацый «Сусветнай хронікі». У гэтых дрэварытах С. і Шэдэля супадаюць колькасць і кампазіцыйнае размяшчэнне дзеючых персанажаў, памеры, характар штрыхоўкі. Параўнальны аналіз пацвярджае, што ў віленскім выданні адбіткі названых гравюр зроблены, відаць, з сапраўдных ксілаграф. дошак «Сусветнай хронікі». У гэтым пераконвае тэхніка гравіроўкі, тоеснасць кампазіцыі ўсіх дэталей, памераў (72 × × 79 мм), штрыхоў, а, галоўнае, стан ксілаграф. дошак. У «Сусветнай хроніцы» адбіткі гравюр вылучаюцца надзвычайнай выразнасцю ліній штрыхоўкі, відаць, што былі выкарыстаны новыя дошкі. У наступных ням. выданнях адбіткі дастаткова выразныя, але ў некат. штрыхах замест ксілаграф. цвёрдасці прыкметна лінагравюрная мяккасць, а таксама нераўнамернасць фарбавага слою ўсёй дошкі. Апошняе абвастрылася ў адбітках гравюр С., асабліва ў гравюры «Хрыстос у храме». Тут у адбітку з'явілася чарната, штрыхі згубілі выразнасць, відаць, ад шматразовага выкарыстання дошкі. Моцна зношана дошка і ў гравюры «Хрышчэнне ў Іардане», асабліва ў ценявых месцах, дзе наогул няма штрыхоў і ўтварыліся чорныя плямы, чаго няма ў лац. і ням. выданнях «Сусветнай хронікі». Акрамя таго, паступова ўтварыліся дэфекты дошак. У першым адбітку гравюры «Хрыстос у храме» з лац. «Сусветнай хронікі» ў лініі рамкі над правым акном утварыўся невял. пералом, які ў ням. выданні прыкметна павялічыўся. У гэтай жа гравюры з «Малой падарожнай кніжкі» лінія над акном адсутнічае, відаць, ад шматразовага выкарыстання дошкі яна зламалася і С. карыстаўся ўжо дэфектнай дошкай. Такі ж дэфект шырынёй 5 мм утварыўся над выявай галавы Хрыста. Гэта даказвае, што С. пры друкаванні «Малой падарожнай кніжкі» карыстаўся старымі дошкамі. Можна дапусціць, што С. наведаў нюрнбергскую друкарню Кобергераў (лічылася буйнейшай у Еўропе) яшчэ перад сваім прыездам у Прагу. У Кобергераў або, магчыма, у Вольгемута былі куплены дошкі, якія ў 1522 С. выкарыстаў у Вільні. Вядома, што ў тыя часы продаж друкарнямі гравюрных клішэ і перадрукоўка ілюстрацый з аднаго выдання ў другое былі звычайнай справай. 2 запазычаныя ксілаграф. дошкі не маглі зрабіць істотнага ўплыву на вонкавы выгляд «Малой падарожнай кніжкі», у якой былі выкарыстаны сотні адбіткаў арыгінальных гравюр, прызначаных для гэтага выдання. Сярод іншых выданняў К., якія ведаў С.,— «Апакаліпсіс» (1498), серыю гравюр для якога зрабіў Дзюрэр. Можна адзначыць і інш. падабенства маст. ўбрання кніг С. і К., што сведчыць пра іх пэўную сувязь, якая патрабуе далейшага даследавання.

*Літ.:* 789; Kunze H. Geschichte der Buchillustration in Deutschland: Das 15. Jahrhundert. [T. 1]. Leipzig, 1975. *В. Ф. Шматаў.*

**КÓНАН** Уладзімір Міхайлавіч (н. 1934), беларускі сав. філосаф і літ. крытык. Д-р філас. н. (1982). Супрацоўнік Ін-та філасофіі і права АН БССР. Даследуе гісторыю філас. і эстэт. думкі Беларусі, эстэт. праблемы бел. л-ры, фальклору і літ.-маст. крытыкі. У манаграфіях «Нарыс гісторыі эстэтычнай думкі Беларусі» (1972, з Э. Дарашэвічам), «Ад рэнесансу да класіцызму» (1978), арт. «Эстэтычныя погляды Францыска Скарыны» (1979), «Францыск Скарына і Іван Фёдараў: пераемнасць асветніцкіх і эстэтычных традыцый» (1984), разглядаў эстэт. погляды С. ў агульным кантэксце развіцця бел. нац. культуры, грамадска-паліт. і філас. думкі Беларусі ў яе ўзаемасувязі з еўрап. і ўсх.-слав. культурамі. На аснове параўнальнага аналізу літаратурнай, перакладчыцкай, выдавецкай і асв. дзейнасці С. ў супастаўленні з агульнаеўрап. культурай 16 ст. прыйшоў да высновы, што ў яго творчасці яскрава выявіліся рэгіянальныя (усх.-слав.) асаблівасці рэнесансавай культуры — гуманізм, дэмакратызм, арыентацыя на ўсеагульную сац. гармонію, больш цесная, чым у Зах. Еўропе, сувязь з традыцыйнымі каштоўнасцямі хрысц. сярэдневечча. Паказаў, што С. як пісьменнік, мысліцель, патрыёт быў каля вытокаў станаўлення бел. нац. грамадскай думкі і культуры, плённа паўплываў на культуру народаў Расіі, Украіны і Літвы, асабліва на асв. дзейнасць Івана Фёдарава, Пятра Мсціслаўца і інш. К. даследуе таксама прававыя погляды С., якія паўплывалі на развіццё правасвядомасці ў Вял. кн. Літоўскім. Удзельнік *Скарынінскіх чытанняў.*

**КÓНАЧ З ХÓДЗІШКАВА** (Konáč z Hodiškova) Мікулаш (? — 1546), чэшскі друкар і выдавец 1-й пал. 16 ст., перакладчык, пісьменнік, паэт і публіцыст. Друкарскую дзейнасць пачаў у 1507 у Празе. Да 1511 у друкарні К. з Х. надрукавана 8 кніг. З 1514 пачаўся найб. плённы перыяд дзейнасці К. з Х. як выдаўца і друкара. З 1507 да 1528 выдаў 40 назваў. Побач з творамі павучальнага, рэліг.-палемічнага і дзелавога зместу значнае месца ў друкаванай прадукцыі К. з Х. належыць чэш. перакладам і апрацоўкам твораў антычных аўтараў (Лукіян) і італ. гуманістаў 14—15 ст. (Дж. Бакача, Ф. Петрарка). Тры яго творы (у т. л. апрацоўка твораў Бакача) былі выдадзены пасля смерці ў Празе Янам Косаршскім у 1547. У 1510 выдаў «Чэшскую хроніку» (пер. з лац.) Энеа Сільвія Пікаламіні, будучага папы Пія II, дзе значная ўвага аддадзена гісторыі гусіцкага руху. Кніга мае вял. колькасць ілюстрацый, выкананых у тэхніцы гравюры на дрэве (эпізоды з чэш. гісторыі, з жыцця Я. Гуса, Я. Жыжкі і інш.). У 1520 К. з Х. выпусціў на чэш. мове кнігу Я. Гуса «12 артыкулаў» з гравюрнай выявай аўтара. Выдаў найб. раннюю з вядомых друкаваных газет на чэш. мове (1515). Як друкар унёс значны ўклад у развіццё чэш. паліграфіі і мастацтва кнігі. У 1514 першы ў Чэхіі ўвёў тытульны ліст новага тыпу: з назвай кнігі, месцам выдання, імем друкара. Ліст быў надрукаваны ў 2 колеры — чорны і чырвоны, тэкст яго вылучаны шырокай рамкай з раслінным і зааморфным арнаментам. Тут быў і друкарскі знак К. з Х. Ён стаў шырока ўжываць аздобу тэксту ініцыяламі-буквіцамі, далучаючы да іх выявы кветак, птушак і чалавечых фігур. Усе віды кніжнай ілюстрацыі ў друкарні К. з Х. выкананы ў тэхніцы гравюры на дрэве. Імкненне К. з Х. арыентавацца ў сваёй друкарскай дзейнасці на нар. (чэшскую) мову было блізка С. У Празе яго дзейнасць працякала адначасова з дзейнасцю К. з Х., які жыў там. Гэта дазваляе меркаваць, што абодва друкары маглі ўступіць у кантакт.

*Літ.:* 202; Kopecký M. Literární dílo Mikoláše Konáče z Hodiškova. Praha, 1962; Tobolka Z. Česky knihtiskař Mikulaš Konáč z Hodiškova. Praha, 1927.

*А. С. Мыльнікаў.*

**КÓНЦУБ** Анатоль Аляксандравіч (н. 1949), беларускі сав. мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Працуе ў галіне керамікі і жывапісу. У 1977 стварыў шматфігурную пластычна-прасторавую кампазіцыю «Спадчына» з 6 рознавысокіх (ад 43 да 68 см) ваз (шамот, надглазурная размалёўка, люстр), уверсе з жывапіснымі карцінамі ў рамах, вакол якіх нібы развіваюцца ручнікі. Мастак вылучае па вышыні і змяшчае ў цэнтры кампазіцыі вазы з карцінамі «Белая Русь — белакрылая птушка» і «Францыск Скарына» (65 см). Па баках ад іх: «Царква ў Сынковічах», «Максім Багдановіч», «Зялёная дубровачка», «Хата ў Вязынцы — калыханка Купалы». Аўтар падкрэсліў, што Радзіма, увасобленая сімвалічнай выявай белых буслоў, з яе дубровамі і азёрамі, узгадавала такога сына ў любві да сябе і яе «люду паспалітага». Адлюстраваў сувязь пакаленняў.

*М. М. Яніцкая.*

**КÓПІТАР** (Kopitar) Варфаламей (1780—1844), славенскі філолаг, адзін з заснавальнікаў навук. славістыкі. Вучань чэш. філолага І. *Добраўскага.* Хавальнік, у 1844 дырэктар Венскай прыдворнай б-кі. Даследаваў стараж.-слав. помнікі. У працах неаднаразова звяртаўся да выданняў С., даследаваў іх мову. Лічыў кнігі С. выданнямі чыста каталіцкага характару.

*Літ.:* 798.

**КÓРАБАЎ** Міхаіл Іванавіч (н. 1936), самадзейны разбяр па дрэве. У 1983 выканаў пано «Ф. Скарына» (120 × 100 см; уласнасць аўтара). У цэнтры пано, выкананага ў нар. традыцыях, выява С. з кнігай у правай руцэ. Па краю надпіс скарынінскім шрыфтам «Беларускі першадрукар, вучоны і асветнік доктар



А. Концуб. Спадчына. Пластычна-prасторавая кампазіцыя. 1977.

Францыск Скарына з Полацка». Унізе герб С.— сонца і месяц, па баках асабістыя знакі С., якія раздзяляюць тэкст.

**КО́РШУНАЎ** Аляксандр Фаміч (н. 1924), беларускі сав. літаратуразнавец, тэкстолаг. Канд. філал. н. (1956). Супрацоўнік Ін-та літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. Дзярж. прэмія БССР 1980. Даследуе стараж. бел. л-ру, у т. л. літаратурна-публіцыст. спадчыну С. У кнізе «Францыск Скарына. Прадмовы і пасляслоўі» (1969) упершыню сабраў і апрацаваў усе прадмовы і пасляслоўі да выданняў С. з ілюстрацыйна-маст. матэрыяламі, тым самым увёў у навук. ужытак найб. значную частку літаратурна-культ. спадчыны С., якая зберaглася да нашага часу. Даследуе традыцыі С. ў выданнях яго паслядоўнікаў — Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага і інш., уплыў С. на культуру народаў Расіі, Украіны і Літвы, асабліва асв. дзейнасць Івана Фёдарава.

*Тв.*: 169; 636; 637; 637 а; 638.

*М. Б. Батвіннік.*

**КО́СТЭР** (Coster) Лоўрэнс Янсзан (каля 1405—84), адзін з прэтэндэнтаў на лічыцца вынаходнікам кнігадрукавання ў Еўропе. Жыў і працаваў у Харлеме (Галандыя). Імя К. як вынаходніка ўпершыню называе Адрыян дэ Іонге (Юніус) у апісанні Галандыі, выдадзеным у 1588 пад назвай «Батавія». Па яго сцвярджэнню, К. друкаваў з дапамогай драўляных, а потым металічных літар. З цягам часу К. развіў друкарскую справу, якая прынесла яму значны прыбытак. Адзін з яго памочнікаў украў вынаходніцтва і сам адкрыў друкарню ў Майнцы — радзіме Іагана *Гутэнберга.* «Костэраўская легенда» стала прычынай спрэчак за прыярытэт галандскага вынаходніцтва друкарскай справы. Дамаганні галандцаў былі канчаткова абвергнуты толькі ў 19 ст. на падставе Страсбурскіх актаў 1439, якія сведчаць аб наяўнасці там друкарскай справы яшчэ да вынаходніцтва К. Вядомы помнікі галандскага кнігадруку, надрукаваныя 8 шрыфтамі. Належнасць іх да друкарні К. не даказана.



М. Корабаў. Ф. Скарына. 1983.

*Літ.*: 59; Ловягин А. М. Основы книговедения. Л., [1926]; Киселёв Н. П. Неизвестные фрагменты древнейших памятников печати Германии и Голландии. М., 1961.

*Г. А. Маслыка.*

**КРА́КАЎ** (Kraków), горад на поўдні ПНР, адм. цэнтр ваяводства. Размешчаны на р. Вісла. У *Кракаўскім універсітэце* ў 1504—06 вучыўся С.

У 8—10 ст. на ўзгорку Вавель існаваў замак, а побач умацаванае паселішча. У пісьмовых крыніцах К. упамінаецца з 965 г. У 2-й пал. 10 ст. пры аб'яднанні польск. зямель К. уключаны ў склад Польскай дзяржавы. Праз К. праходзіў адзін з важных гандл. шляхоў Усх. Еўропы, які звязваў Кіеў з Прагай. З 11 ст. К. важны паліт. цэнтр дзяржавы, рэзідэнцыя князёў Польшчы (з 1133 да 1320 кракаўскіх удзельных князёў), месца іх каранавання. У 13 ст. горад расшырыўся на Пн ад Вавеля. Гар. кварталы згрупаваліся вакол Рынкавай пл. з Марыяцкім касцёлам. Аднак Вавель заставаўся гал. асяродкам паліт. і культ. жыцця горада і краіны. З 1320 да 1609 К.— сталіца Польскага каралеўства. Хаця рэзідэнцыя караля была перанесена ў Варшаву, горад заставаўся месцам каранацыі польск. каралёў, а кафедральны касцёл на Вавелі — месцам іх пахавання. У 1241 татара-мангольскае войска захапіла, разрабавала і спаліла горад. Каб аднавіць горад і замацаваць правы кракаўскіх гараджан і перасяленцаў, князь Баляслаў Сарамлівы 5.6.1257 выдаў прывілей аб зацвярджэнні магдэбургскага права і некат. падатковых ільгот. У 1320 стаў рэзідэнцыяй каралёў. Кароль Казімір III Вялікі ў 1356 вызваліў горад ад падначалення суду Магдэбурга і стварыў у кракаўскім замку з прадстаўнікоў К. і 5 інш. гарадоў апеляцыйны трыбунал па судовых справах гараджан. 15.5.1364 Казімір III Вялікі заснаваў у К. універсітэт (з 1400 наз. Ягелонскі ун-т). Каб падняць аўтарытэт ун-та, першым студэнтам запісаўся сам кароль Уладзіслаў II Ягайла, які асобным прывілеем зацвердзіў аўтаномію ун-та, а таксама датацыю на выдаткі. У 1403 пабудаваны калегіум юрыдыкум, у 1441 — калегіум медыцыны, а ў 1464 — калегіум новум. У 15 ст. юрысты з ун-та неадназова давалі каралю даведкі па міжнар. пытаннях і па юрыд. пытаннях унутры дзяржавы. Для студэнтаў з Вял. кн. Літоўскага існавалі льготы. У 1402—1440 ва ун-це вучыліся 38 выхадцаў з Вял. кн. Літоўскага. У 2-й пал. 15—1-й пал. 16 ст. тут вучыліся студэнты з Ашмян, Ліды, Полацка, Геранён, Ракава, Валожына, Свіры, Клецка, Мядзеля, Міра. З 1440 да 1540 у К. вучылася больш за 200 студэнтаў з Вял. кн. Літоўскага. Так, у 1504 тут вучыўся Вінцусь са Слуцка (у 1507 бакалаўр), у 1508 бакалаўрам стаў Станіслаў з Клецка, князь Андрэй Пятровіч Свірскі.

У канцы 15 — пач. 16 ст. горад абкружала мураваная абарончая сцяна з 47 вежамі, 8 брамамі (захавалася толькі Фларыянская брама, 1307). Вакол гар. сцяны быў роў з вадою, цераз які з брам спускаліся на ланцугах масты. У сувязі з развіццём артылерыі ў 15 ст. перад паўн. Фларыянскай і Слаўкоўскай брамамі пабудаваны асобныя бастыёны-барбаканы (захаваўся пры Фларыянскай браме). На Вавельскім узгорку размяшчаўся каралеўскі замак (Вавель). Розныя яго часткі будаваліся і перабудоўваліся ў 10—11, 13—14 і ў 16 ст. Асн. частка — замак 13—14 ст. у гатычна-рэнесансавым стылі, гатычны кафедральны сабор (1320—64) з элементамі раманскага стылю 11—12 ст. У саборы — грабніцы каралёў і біскупаў. У цэнтры Старога горада ў 1257 распланаваны Галоўны рынак (200 × 200 м). Ад яго на роўнай адлегласці з кожнага боку ішлі па 3 вуліцы. У паўд.-зах. частцы плошчы Гал. рынку знаходзіцца Ратушная вежа (1383, з перабудовай у 14—16 ст.), ва ўсх. частцы рынку —

Марыяцкі касцёл гатычнага стылю (пачатак 14 ст.). У Марыяцкім касцёле вядомы гатычны алтар (13 × 11 м, 1477—89) работы Віта Стоша. У цэнтры плошчы на месцы былой гандл. залы і крам для гандлю сукном стаіць гмах у стылі рэнесансу, упрыгожаны скульптурамі,— Сукеніцы (1380—1400, перабудаваны ў 19 ст., даўж. каля 100 м). У К. ў раманскім і гатычным стылях пабудаваны шматлікія касцёлы: св. Андрэя (11 ст.), св. Войцеха (12 ст.), св. Фларыяна (1184), св. Бенядзікта (13 ст.), дамініканцаў (13 ст.), Божага цела (1340), св. Барбары (15 ст.), св. Барталамея (15 ст.) і інш.

У 1386 у К. каранаваўся як польскі кароль вял. князь Вял. кн. Літоўскага Ягайла пад імем Уладзіслава II. Адсюль ён вызначаў агульныя рысы палітыкі ў Вял. кн. Літоўскім, у склад якога ўваходзіла Беларусь. У К. прыязджалі князі з Вільні, бел. і ўкр. гарадоў для вырашэння розных спраў. Каралеўскі двор прыцягваў не толькі палітыкаў і дыпламатаў, сюды з'язджаліся мастакі і архітэктары. К. стаў узорным у арх. адносінах горадам, распланаваным, з прамымі вуліцамі, прыгожымі камяніцамі і касцёламі. У 15 ст. буйны цэнтр гандлю, рамёстваў, навукі. У К. заснавана першая ў Польшчы друкарня (1473—74). У 1491—1492 тут існавала і дзейнічала першая друкарня слав. кніг кірыліцай, заснаваная Швайпольтам *Фіёлем*, у якой працавалі выхадцы з Украіны і Беларусі. Кракаўскі купец Ян Галер у 1505 заснаваў пастаянную друкарню, а ў 1510 непадалёку ад К.— і паперню (гл. *Кнігадрукаванне ў Польшчы* ў 15—16 ст.). Аб гар. друкарскіх справах безумоўна ведаў С., калі вучыўся ва ун-це. Гэта магло аказаць пэўны ўплыў на яго далейшую кнігавыдавецкую дзейнасць.

*Літ.:* 216; Kraków: jego kultura i sztuka. Kraków, 1904; Kraków: jego dzieje i sztuka. Warszawa, 1965; D o b r o w o l s k i T. Sztuka Krakowa. 5. wyd. Kraków, 1978.

*А. П. Грыцкевіч.*

**КРА́КАЎСКІ УНІВЕРСІТЭ́Т,** Я г е л о н с к і у н і в е р с і т э т, адна з старэйшых вышэйшых навучальных устаноў Еўропы. Засн. ў Кракаве ў 1364 польск. каралём Казімірам III Вялікім. Знаходзіўся на поўнай дзярж. датацыі, мала залежаў ад царк. улады, меў самакіраванне, рэктар выбіраўся студэнтамі. У 1400 рэарганізаваны польск. каралём Уладзіславам II Ягайлам (адсюль і назва) на ўзор Парыжскага ун-та. Меў ф-ты (11 кафедраў): тэалагічны, юрыдычны, медыцынскі і «вольных мастацтваў». Гуманіст. ідэі, якія праніклі ў Польшчу ў 15 ст., уплывалі на праграмы ф-та «вольных мастацтваў», які рыхтаваў студэнтаў для навучання на вышэйшых ф-тах ун-та — тэалагічным, юрыдычным, медыцынскім. У канцы 15 ст. ва універсітэцкім асяроддзі ўзніклі першыя ў Польшчы навук.-літаратурныя т-вы, якія адыгралі вял. ролю ў распаўсюджанні ідэй гуманізму ва Усх. Еўропе. У параўнанні з стараж. ун-тамі ў К. у. больш былі развіты дакладныя навукі, перш за ўсё матэматыка і астраномія. Кракаўская школа матэматыкаў і астраномаў стала шырокавядомай, яе выхаванцы выкладалі ў многіх ун-тах Еўропы, у т. л. ў Італіі і Германіі. Шырока развіваліся ў тыя гады геагр. і этнагр. даследаванні. Вядома праца аднаго з рэктараў К. у. Мацея з Мяхова «Трактат пра дзве Сарматыі» (Кракаў, 1517, на лац. мове) — шырокае апісанне геаграфіі, этнаграфіі і гісторыі народаў Усх. Еўропы, у т. л. апісанне Вял. кн. Літоўскага і Масковіі, якое шматразова перавыдавалася і было перакладзена на польск., ням., італ. мовы. Да пач. 16 ст. К. у. дасягнуў найб. вядомасці як адзін з цэнтраў сусв. навукі і адзін з лепшых ун-таў Еўропы. У К. у. выкладалі многія вучоныя і дзеячы польскай культуры: Станіслаў з Скальбмежа (першы рэктар К. у.); юрыст Павел Уладковіц, Якуб Паркоша з Журавіцы, Ян Штобнер, Марцін Круль, *Ян з Глогава* і інш., а таксама вядомыя гуманісты, выхадцы з іншых краін Еўропы: італьянцы Ян Сільвіус Аматус, Канстанцін Кларэці дэ Канцэлерыс і інш.; швейцарцы Рудальф Агрыкала Малодшы, Валянцін Эк і інш.; англічанін Леанард Кокс (паслядоўнік Эразма Ратэрдамскага); іспанец Гарсіяс Анадрэс і інш. Да пач. 16 ст. К. у. стаў надзейнай апорай гуманізму, а яго выхаванцы даносілі гэтыя ідэі ў самыя далёкія ўскраіны Еўропы. Ва ун-це атрымалі адукацыю многія выхадцы з Вял. кн. Літоўскага — беларусы, літоўцы, украінцы, рускія. Найб. колькасць складалі венгерскія студэнты, потым выхадцы з Сілезіі, Маравіі і інш. Найменш студэнтаў было з Аўстрыі, Прусіі, Баварыі, Швейцарыі і Англіі. Студэнты-іншаземцы ўтваралі ўласныя зямляцкія т-вы, якія ставілі перад сабой часам шырокія задачы — матэр. дапамога, садзейнічанне захаванню этнакульт. асаблівасцей і інш. Непасрэднымі папярэднікамі С. па ун-ту былі Ян *Длугаш* і М. *Капернік* (вучыўся ў 1491—95). У 1-й пал. 16 ст. тут заснаваны новыя калегіі і бурсы для студэнтаў-іншаземцаў (у 1501—10 складалі 60 % ад агульнай колькасці студэнтаў). Пазней колькасць замежных студэнтаў зменшылася, прычынай заняпаду К. у. была Рэфармацыя. Паступова закрываліся некат. бурсы для іншаземцаў. З сярэдзіны 16 ст. навучанне набыло тэолагасхаласт. характар. Такім К. у. заставаўся



Герб **Кракава.** 16 ст.



Да арт. **Кракаў.** Вежы абарончай сцяны. Канец 15 — пачатак 16 ст.

**Кракаў.** Гравюра з «Сусветнай хронікі» Г. Шэдэля. 1493.



практычна да канца 18 ст., калі была праведзена поўная рэформа навучання.

Як сведчыць запіс у метрыцы К. у. «Anno» 1504, г. зн. у 1504, «Franciscus Luce de Ploczko solvit 2 gr.». («Францыск, сын Лукі з Полацка, заплаціў 2 грошы») і такім чынам стаў паўнапраўным студэнтам. У 1506 імя С. яшчэ раз упамінаецца ў метрыцы К. у. «У перыяд дэканства магістра Леанардо... у дзень св. Лючы ў чацвертай гадзіне нададзены ступені бакалаўраў і атрымалі гэтую годнасць: Франц. з Полацка, Літвін...» У далейшым С. падтрымліваў сувязь з К. у. Не выключана, што ён тут працягваў сваю вучобу і ў наступныя гады. Апошні вядомы дакумент К. у., які таксама, відаць, адносіцца да С. («Franciscus de Ploczko»), датаваны 17.3.1523 (гл. *Дакументы пра Ф. Скарыну,* № 9).

*Літ.:* Dzieje Uniwersytetu Jagiellońskiego w latach 1364—1764. T. 1. Kraków, 1964; Gospodarka i budynki Uniwersytetu Jagiellońskiego od XV do XVIII wieku. Warszawa; Kraków, 1973; Estreicher K. Collegium Maius, dzieje gmachu. Kraków, 1968; Historia nauki polskiej. T. 1. Wrocław etc, 1970.

*Ю. А. Лабынцаў.*

**КРАСНАГО́РСКІ МАНАСТЫ́Р,** мужчынскі манастыр на правым беразе р. Пінегі. Заснаваны ў 1606. У 1620—30-я г. над манастыром апекаваў яраслаўскі купец Я. Т. Лыткін. Ён пабудаваў тут новую царкву, падараваў манастыру вял. б-ку, у якой былі і выданні С.: «Книга в четь дести, Псалтырь с каноны и кодикосы во всю седмицу, печать Литовская, Полоцкая» (маецца на ўвазе «Малая падарожная кніжка», надрукаваная С. у Вільні каля 1522), «Книга в полдесть 4 царства да Соломоновы притчи и премудрости Соломони, печать Литовская, Полоцкая». Паводле вопісу 1689, у К. м. было 267 кніг, большасць якіх, відаць, згарэла ў час пажару ў крас. 1695. Лёс выданняў С., што знаходзіліся ў манастыры, невядомы.

*Літ.:* 641. *Я. Л. Неміроўскі.*



Унутраны дворык **Кракаўскага універсітэта.**



Да арт. **Кракаўскі універсітэт.** Лекцыя ва універсітэце. Гравюра. 15 ст.

**КРОЛЬ** Абрам Іосіфавіч (н. 1913), беларускі сав. жывапісец. У 1935 аформіў экспазіцыю юбілейнай кніжнай выстаўкі ў Дзярж. б-цы БССР імя У. І. Леніна, дзе выкарыстаў скарынінскі арнамент і шрыфты, за аснову ўзяў афармленне тытульнага ліста «Біблії». У 1947 на аснове вядомай гравюры напісаў партрэт С. для Бел. дзярж. музея гісторыі Вял. Айч. вайны (Мінск). Памер 60 × 80 см (алей). Працаваў над партрэтнай кампазіцыяй С.: выканаў эскізы партрэтаў 1947, 1957, 1978 г.

**КРУКО́ЎСКІ** Уладзімір Якаўлевіч (н. 1937), беларускі сав. мастак-плакатыст. У 1976 выканаў плакат «Францыск Скарына» (гуаш, 120 × 80 см, Мастацкі фонд БССР). На цёмна-сінім фоне пажоўклы, пашкоджаны ад часу аркуш паперы, на якім змешчаны фрагмент гравюрнага партрэта С. з кн. «Ісус Сірахаў» і словы з прадмовы да кн. «Юдзіф». Унізе надпіс: «460 гадоў беларускага кнігадрукавання».

**КРУЛЬ** (Król) Марцін з Журавіцы (к. 1422—60), прафесар Кракаўскага ун-та. Нарадзіўся ў с. Журавіца Рускага ваяводства. Вучыўся ва ун-тах Кракава, Прагі, Лейпцыга, Балоны і Падуі. У 1449 у Балоны атрымаў вучоную ступень доктара медыцыны. Некаторы час быў асабістым урачом рэгента Венгерскага каралеўства Яноша Хуньядзі. У 1450 вярнуўся ў Кракаў, арганізаваў ва ун-це кафедру астраноміі; выкладаў геаметрыю, быў асабістым урачом епіскa З. Алясніцкага, апекуна ун-та. К.— адзін з папярэднікаў гуманізму ў Польшчы. Аўтар прац па астраноміі, матэматыцы, геадэзіі, аб рэформе календара. Рукапісы

Да арт. **Кракаў.** Круглая вежа (барбакан). 1498. Кракаўскі універсітэт.








Адзенне навучэнцаў і выкладчыкаў **Кракаўскага універсітэта** ў 16 ст. 1. Студэнты. 2. Бакалаўр. 3. Магістр. 4. Доктар медыцыны. 5. Прафесары. Малюнак М. Купавы.

гэтых прац захоўваліся ў б-цы ун-та ў час вучобы С., і ён мог імі карыстацца. К. падпісваў некат. рукапісы Magister Martinus de Russia, што, магчыма, сведчыць пра яго бел. ці ўкр. паходжанне. К. лічаць першым польскім вучоным, які працаваў у галіне дакладных навук. С. ў многіх адносінах быў паслядоўнікам К. *Я. Л. Неміроўскі.*

**КРЫВАБЛО́ЦКАЯ** Галіна Пятроўна (н. 1953), беларускі сав. мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Аўтар габелена «Францыск Скарына» (1986, воўна, ручное ткацтва, 38 × 28 см; калекцыя А. Я. Белага). У цэнтры, у праёме барочнай аркі — выява С., створаная на аснове гравюрнага партрэта С. з «Бібліі». У правай верхняй частцы — герб С. Мастак дабіваецца партрэтнага падабенства, дасканала прапрацоўвае рысы твару, адзенне.

**КСІЛАГРА́ФІЯ** (грэч. xýlon ссечанае дрэва + gráphō пішу, чарчу, рысую), д р э в а р ы т, асноўная тэхн. разнавіднасць пукатай *гравюры*. Адзін з найб. пашыраных відаў гравюры на дрэве.

Друкаваная форма (клішэ) выконваецца ручным гравіраваннем. Выява друкуецца з плоскай паверхні разной драўлянай дошкі з дапамогай фарбы, якая пакрывае пукатыя мясціны клішэ. К. падзяляецца на абразную (паглыбленне нажом, стамескай, долатам свабодных ад выявы месцаў на распілаванай удоўж дошцы з мяккай драўніны) і тарцовую (праразанне штрыхоў разцом-штыхелем на дошцы папярочнай распілоўкі з цвёрдай драўніны) гравюры. Формы, падрыхтаваныя такім спосабам, вытрымліваюць да 15 тыс. адбіткаў. У тэхніцы К. выконваюцца ілюстрацыі да кнігі і эстампы. Гравюра на дрэве трывала ўвайшла ў практыку друкароў, стала неад'емнай часткай маст. аздобы кнігі.

Самыя раннія К. — «Цар Давід» і «Генеалагічнае дрэва Ісуса» — з'явіліся ў кн. С. «Псалтыр» 1517. Яны выкананы ў тэхніцы абразной (падоўжнай) ксілаграфіі, якая ў тыя часы панавала ў Еўропе. К.



**Краснагорскі манастыр.** Літаграфія 19 ст.

У. К р у к о ў с к і. Францыск Скарына. Плакат. 1976.




сталі асноўнай тэхнікай маст. афармлення ўсіх выданняў С. Лепшыя К. кніг С. вылучаюцца адметнасцю задумы, майстэрствам кампазіцыі і багатай, разнастайнай штрыхоўкай (гл. *Ілюстрацыя*). Пасля С. шырока ўжывалася К. не толькі ў бел., але і ў рус., укр. кнігах. У гэтай тэхніцы выкананы шматлікія гравюры і аздобы выданняў Вільні, Заблудава (цяпер тэр. ПНР), Еўя (г. Вевіс Літ. ССР), Куцейны (пад Оршай), Супрасля (цяпер Беластоцкае ваяводства ПНР), Магілёва і інш. З майстроў бел. К. вядомы Пётр Мсціславец, Грынь Івановіч, майстар Пасій, Ф. Ангілейка, М. і В. Вашчанкі, П. Комар і інш. мастакі 16—18 ст.

*Літ.:* 789; Ж у р о в А. П., Т р е т ь я к о в а Е. М. Гравюра на дереве. М., 1977; К р и с т е л л е р П. История европейской гравюры XV — XVIII века. [М.], 1939. *В. Ф. Шматаў.*

**КУЛІ́К** Яўген Сяргеевіч (н. 1937), беларускі сав. графік. У 1976 выканаў партрэт С. ў тэхніцы гравіроўкі па метале (латунь) для Літ. музея Я. Купалы ў Мінску. На круглай металічнай пласціне дыяметрам 49,5 см — партрэтная выява першадрукара.

**КУЛЬТУ́РА БЕЛАРУ́СІ** к а н ц а 15—1-й п а л. 16 с т. Беларуская народнасць

фарміравалася ва ўмовах утварэння на тэрыторыі Літвы, Беларусі і большай часткі Украіны *Вялікага княства Літоўскага*. У ходзе станаўлення бел. народнасці на аснове старажытнарус. мовы складваліся характэрныя рысы бел. мовы, якія адрознівалі яе ад роднасных моў інш. усх.-слав. народнасцей, развіваліся першапачатковыя формы нац. культуры (гл. таксама *Усходнеславянская культура* 10—15 ст.). Найважнейшай яе передумовай і крыніцай была народная, сінкрэтычная ў сваёй аснове духоўная культура — фальклор, які не толькі кампенсаваў адсутнасць многіх жанраў прафес. л-ры і інш. відаў мастацтва (лірычнай паэзіі, многіх жанраў прозы, масавай песні і інш.), але і адыграў вырашальную ролю ў станаўленні бел. літаратурнай мовы. На працягу 15—16 ст. спецыфічныя рысы бел. мовы замацаваліся і выразна выявіліся ў афіц. дакументах і інш. помніках л-ры і пісьменнасці. Бел. мова стала афіц. дзярж. мовай Вял. кн. Літоўскага, на ёй вялося дзярж. і грамадскае справаводства, пісаліся заканадаўчыя дакументы (у т. л. Статуты Вял. кн. Літоўскага), мясц. і агульнадзярж. летапісы і інш. Развіваліся асн. асаблівасці гасп. і грамадскага побыту, матэрыяльнай культуры і маст. творчасці — у тыпах жылля, яго ўнутраным убранні і хатнім начынні, у вопратцы, абрадах і звычаях. Назва «Белая Русь» у адносінах да зямель Беларусі ўпершыню ўжыта ў канцы 14 ст. ў «Хроніцы Польшчы» Яна Чарнкоўскага, дзе «крэпасцю Белай Русі» названы Полацк. Працэс культ. развіцця Беларусі ў 2-й пал. 15—1-й пал. 16 ст. ажыццяўляўся на феад.-прыгоннай аснове, ускладняўся духоўнай дыктатурай царквы, унутранай і знешняй палітыкай Вял. кн. Літоўскага, каталіцкай экспансіяй. Паводле свайго тыпу, асаблівасцей, сац.-класавага зместу, рэліг. светапогляду культура бел. зямель той пары захоўвала ў цэлым сярэдневяковы характар. Панавала ідэалогія эканамічна і палітычна пануючага класа феадалаў. Працоўныя слаі насельніцтва былі заняволены і абрабаваны пануючым класам, які прысвойваў і выкарыстоўваў у сваіх мэтах культ. каштоўнасці, створаныя народам. Вял. значэнне для духоўнай культуры нар. мас мелі іх працоўныя традыцыі, грамадска-класавы вопыт, барацьба супраць феад. прыгнёту і нац.-рэліг. дыскрымінацыі, антыклерыкальны, ерэтычны рух, умацаванне сувязей з братнімі рус. і ўкр. народамі. У канцы 15 — пач. 16 ст. тут склаліся адносна спрыяльныя ўмовы для развіцця рэгіянальна своеасаблівай рэнесансавай культуры. Аднак агульнае эканам. адставанне ад перадавых краін Еўропы і панаванне феадалізму стрымлівалі ўсебаковае развіццё свецкіх форм культуры і пераход ад сярэдневяковай культуры да культуры новага часу. Развіццё рэнесансавай культуры на Беларусі засталося незавершаным, канчаткова не выяўленым, не да канца аддзеленым ад рэліг. ідэалогіі (гл. *Адраджэнне*). Асяродкамі культуры становяцца гарады. Полацк, Віцебск, Слуцк, Мінск, Брэст, Гродна, Навагрудак



Г. Крываблоцкая. Францыск Скарына. Габелен. 1986.




Я. Кулік. Францыск Скарына. 1976.

у 15 ст. выраслі ў буйныя цэнтры рамяства і гандлю, набылі самакіраванне (*магдэбургскае права*). Узніклі карпаратыўныя арг-цыі рамеснікаў — цэхі, якія садзейнічалі фарміраванню гар. насельніцтва як самастойнага саслоўя. У барацьбе з буйнымі феадаламі-магнатамі ўзмацніла свае сац.-эканам. і паліт. пазіцыі шляхта. Разам з гараджанамі яна ў гэты час з'явілася сац. асновай далейшага культ. развіцця і распаўсюджання ідэй рэнесансавага гуманізму. З асяроддзя шляхты і гараджан у 16 ст. выйшла большая частка вучоных, пісьменнікаў, дыпламатаў, фарміравалася інтэлігенцыя як сац. праслойка. Пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай і паліт. экспансіі польскіх феадалаў у 2-й пал. 16 ст. большая частка гэтых слаёў насельніцтва дэнацыяналізавалася, адказалася ад традыцый бел. нац. культуры. Важную ролю ў ідэалаг. арыентацыі культуры адыгрывала хрысц. царква, пануючае становішча ў якой у 15—1-й пал. 16 ст. займала правасл. царква. У галіне архітэктуры поруч з традыцыйнымі сярэдневяковымі стылямі (візантыйска-рускі, готыка і інш.) у 16 ст. ўзніклі рэнесансавыя элементы, якія развіваліся як самастойна (пераважна ў свецкім палацавым будаўніцтве), так і ў сінтэзе з готыкай. У гэтым кірунку створаны выдатныя помнікі — царквы-крэпасці ў Сынковічах (Зэльвенскі р-н), Супраслі (ПНР), Малое Мажэйкава (Лідскі р-н), Заслаўі, замак у Міры і інш. Збудаванні рэнесансавага тыпу на Беларусі ўзніклі толькі ў 2-й пал. 16 ст. (гл. *Архітэктура Беларусі* ў 15—16 ст.). У выяўленчым мастацтве гэтага перыяду таксама наглядаецца плаўны пераход ад сярэдневяковых метадаў творчасці да свецкіх форм жывапісу з характэрнымі для рэнесансавай выяўленчай культуры рэалізмам і гуманізмам (гл. *Мастацтва Беларусі* ў 15—16 ст.). Рост патрэб феад. гаспадаркі, гандлёва-рамеснай, адміністрацыйнай, царк. дзейнасці абумовіў развіццё школьнай справы на Беларусі. У 15—1-й пал. 16 ст. ў асяроддзі мяшчан, феадалаў пашырыліся пазацарк. саслоўна-класавыя формы свецкай адукацыі (у т. л. хатняе навучанне). Бел. заможная моладзь стала вучыцца ва ун-тах Кракава, Прагі, Падуі, Балоньі, Кёнігсберга, Базеля, Лейпцыга і інш. У 14—15 ст. Беларусь мела развітую кніжную пісьменнасць. Б-кі і цэнтры рукапіснага мастацтва існавалі ў Навагрудку, Полацку, Віцебску, Оршы, Друцку, Тураве, у Лаўрышаўскім, Ляшчынскім манастырах, у 16 ст. таксама — у Магілёве, Пінску, Слуцку і інш. (гл. *Рукапісная справа* на Беларусі).

Значным дасягненнем культуры 15 — пач. 16 ст. было развіццё свецкай л-ры на роднай мове (гл. *Беларуская літаратура* канца 15 — 1-й пал. 16 ст.). Найважнейшым дасягненнем у жанры прозы сталі бел.-літ. летапісы (*«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх», Беларуска-літоўскі летапіс 1446, «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», «Хроніка» Быхаўца*), перакладная л-ра («Аповесць пра трох каралёў-вешчуноў», *«Александрыя»* і інш.), у галіне паэзіі — новалацінская свецкая паэзія Міколы *Гусоўскага*, Я. Вісліцкага. У 1523 выдадзены выдатны помнік л-ры, філас. і паліт. думкі таго часу — паэма Гусоўскага «Песня пра зубра». Найб. значная з'ява духоўнай культуры 1-й пал. 16 ст.— узнікненне беларускага кнігадрукавання, першага сярод усх. славян, заснавальнікам якога быў С. Кнігі С., якія выйшлі ў Празе і Вільні пры падтрымцы пэўных слаёў бел. мяшчанства, адрасаваліся перш-наперш свецкаму чытачу. Яны вызначаліся мастацка-паліграф. дасканаласцю, гуманіст. дэмакратызмам і асв. скіраванасцю. *Асветніцкая і педагагічная дзейнасць Ф. Скарыны* садзейнічала развіццю рэнесансавай культуры на Беларусі. У 2-й пал. 16 ст. яго традыцыі падрыхтавалі ўзнікненне рус. і ўкр. кнігадрукавання, якое распаўсюдзіла элементы рэнесансавай культуры ў новыя рэгі-

ёны Усх. Еўропы. У цэлым культура Беларусі канца 15—1-й пал. 16 ст. атрымала высокае развіццё. Знаходжанне бел. зямель у складзе Вялікага княства Літоўскага прывяло да рознабаковага ўзаемаўплыву культур народаў, што насялялі тэрыторыю княства. Сац.-эканам. і грамадска-паліт. адносіны ў дзяржаве прама або ўскосна ўздзейнічалі на працэсы культ. і міжэтнічных зносін, ствараючы пэўныя перадумовы або, наадварот, стрымліваючы і ўскладняючы развіццё культ. сувязей. На тэр. Беларусі, як і ва ўсім Вял. кн. Літоўскім, першараднае значэнне ў пашырэнні культ. сувязей мела развіццё прадукцыйных сіл у сельскай гаспадарцы і рамястве, што забяспечыла рост таварнай вытворчасці, назапашванне і абмен вытворчага вопыту. Праз гандаль ішло азнаямленне з прыроднымі багаццямі, вытворчымі, маст.-эстэтычнымі, бытавымі традыцыямі інш. краін і народаў. Гасп. асваенне сумежных і прыгранічных тэрыторый (Палессе, Падляшша, Смаленшчына і інш.) спрыяла развіццю міжэтнічных культ. сувязей. Важнымі цэнтрамі іх былі Вільня і буйныя гарады Беларусі, уключаючы радзіму С.— *Полацк.* Рост феад. прыгнёту ў 15—16 ст., замацаванне прыгонніцтва ў Вял. кн. Літоўскім садзейнічалі ўзросту такой формы класавай барацьбы, як уцёкі, перасяленне сялян за «мяжу», у суседнія рус. княствы, іншыя землі. Перасяляліся таксама і на Беларусь. Перасяленцы і беглыя неслі з сабой вытворчыя навыкі, культ. і этнічныя традыцыі, мову, вераванні. У грамадска-паліт. жыцці вял. значэнне мелі цэнтралізатарскія працэсы, якія працякалі на дзярж. і рэгіянальнай аснове, унутрыпаліт. барацьба, пашыраны ўдзел «рускіх» феадалаў у Радзе і сеймах Вял. кн. Літоўскага. Паліт. і культ. збліжэнню садзейнічала саслоўна-класавая кансалідацыя шляхты, генеалагічныя і службовыя сувязі. Нар. масы Беларусі, Літвы, Украіны, рус. абласцей Вял. кн. Літоўскага збліжала агульная барацьба супраць сац. прыгнёту, прыгонніцтва, мангола-татарскіх і крыжацкіх нашэсцяў, каталіцкай экспансіі. Найб. развітая культура ўсходнеслав. народаў мела першараднае ўплывовае значэнне ва ўзаемадзеянні розных этнічных культур Вял. кн. Літоўскага. Усходнеслав. землі займалі пераважную частку тэрыторыі, а іх насельніцтва складала абсалютную большасць. Характэрныя з'явы грамадска-паліт., сац.-эканам. і культ. сінтэзу, што доўгі час вылучалі ўнутранае жыццё Вял. кн. Літоўскага, мелі вял. значэнне ў агульным уздыме культуры народаў гэтай дзяржавы. У грамадска-паліт. структуры княства, асабліва на ўсходнеслав. землях, існавалі пэўныя феад. ін-ты, якія ўзыходзілі ў сваім генезісе да страж.-рус. грамадства: некат. формы мясц. улады, судаводства, абшчына, правасл. царква і інш. Культ. сувязям народаў Вял. кн. Літоўскага садзейнічала распаўсюджанне беларускай («рускай») мовы ў дзярж. справаводстве, л-ры, у грамадска-паліт. жыцці, міжэтнічных зносінах. Велікакняжацкая канцылярыя шырока выкарыстоўвала «рускую» пісьменнасць у зносінах з Рускай дзяржавай, радзей з Польшчай, інш. суседнімі дзяржавамі, у т. л. Крымскім ханствам. Панаванне бел. мовы ў дзярж. справаводстве і грамадска-паліт. жыцці Вял. кн. Літоўскага захавалася да Люблінскай уніі 1569, у меншай меры ў наступныя дзесяцігоддзі.

У працэсе культ. зносін усходнеслав. зямель з Літвой бел. землі адыгралі першаступенную ролю. Яны непасрэдна гранічылі з ёй і раней інш. усх.-слав. зямель увайшлі ў Вял. кн. Літоўскае. Большая частка тэр. Беларусі (гал. чынам заходняя — Панямонне, Брэсцкая, Мінская землі, Палессе, частка Падняпроўя) была асабліва цесна звязана з этнічнай Літвой у палітыка-адміністрацыйных адносінах. Узаемным кантактам спрыялі сумеснае пражыванне, агульныя ўмовы працоўнай дзейнасці ў пагранічных раёнах літ. і бел. зямель. Шматбаковыя бел.-літ. культ. сувязі былі не ва ўсіх сферах раўназначнымі. Літоўцы ўспрынялі значную частку моўных абстрактных тэрмінаў з царк.-слав. і бел. моў. Т. зв. рускія надпісы адбіты на самых ранніх манетах літ. чаканкі 14—15 ст. Язычніцкія абрады доўга захоўваліся ў асяроддзі літ. сельскага насельніцтва (пакланенне дрэвам і інш.). Бел.-літ. сувязі адлюстраваліся ў летапісанні, кніжнай і дзелавой пісьменнасці, кнігадрукаванні, прыкладным мастацтве, музыцы і інш. Феадалы Вял. кн. Літоўскага сумесна ўдзельнічалі ў стварэнні агульнадзярж. зводаў законаў — Статутаў Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566, 1588, якія выражалі прававыя інтарэсы пануючага класа, адлюстроўвалі некат. прагрэсіўныя для свайго часу прававыя тэндэнцыі, з'яўляліся выдатнымі помнікамі свецкай рэнесансавай культуры. Прававыя інтарэсы феадалаў Вял. кн. Літоўскага забяспечваліся таксама дзякуючы агульнаму развіццю канцылярскага справаводства, судова-працэсуальнай сістэмы, стварэнню цэнтралізаванага дзярж. архіва — *Метрыкі Вялікага княства Літоўскага.* Многія агульныя рысы, ідэйныя і арганізацыйныя сувязі меў рэфармацыйны рух у Літве, на Беларусі і Украіне (гл. *Рэфармацыя*), які аформіўся ў сярэдзіне 16 ст. Ваеннае майстэрства літоўцаў, дасягненні матэр. і духоўнай культуры аказвалі ўздзеянне на развіццё ваеннай справы, адпаведных сфер сац.-эканам. і культ. жыцця на бел. землях. З ростам гарадоў, развіццём драўлянага і мураванага культавага і грамадзянскага дойлідства ўзраслі сувязі паміж дойлідамі і мулярамі Літвы і Беларусі. Блізкасць і падабенства некат. архіт.-маст. форм, прасторавых кампазіцый, будаўнічых прыёмаў на тэр. Літвы і Беларусі былі аб'ектыўным вынікам гэтых кантактаў. У 1494 вял. група гродзенскіх муляраў удзельнічала ў буд-ве складаных архіт. аб'ектаў у Вільні, у 1520-х гадах «люди марковские» ўдзельнічалі ва ўзвядзенні віленскага замка. З Вільні ў суседнія гарады Беларусі, у т. л. Брэст, вывозілася абліцовачная кафля, некат. будматэрыялы. У Вільні, раней чым у інш. гарадах Літвы і Беларусі ў 15— пач. 16 ст., пачалі ўзнікаць цэхі, якія аб'ядноўвалі «рускіх» (беларускіх), літ. і інш. рамеснікаў. Культ. сувязі з Украінай з'яўляліся цеснымі і шматбаковымі. Гіст. і генетычная агульнасць слав. культуры, асаблівая блізкасць усх.-слав. зямель, якія доўгі час развіваліся ў складзе Стараж.-рус. дзяржавы, іх рэліг. адзінства мелі важнае значэнне ў аднаўленні і развіцці культ. узаемасувязей усх.-слав. народаў. Акрамя гіст. традыцый, культ. і моўнай блізкасці, гэтаму садзейнічалі падобныя, а ў многім ідэнтычныя сац.-эканам. і паліт. ўмовы развіцця Беларусі і Украіны. Немалая колькасць беларусаў асела на Украіне, прымала ўдзел у буд-ве гар. умацаванняў (Кіеўскі, Чарнобыльскі, Асцерскі замкі), у рамеснай і с.-г. вытворчасці. Татарскія набегі вымушалі частку ўкр. насельніцтва перасяляцца ў больш аддаленыя землі Вял. кн. Літоўскага і інш. Культ. сувязі бел. і ўкр. народаў асабліва выразна праяўляліся ў фальклоры, моўных і пісьмовых кантактах, нар. харэаграфічным, песенным мастацтве, музыцы і інш. Выданні С. былі добра вядомы на Украіне ўжо ў 1-й пал. 15 ст. Самыя раннія рукапісныя копіі або наследаванне яго кнігам захаваліся ў укр. спісах сярэдзіны 16 ст. Значная роля ў бел.-ўкр. культ. сувязях належала Кіеву, гіст. сталіцы Стараж.-рус. дзяржавы, цэнтру агульнарус. (з сярэдзіны 16 ст. фактычна — зах.-рус.) мітраполіі. Стараж. Кіева-Пячэрская лаўра карысталася асаблівым прэстыжам у асяроддзі правасл. насельніцтва Вял. кн. Літоўскага. У Памянніку (сінодзіку) лаўры канца 15— пач. 16 ст. ўпісаны дзесяткі імён мяшчан, духавенства са Слуцка, Пінска, Турава, Навагрудка, Мінска, Мазыра і інш. бел. гарадоў. Тут у багатай аправе зберагалася «Евангелле», перапісанае ў 1538 Фёдарам Кузьміным «сынам з Нясвіжа». На развіццё культ. сувязей значна ўплываў гандаль, паездкі для навучання рамяству, вучоба, служба на Беларусі і Украіне, уцёкі ў «казакі». Кантакты бел., укр., літ. феадалаў праяўляліся гал. чынам у судова-адміністрацыйнай і прыдворнай, ваеннай службе, у дзярж. праватворчасці. У 16 ст. ўзрасло значэнне сумеснай дзейнасці ў Радзе, на сеймах Вял. кн. Літоўскага. Сярод «рускіх» пісараў велікакняжацкай канцылярыі ў 1501—69 тры чвэрці складалі беларусы.

Развіццё культ. кантактаў з Паўн.-Усх. і Паўн.-Зах. Руссю было таксама абумоўлена ўнутранай і знешняй палітыкай Вял. кн. Літоўскага і суседніх краін, вызваленнем рус. зямель ад мангола-татарскага іга. Матэр. асновай пашыраных сувязей быў пэўны сац.-эканам. ўздым у краінах Усх. Еўропы. Да ўтварэння Рускай аб'яднанай дзяржавы культ. сувязі бел. зямель з рус. княствамі былі параўнальна абмежаванымі. Культ. абмен у асн. ажыццяўляўся з тымі рус. землямі, што знаходзіліся ў складзе Вял. кн. Літоўскага, і некат. суседнімі княствамі. Непасрэдныя сувязі бел. і рус. насельніцтва асабліва выразна праяўляліся ў духоўнай і матэр. культуры Смаленскай зямлі, якая ў 1404—1514 уваходзіла ў Вял. кн. Літоўскае. Тут быў буйны ідэалаг. і царк.

цэнтр зах.-рус. мітраполіі, існавалі даўнія традыцыі рукапісання, выяўленчага мастацтва, дойлідства. Значэнне Смаленска, добра ўмацаванай крэпасці, размешчанай на гал. дарозе, што звязвала Вял. кн. Літоўскае з Масквой, узрасло з пашырэннем паліт. і гандлёва-эканам. сувязей у 2-й пал. 15 — пач. 16 ст. У культ. зносінах Беларусі з землямі Паўн.-Зах. Русі ў 14—15 ст. найб. значэнне мелі сувязі з Ноўгарадам. Паліт. становішча, шырокія міжнар., а таксама гандл. сувязі з буйна развітымі гарадамі Полацкай і Віцебскай зямель, высокі ўзровень гарадской культуры ў Ноўгарадзе і Пскове — усё гэта аказвала істотнае ўздзеянне на дыпламатычныя, царк.-рэліг. і культ. кантакты. Грамадска-паліт. своеасаблівасць Наўгародскай феад. рэспублікі прыцягвала ўвагу бел. гараджан, якія выступалі за далейшае пашырэнне сістэмы самакіравання паводле магдэбургскага права. У прыпісках да Радзівілаўскага летапісу, зробленых, відаць, гараджанінам, адабраюцца вечавыя парадкі ў Ноўгарадзе, «свабода наўгародская». Наўгародскія летапісныя зборы ў канцы 15 ст. былі пакладзены ў аснову Летапісу Аўрамкі; вытрымка са збору 1448, адрэдагаваная ў 2-й пал. 15 ст. наўгародскімі кніжнікамі, таксама хутка трапіла на «заходнярускія» землі. Праследаванне ерэтыкоў у Ноўгарадзе ў 1490-я гады выклікала ўцёкі некат. з іх «у Літву».

Узросшая ў 14—15 ст. магутнасць Вял. кн. Маскоўскага і пераўтварэнне яго ў паліт. і ідэалаг. цэнтр рускіх зямель абумовіла значнае пашырэнне культ. узаемасувязей з бел. землямі. У маскоўскім летапісанні, у помніках Кулікоўскага цыкла, створаных у канцы 14—1-й пал. 15 ст., абгрунтоўвалася неабходнасць адзінства ўсіх рус. зямель, уключаючы «Літоўскую Русь». Аўтар «Задоншчыны» ўслаўляў ваенную доблесць «літоўскіх» саюзнікаў Русі — Андрэя Полацкага і Дзмітрыя Бранскага Альгердавічаў, супрацьпастаўляў іх дзеянні знешняй палітыцы вял. князя літоўскага. У рус. ваенна-патрыятычнай л-ры гэтага часу вял. значэнне надаецца гіст. і рэліг.-ідэалаг. фактарам, што падтрымлівалі духоўную агульнасць усходніх славян. «Сказанне пра Мамаева пабоішча» падкрэслівае, што «літоўскія» саюзнікі Русі прадстаўлялі інтарэсы правасл. часткі насельніцтва Вял. кн. Літоўскага. Кулікоўская бітва знайшла адлюстраванне ў бел. фальклоры, летапісных зборах, што перапісваліся і распаўсюджваліся на тэр. Беларусі. Выхадзец з «рускіх» зямель Вял. кн. Літоўскага (магчыма, з Браслаўшчыны), які пераехаў у Расію ў канцы 1530-х гадоў, прагрэсіўны пісьменнік-публіцыст Іван Сямёнавіч Перасветаў сфармуляваў шырокую праграму пераўтварэння дзярж. ладу Расіі, утаймаванне баярскага самавольства з дапамогай «моцнай і мудрай» самадзяржаўнай улады, стварэнне дваранскага войска. Пад апекай Міхаіла Юр'евіча Захар'іна І. Перасветаў у 1539 арганізаваў вытворчасць «македонскіх» шчытоў у Маскве.

Культ. сувязі Беларусі з Паўн.-Усх. Руссю адыгрывалі вял. ролю ў захаванні агульнай гіст. традыцыі ўсх.-слав. народаў. Шэраг помнікаў ранняга летапісання Паўн.-Усх. Русі вядомы толькі ў зах.-рус. спісах. У бел.-літ. летапісных зборах выкарыстоўваліся матэрыялы смаленскага, валынскага, кіеўскага, падольскага, уладзімірскага, наўгародскіх летапісаў, збор маскоўскай мітраполіі пач. 15 ст. Бел. летапісы былі важнай крыніцай рус. летапісання. Іх добра ведалі ў маскоўскіх урадавых кругах, на іх спасылаліся ў дыпламатычнай перапісцы з Вял. кн. Літоўскім. У канцы 15—16 ст. ў культ. зносінах Беларусі з Расіяй важнае месца належала неафіцыйным культ. сувязям. Ваенна-паліт. барацьба, што абвастрылася з канца 15 ст. паміж Рус. дзяржавай і Вял. кн. Літоўскім, патрабавала рэгулярных дыпламат. кантактаў, удасканальвання пасольскай службы. Рус. дзяржава раней і актыўней, чым Вял. кн. Літоўскае, стала выкарыстоўваць дыпламат. адносіны ў ідэалаг. мэтах. Раздзяленне адзінай у мінулым Кіеўскай мітраполіі звузіла царк.-рэліг. сувязі паміж усх.-слав. землямі. Правасл. царква ў Вял. кн. Літоўскім была адхілена ад удзелу ў знешнепаліт. дзейнасці, у той час як у Рус. дзяржаве яна актыўна выкарыстоўвалася вярх. уладай і прымала ўдзел у выпрацоўцы асн. ідэалаг. дактрын. Буйныя цэнтралізатарскія мерапрыемствы ў Расіі ў канцы 15 — сярэдзіне 16 ст. (стварэнне адзінага збору царк. і, у пэўнай меры, свецкай л-ры, развіццё агульнарус. летапісання, «Стоглаў», «Вялікія Чэцці-Мінеі»), фарміраванне афіцыяльнай ідэалогіі аказалі пэўны ўплыў на духоўнае жыццё на Беларусі. У бел. і ўкр. пісьменнасць пранікалі творы рус. агіяграфіі (жыціі Сяргея Раданежскага, Кірыла Белазерскага і інш.), публіцыстыкі («Асветнікі» І. Волацкага, «Сказанне пра Уладзімірскі абраз»). Важныя паліт. царк.-рэліг. і культ. падзеі, заваёва Казані і Астрахані, хрышчэнне паволжскіх народаў, арганізацыя кнігадрукавання адразу ж станавіліся вядомымі на Беларусі, у Літве і на Украіне. Афіцыйныя ідэалаг. канцэпцыі правячых колаў Рус. дзяржавы абапіраліся на гіст., культ., рэліг. традыцыі ўсх.-слав. насельніцтва. У пач. Лівонскай вайны 1558—83 рус. ўрад, які разлічваў на адпаведны паліт. эфект на ўсх.-слав. землях Вял. кн. Літоўскага, настойліва падкрэсліваў, што ён выступае адзіным законным пераемнікам стараж.-рус. паліт., культ. і царк.-рэліг. спадчыны. У полацкім паходзе 1563 царскае войска суправаджаў як гістарычная рэліквія правасл. крыж, выкананы ў 12 ст. для *Ефрасінні Полацкай*. Пашырэнне культ. зносін Беларусі, Літвы і Украіны з Рус. дзяржавай было звязана з развіццём паліт., гандл. адносін, якія патрабавалі больш глыбокіх ведаў грамадска-паліт. і сац.-эканам. жыцця суседніх краін. У многім яно было выклікана абуджэннем грамадскай цікавасці да агульных духоўных традыцый усх.-слав. краін, іх мінулага, месца ўсх. славян у еўрап. культ.-гіст. працэсах. Купцы і паслы, беглыя і перасяленцы, адміністрацыя пагранічных зямель, таможнікі, палонныя пастаўлялі асн. грамадска-паліт., ваенную і сац.-эканам. інфармацыю, што паступала ў распараджэнне дзярж. органаў Вял. кн. Літоўскага, Пасольскага прыказу і рус. ўрада. Колькасць службовых асоб найб. важных пасольстваў разам з суправаджаючымі іх людзьмі складала сотні чалавек. У 1563 у Маскву прыбыло 376 чалавек, у т. л.—104 «русі». У 1568 у Гродна рус. пасольства складала 1200 чалавек. Многія пасольствы ў Расіі ў 16 ст. ўзначальвалі вопытныя дыпламаты беларусы, якія ведалі некалькі замежных моў. Членаў пасольства Вял. кн. Літоўскага, купцоў у Маскве размяшчалі на «Пасольскім», «Панскім» дварах, «сялілі» за ракой Нягліннай у прыватных дамах. Выхадцы з Беларусі ў 2-й пал. 15—16 ст. актыўна ўдзельнічалі ў стварэнні дзярж. апарату ў Расіі, пасольскім справаводстве. У 1542 у Вільні з дапамогай беглага рус. акольнічага І. В. Ляцкага была складзена адна з найб. ранніх карт Рус. дзяржавы з легендай на бел. і лац. мовах. Пры апісанні граніц Полацкага павета ў 1563—66 рус. пісцы шырока выкарыстоўвалі паказанні бел. сялян і мяшчан. Культ. сувязі Беларусі з Расіяй насілі ўзаемны характар. У эпоху еўрап. Адраджэння і Рэфармацыі гэтыя сувязі набылі асаблівае значэнне. Некат. з'явы еўрап. культуры ўзніклі на Беларусі раней (кнігадрукаванне, партэсныя спевы, лінейнае нотапісанне, арганная музыка, вытворчасць паперы і інш.), што садзейнічала развіццю культ. сувязей з Расіяй. Беларусы і украінцы ў сваю чаргу звярталіся ў Расію за арыгінальнымі і перакладнымі помнікамі стараж.-рус. пісьменнасці. Аб гэтым сведчыць пасланне В. Дз. Ярмоліна да пісара Казіміра Якуба, перапіска маск. дзяка І. М. Віскаватага з А. Валовічам у сярэдзіне 16 ст., паездкі ў Маскву па кнігі гаспадарскага пісара М. Гарабурды, дзякана Ісайі ў 1560-х г. Адна з лепшых ілюстраваных рус. кніг 14 ст.— «Кіеўскі псалтыр» (напісаны ў Кіеве ў 1397 маск. перапісчыкам Спірыдоніем) — была ўкладзена ў 1518 у Нікольскую царкву ў Вільні, якая абслугоўвала прыход з «рускім» (гал. чынам бел.) мяшчанствам. Пра ўдзел маскоўскіх перапісчыкаў у летапісанні Вял. кн. Літоўскага і пранікненні «маскоўскай» (відаць, кніжнай) пісьменнасці ў 15—16 ст. пісалі Мацей Стрыйкоўскі і Міхалон Літвін. Цікавасць у Паўн.-Усх. Русі была да твораў прававой і царк.-вучыцельнай пісьменнасці. «Пакаранне» епіскапа Сімяона, які востра крытыкаваў злоўжыванні полацкага князя, увайшло ў склад юрыд. зборнікаў, вядомых пад назвай «Мерыла праведнага». Дзякуючы бел. рукапісанню ў Вял. кн. Маскоўскім у 15 ст. сталі вядомы многія прававыя і перакладныя гіст. працы, у т. л. «Сказанне пра балгарскую і сербскую патрыярхіі», што было выкарыстана для абгрунтавання аўтакефаліі рус. царквы. З бел. спісаў у канцы 15 ці пач. 16 ст. перапісваліся ў Расіі значныя творы бел. пісьменнасці: «Страсці Хрыстовы», «Аповесць пра трох каралёў» і інш. У 1567 бабрэнеўскі ігумен (Калуга) набыў бел. рукапіс, у склад якога ўваха-

дзілі Статуты вял. князёў кіеўскіх Уладзіміра, Яраслава, Судзебнік Казіміра 1468. Яшчэ ў перыяд узнікнення бел. кнігадрукавання яго арганізатары імкнуліся распаўсюдзіць бел. інкунабулы ва ўсх.-слав. краінах, у т. л. ў Расіі. У сярэдзіне 16 ст. кнігі С. выкарыстоўваліся для дапаўнення і перапрацоўкі спісаў *«Генадзіеўскай бібліі»*. Культ. сувязі бел., рус. і ўкр. народаў знайшлі яркае ўвасабленне ў дзейнасці пераемнікаў С.— Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, у творчай садружнасці рус. і маскоўскіх першадрукароў Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца. У грамадска-паліт. адносінах культ. сувязі ўсх.-слав. народаў у сярэдзіне 16 ст. мелі большае значэнне для Беларусі і Украіны, чым для Расіі, дзе праблема барацьбы за захаванне культ., моўных, рэліг. традыцый не была актуальнай. Знешнепаліт. і ваенная актыўнасць Рус. дзяржавы і Вял. кн. Літоўскага, буйныя зрухі ў надбудове феад. грамадства, узмацненне сац. прыгнёту суправаджаліся ўздымам класавай барацьбы прац. мас. Дзейнасць рус. ерэтыкоў, найперш *Феадосія Касога* і яго паплечнікаў, на Беларусі, у Літве, на Украіне, у Малой Польшчы — найб. прыкметнае праяўленне духоўных сувязей усх.-слав., а таксама літ. і польск. народаў у барацьбе супраць прыгонніцтва і феад. ідэалогіі. У культ. зносінах бел. і рус. зямель пэўнае месца займала правасл. царква (гл. *Праваслаўная царква* на Беларусі 15—16 ст.). Выходзячы з уласных інтарэсаў і патрэб феад. грамадства, яна садзейнічала абмену царк.-рэліг. л-рай, візітам духавенства па справах царквы і для збору паліт. звестак і г. д. Рус. царква выступала таксама правадніком палітыка-ідэалаг. канцэпцый, што ўзніклі ва ўрадавым акружэнні ў 15—16 ст. Аднак правасл. царква аказала і адмоўны ўплыў на развіццё культ. сувязей ва Усх. Еўропе, нярэдка перашкаджаючы карысным кантактам з «лацінскімі», а з сярэдзіны 16 ст. і з «лютарскімі» краінамі, рашуча выступаючы супраць усіх праяўленняў вальнадумства і ерасей.

Даўнія традыцыі, якія зарадзіліся ў эпоху ранняга сярэднявечча, мелі культ. сувязі бел. і літ. зямель з Польшчай. Дзярж.-паліт. збліжэнне Вял. кн. Літоўскага з Польшчай з канца 14 ст. садзейнічала росту польск. ўплыву, але адначасова надало культ. сувязям у асобных сферах (права, палітыка, ідэалогія) супярэчлівы характар, значна падпарадкаваўшы іх паліт., царк.-рэліг., сац.-класавым адносінам. Плённымі былі культ. кантакты ў 15—16 ст. у розных сферах прафесіянальнай і нар. культуры (фальклор, музыка, маст. рамяство і інш.). Пры актыўным удзеле бел. і ўкр. майстроў у Польшчы былі створаны манумент. фрэскавыя цыклы кафедраў у Гнёзна і Сандаміры, калегіятаў у Вісліцы, капліц св. Тройцы і св. Крыжа ў Люблінскім і Вавельскім замках. Важную ролю ў развіцці духоўнага жыцця абедзвюх дзяржаў адыгралі сувязі прагрэсіўных дзеячаў свецкай, асабліва рэнесансавай культуры, пра што сведчыць творчасць С., Гусоўскага, Буднага, М. Рэя, Я. Каханоўскага. Дабратворны ўплыў гэтых сувязей адчуваецца ў польск. л-ры, паэзіі, кнігадрукаванні, грамадска-паліт. думцы, праве, справаводстве. Бел.-літ. летапісанне было адной з крыніц польскіх хронік 15—16 ст. (у т. л. Я. Длугаша і Мацея Мяхоўскага), а польск. картографы выкарыстоўвалі інфармацыю бел. купцоў, якія наведвалі польскія гарады і кірмашы. Апісанне зямель Беларусі, важнейшых рэк і асабліва ландшафту ўвайшло ў першую сістэматызаваную працу па геаграфіі Польшчы і Вял. кн. Літоўскага — «Гісторыя Польшчы» Длугаша. Значна ўзраслі культ. сувязі з суседнімі краінамі ў эпоху Адраджэння і Рэфармацыі ў канцы 15 — сярэдзіне 16 ст. Многія выпускнікі Кракаўскага ун-та ўдзельнічалі ў грамадскім, культ. жыцці і рэфармацыйным руху ў Польшчы і Вял. кн. Літоўскім. Паліт. лад Польшчы паўплываў на развіццё дзярж.-прававых ін-таў Вял. кн. Літоўскага, судаводства, сейма, фарміраванне інш. органаў саслоўна-класавага прадстаўніцтва, сістэму гарадскога самакіравання ў Літве і на Беларусі. З ростам паліт. ўплыву Польшчы ў 15 і асабліва ў 16 ст. ўзрастаў уплыў польскай феад. культуры ў паліт. і ідэалаг. сферах. Гэтаму садзейнічала паступовая паланізацыя феадалаў, якая напачатку закранула пераважна каталіцкую літоўскую знаць. Польская феад. культура (у пэўных палітыка-прававых сферах), шляхецкая ідэалогія адпавядалі таксама ўласным інтарэсам значнай часткі феадалаў Вял. кн. Літоўскага. Паланізацыя пануючага класа на Беларусі, заметная ўжо ў 1-й пал. 16 ст., але завершаная ў 17 ст., адлюстроўвала працэс саслоўнага адасаблення шляхты, якая супрацьпастаўляла сябе іншым слаям насельніцтва з «адсталай» культурай. Гэта аказвала негатыўны ўплыў на развіццё бел. культуры, звужвала яе функцыі, абмяжоўвала сац. сферу распаўсюджвання бел. мовы і пісьменнасці. Пра пранікненне «чужаземных» моў, «польских и иных писем» у асяроддзе бел. і літ. арыстакратыі, «княжат» і «панов значных», зняважанне іх «врожоной» культуры пісалі Цяпінскі, Будны, М. Кавячынскі, Л. Крышкоўскі.

Складаны характар насілі значна абмежаваныя культ. ўзаемаадносіны Беларусі з краінамі Цэнтр. і Зах. Еўропы. Царк.-рэліг. і культ. сувязі з'яўляліся істотным элементам знешнепаліт. стратэгіі розных дзяржаў і паліт. кааліцый Еўропы. Каталіцкая царква выкарыстоўвала багатую культ. спадчыну еўрап. народаў у сваіх грамадска-паліт. мэтах і для падтрымання свайго прэстыжу. Яна распаўсюджвала на Беларусі феад. ідэалогію і выступала супраць культ. сувязей з Рус. дзяржавай. Важным цэнтрам мясц., польск. і зах.-еўрап. культуры быў велікакняжацкі двор у Вільні, які заўсёды абслугоўвала вял. колькасць замежных рамеснікаў, музыкантаў, асоб «вольных» прафесій. Пазітыўны ўплыў зах.-еўрап. культуры быў звязаны гал. чынам з тымі прагрэсіўнымі, гуманіст. і асв. тэндэнцыямі, якія азнаменавалі росквіт Рэнесанса ў Еўропе, развіццё прыродазнаўчых навук. ведаў, крызіс схаластыкі і станаўленне новай філасофіі, крушэнне духоўнай манаполіі каталіцкай царквы. Прамыя і ўскосныя кантакты Беларусі з шэрагам еўрап. краін (у значнай меры дзякуючы пасрэдніцтву Польшчы) садзейнічалі ўзаемапазнанню, развіццю картаграфіі, краіназнаўства. Замежныя дыпламаты, падарожнікі, пасланнікі вял. ўвагу звярталі на апісанне прыроды, дзярж.-паліт., сац. адносін, этнакульт., моўных, царк.-рэліг. традыцый. Еўрап. прынцыпы арганізацыі гарадскога самакіравання знайшлі ўвасабленне ў сістэме магдэбургскага права, якое ў канцы 14—16 ст. атрымалі многія гарады і мястэчкі Беларусі. Феадалы Вял. кн. Літоўскага, улічваючы своеасаблівасць грамадска-паліт. ладу розных краін, надавалі асаблівае значэнне выпрацаванай сістэме дзярж. і прававых гарантый прывілеяў пануючага класа. Маршалак літ. Л. Храптовіч ад імя ўсяго «народу» (феадалаў Вял. кн. Літоўскага) заклікаў вял. кн. Аляксандра прытрымлівацца не «італьянскіх, чэшскіх або нямецкіх звычаяў», а кіраваць і судзіць па айчынных законах, па прыкладу Вітаўта. У галіне прыродазнаўчых і «вольных» навук найб. значэнне мела развіццё матэматыкі, астраноміі, медыцыны, музыкі, ваеннай справы, грамадска-паліт. думкі, л-ры. С. быў адным з заснавальнікаў старэйшага ў Цэнтр. Еўропе батанічнага саду ў Празе на Градчанах. Гусоўскі знаёміў еўрап. чытачоў з грамадска-паліт. і сац. ўмовамі жыцця бел. насельніцтва, прыродай Беларусі. У мураваным культавым і грамадзянскім дойлідстве Беларусі 15—16 ст. назіраюцца элементы раманскіх форм, стыляў готыкі, рэнесансу, творчага пераасэнсавання і сінтэзу іх з мясц. традыцыямі (*Ішкалдскі Троіцкі касцёл, Сынковіцкая царква-крэпасць, Мірскі замак* і інш.). У абарончай архітэктуры 13—16 ст. (данжоны, касцёлы-замкі, бастыённая сістэма) адчуваецца ўплыў зах.-еўрап. фартыфікацыйнай архітэктуры. Падобныя творчыя кантакты ўзбагачалі і рабілі разнастайнай еўрап. маст. культуру ўвогуле. У збліжэнні і ўзаемаразуменні народаў у эпоху Адраджэння і Рэфармацыі ў Еўропе значную ролю адыгрывалі ун-ты. Многія з іх былі важнымі цэнтрамі гуманітарных і прыродазнаўчых навук. У сценах ун-таў нярэдка зараджаліся гуманіст. і рацыяналіст. веянні, ішла барацьба рэнесансавай культуры і светапогляду з абскурантызмам і царк. дагматыкай. Неабходнасць універсітэцкай адукацыі стала вастрэй адчувацца на Беларусі і ў Літве ў канцы 15—16 ст. у выніку культ. пад'ёму, пашырэння сферы выкарыстання лац. мовы, міжнар. паліт. і гандл. сувязей, зацікаўленасці царквы ў падрыхтоўцы духоўных служыцеляў. У 15—16 ст. студэнты-ліцвіны (беларусы і літоўцы) вучыліся ва ун-тах Балоны і Падуі (Італія), Гейдэльберга і Інгальштата (ФРГ), Лейпцыга (ГДР), Лувена (Бельгія), Базеля (Швейцарыя), Кракава і інш. Мяркуючы па кнігах запісаў паступаючых, у 15 ст. ў Кракаўскі ун-т прынялі 201, да 1569—190 «литвинов». У 1551—60, 1561—70 у Кёнігсбергскі

ун-т запісалася адпаведна 26 і 27 «літвінов»; Лейпцыгскі — 29 і 53; Цюбінгенскі — 18 і 11; Вітэнбергскі — 4 і 10 (у асн. шляхта і гараджане). Пашырэнню культ. сувязей садзейнічала развіццё еўрап. кнігадрукавання і міжнар. гандаль кнігамі. Друкаваная кніга стала вядома на Беларусі задоўга да ўзнікнення першых бел. друкарняў. Яе прывозілі купцы, гараджане, шляхта, дыпламаты, студэнты. Адзін з найб. ранніх кніжных збораў, што ўключаў інкунабулы, належаў пісару і каноніку А. Якубовічу з в. Котры (Гродзенская вобласць). На інкунабуле («Maius Tunianus. De priscorum proprietate verborum.» Freviso, 1477) ён пакінуў запіс на бел. мове пра вучобу ў Кракаўскім ун-це («іматрыкуляцыя — 1478, ступень магістра — 1488»). А. Радуніус (г. п. Радунь) у 1541 за 20 грошаў купіў інкунабулу 1494 («Augustinus Aurelius. Sermones cum additione Sebastiani». Basel). Яму належала таксама другая кніга гэтага ж аўтара, надрукаваная ў Базелі ў 1495. М. Тышкевіч пакінуў запіс на другім базельскім выданні ў 1522. З узнікненнем бел. кнігадрукавання выданні бел. друкарняў у сваю чаргу прыцягвалі ўвагу еўрап. бібліяфілаў, палітыкаў, вучоных, гісторыкаў, філолагаў. Фрагмент з 2-й кн. «Царствы» (Прага, 1518) як узор пісьма «готаў або русаў» змешчаны ў лац. перакладзе ў кнізе прафесара ун-та ў Павіі (Італія), лінгвіста-паліглота, Т. А. Альбанезі — «Уводзіны ў мову халдзейскую, сірыйскую, армянскую і дзесяткі іншых» (Павія, 1539). Ініцыялы і шрыфты С., як лічаць даследчыкі, паўплывалі на афармленне выданняў Цюбінгенскай друкарні П. Трубара. Пераклад «рускага» тэалагічнага рукапісу ў 1564 Будны адправіў у Цюрых дзеячу швейцарскай Рэфармацыі Булінгеру. У сярэдзіне 16 ст. ў Польшчы і Вял. кн. Літоўскім ратаваліся ад праследавання многія дзеячы рэфарм. руху, «ерэтыкі», швейцарскія, ням., італ. вальнадумцы. Слабасць і часовыя хістанні ў рэліг. палітыцы вярхоўнай улады, ускладненне адносін Жыгімонта II Аўгуста з Ватыканам і каталіцкім духавенствам, уздым Рэфармацыі стварылі адносна спрыяльныя ўмовы для развіцця некананічных царк.-рэліг. плыняў. Удзел іншаземцаў у дзейнасці рэфарм. абшчын (Бляндраты, Станкара, Зацыуса і інш.) выклікалі рэзкія нападкі ідэолагаў і прыхільнікаў каталіцкай царквы, контррэфармацыі. На думку аўтара, важныя багаслоўскія пытанні павінны абмяркоўвацца толькі на Усяленскім (Трыдэнцкім) саборы. Культ. традыцыі і вытв. навыкі бел. майстроў аказвалі ўплыў на замежных рамеснікаў, якія аселі ў буйных гарадах Беларусі. Запазычанні шэрагу прафесійных тэрмінаў, якія пранiклі ў бел. мову і пісьменнасць у 15—16 ст., паказваюць, што гэтыя сувязі былі ўзаемнымі. У пераліку інструментаў магілёўскага «золатара» (ювеліра) 1560—70-х г. называюцца: «бахарейзын», «фофлейзын», «бодомейзын» і інш.

Культ. супрацоўніцтва народаў Вял. кн. Літоўскага ўскладнялася сац.-класавымі, этнарэліг. супярэчнасцямі, каталіцкай экспансіяй і інш. фактарамі. Паліт. раздробленасць зямель, якія ўваходзілі ў дзяржаву, дапаўнялася культ. размежаваннем розных народнасцей, якія ў феад. грамадстве пераадолець было немагчыма. Павольная і супярэчлівая эвалюцыя бел. культуры змяняецца ў канцы 15—16 ст. рэзкім, нераўнамерным у розных сферах уздымам духоўнай культуры, абумоўленым сац.-эканам. і паліт. развіццём зямель Беларусі, завяршэннем у асноўным працэсу фарміравання бел. народнасці, ростам міжнар., культ. узаемасувязей.

*Літ.:* 111; 156; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972; Грицкевич В. П. Путешествия наших земляков. Мн., 1968; Лимонов Ю. А. Культурные связи России с европейскими странами в XV — XVI вв. Л., 1978; Исторические корни дружбы и единения украинского и белорусского народов. Киев, 1978; Хорошкевич А. Л. Русское государство в системе международных отношений конца XV — начала XVI в. М., 1980; Kot S. Réforme dans le grand-Duché de Lithuanie // Annuaire de l'Institut de philologie et d'histoire orientales et slaves. Bruxelles, 1953. V. 12.

*У. М. Конан, Г. Я. Галенчанка* (культурныя сувязі).



Герб **А. Курбскага.**

Ю. Кухараў. Беларускі першадрукар доктар Францыск Скарына. 1980.



**КУПА́ВА** Мікалай Мікалаевіч (н. 1946), беларускі сав. графік. У 1971 выканаў афорт «Францыск Скарына» (31 × 18 см). У цэнтры аркуша С. ў поўны рост з кнігамі ў левай руцэ, уверсе гербы гарадоў, у якіх бываў С., унізе архітэктурныя помнікі Прагі. Злева словы С.: «Дзецем малым пачатак усялякае навукі, дарослым памнажэнне ў навуцы...» У 1974 г. К. зрабіў ілюстрацыю да верша У. Караткевіча «Скарына пакідае радзіму» (20 × 14 см). У цэнтры С. адной рукой трымае разгорнутую кнігу, другой дакранаецца да маладога дрэўца — сімвала духоўнага саду, што садзіў С. на бацькаўшчыне. З правага боку выява архіт. помнікаў Полацка і Вільні. На заднім плане вясковыя хаты і людзі з кнігамі ў руках. Аўтар кніжнага знака для б-кі пісьменніка П. Глебкі, дзе выкарыстаны герб С. *А. Я. Белы.*

**КУПА́ЛА** Янка (Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882—1942), народны паэт Беларусі, класік, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры. Акад. АН БССР (1928) і АН УССР (1929). Шэраг дакастрычніцкіх твораў паэта прысвечаны паказу мінулага, перадавых грамадскіх і культ. традыцый радзімы-Беларусі і сваім пафасам скіраваны на абуджэнне ў прыгнечаным народзе гіст. памяці, нац. годнасці, рэвалюц. пратэсту супраць сац. і духоўнага ўціску [«Роднае слова» («Магутнае слова, ты, роднае слова!»), «Наша песня», «Родныя песні» і інш.]. Пачуццё творчай пераемнасці з духоўнымі здабыткамі мінуўшчыны становіцца неад'емнай дамінантай паэтычнага крэда К.: «І паўтараю водклік песняў, што прадзед ветрамі спяваў» («Брату-беларусу»). На традыцыі айчыннага кнігадрукавання спасылаецца К. ў дыскусіі на старонках «Нашай нівы» (1912) адносна пераходу новага бел. пісьменства на адзін з двух (грамадзянскі ці лацінскі) шрыфтоў і выказваецца на карысць «гражданкі», падкрэсліваючы адначасова яе роднасць з айчыннымі першадрукамі. У «Лісце да палачан», напісаным пасля наведвання Полацка (1926), К. высока ацаніў дзейнасць С., звярнуў увагу на адданасць С. «люду паспалітаму», падкрэсліў значэнне патрыят. прыкладу бел. вучонага, першадрукара для культ. буд-ва ў сацыяліст. Беларусі, умацавання сувязі л-ры з народамі. Пра С. як вялікага асветніка-гуманіста К. ўпамінаў у дакладзе «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя» на навук. сесіі АН БССР у Казані 12.3.1942. *А. К. Каўко.*

**КУ́РБСКІ** Андрэй Міхайлавіч (1528—83), рускі палітычны і ваенны дзеяч, пісьменнік-публіцыст. Прыбліжаны цара Івана IV Грознага. Удзельнік паходаў супраць татар. У Лівонскую вайну 1558—83 узначальваў рус. войскі ў Прыбалтыцы. Даведаўшыся пра пагрозу расправы над ім, уцёк у Вял. кн. Літоўскае (1564). Удзельнічаў у вайне супраць Расіі, у паходах на Полацк (1564, 1579). Сваім настаўнікам К. лічыў Максіма Грэка, пад уплывам якога стаў прыхільнікам ідэй асветніцтва, выкрываў невуцтва пануючага саслоўя. Займаўся літ. дзейнасцю. Выву-

чаў Арыстоцеля, Цыцэрона, перакладаў з лац. мовы творы Іаана Златавуста, Грыгорыя Багаслова, Васіля Вялікага, Дыянісія Арэапагіта. Аўтар палемічных твораў, пасланняў да царк. і грамадскіх дзеячаў. Найб. важныя творы К.— пасланні да Івана IV Грознага (1564—79), «Гісторыя пра вялікага князя Маскоўскага» (1573) — выдатныя помнікі ўсх.-слав. публіцыстыкі 16 ст. У іх кансерватыўныя погляды радавітага баярства пераплятаюцца з гуманіст. матывамі вальнадумства, выкрываюцца паліт. і маральныя заганы самаўладнай тыраніі Івана IV Грознага. Творам К. уласцівы асобныя рэнесансавыя рысы — вера ў сілу «кніжнага слова», разумнага пераканання аргументамі, спробы рацыяналіст. тлумачэння падзей. Яго творы вызначаюцца высокімі літ. вартасцямі. Змагаўся за чысціню правасл. веры, выступаў супраць езуіцка-каталіцкай экспансіі ў зах.-рус. землях. Адмоўна ставіўся да рэфармацыйна-гуманіст. руху, выступаў супраць *Феадосія Касога* і яго паслядоўнікаў, супраць жывой гутарковай мовы ў рэліг. кнігах. У гэтай сувязі рэзка крытыкаваў скарынінскія выданні кніг Свяшчэннага пісання. З пазіцый артадаксальнага праваслаўя абвінавачваў С. ў «злачыннай сувязі» з Рэфармацыяй, скажэнні асвечанай стагоддзямі традыцыі правасл. веравызнання, ерэтычным спосабе мыслення. Сцвярджаў, што «Біблія» С. «разбэшчаная», супярэчыць «усім апостальскім і святым уставам» і ва ўсім згодная з «Бібліяй» Марціна *Лютэра*. Выступаючы супраць С., ставіўся ў апазіцыю да ўсёй рэнесансава-гуманіст. традыцыі асв. тлумачэння біблейскіх кніг у бел. культуры 16 ст., якая бярэ пачатак у працах бел. першадрукара.

*Літ.:* Скрынников Р. Г. Переписка Грозного и Курбского. Л., 1973; Лурье Я. С. Переписка Ивана Грозного с Курбским в общественной мысли Древней Руси // Переписка Ивана Грозного с Андреем Курбским. М., 1981.

*Г. У. Грушавы.*


БУКВАРЪ
СирѢчъ,
НАЧАЛО УЧЕНІА
ДѢТЕМ НАЧИНАЮЩИМ ЧТЕНІЮ
ИЗВЫКАТИ.
В КУТЕИНѢ
ИЗОБРАЗИСА.
В ТУПОГРАФІИ
СПИРИДОНА
СОБОЛА.
РОКУ, АХЛА.

Да арт. **Куцеінская друкарня.** «Буквар». Тытульны ліст. 1631.

**КУ́ХАРАЎ** Уладзімір Іванавіч (н. 1916), беларускі сав. жывапісец. У 1956 стварыў партрэт С. паводле вядомай гравюры 16 ст. для Полацкага краязнаўчага музея (алей, 90×70 см).

**КУ́ХАРАЎ** Юрый Іванавіч (н. 1940), беларускі сав. графік. У 1980 выканаў кампазіцыйны партрэт «Беларускі першадрукар доктар Францыск Скарына» (афорт, 26×26 см, Дзярж. б-ка БССР імя У. І. Леніна). С. паказаны за сталом у сваім кабінеце з разгорнутай кнігай на каленях. Прадметны фон сведчыць пра яго літ. і навук. дзейнасць, асабісты ўдзел у маст. афармленні кніг.

**КУЦЕ́ІНСКАЯ ДРУКА́РНЯ,** адзін з асноўных цэнтраў беларускага кірылічнага кнігадрукавання ў 17 ст.

Засн. ў пач. 1630-х г. пры Куцеінскім манастыры пад Оршай. У 1631 С. *Собаль* выдаў першую кнігу К. д.— «Буквар», каля 1632 пераехаў у Буйнічы. Друкарню ўзначальваў ігумен, член магілёўскага брацтва І. Труцэвіч. З 1636 да 1654 у К. д. надрукавана 14 выданняў асветніцка-павучальнай, патрыятычнай, маральна-філасофскай, кананічнай, літургічнай л-ры, у т. л. помнік перакладной бел. л-ры «Гісторыя пра Варлама і Іасафа» (1637), «Дзідаскалія...» С. Косава (1637), «Новы запавет...» (1652), «Лексікон...» П. Бярынды (1653) і інш. У сярэдзіне 1650-х г. куцеінскія друкары з абсталяваннем пераехалі ў Іверскі манастыр пад Ноўгарадам. У 1665 абсталяванне К. д. пераведзена ў Васкрасенскі манастыр пад Масквой, у 1676 — на Друкарскі двор (Масква).

Куцеінскія выдаўцы працягвалі літаратурныя, моўныя, выдавецкія традыцыі С., змяшчалі ў кнігах падрабязныя прадмовы, каментарыі. У дрэварытах, ананімных ілюстрацыях, якімі багата аздоблены выданні К. д. (асабліва «Трэфалагіён»), адчуваецца сувязь з прыкладным нар. мастацтвам, арыгінальная кампазіцыя, індывідуалізацыя вобразаў. Асобныя рысы маст. афармлення, друкарскай тэхнікі (ініцыялы ў рамках, упрыгожаныя малюнкамі раслін, птушак, звяроў, выкарыстанне дадатковага чырвонага колеру, фармат у 4-ю долю аркуша) выданняў К. д. нагадваюць кнігі С.

*Літ.:* 558; 789; Леонид, архимандрит: Типография Оршанского Кутеинского и Иверского Валдайского монастырей (с 1630 по 1665 г.) // Вестн. Об-ва древнерус. искусства при Московском публичном музее. 1876. № 1—2. Отд. 4; Голенченко Г. Я. Белорусы в русском книгопечатании // Книга: Исслед. и материалы. М., 1966. Сб. 13.

*Г. Я. Галенчанка.*



**ЛАБЫ́НЦАЎ** Юрый Андрэевіч (н. 1948), канд. філал. н. (1980). Супрацоўнік Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна. Даследуе гісторыю слав. старадрукаванай кнігі і слав. л-р, іх узаемасувязі. Удзельнічаў у падрыхтоўцы да друку зб. «Беларускі асветнік Францыск Скарына і пачатак кнігадрукавання на Беларусі і ў Літве» (М., 1979); надрукаваў у ім арт. «Выданні Францыска Скарыны і іншых славянскіх першадрукароў у бібліятэцы Супрасльскага манастыра», «Навуковая сесія «Фёдараўскія чытанні 1977 г.» (з К. П. Сакольскай). У арт. «Новы экземпляр «Акафісніка» Францыска Скарыны» (1978) увёў у навук. ўжытак экземпляр з аддзела старадрукаў б-кі Вроцлаўскага ун-та (ПНР). Адзін са стваральнікаў *«Зводнага каталога старадрукаваных выданняў кірылаўскага і глаголічнага шрыфтоў»*. Удзельнік *Скарынінскіх чытанняў*. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ЛАНЧЫ́ЦКІ** (Łęczycki) Даніэль, Даніэль з Ланчыцы [1530(?)—1600(?)], друкар, прадаўжальнік традыцый С. ў кнігадрукаванні. Выдаваў кнігі на польскай і лац. мовах. Працаваў у друкарнях у Пінчове (1558—62), Нясвіжы (1562—71), Заслаўі (ці Уздзе). У 1572—76 кіраваў *Лоскай друкарняй.* У 1576—80 працаваў у друкарні М. Радзівіла ў Вільні, потым адкрыў уласную друкарню (1594—1600). Выдаваў кнігі Сымона Буднага, Пятра з Ганёндза і інш. У выданнях Буднага выкарыстоўваў элементы аздобы кніг С.

*Літ.:* 19.

**ЛАРЧАНКА** Міхась (Міхаіл Рыгоравіч; 1907—81), беларускі сав. літаратуразнавец, крытык. Д-р філал. н. (1956), праф. (1957). Даследаваў станаўленне і развіццё рэалізму ў бел. л-ры 19 — пач. 20 ст., бел.-слав. літаратурныя ўзаемасувязі, старажытную бел. л-ру і фальклор, пытанні традыцый і наватарства. У раздзеле «Францішак Скарына» (разам з П. П. Ахрыменкам, Старажытная беларуская літаратура, 1968) і арт. «Яднанне і ўзаемаўзбагачэнне», «Галасы жывой спадчыны», «Слова аб палку Ігаравым» і беларуская літаратура», «Паэтычны лад славянскіх балад» (усе ў кн.: Літаратурнае пабрацімства славян, 1984) падаў біягр. звесткі С., вытлумачыў, чаму С. звярнуўся да выдання менавіта Бібліі, паказаў высокі тэхн. і маст. ўзровень яго кніг і што яны былі вядомы ў Маскоўскай Русі, Чэхіі, Польшчы, Румыніі, Германіі і інш. краінах Зах. Еўропы, карысталіся вял. папулярнасцю на Украіне. Характарызаваў С. як таленавітага літаратара, выдатнага дзеяча-гуманіста, вучонага-асветніка; адзначыў уплыў на С. чэшскага гуманіста Яна *Гуса.*

*В. С. Семенякоў.*

**ЛЕАНА́РД** з Добчыц (Leonard z Dobczyce,? — 1508), прафесар Кракаўскага ун-та. У 1489 атрымаў вучоную ступень магістра вольных навук. Працаваў ва ун-це ў 1488—1507, калі там вучыўся С. Спецыялізаваўся ў галіне матэматыкі, астраноміі і астралогіі, «растлумачваў» студэнтам геаметрыю Эўкліда, тэорыю перспектывы Дж. Пізана. У 1501—07 чытаў курс логікі і фізікі Арыстоцеля, курс граматыкі па Данату і Галу. Меў багатую асабістую б-ку з працамі па астраноміі, матэматыцы, астралогіі, філасофіі, юрыспрудэнцыі. Сярод кніг яго б-кі, якія захаваліся,— рукапісная «Геаметрыя» Эўкліда, перапісаная ням. астраномам і матэматыкам Рэгіямантанам (1436—76) і Р. Борхтапам (Борсдорфам). Сын апошняга — Рудольф Борсдорф Малодшы ў 1491 вырабіў кірылаўскія шрыфты для першай слав. друкарні Ш. Фіёля. Л. мог пазнаёміць С. з дзейнасцю гэтай друкарні. С., магчыма, карыстаўся кнігамі з б-кі Л.

*Я. Л. Неміроўскі.*

Леанарда да Вінчы.




**ЛЕАНА́РДА ДА ВІ́НЧЫ** (Leonardo da Vinci; 1452—1519), італьянскі жывапісец, скульптар, архітэктар, вучоны, інжынер. Сучаснік С. Адзін з заснавальнікаў мастацтва Высокага *Адраджэння.* У сваёй творчасці стварыў вобраз гарманічнага, духоўна і фізічна дасканалага чалавека, раскрыў яго ўнутр. свет праз выразную характарыстыку псіхал. стану, дакладныя жэсты і міміку. Распрацаваў вучэнне аб прапорцыях і будове чалавечага цела, аб паветранай перспектыве, вял. ўвагу аддаваў святлаценю як сродку пластычнай мадэліроўкі вобраза і ўзмацнення яго выразнасці. У анатамічных малюнках паклаў аснову сучаснай навук. ілюстрацыі. Сярод жывапісных работ: «Благавешчанне» (1474), «Мадонна з кветкаю» («Мадонна Бенуа», каля 1478), «Пакланенне вешчуноў» і «Святы Еранім» (1481), фрэска «Тайная вячэра» (1495—97), партрэт У. Галерані («Дама з гарнастаем», 1483), «Мадонна Літа» (1480—83) і карціны «Мадонна ў скалах» (1483—1506). Найвышэйшае дасягненне партрэтнага майстэрства — «Джаконда» (каля 1503). Стварыў мадэль коннай статуі Ф. Сфорца. Аўтар аднаго з першых твораў гіст. жывапісу — «Бітва пры Ангіяры» (насценная размалёўка Вялікай залы флярэнційскай сіньёрыі, 1503—06) і інш. Займаўся эксперым. дасследаван-

нямі ў галіне матэматыкі, механікі, вывучаў анатомію. З 1513 жыў у Рыме, дзе выканаў жывапісныя работы: жаночы партрэт, «Леда», «Іаан Хрысціцель». З 1517 у Францыі. Працягваў навук. даследаванні, працу над «Анатоміяй», стварыў праект замкава-паркавай рэзідэнцыі для маці караля. Як вучоны пакінуў значны след у даследаванні жывапісу, малюнка, матэматыкі, фізікі, астраноміі, геалогіі, батанікі.

*Літ.:* Дживелегов А. К. Леонардо да Винчи. 3. изд. М., 1974. *М. І. Ткачэнка.*

**«ЛЕТАПІСЕЦ ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ ЛІТÓЎСКІХ»,** помнік бел.-літ. летапісання, адзін з першых твораў уласнабел. гіст.-дакумент. л-ры.

Напісаны на старабел. мове невядомым аўтарам каля 1430 у Смаленску. Асн. змест — паліт. гісторыя Вял. кн. Літоўскага 14 ст., гал. ідэя — ухваленне цэнтралізатарскай палітыкі літ.-бел. князёў на Русі, абгрунтаванне гіст. неабходнасці і заканамернасці паліт. аб'яднання літ., бел. і ўкр. зямель у адной дзяржаве — Вял. кн. Літоўскім. Створаны ў форме гіст. хронікі і складаецца з аповесці пра Кейстута, якая вызначаецца цэльнасцю, жывасцю і свецкім характарам выкладу, і шэрагу гіст. апавяданняў пра розныя падзеі грамадска-паліт. жыцця гэтай дзяржавы апошняй чвэрці 14 ст., найб. пра дзейнасць Вітаўта. Поўная рэдакцыя ўключае яшчэ «Аповесць пра Падолле», што была складзена ў 1430-я гады і прысвечана апісанню гісторыі далучэння гэтай укр. зямлі да Вял. кн. Літоўскага. «Летапісец...» — сінкрэтычны твор, які спалучае рысы дзелавога дакумента і помніка апавядальнай прозы. Яго белетрыстычнасць мае рэальную аснову, грунтуецца на жыццёвай фабуле, на сапраўдных фактах гіст. рэчаіснасці. Выкладзеныя ў творы падзеі ў асн. адпавядаюць гіст. сапраўднасці іададзены з пункту гледжання прыхільніка Вітаўта. Напісаны з агульнадзярж. пазіцый як першая спроба кароткай гісторыі Вял. кн. Літоўскага, ён з'явіўся важным этапам у гісторыі летапіснага жанру на Беларусі. У гэтым творы ўпершыню ў бел. л-ры былі пераадолены старыя літаратурныя традыцыі, летапісная, пагадовая форма выкладу гісторыі. Збярогся ў шматлікіх спісах (Віленскім, Супрасльскім, Слуцкім, Акадэмічным, Красінскага, Альшэўскага, Румянцаўскім і інш.), у складзе розных летапісных зводаў і гіст. кампіляцый. У 15 ст. быў пакладзены ў аснову арыгінальнай часткі Беларуска-літоўскага летапісу 1446 і часткова выкарыстаны польск. храністам Я. Длугашам у «Гісторыі Польшчы». У скарочанай рэдакцыі быў вядомы таксама ў Расіі. Упершыню адкрыты і апублікаваны ў 1823 І. Даніловічам, перавыдадзены ў Поўным зборы рускіх летапісаў (т. 17, 1907; т. 35, 1980).

У «Летапісцы...» адлюстраваны асобныя моманты паліт. гісторыі Полацка другой пал. 14 ст. Ён бытаваў на Беларусі ў часы С., у т. л. ў Вільні і Полацку. Яго Віленскі спіс, напр., полацкага паходжання. Большасць рукапісаў, у якіх ён захаваўся, датуюцца канцом 15—16 ст. Гэты твор паслужыў адной з гал. крыніц другога (*«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*) і трэцяга (*«Хронікі» Быхаўца*) бел.-літ. летапісных зводаў, што ўзніклі ў другой чвэрці 16 ст. ў асяроддзі магнатаў Гаштольдаў, Гальшанскіх і Алелькавічаў, з якімі быў асабіста знаёмы С. Усё гэта дае падставу сцвярджаць, што асн. змест «Летапісца...» ён не мог не ведаць.

*Літ.:* Улащик Н. Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. *В. А. Чамярыцкі.*



Да арт. **Летапісы.** Старонка «Аповесці мінулых гадоў». Лаўрэнцьеўскі летапіс. 1377.

**ЛЕ́ТАПІСЫ,** гістарычна-літаратурныя творы з апісаннем падзей па гадах; помнікі пісьменнасці ўсх. славян 11—18 ст.

Вытокі Л. у мясц. вусна-паэт. паданнях пра гіст. мінулае, у дзелавой пісьменнасці і літ. традыцыях перакладной гіст. прозы. Іх узнікненне і развіццё цесна звязана з гіст. жыццём народа, з надзёнными грамадска-паліт. праблемамі і тэндэнцыямі часу. Летапісцы апісвалі пераважна знешні бок падзей і асвятлялі мінулае з пункту гледжання свецка-рыцарскіх або хрысціянска-аскетычных ідэалаў сваёй эпохі. Як помнікі л-ры маюць сінкрэтычны характар, спалучаюць асаблівасці дзелавых дакументаў і твораў апавядальнай прозы. Паводле жанравай структуры большасць з іх — зводы, якія аб'ядноўваюць кароткія дзелавыя запісы, гіст. апавяданні і аповесці, а таксама запазычаныя з інш. крыніц розныя дакументы і літаратурныя творы. Л. на Русі пачалі складаць у 11 ст. У пач. 12 ст. ў Кіеве створаны выдатны помнік стараж.-рус. летапісання – «Аповесць мінулых гадоў», якая ў складзе розных летапісных зводаў бытавала на бел. землях і ў часы С. У гэтым творы — самыя раннія ўпамінанні пра Полацк, каштоўныя звесткі пра першых полацкіх князёў і гісторыю Полацкага княства 9 — пач. 12 ст. Багаты матэрыял пра гіст. мінулае бел. народа змяшчаюць Кіеўскі (12 ст.) і Галіцка-Валынскі (13 ст.) летапісы, добра вядомыя на Беларусі ў 15—16 ст. У 12—13 ст. складаўся і Полацкі летапіс, які, на жаль, не захаваўся. У часы С. перапісваліся і чыталіся таксама летапісы больш позняга паходжання — Радзівілаўскі, Наўгародскі, Аўрамкі і інш. Некат. з іх, несумненна, бытавалі і ў Полацку. Традыцыі стараж.-рус. Л. адыгралі важную ролю ў станаўленні ўласна бел. летапісання, паслужылі стымулам, літаратурнай крыніцай і ўзорам для бел. летапісцаў 15—16 ст.

Да арт. **Летапісы.** Будаўніцтва Ноўгарада. Мініяцюра. Радзівілаўскі летапіс. Перамога Ігара над полаўцамі. Мініяцюра. Радзівілаўскі летапіс.





У новых гіст. умовах таго часу, у перыяд завяршэння фарміравання бел. народнасці і паліт. кансалідацыі бел. земляў у складзе Вял. кн. Літоўскага і Рус. дзяржавы, Л. набылі агульнадзярж. характар. З новых, цэнтралізатарскіх пазіцый у іх адлюстравана паліт. гісторыя Літвы, Беларусі і, часткова, Украіны эпохі феадалізму, ідэалагічна абгрунтавана гіст. заканамернасць і неабходнасць іх аб'яднання ў адной дзяржаве. Першымі агульнадзярж. бел.-літ. летапіснымі помнікамі былі *«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»* і *Беларуска-літоўскі летапіс 1446*, складзеныя ў другой чвэрці 15 ст. ў Смаленску, які быў тады цэнтрам бел.-літ. летапісання. У 16 ст. ў бел. Л. узмацнелі ідэі агульнадзярж. патрыятызму, актыўна працягвалася белетрызацыя гіст. апавядання. У Л. пачалі ўключаць вусна-паэт. легенды і паданні, уводзіць літаратурны вымысел. У 1520-я г. створана *«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*, у якой была літаратурна апрацавана вядомая яшчэ з 15 ст. легенда пра паходжанне літ. князёў і шляхты ад рымскай знаці. Важным этапам у развіцці бел. летапісання і бел. гіст. прозы свайго часу стала т. зв. *«Хроніка» Быхаўца* (2-я чвэрць 16 ст.) — самы поўны звод агульнадзярж. летапісаў і хронік. Свецкія паводле зместу і сярэдневяковыя паводле характару бел.-літ. Л. і хронікі складаліся ў асяроддзі феадалаў, таму падзеі ў іх адлюстроўваліся з пункту гледжання пануючага класа, у святле рыцарскіх ідэалаў і з пазіцыі агульнадзярж. інтарэсаў. У шматвяковай гісторыі летапіснага жанру на тэр. Беларусі, яго ідэйна-маст. эвалюцыі выявіліся асаблівасці і заканамернасці развіцця ўсёй бел. л-ры. На працягу стагоддзяў Л. служылі каштоўнай крыніцай ведаў пра мінулае нашай Радзімы, выконвалі важную ідэйна-публіцыст. ролю ў фарміраванні грамадскай думкі і гіст. свядомасці, у выхаванні патрыятычных пачуццяў чытачоў.

Л. як жанр л-ры добра ведаў С. Падзяляючы Біблію на асобныя часткі адпаведна іх зместу і літаратурнага характару, ён вылучаў у яе складзе і кнігі летапіснага жанру. Так, на думку С., у Апостальскіх дзеях «пишуть дела бывшая и летописания». Да «книг летописных Ветхаго закона» ён адносіў кн. «Царствы», якія склалі «летописцы царей», а «Параліпаменон» называў кароткім летапісцам Старога запавету. У прадмовах С. няма ўпамінання пра стараж.-рус. і бел. Л., ніякіх спасылак на імёны, даты і падзеі бел. гісторыі. Аднак ён, напэўна, чытаў гэтыя творы, бо ў яго час на Беларусі шырока бытавалі ранейшыя Л. і складаліся новыя. Як сведчаць розныя гіст. крыніцы, у прыватнасці «Запіскі пра Маскоўскую вайну» Р. Гейдэнштэйна, нямала Л. захоўвалася ў 16 ст. ў Полацку, асабліва ў славутай б-цы Сафійскага сабора, багатыя рукапісныя зборы якой здзіўлялі нават іншаземцаў. Энцыклапедычна адукаваны бел. гуманіст, выдатны знаўца антычнай і біблейскай гісторыі, відаць, добра ведаў таксама адлюстраваную ў Л. гісторыю



Руіны **Лідскага замка.**

роднай зямлі і «слаўнага града Полацка», якім ён так ганарыўся. Л. павінны былі адкрыць перад С. цікавыя і малавядомыя старонкі гераічнага мінулага нашых продкаў, паўплываць на фарміраванне яго гіст. уяўленняў, спрыяць выхаванню патрыятычных пачуццяў.

*Літ.:* Чамярыцкі В. А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры: Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў. Мн., 1969; Насонов А. Н. История русского летописания XI — нач. XVIII века. М., 1969; Лурье Я. С. Общерусские летописи XIV—XV вв. Л. 1976.

*В. А. Чамярыцкі.*

**ЛІГАТУ́РА** (позналац. ligatura сувязь) у паліграфіі, злітны абрыс двух або некалькіх шрыфтавых знакаў. У пач. 16 ст. шырока выкарыстоўваліся ў зах.-еўрап. друкарскай практыцы. У С. вядомы адзін выпадак прымянення Л. «ак» у кн. «Другі закон», дзе яна выкарыстана няправільна — з дубліраваннем першай літары. Ад уласна Л. неабходна адрозніваць лігатурныя знакі, напр., «оу», у якім «у» пастаўлена над «о». Гэты знак ужываўся С. адначасова са звычайным «у». Часам, пераважна ў пачатку слоў, выкарыстоўваў «ётаванае а», у астатніх выпадках у значэнні «я» яго замяняе «юс малы».

**ЛІДСКІ ЗА́МАК,** помнік абарончага дойлідства 14—15 ст. Пабудаваны ў 1330-я г. ў Лідзе. Уваходзіў у лінію крапасных умацаванняў Навагрудак — Крэва — Меднікі — Трокі. У збудаваннях Л. з. адчуваюцца рысы ранняй готыкі (характар суадносін аб'ёмаў, паўцыркульныя і стральчатыя праёмы брам і байніц). Пастаўлены на насыпным узгорку (выш. 5—6 м), быў абкружаны балоцістымі берагамі рэчак Лідзея і Каменка і ровам з Пн (шыр. каля 20 м), які злучаў рэкі і аддзяляў замак ад горада. Пазней (відаць, у 16—17 ст.) у сістэму перадзамкавых умацаванняў з У уключана штучнае возера. Л. з.— у плане няправільны 4-вугольнік (бакі каля 80 м) з 2 вуглавымі вежамі.

Асн. абарончае значэнне мелі пастаўленыя на невысокім падмурку (70—80 см) сцены (таўшчыня ўнізе 2 м, зверху 1,5, выш. да 15 м). Верхняя частка сцен з баявой галерэяй і байніцамі (на адлегласці 3,3 м адна ад адной) змуравана з цэглы. Вонкавая паверхня сцен з вялікіх валуноў, прамежкі паміж якімі запоўнены каменнымі клінамі, забутоўка з дробных камянёў, муроўка арміравана драўлянымі бэлькамі. Адначасова са сценамі ў 1-й пал. 14 ст. пабудавана квадратная ў плане (9×9 м) паўд.-зах. вежа. Паўн.-ўсх. вежа, пабудаваная ў канцы 14 — пач. 15 ст., мела арачны ўваход з боку двара і лесвіцу шыр. 1 м. Вежы былі накрыты шатровымі дахамі і не выступалі за перыметр сцен. У замак вялі 3 уваходы: 2 ва ўсх. і 1 у паўд. сценах. Магчыма, на тэр. замка знаходзіліся правасл. царква (у 1533 перанесена ў горад), жылыя і гасп. пабудовы. Жылыя памяшканні былі і ў верхніх ярусах вежаў. На працягу 17—18 ст. у выніку шматлікіх асад разбураны вежы і ўнутраныя пабудовы, захаваліся рэшткі абарончых сцен і вежаў (у 1-й чвэрці 20 ст. зроблена частковая кансервацыя, у 1982 — поўная). Праводзяцца работы па рэстаўрацыі сцен і вежаў. Ахоўваецца дзяржавай.

*Літ.:* Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1979. С. 28—34.

*С. Г. Багласаў, А. А. Трусаў.*

**ЛІНДЭ** (Linde) Самуэль Багуміл (1771—1847), польскі мовазнавец. У 1816 апубл. у Варшаве на польск. мове даследаванне «Аб статуце літоўскім, рускай мовай і друкам выдадзеным паведамленне», дзе назваў мову Статута Вял. кн. Літоўскага 1588 беларускай. Уяўленне аб выданнях С. меў па цытатах з «Вопыту расійскай бібліяграфіі...» В. С. Сопікава і па адзінаму лістку аднаго са скарынінскіх акафістаў, які перадаў яму чэшскі вучоны I. *Добраўскі.* Параўноўваючы мову Статута са скарынінскімі цытатамі, зрабіў заключэнне, што ў выданнях С. стараслав. мова пераважае над беларускай (пацвярджаецца сучаснымі даследаваннямі). Адзначыў таксама, што літары «Акафіста» значна прыгажэйшыя за друк «Астрожскай біблііі» 1581. *А. І. Жураўскі.*

**ЛІПЕНЬ** Аляксандр Іванавіч (н. 1926), беларускі самадзейны скульптар. У 1983 выканаў барэльеф «Францыск Скарына» (дрэва, медзь; 55×43 см; б-ка імя Ф. Багушэвіча ў в. Кушляны Смаргонскага р-на). У трактоўцы вобраза выкарыстаны аўтапартрэт С., творы мастакоў А. Марачкіна, М. Басалыгі, А. Кашкурэвіча і скульптара А. Глебава. Падкрэсліў велічнасць, адухоўленасць, патрыятызм С.

**ЛІПЕНЬ** Леанід Альгердавіч (н. 1940), аўтар плаката «460 год беларускага кнігадруку. 1517—1977» (1976; фотакалаж; 90×60 см; Дзярж. маст. музей БССР). На фоне сучасных друкарскіх матрыц адлюстравана раскрытая стараж. кніга ў масіўнай вокладцы з металічнымі засцежкамі. На правай старонцы яе — гравюрны партрэт С. з кн. «Ісус Сірахаў», на левай — тэкст «Людем посполитым к доброму навчению. Франциск Скорина». Выкарыстаны арнамент, шрыфты, знак С. Кампазіцыя дапоўнена каляровай закладкай — фрагмент тканага бел. пояса з арнаментам.

**ЛІЦВІ́НЫ,** літвіны, этнічная і гістарычная назва ў Рус. дзяржаве жыхароў *Вялікага княства Літоўскага,* у склад якога ўваходзіла Беларусь; адна з назваў беларусаў, пераважна жыхароў бел. Панямоння, дзе ў стараж. часы знаходзілася летапісная Літва. Слова «Litpha-

nus» («літвін»), ужытае ў актах Кракаўскага ун-та за 1506 у адносінах да С., характарызавала яго як выхадца з Вял. кн. Літоўскага.

*Літ.:* Ермолович Н. И. Где была летописная Литва? //Тез. докл. к конф. по археологии Белоруссии. Мн., 1969.

**ЛО́ЙКА** Алег Антонавіч (н. 1931), беларускі сав. паэт, крытык і літаратуразнавец. Д-р філал. н. (1969), праф. (1971). Працуе ў БДУ імя У. І. Леніна. Аўтар верша «Скарына — каралеўскі садоўнік на Градчанах» (у кн.: Каб не плакалі ка́ні, 1967), у аснову якога пакладзены факт, што ў 1534 (ці ў 1535) С. пераехаў у Прагу і працаваў каралеўскім садоўнікам. Аўтар імкнецца паказаць С. ў апошні перыяд яго жыцця, перадаць яго тугу па Радзіме, па родным Полацку, яго заклапочанасць лёсам свайго народа. Ідэйна-маст. сутнасць верша складаюць патрыятычны пафас, услаўленне самаахвярнага служэння Радзіме і ў гэтым сэнсе паказальныя радкі, што ўяўляюць сабой перафразоўку вядомага выказвання С. з прадмовы да кн. «Юдзіф»: «Глядзеў на Влтаву — на віры і та́мы,//А ўспамінаў пра іншыя віры, //Пра гнёзды, птушкам любыя, пра ямы, //Што любяць у пустынях нат звяры». Працуе над раманам-эсэ пра С.

*А. І. Вярцінскі.*

**ЛО́МЦЕЎ** Цімафей Пятровіч (1906—72), беларускі і рускі сав. мовазнавец. Д-р філал. н. (1944), праф. (1934). Працы ў галіне агульнага мовазнаўства, фанетыкі, фаналогіі, марфалогіі і сінтаксісу рус. і бел. моў. У час. «Беларусь» апублікаваў 3 артыкулы пра дзейнасць С. У арт. «Скарына як пачынальнік беларускай літаратурнай мовы» (1945. № 3) паказаў, што моўная сітуацыя на Беларусі ў часы С. была складанай (выкарыстанне 2 пісьмовых моў — беларускай і царк.-слав. з размежаваннем у сферах функцыяніравання), што гіст. задача бел. мовы ў той час была ў пашырэнні на ўсе сферы пісьмовай дзейнасці, асабліва на галіну школьнай і царк. пісьменнасці, і што перакладчыцкая і выдавецкая дзейнасць С. якраз і адпавядала гэтай задачы. Паводле Л., колькасная перавага царк.-слав. элементаў у выданнях С. не дае падстаў не лічыць мову яго кніг беларускай, нац. прыналежнасць мовы вызначаецца не па колькасці іншамоўных элементаў, а па характару той ролі, якую мова адыгрывае ў грамадскай свядомасці і ў асвеце народа. У артыкуле даецца пералік бел. фанет., марфалаг. і лексічных рыс, якія адзначаюцца ў выданнях С. і бясспрэчна даказваюць, што С. ўпершыню, як лічыць вучоны, стаў ужываць бел. мову як мову л-ры і навукі. Не ўсе палажэнні артыкула Л. прымальныя для сучаснага бел. мовазнаўства. Гал. недахоп — характарыстыка дзейнасці С. ў адрыве ад аналізу літаратурна-моўнага працэсу на Беларусі ў канцы 15 — пач. 16 ст. У арт. «Георгі Скарына — першы беларускі кнігавыдаўца» (1945. № 6) даў агульны агляд выданняў С., адзначыў іх асаблівасці ў параўнанні з папярэднімі слав. і зах.-еўрап. друкаванымі кнігамі. Пры разглядзе віленскіх выданняў быў схільны лічыцца з думкай, што «Малая падарожная кніжка» магла быць выдадзена пасля 1530. У арт. «Лёс кнігадрукавання на Беларусі пасля Г. Скарыны» (1945. № 7—8) раскрыў значэнне С. для далейшага развіцця кнігадрукавання на Беларусі.

*А. І. Жураўскі.*

**ЛОСК,** у 15—16 ст. невялікае прыватнаўласніцкае мястэчка Ашмянскага пав. Віленскага ваяводства, цяпер вёска Валожынскага р-на Мінскай вобл.

Першыя звесткі пра Л. адносяцца да 14 ст. Л. быў уладаннем ноўгарад-северскіх князёў Карыбутаў, магнатаў Кішкаў. Тут быў умацаваны Лоскі замак. З 1489 у Л. існаваў прыходскі касцёл. «Фундуш» княгіні Ганны на гэты касцёл быў дадзены прывілеем 1493.

У лоскіх уладаннях сяляне знаходзіліся пад асобым заступніцтвам Яна *Кішкі*, у сваім завяшчанні ён наказаў нашчадкам не накладваць на сялян цяжкіх павіннасцей. У 1572 на яго сродкі заснавана *Лоская друкарня.* Л. 16 ст. — адзін з цэнтраў рэфармацыйнага руху на Беларусі і ў Літве. Яго наведвалі Марцін *Чаховіц* і Васіль *Цяпінскі.*

*Літ.:* Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972.

*Я. Н. Мараш.*

**ЛО́СКАЯ ДРУКА́РНЯ,** адзін з цэнтраў рэфармацыйнага кнігадрукавання ў 16 ст.

Заснавана ў *Лоску*. Належала Яну *Кішку*, які ў 1572 купіў яе ў братоў Кавячынскіх. Для работы сюды былі запрошаны Сымон *Будны*, друкар Даніэль *Ланчыцкі.* Друкарняй кіравалі Ланчыцкі (1572—76), Ян *Карцан* (1576—80), з 1586 Ф. Балямоўскі. Карцан выдаў 7 кніг, з іх 5 на польск. і 2 на лац. мовах; Будны — Новы запавет (з прадмовамі і заўвагамі), «Пра дзве сутнасці Хрыста», «Супраць хрышчэння дзяцей», «Наконт аргументаў Сімлера пра дзве сутнасці Хрыста», «Кароткі доказ, што Хрыстос не з'яўляецца такім жа богам, як айцец...» (усе 1574), «Пра найважнейшыя артыкулы хрысціянскай веры» (1576), «Аб чыне, які выкарыстоўвае меч», «Пра свецкую ўладу» (абедзве 1583), Новы запавет (1589). Выходзілі працы Пятра з Ганёндза, які падтрымліваў плебейска-сялянскую плынь антытрынітарызму, трактат Цыцэрона «Аб павіннасцях» (1576, перакл. на польск. мову С. Кашуцкага), працы польск. публіцыста А. Маджэўскага Фрыча «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» (1577). Мяркуюць, што друкарня працавала да 1592.

Л. д. прадоўжыла выдавецкія традыцыі С., гэта асабліва відаць па аздабленні кніг Буднага.

*Літ.:* 19.

*М. Б. Батвіннік.*

**ЛУКАШЭ́ВІЧ** Іван Якаўлевіч (1811—60), памешчык, калекцыянер рукапісаў і старадрукаваных кніг. У 1849 у яго б-цы было больш за 1000 старадрукаваных кніг, у т. л. 7 пражскіх выданняў С.: кн. «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Ісус Сірахаў», «Царствы», «Выхад», «Левіт», «Прамудрасць божая». У 1870 б-ку набыў «Маскоўскі публічны музеум і Румянцаўскі музеум» (зберагаецца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна). Зберагліся 3 выданні С.: кн. «Ісус Сірахаў» (пераплецена ў 19 ст. ў кардон, абклеена форзацнай паперай, на адвароце верхняй вокладкі — экслібрыс «З бібліятэкі Івана Лукашэвіча», зберагліся толькі 2-і — 5-ы, 7—18-ы, 23—41-ы, 43—72-і аркушы), «Еклесіяст» (у кардонным пераплёце 19 ст. са скураным карашком, на адвароце верхняй вокладкі экслібрыс Л., на тытульным лісце надпіс: «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына радци места Виленьского»), кн. «Царствы» (пераплёт 19 ст., абцягнуты скурай зялёнага колеру з залатым цісненнем, на адвароце верхняй вокладкі экслібрыс Л., адсутнічаюць 183-і, 233-і, 235—242-і аркушы). Канвалют, у які ўваходзілі кн. «Выхад», «Левіт» і «Прамудрасць божая», не збярогся.

*Літ.:* 531.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**ЛУК'Я́НЕНКА** Вера Ільінічна (н. 1922), савецкі бібліёграф, кнігазнавец. Аўтар даследаванняў па гісторыі славянскіх інкунабул і палеатыпаў. Складальнік «Каталога беларускіх выданняў кірылаўскага шрыфту XVI—XVII стст.» (Л., 1973. Вып. 1) — першых рэтраспектыўных апісанняў аднаго з самых багатых збораў старадрукаваных бел. выданняў (каля 1523—1654) кірылаўскага шрыфту з Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе. Першы выпуск ахоплівае 47 выданняў, другі — 67. Каталог вылучаецца паўнатой звестак, шырокімі інфармацыйнымі каментарыямі. У 1-м выпуску апісаны 2 экз. «Малой падарожнай кніжкі» і 2 экз. «Апостала». Паводле меркавання Л., «Малая падарожная кніжка» выдавалася часткамі, але выданне было задумана як зборнік пэўнага зместу. У каментарыях да апісання выданняў С. разглядаюцца асаблівасці арнаментыкі, выяўлены філіграні. Вывучэнне дошак, выкарыстанне некат. ініцыялаў, гравіраваных у Празе, далі магчымасць Л. зрабіць вывад, што «Малая падарожная кніжка» выйшла раней за «Апостала», і адзначыць арыгінальнасць рэдакцыі прадмоў С. да яго. У абодвух выпусках «Каталога» сабраны найб. поўныя звесткі пра выкарыстанне арнаментальных матэрыялаў Віленскай друкарні С. ў брацкіх віленскіх і еўінскіх выданнях канца 16 — першых дзесяцігоддзяў 17 ст. і пра перайманне іх. У арт. «Азбука Івана Фёдарава, яе крыніцы і відавыя асаблівасці» (Працы Аддзела стараж.-рус. л-ры Ін-та рус. л-ры АН СССР. М.; Л., 1960. Т. 16) выказана меркаванне, што некат. тэксты львоўскага выдання «Азбукі» (1574) звязаны з «Бібліяй» С. ці іншым біблейскім перакладам, які ўзнік у Паўд.-Зах. Русі і заснаваны на чэш. крыніцах.

*Г. Я. Галенчанка.*

**ЛУЦКЕ́ВІЧ** Іван Іванавіч (1881—1919), беларускі археолаг, этнограф і грамадскі дзеяч. Сабраў пры «Нашай ніве» (у склад рэдакцыі якой уваходзіў) багатую калекцыю бел. старажытнасцей (з 1921 Бел. музей у Вільні), у т. л. унікальныя старадрукі: «Трыёдзь каляровая» Ш. Фіёля (1491), частка (70 с.) «Бібліі» С., Статут Вялікага княства Літоўскага 1588, выд. Мамонічамі, «Евангелле вучыцельнае» (Еўе, 1616) і інш. У выступленні на Усеслав. з'ездзе прагрэс. студэнтаў (Прага, 1908) згадаў скарынінскую «Біблію» (Наша ніва. 1908. 4 ліп., вытрымка з выступлення). Удзельнічаў у падрыхтоўцы выставкі, прысвечанай

400-годдзю бел. кнігадрукавання, у заснаванні навук. т-ва імя С. Садзейнічаў матэрыяламі аўтарам зб. «Беларусь» (Берлін, 1919), дзе прыведзены звесткі аб жыцці і дзейнасці С. Ёсць меркаванне, што Л. першы натрапіў на лісты прускага герцага *Альбрэхта* Гогенцолерна аб прабыванні С. ў Кёнігсбергу, пазней апублікаваныя А. І. Мілавідавым. *А. К. Кайко.*

**ЛЫТКІН** Ягор Трацццяк, яраслаўскі купец, збіральнік кніг. У 1635 перадаў *Краснагорскаму манастыру* б-ку з 100 рукапісных і друкаваных кніг, сярод якіх былі выданні С.— віленская «Малая падарожная кніжка», пражскія кн. «Царствы», «Прытчы Саламона», «Прамудрасць божая». Мяркуюць, што ў рукапіснай частцы былі копіі з выданняў С., у прыватнасці «Песня песням» («Книга в полдесть Песни песням, толковые, письмо скорописное»). Далейшы лёс выданняў С. з б-кі Л. невядомы.

*Літ.:* 557; Список книг, отданных в Красногорский монастырь Третьяком Лыткиным // Архив А. М. Строева. Пг., 1917. Т. 2. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ЛЬВÓЎСКАЯ НАВУКÓВАЯ БІБЛІЯТЭ́КА** імя В. Стафаніка АН УССР, адна з найбуйнейшых навук. б-к УССР і СССР. Засн. ў 1940 на базе 84 б-к. Зберагаецца значная колькасць усх.-слав. кніжнай спадчыны, у т. л. рэдкія бел. старадрукі, замежныя выданні 15—18 ст. У аддзеле рукапісаў захоўваецца 1-я частка рукапісаў біблейскіх кніг Дзмітрыя з Зенькава, створанага на аснове «Бібліі» С. (паступіла з б-кі *Ануфрыеўскага манастыра*). У аддзеле рэдкай кнігі ёсць экз. 1-й кн. «Царствы» С. (паступіла з львоўскай б-кі «Студыон»).

**ЛЬВÓЎСКІ МУЗЕ́Й УКРАІ́НСКАГА МАСТА́ЦТВА.** Засн. ў 1905 І. С. *Свянціцкім*. У зборы каля 600 кніг кірыліцкага старадруку. Першы каталог збору складзены ў 1908 Свянціцкім. У ім апісаны экземпляр 4-й кн. «Царствы» С. У музеі зберагаецца 2 экз. гэтай кнігі, а таксама 3 канвалюты. У адным — кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон», у другім — «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», кн. «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», у трэцім — кн. «Ісус Навін» і «Суддзі». Асобна пераплецена кн. «Іоў».

*Літ.:* 652; 727.

**ЛЮБЧА́НСКАЯ ДРУКА́РНЯ,** найбуйнейшая рэфармацыйная друкарня на Беларусі, у дзейнасці якой далейшае развіццё атрымалі асв., маст. і паліграф. традыцыі кнігадрукавання С.

Існавала ў 17 ст. ў мяст. Любча (Навагрудскі р-н). Друкарскія матэрыялы (шрыфты, арнамент і інш.) прывезены з Вільні. Актыўна дзейнічала ў 1612—20-х г. пад кіраўніцтвам друкара і кнігавыдаўца Пятра Бластуса Кміты, з пач. 1630-х г.— яго сына Яна Бластуса, з сярэдзіны 1640-х да сярэдзіны 50-х — Яна Ланге. У дзейнасці любчанскіх выдаўцоў, асабліва ў ранні перыяд, выразна праяўляліся асв. і гуманіст. тэндэнцыі. Друкарня выпусціла каля 100 выданняў на польск. і лац. мовах, гал. чынам свецкага зместу: творы антычных і рэфарм. пісьменнікаў, гіст. і навук. дапаможнікі, школьныя падручнікі. У 1640—50-я г. друкавала ў асн. панегірыкі, літургічныя творы для пратэстанцкіх абшчын. Выданні Л. д. афармляліся сціпла, ужываліся ксілаграфіі, наборны арнамент; з друкарняй супрацоўнічаў гравёр К. Гётке. Упершыню ў бел. кнігадрукаванні для ілюстравання кніг шырока выкарыстоўвалася гравюра на медзі.

*Літ.:* 19; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław; Kraków, 1959. *Г. Я. Галенчанка.*

**«ЛЮ́ДИ ПОСПОЛИ́ТЫИ»** (польск. pospolity просты), паняцце, якое ў часы С. азначала грамадзяне, гараджане. Мела дваякі сэнс: вузкі — для абазначэння гарадскога насельніцтва, найчасцей яго сярэдняй маёмаснай часткі, і шырокі — адносна да ўсяго грамадства, народа.

У крыніцах бел. пісьменнасці 15 — пач. 16 ст. часта ўжываецца слова «посполство». Так, ва ўстаўной грамаце вял. князя літоўскага і караля Польшчы Казіміра IV г. Полацку (1486) паспольствам абазначана асобная сац. група гараджан: «жаловали нам мещане и дворане, и чорные люди и все посполства два» (там жа, с. 111). Сустраграматы XIII— пачатку XVI стст. М. 1978. Вып. 2. С. 110, на рус. мове). Паспольства, паводле гэтага ж дакумента, мела сваё уласнае прадстаўніцтва ў выбарнай агульнагарадской радзе па кантролю за прыходамі і расходамі гарадской казны: «з бояр два обраны, а з мещан два, а з дворан два, а з посполства два» (тамжа, с. 111). Сустракаюцца і інш. выпадкі, калі паспольства зазначана асобна ад мяшчанства (гарадскіх нізоў): «жаловал нам войт места Луцкого и вси мещане, Ляхове и Русь, и все посполство» (Грамата 1486 вялікага князя і караля Казіміра гораду Луцку // Акты, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі... Спб., 1846. Т. 1. С. 110, на рус. мове). Паняцце «паспаліты» ў дзелавых паперах таго часу мела і больш шырокі, абагульняючы змест, адпаведны словам «грамадскі» (публічны), «гарадскі». Характэрная ў гэтых адносінах устаўная грамата 1510 вял. князя літоўскага і караля Польшчы Жыгімонта I на пацвярджэнне Полацку магдэбургскага права: «маючи взглядъ къ посполитого доброго размноженью», «посполитое мѣстское доброе» (Акты, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі... Спб., 1848. Т. 2. С. 75, 76, на рус. мове).

Верагодней за ўсё, што С. назваў «Л. п.» адрасатаў сваіх выданняў: «людемъ простымъ, посполитымъ к пожитку», «посполитому люду рускаго языка» і г. д. Гэтым жа паняццем, часам у зменёных формах («посполъство», «посполитыи»), С. карыстаўся не толькі ў прадмовах і пасляслоўях, але і ў перакладзеных ім біблейскіх тэкстах: «не протився всему посполству» (Кн. «Ісус Сірахаў», арк. 14-ы; для параўнання той самы фрагмент з *«Астрожскай бібліі»* 1580 Івана Фёдарава — «не изложи себя в народе»); «иже со всих градов князи и старейшины с людьми посполитыми в купе (кн. «Юдзіф», арк. 6). «Л. п.» і *«люди простыи»* ў працах С. выступаюць як дзве грамадска раўназначныя, узаемна дапаўняючыя сац. катэгорыі, што таксама падкрэслівае дэмакратычную накіраванасць яго светапогляду і творчай дзейнасці. *А. К. Кайко.*

**«ЛЮ́ДИ ПРО́СТЫИ»,** у час С. працоўныя, найчасцей эксплуатуемыя катэгорыі насельніцтва, якія звычайна называліся абагульненым паняццем «людзі», з дадаткам тых ці інш. адзнак залежнасці ад вял. князя, феадала ці рэліг. устаноў.

Напр., ва ўстаўной грамаце 1510 вял. князя літоўскага і караля Польшчы Жыгімонта I на пацвярджэнне Полацку магдэбургскага права адзначана: «вси мѣщане, и чорные люди, ... какъ тые, которые мѣшкають въ замку и около замку, такъ тежъ за Двиною и на всякихъ мѣстцахъ в мѣстѣ нашомъ Полоцкомъ, за владыкою, и за игуменьею, и за князи и за бояры, и за игумены и за попы, на всихъ мѣстцахъ церковныхъ и князьскихъ и боярскихъ, хочемъ и приказуемъ, абы отъ тыхъ часовъ, конечно, вси тые люди были въ послушенствѣ того права Майтборского...» (Акты, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі... Спб., 1848. Т. 2. С. 76, на рус. мове). У каралеўскіх жалаваных граматах пач. 16 ст. прадстаўнікам арыстакратыі неаднойчы вызначаюцца паселішчы ва ўладанне «зъ людьми и съ челядью неволною». У пісьмовых крыніцах гэтага часу занатаваны праявы пратэсту простых людзей супраць пазбаўлення іх эканам. і грамадзянскіх правоў. Напр., у адным з каралеўскіх лістоў 1537 пераказваецца скарга «мещан и людей» Гомельскай воласці на валаснога дзяржаўцу князя Васіля Талачынскага, ад празмернай эксплуатацыі і самавольства якога сяляне мусілі цэлымі вёскамі шукаць сабе прыстанішча: «семъ сел людей от того для великого обтяжения прочь пошло».

«Л. п.», а таксама «людемъ посполитымъ» прызначаў С. свае першадрукі і асветніцка-выхаваўчыя намаганні. Так, «Прытчы Саламона», паводле слоў перакладчыка, прызначаны «людем простым посполитым к пожитку и ко розмножению добрых обычаев» (гл. с. 37). У прадмове да ўсёй «Бібліі» С. падкрэсліваў, што не толькі вучоныя, але «всякий человек простый і посполитый» здатныя да засваення кніжнай навукі, да свайго духоўнага ўзбагачэння. Інтарэсамі простага чалавека выклікана руплівасць С. над даступнасцю, нагляднасцю сваіх кніг: «Кто бы пак межи простыми людьми братии моей хотел яснее розумети яковым обычаем был храм суделан..., тое все вымалеваное ніжей знайдет» («Выхад», арк. 4-ы адв.). Гэтым жа паняццем «Л. п.» карыстаўся С. непасрэдна ў перакладзеных ім біблейскіх тэкстах: «мерзок богу всякий посмевач и с простыми людьми есть размовление его»; «мужи кровопролитци

**Львоўскі музей украінскага мастацтва.**



ненавидят простого, праведнии же стерегут душу его» («Прытчы Саламона», арк. 9-ы адв., 44-ы). Слова С. прыязнай настроенасцю да прац. чалавека ўзвышала гал. гіст. сілу грамадства («Праведные убо жити будут. на земли и простыи делити будут ю» («Прытчы Саламона», арк. 7-ы). У салідарнасці з простымі людзьмі, з нар. масамі выявіліся істотнейшыя рысы светапогляду, дзейнасці С.— дэмакратызм, народнасць, грамадзянскасць, патрыятызм. *А. К. Каўко.*

**ЛЮДО́ВІК II ЯГЕЛО́Н** (1506—26), кароль Венгрыі і Чэхіі (1516—26). Знаходзіўся пад уплывам венг. і чэшск. магнатаў. У час яго панавання ў чэшскія гарады, у т. л. ў Прагу, пачаў пранікаць пратэстантызм у лютэранскай форме. Загінуў у жн. 1526 каля Мохача ў бітве супраць туркаў. У час панавання Людовіка II у Чэхіі пашыралася кнігадрукаванне: у Пльзені, Празе, Кутнай Гары; распаўсюджваліся ідэі гуманізму. Менавіта кнігадрукарская традыцыя ў Празе з канца 1480-х г., пашырэнне ідэй гуманізму і Рэфармацыі і далі магчымасць С. надрукаваць у Празе «Біблію».

*Літ.:* История Чехословакии. Т. 1. М., 1956.

**ЛЮ́ТЭР** (Luther) Марцін (10.11.1483—18.2.1546), глава бюргерскай *Рэфармацыі* ў Германіі, заснавальнік ням. *пратэстантызму* (лютэранства). Скончыў Эрфурцкі ун-т (1505). З 1512 д-р багаслоўя ў Вітэнбергскім ун-це. Сац. праблемы імкнуўся вырашыць у рамках тэалогіі. У 95 тэзісах (1517) супраць папскіх індульгенцый выклаў новае рэліг. вучэнне. Тэзісы адвяргалі каталіцкую догму аб тым, што царква і духавенства — неабходныя пасрэднікі паміж чалавекам і богам, і аб'яўлялі веру хрысціяніна адзіным шляхам «выратавання душы», якое даруецца яму непасрэдна богам. Л. сцвярджаў, што мірское жыццё і ўвесь мірскі парадак забяспечваюць чалавеку магчымасць «аддаваца веры» і займаюць важнае месца ў хрысціянскай рэлігіі. Ён адвяргаў аўтарытэт папскіх дэкрэтаў і пасланняў, патрабаваў аднаўлення аўтарытэту Свяшчэннага пісання і ліквідацыі пануючага становішча духавенства ў грамадстве. Тэзісы Л. былі ўспрыняты апазіцыйнымі і рэвалюц. слаямі насельніцтва як сігнал да выступлення супраць каталіцкай царквы і феад. ладу. Абапіраючыся на грамадскі рух у Германіі, Л. адмовіўся з'явіцца на царкоўны суд у Рым, а на Лейпцыгскім дыспуце з каталіцкімі багасловамі ў 1519 адкрыта заявіў аб падтрымцы ім рэфармацыйных ідэй Яна *Гуса.* У 1520 Л. публічна спаліў у двары Вітэнбергскага ун-та папскую булу аб адлучэнні яго ад царквы. У творы «Да хрысціянскага дваранства нямецкай нацыі» (1520) заклікаў ням. народ да рашучага выступлення супраць дыктату каталіцкай царквы. Пасля таго, як у пач. 20-х гадоў вызначыліся пазіцыі розных прымкнуўшых да Рэфармацыі класаў і Т. *Мюнцэр* выставіў новыя ідэі народнай Рэфармацыі, Л. адышоў ад радыкальных пазіцый. Ён сцвярджаў, што «хрысціянскую свабоду» трэба разумець як духоўную свабоду, з якой цялесная несвабода (уключаючы прыгонны стан) цалкам сумясціма («Аб свецкай уладзе», 1523). У час Сялянскай вайны 1524—26 Л. перайшоў на бок пануючага класа, патрабаваў крывавай расправы з паўстаўшымі сялянамі і аднаўлення прыгоннага стану. К. Маркс пісаў: «Л ю т э р перамог рабства па н а б о ж н а с ц і толькі тым, што паставіў на яго месца рабства па п е р а к а н а н н ю» (М а р к с К., Э н г е л ь с Ф. Соч. Т. 1. С. 422).



Л. К р а н а х. Марцін Лютэр. Гравюра на дрэве. 1522.




Л. К р а н а х. Тытульны ліст «Бібліі» М. **Лютэра.** 1520.

Сваёй дзейнасцю Л. даў моцны штуршок уздыму руху ўсіх перадавых сіл грамадства. У гісторыю ням. грамадскай думкі ён увайшоў як выдатны дзеяч культуры — рэфарматар адукацыі, мовы, музыкі. Вял. значэнне для стварэння агульнаням. літаратурнай мовы меў зроблены Л. пераклад на ням. мову Бібліі (1522—42). Дзейнасць і вучэнне Л. сталі вядомы на Беларусі і ў Літве ў 1-й пал. 16 ст. дзякуючы інтэнсіўнаму развіццю культ. і гандл. сувязей з ням. гарадамі. На думку У. І. Пічэты, «рэфармацыйныя плыні захапілі і Францішка Скарыну...» (Чатырохсотлецце беларускага друку, 1926. С. 140). Я. Ф. Галавацкі (ссылаючыся на В. *Копітара*) лічыў, што ў 1523 С. наведаў *Вітэнберг,* быў у *Меланхтана,* дзе пазнаёміўся з Л., якога спачатку захапілі здольнасці бел. першадрукара. Але з-за радыкальнага напрамку яго думак Л. пазбегнуў далейшых дыскусій з С. Па патрабаванню Л. магістрат Вітэнберга арыштаваў С. як чарнакніжніка і тайнага агента каталіцызму. Пазней ён быў вызвалены. Паколькі імя С. пры гэтым не ўпамінаецца («нейкі Францыск — паляк, доктар»), то гэта меркаванне застаецца гіпотэзай. У дзейнасці, светапоглядах С. і Л. агульным з'яўляецца тое, што бел. асветнік, як і Л., імкнуўся вызначыць новую, незалежную ад царквы крыніцу чалавечых паводзін, звязваючы яго з непасрэднымі адносінамі да Бібліі як адзінай захавальніцы духоўна-маральных ведаў. Абодва яны імкнуліся да рэліг. свабоды, гуманізму і прастаты мовы рэліг. выданняў, неслі ў народ асветніцтва. Аднак С. не пераняў ідэй рэлігійна-маральнай рэформы Л., а значна бліжэй падышоў да гуманізму як ідэйнай плыні.

*Літ.:* С м и р и н М. М. Лютер и общественное движение в Германии в эпоху Реформации // Вопросы научного атеизма. М., 1968. Вып. 5; D i c k e n s A. G. The German nation and Martin Luther. Glasgow, 1976.
*Э. К. Дарашэвіч, В. П. Оргіш.*

**ЛЯЛЕ́ВЕЛЬ** (Lelewel) Іаахім (1786—1861), польскі гісторык, грамадскі дзеяч, кнігазнавец, адзін з кіраўнікоў дэмакр. крыла польскага нац.-вызв. руху. Аўтар прац па гісторыі польск. кнігі і бібліяграфіі. У сваёй гал. кнігазнаўчай працы «Дзве бібліяграфічныя кнігі...» (т. 1—2, 1823—26) падрабязна выклаў (у т. 1) усё вядомае яму пра жыццё і дзейнасць С., апісаў асобныя экземпляры яго кніг, падкрэсліў іх «надзвычайную рэдкасць». Да гэтай працы падрыхтаваў розныя гравіраваныя табліцы, частка якіх змешчана ў альбоме, ананімна выдадзеным у 1854 у Познані. У ім на адной з табліц змешчаны рэпрадукцыі арнаментыкі і шрыфту выданняў С. У працы «Гісторыя Літвы і Русі аж да Люблінскай уніі з Польшчай 1569 года» (1839), гаворачы аб вял. значэнні «рускай» мовы ў Вял. кн. Літоўскім, з пашанай называў імя бел. першадрукара С.

*Літ.:* Б а с е в и ч А. М. Иоахим Лелевель. [М.], 1961; К е н е в и ч С. Лелевель: Пер. с пол. М., 1970; К і с я л ё ў Г. Героі і музы: Гіст.-літ. нарысы. Мн., 1982.
*Ю. А. Лабынцаў.*



**МАГДЭБУ́РГСКАЕ ПРА́ВА,** майдэборгскае права, сукупнасць юрыдычных норм, што вызначалі саслоўна-прававое становішча гараджан ва ўмовах феад. грамадства.

Такую назву атрымала таму, што на яго афармленне паўплываў зборнік юрыд. нормаў, устаноўленых у г. Магдэбургу (Усх. Германія). Па М. п. гараджане вызваляліся ад феад. павіннасцей, ім гарантаваліся свабодныя заняткі рамяством, гандлем, земляробствам і дазвалялася выбіраць свой орган улады — магістрат, суд, ствараць рамесныя аб'яднанні — цэхі.

З канца 14 ст. граматы на М. п. сталі атрымліваць гарады Беларусі: Брэст у 1390, Слуцк — 1441, Гродна — 1496, Полацк — 1498 (гл. *Полацкае права*), Мінск — 1499. У 16 ст. гэта права атрымалі многія бел. гарады і мястэчкі. Граматы на М. п. выдавалі (даравалі) вял. князі Вял. кн. Літоўскага і каралі Рэчы Паспалітай. У абодвух выпадках яна выконвала ролю прававой саслоўнай кансалідацыі гараджан, вызваляла іх ад асабістай залежнасці. Дараваныя граматы, выдадзеныя бел. гарадам, распаўсюджвалі М. п. не толькі на жыхароў горада, але і на прадмесці і сёлы, якія належалі мяшчанам. Згодна з нормамі М. п. бел. гараджане выбіралі самакіраванне — раду, якая складалася з радцаў і лаўнікаў і выбіралася з ліку купцоў, заможных майстроў, цэхмістраў, на чале стаяў выбарны бурмістр. Запісы кніг Брэста, Гродна, Полацка, Магілёва дазваляюць устанавіць сялянскую радаслоўную бурмістраў, радцаў, лаўнікаў. Нормы М. п. гарады Беларусі выкарыстоўвалі з улікам гар. ладу, які склаўся раней. «Хроніка» Быхаўца паведамляла, што яшчэ ў 12 ст. Полацк меў «вольнасці і права» склікаць веча, абмяркоўваць справы, як у Вял. Ноўгарадзе і Пскове. «Мужы», «старцы», «старшына», «дзесятнікі» як орган гар. улады ўпамінаюць крыніцы канца 14 — пач. 16 ст. ў Барысаве, Магілёве, Гродне, Мазыры, Рэчыцы, Крычаве, Мсціславе, Віцебску. Замена традыцыйных форм гар. самакіравання М. п. адбылася ў выніку ўзрослага значэння ў асяроддзі гараджан рамесна-гандлёвага слоя, вярхі якога імкнуліся ўстанавіць сваю ўладу ў горадзе, што належала раней гараджанам-землеўладальнікам. Разам з тым гар. права, якое ўзнікла ў вечавую эпоху, усё больш уступала ў супярэчнасць з самім гар. жыццём па меры таго, як гарады ператвараліся ў развітыя цэнтры дробнатаварнай вытворчасці і абмену ўнутры краіны. Але правы і функцыі органаў самакіравання ў гарадах Беларусі не ва ўсім супадалі з нормамі М. п. Так, бел. гарады не выбіралі бургграфа, а фогт (войт) быў не толькі галавой суда, але і вышэйшай судовай інстанцыяй у горадзе. Бел. гараджане не прынялі прадпісання М. п. аб перадачы пасады лаўніка па спадчыне; дзейнічаў прынцып выбрання лаўнікаў радай з адабрэння сходу гараджан. Побач з радай захавала сваё значэнне ў якасці органа самакіравання капа, копны суд. Бел. гараджане расшырылі самакіраванне, стварыўшы выбарны кантрольны орган у выглядзе камісіі «прысяглых, паспалітых». У судовай практыцы рада ў бел. гарадах апіралася не толькі на нормы М. п., але і на асабістыя нормы, адной з якіх быў «Судзебнік» («Вількер»), створаны гараджанамі Оршы. Апіраючыся на М. п., бел. гараджане вялі актыўную барацьбу з феадальным самавольствам за захаванне і развіццё гарадоў як цэнтраў эканам. жыцця і культуры. На Беларусі М. п. скасавана паводле ўказа Кацярыны II.

*Літ.:* Владимирский-Буданов М. В. Немецкое право в Польше и Литве. Спб., 1868; Юхо И. А. Правовое положение населения Белоруссии в XVI в. Мн., 1978; Копысский З. Ю. Магдебургское право в городах Белоруссии (конец XV — первая половина XVII в.) // Сов. славяноведение. 1972. № 5; яго ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Мн., 1975.

*З. Ю. Капыскі.*

**МАДЖЭ́ЎСКІ ФРЫЧ** (Modrzewski Frycz) Анджэй [1503(?)—72], польскі публіцыст, мысліцель-гуманіст, грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Кракаўскім (Ягелонскім) ун-це (1517—22). З 1547 сакратар караля Жыгімонта II. Гал. твор М. Ф.— «Аб удасканаленні дзяржавы», надрукаваны на лац. мове (кн. 1—3, Кракаў, 1551; кн. 1—5, Базель, 1554). Упершыню на польск. мове пад назвай «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» надрукаваны на Беларусі (Лоск, 1577). Пра непасрэдныя творчыя і асабістыя кантакты паміж М. Ф. і С. у гіст. крыніцах звестак няма. Але ён належаў да той жа ідэйна-культ. плыні, якая ўзнікла на Беларусі, у Польшчы і Літве ў 16 ст. і вызначалася рэнесансава-рэфармац. сутнасцю. Як і С., імкнуўся разглядаць рэліг. і сац.-паліт. праблемы з рацыяналіст. пазіцый, распрацаваць гуманіст. прынцыпы рэгулявання сац., этычных, паліт., прававых адносін. Выступаў супраць запрыгоньвання сялян і павелічэння феад. павіннасцей, абараняў інтарэсы гараджан і асабліва гар. плебсу, патрабаваў роўнасці ўсіх грамадзян перад законам, нягледзячы на іх саслоўнае становішча. Быў прыхільнікам моцнай каралеўскай улады, шырокай верацярпімасці. Яго творы мелі ярка выражаную антыклерыкальную накіраванасць, былі шырока вядомы ў 16—17 ст. сярод прагрэс. дзеячаў Беларусі і Літвы.

*С. Ф. Сокал.*

**«МАЙСЕ́Й ПЕ́РАД НАРО́ДАМ»,** «Мойсей навчае людей Ізраилевых Второга закону», гравюра тытульнага ліста да старазапаветнай кананічнай *кнігі «Другі закон»,* выдадзенай С. у Празе (1519).

Гравюра ілюструе момант, калі прарок Майсей (згодна з біблейскай версіяй), вывеўшы ізраільцян з егіпецкага рабства, прапаведуе ім адзінага бога, асновы маралі і права (т. зв. дзесяць запаведзей). У прадмовах да кн. «Выхад», «Другі закон» С., грунтуючыся на свабоднай інтэрпрэтацыі Майсеевага заканадаўства, выклаў сваю сістэму гуманіст. права і маралі, якія вынікаюць, на яго думку, з прыроджанага закону чалавечага сэрца: «То чинити иным всем, что самому любо есть от иных всех, и того не

чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети» (гл. с. 136). Дзесяць запаведзей, якія прапаведуе Майсей народу (сюжэт гравюры), С. пераклаў сілабічным вершам, пры гэтым унёс у іх істотныя змены, дапасаваўшы да свайго светапогляду і часу: 10-ю запаведзь раздзяліў на дзве; іудзейскі догмат святой суботы замяніў хрысціянскім; галоўнае — поўнасцю апусціў другую кананічную запаведзь («Не стварай сабе куміра і ніякага выяўлення таго, што на небе зверху і што на зямлі знізу, і што ў водах ніжэй зямлі, не пакланяйся і не служы ім»), накіраваную ў эпоху язычніцтва на сцвярджэнне монатэізму, але ва ўмовах 16 ст. несумяшчальную з шырокім развіццём выяўленчага мастацтва.

Кампазіцыя гравюры (105×104 мм) свядома манументалізавана з мэтай падкрэсліць значнасць адлюстраванай сцэны. На пярэднім плане злева каля дрэва — легендарны Майсей у доўгім адзенні з традыцыйнымі рагамі на галаве (адзнака сілы) стаіць перад народам, які суцэльнай масай запаўняе правую частку гравюры. Вылучаюцца тры пярэднія фігуры, якія вабяць жывым, выразным тыпажом з славянскімі рысамі твару (назіранне М. Шчакаціхіна). На іх — доўгае адзенне з шырокімі каўнярамі і вузкімі рукавамі. Паміж натоўпам і Майсеем зверху — сігнет С., падвешаны да галіны дрэва. Кампазіцыя дрэварыту простая, але выразная, майстэрская. Няма лішніх дэталяў, удала знойдзены суадносіны фігуры Майсея і людзей. Тыпаж фігур пярэдняга плана вылучаецца разнастайнасцю і жыццёвасцю. Больш схематычна вырашаны твары людзей на другім плане. Штрых разнастайны: на адзенні Майсея ў зацененых мясцінах сустракаецца перакрыжаваная штрыхоўка; усё астатняе мадэліравана паралельнымі лініямі. Сваім кампазіцыйным прынцыпам — жаданнем мастака вырашыць шматфігурную сцэну адзінай цэльнай плямай — гравюра пераклікаецца з працай *«Пераход цераз Іардан»*. У абодвух творах збліжаюцца і асобныя тыпы (напр., вобраз Майсея і рамесніка злева). Паводле меркавання Шчакаціхіна, гэта праца кампазіцыйна набліжаецца да аналагічнай працы з чэшскай Бібліі. Але гравюра С. тэхнічна больш дасканалая, штрыхоўка ў ёй больш сакавітая і каларытная.

*Літ.*: 564; 792.

*У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**МАЙХРО́ВІЧ** Сцяпан Казіміравіч (1908—81), беларускі сав. крытык і літ.-знавец. Канд. філал. н. (1959). У кн. «Георгій Скарына» (1966) папулярна выклаў асн. этапы жыцця і кнігавыдавецкай дзейнасці С., раскрыў некат. асаблівасці яго светапогляду, ахарактарызаваў С. як выдатнага асветніка-гуманіста, дзейнасць якога распачала новы этап у духоўным развіцці бел. народа.

**МАКА́РЫЙ** (Macarie; г. н. і см. невядомы), румынскі першадрукар. Некат. даследчыкі (Д. Радоічыч, Д. Медаковіч, Л. Чурчыч) атаясамліваюць яго з чарнагорскім *Макарыем*. Іншыя (В. Ягіч, П. Атанасаў) адмаўляюць гэту тоеснасць, спасылаючыся на адрозненні паліграф. тэхнікі абодвух друкароў. На думку прыхільнікаў першай версіі, у 1502 сербскі феадал І. Бранкавіч паслаў свайго брата іераманаха Максіма шукаць дапамогі ў венецыянскага дожа супраць туркаў. Бранкавічы былі братамі Лізаветы, жонкі чарнагорскага ўладара Дж. Црноевіча. Вяртаючыся ў Срэм, Максім нібыта вывез з сабою свайго пляменніка Саламона Црноевіча і друкара М. Апошні хутка перабраўся ў Валахію і тут у г. Тыргавіштэ (пaўд. Румынія) заснаваў друкарню. Першай кнігай, надрукаванай тут, стаў «Служэбнік» (10.11.1508). Кніга надрукавана ў два колеры на 128 арк. фарматам у чвэрць аркуша. У адрозненне ад чарнагорскіх выданняў радкі «Служэбніка» не выключаны (г. зн. маюць розную даўжыню). Захавалася каля 12 экз. кнігі. Другім выданнем М. ў Валахіі стаў «Актоіх», надрукаваны ў аркуш 26.8.1510. Вядома толькі 2 экз. кнігі. Трэцяе выданне М.— «Чатырох'евангелле» — выйшла ў свет 25.6.1512 на 289 арк. Захавалася не менш 16 экз. У 1526 М. перасяліўся на Афон, дзе стаў ігуменам Хіландарскага манастыра. Паміж 1526 і 1528 ён напісаў геагр. працу «Тлумачэнне», прысвечаную Дакіі (частка сучаснай Румыніі). Вядомы дакументы, якія называюць С. «сакратаром караля Дакіі» (secretarius regis Daciae). Магчыма, у гэтым выпадку ідзе гаворка пра якую-н. уплывовую асобу Валахіі або Малдавіі. Калі гэта сапраўды так, можна меркаваць, што С. засвоіў друкарскую тэхніку ў друкарні М.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**МАКА́РЫЙ** (Макарије; г. н. і см. невядомы), чарнагорскі першадрукар. Працаваў у другой (пасля кракаўскай Швайпольта Фіёля) слав. друкарні кірылаўскага шрыфту, заснаванай па ініцыятыве чарнагорскага ўладара Джурджа Црноевіча. У прадмовах надрукаваных ім кніг М. называе сябе «свяшчэннаінакам» або «свяшчэннікам мніхам» (манахам). Друкарскаму майстэрству, верагодна, вучыўся ў Венецыі. Першая кніга, надрукаваная М., «Актоіх першагалоснік» (4.1.1494). Месца друкавання ў ёй не ўказана. Фармат выдання — у аркуш. У кнізе 290 арк., якія надрукаваны ў дзве фарбы з чаргаваннем чорнага і чырвонага колераў. Мастацкая аздоба — 3 застаўкі і 4 ініцыялы, гравіраваныя на дрэве. У адной з заставак выява герба Црноевічаў. Ініцыялы выканаы белым штрыхом па чорным фоне і заключаны ў прамавугольныя рамкі. У гэтых адносінах яны блізкія да ініцыялаў пражскіх выданняў С. «Актоіх першагалоснік» надрукаваны вял. тыра-

**«Майсей перад народам».** Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Другі закон», выдадзенай Ф. Скарынай.



жом; вядома каля 69 экз. Другое выданне М.— «Актоіх пяцігалоснік» — захавалася толькі ў невял. фрагментах. Пасляслоўе і прадмова кнігі невядомы, таму выданне не можа быць дакладна датавана. У частцы, якая захавалася, 6 цэнтральнастаронкавых ілюстрацый, якія з вял. майстэрствам гравіраваны на дрэве. Трэцяе выданне М.— «Псалтыр з паследаваннем» (22.9.1495). Па зместу («Псалтыр», «Часасловец», «Акафісты і каноны», «Пасхалія») кніга блізкая да «Малой падарожнай кніжкі» С. Выданне надрукавана ў чвэрць аркуша на 348 арк. у дзве фарбы. Маст. аздоба — 4 застаўкі, адціснутыя з 3 дошак, і 223 ініцыялы, адціснутыя з 27 дошак. Частка ініцыялаў надрукавана чорным, частка — чырвоным колерам. Чаргаванне чорных і чырвоных ініцыялаў у «Часаслоўцы» (каля 1522) у С. гаворыць пра тое, што ён быў, відаць, знаёмы з выданнямі М. Захавалася больш за 20 экз. кнігі. У пасляслоўі яе ўпершыню ўказана месца друкавання — Цэтыне ў Чарнагоры. Чацвёртым выданнем М. стаў «Малітоўнік» («Трэбнік»), надрукаваны ў 1495. Захаваліся 4 няпоўныя экземпляры і фрагменты кнігі. Магчыма, што М. надрукаваў і «Чатырох'евангелле», звесткі пра якое захаваліся ў рукапісу 1548. У 1496 з-за нашэсця туркаў Црноевіч пакінуў Чарнагорыю і перасяліўся ў Венецыю. Напэўна, з ім паехаў і М.

*Літ.:* А т а н а с о в П. Начало на българското книгопечатане. София, 1959.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**МАКІЯВЕ́ЛІ** (Machiavelli) Нікала ды Бярнарда (1469—1527), італьянскі мысліцель, дзярж. дзеяч, пісьменнік эпохі Адраджэння. Асн. творы: «Разважанні на першую дэкаду Ціта Лівія» (1513, апубл. 1531), «Князь» (1513, апубл. 1532), «Гісторыя Фларэнцыі» (1520—25, апубл. 1532). Імкнуўся раскрыць законы грамадскага развіцця на аснове вывучэння рэальных сац.-паліт. працэсаў. К. Маркс аднёсіў яго да паліт. мысліцеляў, якія «сталі разглядаць дзяржаву вачыма чалавека і выводзіць яе натуральныя законы з розуму і вопыту, а не з тэалогіі» (М а р к с К., Э н г е л ь с Ф. Соч. Т. 1. С. 111). Звярнуў увагу на класавую барацьбу як рухальную сілу гісторыі. Лепшай формай дзярж. кіравання лічыў рэспубліку, але як патрыёт і прыхільнік ідэі нац. аб'яднання Італіі прызнаваў неабходнасць у канкрэтных умовах моцнай і неабмежаванай улады манарха. Выказаўся за выкарыстанне любых сродкаў — насілля, хітрасці, падману і інш. ў імя дзярж. інтарэсаў (адсюль тэрмін «макіявелізм», які азначае вызваленне палітыкі ад маралі). Быў праціўнікам каталіцкага духавенства і папскай улады. У 1559 яго творы былі занесены ў «Індэкс забароненых кніг». С. мог быць знаёмы з ідэямі і творчасцю М. Аднак С. і М. прадстаўлялі розныя плыні грамадска-паліт. думкі. С.— мысліцель і дзеяч пераважна рэфармацыйнага кірунку — сутнасць ідэалаг. і сац. пераўтварэнняў выводзіў з гуманістычна інтэрпрэтаваных біблейскіх каштоўнасцей і патрабаванняў раннехрысц. этыкі. Паліт. тэорыя М. пазбаўлена хрысц. маралізавання, яна імкнецца да тэарэт. абагульнення практыкі, пошуку натуральных заканамернасцей грамадска-паліт. развіцця.

*Тв.:* Избр. соч. М., 1982.

*Літ.:* Б у р л а ц к и й М. Ф. Загадка и урок Никколо Макиавелли. М., 1977; Д о л г о в К. Ренессанс и политическая философия Макиавелли//Новый мир. 1981. № 7—8.

*С. Ф. Сокал.*



Да арт. **Мамонічы.** «Евангелле». Мініяцюра «Евангеліст Матфей». 1575.

**«МАЛА́Я ПАДАРО́ЖНАЯ КНІ́ЖКА»,** назва, якую С. даў сукупнасці выданняў, выпушчаных ім у Вільні каля 1522. У склад «М. п. к.» ўваходзяць: *«Псалтыр», «Часасловец», «Акафіст магіле гасподняй», «Канон магіле гасподняй», «Акафіст архангелу Міхаілу», «Канон архангелу Міхаілу», «Акафіст Іаану Прадцечы», «Канон Іаану Прадцечы», «Акафіст багародзіцы», «Канон багародзіцы», «Акафіст святому Пятру і Паўлу», «Канон святому Пятру і Паўлу», «Акафіст святому Міколе», «Канон святому Міколе», «Акафіст крыжу госпадняму», «Канон крыжу госпадняму», «Акафіст Ісусу», «Канон Ісусу», «Шасціднеўец», «Канон пакаяльны», «Саборнік»*, у які ўваходзяць «Святцы» і «Пасхалія», а таксама агульнае пасляслоўе «Писаныи речи в сей Малой подорожной книжце по ряду кратце положены суть» (гл. с. 166—180). Па складу «М. п. к.» блізкая да т. зв. «Псалтыра з паследаваннем». Выданне невял. фармату, прызначана для падарожжа (адсюль і назва). С. працягваў традыцыю, пачатую Бажыдарам Вукавічам, які ў 1520 надрукаваў у Венецыі «Зборнік для падарожнікаў».

«М. п. к.». ўвёў у навук. ужытак І. *Добраўскі* ў 1796. Яму было вядома і агульнае пасляслоўе да «М. п. к.», аднак ён не раскрыў яе складу. В. С. *Сопікаў* у 1813 апісаў «Псалтыр» (лічыў самастойным выданнем, выпушчаным у Вільні каля 1525), а таксама 14 акафістаў і канонаў (лічыў цэльным выданнем — «Канонік, або Акафіснік»). П. І. *Кепен* у 1825 упершыню назваў сярод віленскіх выданняў С. «Шасціднеўец» і «Саборнік». Ен услед за Добраўскім лічыў усе кнігі, што ўваходзяць у «М. п. к.», адным выданнем. У «Храналагічным роспісе славяна-рускай бібліяграфіі» І. П. *Сахарава* (Спб., 1849) «М. п. к.» апісана пад назвай: «Псалтырь, Акафистник, Часослов, Шестоднев, Каноны, краткие святцы и Пасхалия». Сахараў падтрымліваў пункт погляду Добраўскага на тое, што ўсе гэтыя кнігі складалі адно выданне. Ен упершыню пералічыў 16 акафістаў і канонаў, увёў у навук. ўжытак акафіст і канон Ісусу, якіх Сопікаў не ведаў. І. П. *Каратаеў* у «Храналагічным роспісе славянскіх кніг, надрукаваных кірылаўскімі літарамі 1491—1730» (Спб., 1861) апісаў «М. п. к.» ўслед за Сахаравым як «Псалтырь, Часословец, Акафистник, Шестодневец, Каноны, краткие Святцы и Пасхалия». Аднак ужо ў 1878 у «Апісанні славяна-рускіх кніг, надрукаваных кірылаўскімі літарамі» Каратаеў вынес у назву словы «Малая падарожная кніжыца». Адным выданнем лічыў «М. п. к.» і П. У. *Уладзіміраў*. Гэты пункт погляду панаваў у гістарыяграфіі ў 2-й пал. 19—1-й пал. 20 ст. У 1968 Я. Л. *Неміроўскі* ў арт. «Славянскія інкунабулы і палеатыпы кірылаўскага шрыфту ў кнігасховішчах Савецкага Саюза» (Сов. славяноведение. 1968. № 1) апісаў часткі «М. п. к.» як асобныя выданні. Кожная з гэтых невялікіх кніжак мае асобную фаліяцыю, выхадныя звесткі, а часта і ўласны тытульны ліст. Прынцыпы афармлення асобных частак «М. п. к.» розныя, таму можна лічыць іх асобнымі выданнямі, таксама як і раздзелы «Бібліі», выпушчаныя С. у Празе ў 1517—19. Пункт погляду Неміроўскага ў 1969 падтрымаў А. Ф. *Коршунаў*. Раней «М. п. к.» датавалі каля 1525, лічылі, што яна выйшла ў свет пасля віленскага «Апостала» 1525. Знаходка ў Капенгагене экземпляра поўнай «Пасхаліі» дазволіла ўдакладніць дату — каля 1522. Да апошняга часу ў л-ры сукупнасць выданняў называлі «Малая падарожная кніжыца». У 1975 Я. Дз. *Ісаевіч* указаў, што ў пасляслоўі да «М. п. к.» — «в сей малой подорожной книжце...» «книжце» форма меснага склону ад слова «книжка», а не «книжица». Таму правільная назва — «Малая падарожная кніжка». Асобныя часткі «М. п. к.» захаваліся ў рознай колькасці экземпляраў. Часцей за інш. сустракаюцца «Псалтыр» і «Часасловец» (па 9 экз.). Самыя рэдкія «Канон пакаяльны» (2 экз.), «Саборнік» і «Шасціднеўец» (па 4 экз.). «Пасхалія» як састаўная частка «Саборніка» захавалася толькі ў капенгагенскім экземпляры «М. п. к.».

*Літ.:* 69; 136; 664. *Я. Л. Неміроўскі.*

**МА́ЛЬДЗІС** Адам Іосіфавіч (н. 1932), беларускі сав. літаратуразнавец і крытык. Доктар філал. н. (1987). Лаўрэат Дзярж. прэміі БССР імя Я. Коласа (1980). Супрацоўнік Ін-та л-ры імя Янкі Купалы АН БССР. Даследуе бел. л-ру і культуру 17—20 ст., бел.-польск. і бел.-літ. культ. ўзаемасувязі. Высокую ацэнку даў асвятленню аўтарамі сац. і філас. поглядаў С., мовы яго выданняў і інш. ў рэцэнзіях «Скарына як мысліцель» (ЛіМ. 1981. 18 вер.) на кн. С. А. Падокшына «Францыск Скарына» (М., 1981), «У слаўным месце Віленскім» (ЛіМ. 1982. 2 крас.) на зб. «Кнігазнаўства» [Вільнюс, 1979, № 7(14)], прысвечаны навук. канферэнцыі ў Вільнюсе ў 1975 пра пачатак кнігадрукавання ў Літве і Беларусі. Па вы-

ніках навук. камандзіроўкі ў Англію і знаёмства з яе б-камі і архівамі ў нарысе «Оксфардскі тыдзень» (ЛіМ. 1983. 3 чэрв.— 1 ліп.) апублікаваў малавядомыя матэрыялы пра англ. Скарыніяну. Удзельнік *Скарынінскіх чытанняў*. Займаўся даследаваннем тэмы «Скарына і Літва». *В. А. Чамярыцкі.*

**МАМО́НІЧЫ,** выдаўцы і грамадскія дзеячы Вял. кн. Літоўскага, пры доме якіх у 1574—1623 у Вільні існавала друкарня (засн. П. *Мсціславец* на сродкі Мамонічаў). Друкарня М. мела важнае грамадскае і культ. значэнне ў жыцці Беларусі, адыграла прыкметную ролю ў справе асветы, у далейшым развіцці бел. кнігадрукавання. М. ўслед за С. выпускалі кнігі, прызначаныя для навучання і свецкага чытання, садзейнічалі пашырэнню пісьменнасці, бел. мовы сярод суайчыннікаў, росту міжнародных культ. узаемасувязей.

Пры Мсціслаўцу былі надрукаваны «Часоўнік» [1574—76 (?)], «Евангелле» (1575), «Псалтыр» (1576). У 1576 друкарня спыніла дзейнасць, у 1583 адноўлена. Узначальвалі і ўдзельнічалі ў рабоце друкарні: М. Кузьма Іванавіч і яго брат Лукаш, Лявон Кузьміч. З М., магчыма, супрацоўнічаў віленскі друкар Васіль Гарабурда, які выпусціў у пач. 1580-х г. некалькі выданняў. У мяст. Павільна (каля Вільні) М. мелі «папяровы млын». Друкарня ўлічвала запатрабаванні і культ. традыцыі розных пластоў насельніцтва. Большая частка выданняў да Брэсцкай уніі 1596 прызначалася на патрэбы правасл. брацтваў, іх школ, царквы, гараджан. Гандл. сувязі М. з Украінай, Рус. дзяржавай, Польшчай скарыстоўваліся для кніжнага ўзаемаабмену. Выпускаліся багаслоўскія і літургічныя выданні, кнігі для чытання, публіцыст. творы, падручнікі («Граматыка славянская», 1586, «Дыялектыка», каля 1586, «Буквар», 1590-я г., 1618, 1621). Друкавала зборнікі заканадаўчых актаў, выданні прававога характару — Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 (некалькі выданняў кірыліцай, 1614, на польск. мове), «Трыбунал абавателям Вялікага княства Літоўскага» (1586), канстытуцыі «вальных» сеймаў, шэраг палемічных твораў у абарону уніі, гал. ч. напісаных І. Пацеем. Усяго друкарня да 1623 выпусціла каля 85 выданняў на царк.-слав., старабел., лац. і польск. мовах. Кнігі адметныя высокім паліграф. і мастацка-арнаментальным афармленнем. Упершыню ўжыты зроблены бел. мастаком і гравёрам Грынем Івановічам курсіўныя шрыфты, якія пераймалі графіку канцылярскага пісьма. Скарыстоўваліся свецкія гравюры (партрэт Л. Сапегі, сейм Рэчы Паспалітай, гербы і інш.). Друкарскія матэрыялы М. часткова перайшлі ва ўласнасць Віленскай Троіцкай друкарні.

*Літ.:* 19; Зернова А. С. Типография Мамоничей в Вильне//Книга: Исслед. и материалы. М., 1959. Сб. 1. *Г. Я. Галенчанка.*

**МАНАГРА́МА** (лац. monogramma ад грэч. mónos адзін, адзіны+grámma рыса, літара, напісанне), знак, які складаецца з адной або дзвюх злучаных паміж сабою, пастаўленых побач або пераплеценых адна з другою пачатковых літар імя і прозвішча або са скарачэння цэлага імя. Часцей за ўсё сустракаецца на творах мастацтва замест подпісу, часам мастак замяняе яе сімвалічным знакам — сігнетам.

Як адзін з відаў *сігнатуры* М. выкарыстоўвалася выдаўцамі, друкарамі. Вядома са стараж. часоў. З 15 ст. па́пы, каралі і інш. тытулаваныя асобы замацоўвалі свае граматы пячаткамі з М. (вензелі, маркі). М. замянялі асабістыя подпісы на дакументах, пісьмах, уключаліся ў кампазіцыю фамільных гербаў. Скарочаныя надпісы — М.— з даўніх часоў змяшчаліся на абразах, некат. прадметах царк. ўжытку. Па-мастацку выкананыя


Понеже оубо мнѡзи начаша чинити повѣсть ѡ извѣстованных в нас вещех, якоже предаша нам иже испервА самовидцы и слоугы бывшей словеси. изволисѧ и мнѣ послѣдо

Да арт. **Мамонічы.** Старонка з «Евангелля». Вільна. 1600.

Да арт. **Мамонічы.** «Граматыка». Тытульны ліст. Вільна. 1621.


ГРАММАТІКА.
Албо,
Сложенїе Писмена, хотѧ
чимъсѧ оучити Словень-
скаго Ѧзыка. Младолѣтным
Отрочатомъ.

В Вилни, Рокꙋ, а. х. ка.

М. служылі не толькі сведчаннем аўтарства або асабістай прыналежнасці твора ці дакумента, але нярэдка і элементам аздаблення. Выкарыстоўваліся як арнаментальны матыў у архітэктуры, асабліва палацавай. Да нашага часу шырока выкарыстоўваецца ў аздобе ювелірных вырабаў, касцюма, розных аксесуараў, прадметаў асабістага ўжытку (гравіроўка, вышыўка, аплікацыя і інш.). У сярэдневяковым заходнееўрап. мастацтве М. ўжывалася параўнальна рэдка, у эпоху Адраджэння была шырока распаўсюджана, змяшчалася ў маст. творы на відным месцы, падкрэсліваючы не толькі аўтарства, але і творчую індывідуальнасць мастака (сусветна вядомая А. Дзюрэра).

У выданнях С. побач з яго сігнетам (выявы сонца і месяца) сустракаюцца пакуль канчаткова не расшыфраваныя М., незразумелыя *знакі:* [знак] і [знак]. На партрэце С. ў «Бібліі» ёсць нерасшыфраваная М. з літар «М», «З» — [знак], змешчаная побач з подпісам бел. вяззю «Доктор Франциско Скорина». У. В. Стасаў пісаў: «...на тым жа месцы стаіць манаграма, складзеная з літар М і З, якая яўна вызначае гравёра. Значэнне яе пакуль што застаецца загадкай. Магчыма, яна мае прамыя адносіны да асобы Скарыны або стваральніка малюнкаў» (Справаздача аб сёмым прысуджэнні ўзнагарод графа Уварава... Спб., 1864. С. 31, на рус. мове). Л. Баразна ў 1972 пісаў, што гэта пачатковыя літары слоў «маляванне зделал» або «малявання зиждитель» (стваральнік), а М., пастаўленую побач з подпісам С., расшыфроўвае як: «маляванне зделал доктар Франциско Скорина» або «малевания зиждитель доктар Франциско Скорина» (гл.: Гравюры Францыска Скарыны, 1972. С. 133—134). Аднак гэту расшыфроўку нельга лічыць канчатковай. Магчыма, М. трэба чытаць не «МЗ» (як дагэтуль чыталі яе даследчыкі), а «МТЗ» (літара «Т» утворана вертыкальным адгалінаваннем пасярэдзіне гарызантальнага штрыха, які перасякае «М», і выразнай засечкай на правым канцы гэтага штрыха). У гісторыі еўрап. гравюры М. з такім, як у С., малюнкам літар «МЗ» (і, відаць, «Т») не існуе. Не выключана, што М. кірылаўская, бо ўсе астатнія подпісы на партрэце С. (дата «1517», вязь «Доктор Франциско Скорино») дадзены кірыліцай. У кн. «Царствы» М. (як і выява пчалы) зрэзана. Апошняе дае падставы меркаваць, што яна належыць гравёру, г. зн. рэзчыку партрэта С. (манаграмісту), а не яго мастаку-малявальшчыку. Апрача партрэта С., ён, магчыма, выканаў шэраг манументальных дрэварытаў: *«Юдзіф і Алаферн», «Плач Ераміі», «Самсон і леў», «Эсфір перад Асферам»* і інш. Усе яны адзначаны друкарскім сігнетам С.— выявай сонца і месяца, што сцвярджае аўтарскія правы С. на гэтыя творы (нават калі ён не прымаў асабістага ўдзелу ў выкананні, а запрасіў да сябе манаграміста ці заказаў яму ілюстрацыі). Выявы людзей у гэтых гравюрах скрозь дадзены буйным планам, манументалізаваны (апошняе нярэдка звязана з гераізацыяй біблейскіх персанажаў), як бы набліжаны да гледача. Манера гравіроўкі каларытная, сакавітая, дэкаратыў-

ная. Аўтар спалучаў кароткія, паўкруглыя штрыхі (гэтым прыёмам ён дасягаў аб'ёмнасці формы) з доўгімі паралельнымі лініямі («Юдзіф і Алаферн» і інш.), радзей ужываў перакрыжную штрыхоўку. Штрыхі на гравюрах пакладзены энергічна, выразна, смела, што сведчыць пра ўпэўненае майстэрства рэзчыка (гл. *Мастацкае афармленне кніг Ф. Скарыны*).

Імя манаграміста застаецца невядомым. Дз. *Равінскі* меркаваў, што М. належыць ням. гравёрам М. Цагелю ці М. Цазінгеру. Пачынаючы з 18 ст. даследчыкі адносілі М. да двух або трох майстроў. І. Хрыстэн у кн. «Паказальнік і тлумачэнне манаграм» (на ням. мове) выказаў меркаванне, што гатычная літара «М» і «З» належалі Цазінгеру, М. Цагелю, М. Цынку. Пазней Г. Наглер, І. Гэлер, А. Андэрсен і інш. лічылі, што Цагель і Цазінгер — адна асоба (гравёр ці ювелір). Другога майстра, які падпісваўся MZ, называлі Мацеем Цынкам. На думку І. Пасавана, М. належыць двум майстрам: старэйшы з іх працаваў у Нюрнбергу, гэта мог быць Цазінгер, а маладзейшы — Цагель — жыў у Мюнхене; яму і прыпісваў Пасаван аўтарства дзвюх гравюр, якія аднесены да 1500, 1501. М. *Шчакаціхін* лічыў, што імёны Цазінгера і Цагеля ўзяты выпадкова. Малюнак літар на партрэце С. не падобны на М. названых вышэй гравёраў, якія былі майстрамі медзярыту, а не ксілаграфіі. На працах Цазінгера, Цагеля, Цынка літары М і З дадзены асобна, у С. яны злучаны. На думку Шчакаціхіна, праўдападобна было б дапусціць, што быў яшчэ адзін манагаміст, які працаваў каля 1517 у Празе і хутчэй за ўсё быў чэшскім гравёрам, імя якога пакуль не вызначана. Але ў чэшскай кніжнай графіцы М. [монаграма] не зафіксавана. Баразна лічыў С. адзіным аўтарам усіх гравюр і заставак у яго кнігах. Але М. награвіравана не побач з подпісам, а асобна, розная і гарнітура шрыфтоў (подпіс дадзены вяззю), што не дазваляе звязваць М. з подпісам. Пасля прац А. Ленца і М. Мойзера можна ўпэўнена сцвярджаць, што М. на партрэце С. да згаданых ням. гравёраў ніякіх адносін не мае; яе ўладальнікам мог быць адзін з славянскіх памочнікаў С., выхаваны на традыцыях зах.-еўрап. гравюры.

*Літ.:* 69; 789; 792; Lenz A. Der Meister M Z, ein Münchener Kupferstecher der fruher Dürerzeit (Inaugural-Dissertation), Gießen, 1972; Mojzer M. Um. Meister M Z//Acta Historiae Artium. Budapest. 1975. T. 21, fasc. 3—4; 1981. T. 27. fasc. 3—4.

*В. Н. Дышыневіч, М. І. Ткачэнка, В. Ф. Шматаў.*

**МА́НЕРТ** Конрад (1756—1834), нямецкі гісторык і лінгвіст. У 1796—1803 выкладаў усходнія мовы ва ун-це г. Альтдорфа, з 1805— прафесар гісторыі Вюрцбургскага ун-та ў Германіі. У асабістай б-цы М. знаходзіўся найб. поўны экземпляр «Малой падарожнай кніжкі» С. У 1822 з гэтым экземплярам пазнаёміўся рус. вучоны П. І. *Кепен*, які ўвёў яго ў навук. ўжытак у 1825 на старонках час. «Библиографические листы». Сучаснае месцазнаходжанне экз. невядома.

**МАНУ́ЦЫЙ** (лац. Manutius італьян. Manuzio) Альд Старэйшы (каля 1450—6.2.1515), італьянскі выдавец і друкар, вучоны-гуманіст. Каля 1490 пасяліўся ў Венецыі, аб'яднаў вакол сябе знаўцаў грэч. мовы і пачаў рыхтаваць выданні стараж.-грэч. аўтараў. У 1494 заснаваў выдавецтва, якое існавала амаль 100 гадоў і выпусціла больш за 150 выданняў. Найбуйнейшае з іх — творы Арыстоцеля ў 5 фаліянтах (1495—98). Выдаваў творы Арыстафана, Фукідыда, Сафокла, Герадота, Ксенафонта, Эўрыпіда, Дэмасфена, Плутарха, Платона, пісьмы грэч. філосафаў і інш. У 1499 выдаў «Вайну сна і кахання» («Hypnerotomachia», прыпісваюць Франчэску Калону) — шэдэўр кнігадрукарскага мастацтва, у якім шматлікія гравюры на дрэве і прыгожыя шрыфты (антыква) утвараюць гарманічнае адзінства. З 1501 выпускаў зборы рымскіх класікаў фарматам у 1/8 аркуша, упершыню надрукаваныя курсівам — выразным і ёмістым шрыфтам. Выдаваў і творы сучаснікаў (Эразма Ратэрдамскага і інш.). Яго выданні з фірменным знакам (дэльфін абвівае якар) называюцца альдзінамі. У 1500 заснаваў «Новую акадэмію» (па прыкладу Платонаўскай), члены якой збіралі і вывучалі рукапісы антычных аўтараў, рыхтавалі іх да друку. Справу М. працягвалі яго цесць, сын Паола М. (1512—74) і ўнук Альд М. Малодшы (1547—97). Даследчыкі (А. *Сідараў* і інш.) мяркуюць, што ў перыяд вучобы ў Падуанскім ун-це С. наведаў Венецыю (Падуя ўваходзіла ў Венецыянскую рэспубліку), дзе мог пазнаёміцца з дзейнасцю «Новай акадэміі». Рыхтуючыся да кнігавыдавецкай дзейнасці, С. не мог не ведаць пра славутыя альдзіны. Пра гэта сведчыць пэўная тоеснасць паліграфічна-маст. прынцыпаў выданняў С. (перш за ўсё віленскіх) з кнігамі М. Так, «Апостал» (1525) надрукаваны фарматам у 1/8 аркуша, характэрным для альдзін. Дасканаласць друку і дэкаратыўна-прасторавай арганізацыі «Апостала» С., які, падобна большасці кніг М., пазбаўлены фігурных гравюр, таксама набліжае яго да выданняў М. Відавочна, да іх узыходзяць і асобныя тытульныя лісты «Малой падарожнай кніжкі», што выдавалася асобнымі выпускамі. Напр., тытулы «Акафіста архангелу Міхаілу», «Канона багародзіцы», «Акафіста святому Міколе» і «Акафіста крыжу гасподняму» скампанаваны ў форме трохвугольніка (6 радкоў тэксту, якія звужаюцца ўнізе і заканчваюцца матывамі наборнага арнаменту). Такая форма тытула, уласцівая рацыяналістычнай эстэтыцы Адраджэння, з макс. эканомнасцю маст. сродкаў, характэрна для выданняў М.


А. Мануцый. Гравюра. 19 ст.

*Літ.:* Лазурский В. В. Альд и альдины. М., 1977. *В. Ф. Шматаў.*

**МА́РАЧКІН** Аляксей Антонавіч (н. 1940), беларускі сав. жывапісец. Аўтар карціны «Пачатак. Францыск Скарына» (1978, 212×150 см, Рэсп. музей атэізму і гісторыі рэлігіі, г. Гродна). Мастак стварыў вобраз першадрукара — мужнага, духоўна багатага, упэўненага ў неабмежаваных магчымасцях людзей, азоранага ідэямі Рэнесанса. Вобразная кампазіцыя, колеравая гама карціны актыўна ўдзельнічаюць у раскрыцці яе зместу. У цэнтры палатна — фігура С. ва ўвесь рост з разгорнутай кнігай, якая нібы выступае з глыбокай карычнева-фіялетавай цемры начнога пейзажу, месцамі разарванага светла-залацістымі, вохрыстымі, сіне-зеленаватымі промнямі, што ствараюць пачуццё ўрачыстасці, прыўзнятасці. На заднім плане дахі камяніц і сабораў стараж. Полацка. Скрозь калючыя абрысы хмар выглядаюць сонца і месяц, якія ў сваім спалучэнні нагадваюць кніжны знак-сімвал С. Жывапіснымі і пластычнымі сродкамі аўтар перадае прыцягальную моц індывідуальнасці асветніка, паказвае веліч яго дзейнасці. У 1983 стварыў дыван «Францыск Скарына» (палатно, алей, 125×150 см, уласнасць аўтара). *Я. Ф. Шунейка.*

**МАРГАРЫ́ТА** (Малгажата; г. н. невяд.—1529), жонка С. Удава члена Віленскай рады Юрыя *Адверніка.* Выйшла замуж за С., відаць, пасля 1525. Валодала ў Вільні пэўнай нерухомай і рухомай маёмасцю (з дакументаў 1529 вядома, што з-за спадчыны М. са С. судзіліся яе родзічы). Нашчадкам маёмасці быў сын С. Сімяон Скарына. Па пазнанскаму акту ад 23.10.1529, у якім паведамляецца пра падзел у Познані спадчыны бра́та С. Івана, можна меркаваць, што М. ўкладвала грашовыя сродкі ў камерцыйныя справы Івана.

*Літ.:* 69. *В. У. Чапко.*

**МА́РКГРАФ,** дырэктар вроцлаўскай гар. бібліятэкі (ПНР). У канцы 19 ст. ў гар. б-цы, у пераплёце кнігі «Liber procuratorium» («Кніга кіраўніка справамі»), дзе вяліся запісы за 1535, знайшоў некалькі аркушаў з 8 розных пражскіх выданняў С. (кн. «Выхад», 1-я і 4-я кн. «Царствы», «Еклесіяст» і інш.). Некат. скарынінскія аркушы былі ў двух і больш экземплярах. Як гэтыя аркушы апынуліся ў вроцлаўскага пераплётчыка, невядома.

*Літ.:* 68.

**МАРТЭ́ЛЬ** (Martel) Антуан (1899—1931), французскі славяназнаўца. Быў выкладчыкам рус. і польск. моў і л-р філал. ф-та Лільскага ун-та. У манаграфіі «Польская мова на Украіне і Беларусі. 1569—1667» (выд. 1938) прааналізаваў прадмовы і пасляслоўі С., вытрымкі з якіх падаў паралельна ў франц. перакладзе і ў арыгінале. Адзначыў дэмакр. характар выдавецкай дзейнасці С. для

«люду посполитого». Падкрэсліў ролю С. ў фарміраванні нац. свядомасці ўсх.-слав. народаў, а таксама свецкую накіраванасць яго «Біблії», суаднесенай з *«сям'ю вольнымі мастацтвамі»*. Падкрэсліў станоўчы ўплыў С. на далейшае развіццё бел. л-ры, спаслаўшыся для прыкладу на стыліст. сугучнасць у прадмовах кніг С. і Сымона *Буднага*. Падзяляў думку А. І. *Сабалеўскага* адносна мовы выданняў С. *А. К. Кайко.*

**МÁРЫКС** Аскар Пятровіч (1890—1976), беларускі сав. мастак тэатра, графік, педагог, майстар дэкар. мастацтва. Нар. мастак БССР (1961). Аўтар партрэта «Ф. Скарына ў друкарні ў Вільні» (1966, гуаш, пастэль, 56×68 см; Рэсп. музей атэізму і гісторыі рэлігіі, г. Гродна), выкананых у металe работ: «Францыск Скарына» (1969, чаканка, 123×87 см; Дзярж. музей БССР); «Францыск Скарына» (1968, металапластыка, 110×50 см; Полацкая карцінная галерэя) і эскізаў да іх. У сваіх творах М. падкрэсліў гуманнасць, дабрыню С., своеасаблівa адлюстраваў у кампазіцыі чаканкі яго вандраванне па гарадах Еўропы.

**МÁСКВА**, сталіца Рускай цэнтралізаванай дзяржавы (зараз сталіца СССР і РСФСР, цэнтр Маскоўскай вобл.). Размешчана на р. Масква, у міжрэччы Волгі і Акі. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1147. Заснавальнік князь Юрый Далгарукі. У 13 ст. цэнтр Маскоўскага ўдзельнага княства, у пачатку 14 ст. сталіца Маскоўскага вял. княства — аднаго з магутнейшых княстваў Паўночна-Усходняй Русі. У канцы 15 ст. пры вял. князі Іване III М. стала сталіцай Рус. цэнтралізаванай дзяржавы.

У канцы 15 — пачатку 16 ст. ў М. пабудаваны новы Крэмль, які ў сваёй аснове збярогся да нашых дзён. На яго тэрыторыі былі ўзведзены Благавешчанскі сабор (1487—89), Гранавітая палата (1487—91), Архангельскі сабор (1505—09) і інш. Для абароны М. ў 16 ст. была створана сістэма кальцавых абарончых збудаванняў, у якія ўваходзілі земляны вал, сцяна Белага горада і Кітайгародская сцяна. Подступы да горада прыкрывалі раней узведзеныя манастыры-крэпасці: з ПдЗ — Новадзявочы, з Пд — Данскі і Данілаўскі, з ПдУ — Наваспаскі і Сіманаў, з У — Андронікаў. Кольцападобныя сцены Белага і Землянога гарадоў перасякаліся радыяльнымі вуліцамі, якія цягнуліся ад цэнтра М. да яе ўскраін.

У пач. 16 ст. М. была важнейшым эканам. і культ. цэнтрам Расіі. Вырабы маскоўскіх рамеснікаў былі вядомы далёка за межамі горада. Асаблівa высокага развіцця і дасканаласці дасягнула вытворчасць зброі, тканіны, скураных, ганчарных і ювелірных вырабаў, будаўнічая справа. М. была таксама буйным гандл. цэнтрам. Сюды з усіх канцоў Рус. дзяржавы і з-за мяжы прывозілі правізію, сыравіну, рамесныя вырабы. Развіццё таварна-грашовых адносін вяло да маёмаснага расслаення пасадскага насельніцтва М. У сярэдзіне 16 ст. яно падзялялася на тры групы: гасцей, пасадскіх людзей і чорных гарадскіх людзей. М. была важнейшым цэнтрам фарміравання і развіцця агульнарус. нац. культуры, дзе жылі і працавалі вучоныя, пісьменнікі і мастакі. У 1550—70-я г. на падставе летапісаў быў створаны Маскоўскі асабовы звод — своеасаблівая гісторыя чалавецтва ад «стварэння свету»; вял. калектыўныя творы: «Дамастрой», «Стоглаў», «Вялікія Чэцці-Мінеі». Значнага ўзроўню дасягнула майстэрства дойлідаў. У М. зарадзілася рус. кнігадрукаванне. У 1564 Іван *Фёдараў* і яго паплечнік Пётр *Мсціславец* выдалі «Апостал» — першую дакладна датаваную рус. друкаваную кнігу. Эканам. і культ. ўзмацненне М. суправаджалася пераўтварэннем яе ў адзін з самых буйных гарадоў Еўропы (у пач. 16 ст. каля 100 тыс. жыхароў), які выконваў важную ролю ў міжнар. адносінах еўрап. краін. Сюды прыязджалі паслы з Германіі, Венгрыі, Італіі, Польшчы і інш. краін.

Да 1930-х г. у *скарыназнаўстве* выказвалася сумненне аб наяўнасці сувязей С. з М. з прычыны «ерэтычнай» рэпутацыі літоўска-рускіх выданняў на Маскоўскай Русі. Тым не менш цяжка ўявіць, што скарынінскія «Псалтыр» (1517) і «Апостал» (1525), якія мелі шырокі попыт сярод правасл. насельніцтва, не маглі зацікавіць маскоўскага чытача. Упершыню пытанне аб магчымых сувязях С. з М. узняў у 1938 у Цюрыху А. В. *Флароўскі* на сходзе федэрацыі гіст. аб'яднанняў Усх. Еўропы і слав. земляў. Ён звярнуў увагу на тое, што выданні С. ў 16—17 ст. былі шырока вядомы на Маскоўскай Русі, у якіх нават стараабрадцы знаходзілі падтрымку некат. сваіх сцвярджэнняў. На аснове маскоўскіх крыніц Флароўскі абгрунтаваў магчымасць выкарыстання С. і яго бел. фундатарамі маскоўскага рынку для сваіх выданняў. Пасля 1525



А. Марачкін. Пачатак. Францыск Скарына. 1978.



А. Марыкс. Ф. Скарына ў друкарні ў Вільні. 1966.

М. наведваў саўдзельнік кніжнага прадпрыемства С. Багдан *Онкаў.* Разам з вырашэннем сваіх фінансавых спраў, як лічыць Флароўскі, Онкаў цікавіўся магчымасцю збыту царк. друкаваных кніг у маскоўскім асяроддзі. Такімі кнігамі на той час маглі быць толькі выданні С. Гэтаму сцвярджэнню не пярэчыць той факт, што ў 1862 аўстрыйскі гісторык і архівіст І. Фідлер у выданні Венскай АН апублікаваў тэкст Інструкцыі караля Жыгімонта II Аўгуста польскаму паслу ў Рым, датаванай 1552, дзе значыцца, што «... пры панаванні нашага божага бацькі нейкі яго падданы, кіруючыся набожным жаданнем і вырашыўшы надрукаваць і выдаць на рускай мове святое пісанне, прыбыў да масквіцян, гэтыя кнігі былі публічна па загаду князя спалены, таму што былі выдадзены падданым рымскай царквы і ў месцах, якія падлягаюць яе ўладзе» (гл. Дакументы пра Ф. Скарыну, № 44). На думку Флароўскага, тут ідзе гаворка менавіта пра С., бо толькі ён, будучы падданым Жыгімонта I Старога, друкаваў Свяшчэннае пісанне па-руску. Такая ж думка была выказана і гісторыкам-славістам І. Первольфам (1886). Як сцвярджае Флароўскі, гэтыя падзеі цяжка суадносіць з якім-н. эпізодам з гісторыі ўласна маскоўскага кнігадрукавання, якое пачынаецца толькі ў другой пал. 16 ст. Усё гэта дае падставу меркаваць, што С. спрабаваў выкарыстаць маскоўскі кніжны рынак для збыту сваіх выданняў і што менавіта яго кнігі, як «ерэтычныя», маглі быць аддадзены агню. Адсутнасць імя С. ў інструкцыі Жыгімонта II 1552 не дазваляе катэгарычна сцвярджаць, што гэта быў менавіта С., але і не выключае такой магчымасці.

*Літ.:* 212; 312; 313; 323; История Москвы. Т. 1. М., 1952. *С. В. Кузьмін.*

**МАСТА́ЦКАЕ АФАРМЛЕ́ННЕ КНІГ Ф. СКАРЫ́НЫ.** Выданні С. вылучаюцца высокай маст. дасканаласцю і адметным, своеасаблівым афармленнем. Паводле майстэрства ілюстрацый і графічнаарнаментальных аздоб (гл. *Ілюстрацыі ў выданнях Ф. Скарыны* і *Графічная арнаментыка выданняў Ф. Скарыны*), іх змястоўнасці, функцыянальнасці і эстэт. вартасцей, а таксама вырашэння праблем маст. канструявання кнігі, арганізацыі яе зместу ў зрокава-выяўленчых вобразах, па зручнасці ў карыстанні і асобным непаўторным эмацыянальным ладзе гэтыя выданні былі новым важным этапам у развіцці не толькі бел. і ўсх.-слав., але і сусв. мастацтва кірыліцкай кнігі ў цэлым. У творчым вырашэнні праблем яе афармлення С. выступіў сапраўдным наватарам, стварыў яркія, шмат у чым неперaўзыдзеныя ўзоры кнігі, «славянскія Эльзевіры» (У. Стасаў).

Для афармлення кніг папярэднікаў С. (Швайпольта Фіёля і Макарыя) у асн. характэрна перайманне рукапіснага стылю (ініцыялы і застаўкі капіруюць аздобы рукапісаў). Ілюстрацыі, фігурныя гравюры выкарыстаны ў іх абмежавана («Распяцце», герб Кракава ў «Актоіху» Фіёля, 1491; выявы святых у «Актоіху першагалосніку» Макарыя, 1494). Прататыпы і аналагі арнаментыкі і асобных ілюстрацый «Бібліі», «Малой падарожнай кніжкі», «Апостала» сустракаюцца ў італьян. (венецыянскіх) і ням. (нюрнбергскіх) выданнях, у працах А. *Дзюрэра,* М. *Вольгемута,* І. *Мекенема* і інш. У меншай ступені крыніцай узораў для афармлення выданняў С. служылі візантыйска-слав. рукапісы, але недаацэньваць іх уздзеяння нельга, бо менавіта з рукапісаў бярэ пачатак асн. кампанент мастацтва кніг С.— арыгінальны кірылаўскі шрыфт, стылізаваная вязь на партрэце, форма і функцыянальнае прызначэнне заставак. У агульным сэнсава-эмацыянальным ладзе вонкавага выгляду кніг С. дамінуе кірыліца. Узяўшы за аснову прамавугольную «рукапісную» форму заставак, С. напоўніў іх узорамі і матывамі рэнесансавага характару. Але С. не механічна скапіраваў заходнюю тэхніку друку, гравюры і афармлення кніг — дасягненні сваіх папярэднікаў ён творча пераасэнсаваў і падпарадкаваў мэтам і задачам слав. друкарства. Актыўны зварот да выкарыстання гэтых узораў быў прадыктаваны імкненнем С. ўзняць кірыліцкае друкарства на ўзровень сусв. дасягненняў. Наватарскія рысы маст. афармлення выданняў С. звязаны з усведамленнем новай грамадскай сутнасці друкаванай кнігі як сродку асветы, ідэйнага ўзбагачэння чалавека. Старадрукі яго кірылаўскіх папярэднікаў прызначаліся ў асн. для патрэб царквы. С. першы ў слав. свеце адкрыта загаварыў пра асв. ролю друкаванай кнігі, прызначанай «познати мудрость и науку», «умети граматику или, по-руски говорячи, грамоту» (гл. с. 36, 10). Асв. характар кнігавыдавецкай дзейнасці С., які ярка выступае на фоне ранняга кірыліцкага друкарства, прыкметна адбіўся на вонкавым выглядзе яго выданняў, патрабаваў іх дэмакратызацыі, свецкага прызначэння гравюр, неабходных дзеля таго, «абы братия моя Русь, люди посполитые, чтучи могли лепей разумети» (гл. с. 77). С. першы ў кірыліцкім друкарстве выкарыстаў ілюстрацыю як сродак арганізацыі зместу кнігі ў маст. вобразах. Функцыянальнае, ідэйна-сэнсавае, а не чыста дэкаратыўнае прызначэнне маюць шматлікія аздобы яго кніг і нават колер. Упершыню ў кірыліцкім друкарстве С. ўвёў тытульны ліст (да ўсёй «Бібліі» і да кожнай асобнай кнігі), ілюстрацыі на тэмы Старога запавету, наборную арнаментыку, рэнесансавыя *застаўкі, віньеткі, ініцыялы,* даў дакладную фаліяцыю. «Біблія» выдадзена фарматам у $^{1}/_{4}$ долю аркуша чорнай фарбай, за выключэннем агульнага тытула і кн. «Песня песням», якія надрукаваны чырвонай і чорнай. Выкарыстанне ў апошняй чырвонага колеру прадыктавана мэтай лепш арыентавацца ў змесце, вылучыць у ім галоўнае (пра гэта піша С. ў прадмове); разам з тым двухколер-



Герб **Масквы.** 16 ст

План **Масквы.** Гравюра з кн. «Запіскі пра маскоўскія справы» С. Герберштэйна 16 ст.



насць узмацняе эмацыянальнае ўздзеянне стараж. паэмы пра каханне, сведчыць аб тонкім разуменні С. спецыфікі колеру і кніжнага афармлення ў цэлым. У Празе ў сваім першым выданні — *«Псалтыры» 1517* С. выкарыстаў паперу высокай якасці; астатнія кнігі «Бібліі» (акрамя 1 экз. кн. «Ісус Сірахаў») надрукаваны на нізкасортнай паперы без вадзяных знакаў. У віленскіх выданнях зноў выкарыстана высакаякасная, фірменная папера (гл. ў арт. *Папера*). У шрыфце «Бібліі», створаным на аснове бел. рукапісаў (гл. *Рукапісная справа* на Беларусі) у малюнках асобных літар адчуваецца ўздзеянне рэнесансавай *антыквы.* С. не проста пераняў рукапісны паўустаў, а мадыфікаваў свой шрыфт адпаведна друкарскаму мастацтву, выкарыстаўшы ўсе магчымасці апошняга. Шрыфт С. чоткі, выразны, эканомны і чытаецца зручней, чым кірыліца царк.-слав. рукапісаў; у ім абмежавана ўжыты *дыякрытычныя знакі* (гл. *Паліграфічная арганізацыя тэксту выданняў Ф. Скарыны*). Са шрыфтавым наборам арганічна звязаны гравюры (партрэты, сюжэтна-тэматычныя кампазіцыі на біблейскія тэмы, «тлумачальныя» дрэварыты, арнаментальныя аздобы).

У адрозненне ад інш. біблейскіх кніг 16 ст. (шэрагу ням. Біблій 15 ст., венецыянскай «Бібліі» Малермі 1490), *«Бібліі чэшскай у Венецыі друкаванай»* (1506) і інш. скарынінская «Біблія» друкавалася асобнымі выпускамі. Наяўнасць у кн. «Быццё» агульнага тытула з назвай «Біблія руская» сведчыць пра тое, што С. збіраўся звесці іх у адзінае цэлае. Гэта пацвярджаюць «Предъсловие доктора Франъциска Скорины с Полоцка во всю Библию рускага языка», змешчанае ў кн. «Быццё» і яе франтыспіс — гравюра *«Тройца».* Такі план выдання паставіў перад С. і яго майстрамі шэраг складаных маст. праблем. Кожная асобная кніга павінна быць аздоблена так, каб яна ўспрымалася як самастойнае выданне, мела па афармленню закончаны від. Але пры пераплёце іх у адзіную «Біблію» асобныя кнігі не павінны былі мець самастойнага значэння, уся Свяшчэнная кніга ўспрымалася б як адзінае цэлае. З самага пачатку скарынінская «Біблія» была задумана як адзіная вобразная прадметна-пазнавальная форма; у кожнай асобнай кнізе (састаўной частцы цэлага) усе элементы афармлення былі прыведзены ў пэўную сістэму, падпарадкаваную задачам маст. арганізацыі тэксту, макс. лёгкачытальнасці і лагічнай яснасці ўспрыняцця напісанага (надрукаванага). Маст. афармленне тэкставага матэрыялу ажыццяўлялася з дапамогай набору, фігурных гравюр, заставак, канцовак, ініцыялаў і наборнага арнаменту. За выключэннем ініцыялаў (іх у «Бібліі» каля 1 тыс. адбіткаў), колькасць ксілаграф. дошак у кожнай асобнай кнізе была невялікай — часцей за ўсё адна сюжэтная тэматычная гравюра на тытуле, адна або дзве застаўкі, шэраг ініцыялаў. Размяшчаліся яны ў пэўным рытме: для ўсіх выданняў была выпрацавана адзіная «формула» афармлення. Пры пераплёце асобных выпускаў у цэльную кнігу, гартанні яе і чытанні фігурныя гравюры паўтараліся пры пераходзе ад адной кнігі да другой. У чытача складвалася ўражанне мноства ілюстрацый у тэксце, а чаргаваныя застаўкі і асабліва ініцыялы ўзмацнялі ўражанне багацця афармлення, садзейнічалі пэўнаму рытму графічных кампанентаў і мастацка-дэкар. арганізацыі тэксту. Разнастайнасць афармлення ўзмацнялі і нешматлікія пастаронкавыя («тлумачальныя») ілюстрацыі, змешчаныя ў кн. «Левіт», «Выхад», «Царствы». Такім чынам, скупымі сродкамі, адносна сціплай колькасцю ксілаграф. дошак было дасягнута ўражанне багацця і маляўнічасці афармлення. Усе элементы маст. аздаблення «Бібліі» ствараюць адзіны і цэльны графічны ансамбль, які мастакі С. разумелі як сінтэз слова, выявы, паліграф. і дэкар. арганізацыі тэксту. Афармленне «Бібліі» было знойдзена не адразу, яно ўдасканальвалася ў працэсе творчай практыкі. У маст. афармленні першага выдання С.— «Псалтыра» (1517) — асабліва ярка адлюстраваліся пошукі рысавальшчыкаў і гравёраў на раннім этапе. Афармленне складаецца з заставак з 2 дошак, 165 ініцыялаў з 39 дошак і трох адбіткаў гравюр з 2 дошак (тут і далей падлік аркушаў і аздоб дадзены паводле Я. Л. *Немiроўскага).* Тытул «Псалтыра» традыцыйны для скарынінскіх выданняў. Большую частку старонкі займае гравюра *«Генеалагічнае дрэва Ісуса»,* ніжэй дадзены подпіс «сій есть корень...», які пачынаецца з малой загалоўнай літары. Адметным ад наступных выданняў з'яўляецца вырашэнне адваротнай старонкі тытула: тут дадзена гравюра *«Цар Давід»* з подпісам унізе: «Песні царя Давыда еще словуть Псалтырь». Тэкст пачынаецца з вял. ініцыяла «П.», аздобленага выявай канюшыны. У пазнейшых выпусках С. адмовіўся ад франтыспіса. Больш выразным, арыгінальным з'яўляецца графічнае рашэнне першай старонкі тэксту «Псалтыра» (арк. 5-ы). Зверху тут змешчана П-падобная застаўка з выявай вазы з кветкамі, а таксама мужчынскай і жаночай галавы з тулавам дракона і нагамі драпежнай птушкі. У пражскіх выданнях гэта адзіная буйная застаўка, гравіраваная белым штрыхом па чорным фоне (калі не лічыць зборную рамку на тытуле «Бібліі»). Пад застаўкай тэкст, ніжэй змешчана выява цара Давіда, адбітая з папярэдняй дошкі. У белым квадраце П-падобнай застаўкі з асобнай дошкі ўпершыню адціснуты герб-сігнет С. (гл. *Сігнет*). Вылучаецца майстэрская дэкар. арганізацыя 5-га аркуша «Псалтыра»: тэкст тут вельмі ўдала ўзгоднены з гравюрнымі выявамі. Белаштрыхаваная застаўка над тэкстам на першы погляд некалькі цяжкаватая, але яе добра ўраўнаважвае выява Давіда ўнізе злева; чорна-белая актыўнасць застаўкі ўзмацняе серабрыстую лёгкасць набору, выкананага з вял. майстэрствам. Па кампазіцыі, багаццю графічнага матэрыялу, яго сінтэзу і гармоніі з наборам пачатковая старонка «Псалтыра» — адна з лепшых у пражскіх выданнях. Мастацкая выразнасць дасягнута тут умелай дэкар. арганізацыяй наборнай паласы, удалымі суадносінамі гравюр і тэксту. Разам з тым маст. афармленне скарынінскай першай кнігі некалькі адрозніваецца ад наступных выданняў. На тытуле адсутнічае абавязковы для пазнейшых кніг вял. гравіраваны ініцыял, не традыцыйна скампанаваны і яго адваротны бок — франтыспіс з першым адбіткам гравюры «Цар Давід». Неканчаткова знойдзены і развварот 4-га і 5-га аркушаў. Адносна вял. выяўленчая нагрузка на апошнім аркушы не падтрымана дэкар. рашэннем папярэдняй старонкі, дзе канец прадмовы С. дадзены без аздобы. Розніцца ад інш. біблейскіх кніг папера «Псалтыра». Відаць, «Псалтыр» пасля выхаду з друку быў падвергнуты сур'ёзнаму і ўважліваму аналізу, таму што ў наступных выданнях з'яўляюцца новыя рысы.

Другое выданне С.— *кніга «Іоў»* — адлюстроўвае далейшыя пошукі майстроў С. Гэта адзіная з пражскіх кніг, якая надрукавана ў двух варыянтах. Параўнаўчы аналіз паказвае, што кнігі маюць адрозненні ў маст. афармленні. На тытуле унікальнага экземпляра з Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна (№ 6334, відаць, друкаваўся першым) няма традыцыйнай тэматычнай гравюры; замест яе зверху дадзена застаўка з выявай падвешанага на галінках шчыта. Выяўленчае рашэнне тытула больш сціплае, чым у «Псалтыра». Больш выразна аформлена 4-я старонка кнігі, дзе зверху змешчана гравюра *«Бічаванне Іова»,* а ніжэй набраны тэкст. Другі варыянт кн. «Іоў» (Дзярж. Публ. б-ка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе, ДПБ) аздоблены гравюрай «Бічаванне Іова» (адбітай двойчы), застаўкай і 46 адбіткамі ініцыялаў (з 34 дошак). Асн. адрозненнем гэтага варыянта ад першага з'яўляецца наяўнасць ілюстраванага тытульнага ліста, аздобленага гравюрай «Бічаванне Іова». З арк. 1-га б пачынаецца прадмова С., якой у 1-м варыянце няма. Зверху яе ўпрыгожвае застаўка са шчытом, якая ў 1-м варыянце размешчана на тытуле. На арк. 51-м б упершыню выкарыстана «фігурная» кампаноўка тэксту ў выглядзе трохвугольніка. У 2-м варыянце ў асн. акрэслівалася кампазіцыя тытульнага ліста з сюжэтна-тэматычнай гравюрай і пашыраным загалоўкам, які пачынаецца з вял. ініцыяла. Але гравюра «Бічаванне Іова» (шырыня 86 мм) не ўзгоднена тут з шырынёй наборнай старонкі (каля 105 мм). *«Прытчы Саламона»* — трэцяе пражскае выданне С.— упрыгожваюць фігурная гравюра *«Дыспут»* і *гравюрны партрэт Ф. Скарыны,* 3 арнаментальныя выявы і 34 ініцыялы (з 28 дошак). На арк. 1-м б упершыню выкарыстаны 2 арнаментаваныя віньеткі, якія абрамляюць тэкст у выглядзе літары «Г.». У інш. пражскіх выданнях падобнае афармленне старонак не сустракаецца. Аркуш 4-ы б упрыгожвае застаўка «шчыт», якая адціснута ў кн. «Іоў». Ад папярэдніх выданняў «Прытчы Саламона» адрозніваюцца большай разнастайнасцю набору; фігурная кампаноўка тэксту выкарыстана на арк. 4-м, 4-м б, 48-м.

У развіцці своеасаблівага скарынінскага стылю афармлення этапным з'явілася чацвёртае выданне С.— *кніга «Ісус Сірахаў»*, у якой 2 фігурныя гравюры (арк. 1-ы і 5-ы), 2 застаўкі (з 2 дошак) і 32 адбіткі ініцыялаў (з 19 дошак). Тытул упрыгожвае гравюра «Дыспут», ніжэй дадзена назва кнігі. У наборную паласу, шырыня якой адпавядае гравюры, арганічна ўкампанаваны вял. ініцыял «К», які дае дэкар. пляму, што «падтрымлівае» гравюру. Своеасабліва вырашана і афармленне 5-га аркуша, з якога пачынаецца тэкст кнігі. Зверху яго ўпрыгожвае шырокая застаўка з выявай герба-сігнета С. ў акружэнні 2 фаўнаў сярод расліннага арнаменту. Набор на арк. 81-м закампанаваны ў выглядзе трохвугольніка. На арк. 5-м С. ўпершыню змясціў свой гравюрны партрэт. У цэлым у кн. «Ісус Сірахаў» — апошнім выданні 1517 — амаль канчаткова быў знойдзены той тып афармлення, які заставаўся непарушным для наступных пражскіх выданняў. Сюжэтна-тэматычныя гравюры выносіліся скрозь на 1-ы аркуш, які па сутнасці выконваў ролю вокладкі. Вял. застаўка змяшчалася перад пачаткам кнігі пасля прадмовы. Малы ініцыял пад застаўкай азначаў пачатак кнігі, а яе тэкст у ніжняй частцы аркуша пачынаўся з вял. ініцыяла, звычайна роўнага па велічыні 3—4 радкам набору. У канцы кнігі перад калафонам таксама давалася застаўка. Калафон часцей за ўсё заканчваўся трохвугольнікам, перавернутым уніз вастрыём, у канцы якога нярэдка змяшчаліся 2—3 элементы наборнага арнаменту. Такая дэкаратыўна-прасторавая арганізацыя тэксту характэрна для кн. «Еклесіяст», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Ісус Навін», «Руф» і інш. Некалькі адрозніваюцца афармленнем выданні 3-й кн. «Царствы», «Выхад», «Левіт». Апрача тытульных гравюр, іх упрыгожваюць пастаронкавыя ілюстрацыі, якія ў цэлым для кніг С. не характэрны. Акрамя таго, кн. «Быццё» ўпрыгожвае дэкар.-арнаментальны тытул «во всю Библию», а таксама франтыспіс «Бітва архангела з д'ябламі». Пасля «Псалтыра» з выявай Давіда гэта другі франтыспіс у пражскіх выданнях. Па багаццю гравюр 4 апошнія біблейскія кнігі належаць да лепшых. Увогуле афармленне «Бібліі» высокамастацкае, своеасаблівае і непаўторнае. У сусв. кірыліцкім друкарстве гэта быў важны крок ва ўсталяванні ў кнізе друкарскай эстэтыкі і набліжэнні да лепшых узораў еўрап. друкарскага і гравюрнага мастацтва.

Аздоба віленскіх выданняў *(«Малой падарожнай кніжкі» і «Апостала»)* сведчыць пра далейшае развіццё маст. прынцыпаў, знойдзеных у афармленні «Бібліі». Для іх характэрны далейшы адыход ад рукапісных традыцый, дэмакратызацыя ўсіх кампанентаў афармлення, арыентацыя на папярэднія друкаваныя інкунабулы і палеатыпы. Частку друкарскіх матэрыялаў С. прывёз у Вільню з Прагі. Шрыфт быў выкарыстаны для загалоўкаў і тытульных лістоў, вял. гравіраваныя ініцыялы адціснуты на старонках «Малой падарожнай кніжкі», наборны арнамент



Да арт. **Мастацтва Беларусі.** Муроўка: *1* — *2* — мяшаная; *3* — гатычная; *4* — дэкаратыўная гатычная.

паўтораны на асобных тытулах. Але ў Вільні «пражскі» матэрыял мог быць выкарыстаны толькі часткова, таму што абодва віленскія выданні выпушчаны меншым фарматам («Малая падарожная кніжка» — у $^1/_2$-ю долю, «Апостал» — у 8-ю). Таму большасць друкарскіх матэрыялаў (шрыфт, шматлікія застаўкі, віньеткі, ініцыялы розных памераў) выконваліся нанава. Даследчыкі Я. Л. *Неміроўскі*, А. Ф. *Коршунаў*, В. І. *Лук'яненка* ўстанавілі, што віленскія выданні С., як і «Біблія», выходзілі з друку асобнымі выпускамі. Гэта пацвярджае і тэхніка друку: большасць акафістаў з «Малой падарожнай кніжкі» надрукавана чорным колерам, большасць канонаў — чорным і чырвоным. Першым друкаваліся, відаць, акафісты (кожны асобна), якія па стылю ўпрыгожанняў і выкарыстанню ініцыялаў блізкія да «Бібліі». Менавіта ў іх *(«Акафіст святому Пятру і Паўлу», «Акафіст святому Міколе»* і інш.*)* сустракаюцца пражскія ініцыялы і няма яшчэ віленскіх рэнесансавых заставак, дошкі якіх, відаць, яшчэ не былі гатовы. Чорна-белы друк гэтых выданняў таксама ўзыходзіць да скарынінскай «Бібліі». У акафістах няма таксама малых віленскіх ініцыялаў, якімі аздоблены каноны і інш. наступныя выданні. Відаць, большасць дошак для арнаментыкі і ініцыялаў «Малой падарожнай кніжкі» была выканана ў Вільні мясц. майстрамі — калі б С. прывёз іх з Прагі, то яны былі б адціснуты ўжо ў акафістах (або ў асобных пражскіх кнігах).

Пры афармленні віленскіх выданняў С. сутыкнуўся з вял. цяжкасцямі. Як сведчаць амаль пазбаўленыя аздоб акафісты, друкарскіх матэрыялаў спачатку не хапала. Ужытыя ў першых выданнях ініцыялы «Бібліі» надта вялікія для малафарматнай «Малой падарожнай кніжкі», не кампануюцца з тэкстам, і С. адмовіўся ад іх. Выкарыстанне ініцыяла Мекенема ў «Малой падарожнай кніжцы» («С» на арк. 183-м) таксама сведчыць, што ў Вільні ў С. спачатку не было вопытных майстроў кнігі. У віленскіх выданнях больш шырока выкарыстаны чырвоны колер, якім набраны не толькі загалоўкі, але і многія застаўкі, ініцыялы. Чырвоны і чорны колер друкаваліся ў Вільні асобна, відаць, у 2 прагоны. Спачатку набіраўся чырвоны, затым чорны, што добра бачна па знаках і частках літар, якія накладаліся адна на другую на асобных старонках «Малой падарожнай кніжкі» (экз. ДПБ, арк. 4-ы, 8-ы, 16-ы і інш.). Падобныя несупадзенні маглі быць, відаць, пры двухпрагонным друку. Двухколернасць робіць «Малую падарожную кніжку» і «Апостала» дэкаратыўна-святочнымі, прыгожымі, эмацыянальна-дзейснымі. Віленскія выданні С. пераўзыходзяць пражскія па колькасці арнаментальна-дэкар. гравюр, ініцыялаў. У пражскіх выданнях адціснута каля 45 аздоб і каля 1 тыс. ініцыялаў; у віленскіх — каля 537 заставак, віньетак і каля 1027 ініцыялаў. Усе арыгінальныя ўпрыгожанні спачатку змешчаны ў «Малой падарожнай кніжцы», а затым надрукаваны ў «Апостале» 1525. «Апостал» — адзіная кніга С. без ілюстрацый, яны ёсць толькі ў «Малой падарожнай кніжцы» *(«Багародзіца з анёламі», «Хрышчэнне ў Іардане», «Хрыстос у храме»)*. Іх маст. ўзровень некалькі ніжэй ксілаграфій «Бібліі» С., якія ўражваюць майстэрскай кампазіцыяй, рэалізмам вобразаў, умелай перадачай аб'ёму, пераканаўчым тыпажом і смелай, упэўненай, энергічнай штрыхоўкай. Своеасаблівасць аздобы віленскіх кніг выявілася не ў ілюстраванні, а ў багацці дэкаратыўна-арнаментальных аздоб. Па афармленню, тэхніцы друку і тонкасці выканання шрыфту, заставак, ініцыялаў гэтыя кнігі сведчаць пра далейшы адыход С. ад каліграф. традыцый рукапісаў і набліжэнні да сучаснага паліграф. мастацтва. У віленскіх выданнях С. ўпершыню сфармуляваў функцыянальнае прызначэнне заставак і віньетак і выказаўся пра сэнсавае значэнне колеру.

У цэлым маст. афармленне кніг С. з'яўляецца адной з найб. прыкметных вышынь у кірыліцкім друкарстве. Як і выданні А. *Мануцыя*, Эцьенаў, *Эльзевіраў*, кнігі бел. першадрукара вылучаюцца непаўторным і выразным абліччам, ім уласціва ўнутранае адзінства і цэласнасць, арганічнасць маст. вырашэння,

гармонія і вобразнасць усіх яе кампанентаў. Кнігі С. былі вядомы на Беларусі, у Маскоўскай дзяржаве і на Украіне, але іх уздзеянне на пазнейшую мастацка-друкарскую традыцыю было складаным. Даследчыкі У. Стасаў, У. Люблінскі і інш.) адзначалі, што для пазнейшых друкароў, мастакоў кнігі выданні С. засталіся недасягальнымі. Шрыфт С. стаў узорам для кніг Сымона *Буднага* і Васіля *Цяпінскага.* Сапраўдныя пражскія ініцыялы выкарыстаны ў астрожскім «Псалтыры з паследаваннем» (1598), іх уздзеянне даследчыкі адзначаюць у «Астрожскай біблії» Івана *Фёдарава,* у *Перасопніцкім евангеллі.* У 1590-я г. застаўкі і ініцыялы С. шырока выкарыстоўвалі бел. друкары (гл. *Кірыліцкае кнігадрукаванне* на Беларусі, *Традыцыі Ф. Скарыны ў мастацтве друкаванай кнігі*). У меншай ступені ўплывалі на паслядоўнікаў С. фігурныя гравюры, уздзеянне якіх адзначана толькі ў *«Брэсцкай біблії»* 1563. Гл. таксама арт. *Мастацтва кнігі* 16 ст.

*Літ.:* 564; 750; 789; 792. *В. Ф. Шматаў.*

**МАСТА́ЦТВА БЕЛАРУ́СІ** ў 15—16 ст. У перыяд фарміравання бел. народнасці, мовы і культуры адбываўся складаны працэс станаўлення і развіцця мастацтва і дойлідства Беларусі. Асабліва актывізаваўся ён у 15—16 ст., калі большасць бел. гарадоў пасля атрымання магдэбургскага права сталі сапраўднай апорай прагрэсу свайго часу. З прычыны асаблівасцей гіст. развіцця бел. мастацтва і архітэктура ўзаемадзейнічалі з зах.-еўрап. і ўсх.-еўрап. сярэдневяковым мастацтвам і дойлідствам, якія не маглі не ўплываць на ўкараненне пэўных стыляў, маст. прыёмаў, узораў і вобразаў. Дзякуючы свайму высокаму ўзроўню мастацтва Беларусі заняло ў Вял. кн. Літоўскім пачэснае месца. Але яно не растварылася ў агульнай плыні мастацтваў другіх народаў, якія жылі на тэр. княства, не згубіла сваёй нац. адметнасці. Гэтаму ў значнай ступені спрыялі багатыя традыцыі высокаразвітага візантыйскага і стараж.-рус. мастацтваў і цеснага культ. супрацоўніцтва ўсх.-слав. народаў (гл. *Культура Беларусі*).

А р х і т э к т у р а. На працягу многіх стагоддзяў тэр. Беларусі няраз была арэнай ваен. дзеянняў і феад. міжусобіц, таму значнае месца ў архітэктуры 15—16 ст. займалі абарончыя збудаванні. Абарончы характар мелі і многія культавыя пабудовы таго часу. Высокага ўзроўню дасягнула горадабудаўніцтва, якое таксама было падпарадкавана задачам абароны (высокія магутныя сцены, замкі-цытадэлі, вежы). З ростам рамяства і гандлю ў 2-й пал. 16 ст. планіроўка гарадоў пачала набываць больш упарадкаваны характар, новыя рысы паявіліся ў архіт. абліччы феад. рэзідэнцый, жылых дамоў і інш. пабудоў (гл. *Архітэктура Беларусі, Готыка* на Беларусі).

Асн. буд. матэрыялам у 14—16 ст. з'яўлялася дрэва. У пісьмовых крыніцах яно называлася «дрэва на збудаванне годнае». На жылыя пабудовы (хаты) ішла гал. чынам хвоя. Дуб выкарыстоўвалі радзей (пры закладцы фундамента, ніжніх вянкоў зруба, на абарончыя збудаванні). Зруб ставілі на вуглавыя камяні ці драўляныя калоды (штандары). Плошча жытлаў была 25—36 м$^2$, гаспадарчых — меншая. На гасп. пабудовы ішла другарадная драўніна, іх рабілі зрубнымі або ў шулы (такая тэхніка існуе па сённяшні дзень). Адметнай рысай таго часу з'яўлялася распаўсюджанасць каркасных пабудоў (прыбудовы да жылля), аснову якіх складалі брусы, пакладзеныя на зямлю. Па вуглах і пасярэдзіне будучай пабудовы ставілі слупы-шулы, у пазы якіх закладваліся канцы бярвёнаў. У Віцебску выяўлены рэшткі каркасных канструкцый з гарызантальнай закладкаю сцен, у Мінску — з вертыкальнай. Для большай трываласці і для ўцяплення сцены зрубаў імшыліся сфагнавым мохам. Падлога ў вёсках была земляная або глінабітная, у гарадах — драўляная. Масніцы клаліся на перавозіны (у зрубах) або на падкладкі ў збудаваннях слупавой канструкцыі. Стрэхі ў вёсках крылі саломаю, у гарадах — драніцай, гонтай, дахоўкаю (чарапіцаю). Столь была скляпеністай (захавалася на Усх. Беларусі і на Палессі да 19 ст.). На ўзроўні 3—4-га вянка ў зрубе рабілі ўваход. Печы 16 ст. ў большасці глінабітныя, часам абкладваліся кафляй. Мураваныя будынкі ўзводзілі з вялікапамернай цэглы таўшчынёй 7—7,5—10 см. Была пашырана цэгла-пальчатка, якая мела барозны, некат. цагельнікі пазначалі сваю прадукцыю спец. клеймамі або меткамі (вядомы на цэгле з *Мірскага замка,* Гродзенскага Старога замка). Была пашырана мяшаная муроўка (чаргаванне радоў камення і цэглы або камяні былі хаатычна раскіданы па цаглянай паверхні) і муроўка з чаргаваннем у радзе тычка і лажка (*Сынковіцкая царква-крэпасць,* Мірскі замак). З 15 ст. вылучаецца дэкаратыўная гатычная муроўка: выкарыстоўвалася цэгла-клінкер (мела цёмна-сіні, амаль чорны колер), з якой выкладваліся розныя ўзоры. Найб. пашыраны былі малюнкі ў выглядзе рамбічнай сеткі (царква *Супрасльскага манастыра, Ішкалдскі Троіцкі касцёл*). Для пакрыцця мураваных пабудоў, акрамя гонты і дранкі, часта ўжывалі плоскую дахоўку двух тыпаў: «бабровы хвост» (адзін з краёў мае па абодвух вуглах выемкі ў чвэрць круга) і звычайную пляскатую дахоўку з паўкруглым краем. Схілы і самы верх стромкіх сярэдневяковых дахаў накрываліканьковай дахоўкай (пакрывалася цёмна-зялёнай палівай) паўцыркульнай формы. У часы С. ўжывалі дэкар. гатычную жалабаватую дахоўку. Яна мела доўгі мацавальны выступ, пераважна дэкар. прызначэння, які нагадваў галаву птушкі. Знутры дахоўка часам мела спец. барозны ў выглядзе рамбічнай сеткі, каб лепей было мацаваць яе на вапнавым растворы. Падлогі ў некат. мураваных пабудовах выкладваліся са спец. квадратнай або прамавугольнай цэглы.

Абраз «Маці божая Адзігітрыя Іерусалімская» з Пінска. 15 ст.



Абраз «Маці божая Адзігітрыя Смаленская» з Брэстчыны. Канец 15 — пач. 16 ст.



Ж ы в а п і с. На Беларусі пакуль не выяўлены творы манумент. мастацтва 15 ст. Але пісьмовыя крыніцы сведчаць, што ў 15—16 ст. існавалі цэхі майстроў, якія распісвалі храмы, выконвалі разьбяныя і ювелірныя работы. У Пінску было шмат майстроў, аб'яднаных у цэхі (сярод іх жывапісец Навоша). У Брэсце працаваў іканапісец Андрэй. У творах іканапісу прасочваюцца традыцыі візант. і стараж.-рус. мастацтва (абразы «Маці божая Адзігітрыя Іерусалімская» з пінскай Варварынскай царквы, «Маці божая Адзігітрыя», «Замілаванне» з Маларыты, «Маці божая Адзігітрыя Смаленская» і «Маці божая Іерусалімская» з Брэстчыны, «Маці божая Адзігітрыя» са Слуцкага р-на. Беларуская іканапісная школа склалася на пач. 16 ст. пад уплывам ідэй *Адраджэння.* Характэрнай рысай твораў таго часу з'яўляўся адыход ад стараж.-рус. канонаў у кампазіцыйнай пабудове і імкненне да канкрэтнасці і рэальнасці ў выбары выяўленчых матываў (абразы «Нараджэнне Марыі» з Ляхаўцаў Маларыцкага і «Апосталы Лука і Сімяон» з Кажан-Гарадка Лунінецкага р-наў). Адметныя рысы бел. іканапісу — светлы каларыт і развітая сістэма арыен-

тацыі фонаў у абразах («Параскева»). У 16 ст. развіваўся свецкі жывапіс, пераважна жанр партрэта. Лепшыя творы — партрэты князя Аляксандра Рыгоравіча Хадкевіча і мітрапаліта Іосіфа Салтана (не зберагліся), Юрыя Радзівіла (Дзярж. маст. музей БССР) вызначаліся рэалістычнасцю, глыбінёй псіхалаг. характарыстыкі і падкрэсленым пачуццём чалавечай годнасці. Вял. дасягненнем бел. выяўленчага мастацтва 16 ст. з'яўлялася паступовае авалоданне законамі перспектывы, імкненне паказаць фігуры і рэчы ў прасторы. Характэрным у гэтым сэнсе з'яўляецца *гравюрны партрэт Ф. Скарыны,* на якім упершыню паказаны чалавек у час працы сярод розных рэчаў, многія з якіх маюць сімвалічнае значэнне. Партрэт С. адносіцца да выдатнейшых твораў бел. мастацтва 16 ст.

Скульптура. Побач з жывапісам развівалася драўляная скульптура. Высокага маст. ўзроўню дасягнула рэльефная разьба. Пластычнае мастацтва гэтага перыяду мела непарыўную сувязь з маст. традыцыямі Стараж. Русі, працягвала і развівала іх [двухбаковы разны абраз «Премудрость созда себе храм. Праздники» (Дзярж. Рускі музей, Г. Ленінград) выкананы пінскім разьбяром Ананіем, які працаваў пры двары пінскага князя Фёдара Яраслававіча]. Адзін бок абраза на тэму прытчаў Саламонавых, сюжэт якога Ананія мог пераняць з кн. С. «Прытчы Саламона». Паліхромная драўляная скульптура характарызавалася цесная узаемасувяззю з архітэктурай, яе маст. стылямі (скульптура Марыі і Іаана Багаслова, в. Мсцібава, Ваўкавыскі р-н, Музей стараж.-бел. культуры ІМЭФ АН БССР). Наўмысная напружанасць поз, павышаная экспрэсія, некалькі выцягнутыя фігуры сведчаць аб пэўным уплыве познагатычнага мастацтва. На мяжы позняй готыкі і зараджэння рэнесансавых тэндэнцый у бел. мастацтве створана скульптура «Св. Гжэгаш» (г. Кінешма, філіял Іванаўскага абл. музея, РСФСР). Майстар яўна натхняўся жывой мадэллю, падкрэсліў складанасць і неадназначнасць чалавечага характару і стварыў вобраз, выразнасць якога набліжаецца да партрэтнай характарыстыкі. Гэтымі ж рысамі вызначаюцца і скульптурныя выявы святых Ганны і Іакіма (в. Здзітава, Жабінкаўскі р-н; захоўваецца ў Дзярж. маст. музеі БССР). Рысы гатычнага стылю адчуваюцца ў крыху выцягнутых фігурах, ломкіх, жорсткіх складках адзення, дробнай прапрацоўцы завіткоў валасоў і барады Іакіма. Гал. ўвагу майстар аддае характэрным нац. рысам твару, вялікім натруджаным рукам і ў адпаведнасці з рэнесансавымі канцэпцыямі імкнецца выявіць унутраную велічнасць, духоўную сілу вобразаў. Значны ўплыў на развіццё бел. пластыкі аказвалі традыцыі Адраджэння. У скульптуры перададзена цікавасць да навакольнай рэчаіснасці, рэальнага чалавека, што выяўляецца ў выбары тыпажу, перадачы прапорцый чалавечай фігуры. Вобразам надаюцца рысы індывідуальнасці, спакойнай упэўненасці. Традыцыі Адраджэння назіраюцца ў скульптурах «Кацярына Александрыйская», «Лізавета Венгерская» (пас. Шарашова, Пружанскі р-н). Жыццёвая напоўненасць вобразаў, якія сцвярджаюць зямную прыгажосць маці з дзіцем, выразнасць пластычнай мовы і высакародная стрыманасць эмоцый вызначаюць кампазіцыю «Марыі з дзіцем» (Нясвіж). Пад уплывам узораў стылю рэнесанс зроблены царскія вароты з царквы в. Варанілавічы (Пружанскі р-н), рэльефным выявам якіх характэрна аб'ёмная светлацянявая мадэліроўка форм, умелае спалучэнне фігур з фонам, складаная кампазіцыйная будова. Актыўнаму засваенню традыцый Рэнесанса спрыялі італьян. майстры, якія працавалі ў Вял. кн. Літоўскім. Яны прынеслі распрацаваныя ў зах.-еўрап. мастацтве тыпы надмагілляў і высокую культуру пластыкі форм (надмагіллі А. Гаштольда, 1539—41, Вільня; М. Радзівіла, пасля 1588, Нясвіж). Дасягненні мемарыяльнай пластыкі паўплывалі на інш. віды мастацтваў і асабліва на развіццё керамікі. Дрэва шырока выкарыстоўвалася і ў друкарскай дзейнасці С. Сюжэтна-тэматычныя дрэварыты яго выданняў рабіліся на дошках з падоўжным сячэннем (абразная ксілаграфія), на якія з дапамогай спец. інструментаў наносіўся малюнак. Дрэварыты вызначаюцца майстэрствам кампазіцыі, жыццёвасцю тыпажу, выразнасцю малюнка, дзе перададзена анатомія чалавека, прастора, пластычнасць форм.



Абраз «Маці божая Іерусалімская» з Брэстчыны. 16 ст.

Абраз «Пакланенне вешчуноў» з в. Дрысвяты Браслаўскага раёна. 1514.



Графіка. Вядомыя гравюры таго часу адносяцца да кніжных ілюстрацый. Кніжная графіка развівалася аднначасова з кнігадрукаваннем, і яго пачаткам па праву лічыцца *«Псалтыр» 1517* С., а сам друкар — заснавальнікам гравёрнага мастацтва на Беларусі. У пражскіх выданнях С. адчуваецца пэўны ўплыў ням. і венецыянскай гравюры (гл. *Мастацкае афармленне кніг Ф. Скарыны*). На Беларусі паступова складваецца свой уласны стыль афармлення кнігі, які адлюстраваўся ў выданнях друкарняў Заблудава, Вільні, Куцейны, Магілёва, Нясвіжа (гл. *Мастацтва кнігі*). У стварэнні гравюр для кніг удзельнічалі Пётр Мсціславец, Грынь Івановіч і інш. Ілюстрацыі бел. гравёраў вызначаліся высокай тэхнікай, жыццёвасцю ў перадачы тыпажу і асяроддзя. Многія кніжныя гравюры выкарыстоўваліся бел. жывапісцамі ў якасці дапаможнікаў для малявання — «кужбушкоў». Прыклад гэтаму — абраз «Параскевы» са Случчыны, узорам для якой паслужыла гравюра «Петка» з «Мінеі выбранай» (Венецыя, 1528).

Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва ў 15—16 ст. развівалася ў непасрэднай сувязі з нар. мастацтвам, маст. традыцыямі Стараж. Русі і Зах. Еўропы. Развіваліся размалёўка па дрэве, чаканка па металу, тэракотавая і паліваная кераміка. У 15 ст. ўзнікла першае рамеснае аб'яднанне на Беларусі — цэх шкларобаў у Гродне. Паліхромная рэльефная кафля з рознымі кампазіцыямі выраблялася ў Гродне, Заслаўі, Лагойску, Оршы, Мінску. Сталі ўжывацца глазура і эмалі, шмат маст. рэчаў выраблялася

з металу, развіваліся коўка, ліццё, разьба.

Апрацоўка металаў адносілася да найб. развітых галін рамеснай вытворчасці канца 15 — пач. 16 ст. Жалеза выплаўлялі з балотных руд у спецыяльных печах. Здабычай руды і выплаўкай жалеза займаліся пераважна сяляне і гараджане-рамеснікі. У буйныя гарады (Полацк, Віцебск, Мінск і інш.) жалеза, медзь, волава, свінец і гатовыя жалезныя вырабы завозіліся таксама з-за мяжы. Побач з кавалямі працавалі слесары, кацельшчыкі, кажэўнікі, цвікары, мечнікі. Многія рамеснікі аб'ядноўваліся ў цэхі металістаў. У 15—16 ст. значна пашырыўся асартымент вырабаў майстроў гэтых спецыяльнасцей: выраблялі прылады працы, рэчы хатняга ўжытку, сельскагаспадарчы інвентар (замкі, ключы, нажы, сярпы, свечнікі, падковы, падкоўкі на абцасы, сякеры, нарогі, клямкі, завесы, зброю і інш.). З 15 ст. для большай трываласці і даўгавечнасці дзверы, куфры і інш. акоўваліся жалезам. Кавалі на вокны рашоткі і кранштэйны для вывесак на дамах рамеснікаў і корчмах. З медзі і волава выраблялся металічны посуд. Удасканальвалася тэхналогія металаапрацоўкі. Рамеснікі добра валодалі прыёмам коўкі і зваркі, абточкай, паяннем, паліроўкай, рэзкай і клёпкай металу. Майстры залатых і сярэбраных спраў выраблялі ювелірныя рэчы. У гэты перыяд ужо дзейнічалі аб'яднанні (цэхі) майстроў залатых, сярэбраных і медных спраў у Навагрудку, Полацку і Віцебску. Спачатку вырабам металічных упрыгожанняў і посуду займаліся бронзаліцейшчыкі, а потым — кавалі па медзі. З 1495 на тэр. Вял. кн. Літоўскага было ўведзена кляйменне вырабаў з каштоўных металаў, што сведчыла аб значным развіцці гэтага віду рамяства. Майстроў, у адпаведнасці з выкарыстанымі матэрыяламі і тэхнікай іх апрацоўкі, называлі злотнікамі, сярэбранікамі, меднікамі і інш. Пазней, з 16 ст., назва «срэбраных спраў майстар» аб'ядноўвала шэраг гэтых прафесій. Вядомы імёны ці прозвішчы майстроў ювелірнай справы, якія працавалі ў гарадах у пач. 16 ст.: у Ваўкавыску — Ганна Юр'ева (1517), Навагрудку — Іван Івоніч (1517), Мядзелі — Павел Майхеровіч (1538), Дамінік (1539) і інш. Збройнікі ўжывалі каштоўныя металы і мінералы ў аздобе зброі (у 1506—26 у Гродне працавалі Марцін, Шчэнсны, Фрыдрых). Дзейнічалі цэхі металістаў і ювеліраў: Брэсцкі цэх злотнікаў згадваецца ў 1529 (цэхавы старшыня Станіслаў Радванскі), Пінскі (старшыня І. Перхвяновіч) і Мінскі цэхі (абодва ў 1552). Найб. значныя маст. рэчы з металаў — келіхі (пацiры), выраблялiся па заказах манастыроў, кляштараў, храмаў, асобных магнатаў. У вырабе келіхаў выявілася майстэрства гравіроўкі, чаканкі, коўкі, пластычна-канструкцыйнага формаўтварэння посуду, мадэліроўкі выяў фігур, размяшчэння на крывалінейных плоскасцях посуду складаных кампазіцый. У Дзярж. музеі БССР захоўваецца навагрудскі келіх 16 ст., у Дзярж. маст. музеі БССР — ружанскі, якія маюць вял. каштоўнасць для гісторыі бел. дэкар.-прыкладнога мастацтва. Сярэбраны ружанскі келіх на высокай ножцы, пазалочаны, гравіраваны геаметр. арнаментам, аздоблены сіняй эмаллю, коўкай, зярненнем, мае рысы готыкі, некат. аналогію з навагрудскім келіхам. Ружанскі келіх не мае кляйма майстра (ён мог быць выкананы майстрам, які працаваў пры двары магната Тышкевіча не раней пач. 16 ст.). Стрыманая і простая форма чашы, сціплы дэкор, не дакладная гравіроўка расліннага арнаменту на «кошычку», адсутнасць дакладных аналогій з падобнымі зах.-еўрап. келіхамі не дае падставы для залічэння келіхаў у лік прывазных рэчаў ці вырабу яго замежнымі майстрамі ў Ружанах.

Разьба па косці дасягнула росквіту ў 12—13 ст. У 15—16 ст. бел. разьбяры працягвалі стараж. традыцыі. Выкарыстоўвалі рогі ласёў, аленяў, клыкі дзікоў, косці розных звяроў, птушак і інш. Выраблялі тронкі нажоў,

Ананія. «Премудрость созда себе храм. Праздники». Абраз. Канец 15 — пач. 16 ст.



Царскія вароты з Гродна. Дрэва. 16 ст.



накладкі калчанаў, дэталі арбалетаў, грабяні, гузікі, фігуркі шахмат, шашак, абклады кніг і абразоў, невял. абразкі. З твораў мастацтва, выкананых бел. разьбярамі па косці ў 15—16 ст., вядомы абраз, знойдзены ў Тураве. Рэшткі касцярэзнай вытворчасці (гатовыя вырабы, загатоўкі, бракаваныя вырабы) знойдзены пад час раскопак у Віцебску, Гродне, Мазыры і Мсціславе.

Бел. рамеснікі займаліся таксама і апрацоўкай каменю. Выраблялі гарматныя ядры розных памераў, тачыльныя брускі і прасліцы, надмагільныя крыжы, надмагіллі ў выглядзе бюстаў, статуй, рэльефаў, стэл, калон, абеліскаў (вядомы з 16 ст.), архітэктурна-дэкаратыўныя дэталі (калоны, парталы і г. д.).

Ганчарства да 16 ст. ў сваім развіцці прайшло этапы ад ляпных вастра- і кругладонных гаршкоў да паўляпнога, падпраўленага на ганчарным крузе начыння і да вырабляемых з аднаго кавалка сыравіны шматлікіх керамічных формаў. Асн. відам посуду быў гаршчок, які ў 16 ст. пераважна не меў шыйкі ці яна была вельмі малая, плечыкі моцна прыўзняты і зрэдку ўпрыгожаны рэльефным арнаментам (хваля ці стужка). Гаршкі багата аздабляліся ангобам ці плямамі палівы. У 2-й пал. 15 ст. ганчары-гараджане пачалі вырабляць паліваны посуд традыцыйных форм. У 16 ст. паступова выпрацаваліся ўласцівыя толькі паліваным вырабам формы посуду: гаршкі з ручкаю-вухам, са складанапрафіляваным манжэтападобным венчыкам, звычайна невял. памераў; зусім маленькія (8—10 см вышынёй) кубачкі; міскі і талеркі, што арнаментаваліся па борціку штампікам ці шматрадным грабеньчыкам. Паліва наносілася на ўнутраную паверхню начыння, што прыдавала трываласць вырабам, адпавядала патрабаванням гігіены. У сувязі са значным пашырэннем асартыменту ганчарных вырабаў у 16 ст. з'явілася размежаванне посуду на кухонны і сталовы. Адпаведна вызначылася тэндэнцыя ў аздабленні: палівалі і арнаментавалі найперш сталовы посуд (міскі, кубкі, збаны і інш.), на непаліваныя гаршкі арнамент наносіўся значна радзей. Ганчары выраблялі таксама кафлю гаршковую з круглым, крыжападобным і трохвугольным вусцем. Кафля з квадратным вусцем апрацоўвалася ў драўлянай форме, што дазваляла рабіць яе аднолькавых памераў. У канцы 15 — пач. 16 ст. такая кафля трансфармуецца ў т. зв. міскавую кафлю за кошт скарачэння тулава і пашырэння вусця. Такой кафляй, пакрытай зялёнай палівай, абліцоўвалі печы, грубкі, каміны. Паліва ўзбагаціла маст. палітру кафлі і значна палепшыла яе якасці, а размалёўка (кругі і разеткі) надала ёй дэкаратыўны характар. Найб. зручная ў выкарыстанні і дэкаратыўна аформленая была т. зв. каробкавая кафля, на вонкавую пласціну яе наносілі малюнак. На радзіме С. ў Полацку знойдзена таксама кратавая кафля. У канцы 15 — пач. 16 ст. першыя каробкавыя кафлі былі невял. памераў (10×10, 12×12, 14×14 см) і аздабляліся малюнкамі (выявы скамарохаў, фантастычных цмокаў і інш.). Для сярэдзіны — 2-й паловы 16 ст. характэрны кафлі больших памераў (16×16, 18×18 см) з геам. (авалы, разеткі, квадраты), раслінным (выява кветкі ў вазоне з ручкамі) і сюжэтным (мужчынскія і жаночыя партрэты ў фас і профіль, сцэны палявання, рэлігійныя і міфалагічныя сцэны) арнаментам. Выраблялі таксама карнізныя, вуглавыя, паясовыя кафлі і кафлікаронкі. З сярэдзіны 16 ст. выраблялі і паліхромную кафлю.

Гутнікі 13—15 ст., захаваўшы ўсе дасягненні стараж.-рус. шкларобства, развівалі яго і да 16 ст. назапасілі значны вопыт, які стаў важным звяном у развіцці шкларобства ва ўсх. славян у 17—18 ст. Першыя звесткі

аб шкляных гутах на тэр. Беларусі адносяцца да 1498. У 16 ст. шкляныя рэчы выраблялі ў 15 гарадах і мястэчках. У ваколіцах Гродна стварыў цэх шкларобаў Сцяпан (1524), у 1599 у Гродне — пісар княства Валовіч, у канцы стагоддзя — Радзівіл у вотчынным мястэчку Шыдлавец (цяпер Шылавічы, Ваўкавыскі р-н). Шкляным промыслам займаліся таксама гар. рамеснікі і вандроўныя шкларобы, якія звычайна ставілі «лясныя гуты». Пачынаючы з 14 ст. посуд значна павялічваецца ў памерах. Гатычны стыль, які панаваў у архітэктуры і выяўленчым мастацтве, адбіўся і на формах шклянога посуду: асн. формай стаў цыліндр. З'явіліся новыя віды посуду — высокія вузкія кубкі на паддонах з цыліндрычнымі стромкімі чашамі. У 14—15 ст. у Гродне выраблялі канічнай формы кілішкі з петлепадобнымі стопамі, шкляніцы з хвалістымі паддонамі, колбападобныя таўстасценныя пасудзіны, аздобленыя каляровымі ніцямі, прамавугольныя і квадратныя кварты, цыліндрычныя шкляніцы на круглых паддонах, стромкія танкасценныя шкляніцы на высокіх цыліндрычных паддонах з петлепадобнымі краямі. У 15 ст. ўпершыню з'яўляюцца канічнай формы кубкі на канічных пустацелых паддонах. Шклянымі круглымі ў сячэнні жгутамі аздаблялі паддоны і сценкі посуду. Посуд выраблялі адвольным фармаваннем і выдзіманнем у нерухомыя формы («ціхае выдзіманне»), на сценкі і донцы якіх наносілі дэкор. Уплыў стылю рэнесанс выявіўся ў дробнарэльефнай аздобе вырабаў: пячатак, жгутоў, стужак на сценках посуду, роспісе, пластыцы форм. Майстры выраблялі невял. гладкасценныя чаркі з масіўнымі донцамі і чаркі з рэльефна-жалабковымі сценкамі; стромкія цыліндрычныя аптэчныя бутэлечкі з глыбока ўціснутымі ўнутр донцамі і высокімі шыйкамі, бутлі з шарападобнымі тулавамі і высокімі гарлавінамі; канічнай формы кубкі і бакалы на ножках складанай канфігурацыі; гаршкападобныя шкляныя таўстасценныя пасудзіны. Пераважалі простыя формы, што вызначаліся лагічнасцю і функцыянальнасцю канструкцыі. Сярод дэкаратыўных элементаў, акрамя каляровых ніцей, шкляных жгутоў і стужак, укладзеных адвольна і хваліста, ужываліся пячаткі з выявамі гербаў уладара гуты ці мануфактуры і клеймамі шкларобаў. Клеймы-пячаткі і клеймы-гербы пераважна размяшчаліся на шарападобным тулаве чашаў і бутляў, плечыках квартаў, у выніку чаго пячаткі набывалі выгляд медальёнаў. У якасці дэкору прымянялі роспіс фарбамі і золатам (пераважалі геральдычныя і раслінныя матывы, ужываліся і розныя надпісы).



Евангеліст Іаан. Дрэва. 16 ст.





Пацір з Ружан Пружанскага раёна. Серабро, чаканка, эмалі. Канец 15 — пач. 16 ст. Медны крыж з раскопак Верхняга замка ў Віцебску. 15—16 ст.

У канцы 15 — 1-й пал. 16 ст. развіццё бел. культуры праяўлялася нераўнамерна ў розных сферах. У гэты перыяд значна пашырыліся гандлёва-эканам. і культ. сувязі Вял. кн. Літоўскага з суседнімі краінамі, што садзейнічала больш поўнаму ўзаемаўзбагачэнню культур.

Тэатр. У 15—16 ст. элементы тэатр. мастацтва выявіліся ў нар. гульнях, абрадах, ігрышчах. Сінтэтычны від народнай гульні — карагод — уключаў музыку, танец, харавыя спевы і драматычнае дзеянне. Нар. мастацтва вызначалася свабоднай імправізацыяй, якая лягла ў аснову мастацтва праф. акцёраў — скамарохаў. У 16 ст. з іх ствараліся гурты, арцелі. Скамарохі выступалі на плошчах гарадоў, мястэчак і вёсак, у палацах, корчмах і сялянскіх хатах. Былі вандроўныя і аселыя скамарохі. З-за вальналюбства і сатырычнай накіраванасці творчасці яны цярпелі ганенні з боку царквы і ўлад. Выявы скамарохаў захаваліся на мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу (15 ст.). З 16 ст. вядомы бел. нар. тэатр лялек — батлейка, паказы якога былі звязаны са святам каляд, калі групы школяроў і семінарыстаў хадзілі па мястэчках і вёсках. Сцэнай служыла 2-ярусная скрынка ў выглядзе хаткі або царквы, паказы рабіліся на верхнім і ніжнім ярусах. Насычаныя сац. сатырай, пабудаваныя на фалькл. матэрыяле сцэнкі высмейвалі прадстаўнікоў пануючых класаў, клірыкаў, карчмароў, процістаўлялі ім простых людзей з народа. У правасл. акадэміях, брацкіх школах ствараліся школьныя тэатры. Школьныя драмы на біблейскія сюжэты ставіліся ў Мінску, Полацку, Пінску, Магілёве і інш. гарадах на лац., а потым на бел. мове. Пазней у іх рэпертуары пераважалі гіст. і бытавыя тэмы. За ўзоры сцэнічнага мастацтва браліся прыёмы тэатра скамарохаў і нар. гульняў.

Музычнае мастацтва Беларусі. У муз. мастацтве гэтага перыяду вядучае месца займала песенная творчасць, якая характарызавалася вял. жанравай разнастайнасцю і багаццем мясц. традыцый. На час фарміравання бел. народнасці прыпадае яркі разгорнуты гісторыка-стылявы пласт нар. песнятворчасці. Яго складаюць мужчынская сац. лірыка і эпас, а таксама песні бытавыя, жартоўныя, любоўна-лірычныя. Ад стараж. песень іх адрознівае непрымеркаванасць выканання (г. зн. у любы час і на розныя выпадкі) і яркая індывідуалізацыя вобраза: песні сялянскай вольніцы ўражваюць энергіяй, удаласцю, лірычныя — багаццем псіхал. адценняў. Развіваюцца шматгалосыя спевы. Лепшыя ўзоры бел. песнятворчасці мелі



1



2



3



4



5



6

акрэсленую сац. і патрыят. накіраванасць супраць каталіцызму і апалячвання. Інструментальная музыка ў роўнай ступені развівала традыцыі песеннага і танц. нар. мастацтва і арганічна дапаўняла іх. З даўніх часоў на тэр. Беларусі вядомы інструменты ўдарныя, духавыя, струнныя. Прыблізна з 16 ст. пашырыліся дуда, ліра, цымбалы. Спецыфічнасць найгрышаў некат. інструментаў пэўным чынам адбілася на мелодыі асобных песенных жанраў. Музыка на Беларусі развівалася пераважна ў форме вуснай нар. творчасці, але ўжо ў канцы 16 ст. ў брацкіх школах уводзіцца навучанне спевам і музыцы па лінейнай нотнай сістэме. Неаддзельным ад песні і музыкі з'яўляўся нар. танец. Цесна звязаны з грамадскай і прац. дзейнасцю чалавека, танец адлюстроўваў яго жыццё, нац. характар і спосаб вобразнага мыслення. Гіст. ўмовы існавання бел. народа, сац., нац. і рэлігійны прыгнёт і барацьба супраць яго абумовілі значна большую захаванасць у бел. фальклоры прыкмет старажытнасці, чым у фальклоры суседніх народаў. Адным са старэйшых і распаўсюджаных на Беларусі ў 15—16 ст.

Да арт. **Мастацтва Беларусі. 1.** Гаршковая кафля з Лідскага замка. 14—15 ст. 2. Мірская кафля. Канец 16 ст. 3. Мядзельская кафля. 2-я пал. 16 ст. 4. Чачэрская кафля. 16—17 ст. 5. Лідская кафля. Канец 16 ст. 6. Дывановая кафля з Віцебска. 16—17 ст. 7. Заслаўская кафля. Сярэдзіна 16 ст. 8. Карнізная кафля з Мірскага замка. Канец 16 — пач. 17 ст.

7



8



жанраў, што захаваў сувязь з абрадам, быў карагод. Нар. харэаграфія паступова выпрацоўвала ў карагодзе свае ўстойлівыя маст. прыёмы, сродкі выразнасці, якія станавіліся традыцыйнымі. Але побач з імкненнем да пэўнай стандартызацыі развівалася і процілегласць — свабодная імправізацыйнасць. Гэты працэс вызначыў далейшае развіццё самастойных танцавальных форм, якія выкрышталізаваліся з карагода і існавалі паралельна з ім.

*Літ.:* Каталог Минской областной выставки древностей и изящных изделий. Мн., 1918; Шчакаціхін М. 1-я Усебеларуская мастацкая выстаўка: Кат. аддз. старажыт. мастацтва. Мн., 1926; Віцебшчына. Т. 2. Віцебск, 1928; Кацер М. С. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. Мн., 1969; Жывапіс Беларусі XII—XVIII стагоддзяў. Мн., 1980; Молчанова Л. А. Очерки материальной культуры белорусов XVI—XVIII вв. Мн., 1981; Яніцкая М. М. Вытокі шкларобства Беларусі. Мн., 1980; Музей старажытнабеларускай культуры: Кат. экспазіцыі. Мн., 1983; Заслаўскі гісторыка-археалагічны запаведнік. Мн., 1983; Милюченков С. А. Белорусское народное гончарство. Мн., 1984. С. 98; Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII—XVIII стагоддзяў. Мн., 1984; Промыслы і рамёствы Беларусі. Мн., 1984.

*Н. Ф. Высоцкая, Н. І. Здановіч, Л. У. Калядзінскі, А. К. Лявонава, Г. А. Маслыка, В. Е. Собаль, А. А. Трусаў, М. М. Яніцкая.*



**МАСТА́ЦТВА КНІ́ГІ** на Беларусі ў 15—16 ст. характарызуецца сталасцю майстэрства аздобы рукапісаў, фарміраваннем маст. школы, вядучых жанраў, відаў, сродкаў і тэхнікі аздобы друкаванай кнігі, пошукам уласнага шляху стварэння кнігі як маст. формы.

Бел. кніжная мініяцюра, якая мела даўнія традыцыі і ўзыходзіла да часоў Стараж. Русі, набывае адметнасць своеасаблівымі застаўкамі, канцоўкамі, выкананымі ў тэраталагічным стылі, жанравым характарам ініцыялаў. Аздоба рукапісаў у асн. арнаментальная, фігурных мініяцюр мала. У выявах евангелістаў дамінуе візант. традыцыя, каларыт іх прыгожы, гарманічны, у жывапісе пераважае «вогненная» гама. Адметныя Шарашоўскае евангелле (канец 15 ці сярэдзіна 16 ст.), у якім стыль і манера выканання вобразаў

Да арт. **Мастацтва кнігі.** Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Тытульны ліст.



1



2



3



4



5



6

**Медалі,** прысвечаныя Ф. Скарыне. 1. Р. Івaноў. Францыск Скарына. 1985. 2. А. Зіменка. Францыск Скарына. 1985. 3. Г. Асташонак. Францыск Скарына. 1985. 4. В. Прыешкін. Францыск Скарына. 1985. 5. П. Лук. Францыск Скарына. 1986. 6. С. Гарбунова. Францыск Скарына. 500 год. 1986.

4 евангелістаў ужо набліжаюцца да народнага, т. зв. «прымітыўнага» жывапісу з яго наіўнай, спрошчанай трактоўкай фігур, Слуцкае евангелле (1582) з запісам князя Алелькі (ці Алелькавіча) пра спосаб напісання помніка (золатам і чарнілам). У інш. рукапісах 16 ст. пераважаюць дэкаратыўныя элементы, застаўкі і ініцыялы, зробленыя ў балканскім (радзей новавізант.) стылі. Сустракаецца вязь. Застаўкі часта мадэліраваны добра згарманізаваным чырвоным, жоўтым, зялёным і сінім колерамі. З 2-й пал. 14—16 ст. ў бел. рукапіснай кнізе наглядаецца зах.-еўрап. ўплыў, пранікаюць свецкія сюжэты, гіст. і бытавыя сцэны. Вядомы імёны некат. перапісчыкаў і мастакоў кніг 16 ст.: «старца» Хвоенскага, Івана Праскуры, дзякаў Іакімца, Фёдара. У цэлым ілюмінаваныя помнікі дэманструюць высокі ўзровень рукапіснага кніжнага мастацтва, для якога характэрны сакавітасць фарбаў, жыццёвасць і экспрэсія вобразаў, стрыманы дэкор. Мастацтва рукапіснай кнігі значна паўплывала на развіццё мастацтва друкаванай кнігі, але і само ў далейшым зазнала моцнае яго ўздзеянне. (Гл. таксама арт. *«Дзесятаглаў», Евангеллі, Рукапісная кніга, Рукапісная справа*).

У 1-й чвэрці 16 ст. М. к. ўступіла ў новую фазу развіцця: з'явілася бел. друкаваная кніга, а разам з ёю ксілаграфія, з якой звязаны прынцыповыя дасягненні кніжнага мастацтва, якасна новы этап у яго эвалюцыі. Кніга набывае характэрнае афармленне, дзе злучаюцца маст. творчасць і тэхніка (паліграфія). *Кнігавыдавецкая дзейнасць Ф. Скарыны* паклала пачатак бел. кнігадрукаванню і ўзнікненню новага віду выяўленчага мастацтва — кніжнай гравюры. З маст.-паліграф. боку выданні С.— сапраўдныя шэдэўры М. к., яны стаялі на ўзроўні і нават пераўзыходзілі папярэднія і сучасныя ім царк.-слав. старадрукі. Яго кнігі маюць усе віды аздоб: ілюстрацыі, застаўкі, канцоўкі, ініцыялы, наборны арнамент. Вяршыняй прафес. майстэрства С. і М. к. 16 ст. стаў «Апостал», у якім рэалізаваліся пошукі ў стварэнні цэласнай маст. формы кнігі (гл. арт. *Мастацкае афармленне кніг Ф. Скарыны*). У 2-й пал. 16 ст. ў развіцці М. к. дамінавалі ў асн. 2 тэндэнцыі: працяг скарынінскіх традыцый і ўздзеянне рускага (маскоўскага) кніжнага мастацтва праз выданні Івана *Фёдарава* і Пятра *Мсціслаўца*. Развіццё гэтых тэндэнцый прывяло да фарміравання ўласнай школы кніжнага мастацтва, якая ярка праявілася ў *брацкім кнігадрукаванні*. Традыцыі С. найб. паслядоўна наследавалі Сымон *Будны* і Васіль *Цяпінскі*. Малюнак шрыфтоў *«Катэхізіса» 1562* паўтарае шрыфты выданняў С., а «Евангелле» Цяпінскага 1570-х г.— шрыфт і прамавугольныя ініцыялы. Фігурныя ілюстрацыі С. мелі меншае ўздзеянне на яго паслядоўнікаў, сярод выключэнняў — *«Брэсцкая біблія»* (1563), гравюры якой маюць некат. падабенства да скарынінскіх. Пасля перыяду пэўнага заняпаду ілюстрацыі ў бел. кірыліцкім кнігадрукаванні яе адраджаюць Фёдараў і Мсціславец (гравюра «Цар Давід» у «Псалтыры» 1570). Рускія першадрукары ўзбагацілі бел. кніжную графіку вопытам маскоўскіх майстроў — своеасаблівай друкарскай арнаментыкай, новымі гарнітурамі шрыфтоў. Праз Мсціслаўца, які з сярэдзіны 1570-х г. распачаў выдавецкую дзейнасць у Вільні, маскоўскія традыцыі пранікаюць у выданні *Мамонічаў*. Тут быў створаны новы тып кнігі — строгай, стрыманай, лаканічнай і ў той жа час па-свойму імпазантнай. Выдадзеныя на бел. мове Мамонічамі «Трыбунал абывацелям Вялікага княства Літоўскага» (1586) і «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588» з'яўляюцца ўзорам арганічнага сінтэзу маст. афармлення і зместу. Яны набраны курсівам па ўзору бел. рукапісаў. Выдатна вырашаны тытульныя лісты, гравюры. У афармленні «Статута» мог прымаць удзел Грынь Івановіч, які, відаць, зрабіў копію гравюры «Цара Давіда» і да «Псалтыра» 1586 Мамонічаў. Уплыў маскоўскіх традыцый адчуваецца і ў выданнях Васіля *Гарабурды*.

Есць меркаванні, што Мсціславец ства-



1



2



3



4



5



6

Да арт. **Медалі.** Плакеткі, прысвечаныя Ф. Скарыне. Работы мастакоў С. Логвіна (*1*), Г. Мурамцава (*2*), Э. Астаф'ева (*3*), М. Канцавога (*4*), А. Дранца (*5*), М. Байрачнага (*6*).

рыў на Беларусі гравёрную школу. Заналі яго ўздзеянне і фігурная гравюра ў брацкіх выданнях і сам тып кнігі, дзе асн. ролю адыгрывае не пастаронкавая ілюстрацыя, а фігурны франтыспіс (гэта асабліва збліжае бел. і рус. старадрукі). Маст. афармленне рукапісаў і старадрукаў на Беларусі вызначалася эканоміяй і стрыманасцю выкарыстання выяўленчага матэрыялу; выразнасць унутранага і вонкавага аблічча кніг дасягалася скупымі і сціплымі маст. сродкамі. Мэтанакіраваныя пошукі, сур'ёзныя знаходкі і дасягненні стварылі характэрную аздобу нац. кнігі, якая ў пазнейшую эпоху барока набыла рысы сталай маст. школы. У канцы 16 ст. майстры бел. кнігі засвойваюць металагравюру, яна становіцца асн. маст.-тэхн. сродкам паліграфіі.

*Літ.:* Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковнославянских и русских. Вильна, 1882; Шматаў В. Гравёрная школа Пятра Мсціслаўца//Мастацтва Беларусі. 1984. № 1.

*В. Ф. Шматаў.*

**МЕДАЛІ**, прысвечаныя Ф. Скарыне. Першы юбілейны М. з выявай С. створаны ў 1967 да 450-годдзя бел. кнігадрукавання і ў сувязі з рашэннем аб правядзенні Рэсп. конкурса па мастацтву кнігі з узнагародай пераможцаў М. і *дыпломам імя Ф. Скарыны.* М. зроблены А. М. *Кашкурэвічам* з асобных сплаваў бронзы. Да 455-годдзя бел. кнігадрукавання (1972) ён быў узноўлены: павялічаны памеры, на адваротным баку зменены надпіс. Сярод найб. значных твораў медальернага мастацтва, прысвечаных С., памятная керамічная плакетка (адрозніваецца ад М. прамавугольнай або блізкай да яе формай) М. І. *Байрачнага,* якой узнагароджваліся пераможцы і дыпламанты XI Міжрэспубліканскага конкурсу «Мастацтва кнігі» (г. Мінск, 1979), М. латышскага скульптара Я. *Струпуліса* (1979), 2 плакеткі і М. бел. скульптара Э. Б. *Астаф'ева* (1980). Да вобраза С. ў медальерным мастацтве звярталіся Ю. Г. Анушка, Г. А. Асташонак, Т. І. Васюк, Г. А. Гаравая, С. Р. Гарбунова, Р. Даўгінтыс, А. В. Дранец, А. І. Зіменка, Р. М. Іваноў, М. П. Канцавы, А. Дз. Крывенка, С. А. Логвін, П. І. Лук, Г. І. Мурамцаў, В. Р. Прыешкін, В. І. Янушкевіч. Апісанне М. і плакетак гл. ў табліцы.

*А. Я. Белы.*

**МЕ́ДЫКА-БІЯЛАГІ́ЧНАЯ ДЗЕ́ЙНАСЦЬ Ф. СКАРЫ́НЫ.** Ступень доктара медыцыны С. атрымаў у *Падуанскім універсітэце.* Невядома, дзе С. атрымаў першапачатковую мед. адукацыю, але ў Падую ён прыехаў, маючы грунтоўную мед., прыродазнаўчую і філас. падрыхтоўку. З дакумента Падуанскага ун-та ад 9.11.1512 вядома, што на экзамене С. ў прысутнасці «свяшчэннай калегіі вядомых дактароў філасофскіх і медыцынскіх навук Падуі... з вялікім веданнем і вельмі грунтоўна выказваўся супраць выстаўленых яму пярэчанняў — так што ўсе прысутныя дактары прызналі яго аднагалосна годным звання, і... ён быў аб'яўлен у прынятай форме доктa-

**Медалі, прысвечаныя Ф. Скарыне**

| Мастак | Год стварэння, матэрыял, тэхніка, памеры | Апісанне твора | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Правы бок | Адваротны бок | Месца стварэння, знаходжання |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| Ю. Г. Анушка | 1986, тэракота, вашчэнне. 29×23 см. | Плакетка «Францыск Скарына». Выкарыстаны гравюрны партрэт С. з «Бібліі». Злева ўверсе зашыфраваная вязь «Доктар Францыск Скарына» | — | Мінск; уласнасць аўтара. |
| » | 1986, тэракота, вашчэнне; сілумін, ліццё. 12×22 см. | Плакетка «Успаміны пра беларускага першадрукара». За кампазіцыйную аснову ўзята адна з заставак «Бібліі» С., у цэнтры якой змешчана выява С. ў профіль. | — | Мінск; уласнасць аўтара (тэракота), калекцыя А. Я. Белага (сілумін, ліццё). |
| Э. Б. Астаф'еў | 1980, таніраваны сілумін, ліццё. Дм 20 см. | Медаль «Беларускі першадрукар Францыск Скарына». Паўфігура С. з кнігай у руках. Круг медаля нагадвае сонца, справа на полі рэльеф месяца. | Па краю надпіс «Беларускі першадрукар Францыск Георгій Скарына». У цэнтры на картушы герб С. | Мінск; уласнасць аўтара. |
| » | 1980, таніраваны гіпс. 20× ×18 см. | Плакетка «Францыск Скарына». Складаная, няправільная форма. Злева пагрудны профіль С. | — | Мінск; уласнасць аўтара. |
| » | 1980, гіпс. 19×19 см. | Плакетка «Францыск Скарына». У выглядзе няправільнага дзесяціграніка. У цэнтры пагрудная выява С. з прыціснутай да грудзей кнігай. На полі надпіс «Францыск Скарына». | — | Мінск; уласнасць аўтара. |
| Г. А. Асташонак | 1985, таніраваны сілумін, ліццё. Дм 9 см. | Медаль «Францыск Скарына». З левага боку пагрудная выява С., якая зліваецца з краем медаля. Поле запоўнена дубовым вянком, апяразаным стужкай з надпісам «Ф. Скарына». Шрыфт — беларускі паўустаў 15—16 ст. | — | Мінск; уласнасць аўтара. |
| М. І. Байрачны | 1979, тэракота, вашчэнне. 18,5×15,5 см. | Памятная плакетка «Францыск Скарына», стылізаваная пад стараж. пячатку. У цэнтры партрэтная выява С. Край плакеткі акаймляе звілістая стужка з надпісам на рус. мове «XI Міжрэспубліканскі конкурс «Мастацтва кнігі», Мінск, 1979». | — | Мінск, 50 экз. |
| Т. І. Васюк | 1986, тэракота, вашчэнне. | Плакетка «Герб Францыска Скарыны». Мае форму геральдычнага шчыта, што ўжываў С. ў сваіх гравюрах. У цэнтры сонца і месяц з выявай твару С. | Знак С., т. зв. вагі. | Мінск; уласнасць аўтара. |
| Г. А. Гаравая | 1985, таніраваны гіпс, дрэва. 11,5×14,5 см. | Плакетка «Францыск Скарына». У форме чатырохвугольніка. У цэнтры выява С. | — | Мінск; уласнасць аўтара. |
| С. Р. Гарбунова | 1986, таніраваны сілумін, ліццё. 20,5× ×19 см. | Юбілейны медаль «Францыск Скарына. 500 год». У цэнтры круга — паясная выява С. ў доктарскай мантыі з разгорнутай кнігай і пяром у руках. На звілістай стужцы надпіс (адпавядае назве медаля). | — | Мінск; уласнасць аўтара. |
| Р. Даўгінтыс | 1985, бронза, ліццё. Дм 11,5 см. | Медаль «Доктар Францыск Скарына». У цэнтры стылізаваная выява С., выкананая на аснове гравюрнага партрэта С. з «Бібліі». Па краі поля лацінкай надпіс, які адпавядае назве меда- | — | Вільнюс; уласнасць аўтара. |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | ля, і гады жыцця «1486—1551». | | |
| А. В. Дранец | 1985, гіпс таніраваны, сілумін, ліццё. 36×33 см. | Плакетка «Францыск Скарына». Па форме нагадвае арку, у цэнтры якой пагрудная выява С. ў доктарскай мантыі з кнігай у руках. | — | Мінск; уласнасць аўтара (гіпс); калекцыя Белага (сілумін). |
| А. І. Зіменка | 1985, таніраваны гіпс, адваротны рэльеф. Дм 14 см. | Медаль «Францыск Скарына». У цэнтры — пагрудная выява С. ў доктарскай мантыі з кнігай у руцэ. На полі ініцыялы «Ф.» і «С.», герб Вял. кн. Літоўскага, сімвалы. | — | Фаніпаль Мінскай вобл.; уласнасць аўтара. |
| Р. М. Іваноў | 1985, тэракота, вашчэнне, таніраваны сілумін, ліццё. Дм 10,5 см. | Медаль «Ф. Скарына». Справа пагрудная выява С. ў доктарскай мантыі. Поле запоўнена промнямі сонца, па краі надпіс скарынінскім шрыфтам (адпавядае назве медаля). | Па краі надпіс скарынінскім шрыфтам «Заснавальнік беларускага кнігадрукавання», ніжэй дата «1517» (старабеларускімі літарамі). У цэнтры — герб С., абапал геральдычнага шчыта асабістыя знакі С. | Мінск; уласнасць аўтара (тэракота); калекцыя Белага (сілумін). |
| М. П. Канцавы | 1984, сілумін, мядненне, ліццё. 17×18,5 см. | Плакетка «Францыск Скарына». Па форме нагадвае геральдычны шчыт. У цэнтры — паясная выява С. з прыціснутай да грудзей кнігай. | — | Мінск; калекцыя Белага. |
| А. М. Кашкурэвіч | 1967, бронза, штамп. Дм 7,5 см. | Медаль «Францыск Скарына». У цэнтры пагрудная выява С. ў профіль. Па краі надпіс «Францыск. Георгій. Скарына». | У цэнтры разгорнутая кніга. Па краі надпіс «450 год беларускага кнігадрукавання. 1517—1967». | Мінск; тыраж 820 экз. |
| А. Дз. Крывенка | 1986, таніраваны сілумін, ліццё. Дм 9 см. | Медаль «Францыск Скарына». У цэнтры паплечная выява С. | — | Мінск; уласнасць аўтара. |
| С. А. Логвін | 1986, таніраваны сілумін, ліццё. 14,5×14,5 см. | Плакетка «Францыск Скарына», квадратнай формы. У цэнтры выява С. На полі злева ўверсе перавітая стужкай кніга, справа стужка з надпісам. | — | Мінск; уласнасць аўтара. |
| П. І. Лук | 1986, таніраваны гіпс. Дм 14,5 см. | Медаль «Францыск Скарына». У цэнтры паясная выява С. ў доктарскай мантыі. | — | Мінск; уласнасць аўтара. |
| Г. І. Мурамцаў | 1986, гіпс. 18×28 см. | Плакетка «Францыск Скарына». Паплечная выява С. ў доктарскай мантыі. На геральдычных шчытах герб С. і знак «вагі». | — | Мінск; уласнасць аўтара. |
| В. Р. Прыешкін | 1985, тэракота, вашчэнне, дымленне. Дм 14,5 см. | Медаль «Францыск Скарына». Формай стылізаваны пад стараж. пячатку. У цэнтры — пагрудная выява С. У руках яго наборная літара «А» і пяро. Уверсе гравюрная выява сярэдневяковага Полацка. Па краі скарынінскім шрыфтам надпіс «Францiск Скорина с Полоцька». | — | Мінск; уласнасць аўтара. |
| Я. А. Струпуліс | 1979, бронза, ліццё. Дм 6,5 см. | Медаль «Францыск Скарына». У цэнтры паясная выява С. ў доктарскай мантыі з пяром у руках. Уверсе па краі поля надпіс «Францыск Скарына». | Выява жняца з сярпом і пшанічнага поля (фрагмент з кн. «Руф»). | Рыга; Музей медыцыны імя Паўла Страдыня. |
| В. І. Янушкевіч | 1984, таніраваны гіпс. 28×28 см. | Плакетка «Францыск Скарына». Форма — усечаны крыж. У цэнтры выява С. ў доктарскай мантыі. Унізе надпіс лацінкай «Францыск Скарына». | — | Мінск; калекцыя Белага. |

рам медыцыны». Доктар медыцыны і філасофіі В. Барызоні ўручыў С. дыплом мед. ф-та. У 1530 С. знаходзіўся ў Кёнігсбергу, працаваў лекарам у прускага герцага *Альбрэхта* Гогенцолерна. Неўзабаве вярнуўся ў Вільню, быў сакратаром і хатнім лекарам віленскага біскупа *Яна*. У прадмовах С. пісаў пра сябе: «в лекарских науках доктор». У 15—17 ст. дактароў медыцыны ва ўсх.-слав. землях былі адзінкі. У сувязі з гэтым С. мог мець непасрэднае дачыненне да дыспуту з рэфарматарам медыцыны *Парацэльсам*, які быў у Вільні паміж 1520 і 1525. Ёсць падставы меркаваць, што С. цікавіўся прыродазнаўствам. У сваіх прадмовах ён імкнуўся прывіць чытачам цікавасць да вывучэння расліннага і жывёльнага свету. Вопыту і назіранню С. надаваў вялікае значэнне. У сярэдзіне 1530-х гадоў ён пераехаў у Прагу, працаваў у каралеўскім бат. садзе, аб чым сведчыць адзін з дакументаў — копія каралеўскай ахоўнай граматы ад 29.1.1552, выдадзеная сыну С. Сімяону і ўпершыню правільна растлумачаная А. В. *Флароўскім*. Копія граматы захавалася ў выглядзе «рэгістры» — зыходных папер прыдворнай канцылярыі (зберагаецца ў Цэнтр. дзярж. архіве ЧССР, Прага). У грамаце зацвярджаецца спадчыннае права Сімяона на валоданне маёмасцю і каштоўнасцямі бацькі: «Некалі доктар Францішак Рус Скарына з Полацку, садоўнік наш, у гэтым каралеўстве чэшскім чужаземец, з гэтага свету пайшоў і пасля сябе сына Сімяона Руса... пакінуў». Кароль называе С. «садоўнікам нашым». Захапленне батанікай сведчыць аб тым, што С. разумеў вял. значэнне прыродазнаўчых навук і па магчымасці імкнуўся іх распаўсюджваць сярод суайчыннікаў. У прадмовах да сваіх выданняў С. адзначае, што чытач знойдзе ў кнізе «размолвление о прирождении древ и былин... о прирожении зверей, гадов и риб». Пытанне аб М.-б. дз. С. і яго прыродазнаўчых поглядах застаецца недастаткова вывучаным. Невядома, ці былі ў С. працы ў гэтай галіне. Ёсць звесткі, што сын С. Сімяон быў таксама садоўнікам у Йіндржыхуў-Градцы (ЧССР) і адначасова займаўся мед. практыкай. Па сваіх перакананнях С. быў найб. яркай асобай ранняга Адраджэння, для якога было характэрна імкненне да паняцця прыроды і перш за ўсё прыроды чалавечага цела. У шырокім коле разнастайных інтарэсаў і ведаў выдатных людзей яго эпохі медыцына займала пачэснае месца, была той асобнай і складанай сферай вольных навук, з дапамогай якіх ён мог забяспечыць сабе сродкі да жыцця і прынесці значную карысць сваёй айчыне.

*Літ.:* 6; 66; 101; 170; 377. *В. П. Грыцкевіч.*

**МЕ́КЕНЕМ** (Meckenem) Ізраэль ван (каля 1450—1503), гравёр ням. «рэйнскай школы». Вядома каля 600 яго гравюр, выкананых у тэхніцы паглыбленай гравюры на медзі (медзярыт) у познагатычным стылі. Асаблівую вядомасць набыў «Вялікі прапісны алфавіт» (Das grössere Majuskel-Alphabet). Ён складаецца з 24 знакаў (літара «W» адсутнічае, «Т» паўторана двойчы). Арнаментыка алфа-

віта раслінная, у ёй пераважае матыў аканту. Алфавіт М. капіравалі ў многіх еўрап. краінах, ён быў вядомы ў Маскве (асобныя элементы арнаментыкі алфавіта М. сустракаюцца ў рус. рукапісах 16 ст., у аздобе першых маскоўскіх дакладна датаваных выданняў, напр., «Апостала» 1564). Да стылістыкі «Вялікага прапіснога алфавіта» М. ўзыходзіць ініцыял «С» на арк. 183-м «Малой падарожнай кніжкі» (1522) С.: літара тонка перагравіравана на дрэве з лац. «V» і надрукавана чырвонай фарбай. Відаць, С. меў алфавіт М. Згаданы ініцыял — найб. ранні ўзор стылю М. на ўсх.-слав. землях. Кнігазнавец М. П. Кісялёў меркаваў, што з віленскай друкарні С. алфавіт М. трапіў у Маскву і яго перадаць мог П. Мсціславец.

*Літ.:* 629; Geisberg M. Verzeichnis der Kupferstiche. Israhel von Meckenem. Strassburg, 1903. *В. Ф. Шматаў.*

**МЕЛА́НХТАН** (Melanchthon) Філіп (16.2.1497 — 19.4.1560), нямецкі гуманіст, тэолаг і педагог, дзеяч бюргерскага кірунку герм. Рэфармацыі. Выхоўваўся пад уздзеяннем ідэй Іагана *Рэйхліна* і *Эразма Ратэрдамскага.* З 1518 праф. грэч. мовы ў Вітэнбергскім ун-це. Паплечнік Марціна *Лютэра.* Яры праціўнік Сялянскай вайны 1524—26, Томаса *Мюнцэра* і анабаптыстаў. Імкнуўся выкарыстаць грэка-лац. адукаванасць для замены схаласт. тэалогіі новай пратэстанцкай тэалогіяй. У творах «Агульныя прынцыпы тэалогіі» (1521), «Аўгсбургскае спавяданне» (1530) і інш. сістэматызаваў лютэранскую тэалогію. Пасля смерці Лютэра (1546) — на чале лютэранства. Аўтар шматлікіх педагагічных твораў і падручнікаў па логіцы, грэч. і лац. граматыцы, этыцы і рыторыцы, садзейнічаў рэарганізацыі школьнай і універсітэцкай справы ў Германіі, распаўсюджванню класічнай адукацыі. У яго дзейнасці прасочваюцца сувязі і кантакты з асобнымі прадстаўнікамі ўсх.-еўрап. культуры. Сустракаўся з «ліцвінамі», якія вучыліся ў Вітэнбергскім ун-це. У Вітэнберг для дыспуту з ім прыязджаў *Пётр з Ганёндза.* Існуе гіпотэза, што тут М. сустракаўся і са С.

*Літ.*: Лившиц Г. М. Реформационное движение в Чехии и Германии. Мн., 1978; Stern L. Ph. Melanchthon, Humanist, Reformator, Praeceptor Germaniae. Halle, 1963. *Г. Я. Галенчанка.*



Ф. Меланхтан.

**МЕ́ТРЫКА ВЯЛІ́КАГА КНЯ́СТВА ЛІТО́ЎСКАГА,** Літоўская метрыка (польск. metryka архіў), асноўны збор дакументаў па гісторыі сац.-эканам., у меншай ступені паліт., культ. і царк.-рэліг. адносін у Вял. кн. Літоўскім у 14—18 ст., дзяржаўны архіў канцылярыі княства.

Пераважная большасць матэрыялаў Метрыкі звязана з дзейнасцю канцылярыі канцлера і падканцлера, дзе складаліся кнігі дакументаў. У канцы 16 — пач. 17 ст. зроблены копіі кніг, звераныя з арыгіналамі, якія замянілі іх у штодзённым ужытку. У 2-й пал. 17 ст. большасць кніг Метрыкі загінула. Захавалася каля 600 кніг, у т. л. арыгінальныя кнігі канца 16—18 ст. Падзяляюцца на кнігі: запісаў, што змяшчаюць розныя дараванні, велікакняжацкія граматы, зацвярджэнне зямельных здзелак і інш.; судовых і публічных спраў, якія ўключаюць княжацкія і каралеўскія наказы, уставы, сеймавыя пастановы, вопісы войск і інш.; перапісаў з апісаннем замкаў, староставаў, эканомій; пасольскія, якія адлюстроўваюць знешнепаліт. адносіны Вял. кн. Літоўскага з Рускай і інш. дзяржавамі; кнігі данін, арэндаў і інш. Асобны раздзел складаюць «новыя кнігі», што ўключаюць стараж. акты, радаслоўныя табліцы, межавыя карты, а таксама справы найноўшай вытворчасці 2-й пал. 18 ст. Не заўсёды назва кніг адпавядае характару змешчаных у іх дакументаў. У дзярж. справаводстве да канца 16 — пач. 17 ст. панавала старабел. мова, пазней пераважаюць дакументы на польск., часткова на лац. мовах. Мова, на якой пісаліся кнігі Метрыкі, у час С. дабратворна ўплывала на развіццё асветы, кнігадрукавання, пісьменнасці, садзейнічала выпрацоўцы літаратурнай мовы. Невялікая частка дакументаў Метрыкі пераважна найстаражытнейшага перыяду, апублікавана як асобныя выданні і дадаткі да манаграфій розных аўтараў. Значна слабей вывучаны і выкарыстаны кнігі 17—18 ст. Метрыка захоўвалася ў Троках, Вільні, Варшаве, цяпер зберагаецца ў Цэнтр. дзярж. архіве стараж. актаў у Маскве, Галоўным архіве стараж. актаў у Варшаве, копіі некат. дакументаў ёсць і ў інш. архівах.

Судовыя справы з упамінаннем С. ці яго сваякоў знайшлі адлюстраванне ў наступных кнігах Метрыкі: кніга запісаў № 12, акт 1526 (Ф. Скарына «знаменитый муж, господин Франциск, доктор медицинских наук» выступае як сведка «фундуша», які быў прадстаўлены слуцкім князем Юрыем Сямёнавічам віленскаму епіскапу на заснаванне парафіі, царквы і школы ў сяле Вейсеі Гродзенскага пав.); кніга судовых спраў № 4, акт 1529 (судовы прыгавор па справе аб маёмасці жонкі С. Маргарыты, на маёмасць якой прэтэндавалі віленскія мяшчане Марцін Субачовіч і Мікалай Багданаў Чупрын); кніга запісаў № 16, два акты 1535 (звязаны з судовымі справамі полацкіх мяшчан Міхно Аўсяннікава і Ескі Сцяпанавіча, якія прэтэндавалі на дворышча С. ў Полацку) і ў інш. У кнігах Метрыкі змешчана шмат спраў, дзе ўпамінаюцца віленскія мяшчане, якія падтрымлівалі С. ў яго выдавецкай дзейнасці (Багдан Онкаў, Якуб Бабіч і інш.). Асн. дакументы пра С., што захаваліся ў кнігах Метрыкі, выяўлены і апублікаваны П. У. Уладзіміравым у кн. «Доктар Франциск Скарына. Яго пераклады, друкаваныя выданні і мова»(Спб., 1888). Акт 1526, які знайшоў Г. Я. *Галенчанка,* поўнасцю не публікаваўся.

*Публ.:* Акты Литовской метрики. Т. 1, вып. 1—2. Варшава, 1896—97; Русская историческая библиотека. Т. 20, 27, 30, 33. Спб.— Пг., 1903—15; Акты Литовско-Русского государства. Вып. 1. Т. 2. М., 1897—99; Малиновский И. Сборник материалов, относящихся к истории панов-рады Великого княжества Литовского. [Ч. 1—2] Томск, 1901—12.

*Літ.*: 92; 249; Описание книг и актов Литовской метрики/Сост. С. Л. Пташицкий. Спб., 1887; Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции. Кн. 21. М. 1915; Бережков Н. Г. Литовская метрика как исторический источник. Ч. 1. М.; Л., 1946; Хорошкевич А. Л. К истории издания и изучения Литовской метрики // Acta Baltico-Slavica, Białystok, 1973. Т. 8. Kennedy Grimsted P. Układ i zawartość Metryki Litewskiej//Archeion. Warszawa; Łódź, 1986. T. 80.

**МЕЦЭНА́ЦТВА** [ад лац. прозвішча Maecenas (Maecenatis)], спрыянне дзеячам культуры з боку асобных прадстаўнікоў прывілеяваных саслоўяў, уласцівае культуры рабаўладальніцкага, феад. або капіталіст. грамадства на пэўнай ступені іх развіцця. У сярэднявеччы значнае пашырэнне атрымала ў краінах Зах. Еўропы. У Вял. кн. Літоўскім першыя звесткі аб М. звязаны з дзейнасцю С. Некат. функцыі М. былі ўласцівы заможным бел. гараджанам, якія падтрымлівалі друкарні С. ў Празе і Вільні (Багдан *Онкаў,* магчыма Якуб *Бабіч,* Юрый *Адвернік*), а з канца 16 ст. прымалі ўдзел у кнігавыдавецкай і школьна-асв. дзейнасці бел. брацтваў.

Як прыкметная сацыяльна-культ. з'ява М. атрымала далейшае развіццё ў Вял. кн. Літоўскім, у т. л. і на Беларусі, у сярэдзіне 16 ст. пад уплывам розных эканам., паліт. і культ. фактараў. Развіццю М. садзейнічалі ўзрослыя культ. і паліт. сувязі Беларусі, Літвы, Польшчы, рост уплыву рэнесансавай культуры, Рэфармацыя. М. абумоўлівала сервілізм, у значнай ступені вызначала ідэйную, сац. накіраванасць, класавы характар літаратурнай і маст. творчасці, яго знешнія формы. Адначасова мела некат. пазітыўныя бакі: садзейнічала ўтварэнню цэнтраў літаратурнай, кнігавыдавецкай дзейнасці, развіццю архітэктуры, выяўл. мастацтва, пашырэнню міжнар. культ. сувязей. Асн. стваральнікамі літаратурных і маст. каштоўнасцей былі прадстаўнікі дэмакр. колаў насельніцтва (гараджан, дробнай шляхты, ніжэйшага духавенства). У іх творах разам з пануючай ідэалогіяй у той або інш. ступені адлюстроўваліся іх эстэт., этычныя, сац. уяўленні, светапогляд. Найб. развітыя формы М. ў сярэдзіне 16 ст. былі ўласцівы некат. буйным уласнікам. Развіццё эканомікі, больш інтэнсіўная сістэма эксплуатацыі паднявольнага насельніцтва дазваляла ім назапашваць велізарныя сродкі, ажыццяўляць дарагое палацава-замкавае будаўніцтва (*Брэст, Нясвіж,* Лоск, Мір), спрыяць развіццю навук і мастацтва.

Станаўленне новых форм М. ў сярэдзіне 16 ст. звязана пераважна з дзейнасцю *Радзівілаў,* якія мелі вял. зямельныя ўладанні на Беларусі, у Літве, на Украіне. У 1540-я г. яны ўстанавілі сувязі з

еўрап. кнігавыдаўцамі. Мікалай Радзівіл Чорны быў асабіста знаёмы з віленскім біскупам *Янам* «з князёў Літоўскіх», якому прадаў адзін са сваіх маёнткаў у Камянецкім павеце. С.— сакратар біскупа— удзельнічаў у афармленні некат. яго маёмасных здзелак. Пры пасрэдніцтве Радзівілаў у 1550—60-я г. заснаваны першыя на Беларусі *Брэсцкая друкарня* і *Нясвіжская друкарня,* стала развівацца свецкае кнігадрукаванне, выйшаў 1-ы поўны збор Біблії (Брэст, 1563, гл. *«Брэсцкая біблія»*). Нясвіжскім Радзівілам прысвечана каля 100 выданняў, што выйшлі на Беларусі, у Вільні, часткова — за межамі Вял. кн. Літоўскага з 1545 да 1654. Больш паловы гэтых кніг маюць аўтарскія або выдавецкія прысвячэнні Мікалаю Радзівілу Чорнаму і Мікалаю Радзівілу Сіротцы, што сведчыць пра іх актыўны ўдзел у культ., грамадска-паліт. і царк.-рэліг. дзейнасці. У асн. адм. цэнтрах феад. уладанняў (Радзівілаў, Хадкевічаў, Храптовічаў, Сапег, Тышкевічаў і інш.) існавалі буйныя архіўныя, кніжныя зборы, калекцыі твораў мастацтва (абразоў, свецкага жывапісу, зброі, шпалераў і інш.). Феадалы прысвойвалі многія культ. каштоўнасці, створаныя працай і талентамі бел. народа.

Літаратурнаму М. Алелькавічаў доўгі час (канец 15— сярэдзіна 16 ст.) уласціва была сувязь з усх.-слав. кніжнарукапіснымі традыцыямі, бел.-літ. летапісаннем. Ім належаў Слуцкі (Увараўскі) спіс 1-га бел.-літ. летапіснага зводу (гл. *Беларуска-літоўскі летапіс 1446*), які з'явіўся адной з крыніц *«Хронікі» Быхаўца.* У 1570-я г. ва ўладаннях Алелькавічаў жыў М. Стрыйкоўскі, які падрыхтаваў тут свае асн. гіст. творы: «Пра паходжанне, развіццё, мужнасць, рыцарскія і хатнія справы слаўнага народа літоўскага, жамойцкага і рускага» і «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» (1582, бел. пераклад 1584). Рус. выхадцы — старац *Арцемій,* Марк Сарыхозін, якія жылі ў Слуцку ў 2-й пал. 16 ст., былі звязаны з Канстанцінам *Астрожскім*, Р. Хадкевічам, «скарбным» Вял. кн. Літоўскага І. Зарэцкім, Андрэем *Курбскім* і інш. дзеячамі, што прымалі ўдзел у арганізацыі бел. і ўкр. кнігадрукавання ў Заблудаве, Вільні, Астрозе і развіцці культ.-асв. дзейнасці.

*Літ.:* 111; 169; 257; Церашчатава В. В. Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI—XVII стст. Мн., 1986; Вайшвилайте И. В. Характер художественного меценатства в Литве // Проблемы истории античности и средних веков. М., 1983.

*Г. Я. Галенчанка.*

**МІЖНАРО́ДНЫЯ АДНО́СІНЫ ВА ЎСХО́ДНЯЙ ЕЎРО́ПЕ** ў 15—16 ст. Характарызаваліся паліт. актыўнасцю Рус. дзяржавы, Турцыі, Вял. кн. Літоўскага, у склад якога ўваходзілі Беларусь, большасць зямель Украіны і зах. частка рус. зямель, Польшчы, Венгрыі. У гэты ж час пашыраліся эканам. і культ. сувязі паміж народамі гэтага рэгіёна. У канцы 15 ст. утварылася своеасаблівая кааліцыя некалькіх дзяржаў, дзе панавала дынастыя Ягелонаў: Польшчы, Вял. кн. Літоўскага, Чэхіі і Венгрыі. Кіруючыя колы феадалаў у кожнай з гэтых краін праводзілі сваю палітыку, аднак дынастычныя сувязі садзейнічалі пашырэнню паліт., эканам. і культ. сувязей паміж імі, а праз іх з інш. краінамі Цэнтр. і Зах. Еўропы. Паліт. адносіны Вял. кн. Літоўскага з Рус. дзяржавай мелі пераменны характар: перыяды канфрантацыі і войнаў змяняліся мірным супрацоўніцтвам, кааліцыяй супраць турэцка-татарскай агрэсіі У 1495 быў заключаны шлюб паміж вял. князем Літоўскага княства Аляксандрам Казіміравічам і дачкою князя маскоўскага Івана III — Аленай. На паліт. становішча ва Усх. Еўропе ўплывала і ўзмацненне ў 1-й пал. 16 ст. паліт. пазіцый дынастыі Габсбургаў, якая ў 1526 атрымала кароны Чэхіі і Венгрыі (пасля дынастыі Ягелонаў), і ўзмацненне агрэсіі султанскай Турцыі ў краінах Пауд.-Усх. Еўропы. Асманскай імперыі ў гэты час належалі вял. тэрытарыяльныя ўладанні ў Еўропе, пярэдняй Азіі і паўн. Афрыцы.

У канцы 15 ст. канфрантацыя паміж Рус. дзяржавай і Вял. кн. Літоўскім, іх барацьба за ўплыў ва Усх. Еўропе і за валоданне рус. землямі прывялі ў 1487 да неаб'яўленай пагранічнай вайны паміж імі, якая працягвалася да 1494. Пераход да Рус. дзяржавы некат. удзельных княстваў Вял. кн. Літоўскага абвастрыў адносіны паміж дзяржавамі. У час рус.-літ. вайны 1500—03 рус. войскі 14.7.1500 разграмілі на р. Вядроша каля Дарагабужа войска Вял. кн. Літоўскага на чале з гетманам К. Астрожскім (гетман узяты ў палон), у ліст. 1501 — зноў разбілі каля Мсціслава. У сак. 1501 вял. князь Літоўскага княства Аляксандр Казіміравіч заключыў саюз з Лівонскім ордэнам супраць Рус. дзяржавы. Другі саюзнік Вял. кн. Літоўскага Залатая Арда заняла варожую пазіцыю ў адносінах да паўд. рус. гарадоў. Летам 1502 лівонскія рыцары нанеслі паражэнне рус. войскам пад Ізборскам, а Залатая Арда — пад Старадубам, Ноўгарад-Северскім, Рыльскам. У гэты час на вакантны польскі трон быў выбраны вял. князь літ. Аляксандр Казіміравіч; 3.10.1501 у Пётркаве заключана унія паміж Польшчай і Вял. кн. Літоўскім, а 23.10.1501 у Мельніку падпісана канчатковае пагадненне аб уніі паміж дзвюма дзяржавамі з больш цеснымі дзярж. сувязямі (адзіны сейм, адзіная рада, адзіная палітыка і г. д.). Аднак Пётркаўска-Мельніцкая унія не была ратыфікавана сеймам і панамі-радай Вял. кн. Літоўскага. Нягледзячы на гэта ва ўмовах персанальнай уніі (адзіны манарх у Польшчы і Вял. кн. Літоўскім) палітыка абедзвюх дзяржаў стала каардынавацца лепш. У кастр. 1501 Лівонскі ордэн пацярпеў паражэнне і падпісаў мір з Рус. дзяржавай. У чэрв. 1502 крымскі хан Менглі-Гірэй разграміў Залатую Арду і яна перастала існаваць як дзяржава. Рашаючым этапам ваенных дзеянняў стаў смаленскі паход рус. войск у 1502. Няўдачы ў вайне прымусілі Вял. кн. Літоўскае ў 1503 заключыць 6-гадовае перамір'е, паводле якога да Рус. дзяржавы адыходзілі 25 гарадоў і 70 воласцей у вярхоўях Акі, Дзясны, Дняпра і на ніжнім цячэнні Сажа, у т. л. гарады Бранск, Гомель, Мцэнск, Ноўгарад-Северскі, Рыльск, Старадуб, Сярпейск, Таропец, Трубчэўск, Чарнігаў. Страта важных у стратэгічных адносінах тэрыторый наблізіла граніцу да жыццёва важных цэнтраў дзяржавы.

Пасля смерці Аляксандра Казіміравіча (верасень 1506) сейм Вял. кн. Літоўскага насуперак умовам Пётркаўска-Мельніцкай уніі (без дамоўленасці з Польшчай) выбраў вял. князем яго брата — Жыгімонта Казіміравіча, які ў снеж. 1506 быў выбраны і польскім каралём. Такім чынам, у канцы 15— 1-й пал. 16 ст. міжнар. становішча Вял. кн. Літоўскага характарызавалася стабілізацыяй яго адносін з Польшчай і канфліктамі з Рускай дзяржавай. Для барацьбы з Рус. дзяржавай за вяртанне страчаных зямель Жыгімонт спрабаваў аб'яднаць сілы Вял. кн. Літоўскага, Польшчы, Лівоніі, Крымскага і Казанскага ханстваў і распачаў тайныя зносіны з братам маскоўскага вял. князя Васіля III Юрыем Іванавічам і інш. удзельнымі князямі. У 1507 войскі Вял. кн. Літоўскага пачалі ваенныя дзеянні. Вял. князь маскоўскі Васіль III сарваў планы Жыгімонта і схіліў на свой бок М. Глінскага, які падпісаў з рус. паслом пагадненне пра сумесныя дзеянні. Вайна 1507—08 не прынесла поспеху ніводнаму з бакоў і скончылася т. зв. вечным мірам (1508), паводле якога Вял. кн. Літоўскае прызнала за Рус. дзяржавай землі, што адышлі да яе ў 1503. Імкнучыся нармалізаваць адносіны з Крымскім ханствам, войскі якога працягвалі набегі на ўкр. і бел. землі, Польшча і Вял. кн. Літоўскага ў 1512 заключылі з ім мір і саюзнае пагадненне супраць Рус. дзяржавы.

У 1512 аднавілася рус.-літ. вайна, якая цягнулася 10 гадоў; зачэпкай для пачатку вайны паслужыў напад крымскіх татараў у маі і чэрвені 1512 на рус. землі. У жніўні 1514 рус. войскі авалодалі Смаленскам, але ў верасні пацярпелі паражэнне пад Оршай. Напады крымскіх татараў аслабілі рус. армію, і яна вымушана была пакінуць занятыя гарады Дуброўна, Крычаў, Мсціслаў. У 1517 пачаліся мірныя перагаворы, хоць ваен. дзеянні не спыніліся. Рус. войскі даходзілі да Полацка, Вільні і Мінска. 9.9.1522 заключана перамір'е тэрмінам на 5 гадоў, яно пацверджана і прадоўжана ў 1526 і 1533. Смаленская зямля перайшла да Рус. дзяржавы. У час руска-літ. вайны 1512—22 крымскія татары зноў распачалі набегі на землі Вял. кн. Літоўскага і Польшчы. У 1521 яны захапілі і спалілі Мазыр, разрабавалі населеныя пункты паміж Слуцкам і Пінскам. Адначасова татары ў 1521 напалі на Рус. дзяржаву і падышлі да самой Масквы. У 1524 на паўд. граніцах Вял. кн. Літоўскага ўтвораны атрады пагранічнай мяжы з мясц. жыхароў (казакі), якія часта і самі нападалі на татарскія і турэцкія варты. Імі кіравалі старосты пагранічных акруг. Казацкія войскі не толькі абаранялі пагранічныя пасяленні, крэпасці, але і спустошалі землі крымскага ханства. У 1524 конніца і пасланае на суднах па Дняпры казацкае войска захапілі турэцкую крэпасць Ачакаў. У 1527 крымскія татары пацярпелі буйное паражэнне ад атрадаў літ., бел. і ўкр. баяр на р. Альшаніца, каля Канева і Чаркасаў. Пасля гэтага крымскія татары ўглыб тэрыторыі Вял. кн. Літоўскага не пранікалі. Пасля смерці вял. князя маскоўскага Васіля III (1533) маскоўскія баяры, пры малалетнім Іване IV, вырашылі вярнуць страчаныя ў мінулых войнах рус. землі. У час руска-літ. вайны 1534—37 войскі Вял. кн. Літоўскага ў саюзе з крымскімі татарамі двойчы беспаспяхова нападалі на Чарнігава-Северскія землі, пацярпелі няўдачу і пад Смаленскам. Рус. войскі з вер. 1534 вялі баявыя дзеянні каля Віцебска, Полацка, Браслава, Крычава, Радамлі, Мсціслава, Магілёва; у 1536 узялі Старадуб, захоплены ў 1535 літ. войскамі. У выніку мірных перагавораў у лютым 1537 заключана перамір'е на 5 гадоў. Рус. дзяржава захавала завяваныя Себеж і Заволочча, Вял. кн. Літоўскае — Любеч і Гомель. У 1542 перамір'е прадоўжана на 7, а ў 1549 — яшчэ на 5 гадоў.

Вял. заклапочанасць кіруючых колаў Вял. кн. Літоўскага выклікала агрэсіўная палітыка Крымскага ханства. У канцы 15— пач. 16 ст. яны намагаліся проціпаставіць Крымскае

27*

ханства Залатой Ардзе або інш. татарскім феад. дзяржавам. Але ўмелае выкарыстанне Рус. дзяржавай агрэсіўнага імкнення крымскага хана прывяло да таго, што крымскія феадалы асн. напрамкам сваіх набегаў выбралі тэр. Вял. кн. Літоўскага. Набегі татараў на бел. і ўкр. землі, паўд. ч. Польшчы адбыліся ў 1502, 1503, 1505 і 1506. 5.8.1506 каля Клецка асн. сілы крымскіх татараў былі разбіты войскам Вял. кн. Літоўскага на чале з князем М. Глінскім. Паступова Рус. дзяржава адваявала рус. землі, што знаходзіліся ў складзе Вял. кн. Літоўскага. Пытанне аб іх дзярж. прыналежнасці канчаткова вырашана да сярэдзіны 16 ст. У сярэдзіне 16 ст. Вял. кн. Літоўскае практычна ўжо не магло процістаяць Рус. дзяржаве. Ход гэтай барацьбы і інш. тагачасныя падзеі падштурхоўвалі Вял. кн. Літоўскае да больш цеснага дзярж. саюзу з Польшчай. Гэтаму спрыяла і сумесная барацьба Вял. кн. Літоўскага і Польшчы супраць татарска-турэцкай пагрозы з поўдня.

Знешняя палітыка Польшчы ў канцы 15—1-й пал. 16 ст. грунтавалася на захаванні і ўмацаванні саюзу з Вял. кн. Літоўскім, ператварэнні персанальнай уніі ў рэальную, г. зн. аб'яднанні абедзвюх дзяржаў. Таму ў 16 ст. польскія атрады прымалі ўдзел у войнах Вял. кн. Літоўскага на Усходзе. У канцы 15 ст. Польшча намагалася ўзмацніць свой уплыў і ў Прычарнамор'і. Паход польскага войска ў Малдавію ў 1497 з мэтай адваяваць у Турцыі гарады Кілію і Белгарад і забяспечыць паліт. пратэктарат над Малдавіяй скончыўся паражэннем. Вайна паміж Польшчай і Малдавіяй 1509—10 скончылася без аднаўлення правоў Польшчы на Малдавію, якія яна мела раней. У 1531 пасля нападу малдаўскага гаспадара Пятрылы на Каламыю польскія войскі разбілі яго і адваявалі Пакуцце.

Адной з важных дыпламат. падзей ва Усх. і Цэнтр. Еўропе ў 1-й чвэрці 16 ст. быў *Венскі кангрэс 1515* — сустрэча ў Вене імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміляна I Габсбурга, караля Венгрыі і Чэхіі Уладзіслава II Ягелона і караля польскага і вял. князя літ. Жыгімонта I Старога. Венскі кангрэс, сучаснікам якога быў С., аблягчаў далейшае развіццё культ. зносін паміж краінамі і народамі Усх. і Цэнтр. Еўропы.

У час вайны 1519—21 Польшчы з Тэўтонскім ордэнам ваенныя дзеянні праходзілі на тэр. Прусіі і зах. і паўн. граніцы Польшчы; на баку Польшчы былі гарады Прусіі, асабліва Гданск. Вайна скончылася перамір'ем на 4 гады; у 1525 у Кракаве заключаны трактат, паводле якога Тэўтонскі ордэн ліквідаваўся і ператвараўся ў свецкае герцагства Прусію (секулярызацыя ордэна). Апошні магістр ордэна Альбрэхт Гогенцолерн, сваяк брандэнбургскіх маркграфаў Гогенцолернаў і пляменнік польскага караля Жыгімонта, прыняў лютэранства і стаў герцагам Прусіі, у леннай залежнасці ад Польшчы. На Кракаўскім рынку Альбрэхт прысягаў Жыгімонту як свайму сюзерэну. У 1526 згасла дынастыя мазавецкіх князёў і Мазовія (з цэнтрам у Варшаве) — апошняе ўдзельнае княства — канчаткова далучылася да Польшчы. Да сярэдзіны 16 ст. Польшча мела сталыя адносіны з суседнімі дзяржавамі, але ў 1526 канчаткова страціла ўплывы на Чэхію і Венгрыю, якія пасля смерці Людовіка II Ягелона перайшлі да Габсбургаў. У 1530-я г. ўстанавіліся дыпламат. адносіны Польшчы з Турцыяй. Польскія кіруючыя колы ўсё больш займаліся ўсх. справамі, намагаючыся ўмацаваць саюз з Вял. кн. Літоўскім.

Адной з буйных падзей ва Усх. Еўропе ў 1-й пал. 16 ст. быў напад туркаў на Венгрыю. 29.8.1526 турэцкая армія разбіла венг. войска. 8.9.1526 турэцкі султан Сулейман II заняў Буду — сталіцу Венгрыі і амаль усе венг. землі, за выключэннем зах. іх часткі і Славакіі. На У Венгрыі існавала васальнае ад Турцыі княства Сяміграддзе (Трансільванія). Венгерскае каралеўства распалася на тры часткі. Зах. частку занялі Габсбургі. Націск туркаў на Аўстрыю і інш. краіны Усх. Еўропы ўзмацняўся.



Мікеланджэла Буанароці.

С. быў сучаснікам і сведкам паліт. падзей, якія адбываліся ў канцы 15—1-й пал. 16 ст. ў Еўропе. У значнай ступені гэтыя падзеі адлюстраваліся ў светапоглядзе тагачасных людзей, у іх узаемаадносінах, асабліва калі яны вандравалі з адной краіны ў другую. Паліт. падзеі, міжнар. адносіны спрыялі ўстанаўленню кантактаў паміж жыхарамі розных краін, развіццю эканам. і культ. сувязей. Кнігавыдавецкая дзейнасць С.— яскравы таму прыклад.

*Літ.*: Черепнин Л. В. Образование Русского централизованного государства в XIV — XV веках. М., 1960; Греков И. Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV — XVI вв. М., 1963; Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2. изд. М., 1915; Базилевич К. В. Внешняя политика Русского централизованного государства. Вторая половина XV века. М., 1952; Соловьев С. М. История России с древнейших времен. Кн. 3. М., 1960; Felczak W. Historia Węgier, Wrocław, 1966

*А. П. Грыцкевіч.*

**МІКАЛАЙ КУЗА́НСКІ** (Nicolaus Cusanus; сапр. Мікалай Крэбс; 1401—64), філосаф, тэолаг, матэматык і астраном, царк.-паліт. дзеяч. Адукацыю атрымаў ва ун-тах Гейдэльберга, Падуі (1416—23), Кёльна. З 1430 свяшчэннаслужыцель, з 1448 кардынал рымска-каталіцкай царквы, з 1458 генеральны вікарый у Рыме. Працягваў традыцыі сярэдневяковага платанізму, глыбока засвоіў ідэі гуманіст. культуры, заклаў асновы рэнесансавай *натурфіласофіі.* Яго літаратурная спадчына («Пра вучонае няведанне», 1440, «Пра тварэнне», 1447; «Апалогія вучонага няведання»,1449; «Кнігі простага чалавека», 1450) уключае творы па філасофіі, багаслоўю, царк.-паліт. пытаннях, матэматыцы і інш. Ён імкнуўся ахапіць усе рэчы і падзеі сусв. жыцця ў адзінстве і цэласнасці — бясконцым «максімуме». Цэнтр. праблемай яго філасофіі былі адносіны бога і свету, месца чалавека ў Сусвеце. Прыроду і чалавека разумеў у духу натур. пантэізму. Паводле М. К., бог як абсалютны «максімум» не пазнаваемы рацыянальна, а бязмежная, няствораная, заканамерна ўпарадкаваная і жывая прырода як праява бога раскрываецца чалавечаму розуму ад пачуццёва-канечных форм да сваёй бясконцай сутнасці. Дакладным інструментам пазнання лічыў матэматыку. Абвясціў дыялект. ідэю супадзення процілеглаcцей, прадугадаў вучэнне М. Каперніка, сцвярджаючы, што Зямля не можа быць цэнтрам Сусвету. Прапанаваў рэформу календара, склаў геагр. карту Цэнтр. і Усх. Еўропы. Дух рэнесансавага вальнадумства яскрава выявіўся ў поглядах М. К. на адносіны веры і розуму: пазнанне прыроднага космасу як асобага роду «божай кнігі» ажыццяўляецца розумам, у адносінах да якога вера траціць свае правы. У 15—16 ст. ідэі М. К. (натур. вытлумачэнне свету, размежаванне розуму і веры, гуманіст. трактоўка чалавека як вышэйшай дасканаласці) значна ўплывалі на еўрап. філасофію. Італ. гуманісты *(Піка дэла Мірандала,* М. Фічына, Л. Б. *Альберці)* глыбока ўкаранілі іх у рэнесансавую культуру. Гэтыя ідэі адыгралі істотную ролю і ў фарміраванні гуманіст. светапогляду С. Ён адмовіўся ад схаласт. традыцыі рацыяналізацыі біблейскіх міфаў. Эзатэрычныя раздзелы Бібліі, дзе сканцэнтраваны ключавыя догматы хрысц. веры, лічыў С., «суть трудны ко зрозумению» і «суть над розум людскый» (гл. с. 105), затое ў біблейскіх кнігах, паводле С., шмат карысных звестак, прыродазнаўчых ведаў, «научение седми наук вызволеных достаточное» (гл. с. 10). Як і М. К., С. імкнуўся вызваліць чалавечы розум, навук. мысленне ад дагматычнай артадоксіі, адкрыць шлях прыроднаму пазнанню свету, падзяліць галіны веры і сапраўдных ведаў. С. быў блізкі да тэорыі дваістай ісціны, калі сцвярджаў, што існуе «двоякая правда: божия и человечия» (гл. с. 193), а таксама размяжоўваў і ўраўноўваў «житейскую мудрость» і мудрасць «божественную» (гл. с. 46). Сугучны погляды М. К. і С. ў тлумачэнні бязмежных магчымасцей удасканалення чалавечага інтэлекту, маральнага прагрэсу людзей, у разуменні вышэйшай мэты свайго жыцця і дзейнасці, якая заключаецца ў «розмножения мудрости, умения, опатрености, разуму и науки» (гл. с. 46). Імкненне да абуджэння інтэлектуальных сіл чалавека, гуманізацыі рэліг. свядомасці, прызнанне самакаштоўнасці прыроднага быцця збліжаюць М. К. і С., робяць іх аднадумцамі ў барацьбе за новае светаразуменне.

*Літ.*: Тажуризина З. А. Философия Николая Кузанского. М., 1972; Лосев А. Ф. Эстетика Возрождения. М., 1982. С. 291—316. *Г. У. Грушавы.*

**МІКЕЛА́НДЖЭЛА** Буанароці (Michelangelo Buonarroti; 1475—1564), італьянскі скульптар, жывапісец, архітэктар і паэт. Сучаснік С. Выдатны прадстаўнік Адраджэння, творчасць якога ў многім вызначыла развіццё еўрап. мастацтва 16 і наступных стагоддзяў. Ужо ў ранніх творах выступаў як выразнік грамадскіх настрояў Італіі ў час барацьбы за незалежнасць супраць іншаземных захопнікаў. Аўтар скульптурных работ «Мадонна каля лесвіцы» (1490—92), «Бітва кентаўраў» (1492) і кампазіцыі «П'ета» (1498—1500). У 1504 закончыў статуі Давіда, Мадонны, жывапіснае тонда — Мадонна Доні. У царкве Сан-Ларэнца ў Фларэнцыі стварыў ансамбль пахавальняў Ларэнца і Джуліяна Медычы з алегарычнымі фігурамі «Раніца», «Дзень», «Вечар», «Ноч» (1520—34). Для рымскага папы Юлія II выканаў грабніцу (1505—45), для якой былі выкананы статуі «Майсей», «Атлант», фігуры рабоў. У 1508—12 М. працаваў над размалёўкай скляпенняў Сікстынскай капэлы ў Рыме. Сотні фігур з легенды стварэння свету і біблейскіх сцэн М. напісаў без дапамогі вучняў. У 1536—41 выканаў алтарную фрэску капэлы «Страшны суд». Архітэктурай М. займаўся з 1505, асабліва інтэнсіўна ў апошнія 30 гадоў жыцця. Працаваў над фасадам царквы Сан-Ларэнца, будынкам б-кі Лаўрэнцыяна ў Фларэнцыі, з 1546 — над узвядзеннем сабора Св. Пятра і ансамблем плошчы Капітолія ў Рыме. У якасці гал. інжынера прымаў удзел у работах па фартыфікацыі Фларэнцыі (1529). Як паэт М. пакінуў пасля сябе санеты і мадрыгалы, прысвечаныя сябрам і мастацтву. У сваёй творчасці М. ўвасобіў вял. заваёвы мастацтва Адраджэння — гуманізм, народнасць і рэалізм, узбагаціў яго магутнасцю вобразаў, драматызмам пачуццяў.

*Літ.*: Микеланджело. 2. изд. М., 1983; Либман М. Я. Микеланджело Буонарроти. М., 1964; Кристофанелли Р. Дневник Микеланджело неистового: Пер. с итал. М., 1985. *М. І. Ткачэнка.*

**МІЛАВІ́ДАЎ** Аляксандр Іванавіч (1884—1930-я гады), рускі гісторык, археограф, бібліёграф. Аўтар прац па гісторыі праваслаўя, брацтваў, кніжнай справы, паўстання 1863—64. Большасць дарэвалюц. прац М. напісана з вялікадзярж. і клерыкальных пазіцый, у т. л. і арт. «Лёс рускай кнігі ў Паўночна-Заходнім краі ў сувязі з яго культурнай гісторыяй» (1903), напісаны ў сувязі з 200-годдзем рус. перыяд. друку, дзе поруч з інш. пытаннямі разглядаецца жыццё і дзейнасць С. М. лічыў С. дзеячам рус. (велікарускай) культуры ў зах. землях Русі, прыхільнікам «рэлігійнай асветы народа», праваслаўя. Паводле М., заснавальнікам маскоўскага кнігадрукавання быў адзін з вучняў С., хутчэй за ўсё — Пётр *Мсціславец*. Арт. напісаны з памылкамі: напр., указана, што ў Празе С. надрукаваў 20 кніг Бібліі (замест 23), і інш. Навук. каштоўнасць маюць працы М. «Апісанне славяна-рускіх старадрукаваных кніг Віленскай публічнай бібліятэкі (1491—1800 гг.)» (Вільня, 1908) і «Новыя дакументы, якія адносяцца да біяграфіі Францыска Скарыны» (Пг., 1918). У першай апісаны выданні С., якія зберагаліся ў Віленскай публічнай б-цы: кнігі «Іоў», «Ісус Навін», «Суддзі», «Апостал». Адзначана ступень захаванасці кніг, некат. маст.-паліграф. асаблівасці, запісы. У арт. «Новыя дакументы...» надрукаваны 3 пасланні пруская герцага Альбрэхта Гогенцолерна віленскаму ваяводзе Гаштольду і гарадскім уладам, а таксама прапускны ліст (ахоўная грамата), выдадзены С. Гэтыя дакументы, выяўленыя, як адзначана ў прадмове, у Кёнігсбергскім дзярж. архіве ў аддзеле прускіх актаў, звязаны з паездкай С. ў Кёнігсберг і яго вяртаннем у Вільню ў 1530, што было абумоўлена судова-працэсуальнымі і інш. справамі першадрукара. Тэксты дакументаў апублікаваны на лац. мове без перакладу і каментарыяў. Некат. недакладнасці ў публікацыі М. пазней былі папраўлены А. В. *Флароўскім.* М. належыць таксама бібліяграфічны спіс «Старадрукаваныя славяна-рускія выданні, якія выйшлі з заходнярускіх друкарняў XVI — XVIII стст.» (Чытанні ў Таварыстве гісторыі і старажытнасцей расійскіх, 1908. Кн. 1, на рус. мове). Улічаны 444 кнігі, у т. л. віленскія выданні С.— «Апостал» і «Малая падарожная кніжка». Праца ўзнаўляе многія памылкі старой бібліяграфіі.

*Літ.*: 249; Рукописное отделение Виленской публичной библиотеки. Его история и состав. Вильна, 1910. *Г. Я. Галенчанка.*

**МІ́РСКІ ЗА́МАК,** помнік архітэктуры 16—18 ст. Пабудаваны ў пач. 16 ст. ў Міры (Карэліцкі р-н) магнацкім родам Ільінічаў. З 1568 належаў Радзівілам, потым Вітгенштэйнам і Святаполк-Мірскім.

Спачатку быў мураванай крэпасцю (з унутр. дваром, блізкім у плане да квадрата са стараной каля 75 м), абнесенай з зах. і паўн. бакоў абарончымі сценамі (выш. з падмуркам каля 13 м, таўшчыня ўнізе 3 м) з 5-яруснымі вежамі па вуглах, а з усх. і паўд. бакоў — 2-павярховым цагляным збудаваннем. Пасярэдзіне зах. сцяны знаходзілася пятая, 6-ярусная вежа-брама, якая мела герсу і пад'ёмны мост. Вежы (выш. 25—27 м) выходзяць за межы сцен, да 1/2—1/3 вышыні маюць 4-граннае сячэнне, вышэй — 8-граннае, накрыты шатрамі, у іх былі прарэзаны байніцы і амбразуры для вядзення агню з ручной агнястрэльнай зброі і гармат. Паўд. і паўн.-зах. вежы завяршаліся машыкулямі для кідання камянёў і ліцця вару. Ніжнія ярусы вежаў маюць мураваныя скляпенні, верхнія перакрываліся памостамі на драўляных бэльках. Дэкар. вырашэнне заснавана на кантрасце чырвоных цагляных сцен і белых атынкаваных ніш з разнастайнымі арачнымі завяршэннямі. Найб. багата аздоблена паўд.-зах. вежа. Унізе сцены зроблены з бутавага каменю і цэглы, уверсе — з цэглы. Вонкавая паверхня сцен багата арнаментавана парэбрыкамі, гіркамі, нішамі, паяскамі, паўкалонамі. Архітэктура М. з. 16 ст. мае рысы бел. позняй готыкі. У 1580—90-я г. замак перабудаваны ў стылі рэнесансу ў княжацкую загарадную рэзідэнцыю (будаўнік М. Забароўскі). Да паўн. і ўсх. сцен дабудаваны 3-павярховы палац, вежы прыстасаваны пад жыллё, уздоўж зах. і паўд. сцен пастаўлены гасп. пабудовы (кухня, стайня), па версе паўд.— новая баявая галерэя. У скляпах і на 1-м паверсе палаца былі размешчаны гасп., на 2-м паверсе — службовыя памяшканні, на 3-м — княжацкія пакоі. Сцены і вежы звонку атынкаваны, вокны, дзверы, балконы, ганкі ўпрыгожаны разнымі дэталямі. У вежы-браме над праездам была размешчана капліца, вышэй — гадзіннік са званамі, перад уваходам пабудавана дадатковае паўкруглае ўмацаванне з асобнай брамай і рэнесансавым разным парталам. Замак быў абнесены землянымі валамі (выш. каля 10 м) з бастыё-

**Мірскі замак.**



намі па вуглах і ровам з вадою. На Пн за валамі створаны т. зв. італьянскі сад, на У — фальварак, на Пд — каскад ставаў з вадзянымі млынамі. За 3 км ад замка закладзены звярынец для палявання. Замак быў адміністрацыйным цэнтрам Мірскага графства, тут знаходзілася канцылярыя, турма. Палацава-замкавы комплекс канца 16 ст. ў асн. захаваўся да нашага часу. Вядзецца рэстаўрацыя (1987). Ахоўваецца дзяржавай.

*Літ.*: Иодковский И. И. Замок в Мире//Древности. М., 1915. Т. 6; Ткачоў М. А. Замкі Беларусі (XIII — XVII ст.). Мн., 1977. С. 39—43; яго ж. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII — XVIII стст. Мн., 1978. С. 63—70; Калнин В. В. Мирский замок: реставрация и приспособление//Стр-во и архитектура Белоруссии. 1983. № 2. *В. В. Калнін.*

**МІФАЛАГІ́ЧНА-БІБЛЕ́ЙСКІЯ ПЕРСАНА́ЖЫ** ў выданнях Ф. Скарыны. Міфы і паданні, прасякнутыя духам самых разнастайных па зместу стараж., пераважна рэліг., уяўленняў, што існавалі на працягу доўгага гіст. перыяду, моцна паўплывалі на мастацтва і л-ру 15—16 ст. Аднак па меры развіцця грамадскіх адносін, навукі, станаўлення рэаліст. карціны свету Біблія, якая вякамі ўладарыла ў духоўным жыцці краін і народаў, паступова становіцца аб'ектам вольнай, а часам і крытычнай інтэрпрэтацыі з боку перадавых людзей. Каментарыі да М.-б. п., апісанне адпаведных сюжэтаў займаюць значнае месца ў літ. спадчыне С. У вобразных біблейска-міфалаг. уяўленнях С. «знаходзіў» сэнс, які не заўсёды супадаў з афіц. поглядамі і разам з далейшай трактоўкай пазнейшымі мысліцелямі вёў да падрыву артадаксальнага багаслоўя. У інтэрпрэтацыі і разуменні біблейскіх персанажаў С. выкарыстоўваў не толькі іх рэліг. функцыю, але і магчымасці ў асв. мэтах.

М.-б. п., найбольш часта ўжытыя ў выданнях С.

Аарон — першасвяшчэннік, брат Майсея і яго памочнік пры выවадзе яўрэяў з Егіпта. С. называе імя Аарона ў прадмовах да кн. «Левіт» і «Лічбы», а ў прадмове да ўсёй «Бібліі» і кн. «Выхад» упамінае «ризы Аронавы» — адзенне свяшчэнніка пры культавай службе.

Адам і Ева — першыя людзі, створаныя богам. За непаслушэнства былі выгнаны з раю на зямлю, пракляты самі і ўсё іх патомства. С. называе імёны Адама і Евы ў прадмовах да кн. «Быццё», «Другі закон», «Песня песням», «Ісус Навін». У хрысціянстве ўяўленні аб Адаме атрымалі новае развіццё. У Евангеллях праводзіцца паралель Адама з Ісусам Хрыстом. У гэтай якасці С. ўпамінае імя Адама ў прадмовах да кн. «Прамудрасць божая», да ўсёй «Бібліі» і ў сказанні да «Паслання апостала Паўла рымлянам» («Апостал»).

Аўраам (Абрам) — роданачальнік яўрэяў і арабаў, бацька Ісаака. Па загаду Яхве павінен быў прынесці сына ў ахвяру богу, але быў спынены анёлам. С. называе імя Аўраама ў прадмовах да кн. «Выхад», «Эсфір», «Быццё», «Другі закон», «Ісус Сірахаў», у сказанні да «Паслання апостала Паўла рымлянам» («Апостал»).

Гаўрыіл — адзін са старэйшых ангелаў, у хрысціянстве архангел, які аб'явіў дзеве Марыі аб хуткім нараджэнні Ісуса Хрыста. С. называе яго імя ў прадмовах да кн. «Ісус Навін» і да ўсяго «Апостала».

Галіяф — велікан-філісцімлянін, пераможаны ў адзінаборстве маладым пастухом Давідам. С. называе імя Галіяфа ў прадмове да 1-й кн. «Царствы».

Іаан Багаслоў (Евангеліст Іаан) — у хрысціянстве поруч з Пятром цэнтр. асоба сярод 12 апосталаў — бліжэйшых вучняў Ісуса Хрыста. Па царк. традыцыі Іаан Багаслоў лічыцца аўтарам Евангелля ад Іаана, трох пасланняў і Апакаліпсіса. С. называе яго імя ў прадмовах да ўсёй «Бібліі», 1-й кн. «Царствы», «Прытчаў Саламона», кн. «Ісус Навін», «Выхад» і «Руф», у пасляслоўі да «Малой падарожнай кніжкі».

Іаан Хрысціцель (Іаан Прадцеча) — у хрысціянстве апошні з пракрокаў — прадвеснікаў прыходу месіі, непасрэдны папярэднік Ісуса Хрыста. С. называе імя Іаана Хрысціцеля ў прадмовах да «Апостала», кн. «Руф» і пасляслоўі да «Малой падарожнай кніжкі».

Іакаў (Ізраіль) — малодшы з двух сыноўблізнятаў Ісаака і Равекі. Адкупіў у брата Ісава права першародства, а потым хітрасцю атрымаў благаславенне бацькі як першародны сын. С. называе яго імя ў прадмовах да кн. «Ісус Навін», «Выхад», «Левіт», «Прарок Даніїл», «Другі закон», «Эсфір», «Лічбы».

Іакаў Старэйшы — у хрысціянстве адзін з 12 апосталаў, брат Іаана Багаслова. Па царк. традыцыі Іакаў лічыцца аўтарам сабарнага паслання. С. называе яго імя ў прадмовах да кн. «Іоў» і да ўсёй «Бібліі».

Ісаў — старэйшы брат-блізнец Іакава, яго сапернік. С. называе імя Ісава ў прадмовах да кн. «Быццё» і «Другі закон».

Ісус Навін, гл. асобны артыкул.

Ісус Хрыстос, гл. асобны артыкул.

Лаван (Арамеянін) — галава дома ў адным з гарадоў Паўн. Месапатаміі, звязаны сваяцкімі адносінамі з Аўраамам, Ісаакам, Іакавам. С. называе яго імя ў прадмовах да кн. «Быццё» і «Прарок Даніїл».

Лука — у хрысціянстве адзін з 4 евангелістаў. Па царк. традыцыі — аўтар Евангелля ад Лукі і «Дзяянняў апостальскіх». С. называе яго імя ў прадмовах да 1-й кн. «Царствы», да ўсёй «Бібліі», у пасляслоўі да «Першага паслання апостала Паўла карынфянам» і сказанні да «Паслання апостала Паўла ефесіянам» («Апостал»).

Марк — у хрысціянстве адзін з 4 евангелістаў, вучань апостала Паўла. Па царк. традыцыі Марк — аўтар Евангелля ад Марка. С. называе яго імя ў прадмовах да 1-й кн. «Царствы» і да ўсёй «Бібліі».

Марыя (дзева Марыя, багародзіца, маці божая) — у хрысціянстве зямная маці Ісуса Хрыста, нарадзіўшая яго ад духа святога (т. зв. нявіннае зачацце). Імя Марыі сустракаецца ў большасці прадмоў і пасляслоўяў кніг С.

Матфей — у хрысціянстве адзін з 12 апосталаў, вучань Ісуса Хрыста. Па царк. традыцыі Матфей — аўтар Евангелля ад Матфея. С. называе яго імя ў прадмовах да 1-й кн. «Царствы» і да ўсёй «Бібліі».

Ной — прапаведнік, які разам з сям'ёй выратаваўся ў каўчэгу ў час сусв. патопу. Праз сваіх сыноў (Сіма, Хама, Іафета) — роданачальнік усяго пасляпатопавага чалавецтва. С. называе імя Ноя ў прадмовах да кн. «Ісус Навін» і «Быццё».

Павел — у хрысціянстве адзін з апосталаў. Па царк. традыцыі лічыцца аўтарам 14 пасланняў, якія ўваходзяць у Новы запавет. У літ. спадчыне С. асобе Паўла і пасланням, якія яму прысвячаюцца, адведзена значнае месца. Да ўсіх пасланняў (акрамя 1-га паслання Паўла да Цімафея) С. напісаў прадмовы і пасляслоўі. Імя Паўла сустракаецца ў большасці прадмоў і пасляслоўяў выданняў С.

Пётр — у хрысціянстве адзін з 12 апосталаў, які першым быў прызваны Ісусам Хрыстом у яго вучні. Па царк. традыцыі Пётр — аўтар 2 сабарных пасланняў. С. называе яго імя ў прадмовах да 1-й кн. «Царствы», да ўсёй «Бібліі» і кн. «Другі закон». Упамінанне аб ім часта сустракаецца ў «Апостале» і «Малой падарожнай кніжцы».

Самсон — герой старазапаветных паданняў, адзін з «суддзяў ізраілевых», асілак, вял. фіз. сіла якога знаходзілася ў доўгіх валасах. На працягу свайго жыцця змагаўся з філісцімлянамі і загінуў разам з імі пад руінамі разбуранага ім храма. С. называе імя Самсона ў прадмовах да ўсёй «Бібліі» і кн. «Суддзі».

*Літ.*: Мифы народов мира: Энциклопедия. Т. 1—2. М., 1980—82. *В. П. Оргіш.*

**МІХАЛО́Н ЛІТВІ́Н** (сапр. Цішкевіч Міхайла; г. н. і см. невядомы), беларускі гуманіст 16 ст. Са збяднелай шляхты. У 1533 жаніўся на княгіні Глінскай, у пасаг за якой атрымаў некалькі маёнткаў у Ваўкавыскім пав. Каля 1538—40 пасол Вял. кн. Літоўскага пры двары крымскага хана Сахіп-Гірэя. Аўтар сац.-паліт. трактата «Аб норавах татараў, літоўцаў і маскавіцян» (нап. каля 1550, выд. на лац. мове ў 1615 у Базелі). Прадаўжальнік гуманіст. традыцый С. Яго, як і С., хваляваў лёс чалавека, умовы яго свабоднага развіцця, узаемаадносіны з дзяржавай і грамадствам, магчымасць сац. прагрэсу і інш. Для С. асн. крыніца ведаў і добрых звычаяў — Біблія, сац. змены цесна звязаны з духоўна-маральным удасканаленнем асобы ў адпаведнасці з патрабаваннямі хрысц. этыкі. М. Л. разглядаў чалавечыя адносіны з пазіцый свецкага мыслення, шукаў рацыянальныя і станоўчыя прыклады іх рашэння ў практыцы суседніх народаў (рускіх, татар і інш.). Недахопы ў дзейнасці органаў дзярж. кіравання і суда М. Л. звязваў з «псаваннем нораваў». Шляхі іх удасканалення вызначаў праз мэтанакіраваную і рацыянальную дзейнасць кіруючых колаў. З пазіцый проціпастаўлення дрэнных і добрых звычаяў разглядаў грамадскія праблемы. Так, імкненням да багацця, раскошы проціпастаўляў самаабмежаванне, памяркоўнасць, устрыманне. Пашырэнне добрых звычаяў звязваў з утылітарна-практычнай неабходнасцю нармальнага і разумнага існавання грамадства (напр., «каб ні адзін бедны не паміраў з голаду або холаду»). Падкрэсліваў вял. значэнне маёмаснай роўнасці для дасягнення сац. справядлівасці. Выступаў супраць заняволення адных людзей другімі, патрабаваў роўнасці ўсіх перад законам. Крытыкаваў асобныя царк. абрады, карыслівасць і распусту духавенства.

*Літ.*: 232; Александровіч Я. Міхайла Цішкевіч//Полымя. 1968. № 4; Сокол С. Ф. Социологическая и политическая мысль Белоруссии во II половине XVI века. Мн., 1974. С. 35—64. *С. Ф. Сокал.*

**МО́ВА «АПО́СТАЛА» Ф. СКАРЫ́НЫ.** *«Апостал»* С.— першае друкаванае выданне новазапаветнай кн. «Апостал». Другое выдадзена ў 1564 Іванам Фёдаравым і Пятром Мсціслаўцам у Маскве. Вядома некалькі рукапісных рэдакцый. Адна з позніх рэдакцый прадстаўлена ў поўным спісе т. зв. *«Генадзіеўскай*

*бібліі»* 1499, выкарыстанай пры выданні *«Астрожскай бібліі»* 1581, якая фактычна адлюстроўвае царк.-слав. мову эпохі С. Таму асаблівасці мовы «Апостала» С. найб. выяўляюцца пры параўнанні з тэкстам «Апостала» «Астрожскай бібліі».

Характэрнай асаблівасцю мовы гэтага выдання з'яўляецца адлюстраванне прыкметнага ўплыву бел. літаратурнай і народна-гутарковай мовы. У «Апостале» выкарыстоўваюцца 42 літары. Літара «ксі» ўжываецца ў якасці лічбы, усе астатнія (акрамя ъ і ь) абазначаюць гукі. Асобныя гукі перадаваліся 2 ці больш літарамі. У арфаграфіі гэтага помніка назіраецца змяшэнне літар **ѣ** і **е**: то ўжыта літара **е** на месцы ранейшага **ѣ** (**вера, дело, видети, сидети, двесте**), то напісана **ѣ** на месцы ранейшага **е** (**посѣтителѣ, сыновѣ, сѣ**). Змяшчэнне гэтых літар у «Апостале» С. сведчыць аб пэўных фанетычных зменах у царк.-слав. маўленні. Адрозненне «Апостала» С. ад «Апостала» тагачасных царк.-слав. рэдакцый праяўляецца таксама і ў граматычным ладзе. У родны склон адз. ліку, у назоўны і вінавальны мн. ліку назоўнікаў са стараж. асновай на-*ja пранік усх.-слав. канчатак **-е** (<**-ѣ**: **дозоре, во день пятдесятнице; вдовице суть, ваши юноше: имеаше ... девице, видехь ... птице.** Усх.-слав. канчаткам **-еи** паслядоўна прадстаўлены і родны склон мн. ліку са стараж. асновай на ***I** (**запаведеи, ветвеи, звереи**). Есць адрозненні ў напісанні займеннікаў у «Апостале» С. і «Астрожскай бібліі». Так, у С. асабовы займеннік **ты** і зваротны **сабе** ў давальным і месным склонах маюць формы **тобе, собе** (у «Астрожскай бібліі» **тебѣ, себѣ**). Замест кароткіх форм займеннікаў у «Астрожскай бібліі» **ми, ти, мя, тя** С. часта ўжывае поўныя формы **мнѣ, тобѣ, менѣ, тебѣ**. У С. больш трапляецца складаных форм неасабовых займеннікаў. У цвёрдай разнавіднасці яны пераважаюць у творным склоне адз. ліку муж. і ніякага роду (**тымъ, инымъ**); у назоўным склоне муж. роду [**тіи (тие), ине (иние)**], у родным і давальным склонах муж., ніякага і жан. роду мн. ліку (**тыхъ, онымъ**). У вінавальным склоне мн. ліку муж. роду простыя царк.-слав. формы не ўжываюцца зусім. У мяккай разнавіднасці складаныя формы пастаянна ўжываюцца толькі ад займенніка сь у назоўным склоне адз. і мн. ліку ўсіх родаў [**сеи, сее, сія, сіи (сие, сия), сие**]. У назоўным і вінавальным склонах мн. ліку муж. і жан. роду прыналежных займеннікаў «Апостала» С. побач з царк.-слав. формамі трапляюцца формы з усх.-слав. канчаткам **-е: мое, твое, свое, наше, ваше**; у назоўным склоне яны спарадычныя, у вінавальным склоне жан. роду — варыянтная форма. У родным і вінавальным склонах адз. ліку муж. і ніякага роду дзеепрыметнікаў і займенных прыметнікаў пад уплывам норм старабел. пісьменнасці ў С. часцей за ўсё ўжываюцца канчаткі **-ого, -его: будущего, бывшего, лежащего, покорившего, ближнего, вечного, доброго, нищего.** Царк.-слав. формы захоўваюцца толькі ў асобных выпадках. Як адзначаюць даследчыкі, царк. і слав. помнікі ў родным склоне адз. ліку трывала мелі канчатак **-аго**, у адрозненне ад форм нар. маўлення (у рус. мове **-ого**). Таму формы займенных прыметнікаў з канчаткамі **-ого, -его** ў С. з'яўляюцца выключнай асаблівасцю збліжэння царк.-слав. мовы са старабел. літаратурнай мовай.

У родным склоне адз. ліку займеннікаў, прыметнікаў, дзеепрыметнікаў жан. роду ў «Апостале» С. побач з царк.-слав. формамі ёсць формы з усх.-слав. канчаткамі **-ое, -ее.** Найб. шырока яны ўжываюцца ў дзеепрыметніках (**бывшее, давное, сушее**), у прыметніках складаюць варыянтную норму (**доброе, духовное**), у займенніках трапляюцца толькі спарадычна. У тых жа часцінах мовы ў назоўным і вінавальным склоне мн. ліку ёсць канчаткі **-ые, -ие.** У назоўным склоне найб. часта яны ўжываюцца ў дзеепрыметніках незалежнага і залежнага стану (**живущие, приходящие, разтлевъшие, посланые**), у прыметніках жан. роду (**злые, старые**), меней у прыметніках муж. роду (**златые, старшие**). У вінавальным склоне прыметнікаў такіх канчаткаў няшмат, яшчэ менш у дзеепрыметнікаў і зусім мала ў займеннікаў. Формы з канчаткамі **-ые, -ие** ў займеннікаў і дзеепрыметнікаў узніклі пад уплывам форм займенных прыметнікаў старабел. літаратурнай мовы.

Найб. яркай рысай у сістэме дзеясловаў цяперашняга і простага будучага часу ў «Апостале» С. з'яўляецца паслядоўнае ўжыванне форм, якія канчаюцца на **-ть (-т')** у 3-й асобе адз. і мн. ліку: **береть, идеть, весть, будуть, вознесутся, ищуть, суть.** Выключэнне складае толькі форма **есть**, але яна ў большасці выпадкаў пішацца з выноснымі зычнымі літарамі. З адмоўем гэта форма пішацца з **-ть: несть.** Сістэма форм аорыста ў «Апостале» істотна адрозніваецца ад сістэмы форм аорыста стараслав. мовы і адначасова з'яўляецца далейшым развіццём тэндэнцый, якія ў ім ужо намеціліся. Форма адз. ліку простага аорыста ў выданні С. арганічна ўвайшла ў сістэму новага сігматычнага аорыста: гэтыя формы ад адных і тых жа асноў, і паралельных утварэнняў ад гэтых асноў няма. Злучальныя галосныя ў новым сігматычным аорысце і ранейшы канчатак 2-й і 3-й асобы сталі ўспрымацца як чаргаванне канцавых галосных асновы **о//е**, звычайнае для слав. моў (**несохъ, несе, несохомъ, несосте, несоша**). Цікавай асаблівасцю форм аорыста 3-й асобы мн. ліку ў мове «Апостала» С. з'яўляюцца формы на **-те** ад зваротных дзеясловаў (**лицемеришеся, осуетишеся, овергошеся, оужасошеся**). Як адзначаюць даследчыкі ўсх.-слав. моў, у формах аорыста за апошні час іх існавання адбыліся некат. змены. Так, формы 3-й асобы мн. ліку аорыста сталі змешвацца з формамі 3-й асобы адз. ліку імперфекта. Такія формы знаходзяць і ў выданнях С. У прыкладах, прыведзеных А. І. Сабалеўскім, Я. Ф. Карскім, П. С. Кузняцовым, формы аорыста 3-й асобы мн. ліку на **-ше** ўтвараюцца не толькі ад зваротных дзеясловаў (у «Апостале» С. выключна ад зваротных дзеясловаў). Акрамя таго, формы 3-й асобы мн. ліку толькі ад дзеясловаў з асновай на **-а, -я** па структуры падобныя з формамі 3-й асобы адз. ліку імперфекта, таму можна гаварыць аб іх блытаніне; формы ад інш. асноў істотна адрозніваюцца ад форм імперфекта. Агульнай асаблівасцю скарынінскага выдання з'яўляецца частае ўжыванне форм перфекта на месцы стараслав. аорыста і імперфекта. Формам аорыста «Астрожскай бібліі» ў С. часам адпавядаюць перфектныя ўтварэнні (**забы — забыль, отиде — отошолъ, павелѣ— повелелъ, пребысть — пребылъ, предасть — предалъ**). Калі ўсе прыклады перфекта ў «Апостале» С. прыняць за 100 %, то ў «Апостале» «Астрожскай бібліі» ім адпавядае толькі 12%. Тэндэнцыя больш шырокага распаўсюджання форм перфекта ў «Апостале» С. з'яўляецца заканамерным адлюстраваннем разбурэння старой сістэмы шматлікіх форм прошлага часу ў жывой нар. мове, дзе адзінай формай перадачы значэння прошлага часу стаў перфект. У «Апостале» С. для ўтварэння форм складанага будучага часу паралельна з дзеясловам **імѣти** ў якасці дапаможнага дзеяслова ўжываюцца формы **буду, будеши, будеть** і г. д.: **буду молвити, будеши имети, жаловати будеть, грешити будемъ, будете имети, судити будуть.** У стараслав. мове складаны будучы час выражаўся інфінітывам пры дапамозе форм цяперашняга часу ад дзеясловаў **имѣти, хотѣти, начяти.** У стараж. рус. мове да гэтых дзеясловаў далучаліся формы будучага часу **буду, будеши** і г. д. Выкарыстанне форм **буду, будеши** ў якасці дапаможнага дзеяслова пачалося раней на тэрыторыі з бел. мовай. Значымасць распаўсюджання складанага будучага часу з дапаможнымі формамі **буду, будеши** і г. д. Кузняцоў вызначыў як утварэнне «ўласна аналітычнай формы для выражэння значэння будучага часу».

Шырока пададзены ў С. і лексічныя замены, якія выкліканы імкненнем зблізіць лексічны склад «Апостала» са слоўнікам жывой бел. мовы. Напрыклад, слову **абіе** «Астрожскай бібліі» ў С. адпавядае **скоро**, адпаведна: **благолѣпіе —** красота, **ігемонъ — владарь, колѣно —** поколѣніе, **ладія — чолнъ, область — моць, онъ — той, отврести — отворити, сице — тако, спіра — полкъ** і г. д.

Аналіз фактаў сведчыць, што мова «Апостала» С. адлюстроўвае моцны ўплыў бел. літаратурна-пісьмовай і народна-гутарковай мовы, які не зводзіўся да простага змяшэння элементаў царк.-слав. і бел. моў: у царк.-слав. мове паявіліся формы, якія мелі адпаведнасць у бел. мове, узніклі новыя формы, што не мелі прамых адпаведнасцей, адбыліся змены ў сістэме форм самой царк.-слав. мовы. (Гл. арт. *Мова прадмоў Ф. Скарыны.*)

*Літ.*: 479; 480; 481. *А. Ю. Апрымене.*

**МО́ВА ВЫДА́ННЯЎ Ф. СКАРЫ́НЫ.** Выдавецкая дзейнасць С. адносіцца да эпохі, калі мова бел. пісьменнасці ў яе важнейшых жанрава-стылявых разна-

віднасцях перажыла працэс актыўнай дэмакратызацыі, якая ажыццяўлялася шляхам свядомага ці стыхійнага выцяснення з пісьмовых тэкстаў архаічных сталаж.-рус. і царк.-слав. рыс і замены іх адпаведнымі сродкамі жывой бел. мовы. Гэты працэс найб. інтэнсіўна праяўляўся ў свецкай пісьменнасці, напр., у летапісах і дзелавых дакументах. Але паступова ён распаўсюдзіўся і на канфесіянальную л-ру на царк.-слав. мове. Вынікам такой эвалюцыі на Беларусі мовы царк.-слав. пісьменнасці было ўзнікненне асобай, бел. рэдакцыі (зводу) царк.-слав. мовы. У гэтым заключаецца істотнае адрозненне мовы богаслужэбнай л-ры на Беларусі ад мовы рэліг. твораў тагачаснай Рус. дзяржавы, дзе ў сувязі з т. зв. другім паўд.-слав. уплывам дзейнічала тэндэнцыя адваротнага характару — свядомая архаізацыя мовы рэліг. л-ры, узорам якой з'яўляецца славутая *«Астрожская біблія»*, выдадзеная ў 1581 г. рус. першадрукаром Іванам *Фёдаравым*.

Мова выданняў С. якраз і адлюстроўвае гэту прагрэсіўную для тагачаснай Беларусі тэндэнцыю. Яго выданні аказаліся насычанымі бел. моўнымі рысамі ў такой ступені, што даследчыкі сутыкаюцца з цяжкасцю нават пры вызначэнні іх моўнай асновы. Адны даследчыкі (С. Б. *Ліндэ*, А. І. *Сабалеўскі*, І. В. *Воўк-Левановіч*, А. В. *Флароўскі*, А. *Мартэль*) лічаць мову скарынінскіх выданняў царк.-слав., іншыя (П. У. *Уладзіміраў*, Ц. П. *Ломцеў*, М. А. *Алексютовіч*) схільны лічыць яе беларускай. Такая невыразнасць тлумачыцца ў першую чаргу пэўнай аднабаковасцю ў вывучэнні мовы С. ў мінулым: даследчыкі звычайна выбіралі з яго выданняў неабходны ім бел. моўны матэрыял, не прымаючы пад увагу факты іншых моўных стыхій, іх удз. вагу і стыліст. ролю. Акрамя таго, у мінулым вывучэнне мовы С. звычайна праводзілася без супастаўлення яе з моўнымі сродкамі бел. літаратурнай мовы папярэдняга і наступнага перыяду. З пункту погляду адносін да жывой бел. мовы ўсе выданні С. падзяляюцца на дзве групы. Адну з іх утвараюць пражскі «Псалтыр» 1517, віленскія «Малая падарожная кніжка» 1522 і «Апостал» 1525. Гэтыя кнігі С. выдаў на царк.-слав. мове бел. рэдакцыі. Адносна «Псалтыра», напр., сам С. заўважыў, што ён выдаў гэту кнігу «не рушаючи самое псалътыри ни в чемъ же». Аднак у гэтым сваім выданні паасобныя незразумелыя царк.-слав. словы С. забяспечыў на палях тлумачэннямі на тагачаснай бел. літаратурнай мове (гл. *Глосы*). «Псалтыр», «Малая падарожная кніжка» і «Апостал» характарызуюцца адлюстраваннем многіх рыс бел. мовы ў галіне фанетыкі, граматыкі і лексікі (гл. арт. *Мова «Апостала» Ф. Скарыны* і *Мова «Псалтыра» Ф. Скарыны, Мова прадмоў Ф. Скарыны*). Гэтыя рысы і характарызуюць бел. рэдакцыі царк.-слав. мовы. Да другой групы адносяцца самастойныя пераклады С. біблейскіх кніг, выдадзеныя ім у Празе на працягу 1517—1519. У гэтых выданнях моўная аснова таксама царк.-слав., але яна прыкметна парушаецца элементамі бел., чэшскай і польскай моў. Таму пры характарыстыцы мовы С. звычайна прынята спыняцца на разглядзе тых асаблівасцей, якія адрозніваюць мову яго выданняў ад традыц. царк.-слав. мовы. Моўныя асаблівасці, якія характарызуюць «Псалтыр», «Малую падарожную кніжку» і «Апостал», уласцівы таксама і для яго перакладных біблейскіх кніг, з той толькі розніцай, што тут яны праведзены больш шырока і паслядоўна. У біблейскіх кнігах, акрамя таго, адзначаюцца і такія моўныя рысы, якіх няма ў скарынінскіх выданнях. З граматычных рыс, якія адлюстраваны ў выданнях С. і адрозніваюць іх ад царк.-слав. мовы, можна адзначыць шматлікія выпадкі ўжывання канчатка **-у(-ю)** у родным склоне назоўнікаў муж. роду: **веку, ветру, гласу, грому, клопату, облаку, овощу, полону, праху, скарбу, смутку, цвету, часу.** У С. па сутнасці ўпершыню ў якасці варыянтнай нормы ў давальным склоне назоўнікаў на **-о** ўжываецца канчатак **-ови//еви: богови, идолови, мирови, мужеви, лекареви, цареви.** Новай з'явай можна лічыць шырокае выкарыстанне С. канчатка **-ове//-еве** ў назоўным склоне мн. ліку: **вранове, гробове, ледове, докторове, змиеве, коневе, лесове, послове, цареве.** Збліжэнне з жывой бел. мовай прасочваецца і ў формах назоўнікаў з асновай на **-о** з новымі канчаткамі **-ами (гонцами, гужами, зубами, послами)** і **-ми (мужми, ножми, ретезми, царми).** У сістэме прыметніка вылучаецца частае ўжыванне канчатка **-ого (-его)** у родным склоне адз. ліку муж. і ніякага роду **(белого, ветхого, драгого, лихого, моцного, синего)** і канчатка **-ое (-ее)** у жан. родзе **(великое, вечное, женское, збытнее, чужое).** У прыметніках назоўнага склону мн. ліку сталаж. сістэма з дыферэнцыраванымі родавымі канчаткамі часта парушаецца шматлікімі выпадкамі уніфікаванага канчатка **-ые: добрые дни, пресные хлебы, красные слова, телесные очи.** У дзеясловаў вылучаецца канчатак 1-й асобы мн. ліку цяперашняга часу **-мо** і **-мы: говоримо, седимо, ходимо, будемы, даемы, жывемы.** З такімі ж канчаткамі ўжываюцца і формы загаднага ладу 1-й асобы мн. ліку: **биймо, воюймо, ступмо, верьмы, жадаймы, хвальмы.**

Надзвычай вялікі ў перакладных выданнях С. і разрад бел. лексікі. Яго ўтвараюць агульнаслав. лексіка ў спецыфічна бел. фанет. афармленні, агульнаслав. словы з уласцівым для бел. мовы семантычным развіццём, лексічныя новаўтварэнні, якія ўзніклі на базе агульнаслав. лексічнага матэрыялу з выкарыстаннем пашыраных у бел. мове словаўтваральных сродкаў, а таксама раннія запазычанні з іншых моў, цалкам асіміляваныя бел. мовай у фанетычных і граматычных адносінах. Пераважная большасць такіх слоў захоўваецца ў сучаснай бел. мове. Скарынінскія пераклады насычаны такімі лексічнымі беларусізмамі, як назоўнікі **берегъ, бокъ, ботъ, вежа, ветка, волотъ, ворожбитъ, гай, господаръ, гукъ, гулня, детинство, дубецъ, згода, клопотъ, кривда, кропля, кутъ, матка, моцъ, надея, петухъ, поклепъ, полонъ, помста, праца, прыгода, прикладъ, подлога, промень, пыха, речъ, светло, смутокъ, справа, страва, суседъ, ужитокъ, часъ, шибеница, ширинг, ярмо** і г. д. Колькасць бел. лексікі ў тэкстах С. значна павялічваецца за кошт шматлікіх дзеясловаў рознага паходжання, якія з'яўляюцца спецыфічнай прыналежнасцю слоўнікавага саставу бел. мовы, напр.: **боронити, втекати, гинути, гледети, дбати, досегати, жадати, забити, засмутити, заховати, мовити, нахилити, обецати, паметати, пановати, помстити, працовати, робити, уживати, ховати** і інш. Бел. афарбоўку тэкстам С. прыдаюць і шматлікія прыметнікі тыпу **голодный, горший, даремный, добрый, дробный, дурный, збройный, лагодный, лепший, моцный, певный, пригожий, смутный, шаленый** і г. д. Удз. вага лексічных беларусізмаў у скарынінскіх перакладах значна ўзрастае з прычыны частага выкарыстання агульнаслав. лексікі, ускладненай бел. словаўтваральнымі сродкамі — прыстаўкамі і суфіксамі. У тэкстах С. вельмі шырока ўжываюцца дзеясловы выдзяляльнага значэння з прыстаўкай **вы-**, рэдкаўжывальнай у сталаслав. мове: **выбавити, выбежати, выбити, вывергнути, выгнати, выдати, выдрати, выехати, выжечи, вызвати, вызволити, выкопати, выкоренити, вылити, выложити, выпити, выпросити, высушити, выходити** і г. д. Царк.-слав. прыстаўцы **раз- (рас-)** у С. часта адпавядае бел. прыстаўка **роз- (рос-): розбити, роздати, розделити, розложити, розмножати, розослати, розрывати, розсекати, розсудити, роскидати, росплодити** і інш.

Пры сучасным стане вывучанасці лексікі старабел. мовы пакуль няма магчымасці катэгарычна сцвярджаць, якія словы ў тэкстах С. трэба аднесці да ліку ўласных новаўтварэнняў перакладчыка. Можна адзначыць, напр., што словы тыпу **глуповство, действо, дуровство, ленивство, скуповство** з'яўляюцца прыналежнасцю індывідуальнага стылю С., яны не фіксуюцца ні папярэднікамі, ні пазнейшымі помнікамі бел. пісьменнасці. Несумненнымі скарынінскімі неалагізмамі можна лічыць назоўнікі **книжница** (б-ка), **певница** (музыка) і **стороница** (старонка). Моватворчая дзейнасць С. асабліва яскрава праявілася ва ўжыванні тэматычнага разраду назоўнікаў, якія абазначаюць дзеючых асоб: **воевникъ, возотай, выкладачъ, вышивачъ, гадачъ, насмевца, оборонотай, отомститель, полонянка, последовникъ, посмевачъ, пригонатай, прикритца, продавачъ, хороняка** і інш. Слоўнік С. характарызуецца таксама вял. колькасцю кніжных слоў, якія былі распаўсюджаны ў бел. пісьменнасці сталаж. перыяду, але, відавочна, зусім абмежавана ўжываліся ў жывой бел. мове ў яе дыялектных адгалінаваннях. Гэта значны разрад абстрактных назоўнікаў, утвораных ад асноў якасных прыметнікаў пры дапамозе суфікса **-ость: белость, близкость, вдатность, великость, высокость, глубокость, глупость, гордость, горкость, далекость, долгость, пилность, полность, приветливость, разумность, темность, тихость, тучность, уз-**

**кость, чуйность, широкость** і г. д. У перакладных выданнях С. прыкметна выступае таксама разрад запазычанай лексікі, пераважна чэхізмаў і паланізмаў (гл. *Заходнеславянская лексіка* ў выданнях Ф. Скарыны).

Пры разглядзе састаўных частак скарынінскага слоўніка даводзіцца канстатаваць, што царк.-слав. лексічная стыхія тут пераважае. У перакладах С. пашыраны шматлікія царкоўнаславянізмы накшталт назоўнікаў **адъ, бдение, бездна, благовествование, благодарение, бракъ, брань, брашно, влагалище, возрение, воплошение, воскресение, востание, вретище, глаголь, господинъ, десница, дщера, жезлъ, жертва, зерцало, источникъ, клевета, лесть, мзда, недугъ, нищета, обилие, оружие, отрокъ, перстъ, пища, повеление, покаяние, посквернение, пределъ, престолъ, преступление, распятие, роптание, скорбь, смирение, сокровище, сомнище, суета, трапеза, требище, ужасъ, упование, утроба, чадо, чело, щедрота, язва, ярость** і інш. Пласт лексікі царк.-слав. паходжання дапаўняецца значнай колькасцю царк.-слав. дзеясловаў накшталт **благоволити, благославити, брести, вопити, глаголити, грясти, зрети, искусити, нарицатися, обитати, обрести, питати, поскверните, презирати, растерзати, роптати, узрети, уповати, царствовати** і інш. Найб. характэрныя прыметнікі царк.-слав. паходжання — **алчный, безумный, блаженый, ветхий, дерзкий, десный, мерзкий, нищий, суетный, убогий.** Звычайнымі ў скарынінскіх тэкстах з'яўляюцца таксама і шматлікія царк.-слав. прыслоўі накшталт **вкупе, внегда, вспять, всуе, днесь, дондеже, егда, зело, камо, паки, присно, семо** і інш. Вял. колькасць агульнаслав. па паходжанню слоў С. ўжывае ў царк.-слав. фанетыка-марфал. абліччы, хоць амаль усе яны мелі свае адпаведнікі ў бел. мове. Колькасная перавага царк.-слав. лексічных элементаў у тэкстах С. асабліва наглядна выяўляецца ў суадносінах царк.-слав. няпоўнагалоснай і бел. поўнагалоснай лексікі. У няпоўнагалоснай форме С. звычайна ўжывае такія словы, як **блато, брада, брегъ, власть, врагъ, глава, гладъ, гласъ, градъ, длань, длато, драгий, злато, класъ, краткий, младый, млатъ, млеко, мразъ, облакъ, пламень, прахъ, сладкий, средина, стражъ, страна, хладъ, хранити, чрево** і інш. У перакладных выданнях С. няпоўнагалосных форм адзначаецца прыкладна 95 %, тады як суадносных поўнагалосных утварэнняў тыпу **берегъ, голова, голодъ** толькі 5 %.

Лексічныя царкоўнаславянізмы ўводзіліся С. у яго пераклады свядома і кваліфікаваліся ім як неабходная прыналежнасць рэліг. стылю, як натуральны элемент школы і наогул пісьменнасці. Выкарыстанне царкоўнаславянізмаў у перакладах С. можна разглядаць як наўмысны сродак надання рэліг. тэкстам урачыстасці і ўзнёсласці ў сувязі з неабходнасцю проціпаставіць моўнымі сродкамі творы Свяшчэннага пісання іншым відам тагачаснай л-ры. Гэта лёгка ажыццяўлялася дзякуючы таму, што большая частка граматычных форм і лексічных сродкаў царк.-слав. мовы былі зразумелымі і даступнымі тагачаснаму чытачу ў сувязі з пашырэннем царк. л-ры, адкуль царкоўнаславянізмы свабодна пранікалі і ў іншыя жанры пісьменнасці. Ідэя адзінства царк.-слав. мовы для правасл. славян была жывучай і папулярнай на Беларусі не толькі ў эпоху С., але і ў пазнейшы час, і С., вядома, не мог не аддаць даніны гэтай ідэі, шырока выкарыстоўваючы ў сваіх перакладах царк.-слав. лексіку і нават граматычныя формы.

Заслуга С. заключаецца ў тым, што ён прымяняльна да патрэб свайго часу стварыў асобны тып гібрыднай царк.-слав.-бел. пісьмовай мовы, аналага якой немагчыма знайсці ва ўсх. славян таго часу. Выданнем адаптаванага тэксту «Псалтыра», «Малой падарожнай кніжкі» і «Апостала» С. па сутнасці працягваў лінію сваіх папярэднікаў, якія кіраваліся свядомым імкненнем зрабіць зразумелым для чытачоў царк.-слав. тэкст шляхам замены архаічных царк.-слав. форм і слоў мясц. беларускімі. Гэтыя выданні С. з'яўляюцца выдатным узорам бел. варыянта царк.-слав. мовы. Яны паказваюць, што бел. варыянт стварыўся намаганнямі адукаваных кніжнікаў з выразна акрэсленай мэтай зрабіць зразумелым і даступным царк.-слав. тэкст.

Яшчэ далей пайшоў С. пры перакладзе іншых біблейскіх кніг: захаваўшы царк.-слав. моўную аснову ў сваіх перакладах, ён узбагаціў іх бел. моўнымі сродкамі ў такой меры, што мова яго перакладаў заняла самае крайняе становішча ў бел. рэдакцыі царк.-слав. мовы і фактычна аказалася прамежкавым звяном у працэсе пераходу ад царк.-слав. мовы да бел. у сферы рэліг. ужытку.

Увядзенне С. непасрэдна ў Свяшчэннае пісанне граматычных форм і лексічных сродкаў жывой бел. мовы мела вырашальнае значэнне для далейшага лёсу рэліг. пісьменнасці на Беларусі. С. даў бліскучы ўзор уключэння сродкаў нар. мовы ў Свяшчэннае пісанне і тым самым парваў многавяковую традыцыю выкарыстання для гэтых мэт выключна канфесійнай царк.-слав. мовы з яе амярцвелымі формамі і лексікай. Вызначаны С. кірунак выкарыстання бел. мовы ў рэліг. жанрах знайшоў далейшы працяг у дзейнасці такіх паслядоўнікаў скарынінскіх традыцый, як Сымон *Будны*, Васіль *Цяпінскі*, Стэфан Зізаній, Лявонцій Карповіч, Мялецій Сматрыцкі і многія інш. дзеячы другой пал. 16 і пачатку 17 ст., якія ў сваіх рэлігійна-асв. мэтах ужо поўнасцю перайшлі на бел. мову. Дзякуючы гэтаму бел. мова фактычна стала другой афіцыйнай мовай у набажэнстве правасл. беларусаў. У гэтым перш за ўсё і заключаецца роля С. ў гісторыі бел. літаратурнай мовы.

*Літ.*: 69; 335; 537. *А. І. Жураўскі.*

**МОВА ПРАДМОЎ Ф. СКАРЫНЫ.** У навуцы доўгі час бытавала думка, што выданні С.— помнікі бел. мовы пачатку 16 ст. (П. У. *Уладзіміраў*). Аднак у наш час большасць даследчыкаў прытрымліваюцца думкі, што мова С.— тыповы ўзор бел. рэдакцыі царк.-слав. мовы. Пры выданні біблейскіх кніг С. адначасова з чэшскай Бібліяй 1506 карыстаўся і царк.-слав. спісамі, часам выпісваў цэлыя раздзелы і вершы з царк.-слав. тэкстаў. Аналіз тэкстаў пражскіх выданняў С. паказвае, што ў выдаўца не было пад рукамі поўнага збору царк.-слав. «Бібліі», перш за ўсё чатырох кніг Старога запавету — «Прамудрасць божая», «Юдзіф», «Эсфір» і «Песня песням». Прадмовы істотна адрозніваюцца ад асн. біблейскага тэксту тым, што тут С. зусім не быў звязаны царк.-слав. ўзорамі, таму што ва ўсх.-слав. біблейскай традыцыі прадмоў да С. не было. Складаючы свае прадмовы, С. часткова карыстаўся тлумачэннямі *Ераніма Блажэннага* і лац. каментарыямі *Нікала дэ Ліра*, аднак уводзіў у свае прадмовы многа самастойных думак, якія ярка характарызуюць яго індывідуальнасць.

У часы С. на Беларусі ўзаемадзеянне паміж царк.-слав. і бел. літаратурнай мовай было двухбаковым. Прадмовы С. ўяўляюць сабой такі разрад пісьмовых помнікаў, у якіх ёсць матэрыялы па бел. фанетыцы, марфалогіі і лексіцы і яшчэ ў большай ступені старaслав. рысы. Так, некат. бел. афарбоўку прадмовам С. надае адлюстраванне пераходу ў пэўных пазіцыях гуку **«у»** ў **«ў»** (нескладовае), якое ў стараж. бел. пісьменнасці абазначалася літарай **«в»**. Жывыя нормы вымаўлення бел. мовы адлюстраваны ў шырокім ужыванні канчатка **-у(-ю)** назоўнікаў муж. роду ў родным склоне адз. ліку. Побач з формамі тыпу **греха, духа, закона** і інш. тут шырока ўжыты і наваўтварэнні з **-у(-ю): гласу, веку, закону** і інш. Дзеепрыслоўе выступае ўжо як самастойная дзеяслоўная форма, якая адгалінавалася ад дзеепрыметніка. Як і ў сучаснай бел. мове, для ўсіх трох родаў і абодвух лікаў замацавалася уніфікаваная форма на **-чи: живучи, разумеючи, слухаючи** і інш. Можна вылучыць некалькі лексіка-граматычных разрадаў бел. слоў, якія адзначаюцца ў прадмовах С. Адны з іх бел. па паходжанню, другія — запазычанні эпохі бел. народнасці. Асабліва адметнымі выступаюць наступныя разрады: назоўнікі (**войско, матка, моцъ, праца, предмова** і інш.), дзеясловы (**будовати, ведати, жадати, мовити, оправовати** і інш.), прыметнікі (**дозволеный, дорослый, словутый, цнотливый** і інш.), прыслоўі (**зупелне, пилне, посполите, уставичне**).

Адначасова ў прадмовах С. ёсць шмат асаблівасцей, якія можна вытлумачыць толькі ўплывам пісьменнасці на царк.-слав. мове: шматлікія формы аорыста (**знайдоша, познаша, ходиша** і інш.), імперфекта (**бываху, роптаху, можаху** і інш.), па старaслав. ўзору ўтвараецца абсалютная найвышэйшая ступень параўнання прыметнікаў з прэфіксам **«пре»: превеликий, премудрый, превышний** і інш. Выключна па старaслав. мадэлі ўтвараюцца складаныя колькасныя і парадкавыя лічэбнікі: **двадесеть, тринадесятый** і інш. Усе прадмовы на-

сычаны вял. колькасцю царк.-слав. лексікі. Шырока ўжываюцца назоўнікі, утвораныя ад дзеясловаў (**воплощение, клеветание, избавление** і інш.). Да гэтага разраду лексікі прымыкаюць дзеясловы тыпу **бресті, внийти, запрети** і інш., а таксама шматлікія займеннікі, прыслоўі, злучнікі: **аще, внегда, днесь, паки, понеже, токмо, убо** і інш.

Хаця ў прадмовах С. шырока адлюстраваны і бел. і царк.-слав. рысы, аднак апошнія пераважаюць над беларускімі. У прадмовах ужываюцца амаль выключна няпоўнагалосныя формы тыпу **власть, глава, кладезь, младость** і інш. Усяго ў прадмовах ужыты 603 няпоўнагалосныя формы і 14 поўнагалосных, што складае прыкладна 97,7 % і 2,3 %. Яскравая рыса царк.-слав. словаўтварэння — ужыванне суфікса **-ие-** ў назоўніках, утвораных ад дзеясловаў, у адрозненне ад суфікса **-ье-** тагачаснай бел. літаратурнай мовы: **благословение, видение, злоречение** і інш. Утварэнняў на **-ие** выяўлена 859 выпадкаў (99,1 %), на **-ье** ўсяго толькі 8 (0,9 %). Гэтай мадэлі падпарадкоўваецца і бел. лексіка і нават запазычанні: **выполнение, выхование, кохание, панование** і інш. С. ў сваіх прадмовах 18 разоў ужыў назоўнікі са свісцячымі зычнымі ў аснове тыпу **врази, друзи, пороци, слузи** і інш. і толькі 1 раз форму на заднеязычны, што адпаведна складае 94,7 % і 5,3 %.

У творным склоне адз. ліку назоўнікаў жан. роду на **-і** пануе канчатак **-ию: кровию, плотию, помощию, тварию** і інш. Гэта мадэль настолькі трывалая ў мове С., што ёй падпарадкоўваюцца і нецарк.-слав. словы: **моцию, пилностию, чуйностию.** Усяго ў вывучаных тэкстах адзначана 54 формы на **-ию** і толькі 2 на **-ью**, што складае адпаведна 96,7 % і 3,3 %. Прыкметную царк.-слав. афарбоўку тэкстам С. надаюць актыўныя дзеепрыметнікі цяперашняга часу на **-щ**, якіх адзначана 202 выпадкі. Дзеепрыметнікаў на **-ч** зусім няма. Прыведзены стат. матэрыял паказвае царк.-слав. аснову мовы прадмоў С. Гэту асаблівасць скарынінскіх выданняў яшчэ ў пач. мінулага стагоддзя заўважыў польскі мовазнавец С. Б. Ліндэ, які ўказаў на значную перавагу ў выданнях С. стараслав. мовы над беларускай.

Сам С. мову выдадзеных ім у Празе біблейскіх кніг (за выключэннем «Псалтыра») называў рускай (г. зн. бел. у процівагу царк.-слав.). Ён усведамляў ужыванне на Беларусі яго часоў дзвюх пісьмовых моў — бел. і царк.-слав. (па тагачаснай тэрміналогіі — «рускай» і «славенскай»). Можна меркаваць, што пад паняццем «руский языкъ» С. меў на ўвазе той тып царк.-слав. мовы, які паступова склаўся на Беларусі ў выніку парушэння стараслав. норм пад уздзеяннем бел. народна-дыялектнага субстрату. У гэтым тыпе свядомай або стыхійнай замене падлягалі перш за ўсё такія граматычныя і лексічныя сродкі царк.-слав. мовы, якія былі занадта далёкія ад сваіх, бел. эквівалентаў. У той жа час С. не бачыў неабходнасці даваць тлумачэнні многім царк.-слав. словам, якім у тагачаснай бел. мове адпавядалі лексемы іншых каранёў. Ён лічыў зразумелымі для чытача назоўнікі **брение, десница, мзда, суета** і інш., прыметнікі **суетный, тщетный, нищий,** дзеясловы **глаголети, смирити, оскудети** і інш., прыслоўі **внегда, донденже** і інш. Такая царк.-слав. лексіка была зразумелай бел. чытачу часоў С., таму што ў яго эпоху псалтыр быў асн. дапаможнікам па практычнаму навучанню грамаце. Аднак С. выкарыстаў многія бел. моўныя сродкі, а таксама элементы польск. і чэшскай моў. Гэта некалькі аддаліла мову яго выданняў нават ад царк.-слав. мовы зах.-рус. рэдакцыі, што, відаць, дало падставу бел. першадрукару лічыць мову сваіх выданняў рускай. (Гл. арт. *Мова «Апостала» Ф. Скарыны* і *Мова «Псалтыра» Ф. Скарыны.*) *А. І. Жураўскі.*

**МО́ВА «ПСАЛТЫРА́» Ф. СКАРЫНЫ.** З усіх выданняў С. вылучаюцца кнігі, якія не з'яўляюцца самастойнымі перакладамі, а толькі перавыданнем царк.-слав. тэксту. Да ліку такіх адносяцца «Псалтыр», «Малая падарожная кніжка» і «Апостал». Вядомы 2 выданні «Псалтыра»: адно было выдадзена С. у Празе ў 1517 г., другое — у Вільні ў 1522 г. ў складзе «Малой падарожнай кніжкі». Аналіз выданняў «Псалтыра» паказвае, што яны падвергліся прыкметнаму ўздзеянню жывога нар. маўлення. Так, скарынінскія тэксты адлюстроўваюць агульную тэндэнцыю спрашчэння і уніфікацыі напісання зычных і галосных. Нягледзячы на ўстойлівасць царк.-слав. традыцый, абумоўленых канфесіянальным зместам помніка, у тэкстах «Псалтыра» С. стараецца пазбягаць перадачы аднаго гука дублетнымі літарамі. Гэта адносіцца ў першую чаргу да перадачы гукаў **о, а, е, і, у, з, ф.**

Парушэнне традыц. норм асабліва выразна назіраецца ў арфаграф. сістэме абодвух выданняў «Псалтыра». Імкненне С. збліжаць мову канфесіянальнай л-ры з агульнанар. маўленнем найб. ярка праявілася ў віленскім выданні «Псалтыра» (у параўнанні з пражскім), што адлюстроўвала агульную эвалюцыю царк.-слав. мовы ўсх.-слав. рэдакцыі. У ім больш паслядоўна адлюстравана такая рыса старабел. мовы, як спрашчэнне груп зычных **здн, стн, рдц (празъникъ, ненависными, серце).** У пражскім жа выданні захоўваюцца традыц. спалучэнні зычных пры нязначнай колькасці спрошчаных (**бездна, праздникъ, сердце,** але **ненависными**).

Важнейшай арфаграф. асаблівасцю неперакладных тэкстаў С. з'яўляецца і напісанне **ж** на месцы агульнаслав. gj, tj, хоць пад уплывам традыц. арфаграфіі стараслав. спалучэнне **жд** складае яшчэ варыянтную форму (**надежда, одежа, осуженъ, помощъ, поропчуть, утвержены**). У абодвух тэкстах «Псалтыра» адлюстраваўся вядомы ўсім помнікам старабел. пісьменнасці пераход **у** ў **ў (не втаися, не вдали, повчение, вбогъ).** Але адсутнасць устойлівых арфаграф. норм старабел. літаратурна-пісьмовай мовы, уплыў кніжнай традыцыі не дазволілі С. поўнасцю адлюстраваць замену **у** на **ў**. Аб гэтым сведчыць наяўнасць шматлікіх графічных паралеляў з напісаннямі **в** і **у** ў абодвух выданнях «Псалтыра» (**навчю — научи, вповаю — уповаю**).

Адступленне бел. першадрукара ад традыцый царк.-слав. арфаграфіі найб. поўна выявілася ў адлюстраванні пераходу рэдукаваных у галосныя поўнага ўтварэння, асабліва ў прыстаўках і прыназоўніках **вьз-, съ-, въ- (возлюбление, восплещуть, сотворилъ, во гласе, во оковахъ).** Пад уплывам старабел. пісьменнасці ў скарынінскіх тэкстах «Псалтыра» шырока прадстаўлены напісанні **е (ѣ** замест ненаціскнога **е** насавога (былога юса малога) — характэрная бел. рыса, вядомая літаратурна-пісьмовай мове 16—17 ст. У лінгвістычнай л-ры гэта асаблівасць старабел. мовы кваліфікуецца як ускоснае адлюстраванне якання і перш за ўсё таму, што падобная замена сустракаецца ў помніках розных жанраў незалежна ад часу і месца іх напісання (**месѣць, паметь, тысеща**). Звужэнне сферы ўздзеяння царк.-слав. мовы на тэксты «Псалтыра» выявілася і ў марфалаг. ладзе, але не ў аднолькавай ступені для ўсіх часцін мовы. Найб. паслядоўна традыц. марфал. рысы захаваліся ў сістэме скланення назоўнікаў, прыметнікаў і займеннікаў. Але і тут пад уздзеяннем жывога нар. маўлення адбыліся пэўныя змены, якія сведчылі аб разбурэнні традыц. сістэмы скланення нават у помніках канфесіянальнай л-ры. Так, у абодвух выданнях назоўнікі з асновай на **-о** ў родным склоне адз. ліку ў адных і тых жа словах прымалі паралельна канчаткі **-а** і **-у (до запада — от востоку и западу).** У сістэме прыметнікаў С. часта выкарыстоўваў канчатак **-его** ў форме роднага склону адз. ліку муж. роду замест **-яго (ближнего, преисподнего).** Адступленні ад традыц. норм назіраюцца і ў адлюстраванні асобных займенных форм, характэрных для старабел. мовы. Асабліва гэта датычыць распаўсюджання поўных форм давальнага склону асабовага і зваротнага займеннікаў (**тобе, собе**) і уніфікацыі прыналежных займеннікаў назоўнага склону мн. ліку ў адной форме жан. роду (**кости мое, дние мое, пути мое**). Найб. прыкметныя адступленні ад царк.-слав. традыцый у тэкстах «Псалтыра» назіраюцца ў сістэме дзеяслова. С. часта выкарыстоўваў перфектныя формы замест архаічных аарыстычных (**собралъ, сотворилъ, послалъ** замест **събра, сътвори, посла**), формы на **-ите** замест **-ѣте** ў загадным ладзе 2-й асобы мн. ліку (**придите, принесите, взыщите**). У віленскім выданні часам назіраюцца выпадкі знікнення ненаціскнога галоснага **и** ў канчатку загаднага ладу 2-й асобы мн. ліку (**избавте, ненавидьте, слыште**). Пэўныя змены ў бок збліжэння з агульнанар. мовай адбыліся ў формах дзеепрыметнікаў. С. паслядоўна звяртаўся да канчатка **-ие** ў дзеепрыметніках незалежнага стану цяперашняга часу мн. ліку назоўнага склону (**делающие, живущие, забывающие** замест **делающеи, живущеи, забывающеи**), ужываў формы на **-его**

замест **-аго** ў родным склоне адз. ліку дзеепрыметнікаў незалежнага стану (**венчающего, спасающего, уповающего**).

У выкарыстанні словаўтваральных сродкаў С. звяртаўся да традыцый царк.-слав. мовы. На гэта былі свае прычыны. Па-першае, царк.-слав. мова на некат. узроўнях была зразумелай і даступнай бел. чытачу; па-другое, словаўтваральная сістэма ўвогуле аказалася найб. устойлівай перад жывым нар. маўленнем на працягу асн. этапаў развіцця бел. мовы. Таму С. не заўсёды змяняў традыц. сістэму словаўтварэння. Тым не менш яго сувязь са старабел. пісьменнасцю праяўлялася ў выкарыстанні прыставак **роз- (рос-), з-** і суфікса **-ств-о** (**разгорчища, росхитятъ, змякчиша, владычество**).

Працэс збліжэння пісьмовай мовы з жывым нар. маўленнем у значнай ступені адлюстраваўся на слоўнікавым саставе выданняў «Псалтыра». Семантыка многіх царк.-слав. слоў была незразумелай простаму чытачу, таму С. лічыў мэтазгодным замяніць іх агульнанар. аналагамі. Ён шырока выкарыстоўваў агульнанар. лексічныя сродкі ў якасці *глос* для тлумачэння незразумелых запазычаных і кніжнаслав. слоў. Каб мова «Псалтыра» была больш зразумелай «людем посполитым», С. рабіў значныя лексічныя змены непасрэдна ў яго тэкстах. Як у пражскім, так і ў віленскім выданнях вылучаецца вял. група шырокаўжывальных у агульнанар. мове і вядомых шматлікім помнікам старабел. пісьменнасці слоў. С. ўмела выкарыстоўваў сінанімічныя магчымасці старабел. мовы, не парушаючы пры гэтым зместу самога «Псалтыра». Звяртае на сябе ўвагу багацце і разнастайнасць прыёмаў, якія асабліва выразна праяўляюцца пры тэкстуальным параўнанні з аднайменнымі старарус. помнікамі. Шматлікія лексічныя замены найб. паслядоўна адлюстраваны ў сістэме назоўнікаў і дзеясловаў — часцін мовы з багатымі і разнастайнымі сінанімічнымі радамі. Сярод назоўнікаў вылучаецца група слоў, семантычна суадносных з лексікай старарус. тэкстаў, але больш ужывальных у старабел. мове. С. выкарыстоўваў сінонімы з вузкаканкрэтным значэннем, у той час як у старарус. тэкстах адлюстраваны шматзначныя лексічныя сродкі (**посредѣ серца моего — посрѣдѣ чрѣва моего, низ'зведеши во яму — низъсведеша в студенецъ, въ домехъ — в селѣхъ**). С. шырока ўжываў бел. лексічныя эквіваленты для поўнага раскрыцця семантычнага аб'ёму царк.-слав. лексікі (**не лишит′ доброт** — ст.-рус. **не лишитъ блага, до старости и седины** — ст.-рус. **до старости и матерства, не дотыкаитеся** — ст.-рус. **не прикасаитеся, помиловать — оущедритъ**). Асобны разрад лексікі ў тэкстах «Псалтыра» С. складалі словы са спецыфічна бел. фанетычным афармленнем (**попелъ, жадаите, роботамъ**). Але аснова слоўніка выданняў «Псалтыра» царк.-слав.; ад царк.-слав. ўплыву С. не змог поўнасцю пазбавіцца з-за адсутнасці ўстойлівых норм старабел. мовы, прыкметнага ўздзеяння царк.-слав. пісьменнасці на асобныя творы канфесіянальнай л-ры. С. не ставіў перад сабою задачы перакладу «Псалтыра» на бел. мову, а імкнуўся толькі наблізіць тэкст да простага чытача.



Томас Мор.

Неперакладныя выданні С. падвергліся значнаму ўздзеянню з боку агульнанар. мовы, элементы якой паступова пранікалі ва ўсе жанрава-стылявыя разнавіднасці, у т. л. і ў канфесіянальную л-ру. Тэксты «Псалтыра» пацвярджаюць, што працэс дэмакратызацыі царк.-слав. мовы 16 ст. праходзіў на Беларусі вельмі інтэнсіўна. Вынікі аналізу таксама даюць магчымасць кваліфікаваць мову скарынінскіх неперакладных выданняў «Псалтыра» як асобны, бел. тып царк.-слав. мовы. *А. А. Парукаў.*

**МОР** (More) Томас (1478—1535), англійскі гуманіст, дзярж. дзеяч і пісьменнік, адзін з заснавальнікаў утапічнага сацыялізму. Будучы католікам, адмовіўся прысягаць каралю як «вярх. кіраўніку» англ. каталіцкай царквы, пасля чаго быў абвінавачаны ў дзярж. здрадзе і пакараны смерцю. Погляды фарміраваліся пад уплывам італьян. філосафа-гуманіста *Піка дэла Мірандалы.* Сусв. вядомасць М. прынесла яго «Утопія» (1516), дзе ён імкнуўся вывесці найб. дасканалы ідэал грамадскага і дзярж. ладу на прыкладзе фантаст. вострава Утопія. На востраве няма прыватнай і нават асабістай уласнасці, праца — абавязак усіх грамадзян, рабочы дзень 6 гадзін, размеркаванне па патрэбнасцях. Паліт. лад Утопіі дэмакратычны, заснаваны на прынцыпах выбарнасці і старшынства. Жанчыны маюць роўныя правы з мужчынамі, існуе поўная верацярпімасць. Адмоўна ставіўся да нар. рухаў, верыў у адукаванага манарха. «Утопія» М. паклала пачатак шматвяковай традыцыі утапічнага сацыялізму. Востра крытыкаваў сучасныя яму сац.-паліт. парадкі, паказаў жахлівае становішча нар. мас. У некат. пытаннях назіраецца яго ідэйная блізкасць са С. Абодва яны імкнуліся да інтэлектуальна-маральнага ўдасканалення чалавека, верылі ў яго творчыя здольнасці, у магчымасць выпраўлення сац. адносін шляхам укаранення добрых звычаяў і нораваў, дзейнасці адукаванага манарха і інш. Аб'ядноўваюць іх і рысы утапізму ў поглядах на грамадскія з'явы і адносіны. Імя М. было добра вядома на Беларусі ў 16 — 1-й пал. 17 ст. Яго творчую дзейнасць высока ацэньвалі ў сваіх працах Андрэй Волан і Аляксандр Алізароўскі.

*Тв.*: Рус. пер.— Эпиграммы; История Ричарда III. М., 1973; Утопия. М., 1978.

*Літ.*: Осиновский И. Н. Томас Мор. М., 1985; Алексеев М. П. Славянские источники «Утопии» Томаса Мора. М., 1955. *С. Ф. Сокал.*

**МСЦІСЛА́ВЕЦ** Пётр Цімафеевіч (г. н. і см. невяд.), адзін з бел. першадрукароў і гравёр 16 ст. Ураджэнец г. Мсціслава. Удзельнічаў у заснаванні Іванам *Фёдаравым* друкарні ў Маскве. У пасляслоўі да маскоўскіх выданняў «Апостала» 1564 і двух «Часоўнікаў» 1565 упамінаецца як «клеврет» (таварыш, паплечнік) Фёдарава. Літаратурныя помнікі 1630—40-х г. («Сказания... о воображении книг печатного дела») дадаюць, што абодва друкары былі спрактыкаванымі майстрамі, «смыслени к таковому хитрому делу», «изысканы» намаганнямі Івана IV Грознага і мітрапаліта Макарыя. Бел. паходжанне М. спарадзіла гіпотэзу пра яго непасрэдныя сувязі са С. Меркаваннe пра тое, што ён — вучань С. або працаваў у яго Віленскай друкарні, малаверагодна, калі ўлічваць значны храналагічны разрыў у дзейнасці абедзвюх друкарняў і асабліва арыгінальны мастацка-друкарскі выгляд маскоўскіх першадрукаваных выданняў. Непрыязныя адносіны кансерватыўных колаў духавенства і свецкай знаці сталі прычынай спынення выдавецкай дзейнасці М. і Фёдарава ў Маскве. Каля 1566, забраўшы амаль усе друкарскія матэрыялы (акрамя друкарскага станка), яны пераехалі ў мяст. Заблудаў да гетмана Вял. кн. Літоўскага Р. Хадкевіча. У ліпені 1568 — сакавіку 1569 у арганізаванай там *Заблудаўскай друкарні* надрукавалі ў асн. з маскоўскіх дошак «Евангелле вучыцельнае» (фармат «у аркуш», 407 арк., маскоўскі паўустаўны шрыфт, упрыгожана арнаментам — застаўкі, канцоўкі, ініцыялы). Знаёмства друкароў з кніжнай культурай Беларусі, з польск. і зах.-еўрап. выданнямі прыкметна адбілася на знешнім выглядзе заблудаўскіх выданняў. У адрозненне ад маскоўскіх у іх змешчаны тытульны ліст, геральдычная гравюра, фаліяцыя, больш шырока ўжываліся канцоўкі. М. і Фёдараў добра ведалі выданні С. і Сымона Буднага (з ім яны сустракаліся неўзабаве пасля прыезду ў Вял. кн. Літоўскае). У выніку ўдалага сінтэзу мясц. і маскоўскіх мастацка-выдавецкіх традыцый былі створаны арыгінальныя высокамастацкія творы кнігадруку, якія несумненна паўплывалі на ўсё далейшае бел. і укр. кірыліцкае (часткова і лаціна-польскае) кнігадрука-

ванне. Заблудаўскае «Евангелле» — першае друкаванае выданне 2-й пал. 16 ст., якое неаднаразова капіравалася пазней (В. *Гарабурда, Мамонічы*). Заблудаўскія выдаўцы мелі намер выкарыстаць моўныя традыцыі С. У прадмове да «Евангелля», напісанай ад імя Хадкевіча, сказана: «Помыслил же был есми и се, иже бы сию книгу выразумения ради простых людей преложити на простую мову и имел есми о том попечение великое...». Ажыццявіць гэты пераклад на бел. мову, як відаць з прадмовы, адраілі «люди мудрые в том письме оученые» (паводле меркавання Я. Л. *Неміроўскага*, гэта былі князь Андрэй Курбскі, які лічыў, што кнігі С. блізкія да Бібліі Марціна *Лютэра*, і старац *Арцемій*, які рэзка крытыкаваў першыя выданні *Нясвіжскай друкарні*, што выйшлі на бел. мове).

Па невядомых прычынах М. у 1569 пакінуў Заблудаў і перасяліўся ў Вільню. Яго друкарня адрадзіла кірыліцкае кнігадрукаванне амаль праз паўстагоддзе пасля спынення выдавецкай дзейнасці С. У пасляслоўі да «Псалтыра» 1576 адзначана, што ў арганізацыі друкарні прынялі ўдзел скарбны Вял. кн. Літоўскага І. С. Зарэцкі, яго брат Зянон — член віленскай рады, купцы Кузьма і Лука *Мамонічы*. Друкарня М. ў 1575—76 выпусціла 3 прыгожа аформленыя выданні — «Евангелле напрастольнае, «Псалтыр», «Часоўнік». Іх адметныя рысы — буйны прыгожы шрыфт, застаўкі з раслінна-кветкавым фонам, чырвоная вязь у пачатку раздзелаў, умелы набор тэксту (з добрай выключкай радкоў), разнастайнасць надрадковых літар і інш. Ілюстрацыйныя гравюры (выявы евангелістаў і цара Давіда), якія выразаны на цэльных дошках, упрыгожаны багатымі складана арнаментаванымі рамкамі, характэрнымі для мастацтва зах.-еўрап. Адраджэння (паводле сцвярджэння А. А. *Сідарава*, фігуры евангелістаў выкананы ў стылі послекласічнага маньерызму). Выданні М. прыкметна паўплывалі на развіццё бел. кнігадрукавання. Асабліва выразна гэты ўплыў выявіўся ў канцы 16 — пач. 17 ст. ў дзейнасці друкарні Мамонічаў і віленскага Святадухаўскага брацтва. Віленскія выданні М. шырока распаўсюджваліся на Беларусі, Украіне, у Расіі. Гэтаму садзейнічалі гандл. сувязі Зарэцкіх — Мамонічаў з Масквой, Псковам, Ноўгарадам. Выдавецкая дзейнасць М. адпавядала патрэбам тых колаў бел. і ўкр. гараджан, якія складалі асн. сацыяльнае ядро бел.-укр. брацтваў, падтрымлівалі іх асв. і грамадска-паліт. дзейнасць. Матэрыяльная залежнасць М. ад купцоў Мамонічаў, відаць, прыгнятала яго. У выніку судовага працэсу 1576 усе нераспрададзеныя кнігі былі аддадзены Кузьме Мамонічу, маёмасць друкарні засталася за М. Яго друкарскія матэрыялы (шрыфты, арнамент, ламбарды) пазней заўважаюцца ў выданнях *Астрожскай друкарні* («Книга о постничестве», 1594, «Часаслоў», 1602), што дае даследчыкам падставу лічыць М. адным з ананімных майстроў Астрожскай друкарні. Звесткі пра апошнія гады жыцця М. адсутнічаюць.

*Літ.*: 159; 221; 789; Зернова А. С. Первопечатник Пётр Тимофеев Мстиславец // Книга: Исслед. и материалы. М., 1964. Сб. 9; Запаско Я. Мистецька спадщина Івана Федорова. Львів, 1974; Ilyaszewicz T. Drukarnia domu Mamoniczów w Wilnie (1575—1622). Wilno, 1938.

*Г. Я. Галенчанка.*

Герб **Мсціслава.** Пачатак 17 ст.



**Музей І. Фёдарава.** Экспазіцыя, прысвечаная Ф. Скарыне.



**МСЦІСЛА́Ў,** старажытны горад Беларусі, цяпер цэнтр Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобл.

У летапісах упамінаецца пад 1156 як горад Смаленскага княства. Заснавальнікам М. лічаць кн. Давыда Расціславіча. З 1180 цэнтр Мсціслаўскага княства. З 2-й пал. 14 ст. ў складзе Вял. кн. Літоўскага. У 1359 вял. кн. літ. Альгерд пасадзіў тут свайго намесніка, а потым аддаў княства сваму сыну Лугвену, які заснаваў новую дынастыю князёў Мсціслаўскіх — Лугвенавічаў. Мсціслаўскі полк удзельнічаў у Грунвальдскай бітве 1410. З 1528 М. ва ўладанні Жыгімонта II Аўгуста — каралеўская воласць, цэнтр староства.

М. — радзіма аднаго з рус. і бел. першадрукароў Пятра *Мсціслаўца*.

*М. Б. Батвіннік.*

**МУЗЕ́Й ІВА́НА ФЁДАРАВА,** Мемарыяльны музей І. Фёдарава ў Львове. Адкрыты ў 1977 як аддзел Львоўскай карціннай галерэі ў былым *Ануфрыеўскім манастыры*. У экспазіцыі музея паказаны матэрыялы аб перадумовах узнікнення кнігадрукавання на Украіне, жыцці і дзейнасці рус. і ўкр. першадрукара, развіцці выдавецкай справы ў зах.-ўкр. землях. Сярод экспанатаў рукапісы, кірыліцкія старадрукі. Асобны раздзел прысвечаны С., экспануюцца муляжы пражскай «Бібліі», віленскай «Малой падарожнай кніжкі». У 19 ст. ў б-цы Ануфрыеўскага манастыра захоўваўся спіс кніг «Бібліі» С., скапіраваны Дзмітрыем з Зенькава (гл. ў арт. *Спісы з выданняў Ф. Скарыны*).

*Літ.*: Видашенко М. Б. Музей Івана Федорова у Львові: Ілюстрований проспект. Львів, 1979. *В. Я. Фрыс.*

**МЫ́ЛЬНІКАЎ** Аляксандр Сяргеевіч (н. 1929), савецкі славіст, гісторык культуры, кнігазнавец. Д-р гіст. н. (1972), праф. (1976). Супрацоўнік Ленінградскай часткі Ін-та этнаграфіі імя М. М. Міклухі-Маклая АН СССР. Навук. працы прысвечаны гісторыі і культуры слав. народаў, гісторыі кнігі, агульным праблемам кнігазнаўства. Даследуе выдавецкую дзейнасць С. ў Празе. У арт. «Ф. Скарына і чэшскае кнігадрукаванне» ў зб. «450 год беларускага кнігадрукавання» (1968) і ў манаграфіі «Чэшская кніга. Нарысы гісторыі» (1971) паказаў, што ў творчасці С. своеасабліва ўзаемазвязаны элементы слав. культур паміж сабой і з агульнаеўрап. культурай эпохі Адраджэння, што ён з'яўляецца заснавальнікам друкавання кніг кірыліцай не толькі ў чэшскіх землях, але і на тэр. СССР. На думку М., выданні С. былі надрукаваны ў адной з пражскіх друкарняў і вызначаліся шрыфтам, спосабам друку, высокім узроўнем паліграф. майстэрства. Падкрэслівае важнасць пражскага перыяду жыцця і творчасці С. не толькі з пункту гледжання біяграфіі, але і як факт гісторыі слав. кнігадрукавання ў цэлым. Лічыць неправамерным выключаць з паняцця слав. кнігадрукавання кнігі, якія выдадзены ў слав. краінах лац. шрыфтам. Удзельнік *Скарынінскіх чытанняў*.

*Тв.*: 203. *Я. Л. Неміроўскі.*

**МЮНЦЭР** (Müntzer, Münzer) Томас (каля 1490—1525), нямецкі рэвалюцыянер, ідэолаг радыкальнага сялянска-пле-

бейскага крыла *Рэфармацыі,* адзін з кіраўнікоў Сялянскай вайны 1524—26 у Германіі. Сучаснік С. Рэлігійна-філас. вучэнне М., паводле Ф. Энгельса, было скіравана супраць усіх асн. догматаў не толькі каталіцызму, але і хрысціянства наогул (гл. Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Т. 7. С. 370). Насуперак умераным поглядам М. *Лютэра* асн. задачу Рэфармацыі М. бачыў не столькі ў абнаўленні царквы і яе вучэння, колькі ў сац.-эканам. перавароце сіламі сялян і гар. беднаты. Хрысціянскія лозунгі М. выкарыстоўваў для абвяшчэння радыкальнай сац.-паліт. праграмы, мэтай якой, паводле Энгельса, было «неадкладнае ўстанаўленне царства божага на зямлі» (там жа, с. 371). Пад апошнім М. разумеў грамадства без класаў, прыватнай уласнасці і дзяржавы, якое сцвярджаецца ў выніку рэв. барацьбы нар. мас супраць іх паноў і прыгнятальнікаў. У час знаходжання С. ў Празе М. у 1521 (яшчэ да разрыву з Лютэрам) наведаў Чэхію. Тут ён апублікаваў «Пражскі маніфест», у якім выклаў асн. палажэнні свайго рэв. вучэння і разумення Рэфармацыі. С. не быў прыхільнікам вучэння М., аднак агульным для іх абодвух была крытыка крайнасцей феадалізму, барацьба за дэмакратызацыю асветы, маральнае ўдасканаленне чалавека, усебаковае і гарманічнае развіццё асобы.

*Літ.:* Смирин М. М. Народная реформация Томаса Мюнцера и Великая Крестьянская война. 2. изд. М., 1955; Штекли А. Томас Мюнцер. М., 1961. *В. Ф. Шалькевіч.*



Томас Мюнцэр.

**МЯСТЭ́ЧКА** (агульнаслав. места — горад), населены пункт гар. тыпу на Беларусі, Украіне, у Літве і Польшчы.

Ад горада адрознівалася гасп. структурай — пераважнай роллю с.-г. заняткаў насельніцтва ў параўнанні з рамесна-гандлёвымі, меншым арэалам гандл. дзейнасці і сувязей у наваколлі, меншай колькасцю насельніцтва (звычайна менш за 1500 жыхароў), больш аднароднай сац. структурай насельніцтва (без выразнай групы «паноў-мяшчан», патрыцыяту). Ад сяла і вёскі М. адрознівалася тым, што для часткі яго насельніцтва сталым заняткам былі гандаль, розныя рамёствы і промыслы. М. адыгрывала ролю гандл. цэнтра невял. акругі з функцыямі пункта камунікацыі, гар. структурай планіроўкі (гандл. плошча, вуліцы, сядзібы, местачковыя агароды і валокі). Часам М. налічвалі да 300 «дымоў» (у 16 ст. да 1500 жыхароў), некат. былі невялікімі (часам мястэчкі мелі 2 «дымы»).

На Беларусі М. ўзнікалі з 14—15 ст. і асабліва ў 16 ст. каля велікакняжацкіх, магнацкіх і панскіх маёнткаў, пры якіх існавалі таргі, а таксама на неасвоеных тэрыторыях. Ствараліся разам з замкамі (Іказнь) ці каля іх (Баркалабава, Вароnічы), на царк. землях, каля манастыроў (Жыровічы, Ігумен, Відзы), а пры ажыццяўленні валочнай памеры — на месцы колішніх вёсак (Моталь) ці на неасвоеных тэрыторыях (Васількава, Ліпск, Смалявічы, Станькава); з развіццём гандлю закладваліся і на гасцінцах (Мілейчыцы, Нача, Барань, Старобін). М. былі велікакняжацкія (дзяржаўныя) — Скідаль, Азёры, Гомель, Сураж, Крэва, прыватнаўладальніцкія — Лагойск, Смаляны, Чашнікі, Смаргонь, Семежава, Цімкавічы, Дзярэчын, царкоўныя — Ігумен, Жыровічы, Пяршай, Стрэшын. Стварэнне М. афармлялася велікакняжацкімі граматамі. Так, у 1547 Жыгімонт II Аўгуст выдаў грамату Ганне Сапега і яе сынам Івану, Міхаілу і Паўлу Іванавічам Сапегам з дазволам «асадзіць» М. каля іх замка Машчаніцы ў Віцебскім ваяводстве. Некат. М. былі адм. цэнтрамі маёнткаў або воласцей у магнацкіх латыфундыях. У буйных М. збіраліся кірмашы і праводзіліся таргі. Уладальнікам М. ішлі значныя сумы гандл. збораў ад таргоў і кірмашоў. Каб залучыць у М. навасёлаў, феадалы на некалькі (6—10, часам да 20) гадоў вызвалялі іх ад падаткаў. У прававых адносінах насельніцтва М. падзялялася на мяшчан (пераважна гандляры і рамеснікі), што плацілі чынш і выконвалі феад. павіннасці (згоны, паштовую, вартавую і інш.), і местачковых сялян, якія адбывалі паншчыну. Некат. найб. буйныя М. атрымлівалі з цягам часу *магдэбургскае права.* На чале адміністрацыі ў М. стаяў войт, у склад яе ўваходзілі падвойскі (яго намеснік) і пісар, а таксама дзесятнікі, якія збіралі падаткі і сачылі за выкананнем жыхарамі павіннасцей. Паліцэйскія функцыі выконвалі местачковыя «пахолкі» і «гайдукі». Адміністрацыя ў М., што не мелі самакіравання, назначалася ўладамі панскага двара. М. адыгралі значную ролю ў развіцці таварна-грашовых адносін на Беларусі.

*Літ.:* Грыцкевіч А. П. Кіраванне прыватнаўладальніцкіх гарадоў Беларусі без магдэбургскага права (XVI — XVIII стст.) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1974. № 4; яго ж. Частновладельческие города Белоруссии в XVI — XVIII вв.: (социально-экономическое исследование истории городов). Мн., 1975; Alexandrowicz St. Miasteczka Białorusi i Litwy jako ośrodki handlu w XVI i w I połowie XVII wieku// Rocznik Białostocki. Białystok, 1961. T. 1.
*А. П. Грыцкевіч.*



**НАВАГРУ́ДАК,** адзін з старажытнейшых гарадоў Беларусі, цяпер цэнтр Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.

Паводле археал. звестак паселішча ўзнікла ў канцы 10 ст. як умацаванне на граніцы з Літвой (некат. даследчыкі лічаць годам заснавання 1116). Першае пісьмовае ўпамінанне пра Н. пад 1252 у Іпацьеўскім летапісе пад назвай Новогород, Новгородок. Быў рэзідэнцыяй вял. князя літ. Міндоўга з 1252, цэнтрам Чорнай Русі, Навагрудскага княства. У 13 ст. Н. неаднаразова пераходзіў ад літ. да галіцка-валынскіх князёў і наадварот. Горад і яго ваколіцы часта разбураліся, на яго нападалі мангола-татары (1255, 1274, 1278), крыжакі (1314, 1321, 1341, 1390, 1394). Як цэнтрам удзельнага княства Н. валодалі з 1341 Карыят Міхал Гедымінавіч, пасля 1358 яго сын Фёдар, а з канца 14 ст. Карыбут Дзмітрый Альгердавіч. Пасля 1394 Н. стаў адным з цэнтраў велікакняжацкага дамена. З 1415— рэзідэнцыя правасл. мітрапаліта Вял. кн. Літоўскага, з 1507— цэнтр аднайменнага ваяводства (тут адбываліся сеймікі, засядалі суды). У 1511 атрымаў *магдэбургскае права.* Быў адным з буйных гарадоў Вял. кн. Літоўскага. Асновай горада быў дзядзінец, пабудаваны ў канцы 10 ст. на высокім (20 м) узгорку. У 12 ст. горад складаўся з замка на Замкавай гары, вакольнага горада на суседнім узвышшы (т. зв. Малы замак) і пасада. Замак і вакольны горад былі ўмацаваны валамі і ровам. Археал. раскопкі на Малым замку выявілі рэшткі кварталаў, у якіх жылыя дамы мелі зашклёныя вокны, атынкаваныя сцены і фрэскавую размалёўку. На працягу 14—16 ст. замак неаднаразова абнаўляўся і дабудоўваўся. Гар. забудова вялася ў паўд. і зах. напрамках. Паблізу ад Замкавай гары фарміравалася гандл. плошча. Планіровачная структура горада была няправільная радыяльная, двума цэнтрамі, на якіх сыходзіліся вуліцы, служылі крэпасць і плошча. Сетка крывалінейных вуліц забудоўвалася ў адпаведнасці са складаным рэльефам, некат. вуліцы мелі пераменную шырыню. Гандл. плошча вызначалася арыгінальнай для бел. гарадоў трохвугольнай формай, дзе перасякаліся 8 асн. вуліц, што пераходзілі ў дарогі на Мінск, Гродна, Слонім і інш. гарады. На плошчы размяшчаліся культавыя пабудовы, гандл. рады, жылыя дамы рамеснікаў і гандляроў, пасля атрымання горадам магдэбургскага права была пабудавана ратуша. Плошча мела замкнутую кампазіцыю і злучалася з замкам кароткім адрэзкам вуліцы. У 1517 на месцы стараж. храма 2-й пал. 12 ст. была пабудавана ў стылі готыкі Барысаглебская царква.

Н. у часы С.— буйны цэнтр рамяства і гандлю. На развіццё яго культуры значна ўплывалі сувязі з Кіеўскай зямлёй, Візантыяй, краінамі Усходу і Захаду. Рамеснікі займаліся апрацоўкай золата, жалеза, развівалася кастарэзная справа, ганчарная вытворчасць, існавалі рамесныя карпарацыі. Пра пісьменнасць жыхароў можна меркаваць па разнастайнай графіцы на тынку Барысаглебскай царквы. Вядома рукапісная кніга «Пралог» 1512 (625 лістоў; напісаў «диаконец Иоакимець» у Навагрудку) паўуставам царк.-слав. мовы з элементамі бел. мовы. У 2-й пал. 16 ст. ў Н., як і ў інш. гарадах, узніклі абшчыны кальвіністаў, пры якіх былі цэрквы, школы, друкарні, шпіталі, і арыянская, на чале якой у канцы стагоддзя становіцца Ян Ліцыній Намыслоўскі, які супрацоўнічаў з С. *Будным.*

*Літ.:* Гуревич Ф. Д. Древний Новогрудок: Посад — окольный город. Л., 1981; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972; Чантурыя Ю. У. Гістарычны цэнтр Навагрудка // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1974. № 1; Труды Минского губернского статистического комитета. Вып. 1. Мн., 1870.

*Я. Н. Мараш, Ю. У. Чантурыя.*

Герб **Навагрудка.** 16—18 ст.



**НАВУКО́ВАЯ БІБЛІЯТЭ́КА ІМЯ́ М. ГОРКАГА МАСКОЎСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭ́ТА** імя М. В. Ламаносава. Засн. ў 1756. У б-цы зберагаюцца 4 выданні С.: кн. «Царствы», «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф». Паступілі ў 1830—60-я г. У канцы 18— пач. 19 ст. іх пераплялі ў канвалют. Згубленыя асобныя старонкі адноўлены ў 1775—76 на паперы Яраслаўскай фабрыкі С. Якаўлева.

*Літ.:* 702; 703.

**НАВУКО́ВАЯ БІБЛІЯТЭ́КА САРА́ТАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭ́ТА** імя М. Г. Чарнышэўскага. Заснавана ў 1909 разам з ун-там. Мае значныя зборы інкунабул і палеатыпаў, больш 200 экз. бел. і укр. старадрукаў 16—17 ст., гал. чынам з калекцыі заволжскага купца-старавера П. Мальцава. У 1920— пач. 30-х г. зберагаліся 2 канвалюты пражскіх выданняў С.: кн. «Эсфір», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Песня песням», «Эклесіяст», «Плач Ераміі»; «Пяцікніжжа» — кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон». У б-цы зберагаліся таксама кн. «Царствы» з партрэтам С. (арк. 242-і). У 1932 гэтыя выданні С. былі перададзены ў аддзел рэдкай кнігі Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна (інв. №№ 1441, 6519, 6308, 6525, 6328, 6523, 6521, 6321, 6534, 6538, 6544, 6545, 6550). У рукапісным каталогу б-кі значацца яшчэ некалькі пашкоджаных экз. пражскіх выданняў С., падрабязна ў бібліяграфіі не апісаных.

*Літ.:* 558; 640; 668. *Г. Я. Галенчанка.*

**НАВУХАДАНО́САР II**, вавілонскі цар (605—562 да н. э.). Двойчы, у 597 і 587 (ці 586), спусташаў Іерусалім, перасяліў значную частку яго жыхароў у Вавілонію. Гэтыя гіст. падзеі апісаны ў Бібліі. С. называе імя Н. II у прадмове да 4-й кн. «Царствы», адзначаючы, што з разбурэннем горада і храма Саламона — сімвала незалежнасці — скончылася гісторыя самастойнага Іудзейскага царства. Заваяванне Н. II Іудзейскага царства — у аснове сюжэта гравюры С. *«Асада Іерусаліма»*. У прадмове да кн. «Прарок Данііл» С. апісаў узаемаадносіны Н. II з духоўнымі кіраўнікамі палонных яўрэяў. С. ўпамінае імя Н. II таксама і ў прадмове да кн. «Плач Ераміі».

**НАМІНАЛІ́ЗМ** (ад лац. nomen імя), філасофскае вучэнне, паводле якога ў аб'ектыўнай рэчаіснасці рэальнае існаванне маюць толькі адзінкавыя прадметы, а агульныя паняцці (універсаліі) існуюць толькі ў мысленні. Крайні Н. (І. Расцэлін) зводзіць агульнае толькі да слоў або імёнаў. Памяркоўны Н., або канцэптуалізм (П. Абеляр), прызнае існаванне агульных паняццяў у розуме.

Ва ўмовах сярэдневякоўя Н. выступаў як процілеглы кірунак рэалізму, які ў разуменні суадносін і ролі адзінкавага і агульнага адстойваў першаснасць агульнага. З гнасеалагічнага пункту погляду Н. быў адказам на крайні ідэалізм рэалізму. Паводле К. Маркса, Н. быў «першым выражэннем матэрыялізму» (Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Т. 2. С. 142). У. І. Ленін таксама адзначаў, што «ў барацьбе сярэдневяковых наміналістаў і рэалістаў ёсць аналогіі з барацьбой матэрыялістаў і ідэалістаў» (Ленін У. І. Тв. Т. 20. С. 175). Прадстаўнікі Н. ў Зах. Еўропе — Ьерангар Турскі, І. Расцэлін, П. Абеляр, У. Окам і інш. Іх творчасці ўласціва імкненне адысці ад абстрактна-тэалагічнай праблематыкі да эмпірычнага вывучэння рэчаіснасці. Будучы прыхільнікамі канцэпцыі *дваістай ісціны*, гал. задачу філасофіі яны бачылі ў навук. пазнанні прыроды, куды рэлігія не павінна ўмешвацца. Наміналістычныя кірункі ўласцівы і сац. філасофіі эпохі Адраджэння і Новага часу. Іх агульная рыса — імкненне разглядаць грамадскія з'явы і адносіны праз вывучэнне якасцей індывідумаў.

С., як прадстаўнік гуманіст. думкі, сутнасць грамадства, дзяржавы, права вызначаў праз вырашэнне пытання: як яны забяспечваюць інтарэсы чалавека. Удасканаленне сац. адносін ставіў у залежнасць ад маральнага ўдасканалення індывідуума. Нават у рэліг. справах С. даводзіў, што ўсякае палажэнне, у т. л. і біблейскае, павінна быць асэнсавана, а не прымацца чалавекам на веру, г. зн. рабіў акцэнт на творчую актыўнасць суб'екта. Права С. разумеў не толькі як божае наканаванне, але і як прадукт дзейнасці чалавечага мыслення. «Иные теже писма и права или уставы,— пісаў С.,— прежде воплощения слова божия... людскими пилностями пописаны были» (гл. с. 65), «закон же написаный или от бога ест даный... или от людей установленый» (гл. с. 137). *С. Ф. Сокал.*

**НАТУРФІЛАСО́ФІЯ** (ням. Naturphilosophie ад лац. natura прырода), філасофія прыроды, абстрактнае вытлумачэнне фіз. свету ў яго цэласнасці, цесна звязанае з прыродазнаўчанавук. уяўленнямі. Першая гіст. форма філас. светаразумення, стымулявала рост цікавасці да вывучэння прыроды, развіццё фіз. ведаў.

У старажытнасці Н. выступала асн. спосабам тэарэт. асэнсавання прыроды, у яе рамках сфармуляваны многія гіпотэзы, якія адыгралі важную ролю ў гісторыі навукі, асабліва атамізм. У эпоху сярэдневякоўя пануючай формай філасофіі прыроды становіцца схаласт. перыпатэтызм. Фіз. структура космасу траціць сваю самастойную значнасць, выступаючы толькі вонкавым выяўленнем яго сакральнай (у рэліг. разуменні) структуры. Аднак і ў рамках рэліг. светапогляду цяга да прыродазнаўчанавук. ведаў поўнасцю не падаўлялася, захоўваліся элементы антычнай Н. *(авераізм*, Р. Бэкан і інш.). У эпоху Адраджэння складваюцца спрыяльныя ўмовы для новага росквіту Н. (рост бюргерства, практычная патрэба ў навук. ведах, разняволенне чалавечага розуму і інш.). Буйнейшымі прадстаўнікамі Н. становяцца Дж. Бруна, Б. Тэлезіо, Т. Кампанела, Дж. Кардана, *Парацэльс*, Ф. Патрыцы. Рэнесансавая Н. парушае тэалагічную карціну свету, прызнае прыроду вечнай, матэрыяльнай, самарухальнай і адушаўлёнай, якая бесперапынна зменьваецца і падпарадкоўваецца ўласным законам. Адсюль уласцівыя Н. элементы натураліст. пантэізму, дынамізму, гілазаізму. Н. прасякнута імкненнем да авалодання сіламі прыроды, практычнага выкарыстання навукі на карысць людзей, пашырэння прыродазнаўчанавук. ведаў як важнай умовы шчаслівага жыцця чалавека. Важную ролю ў гэты час адыграла Н. і ў пераносе цікавасці з рэліг.-тэалагічных пытанняў на жыццёва-практычныя патрэбы грамадскага развіцця.

Гэтыя аспекты ідэйнай спадчыны Н., што атрымалі шырокі рэзананс у Еўропе 15—16 ст., паўплывалі на станаўленне *светапогляду Ф. Скарыны.* Хоць многія праблемы Н. засталіся ў баку ад яго гуманістычна-асв. інтарэсаў, агульная рэнесансавая перабудова рэліг.-тэалагічнага спосабу мыслення і сярэдневяковай карціны свету выразна выявілася ў поглядах С. Уплыў натурфілас. традыцы С. павінен быў адчуць у час знаходжання ў Італіі—агульнаеўрап. цэнтры рэнесансавай Н. *Падуанскі універсітэт*, дзе С. вытрымаў экзамен на ступень доктара медыцыны, на працягу 14—16 ст. быў цэнтрам лац. авераізму, а т. зв. падуанская школа распрацоўвала важнейшыя праблемы Н.:



Навагрудскі замак. Рэканструкцыя.



**Навагрудак.** Барысаглебская царква. 16 ст.

Руіны Навагрудскага замка.



нястворанасць свету, вечнасць матэрыі і руху, усеагульнасць прычынных сувязей у прыродзе, каштоўнасць фіз. ведаў і інш. Для паспяховай здачы экзамена С. павінен быў добра арыентавацца ў гэтых пытаннях, асабліва адносна медыцыны. Адсюль ён пачарпнуў устойлівую цікавасць да прыродазнаўчанавук. ведаў, перакананасць у тым, што пры дапамозе навук можна ўзяць уладу над сіламі прыроды і над самім сабой (гл. с. 36—37). Глыбокае знаёмства з ідэйнымі пазіцыямі Н. выявілася і ў абмеркаванні С. ключавой анталагічнай праблемы сярэдневякоўя — пра стварэнне свету «из ничего». У прадмове да кн. «Быццё» С. звярнуўся да ідэй антычнай Н. «Кто убо от философов мог поразумети, абы господь бог словом своим с ни з чего сотворил вся видимая и невидимая, по старейшине их Аристотелю глаголюшу: «З ничего ничто же бысть» (гл. с. 105). Відавочныя паралелі паміж поглядамі С. і сучаснай яму Н. выяўляюцца ў прызнанні канцэпцыі *дваістай ісціны,* якая вызваляла навук. думку ад дыктату рэліг. догматаў. Паводле С., існуе «двоякая правда: божия и человечия» (гл. с. 193), а «житейскую мудрость» ён ставіў нараўне з божай (гл. с. 46). У адрозненне ад артадаксальнай схаластыкі і ў духу Н. ён пакідаў на другім плане сакральны пласт біблейскай касмалогіі, які ўзвышаецца «над розум людскый» (гл. с. 105). С. сканцэнтроўваў увагу на тых раздзелах Бібліі, якія змяшчаюць карысныя звесткі, у т. л. і пра навакольную прыроду, каб «совѣршен будеть человѣк божий и на всяко дѣло уготован» (гл. с. 19). У русле натурфілас. традыцыі С. не проціпастаўляў духоўнае і матэрыяльнае, фізічна-цялеснае. Сцвярджаў, што «святые писма уставлена суть к нашему навчению»: не толькі «духовному», але і «телесному» (гл. с. 19). Паказальны некат. навук., напр. астранамічныя, даследаванні С., хоць ён цалкам заставаўся на пазіцыях арыстоцелеўска-пталамееўскай сістэмы. У «Малой падарожнай кніжцы» С. ўвёў некат. папраўкі ў юліянскі каляндар у адпаведнасці з навейшымі астранам. разлікамі, вызначыў час уваходу Сонца ў кожнае сузор'е Задыяка, паведамляў пра 6 месячных і сонечнае зацьменні. Можна меркаваць, што С. выкарыстаў «Астранамічныя табліцы» І. *Рэгіямантана* (гл. таксама ў арт. *Астранамічныя звесткі* ў выданнях Ф. Скарыны).

*Літ.:* 90; Кузнецов Б. Г. Эволюция картины мира. М., 1961; Соколов В. В. Натурфилософия XVI — начала XVII века как предыстория материализма нового времени // Вопр. философии. 1960. № 1; Горфункель А. Х. Гуманизм и натурфилософия итальянского Возрождения. М., 1977.

*Г. У. Грушавы.*

**НЕАПЛАТАНІЗМ** (ад грэч. néos новы), ідэаліст. кірунак антычнай філасофіі 3—6 ст.; апошні этап развіцця антычнага платанізму. Характарызаваўся сістэматызацыяй і развіццём вучэння *Платона* з выкарыстаннем ідэй *арыстацелізму* і неапіфагарэізму.

Заснавальнікам лічаць Плаціна [204/205—270]. Гал. прадстаўнікі Н. ў антычную эпоху — Парфірый, Ямвліх, Прокл. У цэнтры філас. сістэмы Н. вучэнне пра іерархічную будову быцця, вышэйшая ступень якой — звышсутнае адзінае, што дае пачатак у парадку зыходжання («выцякання») касмічнаму розуму, сусв. душы, пачуццёваму космасу і матэрыі. Антычны Н. вял. ўвагу аддаваў абагульненню і сістэматыцы ўсёй сукупнасці філас. і навук. ведаў старажытнасці. Аднак разам са спекулятыўна-тэарэт. тэндэнцыямі ў ім значнае месца займала міфалогія і рэліг.-магічная практыка, што абумовіла складанае ўзаемадзеянне Н. з монатэіст. ідэалогіяй хрысціянства. Ідэі Н. глыбока адлюстраваны ў ранняй *патрыстыцы,* у *Аўгусціна* Блажэннага, Арэапагітыках, неартадаксальнай містыцы сярэднявечча. Прыкметны ўплыў Н. зрабіў на развіццё арабамоўнай філасофіі (аль-Кіндзі, аль-Фарабі, *Ібн Сіна*). Прынцыпова новыя рысы набыў у філасофіі эпохі Адраджэння, дзе ён выступаў як першая цэласная філас. сістэма, што процістаяла сярэдневяковай схаластыцы. Рэнесансавая перапрацоўка Н. ў працах *Мікалая Кузанскага,* Г. Пліфана, *М. Фічына, Піка дэла Мірандалы* вяла да пераадолення дуалізму рэліг.-тэістычнага светасузірання, вяртала быццю ўнутраную гармонію, узвышала і адухаўляла прыроду, услаўляла годнасць чалавека як творчай асобы. Важны крок да секулярызацыі Н. зрабілі прадстаўнікі *натурфіласофіі* Адраджэння *(Парацэльс,* Дж. Кардана, Б. Тэлезіо, Ф. Патрыцы і інш.). Іх дзейнасць спрыяла прызнанню вял. практ. каштоўнасці ведаў аб прыродзе.



І. Немагай. Ілюстрацыя да кнігі С. Майхровіча «Георгій Скарына». 1966.



М. Несцярэўскі. Францыск Скарына. 1985.

Развітая ў рэнесансавым Н. ідэя «ўсеагульнай рэлігіі» стала значным укладам у гуманіст. пераасэнсаванне хрысц. маральнага ідэалу, сцвярджэнне гуманіст. вальнадумства ў процілегласць дагматычнаму фанатызму багасловя. У 2-й пал. 15 ст. ў сувязі з актыўнай перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасцю гуманістаў пашырылася база крыніц для азнаямлення з антычным Н. У светапоглядзе С. выразна выступаюць тыя рысы рэнесансавага Н., якія адыгралі найб. прагрэс. ролю ў развіцці філас. і грамадскай думкі эпохі Адраджэння. Гэта перш за ўсё антысхаласт. накіраванасць думкі бел. першадрукара, гуманіст. характар яго светаразумення. С. імкнуўся ўзвысіць чалавечы розум, узбагаціць ідэйнай спадчынай антычнасці, абудзіць цікавасць да свецкіх, практычна карысных ведаў. Гэтай мэце служыць у С. сама «Біблія», якую ён трактаваў як асв. твор, закліканы ўзбагаціць чалавечую думку, дзе «научение седми наук вызволеных достаточное» (гл. с. 10). У духу Н. важнай адзнакай сапраўднай мудрасці С. лічыў імкненне да зразумення ўнутранай гармоніі і заканамернасці, утоенай у прыродзе. Той, хто мае такую мудрасць, стаіць, лічыў С., вышэй за ўсіх — «то ю знайдеть, сей знайде милость и достанеть благословение от господа, и придеть к нему все доброе посполу с нею, хвала и честь безчисленая моцию ея» (гл. с. 20). У сваім узвелічэнні годнасці чалавека, яго бязмежных творчых здольнасцей — «Да совѣршен будеть человѣк божий и на всяко дѣло добро уготован» (гл. с. 19) — С. блізкі да гуманістычна вытлумачанага *антрапацэнтрызму* Н. Своеасаблівае праламленне ў светапоглядзе С. знайшла ідэя «ўсеагульнай рэлігіі», абвешчаная рэнесансавым Н. Далёкі быў С. ад канфесіянальнай абмежаванасці, дагматычнага фанатызму рэліг. артадоксіі. Ён пашырана тлумачыў хрысц. дабрачыннасці як агульначалавечыя, схіляўся да ідэй верацярпімасці. У поглядах С. пакінула свой след і натурфілас. галіна рэнесансавага Н., якая абудзіла ў яго ўстойлівую цікавасць да прыродазнаўчанавук. ведаў, перакананне ў тым, што з дапамогай навук можна ўзяць

уладу над сіламі прыроды і над самім сабой (гл. с. 36—37).

*Літ.:* Блонский П. П. Философия Плотина. М., 1918; Лосев А. Ф. Философская проза неоплатонизма // История греческой литературы. М., 1960. Т. 3; его ж. История античной эстетики. Поздний эллинизм. М., 1980; Robb N. A. Neoplatonism of the Italian Renaissance. London, 1935.

*Г. У. Грушавы.*

**НЕГАЛЕ́ЎСКІ** Валянцін (г. н. невяд.— не раней 1582), перакладчык Евангелля на ўкр. мову, адзін з прадаўжальнікаў традыцый С. Відаць, шляхціц з Валыні. Пераклад зрабіў у 1581 у с. Хорашаў паблізу Астрога. Рукапіс збярогся ў зборы Кіеўскага Міхайла-Залатаверхага манастыра (цяпер навук. б-ка АН УССР). Сваю працу Н. прызначаў для тых, хто не ўмеў чытаць па-польску, а «славянскай» (г. зн. царк.-слав.) мовы не разумеў. Асноваю паслужыў тэкст, перакладзены з грэч. мовы на польск. кальвіністам Марцінам *Чаховіцам (*выдадзены ў 1577 у кракаўскай друкарні Аляксея Радзіцкага), якія пазней меў сувязі з *Астрожскай друкарняй.* У мове перакладу Н. поруч з укр. рысамі ёсць многа беларусізмаў.

*Літ.:* Назаревский А. А. Язык Евангелия 1581 года в переводе В. Негалевского // Университетские изв. (Киев). 1911. № 11, 12.

*Я. Дз. Ісаевіч.*

**НЕМАГА́Й** Ілья Уладзіміравіч (н. 1930), беларускі сав. графік. Выканаў у тэхніцы лінагравюры маст. афармленне кнігі С. Майхровіча «Георгій Скарына» (вокладка, супервокладка, ілюстрацыі, заставкі, ініцыялы; 1966). На супервокладцы партрэт С.— графічная рэпрадукцыя скульптуры А. Глебава (1954). Кнігу ўпрыгожваюць таксама гравюры з выданняў С., стылізаваныя ініцыялы. Ілюстрацыі вылучаюцца самастойнасцю графічнай трактоўкі, стрыманасцю кампазіцыйнага ладу, канцэнтраванасцю маст. апавядання. Тытульны ліст кнігі зроблены ў характэрным для скарынінскіх выданняў чырвона-чорным колеры.

**НЕМІРО́ЎСКІ** Яўген Львовіч (н. 1925), савецкі кнігазнавец. Доктар гіст. н. (1972), праф. (1979). Ст. навуковы супрацоўнік-кансультант Кніжнай палаты СССР. Аўтар манаграфічных прац па гісторыі слав. кнігадрукавання кірылаўскім шрыфтам: «Узнікненне кнігадрукавання ў Маскве. Іван Фёдараў» (1964), «Пачатак славянскага кнігадрукавання» (1971), «Пачатак кнігадрукавання на Украіне. Іван Фёдараў» (1974), «Іван Фёдараў на Беларусі» (1979), «Іван Фёдараў» (1985) і інш. Адзін з ініцыятараў стварэння і адказны рэдактар *«Зводнага каталога старадрукаваных выданняў кірылаўскага і глаголічнага шрыфтоў»*, у т. л. выданняў бел. друкароў. Удасканаліў прынцыпы навук. апісання старадрукаў, сістэматызаваў звесткі пра знаходжанне выданняў С. ў б-ках, архівах, музеях СССР і замежных краін. Падрабязна апісаў калекцыю кніг С. ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна (паходжанне, пераплёты, камплектнасць і інш.), віленскі «Апостал». Выявіў шэраг невядомых уладальніцкіх запісаў 16—18 ст. на кнігах С., варыянты некат. выданняў (кн. «Іоў», «Апостал»). Вывучае гістарыяграфію, прысвечаную С., яго дзейнасць у Празе і Вільні, паліграф. тэхніку, маст. асаблівасці бел. першадрукаў, кніжныя і культ. ўзаемасувязі бел., рус., укр. друкароў і выдаўцоў (С., Івана Фёдарава, Пятра Мсціслаўца, Васіля Цяпінскага, Сымона Буднага). Паводле Н., кнігі С. былі вядомы ў Рус. дзяржаве ўжо ў 1-й пал. 16 ст., зрабілі пэўны ўплыў на астрожскія выданні Фёдарава. Склаў найб. поўную бібліяграфію скарынінскіх выданняў, прац, прысвечаных С. або ў якіх закранаюцца асобныя аспекты яго дзейнасці (1978). Актыўна ўдзельнічае ў арганізацыі навук. сесій, прысвечаных усх.-слав. кнізе, С., узнікненню бел., рус. і літ. кнігадрукавання (гл. *Скарынінскія чытанні, Фёдараўскія чытанні).*

*Тв.:* 206; 213; 222; 223; 664; 671.

*Літ.:* К 60-летию профессора Е. Л. Немировского // Книга: Исслед. и материалы. М., 1985. Т. 50.

*Г. Я. Галенчанка.*

**НЕРО́Н** (Nero) Клаўдзій Цэзар (37—68), рымскі імператар (з 54). З дынастыі Юліяў — Клаўдзіяў. Праводзіў палітыку жорсткіх рэпрэсій, канфіскоўваў маёмасць рымскай знаці, каб аслабіць яе магутнасць і дзеля ўласнага ўзбагачэння. У 68 супраць Н. паўсталі правіцелі правінцый, сенат пазбавіў яго ўлады. Скончыў самагубствам. С. ўпамінае яго ў пасляслоўях да «Другога паслання апостала Паўла селунянам» і да «Дзеянняў апостальскіх».

**НЕСЦЯРЭ́ЎСКІ** Мікалай Лаўрэнцьевіч (н. 1931), беларускі сав. мастак. Працуе ў галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Аўтар пано «Францыск Скарына» (1985, шамот, 44,4 × 61,5 см. Цэнтр. б-ка г. Салігорска). Па форме пано нагадвае разгорнутую кнігу, а таксама арку, у праёме якой змешчана пагрудная выява анфас маладога С. ў доктарскім адзенні. Унізе надпіс «Францыск Скарына» і гады жыцця.

**НІКАЛА́ ДЭ ЛІРА́** (Nicolas de Lyra), Мікалай Ліранскі (каля 1270—1340), французскі багаслоў і прапаведнік, прафесар Парыжскага ун-та. Склаў першы падрабязны каментарый да ўсіх кніг Старога і Новага запавету, які ў сярэднія вякі быў распаўсюджаны ў многіх спісах. Пасля вынаходства кнігадрукавання каментарый неаднойчы выпускалі друкарскім спосабам. Выходзілі асобныя выданні каментарыя да ўсёй Бібліі, да Евангелля, да паслання апостала Паўла. Вялікім фарматам і ў некалькіх тамах выходзіла «Біблія» з каментарыямі Н. дэ Л. на лац. мове (1481, Венецыя; 1482—83, 1485, 1487, 1489, 1493, 1497, Нюрнберг), на ням. мове (каля 1478, Кёльн, 1494, Любек). С. выкарыстаў яго каментарый пры падрыхтоўцы асобных біблейскіх кніг. П. У. *Уладзіміраў* лічыў, што каментарый Н. дэ Л. з'явіўся крыніцай для правядзення С. паралеляў паміж Старым і Новым запаветам у прадмове да кн. «Ісус Навін», для супастаўлення асобных навук. дысцыплін і біблейскіх кніг у агульнай прадмове да ўсёй «Бібліі». С. ўслед за Н. дэ Л. прыводзіць у назвах кніг і ў прадмовах словы і фразы са стараж.-яўр. тэксту Бібліі з іх перакладамі (у Н. дэ Л.— на грэч. і лац. мовы, у С.— дадаткова і на бел. мову). Якім выданнем каментарыяў карыстаўся С., пакуль не ўстаноўлена; ёсць меркаванне, што адным з выданняў А. Кобергера.

*Я. Л. Неміроўскі.*

Герб **Нясвіжа.** 16—18 ст.



**НУ́МА ПАМПІ́ЛІЙ** (Numa Pompilius; канец 8 — пач. 7 ст. да н. э.), другі з 7 рымскіх цароў (пасля Ромула). З яго імем грэч. і рымскія гісторыкі звязваюць правядзенне адміністрацыйна-прававых і рэліг. рэформ. Паводле падання, вёў мірную палітыку, заключыў мір з усімі суседнімі плямёнамі. Яму прыпісваецца ўстанаўленне дакладных дзярж. граніц, раздзяленне зямлі на ўчасткі і раздача іх землеўладальнікам, урэгуляванне гандлю, стварэнне 9 рамесных калегій. Лічыцца заснавальнікам многіх культаў. У гонар багоў увёў простыя, але строга пэўныя абрады. Н. П. прыпісваецца таксама ўпарадкаванне календара і раздзяленне года на 12 месяцаў (замест 10). С. ўпамінае аб ім у прадмове да 1-й кн. «Царствы».

*В. У. Чапко.*

**НЯСВІ́Ж,** старажытны бел. горад, цяпер цэнтр Нясвіжскага р-на Мінскай вобласці.

Упершыню ўпамінаецца ў летапісе пад 1223, калі нясвіжскі князь Юрый (па іншых звестках Фёдар) Нясвіжскі з дружынай удзельнічаў у бітве рус. князёў з мангола-татарамі на р. Калка. Да 13 ст. быў умацаваннем крывічоў і сталіцай княжацкага ўдзела, знаходзіўся ў залежнасці ад Валынскага, Кіеўскага, Галіцкага, Полацкага княстваў. З 1-й чвэрці 14 ст. ў складзе Вял. кн. Літоўскага. У 1430 ва ўладанні Фёдара Карыбутовіча, унука вял. князя літ. Альгерда, потым перайшоў патомкам Фёдара — Данілу, Васілю і інш. У 1492 кароль Аляксандр аддаў Н. за паслугі Пятру Яну Кішку разам з другімі маёнткамі. Кішкі пабудавалі на сваё сродкі касцёл св. Духа. У гэты час там была правасл. царква Раства багародзіцы. У 1513 дачка Станіслава Кішкі выйшла замуж за Яна Радзівіла, пасля смерці яе Н. стаў уласнасцю *Радзівілаў* — Яна і Мікалая Чорнага, якія дабіўся для Н. розных прывілеяў і льгот.

Горад быў цэнтрам рамяства, гандлю,



**Нясвіж.** Гравюра канца 16 ст.

культ. жыцця. У 16—18 ст. у Н. працавалі друкарні, тут дзейнічалі гуманісты і прыхільнікі Рэфармацыі. У 1562 Сымон *Будны* разам з Мацеем *Кавячынскім* і Лаўрэнціем Крышкоўскім выдаў у *Нясвіжскай друкарні* на бел. мове свае кнігі: *«Катэхізіс» 1562* і «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам», якія асвятлялі вострыя і актуальныя пытанні грамадскага жыцця Беларусі таго часу і прадаўжалі асв. традыцыі С.

*Літ.:* Грыцкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI — XVIII вв. Мн., 1975; Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (Вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970. *Я. Н. Мараш.*

**НЯСВІ́ЖСКАЯ ДРУКА́РНЯ** 16 ст., першая на тэр. Беларусі друкарня, якая карысталася кірылаўскім шрыфтам.

Засн. ў *Нясвіжы* ў 1560-х г. нясвіжскім старостам Мацеем *Кавячынскім* і нясвіжскім кальвінісцкім прапаведнікам Лаўрэнціем Крышкоўскім. Ідэйным кіраўніком у першыя гады яе дзейнасці быў Сымон *Будны*. Н. д. выдала твор Буднага *«Катэхізіс» 1562* — першую на тэр. Беларусі друкаваную кнігу на бел. мове. У кнізе як узор быў выкарыстаны шрыфт С. Другое выданне Н. д.— «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам» Буднага (не збераглося; вядома па бібліяграф. заўвагах В. С. *Сопікава* і ўпамінанні сучасніка аўтара старца *Арцемія*, які адзначаў у ёй наяўнасць асабліва моцных рыс антытрынітарскай ерасі). Есць меркаванні, што Н. д. выдала і некат. іншыя кірылічныя кнігі (у т. л. Буднага), што да нас не дайшлі. У 1563—71 друкар Даніэль *Ланчыцкі* выпусціў 11 выданняў на польск. і лац. мовах, пераважна палемічную пратэстанцкую публіцыстыку. Спыніла сваю дзейнасць па загаду М. К. Радзівіла Сіроткі. Апошняе выданне («Біблія» ў перакладзе на польск. мову Буднага) было надрукавана ў 1572 у Заслаўі ці ў маёнтку Кавячынскіх Уздзе. Абсталяванне Н. д. ў 1572 купіў Ян *Кішка*, які заснаваў *Лоскую друкарню*.

Большасць кніг Н. д. афармлена проста, шырока выкарыстоўваліся наборны арнамент, разнастайныя шрыфты, прамавугольныя «скарынінскія» ініцыялы з дэкар.-раслінным фонам, зрэдку трапляюцца ксілаграф. рамкі тытульных лістоў. У грамадскіх поглядах, дзейнасці нясвіжскіх выдаўцоў, стылістыцы, моўных асаблівасцях, маст. убранні кірылічных кніг выразна адчуваецца сувязь з дэмакр., гуманіст.-асв., маст. і друкарскімі традыцыямі С. Дзейнасць Н. д. дала творчы і ідэйны імпульс выдавецкай дзейнасці Васіля *Цяпінскага*.

*Літ.:* История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; Описание изданий Несвижской типографии и типографии Василия Тяпинского // Описание старопечатных изданий кирилловского шрифта. М., 1985. (Сводный каталог и описание старопечатных изданий кирилловского и глаголического шрифтов; Вып. 15). *Г. Я. Галенчанка.*



**ОНКАЎ** Багдан (Багдан Онкавіч Грыцэвіч, Онькевіч, Онкавіч;? — пасля 1527), заможны віленскі гараджанін, купец, які фінансаваў выдавецкую дзейнасць С. ў Празе і, магчыма, у Вільні. Яго бацька Онка Грыцэвіч валодаў значнымі зямельнымі надзеламі, гандляваў тканінамі і інш. таварамі, меў корчмы ў Мінску, Смаленску і інш. гарадах, пазычаў грошы вял. князю літ. Аляксандру Ягелончыку. У віленскім магістраце некат. час займаў пасаду бурмістра. У акце ад 12.6.1506 названы «нябожчыкам». Сын Онкі Грыцэвіча і яго жонкі Ульяны Багдан як юрыдычна паўнапраўная асоба быў кампаньёнам бацькі ў сумеснай прадпрымальніцкай дзейнасці яшчэ ў часы Казіміра IV Ягелончыка (1480—90-я г.). Да гэтага часу адносяцца зямельныя набыткі О. і яго бацькі ў баяр Віленскага павета. У канцы 15 ст. ён завязаў гандлёва-прадпрымальніцкія сувязі з рус. купцамі і феадаламі. У 1498 пасольства вял. кн. маскоўскага Івана Васілевіча патрабавала ад Онкавых аплаціць стары кабальны запіс на 100 руб. «новгородцкими денгами», выдадзены кн. Фёдару Іванавічу Бельскаму (у 1482 збег у Маскву пасля няўдалай задумы «отсесть по Березыню реку», у якой разам з ім удзельнічалі кн. Альшанскі і Алелькавіч). Пасля смерці бацькі О. стаў гал. наследнікам. У 1506 было пацверджана права О. на ўладанне землямі і азёрамі, набытымі яго бацькам у Віленскім павеце і цівунстве і ў Няменчынскай воласці. Ён атрымаў «господарский лист» на возера Ілкі і землі Якубішкі, Церашышкі, Пашкішкі, Рокіткі, Трушпалішкі і інш. ў Віленскім цівунстве; у Няменчынскай воласці яму належалі землі Ейчышка, Нямікішка, Гурлішка. Пазней ён рабіў таксама здзелкі з інш. нерухомай уласнасцю. О. неаднаразова займаў адм. пасады ў Вільні — эсэсар на судзе маршалкаў, член гар. рады, бурмістр. Відаць, у 1513—17 С. ўстанавіў сувязі з О. Пра фінансавую падтрымку О. выдавецкай дзейнасці С. сведчаць надпісы на шматлікіх экземплярах ранніх пражскіх выданняў, усяго іх вядома 18. На 6 экз. «Псалтыра» 1517 ёсць надпісы: на 2 «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына радци места виленского» [Гіст. музей у Маскве (ДГМ), Дзярж. Публ. б-ка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ)], на 4: «А накладом Богдановым Онкович з виленского места» [3 экз. ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ) і ДГМ]. Ёсць надпісы на захаваных кн. «Іоў» 1517 (Музей укр. мастацтва ў Львове), на 4 экз. «Прытчаў Саламона» 1517 (2 экз. ў ДБЛ, ДГМ і ДПБ), на 4 экз. кн. «Ісус Сірахаў» 1517 (2 экз. ў ДБЛ, ДГМ, ДПБ), на 1 экз. «Еклесіяста» 1518 (ДГМ) і інш. Не на ўсіх экземплярах кніг, што збераглісяз тытульнымі лістамі і выдадзеныя ў адзін і той жа час, ёсць надпісы. У кн. «Іоў» ёсць запісы на 5 экз. з 8, «Прытчы Саламона» — на 1 з 11, «Ісус Сірахаў» — на 4 з 8 экземпляраў. На пражскіх выданнях 1519 і віленскіх 1520-х г. надпісаў пра О. не выяўлена. Безумоўна, сувязі С. з гандлёва-прадпрымальніцкімі коламі Вільні падрыхтавалі яго переезд у Вял. кн. Літоўскае. Дзелавыя кантакты С. з О. і інш.) былі прадстаўнікамі прывілеяваных не толькі на фінансавую падтрымку, але і на большае пашырэнне надрукаваных кніг у Вял. кн. Літоўскім і за мяжой. З прадпрымальніцкай дзейнасцю О. некат. даследчыкі звязваюць эпізод з канфіскацыяй кніг С. (гл. ў арт. *Масква*). Сапраўды, О. меў даўнія сувязі з некат. прадстаўнікамі рус. арыстакратыі і гандлёва-прадпрымальніцкімі коламі. Каля 1526 у час чарговай паездкі ў Маскву ён быў абрабаваны на дарозе, страціў шэраг тавараў, 150 рублёў і фінансавыя абавязацельствы князёў Васіля Іванавіча Шамячыча і Васіля Сямёнавіча Старадубскага (Мажайскага) на агульную суму 900 коп шырокіх грошаў. Відаць, О. меў фінансавыя абавязацельствы князя Мажайскага да 1518 (памёр у 1518), а князя Шамячыча — да 1523 (даты ад'езду яго ў Расію). У 1527 О. апошні раз упамінаецца сярод членаў віленскага магістрата, у 1536 каралеўскія камісары разглядалі пытанне аб яго спадчыне. У 1530-х г. абодва яго сыны неслі земскую («баярскую») службу, у 1540-х г. магістрат Вільні ўзбудзіў іск супраць старэйшага сына О. Марціна Онкевіча ў сувязі з тым, што ён адмовіўся падпарадкавацца магдэбургскаму праву, хоць дзед і бацька яго «перад тым у Вільні жылі і былі бурмістрамі». Па словах Марціна, у гэтыя гады ён ужо не меў ніводнага дома ў Вільні, не займаўся гандлем, а фальварак, які належаў яму, быў набыты яго бацькам О. у баяр. Жыгімонт I вызваліў Марціна О. ад «служб местских». Віленскія апекуны С. (О., Якуб *Бабіч* і інш.) былі прадстаўнікамі прывілеяваных колаў мяшчанства, уваходзілі ў бурмістраўскае і радзецкае брацтва — своеасаблівую саслоўна-прафесійную арганізацыю віленскага патрыцыяту з царкоўна-рэлігійнымі і грамадскімі функцыямі.

*Літ.:* 6; 69; 92; 309.

*Г. Я. Галенчанка, Я. Л. Неміроўскі.*

**ÓПЦІНА ПУ́СТЫНЯ,** мужчынскі манастыр у Казельскім пав. Калужскай губ. Засн. ў 14 ст. У 1821 пры манастыры засн. скіт. Манастыр і скіт мелі б-кі. У адной з іх быў канвалют пражскіх выданняў С. (кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы»). Пераплёт зроблены ў 1-й пал. 19 ст. (пакрыты замшай з маляўнічым арнаментальным цісненнем). На адвароце верхняй экслібрыс: «Библиотеки Козельск. Введенск. Оптиной пустыни отд. 2, № 28 главной описи». На палях кнігі недатаваныя надпісы на польскай мове. З 1920-х г. зберагаецца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна.



**ПАГО́ДЗІН** Міхаіл Пятровіч (1800—75), рускі гісторык, пісьменнік, журналіст. Акад. Пецярбургскай АН (1841). Збіральнік рукапісаў і друкаваных кніг. У 1833 надрукаваў свой пераклад працы чэш. славіста І. *Добраўскага* «Граматыка мовы славянскай...», у прадмове да якога былі звесткі пра выдавецкую дзейнасць С. У 1835 у час вандравання па слав. краінах набыў фрагмент «Акафісніка» з «Малой падарожнай кніжкі» С., у 1847 купіў за 200 руб. больш поўны экз. «Акафісніка» на Ніжнегародскім кірмашы ў кнігагандляра М. Зубава. З Галіцыі П. прыслалі спіс перакладаў С., нават з тымі, якія да нас у друкаваных выданнях не дайшлі (3 кн. «Ездры», кн. «Нееміі», «Товіт», «Прарокаў», 1-ю кн. «Макавеяў»). Па звестках бібліёграфа М. П. Барсукова, у зборы П. быў і «Псалтыр» 1517 або каля 1522. У 1852 збор П. (538 тамоў старадрукаваных кніг) набыла пецярбургская Публ. б-ка.

*Літ.:* Барсуков Н. П. Жизнь и труды М. П. Погодина. Кн. 1—22. Спб., 1888—1910.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**ПАДО́КШЫН** Сямён Аляксандравіч (н. 1931), беларускі сав. філосаф. Доктар філас. н. (1987). Супрацоўнік Ін-та філасофіі і права АН БССР. Даследуе гісторыю філасофіі і грамадскай думкі народаў СССР, у прыватнасці Беларусі. У працах «Скарына і Будны. Нарыс філасофскіх поглядаў» (1974), «Францыск Скарына» (1981) паказаў асаблівасці філас. працэсу на Беларусі ў эпоху Адраджэння, даследаваў філас., сацыялаг., этычныя і эстэт. погляды бел. мысліцеляў-гуманістаў С. і Сымона Буднага, паказаў сувязь філасофіі Беларусі таго часу з прагрэс. думкай Расіі і Захаду, з культурна-філас. традыцыямі антычнасці. Падкрэсліў асветніцка-гуманіст. характар дзейнасці С., служэнне «людем посполитым рускоro языка». Лічыць, што як мысліцель С. быў падрыхтаваны развіццём культуры рус., укр. і бел. народаў у складзе Стараж.-рус. дзяржавы, у яго творчасці адлюстраваліся класавыя і ідэалаг. супярэчнасці, характэрныя рысы і асаблівасці культуры і філас. думкі таго часу. Разглядае С. як папярэдніка рэфармац. руху ў зах.-рус. (г. зн. бел. і ўкр.) і літ. землях. Задоўга да пачатку рэфармац.-гуманіст. руху ў Вял. кн. Літоўскім С. ў сваіх прадмовах да «Бібліі» імкнуўся абгрунтаваць неабходнасць абнаўлення пануючай рэлігіі, маралі, некат. грамадскіх інстытутаў, у прыватнасці права і судаводства. П. сцвярджае, што С. з'явіўся заснавальнікам рэнесансава-гуманіст. кірунку ў айч. філасофскай і грамадска-паліт. думцы, нац. традыцыі ў гісторыі бел. культуры; ва ўмовах феадальна-каталіцкай рэакцыі і конррэфармацыі ідэі С. жыватворна ўплывалі на нац.-вызв. рух бел. і ўкр. народаў 2-й пал. 16—17 ст., на барацьбу грамадскіх дзеячаў і мысліцеляў за захаванне нац. культуры і роднай мовы. У той жа час, указвае П., ідэйная спадчына С. паслужыла адной з тэарэт. крыніц канцэпцыі зближэння ўсх.-слав. культуры са свецкай культурай Захаду. Даследчык разглядае праблему светапогляду С. і накіраванасці яго дзейнасці як частку праблемы станаўлення і развіцця бел. народа, фарміравання яго культуры, класавай і нац. самасвядомасці. У арт. «Францыск Скарына і развіццё этычнай думкі ў Беларусі XVI — XVII стст.» (у кн.: Беларускі асветнік Францыск Скарына і пачатак кнігадрукавання на Беларусі і ў Літве. М., 1979) паказаў, што С., як заснавальнік бел. нац.-культурнай традыцыі, стаяў таксама ля вытокаў айч. філас.-этычнай думкі, яго маральная канцэпцыя пабудавана ў асн. на базе сінтэзу біблейска-хрысц. і арыстоцелеўскай этыкі. Аднак, падкрэслівае П., гэта не просты сінтэз: біблейска-хрысц. і арыстоцелеўская этыка мадэрнізуецца С. у адпаведнасці з патрабаваннямі і ідэямі эпохі Адраджэння, актуальнымі нац.-культурнымі і сац.-паліт. задачамі ўсх.-слав. народаў. Тэндэнцыя натуралізацыі і секулярызацыі этыкі, якая акрэслілася ў поглядах С., адзначае П., больш паслядоўна выявілася ў вучэнні Буднага, атрымала сваё лагічнае завяршэнне ў канцэпцыі безрэліг. маралі бел. матэрыялістаў і атэістаў С. Р. Лована, К. Бекеша, К. Лышчынскага. Удзельнік *Скарынінскіх чытанняў.*

*Тв.:* 233; Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (Вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970.

*З. П. Кузьмічэнка.*

Герб **Падуі.** 16 ст. Рэканструкцыя.



**ПАДУА́НСКІ УНІВЕРСІТЭ́Т,** адна са старэйшых навучальных устаноў Еўропы.

Заснаваны ў 1222 у *Падуі.* Меў традыц. структуру сярэдневяковага ун-та: падрыхтоўчы ф-т (мастацтваў) і 3 вышэйшыя ф-ты — права, медыцыны, багаслоўя. На ф-це мастацтваў выкладалі т. зв. *«сем вольных мастацтваў».* Працэс навучання складаўся з лекцый і дыспутаў, навучанне вялося на лац. мове. Па заканчэнні падрыхтоўчага ф-та прысвойвалася ступень магістра мастацтваў, а вышэйшых ф-таў — ступень доктара навук адпаведнага профілю. Курс медыцыны ў П. у. вывучалі 3 гады, пасля чаго трэба было прайсці мед. практыку. З пач. 14 ст. ў П. у. пачалі сцвярджацца ідэі *арыстацелізму* ў іх авераісцкай інтэрпрэтацыі. Важны

уклад у пашырэнне духу вальнадумства ўнёс праф. медыцыны і філасофіі П. у. П'етра д'Абана. У трактаце «Прымірыцель рознагалоссяў філасофаў і ўрачоў» ён адмаўляў стварэнне свету «з нічога», падкрэсліваў значэнне прыродазнаўчых ведаў. У 14 ст. ў П. у. сфарміравалася вядомая ў філасофіі падуанская школа, якая існавала да канца 16 ст. Яе прадстаўнікі (А. д'Арэца, П. Венета, Гаэтана да Цьене, Н. Вернія, П. Трапаліна, П. *Пампанацы*) развівалі матэрыяліст. па сваёй тэндэнцыі палажэнні пра няствоpанасць чалавечага роду, вечнасць свету, прыродны дэтэрмінізм, стаялі на пазіцыях вучэння пра *дваістую ісціну*, што разбурала абсалютны аўтарытэт дагматычнай традыцыі царквы.

У часы С. ун-т ператварыўся ў еўрап. цэнтр *авераізму*, славіўся сваёй школай вучоных-гуманістаў і мед. ф-там. Тут выкладалі вядомыя мысліцелі і вучоныя Пампанацы, Дж. *Фракастора*, М. А. дэла Торэ. Сярод падуанскіх медыкаў шырока былі вядомы анатам Г. Зербі, праф. практ. медыцыны Дж. дэ Аквіла, аўтары вядомых у той час трактатаў па медыцыне і гігіене Б. Мантаньяна Малодшы і А. Гацы. Навучанне вялося ў традыцыях мед. падрыхтоўкі таго часу. Звычайна з кафедры зачытваліся і каменціраваліся класічныя трактаты па ўрачэбнаму мастацтву. Спачатку вывучалася «тэарэтычная медыцына»: першыя кнігі «Канона медыцыны» Авіцэны *(Ібн Сіны)*, «Афарызмы» Гіпакрата з каментарыямі Галена, «Малое мастацтва» Галена, тэлеалагічны пункт погляду якога падыходзіў да царк. вучэння пра чалавека і яго становішча ў свеце. Пасля гэтага па «Канону медыцыны» вывучаліся хваробы розных яго органаў. За тэарэт. курсам ішло вывучэнне «практычнай медыцыны». Гэты раздзел навучання вёўся на ўзроўні найноўшых дасягненняў мед. навукі, што забяспечвала высокі аўтарытэт дыплома мед. ф-та П. у. ва ўсёй Еўропе. Менавіта гэту навучальную ўстанову выбраў С. для атрымання ступені доктара медыцыны і «паказаў сябе так пахвальна і выдатна ў час гэтага строгага выпрабавання..., што атрымаў аднадушнае адабрэнне ўсіх прысутных вучоных без выключэння». 9 ліст. 1512 у біскупскім палацы ў прысутнасці вядомых вучоных П. у. і высокіх службовых асоб каталіцкай царквы С. быў абвешчаны «доктарам у галіне медыцынскіх навук» і яму былі ўручаны адпаведныя знакі годнасці (гл. *Дакументы пра Ф. Скарыну*, № 4—7).

*Літ.:* 164; Суворов Н. Средневековые университеты. М., 1898. *Г. У. Грушавы.*

**ПА́ДУЯ** (Padova), горад у Італіі, адм. цэнтр правінцыі Падуя на р. Бакільёне, на З ад Венецыі. Тут С. ў 1512 атрымаў вучоную ступень доктара медыцыны.

П.— адзін са старажытнейшых гарадоў Паўн. Італіі. Час заснавання невядомы. Першыя звесткі пра П. адносяцца да 4 ст. да н. э. (паводле Ціта Лівія). У 49 да н. э. атрымала правы рымскага муніцыпія. У перыяд Рымскай імперыі (1 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.) — буйны рамесны цэнтр. Пасля падзення імперыі пад уладай готаў і ў час гоцка-візант. вайны разбурана па загаду караля готаў Тотылы. Адноўлена візант. палкаводцам Нарсесам. У 601 зноў разбурана лангабардамі, але хутка адноўлена. У канцы 8 ст. пасля заваявання Паўн. Італіі франкамі П.— сталіца графства, у пачатку 11 ст. ў складзе маркграфства Вероны. У 1087 атрымала гарадскі прывілей. У 10—12 ст. буйны рамесна-гандл. цэнтр, развіваліся суконнае і шаўкаткацкае рамёствы. З пачатку 12 ст. самакіроўная гар. камуна, адна з найб. значных у Паўн. Італіі. У 13—14 ст. важны цэнтр рамёстваў і гандлю, праводзіліся кірмашы агульнаітал. значэння. У гэты перыяд П. далучыла да сваіх уладанняў Вічэнцу і інш. гарады. У 1405 Венецыя захапіла П. і далучыла яе да Венецыянскай рэспублікі, у складзе якой П. была да 1797.



Будынак **Падуанскага універсітэта.**



Адзенне рэктара (справа) і доктара медыцыны або права **Падуанскага універсітэта** ў 16 ст. Малюнак М. Купавы.

У 1222 заснаваны *Падуанскі універсітэт*. У канцы 15 ст. большая ч. вучэбных аўдыторый Падуанскага ун-та была размешчана ў будынку старога заезнага дома — «Астэрыя дэль Бо». Гэту назву жыхары горада перанеслі на велічны універсітэцкі комплекс, які быў створаны пазней. З 15 ст. П.— буйны культ. цэнтр. Горад быў абнесены сценамі з брамамі, у ім знаходзілася шмат пабудоў эпохі сярэднявечча, помнікаў культуры. У цэнтры горада была пл. дэль Эрбе. На ёй баптыстэрый 12 ст. з фрэскамі школы Джота, трохнефавая царква Сант-Антоніо («Іль Санта», 1231—1307) з коннай статуяй кандацьера Гатамелаты перад ёй (работа Данатэла, 1453), ратуша (13 ст., пазней перабудавана) і Палац дэла Раджоне («Іль Салоне», 1215—1306) з вял. залай (даўж. 87, шыр. 27, выш. 24 м). У гэтай зале С. бачыў астранам. фрэскі 15 ст. са знакамі Задыяка, што, несумненна, навяло яго на думку змясціць астранам. знакі ў сваіх кнігах. Сярод інш. помнікаў архітэктуры: Капэла Скравены (Мадоны дэль Арэна, 1303) з фрэскамі Джота; царква Сант-Агасціна дэль і Эрэмітані (13 ст.) з фрэскамі А. Мантэны (1448); араторыя (Скуола дэль Санта, 1460), дзе ў 1511 3 фрэскі — сцэны з жыцця святога Антонія Падуанскага — выканаў Тыцыян, а 13 фрэсак на тэмы легенды пра гэтага святога — вучні Тыцыяна; араторыя царквы дэль Карлінэ (на пл. дэль Карлінэ) з фрэскамі Тыцыяна. Калі С. знаходзіўся ў П., будавалася Лоджыа дэль Кансілью (1493—1526) у стылі ранняга рэнесансу.

*А. П. Грыцкевіч.*



**Падуя.** Гравюра пачатку 16 ст.

**ПАЖЫ́ТАК ПАСПАЛІ́ТЫ,** паспалітае добрае, катэгорыя грамадскага дабра, якая шырока ўжывалася ў філас., сацыялаг. і паліт. л-ры эпохі Адраджэння і Новага часу.

Запазычана з твораў Цыцэрона, Арыстоцеля. Ідэя грамадскага дабра мела абстрактны характар і дазваляла розную класавую інтэрпрэтацыю ў залежнасці ад таго, што ўкладвалася ў яе змест. Арыстоцель пад грамадскім дабром разумеў абарону інтарэсаў класа рабаўладальнікаў. У 15—16 ст. катэгорыя грамадскага дабра адыграла важную метадалагічную ролю ў пераарыентацыі перадавой сацыялаг. і паліт. думкі на гомацэнтрычны і гуманіст. светапогляд. Многія прагрэс. мысліцелі Еўропы таго часу праз рэалізацыю грамадскага дабра выводзілі абавязак грамадства, дзяржавы, права клапаціцца аб інтарэсах усіх сваіх грамадзян, незалежна ад іх саслоўнага становішча. Яны лічылі, што грамадскае дабро павінна стаць мэтай і сутнасцю дзейнасці сац. і паліт. інстытутаў, а таксама чалавека, і бачылі ў гэтым шлях пераўтварэння грамадства на новых справядлівых асновах. Гэта быў яшчэ не навуковы, наіўны падыход, але ў канкрэтных умовах ён характарызаваўся як працэс вызвалення і абасаблення грамадскіх навук ад тэалогіі, якая сцвярджала вышэйшую каштоўнасць толькі божых і царк. мэт (тэацэнтрызм).

Тэрмін «паспалітае добрае» С. выкарыстаў у другой прадмове да кн. «Ісус Сірахаў», каб паказаць, што ён узяўся за нялёгкую справу перакладу на «рускый язык» і друкавання кніг у імя грамадскага дабра, «розмноженія мудрости», «розуму и науки». Гэты ж тэрмін ён ужываў, каб падкрэсліць, што «паспалітае добрае» атрымлівае развіццё толькі ў тых сац. і паліт. супольнасцях, дзе ёсць згода сярод грамадзян (гл. с. 9, 10), а калі яе няма, то такія супольнасці нетрывалыя, «незгода бо и найболшие царства разрушаеть» (гл. с. 195). Гэта значыць, нязгода ў грамадстве аб'яўляецца адмаўленнем грамадскага дабра. Прыкладам таму была тагачасная рэчаіснасць. Высокай мэце грамадскага дабра, на думку С., павінны служыць і законы, якія «не к пожитку единого человека, но к посполитому доброму написаныи» (гл. с. 138). *С. Ф. Сокал.*

**ПАКАЗА́ЛЬНІКІ ЛІТАРАТУ́РЫ** пра жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны. Каля вытокаў бібліяграфіі бел. кнігадрукавання — улік і апісанне выданняў С. Вял. дасягненні ў гэтай галіне звязаны з імёнамі рус. бібліёграфаў В. С. *Сопікава,* П. І. *Кепена,* П. М. *Строева,* І. П. *Сахарава,* В. М. *Ундольскага,* І. П. *Каратаева.* Першыя П. л. пра С.— параўнальна невял. па памерах спісы, што завяршалі апісанне яго выданняў у «Храналагічным роспісе славяна-рускай бібліяграфіі» Сахарава (1849) і ў «Апісанні славяна-рускіх кніг, надрукаваных кірылаўскімі літарамі» Каратаева (1878, 2 выд. 1883). Грунтоўнаму крытычнаму агляду л-ры папярэднічала манаграфія П. У. Уладзімірава «Доктар Францыск Скарына. Яго пераклады, друкаваныя выданні і мова» (1888). У 1904 у «Рускім біяграфічным слоўніку» надрукаваны арт. А. Купалава пра С. са спісам л-ры (каля 80 пазіцый). Бібліяграф. апарат суправаджае гістарыяграф. даследаванні пра С. Першае такое даследаванне — «Scoriniana (1776—1926)» У. І. *Пічэты* (у кн.: Чатырохсотлецце беларускага друку. 1525—1925, 1926). У ім 155 падрадковых бібліяграф. апісанняў. Распрацаваны бібліяграф. пералік прыведзены ў манаграфіі А. В. *Флароўскага* «Чэшская біблія ў гісторыі рускай культуры і пісьменнасці» (1940—46). Бібліяграфія пра С. тут даведзена прыкладна да 200 пазіцый. Флароўскі напісаў новую «Scoriniana» (у кн.: 450 год беларускага кнігадрукавання, 1968), якая прадоўжыла працу Пічэты і давяла гістарыяграфію пытання да 1965. У артыкуле каля 75 бібліяграф. спасылак. Польскі бібліяграф. слоўнік «Першадрукары старажытнай Польшчы ад XV да XVIII ст.» (т. 5, 1959) змяшчае спіс л-ры ў артыкуле пра С.

П. л. пра жыццё і дзейнасць С. ёсць і ў бібліяграф. працах агульнага характару, напр., у «Слоўнікавым паказальніку па кнігазнаўству» А. Мезьера (1924), у біябібліяграф. слоўніку «Украінскія пісьменнікі» Л. Е. Махнаўца (1960, т. 1), у працы М. А. Васілеўскай «Беларусь у друку...» (1983—85). «Бібліяграфія Скарыніяны» В. Тумаша, апубл. ў 1970 у Мюнхене, пад прыкрыццём рэтраспектыўнасці і паўнаты (1176 бібліяграф. апісанняў) служыць нацыяналіст. выдумкам у галіне вывучэння жыцця і дзейнасці С. Удз. вага публікацый у сав. друку ў гэтым паказальніку штучна прыменшана. Адначасова апісаны невял. нататкі ў эмігранцкім друку і газетах, што выдаваліся на акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Беларусі. П. л., складзены Тумашам, не можа задаволіць і з фармальнага пункту погляду — у ім шмат памылак, бібліяграф. апісанні не адпавядаюць сучасным патрабаванням (не ўказаны, напр., агульны аб'ём кніг і артыкулаў). У 1975 Кніжная палата Літоўскай ССР выпусціла паказальнік Д. Ю. Гінейцене «Францыск Скарына і Літва» (на літ. мове), у якім апісана 208 кніг і артыкулаў, ёсць імянны паказальнік. Найб. поўным сярод выпушчаных П. л. пра жыццё і дзейнасць С. з'яўляецца «Пачатак кнігадрукавання на Беларусі і ў Літве. Жыццё і дзейнасць Францыска Скарыны» (1978), складзены Я. Л. Неміроўскім. Паказальніку папярэднічае апісанне выданняў С., у якім пазначаны ўсе экземпляры гэтых выданняў, што захаваліся. Бібліяграф. апісанні ў асн. часткі паказальніка размешчаны ў храналаг. парадку. Усяго ўлічана 1429 назваў (без рэцэнзій, апісанні якіх размешчаны пад нумарам рэцэнзуемага выдання). Праца мае імянны і сістэматычны паказальнікі. Анатаваны паказальнік твораў л-ры і мастацтва «Францыску Скарыне прысвечаныя» складзены В. Н. Дышыневіч і выпушчаны Дзярж. б-кай БССР імя У. І. Леніна ў 1982. Гэта праца мае паказальнік аўтараў кніг, артыкулаў і выказванняў пра С., імянны паказальнік мастакоў, рэжысёраў, акцёраў, пісьменнікаў, фатографаў, рэдактараў. У 1986 выдавецтвам «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выдадзена *«Кніга Беларусі»* 1517—1917, у якой Г. Я. *Галенчанка* падрабязна апісаў усе скарынінскія выданні.

*Літ.:* 96; 114.

**«ПАКУ́ТЫ ХРЫСТА́»,** «Страсці Хрыстовы», помнік бел. перакладной л-ры 15 ст., легендарна-апакрыфічная аповесць пра лёс Ісуса Хрыста.

Змешчана ў рукапісным зборніку канца 15 ст. разам з «Аповесцю пра трох каралёў» і *«Жыціем святога Аляксея».* Перакладзена з лац. або польск. мовы, відаць, каталікам. Пераклад літаратурна дасканалы, зроблены свецкім стылем бел. літаратурнай мовы таго часу, шырока адлюстроўвае рысы жывой бел. гаворкі. У цэнтры твора — яркае, драматычна напружанае апісанне апошніх дзён жыцця, пакутніцкай смерці і ўваскрэсення Ісуса Хрыста, які быў па-здрадніцку выданы за 30 сярэбранікаў яго вучнем Іудам мясц. рымскім уладам у Іерусаліме і па патрабаванню натоўпу распяты на крыжы як ерэтык і дзярж. злачынец. Яго смерць пададзена ў аповесці з пункту гледжання царк.-рэліг. і ідэйна-маст. канцэпцый хрысціянства як своеасаблівая «аптымістычная трагедыя», як гераічны подзвіг і высакародная ахвяра героя ў імя лепшай будучыні ўсіх людзей, дзеля іх збавення. Сюжэт твора ў асн. паўтарае змест кананічнага *Евангелля,* аднак у аповесці больш свабодна і дэталёва распрацаваны асобныя эпізоды і вобразы, больш шырока і маляўніча апісана гісторыя смерці Хрыста, пераважна паводле апакрыфічнага Евангелля ад Мікодыма, якое паслужыла гал. літаратурнай крыніцай твора. У «П. Х.» створаны таксама кранальны вобраз багародзіцы — маці Ісуса Хрыста. Яе глыбокія, поўныя чалавечага болю душэўныя перажыванні за сына раскрыты ў па-мастацку праўдзівых маналогах-плачах. Рукапіс бел. перакладу аповесці зберагаецца ў Ленінградзе ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына.

У сваіх прадмовах С. часта ўпамінае Хрыста, гал. героя гэтай аповесці і евангельскіх паданняў, неаднойчы гаворыць пра яго «невинную муку», «о страдании, о вмучении и о воскресении его из мёртвых». Несумненна, С. дасканала ведаў гісторыю яго жыцця і пакутніцкай смерці не толькі паводле Евангелля, але і ў больш свабодным некананічным выкладзе. С., напэўна, чытаў і аповесць «П. Х.», якая была асабліва папулярнай у краінах Зах. Еўропы, дзе вобразы багародзіцы-мадонны і Хрыста-пакутніка былі вельмі шырока і ярка распрацаваны ў л-ры і мастацтве. Трагічны лёс «сына божага», яго высакародная, гуманіст. самаахвярнасць мелі для С., які верыў у гіст. сапраўднасць біблейскіх падзей і герояў, свяшчэнны і рэальна чалавечы, зямны сэнс. Яны выклікалі ў С. глыбокі роздум і эмац. суперажыванне. Ён успрымаў гэты вобраз як узор найвышэйшай духоўнай дасканаласці, як маральна-этычны ідэал чалавека. *В. А. Чамярыцкі.*

**ПАЛЕАТЫ́ПЫ** (грэч. palaiós старажытны + týpos адбітак, форма, узор), умоўная назва друкаваных еўрап. выданняў 1-й пал. 16 ст. Сярод П.— выданні А. *Мануцыя,* Эцьенаў, братоў Трэксель, Э. Дале і інш. Па свайму зместу і афармленню вельмі разнастайныя. Служаць прадметам спецыяльнага збірання і каталагізацыі. Вядома каля 70 слав. П., надрукаваных *кірыліцай,* у т. л. кнігі С. Для вядзення ўсесаюзнага ўліку П. ствараюцца каталогі асобных збораў («Каталог палеатыпаў б. Румянцаўскай

публічнай, цяпер Ленінскай Маскоўскай б-кі», 1927—29 М. Кісялёва, «Каталог палеатыпаў. Са збору навуковай бібліятэкі імя М. Горкага Ленінградскага універсітэта», 1977). На Беларусі ў 16—19 ст. П. зберагліся ў многіх царк. і манастырскіх б-ках, у б-ках навучальных устаноў Віцебска, Гродна, Мінска і Магілёва, у буйных прыватных зборах. У БССР значныя калекцыі П. ёсць у Дзярж. б-цы БССР імя У. І. Леніна і Цэнтр. навук. б-цы імя Я. Коласа АН БССР.

*Літ.:* 664.

**ПАЛІГРАФІ́ЧНАЯ АРГАНІЗА́ЦЫЯ ТЭ́КСТУ ВЫДА́ННЯЎ Ф. СКАРЫ́НЫ,** сукупнасць прыёмаў набору і вёрсткі, што С. выкарыстоўваў для найлепшага выяўлення функцыянальнага прызначэння сваіх выданняў. Выданні С., за выключэннем канонаў, якія выдаваліся разам з адпаведнымі акафістамі, мелі *тытульныя лісты.* У пражскіх выданнях тытульны ліст афармляўся звычайна па адной схеме. Амаль 2/3 яго займала змешчаная ў верхняй частцы гравюра, што ілюстравала кульмінацыйны момант апавядання кнігі. Над гравюрай у адзін радок пісалася яе назва, набраная радковым шрыфтам. Пад гравюрай разгорнутая назва кнігі займала 6 (у некат. выпадках 5) радкоў, набіралася вял. літарамі. Першая літара назвы кнігі — гравіраваны на дрэве *ініцыял,* завярстаны ў аборку, займаў па вышыні 3—4 радкі тэксту. У разгорнутую назву кнігі ўваходзіў яе загаловак («Книги Иудифь вдовици починаються»), звесткі пра перакладчыка, выдаўца («Зуполъне выложены на руский язык Доктором Франъциском Скориною из славного града Полоцька»), тлумачэнне мэты выдання («наперад богу ко чти и людем посполитым к научению»). Калі загаловак быў кароткі, С., каб захаваць агульны аб'ём тэксту (6 радкоў), прыводзіў дадатковыя звесткі («Книги Судей, еже от евреи называются Шофътим»). Па схеме тытульных лістоў афармляліся і шмуцтытулы, якія ёсць у кн. «Царствы» і «Эсфір». Колькасць радкоў у назве кнігі, раздзела, змешчаных пад гравюрай, у шмуцтытулах скарочана на 4. Тытульныя лісты і шмуцтытулы пражскіх выданняў друкаваліся пераважна чорнай фарбай (загаловак на тытульным лісце і тэкст у кн. «Песня песням» — чырвоны). Назва кнігі змешчана ў арнаментальную гравіраваную рамку. Па аналагічнай схеме аформлены тытульныя лісты большасці віленскіх выданняў. У гэтых выданнях тэкст на тытульным лісце надрукаваны чырвонай фарбай і змешчаны ў гравіраваную рамку. Пры гэтым тэкст, у параўнанні з пражскімі выданнямі, скарочаны: адсутнічае тлумачэнне мэты выдання і, у большасці выпадкаў, звесткі пра перакладчыка. Калі такія звесткі прыводзіліся («Апостал», 1525), з рамкі здымаліся вертыкальныя сценкі, каб павялічыць набор радка. Схема тытульных лістоў акафістаў спрошчана: гравіраваная рамка захавалася толькі на агульным лісце Акафісніка. На тытульным лісце асобных акафістаў друкаваўся толькі тэкст у выглядзе фігурнага набору (перакулены трохвугольнік), часам дапаўняўся віньеткай. У двух выпадках на тытульным лісце акафістаў змешчаны гравюры. Гл. таксама арт. *«Акафісты і каноны».*

С. карыстаўся *фаліяцыяй* і сістэмай калонтытулаў. Фаліяцыя ў пражскіх выданнях змяшчалася на верхнім баку аркуша ўверсе справа або злева (у «Псалтыры» 1517 — унізе справа), у віленскіх выданнях — уверсе справа (у акафістах — унізе справа). Калонтытулы ўяўлялі сабою назву кнігі, надрукаваную вял. літарамі на верхнім полі паласы па цэнтру. Частка калонтытула змяшчалася на левым баку развароту («Книги третий»), а частка на правым баку («Царстваў»). У «Апостале» 1523 у калонтытулы вынесены назвы раздзелаў кнігі («Деания апостальскія», «Послание коринфомъ», «Послание к Титу»). У «Псалтыры» каля 1522 у калонтытулы вынесены парадкавыя нумары кафізмаў («Кафисма вторая», «Кафисма третя»). У «Часаслоўцы» ў калонтытулы вынесены назва службаў («Полунощьница повседневная», «Утреня», «Обедница», «Час девяты»). У акафістах у калонтытулы вынесены ўмоўныя назвы, якія пачынаюцца са слова «радости» («Радости архиангелом», «Радости апостолом», «Радости святому Николе»). У канонаў у якасці калонтытула выкарыстоўваліся іх назвы («Канон архангелом», «Канон святому Николе»). У пражскіх выданнях С. за тытульным лістом (звычайна на адвароце тытульнага) друкаваў прадмову. У кн. «Быццё» спачатку змешчана прадмова «во всю Бивлию», потым прадмова да выдання («сказание»). Назва прадмовы друкавалася вял. літарамі. У якасці першых літар назвы прадмовы і пачатку тэксту змяшчаліся гравіраваныя на дрэве ініцыялы. У канцы прадмовы да ўсёй «Бібліі» па цэнтру аркуша С. піша: «Конець предсловию всея Бивлии», а ў канцы прадмовы да кн. «Быццё» — «Конець Сказанию в первые Книги Мойсеевы». Асобныя раздзелы кніг (акрамя прадмоў і пасляслоўяў) С. пачынае з асобнага аркуша. Асн. тэкст біблейскіх кніг у пражскіх выданнях С. вылучае вял. гравіраванымі на дрэве застаўкамі, пад якімі вял. літарамі набраны тэкст (займае звычайна 4 радкі) аб змесце кнігі і колькасці ў ёй раздзелаў («Починаеться Книга пророка божия Даниила еже у юдей написана есть хольдейским языком а еврейскими словами. А замыкаеть в собе глав 14»). Гэты тэкст пачынаецца малым ініцыялам, далей ідзе парадкавы нумар раздзела. Слова «глава» надрукавана вял. літарамі, а парадкавы нумар раздзела — кірылаўскімі радковымі літарамі па цэнтру. Далей на 3—6 радках тэксту змешчана анатацыя зместу раздзела, якая пачынаецца малым ініцыялам. У некат. выпадках (кн. «Іоў») тэкст анатацыі набраны не на поўны фармат радка, а з водступам. Пасля анатацый С., як правіла, рабіў пропуск на 1 радок і вял. гравіраванымі на дрэве ініцыяламі пачынаў тэкст раздзела. Пасля ініцыялаў другая літара тэксту набіралася вялікай, што забяспечвала плаўны пераход ад ініцыяла да радковых літар, паляпшала эстэт. выгляд кнігі. Для ўпрыгожання кнігі С. на апошніх палосах яе рабіў фігурны набор (кн. «Быццё» завяршаецца наборам у выглядзе перакуленага трохвугольніка, які знізу пераходзіць у складзены з 7 радкоў ромб). Калі фраза, што папярэднічала абзацу, заканчвалася пасярэдзіне радка, прабел у 7—8 літар пасля вял. кропкі С. прымаў за пачатак абзаца. Вял. літары ў тэксце С. ўжываў непаслядоўна. Вял. набіраліся першыя літары пасля вял. круглых кропак, першыя літары ўласных імён, першыя літары слоў, значэнне якіх С. хацеў падкрэсліць («Благославен», «Царь», «Царево»), злучнік «И» пасля коскі і інш. Уласныя імёны С. не заўсёды набіраў з вял. літары («в хевропе», «в ерусалиме» — кн. «Царствы», с. 74).

У віленскіх выданнях рубрыкацыя кніг ажыццяўлялася гал. чынам арнаментальнымі сродкамі. У «Псалтыры» (каля 1522) кожны кафізм пачаты вял. *застаўкай,* пад якой вял. літарамі набрана яго назва і парадкавы нумар. Потым змешчаны тэкст анатацыі і парадкавы нумар псалма. Тэкст псалма пачынаецца ініцыялам. Унутры кафізма асобныя псалмы аддзелены адзін ад аднаго малымі віньеткамі, калі канец іх пападаў на сярэдзіну паласы. У «Часаслоўцы» (каля 1522) С. шырока выкарыстаў *двухфарбавы друк.* Чорнай фарбай надрукавана тое, што ў час службы чыталася, чырвонай — указанні, тлумачэнні і назвы асобных раздзелаў. Тэксты кожнай службы пачыналіся застаўкай, надрукаванай чорнай фарбай. Пад застаўкай умоўная назва службы надрукавана чырвонай фарбай («Начало утреници такаво»). Усе самастойныя раздзелы службы пачынаюцца чырвонымі ініцыяламі. Чырвоным колерам надрукаваны ўказанні пра чытанні («Таж начни шесть Псалмов покаялных», «И ныне Богородичин»). Самастойныя раздзелы ўнутры службаў падкрэсліваліся малымі застаўкамі. Часткі службаў, якія мелі важнае значэнне, апрача чырвонага загалоўка, вылучаліся вял. чырвонымі ініцыяламі. Акафісты надрукаваны чорнай фарбай, у канонах чырвонай фарбай надрукавана большасць заставак і ініцыялаў, назвы раздзелаў у «Песнях» («Стих первый», «Стих вторый», «Слава отцу» і «И ныне Богороди»). У «Апостале» (1525) загалоўкі на тытульных лістах і асобных пасланнях надрукаваны вял. літарамі. Пачатак кожнага паслання акцэнтаваны віньеткамі і вял. буквіцай. Кожны новы раздзел пачынаецца віньеткай, потым змешчана анатацыя. Парадкавыя нумары раздзелаў і вял. абзацаў размешчаны па цэнтру. Тэкст раздзелаў пачынаецца гравіраванымі ініцыяламі. Ініцыяламі меншага памеру вылучаліся вял. абзацы ўнутры раздзелаў. Парадкавы нумар вял. абзаца ў гэтым выпадку папярэднічае буквіцы і набраны ў падбор да апошняга радка папярэдняга вял. абзаца.

Паліграф. арганізацыя тэкстаў сведчыць аб тым, што С., яго друкары і майстры ўмела карысталіся прыёмамі набору і вёрсткі, а таксама двухфарбавым друкам для рубрыкацыі выданняў,

акцэнтавання ўвагі чытача на пэўных тэкстах, павышэнне эстэт. ўзроўню выданняў. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ПАЛІГРАФІ́ЧНАЯ ТЭ́ХНІКА ВЫДА́ННЯЎ Ф. СКАРЫ́НЫ**, комплекс вытворчых працэсаў, якія выкарыстоўваў С. для друкавання выданняў. Уключаў наборны працэс, выраб ілюстрацыйных друкарскіх форм, друкаванне, брашуровачна-пераплётны працэс. С. карыстаўся ручным *друкарскім станком*. Літары для набору адліваліся разам з надрадковымі знакамі, выкарыстоўвалася вял. колькасць лагатыпаў — трох знакаў, адлітых на агульнай ножцы, пры гэтым адзін знак выносіўся над радком. Асабліва часта лагатыпы сустракаліся з вынаснымі «М» і «Н» у складах «вам», «вем», «дом», «зем», «ром», «том», «сам» і інш., а таксама з вынаснымі «Г», «Д», «С» у складах «ред», «рад», «рдц», «бог» і інш. Выкарыстоўваўся асобны лагатып «ест», у якім усе 3 знакі размяшчаліся адзін над адным (у 3 паверхі). Лагатыпамі адліваліся і кірылічныя лічбы ў выглядзе 2 літарных знакаў і вынесенай над імі доўгай цітлай (надрадковы знак). Лагатыпамі карысталіся незалежна ад арфаграф. норм: адно і тое ж слова магло набірацца з лагатыпамі і без іх — звычайнымі літарамі. Выкарыстанне лагатыпаў павышала ёмістасць радка і аблягчала іх замену. Ёмістасць радка павялічвалася і ў выніку выкарыстання надрадковых літар. Над радком С. выносіў літары «С», «Т», «Х», «М». Пры гэтым да літары «С» зверху ставілася цітла. Радковыя і надрадковыя літары ўтваралі пары: «ст», «их», «ет», «ом», «ых» і інш., якія выкарыстоўваліся пры скарачэнні слоў (напр., «С» з надрадковым «Ц» у слове «м[е]с[я]ца», «с» з надрадковым «Т» — у слове «Хр[и]ста»). Вял. колькасць літар адліта са знакамі націску і прыдыхання, сярод якіх С. выкарыстоўваў «исо», «оксию», «варию», «псилию» і інш. (гл. *Дыякрытычныя знакі*). Пры наборы С. карыстаўся прабельнымі элементамі (шпацыі, квадраты, бабашкі і інш.). Гэта дазваляла яму шырока вар'іраваць прыёмамі набору. Абзацы ў тэксце вылучаліся прабеламі ў 7—8 літар. Пры выключэнні радкоў выкарыстоўваліся шпацыі рознай шырыні, якія ўстаўляліся паміж слоў. У радку прабел рабіўся аднолькавай шырыні. У дэкар. мэтах С. выкарыстоўваў тэхніку фігурнага набору на канцавых палосах (набору прыдавалася канфігурацыя перакуленага трохвугольніка, усечанага трохвугольніка, ромба і інш.). Пры фігурным наборы С. выключаў радкі дакладна па цэнтру. Выключаліся радкі па цэнтру і пры наборы слова «глава» з парадкавым нумарам. З вял. майстэрствам ажыццяўляўся набор і вёрстка зўваг і адсылак на палях кнігі. Тэхніка набору пражскіх і віленскіх выданняў аднолькавая. Гэта сведчыць аб тым, што набор рабіў адзін майстар, магчыма, сам С.

Формы для ілюстрацый і арнаментальнай аздобы — заставак і буквіц — С. вырабляў у тэхніцы ксілаграфіі — гравюры на дрэве. Гравіраванне ажыццяўлялася на падоўжна распілаваных дошках грушавага або арэхавага дрэва. Дошкі вярсталіся разам з наборнай тэкставай формай. Пры гравіраванні карысталіся нажамі і штыхеламі.

Пражскія выданні С. надрукаваны ў 4-ю, віленскія — у 8-ю долю аркуша. Для спуску палос у пражскіх выданнях С. змяшчаў у раму адначасова 4 паласы. У кнізе, складзенай з 8-аркушных сшыткаў, паслядоўна спускаліся наступныя камплекты палос: 1-я, 2-я (адваротная); 7-я, 8-я адв.; 1-я адв., 2-я; 7-я адв., 8-я; 3-я, 4-я адв.; 5-я, 6-я адв.; 3-я адв., 4-я; 5-я адв., 6-я. У Празе С. выкарыстоўваў таксама 6-, 10-, 12- і 18-аркушныя сшыткі, у іх ужываліся інш. схемы спуску. У віленскіх выданнях С. змяшчаў у раму адначасова 8 палос. Для друкавання рама з формамі змяшчалася ў драўляную скрынку, якая была ўстаноўлена на высокай дошцы стана. З дапамогай мац (падушачка, напханая конскім воласам і абцягнутая скурай) на форму наносілі фарбу. Потым аркуш паперы наколвалі на іголкі-граф'і «тымпана» — раму, абцягнутую скурай або пергаментам. Зверху на «тымпан» клалі рамку-«фрашкет», якая засцерагала чыстыя палі аркуша ад пападання на іх фарбы. «Фрашкет» разам з «тымпанам» з аркушам паперы апускалі на форму і па рэйках прасоўвалі пад націскны прэс, які шчыльна прыціскаў аркуш да накатанай фарбай формы. Потым падымалі прэс, адкідвалі «тымпан» і «фрашкет», здымалі з іголак аркуш з адбіткам. Паперу перад друкаваннем злёгку ўвільгатнялі, каб лепш бралася фарба.

Для *двухфарбавага друку* С. выкарыстоўваў тэхналогію, якой карысталіся слав. першадрукары. Двухфарбавы друк у Празе С. выкарыстоўваў толькі пры выданні кн. «Песня песням» і пры друкаванні тытульнага ліста да «Бібліі». У Вільні ў 2 фарбы надрукаваны «Часасловец», «Каноны», «Шасцідневец», «Саборнік», «Апостал», у «Псалтыры» — толькі тытульны ліст.

Брашуровачна-пераплётны працэс пачынаўся з фальцоўкі, у выніку якой з аркушаў атрымліваліся сшыткі. Пры друкаванні ў 4-ю долю аркуша пры фальцоўцы рабілі 2 узаемна перпендыкулярныя згібы, пры друкаванні ў 8-ю долю — 3 згібы (2 папярочныя і падоўжны). Каб атрымаць 8-аркушны сшытак, адзін 4-аркушны сшытак укладвалі ў другі. Пры друкаванні ў 8-ю долю аркуша ў час фальцоўкі адразу атрымліваліся 8-аркушныя сшыткі. Потым сшыткі камплектавалі ў кніжны блок, сшывалі і прымацоўвалі да марлі або тканіны. Блок абразалі з 3 бакоў. Рабілася гэта ўручную пры дапамозе нескладанага прыстасавання. Звесткі аб пераплётных працэсах выданняў С. адсутнічаюць — няма ні адной кніжкі яго выданняў, якая была б пераплецена ў друкарні (гл. таксама арт. *Пераплёт*). Выданні С. набіраліся, друкаваліся і афармляліся вял. майстэрствам. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ПАЛУЯ́Н** Сяргей Епіфанавіч (псеўд. С. Я с я н о в і ч, Я с я н о в і ч, С. П., П. Ян; 1890—1910), беларускі пісьменнік, крытык дэмакратычнага кірунку. Адным з першых бел. літаратуразнаўцаў пісаў пра дзейнасць С.— у 1909 у газ. «Наша ніва» (24 вер.) змясціў артыкул «Калі друкавалася першая беларуская «Біблія»?, у якім адзначаў, што на Беларусі ў 15 ст. «асвета, як на тыя часы, стаяла вельмі высока». Выказаў меркаванне, што С. вучыўся на сродкі Якуба *Бабіча*, які «сваім коштам паслаў яго вучыцца вышэйшых навук у Кракаўскую Акадэмію» (Кракаўскі ун-т). Друкаванне С. «Бібліі» ў Празе на бел. мове тлумачыў тым, што кракаўская бел. друкарня (П. лічыў беларускай кракаўскую друкарню Ш. Фіёля) была занадта малой для друкавання «Бібліі». Меркаваў, што С. вярнуўся ў Вільню (1520) пасля таго, як стараннямі Бабіча там была заснавана вял. друкарня, дзе ён змог закончыць друкаванне «Бібліі» (многія даследчыкі лічаць, што друкарню ў Вільні заснаваў сам С.). *Н. П. Саламевіч.*

**«ПАМА́ЗАННЕ ДАВІ́ДА»**, «С а м у и л ъ п р о р о к г о с п о д е н ь п о м а з а Д а в ы д а н а ц а р с т в о», гравюра тытульнага ліста 1-й *кнігі «Царствы»*, выдадзенай С. у Празе (1518).

Паводле біблейскага сюжэта, праваднр ізраільскага рэліг.-племяннога саюзу прарок і суддзя Самуіл (2-я пал. 11 ст. да н. э.), якога іудаісцкая біблейская традыцыя лічыць аўтарам некат. старазапаветных кніг, «памазаў» свяшчэнным ялеем на царства Саула — першага ізраільска-іудзейскага цара (канец 11 ст. да н. э.). Саул, атрымаўшы ўладу, стаў дэспатам, і тады Самуіл «памазаў» на царства маладога пастуха *Давіда*, які стаў пераемнікам цара, а пазней і сімвалам месіянскіх надзей. Абрад «памазання» захаваўся як сімвалічны акт пасвяшчэння на ўладу. Гэту біблейскую аповесць С. пераказаў у прадмовах да 1-й і 2-й кн. «Царствы».

Гравюра «П. Д.» (105×105 мм) — па-майстэрску вырашаная шматфігурная кампазіцыя з вял. колькасцю персанажаў. У глыбіні гар. плошчы гатычныя будынкі, на пярэднім плане людскі натоўп. Злева, каля ахвярніка, стаіць Самуіл у доўгай вопратцы. Ён благаслаўляе Давіда на царства: левай рукой ліе на яго агаленую галаву ваду з кубка. «Памазанік» у простай вопратцы, стаіць нізка схіліўшыся, склаўшы рукі. За спіной Давіда яго бацька. На зямлі ляжаць гуслі. У натоўпе вылучаюцца царскія слугі, воіны; адзін з іх трымае меч. Справа за натоўпам — балкон з балюстрадай, на ім жаночыя постаці. Перспектыва на гравюры вырашана не аднолькава перакanaўча, але ў цэлым прастора, якую падкрэсліваюць некалькі мужчынскіх постацей у глыбіні кампазіцыі, адчуваецца добра. Дынамічныя постаці, выразныя твары, адзенне награвіраваны дэталёва. Штрых прамы, паралельны, у трактоўцы натоўпу — перакрыжаваны. Паўкруглыя аркі балконаў над жаночымі постацямі дадзены чорнай плямай. М. *Шчакаціхін* адносіў «П. Д.» да 3-й з распрацаваных ім умоўных стыліст. груп гравюр С., адзначаючы характэрныя рысы ням. ксілаграфіі канца 15 — пач. 16 ст. і некат. «нязвязанасць з іншымі скарынінскімі

гравюрамі». Аднак адпаведнасць яе памераў шырыні набору дае падставу меркаваць пра арыгінальны характар «П. Д.»; дрэварыт быў выкананы спецыяльна для выданняў С.

*Літ.:* 564; 792.*У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**ПАМПАНА́ЦЫ** (Pomponazzi) П'етра (1462—1525), італ. філосаф, вядучы прадстаўнік арыстацелізму эпохі Адраджэння. Быў прафесарам філасофіі і медыцыны ў *Падуанскім універсітэце* (1495—1509), ва ун-тах Ферары і Балоньі (1512—25). Зрабіў вызначальны ўклад у фарміраванне традыцыі «падуанскага вальнадумства» 16 ст. У сваіх творах — «Трактат пра бессмяроцце душы» (1516), «Пра прычыны прыродных з'яў, або Пра чараўніцтва» (1520, апубл. 1556), «Пра фатум, свабоду волі і прадвызначэнне» (1520, апубл. 1567) — развіваў тэорыю дваістай ісціны, адстойваў самаст. значэнне філасофіі, яе незалежнасць ад тэалогіі. Сцвярджаў ідэал рац. пазнання, якое заснавана на прыродным роздуме і пачуццях чалавека. Абвяргаў схаласт. доказы бессмяротнасці чалавечай душы, бачыў прызначэнне чалавека ў разумнай і маральнай дзейнасці на карысць людзей, сцвярджаў дасягальнасць зямнога шчасця. Разумеў маральнасць як унутраны прыродны абавязак чалавека, які не параджаецца рэліг. верай. Выкрываў сярэдневяковыя забабоны, абвяргаў чараўніцтва, патрабаваў тлумачыць таямнічыя з'явы прыроднымі прычынамі. Прытрымліваўся дэтэрмініцкіх поглядаў на свет, блізкіх вучэнню *стаіцызму*. Ідэі П. значна паўплывалі на развіццё рэнесансава-гуманіст. філасофіі. Іх сляды выразна выяўляюцца ў светапоглядзе С. Ужо сам выбар Падуанскага ун-та, чыя слава была звязана з імем П., як месца здачы экзаменаў на вучоную ступень доктара медыцыны сведчыць пра глыбокія веды і інтарэс С. да поглядаў П. Хоць у 1512 П. ўжо не было ў Падуі, яго ідэі панавалі сярод вучоных. Тое, што С. прыбыў у Падую ўжо са ступенню доктара філасофіі, сведчыць пра свядомае імкненне экзаменавацца ва ун-це, дзе панавалі найб. блізкі яму навук. дух. Невыпадкова, што ён атрымаў аднадушнае адабрэнне ўсіх вучоных, якія прысутнічалі на экзамене. У дзейнасці і творах С. выразна выявіўся дух «падуанскага вальнадумства»: у перакананні, што філас. мудрасць больш адпавядае чалавечай прыродзе, чым тэалагічная, «абы, научившися мудрости» людзі «добре живучи на свете» (гл. с. 37); у імкненні вызваліць чалавечую думку з-пад апекі дагматычных аўтарытэтаў для «размножению мудрости, умения, опатрености, разуму и науки» (гл. с. 46); у трактоўцы сапраўдных ведаў як разумнага пазнання свету, дабы «имети добрые обычае и познати мудрость и науку» (гл. с. 36). З П. збліжае С. разуменне вышэйшай мэты чалавека — маральна дасканалай і грамадска карыснай дзейнасці на роднай зямлі: «каждый хрестианин свое имея дарование к посполитого доброго размножению да уделяет» (гл. с. 196—197), дзеля «отчины своея» не шкадуючы «всякого тружания и скарбов» (гл. с. 94). Бел. гуманісту сугучна думка П. пра незалежнасць маральных паводзін ад прыналежнасці да хрысц. рэлігіі; ён падкрэслівае маральную вартасць учынкаў і суджэнняў язычнікаў антычнай эпохі (гл. с. 19). С. закладваў асновы рэнесансава-гуманіст. тэндэнцыі да вызвалення этычнага вучэння ад афіц. царк.-рэліг. дактрыны на Беларусі. Хоць у пытанні пра бессмяротнасць душы С. не падзяляў поўнасцю поглядаў П. пра яе натуральнае разбурэнне, ён схільны быў услед за П. бачыць сэнс жыцця ў тым, каб «оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою» (гл. с. 36). Гэта перамога дасягаецца добрымі справамі, маральнымі ўчынкамі, служэннем «пожитку посполитому».

*Літ.:* Горфункель А. Х. Две правды Пьетро Помпонацци//Средние века. М., 1973. Вып. 36; яго ж. Философия эпохи Возрождения. М., 1980. С. 160—185.

*Г. У. Грушавы.*

**ПАНТЭІ́ЗМ** (грэч. pán усё+theós бог), філас. вучэнне, якое атаясамлівае бога і свет. Гістарычна пантэіст. погляды мелі розныя формы: ад натуралістычна-матэрыяліст., якія зводзілі бога да прыроды, да рэлігійна-містычных, што растваралі свет у божым духу.

Ідэі П. зарадзіліся ў глыбокай старажытнасці. У антычнай філасофіі пантэіст. характар мелі натурфілас. і этычныя канцэпцыі *стаіцызму*, а пазней — вучэнне *неаплатанізму*, якое стала гал. крыніцай пантэіст. традыцыі ў сярэдневяковуе і эпоху Адраджэння. У процілегласць артадаксальна-тэістычным уяўленням хрысціянства і іслама пра стварэнне богам прыроды і чалавека з «нічога» пантэісты сярэдневякоўя развівалі неаплатанічную ідэю вечнага спараджэння іх безасабовай божай субстанцыяй (тэорыя эманацыі). Рэлігійны П. з элементамі натуралізму прадстаўлены ў поглядах Іаана Скота Эрыўгены, П. Абеляра, Давіда Дынанскага. Містычна арыентаваны П. назіраецца ў вучэннях І. Экхарта, Т. *Мюнцэра*, анабаптыстаў. У цэлым сярэдневяковы П. выступаў у апазіцыі да пануючай рымска-каталіцкай царквы і ўнёс прыкметны ўклад у фарміраванне рэфарм. руху. Прынцыпова новыя рысы П. набыў у эпоху Адраджэння. Пантэістычнае вучэнне *Мікалая Кузанскага* збліжала бога і прыроду як бясконцы і абмежаваны максімум, сцвярджаючы ідэю бясконцасці Сусвету. Гуманістычна вытлумачаная філасофія неаплатанізму стала асновай узвышэння і абагатварэння чалавека і прыроды; адзіны суверэнны розум, творчая моц і свабода сталі агульнымі атрыбутамі чалавечай асобы і бажаства, універсальная гармонія і прыгажосць аб'ядналі творцу і тварэнне. Гэтыя погляды яскрава выявіліся ў Л. Б. *Альберці*, М. *Фічына*, *Піка*

**«Памазанне Давіда».** Гравюра з тытульнага ліста 1-й кнігі «Царствы» Ф. Скарыны.



*дэла Мірандалы*, фларэнтыйскіх платонікаў. Адначасова ў 16 ст. назіраецца росквіт пантэіст. натурфіласофіі, якая зазнала ўплыў ідэй Мікалая Кузанскага і адлюстравала развіццё прыродазнаўчанавук. даследаванняў. Яе прадстаўнікі (Дж. Кардана, Ф. Патрыцы, Т. Кампанела, Дж. Бруна) усё смялей збліжалі бога з прыродай, пераасэнсоўвалі рэліг. догмат стварэння свету, пракладвалі шлях матэрыяліст. светаразуменню.

У час С. ідэі П. шырока распаўсюдзіліся ў перадавой грамадскай думцы, закранулі буйнейшыя універсітэцкія цэнтры Еўропы, у т. л. Кракаўскі і Падуанскі ун-ты, дзе вучыўся С. Глыбока засвоіўшы дасягненні рэнесансава-гуманіст. культуры, С. быў, безумоўна, знаёмы з пантэіст. поглядамі перш за ўсё італьян. гуманістаў. Хоць С. і не прымаў ідэі натуралістычна арыентаванага П., аднак ён высока цаніў і падзяляў гуманіст. імкненне зблізіць божы і чалавечы розум, ураўняць божую і чалавечую мудрасць. Пра гэта сведчыць яго погляд на ідэал мудраца, якім для С. быў чалавек «духа святога и философии исполненый» (гл. с. 43). Асабліва прыкметна гэтыя ідэі назіраюцца ў кн. «Ісус Сірахаў», дзе праходзіць думка пра прыродную і чалавечую мудрасць, логас, закон прыроды і бога.

*Літ.:* Соколов В. В. К исторической характеристике пантеизма в западноевропейской философии//Философские науки. 1960. № 4; Из истории свободомыслия и атеизма в Белоруссии. Мн., 1978; Лившиц Г. М. Свободомыслие и атеизм в древности и средние века. Мн., 1973; Грушевой Г. В. Из истории пантеистических воззрений. Мальбранш и спинозизм//Весн. Беларус. ун-та. Сер. 3. 1977. № 2.

*Г. У. Грушавы.*

**ПАПЕ́РА** (ад грэч. páругоs выраб з расліны папірусу), матэрыял з раслінных валокнаў, апрацаваных адпаведным спосабам у форме тонкага аркуша.

Упершыню ўпамінаецца ў кітайскіх крыніцах у 12 г. н. э. У 1 ст. яе пачалі выкарыстоўваць для кніг. У 10 ст. вытворчасць П. стала вядомай амаль усім еўрап. краінам. Дакументы, напісаныя на П., паявіліся ў гаспадарчай канцылярыі Вял. кн. Літоўскага прыкладна з сярэдзіны 14 ст. Найстаражытнейшыя захаваныя дакументы, напісаныя на П.,— лісты вял. князя літоўскага Вітаўта канца 14 — пач. 15 ст. У 14—15 ст. уся П., якую выкарыстоўвалі ў справаводстве і пісьменнасці Вял. кн. Літоўскага, была прывазной. Яна паступала пераважна з Італіі, Францыі, ням. земляў праз Польшчу і Прыбалтыку. У 15—18 ст. інтэнсіўна дзейнічалі суседнія польскія паперні.

У пач. 16 ст. паяўляюцца планы арганізацыі першых папернях на тэр. Вял. кн. Літоўскага. У 1524 Жыгімонт I падпісаў указ, які дазваляў швейцарцу Сан Вернарту пабудаваць у Вільні паперню каля замка, у раёне Каралеўскіх млыноў. Права на буд-ва другой паперні ва Ужупісе (Літ. ССР), каля сядзібы віленскага бурмістра Харытона Хацуціча, у той год было дадзена таксама Карулісу Вернарту (відаць, сваяку Сан Вернарта). На думку некат. польск. гісторыкаў (Я. Птасніка, Г. Лаўмянскага і інш.), арганізацыя гэтых папернях была непасрэдна звязана з выдавецкай дзейнасцю С. Прамых доказаў такой сувязі няма. Даследчыкі адзначаюць, што «Малая падарожная кніжка» С. выйшла каля 1522, г. зн. значна раней, чым былі рэалізаваны гэтыя задумы, «Апостал» — у сак. 1525, праз некалькі месяцаў пасля падпісання гэтых указаў.

Першая паперня на тэр. Беларусі пабудавана ў 1560-я г. ў Нясвіжы. Яе прадукцыя ў значнай меры прызначалася для задавальнення патрэб *Нясвіжскай друкарні*, заснаванай у 1562. У прадмове да «Біблії» 1572, выдадзенай у Нясвіжы, С. Будны пісаў, што «заложил друкарню и збудовал паперню» староста нясвіжскі Мацей Кавячынскі. Пасля закрыцця Нясвіжскай друкарні Мікалаем Радзівілам Сіроткай Кавячынскі заснаваў другую на Беларусі паперню ў сваім маёнтку Узда. Некалькі папернях у канцы 16 — пач. 17 ст. ў Вільні і яе наваколлі належалі буйным бел. кнігавыдаўцам — «дому» купцоў *Мамонічаў*, якія выконвалі важныя заказы па выданню Статутаў Вял. кн. Літоўскага і інш. л-ры. Частку паперы Мамонічы прадавалі ў Вял. кн. Літоўскім і ў Расіі. Першая паперня, якая выраблява П. для брацкіх выданняў, заснавана каля 1633 у Еўі. У 2-й пал. 16—18 ст. на землях Беларусі пабудавана каля 30 папернях і папяровых фабрык (амаль усе яны былі прыватнымі): у Бакштах (Шчучынскі р-н), Быцені (Івацэвіцкі р-н), Відзах (Браслаўскі р-н), Гальшанах (Ашмянскі р-н), Дуброўне, Дзятлаве, Заслаўі (Мінскі р-н), Калачы (Лагойскі р-н), Лыскаве (Пружанскі р-н), Любані, Любчы (Навагрудскі р-н), Слуцку, Смаргоні, Уздзе і інш. Паперні звычайна будаваліся на паўнаводных чыстых рэках. Сыравінай служыла апрацаванае льняное і баваўнянае рыззё. П. кожнай паперні мела свае *вадзяныя знакі*, якія разам з некат. інш. яе асаблівасцямі дазваляюць адносна дакладна датаваць час яе вырабу і выкарыстання.

П. выданняў С. комплексна не даследавана. М. М. *Шчакаціхін* лічыў, што віленскія кнігі С. былі надрукаваны на прывазной П., выробленай у Германіі, Аўгсбургу (І. Шэншпергер), Нейсэ, Баутцэне, а таксама, магчыма, у Італіі. П. пражскіх выданняў С. рэдка маркіравалася вадзянымі знакамі. У большасці экземпляраў яна адрозніваецца грубым вырабам, таўшчынёй, слабапрыкметнай сеткай. Выкарыстанне нізкасортнай таннай П., паводле А. Мацюка, сведчыць пра імкненне С. зрабіць свае кнігі максімальна таннымі, даступнымі для людзей «простых посполитых». Гэта гаворыць таксама пра абмежаваныя фінансавыя магчымасці С. На думку Мацюка, не выключана, што для сваіх пражскіх выданняў ён мог выкарыстоўваць П., якая выраблялася на новых чэш. папернях у Празе і Збраславе. Фармат аркуша вызначаўся памерамі чарпальнай формы. Бібліяграф. фармат кнігі залежаў ад таго, як складваўся аркуш П.: 2°, folio, 4°, quarto, 8°, octavo і г. д. Захаваныя экземпляры пражскіх выданняў С., надрукаваных «ин кварто», маюць розны памер аркуша: ад найб. буйных (241×175 мм) да самых малых (197×141 і меней) са зрэзанымі палямі. «Апостал» 1525, надрукаваны «октаво», мае памер аркушаў 153×118 мм (экземпляр Віленскага ун-та). На палях кнігі чытачы пакідалі заўвагі да тэксту, укладныя, уладальніцкія запісы.

*Літ.:* 69; 614; 653; 795; 819; 824.

*Г. Я. Галенчанка.*

**ПАРАЦЭ́ЛЬС** (Paracelsus; псеўд.; сапр. Філіп Аурэал Тэафраст Бомбаст фон Гогенгейм; 1493—1541), філосаф, даследчык прыроды, урач. Прафесар медыцыны Базельскага ун-та (1526). Як урач наведаў многія краіны Еўропы. Літаратурная спадчына П.— шматлікія творы па медыцыне, хіміі, батаніцы, натурфіласофіі, тэасофіі і інш. У цэнтры філас. вучэння П.— прырода як жывое цэлае, што аб'ядноўвае фіз. свет і чалавека і прасякнута духоўнымі сіламі, якія зліваюцца ў адзіную сусв. душу. У пазнанні прыроды і валоданні яе сіламі — найвыш. мудрасць чалавека; шлях да гэтага ляжыць праз пазнанне чалавекам самога сябе. Надаваў важнае значэнне доследнаму, эксперым. вывучэнню прыродных з'яў, адмаўляўся ад бяздумнага следавання сярэдневяковым аўтарытэтам. Разам з прыроднымі спосабамі пазнання і практычнага асваення свету вял. ролю адводзіў магічнаму ўздзеянню чалавека на прыроду. У медыцыне выступіў супраць схаласт. традыцыі лячэння, што была заснавана на ідэях *Галена*, вывучаў лячэбнае дзеянне траў і мінер. крыніц, увёў у практыку шэраг хім. медыкаментаў. У аснове арган. жыцця бачыў хім. працэсы, стаў адным з заснавальнікаў ятрахіміі, унёс значны ўклад у развіццё фармакалогіі. Лічыў, што ўрач павінен лячыць не толькі цялесныя хваробы, але чалавека ў цэлым, уключаючы яго душу і дух. Наіўна-матэрыяліст. погляды П. неслі на сабе адбітак сярэдневяковай містыкі, што не перашкодзіла яму стаць, паводле А. І. Герцэна, «першым прафесарам хіміі ад стварэння свету». П. зрабіў вял. ўплыў на развіццё медыцыны і прыродазнаўства 16 ст. Яго імя і ідэі, відаць, былі вядомы С. як доктару медыцыны, асабліва ў перыяд яго дзейнасці ў каралеўскім бат. садзе ў Празе. Паміж 1520 і 1525 П. прыязджаў у Вільню, дзе ён як рэфарматар медыцыны арганізаваў дыспут з прыхільнікамі традыцыйнай медыцыны. Медыкі Вільні і Гданска, дзе таксама адбыўся дыспут, атрымалі перамогу над П. Пратакол (калі ён вёўся) дыспуту ў Вільні не захаваўся. Дакладна ўстанавіць прозвішчы ўдзельнікаў дыспуту пакуль што не ўдалося. Калі С. ў гэты час не пакідаў Вільню, то яго ўдзел у дыспуце з П. нельга выключыць: на той час і ў наступныя стагоддзі ў Вільні было нямнога дыпламаваных урачоў. С. і П. збліжалі жывая цікавасць да прыроды, імкненне да прыроднага тлумачэння жыццядзейнасці чалавека, адмаўленне ад схаласт. дагматызму, ацэнка доследных ведаў і навукі.

*Літ.:* Проскуряков В. Парацельс. М., 1935; Левен В. Г. Проблема материи у Теофраста Парацельса (1493—1541)//Философские науки. 1959. № 3.

*Г. У. Грушавы.*

**ПА́РУКАЎ** Аляксей Аляксеевіч (н. 1948), беларускі сав. мовазнавец. Канд. філал. н. (1976). Дацэнт Гомельскага дзярж. ун-та. Працы П. прысвечаны аналізу мовы скарынінскіх неперакладных выданняў «Псалтыра» (пражскага, 1517; віленскага, 1525): «Важнейшыя арфаграфічныя асаблівасці неперакладных выданняў Скарыны» (1973), «Дзеяслоўныя

формы ў неперакладных выданнях Скарыны», «Некаторыя марфалагічныя асаблівасці неперакладных выданняў Скарыны» (абедзве 1974), «Словаўтваральная сістэма назоўнікаў у неперакладных выданнях Скарыны», «Аб лексічных асаблівасцях беларускага і рускага тыпаў кніжна-славянскай мовы» (абедзве 1975), «Спецыфічныя асаблівасці лексікі неперакладных выданняў Скарыны» (1976), «Словаўтварэнне дзеясловаў у неперакладных выданнях Скарыны» (1977), «Лексіка-семантычная варыянтнасць у прадмовах і пасляслоўях Скарыны» (1980). На фактычным матэрыяле скарынінскіх старадрукаў вызначыў моўную спецыфіку неперакладных выданняў, выявіў уласнабел. моўныя элементы і месца іх сярод традыц. кніжна-слав. рыс. Характарыстыка мовы скарынінскіх выданняў «Псалтыра» прыведзена ў параўнальным плане з аднайм. тэкстамі рус. рэдакцыі 16 ст. На аснове супастаўлення старабел. і старарус. моўных фактаў «Псалтыра» пастаўлены пад сумненне ранейшыя сцверджанні аб архаічнасці мовы гэтых помнікаў. П. прыходзіць да вываду, што С. не змог поўнасцю вызваліцца ад кніжна-слав. традыц. напісання з-за адсутнасці ўстойлівых норм старабел. мовы, прыкметнага ўздзеяння кніжна-слав. пісьменнасці на асобныя творы канфесіянальнай л-ры ў выніку другога паўд.-слав. ўплыву, што бел. першадрукар не ставіў перад сабой задачу перакладу «Псалтыра» на бел. мову, а зрабіў тэксты больш даступнымі і зразумелымі простаму чытачу. У працах П. сцвярджаецца, што неперакладныя выданні С. зазналі значнае ўздзеянне агульнанар. бел. мовы, элементы якой паступова пранікалі ва ўсе тагачасныя жанрава-стылявыя разнавіднасці, у т. л. і ў канфесіянальную л-ру. Даў параўнальны аналіз мовы скарынінскіх неперакладных выданняў і аднайм. старарус. тэкстаў. Даследаванні П. далі магчымасць класіфікаваць мову скарынінскіх неперакладных выданняў як асобны, бел. тып кніжна-слав. мовы. *У. В. Анічэнка.*

**ПАРЭ́ЦКІ** Якаў Ільіч (н. 1913), беларускі сав. літаратура- і мовазнавец, перакладчык. Даследуе шматмоўную л-ру Беларусі 16 ст. У манаграфіях «Сымон Будны» (1975), «Саламон Рысінскі» (1983), «Мікола Гусоўскі» (1984) разглядае С. як выдатнага бел. асветніка і першадрукара, культ. традыцыі якога пасляхова працягвалі С. Будны, М. Гусоўскі, С. Рысінскі. Аўтар арт. «Развіццё Сымонам Будным асветніцкіх ідэй Ф. Скарыны» (у кн.: 450 год беларускага кнігадрукавання, 1968). Пераклаў з лац. мовы тэкст трох актавых запісаў Падуанскага ун-та ад 1512 пра наданне С. годнасці доктара мед. навук (Неман, 1967. № 8).

**ПАСЛЯСЛО́ЎЕ**, дапаўненне да літаратурнага, навук. ці публіцыст. твора, зборніка артыкулаў або публікацыі літаратурных помнікаў, у якім змяшчаюцца высновы або каментарыі аўтара, рэдактара, перакладчыка, выдаўца. У адрозненне ад эпілога і заключэння не з'яўляецца прадаўжэннем фабулы, сюжэта або навук. праблемы асн. часткі кнігі. У паасобных выпадках выконвае функцыі прадмовы, напр., пасляслоўе І. *Фёдарава* і П. *Мсціслаўца* да маскоўскага першадрукаванага «Апостала». У бел. л-ры П. ўпершыню ў шырокі ўжытак увёў С., які апіраўся на традыцыі слав. рукапіснай кнігі (кароткія заключныя запісы аўтараў ці перапісчыкаў) і зах.-еўрап. кнігавыдавецкай практыкі. Асн. каментарыі да перакладзеных і выдадзеных ім кніг С. змясціў у прадмовах, таму яго пасляслоўі лаканічныя па форме, без назваў і маюць характар кароткіх прыпісак, на якія, аднак, асветнік ускладваў не толькі інфармацыйныя, але і важныя ідэалаг. функцыі. Ён напісаў П. да ўсіх выдадзеных ім старазапаветных кніг, апрача 1-й кн. «Царствы», да большасці кніг новазапаветных (апрача саборных пасланняў апостала Іаана і Якава, другога паслання апостала Пятра), да ўсіх частак «Малой падарожнай кніжкі» і 2 выданняў «Псалтыра» (1517 і 1522). Акрамя таго, С. напісаў агульныя П. да 4-й кн. «Царствы», да ўсяго «Апостала» і агульнае падсумаванне да «Малой падарожнай кніжкі». Усяго С. напісаў 62 П., якія паводле сваёй структуры можна падзяліць на поўныя, скарочаныя і зусім кароткія. Агульным для ўсіх П. з'яўляецца паведамленне аб заканчэнні кнігі («Скончылася Псалтыр сия...», «Доконана ест сия книга Исуса, сына Сирахова...»; «Кончается книга, рекомая Премудрость...»; «Доконавается первая часть книг Самуила-пророка...»; «То ест конець первых книг Моисеовых...»; «Сконаваются книги Даниила-пророка...»). Найбольш кароткія П. (толькі да пасланняў апостала Паўла) абмяжоўваюцца гэтай інфармацыяй адносна заканчэння кнігі, напр.: «Доконано ест послание перъвое к селуняном светого славного апостола Христова Павла». Аднак гэта не толькі тэхнічна-выдавецкая інфармацыя. Паняцце «закончанасці» твора было важным элементам эстэтыкі рэнесансавай маст. культуры, арыентаванай на класічную завершанасць твора.

Скарочаныя П. маюць некалькі варыянтаў. Адны з іх уключаюць, апрача паведамлення аб заканчэнні, звесткі пра выдаўца, перакладчыка і рэдактара («...пилностию доктора Франциска Скорины с Полоцка»; «...выкладом, пилностию и працею доктора Франциска Скорины с Полоцка-града»; «выложено и вытиснено з великою пилъностию доктором Франциском Скориною из славного града Полоцька»). Больш падрабязныя П. змяшчаюць своеасаблівы «сімвал веры» пісьменніка, нярэдка са спасылкай на хрысціянскі догмат траістасці бога («...с помощию бога в троици единаго...»; «с помощью в троици единого бога и его пречистое матери Марии...»), з указаннем месца выдання («...у старом месте Празском»; «...у славном старом месте Празском»; «...в въликом старом месте Празском...», «...во славном месте Виленском»), дакладнай даты і года выдання («...лета по божьем нарожению тысещного пятьсотого і семогонадесеть, месеца августа, дъня шестаго», г. зн. 6 жніўня 1517). Ёсць варыянты П., якія завяршаюцца кароткай малітвай Хрысту («Ему же то буди хвала, честь и поклонение с отцем и святым духом ныне и всегда, і в вѣк веков. Аминь»), змяшчаюць пэўныя каментарыі гіст., семантычнага або інш. характару («...Притчи или Присловия премудраго Саломона, царя Израилева, сына Давыдова, он же был царем в Ерусалиме»; «...книга Исуса, сына Сирахова, ерусалимлянина, рекомая Панаретос ілі Екклезиастикус, еже іскazуется — всех добрых нравов сокровище или Церковник»; «То ест конець первых книг Моисеовых, еже от еврей называются Брешис, по-гречески иже и по-латине именуются Енезеос, а по-руски — Бытья»). Урэшце, поўныя П. змяшчаюць у сабе, апрача адзначаных вышэй частак, яшчэ тлумачэнне пра мэту выдання кнігі, яе грамадскае значэнне, асв. і духоўную каштоўнасць («...Песнь пѣсням, папред ко чти и к похвале богу в троици единому и его пречистой матери девици Марии и всем небесным чином, святым и святицам, божиим, и людем посполитым всем к пожитьку»; «...и людем посполитым к доброму научению»; «к науце людем посполитым руского языка»).

У скарынінскіх П. выявіліся характэрныя рысы л-ры і грамадскай думкі на Беларусі пераходнага перыяду ад сярэднявечча да новага часу. Погляд на Біблію як на крыніцу гуманітарных навук і практычнай філасофіі, скіраванай на духоўнае ўдасканаленне ўсяго народа і кожнага чалавека паасобку, быў традыц. для хрысціян асветніцтва ўсх.-слав. рэгіёна. Ад сярэдневяковай традыцыі ідзе звычка пачынаць і канчаць кожную сур'ёзную справу падзячнай малітвай адзінаму богу ў трох іпастасях. У С. ў параўнанні з сярэдневяковай л-рай у П. яўна прасочваецца ўзмацненне гіст. свядомасці, паглыблення прынцыпу гістарызму, погляд на духоўную творчасць, у дадзеным выпадку на л-ру і кнігадрукаванне як на вялікую гіст. падзею свайго часу. Гэта асабліва падкрэсліваецца дакладнай фіксацыяй даты выхаду ў свет кнігі, дэмакратычнай выдавецкай праграмай, арыентацыяй на просты народ. І разам з тым абвостранае пачуццё непаўторнасці і значнасці сваёй творчай асобы, нац. самасвядомасць, праслаўленне сваёй «вялікай» (Рус) і «малой» (Полацк) радзімы. У пасляслоўях С. Полацк упамінаецца каля 50 разоў з дабаўленнем эпітэту «слаўны». Гэта дае падставу аднесці скарынінскія пасляслоўі да нац. л-ры, у якой яскрава выявіліся рысы рэгіянальна своеасаблівага ўсх.-слав. Адраджэння. *У. М. Конан.*

*Літ.:* 39; 69; 335.

**ПАСПАЛІ́ТАЕ ДО́БРАЕ**, гл. *Пажытак паспаліты.*

**ПАСПАЛІ́ТАЕ ПРА́ВА**, паняцце, якое шырока ўжывалася ў палітыка-прававвой тэорыі і практыцы Беларусі і Літвы ў 16—17 ст. і пад якім разумелася свецкае права Вял. кн. Літоўскага, г. зн.

сукупнасць прававых норм, выдадзеных органамі дзярж. улады і кіравання, узаконеныя звычаі.

С. паняцце П. п. ўжываў яшчэ ў больш вузкім значэнні. У кн. «Другі закон» ён разглядаў П. п. як адзін з элементаў свецкай прававой сістэмы. Сінонімам свецкага права ў яго выступала земскае права, якое падзялялася на віды. Да П. п. ён адносіў толькі нормы прыватнаюрыд. характару, што рэгулююць «мужа и жены почтивое случение, детей пильное выхование, близко живущих схожение, речи позыченое навращение, насилию силою отпрение, ровная свобода всем, общее имение всех» (гл. с. 139). З прыведзенага вынікае, што С. да П. п. адносіў нормы шлюбна-сямейнага і грамадзянскага права, а таксама тыя нормы крымінальнага права, якія трактавалі проціпраўныя дзеянні як шкоду прыватнай асобе і не мелі публічна-прававога характару. Прыроду і сац. каштоўнасць гэтага віду права ён выводзіў з усеагульнага прызнання яго прынцыпаў усімі народамі. С. выказваў прагрэс. погляды на змест і сутнасць П. п. Ён высока ацэньваў подзвіг біблейскай Юдзіфі, якая вызваліла свой народ ад варожага нашэсця. Заклікаў усіх, у т. л. і мужчын, вучыцца ў яе мужнасці і патрыятызму. Важнейшай функцыяй сям'і С. лічыў «пильное выхование» дзяцей. У рэгуляванні грамадзянскіх адносін С. вылучаў прынцып «ровная свобода всем, общее имение всех». Гэты прынцып быў асновай для патрабаванняў раўнапраўнасці ўсіх грамадзян у сац. адносінах. Тым самым ён выяўляў пратэст супраць выключнага права ўласнасці феадалаў на зямлю, лясы, воды, супраць працэсу прававога замацавання зямель і лясоў за феадаламі, якія ў той час адбываўся ў Вял. кн. Літоўскім.

*С. Ф. Сокал.*

**ПАТРЫСТЫКА** (ад грэч. patēr, лац. pater айцец), сукупнасць філасофска-тэалагічных вучэнняў і дактрын ідэолагаў хрысц. царквы 2—8 ст. (т. зв. айцоў царквы).

Фарміравалася ў перыяд разлажэння познаантычнага грамадства як апалогія хрысц. веравучэння ў барацьбе супраць язычніцтва. З 4 ст. гал. мэта П.— сістэматызацыя царк. дагматыкі ў кантэксце ідэаліст. філас. светапогляду. Асн. прынцыпы П.— ідэя адкравення, тэацэнтрызм, крэацыянізм і правідэнцыялізм, якія ў сярэдневяковым мысленні мелі нарматыўнае значэнне. Росквіт П. прыпадае на 4—5 ст., калі склаліся 2 галіны раннехрысц. ідэалогіі: на грэч. Усходзе (Васіль Вялікі, Грыгорый Багаслоў, Грыгорый Ніскі, Іаан Златавуст) і лац. Захадзе (Аўрэлій Аўгусцін, Севярын Баэцый). У завяршальны перыяд П. адбывалася закасцяненне догмы, уніфікаванне спосабаў хрысц. экзагетыкі, закладваліся асновы схаластыкі (*Іаан Дамаскін*). П., асабліва ўсходняя, значна паўплывала на фарміраванне светапогляду мысліцеляў Стараж. Русі, напр. Кірыла Тураўскага. Творы прадстаўнікоў П. захоўваліся ў спісах, шматразова капіраваліся і былі шырока вядомы на бел. землях. Асабліва пашырыліся яны на Беларусі ў 14—15 ст. Характэрна, што першапачатковая багаслоўская цікавасць да поглядаў айцоў царквы дапаўнялася і нават змянялася пошукамі ў іх маральна-этычных асноў зямнога жыцця чалавека (напр., «Павучанні» Яфрэма Сірына, Іаана Златавуста і інш.).

П. паўплывала на духоўнае станаўленне С. ў гады яго вучобы ва ун-тах Еўропы і ў перыяд літаратурна-асв. дзейнасці ў Вільні. Аднак уплыў гэты выявіўся ў супярэчлівай форме. С. прыцягвалі выразна выяўлены ў П. ідэал глыбока асабістых адносін чалавека да веры, імкненне да маральна-псіхалаг. разумення біблейскіх тэкстаў, цяга да культ. багацця антычнага свету, дзе «люди мудрыи иным народом неякии книги, писма, уставы, права, науку или закон оставили суть» (гл. с. 65—66). Як рэнесансавы гуманіст С. далёкі ад містычнай экзальтаванасці грэка-візант. патрыстаў, іх захаплення алегарычнай экзагезай. Ён проціпастаўляў ёй рацыяналіст. вытлумачэнне Свяшчэннага пісання, лічыў, што «святые писма уставлѣна суть к нашему навчению, исправлѣнію, духовному и телесному...» (гл. с. 19). Многія ідэі сярэдневяковай П. былі чужымі для С. сваёй адарванасцю ад практычна-зямных патрэб простага люду, пагардлівымі адносінамі да цвярозага розуму, іерархічным адчужэннем ад мас веруючых, паколькі сам С. заклікаў не шкадаваць «всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея» (гл. с. 94). Гуманіст. вальнадумства С. значна багацей і прадуктыўней, чым інтэлектуальныя ўстаноўкі П. У адрозненне ад айцоў царквы С. сканцэнтроўваў гал. ўвагу не на эзатэрычных раздзелах Бібліі, якія «суть трудны ко зрозумению» і «над розум людскый» (гл. с. 105), а на экзатэрычных, г. зн. даступных разуменню кожнага разумнага чалавека і здольных адкрыць яму шмат карысных, у т. л. і свецкіх, ведаў, дзе «научение седми наук вызволеных достаточное» (гл. с. 10). С. валодаў мастацтвам тлумачэння самых складаных і заблытаных палажэнняў біблейскіх кніг, аднак карыстаўся ім для выяўлення перш за ўсё прыродных, практычна карысных звестак: «Да совѣршен будеть человѣк божий і на всяко дѣло добро уготован» (гл. с.19). Намнога шырэй С. тлумачыў і патрыстычны погляд на Біблію як універсальную крыніцу ведаў. На першым месцы ў яго стаіць не богапазнанне, а светапазнанне, «познание самого себе», што, на думку С., «ест наивышшая мудрость» (гл. с. 29). У гэтым шырокім сэнсе тлумачыў С. ў прадмове да ўсёй «Бібліі» асв. значэнне Свяшчэннага пісання: «В сей книзе всее прироженое мудрости зачало и конець» (гл. с. 9). Разыходзячыся з П. у каштоўнасна-светапоглядных арыентацыях, С. ў прыватных пытаннях далучаўся да «разумных» суджэнняў стараж. аўтараў, калі яны сугучны гуманіст. імкненням новага часу. Так, музыку С. разглядаў як важны сродак выхавання і ўслед за Іаанам Златавустам, Васілём Вялікім, Еранімам лічыў, што муз. мастацтва «бесы изгоняють, ангелы на помощь призывають» (гл. с. 20).

*Літ.:* 232; Памятники византийской литературы IV—IX веков. М., 1968; Памятники средневековой латинской литературы IV—IX веков. М., 1970; Бычков В. В. Византийская эстетика. М., 1977; Майоров Г. Г. Формирование средневековой философии. М., 1979.

*Г. У. Грушавы.*

**ПАТРЫЯТЫЗМ Ф. СКАРЫНЫ.** Абумоўлены канкрэтна-гіст. патрэбамі нац. кансалідацыі бел. народа і адзначаны глыбокай пачуццёвай і інтэлектуальнай сувяззю з радзімай, дзейсным служэннем яе інтарэсам, «дабру паспалітаму». Слову «айчына» С. надаваў абагульняючае паліт. і маральна-этычнае значэнне — «в добрых делех и в любви отчины» і інш. З гэтым жа словам, асноватворным элементам патрыятызму, суадносяцца ў С. інш. патрыятычныя паняцці: народа («люд посполитый»), роднай мовы («прироженый язык»), грамадскага інтарэсу («добро посполитое»), нац. звычаяў («подлуг обычаев земли»). Патрыятычныя думкі С. найб. выразна выказаў у прадмове да кн. «Юдзіф», дзе подзвіг гераіні па выратаванню роднага горада ад нашэсця іншаземных захопнікаў пададзены як узор адданасці сваёй радзіме чалавека, здатнага не шкадаваць дзеля яе ні «всякого тружания и скарбов», ні «живота своего». С. належыць класічная, вядомая сваёй афарыстычнасцю матывацыя патрыятычных пачуццяў: «Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым падобная боронять ульев своих,— тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають» (гл. с. 94).

С. выступае паслядоўным вяшчальнікам ідэі грамадскага калектывізму, найчасцей выказанай у форме «посполитого доброго», «пожитку посполитого» (гл. арт. *Пажытак паспаліты, «Люди посполитыи»*). Да гэтай грамадскай большасці накіраваны ўвага і сімпатыі С. Люд паспаліты, людзі простыя для С.— асн. ўвасабленне радзімы, адносна якой ён адназначна акрэсліў сваю нац. прыналежнасць («братия моя Русь»), патрыятычную пазіцыю: «послужити посполитому люду рускаго языка». Ажыццяўленню гэтай высакароднай ідэі С. садзейнічалі яго друкаваныя кнігі на зразумелай народу мове дзеля пашырэння асветы, удасканалення чалавека і ўзаемных адносін паміж людзьмі. Свае асв. мэты С. імкнуўся здзейсніць папулярызуючы Біблію, на той час найб. пашыраную і даступную кнігу. Творчым перакладам біблейскіх тэкстаў, насычаным гуманіст. ідэямі, жывой гутарковай бел. лексікай, а таксама маст. афармленнем, зручнасцю выданняў, каментарыямі і тлумачэннямі да іх С. садзейнічаў секулярызацыі, своеасабліваму «обмирщению» свяшчэнных і богаслужэбных кніг, павысіўшы даступнасць і карыснасць для тых, каму яны адрасаваліся. Веды, кніга,— лічыў С.,— гэта не прывілея выбраных, але справа ўсяго народа, каб «не толико докторове а люди вченые.., но всякий человек простый и посполитый», усе і кожны маглі ўсвядоміць патрэбы свайго духоўнага росту. С. выражаў салідарнасць з працоўным людам не толькі ў арыгінальных творах — прадмовах, пасляслоўях, але і ў перакладзеных ім біблейскіх тэкстах, дапоўненых уласнымі,

не заўсёды згоднымі з кананічнай традыцыяй думкамі перакладчыка. Просты чалавек, настроены на ўстанаўленне сац. справядлівасці,— зусім новая дзеючая асоба, якая сустракаецца ў тэксце С. Патрыятычная свядомасць С. найб. выказана ў сцвярджэнні грамадзянскіх правоў чалавека. Далейшае паралельнае вывучэнне тэкстаў перакладу С. можа значна пашырыць, удакладніць нашы ўяўленні пра яго адносіны да Свяшчэннага пісання, пра яго грамадска-паліт. і філас. погляды.

Свабодалюбівага прачытання Бібліі не маглі дараваць С. яго ідэйныя апаненты з боку правасл. артадоксаў і каталіцка-уніяцкіх клерыкалаў. Першыя (князь Андрэй *Курбскі*) прыпісвалі С. «ерэтычнае» сваяцтва з пратэстанцтвам Лютэра, не заўважаючы самастойнасці пазіцыі бел. перакладчыка. Другіх жа (уніят А. Сялява) раздражняла дапасаванасць перакладу С. да нар. мовы і асабліва нац. самаакрэсленне перакладчыка — што той «зваўся русінам з Полацка». Пазней, на працягу амаль чатырох стагоддзяў, каталіцка-езуіцкі і праваслаўна-самадзяржаўны станы будуць замоўчваць, фальсіфікаваць і нават нішчыць кнігі С. разам з іншымі старабел. друкамі і рукапісамі, якія служылі духоўнай зброяй беларусам у змаганні супраць сац. закабалення і дэнацыяналізацыі.

Істотнай, у пэўным сэнсе вызначальнай рысай патрыятычных поглядаў С. з'яўляецца родная мова, «прироженый язык» асветніка. Мова выступае як адзнака этнічна-нац. самабытнасці народа і самога кнігадрукара («людем посполитым рускаго языка», «нароженый в руском языку»), крыніца нац. свядомасці і патрыятычнай гордасці («иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил»). Гэтыя і іншыя функцыі бел. мовы скарынінскага часу сведчылі пра яе высокі грамадскі статус і неабмежаваныя культуратворчыя і выхаваўчыя магчымасці. Не абсалютызуючы ролі С. ў гісторыі развіцця бел. мовы, літ. эвалюцыя якой папярэднічала і спрыяла творчаму шляху самога асветніка, нельга не падкрэсліць яго ўласнага ўкладу: якаснае ўзбагачэнне мастацка-выяўленчай і навук. ролі бел. літ. мовы, цеснае спалучэнне пісьменства з жывой гутарковай мовай народа, жанравае ўзбагачэнне пісьмовай творчасці і пашырэнне, дэмакратызацыя сац. базы носьбітаў літ. слова. Ад С. паскараецца і пашыраецца распачаты яшчэ ў канцы 15 ст. (рукапісы царк.-славянскія) працэс беларусізацыі царкоўна-слав. пісьменства. Дзякуючы С. мова бел. народа ўпершыню асвячалася аўтарытэтам друкаванай кнігі, што адначасна падкрэслівала развітую нац. свядомасць С. і абуджала яе ў чытачоў яго кніг. Ад С. бярэ свой пачатак патрыятычная традыцыя замілавання да роднага слова як асаблівы матыў бел. л-ры, грамадскай думкі 16 і наступных стагоддзяў. Выходзячы з гэтай традыцыі, узбагачаючы яе, лепшыя прадстаўнікі айч. грамадска-культ. руху (Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Мялецій Сматрыцкі, аўтар «Прамовы Мялешкі» і інш.) узмацнялі патрыятычную свядомасць народа, заклікалі берагчы мову сваіх продкаў, нац. духоўныя скарбы. Свядомы патрыёт, адданы сын сваёй радзімы, С. быў гарачым прыхільнікам духоўнага збліжэння бел. народа з інш. народамі ў імя агульначалавечых ідэалаў. Ён далёка апярэджваў азмрочаны рэліг. і нац. канфліктамі час, калі сцвярджаў сваімі творамі гуманіст. ідэі чалавекалюбства, узаемнай павагі людзей розных нацыянальнасцей і веравызнанняў. Пра гэта сведчыць ужо сама карта падарожжаў С.— Польшча, Чэхія, Прусія, Італія, Аўстрыя і, мажліва, Данія, Германія, Масковія — прыкметнае сведчанне адкрытасці, міжнар. камунікатыўнасці яго поглядаў і асобы. Найістотнейшае значэнне мела мэта, якая кіравала яго пуцявінамі: адкрыццё, пазнанне свету і пашырэнне ў свеце духоўных багаццяў сваёй краіны Русі. 23 кнігі, надрукаваныя С. у «славном месте Празском», сталі прыкладам спалучэння патрыятызму і міжнароднай, у прыватнасці беларуска-чэшскай, міжслав. салідарнасці. Стаўшы ля вытокаў нац. самасвядомасці бел. народа, С. адначасова ўзбагаціў гэту свядомасць перадавой ідэяй гіст. адзінства чалавека і сусв. культуры, пакінуўшы нашчадкам пераканаўчы прыклад суаднясення паміж нацыянальным і агульначалавечым.

Патрыятычная думка, светапогляд С. мае асв., пераважна утапічны характар. Створаны С. патрыятычны ідэал чалавека — асветнага, браталюбівага, самаахвярнага, адданага грамадскай справе, радзіме — не заўсёды ўлічваў рэальныя супярэчнасці тагачаснага феад. грамадства, што зніжала жыццяздольнасць самога ідэалу. Сын сваёй эпохі, С. аб'ектыўна заставаўся ў межах гэтай эпохі, хоць і патрапіў свядома парушыць іх і смела зазірнуць на стагоддзі ўперад. Знітаванасцю слова і справы, інтэлектуальнага таленту і жыццёвага падзвіжніцтва С. вырашыў антынамічнасць сваіх поглядаў, пераканаўча давёўшы: служыць агульнай, нар. справе можна і належыць у любы час, пры кожных, нават самых неспрыяльных абставінах.

*Літ.:* 4; 6; 39; 130; 232. *А. К. Каўко.*

**ПАЎУСТАЎ,** адзін з тыпаў стараж. кірылаўскага пісьма.

Узнік у выніку паскарэння працэсу пісання на аснове ўстава. Ад устава адрозніваўся драбнейшымі літарамі, меншай стройнасцю пісьма (прамыя лініі губляюць выразнасць і правільнасць), большай колькасцю скарачэнняў. Атрымаў распаўсюджанне ў Старажытнай Русі з сярэдзіны 14 ст. Маскоўскі П. 15—16 ст. лёг у аснову друкарскага шрыфту першых маскоўскіх друкаваных кніг. У старабел. пісьменнасці, як і ў інш. усх.-слав., меў 2 разнавіднасці — старэйшы, які быў блізкі да ўстава, ужываўся ў дзелавых граматах канца 14—1-й пал. 15 ст., і малодшы, што выкарыстоўваўся паралельна са скорапісам у помніках рэліг. і свецкіх жанраў 2-й пал. 15—17 ст.

Шрыфт выданняў С. бліжэй да бел. П., які меў свае асаблівасці: тут часта адсутнічае нахіленасць вертыкальных ліній, значна радзей выкарыстоўваюцца скарачэнні. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ПЕРАМЫШЛЬСКАЯ КАПІТУЛЬНАЯ БІБЛІЯТЭКА,** збор кніг і рукапісаў Перамышльскага уніяцкага капітула, у склад якога ўваходзіла і б-ка перамышльскіх правасл. епіскапаў 16—17 ст. У б-цы знаходзіліся 3 спісы «Апостала» С., зробленыя на ўкр. Прыкарпацці. З 1947 рукапісы П. к. б. зберагаюцца ў Нац. б-цы ў Варшаве.

**ПЕРАПЛЁТ,** элемент кнігі, прызначаны для захавання кніжнага блока ад разбурэння, забруджвання і для зручнасці карыстання.

Усх.-слав. тэхніку вырабу П. дапамагаюць узнавіць найстаражытнейшыя ўзоры пераплётнага майстэрства, а таксама старыя інструкцыі — «арыгіналы» і «ўказы» «пра кніжны пераплёт» 16—17 ст. Тэхналогія вырабу П. ў часы С. была наступная. Надрукаваныя з двух бакоў аркушы падбіралі ў сшыткі. Кожны сшытак «выбівалі» драўляным малатком на кавадле, каб згладзіць націск і ліквідаваць выпучванне каля карашка. Потым сшыткі падбіралі па парадку сігнатур. С. ў сваіх выданнях друкарскай сігнатуры (нумарацыі сшыткаў) не ставіў. Але ён, відаць, ставіў рукапісную сігнатуру на 1-й стар. 1-га аркуша і на адваротнай старонцы апошняга аркуша кожнага сшытка (прастаўлялася на ніжнім полі 1-й паласы, рэшткі яе можна бачыць у некат. экземплярах). Падабраны з сшыткаў кніжны блок змяшчалі на некат. час у ціскі. Сшыткі сшывалі паміж сабой, прымацоўвалі іх да шнуроў плёткі. Потым блок зноў заціскалі ў ціскі і карашок прамазвалі клеем. Кнігу абразалі з 3 бакоў, блок змяшчалі ў пераплётныя вокладкі — дошкі, абцягнутыя тканінай або скурай цялят, авечак, радзей коней або коз. Блок мацавалі да пергаментнай вокладкі з дапамогай форзаца. Для аздаблення П. басмілі (наносілі на іх «сляпое» бясфарбавае арнаментальнае цісненне, для чаго выкарыстоўвалі плоскія штампы — басмы і ролікавыя штампы — накаткі). Штампы адлівалі з медзі. Цісненне часам рабілі залатой або сярэбранай фольгай. П. часта дэкарыравалі меднымі або сярэбранымі зашчапкамі, гравіраванымі па металу сярэднікамі або вугольнікамі. Да ніжняй пераплётнай вокладкі прымацоўвалі «жукавіны», якія засцерагалі П. ад сцірання. Кнігу па абрэзе фарбавалі або залацілі, часам наносілі арнаментальныя выявы або надпісы. Кнігі, якія прызначаліся для выкарыстання ў літургічнай практыцы, нярэдка заключалі ў металічны абклад, аздоблены чэрню, каштоўнымі камянямі, сярэбранымі і залатымі ўпрыгожаннямі.

Выданні С. прызначаліся для дамашняга чытання, таму ў абкладзе экземпляры невядомы. Большасць экземпляраў пражскіх і віленскіх выданняў С. зберагліся ў П. 18—19 ст. Толькі нямногія выданні — «Псалтыр» 1517, чатыры кн. «Царствы» 1518, «Апостал» 1525 — пераплятаці асобна, іншыя выданні С. часцей аб'ядноўвалі ў канвалюты. Збярогся П. работы бел. майстроў 16—17 ст.— кн. «Іоў» (належала Віленскай публ. б-цы, цяпер знаходзіцца ў Дзяржаўнай б-цы СССР імя У. І. Леніна). Экземпляр захаваў вял. палі з рэшткамі сігнатуры (на арк. 27-м, 35-м, 43-м), напісанай, відаць, у самой друкарні. У 16—17 ст. быў пераплецены канвалют са збору Строганавых, які змяшчаў кнігі «Руф», «Прамудрасць божая», «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў», «Іоў» (зберагаецца ў Б-цы АН СССР у Ленінградзе). П. канвалюта работы

зах.-еўрап. майстроў з залатым цісненнем на карашку (выява птушкі на галінцы і гнязда з птушанятамі). Цікавасць маюць старыя бел. П. з вокладкамі з дошак, абцягнутых пергаментам, або з грубага пергаменту. Канвалют, які ўключае выданні С. і 261 арк. рукапіснага тэксту 16—17 ст. (належаў Сафроніева-Маўчанскаму манастыру, цяпер у Цэнтр. навук. б-цы АН УССР у Кіеве), заключаны ў П. 17 ст.— дошкі ў пергаменце. Адзін з экземпляраў кн. «Царствы» Музея ўкр. мастацтва ў Львове пераплецены ў пергамент — палімпсест са змытым грэч. тэкстам. Цікавасць уяўляе П. «Акафісніка» работы ням. майстра 16 ст. (зберагаецца ў б-цы Вроцлаўскага ун-та), зроблены са свіной скуры і аздоблены блінтавым (бясфарбавым плосказаглыбленым) цісненнем, асн. арнаментальны сюжэт якога — жалуды ў абрамленні галінак. На П.— залочаныя кавалачкі скуры ў выглядзе 6-пялёсткавых кветак. Экземпляр «Пяцікніжжа» Музея ўкр. мастацтва ў Львове цікавы рускім П. 17 ст., на верхняй вокладцы якога — цісні[ё]ны сярэднік: леў і адзінарог пад каронай (эмблема Маскоўскага друкарскага двара). У стары рускі П. (дошкі ў цёмнавішнёвым аксаміце) заключаны экземпляр «Пяцікніжжа» з б-кі Суздальскага Спаса-Еўфіміева манастыра (зберагаецца ва Уладзіміра-Суздальскім музеі-запаведніку). Большасць П. 19 ст. зроблены для выданняў С. па заказу пецярбургскай Публ. б-кі, Румянцаўскага музея ў Маскве, а таксама збіральнікаў Ф. А. Талстога, І. М. Царскага, А. І. Касцерына, М. П. Пагодзіна. Часам яны імітуюць П. 17—18 ст., але часцей уяўляюць кардонныя вокладкі ў скуры з залатым цісненнем. Часта кардон абклейвалі тканінай або форзацнай паперай з характэрным мармуровым узорам. Найбольш багатыя аматарскія П. кніг С. 19 ст.: кн. «Ісус Навін» з б-кі Талстога выкананы з чырвонай скуры з залатым цісненнем. Камплект выданняў С., які сфарміраваны ў сярэдзіне 19 ст. ў пецярбургскай Публ. б-цы, заключаны ў тыпавыя П. з кардоннымі вокладкамі і скураным карашком. На карашку золатам выціснены надпіс: «Библия, переведенная Скориною 1517—1519». Далей указаны парадкавы нумар «часткі», выціснены герб Расіі і індэкс «ИБ» (Императорская Б-ка). Аналагічна пераплецены «Малая падарожная кніжка» (у 2 тамах), «Апостал» 1525. Аднатыпна пераплецены 4 канвалюты Чарткоўскай б-кі (Масква), якія змяшчаюць асобныя выданні «Малой падарожнай кніжкі» (кардон у мармуровай паперы, кардон і вугольнікі з зялёнай скуры). На адваротным баку верхніх вокладак многіх аматарскіх П. 19 ст. наклеены экслібрысы: «Из библиотеки Ивана Прокофьевича Коротаева», «Из библиотеки А. И. Хлудова», «Из библиотеки Ив. Ник. Царского», «Из библиотеки Ивана Лукашевича», «Из библиотеки графа Ф. А. Толстого». Раннія ўладальніцкія запісы пра П., звычайныя на стгарадрукаваных кнігах, на выданнях С. не сустракаюцца. Старэйшыя з іх адносяцца да 19 — пач. 20 ст. (напр., запіс на кнізе «Апостал» 1525 з б-кі Вільнюскага ун-та: «Апостол напечатан в Вильне в типографии Якова Бабича «працею доктора Франциска Скорины лета 1525». Переплёт сделан в апреле 1905 года. Ф. Добрянский»).



Да арт. **Пераплёт.** Пераплётная. Гравюра І. Амана. 16 ст.



**«Пераход цераз Іардан».** Гравюра з кнігі «Ісус Навін» Ф. Скарыны.

*Літ.:* Симони П. Опыт сборника сведений по истории и технике книгопереплётного художества на Руси... [Спб.], 1903.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**ПЕРАСО́ПНІЦКАЕ ЕВА́НГЕЛЛЕ,** арнаментаваная рукапісная кніга, пераклад чатырох Евангелляў з царк.-слав. на ўкр. кніжную мову. Рукапіс створаны ў 1556—61 архімандрытам Перасопніцкага манастыра (Роўненскі р-н, УССР) Рыгорам і сынам санокскага пратапопа Міхаілам Васільевічам. Пры перакладзе, апрача царк.-слав., выкарыстаны чэш. і польск. тэксты. Рысы нар. укр. мовы найб. выразна праявіліся ў лексіцы і сінтаксісе, у правапісе захаваліся традыцыйныя сярэднебалг. асаблівасці. Перакладчыкі былі пад уплывам гуманіст.-асветніцкіх ідэй С., пра што сведчаць іх словы аб перакладзе: «из языка болгарского на мову русскую... для лепшого вырозуменя люду христианского посполитого». П. У. *Уладзіміраў* лічыў, што асновай для П. е. з'явіўся пераклад С. евангельскіх кніг, якія не захаваліся. Рукапіс знойдзены ў 1837 у

г. Пераяслаў (цяпер Пераяслаў-Хмяльніцкі). Зберагаецца ў Цэнтр. навук. б-цы АН УССР. *Я. Дз. Ісаевіч.*

**«ПЕРАХОД ЦЕРАЗ ІАРДАН»,** «Ісус Навин ведеть людей Ізрайлевы через Іордан», гравюра тытульнага ліста *кнігі «Ісус Навін»,* выдадзенай С. у Празе (1517).

Герой гэтай ваенна-гіст. аповесці — пераемнік Майсея Ісус Навін, правадыр яўр. плямёнаў-качэўнікаў, якія ў 13 ст. да н. э. заваявалі большасць аседлых народаў Палесціны і заснавалі там Ізраільска-Іудзейскую дзяржаву. Паводле біблейскай легенды, бог Яхве пакляўся Ісусу Навіну праслвіць яго ў заваявальніцкіх паходах. На гравюры адлюстраваны цуд, што адбыўся пры наступленні на крэпасць Іерыхон. Народ рушыў ад сваіх шатроў, каб перайсці Іардан, святары панеслі каўчэг. Як толькі яны ступілі ў Іардан, рака выйшла з берагоў, вада спынілася, стала сцяной на вял. адлегласці, каб прапусціць людзей Навіна. Матыў цуда з воднай перашкодай (рэчкай, возерам, морам), якая расступаецца перад героем, быў папулярны ў еўрап. фальклоры, асабліва ў бел. чарадзейных казках. У адпаведнасці з хрысц. традыцыяй С. тлумачыў асн. падзеі кн. «Ісус Навін», у т. л. і цуд з іарданскімі водамі.

Гэта гравюра (105×104 мм) паводле стылю і манеры выканання належыць да найб. самабытных ілюстрацый «Бібліі» і выканана, відаць, майстрам, які рабіў *гравюрны партрэт Ф. Скарыны.* Кампазіцыя вылучаецца прастатой, цэльнасцю, своеасаблівай урачыстасцю. Амаль увесь дрэварыт па дыяганалі займае выява натоўпу людзей — з правага верхняга кутка ў левы ніжні, што дазволіла перадаць дынаміку руху. На чале натоўпу паказаны Ісус Навін, апрануты ў стылізаванае адзенне, са шчытом і кап'ём у руках. Шматфігурная сцэна вырашана адзінай, цэльнай плямай, у якой аднак індывідуальна ахарактарызаваны кожны вобраз. Малюнак большасці фігур вылучаецца дакладнасцю прапорцый, хоць галовы асобных фігур крыху велікаватыя. Тыпаж вобразаў выразна славянскі. Адзенне мужчын і жанчын нагадвае вопратку тагачасных бел. рамеснікаў і сялян. У верхнім левым вугле — герб-сігнет С. Тэхніка гравіроўкі простая, але маляўнічая. Штрыхоўка разнастайная. Выкананыя закругленымі лініямі хвалі рэчкі кантрастуюць з больш дакладнай і строгай штрыхоўкай фігур. Адзенне персанажаў трактуецца кароткімі паралельнымі лініямі, маляўніча, дэкаратыўна выкананы стылізаваныя хвалі мора. Дз. А. *Равінскі* лічыў гравюру адной з лепшых у выданнях С.

*Літ.:* 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**ПЕРВОЛЬФ** Іосіф Іосіфавіч (1841—92), гісторык-славіст. Аўтар твораў «Чэхі і рускія. Гістарычны нарыс іх узаемаадносін» (час. «Беседа», М., 1872. № 7), «Славянская ўзаемнасць з найстаражытнейшых часоў да XVIII ст.» (Спб., 1874), «Славяне, іх узаемныя адносіны і сувязі» (Варшава, 1888. Т. 2; 1893. Т. 3, ч. 2), у якіх прыведзены звесткі і пра дзейнасць С. Ён лічыў, што С. пераклаў усю Біблію і выдаў большую яе частку ў Празе (1517—19). Мову скарынінскай «Бібліі» вызначаў як беларускую або зах.-рускую. Упершыню выказаў меркаванне, што пры перакладзе С. карыстаўся ў асн чэш. Бібліяй (на той час ужо існавала 3 выданні гэтай кнігі), пра што сведчыць наяўнасць чэш. слоў. П. паведаміў, што на Украіне існавалі перапісаныя з выданняў С. рукапісныя Бібліі Васіля Жугаёва з Ярaслава і Дзмітрыя з Зенькава. П. першым звязаў са С. дакументы, якія ў 1862 апублікаваў аўстр. гісторык І. Фідлер. У дакументах былі звесткі пра тое, што адзін з падданых Жыгімонта I ездзіў у *Маскву* з выдадзенай «Бібліяй», але цар загадаў спаліць гэтыя кнігі. Паводле П., імі маглі быць кнігі С. Гэта дало магчымасць вучоным меркаваць, што С. наведаў Маскву. П. адзначыў, што Сымон Будны карыстаўся «Бібліяй» С., калі рабіў пераклад яе на польскую мову ў Нясвіжы. *М. Б. Батвіннік.*

**ПЕРЦАЎ** Уладзімір Мікалаевіч (1877—1960), беларускі сав. гісторык, педагог. Акад. АН БССР (1940), д-р гіст. н. (1935), праф. (1921). Засл. дз. нав. БССР (1944). Аўтар прац па ўсеагульнай гісторыі, гісторыі грамадскай думкі, гісторыі і гістарыяграфіі БССР. У арт. «Грамадзянская дзейнасць і светапогляд Г. Скарыны» (Весці АН БССР. 1948. № 6) даў характарыстыку дзейнасці С. Лічыў яго выхадцам з купецкай сям'і, выключаў магчымасць атрымання адукацыі С. у Пражскім ун-це, сцвярджаў, што друкарня С. ў Вільні згарэла ў 1530 (дакументальна звесткі не пацверджаны). Адзначыў, што друкуючы кнігі, С. бачыў у іх сродак для распаўсюджвання асветы, яны павінны былі абуджаць у чытачоў гонар за іх радзіму, павагу да вялікіх гістарычных заслуг роднага народа. *А. А. Варатнікова.*

**ПЕРШАКРЫНІЦЫ Ў ВЫДАННЯХ Ф. СКАРЫНЫ.** Характэрная рыса выданняў С.— шырокае выкарыстанне разнастайных першакрыніц. Складаючы свае прадмовы, С. выкарыстоўваў найб. сур'ёзныя стараж. і сучасныя яму даследаванні ў галіне тлумачэння і вывучэння гісторыі друкуемых кніг — патрыстычныя традыцыі ісагогікі і экзегетыкі і таго, што зараз завецца біблейскай археалогіяй і крытычным аналізам біблейскіх тэкстаў. Пры перакладзе Свяшчэннага пісання і тлумачэнні яго зместу, філас. і рэліг. сутнасці, гісторыі напісання С., як вучоны і каментатар, апіраўся на найб. аўтарытэтныя крыніцы. Адначасова ён захоўваў свой падыход як у выбары кніг да перакладу, так і ў тлумачэнні, акцэнтацыі ўвагі на пэўных пытаннях і маральна-этычных аспектах тэкстаў, іх ролі ў асвеце ці набыцці практычных ведаў. С. імкнуўся максімальна выкарыстаць вопыт сваіх папярэднікаў. Скарынінскія прадмовы насычаны фрагментамі з разнастайных крыніц. У гэтым заключаецца характэрная традыцыя сярэднявечча і асабісты навук. падыход С. да выдання кніг — імкненне данесці да народа найб. каштоўныя здабыткі чалавечай думкі, духоўны вопыт, высокае разуменне задач асветы. Даступнасць, прастата і яснасць выкладання спалучаюцца ў прадмовах з глыбокім зместам і абгрунтаванасцю, усебаковым выкарыстаннем тагачаснай даследчай думкі і стараж. першакрыніц. У методыцы выкарыстання крыніц С. прытрымліваўся традыцый сярэднявечча. Ён дае асн. палажэнні і думкі не ў сваёй фармулёўцы, а апіраецца на біблейскія тэксты і іх тлумачэнні ў найб. аўтарытэтных аўтараў мінулага. Яго ідэя тлумачэнняў да кніг Бібліі, якія разлічаны на хатняе чытанне, мае свае карэнні ў традыцыі Стараж. Русі.

Паводле сярэдневяковай традыцыі цытуемыя фрагменты ў выданнях С. не ўзяты ў двукоссе, назвы твораў, а часам і іх аўтар не ўказваюцца. У гэтым не было неабходнасці: прызнаныя крыніцы былі шырока вядомы вучоным і багасловам, а для мэт асветы дастаткова было данесці сутнасць асн. думкі або канкрэтныя звесткі. Выкарыстаныя крыніцы ў выданнях С. можна падзяліць на 3 групы: першая, асноўная,— непасрэдныя цытаты біблейскіх тэкстаў Старога і Новага запаветаў (Евангелляў, Дзеянняў апосталаў, апостальскіх пасланняў), патрыстычных твораў з паказам імён аўтараў: *Грыгорыя I Вялікага, Еранімa Блажэннага* і інш.; другая — ананімнае тоеснае або перафразіраванае выкарыстанне вядомых тлумачэнняў тэкстаў Бібліі, напр., урывак з «Глаголанія Августина учителя в прологе Псалтири и иных о силе псалмов» і тэксту Васіля Вялікага ў прадмове да «Псалтыра», цытата з паслання апостала Паўла да рымлян у прадмове да кн. «Прамудрасць божая» і інш.; трэцяя — перафразіроўка ўрыўкаў з вобразнага эмацыянальнага біблейскага тэксту, выкарыстанне яго матыву для больш яскравай і пераканаўчай падачы сваёй думкі — своеасаблівы сінтэз старога і новага, напр., евангельскія радкі «Лисицы имеют норы и птицы небесные — гнёзда, а Сын человеческий не имеет где приклонить голову» (Матф., 8, 2) і шырока вядомыя патрыятычныя радкі С.: «Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих,— тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають» з прадмовы да кн. «Юдзіф» (гл. с. 94). Гэта не толькі свой падыход да традыц. тэксту, але і глыбокае разуменне маст. гучання яго. Невыпадкова С. становіцца тут пачынальнікам своеасаблівай літ. традыцыі: гэты евангельскі матыў пасля неаднаразова выкарыстоўваўся ў творах сусв. л-ры (напр., у вершы І. Буніна «У птицы есть гнёзда, у зверя есть нора...», 1928). Характэрна ўстаўка С. ў прадмове да «Дзеянняў апосталаў» слова «лекарствам» у евангельскі тэкст: «иже не толико жив ест человек хлебом (или лекарством), но более всяким словом, еже походить из уст божиих» (Лука, 4, 4). С. падкрэсліваў, што евангеліст Лука быў урачом і добра ведаў патрэбы чалавека (у гэтым асабістае прачытанне і трактоўка тэксту менавіта доктарам медыцыны). У тэксце «не толькі для сябе нараджаемся на свет, але для агульных даброт» С. па-свойму, у больш шырокім грамадскім плане развіваў думкі з пасланняў апостала Паўла аб сутнасці шчырых адносін чалавека «да блізкага свайго», аб любові да другога чалавека. Нават няпоўны аналіз выкарыстання С. крыніц сведчыць: у тэкстах С. 110 разоў цытуюцца біблейскія кнігі. Стары запавет — 37 разоў: Псалтыр — 10, Быццё — 6, Зыход — 1, Другазаконне — 2, Першая кніга царстваў — 1, Трэцяя кніга царстваў —

2, Першая кніга Параліпаменон — 1, Кніга Прытчаў Саламона — 2, Еклесіяст — 8, Песня песняў Саламона — 1, Кніга пракрока Ісаіі — 3, Кніга прарока Ераміі — 4, Кніга прарока Езекііля — 1, Кніга прарока Даніїла — 2, Кніга прарока Навума — 1, Кніга прарока Авакума — 1; Новы запавет — 73 разы: Евангелле ад Матфея — 15, ад Лукі — 7, ад Марка — 2, ад Іаана — 12, Адкравенне св. Іаана (Апакаліпсіс) —2, Дзеянні апосталаў — 8; апостальскія пасланні — 27 (Іакава — 2, Пятра — 1, Паўла — 24). Адначасова з упамянутымі С. працамі Грыгорыя Вялікага, Ераніма Блажэннага і Феадосія выкарыстаны непасрэдна творы Васіля Вялікага, *Аўгусціна* Блажэннага, адчуваецца выкарыстанне твораў Феадарыта Кіпрскага, Іеранея Ліёнскага, Ісаака і Яфрэма Сірыных, Арыгена і інш. Мяркуюць, карыстаўся і каментарыямі Нікала дэ Ліра.

Даследаванне выданняў С. з боку тэксталагічнага аналізу — аснова далейшага паглыблення ведаў пра методыку яго папулярызатарскай дзейнасці і навукова-выдавецкай спадчыны.

*В. Н. Дышыневіч.*

**«ПЕ́СНЯ ПЕ́СНЯМ»** («Песня песняў»), «Книга премудраго царя Саломона рекомая Песнь песнямъ», пражскае выданне С., якое выйшла ў свет 9.1.1518. Уваходзіць у склад раздзела «Пісанні» Старога запавету. «П. п.» — збор інтымна-лір. песняў, якія не маюць рэліг. характару. Адкрываецца тытульным лістом з гравюрай і назвай кнігі. Тут жа ўказана: «Зуполне выложена на руский языкъ докъторомъ Франъцискомъ Скориною з Полоцька». На арк. 1-м адв.— 2-м адв. змешчана «Предословие доктора Францъциска Скорины с Полоцька в книгу Песнь песням царя Саломона». У ім С. тлумачыць назву кнігі, яе змест, у якім ён бачыць апалогію божай любові, выкарыстанне ў выданні чырвонага колеру. На арк. 3—11-м надрукаваны тэкст 8 раздзелаў «П. п.», на арк. 11-м адв.— пасляслоўе. У ім дадзена кароткая анатацыя кнігі, а таксама ўказана, кім і дзе яна выдана. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання — у чацвёртую долю аркуша. Аб'ём кнігі 12 аркушаў, сабраных у адзін сшытак. Набор выкананы пражскім шрыфтам С.— вышыня 10 радкоў 75 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя змешчана на верхнім баку аркуша ўверсе злева. «П. п.» — адзінае пражскае выданне С., у якім выкарыстаны двухфарбавы друк. Чырвонай фарбай надрукаваны загалоўкі тытульнага ліста, прадмовы, пачатак асн. тэксту, асобных раздзелаў, указанні ў тэксце пра парадак чытання і першая літара пасляслоўяў. Маст. аздоба — гравіраваная на дрэве ілюстрацыя «Хрыстос і нявеста», 2 застаўкі, надрукаваныя з 2 форм, канцоўка і 10 ініцыялаў, надрукаваных з 10 дошак. На адной з вял. заставак (памер 106×53 мм) выява дзяцей-пуцці па краях гербавага шчыта з «зацьменнем сонца» (змешчана перад асн. тэкстам на арк. 3-м), на другой (106×53 мм) —выява «дзікіх людзей» з дубінкамі і ў цэнтры гербавы шчыт з «зацьменнем сонца» (змешчана на пустым арк. 12-м). Канцоўка (50×8 мм) завяршае асн. тэкст кнігі на арк. 11-м. Ініцыялы папярэднічаюць тэксту раздзелаў і інш. тэкстаў.

«П. п.» уведзена ў навук. ўжытак у 1776, калі Л. І. *Бакмейсцер* паведаміў пра канвалют, набыты пецярбургскім кнігагандляром І. Вогакам. У канвалют уваходзілі кн. «Царствы», «Еклесіяст», «Ісус Сірахаў», «П. п.», «Прамудрасць божая», «Іоў» і ўрывак з пражскага «Псалтыра» 1517. Месцазнаходжанне гэтага канвалюта невядома. У 1813 В. С. Сопікаву былі вядомы 2 экземпляры гэтага пражскага выдання С. Адзін з іх знаходзіўся ў б-цы бібліяфіла, заснавальніка «Дэпо манускрыптаў» пецярбургскай Публ. б-кі П. П. Дуброўскага. Сучаснае месцазнаходжанне гэтага экземпляра, што ўваходзіў у канвалют (кн. «Іоў», «Еклесіяст», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Прытчы Саламона», «П. п.»), невядома. Другі ўказаны Сопікавым экземпляр уваходзіў у канвалют са збору Ф. А. *Талстога* (кн. «Ісус Сірахаў», «Іоў», «Прытчы Саламона», «П. п.», «Прамудрасць божая», «Юдзіф», «Эсфір», «Плач Ераміі», «Прарок Даніїл»). У 1829 П. М. *Строеў* апісаў канвалют Талстога некалькі іншага складу («Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «П. п.», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў»). Збіральнік, відаць, сфарміраваў поўны камплект пражскіх выданняў С. з некалькіх канвалютаў, якія належалі яму, перакамплектаваў, дапоўніў і нанава аддаў выданні ў пераплёт. У 1830 збор Талстога быў набыты пецярбургскай Публ. б-кай. Тут канвалют зноў перапляталі, дапоўнілі яго кн. «Іоў», «Плач Ераміі» і «Прарок Даніїл» са збору А. І. Касцерына. Гэты канвалют знаходзіцца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, 1.5. $4^{a}/^{3}$). Экземпляр «П. п.» поўны, гравюра на ім размалявана. У 1836 Строеў апісаў экземпляр, які належаў І. М. *Царскаму;* цяпер ён знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі (ДГМ, Цар. А9), у ім захавалася толькі 7 арк. І. П. *Сахараў* у 1849 увёў у навук. ўжытак экземпляр са збору купцоў Якаўлевых (цяперашняе месцазнаходжанне яго невядома). У 1884 А. С. *Радоскі* апісаў «П. п.» у складзе канвалюта б-кі Пецярбургскай духоўнай акадэміі, які ўключаў таксама кн. «Ісус Сірахаў», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Прамудрасць божая», «Юдзіф», «Эсфір», «Плач Ераміі», «Прарок Даніїл». Канвалют у такім складзе цяпер невядомы. Я. Л. *Няміроўскі* ўвёў у 1968 у навук. ўжытак экземпляры ДПБ $1.5.4^{б}/^{4}$; ДБЛ № 6315, 6523 і 6524, ДГМ, Шчап. 69 і экземпляр Музея ўкр. мастацтва ў Львове Q 1181— № 070518. Экземпляр ДБЛ № 6316 знаходзіцца ў канвалюце са збору Г. П. Георгіеўскага, у яго ўваходзяць таксама «Еклесіяст» і кн. «Царствы». Экземпляр ДБЛ № 6523 уключаны ў склад канвалюта, што раней належаў Навук. б-цы Саратаўскага дзярж. ун-та імя М. Г. Чарнышэўскага, у ім таксама кн. «Эсфір», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Еклесіяст» і «Плач Ераміі». Паходжанне экз. ДБЛ № 6524 невядома. У 1972 Г. Я. *Галенчанка* апісаў фрагмент «П. п.», які належыць Дзярж. б-цы БССР імя У. І. Леніна; ён паходзіць з калекцыі ленінградскага бібліяфіла Камарніцкага, якую ў 1925 набыла б-ка Бел. дзярж. ун-та. Захавалася 9 экз. «П. п.», і толькі адзін з іх (ДБП, $1.5.4^{a}/^{3}$) поўны. Арк. 12-ы з застаўкай таксама ў экз. ДГМ, Шчап. 69.

*Літ.:* 206; 556, с. 87—88, № 5; 668, с. 7.

*Я. Л. Няміроўскі.*

**ПЕТРАШКЕ́ВІЧ** Аляксандр Лявонцьевіч (н. 1930), беларускі сав. драматург. Канд. гіст. н. (1967). Засл. работнік культ. БССР (1975). Лаўрэат Дзярж. прэміі БССР (1976). Працуе ў выд-ве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. Аўтар вострапубліцыстычных п'ес на тэмы сучаснасці, камедыйных твораў. На гіст. тэмы пачаў пісаць з канца 1970-х г. У гіст. драме «Напісанае застаецца» (1978) — арыгінальнае ўвасабленне вобраза С. (асобныя выданні 1979, 1982). Прэм'ера спектакля «Напісанае застаецца (Францыск Скарына)» на рус. мове адбылася 23.12.1978 у Гродзенскім абл. драм. тэатры (рэж. У. Караткевіч), на бел. мове — 23.3.1979 у Бел. драм. т-ры імя Я. Купалы (рэж. А. Шалыгін). Асаблівая ўвага ў п'есе звернута на барацьбу ідэй і светапоглядаў герояў, іх месца ў ідэалаг. барацьбе свайго часу. Аўтар узнімае пытанні сэнсу жыцця, гуманізму, адносін да чалавека, народа, асветы. У п'есе выкарыстаны фрагменты паэмы Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра». Удзельнік Скарынінскіх чытанняў (гл. таксама *Тэатральная Скарыніяна*).

*Літ.:* 880; 886; Вярцінскі А. «Мудрыя людзі раілі...» // ЛіМ. 1979. 13 крас.

*В. Н. Дышыневіч.*

**ПЕТРУШЭ́ВІЧ** Антоній Сцяпанавіч (1821—1913), украінскі гісторык, філолаг, этнограф бурж.-лібер. кірунку. Ганаровы член Маск. археал. т-ва (1894), Пецярбургскай (1904) і Кракаўскай АН. Збіраў пісьмовыя крыніцы па гісторыі Галіцыі, Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы і Беларусі, складаў этымалагічны слоўнік усіх слав. моў у параўнанні з інш. індаеўрап. мовамі (не завершаны). У яго зборы захоўваўся спіс «Пяцікніжжа» С. канца 16 ст. (243 арк. без канца, абрываецца 32-й главой кн. «Другі закон»), сучаснае месцазнаходжанне невядома. Аўтар версіі аб двуіменнасці С., у свой час падначаленай спробе буржуазна-правасл. плыні клерыкалізаваць духоўную спадчыну С. У арт. «Ф. Скарына, выдавец рускай Бібліі ў Празе чэшскай у 1517, 1518 і 1519 гг.» (газ. «Слово». 1875. № 130) коратка апісаў біяграфію і выдавецкую дзейнасць С. Паводле П., С. клапаціўся аб распаўсюджанні праваслаўя на землях зах. Русі. У 1905 прадаў у Царкоўны музей (Львоўскі музей украінскага мастацтва) 4 кн. «Царствы», «Апостал» С., інш. старадрукі. У 1888 на археалагічна-бібліягр. выстаўцы ў Львове экспанаваўся віленскі «Псалтыр» С., які належаў П.

*Літ.:* 249; 728. *Г. Я. Галенчанка.*

**ПЁТР З ГАНЁНДЗА** (Пётр Гезка з Ганёндза; каля 1530—73), гуманіст, ідэолаг левай плебейска-сялянскай плыні радыкальна-рэфарм. руху на Беларусі і ў Літве, антытрынітарый. Скончыў Ягелонскі (Кракаўскі) ун-т (1551), удасканальваў веды ў Італіі, Швейцарыі. У 1554 праф. Падуанскага ун-та. Паслядоўнік рэліг.-філас. вучэння ісп. вучонага М. Сервета і сац.-паліт. ідэй мараўскіх анабаптыстаў. З 1555 пратэстанцкі міністр у Вял. кн. Літоўскім. Пасля выказвання сваіх рэліг. поглядаў на сінодзе польск., бел. і літ. кальвіністаў у Сяцэміне (Польшча) у 1556 накіраваны ў Вітэнберг для дыспуту з Ф. *Меланхтанам*, але яго радыкальныя сац. антытрынітарскія погляды перашкодзілі завяршэнню дыспуту і ён вярнуўся на радзіму. Не

атрымаўся яго дыспут і ў Дзялдове (Польшча) з Паўлам Вергерыем у 1556, пасля якога Вергерый паведаміў М. Радзівілу Чорнаму, што П. з Г. небяспечны ерэтык, вальнадумец, падрывае асновы хрысц. веры. У 1550—60-я г. ўдзельнічаў у антытрынітарскіх сінодах, палемізаваў з Сымонам *Будным*. Адмаўляў царк.-тэалагічную і філас. схаласт. традыцыю. Выступаў супраць прыватнай уласнасці, сац. няроўнасці, войнаў, феад. права, свецкай улады, пакарання смерцю. Пра першы твор П. з Г., які ён у 1556 прывёз у Вітэнберг, звестак не захавалася. За кн. «Пра сына божага, чалавека Хрыста» (Кракаў, каля 1556) Пінчоўскі сінод 1556 адлучыў яго ад кальвіністкай царквы. Паводле загаду Радзівіла Чорнага ўвесь тыраж выдання знішчаны. Каля 1563 выдаў (месца выдання невядома) асн. твор «Аб першахрысціянскай царкве» (не збярогся). Зберагліся толькі яго рэліг.-палемічныя творы, надрукаваныя ў Венграве каля 1570 на польск. мове: «Пра трох», «Пра сына божага», «Пра хрысціянскае хрышчэнне». Яго погляды насілі утапічны характар, але мелі антыфеад. накіраванасць. Падобна С. ў кнігах Свяшчэннага пісання бачыў асн. крыніцу маральных і этычных форм, грамадскіх ідэалаў, кнігадрукаванне імкнуўся выкарыстаць для распаўсюджвання сваіх поглядаў у шырокіх слаях грамадства. Сац. ўяўленні С. і П. з Г. звязваюць пэўныя агульныя рысы — ідэалізацыя раннехрысц. абшчыны, гуманіст. і рацыяналіст. тэндэнцыі, што адлюстраваліся ў іх творчасці. З выданнямі С. і яго дзейнасцю П. з Г. мог пазнаёміцца ў Кракаве, Падуі, Вільні і інш. гарадах Вял. кн. Літоўскага. Яго паслядоўнікі — *Якуб з Калінаўкі*, Павел з Візны, Марцін *Чаховіц*.

*Літ.:* Пренская Ю. И. Общественно-политические взгляды Петра Гонезия // Материалы конференции молодых учёных Академии наук БССР. Мн., 1962; Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (Вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970. *Л. С. Іванова.*

**ПЁТР СВЯТАПО́ЛК** з Зембжыц (к. 1430—97), прафесар тэалогіі Кракаўскага ун-та, бібліяфіл. У 1449 атрымаў вучоную ступень бакалаўра, у 1460 — магістра. Меў багатую б-ку рукапісаў і старадрукаваных кніг (зберагліся 3 рукапісы і 202 інкунабулы). У б-цы былі працы Платона, Сенекі, Цыцэрона, Квінтыліяна, Э. Сільвіо, Пікаломіні. Збор кніг і рукапісаў паступіў у Ягелонскую б-ку ў Кракаве, імі мог карыстацца С. ў час вучобы ў ун-це.

**ПІ́КА ДЭ́ЛА МІРА́НДАЛА** (Pico della Mirandola) Джавані (1463—94), італьянскі мысліцель, пісьменнік, гуманіст эпохі Адраджэння. Вучыўся ва ун-тах Балоны, Ферары, Падуі, дзе засвоіў сярэдневяковую традыцыю *арыстацелізму*, адначасова ўспрыняў культуру філал. *гуманізму*. У 1486 абнародаваў «900 тэзісаў», уводзіны да якіх — «Прадмова аб годнасці чалавека» — адно з самых вядомых сведчанняў рэнесансавага светаўспрымання. «Тэзісы» былі асуджаны папскай курыяй. Адстойваў веліч, годнасць чалавека, яго самастойнасць адносна ўсякай надпрыроднай і надсацыяльнай сілы. Лічыў, што ўсе рэлігіі — толькі крок да ісціны, якая дасягаецца спалучэннем і развіццём розных крыніц: хрысціянства, грэч. філасофіі, тайнай мудрасці, магіі і да т. п. Мэта і кіруючая ідэя яго ўяўнай эклектыкі — пазнанне прыроды і сцвярджэнне самастойнай чалавечай асобы. П. д. М.— папярэднік ням. і інш. гуманістаў-рэфарматараў і іх гіст. крытыкі Бібліі. С. мог пазнаёміцца з творамі і вучэннем П. д. М. ў Кракаве, Падуі або ў інш. гарадах Еўропы. Павага італьян. мысліцеля да годнасці чалавека, свабодная інтэрпрэтацыя Бібліі, уключэнне ў яе склад многіх некананічных фрагментаў — усё гэта павінна было імпанаваць С. У арт. «Францыск Скарына і руская рукапісная кніжная традыцыя XV ст.» (1979) Т. М. Капрэева ўпершыню ў л-ры выказала ўпэўненасць у тым, што С. прымаў канцэпцыю чалавечай годнасці П. д. М. і следаваў ёй. Даследчыца спаслалася на прадмову да 4-й кн. «Ездры», якая была ім падрыхтавана, але не выдадзена і вядома па спісу 16 ст. (на думку вучоных, зроблены са скарынінскага перакладу). 4-ю кн. «Ездры» С. лічыў карыснай для культурна-асв. мэт сваёй дзейнасці: «Пишется предмова на IV книги Ездрыны учителя. Не единому же не буди то чудно и же сии четвертыи книги Ездры межы иными Закона Божыя книгами положены суть... О них измену и звлаща святый Герасим, Исидорис и Брито, а за наших часов люди учинены Пикоус (делла) Мирандоула и такоже и иные мнози» (Дзярж. Публ. б-ка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе, Пагодзінскі спіс, № 85, арк. 34). Нельга аспрэчваць факт прыналежнасці тэксту С., аднак падстаў для вываду, што ён падтрымліваў канцэпцыю П. д. М., у дадзеным тэксце недастаткова. З прадмовы можна зрабіць вывад, што С. быў знаёмы з творчасцю П. д. М., што ён лічыў італ. гуманіста вядомым і вучоным чалавекам. С.— прыхільнік рэнесансавага разумення чалавека і яго годнасці,— магчыма, зазнаў пэўны ўплыў светапогляду італ. гуманіста.

*Літ.:* Брагина Л. М. Этические взгляды Джованни Пико делла Мирандола//Средние века. М., 1965. Вып. 28; Культура эпохи Возрождения и Реформация. Л., 1981.

*Э. К. Дарашэвіч.*

**ПІЧЭ́ТА** Уладзімір Іванавіч (1878—1947), савецкі гісторык. Акад. АН СССР (1946). Аўтар даследаванняў па гісторыі Расіі, Беларусі, Літвы, Польшчы, Чэхіі, першай абагульняльнай гістарыяграф. працы, прысвечанай вывучэнню дзейнасці С. «Scoriniana» (Чатырохсотлецце беларускага друку. 1525—1925. 1926). Агляд пабудаваны па храналагічна-тэматычным прынцыпе: 1-ы раздзел — навук. і папулярныя працы, публікацыя дакументаў да канца 1880-х г., 2-і — манаграфія П. У. Уладзімірава «Доктар Францыск Скарына», 1888; 3-і — даследаванні канца 19 — пач. 20 ст.; 4-ы — даследаванні сав. часу. Дакладна ўлічаны публікацыі актаў, амаль усе новыя звесткі пра С., выяўленыя І. А. Шляпкіным, А. І. Мілавідавым і інш. вучонымі, бібліяграф. працы (Л. І. Бакмейсцера, І. Г. Штрытэра, П. А. Аляксеева, В. С. Сопікава, І. П. Каратаева і інш.). Навукова-крытычна прааналізаваны праблемы, якія цікавілі даследчыкаў: біяграфія бел. першадрукара, друкарская, выдавецкая, літаратурная творчасць, маст. асаблівасці выданняў, грамадскія і рэліг. погляды, уплыў спадчыны С. на развіццё бел. і ўсх.-слав. культуры. П. зрабіў вывад, што адзінай арыгінальнай працай, прысвечанай С. за 150 гадоў з пачатку вывучэння яго дзейнасці, было даследаванне Уладзімірава. Ён лічыў неабходным нанава вывучыць дзейнасць С. як выдатнага гуманіста эпохі еўрап. Адраджэння на шырокім фоне матэрыяльнага, сац.-паліт., культ. жыцця Вял. кн. Літоўскага. У тым жа юбілейным зборніку, дзе была змешчана «Scoriniana», надрукаваны артыкулы П. пра Адраджэнне на Беларусі, развіццё бел. кірыліцкага кнігадрукавання 16—17 ст. Аўтар нарыса «Культура Беларусі ў XVI ст.» (у яго кн. «Беларусь і Літва XV—XVI стст.» М., 1961), у якім падкрэсліваў, што дзейнасць найвялікшага гуманіста-асветніка Беларусі не была адасобленай, у пэўных межах яна падтрымлівалася гар. правасл. патрыцыятам Вільні, тым сац. асяроддзем, якое бачыла неабходнасць асветы дзеля ўмацавання сваіх нацыянальна-культ. пазіцый. Ставіў пытанне пра мэтазгоднасць больш разгорнутага сацыякультурнага аналізу дзейнасці С., звяртаў увагу на памылковасць вывадаў тых даследчыкаў светапогляду бел. асветніка, якія жорстка звязвалі яго пераконанні з тым або інш. канфесіянальным кірункам. Узнікненне бел. кнігадрукавання П. звязваў з працэсам экан., паліт., культ. развіцця Беларусі ў 16 ст., ростам гарадоў, завяршэннем фарміравання бел. народнасці, значнымі сац.-класавымі зрухамі. Асаблівая ўвага даследчыка аддадзена патрыятычным, грамадскім, сац.-прававым поглядам С., яго асв. намаганням. Супярэчліва акрэслены някат. аспекты светапогляду С. (уплыў гусіцкага руху, царк.-схаласт. традыцый і інш.). Лічыў перспектыўнай думку пра сувязь дзейнасці С. з рэфармац. рухам свайго часу. Працы П. вызначылі асн. напрамкі вывучэння дзейнасці С. для ўсяго пазнейшага сав. скарыназнаўства.

*Літ.:* 312. *Г. Я. Галенчанка.*

**ПІЯТУХО́ВІЧ** Міхаіл Мікалаевіч (1891—1938), беларускі сав. літ.-знавец, правадз. чл. Ін-та бел. культуры (1922), праф. (1926). У арт. «Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасць» (Чатырохсотлецце беларускага друку. 1525—1925. 1926); «Францыск Скарына і яго літаратурная дзейнасць» (Асвета. 1925. № 7); «Францыск Скарына і беларускае адраджэнне» (Малады араты. 1925. № 14) разглядаў творчасць С. як вынік канкрэтна-гіст. развіцця Беларусі канца 15 — пач. 16 ст. Характарыстыку светапогляду С. імкнуўся суаднесці з сац.-эканам. тэндэнцыямі бел. грамадства таго часу — развіццём феад.- натуральнай гаспадаркі і першапачатковых, пераважна ў сферы гандлю, элементаў капіталізму. Не пазбег даніны вульгарнаму сацыялагізму — спрабаваў механістычна «падцягнуць»

погляды С. пад яго сацыяльнае (з купецкай сям'і) паходжанне. Творчасць С. разглядаў як вынік сувязі «з гандлёвым капіталам» і нібы падначаленую «да патрэб капіталу». Аднак гэтаму памылковаму вываду аўтар пярэчыў сам, калі звяртаў увагу на дэмакр. нар. накіраванасць кніг С., адрасаваных «людзям простым, паспалітым». Вершаваныя спробы ў творах С. разглядаў як пачаткі сілабічнага вершаскладання, што пашырыліся ў 17 ст. ў рэліг. л-ры Беларусі і Украіны. Творчасць С., на думку П.,— адно з канкрэтных нац. праяўленняў агульнаеўрап. культ. працэсу эпохі Адраджэння. *А. К. Каўко.*

**ПЛАТО́Н** (Plátōn) Афінскі (427—347 да н. э.), стараж.-грэч. філосаф, заснавальнік платанізму. Вучань *Сакрата,* стварыў у Афінах уласную школу — Акадэмію (каля 387). Большасць твораў П. напісана ў форме дыялогу; яны закранаюць практычна ўсе галіны навук. і філас. ведаў свайго часу, адрозніваюцца высокімі маст. якасцямі, але не прадстаўляюць вучэнне П. ў сістэматычным выглядзе.

Этычная праблематыка з'яўляецца зыходнай і пранізвае ўсе раздзелы філасофіі П. Асн. метадам свайго вучэння П. лічыў дыялектыку — падзел адзінага на многае і звядзенне многага да адзінага, пры дапамозе чаго ўстанаўліваецца сэнс або «ідэя» кожнай рэчы. П. распрацаваў асновы аб'ектыўнага ідэалізму. Сцвярджаў, што ахопліваемыя розумам абсалютныя і вечныя ідэі — першаасновa і першапрычына пачуццёвага свету, а структура быцця ўключае 3 асн. субстанцыі — «адзінае», «розум» і «душу». Паколькі ідэя «дабра» ў філасофіі П. пануе над усім, ён лічыў, што ў свеце існуе мэтазгодны парадак: усё накіроўваецца да добрай мэты. Гэтаму служыць і чалавечае пазнанне, таму што без ідэі «дабра» веды бескарысныя. У гэтым кантэксце П. дэталёва даследаваў праблемы касмалогіі, гнасеалогіі, псіхалогіі, палітыкі, этыкі, эстэтыкі і інш. Паклаў пачатак ідэаліст. лініі ў філасофіі, якую У. І. Ленін назваў «лініяй Платона».



Платон.

«**Плач Ераміі**». Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Плач Ераміі» Ф. Скарыны.



Вучэнне П. моцна паўплывала на развіццё сусв. філасофіі і культуры старажытнасці сярэднявечча. На ўсх.-слав. землях ідэі П. пашырыліся ўжо ў эпоху Кіеўскай Русі, адлюстраваліся ў светапоглядзе Іларыёна, Кірыла Тураўскага, Клімента Смаляціча і інш. У 14—15 ст. на тэрыторыі Беларусі пачалі паяўляцца рукапісныя зборнікі рэліг. характару, у якіх меліся асобныя фрагменты або пераказы платонаўскага вучэння, што ўключаліся ў творы візант. і патрыстычнай л-ры (Яфрэма Сірына, Іаана Златавуста і інш.). У эпоху С. інтарэс да П. ў бел. грамадскай думцы рэзка ўзрос. Яго трактавалі ўжо не толькі як язычніцкага папярэдніка хрысц. светапогляду, але перш за ўсё як узор жыццёва-маральнай мудрасці і сац.-паліт. мыслення. Ва ўмовах рэфармацыйна-гуманіст. руху на Беларусі П. стаў адным з найб. папулярных антычных аўтараў. Яго кнігі зберагаліся ў многіх асабістых б-ках (асабліва «Дзяржава» і «Законы»), іх творча выкарыстоўвалі бел. мысліцелі — С., Сымон Будны, Андрэй Волан і інш. Знаёмству С. з вучэннем П. скрозь прызму рэнесансава-гуманіст. каштоўнасцей садзейнічала вучоба С. на факультэце «вольных мастацтваў» Кракаўскага ун-та, дзе вучэнне стараж.-грэч. філосафа мела вял. аўтарытэт. У Італіі С. пазнаёміўся з адраджэнскім платанізмам *(Мікалай Кузанскі, М. Фічына, Піка дэла Мірандала).* Найб. яркі ўплыў платонаўскай традыцыі на фарміраванне гуманіст. светапогляду С. сказаўся ў разуменні філасофіі як практычнай мудрасці, што дае адказы на праблемы, якія стаяць перад чалавекам: «абы, научившися мудрости», людзі «добре живучи на свете» (гл. с. 37). Услед за П. бел. гуманіст лічыў, што аснова маральнасці чалавека — інтэлектуальнае ўдасканаленне, а правільны маральны выбар залежыць ад узроўню ведаў чалавека пра свет і пра сябе: «Без мудрости и без добрых обычаев не ест мощно, почстиве жити людем посполите на земли» (гл. с. 37). Да П. ўзыходзіць маст.-эстэт. ўяўленне С. пазнавальнай дзейнасці чалавека, яго разумнай мудрасці, якая «якобы моць в драгом камени, и яко злато в земли» (гл. с. 36). Блізкія П. погляды С. на ідэал дзярж. ладу (апіраецца на законы, «права земская») і на ідэал асветнага гасудара, які кіруецца інтарэсамі грамадскага дабра: «справедливе, что справедливаго ест чините, абы есте живи были и владели землею» (гл. с. 100). Такіх

гасудароў С. бачыў у стараж.-грэч. і рымскіх царах-заканадаўцах — *Салоне,* Лікургу, *Нуме Пампілії* і інш. Маральнаэтычныя і рацыяналіст. рысы платанізму глыбока праніклі ў светапогляд С. Адзначаная ім у прадмове да кн. «Ісус Сірахаў» «Аристотелева божественная и житейская мудрость» уключае ў сябе ідэі П.— настаўніка Арыстоцеля.

*Тв.:* Соч. Т. 1—3. М., 1968—72; Диалоги: Пер. с древнегреч. М., 1986.

*Літ.:* Лосев А. Ф. История античной эстетики: Софисты, Сократ, Платон. М., 1969; Асмус В. Ф. Платон. М., 1975; Платон и его эпоха. М., 1979; Гарэн Э. Платонизм и достоинство человека// Гарэн Э. Проблемы итальянского Возрождения: Избр. работы: Пер. с итал. М., 1986. *Г. У. Грушавы.*

**ПЛАТО́НАЎ** Юрый Анатолевіч (н. 1958), беларускі сав. скульптар. У 1985—86 на аснове гравюрнага партрэта з «Біблії» стварыў пагрудную выяву маладога С. ў доктарскай мантыі (гіпс, 85×88×53 см; Цэнтральная б-ка г. Салігорска; 2-гі варыянт у калекцыі А.Я.Белага).

**«ПЛАЧ ЕРАМІІ»,** «Еремиа пророкъ господень плачеть гледя на Ерусалим», гравюра на тытульным лісце *кнігі «Плач Ераміі»,* выдадзенай С. у Празе (1519).

У аснове сюжэта гіст. падзеі, апісаныя ў Бібліі,— заваяванне Навуходаносарам II Іудзеі і разбурэнне Іерусаліма. Прарок Ерамія пасля падзення Іерусаліма застаўся «с людми убогими» і плакаў, гледзячы на некалі вялікі, а цяпер абясслаўлены горад, дзе збылося яго прароцтва аб спусташэнні Вавілонам Іудзеі і Ізраіля.

Кампазіцыя гравюры «П. Е.» (памер 105×105 мм) пабудавана на суадносінах выявы Ераміі і гар. краявіду. На невялікім узгорку прарок з кнігай у левай руцэ, правая прыціснута да грудзей; на галаве ў яго шапка з вострым верхам, на плячах шырокая накідка. У выяве горада на пярэднім плане ўязная брама, шматлікія мураваныя будынкі. Неба перададзена гарызантальнымі лініямі. Уверсе гравюры штрыхоўка, якая, відаць, паказвае пажар. Па кампазіцыі і дасканаласці прапрацоўкі гэта гравюра адна з найлепшых у выданнях С. Асабліва вылучаецца фігура Ераміі: вобраз прарока перададзены з вялікім псіхалагізмам, адзенне, выразны твар падкрэсліваюць драматызм эмацыянальнага настрою; выдатна вырашаны суадносіны фігуры з гар. краявідам. Штрыхоўка скрозь сакавітая, энергічная, маляўнічая. Па ўмоўнай стыліст. класіфікацыі «П. Е.» належыць да т. зв. манументальных гравюр. Яна пазначана гербам-сігнетам С. (злева ўнізе). Хутчэй за ўсё, стваральнік дрэварыту — манаграміст МЗ. У л-ры выказваліся розныя меркаванні пра паходжанне гэтай кампазіцыі. П. У. *Уладзіміраў* лічыў, што краявід Іерусаліма «змаляваны» з выявы Падуі, змешчанай у «Сусветнай хроніцы» Г. *Шэдэля.* М. *Шчакаціхін* даказаў памылковасць такой трактоўкі. Гравюру «П. Е.» можна лічыць самастойнай, арыгінальнай працай, зробленай спецыяльна для кн. «Плач Ераміі» С.

*Літ.:* 564; 792. *В. Ф. Шматаў.*

**ПО́ЗНАНЬ** (Poznań), горад у Польшчы. Важны паліт. і культ. цэнтр краіны.



Герб **Познані.** 16 ст.



**Познань.** Ратуша. 16 ст.



Ю. Платонаў. Францыск Скарына. 1986

П.— адзін з стараж. велікапольскіх гарадоў. У 15—16 ст. буйны гандлёва-рамесны цэнтр, што злучаў Паўд. Германію з Мазовіяй, Вял. кн. Літоўскім, Расійскай дзяржавай. У 2-й чвэрці 16 ст. ў П. існавала каля 20 рамесных цэхаў і купецкіх брацтваў. З П. гандлявалі бел. і літ. купцы з Вільні, Брэста, Гродна, Пінска і інш. гарадоў. Здаўна меў магдэбургскае права. Архіт. аблічча вызначалі магутныя вонкавыя ўмацаванні (мураваныя сцены, вежы), княжацкі замак, манастыры і касцёлы. У 1519 заснавана першая ў Польшчы сярэдняя школа (Акадэмія Любранскага), апякаемая Кракаўскім ун-там, у дзейнасці якой выразліва адчуваліся гуманіст. і рэфарм. павевы. На рыначнай плошчы былі сканцэнтраваны асн. грамадскія ўстановы: каменная ратуша, «Герда», дзе важылі тавары, і інш. У 1-й пал. 16 ст. друкарняў у П. не было, аднак дзейнічалі буйныя пераплётныя майстэрні. Пазнанскія бібліяполы (гандляры кнігамі) нярэдка паяўляліся ў Вільні і інш. гарадах Вял. кн. Літоўскага.

У 1529 тут памёр старэйшы брат С., купец Іван Скарына, пакінуўшы ў «піўніцах» дома Якуба Корба значную частку сваіх нераспраданых тавараў (258 «юхтей», 500 скур меншых, 10 — рысіных, 46 500 — «обычных»). Фінансавыя прэтэнзіі на спадчыну нябожчыка прад'явілі яго гандл. кампаньён, пазнанскі радца Клаус Хаберлант, Якуб Корб, слуга Еська Стафановіч, а таксама С., які абараняў інтарэсы сваёй жонкі Маргарыты. У пакрыццё доўгу С. атрымаў 26 000 малых скур, у т. л. 2500 за пастаў ліёнскага сукна. У 1531—32 варшаўскія крэдыторы Лазар і Майсей, якім Іван Скарына астаўся вінен 412 злотых, прад'явілі іск С. як удзельніку гандлёва-прадпрымальніцкіх аперацый яго брата і наследніку. Каля 10 тыдняў С. быў вязнем пазнанскай турмы. У ходзе судовага разбору ён выставіў сустрэчны іск за нанесеную яму шкоду. Пляменнік С.— Раман, прыбыўшы з Гданска, зрабіў заяву, што ён, як сын, з'яўляецца асн. наследнікам Івана Скарыны. Невядома, чым скончыўся судовы працэс, але фінансавыя прэтэнзіі са С. былі зняты. У сярэдзіне 1530-х віленскі біскуп *Ян,* у якога С. служыў сакратаром і лекарам, быў зацверджаны пазнанскім біскупам. Урачысты прыезд Яна ў П. адбыўся 14.3.1537. Магчыма, і С. ў сувязі з гэтым таксама наведаў П.

*Літ.:* 312; 456. *Г. Я. Галенчанка.*

**ПО́ЛАЦК** (летапіс. Полотеск, Полотьск, Полтеск, паводле скандынаўскіх саг Paltesjuborg), адзін з самых старажытных гарадоў усх. славян; цяпер горад абл. падпарадкавання, цэнтр Полацкага р-на Віцебскай вобл., на р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе р. Палаты (адсюль назва), радзіма С.

Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 862. Заснаваны крывічамі. Быў гал. цэнтрам полацкіх крывічоў, якіх летапіс называе палачанамі. З канца 9 ст. разам з Полацкай зямлёй (тэр. ў басейнах Зах. Дзвіны, Бярэзіны, Нёмана) уваходзіў у склад Кіеўскай Русі. Першы гістарычна вядомы полацкі князь Рагвалод (варажскае імя Рогвільд), паводле летапісу, прыйшоў «з-за мора». Стаў полацкім князем у 960—970-я г. Сын Уладзіміра і Рагнеды, унук Рагвалода Ізяслаў Уладзіміравіч (з 988 князь полацкі, памёр у 1001) стаў родапачынальнікам самастойнай дынастыі полацкіх князёў — Рагвалодавічаў. У 10—13 ст. П.—

цэнтр буйнога Полацкага княства — аднаго з самых стараж. усх.-слав. княстваў. З 10 ст. ён — важны рамесны, гандл. і культ. цэнтр. Зручнае геагр. становішча на гандл. шляхах спрыяла хуткаму эканам. і культ. развіццю горада. Тут былі развіты кавальскае, ювелірнае, касцярэзнае, гарбарнае, шавецкае, каменячоснае, ганчарнае, дрэваапр. рамёствы, працавалі майстры залатых спраў. Пры Усяславе Брачыславічу (1044—1101) Полацкае княства дасягнула найб. росквіту і стала канкурэнтам Кіева (у 1068—69 Усяслаў быў кіеўскім князем). З пач. 12 ст. ў выніку феад. драблення Полацкай зямлі на ўдзелы і аслаблення княжацкай улады ўзрасла роля веча, якое ўзначальвалі баяры і якое абапіралася на апалчэнне гараджан. З дапамогай веча баярства абмяжоўвала ўладу князя. З 1105 (магчыма і раней) у П. існавала самастойная епіскапская кафедра. У 12 ст. ў П. дзейнічала асветніца *Ефрасіння Полацкая*. Яна перапісвала царк. кнігі і, мяркуюць, пісала летапісы і арыгінальныя творы. У гэты ж час у П. працавалі дойлід Іаан, майстар-ювелір Лазар Богша, які ў 1161 стварыў шэдэўр стараж.-рус. эмальернага мастацтва — крыж Ефрасінні Полацкай. У 1-й пал. 12 ст. Полацкае княства працягвала барацьбу з кіеўскімі князямі за паліт. самастойнасць. У 1127 князі Полацкай зямлі разбіты і захоплены кааліцыяй паўд.-рус. князёў на чале з сынам Уладзіміра Манамаха кіеўскім кн. Мсціславам Уладзіміравічам. Праз год полацкія князі высланы ў Візантыю (у 1140-я г. яны вярнуліся на радзіму). У 1132 полацкае веча выгнала Святаполка Мсціславіча і пасадзіла на прастол прадстаўніка полацкай дынастыі — Васільку Святаславіча. Барацьба за П. закончылася адасабленнем Полацкага княства ад Кіева і дасягненнем паліт. незалежнасці. У 2-й пал. 12 ст. ў паліт. жыцці горада ўзрасла роля гандлёва-рамесніцкага насельніцтва, аб чым сведчыць існаванне купецкіх арганізацый — братчын. У пач. 13 ст. жыхары П. разам з лівамі, латгаламі і эстамі змагаліся супраць ням. крыжакоў, якія ўварваліся ў Прыбалтыку, захапілі гарады Полацкай зямлі Кукенойс і Герцыке. Полацкае баярства і багатае купецтва, баючыся актыўнасці гараджан і агрэсіі крыжакоў, пайшло на кампраміс з літ. феадаламі і ў 2-й пал. 13 ст. запрасіла іх у горад. У 1262—63 у П. княжыў Таўцівіл, пляменнік вял. князя літоўскага Міндоўга, а пасля яго кн. Гердзэнь. Некат. час пасля іх зноў княжылі з мясц. дынастыі Ізяславічаў. У 14 ст. князем у П. быў Канстанцін Бязрукі — сын Таўцівіла. Палачане вялі гандаль з Рыгай; самастойна заключаючы з ёй дагаворы (гл. ў арт. *Полацкае права*). Мірныя адносіны часам перапынялі ваенныя дзеянні з Лівонскім ордэнам. У 1307 П. афіцыйна ўвайшоў у склад Вял. кн. Літоўскага. Для Полацкай зямлі была захавана аўтаномія, замацаваная т. зв. Полацкімі прывілеямі — велікакняжацкімі граматамі, пацверджанымі ў 1-й пал. і ў канцы 14 ст., 1430-я гг., 1451, канца 15 ст., 1511, 1547, 1580, 1593, 1634. Паводле гэтых прывілеяў велікакняжацкая ўлада гарантавала недатыкальнасць зямельных уладанняў полацкіх баяр, духавенства і мяшчан, абавязвалася назначаць у П. толькі намеснікаў са згоды баяр і гараджан. У «Хроніцы Польшчы» Я. Чарнкоўскага пад 1382 П. названы замкам (крэпасцю) Белай Русі (у дачыненні да зямель Беларусі тэрмін «Белая Русь» ужыты тут упершыню). У 1-й пал. 14 ст. належаў князю Воіну, брату Гедыміна, потым Нарымунту (Глебу) Гедымінавічу, а пазней сыну Альгерда Андрэю Полацкаму. З 1392 Полацкам кіравалі стаўленікі велікакняжацкай улады — намеснікі; горад амаль не меў паліт. самастойнасці. Велікакняжацкай граматай Аляксандра ў 1498 П. атрымаў самакіраванне паводле магдэбургскага права. Быў створаны выбарны орган самакіравання — магістрат. Падчас феад. вайны ў Вял. кн. Літоўскім (т. зв. паўстанне Свідрыгайлы 1432—39 за пашырэнне паліт. правоў бел. і ўкр. феадалаў) у 1432 вял. кн. Свідрыгайла Альгердавіч уцёк у П., дзе яго падтрымалі бел. князі і баяры. У 1436 Жыгімонт Кейстутавіч авалодаў П. і Віцебскам. Пашырэнне Казімірам IV Ягелончыкам эканам. і паліт. прывілеяў бел. феадалам, прызнанне аўтаноміі Полацкай зямлі, агульназемскі прывілей 1447 для ўсіх феадалаў дзяржавы, а таксама для мяшчан згладзілі вастрыню канфлікту.



Герб **Полацка.** 16—18 ст.

У 1504 створана Полацкае ваяводства (у 1772 увайшло ў склад Расіі, існавала да 1793). Ваяводу назначаў вял. князь са згоды мясц. баярства і гараджан П. У 1498 у П. заснаваны кляштар бернардзінцаў, аднак у 16 ст. католікаў у П. было мала, аб чым сведчыць Полацкая рэвізія 1552 (нават сярод феадалаў, уладальнікаў маёнткаў у Полацкім ваяводстве — 144 праваслаўных і 10 католікаў). У 1503 вял. кн. Аляксандр зацвердзіў полацкаму правасл. архіепіскапу правы і прывілеі суда па пытаннях царк. і грамадскага і па справах сям. жыцця насельніцтва. Паводле Полацкіх прывілеяў архіепіскап узначальваў мясц. сейм Полацкай зямлі, а потым Полацкага ваяводства да адміністрац. рэформы 1564—66, калі былі ўтвораны шляхецкія сеймікі. У велікакняжацкім прывілеі 1441 П. названы адным з буйнейшых гарадоў дзяржавы. У грамаце 1510 упамінаецца 19 рамесных спецыяльнасцей у П. і «всякого рода ремесла люди». У канцы 15 ст. ў П. была «пастрыгальня», дзе рабілі стрыжку сукнаў, топніца («капніца»), у якой старапліваўся і штэмпеляваўся воск, млын на Палаце. Тут будавалі і рамантавалі гандл. судны. П. гандляваў з бел. гарадамі, рус. землямі, праз Зах. Дзвіну і Балтыйскае мора з зах.-еўрап. дзяржавамі. У 14—16 ст. з П. вывозілі воск, футра (мясц. і з рус. зямель), смалу, дзёгаць, скуры, сала, хмель, пянька, лён, рамесніцкія вырабы (у т. л. гарбарныя і рымарскія), жыта і крупы. У П. увозіліся фламандскія, ням. і англ. сукны, галандскае і вестфальскае палатно, селядцы, віно, жалеза, медзь, волава, свінец і гатовыя рамесніцкія вырабы з металу, з Францыі — соль, перац, імбір, шафран, мускат, гваздзіка. Шмат чаго з гэтых тавараў ішло ў інш. гарады Беларусі і Рус. дзяржавы.

Першапачатковае гарадзішча, дзе ўзнік П., было размешчана на правым беразе Палаты, на месцы паселішча днепра-дзвінскай культуры. У 9 ст. гарадзішча П. складала плошчу каля 1 га. Каля гарадзішча знаходзілася невял. паселішча. У 2-й пал. 10—11 ст. на берагах Палаты і на правым беразе Зах. Дзвіны фарміраваліся пасады. На правым беразе Зах. Дзвіны пры ўпадзенні ў яе Палаты ўтварыўся новы ўмацаваны цэнтр (пл. каля 10 га), які ў 11—17 ст. з'яўляўся дзядзінцам («градам») П. Ён быў акружаны абарончым валам. На ўсход ад яго ў канцы 10—11 ст. засяляўся Вялікі пасад. У 12—13 ст. горад займаў плошчу каля 80 га і меў каля 8 тыс. жыхароў. У гэты час ён разросся і складаўся з дзядзінца (Верхні замак, назва ўзнікла пасля буд-ва ў 1552 Ніжняга замка), вакольнага горада (пазней Ніжні замак), Вялікага пасада (уздоўж правага берага Зах. Дзвіны) і пасада Запалоцце (на правым беразе Палаты). У 12 ст. ўзнікла полацкае прадмесце Бельчыцы, дзе знаходзілася рэзідэнцыя полацкіх князёў. Археал. раскопкі паказваюць, што горад быў цесна забудаваны драўлянымі будынкамі. Жылыя дамы разам з клецямі, хлявамі і інш. пабудовамі складалі асобныя двары (найчасцей пагоннага тыпу), агароджаныя частаколамі, з варотамі на вуліцу. Вуліцы высцілалі драўлянымі маставымі. Хаты былі зрубныя, пераважна аднака-



План **Полацка.** З гравюры 16 ст.

мерныя, прамавугольныя, часцей квадратныя ў плане, даўжынёй 3—5 м. Рубілі іх з сасновых бярвёнаў тэхнікай вуглоў «у абло з астаткам». Зрубы ставілі на плахі, часам абносілі прызбамі. Некат. хаты мелі ніжнія гасп. памяшканні — падклеці, а на жылы паверх вяла вонкавая лесвіца-ганак. Аконныя і дзвярныя праёмы размяшчаліся высока. Дах звычайна быў двухсхільны, з драніцы, якую ўкладвалі на падоўжныя сволакі, а ніжні тарэц пакрыцца ўмацоўвалі закрылінамі, устаўленымі ў какошыны (дах «закотам»). У 11—12 ст. П.— найб. буйны на тэр. Беларусі архітэктурна-маст. цэнтр. Гэты перыяд у гісторыі культуры П. характарызуецца высокім уздымам будаўнічага майстэрства. У 11 ст. на Верхнім замку візант. майстрамі пабудаваны першы на Беларусі помнік мураванай архітэктуры — *Полацкі Сафійскі сабор.* Яго буд-ва звязана з уздымам Полацкага княства, якое дамагалася незалежнасці ад Кіева і таму пабудавала ў сваім «стольным» горадзе свой Сафійскі сабор.

У 12 ст. ў П. складваецца адна з найб. яркіх у стараж.-рус. архітэктуры самабытная *Полацкая школа дойлідства,* якая вызначыла кірункі развіцця Смаленскай і ў значнай ступені паўплывала на Наўгародскую і школы інш. зямель Русі 12—16 ст., у т. л. пазней і на Маскоўскую школу дойлідства. Найбольш яркі прадстаўнік гэтай школы — полацкі дойлід 12 ст. Іаан. У наш час захаваўся толькі адзін помнік гэтай школы — *Полацкая Спаса-Ефрасіннеўская царква* (у рэштках падмуркаў таксама храм на Верхнім замку і *Полацкія княжацкія палаты,* 3 храмы ў Бельчыцах). У Спаса-Ефрасіннеўскай царкве ўвасобіліся ўсе найважнейшыя канцэпцыі полацкай архітэктуры, распрацоўка цэнтрычнай вежападобнай кампазіцыі храма, які фактычна стаў храмам-помнікам, сімвалам незалежнасці палачан. Знойдзеныя пры археал. даследаваннях і рэстаўрацыйных работах фрагменты фрэсак сведчаць аб фарміраванні ў П. ў 11—12 ст. надзвычай яркай і самабытнай школы манументальнага жывапісу. Высокага ўзроўню дасягнула дэкаратыўна-прыкладное, у прыватнасці ювелірнае, мастацтва. Паліт. аслабленне Полацкага княства ў 2-й пал. 12 ст., яго драбленне на шэраг невял. феад. удзелаў прывяло да заняпаду ў канцы 12 ст. Полацкай школы дойлідства. У 13 ст. мураванае манумент. буд-ва ў П. ужо не вялося. Відаць, усе манумент. пабудовы гэтага часу былі драўляныя. У 14 ст. заселены левы бераг Зах. Дзвіны.

У 15—16 ст. П. складаўся з Верхняга і Ніжняга замкаў (гл. *Полацкія замкі*) і 6 пасадаў: Вялікага, Запалоцкага, Востраўскага, Якіманскага і Крыўцова (за Зах. Дзвіной), Слабадскога (уздоўж р. Бельчыцы). У сярэдзіне 16 ст. на тэр. Верхняга замка было 130 дамоў, 5 вуліц і 2 завулкі, а ўсяго ў П. было да 80 вуліц і завулкаў. Мост праз р. Палату злучаў Верхні замак з Вялікім пасадам, у якім у 1552 налічваўся 771 двор. Другі мост злучаў Верхні замак і Запалоцце (191 двор). Востраўскі пасад меў 153 двары, Якіманскі — 269, Слабадскі — 103 двары. Горад быў абнесены ўмацаваннямі — валам і частаколам. Агульная даўжыня гар. сцен складала каля 5 км. Насельніцтва ў 16 ст. налічвала больш за 10 тыс. чалавек. У часы С. гэта быў найвялікшы горад на Беларусі. С. нарадзіўся ў сям'і полацкага купца. У П. прайшлі яго дзяцінства і юнацкія гады. Тут ён атрымаў першапачатковую адукацыю. Паводле Л. І. *Уладзімірава,* у П. пры каталіцкім касцёле св. Францыска пры манастыры



Да арт. **Полацк.** Фрэска ў Спаса-Ефрасіннеўскай царкве ў Полацку. 12 ст.



Да арт. **Полацк.** Пячаткі Ефрасінні Полацкай. 12 ст.

бернардзінцаў, відаць, вывучаў лац. мову. Успаміны пра сваё дзяцінства і сваю радзіму С. пранёс праз усё жыццё. З вял. пастаянствам і настойлівасцю адзначаў С. ва ўсіх сваіх выданнях сваё полацкае паходжанне: «Выложены доктором Франциском Скорининым сыном из славнаго града Полоцка». Гады, праведзеныя ім у П., непасрэдныя сувязі яго з бел., у т. л. полацкім, «паспольствам», рашуча паўплывалі на яго жыццёвае прызванне. У П. пастаўлены помнік С., яго імя носіць вуліца, пед. вучылішча (гл. ў арт. *Скарынінскія найменні*).

*Літ.:* 162; Беляев И. Д. История Полотска или Северо-Западной Руси, от древнейших времён до Люблинской унии. М., 1872; Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии. М., 1954; Полоцк: Исторический очерк. Мн., 1962; Штыхов Г. В. Древний Полоцк. IX—XIII вв. Мн., 1975; его ж. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Мн., 1978; Полоцкие грамоты XIII—начала XVI вв. [Вып. 1—5]. М., 1977—85. *А. П. Грыцкевіч, Ю. А. Якімовіч.*

**ПОЛАЦКАЕ ПРАВА** ў 15—16 ст. Полацкая зямля ў 14—18 ст. уваходзіла ў склад Вял. кн. Літоўскага, спачатку як саюзнае княства, а потым як ваяводства, насельніцтва якога захоўвала сваё старадаўняе права і карысталася пэўнай аўтаноміяй. Захаванне мясц. права і некат. адасобленасці было магчыма таму, што Вял. кн. Літоўскае ўтварылася ў выніку сінтэзу славяна-балтыйскага этнічнага сімбіёзу ў яго дзяржаўна-дагаворнай форме (Навасельцаў А. П., Пашута У. Ц., Чарапнін Л. У. Шляхі развіцця феадалізму. М., 1972. С. 7, 299, на рус. мове). Яно было дзяржавай з незавершанай цэнтралізацыяй, пры якой найб. вял. княствы, што ўваходзілі ў яго склад, працягвалі захоўваць у значнай ступені свае адасобленыя прававыя сістэмы. Гэта асабліва выразна назіраецца ў П. п., адасобленасць якога пацвярджалася неаднаразова асобнымі прывілеямі. Аб асобым становішчы Полацкай зямлі ў Вял. кн. Літоўскім сведчыць дагавор з Лівонскім ордэнам, з якога ясна відаць асобы саюзны характар прававога становішча Полацкага княства. Князь Полацкага княства называецца ў міжнар. дагаворы такім жа тытулам, як і вял. князь, г. зн. каралём, а для забеспячэння законнай сілы дагавору неабходна была згода не толькі вял., але і полацкага князя, а таксама згода жыхароў горада. Аб асобым становішчы Полацкай зямлі ў складзе Вял. кн. Літоўскага сведчыць права палачан самастойна ўдзельнічаць у міжнар. праваадносінах. Так, у 1478 палачане заключылі дагавор аб дружбе і гандлі з рыжанамі. Права палачан прымаць паслоў з Ноўгарада, Пскова, Лук і «Немец» і вырашаць на месцы ўсе спрэчныя пытанні было замацавана ў спец. грамаце, выдадзенай вял. князем Аляксандрам у 1499. Важнейшым элементам дзяржаўна-прававога жыцця палачан у канцы 15—1-й пал. 16 ст. было права вырашаць важнейшыя пытанні гар. жыцця на сходзе-сейме. Праваадносіны паміж палачанамі рэгуляваліся як на падставе норм мясц. звычаёвага права, так і пісанымі закона-

мі: граматамі-прывілеямі, *Статутам Вялікага княства Літоўскага 1529*, царк. правам. Да 1529 асн. крыніцай полацкага пісанага права былі прывілеі, выдадзеныя палачанам вял. князямі Вял. кн. Літоўскага: Скіргайлам, Вітаўтам, Жыгімонтам Кейстутавічам, Казімірам, Аляксандрам,Жыгімонтам Казіміравічам. Для характарыстыкі права, якое дзейнічала ў Полацку ў скарынінскі час, найб. значэнне маюць: прывілей Полацку на магдэбургскае (майдэборскае) права 1498, статутная грамата аб намесніцкім і войтаўскім судзе 1499, пацвярджальная статутная грамата аб царк. судзе полацкага архіепіскапа 1502 і «Прывілей баярам, мяшчанам і ўсёй зямлі Полацкай на правы і вольнасці іх...» 1511. Усё насельніцтва Полацкай зямлі па свайму сац. і прававому становішчу падраздзялялася на 2 асн. класы: феадальна залежных сялян і феадалаў. Гар. насельніцтва падраздзялялася на гар. баяр, гар. дваран, мяшчан і чэрнь. Усе феадалы Полацкай зямлі ў скарынінскі час уваходзілі ў саслоўе шляхты і называліся ў прававых актах шляхтаю, баярамі, старшымі баярамі, панамі, князямі. Характэрнай асаблівасцю Полацкай зямлі была наяўнасць у ёй мяшчанскага землеўладання. Мяшчане-землеўладальнікі мелі залежных сялян і абавязаны былі выстаўляць са сваіх маёнткаў конных ратнікаў або выязджаць на вайну асабіста, нараўне з баярамі-шляхтай. Асн. масу сялян складалі феадальна залежныя людзі. Ступень феад. залежнасці і маёмаснае становішча ў розных груп былі рознымі. Найб. заможную частку сялян складалі путнікі (баяры путныя), асн. павіннасцю якіх было даваць коней для перавозкі службовых асоб і язды ганцамі. Яны абавязаны былі несці і інш. павіннасці, лічыліся асабіста вольнымі людзьмі і маглі, пакінуўшы або нават прадаўшы сваю зямлю, перайсці на службу да другога феадала. Найб. шматлікую катэгорыю складалі цяглыя сяляне, якія адбывалі паншчыну і неслі розныя дадатковыя павіннасці. Асобую катэгорыю складалі сяляне-даннікі, якія ўносілі феад. рэнту непасрэдна ў дзярж. казну і адносіліся да асабіста вольных людзей, гэтыя людзі ў граматах называюцца простымі (паспалітымі) людзьмі. Яны карысталіся правамі, прадугледжанымі граматай ад 23.7.1511. Пазбаўленымі правоў былі халопы і рабы, якія не мелі права самастойна выступаць у судзе ні ў якасці істцоў, ні ў якасці адказчыкаў: «а холопу и робе веры не няти». У абарону іх інтарэсаў маглі выступаць толькі іх паны. У 16 ст. склалася практыка, калі і ў інтарэсах феадальна залежных сялян выступалі іх паны ва ўсіх дзярж. судах. Асобныя аўтаномныя правы Полацкай зямлі былі ў тым, што полацкі ваявода прызначаўся толькі са згоды палачан: «а который будет воевода наш нелюб им, ино нам им воеводу иншого дати по их воли». Да таго як прыступіць да спраў у Полацку, новы ваявода абавязан быў у першы ж дзень «крест целовати к Полочаном, на том, штож без их справы Полочанина не казнити ни в чом» (Акты, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі... Спб., 1848. Т. 2, № 70). Паводле П. п. нават сам вял. князь не меў права судзіць палачан за межамі Полацкай зямлі: «нам з Литвы децкого не слати, писати нам лист свой к воеводе нашому, хотя бы о смертной вине». Не меў права вял. князь перадаваць Полацкую зямлю ў чыё-н. уладанне: «А Полочаны нам не даритися никому», «А воеводу городом не дарити». Абмежаванымі былі правы цэнтр. ўрада ў царк. і маёмасных справах палачан: «На первей в церкви Божьи и в именья церковные нам не вступатися», «А в купленины в Полоцкие нам не вступатися, также и в безадщины их и в отумерщины не вступатися нам», «А в подводы нам Копей в Полочан не брати», «Також з боярских и з мещанских сел людем не надобе ни на какую службу тягнути к нашим княжим дворам», «А в заставу нам бояр и мещан Полоцких и посельских путников не посылати». Абмежаванні правамоцтваў цэнтр. органаў улады дапаўняліся яшчэ абмежаваннямі паўнамоцтваў полацкага ваяводы, які не меў права адзін судзіць палачан, не павінен быў ездзіць па валасці, а калі «поедет ли коли в ловы, ино по станом не дарити» (там жа). Пры разглядзе спраў па зямельных спрэчках ваявода абавязаны быў вырашаць справы сумесна «с старшими бояры полоцкими подлуг давного обычая» (Полацкія граматы XIII—пачатку XVI стст. М., 1978. Вып. 2. С. 162), а па справах мяшчан «судити ему с бояры и мещаны» (Акты, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі...). Абмежаванасць уладных паўнамоцтваў урадавай адміністрацыі адносна палачан дапаўнялася асобнымі прывілеямі, якія ім гарантаваліся ў прававых актах. Так, яны вызваляліся ад выплаты гандл. пошлін на тэрыторыі ўсёй дзяржавы і ад некат. падаткаў (серабшчызны). Палачанам гарантавалася права вольнага распараджэння маёнткамі. У іншых землях Вял. кн. Літоўскага права вольнага распараджэння маёнткамі было прызнана ў 1566, што сведчыць аб высокай ступені пранікнення таварна-грашовых адносін у эканоміку Полацкай зямлі і больш раннім паяўленні там парасткаў бурж. праваадносін. Права вольнага распараджэння маёнткамі з'явілася пачатковым этапам перарастання права феад. уласнасці ў бурж. права. Жанчыны ў Полацкай зямлі карысталіся даволі значнымі маёмаснымі правамі: яны мелі права валодаць маёнткамі пры спадчыне, дарэнні, вяноўным запісу або куплі. Па крымінальнаму праву і працэсу ў Полацкім прывілеі 1511 змяшчаліся нормы, якія прадугледжвалі, што пакаранне можа ўжывацца толькі адносна вінаватай асобы, калі яе віна будзе даказана ў працэсе судовага разбірацельства. За хлуслівае абвінавачанне або хлуслівы данос даносчык атрымліваў такое пакаранне, якое пагражала абылганай асобе. У якасці доказаў не маглі быць выкарыстаны паказанні, дадзеныя пад катаваннем. Рашэнні і прыгаворы, вынесеныя ў Полацкай зямлі, не павінны былі пераглядацца ў вышэйшых судах дзяржавы. Крадзеная маёмасць у выпадку яе выяўлення павінна была быць вернута пацярпеўшаму, а не ішла ў даход суддзі, як гэта было прадугледжана старым звычаёвым правам і Судзебнікам 1468. У П. п. звяртаюць на сябе ўвагу некат. нормы, у якіх насельніцтва Полацка не падраздзяляецца на класы і саслоўі, а выступае як бы адзінай масай палачан. Гэта тлумачыцца тым, што такія нормы ўзніклі і ўстанавіліся ў глыбокай старажытнасці да ўтварэння ўстойлівага саслоўнага падзелу грамадства. Так, у Прывілеі 1511 абвяшчалася права кожнага палачаніна свабодна выбіраць сабе месца жыхарства. Гэта норма не пашыралася на феадальна залежных людзей і халопаў (чэлядзь нявольную).

Агляд асн. норм П. п. дазваляе зрабіць вывад аб наяўнасці ў 15—16 ст. у Полацкай зямлі мясц. сістэмы права, якая замацавала адасобленасць гэтай зямлі ў складзе Вял. кн. Літоўскага і надала шэраг ільгот і прававых гарантый баярам, мяшчанам і свабодным жыхарам горада Полацка і ўсёй Полацкай зямлі. Такое кола суб'ектаў П. п. было ўказана ў Полацкім прывілеі ад 23.7.1511: «Били нам чолом бояре Полоцкие и мещане и весь город, и вся земля Полоцкая... абы есмо им вси тые права и доброволеньства нашим привильем потвердили. Мы... сим нашим листом потвержаем, и права вольная хрестиянская добрая и справедливая сим нашим привильем на вечные часы даем» (Акты, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі...). Нормы П. п., якія замацаваны ў розных прававых актах, значна паўплывалі на развіццё ўсіх зямель Беларусі і Літвы і былі выкарыстаны пры падрыхтоўцы Статутаў Вял. кн. Літоўскага 1529, 1566 і 1588. Полацк часоў С. быў буйным гандлёваремесным цэнтрам Вял. кн. Літоўскага. Гэта, а таксама асаблівасці дзяржаўнаправавога жыцця палачан канца 15—1-й пал. 16 ст., безумоўна, паўплывала на фарміраванне асобы С.— выдатнага дзеяча бел. культуры і грамадскай думкі 16 ст. *І. А. Юхо.*

**ПОЛАЦКАЯ РЭВІЗІЯ 1552,** дакументальная крыніца па гісторыі *Полацка* часоў С., зробленая рэвізорам Вял. кн. Літоўскага маршалкам Янам Кмітаю і троцкім канюшым Марцінам Падцандкоўскім. Адно з важных сац.-эканам. і паліт. мерапрыемстваў, ажыццёўленых вярхоўнай уладай з мэтаю дакладнага ўліку эканам. стану зямель, замкаў, гарадоў, у т. л. Полацка, ваенных рэсурсаў і патрэб, павелічэння даходаў казны і інш. Уключае падрабязнае апісанне абарончых збудаванняў (вежы, сцены, брамы, масты), агнястрэльных гармат, павіннасцей асн. груп насельніцтва, зямельных уладанняў шляхты (з пазначэннем колькасці «дымоў» у сёлах, узброеных коннікаў, вылучаных у войска), духавенства, мяшчан. Рэвізія дае магчымасць меркаваць пра колькасць і размяшчэнне гар. насельніцтва, тапаграфію горада і пасадаў, заняткі, сац. дыферэнцыяцыю гараджан і інш. Сярод мяшчан, што пражывалі на «посаде Великом отца Воскресенского и Офанасовского», названы

сваяк С.— «Еска (у польск. копіі П. р.— Jesko) Скорына»: «На его земли мещан Ка [21], с которых ему позма прыходит две копе и семнадцать грошей». Мяркуючы па гэтых звестках (на землях полацкіх бурмістраў, размешчаных у тым жа пасадзе, жыло ад 5 да 31 мешчаніна), Еска Скарына належаў да групы параўнаўча заможных гараджан. Дадзеныя П. р. дазваляюць меркаваць таксама, што ў сярэдзіне 16 ст. С. і яго найбліжэйшыя сваякі (акрамя Ескі) ужо не жылі ў Полацку. Дакументы П. р. выдадзены ў 1880 І. Шуйскім па дэфектнаму спісу сярэдзіны 18 ст., што належаў б-цы графаў Браніцкіх (у серыі: Крыніцы па гісторыі Польшчы. Т. 5. Кракаў) і ў 1905 І. І. Лапо па спісу канца 16 ці 1-й пал. 17 ст. Ваенна-Вучонага Архіва Гал. Штаба (Чытанні ў Т-ве гіст. і старажытнасцей расійскіх. Кн. 2). Апошняе выданне выканана на больш высокім навук. узроўні, мае паказальнікі (прадметны, геагр., імянны). *Г. Я. Галенчанка.*

**ПО́ЛАЦКАЯ СПА́СА-ЕФРАСІ́ННЕЎСКАЯ ЦАРКВА́,** помнік стараж.-рус. архітэктуры. Пабудавана дойлідам Іаанам паміж 1152—61 як саборны храм *Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра.* У 19 ст. часткова перабудавана.

Мураваны 3-нефавы 6-слуповы крыжова-купальны храм. Цэнтр. неф з У завершаны паўкруглай апсідай, больш вузкія бакавыя нефы — паўкруглымі нішамі ў тоўшчы сцяны. Спачатку мела пазакамарнае пакрыццё асн. аб'ёму і больш нізкага нартэкса. Барабан купала ўзвышаўся над скляпеннямі асн. аб'ёму на квадратным пастаменце з дадатковым ярусам закамараў, якія мелі 3-лопасцевыя абрысы, што стварала ярусную кампазіцыю верху. Сцены знадворку расчлянёны пілястрамі і паўкалонамі. Уваход на хоры ў паўн. частцы зах. сцяны. Па баках хораў маленькія келлі, адна з іх, паводле падання, прызначалася для *Ефрасінні Полацкай.* Інтэр'ер аздоблены фрэскамі 12 ст. Даследаванні паверхні сцен, скляпенняў і слупоў даюць падставу меркаваць, што храм быў багата ўпрыгожаны фрэскамі (закрыты напластаваннямі тынку) і алейнай размалёўкай 1832—90-х гадоў. Адкрыта 8 фрагментаў з выявамі: 3 у апсідзе (святыцелі Іаан Златавуст, Васіль Вялікі і кампазіцыя «Пакаянне Давыда»), 2 на паўд. сцяне (святыя, адзетыя ў схімы карычнева-чырвонага колеру), 2 на слупах (святыя са скруткамі ў руках), 1 на паўн.-зах. слупе (выява маладой манашкі, магчыма, Ефрасінні Полацкай — заснавальніцы храма). У апошнія гады пазнейшыя алейныя размалёўкі пачаліападаць. У алтары, дыяконніку, ахвярніку, гал. аб'ёме і асабліва ў келлі Ефрасінні Полацкай адкрылася шмат новых сюжэтных фрэсак 12 ст., а таксама фрагменты арнаментальнага дэкору на ўсх. частцы апсіды і аконных праёмах. Колеравая гама фрэсак скупая, стрыманая (карычнева-чырвоныя, фіялетавыя з танальнымі пераходамі, зялёныя і сінія колеры). Фон раскрытых фрагментаў цёмна-сіні. Фрэскі вызначаюцца высокім узроўнем жывапіснай тэхнікі, манументальнасцю кампазіцыі. Помнік агульнасаюзнага значэння. Ахоўваецца дзяржавай. С., жывучы ў Полацку, быў несумненна знаёмы з гэтым помнікам.

*Літ.:* Штыхаў Г. В. Полацкія фрэскі XII стагоддзя// Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1970. № 1; Сяліцкі А. Старажытны полацкі жывапіс (XI—XII стст.)// Мастацтва Беларусі. 1984. № 4, 6.

*В. В. Церашчатава, У. А. Чантурыя.*

**ПО́ЛАЦКАЯ ШКО́ЛА ДО́ЙЛІДСТВА,** самабытная архіт. школа, якая склалася ў 12 ст. ў Полацкім княстве ў час яго эканам. і паліт. ўздыму. Сфарміравалася ў культавым буд-ве на аснове традыцый візант. архітэктуры пад уплывам першага манум. збудавання на тэр. Беларусі — *Полацкага Сафійскага сабора.* Для П. ш. д. характэрна муроўка з плінфы «са схаваным радам», якая ўтварала 2-колерную гаму паверхні сцяны, радзей з чаргаваннем слаёў плінфы і вапняку (Віцебск). У пабудовах П. ш. д. адбыўся адыход ад візант. крыжова-купальных шматнефавых структур з некалькімі апсідамі: план выцягнуты па падоўжнай восі, бакавыя нефы больш вузкія, дамінуе сярэдняя апсіда (бакавыя знадворку не выяўлены і часцей за ўсё схаваны ў тоўшчы сцен).

Асн. тыпы культавых збудаванняў: 1-нефавыя бесслуповыя з адной апсідай і бабінцам (Пятніцкая царква Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра); 3-нефавыя 6-слуповыя з 3 апсідамі, выяўленымі знадворку (Сабор Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра); 3-нефавыя 4- або 6-слуповыя са схаванымі бакавымі апсідамі (*Полацкая Спаса-Ефрасіннеўская царква,* Віцебская Благавешчанская царква, Барысаглебская царква Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра). Шэраг храмаў меў абходныя галерэі. Для некат. помнікаў П. ш. д. характэрна размяшчэнне падкупальнага квадрата не над усх., а над зах. парамі слупоў, што надавала кампазіцыі будынкаў цэнтрычнасць. Гэтаму спрыяла і стварэнне канструкцыйна-дэкар. сістэмы перакрыцця падкупальнага квадрата ступеньчатымі аркамі і ўтварэнне кубічнага пастамента барабана гал. купала, аздобленага знадворку 3-лопасцевымі аркамі. Прадстаўнік П. ш. д.— дойлід Іаан, аўтар Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку. Полацкія дойліды ўдзельнічалі ў буд-ве Навагрудскай Барысаглебскай царквы, заклалі падмуркі замкавай царквы ў Мінску, будавалі ў Ноўгарадзе (царква на Сінічнай гары) і Смаленску. П. ш. д. зрабіла вял. ўплыў на далейшае развіццё архітэктуры Беларусі і інш. зямель Русі 12—16 ст. *Ю. А. Якімовіч.*

**ПО́ЛАЦКІ КНЯ́ЖАЦКІ ХРАМ.** Існаваў у 12—16 ст. Пабудаваны на Верхнім замку Полацка. Рэшткі выяўлены ў час археал. раскопак 1966—67.

П. к. х. мураваны, 3-нефавы, 6-слуповы, крыжова-купальны (24 × 16 м), 3-апсідны (бакавыя апсіды размяшчаліся ў тоўшчы сцяны). Цэнтр. неф з У завяршаўся паўкруглай апсідай, больш вузкія бакавыя нефы — паўкруглымі нішамі ў тоўшчы сцяны. У цэнтры кампазіцыі ўзвышаўся купал на круглым светлавым барабане. Да бакавых нефаў былі прыбудаваны прытворы з самастойнымі апсідамі. Багатую пластыку фасадам надавалі пілястры складанага профілю, аркатурныя паясы, дэкар. арачкі над аконнымі і дзвярнымі праёмамі, закамары. Інтэр'ер быў аздоблены фрэскамі, падлога выкладзена з паліваных керамічных плітак.

Да арт. **Полацкая Спаса-Ефрасіннеўская царква.** Выява невядомага святога на паўднёвай сцяне ў алтарнай частцы. Выява святога са скруткам на паўночна-ўсходнім слупе. Выява святога, што моліцца, на паўднёвай сцяне ў алтарнай частцы.







*Літ.:* Каргер М. К. К истории полоцкого зодчества XII в.// Новое в археологии. М., 1972. *А. А. Трусаў.*

**ПО́ЛАЦКІ САФІ́ЙСКІ САБО́Р,** помнік архітэктуры 11—18 ст. Пабудаваны ў *Полацку* пры кн. Усяславе Брачыславічу паміж 1050—66. З'яўляўся сімвалам горада. На пячатцы горада быў надпіс: «Печать Полочькая и стои Софьи». Тут прымалі паслоў, абвяшчалі пра вайну і мір, захоўваліся дзярж. казна, б-ка, архіў.

Правасл. мураваны 5-нефавы крыжова-купальны (7 купалоў) храм з трыма гранёнымі апсідамі. Фасады былі аздоблены паўцыркульнымі нішамі, якія спалучаліся з паласатай муроўкай. Сцены складзены з прыроднага каменю і плінфы ў тэхніцы паласатай муроўкі (муроўка са «схаваным радам», што ствярала двухколерную гаму паверхні), характэрнай для *Полацкай школы дойлідства.* Вял. П-падобныя хоры і аркады, адкрытыя ў падкупальную прастору, надавалі інтэр'еру храма выгляд параднага дворыка, абнесенага галерэямі. У канцы 15 — пач. 16 ст. сабор перабудаваны ў храм абарончага тыпу. Пазней зноў перабудаваны. У стараж. частцы храма (усх. апсіда) захаваліся рэшткі фрэсак 11 ст. Фрэскавую тынкоўку клалі 2 пластамі. Зроблена пробнае раскрыццё фрагментаў фрэсак апсіды. У бакавых частках арнаментальныя матывы, у цэнтральнай — фрагмент «Еўхарысціі» (дрэнна захаваўся). Колеравая гама фрэсак складаецца з чырвоных, зялёных і белых тонаў з сіне-блакітнымі, шэражоўтымі, карычнева-чырвонымі адценнямі. Пасля рэстаўрацыі 1985 тут зроблена канцэртная зала з арганам. С., жывучы ў Полацку, быў несумненна знаёмы з гэтым помнікам.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Древний Полоцк. IX—XIII вв. Мн., 1975.
*В. В. Церашчатава, У. А. Чантурыя.*

**ПО́ЛАЦКІ СПА́СА-ЕФРАСІ́ННЕЎСКІ МАНАСТЫ́Р,** помнік архітэктуры 12—19 ст. Заснаваны *Ефрасінняй Полацкай* у лукавіне р. Палата як абарончы фарпост горада з Пн.

Ансамбль манастыра ўключаў 2 мураваныя храмы 12 ст. (захаваліся *Полацкая Спаса-Ефрасіннеўская царква* і падмуркі *Полацкага храма-пахавальні*), уязную браму (16 ст., захавалася цэнтр. частка), 2 жылыя манастырскія корпусы (пач. 18 і пач. 20 ст., захаваліся), шэраг гасп. і службовых пабудоў, сад і агарод. Планіроўка манастырскага комплексу рэгулярная: гал. планіровачная вось пазначана брамай і Спаса-Ефрасіннеўскай царквой. С., калі жыў у Полацку, магчыма, бываў у гэтым манастыры.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Древнеполоцкое каменное зодчество // Белорусские древности. Мн., 1967; Ткачоў М. А. Новае пра Сафійскі сабор // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1972. № 2. *А. М. Кулагін.*

**ПО́ЛАЦКІ ХРАМ-ПАХАВА́ЛЬНЯ.** Узведзены ў 12 ст. на тэрыторыі *Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра.* Як мяркуюць некат. даследчыкі,— пахавальня полацкіх епіскапаў.

3-нефавы мураваны храм быў 4-слуповы (шырыня 14,85 м, даўжыня без апсід 17,2 м) з крыжовымі ў плане слупамі. Сцены будынка былі выкладзены з плінфы «са схаваным радам», падмуркі складзены з камянёў. Дах быў накрыты свінцовымі лістамі. З трох бакоў быў абнесены галерэямі шырынёй 4,1 м, якія з У заканчваліся невял. капліцамі з самастойнымі апсідамі. Фасады будынка вылучалі плоскія двухпрыступчатыя лапаткі. Інтэр'ер быў багата аздоблены. Пры раскопках знойдзены асобныя кавалкі тынкоўкі з арнаментам і фрэскавымі выявамі святых і анёлаў. Мазаіка падлогі была выкладзена з чорнай, чырвона-карычневай, жоўтай і зялёнай смальты (у форме квадратаў, трохвугольнікаў, палосак) і разнастайных (квадратных, трохвугольных і фігурных) керамічных паліваных плітак жоўтага, чорнага і зялёнага колеру. Галерэі, дзе таксама знаходзіліся пахавальныя камеры, размяшчаліся значна ніжэй за асн. аб'ём, агульная кампазіцыя мела ступеньчаты характар. Асталіся падмуркі і часткова ніжнія часткі сцен.

*Літ.:* Раппопорт П. А. Полоцкое зодчество XII века // Сов. археология. 1980. № 3; яго ж. Русская архитектура X—XIII вв. Л., 1982; Сяліцкі А. А. Фрэскі храма-магільні Ефрасіннеўскага манастыра // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1979. № 4. *А. А. Трусаў.*



**Полацкі Сафійскі сабор.** Від з боку апсіды.



**Полацкія замкі.** 16 ст. Малюнак С. Пахалавіцкага.

**ПО́ЛАЦКІЯ ЗА́МКІ.** У 16 — пач. 18 ст. ў гіст. цэнтры *Полацка* існавалі 2 замкі — Верхні і Ніжні. Пабудаваны з дрэва і каменю.

Верхні замак — умацаваны цэнтр Полацка 11—17 ст. Займаў узвышша пл. каля 10 га на правым беразе Зах. Дзвіны пры ўпадзенні ў яе р. Палата. У паўд. частцы замчышча *Полацкі Сафійскі сабор.* Верхні замак абкружаны валам і драўлянымі сценамі з вежамі. Самая вял. ўсх. вежа, вядомая пад назвай Краснай ці Каралеўскай, была мураванай. Назвы астатніх драўляных вежаў (паводле дакументаў 1655): Праезная, Гуська, Калядная, Вежа-фортка, Новая, Ваяводская, Машна, Баярская. Верхні замак вядомы паводле графічных і літаратурных крыніц 16—17 ст. і археал. раскопак сав. часу. Адкапаны рэшткі разнастайных пабудоў: княжацкага церама, манум. культавых пабудоў, драўлянага жылля, хлявоў, майстэрняў. Знойдзена шмат вырабаў з жалеза, каляровых металаў, косці, каменю, дрэва, гліны, скуры. Некат. знаходкі з'яўляюцца выдатнымі помнікамі дробнай пластыкі. Полацкі Ніжні замак пабудаваны ў 1563 на месцы пасада ці, магчыма, вакольнага горада 10—13 ст. Пл. 6 га. Прымыкаў да Верхняга замка з У, быў умацаваны драўлянымі сценамі з 7 вежамі (Варвары, Міронаўская, Ільінская, Скарбная, Невельская, Навугольная, Кабыльчына). На тэр. Ніжняга замка захаваўся вал Івана IV Грознага. У 1984 знойдзены скарб залатых упрыгожанняў 10 ст.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Древний Полоцк. IX—XIII вв. Мн., 1975. *Г. В. Штыхаў.*

**ПО́ЛАЦКІЯ КНЯ́ЖАЦКІЯ ПАЛА́ТЫ.** Пабудаваны ў 2-й пал. 12 ст. ў паўн. частцы полацкага дзядзінца. Захаваліся падмурак будынка і частка разбуранай цаглянай сцяны.

Мураваны амаль квадратны ў плане будынак (4,7 × 4,2 м) складзены з плінфы «са схаваным радам». З З да асн. аб'ёму далучалася меншае памяшканне (2,5 × 2,4 м). Меў падвал, дашчаная падлога якога знаходзілася на глыбіні каля 1,5 м, ад узроўню дзённай паверхні. Падмурак каменны, таўшчыня 60—75 см (у малым памяшканні — 50 см), глыбіня — 1,8 м. З Пн да палат было прыбудавана драўлянае памяшканне, падлога якога знаходзілася на ўзроўні падлогі падвала. Прыбудова (5,3 × 5,4 м) зроблена з сасновых брусоў, якія былі пакрыты бяростай і знутры абмазаны глінай. Печы абліцаваны гаршковай кафляй. Мяркуючы па зялёнай каробчатай кафлі з паглыбленай вонкавай пласцінай і нізкім рэльефам (знаходкі ў верхніх слаях), палаты існавалі да 16 ст. і, магчыма, увааходзілі ў палацавы комплекс полацкага намесніка, які згадваецца ў «Полацкай рэвізіі 1552 г.».

*Літ.:* Раппопорт П. А., Шолохова Е. В. Дворец в Полоцке // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. 1981. Вып. 164; Раппопорт П. А. Русская архитектура X—XIII вв. Л., 1982.
*А. А. Трусаў.*

**ПО́НТЫЙ ПІЛА́Т** (Pontius Pilatus), рымскі пракуратар Іудзеі ў 26—36 гг. н. э. Вызначаўся лютасцю і каварствам. Паводле Іосіфа Флавія і новазапаветнай версіі, П. П. прыгаварыў да распяцця Ісуса Хрыста. У Евангеллі апавядаецца, што П. П. пры гэтым «узяў вады і ўмыў рукі перад народам», выкарыстаўшы такім чынам старадаўні звычай, які сімвалізаваў невінаватасць у праліцці крыві (адсюль выраз «умыць рукі»). Паводле Яўсевія Кесарыйскага, пакончыў з сабою, па інш. звестках — пакараны смерцю Неронам. С. ўпамінае П. П. ў прадмове да кн. «Прарок Данііл».

**ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЦАРКВА́** на Беларусі ў 15—16 ст., адна з асн. (разам з каталіцкай царквой) хрысц. цэркваў, якія існавалі на тэр. Вял. кн. Літоўскага, у т. л. на Беларусі. З'явілася на тэр. Беларусі ў канцы 10 ст. ў час увядзення *хрысціянства* на Русі. Была апорай феадалізму, адстойвала прыгнёт нар. мас.

Царква мела вял. багацці, у т. л. зямельныя, і залежных сялян. Землі і маёмасць цэркваў і манастыроў не раздрабняліся. Формай царк. землеўладання была вотчына («земли звечные церковные»). У пацвярджальнай грамаце вял. князя Аляксандра Казіміравіча полацкаму архіепіскапу на епархіяльную вотчыну з трыма сёламі (1503) адзначалася, што жыхары гэтых сёл «...владыце служат, а под его послушенством и присудом живут, и в пригон ходят, по тому как и за предков его, первых владык Полоцких, под послушенством и присудом владычиным жили и на двор владычин на пригон хоживали». Царква ў якасці крыніцы прыбыткаў мела царк. дзесяціну (ад «даней», судовых і гандл. пошлін княжацкай уладзе з насельніцтва).

Каталіцызм актыўна насаджваўся пасля Крэўскай уніі 1385. Царкве перададзены вял. зямельныя надзелы, поўны імунітэт у іх уладаннях па фінансавых і судовых пытаннях. Аднак да сярэдзіны 16 ст. на тэр. Віленскай епархіі з пабудаваных 259 касцёлаў на тэр. Беларусі было толькі 176, з іх па 1 у Віцебскім і Полацкім паветах. Касцёлы размяшчаліся на З ад лініі Браслаў — Паставы — Вілейка — Мінск — Нясвіж — Пінск. На У ад яе былі толькі ў Полацку, Віцебску, Абольцах, Слуцку. На Беларусі касцёлы былі ў цэнтрах вотчын і маёнткаў феадалаў-католікаў і ў паўн.-зах. раёнах, дзе жылі літоўцы. Усх. раёны заставаліся сферай уплыву П. ц. Католікі пераходзілі ў праваслаўе. Пра масавасць гэтай з'явы сведчыць грамата вял. князя Аляксандра Казіміравіча ад 16.7.1503, дзе ён гаварыў пра неўмяшанне вял. князя ў справы правасл. царквы: «Также которыи будуть, литвин, або лях, крещены были у Витебску в рускую веру, и хто из того роду и тепере живет, того нам не рушити, права их хрестияньского ни в чом не ломити». Зямельныя багацці П. ц. павялічваліся за кошт падараванняў вял. князёў літ. і мясцовых феадалаў, у т. л. правасл. князёў з дынастыі Гедымінавічаў. У актавых кнігах на працягу 14—16 ст. (да 1569) зафіксаваны 76 зямельных падараванняў (у т. л. 10 велікакняжацкіх і 34 князёў, членаў велікакняжацкай дынастыі). Не было выпадку, каб у П. ц. адбіралі зямлю і перадавалі яе каталіцкай. У час праўлення Казіміра (1440—92) пабудаваны цэрквы і манастыры ў Брэсце, Слонімскім пав., Слуцку і інш., пазней у Вільні (1507—08, 1511 і 1514), Віцебску. Перавагу колькасці правасл. цэркваў над касцёламі ў Вільні адзначыў у сак. 1517 імператарскі пасол С. *Герберштэйн.* У Навагрудку ў сярэдзіне 16 ст. быў 1 касцёл і 10 цэркваў.

Абмежаванні П. ц. на тэр. этнічнай Літвы і пагранічных з ёю земель праводзіліся велікакняжацкай уладай у 1-й трэці 15 ст., у перыяд узмацнення пазіцый каталіцкай царквы ў Літве. Вял. князь Вітаўт у адной з інструкцый пісаў пра хрышчэнне літоўцаў-язычнікаў каталіцкім біскупам: «Которые не крестились, а тех пусть крестит епископ как его воля. А который русин будет, а захочет по своей воле креститься, тот пусть крестится; а который не захочет, он будет в своей вере». Велікакняжацкая ўлада падтрымлівала Велюнска-Калішскі статут 1420 пра схізматыкаў (раскольнікаў), паводле якога ім забаранялася будаваць і абнаўляць свае цэрквы. Забарона будаваць некаталіцкія цэрквы на тэр. Літвы і сумежных бел. паветаў была накіравана не на ліквідацыю П. ц. ва ўсёй дзяржаве, а на абмежаванне ў Літве яе ўплыву, які ў 14 ст. ўсё больш павялічваўся. На практыцы гэтыя забароны не ажыццяўляліся ў адрозненне ад палітыкі польск. каралёў адносна П. ц. ў Галіцыі, на тэр. Польскага каралеўства.

У Вял. кн. Літоўскім захаваліся епархіі, што былі яшчэ ў Кіеўскай Русі. У Вял. кн. Літоўскае ўвайшлі 6 епархій, адпаведна былым княствам, у т. л. на тэр. Беларусі епархіі — Полацкая, Тураўская і, часткова, Смаленская. У 15—16 ст. у П. ц. Вял. кн. Літоўскага існавала наступная іерархічна-тэрытарыяльная арганізацыя: 1) мітраполія Кіеўская (кіраваў сам мітрапаліт), куды ўваходзіла тэр. Віленскага, Трокскага, Навагрудскага і Кіеўскага ваяводстваў, Жмудская зямля, Слуцкае княства, часам Галіцыя і Падолія, г. зн. значная частка Беларусі, Украіны і Літвы; 2) Полацкая епархія на чале з архіепіскапам, у якую ўваходзілі тэр. Полацкага, Віцебскага і Мсціслаўскага ваяводстваў, правасл. насельніцтва г. Рыгі; 3) Тураўская і Пінская епархіі; 4) Уладзіміра-Брэсцкая епархія (частка Валынскага ваяводства, Брэсцкае ваяводства, Падляшша). Існавалі і Смаленская, Чарнігаўская, Луцка-Астрожская епархіі і 3 епархіі ў Галіцыі, якая належала Польшчы,— Галіцкая, Холмская, Перамышльская.

У 14—15 ст. сярод іерархаў П. ц. ў Вял. кн. Літоўскім значную частку складалі грэкі ці балгары, прысланыя з Канстанцінопаля. Ім у 15 ст. былі ўласцівы моцныя уніяцкія тэндэнцыі. Унію абедзвюх цэркваў, заключаную ў Фларэнцыі (1439), адхіліла П. ц., акрамя канстанцінопальскай патрыярхіі. Унутрыпалітычная барацьба ў 1430-я г. ў дзяржаве прымушала велікакняжацкую ўладу весці тут асцярожную палітыку ў адносінах да П. ц. Фармальна Фларэнційская унія была пашырана на Вял. кн. Літоўскае, прынята некат. правасл. епіскапамі, але фактычна не была ажыццёўлена. Супраць яе выступілі каталіцкае духавенства на чале з віленскім біскупам Мацеем і вял. князь Казімір (1442), якія ва ўмовах расколу каталіцкай царквы падтрымлівалі Базельскі царкоўны сабор і антыпапу Феліксa V, былі ворагамі папы Яўгена IV і Фларэнційскага сабору. Большасць правасл. князёў таксама выступіла супраць уніі. Апазіцыя асн. паліт. груповак да царк. уніі тлумачыцца процідзеяннем літ., бел. і ўкр. феадалаў палітыцы польскіх феадалаў, што намагаліся ўзнавіць дзярж. унію Польшчы і Вял. кн. Літоўскага 1432. Вял. князь Казімір мусіў у студз. 1451 прызнаць кіраўніком П. ц. ў Вял. кн. Літоўскім маскоўскага мітрапаліта Іону. Узмацніўшы свае пазіцыі ў дзяржаве, Казімір выкарыстаў незадаволенасць вярхоў правасл. духавенства ў Вял. кн. Літоўскім Іонам і зацвердзіў у 1458 у сане мітрапаліта кіеўскага Рыгора Балгарына, прыхільніка царк. уніі. Прызначыў яго на гэту пасаду уніяцкі канстанцінопальскі патрыярх у Рыме Р. Мама і зацвердзіў рымскі папа Пій II. Праз 10 гадоў мітрапаліт атрымаў зацвярджэнне ў сане ад канстанцінопальскага правасл. патрыярха Дзіянісія. Спроба правесці царк. унію не ўдалася, сам мітрапаліт Рыгор Балгарын адрокся ад яе. Нягледзячы на канчатковы падзел у 1458 кіеўскай правасл. мітраполіі на 2 (кіеўскую і маскоўскую), вял. князь Казімір Ягелончык спрабаваў падначаліць П. ц. рускай дзяржавы «свайму» правасл. мітрапаліту Рыгору Балгарыну, рабіў прапановы вял. князю маскоўскаму. Маскоўскія князі намагаліся падпарадкаваць уладзе маскоўскага мітрапаліта П. ц. ў Вял. кн. Літоўскім. Гэты канфлікт абодва бакі выкарысталі ў сваіх паліт. мэтах, каб атрымаць магчымасць захапіць вял. тэрыторыю.

Пасля смерці Рыгора Балгарына вял. князь Казімір увёў выбары правасл. мітрапаліта на царк. саборах з асяроддзя епіскапаў мясц. паходжання. Велікакняжацкая ўлада звяла да мінімуму залежнасць мясц. П. ц. ад канстанцінопальскага патрыярха і ўстанавіла кантроль над выбарамі, на якіх фактычна праводзіўся кандыдат, прапанаваны вял. князем. Вял. князь літ. Казімір Ягелончык падтрымліваў у 2-й пал. 15 ст. ідэю захавання царк. уніі каталіцкай і П. ц. і пасля фармальнай адмовы ад яе ў 1472 канстанцінопальскага правасл. патрыярха. Аднак вял. князь не праводзіў яе гвалтоўна. Асн. мэта — аўтаномія П. ц. ў Вял. кн. Літоўскім — была дасягнута. З 2-й пал. 15 ст. правасл. мітрапаліт выбіраўся на царк. саборах (пасля папярэдняга ўзгаднення кандыдатуры з вял. князем), а не прысылаўся з Рыма ці Канстанцінопаля. Аднак іерархі правасл. царквы ў Вял. кн. Літоўскім не парвалі сувязей з канстанцінопальскімі патрыярхамі. Вял. князі літ. Казімір Ягелончык і Аляксандр Казіміравіч лічылі царк. унію юрыдычна існуючай і да пачатку 16 ст. спрабавалі яе ажыццявіць. Апошнюю спробу зрабіў мітрапаліт Іосіф І Балгарынавіч (1499—1503), выбранне якога зацвердзіў канстанцінопальскі патрыярх, але не прызнаў рымскі папа. Да канца 16 ст. П. ц. ў Вял. кн. Літоўскім, фармальна звязаная з канстанцінопальскай патрыярхіяй, захоўвала сваю незалежнасць ад канстанцінопальскага патрыярха. Вял. князі літ. выкарыстоўвалі правасл. царкоўнаслужыцеляў як сваіх саюзнікаў, пакідалі за імі феад. прывілеі, дадзеныя ім дарчай граматай 1443 і агульназемскім прывілеем 1447, і ўраўноўвалі іх з каталіцкім духавенствам насуперак аднаму з пунктаў Гарадзельскай уніі 1413. Зямельныя ўладанні як каталіцкай, так і П. ц. знаходзіліся пад апекай вял. князёў і разглядаліся як дзярж. уласнасць.

Пасля заваявання Візантыі туркамі (1453) мітрапалітамі і епіскапамі П. ц. становяцца (асабліва ў 16 ст.) мясц. ўраджэнцы, якія па паходжанню былі феадаламі бел. і ўкр. земель і выражалі інтарэсы правасл. магнатаў Вял. кн. Літоўскага. Царкву падтрымлівала большасць феадалаў дзяржавы, правасл. былі гараджане і сяляне на бел., укр. і рус. землях. У 1528 на Беларусі бел. феадалы складалі 78,5 %, а на У і Пд Беларусі — больш за 90 %. Правасл. феадалаў было больш і сярод буйных феадалаў у дзяржаве. Паводле перапісу войска Вял. кн. Літоўскага (1528), з князёў і буйных феадалаў (якія валодалі маёнткамі з 240 сялянскімі «дымамі» і болей) правасл.— бел., укр. і рус. — складалі 69,4 %. Нягледзячы на гэта вышэйшае правасл. духавенства з-за сац. паходжання не мела месцаў у гаспадарскай радзе (панах-радзе) Вял. кн. Літоўскага, вышэйшым органе ўлады, які юрыдычна і фактычна абмяжоўваў уладу вял. князя. Вярхі правасл. духавенства ў асн. паходзілі з духавенства, мяшчан і сялян, зрэдку з дробнай і сярэдняй шляхты. Акрамя царкоўных, у іх не было іншых уладанняў, таму яны не мелі такой паліт. вагі, як каталіцкія біскупы, большасць якіх паходзіла з магнацкіх сем'яў. Толькі з 2-й чвэрці 16 ст. правасл. епіскапы і мітрапаліты былі з бел. і літ. феадальнай знаці. З 1-й пал. 16 ст. мітрапаліты і епіскапы назначаліся велікакняжацкай уладай. У шэрагу земель Вял. кн. Літоўскага епіскапаў выбіралі феадалы. Па-ранейшаму П. ц. захоўвала пануючыя пазіцыі ў бел. і рус. землях і ваяводствах, мела ўплыў у мясц. кіраванні. Епіскапы займалі першыя месцы ў радах пры намесніках вял. князя, на мясц. сеймах і ў радах удзельных князёў.

У канцы 15—1-й пал. 16 ст. прыняты шэраг дзярж. актаў, якія замацоўвалі правы і ранейшыя прывілеі П. ц. ў Вял. кн. Літоўскім. У 16 ст. вял. князь абвясціў аб скліканні сабораў П. ц. Велікакняжацкая ўлада ўмешвалася ва ўзаемаадносіны П. ц. і правасл. феадалаў, рэгулюючы гэтыя адносіны на карысць царквы. П. ц. ў Вял. кн. Літоўскім у

канцы 15 — 1-й пал. 16 ст. па-ранейшаму займала трывалыя пазіцыі, нягледзячы на тое, што каталіцкая царква пры падтрымцы вял. князёў і феадалаў-католікаў замацавалася ў Літве і сумежных з ёю паўн.-зах. бел. землях.

Рэлігія і царква ў эпоху феадалізму адыгрывалі пэўную ролю ў развіцці культуры. Змест і формы культуры вызначаліся ў першую чаргу інтарэсамі феадалаў і рэлігіі. Ф. Энгельс адзначаў, што «...вярхоўнае панаванне багасловя ва ўсіх галінах разумовай дзейнасці было ў той жа час неабходным вынікам таго становішча, якое займала царква ў якасці найбольш агульнага сінтэзу і найбольш агульнай санкцыі існуючага феадальнага ладу» (Маркс К., Энгельс Ф. Тв. Т. 7. С. 360—361). Свой уклад у развіццё асветы, грамадска-паліт. думкі, царкоўнага дойлідства, жывапісу, музыкі, л-ры зрабіла і правасл. царква. Гл. таксама арт. *Каталіцкая царква.*

*Літ.:* Грицкевич А. П. Историография истории православной церкви в Белоруссии (XIV— середина XVI века) // Из истории книги в Белоруссии. Мн., 1976; его ж. Белоруссия во времена Ивана Фёдорова// Иван Фёдоров и восточно-славянское книгопечатание. Мн., 1984. *А. П. Грыцкевіч.*

**ПРА́ГА** (Praha), адзін са старажытнейшых гарадоў Цэнтр. Еўропы. Цяпер сталіца Чэхаславацкай Сацыяліст. Рэспублікі і Чэшскай Сацыяліст. Рэспублікі. Размешчана ў цэнтр. ч. Чэшскага масіву, абапал р. Влтава, недалёка ад яе ўпадзення ў Лабу (Эльбу). У 1517—20 і з 1534 ці 1535 і да канца жыцця ў П. жыў і працаваў С. (гл. *Пражскія перыяды ў жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны*).

Тэр. П. заселена з 4-га тысячагоддзя да н. э. Спачатку тут жылі плямёны невядомага паходжання, з 5 ст. да н. э.— кельцкія плямёны бойяў, з 2 ст. да н. э.— германцы, з 5—6 ст. н. э.— славяне. На мяжы 8—9 ст. на месцы слав. паселішчаў на левым беразе Влтавы пабудаваны Пражскі Град (Крэмль) — рэзідэнцыя чэш. князёў і каралёў, на правым беразе — Вышаград. Разам з гандлёва-рамеснымі паселішчамі, што ўзніклі пазней, яны склалі гіст. цэнтр П. З сярэдзіны 9 ст. Пражскае гарадзішча пад уладай князёў Пржэмысловічаў, з 10 ст.— сталіца Чэхіі. У 973 тут засн. каталіцкая епархія (з 1344 — рэзідэнцыя архіепіскапа). Паводле звестак арабскага падарожніка Ібрагіма ібн Якуба, у 10 ст. П. была горадам з каменнымі дамамі, развітымі рамёствамі, вяла багаты гандаль з Візантыяй, слав. і ўсх. краінамі, Кракавам і Руссю. Нават у перыяд феад. раздробленасці (з сярэдзіны 11 ст. да канца 12 ст.) П. аставалася паліт. цэнтрам Чэхіі. У 13—14 ст. побач з старымі часткамі П.— Пражскім Градам з навакольнай тэрыторыяй (Градчанамі) і Вышаградам — узніклі і атрымалі чэш. гар. права на самакіраванне Стара-Места (Стары Горад, 1220), Мала-Страна (Малы Горад, 1257) і Нове-Места (Новы Горад, 1348). З 14 ст. П.— адзін з найб. эканам., паліт. і культ. цэнтраў Еўропы. У горадзе было каля 40 тыс. жыхароў. Пасля спынення дынастыі чэш. каралёў Пржэмысловічаў з 1310 у Чэхіі стала панаваць дынастыя Люксембургаў. Чэш. дзяржава ўзмацняецца. Яе кароль Карл І Люксембургскі (правіў у 1346—78) у 1347 стаў адначасова і герм. каралём, а ў 1355 пад іменем Карла IV каранаваным імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі. П. стала сталіцай імперыі. Яе паліт. значэнне ў Еўропе ўзрасло. У 1356 Карл IV замацаваў за чэш. каралямі правы першага з курфюрстаў (сямі князёў імперыі, якія выбіралі імператараў і мелі амаль поўную самастойнасць унутры імперыі). Устанаўленне ў 1344 Пражскага архіепіскапства пазбаўляла Чэхію царк. залежнасці ад герм. духавенства.

У 1348 у П. заснаваны першы ў Цэнтр. Еўропе і слав. краінах Карлаў ун-т. У 1397 польск. каралева Ядвіга выдала ўказ, паводле якога ў 1411 у П. створана асобая калегія для студэнтаў з Вял. кн. Літоўскага. Да пач. 15 ст. Карлаў ун-т ператварыўся ў адзін з буйнейшых цэнтраў адукацыі не толькі Чэхіі, але і ўсёй Еўропы.

П. была адным з цэнтраў нац.-вызваленчага гусіцкага руху чэш. народа. У Карлавым ун-це працаваў вядомы чэш. ідэолаг Рэфармацыі Ян *Гус*, які ў 1403 стаў рэктарам ун-та. Каталіцкае духавенства на чале з пражскім архіепіскапам абвінаваціла Гуса ў падрыве царк. аўтарытэту і ўлады, у распаўсюджванні ерасі. Гус па загаду караля пакінуў П., а пасля быў выкліканы на царк. сабор у Канстанцу, асуджаны і спалены на кастры (1415). Паўстаннем 30.7.1419 у П. пачаўся гусіцкі вызваленчы рух. Жыхары П. ўдзельнічалі ў гусіцкіх войнах 1419—34. Найб. размаху нар. паўстанне ў П. дасягнула ў жн. і вер. 1419 пасля раптоўнай смерці чэш. караля Вацлава IV (1378—1419). Пераемнікам яго стаў палач Гуса — герм. імператар Сігізмунд (1419—1437). Гусіты аб'явілі яго пазбаўленым чэш. трона. Перапалоханыя поспехамі народа, пражскія бюргеры заключылі 13.11.1419 перамір'е з каралеўскай арміяй. Сярод гусітаў існавалі 2 плыні: радыкальная (табарыты) і памяркоўная (чашнікі). Паўстанцы-табарыты вывелі свае атрады з П., замак Вышаград быў здадзены каралеўскаму войску. Вынікі нар. паўстання скарысталі гусіты-чашнікі. Іх асн. апорным пунктам стала П. 14.7.1420 армія Сігізмунда і крыжакоў была разгромлена каля П. войскамі табарытаў на чале з Янам Жыжкай. 1.11.1420, пасля новага паражэння Сігізмунда, перад чэш. войскам капітулявала крэпасць Вышаград. У 1421 у П. на кароткі час устанавілася ўлада радыкальных элементаў гусіцкага руху на чале з Я. Жэліўскім. У сак. 1422 Жэліўскі і радыкальныя члены гар. савета былі пазрадніцку забіты па загаду чашнікаў, членаў савета П., што прывяло да новага нар. паўстання ў горадзе. У маі 1422 у П. з войскам прыбыў літ. князь Жыгімонт Карыбутавіч, які выступаў прад-



Герб **Прагі.** 16 ст. Рэканструкцыя.

Від **Прагі.** Фрагмент гравюры з «Сусветнай хронікі» Г. Шэдэля. 1493.





Умацаванні Пражскага Града і сабор святога Віта.

стаўнікам вял. князя літ. Вітаўта і згаджаўся прыняць ад чашнікаў чэш. карону. Гэта дало магчымасць вярхушцы гараджан П. зрабіць пераварот, у выніку якога ў гар. савеце не асталося радыкальных элементаў. Табарыты падышлі да П., занялі Новы Горад, але вымушаны былі адысці. Пасля гэтага Жігімонт Карыбутавіч, які перайшоў на бок чашнікаў, задушыў хваляванні бяднейшай часткі гараджан. Багатыя гараджане П. ўдзельнічалі ў вайне супраць табарытаў, на чале якіх стаяў Ян Жыжка. У вер. 1424 войскі Жыжкі асаджалі П., але было заключана перамір'е і частка пражскіх атрадаў далучылася да войска Жыжкі. У перагаворах з папай рымскім Жыгімонт Карыбутавіч абяцаў перавесці гусітаў у каталіцызм. Гэта прывяло да новага выбуху нар. незадаволенасці. У крас. 1426 князь быў арыштаваны паўстаўшым народам, рэакцыйныя прапаведнікі выгнаны з П., выбраны новыя гар. саветнікі. У наступныя гады сялянскае войска табарытаў на чале з Пракопам Вялікім неаднаразова займала П. без бою. Атрады пражан удзельнічалі ў войнах гусітаў супраць герм. феадалаў і крыжакоў. Жыгімонт Карыбутавіч стаў адным з палкаводцаў у гусітаў (загінуў у 1435 у бітве на р. Святой у вайну паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам). Аднак П. аставалася апорным пунктам чашнікаў, якія ў 1436 прызналі імператара Сігізмунда каралём Чэхіі, пайшоўшы з ім на кампраміс. Пасля смерці наступнага караля Альбрэхта Габсбурга (1438—1439) у 1448 П. авалодаў лідэр чашнікаў Іржы Подэбрад. У 1452 ён быў выбраны рэгентам Чэхіі, у 1458 — каралём і вёў барацьбу супраць каталіцкай рэакцыі. У 1471 чэш. магнаты ўзвялі на прастол Уладзіслава Ягелона, старэйшага сына польск. караля і вял. князя літ. Казіміра. Выбранне на чэш. трон караля з Ягелонскай дынастыі — спачатку Уладзіслава II (1471—1516), а потым яго сына Людовіка (1516—26) спрыяла ўзмацненню сувязей П. з гарадамі Польшчы. На аснове дагавору Уладзіслава Ягелона з Габсбургамі ў 1526 каралём выбраны эрцгерцаг аўстр. Фердынанд I Габсбург, які праводзіў цэнтралізатарскую прааўстр. палітыку. Супраць палітыкі Фердынанда I у 1547 выступілі чэш. гарады на чале з П. і феадалы. Выступленне ішло на фоне рэліг. антыкаталіцкага руху — Абшчыны чэш. братоў, лютэранства і іншых плыняў Рэфармацыі. Фердынанд I з дапамогай замежнага войска задушыў паўстанне. У жн. 1547 ён склікаў т. зв. Крывавы сейм, які замацаваў перамогу Габсбургаў над паўстанцамі. Каралеўскія гарады страцілі прывілеі, зямельныя ўладанні і фактычна самакіраванне. Жыхары П. ў 1547 былі пазбаўлены большай часткі прывілеяў, а частка іх маёмасці канфіскавана. Гэта адмоўна адбілася на эканам. і сац. развіцці горада.

П. займала вядучае месца ў развіцці чэш. культуры. У 10—12 ст. тут развівалася архітэктура раманскага стылю: рэканструяваліся ўмацаванні і каралеўскі палац у Пражскім Градзе, узведзены касцёл св. Іржы, пачата буд-ва сабора св. Віта; у 1157 пабудаваны першы мост праз Влтаву (Юдзіцін мост). У 13 ст. на змену раманскаму стылю прыходзіць гатычны. Першай з гатычных пабудоў у П. быў манастыр Анежкі (1230). Горад забудоўваўся 2-, 3-павярховымі дамамі. Гатычны стыль прадстаўлены ратушай Старога Горада (14 ст.) і яе вежай з гадзіннікам (1475—90), ратушай Новага Горада (14 ст.), Парахавой вежай паміж Старым і Новым Горадам (15 ст.), Тынскай царквой (пачата ў 14 ст.). З імем выдатнага чэш. архітэктара і скульптара П. Парлержа (1330—99) звязана буд-ва ў стылі готыкі некалькіх пабудоў у П. Замест знесенага ў час паводкі Юдзіцiна маста ў 1357 Парлерж пачаў будаваць Карлаў мост даўж. 520 м і шыр. 10 м на 16 арках (1357—78). Ён стварыў таксама шэраг скульптур. Познеготычнай пабудовай з'яўляецца Уладзіслаўская зала каралеўскага палаца ў Пражскім Градзе, якая будавалася ў 1487—1500 архітэктарам Бенядзіктам Вітам з Пістава. Яна мела унікальную скляпеністую столь. Даўж. залы 62 м, шыр. 16 м. У зале праводзіліся турніры, таму ў яе вядзе лесвіца і для коннікаў. Чатырохгранныя вокны залы зроблены ўжо ў стылі рэнесансу. У 2-й пал. 15 — пач. 16 ст. забудоўваецца Мала-Страна. Новае буд-ва ў стылі рэнесансу асабліва пашырылася ў П. пасля вялікага пажару 1541. Першымі ў стылі рэнесансу пабудаваны дамы багатых гараджан вакол Старамесцкай плошчы. Найб. цікавая пабудова ў стылі рэнесансу — летні палац Бельведэр, або летні палац каралевы Ганны (1536—60). Гэта невысокі будынак, акружаны лёгкімі аркадамі паўн.-італьян. стылю, з шырокім балконам. У палацы былі зроблены фрэскі з чэш. гісторыі. У 1-й палове 16 ст. ў П. на змену гатычнаму стылю, архітэктура якога была шырока распаўсюджана, прыйшоў стыль рэнесансу.

П. была цэнтрам *кнігадрукавання чэшскага.* У 1480 тут засн. друкарня. Развіццё кнігадрукавання ў П., яго традыцыі, безумоўна, паўплывалі на прыезд сюды С. Менавіта ў П.— агульнапрызнаным цэнтры перадавых гусіцкіх ідэй і верацярпімасці — дзейнасць С. была непрыступнай для артадаксальнага каталіцкага і правасл. духавенства. Тут на дастаткова высокім узроўні ўжо вялося выданне кніг на нац. мове. Таму ў П. лягчэй было наладзіць выдавецкую дзейнасць (набыць абсталяванне, шрыфты, наняць наборшчыкаў і інш.). У П. 6.8. 1517 С. надрукаваў сваю першую кнігу — «Псалтыр». З 1517 па 1519 тут выйшла шмат іншых яго кніг. У 1520 С. пераносіць сваю друкарню на радзіму. У 1534—35 ён пакідае радзіму і зноў перабіраецца ў П., куды кароль Фердынанд I запрасіў яго на пасаду свайго асабістага лекара і каралеўскага садоўніка (гл. таксама арт. *Чэшскае каралеўства).*

*Літ.:* 445; Прага: Пер. с чеш. М., 1981; Dějiny Prahy. Praha, 1964. *А. П. Грыцкевіч.*

**ПРАДМÓВА,** уводны тэкст, слова да чытача ці нататка аўтара, перакладчыка, рэдактара або выдаўца, змешчаныя ў пачатку кнігі, асобнага літаратурнага твора або навук. артыкула. Ва ўсх.-слав. рэгіёне ўпершыню ўзнікла ў сярэдневяковай рукапіснай л-ры 10—12 ст., аднак шырокае распаўсюджанне атрымала толькі ў эпоху Адраджэння ў сувязі з развіццём кнігадрукавання і ростам аўтарскага самаўсведамлення. С., творча выкарыстаўшы традыцыі айчыннай (стараж.-рус. і стара-бел.), зах.-слав. (чэш. і польскай) і зах.-еўрап. л-р, увёў П. ў шырокі ўжытак, надаўшы ёй філасофска-асв., навучальна-пазнаваўчы і маральна-эстэт. змест. Ён адмовіўся ад ананімных або стандартна-этыкетных П. сваіх папярэднікаў, усебакова выявіў у гэтым жанры сваю творчую асобу як пісьменніка, перакладчыка, вучонага і выдаўца. 50 П. складаюць аснову літаратурна-публіцыст. спадчыны С., у якой адлюстраваліся яго арыгінальныя грамадска-паліт., філас., прававыя, эстэт., мовазнаўчыя і пед. погляды. 21 з іх мае назву «предословие» (радзей «предсловие», «предъсловие»), 25—«сказание» (пераважна да новазапаветных кніг), 2 названы па-беларуску прадмовамі («предумолва» да кн. «Ісус Навін» і «предмова» да «Апостала») і 2 не маюць

жанравай адзнакі (да «Пасхаліі» і «Малой падарожнай кніжкі»). Хоць усе яны адпавядаюць паняццю П., аднак уведзеная С. дыферэнцыяцыя адлюстроўвае пэўныя асаблівасці зместу, структуры і стылістыкі яго твораў. «Предословия», як правіла, маюць тэарэтычна-канцэптуальны характар, большыя памерам і больш падрабязныя. Яны складаюцца з некалькіх частак: абагульняльнай ідэі філас., асв., маральна-дыдактычнага ці тэалагічнага характару («Всяко писание богом водъхненое полѣзно есть ко учению и ко обличению, исправлѣнию, и ко наказанию правды»); агульнай характарыстыкі зместу, структуры і гісторыі стварэння кнігі, яе спецыфікі, яе аўтараў і асн. герояў («Псалтырь же сама едина вси тые речи в собѣ замыкаеть...»; «Книгу сию, рекомую Премудрость, написал ест Филон Философ...»; «Исус Навин был ест воевода людей Ізраилевых...»); шматлікіх гіст., філал., юрыд. і тэалагічных каментарыяў да адпаведнай кнігі, тлумачэнняў этымалогіі іх назваў («А зовѣтся Псалтирь гудба, едина подобна к гуслям», «Третии же книги царя Саломоновы нарицаються Сира сирам, по-латине — Кантикум кантыкорум, еже по-руски и исказуется Пѣснь пѣсням»); падрабязнай анатацыі, асабліва да кніг апавядальна-гіст. ці сюжэтна-фабульнага зместу («Книги первые Моисеевы, суть Бытья. В них же пишеть о сотворении света, о зачале людского поколения, о розделении языков и земли, и о роде еврейском...»); тлумачэння прынцыпаў перакладу і выдання («Теже розделил есми вси псалмы на стихи по тому, якося выных языцех делить»). У некат. прадмовах С. вызначае яшчэ кола чытачоў, для якіх прызначаецца кніга («И всякому человеку потребна чести, понеже ест зерцало жития нашего...»), яе грамадска-выхаваўчыя і эстэт. функцыі («Псалом жестокое сердце мягчить..., вкупе тело пением веселить а душу учить»), аб'яўляе сваё аўтарства, навук. кампетэнтнасць і асн. мэту пісьменніка, выдаўца і асветніка («Прото ж и я, Францишек, Скоринин сын с Полоцка, в лекарскых науках доктор, знаючи сее, иже есть наивышшая мудрость розмышления смерти, и познание самого себе..., казал есми тиснути книгу святого Іова руским языком богу ко чти и людем посполитым к научению»).

«Сказанні» С. паводле зместу і структуры — кароткія П., абмежаваныя анатацыяй да кнігі і лаканічнымі тлумачэннямі навукова-інфармацыйнага характару («Остров преславный Критъский, иже ест в мори Посредоземном: имея в собѣ градов сто»). 2 «предмовы» С. адрозніваюцца ад «предъсловий» яшчэ большай самастойнасцю адносна біблейскай традыцыі, шырынёй светапогляду, нават пэўным вальнадумствам, аб чым сведчыць адыход ад схаласт. унітарнасці думкі. Тут асаблівую цікавасць С. выявіў да найб. філас., напісанай у кантэксце элліністычнай культуры кн. «Ісус Сірахаў», дзе гаворыцца пра цара Пталамея Філадэльфа, які быў прыхільнікам навукі і мудрасці, які «болѣй избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и память свою, нежели во тленных великих царских сокровищах». На яго думку, тут у афарыстычнай форме раскрыта не толькі божая («Саламонава»), але і свецкая («Арыстоцелева») мудрасць. У П. да «Апостала» асветнік дазволіў сабе, поруч з апалогіяй свайго калегі па адукацыі, «у лекарскіх навуках доктара» евангеліста Лукі, навукова-эстэт. ацэнку кніг Новага запавету: на яго думку, Лука пісаў больш глыбока і прыгожа («наистей и нарядней»), чым іншыя аўтары.



**Прага.** Ратуша Старога горада. 14 ст.

С. не заўсёды размяжоўваў разнавіднасці сваіх П. Так, кароткае ўступнае слова да 1-й кн. «Царствы» назваў «сказанием», а лаканічныя анатацыі да трох наступных кн. «Царствы» — «предословиями» і, наадварот, П. да кн. «Другі закон», якая набліжаецца да ўводнага артыкула этыка-юрыд. зместу, ён назваў «сказанием», а «предмову» да «Апостала» закончыў словамі: «Конец сказанию». У заўвагах да «Пасхаліі» і «Малой падарожнай кніжкі» С. абмежаваўся кароткімі ўказаннямі практычнага і царкоўнаслужбовага характару. Можна меркаваць, што канцэптуальна-тэарэтычныя П. ён напісаў да менш вядомых для тагачаснага простага чытача і найб. значных у асветніцка-выхаваўчым аспекце кніг Старога запавету, а кароткія нататкі анатацыйнага зместу — да кніг Новага запавету, добра вядомых хрысц. насельніцтву з евангельскіх і апостальскіх царк. чытанняў. Не тлумачыў ён падрабязна таксама спецыфічных кніг старaж.-яўр. л-ры і гісторыі, якія ўспрымаліся ў хрысц. свеце пераважна ў іх алегарычным ці сімвалічным сэнсе. Маючы іх на ўвазе, С. адзначыў, што кн. «Быццё», пачатак і канец «Еклесіяста» і «Песня песням» «суть трудны ко зрозумению». Гэтыя і многія інш. творы Старога і Новага запаветаў, на яго думку, напісаны «внутрь и зовнутрь», г. зн. маюць відавочны і апасродкаваны, сімвалічны сэнс; першы вядомы не толькі «доктарам і людзям вучоным», але і «простым і паспалітым» людзям; другі ж, пераносны сэнс, патрабуе пэўных каментарыяў, багата прадстаўленых у прадмовах С. Кожны раздзел выдадзеных кніг С. пачынае з своеасаблівай «мікрапрадмовы» — кароткай анатацыі, у якой коратка вызначаецца фабула, сюжэт або асн. змест адпаведнай часткі твора. У выніку змест кожнай кнігі пададзены не толькі сваім поўным тэкстам, але і ў кароткім пера-



**Прага.** Карлаў мост. 14 ст.

казе выдаўца-перакладчыка, часам у яго сімвалічным тлумачэнні, як, напр., у анатацыях да раздзелаў кн. «Песня песням». У ідэйна-светапоглядным плане прадмовы С. нясуць на сабе адзнакі пераходнай эпохі ад сярэднявечча да новага часу (гл. *Светапогляд Ф. Скарыны*).

Характэрны для эпохі Адраджэння гуманіст. светапогляд, які ўзнік пад уплывам антычнай культуры і хрысціянства і адлюстраваўся ў прадмовах С., уздзейнічаў таксама на іх стылістыку і літаратурную форму. Тут пісьменнік імкнецца паяднаць бога і чалавека, рэлігію і навук. веды, тэалогію і навуку, царк. красамоўства і літаратурную публіцыстыку, школьную дыдактыку і вольнае філасофстваванне. Сінкрэтызм зместу П., недыферэнцыраванасць у іх яшчэ не развітых у асобныя галіны ведаў і культуры элементаў л-ры, тэалогіі, філас. публіцыстыкі, гісторыі, правазнаўства, лінгвістыкі, эстэтыкі і літаратурнай крытыкі абумовілі шматпланавую, хоць і адносна цэласную стылістыку. З боку літаратурнай формы прадмовы С. сталі класічнымі ўзорамі ў гэтым жанры бел. л-ры. Пісьменнік вядзе з чытачом пранікліваю, даверліва-шчырую і разам з тым узнёслую, урачыстую гаворку пра значныя духоўныя каштоўнасці ўсяго чалавецтва і кожнага народа паасобку. У іх спалучаецца глыбіня думкі з афарыстычнасцю і мудрай прастатой ізлажэння вопытнага настаўніка. Асобныя месцы яго твораў (аб патрыятызме, любві да радзімы і роднай мовы) гучаць як красамоўныя вершы ў прозе. Там, дзе для выяўлення пачуцця прыгожага жанравыя рамкі публіцыстыкі аказваюцца недастатковымі, аўтар арганічна ўводзіць у тэксты прадмоў сілабічныя вершы (эпіграф да кн. «Іоў», якая ахвяруецца «...Людем посполитым к доброму научению»; перадача зместу 10 запаведзей сілабічнымі радкамі; вершаваныя фрагменты ў П. да кн. «Эсфір»). Мова прадмоў С. можа быць вызначана як навукова-літаратурная і кніжны варыянт тагачаснай бел. мовы, якая ў пач. 16 ст. ў залежнасці ад свайго функцыянальнага прызначэння мела некалькі разнавіднасцей.

Прадмовы С. паслужылі ўзорам для многіх пісьменнікаў і выдаўцоў Беларусі, Расіі і Украіны 16—17 ст., якія таксама звярталіся да народа, паставілі кнігу на службу айч. культуры і роднай мове. Яго думкі пра значэнне кніг для духоўнага развіцця народа прадаўжалі ў сваіх прадмовах Васіль *Цяпінскі*, Сымон *Будны*, Лаўрэнцій Зізаній, Мялецій Сматрыцкі, Сімяон Полацкі і інш.

*Літ.:* 39; 156; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; Тематика и стилистика предисловий и послесловий. М., 1981. [Русская старопечатная литература (XVI — первая четверть XVIII в.)]

*У. М. Конан.*

**ПРА́ЖСКІЯ ПЕРЫ́ЯДЫ Ў ЖЫЦЦІ І ДЗЕЙНАСЦІ Ф. СКАРЫ́НЫ.** Даследаванні жыцця і дзейнасці С. даюць падставу для вызначэння двух асобных перыядаў яго знаходжання ў Празе.

Пачатак першага пражскага перыяду жыцця і дзейнасці С. дакладна невядомы. На думку І. *Добраўскага*, С. мог знаходзіцца ў ліку асоб, якія суправаджалі вял. князя Вял. кн. Літоўскага і караля Польшчы Жыгімонта І на Венскі кангрэс 1515, пасля чаго застаўся ў Празе, каб выканаць нейкія службовыя абавязкі пры маладым чэш. каралі Людовіку. Меркаванне Добраўскага гіпатэтычнае, але ў святле выяўленых пазней фактаў («секретарь короля Дании» или «Дакии», «виленского епископа Иоанна») не пазбаўлены пэўнай логікі. Гэты перыяд не асветлены дакументальна, за выключэннем кніг першадрукара. Першым з пражскіх выданняў «Бібліі» С. быў «Псалтыр» (6.8.1517). Услед за ім выйшлі 22 кнігі Старога запавету (якія выдаваліся асобна ці ў пэўнай сувязі адна за другой). Усяго было надрукавана: у 1517 — 4 кнігі, аб'ёмам 324 арк. (па нумарацыі С.), г. зн. у сярэднім 26,8 арк. ў месяц, у 1518 — 8 кніг, 352 арк., 29,3 — у месяц, у 1519 — 11 кніг, 524 арк., 43,7 — у месяц. Інтэнсіўная выдавецкая дзейнасць С. сведчыць пра тое, што ўжо да 1517 ён меў большасць падрыхтаваных да друку кніг Бібліі. Калі ўлічыць пры гэтым, што наладжванне кірыліцкага кнігадрукавання ў Празе ва ўсім яго комплексе таксама патрабавала нямала часу, то можна сцвярджаць, што С. абсталяваўся ў Празе не пазней 1515—16. Усю прадукцыю пражскай друкарні цяжка вызначыць дакладна, калі ўлічваць змены, якія за мінулыя стагоддзі выпалі на долю ўсх.-слав., у т. л. і бел., кнігі. С. намерваўся выдаць у Празе ўсю Біблію,— «абы не было уменьшено в руском языку». Пра гэта сведчыць агульны тытульны ліст і вял. прадмова да «Бібліі», прадмова да 1-й кн. «Царствы», дзе, пералічваючы падрыхтаваныя да друку кнігі, С. ўпамінае шэраг невядомых, нязнойдзеных ці нявыдадзеных выданняў: кн. «Ездры», «Товіт» і інш. «О сих всех книгах,— пісаў ён,— мною на русский язык нововыложенных и о именах их ширей в предословиах от мене на кожныи роздѣлне положеных, выписано знайдеши» (гл. с. 68). На думку большасці даследчыкаў (П. У. *Уладзіміраў*, А. А. *Сідараў*, А. В. *Флароўскі*), С. ў Празе выконваў літаратурна-выдавецкія арганізацыйныя і кіруючыя функцыі ў друкарскай дзейнасці. На *гравюрным партрэце Ф. Скарыны*, змешчаным ў дзвюх пражскіх кнігах («Ісус Сірахаў», «Царствы»), няма атрыбутаў кнігадрукавання, а асабістыя выказванні першадрукара сведчаць аб тым, што ён непасрэдна не ўдзельнічаў у тэхнічных аперацыях: «казал есми тиснути» (гл. с. 37), «выложена працею и вытиснена повелением ученого мужа Франциска Скорины» (гл. с. 151), «доконана ест сия книга... повелением, працею и выкладом избранного мужа в лекарскых науках доктора» (гл. с. 53) і г. д. Звесткі, што С. асабіста працаваў у друкарні, адсутнічаюць. У Празе ў 1-й чвэрці 16 ст., акрамя друкарні, якая належала Яну Пытліку, Яну Севярыну і яго сыну Паўлу, дзейнічала яшчэ некалькі (Мікулаша Конача, Яна Шмергаўскага). Ніводная з іх не карысталася кірылаўскім шрыфтам. Арнаментальны, ілюстрацыйны матэрыял пражскіх выданняў С., як і яго шрыфты, не мае прамых паралеляў сярод вядомых да гэтага часу інкунабулаў і палеатыпаў канца 15 — першых дзесяцігоддзяў 16 ст. Можна дапусціць, што ў пражскай друкарні С. працавалі чэш. майстры, а таксама і яго суайчыннікі. Падрыхтоўка рукапісу, малюнак шрыфтоў, падбор ілюстрацый, магчыма, і карэктарская праца былі выкананы самім С. Некат. манаграмы на гравюрах да гэтага часу не расшыфраваны. Нельга цалкам выключыць таксама і тое, што кнігі С. маглі друкавацца ў адной з дзейных у той час пражскіх друкарняў. На думку С. *Александровіча*, які развіў агульную гіпотэзу А. С. Мыльнікава, яны маглі выйсці ў друкарні *Севярынаў*. Больш паказальным знешнім фактарам, які мог спыніць дзейнасць С. ў Празе, быў мор, што пачаўся ў красавіку 1520 у раёне Нове-Места. Пераезд першадрукара ў *Вільню* (1520 ці 1521) быў зразумелым, калі прыняць да ўвагі ўсю накіраванасць дзейнасці С., яго імкненне служыць свайму народу (гл. *Віленскі перыяд у жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны*).

Аб другім пражскім перыядзе жыцця і дзейнасці С. 1530—40-х г. вядома з прац А. В. Флароўскага. У даследаванай ім грамаце караля Фердынанда І, дадзенай сыну Ф. Скарыны Сімяону 29.1.1552, адзначана, што С. некат. час быў «загардником» (садоўнікам) пры каралеўскім парку на Градчанах (па паўн. боку «Аленевага рова»), заснаваным у 1534. Хутчэй за ўсё ён выконваў абавязкі кваліфікаванага вучонага-садавода. Годнасць доктара «в лекарских науках», атрыманая ім у Падуі, патрабавала пэўных ведаў па батаніцы. Флароўскі выказаў меркаванне, што С. памёр перад 1541, але гэта гіпотэза, заснаваная на некат. звестках чэш. хронікі Вацлава Гаека, выклікае сумненне. Вышэй названая грамата 1552 дазваляла карыстацца Скарыне Сімяону — сыну С.— усёй захаванай спадчынай першадрукара: маёмасцю, кнігамі, пазыковымі абавязацельствамі.

*Літ.:* 201; 203; 312; 459; Ясінскі А. З культурнае гісторыі Чэхіі пачатку XVI-га сталецця//Чатырохсотлецце беларускага друку. 1525—1925. Мн., 1926.

*Г. Я. Галенчанка.*

**ПРАТАСЕ́НЯ** Іван Міхайлавіч (н. 1931), беларускі сав. мастак. Аўтар акварэлі «Кветкі Радзімы. Францыск Скарына» (1986, 80×60 см, Дзярж. маст. музей БССР). На фоне краявіду роднай Полаччыны з лунаючым буслам — выява С., створаная на аснове гравюрнага партрэта з «Бібліі». Вертыкальная пабудова кампазіцыі і насычаны каларыт падкрэсліваюць велічнасць першадрукара, радасць сустрэчы з родным краем.

**ПРАТЭСТАНТЫ́ЗМ** [ад лац. protestans (protestantis) які публічна даказвае], адзін з асн. (побач з каталіцызмам і праваслаўем) кірункаў у хрысціянстве. Аб'ядноўвае шэраг самастойных цэркваў і сектаў (лютэранства, кальвінізм, англіканская царква, метадысты, баптысты, адвентысты і інш), якія некалькі адроз-

ніваюцца культам і арганізацыяй, але звязаны агульнасцю паходжання і дагматыкі. Тэрмін «П.» паходзіць ад т. зв. Пратэстацыі 20 імперскіх чыноў ад 19.4. 1529— дэкларацыі шэрагу ням. князёў і гарадоў, што была накіравана супраць антылютэранскай пастановы на імперскім сейме ў Шпееры. Асн. дагматычныя палажэнні П. сфармуляваны яго заснавальнікамі М. *Лютэрам,* Ж. Кальвіным, У. Цвінглі.

Развіццё капіталіст. грамадскіх адносін паставіла на пярэдні план бурж. індывідуалізм і патрабавала адпаведнага пераўтварэння ў рэліг. сферы. Сац.-класавы сэнс паяўлення П. ў тым, што ён адлюстроўваў інтарэсы буржуазіі, якая нараджалася. Пратэстанцкая тэалогія асн. ўпор робіць на рэліг. суб'ектыўнасць, на маральную дзейнасць чалавека, імкнучыся менавіта ў іх адшукаць доказы быцця абсалюту. Найб. істотныя тыпалаг. рысы П.: суб'ектывізацыя рэлігіі, заснаваная на разуменні зместу веры як адносін паміж чалавекам і богам, прынцыповае кіраўніцтва правілам Sola fides — «адна (толькі) вера», хрыстацэнтрызм, уяўленне пра бога як пра жывога ўдзельніка адносін чалавек — бог, апеляцыя да прынцыпаў першапачатковага («ісціннага») хрысціянства, звядзенне зместу рэлігіі да веры, прыняцце Бібліі за гал. крытэрый веруючых (яна вызначае рэліг. традыцыі), стымуляцыя пачуцця залежнасці ад бога і інш. Лютэранства і кальвінізм — найб. значныя па сваіх разыходжаннях формы ў П. Буржуазны характар П. ў кальвінізме выяўлены найб. поўна. Найб. істотныя моманты канцэпцыі Кальвіна ў параўнанні з дактрынай Лютэра — вучэнне пра бога і чалавека, божую волю і наканаванне, хрысц. жыццё. У разуменні Кальвіна цэнтр. аспект хрысц. вучэння — думка пра веліч бога. Паводле Кальвіна, вера ў божую волю дае псіхалаг. упэўненасць, магчымасць індывіду дзейнічаць больш рашуча і ў канчатковым выніку спрыяе вызваленню ўдзельнікаў капіталіст. адносін ад сярэдневяковага страху перад асабістай ініцыятывай, дае маральную санкцыю на прадпрымальніцкую рашучасць і актыўнасць буржуазіі. Зыходны момант разважанняў Лютэра — сумненне ў краевугольным пастулаце ўлады каталіцкай царквы; бог далёкі ад чалавека і да яго можна толькі наблізіцца ў залежнасці ад богаўгоднасці зробленага. Паводле Лютэра, сам бог робіць ласку чалавеку і адзіны сродак выратавання — вера. Гэтае тэалагічнае палажэнне, якое паставіла на пярэдні план інтымны рэліг. вопыт, завастрыла праблему свабоды. Адразу пасля *Рэфармацыі* наступіў час распрацоўкі пратэстанцкай схаластыкі (Ф. *Меланхтан,* Гутэр, Герхард і інш.), дзякуючы якой гэты рух зацвердзіўся як царк. форма жыцця і думкі. Незадаволенасць «артадоксіяй», у якой пераважаў дух фармалізму і рацыяналістычнасці, прывяла да адраджэння ў канцы 16 ст. перадрэфармац. форм ням містыцызму (Вейгель, Штыфель, Бёме, Арнт).

Дзейнасць і светапогляд С. былі ідэйна сугучны з рэфарматарскімі рэлігійна-маральнымі і сацыяльна-культ. тэндэнцыямі канца 15 — пач. 16 ст., якія прывялі да П. Гэта перш за ўсё ідэі рэлігійна-маральнага аздараўлення грамадства, права ўсіх вывучаць і тлумачыць Біблію, «абміршчэння» яе, неабходнасці рэформ у галіне паліт. і судоваправавых інстытутаў, а таксама ў сферы адукацыі. Ідэйная спадчына С. паслужыла адной з асноў рэфармацыйна-гуманіст. і культурна-асв. дзейнасці прагрэс. слаёў бел. грамадства па стварэнню разгалінаванай сеткі пратэстанцкіх, а таксама правасл. школ і вучылішчаў. С. зрабіў спробу сінтэзу каштоўнасцей хрысціянства з рэнесансава-гуманіст. канцэпцыямі, засваенне якіх ён пачаў у час вучобы ў Кракаўскім, а затым у Падуанскім ун-тах. Перакладаючы Біблію, па сутнасці заклікаючы да яе свабоднага вывучэння, С. абапіраўся на радыкальную наміналіст. ідэю пра тое, што паміж божым і чалавечым разуменнем ляжыць прорва і таму прэтэнзіі царквы на манапольнае валоданне ісцінай у апошняй інстанцыі праблематычныя. Хоць думка С. не была накіравана супраць царк. інстытутаў, аднак і ў такім варыянце зусім відавочна паўставала пытанне ў духу П. пра ўстараненне пасрэдніцтва афіц. царквы і тэалогіі ў адносінах чалавека да «божага адкрыцця». С. наўрад ці ўсведамляў вынікі сваёй «пратэстанцкай» думкі, але яе развіццё непазбежна вяло да расхіствання традыц. для Беларусі форм хрысц. рэлігіі. Гэта адкрывала магчымасць звароту свядомасці да ідэі ўнутранай свабоды хрысціяніна, якая ў П. з'яўляецца асн. этычным прынцыпам. Сугучнасць шэрагу скарынінскіх ідэй духу П. дала падставу П. У. Уладзіміраву для гіпотэзы аб тым, што ў 1525 С. наведаў *Вітэнберг,* дзе сустракаўся з Лютэрам. У маі 1530 С. знаходзіўся ў Кёнігсбергу ў рэзідэнцыі прускага герцага *Альбрэхта* Гогенцолерна — адкрытага прыхільніка лютэраўскай рэліг. рэформы. Аднак пытанне аб канфесіянальнай прыналежнасці С. да гэтага часу застаецца адкрытым. Правасл. артадоксы 16 ст. абвінавачвалі яго ў «злачыннай» згодзе з «Бібліяй» Лютэра. Уніяты нават лічылі яго гусітам. Сав. даследчыкі (М. А. Алексютовіч, У. І. Пічэта, С. А. Падокшын і інш.) паказалі, што пытанне пра канфесіянальную арыентацыю С. неабходна разглядаць у больш шырокім сацыяльна-культ. кантэксце, улічваць сувязь дзейнасці гэтага мысліцеля з рознымі тэндэнцыямі рэфарм. эпохі, што адлюстраваліся ў яго светапоглядзе. С., як прыхільнік верацярпімасці, не прытрымліваўся строга вызначанай рэліг. дактрыны, напр., не быў пратэстантам. Хоць па сутнасці некат. сваіх ідэй ён быў блізкі духу П., наўрад ці ёсць дастатковыя падставы гаварыць пра вызначальны ўплыў на яго рэфармацыйную дзейнасць вучэння Лютэра.

*Літ.:* Энгельс Ф. Крестьянская война в Германии//Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2. изд. Т. 7; 6; 39; 69; 232; 249. *В. П. Оргіш.*



І. Пратасеня. Кветкі Радзімы. Францыск Скарына. 1986.



С. Прывада. Францыск Скарына. 1980.

**ПРАШКÓВІЧ** Мікалай Іванавіч (1932—83), беларускі сав. літаратуразнавец. Канд. філал. н. (1964). У дысертацыі «Паэзія Сімяона Полацкага (ранні перыяд — 1648—1664 гг.)» закрануў і тэму скарынінскіх традыцый. Аўтар кнігі «Францішак Скарына — беларускі першадрукар» (1970), артыкулаў «Доктар Францішак Скарына» (Полымя. 1965. № 10); «Культурна-асветніцкая роля друкарні Мамонічаў» (450 год беларускага кнігадрукавання, 1968); «Францыск Скарына» (Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. 1969) і інш. Некат. аспекты дзейнасці і традыцый С. закрануў у рэц. на кнігі І. Галянішчава-Кутузава «Гуманізм ва ўсходніх славян» (Полымя. 1965. № 4), М. Батвінніка «Ля вытокаў вучэбнай кнігі» (Нар. асвета. 1966. № 1). *А. І. Мальдзіс.*

**ПРЫВÁДА** Сяргей Пятровіч (н. 1961), беларускі сав. графік. Аўтар літаграфіі «Францыск Скарына» (1980, 40×25 см, уласнасць мастака). С. паказаны ў доктарскай мантыі і берэце, з кнігай у руках. Мастак дае нетрадыцыйную трактоўку вобраза С.: партрэтная дакладнасць арганічна спалучаецца з умоўнасцю. Кампазіцыйнай своеасаблівасцю партрэта з'яўляюцца незвычайная пастаноўка фігуры, паставы рук, паварот схіленай галавы.

**ПРЫ́ТЧА**, павучальна-дыдактычны літаратурны жанр апавядальна-філасофскага зместу, заснаваны на алегарычных сюжэтах і вобразнай сістэме сімвалічнага сэнсу.

П. можа быць без развітага сюжэта, які ў ёй часта рэдуцыруецца да разгорнутага параўнання. У шматлікіх мадыфікацыях шырока прадстаўлена ў сусв. л-ры і фальклоры самастойна і з інш. жанрамі старaж. сярэдневяковай і новай л-ры. Склалася спецыфічная для П. паэтыка, што ўключае элементы дыдактыкі, універсальны сімвалізм, умоўнасць і значную абагуленасць вобразаў. У раннехрысц. л-ры П. шырока выкарыстоўвалася ў пропаведзях і разглядалася як агульназразумелая форма папулярызацыі багаслоўя і хрысц. догматаў. У старaж.-рус. л-ры ўключалася ў папулярны перакладны зб. «Пчала», выкарыстоўвалася Кірылам Тураўскім з мэтаю рэліг.-паліт. барацьбы [«Прытча пра душу і цела (пра сляпога і кульгавага)»].

Вял. значэнне гэтаму жанру надаваў С., які адным з першых сярод слав. вучоных адзначыў глыбокі сімвалічны сэнс П. і ролю гэтага жанру для папулярызацыі практычнай мудрасці. У прадмове да кн. «Прытчы Саламона» С. пісаў: «притчи или присловия, понеже иными словы всегда иную мудрость и науку знаменують, а иначей ся разумеють, нежели молвены бывають, и болши в собѣ сокритых таин замыкають, нежели ся словами пишуть» (гл. с. 34). Паводле тагачаснай біблеістыкі, С. прыпісваў аўтарства кн. «Прытчы» цару Саламону. У самой жа гэтай кнізе ён вылучаў 3 часткі: павучанні ў форме бацькоўскіх маральна-этычных настаўленняў сыну; прытчы «розноличьные» (розныя), кожная з якіх мае свой закончаны змест, кантэкстуальна не звязаны з папярэднімі і наступнымі аднароднымі творамі; больш «тайныя» па зместу «присловья» (заключэнні), сабраныя пасля смерці Саламона тагачаснымі вучонымі. У высокім, узнёслым стылі пісаў С. пра гэты карысны для ўсіх чытачоў жанр — для мудрых і неадукаваных, багатых і бедных, маладых і старых: «Ест бо в сих притчах сокрита мудрость, якобы моць в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро ув ореху» (гл. с. 36). С. асабліва рэкамендаваў П. простым людзям для іх навучання і маральнага ўдасканалення. У прадмове да кн. «Еклесіяст» (гл. с. 50—51) ён удакладняў, што П. найперш разлічаны для чытачоў маладых, у той час як «Еклесіяст» — для сталых, з вял. духоўным вопытам людзей. *У. М. Конан.*

**«ПРЫ́ТЧЫ САЛАМО́НА»**, «Книги еже словуть притчи Соломона царя Израилева сына Давыдова, он же былъ царем въ Ерусалиме», пражскае выданне С., якое выйшла ў свет 6.10.1517. Уваходзіць у склад раздзела «Пісанні» Старога запавету. Адкрываецца тытульным лістом з гравюрай і назвай кнігі. Тут жа ўказана: «Зуполъне выложены на рускій языкъ докторомъ Францискомъ Скориною с Полоцка». На арк. 1-м адв.—4-м змешчана «Предисловие в притчи премудрага Саломона царя Израилева». У ім апавядаецца пра мудрасць гэтага біблейскага персанажа, дадзена тлумачэнне яго імя («Выкладывается же руским языком Саломон еже ест мирный или спокойный, понеже был мир и покой по вся времена царства его»). Паведамляецца пра пісьменніцкую дзейнасць Саламона, які склаў «Прытчы», «Еклесіяст» і «Песню песням». Коратка характарызуюцца апошнія 2 кнігі і больш падрабязна першая. С. высока ацаніў «П. С.», якія, на яго думку, неабходна «чести всякому человѣку, мудрому и безумному, богатому и вбогому, младому и старому, наболѣй тым, они же хотять имети добрые обычае и познати мудрость и науку». На арк. 4-м адв. даў анатацыю — раскрыў змест кнігі і ўказаў, колькі ў ёй раздзелаў. На арк. 5—47-м адв. прыведзены тэкст 31-га раздзела «П. С.», на арк. 48-м — пасляслоўе. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Фармат выдання — у 4-ю долю аркуша. Аб'ём кнігі 48 арк., сабраных у 6 8-аркушавых сшыткаў. Набор выкананы пражскім шрыфтам С.— вышыня 10 радкоў 75 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя змешчана на верхнім баку аркуша ўверсе справа. Маст. аздоба — 2 аднолькавыя надрукаваныя з адной формы ілюстрацыі *«Суд Саламона»*, адна канцоўка, 2 віньеткі і 34 ініцыялы, надрукаваныя з 28 дошак. Віньеткі, адна з якіх (105×8 мм) размешчана гарызантальна, а другая (148×9 мм) вертыкальна, акаймоўваюць арк. 1-ы адв., на ім пачынаецца прадмова. Канцоўка (86×16 мм) завяршае анатацыю на арк. 4-м адв. Ініцыялы змешчаны ў пачатку раздзелаў і інш. тэкстаў.

«П. С.» апісаў упершыню В. С. *Сопікаў* у 1813. Яму былі вядомы 3 экз. гэтага пражскага выдання С. Усе яны знаходзіліся ў складзе канвалютаў. Першы з іх належаў калекцыянеру П. П. Дуброўскаму; тут былі пераплецены кнігі «Іоў», «Еклесіяст», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «П. С.» і «Песня песням». Месцазнаходжанне канвалюта цяпер невядома. Два іншыя канвалюты знаходзіліся ў б-цы Ф. А. *Талстога.* Першы з іх змяшчаў кн. «Прарок Данііл», «Юдзіф», «Суддзі», «Еклесіяст», «Эсфір», «П. С.» і «Ісус Навін», другі — кн. «Ісус Сірахаў», «Іоў», «П. С.», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Юдзіф», «Эсфір», «Плач Ераміі» і «Прарок Данііл». Канвалюты такога складу цяпер не захаваліся. Яны былі расплецены пры паступленні збору ў імператарскую Публ. б-ку. Другі экземпляр Талстога раней належаў Кіева-Пячэрскай лаўры; ён быў куплены калекцыянерам у красавіку 1811. П. І. *Кепену* ў 1825 былі вядомы 5 экз. «П. С.», 2 з іх, якія належалі М. П. Румянцаву, упершыню ўводзіліся ў навук. ўжытак. Магчыма, што гэта экземпляры № 6229 і 6370, якія цяпер знаходзяцца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ). У 1836 П. М. *Строеў* апісаў экземпляр «П. С.», што належаў І. М. *Царскаму,* а цяпер знаходзіцца ў Дзярж. Гіст. музеі (ДГМ, Цар. 9) у складзе канвалюта: «П. С.», «Еклесіяст», «Песня песням», кн. «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Прарок Данііл». І. П. *Сахараў* у 1849 увёў у навук. ўжытак экземпляры А. І. *Касцерына,* М. П. *Пагодзіна* і купцоў Якаўлевых. Першы з іх уваходзіць у склад канвалюта, дзе разам з «П. С.» пераплецены кн. «Іоў», «Еклесіяст», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Плач Ераміі» і «Прарок Данііл», канвалют знаходзіцца ў Дзярж. Публ. б-цы (ДПБ, 1.5.4 ³/₃), там жа і экземпляр Пагодзіна. Месцазнаходжанне экземпляра Якаўлевых невядома. У 1878 у каталогу б-кі Новарасійскага ун-та апісаны экземпляр «П. С.», які знаходзіцца ў Адэскай дзярж. навук. б-цы. У 1884 А. С. *Радоскі* апісаў «П. С.» ў складзе канвалюта б-кі Пецярбургскай духоўнай акадэміі, ён уключаў таксама кн. «Ісус Сірахаў», «Іоў», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Эсфір», «Плач Ераміі» і «Прарок Данііл». Канвалют у такім складзе цяпер невядомы. У 1923 А. А. Увядзенскі апісаў экземпляр «П. С.» са збору купцоў і прамыслоўцаў *Строганавых.* У той час ён знаходзіўся ў Строганаўскім палацы-музеі ў Петраградзе. Гэта канвалют, які ўключае, акрамя «П. С.», кн. «Іоў», «Руф», «Прамудрасць божая» і «Ісус Сірахаў»; захоўваецца ў б-цы АН СССР (БАН, 37.1.17). У 1968 на старонках час. «Советское славяноведение» Я. Л. *Неміроўскі* ўвёў у навук. ўжытак 4 раней невядомыя экземпляры ДБЛ (№ 6308, 6314, 6326, 6327), экземпляры ДГМ (Шч. 69) і Музея ўкр. мастацтва ў Львове (Q1181—№ 070518). Экземпляр «Бібліі» С., дзе былі і «П. С.», належаў П. В. *Шчапаву.* Ён быў яшчэ ў 1878 вядомы І. П. *Каратаеву,* які, аднак, не раскрыў зместу канвалюта. Экземпляр ДБЛ № 6308 у канвалюце, які змяшчае таксама кнігі «Эсфір», «Іоў», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Песня песням», «Еклесіяст» і «Плач Ераміі», раней належаў б-цы Саратаўскага дзярж. ун-та імя М. Г. Чарнышэўскага. Экземпляр ДБЛ № 6327 паходзіць з калекцыі М. М. Бірукова. На яго тытульным лісце часткова захаваўся запіс, зроблены ў самой друкарні С.: «А то ся стало накладом Богдана Онкова...» Экземпляр ДБЛ № 6314 паступіў са збору Г. П. Георгіеўскага. Няпоўны (адсутнічаюць арк. 11—14-ы, 48-ы) экз. ДБЛ № 6370 паступіў у б-ку са збору П. П. Шыбанава. Адзін з двух няпоўных экземпляраў «П. С.» (ДБЛ № 6226 і 6229) паходзіць са збору І. Я. Лукашэвіча, які паступіў у Маск. Публ. і Румянцаўскі музеі ў 1870. В. П. Коласава ў 1978 увяла ў навук. ўжытак новы экземпляр «П. С.», які разам з кн. «Ісус Сірахаў», «Юдзіф» і «Прамудрасць божая» ўплецены ў рукапісны палемічны зборнік 16—17 ст. Зборнік раней належаў Сафроніева-Маўчанскаму манастыру непадалёку ад Пуціўля, а ў канцы 19 ст.— Курскай семінарыі. У 1920-я г. кнігу набыў укр. філолаг П. М. Папоў (1890—1971), разам з архівам якога яна паступіла ў Аддзел рукапісаў Цэнтр. навук. б-кі АН УССР у Кіеве. Вядома 14 экз. «П. С.», з іх 7 поўных.

*Літ.:* 206; 668. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ПСАЛМЫ́** (грэч. psalmói), песнапенні, што складаюць Псалтыр; творы іудзейскай рэліг. лірыкі, якія ўвайшлі ў хрысц. культ.

Біблейская кананічная кніга Псалтыр складаецца з 150 П. На думку даследчыкаў, зборнік псалмоў, прызначаны для рэліг. культу, узнік не раней 6 ст. да н. э. і пазней увайшоў у грэч. звод Бібліі (Септуагінта), які паслужыў першакрыніцай для лац. і стараслав. перакладаў. Паэтыка П. грунтуецца на сінтаксічным паралелізме — варыяцыях адной і той жа думкі ці тэмы — або на выказваннях, якія знаходзяцца паміж сабою ў адносінах узыходнай градацыі. У старaж.-рус. рукапісных спісах П. вядомыя з 11 ст. Яны паўплывалі на фальклор (прыказкі, прымаўкі), выкарыстоўваліся ў л-ры (летапісы, творы Кірыла Тураўскага і інш.), педагогіцы, царк. музыцы.

Біблейскі зборнік П.— першая бел. друкаваная кніга, выдадзена С. у Празе (1517),— паўтораны ў складзе «Малой падарожнай кніжкі» (Вільня, каля 1522). Прадмова С. да гэтай кнігі — узнёслы панегірык П., якія, на думку С., увасабляюць практычную мудрасць і маст. дасканаласць усёй Бібліі: лечаць цялес-

ныя і духоўныя хваробы, асвятляюць душу і розум, утаймоўваюць гняўлівых і лютых, чыняць мір і спакой, адганяюць смутак і журбу, выхоўваюць пачуцці людзей, сцвярджаюць паміж імі мір, любоў і дружбу, яны шчыт супраць усялякіх спакус, маладым — абарона і радасць, старым — суцяшэнне і песня, набожным жанчынам—малітва і «покраса», маральная крэпасць для мужчын, малым дзецям — пачатак добрай навукі. «Псалом жестокое серце мякчить и слезы с него, якобы со источника, изводить. Псалом ест ангельская песнь, духовный темъян, вкупе тело пѣнием веселить и душу учить» (гл. с 21). С., абапіраючыся на аналогію традыцыйна аўтарытэтных і папулярных ва ўсх.-слав. рэгіёне П., якія тут задоўга да пачатку бел. кнігадрукавання шырока выкарыстоўваліся як сродак адукацыі і маральнага выхавання, развіваў з пазіцый хрысц. гуманізму антычную тэорыю катарсісу — духоўнага ачышчэння праз успрыманне маст. слова ў яго спалучэнні з музыкай. Гэта быў па сутнасці свецкі асветніцка-рэнесансавы падыход да біблейскай лірыкі. Адначасова С.— мысліцель пераходнай эпохі ад сярэднявечча да новага часу — пад уплывам тагачаснай тэалогіі тлумачыў тэмы, матывы і вобразы П. сімвалічна — як эзатэрычныя прароцтвы пра аднасутнасную божую тройцу, пра нараджэнне, пакуты і ўваскрасенне Ісуса Хрыста, з якімі хрысціяне звязвалі надзею на «судны дзень» і вечнае жыццё. Заключныя словы прадмовы С.— «Теже розделил есми вси псалмы на стихи по тому, яко ся в ыных языцех делить» (гл. с. 24) — сведчаць, што ён разумеў рытмічна арганізаваную, вершаваную структуру П. *У. М. Конан.*

**«ПСАЛТЫ́Р»**, «Псалѣтырь или песни с[вя]т[о]го пророка божия Давыда царя Ерусалимъскао Христе», віленскае выданне С. (каля 1522), якое ўваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. Адкрываецца тытульным лістом, дзе чырвоным колерам надрукавана назва кнігі. На арк. 1-м адв.—3-м змешчана «Предъсловие во псалтырь», якое з'яўляецца скарочанай прадмовай *«Псалтыра» 1517*. У параўнанні з апошняй апушчаны тэкст, дзе ідзе гаворка пра прыёмы выдання, сістэму адсылак і глосы на палях, што павінны растлумачваць чытачам незнаёмыя ім словы. На арк. 4—128-м змешчана «Давыда св[я]т[о]го пророка божия и царя Ерусалимска песни... зовемые псалтырь, повчение на добро и отметение от злых». Тэкст мае толькі нязначныя адхіленні ад пражскага выдання. На арк. 29—140-м публікуюцца «Песьни избраныи». На арк. 140-м — пасляслоўе: «Доконана ес[ть] псалтырь сия з божеюпомощию повелениемъ працею и великою пилностью в лекарстве доктора Франциска Скорины из славнаго града Полоцька». Ні час, ні месца выдання ў прадмове і пасляслоўі не названы. Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём 140 арк., сабраных у 17 8-аркушавых і адзін 4-аркушавы сшытак. Фармат выдання ў 8-ю долю аркуша. На паласе 20 радкоў. Набор выкананы віленскім шрыфтам С.— вышыня 10 радкоў 52—53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя змешчана на верхнім баку аркуша ўверсе справа. У верхняй частцы аркуша калонтытул «Псалтырь». Кніга надрукавана ў адну фарбу; чырвоны колер толькі на тытульным лісце. Аздоба «П».—79 заставак і віньетак, а таксама 166 ініцыялаў-буквіц. Тытульны ліст упрыгожаны вялікай (63×15 мм), сярэдняй (63×10 мм) і 2 малымі (63×5 мм) віньеткамі. Пачатак асн. тэксту на арк. 4-м падкрэслены 2 сярэднімі застаўкамі і вял. пражскім ініцыялам «Б» (20×28 мм), на якім унутры літары выява чэрапа, над цэнтр. штрыхом выява дзіцяці, у левым верхнім вуглу — крылатае сонца. Гэты ініцыял выкарыстоўваўся раней 12 разоў у 6 пражскіх выданнях. Асн. тэкст «П.» падзелены на кафізмы, у пачатку якіх змешчаны застаўкі (63×10 мм) і буквіцы (11×15 мм) [выключэнне — 6-я кафізма (арк. 34-ы), дзе буквіца меншых памераў].

«П.» к. 1522 быў вядомы яшчэ І. *Добраўскаму*. В. С. *Сопікаў* у 1813 указаў на «надзвычай рэдкі і адзіны экземпляр гэтага выдання, які знаходзіцца ў бібліятэцы кандыдата Маскоўскага універсітэта К. Ф. Калайдовіча», адзначыўшы, што экземпляр гэты выпадкова куплены ў Маскве ў 1811. Кнігагандлярам, відаць, быў І. Ф. Ферапонтаў, з дапамогай якога набываў выданні С. для сваёй б-кі і праф. Маскоўскага ун-та Ф. Р. *Баузе*. Экземпляр, што належаў Калайдовічу, прапаў у час маскоўскага пажару 1812. П. І. *Кепен* у 1825 указаў, што поўны экземпляр «Малой падарожнай кніжкі» з «П.» ён бачыў у зборы праф. К. Манерта ў Ландсгуце (Баварыя). Лёс гэтага экземпляра невядомы. Новы экземпляр «П.» ўведзены ў навук. ўжытак у 1833; на той час ён знаходзіўся ў зборы А. С. Шыраева. Збор быў набыты для Расійскай Акадэміі; «П.» апісаны ў яе друкаваным каталогу 1840. У 1842 «П.» паступіў у б-ку Акадэміі навук, дзе і знаходзіцца зараз (БАН, 37.3.3). Экземпляр пераплецены ў кардон у ціснёнай скуры. На карашку наклеены ярлык «55», на пераплётных аркушах — апісанне, дзе адзначана: «Да гэтага часу вядомы былі толькі тры экземпляры яго, якія знаходзіліся ў праф. Манерта ў Ландсгуце, у Добраўскага ў Празе і ў Калайдовіча ў Маскве. Экземпляр Калайдовіча згубіўся ў 1812 г.». У экземпляры няма аркушаў 1, 3, 4, 16, 128-га, большасць з іх заменена рукапіснымі факсімілe. У 1879 І. Ф. Такмакоў зарэгістраваў экземпляр «П.», што знаходзіўся ў б-цы Маскоўскага гал. архіва Мін-ва замежных спраў. Цяпер ён захоўваецца ў Цэнтр. дзярж. архіве стараж. актаў у Маскве (ЦДАСА, ф. 1250, № 2). Кніга ў рэстаўрыраваным пераплёце: дошкі ў скуры з ціснennем на старонках. На форзацы экслібрыс: «Государственного древлехранилища Памятники письменные». Экземпляр поўны і параўнальна добра захаваны. У 1888 А. С. *Петрушэвіч* уводзіць у навук. ўжытак новы экземпляр «П.» з уласнага збору, які ён экспанаваў на Археалагічна-бібліяграф. выстаўцы ў Львове. У 1904 Петрушэвіч падараваў гэты экземпляр Царкоўнаму музею ў Львове. Зараз кніга знаходзіцца ў Музеі ўкр. мастацтва ў Львове (№ 420/070308). Яна заключана ў кардонны пераплёт 19 ст., карашок з чорнай скуры. У пачатак уплецена 7 рукапісных аркушаў з тэкстамі малітваў. Захаваліся арк. 1—138-ы. На арк. 1-м і 3-м адв.— уладальніцкія запісы Васіля Калмара Кавалькіевіча, зробленыя ў 18 ст. У 1963 Дж. С. Г. Сіманс і Э. Р. Тырэл апісалі экземпляр «П.», які належыць б-цы Кембрыджскага ун-та (Вялікабрытанія). Кнігу падараваў б-цы калекцыянер Эліс Мінс. Я. Л. Неміроўскі ў 1968 увёў у навук. ўжытак экземпляр Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 2044), што паступіў у б-ку ў 1919 з нацыяналізаванага антыкварыяту П. П. Шыбанава. Ён пераплецены разам з віленскім «Часасловам» і «Акафістам Ісусу». Пераплёт — дошкі ў чырвонай скуры з залатым ціснennем. Захаваліся аркушы 13—40-ы, 44—46-ы, 49—95-ы, 97—140-ы. Некат. аркушы. што адсутнічаюць, дапоўнены ад рукі. На адв. арк. 140-га уладальніцкі запіс Міхаіла Сямёнава (імя аднэўлена ў лац. транскрыпцыі). Тут жа скорапісам 16—17 ст. напісаны тэкст малітвы. Не ясна паходжанне «П.» са збору Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ. 1.5.8 $^{a}/_{1}$). Кніга заключана ў пераплёт 19 ст. з кардоннымі старонкамі, якія абклеены «мармуровай» паперай. Карашок і ражкі пераплётных вокладак з жоўтай скуры. На карашку — чырвоныя скураныя ярлыкі з надпісамі: «Малая падарожная книжица». Ч. І. Псалтырь. Вильно, около 1525 г.». Ніжэй золатам выцеснены герб Расійскай імперыі і літары «ИБ» (імператарская б-ка). Экземпляр поўны. Запіс 17 ст.: «Захария Смолянин продал...». У апошні час сталі вядомы экземпляры «П.», якія знаходзяцца ў Брытанскай б-цы (Лондан), у б-цы Люблянскага ун-та (СФРЮ) і ў Каралеўскай б-цы ў Капенгагене (Данія). Да апошняга часу не быў апісаны няпоўны экземпляр «П.» (захаваліся аркушы 11-ы, 14-ы, 18—23-і, 26—31-ы, 34—38-ы, 41—56-ы, 61-ы, 63—140-ы), які ўваходзіць у канвалют Меньш. 1430, што знаходзіцца зараз у Дзярж. Гістарычным музеі ў Маскве. Раней кніга належала збіральніку П. І. *Шчукіну*. Вядомы 10 экз. «П.».

*Літ.:* 613; 648. *Я. Л. Неміроўскі.*

**«ПСАЛТЫ́Р» 1517**, «Песни царя Давыда еже словуть Псалтыръ», першае вядомае пражскае выданне С., якое выйшла ў свет 6.8.1517. Уваходзіць у склад 3-га раздзела Старога запавету («Писания»). Усх.-слав. народы з даўніх часоў выкарыстоўвалі «П.» як кнігу для навучання грамаце. Правасл. царква выкарыстоўвае «П.» для богаслужэння. Змяшчае 150 т. зв. Давідавых псалмоў — твораў іудзейскай і хрысц. царк. лірыкі. Стараж. ўсх.-слав. пераклады «П.», якія захаваліся, адносяцца да 11 ст. На тытульным лісце гравюра на дрэве *«Цар Давід»* і назва кнігі. На адвароце тытула — гравюра *«Генеалагічнае дрэва Ісуса»*. На арк. 2—4-м змешчана прадмова, дзе С. знаёміць чытачоў з прызначэннем і прыёмамі выдання. Адна з крыніц прадмовы — «Беседы Василия Великого на первую часть первого псалма». С. высока ацэньваў «П.», які «детем малым початок всякое доброе науки, дорослым помножение в науце, мужем моцное утверьжение». Навучальны характар «П.» падкрэсліў С. і ў прадмове да «Бібліі»: «Хощеши ли умети граматику или, по-рускы говорячи, грамоту, еже добре чести и мовити учить, знайдеши в зуполной Бивлии, Псалтыру, чти ее». Тлумачачы ў прадмове прыёмы выдання, С. гаворыць пра выкарыстаную ім сістэму спасылак і пра глосы на палях, якія павінны растлумачыць чытачам незнаёмыя ім словы: «...положил есми на боцех некоторыи слова для людей простых... руским языком, что которое слово знаменуеть». На арк. 5—129-м змешчаны

тэкст псалмоў, на арк. 130—142-м т. зв. выбраныя песні Майсеевы. Мова «П.» — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём 142 арк. Складзены з 17 8-аркушавых і 6-аркушавага сшыткаў. Фармат выдання — у 4-ю долю аркуша. На паласе 20 радкоў. Набор выкананы пражскім шрыфтам С.— вышыня 10 радкоў 75 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя (нумарацыя аркушаў) зроблена на верхнім баку аркуша ўнізе справа кірылаўскімі лічбамі. У фаліяцыі памылка: на арк. 38-м стаіць лічба «30». У «П.» 3 гравіраваныя на дрэве ілюстрацыі, паколькі змешчаная на тытульным лісце гравюра «*Цар Давід*» паўторана на спускавой паласе. Верхняя яе частка занята прыгожай П-падобнай застаўкай (45×84 мм), у выразе якой змешчана выява друкарскага знака С. Другая застаўка кнігі (15×85 мм) папярэднічае «Песням Майсеевым». У пачатку псалмоў і песень змешчаны гравіраваныя на дрэве і заключаныя ў прамавугольныя рамкі ініцыялы: 165 адбіткаў з 2 дошак.

«П.» стаў вядомы ў 1776, калі пецярбургскі кнігагандляр І. Вогак набыў канвалют, у якім было 6 пражскіх выданняў С. і ўрывак з «П.». Звесткі пра гэта ўвеў у навук. ўжытак у тым самым годзе Л. І. *Бакмейсцер*. Канвалют, аднак, быў згублены, а паведамленне Бакмейсцера большасці даследчыкаў засталося невядомым. Новае адкрыццё «П.» адбылося ў 1860-я г., калі А. І. *Хлудаў* набыў добра захаваны экземпляр (у ім адсутнічаюць толькі арк. 1-ы і 130-ы) на Ніжагародскім кірмашы. У навук. ўжытак выданне ўвёў А. Я. *Віктараў* у 1867. У далейшым гэты экземпляр знаходзіўся ў б-цы Нікольскага адзінаверчаскага манастыра ў Маскве. Цяпер ён у Дзярж. Гіст. музеі (ДГМ, Хлуд. 4). Другі экземпляр «П.» быў набыты ў 1904 пецярбургскай Публ. б-кай (у ім адсутнічае арк. 142-і з пасляслоўем С.), знаходзіцца зараз у Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (ДПБ, шыфр VIII.2.62., інв. № 3091). Апісаны шэраг рукапісных копій «П.», зробленых у 16—17 ст.

*Літ.*: 530; 613; 694. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ПТАЛАМЕЙ II** Філадэльф, егіпецкі цар, правіў у 285—246 да н. э., у 285—283 — суправіцель, другі з грэка-македонскай дынастыі Пталамеяў (Лагідаў), сын аднаго з палкаводцаў *Аляксандра Македонскага*, які атрымаў у праўленне Егіпет і прыняў у 305 царскі тытул. Меў добрую на той час адукацыю, быў таленавітым палкаводцам і правіцелем. У знешняй палітыцы імкнуўся ўхіліцца ад адкрытай барацьбы, аддаваў перавагу перагаворам і дагаворам. Значна расшырыў свае ўладанні ў Афрыцы: вярнуў Кірэну, набыў гарады і землі ў Сірыі; пасля 2-й сірыйскай вайны атрымаў даволі вял. уладанні ў Міжземнамор'і і шмат прыбярэжных гарадоў (Эфес, Каун). Падтрымліваў гандл. сувязі з Рымам. Пры яго двары ў Александрыі жылі многія вядомыя тагачасныя вучоныя (Феакрыт, Калімах, Эратасфен, Заіл і інш.). Значна павялічыў створаную бацькам Александрыйскую б-ку, заснаваў новую. С. гаворыць аб ім у сваіх прадмовах да кн. «Ісус Сірахаў» і «Эсфір», указвае на тое, што ў яго б-цы было мноства кніг. *В. У. Чапко.*

**ПТАЛАМЕЙ III** [Евергет, егіпецкі цар, правіў у 246—221 да н. э., трэці з грэка-македонскай дынастыі, сын *Пталамея II* Філадэльфа. Егіпет пры ім дасягнуў вяршыні сваёй магутнасці. Расшырыў уладанні, далучыўшы Сірыю, Кілікію, Паўднёваіанічныя астравы. Карыстаўся падтрымкай азіяцкіх гарадоў. Пасля перамогі над сірыйскім царом Селеўкам II у 3-й сірыйскай вайне (247—239 да н. э.) атрымаў 40 тыс. таланаў серабра, шмат каштоўных вырабаў, сярод якіх былі адабраныя Камбізам пры пакарэнні Егіпта свяшчэнныя выявы; за вяртанне іх егіпецкім храмам атрымаў мянушку Евергет (дабрадзей). Атрымаўшы перамогу ў 245 каля вострава Андрасе над македонцамі, зацвердзіў гегемонію Егіпта на Міжземным моры. У 223 запрошаны галоўнакамандуючым Ахейскім саюзам для вызвалення Грэцыі, але хутка стаў на бок праціўніка. У канцы царствавання магутнасць Егіпта стала слабець. Упамінаецца ў прадмове С. да кн. «Ісус Сірахаў» у сувязі з яго запрашэннем у Александрыю аўтара гэтай кнігі Ісуса Сіраха, які пераклаў з стараж.-яўр. на грэч. мову «Эклесіяст», што папоўніла б-ку Александрыі. *В. У. Чапко.*

**ПТАЛАМЕЙ IV** Філапатар, егіпецкі цар, правіў у 221—204 да н. э., з дынастыі Пталамеяў. Справамі кіравання займаўся мала, большую частку часу прысвяціў забавам, за што атрымаў мянушку трыфан (распешчаны). Як і яго дзед і бацька, шмат увагі аддаваў мастацтву, сам пісаў трагедыі («Адоніс»), пабудаваў храм у гонар Гамера. Пры Пталамеі IV паліт. значэнне Егіпта рэзка зменшылася. У гэты час узмацнілася Македонія, у барацьбе з Сірыяй Егіпет страціў шэраг гарадоў (Тыр, Пталемаіду), а таксама Палесціну. С. ўпамінае яго ў прадмове да кн. «Прамудрасць божая», якую напісаў на грэч. мове *Філон Александрыйскі.*

**ПУБЛІЦЫСТЫКА** (ад лац. publicus грамадскі). Заснавальнікам навукова-асветніцкай, маральна-дыдактычнай, філас. і гуманіст. П. ў бел. л-ры з'яўляецца С. У 16 ст. П. развівалася не толькі ў чыста літаратурных жанрах, але таксама ў рамках рэліг. прапаведзі і каментарыяў да біблейскіх сюжэтаў, ідэй і вобразаў. Адрасуючы свае кнігі простаму народу, ён напісаў да кожнай з іх прадмовы і пасляслоўі, дзе рэнесансава стрыманая і ўраўнаважаная публіцыст. страснасць і аратарская вобразнасць займаюць значнае месца. Вытокі яго П.— у стараж.-рус. і старабел. л-рах (элементы П. ў «Слове аб законе і боскай ласцы» Іларыёна, у «словах», павучэннях і казаннях Кірыла Тураўскага, у бел.-літ. летапісах 14—16 ст., у рукапісных прадмовах і пасляслоўях). Разам з тым, атрымаўшы адукацыю ў лепшых для свайго часу еўрап. ун-тах, ён добра ведаў багатае на вобразнае публіцыст. слова антычнае красамоўства (палкія прамовы Дэмасфена, *Цыцэрона* і інш.), біблейскую прапаведніцкую традыцыю (яркую вобразнасць старазапаветных прарокаў, «прытчавую» сімволіку новазапаветнай л-ры), візант. і лац. патрыстыку. На фарміраванне С. як вучонага і публіцыста паўплывала аратарская проза еўрап. рэнесансавых асветнікаў. Усё гэта дазволіла яму арганічна спалучыць у сваіх творах ідэі, вобразы і публіцыст. выяўленчыя сродкі айчыннай, візант. і заходнееўрап. л-р.

Літаратурная спадчына С. ўтрымлівае стылявыя адзнакі сярэдневяковага сінкрэтызму: у ёй спалучаюцца традыц. тэалогія з характэрнымі для новай эпохі элементамі вальнадумства, суседнічаюць спецыфічны для рэнесансавых філолагаў жанр папулярнага тлумачэння стараж. тэкстаў, узнёслае красамоўства і нават першыя спробы вершаскладання. Яго літаратурная дзейнасць вызначаецца яркай публіцыстычнасцю — імкненнем спалучыць кнігадрукаванне, тэксталогію, філас., літаратурна-маст. і нават тэалагічную інтэрпрэтацыі біблейскіх кніг з актуальнымі сацыяльна-паліт., нацыянальна-патрыят., маральна-выхаваўчымі, прававымі і асв. праблемамі свайго часу. С. выступае не ў якасці прафесійнага тэолага, а пераважна ў ролі асветніка, грамадскага дзеяча, папулярызатара агульначалавечай культ. спадчыны. Пад яго пяром усе пытанні тэалогіі і хрысц. асветніцтва набываюць публіцыст. завостранасць, грамадскую агульназначнасць, ідэалаг. мэтанакіраванасць. Асн. метадам публіцыст. актуалізацыі біблейска-хрысц. сюжэтаў, ідэй і вобразаў для С. была іх рэнесансава-асв. інтэрпрэтацыя з мэтай паўплываць на паліт., прававыя і маральныя погляды свайго часу, на грамадскую думку і духоўна ўдасканаліць чалавека. Выходным паняццем С. як публіцыста-асветніка была шматзначная катэгорыя праўды, якая пазней стала дамінуючай каштоўнасцю ўсх.-слав. народаў, ідэалам іх рэліг., філас. і літаратурна-маст. шуканняў, ідэалам бел. дэмакр. л-ры. Для С. і яго паслядоўнікаў—стваральнікаў новай бел. л-ры — агульнанародная праўда была тым, чым для стараж. грэкаў калакагатыя,— адзінствам ісціны, дабра, справядлівасці і красы — своеасаблівым нац. паняццем дасканаласці. З гэтага паняцця пачаў С. прадмову для першай сваёй кн. «Псалтыр»: карысць «боганатхнёнага пісання», на яго думку, у тым, каб служыць «ко обличению, исправлению и наказанию правды», а ў канчатковым выніку — для духоўнага ўдасканалення чалавека. У апалогіі псалмоў С. «працыраваў» на іх сімвалічны змест свой ідэал людской дасканаласці: «Там ест справедливость, там ест чистота, душевная и телесная. Там ест милость и разум досконалый. Там ест милость и друголюбство без лести, вси иншии добрыи нравы...». Амаль у кожнай прадмове С. звяртаецца да чытача з вобразным публіцыст. словам. Кн. «Іоў», на яго думку, трэба чытаць кожнаму чалавеку, бо яна — люстэрка нашага жыцця і лекі для душы. Прытчы карысны ўсім — мудраму і нямудраму, багатаму і беднаму, маладому і старому. Кн. «Ісус Сірахаў» заключае ў сабе Саламонаву і Арыстоцелеву «божественную и житейскую мудрость». Аповесць пра Юдзіф, гераіню, якая выратавала свой горад ад ворага,— узор патрыятызму, самаахвярнасці і бескарыслівага служэння грамадскаму даб-

ру. У прадмове да гэтай кнігі С. звяртаецца да чытача з узнёслым публіцыст. словам пра любоў да радзімы як пра самае натуральнае і першаснае пачуццё ўсіх жывых істот, а тым больш надзеленага розумам і сумленнем чалавека. Публіцыст. насычанасцю вызначаецца прадмова да кн. «Другі закон». Яе маральна-прававую праблематыку асветнік выкарыстаў, каб данесці да чытача свае перадавыя для таго часу грамадска-паліт. погляды і гуманіст. этыку. А ў прадмове да кн. «Эсфір» «катэгарычны імператыў» маралі набывае форму прымаўкі, сутнасць яе такая: не капай яму для іншага, бо сам упадзеш у яе. Звяртаючыся ў прадмовах не да спецыялістаў-вучоных тэолагаў і філосафаў, а да радавых чытачоў, С. надаў ім лёгкую для разумення навукова-папулярную, па сутнасці публіцыст. форму. З гэтай жа мэтай ён, добра ведаючы элітарныя мовы навукі, філасофіі і тэалогіі — лац., грэч. і старaслав.,— напісаў свае каментарыі на роднай бел. мове. Нават кананічныя біблейскія тэксты ён наблізіў да айчыннай гутаркі, даваў на палях тлумачэнні асобных слоў арыгінала, і, што асабліва важна, падаў да ўсіх раздзелаў біблейскіх кніг свае анатацыі, выклаўшы змест біблейскіх сюжэтаў і сімвалаў папулярна і на зразумелай простаму народу мове. Гэтым ён сцвярджаў каштоўнасць роднай мовы, неаднаразова даводзячы гэтую новую, глыбока дэмакр. і гуманіст. праўду ў публіцыст. зваротах да чытачоў. Каб надаць свайму публіцыст. слову пераканаўчасць і эфектыўнасць, С. выкарыстоўваў выяўленчыя сродкі свецкага і царк. красамоўства, народныя пагаворкі, а часам і форму сілабічнага верша, шырока ўжываў стыліст. фігуры (паўтарэнні, анафары, градацыі, супастаўленні), рытарычныя воклічы і запытанні, напр.: «Псалом ест всея цѣркви единый глас...», «Псалом жестокое сердце мягчить...», «Псалом ест ангельская песнь...» або: «И что ест, чего в псалмох не найдешь? Нест ли там вѣличества божия и хвалы его?». Гэтыя вобразна-выяўленчыя сродкі рытмізуюць яго прадмовы і пасляслоўі, у якіх арганічна спалучаюцца асаблівасці пісьмовай і гутарковай мовы. У яго творах пераважае публіцыст. стыль — просты і лаканічны, часам афарыстычны, эканомны на словы і багаты зместам. Гэта зусім не робіць яго прозу аднастайнай па форме выяўлення думкі і пачуцця.

*Літ.:* 39; 156. *У. М. Конан.*

**«ПЯЦІКНІЖЖА»**, першыя пяць кніг Бібліі, вядомыя таксама пад назвай Закона, або Вучэння (па-яўрэйску Тора). «П.»—раздзел Старога запавету, які ўзнік у 1-м тысячагоддзі да н. э. Стварэнне «П.» прыпісваюць біблейскаму герою Майсею. Уключае кн. Быццё, Выхад, Левіт, Лічбы і Другазаконне. С. выпусціў «П.» ў Празе ў 1519 у 5 асобных кн.: *кніга «Быццё», кніга «Выхад», кніга «Левіт», кніга «Лічбы», кніга «Другі закон».*



**РАВІНСКІ** Дзмітрый Аляксандравіч (1824—1895), рускі ліберальны судзебны дзеяч, гісторык мастацтва і калекцыянер. Ганаровы член Пецярбургскай АН (з 1883) і Акадэміі мастацтваў (з 1870). Упершыню сістэматызаваў вял. матэрыял па гісторыі рус. гравюры. У працы «Падрабязны слоўнік рускіх гравёраў XVI—XIX стст.» (Т. 1—2. Спб., 1895), разглядаючы генезіс рус. гравюры на дрэве, адзначаў, што першыя гравюры на дрэве ў кнігах слав. друку паявіліся ў «Бібліі», выдадзенай у Празе С. Па задуме, кампазіцыі і мастацкаму выкананню яны не маюць нічога агульнага з гравюрамі, якія сустракаюцца ў інш. слав. кнігах. Р. асабліва вылучаў партрэт С. са змешчаным на ім гербам і *манаграмай.* На думку Р., манаграма належыць Мартыну Цагелю ці Цазінгеру. Высока ацэньваў і інш. дрэварыты скарынінскіх выданняў. Лепшым называў працы «Давід перадківотам», «Пераход цераз Іардан», «Будаўніцтва храма ў Іерусаліме», «Саламон і царыца Саўская», «Юдзіф і Алаферн», «Асада Іерусаліма» і інш. Р. лічыў, што застаўкі пражскіх выданняў таксама выдатныя па малюнку і майстэрству разца. Горшым ён лічыў дрэварыт «Тройца», які з-за дрэннага выканання з'яўляецца выключэннем сярод інш. прац. Пры ацэнцы гэтага твора Р. паўтараў думку У. Стасава, які таксама лічыў «Тройцу» слабым дрэварытам, з чым, аднак, пагадзіцца цяжка. Сцвярджаў, што дрэварыты віленскіх выданняў С. па мастацкаму ўзроўню саступаюць ілюстрацыі яго «Бібліі». На думку Р., гравюра «Благавешчанне» з «Малой падарожнай кніжкі» зроблена з «добрага нямецкага» ўзору, але рэзана грубымі, тоўстымі штрыхамі, неспрактыкаванаю рукой. Адзначаная праца мае агульныя рысы з дрэварытамі ў ням. выданнях канца 15 ст.— «Сусветная хроніка» Шэдэля (Нюрнберг, 1493) і інш. Р. недаацэньваў скарынінскае «Благавешчанне», дзе асабліва ўдалы вобраз Марыі. У працы «Падрабязны слоўнік рускіх гравіраваных партрэтаў» (Т. 3. Спб. 1888) Р. адзін з першых падрабязна апісаў партрэт С. з кн. «Ісус Сірахаў». Паўтарыў, што манаграма на партрэце належыць майстру Цагелю. Згадваў Р. і копію з партрэта, выкананую ў 1830 рус. мастаком А. Фларовым. На меркаванні Р. пра гравюры кніг С. ўплывалі працы Стасава, які рэцэнзаваў яго даследаванні. Новым было тое, што Р. паспрабаваў прачытаць манаграму на партрэце С. Аднак названы ім майстар Цагель не можа лічыцца аўтарам партрэта, таму што напісанне яго манаграмы мае іншы малюнак (гл. *Гравюрны партрэт Ф. Скарыны, Манаграма*).

*Літ.:* Враская О. Д. А. Ровинский, его современники и последователи//Народная гравюра и фольклор в России XVII—XIX вв.: (К 150-летию со дня рождения Д. А. Ровинского). М., 1976. *В. Ф. Шматаў.*

**РАГАЎЦОЎ** Уладзімір Мітрафанавіч (н. 1943), беларускі сав. акцёр. Засл. артыст БССР (1980). Працуе ў Бел. драм. тэатры імя Я. Купалы. Сярод работ — вобраз С. ў спектаклі «Напісанае застаецца» (рэжысёр-пастаноўшчык А. І. Шалыгін) па аднайм. п'есе А. Л. *Петрашкевіча* (паст. 1979). На Бел. радыё ў 1980 зроблены запіс радыёкампазіцыі спектакля з Р. у ролі С. (рэжысёр С. Я. Гурыч), а ў 1981 спектакль запісаны на Бел. тэлебачанні.

**РАДЗІВІЛЫ**, найбуйнейшы магнацкі род на Беларусі, Украіне і ў Літве, прадстаўнікі якога ў 15—18 ст. займалі вышэйшыя дзярж., адм. і ваен. пасады ў Вял. кн. Літоўскім. Мелі вял. зямельныя ўладанні на Беларусі, у т. л. гарады і мястэчкі Геранёны, Давыд-Гарадок, Клецк, Койданава, Копысь, Лахву, Мір, Нясвіж, Чарнаўчыцы, Шчучын і шмат вёсак.

Мікалай Стары (?—1509), сын заснавальніка роду Радзівіла Осцікавіча, у 1482—88 намеснік смаленскі, з 1488 намеснік навагрудскі і бельскі, кашталян трокскі, з 1492 ваявода віленскі і канцлер вял. літоўскі, адначасова быў таксама старостам ушпольскім і пенянскім. Уваходзіў у склад паноў-рады Вял. кн. Літоўскага, дзе займаў высокія пасады. У час панавання вял. кн. Аляксандра Казіміравіча ў 1492—1506 лічыўся найб. уплывовым на дзярж. справы. У апошнія гады жыцця знаходзіўся ў Вільні. Сучаснік С.

Мікалай (1470—1522), сын Мікалая Старога, з 1487 крайчы літоўскі, з 1494 падчашы літоўскі, у 1494—1503 намеснік бельскі, з 1505 ваявода трокскі і маршалак земскі, з 1510 віленскі і канцлер вял. літоўскі, з 1518 князь Свяшчэннай Рымскай імперыі. Уваходзіў у склад паноў-рады, дзе займаў высокія пасады. Заснавальнік старэйшай, ганёндзка-медзельскай лініі роду Радзівілаў, якая мела ўладанні на Падляшшы (Ганёндз, Райгорад і Медзеле). Узначальваў групоўку літ. і бел. магнатаў, прыхільнікаў уніі Вял. кн. Літоўскага з Польшчай, супраць групоўкі сепаратыстаў на чале з ваяводам трокскім Альбрэхтам Гаштольдам. Удзельнік дыпламатычных перагавораў у 1515 караля польскага і вял. кн. літоўскага Жыгімонта I Старога з імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі Максімілянам I і каралём Венгрыі і Чэхіі Уладзіславам II Ягелонам (гл. *Венскі кангрэс 1515*). Сучаснік С.

Юрый (1480—1541), сын Мікалая Старога, з 1507 намеснік вялёнскі і мейшагольскі, з 1508 намеснік мярэцкі і вялёнскі, у 1510—16 падчашы літоўскі, у 1511—15 ваявода кіеўскі, з 1521 гетман надворны, у 1522—27 кашталян трокскі, з 1527 кашталян віленскі, з 1528 маршалак надворны, з 1531 вял. гетман літоўскі, у 1514—41 староста гродзенскі, намеснік уцянскі, мярэцкі, мазырскі, дзяржаўца скідальскі, лідскі і беліцкі, крынскі і азярэцкі, з 1520 староста мейшагольскі і мярэцкі. Уваходзіў у склад паноў-рады, дзе меў вялікі ўплыў. Выступаў супраць Гаштольдаў. Заснавальнік біржанскдубінкаўскай лініі роду Радзівілаў, якая мела ўладанні пераважна ў Літве (Біржы і Дубінікі), а таксама ў Беларусі (Свір). За перамогі ў 30 бітвах празваны Victor (Пераможац) або Літоўскі Геркулес.

Як член паноў-рады ў Вільні разглядаў справу С. пра маёмасць.

Мікалай Руды (1512—84), сын Юрыя, у 1549—66 ваявода трокскі, у 1553—66 і з 1576 гетман вял. літоўскі, з 1566 ваявода віленскі, у 1566—79 вял. канцлер літоўскі, староста ашмянскі, слонімскі, барысаўскі, мазырскі, дзяржаўца лідскі. У час падрыхтоўкі і заключэння Люблінскай уніі 1569 узначальваў групоўку сепаратысцкі настроеных магнатаў, выступаў супраць утварэння разам з Польшчай адзінай дзяржавы — Рэчы Паспалітай. Прыхільнік *Рэфармацыі* і кальвінізму на Беларусі і ў Літве.

Мікалай Чорны (1515—65), сын Яна Мікалая. Вучыўся за мяжой. Пасля вяртання на радзіму займаў шэраг дзярж. пасад, меў уплыў на палітыку дзяржавы. З 1544 маршалак земскі, з 1547 князь Рымскай імперыі на Алыцы і Нясвіжы (для сябе і свайго роду), з 1550 канцлер вял. літоўскі, з 1551 ваявода віленскі, староста брэсцкі, ковенскі, барысаўскі, шавельскі, адміністратар Лівоніі. Уладальнік маёнткаў на Беларусі (Нясвіж) і на Украіне (Алыка). У знешняй палітыцы быў прыхільнікам саюза з Габсбургам, рашуча выступаў супраць узмацнення Дзярж. уніі паміж Вял. кн. Літоўскім і Польшчай. Актыўна садзейнічаў развіццю і ўмацаванню рэфарм. руху на Беларусі і ў Літве, асабліва распаўсюджванню кальвінізму. Пры яго арганізацыйнай і грашовай падтрымцы кальвіністы на Беларусі і ў Літве адкрывалі саборы, школы, друкарні. Найб. вядомай была Брэсцкая друкарня, якая выдала шэраг кніг, у т. л. *«Брэсцкую біблію»* на польск. мове. Прыхільнасць да Рэфармацыі зближае яго з асобнымі кірункамі дзейнасці і рысамі светапогляду С. У друкарскай справе працягваў традыцыі С. *А. П. Грыцкевіч.*

**РАДО́СКІ** Аляксей Сцяпанавіч (1838—1908), рускі бібліёграф. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1865), у якой працаваў бібліятэкарам. Склаў шэраг каталогаў рукапісаў і друкаваных кніг гэтай б-кі. У 1884 у «Поўным апісанні старадрукаваных царкоўна-славяна-рускіх кніг, якія захоўваюцца ў бібліятэцы С.-Пецярбургскай духоўнай акадэміі» апісаў канвалют, што ўключаў 9 пражскіх выданняў С.: кн. «Ісус Сірахаў», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Юдзіф», «Эсфір», «Плач Ераміі», «Прарок Данііл». Канвалют быў заключаны ў стары пераплёт — дошкі, абцягнутыя скурай. Захаванасць экземпляра была добрай. У канцы кн. «Ісус Сірахаў» знаходзіўся гравіраваны партрэт С. Сучаснае месцазнаходжанне канвалюта, які апісаў Р., невядома. У 1893 выпусціў «Апісанне 432 рукапісаў, што належаць С.-Пецярбургскай духоўнай акадэміі і складаюць яе першы па часе збор». Р.— аўтар прац па археаграфіі і гісторыі кнігі. *Я. Л. Неміроўскі.*

**РАН** Лазар Саулавіч (н. 1909), беларускі сав. графік і жывапісец. Аўтар карціны «Францыск Скарына» (1957; алей; 230 × × 170 см; Дзярж. б-ка БССР імя У. І. Леніна), У 1963 выканаў афорт паводле гэтай карціны з некат. варыяцыямі. Адлюстраваў С. ў доктарскай мантыі ў крэсле. Мастак падкрэсліў глыбокі розум, творчую актыўнасць вучонага, імкнуўся таксама да асэнсавання чалавечых маральных якасцей С.

**РАФАЭ́ЛЬ** [сапр. Рафаэла Санці (Санцыо) Raffaello Santi (Sanzio); 1483—1520], італьянскі жывапісец і архітэктар. Сучаснік С. Раннія работы Р.: «Мадонна Канестабіле», «Сон рыцара», «Заручыны Марыі» (1500—04) вызначаюцца лірычнасцю, гібкасцю ліній, выразнасцю жэста і рытму. У творах Р. 1504—08 «Мадонна Грандука», «Мадонна ў зяляніне», «Мадонна з дзіцем і Іаанам Хрысціцелем» («Прыгожая садоўніца»), «Мадонна са шчыглом», партрэтах А. і М. Доні і інш. адчуваецца ўплыў мастацтва *Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла.* У 1509—17 Р. разам з вучнямі выканаў размалёўку залаў (станцаў) Ватыканскага палаца. Скляпенні залаў былі размаляваны алегорыямі тэалогіі, філасофіі, паэзіі, юрыспрудэнцыі. Адпаведна на сценах — «Дыспута», «Афінская школа», «Парнас», фігуры Сілы, Ісціны, Памяркоўнасці і інш. У 1511—14 напісаў фрэскі станцы д'Эліядора на гісторыка-легендарныя тэмы; у 1514—17— станцы дэль Інчэндыо. У рымскі перыяд працаваў над партрэтам папы рымскага Юлія II (каля 1511), Б. Кастыльёне (1515—16), «Донна Велата» (каля 1513), папы Льва X з кардыналамі Людовіка дэі Росі і Джуліо дэі Медычы (каля 1518). Самы натхнёны і вядомы твор Р. «Сікстынская мадонна» (1515—19) пераканаўча спалучае жыццёвую праўдзівасць з рысамі ідэальнай дасканаласці. Акрамя жывапісу, Р. займаўся архітэктурай. Асн. работы: палац Пандальфіні ў Фларэнцыі, віла Мадама, царква Сант-Эліджа дэлы Арэфічы. Быў гал. архітэктарам сабора св. Пятра ў Рыме (пасля смерці Брамантэ). Творчасць Р. адлюстроўвае гуманіст. ідэалы *Адраджэння.*

*Літ.:* Гращенков В. Н. Рафаэль. М., 1971; Raffaello. V. 1—2. Novara, 1968.

*М. І. Ткачэнка.*



Рафаэль.

Л. Ран. Францыск Скарына. 1957.



**РАЦЫЯНАЛІ́ЗМ** (франц. rationalisme ад лац. rationalis разумны, ratio разум), спосаб філасофска-светапогляднага вытлумачэння рэчаіснасці, які прызнае розум усеагульнай асновай, законам і крытэрыем быцця, пазнання і дзейнасці людзей. Процістаіць ірацыяналізму і містыцызму, у новы час канфрантуе з эмпірызмам і скептыцызмам.

Вытокі фарміравання рацыяналіст. традыцыі ў філасофіі і культуры ўзыходзяць да антычнасці. Старaж.-грэч. філосаф Парменід адрозніваў веды, заснаваныя на розуме, ад ведаў, заснаваных на думках, заклаўшы фундамент гнасеалагічнага Р., *Сакрат* сфармуляваў прынцыпы этычнага Р., паводле якога розум — крыніца маральных паводзін чалавека. *Платон,* паклаўшы ў аснову быцця ідэі, якія ахоплівае розум, распрацаваў аб'ектыўна-ідэаліст. канцэпцыю анталагічнага Р. У сярэдневякоўе тэалагізаваны варыянт анталагічнага Р. становіцца неад'емнай часткай рэлігійна-схаласт. светаразумення. Тэалагічны Р., падпарадкаваўшы думку дагматычнай апалагетыцы і ўніверсальнаму схематызму вытлумачэння быцця, перашкаджаў прагрэсу прыродазнаўчанавук. пазнання свету, скоўваў творчыя магчымасці розуму (гл. *Фама Аквінскі*). Карэнная перабудова рэліг.-тэалагічнай карціны свету і структур схаласт. рацыянальнасці пачынаецца ў эпоху Адраджэння і ранніх бурж. рэвалюцый. На першы план выступіла ідэя прыроднага, прычынна-абумоўленага парадку, які пануе ў Сусвеце; пазнанне яго даступна чалавечаму розуму і прыводзіць да авалодання сіламі прыроды на карысць усяго чалавецтва. Розум разглядаўся як адзіная крыніца дакладных ведаў, аснова прагрэс. грамадскіх пераўтварэнняў, неабходная ўмова маральнага і эстэт. ўдасканалення жыцця людзей. Апіраючыся на традыцыі гнасеалагічнага і этычнага Р. антычнасці, прагрэсіўныя мысліцелі 15—17 ст. адстойвалі высокую годнасць чалавечага розуму, каштоўнасць пры-

родных ведаў, перавагу гуманіст. светаразумення над артадаксальна-тэалагічным, дэманстравалі перавагу асветнай свядомасці, непарыўную сувязь інтэлектуальнага і маральнага прагрэсу (*Піка дэла Мірандала*, Л. Б. *Альберці*, *Эразм Ратэрдамскі*, Іаган *Рэйхлін*, Томас *Мор*, Джардана Бруна і інш.).

Рысы новага, рэнесансава-гуманіст. Р. ярка выявіліся ў светапоглядзе і творчасці С. Ён імкнуўся ўзвысіць чалавечы розум, усебакова развіць яго прыродныя здольнасці, узбагаціць духоўнай спадчынай антычнай культуры, абудзіць цікавасць да свецкіх, практычна карысных ведаў. У асвеце народа, пашырэнні навук, засваенні разумнай «житейской мудрости» бачыў С. шлях да маральнага ўдасканалення чалавека і справядлівай перабудовы грамадства, «абы, научившися мудрости», людзі «добре живучи на свете» (гл. с. 37). Гэтай мэце ў С. служыць сама Біблія, якую ён трактаваў як твор асветніцкі, закліка्ны раскрыць інтэлектуальныя магчымасці чалавека, узбагаціць яго розум карыснымі для жыцця ведамі, дзе «научение седми наук вызволеных достаточное» (гл. с. 10). Рацыяналіст. тлумачэнне Свяшчэннага пісання ў прадмовах і пасляслоўях С. падпарадкавана ў асн. выяўленню інтэлектуальна-адукацыйнага і маральна-выхаваўчага патэнцыялу біблейскіх кніг, таму што «святые писма уставлѣна суть к нашему навчению, исправлѣнию, духовному и телесному, различными обычаи» (гл. с. 19). С. надаваў вял. ролю прыродным задаткам разумнага мыслення кожнага чалавека, лічыў неабходным іх развіваць, каб самастойна «разознати правду от кривды» (гл. с. 32—46). Яго Р. ярка выяўляецца ў імкненні ведаць «все науки быти минущие», у разуменні мудраца як чалавека, што спалучае ў сабе біблейскую і філас. мудрасць і поўны «духа святого и философии» (гл. с. 43), у праслаўленні «милосников науки и мудрости» Саламона, Пталамея Філадэльфа, Ісуса Сірахава (гл. с. 32—46). Працягваючы традыцыю гнасеалагічнага Р. антычнасці, С. бачыў крытэрый верагодных, сапраўдных ведаў пра свет і чалавека ў прыродным розуме, якім ад прыроды валодаюць усе людзі і які адкрывае адзіныя для ўсіх ісціны. Як і ў мінулыя стагоддзі, лічыў С., «тым же обычаем і нынѣ единый кажный человек, имея розум, познаеть» (гл. с. 137). Важная адзнака сапраўднай мудрасці — імкненне да ведання сутнасці рэчаў і з'яў, зразумення прыроднай заканамернасці. Такое веданне прыносіць вял. карысць людзям: «Кто ю [яе] знайдеть, сей знайде милость, и достанеть благословения от господа, и приидеть к нему все доброе посполу с нею: хвала и честь безчисленая моцию ея» (гл. с. 36). Таму С., як і вял. мысліцелі Адраджэння, усё сваё жыццё і дзейнасць прысвяціў «размножению мудрости, умения, опатрености, разуму и науки» (гл. с. 46), імкнуўся «оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою» (гл. с. 44). У гэтых словах глыбока раскрываюцца рацыяналіст. пафас светапогляду С., яго перакананне ў перамозе святла розуму над ваяўнічым невуцтвам і рэліг. цемрашальствам. С. разглядаў веды не толькі як суверэнную каштоўнасць, але і як неабходную ўмову маральна прыгожага, шчаслівага жыцця, далучаўся гэтак да традыцый этычнага Р. Асветны розум, мудрая свядомасць указваюць чалавеку шлях да індывідуальнага і грамадскага дабра, з'яўляюцца гарантам дабрачынных паводзін і сац. справядлівасці. Таму С. перакананы, што аснова маральнасці чалавека — бесперапыннае інтэлектуальнае ўдасканаленне: правільны маральны выбар залежыць ад узроўню ведаў чалавека пра свет і пра сябе: «без мудрости и без добрых обычаев не ест мощно, почстиве жити людем посполите на земли» (гл. с. 37). Па сутнасці для С. маральныя асновы чалавечага быцця як прыродны закон, «прироженый всем людем» (гл. с. 137), раскрываюцца дзякуючы інтэлектуальным намаганням праз пазнанне чалавекам сябе самога. Адзін і той жа розум, што здабывае сапраўдныя веды пра навакольны свет, становіцца маральным крытэрыем і кіраўніком дзейнасці людзей. Таму С. ўслед за Сакратам «наивысшую мудрость», у якой злітыя вял. розум і высокая маральнасць, бачыць у глыбокім «познании самого себе» (гл. с. 29). Рэнесансава-гуманіст. Р.— адна з важнейшых асаблівасцей светапогляду С., выдатная заваёва бел. культуры і грамадскай думкі 16 ст.

*Літ.:* Кузнецов Б. Г. Рационализм Возрождения//Кузнецов Б. Г. Разум и бытие. М., 1972; Шашкевич П. Д. Эмпиризм и рационализм в философии Нового времени. М., 1976; Политцер Ж. Что такое рационализм?//Политцер Ж. Избранные философские и психологические труды: Пер. с фр. М., 1980. *Г. У. Грушавы.*

**РО́МУЛ,** паводле рымскага падання, заснавальнік г. Рыма і першы рымскі цар у 754/753—717/716 да н. э. Паводле легенды, ён і яго брат Рэм — дзеці бога Марса і вяшчункі Рэі Сільвіі. Каб пазбавіцца ад магчымых прэтэндэнтаў на трон, іх кінулі ў р. Цібр. Аднак Р. і Рэм былі выратаваны ваўчыцай і выкармлены яе малаком, а потым выхаваны жонкаю пастуха. Сярод аднагодак вылучаліся мужнасцю, розумам, прыгажосцю і высакароднасцю, што сведчыла пра іх божае паходжанне. Легенда паведамляе, што Р., стаўшы царом, падзяліў грамадзян на патрыцыяў і плебеяў, заснаваў сенат і курыю, арганізаваў войска. З яго імем легенда звязвае вайну рымлян з сабінянамі. С. называе імя Р. ў прадмове да 1-й кн. «Царствы», калі пералічвае цароў, якія пісалі законы для стараж. народаў Грэцыі, Італіі, Егіпта і інш.

*А. Ф. Коршунаў.*

**РУКАПІ́СНАЯ КНІ́ГА** усходнеславянская, кніга, у якой тэкст, арнаментальнае ўбранне і ілюстрацыі зроблены ад рукі; помнік кніжнай культуры. Да вынаходніцтва кнігадрукавання — асн. сродак фіксавання і распаўсюджання інфармацыі. Ва ўмовах феадалізму і капіталізму Р. к.— адзін са сродкаў распаўсюджвання твораў, якія былі забаронены і праследаваліся царквою і пануючымі класамі. Вядомы 2 асн. формы Р. к.— скрутак (аркушы зніт аваны паміж сабой краямі і скручаны ў рулон) і кодэкс (блок са сфальцаваных аркушаў паперы, пергаменту і інш., якія зніт аваны ў карашку і змешчаны ў вокладку або пераплёт). Пры стварэнні Р. к. былі выпрацаваны элементы канструкцыі кнігі, маст. прыёмы яе афармлення, якія выкарыстаны ў друкаванай кнізе. Першыя друкары, у т. л. С., імкнуліся зрабіць друкаваную кнігу падобнай на рукапісную. Асновай Р. к., потым друкаванай быў 16-старонкавы сшытак, які складаўся з 4 сфальцаваных папалам і ўкладкай падабраных аркушаў. У рэдкіх выпадках брашураваліся несфальцаваныя аркушы. Такія кнігі называлі «напісана ў вялікі аркуш» або «ў дзесцевы аркуш». Быў пашыраны фармат «у дзесць», або «ў аркуш», пры якім сшытак фарміраваўся з аркушаў паперы, сфальцаваных папалам. Калі аркуш фальцавалі ў 2 згібы, атрымліваўся фармат «у паўдзесць», або «ў чацвёрку». Такі фармат выкарыстоўваў С. ў пражскіх выданнях. Фальцоўка ў 3 згібы давала фармат «у васьмушку». У вял. фармаце перапісвалі літургічныя кнігі. Кнігі для хатняга чытання пісалі ў чацвёрку або васьмушку. Рэдка трапляліся малафарматныя кнігі ў 16-ю долю аркуша. Для напісання тэксту разліноўвалі старонкі сшытка, спачатку праводзілі вертыкальныя лініі, што вызначалі памер палос або слупка, потым гарызантальныя, адлегласць паміж якімі вызначала вышыню радка. На Русі пісалі ў 1 або 2 слупкі ў залежнасці ад фармату. Пісалі чарнілами, гусінымі пер'ямі, некат. радкі і літары чырвонай фарбай — кінаварам, а ў асобных рукапісах назвы раздзелаў і ініцыялы — золатам. Сшыткі нумаравалі кірылаўскімі лічбамі на ніжнім полі першага, а часам і на адвароце апошняга аркуша сшытка. Фаліяцыю (нумарацыю аркушаў) пачалі рабіць параўнальна позна. Пагінацыя (нумараванне старонак) практычна не выкарыстоўвалася. Падабраныя сшыткі перапісанай кнігі сшывалі, абразалі з трох бакоў і перапляталі. Асновай пераплёту на Русі былі дошкі, абцягнутыя скурай або тканінай. На Беларусі і ў зах. раёнах Украіны выкарыстоўвалі часам пергамент. Пераплёты аздаблялі цісненым узорам і металічнымі навугольнікамі і сярэднікамі. Рукапісныя літургічныя кнігі, якімі карысталіся на ўрачыстасцях, змяшчалі ў металічныя аправы, упрыгожаныя залатымі і сярэбранымі накладкамі і каштоўнымі камянямі. Рукапісы ілюстравалі мініяцюрамі (на асобных аркушах, на палях або ў тэксце), арнаментавалі (застаўкі, буквіцы-ініцыялы). Асн. відам упрыгожання ўсх.-слав. Р. к. былі застаўкі і буквіцы — ініцыялы. Канцоўкі на Русі шырокага распаўсюджання не атрымалі. У бел. і ўкр. Р. к. 15—16 ст. трапляюцца ўпрыгожанні на палях (асн. ўпрыгожанне зах.-еўрап. рукапісаў). Арнаментыка ўсх.-слав. Р. к. была некалькіх стыляў. У 11—12 ст. панаваў старавізант. стыль, які ў многім капіраваў упрыгожанні перагародчатымі эмалямі. У 13— 1-й пал. 14 ст. шырокае распаўсюджанне атрымаў тэраталагічны (звярыны) стыль. У канцы 14 ст. на Русі ўжываўся балканскі стыль (геаметрычная пляцёнка жгу-

тоў або рамянёў). У 15 ст. існаваў дэкар. новавізант. стыль, на змену якому ў 1-й пал. 16 ст. прыйшоў старадрукаваны. Усх.-слав. Р. к. пісаліся 3 асн. тыпамі пісьма: устаў, паўустаў, скорапіс. Устаў ужываўся ў 11—14 ст., паўустаў — у 15—17 ст. Скорапісам у 14—17 ст. карысталіся ў афіц. дакументацыі, часам пры напісанні Р. к. Назвы асобных раздзелаў кнігі з канца 14 ст. пісалі вяззю.

Першая Р. к. на Русі паявілася ў 9—10 ст. Захавалася каля 30 стараж. усх.-слав. Р. к. 11 ст., з іх датаваны 7. Астрамірава евангелле перапісана ў Кіеве ў 1056—57 дыяканам Грыгорыем для наўгародскага пасадніка Астраміра на пергаменце ўставам у 2 слупкі, па 18 радкоў у кожным. Кніга мае 294 арк., упрыгожаныя 19 застаўкамі і шматлікімі буквіцамі; на 3 суцэльных аркушах мініяцюры з выявамі евангелістаў Іаана, Лукі і Марка. «Ізборнік Святаслава» 1073 перапісаны дыяканам Іаанам для кіеўскага вял. князя Святаслава Яраславіча на пергаменце ўставам, 226 арк.; кніга адкрываецца маляўнічым разваротам, на левай паласе якога групавы партрэт сям'і Святаслава, на суцэльных старонках дэкар. франтыспісы з выявамі храмаў, на верхнім, ніжнім і бакавым палях выявы птушак. «Ізборнік» 1076 перапісаны ўставам дыяканам Іаанам. Да 11 ст. адносяцца стараж. Р. к., якія з'явіліся на тэр. Беларусі. Гэта Архангельскае евангелле 1092, якое ўпрыгожана сціпла, не мае мініяцюр; «Супрасльскі рукапіс», напісаны ўставам у 11 ст. на пергаменце, 285 арк., у 19 ст. рукапіс падзелены на 3 ч., якія да 2-й сусв. вайны зберагаліся ў Варшаве (151 арк.), Любляне (118 арк.), Ленінградзе ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (16 арк.); Тураўскае евангелле напісана ў 11 ст. на пергаменце ўставам, збераглося 10 арк. (Цэнтр. навук. б-ка АН Літ. ССР), маст. аздабленне на захаваных аркушах: 11 ініцыялаў, выкананых у візант. геам. стылі сінім, чырвоным і зялёным колерамі, тэкст размешчаны ў парадку царк. чытанняў па нядзелях на ўвесь год.

Захавалася 70 усх.-слав. Р. к. 12 ст., з іх толькі 3 датаваныя. У канцы 11— пач. 12 ст. напісана ўставам Мсціслававa евангелле, над якім працавалі майстры Алекса, сын Лазара і Жадзен. Аправа зроблена ў Канстанцінопалі, у 1551 была абноўлена па распараджэнню цара Івана IV. Рукапіс аздоблены 4 мініяцюрамі, прыгожай застаўкай і шматлікімі ініцыяламі. У пач. 12 ст. напісана Юр'еўскае евангелле для ігумена наўгародскага Юр'ева манастыра Кар'яка, у ініцыялах якога паявіліся элементы тэраталагічнага стылю. У 1164 перапісана Дабрылава евангелле-апракос на пергаменце, 271 арк. Перапісчык Дабрыла ў канцы рукапісу напісаў: «Якоже радуется жених о невесте, тако радуеться писец, видя последний лист». Пазней кніга знаходзілася на Беларусі. У канцы 12— пач. 13 ст. было напісана Полацкае евангелле, у якім зрабіў запіс полацкі князь Андрэй. Сярод помнікаў бел. пісьменнасці 12—13 ст.— «Жыціе Ефрасінні Полацкай», стараж. фрагмент (1 арк.) захоўваецца ў Б-цы АН СССР у Ленінградзе. Да 12 ст. адносяцца павучанні Кірыла Тураўскага (дайшло да нас у позніх спісах). У канцы 12 ст. створаны вядомы помнік стараж.-рус. л-ры — «Слова аб палку Ігаравым», які захаваўся ў спісе 16 ст. (загінуў у час маскоўскага пажару 1812). Помнікам свецкай кнігі 13 ст. з'яўляецца «Хроніка Георгія Амартола», якая напісана не пазней 1294 у Цверы майстрам Пракопам. У рукапісе 127 мініяцюр, якія ілюструюць падзеі сусв. гісторыі. У канцы 13 ст. напісаны багаты ілюстраваны «Хлудаўскі псалтыр». У 13 ст. майстэрні Р. к. дзейнічалі ў гарадах паўн.-ўсх. Русі — у Растове Вялікім, Яраслаўлі, Усцюгу. Сярод яраслаўскіх рукапісаў 13—14 ст.— Спаскае і Фёдараўскае евангеллі. У 1339 у Маскве па загаду вял. князя Івана Каліты (манаскае імя Ананій) напісана Сійскае евангелле. У кнізе запіс: «...написано бысть си Евангелие в граде Москове на Двину... повелениемъ рабомъ божиимъ Ананиею черньцемъ... А писали многогрешнии дьяци Мелентии да Прокоша...». На першым аркушы рукапісу — тэраталагічная застаўка з надпісам, зробленым уставам: «Господи помози многогрешному Иоанну написать ми заставицу сию». Гэта першая вядомая падпісная застаўка ўсх.-слав. Р. к. Першыя на Русі Р. к. на паперы напісаны ў 14 ст. («Пандэкты Нікана Чарнагорца» і «Словы пасніцкія Васіля Вялікага», 1390). З паяўленнем паперы кніга становіцца таннейшай, больш масавай, аблягчаецца праца мастакоў. У пач. 40-х гг. 14 ст. па заказу Сімяона Гордага ў Маскве напісана Евангелле, для якога зроблены сярэбраны абклад з выявай распяцця Ісуса Хрыста і евангелістаў. Да Р. к., што ўзніклі ў 13—14 ст. на бел. этнічнай тэрыторыі, вучоныя адносяць Панцеляймонава евангелле 1317, Аршанскае евангелле 13 ст., Полацкае, Віленскае і Трокскае евангеллі. Значны помнік мастацтва Р. к.— «Смаленскі псалтыр», напісаны ў 1395 на пергаменце Лукою Смалянінам. На дэкар. франтыспісе рукапісу выява пяцікупальнага храма з кілепадобнай аркай, пад якой фігура цара Давыда, які піша. У кнізе шмат узорыстых заставак і ініцыялаў тэраталагічнага стылю. Канец 14—пач. 15 ст. характарызуецца росквітам маскоўскага мастацтва Р. к. (даследчыкі звязваюць з дзейнасцю вял. стараж.-рус. мастака Феафана Грэка). Сярод рукапісаў гэтага часу — Евангелле 1392 у каштоўным абкладзе, зробленым па ўказу баярына Ф. Кошкі. Жамчужына рукапісу — ініцыялы з выявамі дэльфінаў і змей, якія, на думку некат. даследчыкаў, выкананы пазней абклада. Да маскоўскай школы мастацтва Р. к. адносіцца «Кіеўскі псалтыр», што напісаў протадыякан Спірыдон у 1397. У кнізе шмат ілюстрацый на палях. Даследчыкі сцвярджаюць, што гэты майстар часткова напісаў вядомы рукапіс таго часу — Евангелле Хітраво, у якім на 8 суцэльных старонках змешчаны мініяцюры з выявамі 4 евангелістаў і іх сімвалаў. Застаўкі выкананы ў новавізант. стылі. Некат. даследчыкі (В. М. Лазараў) лічаць, што мініяцюры зроблены ў майстэрні Феафана Грэка, другія (І. З. Грабар, М. У. Алпатаў) — рус. жывапісцам А. Рублёвым, іншыя — саратнікам Рублёва Даніілам Чорным. Па мініяцюрах і арнаментыцы кніга блізкая да Евангелля Марозава з Успенскага сабора Маскоўскага Крамля. Кніга ў масіўным залатым абкладзе, дэкарыравана чаканкай, ізумрудамі, сапфірамі і рубінамі. З бел. Р. к. 14 ст. вядома Мсціжскае евангелле, якое «з Менска Васылей Микитич Лах, бурмистр места Менскага, до Мстыжы до Юрья светого отдал до храма Божьяго».

Цэнтрамі Р. к. на Русі 15 ст. былі маскоўскія Чудаў і Спаса-Андронікаў манастыры, падмаскоўны Троіцка-Сергіеў манастыр, кнігапісныя майстэрні пры Успенскім саборы Маскоўскага Крамля, майстэрні ў Пераяслаўлі-Залескім, Растове Вялікім, Галічы, Волагдзе, Суздалі, у Кірыла-Белазерскім манастыры. У аздобе кніг ужываліся застаўкі і ініцыялы балканскага і новавізант. стыляў. У канцы 15 ст. становіцца значным уплыў на ўсх.-слав. арнаментыку ліставой ням. і нідэрландскай гравюр. Помнік свецкага рукапісання канца 13 ст.— «Радзівілаўскі летапіс» (БАН). Складаецца з «Аповесці мінулых гадоў» і летапісу за 1112—1206, прысвечанага пераважна гісторыі Паўн.-Усх. Русі. Вядомы адзіны спіс канца 15 ст., зроблены, напэўна, у Смаленску. У 16—1-й пал. 17 ст. рукапіс зберагаўся на Беларусі, пазней падараваны магнатам Б. Радзівілам б-цы Кёнігсберга, адкуль у сярэдзіне 18 ст. вывезены ў Расію. У кнізе 617 тэматычна звязаных са зместам каляровых мініяцюр, каштоўных для вывучэння гісторыі, культуры і мастацтва Стараж. Русі. У 1499 у Ноўгарадзе быў зроблены спіс слав. Бібліі («Генадзіеўская біблія»). Адзін са спісаў гэтай Бібліі, верагодна, быў вядомы С. У 1489 у Маскве быў зроблены спіс «Кнігі прарокаў» з маст. аздобай жывапісца Дыянісія. У ёй кожнаму «прароцтву» папярэднічае франтыспіс з выявай



Да арт. **Рукапісная кніга.** Астрамірава евангелле. Фрагмент старонкі. 11 ст.



Да арт. **Рукапісная кніга.** Пісец. Мініяцюра. 15 ст.



Арнаментальная застаўка з **рукапіснай кнігі.** 15 ст.

аднаго з прарокаў. Для арнаментыкі кнігі выкарыстана ням.-нідэрландская гравюра. Сярод Р. к., якія ўзніклі на бел. этнічнай тэрыторыі, помнікі юрыд. характару — Вісліцкі статут 1347 караля Казіміра III, перакладзены на бел. мову ў 1-й чвэрці 15 ст., Статут вял. кн. Ягайлы ў копіі 1423, Судзебнік караля Казіміра Ягелончыка 1468. Захаваліся помнікі літургічнай і «чэццяй» пісьменнасці: «Трыёдзь» (напісана ў Гародне ў 1466), «Чэцця» (напісаў у 1489 «Березка з Новагородка с литовского попович...» «в гради у Камянци»), «Псалтыр талковы», напісаны «в граде Витебьску» ў 1492 «рукою многогрешного раба божия Ортемья дяка». У канцы 15 ст. ў Смаленску быў створаны «Летапіс Аўраамкі». У рукапісах 15 ст. захаваліся перакладныя аповесці ў бел. рэдакцыі: «Аповесць пра трох каралёў», «Александрыя», «Аповесць пра Трою». Яны былі вядомы С., пра іх ён упамінае ў прадмовах пражскіх выданняў. Да 15—16 ст. адносяцца спісы бел. летапісаў — Супрасльскага (1519), Слуцкага, Жыровіцкага і інш.

У пач. 16 ст. ў Маскве дзейнічала майстэрня кніжнага мастацтва Феадосія Ізографа, сына Дыянісія. Перапісчык М. Медаварцаў і мастакі Феадосія Ізографа ў 1507 стварылі «Евангелле» з мініяцюрамі. У кнігах, якія афармлялі мастакі з асяроддзя Феадосія, паяўляюцца застаўкі ў нававізант. стылі з характэрнымі чорна-белымі клеймамі з выявамі кветак, бутонаў шышак у абрамленні востракандовых лісцікаў. Буквіцы запазычаны з «Вялікага прапіснога алфавіта» ням.-нідэрландскага майстра І. Мекенема. Адну з літар Мекенема ў гравіраванай на дрэве копіі выкарыстоўваў С. ў якасці ініцыяла ў віленскім выданні «Акафіст магіле гаcподняй» каля 1522. Найб. вядомыя рукапісы майстэрні Феадосія: «Евангелле» 1531, «Евангелле» Гіст. музея ў Маскве, «Апостал» 1540 з б-кі Троіцка-Сергіевай лаўры, «Евангелле» са збору Ужгарадскага ун-та. У майстэрні Феадосія ўпершыню ў Расіі былі асвоены метады паліграф. рэпрадуктавання. У некаторых рукапісах 16 ст.— Увараўскім «Чатырох'евангеллі», «Апостале» са збору Яраслаўскага Спаскага манастыра і «Чатырох'евангеллі» Кірыла-Белазерскага манастыра — захаваліся копіі адной і той жа застаўкі, гравіраванай на медзі. Адбіткі яе наклеены на старонкі рукапісу. Застаўка падпісана «Ізограф Феадосія». Вядомы рукапісы 16 ст., аздобленыя іншымі гравіраванымі на метале і наклеенымі на старонках застаўкамі і кветкамі.

У 16 ст. дзейнічала майстэрня Р. к. архіепіскапа наўгародскага, потым мітрапаліта ўсея Русі Макарыя. У майстэрні былі напісаны 12 т. энцыклапедычнага зводу кніг «чэццяў» Стараж. Русі — «Вялікія Чэцці Мінеі». Вядомы 3 спісы: Сафійскі, які ў 1541 паклаў у наўгародскі Сафійскі сабор Макарый, Успенскі і Царскі ў Маскве. Успенскі спіс на 1381 аркушы. У 1550—80 г. ў Маскве быў створаны шматтомны Ліцавы летапісны звод (збераглося 10 тамоў). У першых 3 тамах апісаны падзеі сусв. гісторыі і тут жа тэксты кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон», «Ісус Навін», «Суддзі». Наступныя тамы апісваюць падзеі айч. гісторыі (2-і том — Ніканаўскі летапіс і Царственная кніга — расказваюць аб падзеях 1533—67).

Цэнтрамі рукапісання на тэр. Беларусі ў 16 ст. былі Мінск, Навагрудак, Полацк, Віцебск, Слуцк, Магілёў, Гродна, Вільня, Супрасльскі манастыр і інш. гарады і манастыры. Захаваліся бел. Р. к.— «Пралог» 1512 (напісаў «диаконец Иоакимець» у Навагрудку, пераплёў іерэй Парфірый у Любчы), фрагменты «Бібліі» 1514 (напісана «в богохранимем» великом и славном граде оу Вильне, в обители Пречистыя богоматери и чесного ея успения» дзякам Федарам). Вядомы і інш. спісы Бібліі, некат. з іх звязаны з выданнямі С.: «Псалтыр» (1517), напісаны ў 1543 Парфенам па заказу кобрынскага і пінскага старосты Івана Міхайлавіча; кн. «Іоў», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст» і «Прамудрасць божая», напісаныя ў 1568 В. Жугаёвым, спіс 1571 «Апостала», зроблены ў 1593—94 папом Гермагенам з Торчына (Валынская вобл.). У 1575 «пісарчук» Дзмітрый з Зенькава ў «граде Маначине» перапісаў амаль усе кнігі Старога запавету, якія пераклаў С., у т. л. і «Параліпаменон», «Ездры», «Товіт», «Макавеяў» (не захаваліся ў друкаваных выданнях). У 1554 перапісаны «Загорскі «Апостал», у 1556—61 Перасопніцкае евангелле з багатым арнаментальным убраннем на палях рукапісаў.

Буйнейшыя сховішчы ўсх.-слав. Р. к.: Дзярж. б-ка СССР імя У. І. Леніна, Дзярж. Публ. б-ка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе, Гіст. музей у Маскве, Б-ка АН СССР у Ленінградзе, Цэнтр. навук. б-ка АН УССР у Кіеве, Цэнтр. навук. б-ка АН Літ. ССР у Вільнюсе, Цэнтр. дзярж. архіў стараж. актаў у Маскве, Навук. б-ка Маскоўскага ун-та, Ін-т рус. л-ры (Пушкінскі дом) АН СССР, Дзярж. навук.-тэхн. б-ка Сібірскага аддзялення АН СССР у Навасібірску і інш. Даследчы і навукова-метадычны цэнтр збору і вывучэння Р. к.— Археаграфічная камісія АН СССР, пад кіраўніцтвам якой складаецца Зводны каталог славяна-рус. Р. к., якія захоўваюцца ў СССР. У першым выпуску каталога (1984) апісана каля 500 кніг 11—13 ст. Папярэдні спіс Р. к. 11—15 ст. выдадзены ў 1966, дзе змешчаны звесткі пра 1500 кніг, а ў спісе 15 ст.— пра 3422 рукапісы. Б-кі СССР выдаюць апісанні Р. к., якія зберагаюцца ў іх фондах.

*Літ.:* 292; 616; Бельчиков Н. Ф., Бегунов Ю. К., Рождественский Н. П. Справочник-указатель печатных описаний славяно-русских рукописей. М.; Л., 1963; Рогов А. И. Сведения о небольших собраниях славяно-русских рукописей в СССР. М., 1962; Рукописная и печатная книга. М., 1975; Проблемы рукописной и печатной книги. М., 1976; Щепкин В. Н. Русская палеография. М., 1967; Розов Н. Н. Русская рукописная книга. Л., 1971; его ж. Книга древней Руси XI—XIV вв. М., 1977; его ж. Книга в России в XV веке. Л., 1981; Сапунов Б. В. Книга в России в XI—XIII вв. Л., 1978; Древнерусское искусство: Рукописная книга. Сб. 1—3. М., 1972—83.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**РУКАПІ́СНАЯ СПРА́ВА** на Беларусі ў 15 — 16 ст. Да ўзнікнення кнігадрукавання рукапісная кніжнасць на Беларусі налічвала каля 5 ст. свайго існавання. Гісторыя стараж. кнігапісання (у яго сац., вытв. і маст.-эстэт. аспектах) практычна не вывучана. Гэта ў значнай ступені тлумачыцца адсутнасцю зводнага каталога зах.-рус. і бел. рукапісаў, дакладных дакумент. матэрыялаў. Пашырэнне Р. с. на Беларусі ў 15—1-й пал. 16 ст. пацвярджаецца рознымі крыніцамі, перш за ўсё запісамі ў саміх кнігах. Захавалася каля 40 рукапісных кодэксаў, напісаных зах.-рус. і бел. пісцамі, у якіх змешчаны каштоўныя звесткі пра дату, месца іх стварэння і інш. 12 рукапісаў, напісаных на Беларусі ў гэты час (да 1569), маюць поўныя выхадныя даныя: Гродна, Трыёдзь посная 1466, 1°, 322 арк., пісец — дыякан Яўстафій; Слуцк, Павучанні абвяшчальныя Фёдара Студзіта, 1487, 4°, 271 арк., Антон Сямёнаў сын Чалюстыкіна, «смолнянін»; Камянец, Чэцця, 1489, 1°, 287 арк., паповіч Бярозка Сямёнаў Долбніч з Навагрудка; Віцебск, Псалтыр тлумачальны, 1492, 4°, 405 арк., дзяк Арцемій; Слуцк або Лаўрышава, Евангелле, 1502, 1°, 444 арк., інак Антоній, празываемы Крыцкі, крылашанін Лаўрышаўскага манастыра; Бабынічы (Полацкі павет), Мінея, 1504, 1° 246 арк., дзячок гаспадарскага шляхціца Міхаіла Зіноўевіча — Савелій Нефадзевіч; Навагрудак, Пралог, 1512, 1°, 625 арк., дзяканец Іаакім; Магілёў, Актоіх, 1538, 4°, 274 арк., дзяк Ігнат Фёдаравіч Магілевец; Морач (Навагрудскі павет, на поўдзень ад Слуцка), Евангелле, 1539, 1°, 295 арк., Васіль «капыльскі» ў Нікольскім манастыры на Морачы; Слуцк, Павучанні выбраныя, не пазней 1542, 1°, 310 арк., дзяк Усцін Яцкавіч Чачаранін; Пінск, Псалтыр, 1543, 1°, 177 арк., пісец Парфен; Горваль (Рэчыцкі павет), Евангелле 1558, 1°, Іван Елеўферавіч з Клецка. Відаць, недзе ў наваколлі Петрыкава і Калінкавіч у пач. 16 ст. Сямён Яўсеевіч Рак напісаў Евангелле. Падобная ж кніга па заказу хойніцкага «старца» (службовая асоба сярод сялян) была скапіравана ў 1520 дзякам Севасцьянам Аўраамавічам. У 1519 пісцом Рыгорам Іванавічам ва ўладаннях кн. Адзінцэвіча (ва ўсх. Беларусі або ў зах. Смаленшчыне, паводле М. М. Улашчыка) быў перапісаны Супрасльскі летапіс. Евангелле ў «малы аркуш» 1538 напісана па заказу Багдана Марцінавіча Храбтовіча Фёдарам Кузьміным сынам «з Нясвіжа». У сярэдзіне 16 ст. напісана «Евангелле вучыцельнае», «вложенное» (дараванае) смаленскім ваяводай Васілём Тышкевічам у царкву св. Спаса ў Варанілавічах (Слонімскі павет; пісец — Іаан). У Смалявічах у 1507 іерэем Давыдам Самовічам быў «збудаваны» Суботнік (Памяннік). Невядома, дзе выконвалі сваю работу дзяк Сенка Якаўлевіч, «родом смолнянин» (Мінея 1487, напісаная «по велению» маршалка літ. Солтана Аляксандравіча), «Васка», пісар Мікалая Радзівіла Старога (Прыточнік, 1483),

дзяк Занка, родам з Турава (Мінея, 1488) і некат. інш. Звесткі, што захаваліся пра пісцоў і населеныя пункты, даюць толькі частковае ўяўленне пра пашыранасць кнігапісання на Беларусі. Найважнейшыя цэнтры зах.-рус. і бел. кніжнай пісьменнасці ў 14— сярэдзіне 16 ст. побач з некат. названымі гарадамі — Полацк, Вільня, Смаленск, Мінск, Брэст, з канца 15— пач. 16 ст.— Супрасль. Буйныя рукапісныя майстэрні (скрыпторыі) з вял. колькасцю пісцоў існавалі ў тых гарадах Вял. кн. Літоўскага, дзе знаходзіліся епіскапскія кафедры, было шмат царк. устаноў, канцылярый. Як ва ўсіх краінах Еўропы на пэўным этапе іх развіцця, царква імкнулася захаваць сваю манаполію ў вытворчасці рукапіснай кнігі, аднак сац.-эканам., грамадска-паліт. і культ. працэсы непазбежна вялі да ўзмацнення ролі свецкіх саслоўяў у ідэалаг. і культ. жыцці грамадства. Сярод вядомых па імёнах 36 бел. і зах.-рус. пісцоў 14—1-й пал. 16 ст. па сваім сац. становішчы 16 адносяцца да ніжэйшых і сярэдніх слаёў духавенства, 13— хутчэй за ўсё свецкія асобы, пра астатніх звестак няма. У групе зах.-рус. і бел. рукапісаў 15— сярэдзіны 16 ст., якія маюць адпаведныя ўладальніцкія і пісцовыя запісы, кнігі, напісаныя паводле заказаў або прамых указанняў свецкіх уласнікаў, складаюць каля $^1/_3$. Рост грамадскай патрэбы садзейнічаў пашырэнню рукапісаў сярод мяшчанства, уцягненню кніг у таварнаграшовыя адносіны. Попыт апярэджваў прапановы. У пач. 16 ст. права на ўладанне каштоўнымі рукапісамі ўпершыню стала аб'ектам судовага разбору (працэс паміж служэбнікам Яна Радзівіла Васілём Янковічам і гаспадарскім дваранінам Іванам Глаголем, 1519). Купленыя кнігі нярэдка маркіраваліся новымі па свайму зместу ўладальніцкімі запісамі з указаннем цаны, даты, папярэдняга ўласніка, часам нават сведак. Так, у адзін з бел. рукапісаў, набытых у 1570 у пінскага мешчаніна Багдана Куніловіча (Кнігі 16 прарокаў тлумачальныя), унесены запіс пра расходы і «барышнікаў» (пасрэднікаў здзелкі). У 15—1-й пал. 16 ст. прыкметна ўзрос удзел гар. «паспольства» ў кнігапісанні і пашырэнні рукапісных кодэксаў. У 1441 віленскі «местич» (мешчанін) ахвяраваў «друцкое» Евангелле ў царкву св. Уваскрасення ў Вільні, у 1504 па вяленню полацкага мешчаніна С. Бярнішчава напісана Мінея ў Бабынічах. Магілёўскі «Актоіх» 1538 «справлен... спроможеньем и накладом всех православных хр[е]стиян» (парафіян царквы св. Мікалая ў Магілёве). Гэта сведчыць, што падтрымка, якую бел. гараджане аказалі кнігавыдавецкай дзейнасці С., была не выпадковай і не адасобленай з'явай. Не дайшло амаль ніякіх канкрэтных звестак пра арганізацыю, унутраны выгляд царкоўна-манастырскіх і гар., свецкіх сярэдневяковых скрыпторыяў. У лепшым выпадку гэта было прасторнае памяшканне, якое ацяплялася «па-беламу» і дзе былі сканцэнтраваны ўсе няхітрыя прыстасаванні для кнігапісання. Даследчыкі



Да арт. **Рукапісная справа.** Пяро для пісьма. 15—16 ст. Стылі для пісьма, 14 ст. Інструмент для заточкі пер'яў. 16 ст.

лічаць, што ў той час пісцы пісалі свае рукапісы, паклаўшы іх на калені. Гэта пашыранае ўяўленне ў значнай ступені апіраецца на кананізаваныя выявы евангелістаў у рукапісах 14—16 ст. Разам з пергаментам у рукапіснай вытворчасці з 14 ст. стала выкарыстоўвацца больш танная папера, інтэнсіфікацыя працы перапісчыкаў садзейнічала выпрацоўцы новых, больш практычных тыпаў пісьма (*паўустаў,* пазней — скорапіс). Асн. сродкам пісьма заставалася гусінае пяро. Асаблівай увагі патрабавала яго завострыванне (зрэз, расшчэп), якое мянялася ў залежнасці ад таго, да якога пісьма — «вялікага», радковага «знаменнага» — пяро было прызначана. Трысціна кніжніка-скарапісца (трысцінавае пяро з тупым расшчэпам) упамянута ў супрасльскім выданні 1722. Няма звестак пра тое, што ім карысталіся ў скрыпторыях 14—16 ст. Для пісьма ўжывалася чарніла: фарбы, што ўключалі розныя арган. і мінер. кампаненты, тварOнае золата. Сляды разлiноўкі радкоў (пры дапамозе караксы — рамкі з нацягнутымі на ёй паралельнымі лініямі) захаваліся ў Слуцкім евангеллі 1539 і ў інш. рукапісах. Найб. пашыраным фарматам кнігі ў 11—15 ст. быў памер «у аркуш», або ў «десть», як ён абазначаўся ў стараж. вопісах бібліятэчных збораў. Праца пісцоў была цяжкой і стамляючай. Браслаўскі кашталян В. Загароўскі ў 1577 абавязваў свайго дзяка спісваць «з доброго зводу» па 3 «дестных» сшыткі ў тыдзень. «А на год полътрыста тетрадей паперы на то, киноварь, орешъков, копырвасу и кгумю на черныло» (Архіў Паўднёва-Заходняй Расіі. Ч. 1, т. 1. Кіеў, 1859. С. 82).

З асаблівай павагай ставіліся кнігапісцы да біблейскіх і інш. кананічных тэкстаў. На той час наўмыснае скажэнне ў перапісцы гэтых кніг было раўназначна ерасі, адступленню ад шчырай веры, святатацтвам, таму асобныя пісцы аднаўлялі нават запісы, што не адносіліся да тэксту, або яўныя памылкі арыгіналаў. Пра гэтыя рысы сярэдневяковай рукапіснай практыкі з'едліва адзываўся С. *Будны.* У буйных скрыпторыях нярэдка ўзнікалі рознагалоссі адносна таго, як тлумачыць і пісаць тэкст той або інш. кнігі. У 1530-я г. манах Супрасльскага манастыра Арсеній даносіў мітрапаліту, што архімандрыт Сергій Кімбар скажае сваёй праўкай многія рукапісы. Больш поўную уніфікацыю кананічных тэкстаў прынесла толькі кнігадрукаванне. У бел. кнігапісанні (перш за ўсё ў буйных майстэрнях) існаваў ужо пэўны падзел працы, што сведчыла пра параўнальна высокі ўзровень развіцця гэтага спецыфічнага віду рамеснай вытворчасці. Найб. прыкметна гэта выявілася ў аддзяленні працы пісцоўкаліграфаў ад мастакоў-ілюстратараў. Вядомы рукапісы 15—16 ст., дзе завершаны тэкст, але пакінуты пустымі месцы, прызначаныя для мініяцюр, застаўак, ініцыялаў (напр., кніга «Козма Індикоплов», 1°, 191 арк., паўустаў, якая належала Супрасльскаму манастыру). Некат. рукапісныя кодэксы ўпрыгожваў сам пісец, калі ён меў адпаведныя навыкі. Працэс вырабу рукапіснай кнігі ўключаў розныя па свайму характару віды дзейнасці і часам ажыццяўляўся ў форме своеасаблівай кааперацыі. Рукапісны Пралог быў завершаны некалькімі пісцамі ў Навагрудку 12.8.1512, «слестован» (праверaны) дыяканам Ігнацієм у Вільні, 20 жніўня пераплецены «рукою иерея Пръфирия» ў Любчы. Прыкметныя змены адбыліся ў 15—1-й пал. 16 ст. ў маст. афармленні кнігі. Стваральнікі рукапісных кодэксаў разглядалі іх як цэльныя творы. Афармленне, маст. аздоба кніг павінны былі адлюстраваць змест, зрабіць кнігі больш зразумелымі, прыгожымі, прывабнымі для чытачоў. Важныя маст.-эстэт. функцыі нёс на сабе пісьмовы тэкст, яго арганізацыя, размяшчэнне, узаемадзеянне з інш. элементамі кнігі. Памер старонак нярэдка адпавядаў «золотому сечению» (Слуцкае евангелле 1502, пісец Антоній Крыцкі), тэкставае поле было звычайна прамавугольным (суадносіны вышыні і шырыні ў сярэднім набліжаліся да прапорцыі 10 : 13— 10 : 15). Тэкст стараж. кніг не ведаў абзацаў, у большасці рукапісаў адсутнічаў падзел на словы, прасветамі аддзяляліся асобныя фразы або часткі фраз. Асобую выразнасць тэксту надавала пашыранае ў той час пісьмо ў 2 слупкі. Заключны тэкст раздзелаў нярэдка набываў від трохвугольнікаў, падкрэсленых знізу некалькімі гарызантальнымі рыскамі. Падобная форма арганізацыі тэкставага поля сустракаецца пазней у выданнях С. Паступова ўдасканальваўся дапаможны апарат кнігі: у канцы 15 ст. паявіліся першыя сігнатуры сшыткаў, усё часцей сустракаецца калафон з раз-

горнутымі выхадными данымі і інш. дадатковымі каментарыямі. У канцы 14—15 ст. пад уздзеяннем 2-га паўд.-слав. ўплыву ў афармленні заставак панаваў т. зв. балканскі стыль, у рукапісах 1-й пал. 16 ст. некалькі пашырыліся таксама застаўкі з візант. і новавізант. арнаментам. Вял. разнастайнасцю знешніх форм пры захаванні агульнага стылявога адзінства вылучаліся ініцыялы многіх урачыста афармленых рукапісаў (Полацкае евангелле 15 ст. з укладным запісам архімандрыта Петрапаўлаўскага храма Іоны Данілевіча, «Дзесятаглаў», напісаны Мацеем Дзесятым у Вільні і Супраслі ў 1502—07, і інш.).

У іканаграфіі мініяцюр адчуваецца стараж.-рус. і візант. спадчына, выбар сюжэтаў параўнальна абмежаваны (пераважаюць выявы евангелістаў). Мастацтва мініяцюрыстаў выявілася пераважна ў творчай распрацоўцы гэтых схем, выкарыстанні арыгінальных каляровых гам, традыцый мясц. маст. і нар. рамяства і творчасці. Некат. шэдэўры мясц. кнігапісання ўпрыгожаны высокамаст. цыкламі мініяцюр, выкананых па матывах новазапаветных і старазапаветных паданняў. Мастацтва афармлення, упрыгожання кнігі ў часы С. было асабліва развіта ў Полацку, Вільні, Супраслі, Лаўрышаўскім манастыры. Большасць рукапісаў, зробленых у кнігапісных майстэрнях Беларусі ў канцы 15— першыя дзесяцігоддзі 16 ст., мелі сціплае афармленне. Узросшая патрэба ў кнігах прымушала кнігапісцаў надаваць больш увагі працэсам паскоранага вырабу звычайнай кнігі, якая была неад'емным элементам школьнай адукацыі, асветы, духоўнага жыцця пісьменнага насельніцтва Беларусі.

Шматвяковы вопыт вытворчасці рукапіснай кнігі, дасягненні мастацкага афармлення істотна ўздзейнічалі на станаўленне бел. кнігадрукавання, знешні выгляд выданняў, іх змест. Рукапісныя пераклады і копіі біблейскіх тэкстаў папярэднічалі пачатай С. працы па стварэнню свайго зводу Біблії. У кніжную пісьменнасць Беларусі пранікалі формы жывой бел. мовы, пашыраўся жанравы рэпертуар рукапісаў, эвалюцыяніравала маст. аздоба, дапаможны апарат, усе кампаненты кнігі. С. выкарыстаў бел. рукапісы пры падрыхтоўцы сваіх выданняў, яны служылі ўзорам для вырабу пуансонаў і матрыц, уплывалі на маст. выгляд яго «книжиц». Адліўныя шрыфты пражскіх і віленскіх выданняў С. (за выключэннем літар «Ч», «Ц» і малога «а») дакладна ўзнаўляюць графіку паўустаўнага пісьма бел. рукапісаў канца 15— пач. 16 ст. Многія характэрныя рысы выданняў С. ў той або інш. меры працягвалі развіваць традыцыі, якія ў пачатковым выглядзе пачалі выяўляцца яшчэ ў бел. кнігапісанні (падзел слоў, формы канцавых палос, малы фармат, глосы, аўтарскія каментарыі, новы каляндарны стыль і інш.). Традыцыям рукапіснага мастацтва адпавядала імкненне С. ўпрыгожыць свае выданні мноствам разнастайных ініцыялаў, заставак, выкарыстанне чырвонага колеру ў кнігадрукаванні. С. неаднаразова ўказваў, што кнігі яго друкаваны чорнымі і «черлеными письменами». Якасна новыя рысы выданняў С. выразна выявіліся ў некат. асаблівасцях маст.-паліграф. афармлення, у больш актыўным выкарыстанні кніжнай, у т. л. свецкай, ілюстрацыі, аднатыпных форм арнаменту, ва ўсім яркім рэнесансавым выглядзе яго кніг, іх асв. і гуманіст. накіраванасці. Яны гарманічна ўвасобілі ў сабе вопыт сталага еўрап. кнігадрукавання і многія дасягненні бел., у больш шырокім плане — усх.-слав. і слав. кнігапісання. Гл. *Мастацкае афармленне кніг Ф. Скарыны.*

*Літ.:* Карский Е. Ф. Очерк славянской кирилловской палеографии. Варшава, 1901; его ж. Белорусы. Т. 1. Введение в изучение языка и народной словесности. Варшава, 1903.

*Г. Я. Галенчанка.*

**«Руф у полі»**. Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Руф» Ф. Скарыны.



**«РУФ У ПО́ЛІ»**, «Руфь прабаба цара Давыдова побирае класы за жнеци», гравюра на тытульным лісце *кнігі «Руф»*, выдадзенай С. у Празе (1519).

Адлюстроўвае эпізод аповесці пра маавіцянку Руф. Адзін з жыхароў г. Віфлеема разам з жонкаю і двума сынамі, ратуючыся ад голаду ў час неўраджаю ў Іудзеі, перасяліўся ў зямлю суседняга народа маавіцян. Там ён і яго два жанатыя на маавіцянках сыны памерлі. Калі мінулі неўраджайныя гады, жонка вырашыла вярнуцца ў Віфлеем. Адна яе нявестка — Руф — не пажадала разлучацца са свякроўю. Пакінуўшы сваіх бацькоў і радзіму, яна падзяляла з ёю цяжар беднасці, збіраючы на зжатай ніве каласы. Працавітая маавіцянка спадабалася гаспадару поля Ваозу, і ён ажаніўся з ёю. У гіст. плане сюжэт аповесці адлюстроўвае паступовае збліжэнне раней варожых паміж сабой плямён. Хрысц. мысліцелі звярнулі ўвагу на маральна-этычны змест аповесці, у якой, на іх думку, прадугадана ідэя духоўнай еднасці людзей, любові і спагады паміж імі незалежна ад этнічных адрозненняў. Гэту думку падкрэсліў С. ў прадмове да кн. «Руф» (гл. с. 145).

У адрозненне ад большасці іншых ілюстрацый «Бібліі» С. ў кампазіцыі гравюры (памер 105 × 105 мм) значнае месца адведзена краявіду. Правую яе частку займае выява жытняга поля. На пярэднім плане тры жняцы жнуць жыта. Іх галовы пакрыты саламянымі капелюшамі з шырокімі палямі. У цэнтры гравюры, нізка схіліўшыся, руплівая Руф збірае каласы. На ёй вопратка, як у жняцоў, закасаны рукавы. За спіною Руф фігура біблейскага Ваоза ў доўгім адзенні, у руках яго кій. Малюнак жняцоў досыць выразны, але іх фігуры ў аднолькавых паставах выкананы не-

калькі аднастайна. Акрамя доўгіх і кароткіх ліній, ужыта перакрыжаваная штрыхоўка (за сярэднім жняцом на зямлі). Звяртае на сябе ўвагу тое, што тры жняцы трымаюць сярпы ў левых руках. М. М. *Шчакаціхін* бачыў у гэтым «неспрактыкаванасць гравёра». Магчыма, аднак, што мы маем справу з неспрактыкаванасцю малявальшчыка: на малюнку, зробленым на ксілаграф. дошцы, жняцы маглі трымаць сярпы правымі рукамі. Але малявальшчык, відаць, не ўлічыў спецыфікі гравюры, якая дае выяву ў люстраным адбітку. Аналагічныя «недакладнасці» сустракаюцца і ў іншых працах: у гравюрах «Памазанне Давіда» (Самуіл трымае кубак левай рукой); «Іоў і д'ябал» (дубцы ў д'ябла ў левай лапе).

*Літ.:* 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**«РЫЦАРСКАЕ ПРАВА»**, в а е н н а е п р а в а, тэрмін, ужыты С. у прадмове да кн. «Другі закон» для вызначэння сукупнасці юрыд. норм, звычаяў і традыцый, якія рэгламентавалі ваенны побыт і праваадносіны ў арміі феад. часу ў 15—16 ст. Даючы аналіз асн. прынцыпаў права, яго паходжання, прызначэння і дзялення на галіны, С. асобна вылучае «рицерское или военное, еже на войне соблюдаемо бываеть» (гл. с. 96—97).

Усе праваадносіны старажытнасці, якія складаліся ў часе нясення вайсковай службы, рэгуляваліся нормамі звычаёвага права, ваен. павіннасць вызначалася класавай ці саслоўнай прыналежнасцю чалавека. Больш цяжкую вайсковую службу выконвалі рыцары, баяры і шляхта, якія павінны былі заўжды быць гатовымі да вайны. Мяшчане абавязваліся забяспечваць армію зброяй і боепрыпасамі, а таксама ўдзельнічаць у абароне і пабудове гар. умацаванняў. Тыя з іх, хто меў маёнткі, павінны былі разам з баярамі і шляхтай ехаць на вайну або вылучаць замест сябе ратнікаў. Простыя сяляне станавіліся ратнікамі ў час нападу ворага або вылучалі па пастанове сейма аднаго ратніка з некалькіх двароў. У грамаце вял. кн. літ. Ягайлы, выдадзенай Вял. кн. Літоўскаму (1387), адзначана, што ваен. паход лічыцца абавязкам кожнага, хто можа трымаць зброю ў руках.

Пісанае Р. п. пачало развівацца ў 16 ст. Першымі ваен. законамі былі пастановы Навагрудскага (1502), Віленскага (1507) і інш. сеймаў, а кадыфікацыя ваен. права ажыццёўлена ў *Статуце Вялікага княства Літоўскага 1529*. Статут вызначаў круг ваеннаабавязаных, прадугледжваў меры пакарання за невыкананне вайсковых абавязкаў і за злачынствы, учыненыя ратнікамі. Ад нясення ваен. службы вызваляліся толькі цяжкахворыя і непрыгодныя да яе асобы, але і яны павінны былі вылучаць за сябе іншых, прыгодных людзей. Агляд асн. норм ваен. права сведчыць, што вылучэнне яго С. у самастойную галіну даволі абгрунтавана, паколькі ў пач. 16 ст. ужо быў выпрацаваны склад нарматыўных матэрыялаў, ажыццёўлены яго сістэматызацыя і кадыфікацыя. Прававыя акты адыгралі значную ролю ў далейшым развіцці ваен. права Беларусі і Літвы.

*Літ.:* Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959. *І. А. Юхо.*

**РЭГІЯМАНТА́Н** [новалац. Regiomontanus Кёнігсбергскі; сапр. М ю л е р (Müller) Іаган; 1436—76], ням. астраном і матэматык. Вучыўся ў Лейпцыгскім і Венскім ун-тах, працаваў у Італіі і Венгрыі. Заснаваў у 1471 у Нюрнбергу адну з першых у Еўропе астранам. абсерваторыю з друкарняй і майстэрняй па вырабу астранам. прылад (некат. канструкцыі Р.). Выдаў (1474) разлічаныя ім астранам. табліцы, якія прадказвалі размяшчэнне планет, Сонца і Месяца на бліжэйшыя дзесяцігоддзі, астранам. працы Г. Пурбаха. Склаў скарочаны выклад «Альмагеста Пталамея» і даў крытычныя каментарыі да яго. Табліцы Р. шматразова перавыдаваліся ў друкарнях Еўропы, імі карысталіся ўсе вял. мараплаўцы таго часу (Васка да Гама, Калумб, Амерыга Веспучы і інш.). Астранам. працы Р. былі добра вядомы ў Кракаўскім ун-це, дзе вучыўся ў пач. 16 ст. С. Прама ці апасродкавана С. карыстаўся табліцамі Р., калі складаў свой прагноз зацьменняў, надрукаваны ім у «*Малой падарожнай кніжцы*».

*Літ.:* Б е л ы й Ю. А. Иоганн Мюллер (Региомонтан). М., 1985. *Г. Я. Галенчанка.*

**РЭЙХЛІН** (Reuchlin) Іаган (1455—1522), ням. гуманіст, філолаг, юрыст. Адзін з гал. прадстаўнікоў «паўночнага Адраджэння». Быў саветнікам вюртэмбергскага герцага, прафесарам ун-таў у Інгальштаце і Цюбінгене (1518—22). Вял. знаток антычнай культуры, прапагандыст гіст., прыродазнаўчанавук., мед. ведаў. Выступіў супраць схаластыкі і тэалагічнай артадоксіі, зазнаў уплыў італьян. гуманістаў, хрысц. рэлігію тлумачыў у духу вучэння пра чалавечую мараль. Лічыўся лепшым у Германіі знаўцам стараж. моў — лац. і асабліва стараж.-яўр., стараж.-грэч. Вывучаў тэксты Бібліі, паклаў пачатак лінгвістычнаму і крытычнаму аналізу Свяшчэннага пісання. Смелыя адносіны да кананічнага перакладу Бібліі, выступленні ў абарону яўр. рэліг. кніг, якія ён разглядаў як крыніцу для вывучэння хрысціянства (рэакц. каталіцкія тэолагі патрабавалі іх знішчэння), былі расцэнены афіц. тэалагічнымі коламі як замах на асновы хрысц. дактрын, выклікалі ў 1509—20 жорсткую палеміку («рэйхлінаўская спрэчка»), у якую былі ўцягнуты Ватыкан і папа рымскі. С. хутчэй за ўсё быў знаёмы з «рэйхлінаўскай спрэчкай», ведаў сутнасць ідэй Р. і быў на баку гуманіст. лагера ў ацэнцы дзейнасці ням. вучонага. Арганізацыя ім друкарні і падрыхтоўка да выдання Бібліі супалі ў часе з кульмінацыяй барацьбы тэолагаў і гуманістаў Еўропы вакол «справы Р.» (1512—17). З улікам таго, што Р. з сімпатыяй ставіўся да гусіцкага вучэння, а прагрэсіўныя прадстаўнікі «чэшскіх братоў» (Лукаш Пражскі і інш.) падтрымалі гуманіст. ўстаноўкі Р., можна гаварыць пра ўздзеянне ідэй Р. на погляды С. ў пражскі перыяд яго творчасці. Пра гэта сведчыць і тое, што, працуючы над перакладам Бібліі, С., як і Р., звяртаўся да тэкстаў Свяшчэннага пісання і на стараж.-яўр. мове. Пазней у адной з сваіх прадмоў С. адкрыта стаў на бок Р. ў пытанні пра значэнне глыбокага вывучэння стараж.-яўр. мовы для сапраўднага пазнання біблейскай і філас. мудрасці. Так, ідэалам мудраца С. лічыў чалавека, які «духа святого и философии исполненный, еврейскаго языка и греческаго досконале умелый» (гл. с. 22). Жывым узорам такога чалавека для С. мог служыць Р. Вальнадумства і інтэлектуальная адвага С. паўстаюць тут у асобным святле, таму што рымская царква ў асобе папы асудзіла ідэі Р. і афіцыйна прызнала яўр. кнігі шкоднымі для хрысц. рэлігіі (1520). Дзейнасць С. можна разглядаць як частку ідэйнай барацьбы еўрап. гуманізму супраць царк. рэакцыі ў рамках гістарычна пераломнай «рэйхлінаўскай спрэчкі».

*Літ.:* Г е й г е р Л. История немецкого гуманизма: Пер. с нем. Спб., 1899; Н е м и л о в А. Н. Немецкие гуманисты XV века. Л., 1979. *Г. У. Грушавы.*

**РЭНЕСА́НС**, гл. *Адраджэнне.*

**РЭФАРМАЦЫ́ЙНАЕ КНІГАДРУКАВА́ННЕ** н а Б е л а р у с і ў 16 — 1-й п а л о в е 17 с т. Станаўленне рэфарм. кнігадрукавання на Беларусі было звязана з уздымам рэфарм. руху ў Вял. кн. Літоўскім з сярэдзіны 16 ст. (гл. *Рэфармацыя*), значнымі паліт. падзеямі, што адбываліся ў час фарміравання Рэчы Паспалітай, сац.-эканам. і культ. развіццём грамадства. Гал. цэнтры Р. к. на Беларусі ўзніклі на яе зах. землях, дзе да 2-й пал. 16 ст. дзейнічалі найб. буйныя пратэстанцкія суполлі. У 2-й пал. 16—1-й пал. 17 ст. на тэр. Беларусі ўзнікла 6 рэфарм. друкарняў. У Брэсце на працягу 1550—80-х г. дзейнічалі друкары і выдаўцы, што паслядоўна змянялі адзін другога,— Б. Ваявудка, С. Мурмэліус, Ц. Базылік, у Нясвіжы — М. *Кавячынскі* і Д. Ланчыцкі, у Лоску (1572—92) — Ян *Карцан*, Ф. Балямоўскі і інш., у Цяпіне (Чашніцкі р-н) — Васіль *Цяпінскі*, у Любчы (1612—1656) — Пётр Бластус Кміта і яго сын Ян, Ланге і некат. інш. У канцы 16— пач. 17 ст. вырасла значэнне пратэстанцкіх друкарняў Вільні — Ланчыцкага, Я. Марковіча і інш., якія забяспечвалі сваімі выданнямі літ., бел. і ўкр. рэфарм. зборы. У Р. к. выразней, чым у любым інш. напрамку кнігадрукавання на Беларусі (напр., *Брацкім кнігадрукаванні*), адбіліся сувязі з Польшчай. Большасць выдаўцоў і друкароў з'яўляліся дзеячамі польскага рэфарм. руху, якія часова ці назаўсёды аселі на Беларусі і ў Літве (Кавячынскі, Л. Крышкоўскі, Ланчыцкі, Карцан, Пётр Бластус Кміта і інш. Удз. вага Р. к. Беларусі ва ўсёй друкарскай прадукцыі Вял. кн. Літоўскага складала каля 11%, Літвы — каля 6% (адпаведна каля 165 і 90 выданняў). Вяршыня выдавецкай дзейнасці Р. к. на Беларусі 16 ст. прыпадае на 60—70-я г., 17 ст. — на 20—50-я г. Асабліва прадукцыйнай была дзейнасць Лоскай друкарні, Брэсцкага друкарскага двара і *Любчанскай друкарні*. Р.к. адыграла важную ролю ў развіцці культ.-гіст. працэсу на Беларусі. Яно азначала пранікненне і ўсталяванне пастаяннага кнігадрукавання непасрэдна на бел. землях, у адрозненне ад выдавецкай дзейнасці С.,

якая працякала ў Празе і Вільні. Рэфарм. друкарні спрыялі распаўсюджванню друкаванай кнігі ў розным сац. і этнічным асяроддзі, прадэманстравалі ўзросшыя маст.-эстэт., літаратурныя і ідэалаг. яе магчымасці. Р. к. асабліва актыўна садзейнічала пашырэнню рэнесансавых, гуманіст., рацыяналіст. тэндэнцый у культуры Беларусі, свецкай л-ры і пісьменнасці. Секулярызацыя кнігадрукавання, якая падрывала духоўную манаполію царквы, выразна адбілася ў жанрах выданняў. У адпаведнасці з ідэйнымі пастулатамі Рэфармацыі найб. прэстыжнымі ў структуры выданняў былі пераклады і рэдакцыі Біблії і яе асобных частак. У гэтым сэнсе Р.к. прадоўжыла традыцыі С. і еўрап. Рэфармацыі, якія прызначалі свае выданні шырокім, у т. л. пазацарк., слаям чытачоў. Асабліва важнымі былі выданні *«Брэсцкай біблії»* (1563), якую пераклала і адрэдагавала група ідэолагаў кальвініцкай рэфармацыі Вял. кн. Літоўскага і Польшчы; «Нясвіжскай біблії» (1572), а таксама лоскага выдання «Новага запавету» (1574) з рэліг.-філас., філал. і гіст. каментарыямі Сымона *Буднага.* У ліку крыніц, выкарыстаных Будным, Цяпінскім і некат. інш. выдаўцамі, былі кнігі С., а таксама першадрукароў Івана *Фёдарава* і Пятра *Мсціслаўца.* Выключнай разнастайнасцю адрознівалася прадукцыя рэфарм. друкарняў, якую можна аднесці да свецкай л-ры ці да блізкіх ёй жанраў (каля 24%). Побач з новымі тыпамі белетрыстыкі (гіст., паліт. публіцыстыка, сатыра, панегірыкі і інш.) у рэфарм. друкарнях упершыню былі надрукаваны зб. прававых актаў, дапаможнікі па судаводству, гуманіст. прыродазнаўчых навуках, пераклады стараж. і сучасных аўтараў, творы выдатных дзеячаў еўрап. Адраджэння. Значную групу (каля 11%) складалі рэлігійна-палемічныя творы, якія былі накіраваны супраць каталіцкай царквы або адлюстроўвалі ўнутраныя супярэчнасці самога рэфарм. руху (тв. *Пятра з Ганёндза,* Буднага, Г. Паўла і інш.). Па свайму зместу гэтыя выданні нярэдка выходзілі за межы царк.-рэліг. палемікі і ўздымалі важныя грамадска-паліт. і сац.-эканам. праблемы. Упершыню ў гісторыі Беларусі ў друку пачалі публічна абмяркоўвацца праекты радыкальнай перабудовы грамадства, ліквідацыі саслоўна-класавых прывілеяў, прыгонніцтва і інш. Рэлігійна-багаслоўскія і літургічныя выданні, што абслугоўвалі патрэбы кальвініцкіх і антытрынітарскіх абшчын, склалі каля 15%. Звыш 90% ад наяўных выданняў выйшла на польскай мове, каля 80% — на лацінскай. Спарадычныя спробы выдання л-ры на бел. мове (вядомы 3 выданні: «Катэхізіс», «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам» — Буднага і «Евангелле» Цяпінскага) прадпрымаліся дэмакр. дзеячамі рэфарм. руху на Беларусі, якія востра адчувалі ўзросшую патрэбу шырокіх мас бел. насельніцтва ў друкаванай кнізе на роднай мове, у асвеце, пісьменнасці. Тэхнічная аснашчанасць рэфарм. друкарняў адпавядала еўрап. стандартам. Кніга разглядалася выдаўцамі ў адзінстве яе знешняга аблічча і зместу: многія выданні вылучаліся высокай культурай афармлення, мастацтвам друку, выкарыстоўваліся разнастайныя шрыфты, арнаментальныя аздобы, двухфарбавы друк, тытульныя лісты, прадмовы, прадметна-тэматычныя паказальнікі, друкарскія маркі-сігнеты. Адносна рэдка ўжываліся свецкія ілюстрацыйныя ксілаграфіі (упершыню ў брэсцкіх выданнях), паступова ўкаранялася гравюра на медзі (1-я пал. 17 ст.). У мастацка-графічным афармленні рэфарм. выданняў выразна адчуваюцца рэнесансавыя і барочныя матывы.

Залежнасць большасці рэфарм. друкароў ад уплывовых феадалаў — патронаў пратэстанцкіх абшчын (*Радзівілаў,* Валовічаў, Глябовічаў, Кішак і інш.) у значнай ступені вызначала знешнія формы, мову, ідэалаг. накіраванасць выданняў. Крызіс рэфарм. руху ў Вял. кн. Літоўскім у канцы 16—1-й пал. 17 ст. прывёў да аслаблення Р.к. на Беларусі і ў Літве. У сярэдзіне 17 ст. на тэрыторыі Беларусі працягвала дзейнасць толькі адна рэфарм. друкарня ў Любчы.

*Літ.:* Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (Вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970; Иванова Л. С. Источники по истории реформации в Белоруссии //Белороссика: книговедение, источники, библиография. Мн., 1980; Topolska M. B. Książka na Litwie i Białorusi w latach 1553—1660 //Odrodzenie i reformacja w Rolsce Wrocław etc., 1976. T. 21. *Г. Я. Галенчанка.*

**РЭФАРМАЦЫЯ** (ад лац. reformatio пераўтварэнне, выпраўленне), шырокі грамадска-паліт. і ідэалаг. рух у Зах. Еўропе ў 16 ст., які быў накіраваны супраць каталіцкай царквы і меў антыфеад. характар.

У вузка канфесіянальным сэнсе Р. азначала перагляд догматаў каталіцызму і рэліг. пераўтварэнні, што прывялі да ўзнікнення *пратэстантызму.* Рэфарм. рух быў выкліканы крызісам феад. спосабу вытворчасці, зараджэннем і развіццём буржуазіі, якая ўсё больш рашуча выступала супраць феадалізму. Цэнтралізаванай феад. рымска-каталіцкай царкве Р. імкнулася процідаставіць дэцэнтралізаваную, больш дэмакр. і танную царкву. З Р. звязаны такія найважнейшыя гіст. падзеі, як Сялянская вайна ў Германіі 1524—26, Нідэрландская бурж. рэвалюцыя 16 ст., Трыццацігадовая вайна 1618—48 і інш. Гал. прычыны, якія спарадзілі рэфарм. рух, былі агульнымі для ўсёй Зах. Еўропы, але ў кожнай краіне ён вызначаўся канкрэтнымі гіст. ўмовамі. Важнае месца ў рэліг. ідэалогіі Р. займаў пастулат пра асабістую адказнасць кожнага чалавека перад богам без пасрэдніцтва царк. іерархіі. Зыходзячы з яго, праціўнікі каталіцызму заяўлялі пра неабходнасць ліквідаваць папскую царкву, духавенства як асобую касту, манастыры і манаства, пышны каталіцкі культ, складаную абраднасць і інш. Гэта вяло да ліквідацыі царквы як найбуйнейшага феад. ўласніка, секулярызацыі царк. маёмасці, адмены царк. дзесяціны і інш. паборaў. Ужо ў ранніх рэфарм. рухах былі абвешчаны многія ідэйныя лозунгі Р.: ліквідацыя паліт. сістэмы каталіцкай царквы, прывілеяў каталіцкага духавенства, секулярызацыя царк. зямель, маёмасці, спрашчэнне культу, абраднасці, адмаўленне царк. традыцыі (пастаноў усяленскіх сабораў і інш. царк. устаноў, твораў «айцоў царквы»). У 1-й пал. 16 ст. рэфарм. рух ахапіў большасць краін Еўропы. Па сац. складу, сац.-экан. і паліт. мэтах у Р. вылучаюць 3 гал. кірункі: бюргерска-буржуазны, ідэолагі якога Марцін *Лютэр,* Жан Кальвін, Ульрых Цвінглі выступалі за аддзяленне царквы ад папы, рэліг. рэформы, прывядзенне царк. арганізацыі ў адпаведнасць з бурж. грамадскімі адносінамі; народная Р. (Томас *Мюнцэр,* анабаптысты), якая выявіла сац. інтарэсы прыгнечаных сялянска-плебейскіх мас (кульмінацыйны пункт — Сялянская вайна 1524—26); каралеўска-княжацкая (або Р. «вярхоў»), што адпавядала экан. і паліт. інтарэсам вярх. улады феад. знаці.

Р. на Беларусі з'яўлялася састаўной часткай еўрап. рэфарм. руху. Ідэйныя перадумовы Р. на Беларусі і ў Літве таксама фарміраваліся пад уплывам рэнесансава-гуманіст. думкі, мясц. ерэтычных рухаў, рус. вальнадумства. Р. на Беларусі прайшла некалькі асн. этапаў: фарміраванне і найвышэйшы ўздым рэфарм. руху, яго размежаванне на некалькі сац.-паліт. і рэліг.-тэалаг. кірункаў (сярэдзіна 1550-х—70-я г.); звужэнне сац. базы Р., наступленне і перамога контррэфармацыі (1580-я г.—2-я чвэрць 17 ст.). У сярэдзіне 17 ст. рэфарм. рух пераўтварыўся ў пратэстанцкую царкву, якая адыгрывала нязначную ролю ў духоўным і грамадска-паліт. жыцці Беларусі. Кальвінізм, які зацвердзіўся на Беларусі ў сярэдзіне 16 ст. як асн. кірунак Р., меў іншую сац.-класавую аснову, чым у краінах Зах. Еўропы. Яго гал. сац. апорай была феад. знаць, яе васалы; частка дробнай і сярэдняй шляхты. Уздым рэфарм. руху на Беларусі, у Літве і на Украіне ў 1560-я г. быў абумоўлены грамадска-паліт. зрухамі, што паставілі пад пагрозу сац.-экан. і паліт. прывілеі феад. знаці. Магнаты Вял. кн. Літоўскага бачылі ў Р. сродак ліквідаваць уплыў каталіцкай царквы, якая падтрымлівала ідэю стварэння аб'яднанай дзяржавы. Пасля Люблінскай уніі 1569 вырашальную ролю ў органах вярх. улады (сенат, урад) і саслоўна-класавага прадстаўніцтва («вальныя сеймы») у новай федэратыўнай дзяржаве — Рэчы Паспалітай — сталі адыгрываць польскія феадалы-каталікі. Многіх феадалаў Беларусі прыцягвала магчымасць секулярызацыі зямельных уладанняў каталіцкай царквы, памяншэнне расходаў на ўтрыманне царк. кліру. Пашырэнне каталіцкай і правасл. царк. юрыдык у гарадах і мястэчках Беларусі, абвастрэнне сац.-класавых супярэчнасцей, нездольнасць «старых» цэркваў развіваць школьную справу, адукацыю, асвету, нізкі маральны ўзровень духавенства прыцягвалі да Р. частку гар. насельніцтва Беларусі. Пабуджальным стымулам была магчымасць стварэння ў гарадах і мястэчках «сваёй» таннай царквы, не звязанай з духоўнай іерархіяй. У дзейнасці гарадскіх пратэстанцкіх абшчын (Віцебск, Полацк і інш.) нярэдка выяўляліся дэмакр. тэндэнцыі. Аднак большая частка гар. насельніцтва, як і сялянства, на Беларусі не прыняла Р. Праваслаўе ў асн. захавала ў 16 ст. свае пазіцыі ў нар. масах Беларусі, што тлумачылася грамадска-паліт. роллю, якую яно стала адыгрываць пасля Люблінскай і Брэсцкай уній, ва ўмовах узрастаўшага нац.-рэліг. прыгнёту, экспансіі польскіх феадалаў, каталіцкай царквы, росту паліт. ўплыву Рус-

кай дзяржавы. Сялянскае насельніцтва Беларусі не падтрымала Р., нягледзячы на гаспадарчыя распараджэнні буйных феадалаў-пратэстантаў (Радзівілаў, Валовічаў і інш.), паводле якіх сяляне абавязкова павінны былі наведваць зборы — рэфармацыйныя цэрквы. У 1560-я г. на Беларусі, у Літве і на Украіне сфарміраваўся арыянскі, або антытрынітарскі (гл. *Антытрынітарыі*) рух, які рэзка крытыкаваў царкоўна-рэліг. дагматыку кананічных хрысц. цэркваў (у т.л. некат. багаслоўскія пастулаты Р.) і абвясціў радыкальныя сац. ідэі, накіраваныя супраць асноў феад. ладу, прыгону. Унутраныя супярэчнасці, утапізм наіўна-камуніст. мараў найб. радыкальных яго прадстаўнікоў (*Пётр з Ганёндза*, Марцін *Чаховіц*, *Якуб з Калінаўкі*), асабліва процідзеянне феадалаў, дзярж. санкцыі абумовілі занянад гэтага кірунку Р. ўжо ў апошняй трэці 16 ст. Да канца 16 ст. склалася тэрытарыяльная арганізацыя кальвініскай царквы на Беларусі і ў Літве, якая ўключала 6 дыстрыктаў: Віленскі, Завілейскі, Навагрудскі, Рускі, Брэсцкі, Жмудскі. Асн. арганізацыйным і кіруючым цэнтрам была віленская кальвінiская абшчына, што ўзнікла каля 1553. Важныя ідэйныя і царкоўна-рэліг. праблемы выносіліся на абмеркаванне партыкулярных (па дыстрыктах), правінцыяльных (усіх абшчын Вял. кн. Літоўскага) і генеральных (з удзелам польскіх пратэстантаў) сінодаў. У рабоце сінодаў удзельнічалі таксама свецкія асобы — шляхта, гараджане. На думку некат. даследчыкаў, у 2-й пал. 16 ст. на Беларусі і Украіне ўзніклі своеасаблівыя формы рэфарм. руху ўнутры правасл. царквы (брацтвы, некат. ерасі). Яны адлюстроўвалі антыцарк. настроі часткі гар. і плебейска-сялянскіх мас насельніцтва.

Выдавецкая і літаратурная дзейнасць С. была адным з тых важных фактараў культ. жыцця ў Вял. кн. Літоўскім, якія стваралі аснову для Р. Кнігі С. былі адной з крыніц рэфарм. перакладаў Бібліі. Да іх звярталіся Сымон Будны, Мацей Кавячынскі, Лаўрэнцій Крышкоўскі, Васіль *Цяпінскі* (гл. таксама арт. *Светапогляд Ф. Скарыны*). Кірыліцкія рэфарм. выданні ўспрынялі некат. асаблівасці мастацка-арнаментальнага афармлення кніг С., пераймалі яго шрыфты. Выдатныя дзеячы бел.-літ. Р. прадоўжылі справу, пачатую С. Яны дэмакратызавалі свае выданні, імкнуліся пашырыць іх у «рускім» асяроддзі, сцвярджалі ідэі гуманізму, верацярпімасці і асветы.

Рэфарм. рух адыграў вял. ролю ў падрыве ідэалаг., паліт., у меншай ступені — сац.-экан. пазіцый каталіцкай (часткова і правасл.) царквы на Беларусі і ва ўсім Вял. кн. Літоўскім. Ён садзейнічаў развіццю рэнесансава-гуманіст. і рацыяналіст. тэндэнцый, станаўленню новых, секулярызаваных форм культуры (гл. арт. *Мастацтва Беларусі*, *Рэфармацыйнае кнігадрукаванне*, *Асвета*), пашырыў міжнар. культурныя сувязі і кантакты (гл. *Культура Беларусі*).

*Літ.:* Энгельс Ф. Крестьянская война в Германии //Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2. изд. Т. 7; 156; Штерн Л. Идеологическая и политическая роль Реформации в прошлом и настоящем //Ежегодник германской истории, 1968. М., 1969; Культура эпохи Возрождения и Реформация. Л., 1981; Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (Вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970.
*Л. С. Іванова.*

**РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ** (польск. Rzeczpospolita рэспубліка), 1) традыцыйная назва польскай феад. дзяржавы з канца 15 ст. Р. П. з'яўлялася спецыфічнай формай саслоўнай манархіі на чале з выбарным каралём, уладу з якім падзяляла шляхта, што падпарадкавала сабе інш. саслоўі феад. грамадства. Упершыню тэрмін «Р. П.» з'явіўся ў пач. 13 ст. ў хроніцы Вінцэнта Кадлубака. Часам Р. П. называлася ў 15—16 ст. і Вял. кн. Літоўскае, а ў Статутах Вял. кн. Літоўскага гэтым тэрмінам абазначаны паняцці «грамадства», «дзяржава». У часы С. гэты тэрмін меў шырокае распаўсюджанне. 2) Пасля Люблінскай уніі 1569— афіц. назва феад. федэратыўнай дзяржавы, у якую аб'ядналіся Польшча («Карона») і Вял. кн. Літоўскае («Княства», або «Літва»). Тэрыторыя Р. П. у 1772, 1793 і 1795 падзелена паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй. У выніку 3-га падзелу 1795 Р. П. перастала існаваць.

*Літ.:* История Польши. Т. 1. 2. изд. М., 1956; Bardach J., Leśnodorski B., Pietrzak M. Historia państwa i prawa polskiego. 4. wyd. Warszawa, 1985.
*А. П. Грыцкевіч.*



**САБАЛЕ́ЎСКІ** Аляксей Іванавіч (1856—1929), рускі сав. філолаг. Акад. АН СССР (чл. Пецярбургскай АН з 1900). У працах шырока выкарыстоўваў бел. моўны матэрыял, але бел. мову памылкова разглядаў як дыялект рус. мовы. У час. «Журнал Министерства народного просвещения» (1888. Т. 259, верас.) апубл. рэцэнзію на даследаванне П. У. *Уладзімірава* «Доктар Францыск Скарына. Яго пераклады, друкаваныя выданні і мова» (Спб., 1888), у якой не пагадзіўся з аўтарам, што выданні С. трэба расцэньваць як помнік бел. мовы пач. 16 ст. У кн. «Гісторыя рускай літаратурнай мовы» (1889, выдадзена ў 1980) ён зазначыў, што рус. элемент у С. вельмі моцны ў гуках, формах, лексіцы і сінтаксісе. У «Бібліі» прысутнічаюць таксама польскі і чэш. элементы. Апошні асабліва прыкметны ў сінтаксісе. Сабалеўскі заключыў, што мова скарынінскай «Бібліі» — сумесь чатырох моў: царкоўна-слав., рус., польск. і чэш. з перавагай рус. элемента.

*А. І. Жураўскі.*

**«САБО́РНІК»,** «Последование церковного собрания въселетъняго от месеца сепътеврия до месеца августа по въставу Ерусалимъское церкви», недатаванае віленскае выданне С., якое выйшла ў свет каля 1522. Уваходзіць у склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. Уключае «Святцы», «Пасхалію», а таксама пасляслоўе «Писаныи речи в сей малой подорожной книжице по ряду кратце положены суть». Адкрываецца тытульным лістом, на якім у рамцы з 2 вял. і 2 малых заставак надрукавана назва кнігі. На арк. 2-м адв.—13-м змешчаны каляндар, аб'яднаны з месяцасловам («Святцамі»). Пераліку «памяцей», адзначаных у кожным месяцы, папярэднічае тэкст, дзе прыведзены ўзыходзячыя да лац. і бел. назвы месяца, указана колькасць дзён у ім, працягласць дня і ночы і інш. Напр.: «Месець септеврии завемы вресень. Имать дни 30 день, в начале его имат годин 12 а дроб 54, нощ 12 дроб, 6 знаменаж бегу солнъцева дева и вага». Прыведзены бел. назвы месяцаў: «вресень, листопад, груденъ, прасинець, стычень, люты, марець, кветень, май, чирвець, липець, серпень». Назвы, што ўзыходзяць да стараж.-слав. абазначэнняў месяцаў, адрозніваюцца ад іх і ад сучасных бел. абазначэнняў. У «Саборніку» названы знакі задыяка, праз якія праходзіць сонца: «Дева, Вага, Скорпие, Стрелець, Кизирог, Водолей, Рибы, Овен, Телець, Близнець, Рак, Лев». Для некат. дзён прыведзены каляндарныя звесткі. Напр., для 14 верасня («Того дни солънце входит во знамя небесное вага и быва равен день с нощию»), для 26 верасня («Нощь иметь годинь 13 а день 11»), 13 снежня адзначана найб. працягласць ночы, 10 сакавіка — раўнадзенства, 12 чэрвеня — найб. працягласць дня. У «Святцах» прыведзены «памяці» ўсх.-слав. святых — такіх, як Барыс, Глеб, Феадосій і Антоній Пячэрскія і некат. паўд.-слав. (Сава Сербскі). Імёны асобных святых пададзены так, як яны бытавалі ў народзе: «Ларион», «Олена», «Надежа». На арк. 13-м адв. змешчаны тэкст «О паскалі или о пасце». С. даў тут паняцце пра т. зв. рухомыя царк. святы, якія кожны год адзначаюцца ў іншы дзень, і пра святы, якія адзначаюцца ў адны і тыя ж дні. Менавіта для першых «сложена есть паскалия, абы есмо ведали, в которые дни книжных месяцей их празновати имямы». На арк. 14—20-м адв. змешчана «Пасхалія» на перыяд з 1523 па 1543. Тое, што «Пасхалія» пачата 1523, дазволіла датаваць «Малую падарожную кніжку» каля 1522. Для кожнага года С. ўказаў яго парадкавы нумар ад «стварэння свету», т. зв. кругі сонца і месяца, парадкавы нумар года «ад нараджэння Хрыстова» і парадкавы нумар года па т. зв. ліку індыктамі — пятнаццацігадовымі перыядамі. Тэксты «Пасхаліі» для кожнага года завершаны астранам. звесткамі. Так, для 1523 С. прадказваў зацьменні месяца — 1 сакавіка і 25 жніўня, устанавіў дакладны час зацьмення: «...гибель всея луны августа 25 по полъноши 3 годины». Указаў 6 зацьменняў месяца і адно сонечнае. На арк. 21—23-м адв. змешчана пасляслоўе яго разглядаюць і як прадмову) да ўсёй «Малой падарожнай кніжкі»: «Писаныи речи в сей малой подорожной книжице по ряду кратце положены суть». Па сутнасці гэта пералік выданняў, якія ўваходзяць у склад «Малой падарожнай кніжкі». Мова «Саборніка» — царк.-слав. бел. рэдакцыі, яна значна бліжэй да гутарковай мовы, чым у інш. віленскіх выданнях С. Аб'ём 24 арк. (апошні пусты), сабраныя ў тры 8-аркушавыя сшыткі. Фармат выданняў — у 8-ю долю аркуша. На паласе 19 радкоў. Набор выкананы віленскім шрыфтам С.— вышыня 10 радкоў 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя прастаўлена на верхнім баку аркуша ўверсе справа, на апошніх 4 арк. адсутнічае. У верхняй частцы палос калонтытулы. «Саборнік» надрукаваны чорнай і чырвонай фарбамі. Маст. аздоба першых 13 аркушаў — тытульная рамка, складзеная з 2 вял. (63×10) і 2 малых (63×5 мм) віньетак.

У навук. ўжытак «Саборнік» увёў у 1825 П. І. *Кепен* у «Храналагічным роспісе першадрукаваным славенскім кнігам» (час. «Библиографические листы»). Ён лічыў «Саборнік» двума выданнямі («Краткія святцы» і «Пасхалія»). Поўны экземпляр ён бачыў у зборы К. *Манерта*. Сучаснае месцазнаходжанне гэтага экземпляра невядома. У 1838 А. Дз. *Чарткоў* упершыню апісаў экземпляр «Саборніка» з уласнага збору. Захоўваецца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве (ДГМ, Чартк., 479). У ім толькі першыя 11 арк. У 1905 П. І. *Шчукін* падараваў ДГМ канвалют (Меньш., 1430), што ўключаў «Часасловец», «Саборнік», «Шасцідневец» і 14 акафістаў і канонаў. У «Саборніку» з гэтага канвалюта толькі 13 першых аркушаў. Кніга пераплецена ў канцы 19— пач. 20 ст. ў дошкі, абцягнутыя тканінай і аздобленыя металічнымі ражкамі і срэднікам, меднымі засцежкамі. Самы поўны ў нашай краіне экземпляр «Саборніка» ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (ДПБ, 1.5.8 а). У ім захавалася пасляслоўе «Писаныи речи...», але няма «Пасхаліі». У 1957 дацкая даследчыца Х. Кроне ўвяла ў навук. ўжытак экзем-

пляр «Малой падарожнай кніжкі» са збору Каралеўскай б-кі ў Капенгагене — адзіны, дзе ў складзе «Саборніка» захавалася «Пасхалія». Усяго вядома 4 экз. «Саборніка».

*Літ.:* 91; 168; 648. *Я. Л. Неміроўскі.*

**САДКО́ВІЧ** Мікола (Мікалай Фёдаравіч; 1907—68), рускі сав. пісьменнік, кінадраматург, кінарэжысёр. Засл. дз. маст. БССР (1944). Аўтар (з Я. Львовым) першага рамана пра С. «Георгій Скарына» (Полымя, 1946—48, бел. пер. М. Клімковіча; асобн. выд. 1951, на рус. мове). У творы на шырокім гіст. фоне намалявана карціна жыцця бел. народа ў 16 ст., паказаны складаны шлях С. ад простага полацкага юнака да вучонага і кнігавыдаўца, дзейнасць якога была накіравана на пашырэнне асветы сярод свайго народа. Аўтары перадалі атмасферу жыцця сярэдневяковага ун-та, сцэну дыспуту С. з прадстаўнікамі рэакцыйных сіл, яго ідэйны рост. Недастатковасць біягр. звестак і нераспрацаванасць шматлікіх бакоў скарыназнаўства прывялі да некат. антыгіст. сцвярджэнняў і аўтарскага вымыслу. У 1970 па сцэнарыю Садковіча, у аснову якога быў пакладзены тэкст рамана, створаны маст. фільм «Я, Францыск Скарына...» (гл. ў арт. *Кінематаграфічная Скарыніяна*). *С. В. Кузьмін.*

**САКРА́Т** (Sōkrátēs; каля 470—399 да н. э.), стараж.-грэч. філосаф. Выступаў з вусным выкладам сваіх ідэй, вёў палеміку з сафістамі. За вальнадумства быў прыгавораны да смерці. Адмовіўшыся пайсці супраць сваіх перакананняў і выратавацца ўцёкам, прыняў яд. Не пакінуў пасля сябе ніякіх твораў, пра яго вядома з прац яго вучняў — Ксенафонта і *Платона*. Спосаб жыцця, паводзіны і характар гутарак Сакрата яшчэ ў старажытнасці сталі эталонам філас. мудрасці. К. Маркс назваў Сакрата «ўвасабленнем філасофіі». Яму належыць класічная распрацоўка дыялагічнага метаду знаходжання ісціны (філас. дыялектыка). У адрозненне ад стараж.-грэч. натурфілосафаў ён разумеў філасофію выключна як навуку пра маральна беззаганнае і мудрае жыццё чалавека, для дасягнення якога неабходна звярнуцца да пазнання самога сябе, паставіць імкненне да ісціны вышэй за інш. інтарэсы. Рацыяналіст. пафас этычнага вучэння Сакрата яскрава выявіўся ў перакананні, што дабрачыннасць ёсць веды і чалавек не можа паступаць дрэнна, калі ён ведае, што такое дабро. Вышэйшае дабро, калі яго пазналі, становіцца гал. мэтай дзейнасці людзей, таму паліт. ўлада ў грамадстве павінна належаць найб. мудрым грамадзянам.

Этычны рацыяналізм Сакрата, яго самаадданае служэнне ісціне моцна паўплывалі на развіццё філас. думкі. У эпоху С. прадстаўнікі рэнесансава-гуманіст. светапогляду ідэалізавалі вобраз Сакрата і ўспрынялі многія рысы сакратаўскага разумення маральнага жыцця. Сакратызм С. выявіўся ў канцэпцыі сувязі дабрачыннасці і ведаў, г. зн. у этычным рацыяналізме бел. гуманіста. С. блізкі Сакрату ў трактоўцы мудрасці, ведаў як неабходнай умовы маральных дабрачыннасцей, маральна прыгожага жыцця чалавека, «абы, научившися мудрости», людзі «добре живучи на свете» (гл. с. 37). Само разуменне філасофіі як «житейской мудрости» (гл. с. 46) радніць С. з Сакратам. Сугучнасць поглядаў С. з сакратаўскімі выявілася ў прадмове да кн. «Іоў», дзе ставіцца глыбока гуманіст. задача пазнання чалавекам самога сябе: «Ест наивышшая мудрость розмышлѣние смерти и познание самого себе» (гл. с. 29).



Сакрат.



**«Саламон і царыца Саўская».** Гравюра з тытульнага ліста «Еклесіяста» Ф. Скарыны.

*Літ.:* Лосев А. Ф. История античной эстетики: Софисты. Сократ. Платон. М., 1969; Кессиди Ф. Х. Сократ. М., 1976; Нерсесянц В. С. Сократ. 2. изд. М., 1984. *Г. У. Грушавы.*

**САЛАМО́Н,** цар аб'яднанага Ізраільска-Іудзейскага царства (каля 960—935 да н. э.). Пры Саламоне канчаткова склалася і дасягнула магутнасці стараж.-яўр. рабаўладальніцкая дзяржава. Яго лічаць заступнікам рамеснікаў і гандляроў, будаўніком і пісьменнікам. Умацоўваў гандл. сувязі з суседнімі дзяржавамі, адкрыў гандл. шлях па Чырвонаму мору. Рэарганізаваў і ўзмацніў армію. Для аказання процідзеяння варожаму Дамаску ўстанавіў дружалюбныя адносіны з фінікійскім царом Хірамам, заручыўся падтрымкай Егіпта, ажаніўшыся з егіпецкай царэўнай (атрымаў у пасаг г. Гезер). Паводле падання, Саламон — аўтар некат. кніг Бібліі. С. неаднаразова ўпамінае яго ў прадмовах і пасляслоўях. *В. У. Чапко.*

**«САЛАМО́Н І ЦАРЫЦА СА́ЎСКАЯ»,** «Саломон беседуеть с царицей Савою», гравюра, якая ілюструе змест 10-га раз-

дзела 3-й біблейскай кананічнай *кнігі «Царствы»,* выдадзенай С. у Празе (1518). Змешчана таксама на тытульным лісце *«Еклесіяста»*.

Паводле легенды, царыца Саўская, дачуўшыся пра мудрасць цара Саламона, прыехала на вярблюдах з паўд. Аравіі з вял. дарамі да яго ў Іерусалім, каб выпрабаваць цара загадкамі. Цар здзівіў яе сваёй мудрасцю, багаццем і пышнасцю двара.

На шматфігурнай гравюры (105 $\times$ $\times$ 104,5 мм) адлюстраваны прыезд царыцы Саўскай да Саламона, гутарка з ім на фоне велічнага, пышна арнаментаванага палаца з калонамі. На пярэднім плане царскі трон, на якім у багатым адзенні з каронай на галаве сядзіць Саламон, злева ад яго — царыца Саўская. Кампазіцыйна яна дамінуе. Апранута ў адкрытае адзенне з вузкімі рукавамі, на галаве карона. Побач з ёю світа, тут жа вярблюды, нагружаныя дарамі, слон. Перад царскім тронам на каленях стаяць слугі царыцы. Справа ад Саламона яго прыбліжаныя ажыўлена абмяркоўваюць візіт царыцы. Кампазіцыйна гэтая гравюра нагадвае гравюру *«Суд Саламона»* з кн. «Прытчы Саламона» (1517), і, верагодна, яны належаць аднаму аўтару. Хоць абедзве гравюры і не пазначаны гербам-сігнетам С., але іх выконвалі спецыяльна для 3-й кн. «Царствы», у чым пераконвае адпаведнасць памераў гравюры люстры набору (па шырыні — 105 мм). Тэхнічна гравюра эскізная: выявы жывёл і асобных чалавечых фігур выкананы не зусім упэўненай штрыхоўкай. Аднак асобныя фігуры досыць выразныя. У людской масе вылучаюцца Саламон і царыца Саўская, што таксама сведчыць пра майстэрства невядомага аўтара. Цікавая спроба паказаць псіхал. стан гал. герояў. Так, дынамічнай і выразнай фігуры царыцы Саўскай, яе задзірыстасці і агрэсіўнасці кантрастуе мудры Саламон, спакойная пастава якога, выраз твару з жывымі вачамі гавораць пра розум, разважлівасць.

*Літ.:* 564. *В. Ф. Шматаў.*

**САЛО́Н** (грэч. Sólōn) (каля 638—559 да н. э.), афінскі (стараж. Грэцыя) паліт. дзеяч, рэфарматар, паэт. Паходзіць са знатнага, але збяднелага роду. Выбраны ў 594 архонтам і айсімнетам (пасрэднікам для ўладжвання сац. спрэчак), ажыццявіў шэраг сац.-паліт. і заканадаўчых рэформ. Рэформы Салона закранулі розныя галіны афінскага права і былі праведзены ў інтарэсах сярэдніх, гал. ч. гандлёва-рамесніцкіх слаёў. У рэфарматарскай дзейнасці прытрымліваўся лініі «залатой сярэдзіны» і прынцыпу: ніякіх празмернасцей. Рэформы Салона садзейнічалі ліквідацыі перажыткаў родавага ладу і ўтварэння афінскай рабаўладальніцкай дэмакратыі. Імя яго было папулярным на працягу многіх вякоў. Яго лічылі адным з сямі мудрацоў Стараж. Грэцыі. Папулярнасць Салона была вялікай сярод гуманістычна настроеных мысліцеляў эпохі Адраджэння і Новага часу. Прычына гэтага — агульны для іх ідэалізм у поглядзе на гісторыю чалавецтва, паводле якога крыніца прагрэс. развіцця грамадства вызначалася мэтанакіраванай, разумнай дзейнасцю гіст. асоб: мудрацоў, манархаў, палкаводцаў. Рэфарматарская дзейнасць Салона разглядалася як прыклад і доказ таго, што існуючыя вострыя супярэчнасці феад. грамадства можна пераадолець з дапамогай разумных законаў і паліт. пераўтварэнняў. Відаць, блізкіх да гэтага поглядаў трымаўся С., які ў прадмове да 1-й кн. «Царствы» сярод інш. «людии мудрыи» называў Салона і падкрэсліваў яго заканадаўчыя заслугі: «Яко греком царь, Фороней именем, наипервей права пописал, египтяном — Меркурий Тримеист, афинеаном — Солон Философ...» (гл. с. 65). *С. Ф. Сокал.*

**«САМСО́Н І ЛЕЎ»,** «Самосон пресилный растрогал льва на пути», гравюра на тытульным лісце *кнігі «Суддзі»,* выдадзенай С. у Празе (1519). Ілюструе эпізод біблейскай аповесці пра подзвігі і прыгоды аднаго з «суддзяў» (выбраных правадыроў) стараж.-ізраільскага рода-племяннога саюза Самсона. У гравюры (105$\times$105 мм) на пярэднім плане — Самсон у кароткім адзенні з вянком на галаве разрывае пашчу льва, злева ад Самсона — дрэва, у кроне якога на картушы змешчаны герб-сігнет С. Па кампазіцыі, выразнасці, гравіроўцы належыць да ліку лепшых у кнігах С. Сцэна паядынка Самсона з львом скампанавана выразна. Гал. задуму не парушаюць другарадныя дэталі, скупы краявід, на фоне якога разгортваецца дзея, дрэва ўраўнаважвае фігуру Самсона, намаляваную ўмоўна (у нечым нават наіўна), але канструкцыйна выразна. Форма амаль усюды мадэліруецца паралельнай, паўкруглай штрыхоўкай. Адлюстраванне дадзенага сюжэта вядома і ў ням. графіцы («Люстра выратаванне чалавецтва», Базель, 1476), гравюра А. Дзюрэра «Самсон і леў» (1496—97), але ілюстрацыя С. прыкметна адрозніваецца ад ням. першакрыніц кампазіцыйным тыпажом і тэхнікай гравіроўкі. У бел. мініяцюры і гравюры праца аналогій не мае.

*Літ.:* 564; 792. *В. Ф. Шматаў.*

**САПУНО́Ў** Аляксей Парфенавіч (1851—1924), беларускі гісторык, краязнавец. Праф. (1913). Працаваў у Віцебскім цэнтр. архіве стараж. грамат (1895—97). Адзін з арганізатараў Віцебскага царк.-археал. музея (1893), Віцебскай вучонай архіўнай камісіі (1909). У курсе лекцый «Беларусазнаўства», які чытаў у Віцебскім вышэйшым пед. ін-це (1923—24), неаднаразова называў С., падкрэсліваў яго ролю ў лёсе бел. мовы і л-ры ў 16—18 ст. Даследаваў полацкія помнікі матэр. і духоўнай культуры часоў С. (Помнікі часоў старажытных і найноўшых у Віцебскай губерні. Віцебск, 1903).

*Літ.:* Каханоўскі Г. Вандраванні// Маладосць. 1984. № 10.

**САРДАНАПА́Л** [г. н. невяд.— 883 (?) да н. э.]. Мяркуюць, што імя паходзіць ад змененага імя цара-заваёўніка Ашурбаніпала, вял. правіцеля Асірыі, які згодна версіі быў 30-м царом Асірыі (669—663 да н. э.). Імя Сарданапал стала сінонімам любасці да спешчанасці і раскошы. С. ўпамінае яго ў прадмове да кн. «Юдзіф», дзе расказвае пра ўтварэнне Асірыйскага царства.

**СА́ЎЧАНКА** Васіль Васілевіч (н. 1929), беларускі сав. графік. Аформіў юбілейны зборнік *«450 год беларускага кнігадрукавання»* (1968, лінагравюра). Выкарыстаў элементы скарынінскага арнаменту, шрыфтоў, рэпрадукцыі партрэта С. работы бел. мастакоў, сваю лінагравюру, дзе С., паглыблены ў роздум, трымае ў руцэ адбітак кніжнай старонкі. Афармленне вызначаецца выразнай лаканічнасцю, строгім адборам дэкар. матываў. На ўсесаюзным конкурсе «Мастацва кнігі» 1968 зборнік адзначаны дыпломам 3-й ступені.

**СА́ХАРАЎ** Іван Пятровіч (1807—63), рускі бібліёграф, этнограф, фалькларыст. Чл.-кар. Пецярб. АН (1854). У 1842 у незакончанай працы «Руськія старажытныя помнікі» апублікаваў «Храналагічны роспіс рускай бібліяграфіі з 1491 да 1700 года», у якім былі ўлічаны выданні С. Рыхтаваў 3-томны «Агляд славяна-рускай бібліяграфіі». У 2-й частцы 1-га т. «Агляду...» — «Храналагічны роспіс славяна-рускай бібліяграфіі. Выданні, надрукаваныя кірылаўскімі і рускімі літарамі з 1491 па 1731 г.» (выд. 1849) — таксама падрабязна апісаны выданні С. (фармат, колькасць лістоў і ілюстрацый, месца знаходжання захаваных экземпляраў, дадзена бібліяграфія). Упершыню назваў 16 акафістаў і канонаў С. Акрамя выданняў С., у «Храналагічным роспісу...» апісаны і інш. бел. кнігі 15—16 ст. Для 2-га тома «Агляду...» падрыхтаваў некалькі дзесяткаў рэпрадукцый стараж.-рус. актавага пісьма і старадрукаў. Адбіткі былі набыты ў наследнікаў Сахарава пецярб. кнігавыдаўцом М. А. Шыгіным, які выпусціў іх у продаж у выглядзе альбомаў «Узоры старажытнай пісьменнасці», «Узоры славяна-рускага кнігадрукавання з 1491 года» (Спб., 1891). У апошнім альбоме меліся раздзелы «Пражская друкарня 1517—1519 г. Доктар Францыск Скарына» і «Віленская друкарня 1525 г. Бурмістр Якаў Бабіч», у якіх змешчаны 5 літаграфаваных ілюстрацый, 8 заставак і віньетак, шмат ініцыялаў і шрыфтоў пражскіх і віленскіх выданняў С., тытульныя лісты да «Біблії», акафістаў і інш. Альбом уключаў таксама матэрыялы Нясвіжскай і некат. інш. бел. друкарняў. Сярод выдадзеных прац Сахарава часткова захаваўся ў карэктурных лістах каталог «Бібліятэкі славяна-рускіх кніг» з кнігазбору А. І. *Касцерына,* у якім падрабязна апісаны выданні С. (лісты зберагаюцца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна).

*Літ.:* 210; Азадовский М. К. История русской фольклористики. Т. 1. М., 1958. С. 355—362. *Я. Л. Неміроўскі.*

**САЦЫЯ́ЛЬНА-ПАЛІТЫ́ЧНАЯ І ПРАВАВА́Я ДУ́МКА НА БЕЛАРУ́СІ І Ў ЛІТВЕ́** ў 16 ст. Эпоха С. адзначана развіццём складаных і шматпланавых працэсаў у розных галінах экан., сац. і паліт. жыцця Вял. кн. Літоўскага, што непасрэдна ўплывалі на характар і змест ідэйнай барацьбы класаў і сац. груп. Гал. лініі развіцця былі звязаны з экан.

узвышэннем класа феадалаў, увядзеннем новых форм эксплуатацыі залежнага ад іх насельніцтва, абвастрэннем сац. супярэчнасцей, актывізацыяй выкарыстання паліт. і прававых форм рэгулявання грамадскіх адносін. Грамадскія рухі мелі рэліг. афарбоўку, што адлюстроўвала асаблівасці барацьбы каталіцызму, праваслаўя і пратэстантызму. Асн. кірункі развіцця сац.-паліт. і прававой думкі на Беларусі і ў Літве ў 16 ст. складваліся ў адпаведнасці з адзначанымі сац.-паліт. адносінамі і асаблівасцямі класавай барацьбы, праз сутыкненне кансерватыўных плыняў з прагрэсіўнымі. Ідэолагі свецкіх феадалаў імкнуліся абгрунтаваць т. зв. тэорыю шляхецтва, сутнасцю якой было даказаць правамернасць прывілеяванага становішча шляхецкага саслоўя ў грамадстве і дзяржаве. З гэтай мэтай абвяшчалася рымскае паходжанне бел.-літ. шляхты, прыроджанае высакародства і іх спадчынны пераход ад пакалення да пакалення. Тэорыя шляхецтва выкарыстоўвалася як сродак барацьбы пануючага класа за абмежаванне ўлады манарха (вял. князя, караля). Гэта асабліва выразна выявілася ў т. зв. экзекуцыйнай праграме, на аснове якой шляхецкія колы патрабавалі ад каралеўскай улады вярнуць шляхце нібыта аднятыя раней у яе правы. Гэта праграма атрымала назву праграмы выпраўлення Рэчы Паспалітай. Экзекуцыйная праграма мела сваёй мэтай перабудову паліт. ладу і была праграмай развіцця шляхецкай дэмакратыі. У яе рамках фарміраваліся і ідэі агульнашляхецкай роўнасці і свабоды. Гэтыя ідэі выкарыстоўваліся магнатамі для фактычнага канцэнтравання ўлады ў сваіх руках і былі на самай справе толькі шырмай, што выклікала незадавальненне асобных слаёў сярэдняй і дробнай шляхты. Экзекуцыйная праграма адлюстроўвала таксама імкненні свецкіх феадалаў абмежаваць умяшанне царквы ў паліт. жыццё і прававое рэгуляванне. Адсюль патрабаванні адмены царк. дзесяцін і абмежавання царк. юрысдыкцыі «духоўнымі» справамі. Сярод экзекуцыйных пастулатаў былі і імкненні кадыфікацыі, што знайшло адлюстраванне ў *Статуце Вялікага княства Літоўскага 1529,* а таксама ў Статутах 1566, 1588, якія заканадаўча зацвердзілі паліт. правы і прывілеі шляхецкага саслоўя. Актыўнымі абаронцамі тэорыі шляхецтва былі *Радзівілы,* Сапегі, Хадкевічы і інш. магнаты. У фарміраванні пануючай сац.-паліт. і прававой ідэалогіі значную ролю адыгрывала царква (гл. *Праваслаўная царква* на Беларусі ў 15—16 ст., *Каталіцкая царква* на Беларусі ў 15—16 ст.). Як вядучая ідэалаг. ўстанова сярэдневякоўя яна ўсімі сродкамі абараняла існуючыя адносіны і палітыка-ўладныя інстытуты. Іх неабходнасць і разумнасць звязваліся з боскасцю паходжання і божай мэтазгоднасцю. Каталіцкая царква на Беларусі абараняла найб. рэакц. ідэі і пазіцыі, яна адначасова была носьбітам паланізацыі і каталіцкай экспансіі. Ідэолагі каталіцызму П. Скарга, С. Градзіцкі, Т. Цішкевіч-Скуміновіч сцвярджалі разумнасць феад. сац.-паліт. іерархіі, выкарыстоўваючы метадалогію арганічнай школы, якая абгрунтоўвала адвечнасць і прыроджанасць няроўнасці. Тэалогія абвяшчалася на чале ўсіх навук. Развіццё прагрэс. сац.-паліт. і прававой думкі ішло рознымі шляхамі. Яе кірункі адрозніваліся сваёй мэтазгоднасцю і асаблівасцямі выбранай сістэмы аргументацыі. Аднак іх адметнай рысай была апазіцыйнасць да шляхецкіх тэорый і тэалагічных канцэпцый афіц. царквы. Перадавыя мысліцелі выступалі супраць феад. бяспраўя і прыгнечання простага народа, з патрабаваннямі рэформ у дзяржаве, грамадстве, праваадносінах, шукалі і прапаноўвалі шляхі пераўтварэння. С. імкнуўся да рацыяналіст. інтэрпрэтацыі Свяшчэннага пісання з пазіцый хрысціянскага гуманізму і прыстасавання хрысц. вучэння да патрэб пераўтварэння грамадства на разумных асновах. Ён звярнуў увагу на асаблівасці функцыяніравання розных сац.-паліт. і прававых інстытутаў і выкарыстання іх у інтарэсах людзей, а не асобных прывілеяваных груп. Ён імкнуўся перавесці патрабаванні раннехрысц. этыкі ў прынцыпы рэальнага прававога рэгулявання і прававой сістэмы. С. ў прадмовах да кн. «Царствы», «Другі закон», «Суддзі», у прадмове да ўсёй «Бібліі» апісаў і даў класіфікацыю відаў права, што мела практычнае значэнне ва ўмовах, калі ішла падрыхтоўка кадыфікацыі заканадаўства Вял. кн. Літоўскага. Ён адзін з першых на Беларусі звярнуў увагу на ідэі натуральнага права, якія затым атрымалі развіццё ў твор-



Салон.

**«Саламон і леў».** Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Суддзі» Ф. Скарыны.



часці інш. дзеячаў і мысліцеляў Беларусі (Андрэй Волан, Адам Алізароўскі і інш.). С. можна лічыць заснавальнікам двух гал. кірункаў у прагрэсіўнай сац.-паліт. і прававой думцы Беларусі 16 ст.: рэфарм. і свецкага (гл. *Рэфармацыя, Антытрынітарыі, Светапогляд Ф. Скарыны*).

У 16 ст. на Беларусі сфарміраваўся свецкі кірунак сац.-паліт. і прававой думкі. Яго прадстаўнікі імкнуліся чэрпаць тэарэт. аргументацыю з натуральных крыніц, падмацоўваць свае вывады дадзенымі вопыту. Гэты кірунак быў звязаны з агульнай гнасеалагічнай пераарыентацыяй навук. ведаў у Еўропе эпохі Рэфармацыі і Адраджэння. У вобласці сац.-паліт. і прававой думкі найб. тыповым стаў зварот да тэорый натуральнага права і грамадскага дагавору, да спадчыны антычнасці (*Міхалон Літвін*, Волан, Алізароўскі і інш.). Прадстаўнікі свецкага кірунку знешне выкарыстоўвалі папулярныя ў шляхецкіх колах ідэі выпраўлення Рэчы Паспалітай, але надавалі гэтаму «выпраўленню» гуманістычны змест. Натуральна-прававыя ідэі на працягу 16 — 1-й пал. 17 ст. зазналі пэўную эвалюцыю. На першым этапе (С., ідэолагі Рэфармацыі) у інтэрпрэтацыі натуральнага права значнае месца адводзілася раннехрысц. маралі. Пазней пераважнае значэнне ўжо набыла свецкая рацыяналіст. трактоўка натуральнага права (Волан, Алізароўскі). Цэнтр. паняццямі, што вызначалі падыход свецкай паліт. думкі да праблем дзяржавы і права, былі паняцці агульнай карысці і сац. гармоніі. На іх аснове ствараўся ідэал дзярж. ладу і прававога рэгулявання. Сутнасць дзяржавы выводзілася праз выяўленне яе гал. мэты — забяспечыць сац. гармонію, натуральныя правы грамадзян і агульную карысць. З пазіцый гэтага ідэалу прадстаўнікі свецкай палітыка-прававой думкі абгрунтоўвалі патрабаванні роўнасці людзей перад законам, устанаўлення справядлівых сац.-паліт. адносін, цэнтралізацыі ўлады, умацавання законнасці і інш. У іх канцэпцыях упершыню сталі выяўляцца асаблівасці ўзаемадзеяння і адрозненняў паміж дзяржавай і грамадствам, правам і законам, вызначалася дэтэрмінацыя развіцця сац.-паліт. працэсаў, устойлівасці і дэградацыі палітыка-ўладных інстытутаў. Яны актыўна абмяркоўвалі пытанні аб найб. аптымальнай форме дзярж. ладу, функцыях права, прынцыпах прававога рэгулявання і інш.

На працягу 16 ст. ўсё больш разнастайнымі і змястоўнымі становяцца пісьмовыя крыніцы і формы выяўлення сац.-паліт. і прававой думкі. С. выкарыстаў для гэтых мэт *прадмовы* і *пасляслоўі* да выдаваемых ім кніг. Пазней сац.-паліт. і прававыя ідэі знайшлі сваё ўвасабленне ў летапісах, рэліг.-палемічнай л-ры, мемуарах, дзярж.-прававых актах (статуты, судовыя акты, дзённікі сеймаў і інш.). Імі прасякнуты многія літаратурна-маст. творы (Мікола *Гусоўскі*, Андрэй Рымша). З'явіліся працы, спецыяльна прысвечаныя сац.-паліт. пытанням — «Пра свецкую ўладу» Буднага, «Аб норавах татар, літоўцаў і масквіцян» Міхалона Літвіна, «Аб палітычнай або грамадзянскай свабодзе», «Пра гасудара і ўласцівыя яму дабрачыннасці», «Пра шчаслівае жыццё, або найвышэйшую чалавечую дабрачыннасць» Волана, «Аб палітычнай агульнасці людзей» Алізароўскага, а таксама шэраг ананімных паліт. твораў: «Размова паляка з літвінам», «Меркаванне пра выбранне новага караля», «Меркаванне вольнага шляхціца аб двух неабходных параграфах на сейміку 1608 года» і інш. У мэтах пашырэння паліт. ведаў на Беларусі і ў Літве перавыдаваліся творы антычных і еўрап. мысліцеляў — *Цыцэрона, Эразма Ратэрдамскага.* У гэты ж перыяд ствараліся і пашыраліся працы па асобных праблемах правапрымянення. У кнізе П. Раізія «Заключэнні аб справах, заслуханых у трыбунале Вялікага княства Літоўскага» разглядалася і абагульнялася практыка складання завяшчанняў, забеспячэння даўгоў і пазык і інш. Праблемы сямейнага права разглядаліся ў працы Цішкевіча-Скуміновіча «Аб праве асоб». Шырока вядомыя на Беларусі былі працы Б. Граіцкага і П. Шчэрбіца па магдэбургскаму праву, якімі карысталіся ў гар. магістратах. Значны ўзровень прававой культуры Беларусі і Літвы таго часу характарызуе актыўная правахворчая дзейнасць, што знайшла ўвасабленне ў прынятых на працягу 16 ст. трох статутах Вял. кн. Літоўскага (1529, 1566, 1588), якія былі дасягненнем агульнаеўрап. маштабу. У іх абагульнены нормы «Рускай Праўды», звычаёвае права бел. і літ. земляў. Як развіццё скарынінскай справы можна разглядаць той факт, што з 2-й пал. 16 ст. прававыя акты сталі выдавацца друкаваным спосабам. Так, напр., выдадзены за кошт і з прадмовамі вядомага паліт. дзеяча Вял. кн. Літоўскага Л. Сапегі ў Віленскай друкарні *Мамонічаў* Статут Вял. кн. Літоўскага 1588. Развіццё друку мела вял. значэнне для праватворчасці. У процілегласць рукапісным спісам, дзе непазбежны былі скажэнні, допісы, недакладнасці, яно дазваляла праводзіць аднастайную практыку правапрымянення. На працягу 16 ст. на Беларусі назіралася плённае развіццё гуманіст. скарынінскіх традыцый у сац.-паліт. і прававой думцы. Яно было часова перапынена толькі ў сярэдзіне 17 ст. наступленнем каталіцкай рэакцыі і магнацкай алігархіі.

*Літ.:* 130; 131; 232; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Юхо И. А. Правовое положение населения Белоруссии в XVI в. Мн., 1978; Сокол С. Ф. Политическая и правовая мысль в Белоруссии XVI — первой половины XVII в. Мн., 1984.

*С. Ф. Сокал.*

**СВЕТАПО́ГЛЯД Ф. СКАРЫНЫ**, сукупнасць навуковых, філасофскіх, сацыяльна-палітычных, этычных, эстэтычных і прававых поглядаў і перакананняў С., на фарміраванне якіх значны ўплыў аказала развіццё беларускай, усходнеславянскай і заходне-еўрапейскай навукі і культуры ў 15—16 ст. (гл. *Адраджэнне, Асвета, Заходнееўрапейская навуковая і філасофская думка, Культура Беларусі, Сацыяльна-палітычная і прававая думка на Беларусі і ў Літве, Усходнеславянская культура, Эстэтычная думка на Беларусі, Этычная думка на Беларусі*).

Філасофска-этычныя і сацыяльна-палітычныя погляды. С. з'явіўся выразнікам ідэалогіі, духоўных патрэб прагрэсіўна настроеных гараджан Беларусі (пераважна купцоў і рамеснікаў), у светапоглядзе якіх пад уплывам эканам., сац.-паліт. і культ. зрухаў намеціўся некат. адыход ад артадаксальных феад.-царк. уяўленняў свайго часу. Светапогляд С. тлумачыўся не толькі тыповымі рысамі эпохі, але і асаблівымі айч. культ.-гіст. абставінамі. Характар філасофска-этычных поглядаў С. выявіўся ў своеасаблівым сінтэзе сярэдневякова-хрысц. антычных і рэнесансава-гуманістычных ідэй. На яго светапогляд істотна паўплывалі страж.-рус. народна-этычная і эстэт., а таксама літаратурна-філас. традыцыі. Біблейска-хрысц. этыка мадэрнізуецца і адаптуецца С. у адпаведнасці з ідэйнымі запатрабаваннямі эпохі Адраджэння, актуальнымі сац.-паліт. і нац.-культ. задачамі бел., укр. і рус. народаў. У цэнтры ўвагі яго знаходзілася праблема чалавека і грамадства. С. разглядаў і вырашаў пытанні сэнсу жыцця, духоўнага свету, годнасці чалавека, паходжання маральных уяўленняў, духоўна-маральнай свабоды, агульнага і індывідуальнага дабра, грамадзянскай актыўнасці і інш. Зрабіў спробу пераглядзець артадаксальна-хрысц. трактоўку праблемы чалавечага існавання, паводле якой зямное жыццё чалавека з'яўляецца толькі падрыхтоўкай да жыцця на тым свеце. Ён сцвярджаў самакаштоўнасць чалавечага жыцця, рэабілітаваў зямное быццё, але не абвяргаў і веры ў жыццё на тым свеце. Этыка С. арыентуе чалавека пераважна на рэальнае, грамадска-карыснае зямное жыццё, служэнне «пожитку посполитому», пастаяннае інтэлектуальна-маральнае ўдасканаленне, «абы, научившися мудрости», людзі «добре живучи на свете» (гл. с. 37—46). Праблемы сэнсу жыцця і вышэйшага дабра С. разглядаў у прадмовах да кн. «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў», «Еклесіяст» і інш. У іудзейскай традыцыі гэтыя кн. лічыліся філасофскімі і не былі ўключаны ў канон. Такія адносіны да некат. з іх былі і ў Страж. Русі. Так, кн. «Ісус Сірахаў» была шырока вядома страж.-рус. чытачу і разглядалася як свецкі маральна-дыдактычны твор. У «Прытчах Саламона» высокае прызнанне атрымлівае розум, сцвярджаецца каштоўнасць рэальнага жыцця і інш. Негатыўныя адносіны да таго свету, пропаведзь зямнога шчасця і асалоды змешчаны ў «Еклесіясце». У кн. «Ісус Сірахаў» таксама выяўляецца адсутнасць веры ў жыццё на тым свеце, сцвярджаецца самакаштоўнасць зямнога быцця. Многія з гэтых ідэй прыцягнулі ўвагу С. і адлюстраваны ў яго прадмовах. У прадмове да кн. «Прытчы Саламона» С. сцвярджаў, што гал. прызначэнне чалавека ва ўдасканаленні зямнога жыцця, аб'ект этыкі — праблема «яко ся имамы справовати и

жити на сем свете» (гл. с. 33). У каментарыях да «Еклесіяста» ён адзначыў мноства сэнсава жыццёвых пазіцый рэальнага чалавека, плюралізм яго каштоўнасных арыентацый. Заўважыў, што аўтар «Еклесіяста» «пишеть о науце всех людей посполите сущих в летех мужства, приводячи им на память суету, беду и працу сего света, понеже в розмаитых речах люди на свете покладають мысли и кохания своя: едины в царствах и в панования, друзии в богатестве и в скарбох, инии в мудрости и в науце, а инии в здравии, в красоте и в крѣпости телесной, неции же во множестве имения и статку, а неции в роскошном ядении и питии и в любодеянии, инии теже в детех, в приятелех, во слугах и во иных различных многих речах. А тако единый каждый человѣк имать некоторую речь пред собою, в ней же ся наболей кохает и о ней мыслит» (гл. с. 50—51). Гэтыя словы сведчаць, што С. быў добра знаёмы з антычнымі філасофска-этычнымі канцэпцыямі вышэйшага дабра, напр., з арыстоцелеўскай, эпікурэйскай, стаічаскай і інш. Ён не прымаў этычнай канцэпцыі эпікурэізму, спрабаваў сінтэзаваць хрысц. маральныя нормы з маральнымі прынцыпамі арыстацелізму і памяркоўнага стаіцызму. Адзначыў дыялект. характар разважанняў Саламона, у якіх адлюстравана супярэчлівасць маральнай свядомасці і паводзін чалавека ў рэальным жыцці, разнастайнасць жыццёвых пазіцый, складанасць быцця чалавека, што не ўкладваецца ў дагматычную схему той ці інш. этычнай канцэпцыі. «Можемы досконале поразумети,— пісаў ён,— иже царь Саломон о мыслях и о коханиях людьских говорить; на некоем бо месте пишеть, «иже несть лепшего, толико ясти и пити и чинити добро души своей» (гл. с. 51). У інш. месцы пісаў: «Лепей ест поити в дом плачю, нежели в дом пированія... Таке жь и о иных речах в сей книзе пишет; они же видятся собѣ быти противны, яко и людская кохания и мысли суть собѣ противна, един бо в том ся кохаеть, тое хвалить и о том мыслит, а другый другое, и иный иное. И во всих тых коханиах и мыслях людьских знашол ест царь Саломон суету и утиснение души» (гл. с. 51—52). С. з разуменнем адносіўся да рэальнай, зямной маралі людзей, у той жа час ён проціпастаўляў ёй маральны ідэал, у якасці якога ў яго выступае гуманістычна мадэрнізаваная хрысц.-этычная канцэпцыя жыцця. Для С. вышэйшае дабро — дабро зямное, гэта інтэлектуальна насычанае, маральна дасканалае і грамадска карыснае жыццё на зямлі, перш за ўсё служэнне людзям, а потым ужо богу або служэнне богу праз служэнне людзям, агульнаму дабру. У цэнтры ўвагі С. духоўны свет чалавека, яго каштоўнасці, ідэалы, прызначэнне. «Да совѣршен будеть человѣк божий,— пастуліруе ён,—и на всяко дѣло добро уготован»,— яко святый апостол Павел пишеть. И сего ради святые писма уставлѣна суть к нашему навчению, исправлѣнию, духовному и телесному, различными обычаи» (гл. с. 19). Аднак духоўную дасканаласць чалавека С. разумеў не ў духу пасланняў апостала Паўла. Яму ўласцівы выяўлены інтэлектуалізм, погляд на пазнанне як на адну з істотных функцый духоўнай прыроды чалавека. У аснове яго этычнай канцэпцыі думка пра неабходнасць і магчымасць пастаяннага ўдасканалення чалавечай прыроды, ад якога залежыць дасканаласць грамадскага жыцця. Ён сцвярджаў ідэал мыслячага, інтэлектуальна накіраванага чалавека. Інтэлектуальныя і маральныя дабрачыннасці трактаваў як набытыя, як функцыю актыўнай, разумна-пазнавальнай і грамадска-практычнай дзейнасці чалавека. Ухваляў людзей, якія імкнуліся да пазнання і аддавалі перавагу асалодзе духа перад усімі інш. асалодамі, напр., цара Саламона, які «не просил еси собѣ дней многих, ни богатества», а «мудрости и разума» (гл. с. 32), цара *Пталамея II,* уладальніка вядомай Александрыйскай б-кі, у якой было, паводле С., больш за 40 тыс. кніг. «Таковый убо был милосник науки и мудрости, иже болѣй избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и память свою, нежели во тленных великих царскых сокровищах» (гл. с. 44). Імкненне да інтэлектуальна-творчага самавыяўлення С. лічыў адной з найб. пахвальных дабрачыннасцей чалавека. Ісус Сірахаў, здзіўлены кніжным багаццем Александрыйскай б-кі, пісаў С., «узрел ест тамо множество книг различных и межи ими видел писмо и книгы деда своего... И возрѣвновал ест тому, дабы оставил теже и по себѣ память, яко и предковѣ его оставили суть, дабы память его не загинула во вѣки» (гл. с. 44—45). У аснове скарынінскай інтэрпрэтацыі гэтага сюжэта думка пра тое, што неўміручасць чалавека ў памяці патомкаў і забяспечваецца добрымі дзеяннямі, служэннем «пожитку посполитому». Гэта не адпавядала артадаксальна-хрысц. догме. Жаданне славы, вядомасці, памяці ў патомкаў — уласцівасць рэнесансавай свядомасці, яно не характэрна для сярэдневяковай культуры, прасякнутай духам ананімнасці. Тут выяўлена думка пра каштоўнасць індывідуальнага чалавечага існавання. Ідэалам для С. быў чалавек, які спалучаў біблейскую і філас. мудрасць, «духа святого и философии исполненный». Ва ўяўленні С. «мудрасць» — гэта веды. Ён разумеў яе ў арыстоцелеўскім сэнсе, як веды існага: «Мудрость, якобы моць в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро ув ореху. Кто ю [яе] знайдеть, сей знайде милость и достанеть благословения от господа, и приидеть к нему все доброе посполу с нею, хвала и честь безчисленая моцию ея,— она убо ест мати всех добрых речей и учитель всякому доброму умению» (гл. с. 36). С. разглядаў таксама веды і як неабходную ўмову маральна-прыгожага жыцця. Адукацыя, культура, лічыў ён, указваюць чалавеку шлях да індывідуальнага і грамадскага дабра, з'яўляюцца асновай маральных дабрачыннасцей, зямнога шчасця. Доступ да маральнага ідэалу адкрыты кожнаму чалавеку, таму што дабрачыннасці можна навучыцца. Звяртаючыся да ўнутранага свету чалавека, клапоцячыся пра яго інтэлектуальныя і маральныя дабрачыннасці, С. сцвярджаў адзін з прагрэсіўных, рэнесансава-гуманіст. прынцыпаў, паводле якога сапраўдная годнасць і высакароднасць чалавека не ў паходжанні, знатнасці, грамадскім становішчы і не ў рэліг. стараннасці, а ў такіх якасцях, як інтэлект, маральны воблік, здольнасці, дзякуючы якім ён прыносіць рэальную карысць грамадству. Ён імкнуўся высветліць паходжанне маральных уяўленняў чалавека. Паводле С., паняцці маралі маюць дваістую аснову: індывідуальны розум і божае адкрыццё. Прыродны маральны закон мае прыярытэт: «прежде всех законов или прав писаных закон прироженый всем людем от господа бога дан ест» (гл. с. 137). Гэты закон «написан ест в серци единого кажного человѣка», ён дадзены яму богам разам з розумам і свабоднай воляй. Дзякуючы гэтаму чалавек мае здольнасць прымаць свядомае маральнае рашэнне. «От зачала убо веков,— пісаў С.,— егда сотворил бог первого человѣка, написал ест закон сей в серци его» (гл. с. 136). Асн. пастулат «прироженого» маральнага закона — «то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети». На гэтым маральным прынцыпе, лічыў С., заснаваны ўсе «писанные» маральныя законы, у т. л. і закон Старога і Новага запаветаў. Гэтым маральным законам, які вынікае з прыроднага розуму, кіраваліся і кіруюцца людзі на працягу ўсёй гісторыі. «Тым же обычаем,— пісаў ён, и нынѣ единый кажный человек, имея розум, познаеть, иже непослушание, убийство, прелюбыдеание, ненависть, татьба, несправедливость, злоимание, неволя, досаждение, гордость, злоречение, нелютость, клеветание, зависть и иная тым падобная злая быти, понѣже сам таковых речей от иных не хощеть терпети» (гл. с. 137). С. імкнуўся знайсці універсальны, рацыянальны маральны прынцып, прымальны для ўсіх людзей, незалежна ад сац. статуса і рэліг. прыналежнасці, на аснове якога можна было б рэгуляваць грамадскае жыццё. Гэта не толькі ўплыў хрысц. этыкі («Так, ва ўсім, як хочаце, каб з вамі абыходзіліся людзі, абыходзьцеся і вы з імі»), але і адлюстраванне шматвяковага пошуку сусв. філасофска-этычнай думкі, якая імкнулася знайсці катэгарычны імператыў сац.-маральных паводзін чалавека. Пісьмовай крыніцай маральных нормаў, паводле С., з'яўляецца Біблія. З рэліг.-этычнага вучэння С. вынікае, што чалавек праз Біблію вядзе прамы і інтымны дыялог с богам. Ён самастойна, без царк. пасрэдніцтва можа разабрацца ў маральна-этычным сэнсе «божага адкрыцця» і дасягнуць маральнай дасканаласці індывідуальнымі намаганнямі, у выніку самастойнага вывучэння Біблії, асабістай веры. Выходныя палажэнні маралі ў С. разумна асэнсоўваюцца чалавекам і выступаюць як наказ маральнага абавязку і сумлення. Ён сцвярджаў інтравертны — арыентаваны знутры — характар крыніцы веры і чала-

вечай маралі, абгрунтоўваў думку пра асабістую адказнасць чалавека за свае дзеянні. Рэліг.-маральную пазіцыю С. можна разглядаць як выяву рэнесансавага індывідуалізму. С. быў адным з першых еўрап. рэфарматараў як у галіне рэлігіі, так і ў сферы ўяўлення пра мараль. У яго каментарыях назіраецца тэндэнцыя да разрыву сувязі паміж мараллю і афіц. царквою. Крыніцу маральных паняццяў С. імкнуўся выявіць перш за ўсё ў самім чалавеку, яго розуме, асабістых адносінах да бога. Менавіта таму ў сваіх каментарыях ён акцэнтаваў увагу на маральна-этычнай сутнасці Бібліі, ігнараваў яе рэліг.-дагматычны змест або адводзіў яму нязначнае месца. С. імкнуўся ў рэлігіі раскрыць не знешні, дагматычна-абрадавы бок, а яе ўнутраную сутнасць, пераважна філасофска-этычную, асэнсаваць некат. акумуляваныя хрысціянствам фундаментальныя агульначалавечыя маральныя каштоўнасці. Ён ставіў і вырашаў адну з важнейшых філас.-этычных праблем — праблему суадносін індывідуальнага і агульнага дабра. Ён разглядаў чалавека як істоту грамадскую. Яго этыцы ўласціва сцвярджэнне прымату агульнага дабра перад індывідуальным. Паняцце агульнага дабра ў творах С. выступае пад тэрмінам «посполитое доброе». Толькі ў грамадстве, лічыў ён, жыццё чалавека мае сапраўдны сэнс, таму людзі павінны навучыцца «вкупе жити». Грамадскае жыццё патрабуе ад чалавека бескарыслівага служэння «пожитку посполитому», выкарыстання ўсіх сваіх здольнасцей і таленту ў інтарэсах агульнага дабра. «Единому каждому,— пісаў С.,— не хвалитися самому в собѣ божественными духовными даровании. Но яко уды разно имуще в теле деание, вси вкупе собѣ суть помощни, тако каждый хрестианин свое имея дарование к посполитого доброго розмножению да уделяеть» (гл. с. 196—197). У прадмове да кн. «Эсфір» С. сфармуляваў сваё разуменне грамадскага абавязку: «Не толико сами собе народихомся на свет, но более ко службѣ божией и посполитого доброго» (гл. с. 150). Сваю ўласную дзейнасць таксама разглядаў перш за ўсё як служэнне агульнаму дабру, як выкананне свайго абавязку перад народам, «братьями русью» і радзімай. Гэту думку ён падкрэсліваў амаль у кожнай прадмове і пасляслоўі. З этычнага вучэння С. ўскосна вынікала, што людзей перш за ўсё павінна аб'ядноўваць ідэя агульнага дабра. Грамадскія інтарэсы павінны быць вышэй рэліг. рознагалоссяў, таму рэліг. верацярпімасць — найб. разумны спосаб суіснавання людзей. Характэрная асаблівасць этыка-гуманіст. светапогляду С.— патрыятызм. С. быў заснавальнікам нац.-патрыятычнай традыцыі ў гісторыі бел. культуры і грамадскай думкі. Сярэдневяковым мысліцелям быў уласцівы хрысц. касмапалітызм. Для С. ж інтарэсы свайго народа і айчыны вышэй за рэліг. інтарэсы, пачуццё абавязку перад радзімай і «братьями русью, людьми посполитыми» выступае ў яго значна мацней, чым рэліг. набожнасць. Патрыятычны пачатак у светапоглядзе С.— вынік канкрэтызацыі ідэі агульнага дабра, адна з найб. яркіх выяў традыцый стараж.-рус. культуры. Абгрунтоўваючы сваю дзейнасць інтарэсамі «пожитку посполитого», С. пастаянна канкрэтызаваў яе накіраванасць: «Наболей с тое причины, иже мя милостивый бог з того языка на свет пустил» (гл. с. 22). Творцы культуры эпохі Адраджэння даволі часта звярталіся да біблейскіх сюжэтаў для абгрунтавання актуальных філас. ідэй і сац.-паліт. задач свайго часу і свайго народа. Свой патрыятызм, любоў да Радзімы выказаў у словах: «Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих,— тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають» (гл. с. 94). Этыка С. выхоўвала ў чалавеку грамадзяніна і патрыёта, фарміравала ў яго якасці, неабходныя для актыўнай грамадска-практычнай дзейнасці на карысць свайго народа і радзімы. Ён не абсалютызаваў «агульнае дабро» на шкоду дабру індывідуальнаму, імкнучыся гарманічна вырашыць праблему ўзаемаадносін паміж гэтымі дзвюма маральна-этычнымі дабрачыннасцямі. Каб быць карысным грамадству, садзейнічаць яго аздараўленню, удасканаленню, захаванню яго цэласнасці, чалавек павінен пастаянна развіваць сваю духоўнасць, выхоўваць у сабе маральныя якасці, неабходныя для грамадскага жыцця. Важнейшай маральнай дабрачыннасцю чалавека С. ў адпаведнасці з хрысц. этыкай лічыў любоў. Евангельскае паняцце «любоў да блізкага» гуманістычна пераасэнсоўваў. На яго думку, чалавекалюбства — вышэйшы прынцып узаемаадносін паміж людзьмі, універсальны закон прыватнага і грамадскага жыцця, аснова ўсіх дабрачыннасцей. «Каждый хрестианин,— пісаў С.,—... наиболей любовь ко всим да соблудаеть, еже ест совершена над все иные дарования, без нея же ничто проспешно ест» (гл. с. 196—197). У іерархіі маральных каштоўнасцей «вера» ў С. стаіць пасля «любві». Прынцып «любві» ён пашыраў не толькі на прадстаўнікоў хрысц. веравызнання, але звяртаў «ко всякому человеку», незалежна ад яго становішча ў грамадстве, веравызнання, нац. паходжання. С. ўласціва глыбокая павага да «простого и посполитого человека», высокае разуменне яго годнасці, якая заключаецца, на яго думку, у інтэлекце, маралі, грамадскай актыўнасці, а не ў багацці, уладзе, саслоўнай прыналежнасці. Справядлівасць, паводле С., па свайму паходжанню таксама з'яўляецца боскапрыродным маральным паняццем. Чалавекалюбства і справядлівасць — гал. крытэрыі маральных паводзін чалавека. Менавіта на базе чалавекалюбства і справядлівасці С. фармулюе свой катэгарычны маральны імператыў. На іх павінны засноўвацца не толькі маральныя ўзаемаадносіны паміж людзьмі, але і складацца юрыд. законы, ажыццяўляцца правасуддзе, дзярж. кіраванне і палітыка (гл. с. 137—139, 99—101). Хоць С. і прызнаваў важнасць самапаглыблення і сузіральнасці, аднак перавагу аддаваў сац.-актыўнаму, дзейсна-практычнаму жыццю. Інтэлектуальныя і маральныя дабрачыннасці чалавека істотныя, калі служаць «посполитому доброму», калі людзі ў імя агульнага дабра, «отчины своея» аддаюць сябе цалкам і поўнасцю «розмножению мудрости, умения, опатренности, разуму и науки», не шкадуючь «всякого тружения и скарбов» (гл. с. 46, 94). Сцвярджэнне як ідэала актыўнага, грамадска-карыснага свецкага жыцця — выяўленне самасвядомасці гандлёва-рамесных колаў гар. насельніцтва, адзін з момантаў раннебурж. ідэалогіі Адраджэння. Служэнне агульнаму дабру, айчыне, «людем посполитым» С. ўзводзіў у ранг падзвіжніцтва. Па гэтаму пункту ён карэнным чынам разыходзіўся з артадаксальным хрысціянствам. Калі для афіц. хрысц. філосафаў падзвіжніцтва гэта ў асн. рэліг. аскеза, служэнне богу і царкве, то для С. падзвіжніцтва — гэта служэнне грамадству, радзіме, людзям, г. зн. свецкая грамадска карысная дзейнасць. Гуманіст. свядомасць С. адзначана высокай грамадзянскасцю, абвостраным пачуццём грамадскага абавязку, дэмакратыі, узвышаным патрыятызмам, які родніць яго з аўтарам «Слова аб палку Ігаравым».

Паліт. ідэал С.— асветная, гуманная і моцная манархічная ўлада. Ідэальнымі правіцелямі ён лічыў стараж.-ўсх. манархаў Саламона і Пталамея II, стараж.-грэч. і рымскіх цароў і заканадаўцаў *Салона*, Лікурга, *Нума Пампілія* і інш. На яго думку, правіцель павінен быць набожным, мудрым, адукаваным, дабрачынным, чулым, справядлівым да сваіх падданых. Ён абавязаны кіраваць краінай у строгай адпаведнасці з законамі, сачыць за правільным выкананнем правасуддзя. Адначасова правіцель павінен быць моцным і грозным, умець у неабходным выпадку абараніць свой народ (гл. с. 83—84). Перавагу аддаваў «мірнаму гасудару» (гл. с. 32). Сац. адносіны С. ацэньваў таксама евангельска-хрысц. абстрактна-гуманіст. прынцыпамі чалавекалюбства і справядлівасці. Не адмаўляў існавання ў грамадстве класавых процілегласцей, аднак лічыў, што ўзаемаадносіны паміж «богатыми» і «убогими» павінны складвацца на аснове «братолюбия», «друголюбия». Чалавечае грамадства грунтуецца на міры і згодзе, «с нея же все доброе всякому граду и всякому собранию приходить, незгода бо и наиболшие царства разрушаеть». (гл. с. 194). С. прапагандаваў ідэі раннехрысц. філантропіі, пераконваў людзей ставіцца «спомогающе друг друга со всякою любовию» (гл. с. 204). У духу апостала Іакова С. вучыў, што «богатіи, обидяще убогих пріимут отмщение». «Убогим» жа С. рэкамендаваў «все до часу терпети и на бога въскладати» (гл. с. 158). У адпаведнасці з «Пасланнем апостала Паўла да селунян» С. асуджаў тых, хто «суть безчинни и празнующе», і сцвярджаў:

«кто не хощет делати, да не ясть и к делу приставлен да будеть» (гл. с. 209). С. ўсведамляў адрозненне паміж рэальнай сац. рэчаіснасцю сваёй эпохі і ідэалам. Як сац. ідэал ён сцвярджаў раннехрысц. прынцып «ровная свобода всем, общее имение всех» (гл. с. 139). Для С. сац. і маёмасная роўнасць не гіст. перспектыва, а далёкае мінулае, часы раннехрысц. абшчын. Сац. ідэал С. сведчыць пра ўплыў на яго светапогляд радыкальна-рэфарм. ідэй. С. ўласцівы сац. дэмакратызм. Ён арыентаваўся на «людзей простых, посполитых» і пастаянна апеляваў да іх. Ён далёкі ад пачуцця элітарнасці, выбранасці, ад погляду на просты народ як на цёмную і неадукаваную масу, няздольную ўспрыняць філас. мудрасць, навуку. С. верыў у інтэлектуальныя і маральныя магчымасці народа. Неабходна адзначыць абстрактны характар скарынінскай трактоўкі асн. аспектаў праблемы чалавека і грамадства (што было звязана з яго схільнасцю да некат. ідэй і форм рэліг.-тэалагічнага светапогляду) і недастаткова выразна выяўленую сувязь філасофска-этычнага і сац.-паліт. вучэння С. з канкрэтнай гіст. рэальнасцю. У творчасці мысліцеляў больш позняй эпохі, яго паслядоўнікаў і аднадумцаў — Міколы Гусоўскага, Міхалона Літвіна, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Андрэя Волана і інш.— вырашэнне гэтай праблемы набывае больш рэальныя рысы, напаўняецца канкрэтным зместам, філасофскі ўзбагачаецца і сацыяльна канкрэтызуецца.

Эстэтычныя погляды. С. нідзе спецыяльна не выкладаў сваіх філас. і эстэт. поглядаў у сістэматызаванай форме. Яны могуць быць выяўлены толькі на падставе аналізу ўсёй яго літаратурна-асв. спадчыны з улікам сінкрэтычнай цэласнасці яго светапогляду, у структуры якога няма выразных межаў паміж рознымі формамі свядомасці — навуковай, філасофскай, рэлігійнай і мастацкай. На скарынінскі пераклад Бібліі паўплывалі як антычныя (гал. чынам эліністычныя) яе крыніцы, так і асабліва агульная атмасфера эпохі Рэнесанса, павышаная цікавасць да мастацтва і эстэт. адносін да рэчаіснасці наогул. Параўнальны аналіз найб. «эстэтычна насычаных» фрагментаў біблейскіх кніг у перакладзе С. і адпаведных месц з афіцыйных тэкстаў (на стараслав. і рус. мовах) сведчыць, што некат. маральна-тэалагічным суджэнням перакладчык надаў эстэт. сэнс. Так, з кн. «Іоў»: «Аз же видех безумных укореняющихся, но абие поядено бысть их жилище» — стараслав. тэкст. «Видел я, как глупец укореняется, и тотчас проклял дом его» — рускі тэкст. Скарынінскі пераклад — «Аз видех безумнаго укорененнаго, и злоречих красоте его скоро». З кн. «Ісус Сірахаў» адпаведна: «Слава высоты, твердь чистоты, зряк небеса в видении славы».— «Величие высоты, твердь чистоты, вид неба в славном видении».— «Высокость тверди есть красота Божия: и лепота небесная есть видение славы» (арк. 137-ы). Там жа: «И тамо суть преславна и чудна дела его».— «Ибо там необычайные и чудесные дела».— «Тамо суть прекрасная дела Господня» (арк. 139-ы). Паасобныя ацэначныя суджэнні тыпу «дабро», «добро зело» С. перадаў рознымі адценнямі катэгорыі прыгожага: «красный», «красота», «лепо», «краса» і інш.

Эстэт. ацэнкі і суджэнні ў прадмовах і пасляслоўях С. адпавядаюць рэнесансавай канцэпцыі ідэалу і гармоніі. Гаворачы пра энцыклапедычнасць кн. «Ісус Сірахаў», ён называе сярод іншых навук і вучэнне пра «марнасць», або меру (гл. с. 46). У каментарыях да прававой праблематыкі «Бібліі» ён адзначаў, што законы павінны адпавядаць традыцыям і звычаям народа: «подлуг обычаев земли, часу и месту пригожий» (гл. с. 138). Нават евангельскія кнігі ацэньваюцца ім як літаратурныя творы, паводле крытэрыяў красы і жыццёвай праўды. На думку С., евангеліст Лука — «в лекарских науках доктор пренавченый» — «писал ест о слове божием навышшей, наистей и нарядней, нежели иные...», г. зн. больш глыбока, узнёсла і больш прыгожа, чым іншыя новазапаветныя пісьменнікі (гл. с. 182). Не закранаючы спецыяльна іншых эстэт. катэгорый, С. мае на ўвазе іх сэнсавае значэнне ў каментарыях да «Бібліі». Вобраз Юдзіф-удавіцы, што ахвяравала сваім гонарам і нават жыццём для выратавання свайго народа, на яго думку,— яскравы прыклад узнёслага гераізму, узор грамадзянскай прыгажосці. Прычына ўзнёсла-гераічнай любві да радзімы, на яго думку, у натуральна-этычным законе людзей, бо яны «игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають» (гл. с. 94). Па-свойму раскрывае С. і сутнасць трагічнай супярэчнасці ў жыцці, хаця і ў форме пытання багаслоўскай тэадыцэі; «чего ради господь бог на добрих и на праведных допущаеть беды и немощи, а злым и несправедливым даеть щастье и здравие» (гл. с. 28). Прычына трагедыі не ў свабоднай волі і дзеянні асобы, а наканавана божай воляй. У гэтым выявілася асаблівасць разумення С. трагічнага (у антычным і сярэдневякова-хрысц. сэнсе) у адрозненне ад яго новаеўрап. трактоўкі. У вучэнні пра выхаваўчае значэнне трагедыі тагачасная думка абапіралася на арыстоцелеўскую ідэю катарсіса. С. ўпэўнены, што роздум «о бедном и горком животе людском на сем свете и о канце добрых и злых» змякчае сэрца чалавека, а таму кн. «Іоў» «всякому человѣку потребна чести, понеже ест зерцало жытия нашего, лекарство душевное, потѣха всем смутным, наболей тым, они же суть в бедах и в немощах положены» (гл. с. 29).

Сінкрэтычным сярэдневяковым светапоглядам абумоўлена адсутнасць у поглядах С. выразнай дыферэнцыяцыі духоўнай культуры на рэлігію, мастацтва, навуку і філасофію. Аднак ён ужо часткова ўлічваў спецыфіку іх прыроды і функцый. У адрозненне ад навукі мастацтва звернута «ко всему собору людей». Біблейскія кнігі, на думку С., маюць дваякі сэнс — унутраны і вонкавы. Іх унутранае, сімвалічнае значэнне вядома толькі мудрацам — пракарокам, «разумеющим о тайнах превеликих божиих» (гл. с. 8). Але ў іх ёсць і непасрэдны, усім даступны вонкавы сэнс, «понеже не толико докторове а люди вченые в них разумеють, но всякий человек простый и посполитый, чтучи их или слухаючи, можеть поразумети, что есть потребно к душному спасению его» (гл. с. 8—9). Гэтая дваякая структура зместу характэрна, напр., для жанру прытчаў: яны «иную мудрость и науку знаменують а иначей ся разумеють, нежели молвены бывають, и болши в собѣ сокритых таин замыкають, нежели ся словами пишуть» (гл. с. 34). Асабліва глыбокі сэнс скрыты ў біблейскай кнізе «Песнь песням». Тагачасная літ. крытыка імкнулася ў лірычнай паэзіі гэтай кнігі знайсці пэўную сістэму тэалагічных сімвалаў.

С. вял. значэнне надаваў эстэт. выхаванню і наогул духоўнаму ўдасканаленню людзей сродкамі мастацтва; пра гэта сведчыць яго панегірык «Псалтыру» — кнізе, якая з усіх частак Бібліі найб. блізкая да мастацтва — паэзіі і музыкі. На думку С., яна шматзначная па свайму зместу і функцыянальнаму прызначэнню. Песні і вершы яе «всякии немощи, духовныи и телесныи, уздравляють, душу и смыслы освѣщають, гнев и ярость усмиряють, мир и покой чинять, смуток и печаль отгоняют, чювствие в молитвах дають, людей в приязнь зводять, ласку и милость укрепляють»; яны «покой денным суетам и роботам, защитель младым и радость старым, потеха и песня, женам набожная молитва и покраса, детем малым початок всякое доброе науки, дорослым помножение в науце, мужем моцное утверъжение»: псалом «свята украшаеть» и «жестокое сердце мякчить», ён «вкупе тело пением веселить, и душу учить» (гл. с. 20—21, 169—170). Тут ёсць дагадка мысліцеля адносна сэнсавай шматзначнасці і поліфункцыянальнасці мастацтва ў адрозненне ад паняццевай адназначнасці навук. лагічных суджэнняў. С. ўпэўнены ва ўсебаковым выхаваўчым уздзеянні паэзіі і музыкі і адпаведным багацці эстэт. перажывання. «Псалтыр» ён разглядаў як маст. твор, таму яго ацэнка можа быць з поўнай падставай перанесена і на маст. творчасць наогул.

У публіцыстыцы С. ёсць пэўныя элементы літаратурна-маст. крытыкі — адной з найб. пашыраных форм грамадска-эстэт. ацэнкі жыцця і мастацтва. Як і тагачасныя еўрап. мысліцелі-гуманісты, ён разглядаў «Біблію» як тварэнне людскога розуму і таленту, хоць і «боганатхнёнага». Ужо сам факт камен-татарства біблейскіх кніг, вызначэнне іх аўтарства і зместу, гіст. умоў іх стварэння, аддача перавагі адным кнігам (напр., Евангеллю ад Лукі) перад іншымі, акцэнт на іх пазнавальнай, выхаваўчай і вучэбна-пед. функцыі — гэта ў пэўным сэнсе дзейнасць літаратурнага крытыка. С. належаць першыя спробы сілабічнага вершаскладання на тагачаснай бел. мове (гл. с. 109—110). Ён пачаў выдаваць анатацыі да кніг і кароткія

рэфераты іх зместу. Так, рэкамендуючы філасофска-багаслоўскую і адначасова яскрава маст. кн. «Прытчы Саламона», ён пісаў: «Пожиточьны же суть сие книгы чести всякому человѣку, мудрому и безумному, богатому і вбогому, младому и старому, наболѣй тым, они же хотять имети добрые обычае и познати мудрость и науку» (гл. с. 36). Як перакладчык і каментатар стараж. тэкстаў ён тлумачыў этымалогію паасобных імён і паняццяў (гл. с. 33, 34, III). Значнае месца ў скарынінскіх каментарыях займаюць анатацыі да кожнага раздзела перакладзеных кніг. Тут асветнік імкнуўся раскрыць іх ідэйны сэнс, сюжэты і фабулы, акцэнтаваў увагу на асн. падзеях і канфліктах, каб наблізіць іх складаную вобразную сістэму да разумення простага чытача. Адначасова ён выяўляў свае адносіны да біблейскіх кніг, даючы пэўныя літаратурна-эстэт. ацэнкі іх зместу. Так, напр., С. адзначаў выхаваўчае значэнне кн. «Іоў» таму, што яна адлюстроўвае станаўленне мудрасці і высокай духоўнасці праз пакутлівы шлях зямнога быцця. «Сегосветное житие есть клопотно,— пісаў ён,— и смерть скоро приходить, и несть навращении» (арк. 11-ы адв.); але праз нягоды і пакаянне чалавек паднімаецца да славы і прыгажосці душы. У паасобных анатацыях С. пісаў пра ўзнёсласць і прыгожасць свету, бо «господь Бог усе учинил красно в час свой» («Еклесіяст»», арк. 6-ы); падкрэсліваў узнёслы характар («высокость») мудрасці. Многія сюжэты і вобразы (апалогію мудрай жонкі ў «Прытчах», амаль увесь змест кн. «Пракор Даніііл» і «Песня песням») С. тлумачыў як прарочую сімволіку богаўвасаблення і станаўлення хрысц. царквы.

Кнігі С., іх графічнае афармленне і ілюстрацыі да іх належаць да рэнесансавай маст. культуры (гл. *Мастацкае афармленне кніг Ф. Скарыны*). Рэнесансавае самасцвярджэнне асобы пісьменніка выявілася ў пастаянных дэкларацыях свайго аўтарства: «Я, Францыск, Скарынін сын з слаўнага горада Полацка». Гэта гучыць гордым лейтматывам ва ўсіх прадмовах і пасляслоўях бел. асветніка, які ўсвядоміў і сваю прыналежнасць да народа, і свой сыноўні абавязак перад ім.

Дзяржаўна-прававыя погляды. Новыя прававыя ідэі аб дзяржаўным (народным) суверэнітэце (насуперак царк. касмапалітызму) і аб адзінстве права для ўсёй дзяржавы і ўсіх людзей, якія прапаведаваў С., дакладна адлюстраваны ў яго працах і былі ўлічаны ў пэўнай ступені ў *Статуце Вялікага княства Літоўскага 1529*. Ідэя патрыятызму, заснаванага не на рэлігійнай або этнічнай, а на геагр. і дзярж. паліт. адзнацы, адлюстравана ў 3-м артыкуле 3-га раздзела Статута. Адстойванне дзярж. суверэнітэту замацавана і ў 1-м артыкуле таго ж раздзела. С. прытрымліваўся ідэі вяршэнства народа ў дзяржаве і праватворчасці. Ён лічыў, што «права земская, еже единый кажный народ с своими старейшими ухвалили суть подлѣ, яко же ся им налепей видело быти» (гл. с. 137—138). Абвяшчэнне ідэі аб ролі народа ў феад. дзяржаве значна апярэджвала свой час і не адпавядала рэчаіснасці, але ўплывала на заканадаўства. Так, у 2-м артыкуле 3-га раздзела Статута Вял. кн. Літоўскага 1566 была норма, у якой гаварылася, што гасудар абавязваецца ўсіх князёў і паноў рад, як духоўных, так і свецкіх, усіх ураднікаў земскіх і дворных, паноў харугоўных, шляхту, рыцарства, мяшчан і ўсіх людзей паспалітых у Вял. кн. Літоўскім і ва ўсіх яго землях «заховати при свободах и вольностях хрестиянских». Такая прававая норма на практыцы не выконвалася, і простыя людзі паліт. правамі ў феад. дзяржаве не карысталіся. Выказаная С. думка пра вяршэнства народа, народны суверэнітэт яскрава відаць і ў яго словах аб тым, што «справа всякого собрания людского [у т. л. дзяржавы] і всякого града, еже верою, соединением ласки и згодою посполитое доброе помножено бываеть» (гл. с. 9—10). Толькі дзяржава або горад, у якіх грамадзяне жывуць у згодзе і клапоцяцца аб агульных інтарэсах, на думку С., будуць працвітаць. Для абазначэння дзяржавы ў працах С. ўжываюцца такія тэрміны, як «посполитое доброе», «отчина своя», «собрание людское» і інш. тэрміны, у якіх адлюстраваны народны элемент, і не ўжываюцца пашыраныя ў той час абазначэнні дзяржавы як «панство», «князьство». Абвяшчаючы новыя ідэі аб заканадаўстве, С. лічыў неабходным, каб закон быў «почтивый, справедливый, можный, потребный, пожиточный подлѣ прирожения, подлуг обычаев земли, часу и месту пригожий, явный не имея в собѣ закритости, не к пожитку единого человѣка, но к посполитому доброму написаный» (гл. с. 138). У гэтым запісе змяшчаецца цэлы комплекс прававых прынцыпаў, заснаваных на тэорыі натуральнага права. Само абвяшчэнне ідэі аб добрапрыстойнасці і справядлівасці права змяшчала крытыку феад. права, якое не было ні добрапрыстойным, ні справядлівым у адносінах да простых людзей. Закон павінен быць годным для выканання, карысным для насельніцтва і адпавядаць звычаям, часу і месцу. С. абвяргаў дамаганні духавенства на пашырэнне норм рымскага, ці візант., права або чужых насельніцтву норм польскага і ням. права. Гэтыя ідэі аб прыярытэце мясц. права, заснаванага на звычаёвым праве і судова-адміністрацыйнай практыцы, а таксама аб адзінстве права для ўсіх людзей адлюстраваны ў Статуце 1529. Так, у 9-м артыкуле 1-га раздзела было запісана «иж вси поданные наши, так вбогие, яко и богатые, которого раду колве або стану были бы, ровно а одностайным тым писаным правом мають сужоны быти». Абвяшчэнне ў Статуце роўнасці ўсіх людзей перад законам не азначала рэальнай роўнасці, паколькі самі законы не былі роўнымі для розных класаў і саслоўяў. Значную цікавасць уяўляюць погляды С. аб класіфікацыі права. Ён лічыў, што права трэба падраздзяляць па крыніцы на натуральнае і пісанае. Паводле С., натуральнае права ўласціва кожнаму чалавеку ў роўнай ступені і кожны ім надзелены аб нараджэння незалежна ад класавай і саслоўнай прыналежнасці. Пісанае права ён падраздзяляў на божае, царк. і земскае. Земскае права падраздзяляў у залежнасці ад грамадскіх адносін, якія рэгуляваліся пэўнымі нормамі. Так падзел земскага права з'явіўся важным этапам у развіцці прававой тэорыі і атрымаў закончанае выяўленне толькі ў 19 ст., калі ўстанавіўся падзел права на галіны. У прадмове да кн. «Другі закон» С. пісаў: «Закон прироженый в том наболей соблюдаем бываеть: то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети... Сѣй закон прироженый написан ест в серци единого кажного человѣка... А тако прежде всех законов или прав писаных закон прироженый всем людем от господа бога дан ест» (гл. с. 136—137). Божае і царк. права ён ставіў на другое месца пасля натуральнага. «Закон же написаный или от бога ест даный, яко суть книги Моисеовы и светое Евангелие, или от людей уставленый, яко суть правила светых отецъ, на сборех пописаные, и права земская» (гл. с. 137). Сам па сабе факт пастаноўкі на першае месца натуральнага права раней Бібліі і кананічнага права сведчыць аб гуманіст. поглядах С. і аб яго вальнадумстве. У перыяд феадалізму тэорыя натуральнага права была ідэйнай зброяй, накіраванай супраць саслоўнай няроўнасці і прыгнёту простых людзей.

Земскае права С. падраздзяляў на: паспалітае, якое ўключае ў сябе нормы грамадзянскага і сямейнага права «яко мужа и жены почтивое случение, детей пильное выхование, близко живущих схожение, речи позыченое навращение, насилию силою отпрение, ровная свобода всем, общее имение всех»; міжнар., якое С. называў «языческое, от многих убо языков ухвалено ест»; дзярж. і крымінальнае (царскае); «рицерское или военное, еже на войне соблюдаемо бываеть»; гарадское, марское і гандл. (купецкае) права (гл. с. 139—140). Такі падзел права ў значнай ступені садзейнічаў развіццю не толькі прававой тэорыі, але і кадыфікацыйнай практыкі. Падобная класіфікацыя была выкарыстана пры падрыхтоўцы Статута 1529. Размежаванне земскага права з божым і царк. мела глыбокі тэарэт. і практычны сэнс, таму што не прызнаваліся дамаганні духавенства на кіраўніцтва заканатворчасцю і судовай практыкай.

С. выказваўся і па адным з найб. важных пытанняў крымінальнага права — аб мэце пакарання. На яго думку, мэта крымінальнага пакарання — страшанне злачынцы: «и вчинены суть права, или закон, для людей злых, абы боячися казни, усмирили смелость свою и моци не имели иным ушкодити, и абы добрыи межи злыми в покои жити могли» (гл. с. 138). С. быў не толькі вучоным-прававедам, але і юрыстам-практыкам. Ён неаднаразова выступаў у судах у абарону як сваіх асабістых інтарэсаў, так і сваіх блізкіх. Так, у пачатку 1530-х г. ён вы-

ступаў у якасці ўладальніка спадчыны сваёй жонкі ў віленскім судзе, затым у судзе віленскага епіскапа і ў гаспадарскім (велікакняжацкім) судзе. З мэтай абароны ад праследаванняў розных суцяг С. атрымаў у 1532 спец. прывілей, паводле якога ён вызваляўся ад падсуднасці ўсіх мясц. судоў і ўсе абвінавачванні і іскі супраць яго маглі прад'яўляцца толькі ў гаспадарскім судзе.

Аналіз асн. дзяржаўна-прававых ідэй С. дазваляе зрабіць вывад аб яго гуманіст., прагрэс. поглядах і аб тым значным укладзе, які ён унёс у прававую навуку, асабліва ў тэорыю дзяржавы і права. Супастаўленне прававых ідэй С. са зместам Статута 1529 дазваляе зрабіць вывад аб практычным увасабленні некат. яго ідэй у заканадаўстве, што таксама дае падставу меркаваць аб яго мажлівым непасрэдным удзеле ў распрацоўцы Статута 1529.

*Літ.:* 6; 39; 69; 71; 130; 131; 132; 156; 157; 185; 229; 232; 249; 332; 335; Подокшин С. А., Роговии М. Д. Франциск Скорина и философская мысль восточнославянских народов//Идейные связи прогрессивных мыслителей братских народов (XVII—XVIII вв.). Киев, 1978; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы и соединённых с ней владений (от 1387 до 1710 года). Ч. 1. Вильна, 1858. *С. А. Падокшын, У. М. Конан, І. А. Юхо.*

**СВЯЖЫ́НСКІ** Уладзімір Мітрафанавіч (н. 1945), беларускі сав. мовазнавец. Канд. філал. н. (1978). Супрацоўнік Ін-та мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР. Даследуе гісторыю бел. мовы. У брашуры «Слова Скарыны» (1984) у навукова-папулярнай форме паведаміў пра жыццё, дзейнасць і творчасць першадрукара. Матэрыял пададзены на шырокім гіст. фоне. Сац.-паліт. і этычныя погляды С. выводзяцца са зместу яго прадмоў і пасляслоўяў. Асн. ўвагу аўтар звяртае на аналіз моўных асаблівасцей скарынінскіх выданняў, падкрэслівае ролю С. ў стварэнні бел. рэдакцыі царк.-слав. мовы, у развіцці бел. пісьменства і кнігадрукавання. *Г. К. Ціванова.*

**СВЯНЦІ́ЦКІ** (Свяціцкі) Іларыён Сямёнавіч (1876—1956), украінскі сав. філолаг-славіст і мастацтвазнавец. Д-р славян. філалогіі (1902), філал. н. (1941), праф. (1939). Арганізатар і дырэктар *Львоўскага музея ўкраінскага мастацтва* (1905—52). Аўтар прац па гісторыі укр. і бел. пісьменнасці, культ. сувязей, мастацтва. Пры яго ўдзеле ў музеі сабраны значныя калекцыі па гісторыі бел. культуры, у т. л. 12 кніг «Бібліі» С., старадрукі (Куцеінскай, Магілёўскай брацкай, Супрасльскай, Гродзенскай і інш. друкарняў 16—18 ст.), рукапісныя кнігі, слуцкія паясы і інш. Частка сабраных старадрукаў, у т. л. 3 выданні С. (кн. «Царствы», «Апостал», «Псалтыр» 1522), апісаны ім у «Каталозе кніг царкоўна-славянскага друку» (1908). Падрабязна апісаў рукапіс Бібліі канца 16 ст., у якім адлюстраваны непасрэдны ўплыў кніг С. У працы «Пачаткі кнігадрукавання на землях Украіны» (1924) пэўнае месца адвёў дзейнасці С. як заканамернаму этапу ў развіцці слав. і ўсх.-слав. кнігадрукавання. Высока ацэньваў мастацка-паліграф. ўзровень выданняў бел. першадрукара.

*Літ.:* Панізнік С. Іларыён Свяціцкі// Полымя. 1968. № 3. *Г. Я. Галенчанка.*

**СЕВЯРЫ́НЫ** (Severin), чэшскія друкары канца 15—1-й пал. 16 ст., бацька і сын.

Ян (? — каля 1520) — адзін з выдаўцоў 1-й чэш. друкаванай Бібліі (1488). Працаваў разам з Я. *Кампам,* пасля самастойна. Большасць даследчыкаў лічаць Кампа памочнікам Яна, аднак не выключана, што ў перыяд супрацоўніцтва паміж імі існаваў падзел функцый: Ян быў выдаўцом, Камп — друкаром. Наватвядзенні ў паліграф. афармленне чэш. кнігі, звязаныя з імем Кампа: увядзенне тытульнага ліста, стварэнне арыгінальнага шрыфту — чэш. бастарды — і інш. павінны быць аднесены і да Я. Севярына.

Павел (? — 1555) развіваў і ўдасканальваў кнігавыдавецкую практыку бацькі. Яго друкарня была адной з найб. аснашчаных у Чэхіі. Разам з добрымі шрыфтамі шырока выкарыстоўвалі ксілаграфію. Увёў уласную выдавецкую марку — шчыт з 3 ружамі і надпісам «Павел Севярын з Капі Горы». Ён быў не толькі сынам стваральніка Бібліі 1488, але і зяцем аднаго з выдаўцоў *«Бібліі чэшскай у Венецыі друкаванай»* (1506). Далейшае даследаванне ўзаемаадносін Я. Севярына, Кампа, П. Севярына і С. можа з'явіцца адным з цікавых кірункаў вывучэння Скарыніяны.

*Літ.:* 452; Horák F. Česká kniha v minulosti a její výzdoba. Praha, 1948. *А. С. Мыльнікаў.*

**«СЕЙ ЕСТЬ ААРОН»,** гравюра з *кнігі «Левіт»* (арк. 16-ы), выдадзеная С. у Празе (каля 1519).

Над ілюстрацыяй тлумачальны надпіс: «Сей есть Аарон архирей наивышший сынов Израилевых, брат Моисеев, правнук Леувиев. От него же называется книга сия Леувит». Паводле біблейскай легенды, Майсей і Аарон узначальвалі барацьбу ізраільскіх плямён за выхад з егіпецкага палону. Аарон быў паслядоўнікам і аратарам пры Майсеі, а пазней ён і яго нашчадкі былі прызначаны свяшчэннікамі і іх памочнікамі (левітамі) старазапаветнай царквы. З выбраннем Аарона першасвяшчэннікам былі вызначаны ўсе дэталі яго рызы (рытуальна-абрадавае адзенне з дарагіх тканін). У раннехрысц. л-ры («Пасланне апостала Паўла яўрэям» 7, 11—12; патрыстыка) Аарон уяўляўся зямным правобразам Ісуса Хрыста. У прадмовах да кн. «Левіт» і «Выхад» С. таксама тлумачыць рытуальныя атрыбуты і абрады Аарона як сімвалічныя правобразы зямнога служэння Ісуса Хрыста.

Гравюра (105×105 мм) адціснута з ксілаграф. дошкі, выкарыстанай С. у кн. «Выхад» (мае назву *«Узор рыз»*). Пры

**«Сей есть Аарон».** Гравюра з кнігі «Левіт», выдадзеная Ф. Скарынай.



паўторным друкаванні ў яе ўнесены карэктывы: падлога падзелена на квадраты (ліквідавана штрыхоўка); злева і справа ад Аарона зняты гарызантальныя штрыхі на фоне. Астатнія дэталі гравюры цалкам супадаюць з папярэднім адбіткам. Карэктывы палепшылі ілюстрацыю, яна стала больш кантрастнай, дзве вертыкальныя белыя палоскі пазбавілі гравюру танальнай аднастайнасці, акцэнтавалі выяву фігуры Аарона і малюнак трыумфальнай аркі. Вядома, што кн. «Выхад» і «Левіт» выйшлі ў 1519, але ў адрозненне ад папярэдніх выданняў С. яны не маюць дакладнай даты выпуску. Наяўнасць у гэтых кнігах двух розных адбіткаў з адной дошкі дазваляе меркаваць, што кн. «Левіт» выйшла пазней за кн. «Выхад». Паводле меркавання М. М. Шчакаціхіна, гравюра «цалкам запазычана» з «Сусветнай хронікі» Г. Шэдэля і каментарыяў Нікала дэ Ліра. Аднак гэта сцвярджэнне не адпавядае сапраўднасці, бо гравюра С., узыходзячы па іканаграфіі да ням. крыніц, у той жа час істотна перароблена, палепшана.

*Літ.:* 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*



Алегарычныя выявы **«сямі вольных мастацтваў».** Фрагмент фрэскі ў царкве Санта-Марыя Навела ў Фларэнцыі. 16 ст.



П. Сергіевіч. Скарына ў рабочым кабінеце. 1960.

**«СЕМ ВО́ЛЬНЫХ МАСТА́ЦТВАЎ»,** «сем вызваленых навук», «сем вольных навук» (лац. «septem artes liberales»), вучэбныя прадметы («навукі») сярэдневяковай школы і «артыстычных» (т. зв. падрыхтоўчых) ф-таў ун-таў. Уключалі 2 звязаныя цыклы: «трывіум» (лац. trivium трохпуцце) — граматыку, рыторыку, дыялектыку і «квадрывіум» (лац. quadrivium чатырохпуцце) — арыфметыку, геаметрыю, астраномію і музыку.

Упершыню «С. в. м.» як форма абагульнення і сістэматызацыі антычных ведаў з'яўляецца ў 1-й пал. 5 ст. Рымскі пісьменнік Марцыян Капэла ў тв. «Пра шлюб Філалогіі і Меркурыя» вылучыў 7 кніг, у кожнай з якіх тлумачылася адпаведнае «мастацтва»: граматыка, якую Капэла разглядаў як аснову іншых ведаў, рыторыка як мастацтва літаратурнага выказвання думак, дыялектыка як мастацтва лагічнага разважання і яго выражэння ў мове, а таксама прыродазнаўчанавук. звод з 4 дысцыплін: арыфметыкі, геаметрыі, астраноміі, музыкі. У 16 ст. Баэцый канчаткова аформіў «С. в. м.» у сістэму адукацыі, што складалася з гуманітарнага цыкла («трывіум») і фізічнага цыкла («квадрывіум»); у якасці апорных вучэбных кніг ён пераклаў са стараж.-грэч. на лац. шэраг твораў антычных мысліцеляў («Асновы» Эўкліда, лагічныя трактаты Арыстоцеля і інш.). Тым самым была пакладзена аснова сярэдневяковай адукаванасці, прычым зацвярджалася думка, што веданне «С. в. м.» карысна і неабходна для разумення Свяшчэннага пісання. Спачатку ў манастырскіх, а затым (з 8 ст.) у т. зв. епіскапскіх школах навучанне падзялялася на 2 ступені: першую складалі свецкія веды («С. в. м.»), другую — тэалогія. У параўнанні з рымскай эпохай змест гэтых мастацтваў стаў значна ўрэзаным і прыстасаваным да выканання рэліг.-царк. і багаслоўскіх функцый. Граматыка зводзілася да вывучэння правіл лац. мовы, мовы Бібліі і царк. службы. Рыторыка пераўтварылася ва ўменне складаць пропаведзі і царк. дакументы. Дыялектыка была пастаўлена на службу рацыяналізацыі хрысц. дагматыкі. Арыфметыка як мастацтва элементарнага лічэння ўключала ў сябе містычнае тлумачэнне сакральных лікаў хрысціянства. Геаметрыя стала фантастычна тлумачыць будову зямлі, апісваць краіны і іх жыхароў. Музыка зводзілася да мастацтва арганізацыі царк. песнапенняў. Астраномія выкарыстоўвалася гал. ч. для вызначэння тэрмінаў хрысц. свят. Такая сістэма свецкай асветы праіснавала ў Еўропе амаль да з'яўлення першых ун-таў (12—13 ст.), дзе на артыстычных (філасофскіх) ф-тах «С. в. м.» атрымалі далейшае развіццё і ўсё больш шырокае тлумачэнне. У сярэдніх вучэбных установах, што кантраляваліся царквой, яна захавалася (схаластычна мадыфікаваная) на працягу ўсяго сярэднявечча.

У 15—16 ст. пра «С. в. м.» сярод школяроў былі распаўсюджаны лац. скорагаворкі: «Грам гаворыць, Дзіа ісціне вучыць, Рэ мову аздабляе, Муз пяе, Ар лік вядзе, Гео мерыць, Ас зоркам служыць». Эпоха Адраджэння ўнесла карэнныя перамены ў паняцце сутнасці «С. в. м.», што засталіся ў 14—16 ст. ядром свецкай адукаванасці. Класічны «трывіум» пераўтварыўся ў філал. культуру рэнесансавага гуманізму, якая паступова

заваёўвала універсітэцкія аўдыторыі і б-кі. «Квадрывіум» разросся да памераў натурфілас. вывучэння свету; ва ун-тах з'явіліся спец. кафедры матэматыкі, астраноміі. Кракаўскі ун-т, дзе вучыўся С., ужо ў 15 ст. славіўся ў Еўропе сваім ф-там вольных мастацтваў. Энеа Сільвіо Пікаломіні, будучы папа Пій II, пісаў, што ў Кракаве квітнее школа вольных мастацтваў, якая славіцца матэматычнай навукай. У працэсе вывучэння «трывіума» кракаўскія прафесары знаёмілі студэнтаў з класічнай спадчынай антычнай культуры (Гамер, Вергілій, Авідзій, Гарацый, тв. Цыцэрона, Сенекі, Плінія, Лівія і інш.), з шэдэўрамі рэнесансавай л-ры (Петрарка, Поджа, Арэціна, Філельфа). Глыбокія веды давалі навучэнцам Кракаўскага ун-та дысцыпліны «квадрывіума». Арыфметыку тут вывучалі па кн. Жана дэ Мюры «Агульная арыфметыка», музыку — па кн. Жана дэ Ліньера, астраномію — па кн. Георга Пурбаха «Новая тэорыя планет», па альфонсавых планетных таліцах, «Календары» Рэгіямантана. Падрабязна вывучаліся тв. Эўкліда, Арыстоцеля, Пталамея і інш. Прайшоўшы навучанне на ф-це вольных мастацтваў, С. добра разумеў, які шырокі кругагляд, шэраг практычных карысных ведаў нясуць чалавеку «С. в. м.». Імкнучыся да асветы роднага народа, ён бачыў у Бібліі пачаткі свецкіх ведаў, элементарны звод «С. в. м.» і сваёй перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасцю хацеў зрабіць яго даступным «людем посполитым». «Ту[т] научение седми наук вызволеных достаточное. Хощеши ли умети граматику или, по-руски говорячи, грамоту, еже добре чести и мовити учить, знайдеши в зуполной Бивлии, Псалтыру, чти ее. Пак ли ти ся любить разумети ло[г]ику,— она же учить з доводом розознати правду от кривды,— чти книгу светого Іова или Послания светого апостола Павла. Аще ли же помыслиши умети риторику, еже ест красномовность, чти книги Саломоновы. А то суть три науки словесные. Восхощеш ли пак учитися музики, то ест певници, премножество стихов и песней светых по всей книзе сей знайдеши. Любо ти ест умети аритметику, еже вократце а неомыльне считати учить, четвертыи книги Моисеевы часто чти. Пак ли же имаши пред очима науку геометрию, еже по-руски сказуется землемерие, чти книгу Ісуса Наувина. Естьли астрономии или звездочети — найдеш на початку книги сее о сотворении солнеца и месеца и звезд; найдеш во Исусе Наувине,... во книгах Царств,... во светом Еувангелии... А то суть седм наук вызволеных» (гл. с. 10—11).

*Літ.:* Суворов Н. Средневековые университеты. М., 1898; Сидорова Н. А. Основные проблемы истории университетов в средние века в освещении современной буржуазной историографии//Средние века. М., 1963. Вып. 23; Соколов В. В. Средневековая философия. М., 1979.

*Г. У. Грушавы, В. Ф. Шалькевіч.*

**СЕНЕ́КА** (Seneca) Луцый Аней (каля 5 да н. э.— 65 н. э.), рымскі філосаф, паэт, паліт. дзеяч. Першапачаткова ідэолаг сенацкай апазіцыі дэспатызму, выхавальнік будучага імператара *Нерона* (49—54), пры якім стаў адным з кіраўнікоў рымскай палітыкі. Абвінавачаны ў загаворы, быў вымушаны скончыць жыццё самагубствам. Спадчына Сенекі ўключае філас., этычныя, паліт. трактаты, зб. павучальных «Лістоў да Луцылія», паэтычныя творы, трагедыі. Светапогляд яго супярэчлівы: аснову яго складаюць ідэі грэч. *стаіцызму*, якія ён спалучаў з элементамі платанізму, эпікурэізму і інш. кірункаў. Сцвярджаў у духу матэрыяліст. пантэізму цялеснасць усяго існага, адначасова схільны быў прызнаваць бога, якому ўласцівы рысы асобы. Філасофію разглядаў не як абстрактную сістэму тэарэт. уяўленняў, а як вучэнне пра маральнае ўдасканаленне чалавека і дасягненне мудрага жыцця. Чалавечую мудрасць трактаваў як вызваленне ад цела і яго афектаў, сцвярджэнне духоўнай незалежнасці. Сенека лічыў, што мудрацы з'яўляюцца вельмі рэдка таму, што рэальныя людзі поўныя глыбокіх супярэчнасцей, унутранай барацьбы. Паводле Сенекі, дабрадзейнаму чалавеку ўласціва душэўная стойкасць, справядлівасць, міласэрнасць і любоў да блізкага, таму што ўсе людзі, лічыў ён,— дзеці аднаго бога і абсалютна роўныя. Такімі ж важнымі якасцямі з'яўляюцца любоў да радзімы і адданасць сваёй дзяржаве. Этычныя ідэі Сенекі прынеслі яму сусв. славу, у эпоху Адраджэння ён становіцца адным з найб. аўтарытэтных філосафаў-маралістаў. У гэты час яго творы паявіліся на Беларусі, яны паўплывалі на фарміраванне поглядаў бел. мысліцеляў-гуманістаў.

Ідэі Сенекі, безумоўна, былі вядомы такому шырока адукаванаму чалавеку, як С., знайшлі адлюстраванне ў яго светапоглядзе. Як і Сенека, С. ў аснову паліт. і сац. уяўленняў кладзе этычны пачатак: мудрасць, справядлівасць, чалавекалюбства, «абы, научившися мудрости», людзі «добре живучи на свете» (гл. с. 37). Надаючы важную ролю мудрасці як увасобленай дабрадзейнасці, праслаўляючы «милосников наукы и мудрости» (гл. с. 44), С. разумеў складанасць чалавечага быцця, супярэчлівасць маральнай свядомасці і паводзін рэальнага чалавека (прадмова да кн. «Прытчы Саламона»), што сведчыць пра блізкасць поглядаў С. памяркоўнаму стаіцызму Сенекі. Родніць абодвух мысліцеляў і разуменне вышэйшага дабра, даступнага чалавеку на зямлі, як маральна дасканалага і грамадска карыснага жыцця. Любоў да роднай зямлі, служэнне Айчыне яны разглядалі як важнейшыя дабрачыннасці, што вызначаюць мэту дзейнасці чалавека. Вось чаму С. заклікаў не шкадаваць «всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея» (гл. с. 94). Ён пайшоў значна далей свайго папярэдніка, у якога патрыятычныя ідэі перапляталіся са статычным касмапалітызмам. Услед за С. да ідэй Сенекі на Беларусі звярталіся Сымон Будны, Андрэй Волан і інш.

*Тв.:* Нравственные письма к Луцилию; Трагедии: Пер. с лат. М., 1986.

*Літ.:* Краснов П. Л. А. Сенека, его жизнь и философская деятельность. Спб., 1895; Виппер Р. Ю. Этические и религиозные воззрения Сенеки//Вестн. древней истории. 1948. № 1; Лосев А. Ф. Эллинистически-римская эстетика I—II вв. н. э. М., 1979. *Г. У. Грушавы.*

**СЕРГІЕ́ВІЧ** Пётр Аляксандравіч (н. 1900—84), беларускі і літоўскі сав. жывапісец і графік. Засл. дз. маст. Літ. ССР (1965). Працаваў пераважна ў жанрах партрэта і сюжэтна-тэматычнай карціны. Яму належыць значная заслуга ў стварэнні Скарыніяны. На карціне «Скарына ў друкарні» (алей, 1957, 150×130; б-ка Саюза пісьменнікаў БССР, паўтор у Дзярж. краязнаўчым музеі Літ. ССР) адлюстраваў асветніка ў час друкавання кнігі. С. паказаны ў друкарні з толькі што адціснутым аркушам у руках. Углядаючыся ў свежы адбітак, ён крыху падаўся наперад, і ў гэтым міжвольным памкненні — глыбокая ўнутраная ўзрушанасць, радасць здзяйснення мары. Вобраз С.— увасабленне адданасці вял. справе асветы роднага народа. Побач са С. малады друкар, сціпласць і стрыманасць якога падкрэслівае апантанасць С., кампазіцыйна ўраўнаважвае яго выяву. Выгляд друкарні просты: скляпеністая столь, станок з пацямнелага дрэва, стос нарэзанай паперы, на заднім плане стол, на якім кнігі, рукапісы. Каларыстычны акцэнт зроблены на чырвонай блузе С. і светла-блакітнай кашулі яго памочніка-друкара. На карціне-партрэце «Скарына ў рабочым кабінеце» (алей, 1960, 145×110; Дзярж. гіст. музей БССР) аўтар стварыў яскравы вобраз мысліцеля. С. паказаны з пяром у руцэ каля рабочага стала, на якім ляжыць недапісаная старонка рукапісу. У задуменні, ва ўсёй постаці С. адчуваецца значнасць, маштабнасць асобы, падкрэсленая атмасферай і інтэр'ерам кабінета вучонага-гуманіста. Цёплыя тоны фарбаў добра згарманіраваны. *А. С. Ліс.*

**СІГНАТУ́РА** (лац. signatura ад signo указваю, абазначаю) у паліграфіі — парадкавы нумар друкаванага аркуша выдання, які змяшчаецца ў ніжнім полі першай паласы, служыць для кантролю пры брашуровачных працэсах; выемка ў ніжняй частцы друкарскай літары; у мастацтве — поўны або скарочаны подпіс або знак мастака на яго творы, *манаграма* або маляваны знак (*сігнет*) — выява якой-н. фігуры, сімвалу.

Узнікла як сцвярджэнне і своеасаблівая ахова аўтарскіх праў. У эпоху сярэднявечча ўжывалася адносна рэдка і змяшчалася на абрамленнях, бардзюрах і інш. пераважна ў выглядзе манаграмы або імя. У эпоху Адраджэння з распаўсюджаннем гуманіст. светапогляду ўсё больш сцвярджаецца роля індывідуальнасці мастака. Гэта адлюстравалася ў значным пашырэнні подпісу і іншых відаў сігнатуры на творах мастацтва (з развіццём кнігадрукавання і на кнігах). У Італіі ўжо ў эпоху кватрачэнта рэдкімі былі значныя творы, аўтары якіх заставаліся невядомымі; у Германіі толькі ў 16 ст. подпіс пачынаюць змяшчаць на відным месцы і форма яго набывае новы, упэўнены, а часам і самасцвярджальны характар. Сігнатура ў эпоху Адраджэння змяшчалася ўжо непасрэдна на творах мастацтва. Шырока ўжываўся маляваны знак, які ўключаўся ў кам-

пазіцыю гравюр. У бел. мастацтве і кнігадрукаванні сігнатуру ўпершыню ўжыў у выглядзе асабістага знака і манаграм у сваіх выданнях С. *В. Н. Дышыневіч.*

**СІГНÉТ** (ад лац. signum знак), 1) друкарская або *выдавецкая марка* на кнізе; 2) знак на творы мастацтва, які азначае прыналежнасць яго пэўнаму мастаку і з'яўляецца пастаяннай выявай (замест подпісу) якой-н. фігуры, сімвала.

Асабліва шырока ўжываўся ў гравюрах эпохі Адраджэння, дзе ўключаўся непасрэдна ў кампазіцыю твора (крылатая змейка Л. Кранаха, кветка гваздзіка Б. Гарофала, насякомае ў Чыма да Канельяна, выява савы і інш.). Сімвалічныя па гучанню, цікавыя па задуме і тонкасці выканання гэтыя графічныя мініяцюры часта служылі істотным элементам маст. вырашэння ліста. Гэта характэрна і для сігнета С.

У выданнях С. шматразова паўтараецца выява сонца і месяца з чалавечымі тварамі: на *гравюрным партрэце Ф. Скарыны*, у кампазіцыі тэматычных гравюр-ілюстрацый, у дэкар. *застаўках*, ініцыялах. Сонца дадзена анфас, абкружана промнямі, месяц — у профіль у фазе маладзіка, які закрывае сабой сонца прыкладна на 1/2 з левага боку. Выглядаючы з-за месяца, сонца асвятляе яго сваімі промнямі. У адрозненне ад пашыранай у кнігах і гравюрах таго часу выявы сонца і месяца паасобку («Хроніка» Шэдэля 1493, «Евангелле» І. Грумгера 1514, лацінская Біблія 1514, і інш. выданні і гравюры «Распяцця» 15—16 ст.) тут яны злучаны. Гэты знак у кнігах С. даўно прыцягваў увагу даследчыкаў, якія ўмоўна называлі яго «гербам» (У. В. *Стасаў*, П. У. *Уладзіміраў*, М. М. *Шчакаціхін* і інш.). У працах па гісторыі бел. графікі апошніх дзесяцігоддзяў яго называюць гербам, кніжным знакам (экслібрысам), выдавецкай маркай, манаграмай. У знаку С. ёсць многа рысаў, якія родняць яго з гербам: ён складаецца з фігур сімвалічнага характару і з'яўляецца эмблемай; даецца знак часцей за ўсё ў своеасаблівым картушы, які падобны на шчыт і змешчаны на выданнях накшталт знака ўласнасці. Гербы былі не толькі на пячатках, манетах, сцягах, творах мастацтва, але і на кнігах, рукапісах, падкрэсліваючы іх прыналежнасць знатнаму ўладальніку. Аднак знак С.— не герб стараж. дваранскага роду або бел. горада: сын полацкага купца не мог мець фамільнага геральдычнага знака і такі герб не вядомы ў старабел. геральдыцы. Было таксама меркаванне, што ганаровае права на шляхецкі герб С. атрымаў як доктар навук. У знаку С. па-мастацку спалучаюцца асаблівасці сігнатуры мастакоў Адраджэння і першадрукароў, выдаўцоў. У агульнай асв. дзейнасці С. функцыі яго сігнета значна шырэй задач аховы выдавецкіх правоў і своеасаблівай рэкламы. Арганічна ўваходзячы ў архітэктоніку і маст. афармленне кніг, ён мае глыбока сімвалічнае значэнне, якое даследчыкі трактуюць па-рознаму. Выбар сімвала яўна невыпадковы. Шчакаціхін у 1925 пісаў, што знак гэты быў утвораны і абраны С. у «якасці свайго асабовага герба, а мо нават і талісмана». Ен бачыць у ім адлюстраванне факта нараджэння С. ў год сонечнага зацьмення ў Беларусі (1486) і ахоўны талісман ад дрэннага, паводле астралаг. вераванняў сярэднявечча, уплыву зацьмення на лёс чалавека (кароткае жыццё, смутак, журба, клопаты, здрада ў здзяйсненні намераў і планаў: напрыклад, сонечнае зацьменне ў «Слове аб палку Ігаравым» як страшэннае прадвесце). Уладзіміраў лічыў сігнет С. астралаг. знакам і талісманам, але ў іншым разуменні павер'я аб сонцы і месяцы. У наш час выказвалася меркаванне, што ў выявеззяючага сонца і месяца — перамога святла над цемрай, жыцця над смерцю. Найб. праўдападобная думка аб увасабленні ў эмблеме ідэі асветніцтва. Вядомая хрысц. сімволіка сярэднявечча (сонца і месяц у тлумачэнні Максіма Спаведніка і інш.) спалучаецца з марай чалавека эпохі Адраджэння аб вечным служэнні святлу, ведам, асвеце. У наш час знак С. трактуецца як хвала ў славу кнігі — крыніцы святла, мудрасці, дабрачыннасці, ведаў. Шматразовае паўтарэнне сігнета і слоў «я доктор Франциск Скорина из Полоцка тиснути повелел» у спалучэнні са смелым уключэннем у «Біблію» свайго партрэта — яркае выяўленне новай, рэнесансавай самасвядомасці і дзівоснае прадбачанне С. вял. лёсу друкаванай кнігі на роднай мове, усведамленне, што зробленае не загіне ў стагоддзях, у памяці народнай. Сігнет С. перажыў стагоддзі. Ад яго бяруць пачатак бел. выдавецкая марка і экслібрыс. Шырока выкарыстоўваецца сігнет мастакамі ў творах, прысвечаных С. і гісторыі Беларусі, ён стаў своеасаблівым сімвалам бел. кнігадрукавання (гл. *Вобраз Ф. Скарыны ў выяўленчым мастацтве).*

*Літ.:* 40; 69; 344; 576; Стасов В. В. Отчёт о седьмом присуждении наград графа Уварова... Спб., 1864; Беларускі кніжны знак/Склад. А. М. Тычына, В. Ф. Шматаў. Мн., 1975. *В. Н. Дышыневіч.*

**СІ́ДАРАЎ** Аляксей Аляксеевіч (1891—1978), савецкі мастацтвазнавец і кнігазнавец. Чл.-кар. АН СССР (1946). Засл. дз. маст. РСФСР (1947). Даследаваў тэхніку аздаблення кніг С. Адзначыў вял. ролю гравюр у яго выданнях — яны ілюстравалі і тлумачылі тэкст; Сідараў назваў такія гравюры апавядальнымі. Устанавіў, што ў віленскіх выданнях С. гравюры друкаваліся ў 2 прагоны: спачатку накладвалася чырвоная фарба, а потым — чорная. Даводзіў, што прыёмы аздаблення кніг у С. пераймалі Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец (заблудаўскія выданні), маскоўскі друкар В. Бурцаў. Лічыў, што С.— не друкар, а, у першую чаргу, выдавец, рэдактар, перакладчык, пісьменнік, вучоны, мовазнавец, грамадскі дзеяч, праца якога была накіравана на пашырэнне асветы сярод простага народа. Падкрэсліваў вял. значэнне дзейнасці С. для развіцця ўсх.-слав. і зах.-еўрап. кнігадрукавання.

*Тв.:* 272; 273; 729; 730; 731; 732; 733. *М. Б. Батвіннік.*

**СІЛЬВІУС АМÁТУС** (Silvio de Mathio або Silvius Amatus Siculus ? — 8.6.1537) Ян, італьянскі вучоны-педагог. У канцы 15 ст. атрымаў ступень магістра вольных мастацтваў (artium), пазней — доктара права. Чытаў лекцыі па рымскаму праву ў Венскім ун-це, потым выкладаў грэч. л-ру ў Кракаўскім ун-це. Сярод вучняў Сільвіуса былі студэнты з Літвы і Беларусі, у тым ліку будучы віленскі біскуп П. *Гальшанскі.* Сільвіус прымаў удзел у складанні некат. вучэбных дапаможнікаў, меў сувязі з польскімі і замежнымі друкарамі, у прыватнасці з А. *Мануцыем.* Падтрымліваў рэнесансавыя павевы ў духоўным жыцці Польшчы і Вял. кн. Літоўскага, апякаў пачынаючых пісьменнікаў, быў праціўнікам фанатызму ў пытаннях рэлігіі. Каля 1508 пераехаў у Вільню. У складзе пасольства Вял. кн. Літоўскага, узначаленага канцлерам вял. кн. літ. Я. Сапегам, у 1508 наведаў Маскву. З 1518 канонік віленскі, меў прыход у Лідзе і Віцебску. У 1529—37 — хатні выхавацель будучага вял. кн. Жыгімонта II. С., напэўна, даведаўся пра Сільвіуса ў час свайго навучання ў Кракаўскім ун-це, дзе ён мог слухаць яго лекцыі. У Вільні паміж імі былі непасрэдныя сувязі, аб чым сведчаць некат. юрыд. акты 1520-х г., дзе яны фігуравалі як сведкі па справе аб заснаванні кн. Ю. Алелькавічам парафіяльнага касцёла на Гродзеншчыне. Пасля сябе Сільвіус пакінуў значную б-ку.

*Літ.:* Barych H. W blaskach epoki Odrodzenia. Warszawa, 1968; Ochmański J. Biskupstwo wileńskie w średniowieczu. Poznań, 1972. *Г. Я. Галенчанка.*

**СІ́МВАЛЫ Ў ТВÓРЧАСЦІ Ф. СКАРЫ́НЫ.** Сімвал у якасці катэгорыі маст. пазнання адлюстроўвае неадназначнасць з'яў рэчаіснасці, пераважна іх духоўнае, пераноснае сэнсавае значэнне.

Адносна сваіх аб'ектаў (рэальных, міфалаг., эстэт.) сімвалы з'яўляюцца шматзначнымі вобразнымі мадэлямі, якія змяшчаюць у сабе магчымыя іх інтэрпрэтацыі. Калі ў алегорыі ўвасабляецца толькі пэўная ідэя, то ў сімвале вобразная выяўленасць захоўвае адносную самастойнасць і заключае ў сабе мноства пераносных сэнсавых вызначэнняў аб'екта. Сімвалізм быў у самых вытоках духоўнай культуры, пачынаючы з міфалогіі. Усведамленне міфалаг. вобразаў як сімвалаў адносіцца да больш позніх, развітых форм культуры сярэднявечча і Рэнесанса.

С. шырока карыстаўся паняццем сімвала, абазначаючы яго словамі «знамя», «знаменовать», «знаменование» і інш. У тэалагічным аспекце ён працягваў традыцыю патрыстыкі ў тлумачэнні старазапаветных кніг Бібліі: іх сюжэты, вобразы і асобы разглядаў і ў прамым і ў пераносным, сімвалічным значэнні. У выніку асн. падзеі і матывы Бібліі ў інтэрпрэтацыі С. набылі выгляд сіметрычнай суадпаведнасці матэрыяльнага і духоўнага, чалавечага і божага, зямнога і нябеснага, іманентнага і трансцэндэнтнага, таго, што адбываецца ў канкрэтна-гістарычным часе і прасторы, і таго, што знаходзіцца па-за часам і па-за прасторай. Напр., 12 «суддзяў Ізраілевых», што кіравалі народам на аснове родаплемяннай дэмакратыі, на думку С., сімвалізуюць 12 новазапаветных апосталаў (гл. с. 97—98). Адну з самых паэтычных кніг Бібліі — «Песню песням» — ён лічыў сімвалічнай ва ўсіх сваіх тэмах, вобразах і матывах: «жаніх» сімвалізуе Ісуса Хрыста, «нявеста» — яго царкву, жаніховая

дружына — апосталаў і інш. Адпаведна з такой сімвалічнай канцэпцыяй С. «драматызаваў» перакладзеную ім кнігу, акцэнтаваўшы ўвагу чытача на яе дзеючых асобах-сімвалах «чарвленым письмом» (шрыфтам чырвонага колеру).

Сімволіка ў творах С. нясе і пэўны маст. змест, з'яўляючыся адначасова сродкам экзегезы (тлумачэння рэліг. тэкстаў) і іх эстэт. інтэрпрэтацыі. У каментарыях С. няма выразнага размежавання паняццяў рэліг. і маст. сімволікі, што сведчыць пра сінкрэтызм яго светапогляду. І ўсё ж аналіз пэўнага кантэксту, у рамках якога пісьменнік карыстаецца імі, дазваляе вылучыць маст.-эстэт. аспект яго твораў. Сімвалічнае значэнне С. надаваў перш за ўсё тым біблейскім кнігам, якія вызначаюцца маст. вобразнасцю і эстэт. каштоўнасцю, напр., «Песні песням». У прадмове да «Псалтыра» (1517 і 1522) ён пазбягае паняцця сімвала, аднак карыстаецца ім, разглядаючы гэту кнігу як гранічна абагуленае сімвалічнае выяўленне маральных, пазнавальных, эстэт. і тэалагічных каштоўнасцей усёй Бібліі. Пракокі, на яго думку, зразумелі сутнасць дабра і зла; жыццеапісанні святых айцоў вучаць мудраму жыццю, а прытчы і прыказкі — добрым звычаям. «Псалтырь же сама едина вси тые речи в собе замыкаеть и всех тых учить и все проповедуеть»: лечыць хваробы цела і душы, асвятляе розум і мякчыць сэрца, адганяе смутак, мацуе дружбу людзей, абуджае ў іх любоў да чалавека. «Псалтыр» у С.— сімвал усіх духоўных каштоўнасцей, драматычнае станаўленне якіх адлюстравала Біблія, падсумаваўшы вынікі стараж. культуры. Трагічнае жыццё Іова, на думку С., сімвалізуе мукі спасціжэння ісціны і дабра, таму героя гэтай трагедыі ён сімвалічна называе пракокам (мукамі сваімі ён нібы прадугадаў будучыя падзеі станаўлення хрысц. рэлігіі). С. першы ў бел. літаратуразнаўстве звярнуў увагу на сімвалічна-пераносны сэнс прытчаў, бо яны «всегда иную мудрость и науку знаменують, а иначей ся разумеють, нежели молвены бывають, и болши в собѣ сокритых таин замыкають, нежели ся словами пишуть» (гл. с. 34). Ён часта выкарыстоўваў паняцце сімвала («знамя», «знаменование»), каб адзначыць двайны сэнс т. зв. эзатэрычных (тайных, даступных толькі пасвячоным) кніг — унутраны, сімвалічны, вядомы толькі мудрым, і вонкавы, агульнадаступны (гл. с. 8—9, 34—35, 158—162). Для С. сімвал — гэта «вобраз мудрости», які скрывае «во кратких словах великий и многый разум» (гл. с. 47). Сентэнцыі «Еклесіяста», што быццам пярэчаць адна адной, на самай справе, падкрэсліваў С., у абагульненай сімвалічнай форме выяўляюць неаднолькавыя каштоўнасныя арыентацыі («людская кохания и мысли») і розных людзей і аднаго і таго ж чалавека ў розныя перыяды яго жыцця. У прадмове да кн. «Ісус Навін» ён зноў вяртаецца да хрысц. інтэрпрэтацыі старазапаветнай гісторыі як сімвала новазапаветных ідэалаў-каштоўнасцей: зямля Ханаанская «знаменуеть царство небесное и горний Ерусалим»; пераход народа на чале з Ісусам Навінам «в землю обетованую» сімвалізуе будучы прыход Ісуса Хрыста, які «уведе верующих в него в царство небесное, еже ест земля живых» (гл. с. 85). Увесь Сусвет, згодна з рэнесансавымі поглядамі,— гэта дасканалы твор «найвышэйшага мастака» — бога, а зямная краса сімвалізуе духоўную прыгажосць. Такой думкі прытрымліваўся і С. Сімвалічны вобраз ён параўноўваў з люстэркам, у якім відаць усё багацце канкрэтнага, зямнога зместу. Гераічны ўчынак Юдзіфі сімвалізуе натуральную для ўсіх людзей любоў да сваёй айчыны, да зямлі, на якой мы «зродилися и ускормлены суть» (гл. с. 94). У кожнай біблейскай кнізе С. бачыў вонкавы, усім зразумелы фабульны змест («... не толико докторове а люди вченые в них разумеють, но всякий человек простый и посполитый», гл. с. 8—9), і ўнутраны, сімвалічны [«Написаны суть воистину сие книги внутрь духовнее (іх) розумеющим...», с. 8]. Біблія, на яго думку, сімвалізуе ўсё быццё і перш за ўсё гісторыю чалавецтва, а кожная з яе кніг выступае як сімвал канкрэтнай навукі ці пэўнага «мастацтва» — граматыкі, арыфметыкі, геаметрыі, астраноміі, этыкі, логікі, музыкі, рыторыкі і інш. (гл. с. 10—11). Тут С. наблізіўся да сімвалічнага тлумачэння Бібліі, што было ўласціва светапогляду рэнесансавых гуманістаў. Аднак ён не прызнаў сімвалічнага значэння многіх сюжэтаў, вобразаў і міфаў Бібліі, спаслаўшыся на хрысц. веру ва ўсемагутнасць «во троици единого бога в шести днех сотворившего небо и землю, и вся, еже суть в них» (гл. 105). Сімвалічнае значэнне біблейскіх сюжэтаў С. тлумачыў у адпаведнасці з хрысц. традыцыяй: егіпецкае рабства «сыноў Ізраілевых», на яго думку, сімвалізавала духоўную няволю людзей; купіна неапалімая «ясне знаменовала зачатие без семени сына божия», жазло Майсея, якое ператваралася ў змяю, сімвалізавала спалучэнне ў Хрысце божай і чалавечай прыроды; пасланне Майсея фараону — прышэсце Хрыста на зямлю; велікодны агнец — «невинную муку Господа нашего знаменовал»; пераход сыноў Ізраілевых цераз Чырвонае мора — будучае хрышчэнне; манна нябесная — прычашчэнне і інш. (гл. с. 112—114). Ахвярапрынашэнне і інш. абрады старазапаветнай царквы, прароцтвы Даніїла С. таксама тлумачыў як сімвалы хрысц. зместу (гл. с. 120—125, 159—164), часам дазваляючы сабе вольную інтэрпрэтацыю асобных вобразаў і сюжэтаў Бібліі. Ва ўсіх выпадках, калі гутарка ішла пра сімвалічнае значэнне маст. вобразаў, біблейскіх сюжэтаў і міфаў, С. падкрэсліваў іх унутраны, духоўны сэнс. З улікам яго светапогляднай дамінанты, згодна з якой Біблія ўспрымалася як двайны сімвал (рэальнай гісторыі чалавецтва і сукупнасці навук і мастацтваў), можна меркаваць, што і ва ўсёй культуры С. бачыў два аспекты. Вонкавы аспект, на яго думку, адлюстроўвае паверхневы, матэрыяльны пласт быцця, унутраны накіроўвае на пазнанне скрытага, духоўнага сэнсу быцця. Пытанне, наколькі такі сімвалічна насычаны светапогляд С. сказаўся на выяўленчым, графічным матэрыяле яго кнігавыдавецкай творчасці, заслугоўвае асобнага грунтоўнага даследавання з улікам дасягненняў айч. і сусв. мастацтвазнаўства. Найбольш шматзначнай і загадкавай сімвалічнай выявай з'яўляецца герб, ці эмблема С., якая, на думку даследчыкаў, была адначасова яго асабістай манаграмай і друкарскім знакам. На думку Л. *Баразны*, гал. сэнс гэтага сімвала — перамога святла над цемрай (сонца ўвасабляе святло, дзень, а месяц — цемру, ноч). Гэта тлумачэнне адпавядае асв. місіі С. і яго гуманіст. светапогляду. Зыходзячы з айч. фальклору і нар. светаўспрымання, магчыма і інш. інтэрпрэтацыя гэтага знака-сімвала — не як антаганістычных, а як гарманічна ўзаемадапаўняльных пачаткаў быцця — прыроды і розуму, матэрыі і духа, што дамінавала ў пантэістычнай філасофіі рэнесансавых гуманістаў. Элементы сімвалізму ў той ці іншай меры прысутнічаюць ва ўсіх ілюстрацыях да кніг С., бо яны выходзяць за рамкі простай інфармацыі адносна іх паверхневага фабульнага зместу. *У. М. Конан.*

**СКАРЫ́НА** Іван (? — 1529), старэйшы брат Францыска С., полацкі купец. Гандляваў футрам, скурамі і інш. Пасля смерці бацькі і ў адсутнасць Францыска стаў наследнікам і распараджальнікам маёмасці. Як сведчаць дакументы, Іван жыў у 1520 у Вільні, меў цесныя гандл. сувязі з некат. членамі магістрата. Магчыма, што ў гэтыя гады «Иван Скорынич Полочанин» падтрымліваў Францыска ў яго кнігавыдавецкай дзейнасці. Пасля смерці Івана (у *Познані*) крэдытары прад'яўлялі прэтэнзіі Францыску.

*Літ.:* 69; 92.

**СКАРЫ́НА** Лука (г. н. і см. невяд.), бацька Францыска Скарыны. Полацкі купец, гандляваў, відаць, з Рыгай, Вільняй і інш. гарадамі. У дакументах упершыню ўпамінаецца пад 1492. У актах Кракаўскага і Падуанскага ун-таў упамінаецца, што Ф. С., які атрымаў вучоную ступень магістра (Кракаўскі ун-т) і доктара (Падуанскі ун-т), з'яўляецца «сынам Лукі». Як мяркуюць некат. даследчыкі, быў багатым чалавекам, іншыя лічылі яго сярэдняй заможнасці. Памёр, калі Францыска не было ў Полацку (магчыма, вучыўся). Маёмасць бацькі перайшла да *Скарыны* Івана, старэйшага брата Францыска.

*Літ.:* 69.

**СКАРЫ́НА** Раман (г. н. і см. невяд.), пляменнік С., сын яго старэйшага брата Івана. З дакументальных крыніц вядома, што ў 1529 пасля смерці бацькі Раман як спадчыннік яго маёмасці выплаціў даўгі крэдыторам і кампаньёнам яго гандлёвых спраў, у т. л. С. і яго жонцы *Маргарыце* (гл. Дакументы пра Ф. Скарыну, № 17—19). У канцы 1531 С. трапіў у пазнанскую турму за даўгі брата Івана па неабгрунтаванай і нічым не падмацаванай даўгавой прэтэнзіі «іудзеяў-крэдытораў» Майсея і Лазара з Варшавы і Якаба з Познані, якія дзеля гэтага ўвялі ў зман кара-

ля *Жыгімонта I*. Даведаўшыся пра гэта, Раман вясной 1532 прыехаў у Познань, дзе заявіў суду, што знаходзіцца тут, каб быць пасрэднікам свайго дзядзькі і паручыцца за яго ў судовай справе з крэдыторамі. Ён, як спадчыннік маёмасці бацькі, узяў на сябе яго даўгі. Раман папрасіў дазволу прад'явіць суду залог і ацаніць яго. У выпадку, калі сумы залогу будзе недастаткова, Раман згодзен «быць падуладным Майсею і Лазару аж да вырашэння справы» (гл. тамсама, № 26—28). Паколькі судовая справа зацягвалася, то ўвосень 1532 Раман дамогся сустрэчы з каралём Жыгімонтам I, якому растлумачыў справу свайго дзядзькі і даказаў яго невінаватасць у адносінах да крэдытораў свайго бацькі-нябожчыка. На падставе гэтага Жыгімонт I выдаў С. прывілейную грамату, якая ўзвышала яго асобу і вызваляла ад сплачвання доўгу брата (гл. тамсама, № 33). Далейшы лёс Рамана невядомы.

*М. І. Дарошка.*

**СКАРЫ́НА Ф.— БІБЛІЕ́ГРАФ.** Імя С. стаіць ля вытокаў бел. бібліяграфіі. Яго *прадмовы* — бліскучы ўзор папулярызатарскай дзейнасці вучонага, сапраўдная бібліяграф. скарбніца, узор выкарыстання кнігі для прапаганды ведаў і маральных каштоўнасцей. Кожная прадмова — своеасаблівая, цікавая, насычаная фактычнымі звесткамі анатацыя да кнігі. У кароткай і даступнай форме даюцца асн. звесткі пра гісторыю стварэння асобных кніг «Бібліі», іх аўтарства, прызначэнне, змест і значэнне ў маральна-рэлігійным выхаванні і фарміраванні норм паводзін, у гіст. пазнанні свету і набыцці практычных ведаў. Ёсць тлумачэнне геагр. назваў і асобных тэрмінаў, гіст. фактаў і здарэнняў, імён, што сустракаюцца. Звесткі падаюцца проста, ясна, дакладна. С. размаўляе з чытачом як добры сябра і дарадца, які многа ведае, але гаворыць толькі аб асноўным, што трэба чалавеку ў жыцці. Гаворыць зразумела, улічваючы патрэбы і магчымасці шырокага кола чытачоў, дасканала карыстаючыся асаблівасцямі літаратурна-публіцыст. жанру. С. даў узор навуковай бібліяграф. працы, які па ўсіх сваіх параметрах падыходзіць да сучаснага разумення сутнасці бібліяграфіі, анатавання кніг. С. не дае бібліяграф. апісання кніг і спісаў выкарыстаных першакрыніц. Яго анатацыі маюць характар вольнай размовы аб кнігах, іх асн. змесце, аб найб. важных ці складаных пытаннях, якія ў іх разглядаюцца. Сабраныя разам прадмовы ўяўляюць сабой своеасаблівы, цікавы і глыбокі бібліяграф. агляд шэрагу найб. аўтарытэтных і складаных кніг свайго часу. Ён пабудаваны не толькі на грунтоўным аналізе разглядаемых кніг, але і на аснове шырокага выкарыстання іншых першакрыніц; каля 150 разоў цытуючы тэксты Старога і Новага запаветаў, С. прыцягвае і вядомыя, найб. аўтарытэтныя патрыстычныя творы ў галіне тлумачэння і вывучэння гісторыі перакладаемых ім кніг. Шмат у іх і элементаў гістарыяграфіі. Актыўная і ўмелая прапаганда кнігі, ведаў вядзецца не толькі на высокім узроўні і ў адпаведнасці з пастаўленай асв. мэтай, але і з глыбокім разуменнем задач і асаблівасцей папулярызацыі кнігі, таго, што ў наш час завецца асновамі рэкамендацыйнай бібліяграфіі. Прадмовы і пасляслоўі С. па сутнасці не толькі літаратурна-публіцыст. творы, але і першыя бел. бібліяграф. дапаможнікі рэкамендацыйнага характару, першая значная бібліяграф. праца ў галіне навуковага рэферыравання кніг, узор глыбокага разумення задач інфармацыі.

*Літ.*: 577. *В. Н. Дышыневіч.*

**СКАРЫ́НА Ф. І БЕЛАРУ́СКАЕ ВЕРША-СКЛАДА́ННЕ.** Вершы С., як і ўся яго шматгранная літ.-грамадская і асветніцкая дзейнасць,—з'ява выключная па сваёй арыгінальнасці і значэнню для бел. культуры эпохі *Адраджэння*. Яны азнаменавалі сабою паступовы пераход інтанацыйна-сказавай стыхіі да больш арганізаваных структурных форм пісьмовай мовы, што ў перспектыве падрыхтоўвала ўсталяванне сілабічных норм і прынцыпаў вершаскладання. Гэты пераход быў абумоўлены многімі аб'ектыўнымі сац.-эстэт. і культ. фактарамі. Першаступеннае месца сярод іх належыць традыцыям суседніх слав. л-р, у першую чаргу польск. і чэш. сілабікі. Гэты працэс неабходна разглядаць ва ўзаемадзеянні з тагачаснымі маладымі нац. л-рамі Зах. Еўропы, дзе сілабіка замацоўвалася значна раней. Аднак засваенне здабыткаў іншых, больш развітых еўрап. л-р было з'явай глыбока творчай, арыгінальнай, абумоўленай мясц. рэгіянальнымі ўмовамі, г. зн. канкрэтнымі асв. задачамі адукацыі «люду посполитого». Па свайму зместу вершы С.— рэліг. творы, абмежаваныя вузкаканфесіянальнымі мэтамі і прызначаныя для паглыблення асн. думкі той ці іншай прадмовы да кніг «Бібліі». Так, эпіграф да кн. «Іоў» меў на мэце ўзмацненне асн. ідэі прадмовы:

Богу в троицы единому
ко чти и ко славе,
Матери его пречистой
Марии к похвале,
Всем небесным силам
и святым его к веселию,
Людем посполитым
к доброму научению.

Гэта адзін з найбольш ранніх узораў бел. версіфікацыі. У яго структуры прыкметны яшчэ даволі значныя адступленні ад усталяваных сілабічных нарматываў. Тут захавана колькасная суразмернасць сумежных радкоў, адпаведны ўздым і спад інтанацыі перад і пасля цэзуры [9//6—6//9; 8//6—6//8], парнасць рыфмоўкі (славе — похвале, веселию — научению). У адрозненне ад чыста сілабічнага верша тут парушаны строгі ізасілабізм (роўнаскладовасць), пастаянства цэзуры, аднатыпнасць сумежнай рыфмоўкі. Такая адносная свабода ўнутранай будовы верша сведчыла аб творчых, а не пераймальных адносінах С. да ўсталявання норм, выяўляла арыентацыю аўтара на прасадычныя асаблівасці старабел. пісьмовай мовы і на вопыт нар. інтанацыйна-сказавага вершаскладання. Гэта своеасаблівасць засваення традыцый яшчэ больш поўна выявілася ў вершы з прадмовы С. да кн. «Выхад»:

Веруй в бога единего,
А не бери надармо имени его!
Помни дни святые святити,
Отца и матку чтити!
Не забывай ни едина,
И не делай греху блудна!
Не вкради, что дружнего,
А не давай сведецтва лживего!
Не пожелай жены ближнего,
Ни имения или речи его!

Адыход аўтара ад прынцыпаў сілабізму тут больш відавочны: з усіх пяці двувершаў толькі трэці захоўвае ізасілабізм (васьміскладовік), усе астатнія маюць розную метрычную структуру, абумоўленую імкненнем да сэнсавай завершанасці кожнага двуверша. Гэтая завершанасць падкрэслена іменнай, а не дзеяслоўнай рыфмоўкай і адпаведнай інтанацыяй. У выніку кожны зарыфмаваны двуверш з'яўляецца па сутнасці завершанай інтанацыйна і сінтаксічна структурнай адзінкай. Рыфма ў дадзеным выпадку выконвае не толькі гукавую функцыю: як і ў сярэдневяковай рытарыцы, яна ўзмацняе ўнутр. сэнсавую сувязь вершаванай фразы, прыдаючы ёй унутраную інтанацыйна-семантычную завершанасць і адзінства. Аналагічную ролю яна выконвала і ў нар. творчасці, асабліва ў прымаўках і прыказках, пабудаваных на аснове дасілабічнага інтанацыйна-сказавага вершаскладання. Інерцыя нар. вершаскладання моцна ўплывала і на фарміраванне сілабічнай сістэмы С. Таму з поўнай падставай можна гаварыць аб своеасаблівым сінтэзе дзвюх сістэм, якія, перамяжоўваючыся, плённа ўплывалі і ў значнай ступені паскаралі працэс зараджэння бел. сярэдневяковай версіфікацыі. Аб свабодных, творчых адносінах С. да сілабічнай традыцыі сведчыць і яго дыдактычны верш, змешчаны ў канцы прадмовы да кн. «Эсфір»:

Не копай под другом своим ямы,
Сам ввалишся в ню.
Не став, Амане, Мардохею шибенице,
Сам повиснеш на ней.

Парушэнне сілабічнай структуры тут відавочна: у перакрыжаваных радках можна адзначыць толькі прыблізную суразмернасць, змешаны тып рыфмоўкі (ямы — ніце, ню — ней), рухомасць цэзуры і інш. Аднак верш знітаваны паэтычнай думкай, узятай з вопыту нар. этыкі, звязанай з канкрэтным сюжэтам і павышанай эмацыянальнасцю, павучальнасцю, катэгарычнасцю. Аб гэтым яскрава сведчыць і графічнае вылучэнне страфы ў канцы прадмовы. Усё гэта паказвае на творчы падыход аўтара да еўрап. версіфікацыйных традыцый, аб імкненні спалучыць іх з вопытам народа, яго вусна-паэтычнай творчасцю і духоўнай культурай.

У навук. л-ры выказвалася думка аб уплыве на творчасць С. біблейскага кандакарнага (распеўнага) верша (узнік у 5—6 ст. і прызначаны для чыста канфесіянальных мэт). Аднак для такіх сцвярджэнняў і вывадаў у спадчыне бел. асветніка занадта мала фактаў. Маюцца на ўвазе «стихи», якімі напісаны 2 акафісты з «Малой падарожнай кніжкі»,

выдадзенай у віленскі перыяд дзейнасці С. Выйшла яна пазней за пражскія выданні («Іоў», 1517, «Выхад», «Эсфір», 1519). Малаверагодна, каб віленскі перыяд стаў нейкім паваротам у выпрацоўцы новых вершатворчых прынцыпаў ці традыцый. Безумоўна, структурныя асаблівасці арыгіналаў не маглі не адбіцца на паэт. форме акафістаў С.: захавана чляненне тэкстаў на «стихи», каноны, ікасы, кандакі. Усё гэта папулярныя формы стараж. кандакарнага верша. Перакладаючы акафісты, С. не мог выйсці за межы ўсталяваных канонаў. Аднак гэтыя формы і жанры стараж. паэзіі не маюць нічога агульнага з пазнейшым разуменнем паэтычнага тэксту, таму што яго структурныя адзінкі надзвычай аморфныя і расплывістыя, далёкія ад прынцыпаў унутранай суразмернасці і сугучнасці верша. Творчы падыход да кананізаваных першакрыніц С. выявіў толькі ў акравершах кожнага новага «стиха» ікаса ці кандака (гл. *Акраверш*). Мэта скарынінскіх акравершаў — увекавечыць сваю перакладчыцкую працу, сцвердзіць гуманіст. ідэю «научения люду посполитого». Гэтая ідэя ў «Акафісце Іаану Прадцечы» і «Акафісце Ісусу» гучыць надзвычай лаканічна і шматзначна: «Писал доктор Скоринич Францискус», «Делал доктор Скоринич Францiскоус». Такім чынам, пры разглядзе акафістаў С. і змешчаных у іх акравершаў варта ўлічваць не так непасрэдны ўплыў біблейскага кандакарнага верша, як сувязь асветніка з традыцыямі антычнасці, імкненне да самастойнасці ў перакладзе кананічных тэкстаў. Шматгранная дзейнасць бел. асветніка закладвала трывалыя асновы для далейшага плённага развіцця разнастайных жанрава-стыліст. і выяўленчых сродкаў бел. л-ры, у т. л. вершаскладання.

*Літ.:* 42; Грынчык М. М. Шляхі беларускага вершаскладання. Мн., 1973. С. 33—38. *М. М. Грынчык.*

**СКАРЫ́НА Ф. І ПАЧА́ТАК КНІГАДРУКАВА́ННЯ НА УКРАІ́НЕ.** Выдавецкая дзейнасць С. была адным з важных фактараў ажыццяўлення культ. жыцця укр. зямель у 16 ст. Ёсць падставы меркаваць, што С. падтрымліваў цесныя сувязі з грамадскімі культ. дзеячамі Украіны.

Паводле гіпотэзы львоўскага мастацтвазнаўцы М. Т. Гембаровіча, С. пасля ад'езду ў 1530 з *Кёнігсберга* спрабаваў заснаваць друкарню на зах.-укр. землях і запрасіў для работы ў ёй аднаго з братоў Геліцэраў. Следам дзейнасці гэтай друкарні лічаць выяўленыя на Украіне рукапісныя кнігі, што змяшчаюць поруч са спісамі «Бібліі» С. блізкія да яе па мове тэксты біблейскіх кніг, якія адсутнічаюць у экземплярах скарынінскіх выданняў. Паколькі віленскі біскуп *Ян*, да якога на службу паступіў С. пасля ад'езду з Кёнігсберга, незадоўга да таго атрымаў Крамянецкае староства, мяркуюць, што С. мог пасяліцца ў наваколлі Крамянца. Усе доказы яго работы на Украіне заснаваны на інтэрпрэтацыі ўскосных крыніц і не дазваляюць зрабіць які-н. адназначны вывад.

Пражскія і віленскія выданні С. былі вельмі пашыраны на Украіне. Захаваўся экземпляр «Бібліі» з б-кі Кіева-Пячэрскай лаўры (зберагаецца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе). Звесткі пра наяўнасць «Бібліі» С. ёсць у рукапісных каталогах б-к Львоўскага брацтва і гетмана Украіны І. Самойлавіча. Пра папулярнасць выданняў С. і іх высокую ацэнку чытачамі сведчаць іх спісы. Вядомы наступныя спісы скарынінскай «Бібліі»: рукапіс, заказаны Лукой у Цярнопалі, рукапіс, напісаны Дзмітрыем з Зенькава ў «граде Маначине», рукапіс, падараваны Стэчыхай царкве с. Падманастыр'е. Зберагліся спісы «Апостала» С. ў зборах Перамышльскай капітульнай б-кі (цяпер у Варшаве), Львоўскім музеі ўкр. мастацтва (рукапіс з с. Данілаўцы), Харкаўскай навук. б-кі (рукапіс перапісаны Ц. Я. *Гермагенам*; гл. таксама ў арт. *Скарынінская спадчына ў рукапісах яго паслядоўнікаў на Украіне*). Распаўсюджанне на Украіне выданняў С. і іх спісаў садзейнічала актывізацыі культ. жыцця, пад'ёму агульнага ўзроўню адукаванасці, што, у сваю чаргу, стала адной з перадумоў узнікнення першых друкарняў на Украіне: Львоўскай (1573—74), *Астрожскай друкарні* (1578—1612). Шэраг асаблівасцей тэксту і афармлення кніг, надрукаваных у іх Іванам *Фёдаравым*, дазваляе лічыць яго прадаўжальнікам традыцый С. Аб гэтым сведчыць, у першую чаргу, асветніцкая накіраванасць пасляслоўяў Фёдарава. «Буквар», надрукаваны Фёдаравым у 1574 у Львове, змяшчае ўрыўкі з кн. «Прытчы Саламона» ў рэдакцыі, блізкай да скарынінскай. Тэкст С. выкарысталі таксама рэдактары *«Астрожскай біблії»* (1580—81). Услед за С. укр. кнігадрукары канца 16—18 ст. шырока выкарыстоўвалі тытульныя лісты ў гравіраваных рамках («фортах»), фаліяцыю, застаўкі, арнаментаваныя ініцыялы. Многім укр. выдаўцам і літаратарам былі блізкімі асв. ідэі С. Нават у 1717 яго імітаваў В. Квасоўскі «преславной академии Краковской, а потом Празской наук вызволеных и философии учитель» у сваім календары, складзеным «по меридиану и широте» Чарнігава. Трываласць на Украіне многіх скарынінскіх традыцый сведчыць аб тым, што дзейнасць першадрукара на працягу доўгага часу адпавядала патрабаванням культ. развіцця ўсх.-слав. народаў.

*Літ.:* 28; 135; 136; 159; 221; 637а; Ахрыменка П. П. Летапіс братэрства. Мн., 1973. С. 28—24; Книга і друкарство на Україні. Київ, 1965. С. 17—19.

*Я. Дз. Ісаевіч.*

**СКАРЫ́НА Ф. І ФАЛЬКЛО́Р.** Па характару сваёй дзейнасці С. сутыкнуўся з разнастайным фальклорам. Перакладаючы і каменціруючы Біблію, якая ў вял. колькасці акумулявала вусна-паэтычную творчасць многіх народаў Блізкага Усходу, С. не мог не азнаёміцца дэталёва з фальклорнай спадчынай, пададзенай у выглядзе міфаў, паданняў, павучальных апавяданняў, казак, прыказак, прымавак і г. д. С. фактычна ігнараваў сцвярджэнне царкоўнікаў аб святасці біблей-

Да арт. **Скарына і пачатак кнігадрукавання на Украіне.** Пасляслоўе з «Буквара» Івана Фёдарава, Львоў. 1574.



скіх тэкстаў, боскасці іх паходжання. Сістэматычна адзначаючы дзе, калі, кім, на якой мове і па чыйму даручэнню пісалася тая або іншая кніга Бібліі, якая магчымая крыніца выкарыстоўвалася для яе напісання, С. выступаў як гісторык л-ры, гісторык культуры. Аднак ён не адзначаў, што тая ці іншая «мудрасць» паходзіць з народных крыніц, гэта не адзначалася і ў пазнейшыя часы. С. цікавіў перш за ўсё сам змест пэўных тэкстаў, яго прыдатнасць для асветы народа, маральнага ўдасканалення грамадства. У эпоху С. роля традыц. культуры, звычаёвага права, вуснай паэзіі, абраднасці ў рэгуляванні жыцця грамадства была надзвычай вялікай. Відаць, таму так настойліва і паслядоўна праводзіць С. думку аб неабходнасці выпрацоўкі, засваення і захавання не толькі справядлівых законаў, але і добрых звычаяў, г. зн. тых норм звычаёвага права, якімі кіравалася ў сваім жыцці асн. маса народа, просты люд. «Про то я, Францишек, Скоринин сын с Полоцька, в лекарскых науках доктор, разумея сее, иже... без мудрости и без добрых обычаев не ест мощно почтиве жити людем посполите на земли, казал есми тиснути Притчи или Присловия премудраго Соломона» (гл. с. 37) — пісаў С. і неаднаразова паўтараў, што ў яго выданнях можна даведацца аб «многых добрых обычаех и нравех» (гл. с. 46), што «книга сама нас добрых обычаев и дел научаеть» (гл. с. 47). Характэрна частае падкрэсліванне значэння не божай волі, а мудрасці, г. зн. народных ведаў і народнага вопыту (пад выразам народная мудрасць С. і разумеў фальклор). С. выступае як дасведчаны філолаг менавіта тады, калі тлумачыць асаблівасці прытчаў або выслоўяў, дае іх дэфініцыю: «Притчи или присловия, понеже иными словы всегда иную мудрость и науку знаменують, а иначей ся разумеють, нежели молвены бывають, а болши в собѣ сокритых тайн замыкають, нежели ся словами пишуть» (гл. с. 34). С. падкрэслівае выхаваўчую ролю гэтага жанру: «Притчи пак и приповѣсти премудрых учителев добрых обычаев младых и старых наставляють» (гл. с. 20). Вялікае значэнне ён надаваў афарыстычным жанрам — прыказкам, прымаўкам і інш., дзе коратка фармуліраваўся маральны вопыт народа. Але і псалмы (урачыстыя песні) атрымалі ў яго найвышэйшую адзнаку: С. параўноўваў іх са зборам «драгых скарбов», якія і «душу и смыслы освѣщають, гнев и ярость усмиряють, мир и покой чинять» (гл. с. 20). Для яго песня — крыніца маральнага здароўя, разумны, прыемны адпачынак і штосьці вельмі карыснае для ўсіх узростаў: «Псалом есть щит против бесовскым нощъным мечтанием и страхом, покой денным суетам и роботам, защитель младых и радость старым, потеха и песня, женам набожъная молитва и покраса, детем малым початок всякое доброе науки, дорослым помножение в науце, мужем моцное утверъжение» (гл. с. 20—21). Пры тлумачэнні назвы невядомага для бел. чытача старажытнага муз. інструмента псалтыра С. параўноўваў яго з вядомымі здаўна пашыранымі ў славян гуслямі: «Гуслѣ имеють много струн, Псалтырь же толико имать десеть струн...» (гл. с. 23). С., які добра ведаў бел. нар. звычаі і абрады, выкарыстаў іх для тлумачэння біблейскіх тэкстаў: «Яко же на браку бывають разноличьные твари: первая ест жених, вторая — невеста, третии суть друзи жениховы, а четъвертыи — дружина невестина,— тако же и во книзе сей...» (гл. с. 56). Высокая ацэнка С. нар. мудрасці побач з праслаўленнем кніжнай вучонасці ўзмацняецца яшчэ і тым, што ў сваёй творчасці ён выкарыстоўваў непасрэдна фалькл. творы — прыказкі і прымаўкі, якія дайшлі ў вуснай перадачы да нашых дзён (Прыказкі і прымаўкі, 1976. Кн. 2. С. 458). Так, адзін з яго вершаў цалкам заснаваны на дзвюх прыказках: «Не копай под другом своим ямы, //Сам ввалишся в ню, //Не став, Амане, Мардохею шибенице, //Сам повиснеш на ней». С. творча падышоў да выкарыстання фалькл. матэрыялу, ён узмацніў ноту асуджэння зламыснасці, вераломства ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі тым, што абмежаваў гэтую з'яву колам сяброў, дзе пераліčаныя рысы адносін выглядаюць асабліва агіднымі, недапушчальнымі. Народнае правіла, выказанае ў форме перасцярогі, С. выкарыстаў як заключнае павучэнне да біблейскага тэксту. Дбаючы перш-наперш аб асвеце і маральным узвышэнні свайго народа, С. ў сваіх творах абапіраўся на вопыт народа, сканцэнтраваны ў яго вуснай творчасці. Светапогляд С., яго выказванні пра дабро і зло, праўду і крыўду, асвечанасць і невуцтва, чалавека і навакольны свет, пра радзіму, родную мову і інш. вельмі блізкія да нар. уяўленняў, этычных і эстэтычных нормаў.

*Літ.:* 735. *Л. М. Салавей.*

**СКАРЫ́НА Ф.— ПЕРАКЛА́ДЧЫК І РЭДА́КТАР БІ́БЛІІ.** Адной з гал. задач сваёй дзейнасці С. лічыў далучэнне пры дапамозе *Бібліі* «простого и посполитого человека» да асветы, ведаў, *«сямі вольных мастацтваў»*. Пераклад Бібліі на блізкую да народнай бел. мову рабіў яе даступнай больш шырэйшаму колу чытачоў. С. пераклаў Біблію, пісаў *прадмовы* і *пасляслоўі*, скарачаў тэкст, тлумачыў незразумелыя словы і звароты. Крыніцамі для С. паслужылі *Біблія чэшская ў Венецыі друкаваная* (1506), асобныя кнігі царк.-слав. *«Генадзіеўскай біблії»* 1499, лац. пераклад Бібліі (т. зв. *Вульгата*) сярэдневяковых багасловаў *Ераніма Блажэннага* і *Нікала дэ Ліра*, невядомы пераклад Бібліі на польск. мову. Усё гэта сведчыла, што да выдавецкай дзейнасці С. рыхтаваўся яшчэ ў час вучобы ў *Кракаўскім універсітэце.* У кнігах С. з царк.-слав. арыгіналаў «Генадзіеўскай бібліі» выкарыстаны цэлыя раздзелы і вершы, сустракаюцца і царк.-слав. элементы, больш архаічныя, чым у «Генадзіеўскай бібліі». Крыніцамі іх маглі быць венецыянскія выданні на царк.-слав. мове югаслаўскага кнігадрукара Бажыдара Вукавіча і выданні Швайпольта *Фіёля.* У пасляслоўі да «Канона багародзіцы», змешчанага ў «Малой падарожнай кніжцы», С. піша, што гэты канон «выложеный из греческого на руский язык». Крыніцы на грэч. мове, лац. каментарыі да Вульгаты Ераніма Блажэннага і Нікала дэ Ліра, у якіх падаюцца таксама яўр. назвы біблейскіх кніг, з'яўляюцца крыніцамі лац., грэч. і яўр. назваў гэтых кніг у прадмовах і пасляслоўях да выданняў С., напр., «Доконаны суть четвертыи книги Моисеевы, рекомые от евреи Видабер, по гречески Аритми, по латине Нумери а по руски и Числа». Непасрэдна ж у тэкстах выдадзеных С. біблейскіх кніг лацінізмы, гебраізмы і грэцызмы адсутнічаюць, што сведчыць пра імкненне С. пазбягаць ужывання выразаў, незразумелых простаму чытачу. Захаваўшы традыцыйную ў слав. правасл. свеце для Бібліі царк.-слав. моўную аснову, С. шырока выкарыстаў беларусізмы, запаўняючы свае прабелы ў веданні царк.-слав. мовы чэхізмамі і паланізмамі. У выніку мова яго выданняў аказалася адным з узораў бел. рэдакцыі царк.-слав. мовы, спецыфічнай асаблівасцю якога з'яўляецца адчувальны чэшскі і польскі моўны ўплыў.

«Біблію» С. выдаваў асобнымі кнігамі, што дало магчымасць, парушыўшы парадак размяшчэння кніг, прыняты як у праваслаўнай, так і ў каталіцкай бібліях, выдаць у першую чаргу кнігі пазнавальныя, навучальныя, здольныя служыць аб'ектам эстэт. ўспрыняцця — «Псалтыр» 1517, кн. «Іоў», «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў» — і ў апошнюю — кнігі, прызначаныя быць аб'ектам веры, г. зн. якія змяшчаюць спрэчныя светапоглядныя ідэі аб быцці бога, паходжанні свету — кн. «Быццё». Акрамя прадмовы і пасляслоўя, кожны раздзел у скарынінскай кнізе забяспечаны т. зв. аргументамі (кароткім выкладам зместу раздзела). Крыніцай каментарыяў паслужыла чэшская Біблія. Аднак С. не аддаваў перавагі ні адной з крыніц, паколькі асн. яго мэтай было падрыхтаваць найб. поўны тэкст Свяшчэннага пісання. Гэта адпавядала мэтам Рэфармацыі, лозунгам якой было азнаямленне прыхаджан з поўным тэкстам Бібліі па першакрыніцах. Незалежная пазіцыя С. ў адносінах да біблейскага тэксту выклікала абвінавачванні ў ерасі з боку розных, варожых паміж сабой хрысц. плыняў. С. выдаў кнігі, якія не ўваходзяць у правасл. канон Бібліі,— «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў», «Юдзіф». Імкненне яго да поўнаты выдаваемай Бібліі відаць з таго, што ў правасл. Псалтыры 9 выбраных песень, у Скарыны ж іх 10. У 13-м псалме ёсць тры вершы, якіх няма ў царк.-слав. спісах. У кн. «Эсфір» С. памяняў месцамі раздзелы 10-ы і 11-ы, у асобны раздзел вылучыў пачатак 13-га, раздзел 12-ы і пачатак 14-га апусціў зусім. У канцы прадмоў да кн. «Выхад», «Эсфір» і «Іоў» ён змясціў уласныя вершы, што было несумяшчальным з артадаксальнымі адносінамі да царк. кніг. Пакідаючы без перакладу многія чэшскія словы, С. ўжываў іншыя, блізкія па значэнню, найб. дакладныя на яго думку. Такім чынам, аднаму слову арыгінала ў С. часта адпавядаюць два, напр., «слютуйтеся на-

до мною и пожалуйте мене» (кн. «Іоў»). Шырока прымяняюцца тлумачэнні незразумелых царк.-слав. і грэч. слоў непасрэдна ў тэксце кніг *(глосы)*. На палях прыводзіцца толькі само тлумачэнне бел., польск. ці чэш. словам, напр., тимпанъ (у тэксце) — бубень (на палях), адпаведна: хлябии — продухъ, внезапу — нагле. Унутры радка тлумачэнне ўводзіцца спец. словамі: «рци жъ тое слово Цевволех, еже по русскии сказуется класъ» (кн. «Суддзі»); «месеца перъваго иже словеть по еврейскии Нисанъ, то есть Апрель» (кн. «Эсфір»). Усяго С. у яго выданнях растлумачана такім чынам каля 200 слоў. Глосы С. нагадваюць стараж.-рус. тлумачэнні «о неразумныхъ словесехъ псалтырныхъ». Адлюстраваныя ў Бібліі элементы культуры народаў Блізкага Усходу С. часам замяняе адпаведнымі беларускімі. Так, у кн. «Прытчы Саламона» ў Астрожскай і Генадзіеўскай бібліях ёсць выраз «предлежаща оу гроба» (аб прадуктах харчавання), які С. ў адпаведнасці з бел. і літ. язычніцкімі пахавальнымі абрадамі замяняе выразам «положеные во гробе». Асобныя часткі «Малой падарожнай кніжкі» ў С. забяспечаны адсылкамі на іншыя месцы Бібліі тыпу «зри нижеи положено знайдеши», «по сем песни моисеевы, еже при псалтыри». Усе прыведзеныя факты сведчаць аб тым, што скарынінская рэдакцыя і пераклад Бібліі — цалкам арыгінальныя і самастойныя. С.— першы ўсх.-слав. перакладчык Бібліі на блізкую да народнай мову, яе каментатар і выдавец. Скарынінскія пераклады аказалі ўплыў на далейшае развіццё перакладчыцкай справы ўсх.-слав. народаў.

*Літ.*: 69; 584; 755; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; История книги, книжного дела и библиографии в Белоруссии. Мн., 1986. С. 117.

*У. М. Свяжынскі.*

**СКАРЫ́НА СІМЯО́Н РУС** (г. н. і см. невядомы), сын С. Упамінаецца ў дакуменце, падпісаным чэш. каралём Фердынандам І 29.1.1552, у якім за Сімяонам прызнана спадчыннае права на маёмасць, дакументы, кнігі, што засталіся пасля смерці бацькі — «каралеўскага садавода», а таксама ўскладваецца абавязак выплаціць даўгі нябожчыка. Дакумент апублікаваны ў 1885 чэш. археографам Ф. Дворскім, аднак з прычыны памылкі ў надрукаванні імя С. (замест Scoryn—Horyn) не звярнуў на сябе ўвагу даследчыкаў. Думку аб тым, што ў акце ідзе размова пра С., упершыню выказаў А. *Флароўскі* на 2-м з'ездзе слав. філолагаў у 1934 у Варшаве. Ён жа ў сваёй працы «Чэшская біблія...», надрукаванай у «Зборніку філалагічным Чэшскай Акадэміі Навук» (Прага, 1940—46), вядзе размову аб Сімяоне Русе, які ў 1584 быў ужо стары, жыў у Йіндржыхуў-Градцы (Паўднёвая Чэхія), працаваў у мясц. землеўладальнікаў садоўнікам. Флароўскі лічыць, што гэта той самы Сімяон, сын С.

*В. У. Чапко.*

**СКАРЫНАЗНА́ЎСТВА**, комплексная навук. дысцыпліна, якая вывучае жыццё і дзейнасць С., у больш шырокім плане — ранні перыяд гісторыі кніг і кніжнай справы на Беларусі і ў Літве. Выданні С. даследуе ў агульнакульт., філал., кнігазнаўчым, лінгвістычным, мастацтвазнаўчым, гісторыка-навук. аспектах. Метадалагічная аснова яго ў СССР і сацыяліст. краінах — марксісцка-ленінскае вучэнне, гіст. матэрыялізм. Дапаможныя дысцыпліны — крыніцазнаўства і *гістарыяграфія скарыназнаўства*. У склад скарыназнаўства ўваходзіць таксама бібліяграфія выданняў С. і л-ры пра яго жыццё і дзейнасць. Як навук. дысцыпліна пачало фарміравацца ў апошняй чвэрці 18 ст. (у 16 — сярэдзіне 18 ст. імя С. і яго выданні неаднаразова ўпаміналіся ў працах зах.-еўрап. аўтараў, у Расіі, на Беларусі і Украіне — у рукапісных вопісах манастырскіх і асабістых б-к). Пра друкаваную Біблію на «русском языке» ўпамінаў у 1559 П. Верджэрыо, які бачыў кнігу ў Вільні ў 1556. Упамінанні пра выданні С., цытаты з іх нярэдка сустракаюцца на старонках перакладаў С. Буднага. Спасылкі на С. можна сустрэць і ў палемічнай л-ры 17 ст. Польскі гісторык і бібліёграф С. Старавольскі (1588—1656) пісаў у 1625 пра выданні С., якія ён бачыў у Маскве і ўсюды на Русі». Гэта паведамленне ў 18 ст. паўтарылі франц. бібліёграф Жак Ле Лонг (1665—1721) і гісторык польскага кнігадрукавання Я. Д. Гофман (1701—1766).

Першы перыяд у гісторыі скарыназнаўства праходзіў пад знакам адкрыцця і вывучэння выданняў С., працягваўся прыкладна да 1870-х г. Першая ў айч. скарыназнаўстве публікацыя па тэксталагічнаму і мастацтвазнаўчаму вывучэнню выданняў С. належыць І. Р. *Бакмейсцеру*. Яна паслужыла крыніцай для ўпамінання «Пяцікніжжа» С. ў працах зах.-еўрап. гісторыкаў Свяшчэннага пісання І. Міхаэліса (1777), С. Айхгорна (1780) і інш. У 1783 паявіліся першыя публікацыі, прысвечаныя асобным выданням С. (П. А. *Аляксееў*, І. Г. Штрытэр). Аляксееў увёў у навук. ўжытак віленскі «Апостал» 1525, абгрунтаваў яго правільнае датаванне, якое на той час было спрэчным. Ён першы перадрукаваў тэксты С. (пасляслоўе да «Апостала» і т. зв. тэкст пра чырвоны колер). Штрытэр апісаў экземпляры 11 пражскіх выданняў С., 6 з іх уводзіліся ў навук. ўжытак упершыню. Праца Штрытэра — першае апісанне канкрэтных экземпляраў выданняў С. Ён параўнаў тэкст перакладаў С. з *Вульгатай* (па выд. 1714), з грэч. (па выд. 1759) і са слав. (па выд. 1756) Бібліямі і зрабіў вывад, што С. перакладаў «большай часткай з Вульгаты». Указанае ў пасляслоўях як месца выдання «великое место Празское» Штрытэр палічыў Прагай — прадмесцем Варшавы. Гэты памылковы пункт погляду пазней паўтарылі А. Л. Шлёцэр (1802), мітрапаліт Яўген — Я. А. Балхавіцінаў (1806), журналіст М. І. Грэч (1822). У 1786 Л. І. *Бакмейсцер* паведаміў пра набыты пецярбургскім кнігагандлёўцам І. Вогакам канвалют, у які ўваходзілі кнігі С., 5 з якіх былі ўпершыню ўведзены ў навук. ўжытак. Аднак гэта публікацыя не была заўважана даследчыкамі, і ўказаныя выданні прыйшлося «адкрываць» нанава. Л. І. Бакмейсцер пераканаўча заявіў, што біблейскія кнігі С. друкаваў у Празе, сталіцы Чэхіі. Гэта сцверджанне падтрымаў чэш. вучоны І. *Добраўскі*. У 1796 ён увёў у навук. ўжытак «Малую падарожную кніжку». Па агульнаму пасляслоўю Добраўскі ўстанавіў, што ў «Малую падарожную кніжку» ўваходзілі «Псалтыр» і «Каляндар» (г. зн. «Месяцаслоў»), якіх у яго экземпляры не было. З састаўных частак «Малой падарожнай кніжкі» ён упамянуў толькі «Часасловец», у канцы якога пазначана месца выдання — Вільня.

Вял. ўклад у скарыназнаўства зрабіў рус. бібліёграф В. С. *Сопікаў*, які ў 1813 у «Вопыце расійскай бібліяграфіі...» падрабязна апісаў усе пражскія (за выключэннем «Псалтыра» 1517) і амаль усе віленскія выданні С. З пражскіх выданняў 4 кнігі ён увёў у навук. ўжытак упершыню. З віленскіх выданняў яму былі вядомы «Апостал» 1525 (са збору П. Я. Чаадаева), «Псалтыр», які, на яго думку, быў надрукаваны каля 1525 у Вільні, а таксама «Канонік, або Акафіснік» (са збору Ф. Р. *Баузе*). Сопікаў упершыню пералічыў 14 акафістаў і канонаў, што ўваходзілі ў склад гэтага выдання, якое ён лічыў самастойным. Не былі названы толькі «Акафіст Ісусу», «Канон Ісусу» і «Канон пакаяльны». У 1-й ч. «Вопыту расійскай бібліяграфіі...» ён даў агульны нарыс гісторыі кнігадрукавання, у якім коратка апавядалася пра скарынінскія друкарні. Сопікаў — першы даследчык, які ўвёў дзейнасць С. ў кантэкст гісторыі слав. і зах.-еўрап. кнігадрукавання. Пазней па гэтым шляху пайшоў Добраўскі ў прадмове да «Граматыкі мовы славянскай...» (выд. на лац. мове 1822, Вена; рус. перакл. 1833, Спб.). С. Б. *Ліндэ* ўпершыню ўпамянуў пра рукапіс Варшаўскага ун-та, напісаны ў 1569 Лукой з Цярнопаля ў «няслаўным градзе Маначыне». Акрамя вядомых па пражскіх выданнях перакладаў С., у ім былі спісы 2 кніг «Параліпаменон», 4 кніг «Ездры» і кнігі «Товіт». Ліндэ ўпершыню звярнуў увагу даследчыкаў на пераклады С., невядомыя ў друкаваных выданнях. Працягваючы свае даследаванні па гісторыі слав. кнігадрукавання, Добраўскі ў 1814—15 апубл. у зб. «Славянка», выдадзеным у Празе, арт. «Дабаўленне пра скарынінскі пераклад «Бібліі» і «Плач Ераміі», перакладзены на рускую мову Францыскам Скарынаю». У першым арт. ён апісаў канвалют з 5 выданнямі С., які быў выяўлены ў епіскапскай б-цы г. Мукачава ў Закарпацці. У другім арт. апісаны фрагменты пражскага выдання «Бібліі» 1519, якія ён выявіў у пераплёце страсбургскага выдання 1539. Добраўскі параўнаў пераклад С. з Вульгатай і з «Маскоўскай бібліяй» 1663. Ён выявіў, што ў кнізе Т. Амброзія «Уводзіны ў халдзейскую мову, сірыйскую, армянскую...» (1539) прыводзяцца цытаты з кнігі «Царствы» С. Рукапісныя кнігі з перакладамі С. ўслед за варшаўскай знаходкай Ліндэ былі знойдзены і ў Расіі. У 1825 К. Ф. *Калайдовіч* і П. М. Строеў пазнаёмілі навук. грамадскасць з рукапісным зборнікам 16 ст.,

у які быў уключаны скарынінскі пераклад 6 кніг «Бібліі» з пасляслоўямі, у апошніх імя С. заменена імем «в лекарских науках доктора Василия Жугаева сына из Ярославля». Калайдовіч і Строеў апісалі таксама рукапісную копію 16 ст. кн. «Царствы» і рукапісную копію 16 ст. 5 інш. пражскіх выданняў. У 1825 у час. «Библиографические листы» П. І. *Кепен* апубл. «Храналагічны роспіс першадрукаваным славенскім кнігам» — 1-ы каталог старадрукаваных кніг, адноўленых кірылаўскім, глагалічным і лац. шрыфтамі. Былі апісаны выданні С. і названы б-кі, у якіх яны захоўваліся. Кепен упершыню ўвёў у навук. ўжытак «Шасцідневец» і «Саборнік» (уключаў «Святцы» і «Пасхалію»). У 1829 Строеў выдаў «Дакладнае апісанне старадрукаваных кніг славянскіх і расійскіх, якія захоўваюцца ў бібліятэцы... графа Фёдара Андрэевіча Талстога», у якім падрабязна апісаў усе пражскія выданні С. (без «Псалтыра» 1517) з б-кі Талстога, «Апостал» 1525 і канвалют з 10 акафістамі і канонамі. Як дадатак да гэтага выдання ён падрыхтаваў да друку «Палеаграфічныя здымкі шрыфтоў з XV стагоддзя па XVIII...». На старонках гэтага альбома (1829) упершыню былі рэпрадуктаваны тытульныя лісты і асобныя палосы пражскіх і віленскіх выданняў С. Пазней паяўляецца шэраг каталогаў дзярж. і асабістых збораў старадрукаваных кніг, у якіх былі выданні С.: «Каталог дакладны кнігам багаслоўскім царкоўнага і грамадзянскага друку, якія знаходзяцца ў 1-м аддзяленні бібліятэкі імп. Акадэміі навук» П. І. Сакалова (1832), «Рэестр старадрукаваных славянскіх кніг, якія знаходзяцца ў бібліятэцы А. С. Шыраева» (1833) і «Апісанне старадрукаваных кніг славянскіх, якія знаходзяцца ў бібліятэцы... Івана Мікітавіча Царскага» Строева (1836), «Усеагульная бібліятэка Расіі, або каталог кніг для вывучэння нашай айчыны ва ўсіх адносінах і падрабязнасцях» А. Дз. *Чарткова* (1838), «Роспіс кнігам і рукапісам імп. Расійскай Акадэміі» (1840), «Каталог славяна-рускіх кніг царкоўнага друку бібліятэкі А. І. Касцерына» В. М. *Ундольскага* (1848) і інш.

Маст. афармленню выданняў С. прысвечаны артыкул праф. Маскоўскага ун-та І. М. Снегірова (1782—1868), змешчаны ў «Працах і летапісах Таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх» (1830, ч. 5, кн. 1). Гэта публікацыя — дапаўненне да арт. П. М. Папова «Пра старажытнейшы партрэт цара Феодара Іаанавіча», змешчанага ў той жа частцы «Прац і летапісаў...». Снегіроў увёў у навук. ўжытак партрэт С., які знаходзіўся ў экземпляры кн. «Ісус Сірахаў» 1517 з б-кі Царскага. Рэпрадукцыя партрэта, гравіраваная на метале А. А. Фларовым, была змешчана ў часопісе, а потым — у «Палеаграфічных здымках шрыфтоў.., якія належалі да апісання старадрукаваных кніг славянскіх, што знаходзяцца ў бібліятэцы І. М. Царскага» Строева (1836). Рэпрадукцыя адрозніваецца ад арыгінала. Пасля яна была ўклеена ў асобныя экземпляры выданняў С. Некат. даследчыкі прынялі яе за арыгінальную гравюру і пусцілі версію аб тым, што партрэт С. існуе ў двух варыянтах, надрукаваных з 2 дошак. У 1847 Ундольскі апубл. вопіс кніг, якія паступілі ў 1675 г. ў Патрыяршую рызную казну, у 1848 — вопіс манастырскіх кніг (складзены ў 17 ст.), у якіх названы многія выданні С. Гэта дазволіла сцвярджаць, што выданні С. ў 17 ст. былі дастаткова шырока распаўсюджаны на Русі. Традыцыю храналаг. каталогаў старадрукаваных слав. выданняў, закладзеную Кепенам, прадоўжыў І. П. *Сахараў*, які, аднак, апісаў толькі выданні кірылаўскага шрыфту. У 1849 ён апубл. «Храналагічны роспіс славяна-рускай бібліяграфіі...», дзе апісаў пражскія і віленскія выданні С. і ўказаў месцазнаходжанне захаваных экземпляраў. Ён упершыню назваў 16 акафістаў і канонаў, у т. л. «Акафіст Ісусу» і «Канон Ісусу», якія не былі вядомы Сопікаву. У 2-й пал. 19 ст. былі выдадзены больш поўныя каталогі слав. старадрукаваных выданняў кірылаўскага шрыфту, сярод іх працы І. П. *Каратаева* і Ундольскага.

У 2-й пал. 19 ст. пачынаюць публікавацца архіўныя дакументы пра жыццё і дзейнасць С., паяўляюцца манаграфічныя даследаванні. У 1849 польскі гісторык і бібліёграф Ю. Мучкоўскі (1795—1858) апублікаваў запіс з прамацыйнай кнігі філас. ф-та Кракаўскага ун-та аб прысваенні ступені бакалаўра «Францыску з Полацка, Літвіну». Гэта дало падставу сцвярджаць, што С. атрымаў універсітэцкую адукацыю ў Кракаве. У 1858 у Вільні пад рэдакцыяй М. Круповіча быў выдадзены «Збор дзяржаўных і прыватных актаў, якія датычацца гісторыі Літвы і злучаных з ёю уладанняў...». Былі апублікаваны грамата Жыгімонта І ад 5.1.1532, якой С. вызваляўся ад судова праследавання за даўгі яго брата, і прывілей Жыгімонта І ад 21.11.1532, якім С. вызваляўся з-пад улады звычаёвага суда, а таксама ваявод, кашталянаў і старостаў. У апошнім дакуменце С. названы «Юрыем (або Георгіем) Францыскам». Гэтае адзінае ўпамінанне імя Георгій пазней парадзіла вял. л-ру пра тое, як сапраўды звалі С. (гл. *Імя і прозвішча Скарыны*). У 1862 аўстр. гісторык І. Фідлер апублікаваў у Вене інструкцыю польскаму паслу пры папскім прастоле з упамінаннем пра Біблію ««на рускай мове», якая была надрукавана ў Польска-Літоўскай дзяржаве і нібыта спалена ў Маскве. Гэты дакумент пазней палажылі ў аснову гіпотэзы пра паездку ў Маскву С. або Багдана Онкава, які фінансаваў яго выдавецкую дзейнасць. У 1882 у «Зборніку Рускага гістарычнага таварыства» сярод дыпламатычных дакументаў Маскоўскай дзяржавы пра сувязі з Польска-Літоўскай дзяржавай быў апублікаваны акт, у якім упамінаўся полацкі купец Лука Скарына — бацька бел. першадрукара. У 1885 чэш. археограф Ф. Дворскі апублікаваў акт чэш. караля Фердыus І ад 29.1.1552, у якім гаварылася пра спадчыну, што пакінуў С. На жаль, імя С. ў ім дадзена скажонае. Гэты дакумент асацыіравалі з дзейнасцю С. толькі ў 1930-я г. Іншыя акты пра знаходжанне С. ў Празе ў 1530-я г. ўведзены ў навук. ўжытак у 1889 К. Кёплем, аднак і яны доўгі час не былі вядомы гісторыкам слав. кнігадрукавання і біёграфам С. У 1892 І. А. *Шляпкін* апублікаваў дакументы пра экзамен на ступень доктара медыцыны, які С. ў 1512 вытрымаў у Падуанскім ун-це, а польскі археограф А. Хмель надрукаваў метрыку Кракаўскага ун-та, у якой пад 1504 знойдзены запіс пра паступленне ва ун-т «Францыска сына Лукі з Полацка».

Вял. ролю ў крыніцазнаўстве пытання адыграла вывучэнне *Метрыкі Вялікага княства Літоўскага.* Пры дапамозе С. Л. Пташыцкага (1853—1933) у Метрыцы ўдалося выявіць акты 1529 і 1535 (яны былі ў 1888 апубл. ў манаграфіі П. У. *Уладзімірава*) пра маёмасныя адносіны С. Акты дазволілі ўстанавіць важныя біягр. падрабязнасці, напр., звесткі пра імёны і маёмаснае становішча жонкі С. Маргарыты і яго брата Івана. Шэраг новых актаў з т. зв. Кароннай метрыкі, якія датычацца жыцця і дзейнасці С., увёў у навук. ўжытак у 1912 Ф. Ф. Вяржбоўскі (1853—1923). У 2-й пал. 19 ст. даследчыкі вывучалі рукапісныя копіі перакладаў С. У 1856 А. М. Пыпін (1833—1904) даследаваў спіс 17 ст. Бібліі ў перакладзе С. са збору Румянцаўскага музея. Архімандрыт Сава (І. М. Ціхамiраў, 1819—96) у «Паказальніку для агляду Маскоўскай патрыяршай (цяпер Сінадальнай) бібліятэкі» (1858) апісаў рукапісны зборнік 17 ст., у якім знаходзіліся 10 раздзелаў з 1-й кн. «Царствы» ў перакладзе С. У б-цы Ануфрыеўскага манастыра ў Львове Я. Ф. *Галавацкі* выявіў рукапісную Біблію, у якой былі «Пяцікніжжа», кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», 4 кн. «Царствы», 2 кн. «Параліпаменон» і пачатак малітвы Манасіі. Галавацкі даказаў, што тэкст біблейскіх кніг рукапісу амаль поўнасцю ідэнтычны тэксту выданняў С. У рукапісе былі прадмовы С., хоць і без упамінання яго імя. Асаблівую цікавасць мелі кнігі «Параліпаменон», якія ў друкаваных выданнях С. невядомы. Працяг рукапісу Ануфрыеўскага манастыра быў выяўлены ў зборы М. П. *Пагодзіна*. Рукапіс увёў у навук. ўжытак П. У. Уладзіміраў. У рукапісе зберагліся кн. «Ездры», «Товіт» і «Макавеяў», якія ў друкаваных выданнях С. невядомы. Гэтыя рукапісы далі падставу сцвярджаць, што С. пераклаў усю Біблію. Потым былі знойдзены і інш. спісы біблейскіх кніг С.— «Еклесіяст» 16 ст. са збору Ундольскага, рукапісны зборнік Супрасльскага манастыра з асобнымі кнігамі Бібліі ў перакладзе С. і інш. Цікавы ўкр. біблейскі кодэкс 1569 Лукі з Цярнопаля, пра які ўпамінаў яшчэ Ліндэ. Адносіны кодэкса да перакладаў С. вывучаў у 1902 З. Ю. Ціхоўскі.

Працы А. Я. *Віктарава* і Уладзімірава — вышэйшае дасягненне дарэв. скарыназнаўства. У 1867 Віктараў апублікаваў арт. «Цудоўнае адкрыццё ў старажытнарускім кніжным свеце», прысвечаны «Псалтыру» С. 1517, экземпляр якога быў выяўлены ў зборы А. І. *Хлудава.*

Віктараў быў адным з заснавальнікаў кнігазнаўчага метаду вывучэння выданняў. У 1888 Уладзіміраў выдаў манаграфію «Доктар Францыск Скарына. Яго пераклады, друкаваныя выданні і мова». Манаграфія адкрывалася грунтоўным аглядам л-ры пытання — першым у скарыназнаўстве гістарыяграф. даследаваннем. У ёй дадзены нарыс паліт. і сац.-эканам. гісторыі Беларусі і Літвы ў 15—16 ст. Аўтар упершыню разгледзеў дзейнасць С. на фоне «маральна-рэлігійнага разумовага жыцця». Асвятляючы біяграфію С., прывёў шэраг новых матэрыялаў з Метрыкі Вял. кн. Літоўскага і Віленскага цэнтр. архіва. Уладзіміраў быў першым, хто паспрабаваў паказаць асяроддзе С. Ён комплексна разгледзеў пражскія і віленскія выданні С., параўнаў пераклады С. з Вульгатай, «Генадзіеўскай біблiяй» 1499, чэш. Бібліяй, надрукаванай у 1506 у Венецыі, «Астрожскай біблiяй» 1581. Паводле Уладзімірава, асн. крыніцай для перакладаў С. была чэш. Біблія. Аналагічны вывад, хоць і недастаткова аргументаваны, яшчэ ў 1847 зрабіў І. І. *Первольф*. У манаграфіі Уладзімірава паказаны ўплыў выданняў С. на слав. кнігадрукаванне кірылаўскага шрыфту. Тут таксама былі ўпершыню комплексна разгледжаны рукапісныя копіі перакладаў С. Частка манаграфіі прысвечана мове выданняў С. У гэтай галіне ў Уладзімірава былі папярэднікі — П. І. *Жыцецкі*, Первольф (пазней лінгвіст. вывучэннем выданняў С. займаліся А. І. *Сабалеўскі*, Я. Ф. *Карскі* і інш.). У манаграфіі Уладзімірава надрукаваны кароткі слоўнік мовы С. Манаграфія Уладзімірава — першае комплекснае даследаванне жыцця і дзейнасці С. і яго выданняў, найб. грунтоўная і добра дакументаваная праца ў галіне скарыназнаўства. Яна выклікала шэраг водгукаў у друку [Сабалеўскі, М. В. *Доўнар-Запольскі*, Пыпін, А. І. Сцяповіч (1857—1935), А. С. *Будзіловіч* і інш.], некат. з іх былі крытычныя. Уладзіміраў адказаў на іх у дадатку да арт. «Пачатак славянскага і рускага кнігадрукавання ў XV і XVI стст.» (1894). У 2-й пал. 19 ст. выходзіць у свет «Гістарычная хрэстаматыя царкоўнаславянскай і старажытнарускай моў» (1861) Ф. І. Буслаева (1818—97). У ёй надрукаваны ўрыўкі з перакладаў С., якія ўпершыню суправаджаліся грунтоўнымі літаратуразнаўчымі і лінгвіст. каментарыямі. Літаратуразнаўчыя аспекты дзейнасці С. разглядалі таксама Пыпін і У. Д. Спасовіч (1829—1906) у «Гісторыі славянскіх літаратур» (1865, 1879), Пыпін у «Гісторыі рускай літаратуры» (1898, 1902, 1907, 1911) і інш. даследчыкі. Пачатак грунтоўнаму мастацтвазнаўчаму вывучэнню выданняў С. паклалі У. В. *Стасаў* і Дз. А. *Равінскі*. У дарэв. скарыназнаўстве многа ўвагі аддавалася палеміцы па другарадных пытаннях, напр. пра веравызнанне С.

Пытанне пра пачатак кнігадрукавання на Беларусі і ў Літве было карэнным чынам перагледжана сав. гістарыяграфіяй. Сав. навука дала тлумачэнне сац.-эканам. і культ.-гіст. прычын і вытокаў паяўлення друкарскага станка на тэр. нашай краіны. У працах сав. даследчыкаў паказана значэнне пачатку бел. кнігадрукавання ў гісторыі культуры бел. народа. Значна ўзбагаціўся і фактаграфічны бок пытання. Вывучэнне жыцця і дзейнасці С. вялося бесперапынна. Асабліва значныя поспехі звязаны з юбілеямі, якія ўрачыста адзначаліся ў краіне,— з 400-годдзем пачатку выдавецкай дзейнасці С. (1917), 400-годдзем Віленскай друкарні С. (1925), 475-годдзем з дня нараджэння С. (1965), 450-годдзем бел. кнігадрукавання (1967), 450-годдзем Віленскай друкарні С. (1975), 460-годдзем бел. кнігадрукавання (1977). Юбілеі былі адзначаны навук. сесіямі, выстаўкамі, новымі даследаваннямі, якія характарызуюць пэўныя этапы ў станаўленні і развіцці сав. скарыназнаўства: зборнік *«Чатырохсотлецце беларускага друку» 1525—1925* (1926), зборнік *«450 год беларускага кнігадрукавання»* (1968),. «Беларускі асветнік Францыск Скарына і пачатак кнігадрукавання на Беларусі і ў Літве» (М., 1979), «Францыск Скарына і некаторыя пытанні развіцця кнігі ў Савецкім Саюзе» (Вільнюс, 1979), 400-годдзе пачатку выдавецкай дзейнасці С. прыйшлося на 1917, калі ўмоў для правядзення юбілею не было. Аднак у 1918 у рэв. Петраградзе адбылася юбілейная выстаўка, у час. «Чырвоны шлях» апублікаваны арт. Карскага «Доктар Францыск Скарына. З нагоды 400-годдзя яго друкаваных выданняў (1517—1917)». Важнае крыніцазнаўчае значэнне мела публікацыя А. І. *Мілавідава* «Новыя дакументы, якія адносяцца да біяграфіі Францыска Скарыны». Мілавідаў увёў у навук. ўжытак 4 дакументы 1530 пра знаходжанне С. ў Кёнігсбергу. Літаратуразнаўчыя аспекты дзейнасці С. даследаваў М. І. *Гарэцкі*. У «Хрэстаматыі беларускае літаратуры. XI век — 1905 год» (1922) ён апублікаваў пераклады С. Паэтычную дзейнасць С., яго светапогляд вывучаў М. А. *Янчук*. У 1925 урачыста было адзначана 400-годдзе заснавання друкарні на бел. этнічнай тэрыторыі. Адбыліся ўрачыстыя сходы і навук. канферэнцыі. Сярод прысвечаных гэтай даце артыкулаў (І. В. *Война-Леановіч*, М. М. *Піятуховіч*, У. І. *Пічэта* і інш.) вылучаецца арт. М. М. *Шчакаціхіна* «Калі радзіўся Францішак Скарына». У ім аўтар выказаў гіпотэзу, што С. нарадзіўся 6 сак. 1486, калі ў Полацку назіралася зацьменне сонца. Падставай было тое, што С. амаль на ўсіх гравюрах змяшчаў выяву зацьмення сонца У 1925 у Вільнюсе выйшла даследаванне Л. К. Абрамовіча (1879—1939) «Чатыры стагоддзі кнігадрукавання ў Вільні. 1525—1925». Вял. навук. значэнне меў зборнік «Чатырохсотлецце беларускага друку. 1525—1925» (Мн., 1926). У ім упершыню на аснове марксісцка-ленінскай метадалогіі былі выкладзены сац.-паліт., эканам. і агульнакульт. перадумовы ўзнікнення кнігадрукавання на бел. землях. У 1926—28 былі выяўлены новыя актавыя матэрыялы пра жыццё і дзейнасць С. Польская даследчыца М. Вайцахоўская ў 1926 у рэцэнзіі на кнігу Абрамовіча «Чатыры стагоддзі кнігадрукавання ў Вільні...» і ў 1927 у даследаванні «З гісторыі кнігі ў Познані ў XVI ст.» расказала пра выяўленыя ёю ў пазнанскім архіве дакументы пра судовае праследаванне С., звязанае са спадчынай яго брата Івана. У 1928 Карскі ў час. «Известия по русскому языку и словесности» пазнаёміў чытача з адной з гэтых публікацый, а ў зб. «Беларускі архіў» (1928. Т. 2) быў апублікаваны акт 1535 пра маёмасныя ўзаемаадносіны С. і наследнікаў яго брата. У канцы 1920-х — пач. 1930-х г. даследаванні жыцця і дзейнасці С. вяліся далёка не з той інтэнсіўнасцю, якой яны заслугоўвалі. Першапрычына таму — выступленне ў 1928 В. Г. Кнорына, якое было накіравана супраць бурж. нацыяналістаў, што выкарыстоўвалі ў сваіх мэтах імя С. Справядліва крытыкуючы нацыяналістаў, Кнорын, аднак, даў памылковую ацэнку дзейнасці С., назваўшы яго «сярэдневяковым манахам», а яго справу як нецікавую для развіцця пралетарскай культуры. Гэтыя сцверджанні былі некрытычна ўспрыняты і развіты Л. Барбовічам, С. Вальфсонам, Э. Гірчакам і інш., якія пісалі пра т. зв. культ С., расцэньвалі святкаванне 400-годдзя бел. кнігадрукавання як «шумную нацыяналістычную дэманстрацыю». Гэта адмоўна паўплывала на развіццё скарыназнаўства на Беларусі. У Маскве і Ленінградзе даследаванні працягваліся, напр. А. І. Някрасаў даследаваў гравіраваныя ілюстрацыі і арнамент у выданнях С.

Значны ўклад у скарыназнаўства ўнёс А. В. *Флароўскі*. Ён упершыню звязаў з імем С. дакументы пра садоўніка каралеўскага бат. саду ў Празе, якія былі апублікаваны яшчэ ў 19 ст. Ф. Дворскім, К. Кёплем і І. Святэкам. Гэта дало падставу сцвярджаць, што ў 1530-я г. С. жыў у Празе і прымаў удзел у стварэнні аднаго з першых у Еўропе бат. садоў. Флароўскі звярнуў увагу і на ўпамінанне ў брашуры В. Гаска, прысвечанай пражскаму пажару 2.6.1541, пра гібель «падлетка Францішка, сына нябожчыка доктара Руса». На аснове гэтага ўзнікла адна з гіпотэз пра датаванне смерці С. каля 1541. Важная роля ў гісторыі скарыназнаўства належыць манаграфіі Флароўскага «Чэшская біблія ў гісторыі рускай культуры і пісьменнасці: (Фр. Скарына і прадаўжальнікі яго справы)», апублікаванай у Празе ў 1940—46. У 1945 у час. «Беларусь» была апублікавана серыя артыкулаў Ц. П. *Ломцева*, якія садзейнічалі ажыўленню цікавасці навук. і творчай грамадскасці да жыцця і дзейнасці С. Да гэтага часу адносяцца і першыя ўдалыя спробы адлюстраваць вобраз С. ў маст. л-ры. У 1946 выйшла з друку драм. паэма-трылогія «Георгій Скарына» М. *Клімковіча*, у 1951 быў апублікаваны гіст. раман М. Ф. *Садковіча* і Я. Л. Львова «Георгій Скарына». У 1978 была пастаўлена гіст. драма А. Л. *Петрашкевіча* «Напісанае застаецца». Мастацтвам выданняў С. займаўся і А. А. *Сідараў* («Гісторыя афармлення рускай кнігі», 1946, 1964; «Старажытнаруская кніжная гравюра», 1951). Першай

спробай комплекснага разгляду жыцця і творчай дзейнасці С. на аснове марксісцка-ленінскай метадалогіі была дысертацыя В. У. *Чапко* «Грамадская і культурная дзейнасць Георгія Скарыны», абароненая ў 1953. З пач. 1950-х г. у Ін-це мовазнаўства АН БССР даследуюцца (А. І. *Журайскі*) выданні С. як помнікі бел. мовы. Развіццё скарыназнаўства ў БССР у 1950—70-я г. праходзіла пад знакам лінгвіст. даследаванняў (У. В. *Анічэнка*, А. Я. *Баханькоў*, М. Г. *Булахаў*, А. М. *Булыка*, А. А. *Парукаў*, Л. М. *Шакун*, А. Е. *Апрымене*). Даследаванні пра мову выданняў С. публікаваліся ў «Працах Ін-та мовазнаўства АН БССР», зб. «Даследаванні па беларускай і рускай мовах» (1958, 1960), «Беларуская мова» (1965), «Беларускі лінгвістычны зборнік» (1966) і інш. У 1956 выйшла з друку кніга Чапко «Беларускі першадрукар Георгій Скарына» і брашура Л. І. *Уладзімірава* пра С. на літ. мове ў Вільнюсе. У 1958 выдадзена манаграфія М. А. *Алексютовіча* «Скарына, яго дзейнасць і светапогляд» — першае сав. манаграфічнае даследаванне жыцця і дзейнасці С. Алексютовіч адзін з першых з пазіцый марксісцка-ленінскай метадалогіі даў навук. аналіз светапогляду С. Праца яго адыграла значную ролю ў пасляваенным развіцці скарыназнаўства. Прадмову да кнігі напісаў У. М. *Перцаў*, які многа зрабіў для вывучэння грамадска-паліт. і філас. поглядаў С. Працы Перцава і Алексютовіча — аснова, на якой у 1970-я г. ў БССР узнік новы кірунак у вывучэнні дзейнасці С. Прадстаўнікі яго цікавіліся перш за ўсё філас. поглядамі бел. асветніка. Важным імпульсам развіцця скарыназнаўства з'явіліся юбілейныя ўрачыстасці, прысвечаныя 450-годдзю бел. кнігадрукавання. У 1966 выйшла навукова-папулярная кніга С. К. *Майхровіча* «Георгій Скарына» і новае выданне гіст. рамана Садковіча і Львова. У 1967 выдадзена капітальная праца Жураўскага «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» (т. 1), дзе даследуецца мова выданняў С. У час падрыхтоўкі да юбілею было апублікавана каля 100 артыкулаў, прысвечаных жыццю і дзейнасці С., у т. л. працы Алексютовіча, М. Б. *Батвінніка*, Булыкі, Г. Я. *Галенчанкі*, А. П. *Грыцкевіча*, Жураўскага, У. С. *Караткевіча*, К. К. Крапівы, Майхровіча, Я. Л. *Неміроўскага*, І. А. *Юхо* і інш. У час. «Нёман» у перакладзе Я. І. *Парэцкага* былі надрукаваны тэксты падуанскіх дакументаў аб прысваенні С. ступені доктара медыцыны. Матэрыялы дакладаў юбілейнай навук. сесіі ляглі ў аснову зб. «450 год беларускага кнігадрукавання» (1968). Зборнік адкрывае артыкул Чапко і А. П. Грыцкевіча «Эпоха Ф. Скарыны». С. А. *Падокшын* на старонках зборніка разгледзеў пытанне аб уздзеянні гусізму на грамадска-паліт. думку Беларусі і Літвы 15—16 ст. З. Ю. Капыскі апісаў Полацк часоў С., А. С. *Мыльнікаў* даследаваў сувязі С. з чэш. кнігадрукаваннем. Шэраг артыкулаў зборніка прысвечаны разгляду лінгвіст. практыкі С. (працы Баханькова, Булахава, Булыкі, Жураўскага, Шакуна). Арт. П. Н. Беркава «Ф. Скарына і пачатак усходнеславянскага вершаскладання» акрэсліў новы кірунак у скарыназнаўстве. У працах Галенчанкі, Неміроўскага, Парэцкага, М. І. *Прашковіча* разглядалася дзейнасць прадаўжальнікаў справы С.— друкароў, якія працавалі на Беларусі ў 16 ст. Заключала зборнік «Scoriniana» Флароўскага, які прадоўжыў працу Пічэты і прааналізаваў працы аб жыцці і дзейнасці С., што паявіліся з канца 1920-х г. У зборніку быў таксама змешчаны арт. Анічэнкі пра скарынінскія традыцыі на Украіне. Гэту тэму ён прадоўжыў у манаграфіі «Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі» (1969). Ін-т л-ры імя Я. Купалы АН БССР выпусціў зборнік «Прадмовы і пасляслоўі» С. (1969). Гэта публікацыя літ. спадчыны бел. асветніка, якую ажыццявіў А. Ф. *Коршунаў*, дала даследчыкам найважнейшы матэрыял, які раней прыходзілася адшукваць у многіх кнігасховішчах. Грунтоўны каментарый Коршунава ўключаў падрабязнае апісанне выданняў С. Зборнік «Прадмовы і пасляслоўі» адыграў значную ролю ў фарміраванні літаратуразнаўчага кірунку ў скарыназнаўстве (Коршунаў, В. І. *Дарашкевіч*, А. І. *Мальдзіс*, В. А. *Чамярыцкі*).

Важная крыніца для вывучэння дзейнасці С.— яго выданні. У 1968 Неміроўскі ў час. «Советское славяноведение» (№ 1) апублікаваў арт. «Славянскія інкунабулы і палеатыпы кірылаўскага шрыфта ў кнігасховішчах Савецкага Саюза», у якім апісваліся і кнігі С. У 1972 і 1976 ён дапоўніў гэты спіс, а ў 1978 апублікаваў апісанне выданняў С., у якім указаў камплектнасць усіх захаваных экземпляраў. У 1972 Л. Ц. *Баразна* апублікаваў усе гравюры выданняў С.— ілюстрацыі і арнамент. Гэта праца стварыла крыніцазнаўчую аснову для развіцця мастацтвазнаўчага кірунку ў сав. скарыназнаўстве (В. Ф. *Шматаў* і інш.). Працяг працы Баразны — «Паказальнік мастацкай аздобы пражскіх выданняў Францыска Скарыны» Неміроўскага (1979) з указаннем месцазнаходжання ўсіх фігурных гравюр, заставак, канцовак і ініцыялаў у выданнях С. У 1970-я г. паявіўся шэраг апісанняў экземпляраў выданняў С., якія захоўваюцца ў буйнейшых кнігасховішчах. В. І. Лук'яненка ў 1973 апісала віленскія выданні С. па экземплярах Дзярж. Публ. б-кі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (Каталог беларускіх выданняў кірылаўскага шрыфту XVI — XVII стст.), Галенчанка ў 1974 апісаў выданні С., якія захоўваюцца ў Дзярж. б-цы БССР імя У. І. Леніна. У 1976 Неміроўскі пазнаёміў даследчыкаў з 69 экз. пражскіх выданняў С., якія знаходзяцца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна. Ён жа ў 1978 даў комплекснае кнігазнаўчае апісанне ўсіх захаваных экземпляраў «Апостала» 1525. Ю. А. *Лабынцаў* у тым жа годзе падрабязна расказаў пра «Акафіснік» С., што знаходзіўся ў б-цы Вроцлаўскага ун-та.

Пошукамі новых архіўных матэрыялаў пра С. ў 1970-я г. займаўся Галенчанка. У арт. «Новае пра Францыска Скарыну» (1976) ён увёў у навук. ўжытак матэрыялы пра віленскае асяроддзе бел. асветніка. Вял. значэнне для развіцця скарыназнаўства ў пасляваенны перыяд меў знойдзены ў Каралеўскай б-цы ў Капенгагене экземпляр «Малой падарожнай кніжкі», у якім захавалася «Пасхалія» (першыя звесткі апублікаваны ў 1957 Х. Кроне, у СССР у 1972 — Коршунавым). Гэта дало падставу датаваць «Малую падарожную кніжку» прыблізна 1522. У 1979 Коршунаў апублікаваў поўны тэкст «Пасхаліі». На аснове «Пасхаліі» Галенчанка вывучаў астранам. аспекты дзейнасці С. («Каляндар» Францыска Скарыны, 1976; Астранамічныя звесткі ў выданнях Францыска Скарыны, 1979). Крыніцазнаўчыя распрацоўкі дазволілі значна павысіць навук. ўзровень прац у галіне скарыназнаўства. У 1975 шырока было адзначана 450-годдзе заснавання першай друкарні ў Вільнюсе. У гэты час выйшлі выданні Уладзімірава «Францыск Скарына — першадрукар вільнюскі», навукова-папулярная брашура Л. А. *Царанкова* «Францыск Скарына і яго час», бібліяграф. паказальнік «Францыск Скарына і Літва», які склала Д. Ю. Гінейцене. У зб. «Кніга. Даследаванні і матэрыялы» быў апублікаваны арт. А. І. *Анушкіна* «Віленская друкарня Скарыны». У юбілейныя дні ў Вільнюсе праведзена навук. канферэнцыя «Францыск Скарына і некаторыя пытанні развіцця кнігі ў Савецкім Саюзе». У 1979 у спец. выпуску вільнюскага зб. «Кнігазнаўства» былі апублікаваны даклады Анушкіна, Галенчанкі, Жураўскага, Коршунава, Неміроўскага, І. С. Петраўскене, Уладзімірава і інш., з якімі яны выступалі на канферэнцыі. У 1970-я г. прадаўжалі вывучацца лінгвіст. аспекты дзейнасці С. (М. Р. Суднік, Жураўскі і інш.). У 1977—84 выйшаў 2-томны «Слоўнік мовы Скарыны», складзены Анічэнкам. Абагульняльны характар мела дысертацыя Апрымене «Мова «Апостала» Францыска Скарыны 1525 г.» (1977).

У снеж. 1977 у Маскве адбыліся *Фёдараўскія чытанні*, прысвечаныя жыццю і дзейнасці С., на якіх з дакладамі выступілі рус., бел., укр. і літ. вучоныя. Вучоны савет па гісторыі сусв. культуры АН СССР у 1979 на аснове матэрыялаў Фёдараўскіх чытанняў выдаў зб. «Беларускі асветнік Францыск Скарына і пачатак кнігадрукавання на Беларусі і ў Літве», у якім разглядаліся розныя аспекты дзейнасці бел. асветніка. Мыльнікаў прысвяціў сваё даследаванне пражскім, а Уладзіміраў — віленскаму перыядам жыцця і дзейнасці бел. першадрукара, Т. М. *Капрэева* ўпершыню вывучыла сувязі С. з рус. рукапіснай традыцыяй 15 ст. У зб. літаратуразнаўчым аспектам скарыназнаўства прысвечаны арт. Чамярыцкага «Францыск Скарына і станаўленне беларускай літаратуры», лінгвіст.— арт. Жураўскага «Мова прадмоў Францыска Скарыны» і Булыкі «Заходнеславянская лексіка ў выданнях Францыска Скарыны», мастацтвазнаўчым — арт. Шматава «Мастацтва выданняў Францыска Скарыны». У 1960—70-я г. адзна-

чаецца ажыўленне нацыяналіст. гістарыяграфіі, якая мае антысав. і антыкамуніст. характар (В. Тумаш). У арт. Галенчанкі дадзена крытыка бурж.-нацыяналіст. пабудоў у вывучэнні жыцця і дзейнасці С. У другім яго артыкуле, змешчаным у гэтым зборніку, на падставе літаратурных крыніц прыведзены звесткі пра кнігі С. ў бел., рус. і ўкр. зборах 16—17 ст. Гістарыяграф. характар маюць апублікаваныя ў зборніку працы Батвінніка і С. Р. Доўгавай. Новы гісторыка-філас. кірунак у скарыназнаўстве быў прадстаўлены даследаваннямі У. М. *Конана* і Падокшына. Вынік развіцця гэтага кірунку — калектыўная манаграфія «Ідэі гуманізму ў грамадска-палітычнай і філасофскай думцы Беларусі (дакастрычніцкі перыяд)» (1977) і манаграфіі Падокшына «Скарына і Будны. Нарыс філасофскіх поглядаў» (1974) і «Францыск Скарына» (1981). У выдадзенай Неміроўскім працы «Пачатак кнігадрукавання на Беларусі і ў Літве. Жыццё і дзейнасць Францыска Скарыны. Апісанне выданняў і паказальнік літаратуры. 1517—1977» (1978) змешчаны бібліяграф. апісанні больш за 1400 кніг, часопісных і газетных артыкулаў, якія апублікаваны з 1541 да крас. 1977. У 1982 выйшаў складзены В. Н. *Дышыневіч* анатаваны паказальнік твораў л-ры і мастацтва «Францыску Скарыне прысвечаныя».

Сярод прац, прысвечаных С., якія выдадзены ў апошні час за мяжой,— артыкул чэш. кнігазнаўцы Ф. *Сокалавай* «Аб некаторых праблемах жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны» (1978). Яна ўвяла ў навук. ўжытак новыя фрагменты выданняў С., знойдзеныя ў Празе, падрабязна разгледзела другі пражскі перыяд жыцця бел. асветніка. У 1979 ЮНЕСКА выдала ў Парыжы на франц., а ў 1980 на англ. мове працу Чамярыцкага, Галенчанкі і Шматава «Францыск Скарына», якая пазнаёміла міжнар. навук. грамадскасць з жыццём і дзейнасцю вял. бел. асветніка (гл. *Выданне ЮНЕСКА пра Ф. Скарыну*).

Асоба С., яго жыццё і дзейнасць знаходзяцца таксама пад увагай бурж. гістарыяграфіі, якая ў сваіх паліт. і ідэалаг. мэтах выкарыстоўвае ідэі нацыяналізму і яго прадстаўнікоў. У іх працах адмаўляюцца агульныя заканамернасці гіст. развіцця Еўропы, Маскоўскай Русі і Вял. кн. Літоўскага, у т. л. Беларусі, фальсіфіцыруюцца агульныя ўмовы кнігавыдавецкай дзейнасці С., прыніжаюцца дасягненні сав. даследчыкаў у вывучэнні дзейнасці бел. першадрукара і яго паслядоўнікаў.

У сувязі з 500-годдзем з дня нараджэння С. АН БССР распрацавала «Скарынінскую праграму», ажыццяўленне якой дасць новы штуршок развіццю скарыназнаўства. 30—31.10.1986 у Мінску адбыліся першыя *Скарынінскія чытанні*.

*Літ.*: 52; 96; 114; 206; 248; 312; 343; 881.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**СКАРЫ́НІНСКАЯ СПА́ДЧЫНА Ў РУКАПІ́САХ ЯГО́ ПАСЛЯДО́ЎНІКАЎ НА УКРАІ́НЕ.** Скарынінская літаратурна-пісьмовая спадчына найб. прыкметны след пакінула на суседняй Украіне, дзе яна, як і на Беларусі, служыла культурна-асв. мэтам. Наяўнасць вял. колькасці скарынінскіх друкаваных выданняў у б-ках і архівах Украіны — пэўнае пацвярджэнне гэтага факта. Яго кнігі служылі прыкладам для ўзнікнення тут у 16 ст. рукапісных спісаў, нават са скарынінскімі прадмовамі і пасляслоўямі.

Да ліку вядомых папулярызатараў скарынінскіх друкаваных выданняў належыць укр. гуманіст Васіль Жугаёў з Яраслаўля Галіцкага, які ў 1568 стварыў рукапісныя спісы з некат. пражскіх выданняў С. (кн. «Іоў», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Прамудрасць божая», «Песня песням»), з прадмоў і пасляслоўяў да іх, замяніўшы пры гэтым скарынінскае імя сваім. Яго друкаваныя тэксты з'явіліся не толькі тэкстуальнай, але і моўнай асновай для аднайм. рукапісных спісаў Жугаёва. Ён зафіксаваў у рукапісных тэкстах многія скарынінскія агульнанар. (бел.-укр.) моўныя рысы, што захаваліся ў бел. і ўкр. мовах да апошняга часу: ужыванне галосных **ы, и** на месцы рэдукаваных **ъ, ь** перад j (**крыють, шіи**), традыцыйнае чаргаванне заднеязычных **г, к, х** са свісцячымі **з, ц, с** (**в сеи книзѣ, в наоуцѣ, въ грѣсѣ**), наяўнасць форм на **-и** ў месным склоне назоўнікаў жан. роду адз. ліку былых асноў на **-а** (**на земли**), канчатак **-евь** у склонавых формах некат. назоўнікаў муж. роду мн. ліку былых асноў на **-о** (**товаришевь**), выкарыстанне дзееприметнікавых форм незалежнага стану цяперашняга часу на **-чи** (**умеючи, чтоучи, хотячи**). Адна з асн. асаблівасцей лексічнай арганізацыі друкаваных выданняў С. і рукапісных тэкстаў Жугаёва — іх лексічнае супадзенне. Гэта абумоўлена тым, што лексіка бел. і ўкр. моў у старaж. перыяд была амаль тоесная. Таму шматлікія лексемы скарынінскай эпохі без прыкметных унутрыструктурных і семантычных змен былі выкарыстаны Жугаёвым і захаваліся ў абедзвюх мовах да нашых дзён, напр., **ведати, вельми, гукъ, знаемый, помста, потреба, потребный, праца, разумети, свитанье, тяжкий, чути, оучинити.** Асобнае месца ў рукапісах Жугаёва займалі некат. асаблівасці бел. мовы, уведзеныя перапісчыкам у свой тэкст пад уплывам скарынінскіх друкаваных выданняў. Так, па ўзору свайго папярэдніка Жугаёў часам пісаў **е** замест этымалаг. **ѣ** (**тръпеніе, телесныи, болести, оуменіа**), ужываў цвёрдае **ц** (**рѣпица, сердца, палица, пьяница**) і толькі ў некат. выпадках аддаваў перавагу спецыфічным рысам укр. мовы і замяняў імі бел. напісанні. Напр., пад уплывам укр. вымаўлення ў рукапісных тэкстах допускалася напісанне галоснага **и** замест **е**, якое ўжываў С. на месцы этымалаг. **ѣ**: **ездить — издять, ежь — ижь, приехалъ — приіхалъ, свидетель — свидитиль.** У адрозненне ад скарынінскіх стардрукаў рукапісныя спісы Жугаёва аказаліся ў большай залежнасці ад царк.-слав. моўнага ўплыву. Скарынінская моўная сістэма нярэдка парушалася на розных узроўнях. На арфаграфічна-фанетычным узроўні гэта сказалася ў тым, што Жугаёў больш паслядоўна ўжываў этымалагічна і гістарычна заканамернае **ѣ** (**лето — лѣто, дедѣ — дѣдь, рѣка — рѣка**), спалучэнне рэдукаванага складовага **ъ** з папярэднімі плаўнымі ў становішчы паміж зычнымі (**крови — кръви, плоти—плъти**), напісанні рэдукаванага складовага **ъ** пасля плаўнага ў становішчы паміж зычнымі (**долгота — длъгота, исполнити — исплънити**), неётаваныя спалучэнні галосных па стараслав. ўзору (**надея — надѣа, почесная — почеснаа, левая — лѣваа, пріятелка — пріателка**), спалучэнні **гы, кы, хы** на месцы скарынінскіх **ги, ки, хи** (**великихъ — великыхъ, науки — наоукы, хитрости — хытрости**), спалучэнне **і** плюс галосны (**платье — платіе, печатью — печатію, болестью — болестію**). На граматычным узроўні рукапісныя тэксты Жугаёва адрозніваліся ад скарынінскіх тым, што ў іх аднаўляліся канчатак **-ѣ** у формах назоўнікаў жан. роду адз. ліку роднага склону былых асноўна **-а** (**земли — землѣ, милостыни — милостынѣ**), формы на **іи** ў родным склоне назоўнікаў мн. ліку (**людеи — людіи, мастеи — мастіи, путеи — путіи**), часцей, чым у С., выкарыстоўваўся канчатак **-аго** ў склонавых формах прыметнікаў, дзеепрыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў і неасабовых займеннікаў муж. і ніякага роду ў родным склоне адз. ліку (**стареишого — стареишаго, избранного — избраннаго, девятого — девятаго, самого — самаго**), а ў назоўным (вінавальным) склоне мн. ліку гэтых граматычных разрадаў пераважаў канчатак **-ыи (-ии)** (**годные — годныи, краснеишие — краснѣишіи, текущии — текоущіи, вторые — вторыи, тые — тыи**) або **-ыя (-ия)** (**железные — желѣзныя, сотвореные — сътвореныя, первые — пръвыя, которые — которыя**), формы аорыста і імперфекта (**поминула есми — поминоухь, видели есте — видѣсте, рекль есмъ — рекохь, поживалъ — пожива**), ранейшы канчатак **-ѣте** ў заг. ладзе другой асобы мн. ліку (**примите — пріимѣте, принесите — принесѣте, придите — приидѣте**), прыназоўнік (прыстаўка) у форме **отъ-** (**одъ престола — отъ престола, одъшолъ — отъшолъ**). Мова рукапісных спісаў Жугаёва не выяўляе адзінства са скарынінскімі старадрукамі і ў лексічных адносінах. У адных выпадках некат. лексемы старабел. мовы, выкарыстаныя С., Жугаёў замяняў адпаведнымі царк.-слав. (**всегда — внегда, деля, для — ради, учинити — сътворити, я — азь, которыи — кои**). У другіх выпадках дапускалася ўжыванне інш. слоў, блізкіх да сінонімаў (**гневъ — злость, глаголати — речи, чили — или**): адны і тыя ж словы мелі розныя словаўтваральныя мадэлі (**лепеи — лѣпшеи, матка — матерь, пупокъ — пупь, маленько — мало**). Наяўнасць большай колькасці царк.-славянізмаў у рукапісных спісах Жугаёва ў параўнанні са старадрукаванымі выданнямі С. абумоўлена складанымі культ. і паліт. ўмовамі жыцця бел. і ўкр. народаў на працягу доўгага часу. У аднаўленні царк.-слав. моўнай традыцыі вядучая роля належыць Украіне. Гэта абумоўлена яе суседствам са слав. Поўднем, а таксама перамяшчэннем у 1-й пал. 17 ст. цэнтра правасл. культуры з Вільні ў Кіеў, дзе асабліва ўзмацнілася ў той час супрацоўленне ўкр. народа

польска-каталіцкай агрэсіі. Уплыў царкоўнаславянізмаў на перакладную бел. пісьменнасць быў меншы, відаць, таму, што праваслаўе на Беларусі пасля міграцыі цэнтраў (Вільня — Кіеў) не перажывала такога пад'ёму, як на Украіне.

Пражскія выданні С. паслужылі асновай для ўзнікнення Цярнопальскага рукапіснага спіса 1569 (захоўваўся ў б-цы Красінскіх у Варшаве). Ён уключае некат. кнігі Старога і Новага запаветаў у тым парадку, у якім яны пададзены С., з той толькі розніцай, што імя С. заменена тут імем перапісчыка Лукі. Пра папулярнасць скарынінскіх выданняў на Украіне сведчыць таксама рукапісны спіс, зроблены «пісарчыкам» Дзмітрыем з Зенькава (Падолле) у 1575 (захаваўся ў б-цы Ануфрыеўскага манастыра ў Львове). У ім без указання імя С. змешчаны кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон», «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», «Царствы» і ненадрукаваныя кнігі С.— «Параліпаменон», «Ездры», «Товіт» і першая няпоўная кн. «Макавеяў». У моўных адносінах гэты рукапіс адрозніваецца ад скарынінскіх друкаваных тым, што «пісарчык» Дзмітрый па той жа прычыне, што і Жугаеў, аддаваў перавагу некат. стараслав. (царк.-слав.) моўным рысам, вядомым многім тагачасным царк.-рэліг. помнікам Украіны. Працяг гэтага рукапісу — спіс, створаны ў «градѣ Маначінѣ», які, як мяркуюць, узыходзіць да скарынінскіх перакладаў (захоўваецца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе).

Скарынінская літаратурна-пісьмовая спадчына з'явілася ўзорам для ўзнікнення на Украіне перакладаў на нар. мову тэкстаў Свяшчэннага пісання, змешчанага ў яго Перасопніцкім евангеллі (1556—1561). Стваральнікі яго (паповіч Міхаіл Васілевіч і архімандрыт Перасопніцкага манастыра Рыгор) пад уплывам свайго папярэдніка С. кіраваліся не толькі жаданнем перакласці на «простую» мову кананічныя тэксты Свяшчэннага пісання, але і грамадскай карыснасцю свайго перакладу. Стваральнікі Перасопніцкага евангелля выкарысталі таксама паліграф. і выдавецкі вопыт С., асабліва ў капіраванні загалоўных літар у пачатку раздзелаў абзацаў рукапіснага тэксту.

Прадаўжальнікі С. на Украіне папулярызавалі і развівалі ў сваіх творах асобныя скарынінскія настаўленні, выкладзеныя ім у прадмове да ўсёй «Бібліі». Найб. паслядоўным у гэтых адносінах быў укр. публіцыст-палеміст І. Вішанскі. У сваім творы «Зачэпка мудрага лаціnніка» (1600—17) ён пераклікаўся са С., калі гаварыў пра свецкі характар навучання і адпаведнасць царк.-рэліг. літаратуры т. зв. вольным навукам. Каб навучыць грамаце, С. рэкамендаваў чытаць «Псалтыр», каб зразумець логіку — кн. «Іоў» і г. д. (гл. ў арт. *«Сем вольных мастацтваў»*). У такім жа плане, як і С., выказваўся Вішанскі. Ён клапаціўся, каб прыхільнікі праваслаўя не страцілі сваёй веры, і прапанаваў пры вывучэнні граматыкі (грэчаскай або славянскай) чытаць «Часасловец», рыторыкі — «Псалтыр», філасофіі — «Актоіх», «Прѣдспѣнія» — евангельскія і апостальскія пропаведзі.

Рэалізацыя літаратурна-пісьмовай спадчыны С. на Украіне выяўлялася і ў тэрміналагічным аспекце — у перайманні укр. пісцамі пераноснага значэння некат. скарынінскіх лексем. У пасляслоўях да сваіх друкаваных выданняў для абазначэння паняцця «надрукаванага» (кніга) С. карыстаўся стандартнай лексемай «вытиснена». У «Апостале» сустракаецца выраз, дзе гаворыцца, што пасланне апостала Паула да галатаў «Богу во троици прещедъром выложено, выбито доктором Франциском Скориною изъ града Полоцка». У прыведзеным кантэксце слова «выбіта» ўжыта ў пераносным значэнні «надрукавана». Такое значэнне гэтага слова пад уплывам скарынінскага «Апостала» сустракаецца ва ўкр. дзелавой пісьменнасці 16 ст., напр., у «Вопісу царкоўнай маёмасці Кіева-Пячэрскага манастыра» (1554) у выразе «Уставы два, а третея полуставъ битая».

Агульнаслав. дзейнасць С. як асветніка і кнігавыдаўца мела вял. значэнне для навукова-культ. развіцця не толькі Беларусі, але і Украіны, дзе яна з'явілася ўзорам і матэрыялам для ўзнікнення рукапісных спісаў рознага зместу. Гл. таксама арт. *Скарына і пачатак кнігадрукавання на Украіне.*

*Літ.:* 16; 473; 474. *У. В. Анічэнка.*

**СКАРЫНІНСКІЯ НАЙМЕННІ.** Імя С. прысвоена друкарні выдавецтва «Навука і тэхніка» ў Мінску (1967), педагагічнаму вучылішчу ў Полацку (1964). Яго імем названы вуліцы ў гарадах Віцебск, Мінск (і завулак), Нясвіж, Орша, Полацк (і плошча), Слуцк, у г. п. Шаркоўшчына. У 1967 зацверджаны *Дыплом імя Ф. Скарыны*, які разам з юбілейным медалём прысуджаецца на Рэсп. конкурсе «Мастацтва кнігі». У Англіі існуе *Беларуская бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане* (1971).

Есць звесткі, што да Вял. Айч. вайны імя С. насіла Беларуская гімназія ў Радашковічах, Беларуская друкарня ў Вільні і завулак у Полацку (каля Сафійскага сабора). Мяркуюць, што менавіта тут знаходзіўся дом, у якім нарадзіўся С. У 1953—59 існаваў Полацкі педагагічны ін-т імя Ф. Скарыны. *С. В. Кузьмін.*

**СКАРЫНІНСКІЯ ТРАДЫЦЫІ Ў ВІЛЬНЮСЕ.** Пад такой назвай адбыліся лінгвістычныя чытанні ў Вільнюскім ун-це імя В. Капсукаса 26—27.4.1984. Удзельнічалі вучоныя Вільнюса, Масквы, Мінска, Гомеля і інш. гарадоў. Прачытана 11 дакладаў, 6 было прадстаўлена на стэндах. С. былі прысвечаны даклады: «Ф. Скарына і Вільнюс» Л. В. Судавічэне, «Новае ў Скарыніяне пасляваеннага перыяду» Л. І. Уладзімірава, «Роля віленскіх выданняў Ф. Скарыны ў дэмакратызацыі кніжнаславянскай мовы» У. В. Анічэнкі, «Стылістыка скарынінскіх прадмоў» Л. М. Шакуна, «Ф. Скарына і традыцыі ўжывання царкоўнаславянскай мовы ў старабеларускай пісьменнасці» І. І. Крамко і А. І. Мальдзіса, «Лінгвістычнае наватарства віленскіх выданняў Ф. Скарыны» А. А. Парукава, «Роля скарынінскіх выданняў у кадыфікацыі нормаў беларускага тыпу кніжнаславянскай мовы і адлюстраванне іх у Віленскіх граматыках 16—17 стст.» Дз. Дз. Паўлаўца. У іх падкрэслена вял. роля С. ў грамадска-паліт. развіцці ўсх.-слав. народаў, у дэмакратызацыі царк.-слав. пісьменнасці за кошт увядзення ў яе элементаў жывой мовы. Адзначалася, што С., вярнуўшыся на Радзіму, хацеў зрабіць Вільню цэнтрам «рускага» кнігавыдавецтва не толькі ў Вял. кн. Літоўскім, але ўсяго ўсх. славянства.

*Літ.:* 22. *І. І. Крамко.*

**СКАРЫНІНСКІЯ ЧЫТАННІ,** навуковая канферэнцыя, прысвечаная праблемам *скарыназнаўства*, якая адбылася 30—31.10.1986 у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа АН БССР. У канферэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі н.-д. устаноў АН БССР, АН УССР і АН Літ. ССР, філосафы і гісторыкі, літаратура- і мастацтвазнаўцы, лінгвісты, бібліёграфы, мастакі і пісьменнікі з Беларусі, Масквы, Ленінграда, Вільнюса, Кіева, Рыгі, Калугі. Чытанні адкрыў чл.-кар. АН БССР В. А. Каваленка, з уступным словам выступіў віцэ-прэзідэнт АН БССР акад. АН БССР І. Я. Навуменка. Былі заслуханы даклады: «Скарыназнаўства: вынікі і перспектывы» (Я. Л. Неміроўскі), «Індывідуальнасць Скарыны» (А. А. Лойка), «Вывучэнне спадчыны Ф. Скарыны ў Літве» (Л. І. Уладзіміраў), «Францыск Скарына і філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі» (С. А. Падокшын), «Скарына і беларускі верш» (М. М. Грынчык), «Дакументы пра Скарыну: гісторыя іх адкрыцця, публікацый, інтэрпрэтацый, новыя знаходкі» (В. І. Дарашкевіч), а таксама паведамленне А. Л. Петрашкевіча аб падрыхтоўцы энцыклапедычнага даведніка «Францыск Скарына і яго час». У дакладах, якія былі зроблены ў час работы 2 секцый, разгледжаны пытанні: Полацк скарынінскага часу (З. Ю. Капыскі), ідэал С. (У. А. Калеснік), маральна-этычныя і эстэтычныя сімвалы ў творчасці С. (У. М. Конан), бел. кнігадрукаванне 16 — 1-й палавіны 17 ст. (Г. Я. Галенчанка), рукапісныя спісы выданняў С. (А. М. Пяткевіч), рукапісная кніга на Беларусі ў час С. (М. В. Нікалаеў), паэтыка прадмоў і пасляслоўяў С. (У. Г. Кароткі), С. і праблемы развіцця новай бел. л-ры ў даскастрычніцкі перыяд (А. К. Каўко), лінгвіст. наватарства С. і дэмакратызацыя кніжна-славянскай мовы (У. В. Анічэнка), надпісанні глаў як частка літаратурнай спадчыны С. (Ю. А. Лабынцаў), літаратурныя крыніцы некат. прадмоў С. (В. А. Чамярыцкі), С. і беларуска-літоўскае літаратурнае ўзаемадзеянне (А. І. Мальдзіс), чытачы выданняў С. ў 16—17 ст. (М. Б. Батвіннік), рукапісная кніга 16 ст. ў фондах Цэнтр. навук. б-кі АН УССР (Л. А. Дубровіна), партрэт С. і яго копіі (В. Ф. Шматаў), гравюры выданняў С. і ілюстрацыі ням. інкунабул (В. Р. Пуцко).

Было зроблена 12 паведамленняў: некат. асаблівасці скарынінскай эпохі (П. А. Лойка), быт беларусаў у час С.

(І. Г. Чаквін), гіпотэза аб тым, што ў 1512—17 С. служыў пісцом у гаспадара Валахіі (Э. П. Гячаўскас), месца С. ў літ. культуралогіі (І. І. Шлякіс), скарынінскія традыцыі ў бел. кнігадрукаванні 19 ст. (Я. С. Умецкая), аб выданнях С., якія зберагаюцца ў вільнюскіх сховішчах (Ю. П. Тумяліс), бібліяграф. дзейнасць С. (В. Н. Дышыневіч), аб яго паэтычных здольнасцях (І. В. Саверчанка), аб уплыве кніжных ілюстрацый С. на ўпрыгожанні ўрэцка-налібоцкага шкла (М. М. Яніцкая), аб увасабленні вобраза С. ў творчасці Я. Драздовіча (В. В. Церашчатава) і ў медальерным мастацтве (А. Я. Белы), аб першых даследаваннях творчасці С. ў Сав. Беларусі (В. М. Белакурскі). У дыскусіях выступілі У. М. Казбярук, М. Ф. Спірыдонаў, І. А. Юхо, А. С. Яскевіч і інш. Да канферэнцыі была падрыхтавана маст. выстаўка «Скарыніяна» з калекцыі Белага. На аснове матэрыялаў чытанняў падрыхтаваны да друку зборнік навук. прац.

*Літ.:* Сідарэвіч А. Першыя Скарынаўскія... // Літ. і мастацтва. 1986. 28 лістап.

*С. В. Кузьмін.*

**СКЕПТЫЦЫ́ЗМ** (франц. scepticisme ад грэч. skeptikós літар. той, хто разглядае, даследуе), філас. погляд, паводле якога чалавеку недаступны безумоўна дакладныя веды і ён пазбаўлены надзейных крытэрыяў ісціны.

Падкрэсліваючы шматграннасць і зменлівасць быцця, а таксама непаўнату і адноснасць уяўленняў чалавека пра свет, скептыцызм падрываў пазіцыі дагматызму, аўтарытарызму, сляпой артадоксіі. Аднак абсалютызуючы абмежаванасць чалавечага пазнання, скептыцызм у сваіх крайніх формах прыходзіць да сумнення ў магчымасці аб'ектыўных ведаў наогул. Гістарычна выступаў у розных формах крытычнай апазіцыі філасофска-светапоглядным прынцыпам, пануючым у грамадскай свядомасці пэўнай эпохі, што прадвызначала неадназначнасць сацыяльна-культ. функцыі яго ідэй. У антычнай філасофіі аформіўся ў самаст. кірунак філас. думкі, які бярэ пачатак ад Пірона з Эліды (4 ст. да н. э.) і дасягнуў росквіту ў платонаўскай Акадэміі пры Аркесілаі і Карнеадзе (3—2 ст. да н. э.). Абвясціўшы бачнасць адзінай рэальнасцю, антычныя скептыкі засяродзіліся на пошуку крытэрыяў практычных паводзін чалавека, бачылі іх у «разумнай імавернасці». Позні скептыцызм (Энесідэм, Агрыпа, Секст Эмпірык, 1 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.) даводзіў да крайнасці сумненне ў існаванні верагодных ведаў, пераходзячы на пазіцыі агнастыцызму і нігілізму.

У сярэднявечча скептыцызм адыгрываў пераважна прагрэс. ролю як сродак разбурэння царк. дагматызму, жывіў традыцыю рэліг. вальнадумства. Прынцыпова новы змест атрымаў у кантэксце гуманіст. культуры *Адраджэння.* Рэнесансавы скептыцызм азначаў паўстанне супраць улады дагматычнай традыцыі і сляпога пакланення аўтарытэтам, заклік да свабоды думкі. Ён ставіў пад сумненне ўсё, што раней прымалася на веру, абвяшчаў вышэйшым суддзёй розум чалавека, проціпастаўляў фідэізму *рацыяналізм.* Як канстытуцыйны элемент гуманіст. светаразумення, якое адмаўляе схаласт. спосаб мыслення, скептыцызм рыхтаваў глебу новай навуцы, новым маральным і эстэт. каштоўнасцям. Ідэі скептыцызму ў гэту эпоху знайшлі выразнае выяўленне ў творах *Мікалая Кузанскага, Эразма Ратэрдамскага,* М. Мантэня. Разам з традыцыяй гуманіст. культуры найб. прагрэсіўныя ідэі рэнесансавага гуманіст. скептыцызму арганічна ўпітаў С. У творчасці бел. мысліцеля выразна выступае імкненне да вызвалення чалавечага розуму з-пад уплыву дагматычных аўтарытэтаў, прызнанне самастойнай практычнай каштоўнасці прыродных ведаў. Вальнадумства вядзе С. да ідэі *дваістай ісціны,* якая служыла сродкам разняволення чалавечай думкі ва ўмовах засілля рэліг. схаластыкі. «Житейскую мудросць» С. ставіў нараўне з «божественной» (гл. с. 46) і адначасова выказваў сумненне ў магчымасці рац. абгрунтавання многіх палажэнняў Бібліі. Напр., кн. «Быцццё», дзе апавядаецца пра стварэнне свету з нічога, на думку С., «суть над розум людскый» (гл. с. 105) і не мае філас. верагоднасці: «Кто убо от философов мог поразумети, абы господь бог словом своим с ни с чего сотворил видимая и невидимая, по старейшине их Аристотелю глаголющу: «З ни с чего ничто же бысть» (гл. с. 105). І хоць С. безагаворачна прызнае хрысц. крэяцыянізм як догму, яго разважанні нясуць адбітак скепсісу адносна тэолага-схаласт. рацыяналізацыі біблейскіх міфаў. Рысы рэнесансавага гуманіст. скептыцызму выяўляюцца і ва ўласцівым С. непрыняцці фанатычнай артадоксіі любога веравызнання, пошуку значымых для ўсяго чалавецтва бакоў хрысц. вучэння, даступных усім людзям, якія «и нынѣ единый кажный человек, имея розум познаеть» (гл. с. 136). Аднак наяўнасць асобных гуманістычна афарбаваных ідэй рэнесансавага скептыцызму ў поглядах С. не азначае прыхільнасці яго да антычнай традыцыі скептыцызму. Яму ў прынцыпе чужыя асновапалажэнні філас. скептыцызму (піранізму), якія поўнасцю разбураюць верагоднасць чалавечых ведаў. Для С. значымасць скептыцызму магла заключацца толькі ў разняволенні і самасцвярджэнні прыроднага чалавечага розуму перад рэліг. дагматызмам, а не ў яго самаразбурэнні. Гэта перакананне ставіць С. ў адзін рад з буйнейшымі прадстаўнікамі гуманіст. філасофіі эпохі Адраджэння.

*Літ.:* Рихтер Р. Скептицизм в философии: Пер. с нем. Т. 1. Спб., 1910; Лосев А. Ф. Культурно-историческое значение античного скептицизма и деятельность Секста Эмпирика // Секст Эмпирик. Соч. М., 1975. Т. 1; Лившиц Г. М. Свободомыслие и атеизм в древности и средние века. Мн., 1973; Богуславский В. М. Скептицизм Возрождения и Реформация // Культура эпохи Возрождения и Реформация. Л., 1981.

*Г. У. Грушавы.*

**СКРЫПНІЧЭ́НКА** Георгій Сяргеевіч (н. 1940), беларускі сав. мастак. У 1981 выканаў серыю графічных аркушаў «Выдатныя дзеячы беларускай культуры» (папера, туш, акварэль, гуаш, 44 × 60 см, уласнасць аўтара), на адным з якіх адлюстраваў ураджэнцаў з Полацка С. і Сімяона Полацкага. С. паказаны ў сталыя гады з адбіткам кніжнай старонкі ў руках. На заднім плане архітэктура сярэдневяковага Полацка, уверсе гербсігнет С.

**СЛАВЯ́НСКАЕ КНІГАДРУКАВА́ННЕ КІРЫ́ЛАЎСКІМ ШРЫ́ФТАМ.** Бытавала ў 15—20 ст. у Расіі, на Беларусі, Украіне, у Сербіі, Чарнагорыі, Румыніі і Славеніі. Кірылаўскім шрыфтам (гл. *Кірыліца*) карысталіся ў друкарнях *Кракава* і Венецыі, дзе выпускалі кнігі для ўсх. і паўд. славян.

Узнікла ў Кракаве ў 1490-я г., было звязана з гуманіст. коламі, якія групаваліся вакол Кракаўскага ун-та. Першую друкарню кірылаўскага шрыфту арганізаваў Швайпольт Фіёль, дзе працавалі беларусы і ўкраінцы. Фіёль выдаў «Актоіх» (1491), «Часаслоў» (1491), «Трыёдзь посную» і «Трыёдзь каляровую» (каля 1493). Дзве апошнія не маюць выхадных звестак у сувязі з забаронай каталіцкай царквою выдання слав. кніг кірылаўскім шрыфтам. У большасці з 91 экземпляраў і фрагментаў выданняў Фіёля, што захаваліся, ёсць уладальніцкія і ўкладныя запісы рус., бел. і укр. паходжання, што сведчыць аб шырокім распаўсюджанні выданняў Фіёля ў 16—17 ст. на землях усх. славян.

У 1493 па ініцыятыве чарнагорскага ўладара Дж. Црноевіча заснавана друкарня, якая паклала пачатак слав. кнігадрукаванню на землях паўд. славян, садзейнічала ўзмацненню нац. самасвядомасці паўд.-слав. народаў, іх кансалідацыі перад турэцкім нашэсцем. Наконт першапачатковага месцазнаходжання друкарні існуюць розныя думкі, найб. верагоднае Цэтыне ў Чарнагорыі, аб чым напісана ў пасляслоўі адной з кніг «Псалтыра з паследаваннем» (1494). У друкарні іераманахам *Макарыем* былі надрукаваны 4 кнігі: «Актоіх першагалоснік» (1494), «Актоіх пяцігалоснік» (1494), «Псалтыр з паследаваннем» і «Малітвеннік» (Трэбнік, 1495). У літаратурных крыніцах называецца яшчэ адно выданне Макарыя — «Чатырох'евангелле». Узровень маст. і паліграф. афармлення выданняў Макарыя быў высокі. Прыгажосцю і закончанасцю форм вызначаецца шрыфт яго выданняў. Надрадковыя знакі Макарый, у адрозненне ад Фіёля, адліваў разам з літарамі. Такая ж тэхніка потым выкарыстоўвалася і ў друкарнях С. Чарнагорская друкарня перастала дзейнічаць пасля захопу зямель туркамі. У 1508 заснавана друкарня паводле ўказа Радула, ваяводы феад. дзяржавы Валахіі (тэр. на Пд сучаснай Румыніі). Мяркуюць, што яна размяшчалася ў г. Тыргавіштэ. У ёй працаваў свяшчэннік Макарый (некат. даследчыкі лічаць яго чарнагорскім першадрукаром). Вядомы выдадзеныя друкарняй «Служэбнік» (1508), «Актоіх» (1510) і «Чатырох'евангелле» (1512). Яны аздоблены застаўкамі і буквіцамі балканскага стылю арнаментыкі. Улічваючы паліграф. выкананне, многія даследчыкі сцвярджаюць, што надрукаваў іх не чарнагорскі Макарый, а іншы чалавек з такім жа імем. У 1512 была арганізавана друкарня Дж. Русконі ў Венецыі. Яна надрукавала варыянтам кірылічнага шрыфту — харвацкай кірыліцай (басанчыцай) —

«Службу блажэннай дзеве Мары» і «Малітвы святой Брыгіты» (захавалася па 2 экз. кожнай кнігі).

У 1517—19 у Празе працавала друкарня кірылаўскага шрыфту, заснаваная С. (гл. *Кнігавыдавецкая дзейнасць Ф. Скарыны, Пражскія перыяды ў жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны, Паліграфічная арганізацыя тэксту выданняў Ф. Скарыны, Паліграфічная тэхніка выданняў Ф. Скарыны*). У 1519—23 існавала друкарня кірылаўскага шрыфту ў Гараджэ (Герцагавіна), у якой Т. Любавіч (друкарскаму майстэрству вучыўся ў Венецыі, набыў там шрыфты і друкарскае абсталяванне) надрукаваў «Служэбнік» (1519), «Псалтыр з часаслоўцам» (1521) і «Малітвеннік» (1523). Паліграф. выкананне выданняў было на высокім узроўні. Любавіч умела выкарыстаў чырвоны колер. У «Служэбніку» кінаварам надрукаваны ўсе ініцыялы, некат. застаўкі. Арнаментальная і маст. аздоба ў балканскім стылі выканана ў тэхніцы гравюры на дрэве. У пасляслоўі да «Псалтыра» змешчаны звесткі пра захоп Бялграда туркамі, у пасляслоўі да «Малітвенніка» паведамляецца, што арыгінал выдання — рукапіс, атрыманы ў Хіландарскім манастыры на Афоне.

Вял. роля ў развіцці кірылаўскага кнігадрукавання належыць друкарні, заснаванай у 1519 у Венецыі багатым купцом, ваяводам Бажыдарам Вукавічам Падгарычаніным (у Венецыі вядомы пад імем Дыянісія дэла Векіа, якога трэба лічыць выдаўцом, бо друкарскага рамяства ён не ведаў). Друкарня працавала на працягу амаль усяго 16 ст. (з перапынкам). Друкарамі былі розныя майстры. Першай кн. быў «Псалтыр», праца над якім завершана 7.4.1519. Потым да яго дадалі «Часасловец» і інш. тэксты (т. зв. паследаванне), друкаванне якіх закончылі 12.10.1520. Абодва выданні пераплецены разам. Працаваў над імі іераманах Пахомій з Чарнагоры. Магчыма, ён вучыўся друкарскай справе ў друкарні Црноевіча. У пасляслоўі да кнігі сказана, што Вукавіч вырашыў заняцца кнігадрукаваннем для «умаления светых книг расхищением и раздранием измаильтени», г. зн. каб папоўніць запасы кніг, якія раскрадзены і знішчаны туркамі. 7.7.1519 Пахомій надрукаваў «Служэбнік», а 6.3.1520—«Зборнік для падарожных», які выйшаў малым фарматам (цікавая паралель з *«Малой падарожнай кніжкай»* С.). У «Зборнік» уключаны «Часасловец», акафісты і каноны, месяцаслоў, пасхалія. У раздзеле «Аб шырaце і даўгаце Зямлі» пералічаны розныя краіны і гарады, прыведзены звесткі аб мерах даўгаты. Захавалася 2 экз.: у Навук. і універсітэцкай б-цы Босніі і Герцагавіны ў Сараеве, у Б-цы св. Марка ў Венецыі. З 1520 друкарня больш як 15 гадоў не дзейнічала. 26.4.1536 іерадыяканам Майсеем выдадзены новы «Зборнік для падарожных» вял. фарматам, пазней — яшчэ адзін «Зборнік», які адрозніваўся ад папярэдняга колькасцю радкоў тэксту на паласе. Фрагмент гэтага новага выдання зберагаецца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе. У 1535 у друкарні Вукавіча распачата, а 27.7.1537 закончана выданне «Актоіха пяцігалосніка» (відаць, раней быў надрукаваны «Актоіх першагалоснік», не збярогся). У прадмове сказана, што друкаваў «ее инок Феодосий и пераекклезиарх церкви Саввы Сербского в Милешевском монастыре Геннадий». Кніга выдадзена вял. фарматам «в лист», добра арнаментавана. У адной з заставак змешчаны герб з выявамі арла, льва і надпісам «Господи [нь] Бож [идарь] Воевода». У прадмове Вукавіч паведамляе, што герб яму дараваны імператарам Карлам V. На другой застаўцы змешчаны выявы «айцоў» царквы Казьмы Майумскага, Іаана Дамаскіна і Іосіфа Студзіта. У ілюстрацыі на старонку, падзеленую на 4 часткі, змешчаны выявы багародзіцы з дзіцем і святых — Міхаіла, Мікалая і Дзмітрыя. Тэкст надрукаваны ў 2 слупкі, ініцыялы вылучаны чырвоным колерам. Частка тыражу «Актоіха пяцігалосніка» надрукавана на пергаменце. Выданні карысталіся папулярнасцю, пазней іх перадрукоўвалі з захаваннем старых выхадных звестак. Адрозніць «Актоіх» Вукавіча можна па вадзяных знаках паперы і па сігнатуры (прастаўлена адначасова кірылаўскімі лічбамі і лац. літарамі). 19.1.1538 выйшла новае выданне — «Святочная Мінея», надрукаваная іерадыяканам Майсеем (манахам Дзечанскага манастыра, выхадца «от места, нарицаемого Боудимля») фарматам «в лист», том аб'ёмам у 432 аркушы. Кніга багата ілюстравана, мае 32 фігурныя ксілаграфіі. Частка тыражу таксама надрукавана на пергаменце. Апошнім выданнем Вукавіча быў «Трэбнік» (1539—40), надрукаваны фарматам у 4-ю долю аркуша.

Каля 1522 С. заснаваў Віленскую друкарню кірылаўскага шрыфту (гл. ў арт. *Віленскі перыяд у жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны*).

У 1530—50-я гг. ўзніклі новыя слав. друкарні. У 1537 у Сербіі ў Руянскім манастыры друкар Феадосій выдаў «Чатырох'евангелле», якое, як сцвярджаюць некат. даследчыкі, было надрукавана драўлянымі шрыфтамі. У 1539 у манастыры Грачаніца друкар Дзмітрый надрукаваў «Актоіх пяцігалоснік». З 1544 пачынае дзейнічаць друкарня Мілешаўскага манастыра, у якой працавалі Мардарый, Феадор, Даміян, Мілан. Тут надрукаваны «Псалтыр з паследаваннем» (1544, 1557), «Малітваслоў» (Трэбнік, 1546). У 1545 аднавіла сваю дзейнасць друкарня ў Тыргавіштэ, дзе іераманах Майсей (магчыма, адзін з майстроў з друкарні Вукавіча) выдаў «Малітвеннік» (Трэбнік). У 1547 Д. Любавіч выпусціў 2 выданні «Апостала». У 1546 Філіп Малдаванін надрукаваў у Сібіу «Чатырох'евангелле» (захавалася 2 экз., у Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе і ў Навук. б-цы Ужгарадскага ун-та). Гэтым жа шрыфтам прыкладна ў 1551—52 надрукавана «Чатырох'евангелле» з паралельным слав. і рум. тэкстамі.

У Венецыі з 1546 пачаў выдавецкую дзейнасць сын Вукавіча — Вічэнца, які ў 1545—46 атрымаў 25-гадовы прывілей на манапольнае права друкавання кніг кірылаўскім шрыфтам на тэр. Венецыянскай рэспублікі. Друкарня В. Вукавіча набыла камерцыйны характар. Выпускаючы богаслужэбныя кнігі для правасл. царквы, ён адначасова прапаноўваў свае паслугі Ватыкану для выдання каталіцкай прапагандысцкай л-ры. У 1546 выдадзены «Псалтыр з паследаваннем», 1.6. 1547 — малафарматны «Малітваслоў» (зборнік для падарожных), «Служэбнік» (1554), які паўтарыў выданне 1519 (вядомы ў 2 варыянтах, што адрозніваюцца спосабамі прастаноўкі сігнатуры). 1.6. 1560 Вукавіч выдаў «Малітваслоў», у 1561 — «Псалтыр з часаслоўцам» і «Трыёдзь посную», апошнюю друкаваў Стэфан з Скадара. У 1563 Стэфан з Скадара надрукаваў «Трыёдзь каляровую», выкарыстаўшы друкарскія матэрыялы Вукавіча. Потым друкарня Вукавіча перайшла да Ераніма Загуровіча і Якава Крайкова.

У 1552 пачалося кнігадрукаванне кірылаўскім шрыфтам у Бялградзе. У 1552 на сродкі Рыдзіша Дзмітрыевіча і Траяна Гундуліча заснавана друкарня, у якой іераманах Мардарый з манастыра Мркшына Црква надрукаваў «Чатырох'евангелле». Магчыма, гэта той самы друкар, што раней працаваў у Мілешаўскім манастыры. У 1562 гэтую кнігу ён надрукаваў у манастыры Мркшына Црква, 1.9.1566 выйшла «Трыёдзь каляровая», якую, акрамя Мардарыя, друкавалі свяшчэннік Жыўка і дыякан Радул.

Значная падзея ў гісторыі слав. кірыліцкага кнігадрукавання — кнігадрукаванне ў Маскве. Першая, т. зв. ананімная, друкарня ўзнікла тут каля 1553. Яе стварэнне звязваюць з дзейнасцю т. зв. Выбранай рады (кола прыбліжаных цара Івана IV). Пераход ад рукапісання да кнігадрукавання адлюстраваны ў рэформах 1549—60, мэтай якіх было ўмацаванне Рускай цэнтралізаванай дзяржавы. Друкарня выпусціла 7 кніг: 3 «Чатырох'евангеллі» (т. зв. вузкашрыфтавое, сярэднешрыфтавое і шырокашрыфтавое), 2 «Псалтыры» (сярэднешрыфтавы і шырокашрыфтавы), «Трыёдзь посную» і «Трыёдзь каляровую». У іх няма выхадных звестак, маскоўскае паходжанне кніг даказана А. Віктаравым, Л. Кавеліным, А. Гераклітавым, А. Зёрнавай. У ананімнай друкарні, відаць, працаваў і Іван *Фёдараў*, які потым выкарыстаў у сваёй дзейнасці яе паліграф. прыёмы. У 1563 заснавана першая Маскоўская дзярж. друкарня, дзе 1(11).3.1564 быў выдадзены «Апостал» — першая дакладна датаваная рус. друкаваная кніга. Друкавалі яго Фёдараў і Пётр *Мсціславец*. У 1565 яны выпусцілі ў Маскве 2 выданні «Часоўніка», пасля пераехалі ў Вял. кн. Літоўскае і заснавалі *Заблудаўскую друкарню*, дзе выдадзены «Евангелле вучыцельнае» (1569), «Псалтыр з часаслоўцам» (1570).

У 1557 слав. кнігадрукаванне пачалося ў Брашове (на тэр. сучаснай Румыніі). У друкарні, заснаванай па ініцыятыве бургамістра І. Бенкнера, працавалі лагафет Опрэа, які раней служыў у Любавіча

ў Тыргавіштэ, і дыякан Карэсі. 14.1.1557 у Брашове выдадзены «Васьмігалоснік». Потым Карэсі перанёс друкарню ў Тыргавіштэ і тут 30.7.1558 выпусціў «Трыёдзь каляровую». У 1561 у Брашове ён выдаў «Чатырох'евангелле» на рум., у 1562 на слав. мовах, «Апостала» на рум. мове (каля 1565—67), «Святочную Мінею» (1569). На брашоўскіх выданнях 1562—68 імя Карэсі не пазначана. На «Чатырох'евангеллі» (1565) указана імя друкара Каліна, на «Васьмігалосніку» (1567) — дзяка Лорынца. Мяркуюць, што выданні надрукаваны пад кіраўніцтвам Карэсі. У «Святочнай Мінеі» (1569) зноў названа імя Карэсі. Карэсі выпусціў шмат кніг на слав. і рум. мовах. Пасля смерці Карэсі (паміж ліпенем 1583 і 1587) яго выдавецка-друкарскую дзейнасць працягваў сын Шэрбан.

Значная роля ў гісторыі кнігадрукавання кірылаўскім шрыфтам належыць славенскаму асветніку, віднаму дзеячу пратэстантызму, заснавальніку славенскай літаратурнай мовы Прымажу Трубару (1508—86). У Цюбінгене (Германія) у заснаванай ім друкарні выдадзены першыя кнігі на славенскай мове «Буквар і катэхізіс» (1561), «Катэхізіс з тлумачэннем» (1561), «Пасціла» і «Новы запавет» (абодва 1563), «Азбука глагалічных, кірыліцкіх і лацінскіх пісьмёнаў» (1564) і інш. Трубар друкаваў кнігі таксама і глаголіцай. У 1560-я г. пачала дзейнасць другая пасля скарынінскай друкарня на бел. этнічнай тэрыторыі — *Нясвіжская друкарня*, заснаваная Сымонам *Будным*, Лаўрэнціем Крышкоўскім і Мацеем *Кавячынскім*. Тут выдадзены на бел. мове *«Катэхізіс» 1562* Буднага, яго палемічны твор «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам» (1562) і інш. творы. Выданнем «Часаслоўца» 30.8.1566 пачаў самастойную друкарскую дзейнасць у Венецыі друкар, які падпісваўся «Яков от места нарицаема Каменна река», «Яков Крайков сын», «Яков от пределехь Македонскихъ от места нарицаеми Софиа». Мяркуюць, што Якаў з Каменнай ракі і Якаў з Сафіі розныя майстры з друкарні Ераніма Загуровіча, якія надрукавалі «Часасловец» (1566), «Псалтыр з паследаваннем» (1569—70), «Малітвеннік» (Трэбнік, 1570; малафарматны ў 1/16-ю долю аркуша), зборнік «Различнии потреби» (1572). Якава Крайкова лічаць таксама балг. першадрукаром. У сярэдзіне 1570-х г. П. Мсціславец у Вільні на сродкі *Мамонічаў* адкрыў новую друкарню кірылаўскага шрыфту, у якой надрукаваны «Часоўнік» (1574—76), «Евангелле» (1575), «Псалтыр» (1576). У 1573 Фёдараў арганізаваў першую на Украіне друкарню ў Львове, у якой выдаў «Апостала» і «Азбуку» (1574) — першы друкаваны рускі падручнік. Пазней Фёдараў працаваў у Астрозе на Валыні, дзе надрукаваў «Азбуку» (1578) з паралельнымі славяна-грэчаскімі тэкстамі, «Псалтыр» і «Новы запавет» (1580) з алфавітна-прадметным паказальнікам «Кніжка, збор рэчаў найпатрэбнейшых», «Хранологію» Андрэя Рымшы (1581) і першую поўную ўсх.-слав. *«Астрожскую біблію»* (1581). У Маскве пасля Фёдарава і Мсціслаўца кнігадрукаванне працягвалі іх вучні Нікіфар Тарасіеў і Нявежа Цімафееў, якія выдалі 20.12.1568 «Псалтыр», тая ж кніга надрукавана таксама Андронікам Цімафеевым Нявежай 31.1.1577 у Аляксандраўскай Слабадзе (цяпер г. Аляксандраў).

Каля 1580 у Вільні ўзнікла друкарня Васіля *Гарабурды*. Каля 1583 аднавіла дзейнасць друкарня Мамонічаў, якая хутка стала буйнейшым выдавецка-паліграф. цэнтрам таго часу. У 1580-я г. ў Маскве ўзнікла першае ў гісторыі славянскага кнігадрукавання кірылаўскім шрыфтам буйное паліграф. прадпрыемства — Маскоўскі друкарскі двор з некалькімі друкарскімі майстэрнямі. Адной з іх у 1587—1602 кіраваў Андронік Цімафееў Нявежа, якога змяніў яго сын Іван (працаваў у 1603—11). Працавалі таксама «избы» А. М. Радзішэўскага (1586—1610), Анікіты Фаранава (1609—18). У 1-й чвэрці 17 ст. Маскоўскі друкарскі двор пераўтвораны ў паліграф. прадпрыемства мануфактурнага тыпу. На працягу 17 ст. тут надрукавана каля 500 назваў кніг. Акрамя выданняў літургічнага характару, выпусціла перакладную працу І. Я. фон Вальхаўзена «Вучэнне і хітрасць ратнага строю пяхотных людзей» (1649) — першую рус. кнігу з 35 гравюрамі на медзі, «Улажэнне» цара Аляксея Міхайлавіча 1649. У 1663 тут надрукавана першая маскоўская Біблія, арыгіналам для якой паслужыла астрожскае выданне 1581.

На Беларусі ў канцы 16—17 ст. вял. ролю ў кнігадрукаванні кірылаўскім шрыфтам адыгрывалі Брацкая друкарня ў Вільні (1595—1652), *Еўінская друкарня*, друкарні С. *Собаля* ў Куцейне і Магілёве (гл. арт. *Брацкае кнігадрукаванне*). На Украіне ў канцы 16—17 ст. існавалі друкарні: Стаўрапігіяльнага брацтва ў Львове (з 1591), Кіева-Пячэрскай лаўры (з 1616), Міхаіла Слёзкі ў Львове (1638—67), Лазара Барановіча ў Ноўгарадзе-Северскім (1674—79) і інш. У неславянскіх краінах друкарні кірылаўскага шрыфту ў 17 ст. працавалі ў Бухарэсце, Венецыі, Рыме, Тыргавіштэ і інш. Пры Пятру І у Расіі павялічыўся выпуск падручнікаў і выданняў прыкладнога характару. Былі выдадзены «Буквар» Ф. П. Палікарпава-Арлова (1701), «Арыфметыка» Л. Ф. Магніцкага (1703), «Табліцы лагарыфмаў» (1703), «Лексікон трохмоўны» (1704). З 1703 рэгулярна кірылаўскім шрыфтам друкавалася першая рус. газета «Ведомости» (1-ы нумар выйшаў 16.12.1702). Пасля ўвядзення Пятром І у 1708 грамадзянскага шрыфту, а таксама ў сувязі са станаўленнем нац. моў слав. кніга кірылаўскага шрыфту страціла міжнар. характар. Кірылаўскі шрыфт выкарыстоўвалі для выпуску літургічных кніг.

Буйнейшым цэнтрам кнігадрукавання кірылаўскім шрыфтам у 18 ст. была Маскоўская Сінадальная друкарня, якая выпусціла больш за 1,3 тыс. назваў кніг. У 1715 створана Сінадальная друкарня ў Пецярбургу. На Украіне працавалі друкарні кірылаўскага шрыфту ў Кіеве, Пачаеве і Чарнігаве. Больш за 300 выданняў, у т. л. больш за 100 кірылаўскім шрыфтам, надрукавала буйнейшая бел. друкарня ў 18 ст. ў Супраслі (цяпер Беластоцкае ваяводства ПНР). Гл. таксама *Кірыліцкае кнігадрукаванне* на Беларусі. Кнігі кірылаўскага шрыфту выпускаліся таксама ў Венецыі, Вене, Рыме, Рымніку і інш.

Слав. кнігадрукаванне кірылаўскім шрыфтам адыграла значную ролю ў станаўленні нац. самасвядомасці слав. народаў, ва ўмацаванні пазіцый нац. моў у іх барацьбе з каталіцкай рэакцыяй. Некат. літургічныя кнігі («Псалтыр», «Часоўнік») выкарыстоўваліся для навучання грамаце. Выдаваліся і падручнікі — азбукі, буквары, граматыкі, даведачная л-ра — лексіконы, кнігі прыкладнога характару (напр., па ваеннай справе). Садзейнічала уніфікацыі граматычных і арфаграф. норм слав. нац. моў. У галіне маст. аздаблення кнігі былі створаны тыповыя схемы афармлення, выразныя малюнкі шрыфтоў. Кнігадрукаванне кірылаўскім шрыфтам шмат у чым прытрымлівалася традыцый рукапісання і спачатку імітавала знешні выгляд рукапіснай кнігі, яно захавала маст. прыёмы афармлення кнігі, замацавала найлепшыя почыркі, з дапамогай гравюр — ілюстрацыйную і арнаментальную аздобу.

*Літ.:* 136; 212; 216; 217; 220; 221; 558; 607; 610; 648; 768; Зернова А. С. Книги кирилловской печати, изданные в Москве в XVI—XVII веках: Сводный каталог. М., 1958; Голенченко Г. Я. Белорусы в русском книгопечатании // Книга: Исслед. и материалы. М. 1966. Сб. 13; Сводный каталог русской книги кирилловской печати XVIII века. М., 1968; Издания кириллической печати XV—XVII вв. (1494—1688 гг.) для южных славян и румын. Л., 1979; Запаско Я. П., Ісаєвич Я. Д. Пам'ятки книжкового мистецтва: Каталог стародруків, виданих на Україні. Кн. 1—2. Львів, 1981—84; Ісаєвич Я. Д. Слов'янські стародруки в історії слов'янської і світової культури//Історія, культура, фольклор та етнографія слов'янських народів: IX Міжнародний з'їзд славістів: Доповіді. Київ, 1983; Каталог књига на језицима југословенских народа, 1519—1867. Београд, 1973; Міхаиловић Г. Српска библиографија XVIII века. Београд, 1964; Плавшић Л. Српске штампарије од краја XV до средине XIX века. Београд, 1959; Атанасов П. Начало на българското книгопечатане. София, 1959; Чурчић Л. Псалтир Божидара Вуковића из 1519—1520. године//Зборник Матице српске за књижевност и језик. 1974. Кн. 22, № 3; Споменица о 250 годишњици обнове штампања српских књига. Београд. 1976; Liturghierul lui Macarie. Cu un studiu de P. P. Panaitescu. Bucuresti, 1961; Demény L., Simonescu D. Un capitol important dinvechea cultura Romānească (Tetravanghelul, Sibiu, 1546)//Studii şi cercetări de documentare şi bibliologi. 1965. № 1.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**«СЛОЎНІК МОВЫ СКАРЫНЫ»**, лінгвістычны слоўнік, выдадзены ў 2 тамах у Мінску (т. 1, 1977; т. 2, 1984; 9405 рэестравых слоў і форм; складальнік У. В. *Анічэнка*). Адлюстроўвае гісторыю развіцця літаратурна-пісьмовай мовы Беларусі ў пач. 16 ст., цесна звязанай з С. Уключае словы незалежна ад іх граматычнай прыналежнасці з пражскіх перакладных выданняў С., у т. л. з яго прадмоў і пасляслоўяў да гэтых выданняў, а таксама з неперакладных —

«Псалтыра» (1517), «Малой падарожнай кніжкі» (1522) і «Апостала» (1525). У «Слоўнік» не ўваходзяць уласныя імёны, геагр. назвы і вытворныя ад іх лексемы, іншамоўныя словы, ужытыя С. у якасці цытат, што тлумачыліся адпаведнымі агульнадаступнымі для простага чытача ў скарынінскую эпоху лексічнымі сродкамі («Нисан тоесть апрель»). Усе рэестравыя словы ў слоўніку, змешчаныя ў алфавітным парадку, падаюцца ў іх асн. формах: скланяльныя часціны мовы ў формах назоўнага склону адз. ліку або множнага, калі адсутнічае адз. лік [**гроши, врата (враты), груди**], муж. роду [**верныи, ведомыи,** але **бременная**), спрагальныя — у формах інфінітыва (**замутити, надеватися**), нязменныя — у зафіксаваных формах (**до, и, не, зысподу, сысподу**). Пры адсутнасці зыходнай формы рэестравага слова ў скарынінскіх тэкстах яна вызначаецца на аснове фактаў і правапісу тагачаснай бел. мовы. Арфаграф. (**воен, воин**), марфал. (**черпати — начерпати, зуполна — зуполне**) і словаўтваральныя (**властелин, властель, выбавитель — збавитель**) варыянты агульных слоў падаюцца ў рэестры асобнымі слоўнікавымі артыкуламі, а фанетычныя змешчаны пры адным у адпаведнасці з існуючай сістэмай бел. мовы. Семантычны аб'ём незразумелага і малазразумелага рэестравага слова ўстанаўліваецца на аснове кантэкстуальных умоў, у якіх яно выступае, і перадаецца эквівалентамі сучаснай бел. літ. мовы перакладным і тлумачальным спосабамі ў залежнасці ад наяўнасці або адсутнасці ў ёй аднаслоўных найменняў. Пры вызначэнні комплексу значэнняў мнагазначнага слова або адценняў яго значэнняў на першым месцы фіксуецца першаснае прамое значэнне, а другасныя — па меры іх тыповасці і сферы ўжывання ў старадрукаваных тэкстах: «Выдати — 1. Аддаць. 2. Выдаць. 3. Пусціць. 4. Вылучыць. 5. Надрукаваць». Па такому ж прынцыпу адрозніваюцца асн. значэнне слова і яго адценне: «Балька — Бэлька // Бервяно». Амонімы падаюцца самастойнымі рэестравымі словамі: «Винныи[1] — вінаградны», «Винныи[2] — вінаваты». Фразеалаг. спалучэнні змяшчаюцца ў канцы слоўнікавых артыкулаў на тое самастойнае слова, якое ўваходзіць у яго склад, і тлумачацца пры апорным слове: «З розуму выпасці, гл. выпасти; выпасти з розуму — страціць розум», «увязати язык — прымусіць замаўчаць». Рэестравыя словы ў слоўніку не забяспечаны стат. падлікамі, таму што скарынінскія выданні — гэта не ўласныя (за выключэннем прадмоў і пасляслоўяў), а перакладныя творы з розных крыніц. С. не мог поўнасцю дэмакратызаваць і наблізіць да жывой нар. мовы кансерватыўныя па зместу і форме тэксты з традыц. прыёмамі літаратурнага выражэння. Рэестравыя словы і кантэкстуальныя ілюстрацыі да іх змешчаны ў слоўніку з некат. спрашчэннямі графічнай і арфаграф. сістэм скарынінскіх старадрукаваных выданняў

**СМО́ЛЬСКІ** Дзмітрый Браніслававіч (н. 1937), беларускі сав. кампазітар. Лаўрэат Дзярж. прэміі БССР 1980, прэміі Ленінскага камсамола Беларусі 1972, засл. дз. маст. БССР (1976), праф. (1986). Аўтар оперы «Францыск Скарына» (1980, лібрэта С. Клімковіч па драматычнай трылогіі М. Клімковіча «Георгій Скарына»). Лібрэта пабудавана на аснове падзей жыцця С., складаецца з пралога і 6 карцін-фрэсак, кожная з якіх мае сваё месца дзеяння (Полацк, Кракаў, Падуя, Вільня, Кёнігсберг, Вільня), свой канфлікт. У оперы падзеі з жыцця С., лагічна аб'яднаныя разнастайнымі сюжэтнымі лініямі, выяўляюць складаную ідэйна-вобразную праблематыку. Музычную драматургію оперы фарміруе ўзаемаабумоўленасць вобраза С. і шматпланавай характарыстыкі сац.-бытавога фону. Ідэя твора звязана перш за ўсё з вобразам С., развіццём асн. муз.-драматычнага канфлікту, скразнога муз. тэматызму (тэмы кахання Францыска і Маргарыты, тэмы цемрашальства і інш.). Выразнасць музыкі оперы грунтуецца на інтанац. ладзе шырокага дыяпазону — ад народнай песеннасці, бытавой музыкі да вытанчана індывідуалізаваных інструментальных інтанацый. Кампазітар шырока выкарыстоўвае маст. магчымасці сімфанічнага аркестра, хору (жаночага — Падуя, мужчынскага — Кракаў, змешанага — у астатніх карцінах і пралозе). Не імкнучыся да музычнай дакументальнасці, нават у стылізаваных тэмах, кампазітар аддае перавагу характэрным інтанацыям абагульненага сэнсу, блізкім і зразумелым сучаснаму слухачу.

*Т. А. Дубкова.*


Букварь языка славенска. Писаній чтенія учитися хотящимъ, в полезное руководженіе. З Могилева, з друкарни Спиридона Собола. Лѣта от рождества Христова ҂АХЛЅ.

«Буквар». Друкарня Спірыдона **Собаля.** Магілёў. 1636. Тытульны ліст.

**СО́БАЛЬ** Спірыдон (у манастве Сільвестр; г. н. невяд., Магілёў — 1645), беларускі друкар і асветнік 17 ст.; прадаўжальнік традыцый С. па распаўсюджванню друкарства і асветы на Беларусі і Украіне. Сын купца — бурмістра Магілёва Б. І. Собаля. У пачатку 17 ст. настаўнік і рэктар Магілёўскай брацкай школы. З 1624 настаўнік Кіеўскай брацкай школы і Кіева-Магілянскай акадэміі. У 1628 адкрыў друкарню ў Кіеве, дзе выдаваў кнігі маральна-павучальнага і рэліг. зместу. У 1630 вярнуўся на Беларусь, заснаваў друкарню ў Куцеінскім манастыры пад Оршай. Выдаў кірыліцай «Брашна духоўнае», «Малітвы паўсядзённыя», «Буквар» (1631) і «Часаслоў» (1632). У 1635 адкрыў друкарню ў Буйнічах пад Магілёвам, дзе выдаў «Псалтыр». У Магілёўскай брацкай друкарні выдаў «Буквар» («Буквар языка славенска», 1636), «Псалтыр» (1637), «Тэстамент» (1638). Ул-ры апісана 18 яго выданняў. У 1637 быў у Маскве, сустракаўся з друкаром В. Бурцавым, гандляваў кнігамі і друкарскімі прыладамі. Меў цесныя сувязі з укр. і польск. друкарамі. У апошнія гады жыцця быў манахам у Кіева-Пячэрскай лаўры, магчыма, працаваў там у друкарні.

*Літ.:* Зернова А. С. Белорусский печатник Спиридон Соболь // Книга: Исслед. и материалы. М., 1965. Сб. 10; Мацюк О. Я. Новые документы о типографе Спиридоне Соболе // Федоровские чтения, 1973. М., 1976; Исаевич Я. Д. Преемники первопечатника. М., 1981. *М. Б. Батвіннік.*

**СО́КАЛАВА** (Sokolová) Францішка (н. (1937), чэш. даследчыца слав. кнігадрукаў. Супрацоўнік Славянскай б-кі ў Празе. У арт. «Аб некаторых праблемах жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны» (1978) разгледзела пытанне пра асобныя аркушы са скарынінскай «Бібліі», уплеценыя ў канвалют судовых актаў г. Вроцлава 1539—41. Гэтыя аркушы маглі быць рэшткамі вёрсткі або знішчаных уладамі Вроцлава пры канфіскацыі выданняў С. ў час перавозу іх з Прагі ў Вільню. Даследчыца не выключае, што С. мог мець пры сабе некалькі сваіх выданняў у час другога прыезду ў Прагу і непераплеценыя часткі гэтых кніг пасля яго смерці маглі быць перададзены на вроцлаўскі кніжны склад. Развіла і ўдакладніла гіпотэзу А. Флароўскага, М. Алексютовіча, інш. даследчыкаў аб паўторным пражскім перыядзе жыцця С. На падставе аналізу перапіскі караля Фердынанда І з Багемскай каморай (22.5. 1535—21.7.1539) вызначыла, што С. працаваў на пасадзе садоўніка ў каралеўскім садзе ў Празе не пазней 21.7.1539. У гэты час, як вынікае з дакументаў, ён знаходзіўся ў Нойштаце (горад каля Вены), дзе ў каралеўскай канцылярыі атрымаў канчатковы разлік за сваю працу ў якасці садоўніка. Разгледзела таксама вершаваную спадчыну С., да ліку арыгінальных паэтычных твораў яго аднесла каментарый да XIX раздзела кн. «Левіт», а таксама гімнаграфічныя радкі з «Пасхаліі». *А. К. Кайко.*

**СО́ПІКАЎ** Васіль Сцяпанавіч (1765—1818), рускі бібліёграф. Працаваў памочнікам бібліятэкара рус. аддзела Імпера-

тарскай Публ. б-кі ў Пецярбургу, дзе заняўся прывядзеннем у парадак друкаваных кніг на слав. і рус. мовах. Падрыхтаваў капітальнае на той час даследаванне «Вопыт расійскай бібліяграфіі, або поўны слоўнік твораў і перакладаў, надрукаваных на славянскай і рускай мовах ад пачатку завядзення друкарняў да 1813 года» ў 5 ч., выдадзеных у Пецярбургу ў 1813—21. У 1-й ч., прысвечанай царк. кнігам, змешчаны звесткі аб даўніх друкарнях і прыведзены пералік саміх кніг. Друкаваныя кнігі разглядае не ў храналаг., а ў алфавітным парадку паводле іх загалоўкаў, таму звесткі аб выданнях С. падаюцца ў розных месцах кнігі. Пры разглядзе «Апостала» Сопікаў адзначае, што гэта вельмі рэдкая кніга. У той час у Расіі вядомы былі толькі 2 экз. яе. Бібліёграф апісаў склад кнігі, перадаў змест паасобных раздзелаў, прывёў шматлікія цытаты з арыгінала. Больш падрабязна прыведзены звесткі аб скарынінскай «Бібліі». На падставе зместу прадмоў робіць заключэнне, што С. пераклаў усю Біблію, аднак невядома, ці ўся яна была надрукавана. Даецца пералік выдадзеных С. біблейскіх кніг, ахарактарызаваны яго прадмовы і пасляслоўі, прыведзены кароткія вытрымкі, апісаны маст. і друкарскія асаблівасці скарынінскіх кніг, пададзены звесткі пра асобныя экземпляры ў тагачасных грамадскіх і прыватных б-ках. Нарыс заканчваецца разглядам графічных і арфаграф. асаблівасцей скарынінскіх выданняў. Пад загалоўкам «Канонік» Сопікаў дае апісанне «Малой падарожнай кніжкі», а на адпаведным алфавітным месцы паведаміў аб скарынінскім «Псалтыры», які ў той час быў вядомы толькі ў адзіным экземпляры. Нягледзячы на тое, што Сопікавым былі дапушчаны некат. недакладнасці ў назвах скарынінскіх кніг і ў цытатах з яго выданняў, прыведзеныя бібліяграф. звесткі аб кнігах С. адыгралі станоўчую ролю ў далейшым развіцці скарыназнаўства. У «Вопыце расійскай бібліяграфіі...» змешчана таксама багатая інфармацыя і аб іншых кнігах, выдадзеных друкарнямі Беларусі ў 16—18 ст. Гэта праца і да нашага часу не страціла свайго значэння для даследчыкаў бел. кнігавыдавецкай справы. *А. І. Жураўскі.*

**СПЕРА́ТУС** Павел (сапр. Офер Паульс, 1484—1551), дзеяч рэліг. *Рэфармацыі* ва Усх. Прусіі. Аўтар рэлігійна-палемічных твораў і духоўных гімнаў. З 1519 свяшчэннік у Вюрцбургу, Зальцбургу, Вене. Зблізіўся з Марцінам *Лютэрам,* прапагандаваў яго вучэнне ў Вене, Празе. З 1524 па рэкамендацыі Лютэра стаў прыдворным свяшчэннікам і прапаведнікам у *Кёнігсбергу,* пры двары Альбрэхта Гогенцолерна. З 1529—епіскап памеранскі. Пры ўдзеле Сператуса ў Кёнігсбергу ў 1520-я г. заснавана першая друкарня, у якой працаваў Ганс *Вейнрэйх.* У ёй друкаваліся і кнігі, створаныя Сператусам. Быў бібліяфілам, сабраў вял. б-ку. На кнігі наклейваў экслібрысы, вядомыя ў 3 варыянтах. Садзейнічаў пашырэнню Рэфармацыі на польск. землях, заахвочваў друкаванне кніг на польск. мове ў Кёнігсбергу, а пазней у Эльку. Са С. пазнаёміўся, відаць, у 1530 у Кёнігсбергу. Ад яго Сператус, відаць, і атрымаў «Псалтыр» з «Малой падарожнай кніжкі» (захоўваецца ў Брытанскай б-цы ў Лондане (шыфр С. 51,G5). На ўнутраным баку верхняй дошкі пераплёту наклеены экслібрыс Сператуса. *Я. Л. Неміроўскі.*

**СПІ́СЫ З ВЫДА́ННЯЎ Ф. СКАРЫ́НЫ.** Кнігі С. аказвалі значны ўплыў на развіццё духоўнага жыцця і культ. сувязей бел., рус. і ўкр. народаў. Спісы з яго кніг з'яўляюцца найб. выразным сведчаннем папулярнасці выданняў С. ў першыя стагоддзі пасля зараджэння кнігадрукавання ва ўсім усх.-слав. абшары. Дыферэнцыяцыя некат. спісаў па іх тэрытарыяльнаму паходжанню або моўных асаблівасцях звязана з пэўнымі цяжкасцямі, выкліканымі часам, але значная колькасць з іх ідэнтыфікуецца дзякуючы запісам перапісчыкаў, перакладчыкаў, паметам уладальнікаў і чытачоў. Адносна рэдкімі з'яўляюцца спісы, зробленыя на тэр. Беларусі ў 16—17 ст. Гэта тлумачыцца тым, што выданні С. прызначаліся гал. ч. тутэйшым чытачам і былі больш даступнымі на Беларусі, патрэбы ў спісах не адчувалася так прыкметна, як у інш. усх.-слав. краінах. Амаль усе бел. першадрукары і кнігавыдаўцы (М. Кавячынскі, С. Будны, Л. Крышкоўскі, В. Цяпінскі, Мамонічы і інш.) карысталіся кнігамі С. ў іх першасным выглядзе.

З выкананых на Беларусі ў 16—17 ст. спісаў вядомы «Псалтыр» 1543, фармат «у аркуш», паўустаў, 177 арк., пісец Парфен. Спіс зроблены з пражскага выдання С. 1517. У тэкст «Псалтыра» ўнесены нязначныя змены: замест прадмовы С. ўстаўлена прадмова М. Іраклійскага, дададзены «надпісанні» да псалмоў. На палях захаваны многія глосы арыгінала. Спіс быў у зборы рукапісаў Е. Барсава, большасць якіх паступіла ў 1914 у Дзярж. Гіст. музей у Маскве (сучаснае месцазнаходжанне невядома). Захаваўся зборнік спісаў з кніг Старога запавету, Палеі і інш. твораў канца 16 або пач. 17 ст. («у аркуш», паўустаў, 408 арк.), які ўключае прадмову С. да «Псалтыра» 1517 з упамінаннем прозвішча першадрукара і яго вучонай ступені — «в лекарских науках доктор». Акрамя палеаграф. і моўных прыкмет, аб паходжанні рукапісу ўскосна сведчаць некат. мясц. матэрыялы (чалабітная правасл. князёў Вял. кн. Літоўскага, напісаная каля 1492 да канстанцінопальскага патрыярха з просьбай паставіць новага зах.-рус. мітрапаліта) і працяглае знаходжанне яго ў Супрасльскім манастыры (зберагаецца ў аддзеле рукапісаў Цэнтр. б-кі АН Літ. ССР, Вільнюс). Знаёмства з выданнямі С. адчуваецца ў інш. бел. рукапісах 16—17 ст., якія аднак не з'яўляюцца спісамі ў поўным сэнсе слова (гл. *Выкарыстанне перакладаў Ф. Скарыны*).

Шырокае распаўсюджанне атрымалі спісы на ўкр. землях. Укр. спісы з пражскіх выданняў С. захаваліся ў некалькіх кодэксах. 1) У Зборніку 16 ст., які складзены з кніг Старога запавету, «слоў» Іаана Златавуста, патрыярха Генадзія, П. Чарнарызца і інш. («у аркуш», паўустаў, 340 арк., з б-кі Ф. А. Талстога, Дзярж. Публ. б-ка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, аддзел рукапісаў), уваходзяць кн. «Іоў», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Ісус Сірахаў», «Прамудрасць божая». Спіс выканаы па загаду В. Жугаева з Яраслаўля, аб чым сведчыць яго памета ў канцы прадмовы да кн. «Іоў». Паводле Я. *Ісаевіча,* Жугаеў, напэўна, яраслаўскі бакалаўр Васка, які ў 1562 запрашаў са Стрыя (Львоўскай вобл.) перапісчыка кніг Яцко Мавушку. 2) У Зборніку кніг Старога запавету 16 ст. У 1820-х г. належаў холмскаму біскупу Ф. Цаханоўскаму, які падараваў яго б-цы Варшаўскага ун-та. М. Вішнеўскі памылкова паведамляў, што спіс у 1832 перададзены ў Пецярбург. У 1880-х г. яго дарэмна шукаў у розных б-ках Пецярбурга П. У. *Уладзіміраў.* У пач. 20 ст. зборнік яшчэ знаходзіўся ў б-цы Красінскіх у Варшаве (відаць, загінуў у 1944 разам з інш. зборамі б-кі). Падрабязна не апісваўся, невядомы яго поўны склад, фармат, інш. бібліяграф. асаблівасці. Уключаў спіс з пражскіх выданняў С.: "Пяцікніжжа», кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», 4 кн. «Царствы», «Юдзіф», «Эсфір», «Іоў», «Псалтыр», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў» (няскончаны). 3) У Зборніку кніг Старога запавету 16 ст. («у аркуш», паўустаў, 356 арк.). Належаў Віцінскаму манастыру (Галіцыя), пазней Ануфрыеўскаму манастыру ў Львове (зберагаецца ў Львоўскай навук. б-цы імя В. Стафаніка, фонд базыльянскіх манастыроў). У канцы «Пяцікніжжа» запіс «пісарчыка» Дзмітрыя з Зенькава, які «даканаў» рукапіс 19.11.1575. У складзе зборніка спіс з пражскіх выданняў С.: «Быццё» (не хапае 1-га, пач. 2-га, 15—25-га раздзелаў), «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон», «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», 4 кн. «Царствы». Другая частка гэтага зборніка (385 няпоўных арк.) куплена М. П. *Пагодзіным* і разам з яго «старажытнасховішчам» у сярэдзіне 19 ст. перайшла да пецярбургскай Публ. б-кі (аддзел рукапісаў, збор Пагодзіна, 85). Абрываецца ў пачатку 13-га раздзела 1-й кн. «Макавеяў». Рукапіс пісаўся доўга, відаць, рознымі пісцамі (захаваліся запісы 1573, 1576 і інш. гадоў). Запіс 1577 на арк. 318-м паведамляе аб заканчэнні перапіскі кніг Езехія-прарока «повеленіем же и пилностію б [о] гобойного іерея Іоанна пастыря х[ристо]вых овець і в неславном же градѣ Маначинѣ...». У склад гэтай часткі ўваходзяць копіі з пражскіх выданняў С.: «Юдзіф», «Эсфір», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Прамудрасць божая», Ісус Сірахаў», «Плач Ераміі», «Прарок Данііл». Такім чынам, у зборніку ў цэлым змешчаны спісы з усіх пражскіх выданняў С. 1517—19, акрамя «Псалтыра». 4) У Зборніку канца 16 ст. («у аркуш», паўустаў, 243 арк.). У пач. 20 ст. зберагаўся ў зборах львоўскага «Народнага дома» (цяпер у Львоўскай

навук. б-цы імя В. Стафаніка, калекцыя рукапісаў А. Петрушэвіча, № 44). Уключаў спісы з пражскіх выданняў С.: «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон» (абрываецца на 32-м раздзеле). 5) У Зборніку кніг Старога запавету пач. 17 ст. («у аркуш», паўустаў, 316 арк.). Зборнік выяўлены ў Румянцаўскім музеі. Мае ўкладны запіс сялянкі Стэчыхі, якая ў 1-й пал. 17 ст. купіла і падаравала рукапіс царкве св. Благавешчання Багародзіцы ў сяле Падманастыр'і каля Львова. У 1736 зборнік знаходзіўся ў с. Новым Яраслаўскага пав. Уключае спісы з кн. С. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон», «Прарок Данііл», «Ісус Навін», «Юдзіф», «Эсфір». Зберагаецца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна, аддзел рукапісаў, ф. 256. 6) У фрагментах з пражскіх выданняў С., знойдзеных Я. Л. *Неміроўскім* у экз. *«Астрожскай біблії»* 1581 (Дзярж. б-ка СССР імя У. І. Леніна, Музей кнігі, інв. 1452). На 25 аркушах почыркам канца 16— пач. 17 ст. перапісаны прадмовы і загалоўкі раздзелаў да 21 кнігі з «Пражскай біблії» С. (акрамя «Псалтыра» і кн. «Прарок Даніїл»). Цытаты з выданняў С. сустракаюцца таксама ў рукапісах са збораў кіеўскага праф. Ф. А. Тарноўскага — «Против повести нынешних безбожных еретиков...» і ў інш. укр. зборніках.

Не менш распаўсюджанымі былі спісы з віленскіх выданняў С. Тры спісы «Апостала» 1525, па звестках Я. Ісаевіча, знаходзіліся ў зборах Перамышльскага грэка-каталіцкага капітула (пазней у Народнай б-цы ў Варшаве). Адзін з іх быў напісаны ў 1568 у доме ігумена Унеўскага манастыра С. Баршчэўскага (зарэгістраваны ў 1924 у фондах Першага дзярж. музея ў Кіеве, спіс новых паступленняў, № 32). Другі спіс з «Апостала» зроблены ў 1571 у с. Данілавец, каля Цярнопаля (Музей укр. мастацтва ў Львове). Спіс з «Апостала» напісаў «людем посполитым к научению и к добрым делом» у 1593 — 94 поп Г. Цеслугоўскі з Торчына ў «дзяржаве» земскага луцкага пісара М. Карыценскага (зберагаецца ў аддзеле рукапісаў Харкаўскай навук. б-кі імя У. Г. Караленкі, 819172). Трэці спіс «Апостала» «ізь друку доктора Франьцышка Скорины с Полоцка» выкананы ў 1593 пісарам у Чэтвертні (Зах. Украіна) Х. Чарэмскім — пры «дзяржаўцы» кн. Г. Збаражскім, ваяводзе браслаўскім і пінскім. Рукапіс фарматам «у аркуш», паўустаў, 253 арк. (Цэнтр. навук. б-ка АН УССР, І. 7462).

Выданні С. аказалі прыкметны ўплыў на рус. кніжную традыцыю. Ужо ў адным са спісаў «Генадзіеўскай біблії», датаваным прыкладна 1560-мі г., змешчаны (з некат. зменамі) прадмовы С. да 21 кнігі яго «Пражскай біблії», уключна з «Псалтыром» («у аркуш», паўустаў, 1013 арк; Дзярж. Гіст. музей у Маскве). Спіс з пражскіх выданняў («Прытчы Саламона», «Прамудрасць божая», «Песня песням», «Еклесіяст», «Ісус Сірахаў») змешчаны ў зборніку кананічных і рэлігійна-белетрыстычных тэкстаў, які пачынаецца з твора папы Грыгорыя «Беседования повестна к Петру архидиакону... о жителстве различных отец, их же у Италии обретьшимся». Гэты спіс, выкананы ў 2-й пал. 16 ст. («у чвэртку», паўустаў, 586 арк.), зберагаўся ў 17—18 ст. у Соль-Вычагодскім Увядзенскім манастыры, у 1-й пал. 19 ст. ў б-цы Талстога (зараз у Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына). Другі спіс 1-й пал. 17 ст. («у чвэртку», паўустаў, 169 арк; Дзярж. Публ. б-ка, аддзел рукапісаў) з творамі Васіля Вялікага, Іаана Златавуста, І. Дамаскіна і інш. належаў б-цы наўгародскага Сафійскага сабора, уключаў тэксты з 3-й кн. «Царствы» (разам са скарочаным перакладам некат. раздзелаў), кн. «Іоў». Перапісчык пакінуў прабелы там, дзе ў выданнях С. ўстаўлены ілюстрацыі. Гэта сведчыць аб тым, што арыгіналам для спіса былі непасрэдна пражскія друкі. Рус. скарапісныя запісы сустракаюцца на спісе 16 ст. з кн. «Ісус Сірахаў» (Дзярж. Публ. б-ка, аддзел рукапісаў, збор Пагодзіна, 85). З больш позніх спісаў зберагліся зборнік 17 ст., які захаваў тэкст 17 раздзелаў з 1-й кн. «Царствы» з прадмовай С. (Дзярж. Гіст. музей у Маскве), рукапісны канонік 1604—05 з дадаткамі 2-й чв. 19 ст., у які ўвайшлі акафісты С. (Дзярж. б-ка СССР імя У. І. Леніна). Невядома, ці захаваўся спіс з віленскага «Апостала» з падложным запісам «1500», які ў канцы 19 ст. належаў маскоўскаму бібліяфілу І. Л. Сіліну.

Асаблівага вывучэння патрабуе праблема тых спісаў, якія адлюстравалі некат. агульныя рысы скарынінскіх выданняў, невядомых у друкаваным выглядзе. Да іх адносяць кнігі «Параліпаменон», «Ездры», «Товіт», «Макавеяў», большасць кніг пракрокаў. Амаль усе яны змешчаны ў 3 укр. спісах, дзе стаяць побач з апісанымі ў бібліяграфіі выданнямі С. Ва ўсх.-слав. краінах спісы звычайна выконвалі тую ж асв. ідэалаг. ролю, як і яго выданні. Яны ўвасобілі ў сабе гіст. і культ. адзінства ўсх.-слав. народаў.

*Літ.:* 6; 69; 135; 335; 560; Калайдович К. Ф., Строев П. М. Обстоятельное описание славяно-российских рукописей, хранящихся в Москве в библиотеке... графа Ф. А. Толстого. М., 1825; Востоков А. Описание русских и словенских рукописей Румянцевского Музеума. Спб., 1842; Горский А. В., Невоструев К. И. Описание славянских рукописей Московской Синодальной библиотеки. Отд. 1. М., 1855; Добрянский Ф. Н. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковно-славянских и русских. Вильна, 1882; Свенціцький И. С. Опис рукописів Народного дому з колекції Ант. Петрушевича. Ч. 3. Львів, 1911; Проблемы научного описания рукописей и факсимильного издания памятников письменности. Л., 1981.

*Г. Я. Галенчанка.*

**СТАІЦЫ́ЗМ** (ад грэч. stoá порцік), філас. школа антычнасці, заснаваная Зянонам з Кітыёна каля 300 да н. э.

У развіцці філасофіі стаіцызму вылучаюць 3 перыяды: Стараж. Стоя (3—2 ст. да н. э.), Сярэдняя Стоя (2—1 ст. да н. э.) і Позняя Стоя (1—2 ст. н. э.). Гал. прадстаўнікі: Хрысіп (3 ст. да н. э.), Пасідоній [каля 135—50 (?) да н. э.], *Сенека*, Эпіктэт (каля 50— каля 140), Марк Аўрэлій (121—180). Захаваліся пераважна творы рымскіх стоікаў. Цэнтр. месца ў іх займае маральна-этычная праблематыка, заснаваная на лагічным вучэнні і матэрыяліст. фізіцы. Стаіцызм разглядае свет як матэрыяльна-рэчыўны універсум, які мэтазгодна ўладкаваны, самаразвіваецца, падпарадкаваны іманентнаму прыроднаму закону («логасу»). Іх этычны ідэал — мудрэц, які дзейнічае ў згодзе з прыродным законам, добраахвотна падпарадкоўваецца свайму лёсу. Дабрачыннае жыццё вынікае з сапраўднага пазнання (логасу), адрознення дабра і зла, вызвалення ад пачуццёвых імкненняў, сумленнага выканання свайго абавязку. Аснова маральных паводзін — унутраная духоўная свабода чалавека, якая не залежыць ад знешніх абставін і цалкам вызначае адносіны індывіда да свету і інш. людзей. Універсальны закон, што пануе ў прыродзе і грамадстве, ураўноўвае чалавецтва, робіць усіх людзей грамадзянамі адзінай сусв. дзяржавы — Касмаполісу. Адначасова стаіцызм лічыць дабрачыннасцю ўдзел у грамадскім жыцці рэальнай дзяржавы, дзейнасць на карысць свайго народа. Аказаў моцны ўплыў на фарміраванне хрысц. філасофіі (гл. *Патрыстыка*). Яго этычнае вучэнне атрымала розныя вытлумачэнні ў наступныя эпохі: для сярэдніх вякоў — пропаведзь пакорлівасці, непраціўлення злу; для Адраджэння — этычны *рацыяналізм*, ідэал духоўнай свабоды.

У поглядах С. выразна выяўляецца ўздзеянне тых ідэй стаіцызму, якія атрымалі шырокі рэзананс у еўрап. рэнесансавым гуманізме 15—16 ст. Найб. прыкметны ўплыў зрабілі этычныя погляды Цыцэрона, творы якога былі шырока вядомы на Беларусі ў часы С. Гэта перш за ўсё сцвярджэнне самакаштоўнасці зямнога быцця, прызнанне разумнага мыслення, ведаў як неабходнай умовы маральнай дабрачыннасці, «абы, научившися мудрости», людзі «добре живучи на свете» (гл. с. 37); атаясамліванне прыроднай і божай мудрасці, закона прыроды (логаса) і бога (гл. с. 136—137); імкненне да вызвалення чалавечай думкі ад сляпой веры, сцвярджэнне духоўнай самастойнасці асобы («наивышшая мудрость» — гэта «познание самого себе»). У прадмове да «Прытчаў Саламона» С. выказаў блізкую да стаіцызму думку пра тое, што галоўнае для чалавека — удасканаленне зямнога жыцця, адказ на пытанне «яко ся имамы справовати и жити на сем свете» (гл. с. 33). Скарынінская трактоўка мудрасці таксама роднасная вучэнню стаіцызму пра дасягненне чалавекам інтэлектуальна-маральнай дасканаласці праз далучэнне да ведаў. Услед за рымскімі стоікамі С. высока ацэньваў служэнне грамадскаму дабру, выкананне грамадзянскага абавязку, каб «каждый хрестианин свое имея дарование к посполитого доброго розмножению да уделяеть» (гл. с. 196—197). Адначасова С. пераасэнсоўваў стаіцысцкую канцэпцыю вышэйшага дабра і сацыяльна-маральнага абавязку чалавека ў духу глыбокага патрыятызму. Адмаўляючыся ад касмапалітызму стоікаў, С. заклікаў для «отчины своея» не шкадаваць «всякого тружания и скарбов» (гл. с. 94).

*Літ.:* Асмус В. Ф. Античная философия. 2. изд. М., 1976; Богомолов А. С. Античная философия. М., 1985; Подокшин С. А. Идеи античной философии в гуманистической мысли Белоруссии // Идеи гуманизма в обще-

ственно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977. *Г. У. Грушавы.*

**СТАЛЬМАШО́НАК** Уладзімір Іванавіч (н. 1928), беларускі сав. жывапісец. Засл. дзеяч мастацтваў БССР (1981). Аўтар карціны «Слова пра Беларусь» (1972, 200 × 210 см, Дзярж. маст. музей БССР). На ёй С. паказаны сярод вядомых бел. грамадскіх дзеячаў, пісьменнікаў і дзеячаў культуры (Ефрасіння Полацкая, Кірыл Тураўскі, Сымон Будны, Пётр Мсціславец, Ф. Багушэвіч, К. Каліноўскі, Цётка, М. Багдановіч, Я. Колас, Я. Купала, Ц. Гартны, У. Галубок). У 1980—81 (з В. *Дайгала*) выканаў вітраж «Свята зямлі беларускай» (6,7 × × 42 м, Мінскі дом мод-2). Па ўсёй плоскасці вітража размешчаны асобныя фігуры, групы і партрэты людзей, якія праславілі Беларусь у розныя перыяды яе гісторыі — ад Ефрасінні Полацкай да касманаўтаў П. І. Клімука і У. В. Кавалёнка. Амаль у цэнтры кампазіцыі — паўфігура С. Яна пададзена франтальна (паводле вядомага гравюрнага партрэта С.), пад ёй надпіс «Францыск Скарына» і арнаментальныя ўстаўкі. Абапал Скарыны М. Багдановіч і Цётка. Фігуры манументальныя, што падкрэслена і памерам, і павольным урачыстым жэстам рук, рытмам вертыкальных і гарызантальных ліній прамавугольнага шкла, з якіх складаецца гэты фрагмент. *І. М. Паньшына.*



У. Стальмашонак. Слова пра Беларусь. 1972.

**СТАРАБЕЛАРУ́СКАЯ ЛІТАРАТУ́РНА-ПІСЬМО́ВАЯ МО́ВА,** мова беларускай пісьменнасці ў 14 — пач. 18 ст. Была непасрэдным працягам на бел. землях стараж.-рус. літаратурна-пісьмовай мовы. У Стараж. Русі існавала пісьмовае двухмоўе, прадстаўленае царк.-слав. (старaслав.) і стараж.-рус. літаратурнымі мовамі з пэўным размежаваннем у сферах функцыяніравання. Царк.-слав. мова выкарыстоўвалася ў набажэнстве, на ёй перапісваліся са стараж.-балг. пратографаў кананічныя рэліг. творы (Псалтыр, Евангелле) і ствараліся арыгінальныя літаратурныя помнікі рэліг. зместу («Жыціе Феадосія Пячэрскага», «Сказанне аб Барысе і Глебе», «словы» Кірыла Тураўскага і інш.). Старажытнарус. літаратурная мова задавальняла духоўныя інтарэсы і дзелавыя патрэбы стараж.-рус. насельніцтва («Аповесць мінулых гадоў», «Павучанне Уладзіміра Манамаха», «Слова аб палку Ігаравым», «Руская праўда», граматы, дагаворы і інш.). Паміж гэтымі пісьмовымі мовамі адбывалася цеснае ўзаемадзеянне: старaслав. мова рэліг. твораў насычалася мясцовымі, усх.-слав. рысамі, а некат. жанры стараж.-рус. літаратурнай мовы шырока выкарыстоўвалі старaслав. грамат. і лексічныя сродкі. Сістэма пісьмовага двухмоўя з некат. мадыфікацыяй спачатку існавала і на бел. землях у перыяд утварэння бел. народнасці. Аднак на Беларусі сфера выкарыстання царк.-слав. мовы паступова звужвалася за кошт пранікнення бел. мовы ў рэліг. пісьменнасць. З канца 16 ст., калі Беларусь знаходзілася ў складзе Рэчы Паспалітай, бел. царк.-слав. пісьмовае двухмоўе дапоўнілася польскай і лац. мовамі. У выніку на Беларусі стварылася пісьмовае чатырохмоўе — з'ява, аналаг якой цяжка знайсці. Сучасныя даследчыкі гісторыі бел. літаратурнай мовы падзяляюць стараж. пісьмовыя помнікі з бел. моўнай асновай на тры жанрава-стылявыя разнавіднасці: юрыдычна-дзелавыя, свецка-мастацкія і канфесіянальныя, што адрозніваюцца паміж сабой не толькі прызначэннем і зместам, але і сістэмай моўных сродкаў. Амаль усе раннія бел. помнікі яшчэ трывала захоўваюць традыцыі стараж.-рус. літаратурнай мовы, асабліва ў графіцы і арфаграфіі. Бел. кніжнікі выкарыстaлі стараж.-рус. кірылаўскую графіку, але крыху спрасцілі яе, апусціўшы некат. дублетныя літары. Толькі ў канцы 17—18 ст. рабіліся спробы запісваць бел. тэксты лацінкай польскай мадыфікацыі («Ліст да Абуховіча», *«Хроніка» Быхаўца,* «Камедыя» К. Марашэўскага). У пісьменнасці эпохі Кіеўскай Русі ў арфаграфіі асн. быў фанет. прынцып, калі кожны гук жывой мовы на пісьме абазначаўся асобнай літарай. Стараж.-рус. арфаграф. прыёмы настолькі трывала былі засвоены бел. пісцамі, што новыя фанет. з'явы, якія ўзнікалі ў эпоху ўтварэння бел. мовы, у пісьменнасці адлюстроўвалі толькі зрэдку ў выглядзе спарадычных памылак. Такім чынам фанет. пісьмо стараж.-рус. эпохі на бел. глебе ператварылася ў гісторыка-этымалагічнае. Яно заставалася асноўным на працягу ўсяго старабел. перыяду. Напр., ніводзін помнік старабел. пісьменнасці не адлюстроўвае як правапісную норму такія характэрныя з'явы бел. мовы, як аканне і яканне, дзеканне і цеканне. Толькі зацвярдзенне шыпячых і **«р»**, пераход **«у»** ў **«ў»** і змяненне **«ѣ»** ў **«е»** у некат. помніках старабел. пісьменнасці знаходзілі больш шырокае адлюстраванне і часам набывалі значэнне варыянтнай арфаграф. нормы (напісанні тыпу **жыти, вдарыти, врадъ, вчынити, чотыры, лесъ, дедъ** замест ранейшых **жити, ударити, урядъ, учинити, четыре, лѣсъ, дѣдъ**). У параўнанні з арфаграфіяй у пісьменнасці больш шырока адлюстроўваліся грамат. і лексічныя асаблівасці бел. мовы. З канца 14 ст. пісьменнасць на тэр. Беларусі насычаецца бел. рысамі ў такой меры, што ёсць усе падставы гаварыць пра бел. літаратурна-пісьмовую мову, якая сваімі арфаграф., граматычнымі і лексічнымі рысамі значна адрозніваецца ад стараж.-рус. літаратурнай мовы. Па колькасці вядомых стараж. пісьмовых помнікаў на бел. мове юрыд. пісьменнасць займае першае месца. Самыя раннія з іх — гандл. дагаворы паўн. гарадоў Беларусі з Рыгай і Готландам, а таксама даравальныя граматы літ. і мясц. бел. князёў. Развіццю гэтага жанру пісьменнасці садзейнічала тое, што ў Вял. кн. Літоўскім, куды тады ўваходзіла Беларусь, бел. мова была дзяржаўнай. У 1-й пал. 15 ст. на бел. мову перакладзены з лац. арыгінала вядомы Вісліцкі статут 1347. У 1468 на бел. мове з'явіўся Судзебнік караля Казіміра IV Ягелончыка. З канца 15 ст. ў практыку грамадскага жыцця ўведзены т. зв. земскія кнігі — зборы афіц. запісаў аб даравannях і продажах уладанняў. Створаныя ў канцы 14—15 ст. у велікакняжацкай канцылярыі важнейшыя актавыя запісы дзярж. значэння сталі асновай вял. гіст. архіва, т. зв. *Метрыкі Вялікага княства Літоўскага.* Метрыка папаўнялася дакументамі да канца 18 ст. і ў поўным аб'ёме мела больш як 550 тамоў. У яе ўваходзяць разнастайныя па форме і зместу дакументы, якія выдаваліся каралямі, сеймамі і ўрадавымі асобамі або паступалі да іх ад замежных урадаў, службовых і прыватных асоб. Матэрыялы Метрыкі да пач. 17 ст. ў большасці на бел. мове, пазнейшыя — на польск. і лац. мовах. Бел. мовай напісаны статуты Вял. кн. Літоўскага трох рэдакцый — 1529, 1566 і 1588. Статут 1588 — вышэйшая ступень развіцця юрыд. мовы Вял. кн. Літоўскага. Як важнейшы дзярж. кодэкс ён быў надрукаваны ў Вільні ў друкарні братоў *Мамонічаў.* У 16—1-й пал. 17 ст. на бел. мове афармляліся дакументы ў гарадскіх, земскіх, замкавых, падкаморскіх і копных судах, у сейме і гал. літ. трыбунале, у гар. управах, магістратах і магдэбургіях, праводзіліся вопісы войска, рэвізіі і інвентарызацыя маёнткаў і інш. уладанняў, яна выкарыстоўвалася ў дыпламат. і прыватнай перапісцы. На ёй пісаліся таксама дакументы ў каралеўскіх канцылярыях Кракава і Варшавы, прызначаныя для Вял. кн. Літоўскага.

Старабел. юрыдычна-дзелавая пісьменнасць у параўнанні з інш. жанрава-стылявымі разнавіднасцямі найб. поўна адлюстроўвае жывую бел. мову, яна цалкам свабодная ад царкоўнаславянізмаў. Своеасаблівы каларыт надаюць ёй спецыфічныя канцылярскія моўныя штампы і шматлікія канцылярска-юрыд. тэрміны лац. паходжання.

Сярод жанрава-стылявых разнавіднасцей пісьменнасці эпохі бел. народнасці адно з вядучых месц па колькасці вядомых помнікаў і па іх разнастайнасці належыць свецка-мастацкай л-ры. Самымі стараж. і пашыранымі з'яўляюцца летапісы рознага паходжання і складу. На Беларусі, як і ў інш. частках усх.-слав. зямель, перапісваліся стараж.-рус. летапісныя зводы. Тыповымі ўзорамі

такіх помнікаў можна лічыць спіс 2-й пал. 15 ст. Радзівілаўскага (Кёнігсбергскага) летапісу і т. зв. Летапіс Аўрамкі, перапісаны ў Смаленску манахам Аўрамкам у 1495. Стараж.-рус. летапісы служылі ўзорам літаратурна-пісьмовай мовы для стваральнікаў арыгінальных бел. летапісаў і інш. літаратурных твораў. Уласнае бел. летапісанне ўжо ў канцы 14 — пач. 15 ст. складала важнейшую частку тагачаснага літаратурнага працэсу. Аднак раннія бел. летапісы дайшлі толькі ў пазнейшых спісах, з якіх Нікіфараўскі, Слуцкі (Увараўскі) і Віленскі адносяцца да канца 15 ст., а астатнія (каля 20) — да 16—17 ст. У старэйшых спісах яшчэ трывала захоўваюцца архаічныя моўныя рысы, напр., формы аорыста і імперфекта ў сістэме дзеяслова (**бысть, нача, поиде, упве, даша, убища, зажигаху, кладаху**), паўд.-слав., няпоўнагалосныя ўтварэнні ў лексіцы (**врагъ, глава, градъ, злато, пленити**) і інш. стараслав. і стараж.-рус. словы тыпу **азъ, бракъ, зело, семо, чадо.**

Агульная асаблівасць мовы летапісаў пазнейшага часу — яе вызваленне ад царк.-слав. стыхіі і напаўненне сродкамі жывой бел. мовы і запазычаннямі з польск. мовы. У 16—1-й пал. 17 ст. свецкая пісьменнасць на бел. мове значна пашырылася ў жанравых адносінах. Афіцыйнае дзярж. летапісанне дапаўнялася гіст. запіскамі мясц. характару («Баркалабаўскі летапіс»), творамі паліт. сатыры («Прамова Мялешкі», «Ліст да Абуховіча»), мемуарамі («Дзённік» Ф. Еўлашоўскага, «Дыярыуш» А. Філіповіча), перакладнымі воінскімі і рыцарскімі раманамі і аповесцямі («Александрыя», «Гісторыя Траянскай вайны», «Аповесць пра Трышчана», «Аповесць пра Баву», «Гісторыя пра Атылу», «Аповесць пра Скандэрбега»), хронікамі і хранографамі («Хроніка ўсяго свету» М. Бельскага, «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» М. Стрыйкоўскага). У гэтых творах, як і ў пазнейшых летапісах, амаль няма царкоўнаславянізмаў (за выключэннем рэліг. тэрміналогіі), але шмат паланізмаў. Пераклад свецкіх твораў пераважна з польск. мовы садзейнічаў таму, што ў бел. пісьмовай мове склаўся значны пласт лексікі, агульнай для польск. і бел. моў (назоўнікі **жарть, клопоть, ковалекь, краина, справа,** прыметнікі **певный, смутный, тлустый,** дзеясловы **бачити, пилновати, шукати**). Дзякуючы перакладным творам у старабел. мове замацаваліся шматлікія запазычанні-інтэрнацыяналізмы з зах.-еўрап. і класічных моў (**авторъ, банкетъ, гоноръ, коронация, ораторъ, палацъ, секретарь, трактатъ, форма, фундаментъ**) і інш.

Адметнай асаблівасцю бел. літаратурнай мовы стараж. перыяду з'яўляецца пранікненне яе ў сферу рэліг. л-ры. Гэтаму садзейнічалі як агульны заняпад на Беларусі царк.-слав. мовы, так і пашырэнне тут розных рэфарм. плыней, прыхільнікі якіх імкнуліся распаўсюджваць рэліг. творы на мясц. нар. мовах. Чэцця 1489— першы значны рэліг. помнік, дзе бел. моўныя рысы спалучаюцца з царкоўнаславянскімі. У канцы 15 ст. паявіліся пераклады на бел. мову некат. апакрыфічных і агіяграфічных твораў («Пакуты Хрыстовы», «Аповесць аб трох каралях», «Жыціе Аляксея, чалавека божага»). У пач. 16 ст. бел. мова пачала пранікаць і ў кананічныя рэліг. творы. Першыя крокі ў гэтым кірунку зроблены С., які ў 1517—19 выдаў большасць кніг Старога запавету. Гетэрагенная мова скарынінскіх выданняў уяўляе сабой сумесь элементаў царк.-слав., бел., польск. і чэш. з яўнай перавагай царкоўнаславянскіх (гл. *Мова выданняў Ф. Скарыны, Мова прадмоў Ф. Скарыны*). Амаль адначасова з дзейнасцю С. быў зроблены пераклад на бел. мову некалькіх біблейскіх кніг са стараўкр. мовы, што лічыцца унікальнай з'явай гісторыі Бібліі еўрап. народаў (пераклады захаваліся ў зборніку РКГ-262 б-кі АН Літоўскай ССР). У справе збліжэння мовы твораў з жывой нар. мовай далей за сваіх папярэднікаў пайшоў Сымон Будны, які апублікаваў у Нясвіжы на бел. мове *«Катэхізіс» 1562* і «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам» (не зберагլася). У мове Буднага яшчэ адлюстроўваецца царк.-слав. ўплыў, але пераважаюць мясц. бел. элементы. Ажыццёўлены ў сярэдзіне 16 ст. пераклад з польск. мовы на бел. Псалтыра — самай распаўсюджанай кнігі ў паслядоўнікаў хрысц. веравызнання — выразна адлюстроўвае асн. тэндэнцыю развіцця бел. пісьмовай мовы стараж. перыяду: паступовы спад царк.-слав. стыхіі і прагрэсіруючы рост польск. моўнага струменю. Імкненне да збліжэння мовы рэліг. л-ры з жывой нар. мовай атрымала закончанае выражэнне ў асв. дзейнасці Васіля Цяпінскага, які каля 1580 выдаў на бел. мове «Евангелле» паралельна з царк.-слав. тэкстам. Ён свядома імкнуўся адштурхнуцца ад царк.-слав. тэксту і дакладна перадаць сэнс арыгінала сродкамі бел. мовы, але яму не ўдалося пазбегнуць залежнасці ад царк.-слав. сінтаксісу. У пач. 17 ст. практыкай замацавалася размежаванне функцый бел. і царк.-слав. моў у рэліг. сферы. Асн. галіной ужывання бел. мовы ў пісьмовай форме была гамілетычная л-ра, заснаваная на павучальным тлумачэнні кніг Старога і Новага запаветаў. Гэты жанр прадстаўлены шматлікімі рукапіснымі зборнікамі, якія цяпер захоўваюцца ў б-ках Вільнюса, Ленінграда і Масквы, а таксама друкаванымі выданнямі: «Казанне святога Кірыла...» Стэфана Зізанія (1596), «Евангелле вучыцельнае» (1616), «Духоўныя гутаркі Макарыя» (1627) і інш. Другое месца па колькасці дайшоўшых да нас рэліг. помнікаў займае агіяграфічная л-ра, прадстаўленая рукапіснымі зборнікамі жыцій святых. У пач. 17 ст. на бел. мове было апублікавана некалькі казанняў, складзеных па правілах тагачаснай рыторыкі: «Казанне двое...» Л. Карповіча (1615), «Казанне на пахаванне Лявонція Карповіча» Мялеція Смартыцкага (1620), «Казанне па Аляксандру Шаптыцкім» (1622). Бел. мова ўжывалася таксама ў спец. настаўленнях аб працэдурах выканання рэліг. рытуалаў і ў царк. заканадаўстве. У канцы 16— пач. 18 ст. на бел. мове з'явілася мноства палемічных твораў, звязаных з правядзеннем царк. уніі 1596: «Унія грэкаў з касцёлам рымскім» (1595), «Антырызіс» (1599), «Абарона святога сінода флярэнційскага» (1604), «Гармонія або згода веры...» (1608) уладзіміра-брэсцкага епіскапа І. Пацея, «Апакрысіс» (1598) Хрыстафора Філалета, «Апісанне і абарона сабора рускага берасцейскага» (1597). Мова помнікаў вельмі неаднародная. У рукапісных гамілетычных і агіяграфічных творах больш блізкая да жывой нар. мовы і да стыліст. прыёмаў свецка-мастацкай л-ры. Друкаваныя тэксты ў значнай меры адлюстроўваюць царк.-слав. ўплыў, бо яны выходзілі з тых самых друкарняў, што і богаслужэбная л-ра на царк.-слав. мове (акафіст, евангелле, канонік, малітваслоў, паўустаў, псалтыр, служэбнік, часаслоў). Выкарыстанне бел. мовы для рэліг. мэт значна пашырала грамадска-культ. функцыі літаратурна-пісьмовай бел. мовы і павышала яе грамадскі прэстыж. У гэтых адносінах старабел. літаратурная мова збліжаецца са стараўкр., але адрозніваецца ад моўнай сітуацыі ў тагачаснай Рус. дзяржаве, дзе рэліг. жыццё ва ўсіх яго праяўленнях абслугоўвалася царк.-слав. мовай. Рэліг. л-ра на бел. мове па графіцы, арфаграфіі і марфалогіі збліжаецца з юрыдычна-дзелавой і свецка-маст. пісьменнасцю, але прыкметна адрозніваецца ад іх сінтаксісам і асаблівa лексікай. У рэліг. л-ры, звязанай з багаслоўска-філас. светапоглядам, шырока прадстаўлены такія разрады абстрактна-кніжнай лексікі, у якіх зусім не адчувалі патрэбы дзелавая і свецкая пісьменнасць з іх жыццёва-практычнай накіраванасцю. Тым не менш усе гэтыя стыліст. разрады старабел. пісьменнасці аб'ядноўваюць у адзіную пісьмова-моўную сістэму, якую прынята называць старабел. літаратурнай мовай.

Дасягнуўшы к пач. 17 ст. найб. развіцця сваёй унутранай структуры і ўзвышэння сваёй грамадскай ролі, старабел. літаратурная мова паступова пайшла на спад у абставінах новых паліт. і культ. умоў у час знаходжання Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай. Аб'яднанне Вял. кн. Літоўскага з Польшчай у выніку Люблінскай уніі 1569 прывяло да таго, што вышэйшыя слаі бел. грамадства ў мэтах захавання свайго паліт. і эканам. становішча паступова паланізаваліся і перайшлі да карыстання польск. мовай. Дзелавая пісьменнасць на бел. мове, самая пашыраная ў параўнанні са свецкай і рэліг. у 15—16 ст., да сярэдзіны 17 ст. паступова саступіла месца польск. мове. Побач з польск. на Беларусі пачала распаўсюджвацца і лац. мова, якая па зах.-еўрап. традыцыі стала мовай навукі і выкарыстоўвалася ў важнейшых дзярж. актах. Паралельна з заняпадам бел. дзелавой пісьменнасці спынілася выкарыстанне бел. мовы ў галіне свецка-маст. і рэліг. л-ры. Новая бел. літаратурная мова фарміравалася ў канцы 18 ст. на аснове нар. гаворак без выкарыстання здабыткаў старабел. літаратурнай мовы.

*Літ.:* 584; 778. *А. І. Журайскі.*

**СТА́САЎ** Уладзімір Васілевіч (1824—1906), рускі мастацкі і муз. крытык, гісторык мастацтва, археолаг. Адзін з буйнейшых дзеячаў рус. дэмакр. культуры 19 ст. Ганаровы чл. АН (1900). Зрабіў значны ўклад у вывучэнне гравюрных выданняў С. У працы «Разгляд рукапіснага твора п. Равінскага «Рускія граверы і іх творы з 1564 г. да заснавання Акадэміі мастацтваў» (1864) адзначыў, што выданні С. з гравюрамі адыгралі важную ролю для шэрагу слав. твораў ксілаграф. мастацтва. Лічыў, што гравюры ў кнігах С. выканалі некалькі майстроў, сярод якіх былі і славян. мастакі, што гравюрны партрэт С. па малюнку і каларытнасці можна параўнаць з лепшымі ням. гравюрамі таго часу. Да лепшых дрэварытаў С. аднесіў «Асада Іерусаліма», «Давід перад кіvотам», «Будаўніцтва храма ў Іерусаліме», да менш выразных — «Тройцу». Меркаваў, што яе выканаў сам С. або хто-н. з яго памочнікаў. Ён першы звярнуў увагу на слав. тып твараў і касцюмаў у многіх гравюрах С. Адсюль рабіў вывад, што гравюры да «Бібліі» С. маглі выканаць мастакі чэш. гравёрнай школы (гіпотэза яго не пацвердзілася). На партрэце С. ён заўважыў *манаграму* якая, на яго думку, належыць не маляvальшчыку, а гравёру, што выканаў партрэт. Літара Т, якая змешчана на многіх гравюрах (у т. л. і на партрэце), паводле Стасава, не можа быць прынята за манаграму гравёра, таму што яна стаіць на аркушах, якія гравіравалі розныя выканаўцы. Лічыў, што гравіроўка (разьба) у дрэварытах С. (пражскіх і віленскіх) амаль заўсёды горшая за малюнак. «Славянскі тып» ён адзначаў і ў некат. дрэварытах віленскіх выданняў, дзе тэхніка гравіроўкі часам больш грубая. Аднак застаўкі і ініцыялы, на думку Стасава, у Вільні выкананы вельмі тонка, з рэдкай маст. дасканаласцю («Малую падарожную кніжку» называў «славянскім эльзевіраўскім выданнем»). Гравюры да гэтага выдання, паводле Стасава, выконвалі замежныя (відаць, нямецкія) і мясц. слав. мастакі. У «Апостале» 1525 вял. літары, герб С. і манаграма з літарай Т. выкананы, паводле Стасава, надзвычай тонка і з вял. густам (пераўзыходзяць усё награвіраванае ў «Бібліі»). Лічыў, што выданні С. на працягу 16—1-й пал. 18 ст. не перадалі інш. школам высокай дасканаласці сваіх гравюр на дрэве. Аднак, на думку Стасава, яны мелі пазней прамы ўплыў на лёс рус. гравюры на дрэве. Ён адзначыў наяўнасць друкарскага матэрыялу С. (заставак і вял. літар) у віленскіх і еўінскіх выданнях 1590-х г. і пазней («Граматыка» 1596, «Устаў бажэственнай літургіі» 1624, «Вертаград душэўны» 1620, еўінскі «Новы запавет з Псалтыром» 1611, «Бяседы Макарыя егіпецкага» 1627, «Трэбнік» 1697), адзначаў грубае перайманне скарынінскіх аздоб. Сцвярджаў несумненнасць уплыву выданняў С. на віленскую школу гравіроўкі па дрэве.

*Літ.:* Стефанович В. Н. В. В. Стасов (1824—1906): Очерк библиотечной деятельности. М., 1956; Лебедев А. К., Солодовников А. В. В. В. Стасов. М., 1982.



Першая старонка ўводзін да **Статута Вялікага княства Літоўскага 1529 года.**

**СТАТУ́Т ВЯЛІ́КАГА КНЯ́СТВА ЛІТО́ЎСКАГА 1529** — першы збор законаў у феад. Еўропе. Падрыхтаваны мясц. вучонымі і юрыстамі-практыкамі на аснове кадыфікацыі і сістэматызацыі норм мясц. права (прозвішчы невядомыя). Ёсць падставы меркаваць, што ў гэтай працы прымаў удзел С., таму што ідэі, выказаныя ім аб праве ў прадмовах і пасляслоўях да яго выданняў, назіраюцца і ў Статуце. Пры распрацоўцы Статута яго складальнікі ўпершыню вырашылі шэраг складаных тэарэт. і практычных задач: выпрацавалі сістэму і структуру размяшчэння прававых норм у залежнасці ад іх зместу, уключылі тыповыя і абагульненыя нормы; далі дакладную рэдакцыю кожнаму артыкулу; увялі шмат новых прававых норм, у якіх адлюстраваны тагачасныя таварна-грашовыя адносіны. Уключаны нормы дзярж., адміністрацыйнага, грамадзянскага, сямейнага, крымінальнага, судова-працэсуальнага і інш. галін права. Яго складальнікі не прытрымліваліся сістэмы кадыфікацыі, прынятай у рымскім праве, а выпрацавалі сваю. У яе аснове закладзены новыя прынцыпы: суверэннасць дзяржавы насуперак сярэдневяковаму касмапалітызму, адзінства права, прыярытэт пісанага права. У сістэму Статута ўваходзілі нормы агульнага права і спецыяльныя нормы, якія забяспечвалі прывілеі пануючаму класу або яго асобным групам. Гэтыя прывілеі не складалі выключэння ў сістэме Статута, а з'яўляліся яго састаўной часткай, хаця і супярэчылі яго асн. прынцыпам.

Статут уведзены ў дзеянне 29.9.1529. Ён складаўся з 13 раздзелаў, якія падраздзяляліся на артыкулы. Першапачаткова ў Статуце было 224 артыкулы, затым былі ўнесены дапаўненні, у выніку якіх колькасць артыкулаў павялічылася да 283. У першых трох раздзелах змяшчаліся ў асн. нормы дзярж. права або прынцыповыя палажэнні іншых галін права, у 4-м і 5-м — шлюбна-сямейнае і спадчыннае, у 6-м — працэсуальнае, у 7-м — крымінальнае, у 8-м — зямельнае, у 9-м — лясное і паляўнічае, у 10-м — грамадзянскае, у 11—13-м — крымінальнае і крымінальна-працэсуальнае права. У Статуце юрыдычна замацаваны асновы грамадскага і дзярж. ладу, прававое становішча класаў, саслоўяў і сац. груп насельніцтва, парадак утварэння, склад і паўнамоцтвы некат. органаў дзярж. кіравання і суда. Абвяшчалася правіла, паводле якога ўсе асобы, «як убогія, так і багатыя», павінны былі судзіцца па нормах, выкладзеных у Статуце. Гасудар абавязваўся захоўваць тэрытарыяльную цэласнасць дзяржавы, не дапускаць чужаземцаў на дзярж. пасады ў Беларусі і Літве, не даваць ім маёнткаў, не адбіраць у мясц. феадалаў пасад і маёмасці без суда, прытрымлівацца ўсіх старых законаў і звычаяў. Асаблівая ўвага ў Статуце надавалася судова-працэсуальнаму праву. Суд у перыяд феадалізму быў асн. органам, які забяспечваў ахову правапарадку, дзейнасць яго была накіравана на абмежаванне самавольства феадалаў, наданне аўтарытэту праву. Гал. ўвага надавалася парадку ажыццяўлення правасуддзя. Абвяшчаўся прынцып публічнасці здзяйснення правасуддзя, фармальнай роўнасці бакоў у працэсе, права абвінавачанага на абарону з удзелам адваката. Адначасова ў Статуце абвяшчалася захаванне прывілеяў і льгот для феадалаў, што на практыцы вяло да бяспраўя простых людзей і захавання ўсёй паўнаты правоў толькі для буйных феадалаў. Аднак у перыяд феадалізму нават такое абвяшчэнне ідэі правапарадку было значным крокам наперад і выклікана было яно развіццём таварна-грашовых адносін. Ідэі гуманізму паўплывалі на нормы крымінальнага і грамадзянскага права, выкладзеныя ў Статуце 1529 і наступных статутах. Так, у арт. 7-м раздзела 1-га абвяшчалася, што ніхто не павінен адказваць за чужую віну, а крымінальнае пакаранне трэба назначаць толькі асобам, віна якіх устаноўлена судом. У арт. 27-м раздзела 7-га ўстанаўліваўся тэрмін крымінальнага праследавання: за найб. цяжкае злачынства — 10 гадоў, менш цяжкае — 3 гады. У артыкуле 7-м раздзела 11-га была зроблена спроба абмежаваць халопства. Вольны чалавек за здзейсненае злачынства не павінен быў перадавацца ў вечную няволю. У Статуце даволі поўна былі выкладзены нормы, якія забяспечвалі права ўласнасці феадалаў. Шмат увагі надавалася шлюбна-сямейнаму праву. Змяшчаліся нормы, якія вызначалі маёмасныя правы жанчын і дзяцей, парадак выдачы дзяўчат замуж. Абвяшчалася абяцанне вял. князя не выдаваць дзяўчат прымусова замуж, а толькі з іх згоды. Падрабязна рэгламентаваўся парадак назначэння апекуноў непаўналетнім дзецям, якія засталіся без бацькоў. Статут 1529 мае важнае значэнне як помнік прававой культуры і мовы бел. народа. Напісаны на бел. мове, ён быў даступны ўсім пісьменным людзям таго часу і дае магчымасць вывучаць лексіку і стыль, дзярж.-прававую тэрміналогію таго часу. Прававыя нормы, выкладзеныя ў Статуце, у сваёй сукупнасці складалі своеасаблівую феадальную канстытуцыю, у якой упершыню вызначаліся структура і характар дзейнасці органаў дзярж. улады, замацоўваліся асн. правы і прывілеі пануючага класа і саслоўя шляхты. Выданне Статута адыграла значную ролю ў развіцці права, у далейшай яго кадыфікацыі і сістэматызацыі. Структура і змест Статута абвяргаюць выдумкі рэакцыйных бурж. гісторыкаў пра адставанне прававой культуры ў народаў Усх. Еўропы, якое нібыта мела месца.

*Публ.:* Статут Великого княжества Литовского 1529 г. Мн., 1960. *І. А. Юхо.*



**«Стварэнне свету».** Гравюра з кнігі «Быццё» Ф. Скарыны.

**«СТВАРЭ́ННЕ СВЕ́ТУ»,** «Шэсць дзён светабудовы», гравюра на 86-м аркушы *кнігі «Быццё»,* выдадзенай С. у Празе (1519).

У аснове сюжэта — шэсць дзён светабудовы: стварэнне свету; неба і вады; сушы, травы і дрэў; сонца, месяца і зорак; рыб, птушак і гадаў; звяроў і чалавека (Адама і Евы). Як і інш. біблейскія сюжэты, гэта тэма была папулярнай у мастацтве Адраджэння, найб. яркае ўвасабленне атрымала ў размалёўцы Сікстынскай капэлы Мікеланджэла і ў ватыканскіх лоджыях Рафаэля.

На гравюры (161×106 мм) з 6 малюнкаў, якія змешчаны ў рамках, дэкарыраваных зубчастым акантавым лісцем, выява бога, якая нагадвае бел. селяніна (прысадзістая постаць, адзенне). Даследчыкі адзначалі падабенства гравюры «С. с.» да аналагічных ілюстрацый у інш. выданнях. М. Шчакаціхін знаходзіў у ёй падабенства да надрукаваных у Венецыі лац. Біблії (1499) і чэш. Біблії (1506). Аналагічныя гравюры ёсць таксама ў венецыянскай народнай Біблії (1471), Біблії Малермі (1490) і Біблії (1517). Параўнаўчы аналіз пераконвае, што сувязь іх з гравюрай С. чыста сюжэтная. У лац. і чэш. Бібліях на першым малюнку паказана стварэнне зямлі і неба, на скарынінскім — выява бога. У астатніх малюнках супадаюць сюжэты, але кампазіцыйнае, іканаграф. і стыліст. рашэнне далёка не аднолькавае. Розніцца рашэнне выявы бога, якое ў скарынінскай гравюры ўсюды манументалізавана. Імкнучыся падкрэсліць яго значнасць, мастак свядома вывеў фігуру за межы рамкі. У ілюстрацыях венецыянскіх і чэш. Біблій выява бога не вылучаецца з пейзажнага акружэння. Адрозніваецца і тэхніка гравіроўкі: у венец. Бібліях разьба больш вытанчаная, трактоўка фігуры бога і акружэнне набліжаюцца да стылю венецыянскай школы гравюры. У гравюры «С. с.» штрых больш сакавіты, каларытны, месцамі нават грубы, у зацененых месцах зліваецца ў чорныя плямы. Дэкор рамкі гравюры С. гатычнага характару. У ілюстрацыях венец. выданняў дэкор выкананы ў рэнесансавым стылі, у Бібліях 1471 і 1490-х г. рамка нагадвае трыумфальную арку. У лац. і чэш. Бібліях гравюра састаўная: кожны малюнак друкаваўся з асобнай дошкі. У С. гравюра выканана на адной дошцы. Гравюра «С. с.» своеасаблівая, майстры яе перапрацавалі італ. крыніцы, стварылі непаўторны і самабытны твор кніжнай графікі.

*Літ.:* 564; 792. *В. Ф. Шматаў.*

**СТРА́СЦІ ХРЫСТО́ВЫ,** гл. *Пакуты Хрыста.*

**СТРО́ГАНАВЫ,** рускія купцы і прамыслоўцы, буйныя землеўладальнікі і дзярж. дзеячы пач. 20 ст. Выхадцы з паморскіх сялян. Многія са Строганавых цікавіліся мастацтвам, л-рай, гісторыяй і археалогіяй, мелі багатыя б-кі, калекцыі карцін, твораў прыкладнога мастацтва. Заснавальнікам першай б-кі быў Аніка Строганаў (1497—1570), які падтрымліваў цесныя гандл. сувязі з Вял. кн. Літоўскім, адкуль разам з таварам у Сібір траплялі і кнігі. У лік маёмасці, якая была атрымана пасля смерці Анікі сынам Сямёнам і пляменнікамі (1578), увайшло больш за 200 рукапісных і друкаваных кніг. Сярод іх друкаваныя «Апостал літоўскі» і «Псалтыр літоўскі». Відаць, гэта былі віленскія выданні С. «Апостал» 1525 і «Псалтыр» 1522. Далейшы іх лёс дакладна не вядомы. У строганаўскім палацы-музеі, які існаваў у 1920-х г. у Петраградзе, захоўваўся канвалют пражскіх выданняў С. з яго партрэтам: кн. «Руф», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Прытчы Саламона», «Іоў», які зараз зберагаецца ў б-цы АН СССР (БАН, 37.1.17). На думку А. А. Увядзенскага, гэта параўнаўча пазнейшае набыццё Строганавых.

*Літ.:* 557; Введенский А. А. Дом Строгановых в XVI—XVII веках. М., 1962. *Г. Я. Галенчанка.*

**СТРО́ЕЎ** Павел Міхайлавіч (1796—1876), рускі гісторык, археограф і бібліёграф. Акад. Пецярб. АН (1849). З 1816 гал. наглядчык Камісіі друкавання дзярж. грамат і дагавораў. У 1825 сумесна з К. Ф. *Калайдовічам* выпусціў «Дакладнае апісанне славяна-расійскіх рукапісаў, якія захоўваюцца ў Маскве ў бібліятэцы... графа Фёдара Андрэевіча

Талстога». Тут апісаны спісы 16 ст. выданняў С. Сярод іх — спіс кніг «Іоў», «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Ісус Сірахаў», «Прамудрасць божая», выкананыя ў 1568 В. Жугаевічам. Апісаны таксама спіс 4 кніг «Царствы» і спіс 5 інш. выданняў С., што раней належаў Сольвычагодскаму Увядзенскаму манастыру. У 1829 выдаў «Дакладнае апісанне старадрукаваных кніг славянскіх і расійскіх, якія захоўваюцца ў бібліятэцы... графа Фёдара Андрэевіча Талстога». Тут падрабязна апісаны 7 канвалютаў, у якіх змешчаны 19 пражскіх выданняў С., «Апостал» 1525 і канвалют, у якім 10 акафістаў і канонаў з «Малой падарожнай кніжкі», прыведзены тэксты пасляслоўяў С., указана камплектнасць экземпляраў. Дадаткам да гэтага выдання былі «Палеаграфічныя здымкі шрыфтоў з XV стагоддзя па XVIII.., якія належалі да дакладнага апісання старадрукаваных кніг славянскіх і расійскіх, якія захоўваюцца ў бібліятэцы графа Фёдара Андрэевіча Талстога». Тут упершыню рэпрадуктаваны тытульныя лісты і палосы асобных выданняў С. У 1836 у «Апісанні старадрукаваных кніг славянскіх, якія знаходзяцца ў бібліятэцы... Івана Мікітавіча Царскага» апісаў 15 пражскіх выданняў С., а ў «Палеаграфічных здымках...», што прыкладаліся да гэтага «Апісання», апублікаваў рэпрадукцыю партрэта С., гравіраваную на медзі А. Фларовым. У каталогу «Рукапісы славянскія і расійскія, якія належаць... Івану Мікітавічу Царскаму» (1848) апісаў Зборнік 18 ст. з тэкстам «Пра скарынавы кнігі, новадрукаваныя Полацкія». У 1829 у час археаграф. экспедыцыі па паўночных губернях набыў у Шанкурску 8 пражскіх выданняў С., якія перадаў у б-ку АН. У апошнія гады жыцця працаваў над «Бібліялагічным слоўнікам», падрыхтаваў для яго падрабязнае апісанне пражскіх і віленскіх выданняў С. У выдадзеным пасля яго смерці «Бібліялагічным слоўніку і чарнавых да яго матэрыялах» (1882) апублікаваны толькі кароткі нарыс «Скарына Францыск». Археаграфічныя працы Строева адыгралі вял. ролю ў крыніцазнаўчай падрыхтоўцы манаграфічнага вывучэння жыцця і дзейнасці С.

*Літ.*: 486; Козлов В. П. Колумбы российских древностей. 2. изд. М., 1985.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**СТРУ́ПУЛІС** Яніс Артуравіч (н. 1949), латышскі сав. скульптар. У 1979 выканаў і адліў у бронзе прысвечаны С. медаль (6,5 см, Музей гісторыі медыцыны, г. Рыга), які нагадвае старадаўнюю манету. На аверсе партрэт С., зроблены паводле гравюрнага партрэта з кн. «Ісус Сірахаў» (1517). С. паказаны з пяром у руцэ, якая ляжыць на кнізе. Вакол партрэта ўверсе надпіс скарынінскім шрыфтам «Францыск Скарына». На рэверсе медаля выява жняца з сярпом за працай — фрагмент з гравюры *«Руф у полі»*. Рэльеф выявы партрэта і жняца невысокі. Пластычная дэталізацыя форм, дакументальнасць малюнка і лаканічнасць кампазіцыі медаля адлюстроўваюць эпоху бел. асветніка, яго нац. прыналежнасць.

*В. М. Целеш.*

**«СУД САЛАМО́НА»**, «Первый суд еже судил Саломон царь две жене блудъници о двоих детех», гравюра тытульнага ліста *«Прытчаў Саламона»*, выдадзеных С. у Празе (1517). Гравюра ўжыта таксама на 5-м аркушы гэтай кнігі як застаўка.

Ілюструе заснаваны на народным паданні эпізод, апісаны ў 3-й кн. «Царствы». На суд Саламона прыйшлі дзве жанчыны. Адна з іх ноччу ў стане сну ненарокам прыдушыла сваё дзіця і тайна замяніла яго сынам другой. Абедзве жанчыны прэтэнда-






Я. Струпуліс. Медаль «Францыск Скарына». Пярэдні і адваротны бакі. 1979.

**«Суд Саламона».** Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Прытчы Саламона» Ф. Скарыны.



валі на жывое дзіця. Цар прапанаваў рассячы дзіця мячом і даць кожнай палавіну. Чужая маці адразу на гэта згадзілася, а родная сказала: «Хай лепш яна забярэ дзіця, абы яно засталося жыць». Такім чынам суддзя выявіў падманшчыцу і распазнаў сапраўдную маці.

Гравюра (87×86 мм) ілюструе сцэну суда. Кампазіцыя шматфігурная. Справа на пышна арнаментаваным троне — Саламон у царскай кароне, доўгай мантыі са скіпетрам у правай руцэ, ля ног яго ляжыць загорнутае немаўлятка. Побач стаяць дзве жанчыны: адна (на пярэднім плане) працягнула руку да немаўляткі, другая левай рукой трымае мёртвае дзіця. На другім плане ля трона паказаны сведкі, набліжаныя Саламона ў пышных вопратках і інш. Справа мужчына з мячом у левай руцэ. Дрэварыт вылучаецца майстэрскім вырашэннем шматфігурнай кампазіцыі, выразным тыпажом, багаццем рэаліст. дэталей. Штрыхоўка скрозь маляўнічая, энергічная. Паралельныя штрыхі ўжыты зверху, над галавой Саламона, усё астатняе мадэліравана прамымі або крыху закругленымі лініямі, якія ўсюды падкрэсліваюць форму. Гравюру выканаў вопытны і спрактыкаваны майстра, якому, відаць, належаць шматфігурныя кампазіцыі («Саламон і царыца Саўская», «Памазанне Давіда» і інш.). Гравюра не пазначана гербам-сігнетам С., што дало М. Шчакаціхіну падставу меркаваць, быццам першапачаткова гэтая гравюра не была прызначана спецыяльна для выданняў С.

*Літ.*: 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**СУДЫ** на Беларусі ў 15—16 ст. С. неаднаразова ўдзельнічаў у судовых працэсах. У 1529 выступаў у гар. (войтаўскім) судзе, у царк. судзе віленскага епіскапа, а таксама ў велікакняжацкім (гаспадарскім) судзе, у якіх разглядалася справа па іску родзічаў яго жонкі пра спадчынныя правы. Вядома, што яго выклікалі і ў інш. суды па розных справах. У г. Познані па распараджэнню суда ў пач. 1532 С. ўзяты пад варту за даўгі свайго брата, але хутка быў вызвалены. У ліст. 1532 быў выдадзены прывілей ад імя караля Жыгімонта I, якім С. вызваляўся ад падсуднасці звычаёвага суда (пад якім трэба разумець копныя суды, якія дзейнічалі на Беларусі паўсюдна на аснове звычаёвага копнага права), а таксама ад суда ваявод, кашталянаў і старостаў, г. зн. гродскіх (замкавых) судоў і войтаўскага суда. Такім прывілеем у той час карысталіся ў Вял. кн. Літоўскім феадалы, справы якіх маглі разглядацца толькі ў велікакняжацкім судзе або ў судзе паноў рады.

Войтаўска-бурмістарскія, або войтаўска-лаўнікавыя, суды былі створаны ва ўсіх гарадах Беларусі, якія атрымалі прывілеі на магдэбургскае права. Гэтым судам былі падсудныя ўсе крымінальныя і грамадзянскія справы мяшчан горада. Царк. суды разглядалі ў асн. справы духавенства і феадальна залежных ад іх людзей. Яны ж разглядалі таксама справы, звязаныя з шлюбна-сямейным і спадчынным правам. Каталіцкія епіскапы ўдзельнічалі ў пасяджэннях гаспадарскага суда і суда паноў рады, а правасл. епіскапы ўдзельнічалі ў судах ваявод і старостаў. У 1-й пал. 16 ст. не было дакладнага размежавання падсуднасці спраў паміж духоўнымі і свецкімі судамі, таму былі выпадкі, калі ў царк. судах разглядаліся справы, якія былі ім непадсудны. Першая спроба размежаваць падсуднасць духоўных і свецкіх судоў была зроблена ў арт. 26 (раздзел III) Статута Вял. кн. Літоўскага 1566. Гаспадарскі (велікакняжацкі) суд разглядаў справы па 1-й інстанцыі і як апеляцыйны суд. Склад яго не быў дакладна вызначаны ў законе. Колькасць радных паноў на судзе магла быць рознай, аднак прысутнасць хоць бы 2—3 была абавязковай. Гаспадарскаму суду па 1-й інстанцыі да 1564 былі падсудны справы буйных феадалаў, а таксама асоб, якія атрымалі спец. прывілеі на вызваленне ад падсуднасці ўсіх інш. судоў (такі прывілей меў і С.), справы пра дзярж. злачынствы і злачынствы супраць паноў рады, па ісках, што закраналі інтарэсы самога вял. князя, казны, пра пазбаўленне шляхецкіх правоў і гонару і інш. Асн. мясц. судамі ў 1-й пал. 16 ст. для свабодных людзей былі: замкавыя (гродскія) і копныя суды, для феадальна-залежных людзей — іх паны і прадстаўнікі мясц. адміністрацыі. Замкавы, або гродскі, суд атрымаў назву ад замка (горада, грода) таму, што такія суды дзейнічалі ў замках. Гал. суддзямі ў іх былі ваяводы, старосты або дзяржаўцы. Гэты суд мог дзейнічаць у двух складах: вышэйшым і ніжэйшым. У вышэйшы замкавы суд уваходзілі ваявода ці староста або дзяржаўцы і прадстаўнікі мясцовых феадалаў, а ў Полацку і прадстаўнікі мяшчан. «А воеводе нашому Полоцкому мещан одному не судити, судити ему с бояры и мещаны» (Акты, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі... Спб., 1848. Т. 2. С. 87, на рус. мове). Ніжэйшы замкавы суд складаўся з намеснікаў ваяводы або старосты ці дзяржаўцы, а таксама двух зямян-шляхціцаў і пісара (Статут 1529 г., раздзел VI, арт. 3). Замкаваму суду былі падсудны крымінальныя і грамадзянскія справы шляхты, мяшчан і дзярж. сялян, за выключэннем спраў, падсудных гаспадарскаму і войтаўска-лаўнікаваму суду. У гэтым судзе вяліся актавыя кнігі, у якія заносіліся розныя заявы бакоў, судовыя пастановы, заявы вознага і інш. асоб па забеспячэнню доказаў, розныя натарыяльныя дзеянні. Адной з важнейшых функцый гродскага суда было выкананне прыгавораў і рашэнняў інш. судоў. Вызваленне С. ад падсуднасці ўсім мясц. судам было значнай прывілеяй, таму што ад гэтых судоў вызваляліся толькі буйныя феадалы. У сістэме правасуддзя ў 16 ст. значнае месца займалі копныя суды. Яны складаліся з гаспадароў дамоў пэўнай мясцовасці або старцаў — выбарных асоб сялянскай адміністрацыі, якія збіраліся на сумесныя сходы (копы, купы, соймы, веча) для пошукаў злачынцы і разгляду судовых спраў. Па меры ўмацавання феад. адносін на капу адмаўляліся з'яўляцца феадалы, калі іх выклікалі як адказчыкаў. Аднак калі феадал быў істцом або абвінаваўцай, дык ён усімі сіламі падтрымліваў копны суд. Копнае права не прытрымлівалася саслоўнага падзелу грамадства, характэрнага для феадалізму, таму ў захаваных актах копных судоў шляхціц, баярын і просты селянін выступалі як раўнапраўныя суб'екты працэсуальных праваадносін. Гэта сведчыць, што копныя суды ўзніклі і складаліся на ранняй стадыі дзярж. жыцця народа. Копны суд не меў пастаяннага складу суддзяў. Сходы капы адбываліся ў месцах, устаноўленых звычаем,— часцей за ўсё на гар. або сельскай плошчы, на скрыжаванні дарог, пад дубамі і ў інш. падобных месцах пад адкрытым небам, куды мелі доступ усе жадаючыя. У копным судаводстве аб'ядноўвалася дзейнасць следчага і судовага органаў. Так, калі адбылося злачынства, адразу ж збіралася «гарачая капа» з бліжэйшых суседзяў і пачынала праследаванне злачынцы. Пры выяўленні злачынцы з доказамі злачынства гэтая ж «гарачая капа» яго і судзіла. Следчыя дзеянні ажыццяўляліся і на звычайнай капе, якая магла з мэтай выяўлення злачынцы збірацца 3 разы. Усе рашэнні копных судоў абскарджанню не падлягалі і прыводзіліся ў выкананне адразу самой капой, аж да смяротных прыгавораў. Хоць у заканадаўчым парадку копнае судаводства не рэгламентавалася, аднак у Статуце 1529 былі артыкулы, якія пацвярджалі важнае значэнне копнага суда. Дзейнасць усіх судоў у 1-й пал. 16 ст. на Беларусі была накіравана на забеспячэнне льгот і пераваг класа феадалаў, на падначаленне і прыгнёт простага народа. Суды былі закліканы забяспечваць непахіснасць грамадскага і дзярж. ладу, недатыкальнасць асабістых і маёмасных правоў феадалаў. Прагрэсіўныя дзеячы Беларусі імкнуліся ўздзейнічаць на заканадаўства Вял. кн. Літоўскага і дзейнасць судовых органаў. Так, пад уздзеяннем гуманіст. ідэй у Статут 1529 былі ўнесены нормы права, у якіх абвяшчалася роўнасць усіх падданых перад законам (арт. 9, раздзел I), персанальная адказнасць за крымінальныя злачынствы — «не маеть нихто ни за кого терпети, але каждый сам за себе» (арт. 7, раздзел I). Асобна агаворваліся суверэнныя правы Вял. кн. Літоўскага і абавязак гасудара не надзяляць іншаземцаў пасадамі, чынамі і маёнткамі (арт. 1, 2, 3, раздзел III). Прагрэсіўнае значэнне мела развіваемая ў Статуце 1529 новая на той час тэорыя доказаў. Да выдання Статута 1529 у законе не былі прадугледжаны віды доказаў і суды выкарыстоўвалі такія сродкі для вырашэння спраў, як прысяга, атрыманне паказанняў пад катаваннем, выпрабаванне агнём, вадой, выкананне розных магічных заклінанняў і абрадаў (прыстаўленне нагі да нагі, прыстаўленне шапкі, пакрыццё галавы зямлёй і інш.). У Статуце выразна прасочваецца імкненне абгрунтоўваць судовыя пастановы на аснове свабодных паказанняў бакоў, сведак, пісьмовых і рэчавых доказаў, г. зн. на такіх сродках доказу, якія маглі лагічна пераканаць суддзяў пры вынясенні імі судовай пастановы, што выклікала і пра-

вавую рэгламентацыю ўдзелу адваката (пракуратара) у працэсе. Усё гэта сведчыла пра значны прагрэс у развіцці судаводства ў Вял. кн. Літоўскім у скарынінскі час. Ёсць падставы меркаваць, што С. прымаў удзел у складанні і рэдагаванні Статута Вялікага княства Літоўскага 1529. Гл. таксама арт. *Полацкае права, Паспалітае права.*

*Літ.:* B a r d a c h J. Studia z ustroju i prawa Wielkiego księstwa Litewskiego XIV—XVII w. Warszawa, 1970. *І. А. Юхо.*

**СУ́ЗДАЛЬСКІ СПА́СА-ЯЎХІ́МІЕЎСКІ МАНАСТЫ́Р,** помнік стараж.-рус. дойлідства. Засн. ў сярэдзіне 14 ст. Меў б-ку рукапісных і старадрукаваных кніг. Па вопісу 1660 было 170 рукапісаў і вял. колькасць друкаваных кніг, у т. л. *«Пяцікніжжа»* С. (кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон»). «Пяцікніжжа» ў канцы 19 ст. зберагалася ў Царк. гіст. сховішчы пры брацтве вял. кн. Аляксандра Неўскага, цяпер — ва Уладзіміра-Суздальскім музеі-запаведніку. Кніга пераплецена ў дошкі, пакрытыя цёмна-вішнёвым аксамітам. На асобных аркушах ёсць запісы «Из библиотеки Суздальского Спасо-Ефимиева монастыря».

*Літ.:* 548; Ш л я п к и н И. А. Описание рукописей Суздальского Спасо-Евфимиева монастыря. Спб., 1881; Т и х о м и р о в К. Опись книгам, хранившимся в Суздальском Спасо-Евфимиевом монастыре//Временник имп. Московского Общества истории и древностей российских. М., 1850. Кн. 5. *Я. Л. Неміроўскі.*

**СУ́ПРАСЛЬСКІ МАНАСТЫ́Р,** комплекс збудаванняў 16—17 ст. у Супраслі (цяпер Беластоцкае ваяводства ПНР). Заснаваны маршалкам Вял. кн. Літоўскага А. Хадкевічам у Блудаўскай пушчы, на р. Супрасль.

Складаўся з Дабравешчанскай, Васкрасенскай (пабудавана ў 1532—57 у тэхніцы «прускага мура») цэркваў, жылых і гасп. будынкаў, зробленых віленскім мулярам М. Кошкіным у 1547. Дабравешчанская мураваная царква абарончага тыпу, узведзеная ў 1503—11 (па інш. звестках 1509—10), мела рысы бел. готыкі. У 1550-я гады ў інтэр'еры царквы сцены і слупы размаляваны фрэскамі.

У пач. 17 ст. С. м. перайшоў да уніятаў. Была пабудавана мураваная званіца, зменена аздоба інтэр'ера Дабравешчанскай царквы. Да 1837 манастыр існаваў як уніяцкі, потым ператвораны ў праваслаўны. Пры манастыры ў 1690—1803 была друкарня, якая выпусціла больш за 420 выданняў. Тут друкаваліся Чэцці-Мінеі, Свяшчэннае пісанне, уніяцкія богаслужэбныя кнігі і малітоўнікі, некат. з іх мелі значныя тыражы. Пры манастыры была багатая б-ка. У ёй захоўвалася нямала каштоўных рукапісаў, сярод іх: зб. жыццяў і пропаведзяў 11 ст., напісаны на старaслав. мове на 285 аркушах пергаменту, летапісная кампіляцыя 1-й паловы 16 ст., зб. 1519 і інш. Па архіўных матэрыялах і рукапісах, зробленых у С. м., манастыр можна лічыць адным з буйнейшых кнігапісных цэнтраў Беларусі. Тут, відаць, быў перапісаны зборнік, у пачатку якога змешчаны спіс з прадмоў С. да пражскага «Псалтыра» (1517). Зборнік падрабязна апісаны ў 1882 Ф. Дабранскім. Пры манастыры была пераплётная майстэрня. У рэестр б-кі манастыра за жнівень 1654 уваходзілі выданні С. («Книг Иова Великого: друку Скорининого 3»). У 1876, у сувязі з закрыццём манастыра, 1109 кніг з б-кі і 191 старадаўні дакумент з архіва перададзены ў Віленскую публ. б-ку. С. м. узарваны нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1944. Часткова зберагалася царква С. м. Асталіся рэшткі фрэсак (30 фрагментаў на слупах), якія рэстаўрыраваны ў 1964—66 і зберагаюцца ў Беластоцкім музеі (ПНР).



**Супрасльскі манастыр.** Гравюра У. Гразнова. 19 ст.



**Сынковіцкая царква-крэпасць.**

*Літ.:* 643; Р о г о в А. И. Фрески Супрасля//Древнерусское искусство: Монументальная живопись XI—XVII вв. М., 1980; Т к а ч о ў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978. С. 124—127. *М. А. Ткачоў.*

**СЦЯПА́НАЎ** Барыс Міхайлавіч (н. 1927), беларускі сав. кінарэжысёр. Засл. дз. мастацтваў БССР (1974). Працуе на кінастудыі «Беларусьфільм». У 1970 паставіў маст. фільм «Я, Францыск Скарына» (сцэнарый М. Садковіча, у ролі С.— А. Янкоўскі). Фільм перадае дух сярэднявечча, чалавечую сутнасць, сэнс жыцця і творчы шлях С., даносіць да гледача яго думкі, ідэі, гарачую любоў да радзімы, апантанасць ідэяй асветы народа. Гэта першая вял. праца бел. кінематаграфістаў у жанры гісторыка-біягр. кіно і значны ўклад у развіццё Скарыніяны. На IV Усесаюзным кінафестывалі ў Мінску (1970) фільм удастоены ганаровага дыплома «За плённую распрацоўку гістарычнай тэмы і выяўленчае вырашэнне». *Е. Л. Бондарава.*

**СЫНКО́ВІЦКАЯ ЦАРКВА́-КРЭ́ПАСЦЬ,** помнік абарончага дойлідства. Пабудавана ў канцы 15 — пач. 16 ст. ў в. Сынковічы (Зэльвенскі р-н).

3-нефавы, 4-слуповы, 3-апсідны мураваны храм зальнага тыпу (у плане — перакошаны прамавугольнік), фланкіраваны па вуглах 4 баявымі вежамі (з 2 гранёнымі і 2 круглымі) з вітымі цаглянымі лесвіцамі ўнутры, мае пояс машыкуляў па версе сцен, накрыты высокім 2-схільным дахам з вострымі тарцовымі шчытамі. Шчыт на гал. фасадзе аздоблены некалькімі ярусамі розных па форме плоскіх атынкаваных нішаў. Архітэктура мае стылявыя адзнакі готыкі: нервюрныя скляпенні (крыжовыя, у паўд.-ўсх. апсідзе зорчатыя), стральчатыя аркі праёмаў. Невял. перабудовы не змянілі істотна аблічча помніка. Ахоўваецца дзяржавай.

*Літ.:* Ш ч а к а ц і х і н М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1. Мн., 1928; Ч а н т у р и я В. А. История архитектуры Белоруссии. Т. 1. 3. изд. Мн., 1985. *У. А. Чантурыя.*

**СЫРАКО́МЛЯ** Уладзіслаў (К а н д р а т о в і ч Людвік, 1823—62), польскі і беларускі паэт-дэмакрат. У сваёй «Гісторыі польскай літаратуры...» (т. 2, Вільня, 1852, рус. пер. М., 1862) асобна разгледзеў бел. старадрукі, у т. л. скарынінскую «Біблію», якую назваў «старадаўнім і каштоўным» помнікам літаратуры.

**СЯЛІ́ЦКІ** (Sielicki) Францішак (н. 1923), польскі даследчык старажытнабеларускай і старажытнарускай літаратур. Праф. Вроцлаўскага ун-та. У кн. «Беларуская літаратура да канца XVIII стагоддзя» (Вроцлаў, 1985) разгледзеў жыццё і дзейнасць С. Развівае меркаванне некат. скарыназнаўцаў аб каталіцкім веравызнанні бел. першадрукара (імя С. і яго жонкі Маргарыты, пасада сакратара ў каталіцкага біскупа Яна, «каталіцкі спосаб» укладання 10 запаведзей прарока Майсея, гравюра з аблічам маці божай, што адрозніваецца ад адпаведных правасл. абразоў, і інш.). Удакладніў, аднак, што тэксты С., адзначаныя «поўнай талерантнасцю», не даюць прамых звестак аб характары яго веравызнання. Звярнуў увагу на дэмакратызм, маральна-этычныя вартасці, на пачуццё нац. годнасці, а таксама на асобныя мастацка-стыліст. рысы твораў С. (анафару, паралелізмы, параўнанні, антытэзу). Падкрэсліў асаблівую ролю С. ў фарміраванні бел. літаратурнай мовы, у зараджэнні бел. вершаскладання. *А. К. Каўко.*

**СЯЛЯ́НСТВА** Б е л а р у с і ў к а н ц ы 15 — п е р ш а й п а л. 16 с т. Сяляне Беларусі ў гэты час звычайна называліся «людзьмі», «мужыкамі», «падданымі», «халопамі». Па прыналежнасці зямлі, якой карысталіся сяляне, адрозніваліся падданыя вялікакняжацкія (гаспадарскія), шляхты і духоўныя, або

царкоўныя (рэліг. устаноў). Асн. іх заняткамі былі земляробства і жывёлагадоўля; значную ролю адыгрывалі промыслы. Асн. тыпам паселішча была вёска (сяло). Сяляне адной вёскі складалі абшчыну, некалькі суседніх абшчын — воласць. Сялянская гаспадарка (дым) звычайна была гаспадаркай адной малой сям'і і вялася на надзеле, часцей роўным 10,7 га (палавіна валокі). Феадальнае права прызнавала магчымасць сялян наследаваць надзелы. Сяляне карысталіся таксама агульнымі ўгоддзямі вёскі — выганамі, пашамі, лясамі. Сярод сялян было шмат беднякоў («агароднікаў», «убогіх»), якія звычайна не маглі самастойна гаспадарыць, бо не мелі сродкаў вытворчасці і існавалі выпадковымі заробкамі. За зямлю плацілі рэнту. Да канца 15 ст. асн. формай рэнты была даніна (збожжам, мясам, мёдам, футрам і інш.). Сяляне, гал. формай рэнты якіх з'яўлялася даніна, называліся даннікамі. Даннікамі былі і дольнікі, якія плацілі феадалам частку (долю) ураджаю. Найб. дольнікаў было ў Падзвінні. Акрамя даніны або долі, даннікі абавязаны былі выконваць і дадатковыя павіннасці. Асн. адзінкай абкладання быў дым. Члены абшчыны неслі калектыўную адказнасць за належнае выкананне павіннасцей. Развіццё паншчыны і грашовай рэнты вяло да памяншэння колькасці даннікаў. У сярэдзіне 16 ст. яны аставаліся пераважнай катэгорыяй сялян толькі ў Падняпроўі, але ў складзе іх павіннасцей доля плацяжу грашыма значна павялічылася. Сяляне, якія выконвалі ў асн. паншчыну («службу цяглую»), наз. «людзьмі цяглымі». Адзінкай абкладання гэтай катэгорыі сялян была служба — участак зямлі, за карыстанне якім яны абавязаны былі несці цяглыя і інш. павіннасці, сукупнасць якіх таксама наз. службай. Звычайна адну службу неслі 2 сялянскія гаспадаркі (дымы), паміж якімі часта былі сваяцкія адносіны. Нормы паншчыны хутка раслі. У пач. 16 ст. паншчына ўсталявалася ў памеры 1 дзень у тыдзень са службы, з сярэдзіны стагоддзя — 2 дні. Поруч з паншчынай цяглыя сяляне выконвалі і дадатковыя павіннасці: талокі (згоны ў разгар с.-г. работ), дзякла (даніна с.-г. прадуктамі) і інш. Да сярэдзіны 16 ст. ў той частцы Беларусі, якая была размешчана ў басейнах Зах. Буга, Нёмана і Зах. Дзвіны, цяглыя сяляне сталі пераважнай катэгорыяй сялян у маёнтках большасці феадалаў. Развіццё таварна-грашовых адносін абумовіла пашырэнне грашовай рэнты (асады, або чыншу). У сярэдзіне 16 ст. асадныя, або чыншавыя, сяляне складалі значную частку сялянства ў маёнтках гаспадара і магнатаў. Асаблівую катэгорыю сялянства па характару гал. павіннасцей складалі сяляне-слугі. Гал. іх павіннасцю была служба, што патрабавала спец. навыкаў: с.-г. (конюхі), прамысл. (рыбаловы, бортнікі, баброўнікі), рамесныя (кавалі, бондары), ніжэйшыя адміністрацыйна-гасп. (сотнікі, старцы), ваенныя (путныя слугі, або баяры) і інш.

Акрамя плацяжу рэнты сваім панам, сяляне выконвалі і дзярж. павіннасці: будавалі і рамантавалі абарончыя збудаванні (замкі), дарогі і масты, перавозілі грузы і службовых асоб, плацілі натурай і грашыма на ўтрыманне службовых асоб (палюддзе, стацыя), налогі на ваенныя мэты (сярэбшчына). Феад. эксплуатацыя сялян узмацнялася. Аб гэтым сведчаць шматлікія скаргі сялян на парушэнні феадаламі «старыны» (традыц. павіннасцей) і на ўвод імі «навін» (павелічэнне павіннасцей і ўвод новых).

Паводле ступені асабістай залежнасці ад феадалаў адрозніваліся «пахожыя» («вольныя») людзі (мелі права на пераход ад аднаго феадала да другога) і «непахожыя» (такога права не мелі). Поўнай уласнасцю феадалаў лічылася «чэлядзь нявольная», якая не мела сваёй гаспадаркі і жыла ў дварах — адм.-гасп. цэнтрах маёнткаў феадалаў. У сувязі з узмацненнем антыфеад. супраціўлення сялянства ў форме самавольных пераходаў і ўцёкаў сродкам прымусу яго да выканання ўсё ўзрастаючых павіннасцей становіцца прыгоннае права. Асн. юрыд. прынцыпам запрыгоньвання сялян была даўнасць — працяглы час пражывання ў аднаго феадала. «Пахожыя» людзі, якія пражылі ў аднаго пана 10 і больш год, трацілі права на выхад і пераўтвараліся ў «непахожых» (прыгонных) сялян. Прывілей 1447, адзін з артыкулаў якога абавязваў феадалаў не прымаць у свае маёнткі збеглых сялян, даў пачатак юрыд. афармленню прыгоннага права. Статут Вял. кн. Літоўскага 1529 таксама прадугледжваў шэраг заканадаўчых мер па запрыгоньванню сялян. У выніку прыгонніцкай палітыкі пануючага класа асн. маса сялянства Беларусі прыкладна да сярэдзіны 16 ст. была запрыгонена.

У працэсе ўмацавання прыгоннага права значна ўзмацніліся абмежаванні правамоцтва прыгонных сялян ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Феадалы поўнасцю, распараджаліся сваімі падданымі, судзілі і каралі іх паводле свайго меркавання (нават да пакарання смерцю). Паводле Статута Вял. кн. Літоўскага 1529 штраф за забойства (галоўшчына) шляхціца ў 10 разоў пераўышаў галоўшчыну «цяглага мужыка».

Да сярэдзіны 16 ст. шырокае распаўсюджанне мела закупніцтва. «Закупамі» станавіліся тыя сяляне, якія бралі грошы ў доўг і аставаліся ў крэдытора ў якасці закладу да адработкі ці ўплаты доўгу.

Пад уплывам развіцця таварна-грашовых адносін узмацнілася сувязь панскай гаспадаркі з унутраным і асабліва са знешнім рынкам. У выніку заканадаўчага афармлення манапольнага права ўласнасці феадалаў на асн. сродак вытворчасці (зямлю) умацоўваецца феад. зямельная ўласнасць — аснова эканам. і паліт. панавання феадалаў. Усё гэта абумовіла ўзмацненне феад. эксплуатацыі і запрыгоньвання сялянства. Прыгонніцтва становіцца асн. формай пазаэканам. прымусу сялян да ўзрастаючай прыбавачнай працы на феадалаў. Рост феад. прыгнёту суправаджаўся значным пагаршэннем эканам. і юрыд. становішча сялян і стаў прычынай абвастрэння антаганіст. класавых супярэчнасцей феад. грамадства, што вяло да ўзмацнення класавай барацьбы сялянства з феадаламі.

Адным з асн. напрамкаў антыфеад. супраціўлення сялян была барацьба за зямлю. У ліку асн. форм барацьбы былі індывідуальныя і калектыўныя скаргі гаспадарскіх сялян на спробы свецкіх і духоўных феадалаў прысвоіць землі вял. князя, якія здаўна знаходзіліся ў карыстанні гаспадарскіх падданых. Калі ўдавалася даказаць незаконнасць дзеянняў феадалаў, зямля прызнавалася гаспадарскай і вярталася сялянам. Многія гаспадарскія падданыя такім жа шляхам спрабавалі змагацца супраць пажалаванняў вял. князем феадалам гаспадарскіх зямель з сялянамі, таму што ў гэтым выпадку рэзка абмяжоўвалася гаспадарчая самастойнасць сялян, узмацнялася іх эксплуатацыя і асабістая залежнасць. Свае скаргі сяляне спрабавалі абгрунтаваць рознымі легальнымі падставамі: феадалы прысвоілі землі і сялян без прывілея аб пажалаванні або з парушэннем якіх-н. іншых форм феад. права. Але дабіцца сваёй мэты ім удавалася толькі ў выпадку законных з пункту гледжання феад. права патрабаванняў, аднак найчасцей права было на баку феадала. Шырокае распаўсюджанне мелі і розныя па форме парушэнні сялянамі права ўласнасці на зямлю сваіх і чужых паноў: самавольнае выкарыстанне с.-г. угоддзяў (патравы, парубкі і інш.), а таксама заключэнне зямельных пагадненняў (залог, продаж зямлі, якой карысталіся сяляне, і інш.).

Вядучым напрамкам антыфеад. барацьбы была барацьба супраць узмацнення эксплуатацыі, за аблягчэнне павіннасцей. Яе асн. формамі былі скаргі на павелічэнне традыц. павіннасцей і ўвядзенне новых, асабліва на злоўжыванне прадстаўнікоў адміністрацыі маёнткаў, якія з мэтай асабістага абагачэння ўстанаўлівалі розныя звышнарматыўныя павіннасці ў сваю карысць, а таксама скаргі на празмерныя павіннасці, асабліва ў сувязі са стыхійнымі бедствамі, разбурэннем войскамі і інш. выключнымі абставінамі; спробы перайсці з адной катэгорыі сялянства з больш цяжкімі, па меркаванню сялян, павіннасцямі, перш за ўсё цяглымі, у другую з менш цяжкімі, адказы пад рознымі легальнымі падставамі часткова ці поўнасцю выконваць павіннасці; пераходы і асабліва ўцёкі людзей «пахожых», чэлядзі нявольнай і людзей «непахожых» ад адных феадалаў да другіх у пошуках лепшай долі. Пераходам і ўцёкам садзейнічала тое, што на Беларусі не склалася адзіная сістэма феад. эксплуатацыі сялянства. Феадалы, зацікаўленыя ў павелічэнні колькасці сваіх падданых (плацельшчыкаў рэнты), пераманьвалі і прымалі ў свае маёнткі ад другіх феадалаў не толькі «пахожых» людзей, але і беглых (супраць заканадаўчых забарон) і не выдавалі іх. Для дробных і сярэдніх феадалаў пошукі

і вяртанне беглых былі справай амаль безнадзейнай. Часам у барацьбе супраць узмацнення эксплуатацыі сяляне прымянялі сілу. Барацьба сялянства, у асн. пад лозунгам захавання «старыны», за аблягчэнне павіннасцей у пэўнай меры стрымлівала іх агульны рост, а таксама дазваляла, хоць і часова, больш актыўнай яго частцы не толькі дабіцца лягчэйшых павіннасцей, але і захаваць сваю волю ці пазбавіцца ад прыгоннай няволі.

Асн. формай антыфеад. барацьбы сялянства за асабістую свабоду былі скаргі ў выглядзе судовых іскаў аб волі на незаконныя спробы феадалаў ператварыць сялян у сваю нявольную чэлядзь або «непахожых» людзей, а таксама адмова прыгоннай залежнасці і адказ ад падданства. Адстаяць сваю волю сялянам удавалася толькі ў тых выпадках, калі яны маглі даказаць, што сапраўды з'яўляюцца вольнымі людзьмі.

Сяляне вялі антыфеад. барацьбу, нягледзячы на пагрозы жорсткіх рэпрэсій. За любыя акты сац. пратэсту супраць феад. прыгнёту паны падвяргалі сваіх падданых штрафам, пабоям, znявольванням і нават смяротным карам. Агульны нізкі ўзровень развіцця сац. барацьбы на гэтай стадыі феадалізму надавалі антыфеад. барацьбе сялян рысы манархізму, стыхійнасці, лакальнасці і інш.

*Літ.*: 249; Похилевич Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972; Спиридонов М. Ф. Судебные дела как источник по истории борьбы крестьян Белоруссии за землю и свободу в XV — первой половине XVI в.//Проблемы аграрной истории. Мн., 1978. Ч. 1; яго ж. Бегство крепостных крестьян Белоруссии в XVI в.// Из истории крестьянства Белоруссии. Мн., 1978; яго ж. Розыск и возврат беглых крепостных крестьян Белоруссии в XVI веке// Социально-политическое и правовое положение крестьянства в дореволюционной России. Воронеж, 1983. *М. Ф. Спірыдонаў.*



**ТАЛСТО́Й** Фёдар Андрэевіч (1758—1849), расійскі дзярж. дзеяч, граф, калекцыянер рукапісаў і слав. старадрукаваных кніг. У яго б-цы было 377 тамоў старадрукаваных кніг (некат. з іх паўтараліся). У 1829 у бібліятэцы было 7 канвалютаў, у якіх змяшчалася 19 пражскіх выданняў С., «Апостал», канвалют з 10 акафістамі і канонамі з «Малой падарожнай кніжкі». У збору рукапісаў былі спісы 16 кніг С., у т. л. вядомы спіс 1568 В. Жугаевіча. У 1825 К. Ф. Калайдовіч з П. М. Строевым выдалі «Дакладнае апісанне славяна-расійскіх рукапісаў, якія захоўваюцца ў Маскве ў бібліятэцы... графа Фёдара Андрэевіча Талстога» — першае ў Расіі навук. апісанне калекцыі рукапісаў. У 1829 Строеў выдаў «Дакладнае апісанне старадрукаваных кніг славянскіх і расійскіх, якія захоўваюцца ў бібліятэцы... графа Фёдара Андрэевіча Талстога». У дадатку да гэтага выдання былі надрукаваны «Палеаграфічныя здымкі шрыфтоў з XV стагоддзя па XVIII..., якія належалі да дакладнага апісання старадрукаваных кніг славянскіх і расійскіх, якія захоўваюцца ў бібліятэцы графа Фёдара Андрэевіча Талстога». Упершыню ў Расіі былі рэпрадуктаваны ілюстрацыі і шрыфты С. У 1830 б-ка Т. была куплена Публ. б-кай у Пецярбургу.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**ТАМІ́ЗМ** (ад лац. Thomas Фама), адзін з гал. кірункаў у схаласт. філасофіі і тэалогіі каталіцызму, заснаваны на вучэнні *Фамы Аквінскага.*

З 14 ст. стаў агульнапрынятай дактрынай дамініканскага ордэна, а пазней — усёй сістэмы універсітэцкай адукацыі Зах. Еўропы, адціснуўшы аўгусцінаўскі платанізм і *авераізм.* Асн. цэнтры Т. ў 14— 16 ст.— ун-ты Парыжа і Кёльна. Т. ўласціва выкарыстанне схаластызаванага *арыстацелізму* з мэтай рацыяналіст. тлумачэння хрысц. веравучэння. Адсюль — сцвярджэнне ўнутранай згоды веры і розуму, прыярытэт касмалагічнага доказу быцця бога над анталагічным вучэннем пра чалавека як адзінства душы і цела і г. д. Рымска-каталіцкая царква выкарыстоўвала Т. у барацьбе супраць розных ерэтычных рухаў, напр., супраць паглядаў Яна *Гуса* на Канстанцкім саборы 1414—15.

У часы С. тамісцкая дактрына становіцца гал. ідэйнай зброяй для барацьбы з рэфарм. працэсам. Трыдэнцкі сабор (1545—63), які паклаў пачатак контррэфармацыі, фактычна прызнаў Т. афіц. дактрынай царквы, а ордэн езуітаў зрабіў яго сродкам ажыццяўлення папскай палітыкі і распаўсюджання каталіцызму. Аднак у гэту эпоху Т. пад уздзеяннем крытыкі з боку пераважна адраджэнскага *гуманізму* і рэнесансавай *натурфіласофіі* паступова траціць дамінуючую ролю ў духоўным жыцці еўрап. грамадства. Спробы мадэрнізацыі Т. ў канцы 16 ст. прывялі да паяўлення т. зв. другой схаластыкі. Ідэі Т., прадстаўленыя ў навуч. курсах Кракаўскага ун-та канца 15 — пач. 16 ст., дзе вучыўся С., былі, безумоўна, вядомыя яму, аднак істотна не паўплывалі на яго светапогляд. Гуманіст. імкненні С., дух вальнадумства, цяга да грамадска-карыснай дзейнасці аб'ектыўна абумовілі яго апазіцыю тамісцкай схаластыцы.

*Літ.:* Быховский Б. Э. Эрозия «вековечной» философии: (критика неотомизма). М., 1973; Grenet P. Le thomisme. Paris. 1956.

*Г. У. Грушавы.*

**ТАРАСА́Ў** Віктар Паўлавіч (н. 1934), беларускі сав. акцёр. Нар. артыст СССР (1982). Нар. артыст БССР (1967). З 1957 працуе ў Бел. драм. тэатры імя Я. Купалы. Значным укладам у Скарыніяну і творчым дасягненнем Т. з'яўляецца вобраз С. ў спектаклі «Напісанае застаецца» А. Петрашкевіча. Вобраз, створаны Т., вызначаецца вял. унутранай дынамікай. Акцёр па-мастацку пераканаўча ўвасобіў на сцэне глыбіню і шматграннасць характару бел. асветніка. Т. стварыў вобраз гуманіста, які разглядае асабістае і грамадскае жыццё ў гарманічным адзінстве са сваім сумленнем. С. ў спектаклі — выразнік ідэй сац. і нац.-вызв. руху на Беларусі за захаванне нац. культуры і мовы, грамадскай актыўнасці бел. народа ў часы яго станаўлення і развіцця як свядомага творцы гісторыі. Т. падкрэслівае скарынінскае вальнадумства, чалавекалюбства, веру ў магчымасці чалавека.

*Ч. Н. Муліца.*

**ТАТА́РСКІЯ НАБЕ́ГІ НА БЕЛАРУ́СЬ** у 2-й пал. 15 — 1-й пал. 16 ст. Адным з важнейшых шляхоў узбагачэння феадалаў Крымскага ханства (узнікла ў 1443 у выніку распаду Залатой Арды) былі грабежніцкія паходы на землі суседніх дзяржаў (Вял. кн. Літоўскага, Рускай дзяржавы, Польскага каралеўства і інш.). З прычыны дрэннай арганізацыі абароны паўд. ускраіны Вял. кн. Літоўскага шматтысячныя орды татарскай конніцы ўрываліся на яго тэрыторыю і дасягалі Украіны і Беларусі. Татары спусташалі і палілі вёскі і гарады, забівалі мірных жыхароў, рабавалі іх маёмасць, выводзілі дзеля продажу ў рабства палонных, у асн. сялян. У 1497 полчышчы крымскіх татар спустошылі Мазыршчыну, але былі разбіты. У 1500 спалілі гарады Брэст і Камянец, у 1501 уварваліся на Палессе, у 1502 спустошылі Тураўшчыну і суседнія мясцовасці за р. Прыпяццю, у жн. 1503 — наваколлі Капыля, Клецка, Нясвіжа і Слуцка. Увосень 1503 3-тысячны атрад татар дайшоў да Навагрудка, але на зваротным шляху за р. Прыпяццю каля Давыд-Гарадка быў разгромлены. У 1505 5-тысячны атрад татар пераправіўся цераз р. Дняпро каля Лоевай гары (Лоеў) і рушыў да Мінска, які быў часткова спалены, Слуцка і Навагрудка. Асобныя загоны татар даходзілі да Вільні, Віцебска, Друцка, Лагойска і Полацка. Значная частка Беларусі была спустошана. Татары вывелі каля 100 тыс. палонных. Пасля адыходу татар у Мінску і многіх інш. гарадах Беларусі ўспыхнула эпідэмія.

Вясной 1506 на Беларусь уварвалася прыкладна 20-тысячная татарская арда і спынілася каля Клецка. Адсюль татарскія загоны рабавалі і палілі «двары» (адм.-гасп. цэнтры маёнткаў феадалаў) і вёскі ў наваколлях Ашмян, Ваўкавыска, Гродна, Крэва, Ліды, Мінска, Навагрудка

і Слуцка. Для адпору татарам 10-тысячнае войска Вял. кн. Літоўскага сабралася ў Лідзе. На чале з князем М. Л. Глінскім 6.8.1506 яно разграміла татар пад Клецкам. У 1508 татары двойчы ўрываліся на Беларусь, адзін раз былі разбіты каля Слуцка. У 1510 прыкладна 15-тысячная арда ўварвалася ў Вял. кн. Літоўскае і, не сустрэўшы моцнага адпору, дайшла да Вільні.

У 1521 5 тысяч татар дайшлі да Слуцка і Пінска, спалілі Мазыр і Тураў. У 1526 (1527?) прыкладна 20-тысячная татарская арда зноў спустошыла наваколлі Турава, Пінска і Слуцка. Але пад Слуцкам была разгромлена войскамі Вял. кн. Літоўскага на чале з гетманам князем К. Астрожскім, з татарскай няволі было вызвалена каля 40 тыс. палонных. У 1530 Т. н. на Б. быў адбіты. У наступныя гады ў сувязі са значнымі пераменамі знешнепалітычнага курсу Крымскага ханства татары нападалі на Вял. кн. Літоўскае рэдка і не дасягалі тэр. Беларусі. Поруч са спусташальнымі набегамі татар дадатковым цяжарам на сялян клаліся і разнастайныя павіннасці, якія вынікалі з мер феадалаў (пануючага класа) Вял. кн. Літоўскага па прадухіленню пагрозы такіх набегаў і па арганізацыі абароны. Амаль штогод з сялян збіралі грошы (ардыншчыну) для выплаты крымскаму хану даніны (упамінкаў, напр., у 1513 мір з татарскім ханам Менглі-Гірэем быў дасягнуты за кошт выплаты яму 15 тыс. залатых). Сяляне гаспадарскіх (велікакняжацкіх) Падняпроўскіх валасцей павінны былі рамантаваць і будаваць абарончыя збудаванні ў цэнтрах сваіх валасцей, а таксама на паўд. ускраіне Вял. кн. Літоўскага. Яны пастаянна неслі дазорную службу на магчымых напрамках нападаў татар. Т. н. на Б. з'яўляліся адным з асн. фактараў, што тармазілі працэс сац.-эканам. развіцця Беларусі, асабліва яе паўд.-ўсх. часткі, у канцы 15 — першай палове 16 ст.

*Літ.*: Греков И. Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XVI вв. М., 1963; Базилевич К. В. Внешняя политика Русского централизованного государства. Вторая половина XV века. М., 1952; Ochmański J. Organizacja obrony w Wielkim Księstwie Litewskim przed napadami Tatarów krymskich w XV—XVI w.//Studia i materialy do historii wojskowości. Warszawa, 1960. [T.] 5.

*М. Ф. Спірыдонаў.*

**ТРАДЫЦЫІ Ф. СКАРЫНЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ** 19 — пач. 20 ст. Спадчына С., старабел. пісьменства мела істотнае значэнне ў развіцці новай бел. л-ры. Аб'ектыўнае паскарэнне гэтага працэсу выразна адзначылася на мяжы 19—20 ст. Айчынныя набыткі часоў Адраджэння, у якіх адпаведна з тагачаснай эпохай «абуджэння нацыянальнасцей» (К. Маркс) адзначыўся пачатак нац. самавыяўлення бел. народа, з'яўляліся жывым, неабвержным доказам яго гіст. жыццяздольнасці, багатых культуратворчых патэнцый яго мовы. Літаратурны рух новага часу, абумоўлены тагачаснымі патрэбамі завяршэння нац. кансалідацыі бел. народа, якасна ўзнаўляў папярэднія, часткова прыпыненыя ці забытыя пісьмовыя традыцыі. Не выпадкова, што ўдзельнікі і ідэолагі гэтага руху найчасцей выступалі пад сцягам адраджэння, падкрэсліваючы гіст. пераемнасць і неабарачальнасць развіцця нац. культуры. Ідэя пераемнасці выразна прагучала ў паасобных творах Я. Чачота, В. Дуніна-Марцінкевіча, П. Шпілеўскага, А. Рыпінскага і асабліва ў прадмове да зборніка Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская» (1891). Друкаванае слова становіцца не толькі сродкам асветы, але і важнай перадумовай сац.-паліт. перабудовы грамадства.

Літаратурны рух на Беларусі, паскораны і актывізаваны падзеямі Рэвалюцыі 1905—07, пачынае шырэй і выразней суадносіцца з кніжнай традыцыяй сярэднявечча. У яе папулярызацыі станоўчую ролю адыграла нараджэнне бел. легальнага друку — газет «Наша доля», «Наша ніва», выдавецкіх суполак і г. д. Значэнне С., усяго старабел. кніжнага багацця газета «Наша ніва» раскрывала зыходзячы з тагачасных патрэб нац.-культ. адраджэнскага руху. Яна падкрэслівала патрыятычную дзейнасць С., паслядоўнікаў яго справы С. Буднага, В. Цяпінскага, рашаючую культуратворчую ролю працоўнага люду, захаваўшага і ўзбагаціўшага свой моўны скарб: «Але не толькі мужык перахаваў беларускую мову, перахавалі яе яшчэ і старыя кнігі, каторыя вялікай працай і коштам друкавалі нашы, памяці годныя продкі» (Наша ніва. 1909. 24 вер.). Прозвішча бел. першадрукара не аднойчы згадвалася на старонках «Нашай нівы» як жывое ўвасабленне даўніх культ. сувязей беларусаў з польскім, укр., чэш. народамі (1908. 4 ліп.; 1909. 22 студз.; 1911, 24 лют.). У дыскусіі, праведзенай газетай у пач. 1912, істотнае значэнне мела выступленне Янкі Купалы ў падтрымку прыхільнікаў кірылічнага шрыфту, за вяртанне да літар, «якімі суджана было друкавацца першай беларускай свецкай кніжцы — Статуту Літоўскаму» (Наша ніва. 1912. 2 лют.).

«Наша ніва» ўнесла свой уклад у падмурак бел. Скарыніяны, узвядзенне якога распачалося ў 19 ст. працамі У. Сыракомлі, М. *Доўнар-Запольскага,* А. Ельскага, Я. *Карскага.* У «Беларускім календары «Нашай нівы» на 1910 год» Р. *Зямкевіч* змясціў сваю «Беларускую бібліяграфію» — першую, хоць далёка не поўную спробу храналаг. сістэматызацыі бел. старадрукаў 16—18 ст. ад «Бібліі» С. да «Казання» Ф. Чарнецкага (1748). У такім самым «Беларускім календары «Нашай нівы» на 1912 год» надрукаваны артыкул невядомага аўтара (магчыма, С. *Палуяна*) «Калі друкавалася першая беларуская «Біблія?». Папулярызацыі традыцый кнігадрукавання садзейнічалі пачынанні «Нашай нівы» ў наладжванні айч. краязнаўства, у адкрыцці пры рэдакцыі калекцыі экспанатаў нац. культуры, сярод іх — «Трыёдзь каляровая» кракаўскага друкара Ш. *Фіёля,* частка (70 старонак) «Бібліі» С. пражскага выдання 1517, старадрукі, выдадзеныя ў Вільні, Еўі, Лоску, Нясвіжы, Слуцку і інш. бел. друкарнях. У пач. 1913 сярод актыву газеты ў сувязі з набліжэннем 400-годдзя бел. друку паўстае ідэя стварэння навук. таварыства імя Ф. Скарыны, падтрыманая М. Багдановічам у адным з яго лістоў у рэдакцыю. Выказваліся канкрэтныя меркаванні па ўвекавечанні памяці, шырокім распаўсюджванні спадчыны С. (пабудова помніка першадрукару ў Полацку, заснаванне гіст. б-кі імя Ф. Скарыны і г. д.). Ажыццяўленне іх стала магчымым толькі пасля Кастр. рэвалюцыі, у Сав. Беларусі. Згаданая юбілейная дата была адзначана спец. публікацыямі М. *Гарэцкага,* Зямкевіча ў «Вольнай Беларусі» (1917. 8, 11 і 23 жн.) і інш.

Усе гэтыя пачынанні развівалі цікавасць да традыцый нац. культуры, адбывалася мастацка-вобразнае асэнсаванне мінулага. Асабліва гэта выявілася ў рамантычнай паэзіі Купалы. Акрыленая «водклікам песняў» далёкіх і слаўных продкаў («Брату-беларусу»), паэзія Купалы несла вялікую, незнішчальную праўду аб сваім народзе, прага якога да свабоднага самавыяўлення творчых сіл заставалася непадуладнай векавому прыгнёту, духоўнай каланізацыі з боку эксплуататарскіх класаў. Паэтычнае ўзнаўленне мінулага ў Купалы, не пазбаўленае пэўнай ідэалізацыі, наталялася не толькі з крыніц фальклору. Геніяльны паэт быў дастаткова дасведчаны ў канкрэтнай гісторыі бел. народа, каб рашуча запратэставаць перад прыгнятальнікамі супраць ігнаравання і зневажання гэтай гісторыі (вершы «Цару неба й зямлі», «Памяці Вінцука Марцінкевіча», «Свайму народу» і інш.).

Купала ўслаўляў распачаты яшчэ ў далёкім мінулым «кніжны ход» роднай бел. мовы («Над Нёманам»), згадваючы яе багатыя традыцыі як антытэзу тагачаснаму зняволенаму становішчу сваёй радзімы-Беларусі: «Чужынцы запрэглі народ у прыгон, а песню аддалі на здзекі» («Казка аб песні»). Спалучэннем канкрэтна-гіст. і вобразна-рамантычнага адзначаны ў Купалы супярэчлівы працэс авалодання праблемай нац. духоўнай спадчыны («Маладая Беларусь», «На куццю»,«Ужо днее»). Гэтай жа ідэяй спадчыны навеяны вершы Багдановіча, аб'яднаныя ў цыкле «Старая Беларусь». Ён даў першы і адзіны ў дакастр. л-ры прыклад маст. ўвасаблення вобраза С. («Безнадзейнасць»). Матывам бессмяротнасці духоўнага падзвіжніцтва чалавека прасякнуты яго вершы «Летапісец», «Кніга», «Перапісчык», якія кампазіцыйна і настраёва сугучныя з вобразам С. Багдановіч першы абгрунтаваў гіст. значэнне С. ў агульнагіст. эвалюцыі бел. культуры. Паэт працаваў таксама над спец. артыкуламі пра С., але накід гэтага рукапісу не захаваўся. Прама ці апасродкавана да скарынінскай кніжнай традыцыі звярталіся ў сваіх паэт. або публіцыст. творах К. Каганец («Плач беларуса», «Наш сымбаль», «Наш покліч», «Прамова»), Цётка («Як нам вучыцца»), Н. Чарнушэвіч («Роднае слова»), Лявон Гмырак (арт. у «Нашай ніве», «Велікоднай пісанцы», «Гомане»), М. Гарэцкі (арт. у «Вольнай Беларусі», аповесць «Меланхолія»).

Дакастрычніцкая л-ра зрабіла першыя, хоць з-за тагачасных абставін і абмежа-

ваныя, крокі ў наследаванні спадчыны старабел. л-ры, спадчыны С. ў прыватнасці. Гэта спадчына жыватворна паўплывала на паглыбленне гістарызму, пашырэнне грамадзянска-патрыятычных даляглядаў, узбагачэнне жанравай і стылявой палітры, мастацка-выяўленчых сродкаў л-ры. Яна значна паскорыла пераадольванне адроджаным пісьменствам этнагр. рамак і выпрацоўку ўласцівага яму нац.-гіст. стылю.

*Літ.*: 840; Купала Я. Шляхам жыцця. Пб., 1913; яго ж. Зб. тв.: У 7 т. Т. 1—2. Мн., 1972—73; Каганец К. Творы. Мн., 1979; Цётка. Творы. Мн., 1976; Гарэцкі М. Зб. тв.: У 4 т. Т. 2. Мн., 1985.

*А. К. Каўко.*

**ТРАДЫ́ЦЫІ Ф. СКАРЫ́НЫ Ў МАСТА́ЦТВЕ ДРУКАВА́НАЙ КНІГІ.** Культ.-асв. і патрыят. ідэі С., кнігі, іх графіка, сам вобраз першадрукара-гуманіста былі і застаюцца вял. прыцягальнай сілай, якая вабіла да сябе многіх мастакоў розных пакаленняў (гл. *Вобраз Ф. Скарыны ў выяўленчым мастацтве*). Вопыт С. выкарыстоўвалі многія майстры. Аднак

**«Тройца».** Гравюра з кнігі «Быццё» Ф. Скарыны.



яго роля ў асобных галінах культуры і мастацтва ў розныя перыяды была неаднолькавай. Прычынамі таму з'явіліся неспрыяльныя сац.-паліт. фактары ў 2-й пал. 16 ст. ў жыцці Вял. кн. Літоўскага: цяжкі феад. прыгнёт і нац.-рэлігійная барацьба, абвастрэнне ўнутрыкласавых супярэчнасцей. Неадэкватнай была і ацэнка асв. дзейнасці С., па-рознаму ўплывалі і друкарска-мастацкія кампаненты яго кніг: шрыфт, фігурныя гравюры, ілюстрацыі і г. д. Скарынінскія традыцыі часам парываліся, потым зноў узнаўляліся на якасна новым узроўні. Так, пасля спынення С. друкарскай дзейнасці ў развіцці бел. кнігадрукавання наступіў перапынак, але, пачынаючы з 1550-х г., друкарні на тэр. Беларусі ўзніклі ў Брэсце (1553—54; 1558—61; 1562—68), Нясвіжы (1562—71), Цяпіне (каля 1580), Заблудаве (1568—70), Лоску (1572—92) і інш. (гл. *Кірыліцкае кнігадрукаванне* на Беларусі). У 2-й пал. 16 ст. пачаўся новы этап заснаванага С. бел. кнігадрукавання, пашырэння яго ідэйна-тэматычнага дыяпазону і друкарска-мастацкай дасканаласці. Выдадзеныя на Беларусі кнігі вылучаліся разнастайнасцю тэматыкі. Выдавалася тэалагічная, свецкая і паліт. л-ра, творы антычных аўтараў, падручнікі, юрыд.-заканадаўчыя акты, календары, кнігі па ваен. мастацтву, апісанні падарожжаў і г. д. Выданні С. служылі для пазнейшых друкароў эталонам ідэйнай накіраванасці, маст.-графічнага афармлення, тэхнікі і культуры кнігадрукавання, майстэрства набору, перадачы ў маст. вобразах зместу кнігі. Да С. ўзыходзіць распаўсюджаны ў кірыліцкіх друкарнях фармат у 4, 8 і 12-ю долю аркуша, рэдкі ў той час для рус. і ўкр. кнігі. У 1560—70-я г. да паліграфічна-друкарскіх традыцый С. найб. паслядоўна звярталіся Сымон *Будны* і Васіль *Цяпінскі*. Нясвіжскі *«Катэхізіс» 1562* Буднага надрукаваны, як і біблейскія кн. С., «у чацвёрку». Ад «Бібліі» С. пайшла і двухпрагонная (з 2 форм) тэхніка двухколернага друку на тытуле і шрыфтавая кампазіцыя, фігурная кампаноўка набору на асобных аркушах «Катэхізіса». Падабенства шрыфтоў гэтай кнігі да шрыфтоў С. такое блізкае, што большасць даследчыкаў лічаць, што Будны выкарыстаў шрыфт С. Пад яго ўздзеяннем выконваўся друкарскі матэрыял і для другой кн. Буднага «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам» (не захавалася). Цалкам да С. ўзыходзіць і графіка «Евангелля» (1580) Цяпінскага. У 1560-я г. да традыцый С. паслядоўна звяртаюцца бел. брацкія друкарні (гл. *Брацкае кнігадрукаванне),* якія шырока выкарыстоўвалі друкарскі матэрыял С.

Фігурныя гравюры С. з'явіліся пераважна самымі раннімі выявамі біблейскіх сюжэтаў на ўсх.-слав. землях і мелі значэнне для станаўлення і развіцця іканаграфіі старазапаветных сюжэтаў, якія ў бел., рус. і ўкр. мастацтве спазналі пазней (2-я пал. 16—18 ст.) пераапрацоўку на мясц. глебе. Гравюры С. даюць таксама самыя раннія прыклады кантактаў з мастацтвам Паўн. Адраджэння,

з Альбертам *Дзюрэрам,* таму яны з'явіліся істотным перадатчыкам зах.-еўрап. традыцый у бел. і ўсім усх.-слав. мастацтве (гл. *Мастацтва Беларусі*). Асобныя ілюстрацыі паслужылі ўзорам для гравюр «Брэсцкай біблії» (1563), матывы С. сустракаюцца і ў гравюрах Пятра *Мсціслаўца.* Тыпаж цара Давіда з заблудаўскага Псалтыра (1570) блізкі да гравюры С. *«Данііл з ільвамі».*

Кнігі С. карысталіся шырокай папулярнасцю на Украіне як у чытачоў, так і ў выдаўцоў, якія пераймалі традыцыі С. пры выданнях *Перасопніцкага евангелля* (1556—61), *«Астрожскай біблії»* Івана Фёдарава (1581), яго «Буквара» (1578) і інш. У «Псалтыры» (Астрог, 1598) выяўлены адбіткі вял. сапраўдных ініцыялаў «Бібліі» С. Менш прыкметны ўплыў С. на ўкр. кніжную ілюстрацыю, і толькі ў асобных ранніх малюнках да «Часаслова» (Львоў, 1609) адчуваецца пэўны ўплыў гравюр *«Малой падарожнай кніжкі»* (гл. *Мастацтва кнігі*). У 16—17 ст. добра вядомы былі кнігі С. і ў Расійскай дзяржаве, аднак знешняе аблічча маскоўскіх выданняў, іх шрыфт, арнаментыка ў цэлым не выяўлялі падабенства іх да выданняў С., артадаксальнае праваслаўе ставілася да С., відаць, насцярожана. Уздзеянне С. ўзмацнілася ў 17 ст., калі ў сувязі з руска-польскай вайной 1654—67 г. прыток бел. выданняў у Расію прыкметна ажывіўся. А. С. Зёрнава адзначае ўплыў С. ў застаўках Андроніка Нявежы, асабліва ў пазнейшым перыядзе яго дзейнасці (1600—02). На першых этапах стварэння рус. грамадз. шрыфту вывучаўся і шрыфт С.

Такім чынам, уздзеянне С. ў той ці іншай ступені адбівалася не толькі ў бел., але і ў рус., укр. графіцы. Кнігі С. былі вядомы і ў Зах. Еўропе. Шрыфт і асобныя ініцыялы С. з'явіліся ўзорам для цюбінгенскіх выданняў («Катэхізіс», 1561; «Каментарыі», 1562; Новы закон, 1563). Гэта дазваляе сцвярджаць, наперакор меркаванням некат. аўтараў, што друкарская дзейнасць С. не была спарадычнай з'явай, а маст. афармленне яго кніг па сваёй дасканаласці і прагрэсіўнаму характару прымалася паслядоўнікамі С. за ўзор. Маст. спадчына С. мела важнае значэнне для развіцця бел. сав. мастацтва, пашырала тэматычны дыяпазон гіст. жанру, з'явілася крыніцай тэм і вобразаў жывапіснай, скульптурнай і графічнай Скарыніяны. Мастакі кніжнай графікі выкарыстоўвалі шрыфт С. ў аздобе кніг, гравюры С., яго партрэт рэпрадуцыруецца ў шматлікіх выданнях, асабліва ў тых, што прысвечаны развіццю друкарскай справы.

*Літ.*: 69; 135; 789; 881. *В. Ф. Шматаў.*

**«ТРО́ЙЦА»,** гравюра з *кнігі «Быццё»,* выдадзенай С. у Празе (1519).

Сюжэт гравюры з'яўляецца хрысц. мадэрнізацыяй зместу 1-га раздзела кн. «Быццё». Усе асобы-лікі Тройцы роўныя і саўдзельнічаюць у стварэнні і быцці па формуле: усякае быццё ад бога бацькі — крыніцы быцця, якое праз бога-сына набыло сэнс, а праз св. духа — жыццёвую цэласнасць. Для ранніх старазапаветных уяўленняў паняцце аб траічнасці адзінага бога было чужым. Хрысц. тэалогія доўгі час дазваляла пластычнае адлюстраванне толькі аднаго Ісуса Хрыста. Пазней з'явіліся выявы (пераважна на мініяцюрах) хрысц. «Т.» ў вобразах старога — бацькі, падлетка — сына на яго лоне і св. духа над імі ў вобразе голуба.

Кампазіцыя гравюры (157×105 мм) па гарызанталі дзеліцца на дзве часткі: уверсе на троне паказана «Т.» ў вобразе мужч. фігуры з трыма абліччамі (пабапал анёлы), унізе сюжэт «Бітвы архангела Міхаіла з д'ябламі», выкананы пад уздзеяннем гравюры Альберта Дзюрэра з Апакаліпсіса, выдадзенага Антонам Кобергерам (Нюрнберг, 1498). У верхняй частцы гравюры старазапаветны, у ніжняй — новазапаветны сюжэты. Абагулена-сінтэтычны характар кампазіцыі тлумачыцца тым, што гравюра змешчана на франтыспісе кн. «Быццё». Гэта сімвалічная ілюстрацыя да ўсёй «Бібліі». Цікавасць уяўляе верхняя частка, у якой ідэя трыадзінага бажаства паказана з дапамогай трох абліччаў, якія сімвалізуюць траічнасць «Т.». Адзін з гэтых лікаў паказаны ў фас, а два бакавыя — амаль у профіль. Вочы і шчокі цэнтр. і бакавых аб'яднаны. У ніжняй частцы гравюры (створана пад уплывам Дзюрэра) у алегарычнай форме выражана ідэя барацьбы супраць сілы зла. Святлоценявыя кантрасты ўзмацняюць напружанасць паказанай сцэны. Маст. асаблівасці скарынінскай «Т.» ацэньваліся па-рознаму. Дз. Равінскі і У. Стасаў лічылі, што гравюра горшая за інш. Пад уплывам гэтых ацэнак знаходзіўся і М. Шчакаціхін. На наш погляд, даследчыкі недаацэньвалі маст. якасці «Т.». Гэта гравюра вельмі экспрэсіўная, дынамічная, арнаментальная, штрыхоўка выразная, хоць месцамі грубаватая. Кампазіцыйна верхняя і ніжняя часткі арганічна аб'яднаны выявай высока паднятых крылаў архангела Міхаіла. На бел. мастацтва іканаграфія трохаблічнай «Т.» значнага ўплыву не аказала.

*Літ.:* 564; 750; 792.

*У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*



**«Троя».** Старонка рукапісу пачатку 16 ст.

**«ТРО́Я»,** гіст. аповесць пра падзеі легендарнай Траянскай вайны, помнік бел. перакладной л-ры 15—16 ст.

Змест твора грунтуецца не на «Іліядзе» Гамера, а на больш позняй апрацоўцы нар. паданняў, што прыпісвалася грэку Дыктысу і траянцу Дарэсу (Дарэту). Паданні выдаваліся за сапраўдныя ўспаміны ўдзельнікаў вайны і паслужылі крыніцай для шматлікіх літаратурных апрацовак, бытавалі ў розных варыянтах, рэдакцыях. Адно з іх змешчана ў грэч. хроніцы 6 ст. Іаана Малалы і ў 11 ст. перакладзена на стараж.-рус. мову. Праз паўд.-слав. пасрэдніцтва ў 15 ст. ўсх. славянам стала вядома т. зв. «Прытча пра каралёў», што была змешчана ў візант. хроніцы 12 ст. Канстанціна Манасі. У канцы 15 ст. «Т.» ў паўд.-слав. рэдакцыі перакладзена на старабел. мову. У аповесці коратка апісваецца гісторыя заснавання Троі, нараджэння і незвычайнага жыцця траянскага царэвіча Парыса (у бел. тэксце — Фарыжа), сцісла выкладаецца традыц. фальклорна-паэт. версія прычын узнікнення Траянскай вайны і бегла, але дынамічна апавядаецца пра падзеі апошняга года вайны, якая скончылася смерцю яе гал. герояў і поўным разбурэннем Троі. У творы ўслаўляюцца воінская мужнасць і рыцарская доблесць герояў, а падзеі асвятляюцца з гуманіст. пазіцый.

«Т.» добра ведаў С. У прадмове да ўсёй «Бібліі» ён пісаў: «Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей, или книги Махавеев, более и справедливее в них знайдеш, нежели во Алекса[н]дрии или во Тройи» (гл. с. 11). Са зместу выказвання вынікае, што гэтыя творы карысталіся ў 16 ст. вял. чытацкім поспехам у суайчыннікаў бел. гуманіста. Імкнучыся ўзняць іх цікавасць да асобных, менш папулярных кніг Бібліі, ён параўноўваў гэтыя творы з выдатнымі помнікамі сусв. л-ры — *«Александрыяй»* і «Т.». Цяжка сказаць, якую канкрэтна літаратурную апрацоўку «Т.» меў на ўвазе С. Аднак можна ўпэўнена сцвярджаць, што ён, энцыклапедычна адукаваны, чытаў розныя творы пра Траянскую вайну, у т. л., магчыма, і раман Гвіда дэ Калумны, які каля 1468 быў выдадзены ў Чэхіі ў перакладзе на чэш. мову. Характар выказвання С. пра «Т.» і «Александрыю», параўнанне зместу гэтых твораў з асобнымі кнігамі Бібліі сведчыць аб грунтоўным асваенні ім сусв. літаратурнай спадчыны.

*Публ.*: 636. *В. А. Чамярыцкі.*

**ТРУ́БЕР** Прымаж (Трубар Прымус; 1508—86), дзеяч паўд.-слав. культуры, асветнік, выдавец і перакладчык. У 1531—68 прапаведнік, канонік, пастар. Прапагандаваў рэфармацыйнае вучэнне на нар. мове, праследаваўся ўладамі. З 1561 кіраўнік друкарні ў Ураху, каля Цюбінгена (Германія). Друкарня мела кірылічныя і глагалічныя шрыфты, значную колькасць гравюр (ксілаграфій), арнаментальны матэрыял. У 1561—64 выдаў 28 кніг, у т. л. на сербахарвацкай і славенскай мовах. Выдаваў таксама школьныя падручнікі і дапаможнікі. У 1550 тайна надрукаваў у Цюбінгене

«Азбуку». Большасць выданняў прызначалася для паўд. славян. У Т. былі таксама «рускі» шрыфт і «рускія» кнігі, пра якія ён паведамляў у лісце да пратэктара друкарні барона Г. Унгнада (1561). На думку многіх даследчыкаў (П. У. Уладзіміраў, П. М. Папоў, М. А. *Алексютовіч* і інш.), у некат. маст.-паліграф. асаблівасцях цюбінгенскіх выданняў Т. выявіўся ўплыў кніг С. (у абрысах строчнага шрыфту, малюнку і форме вял. літар). Пытанне патрабуе далейшага даследавання. Кнігі Т. захоўваюцца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна ў Маскве, Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе, у югаслаўскіх і інш. замежных зборах.

*Літ.*: 6; 69; 253. *Г. Я. Галенчанка.*

Тытульны ліст «Бібліі» Ф. Скарыны.




**ТЫТУЛЬНЫ ЛІСТ**, тытул (ад лац. titulus надпіс, загаловак), загаловачная старонка друкаванага выдання, на якім змяшчаюць назву кнігі, імя аўтара, выхадныя даныя. Першыя Т. л., у якіх былі бібліяграф. звесткі, паявіліся ў кнігах венецыянскага друкара Э. Ратдольта ў 1476. Т. л. у друкаваных кнігах кірылаўскага шрыфту ўвёў С. У яго пражскіх выданнях Т. л. двух тыпаў: да ўсяго выдання «Бібліі» і да асобных яе кніг (гл. *Тытульны ліст «Бібліі»*). Т. л. асобных кніг «Бібліі» блізкія да франтыспісу, бо маюць гравіраваную ілюстрацыю, што перадае кульмінацыйны момант зместу. Так, на Т. л. кн. «Суддзі» выява Самсона, які раскрывае пашчу льва. Пад гравюрай — тэкст: назва кнігі, звесткі пра перакладчыка і выдаўца і, часам, указанне на мэту выдання. Звестак пра месца і час выдання тут няма, яны вынесены ў пасляслоўі кожнай кнігі. На некат. Т. л. пражскіх выданняў ёсць зробленыя ад рукі запісы пра чалавека, які фінансаваў выданне: «А то ся стало накладом Богдана Онкова Сына радци места Виленскаго». Т. л. віленскіх выданняў заключаны ў арнаментальныя рамкі з 4 гравіраваных на дрэве форм. Не выяўлена агульнага Т. л. да «Малой падарожнай кніжкі». На Т. л. да асобных выданняў, якія ўваходзяць у яе склад, змешчаны толькі назвы кніг. Тэксты Т. л. «Малой падарожнай кніжкі»: «Починаеться «Псалътырь или песни святаго пророка божия Давыда царя Ерусалимска о Христе»; «Часословец» имея нощъную и дневную службу по уставу Ерусалимское церкви и прочих восточъных обителем»; «Шестодневец краткий на всу наделю почenvши от суботы по обычаю всех восточних церквий», «Последование церковного собърания въселетъняго от месеца сепътеврия до месеца августа по въставу Ерусалимъское церкви». Акафісты маюць агульны Т. л., на адной з дошак гравіраванай рамкі якога, выявы багародзіцы з дзіцем і двух «каралёў». Тэкст агульнага Т. л. адносіцца як да ўсіх акафістаў, так і да першага з іх «Акафіста магіле гасподняй». Т. л. асобных акафістаў аформлены наборнымі сродкамі (набор у выглядзе перакуленага трохвугольніка), часам дадаткова ўпрыгожаны *віньеткамі*. У «Акафісце багародзіцы» замест Т. л. змешчана гравюра, якая адлюстроўвае благавешчанне, пад ёю тлумачальны тэкст. На Т. л. «Акафіста Ісусу» змешчана назва і гравюра, выява багародзіцы з дзіцем і анёламі. У канонах з «Малой падарожнай кніжкі» Т. л., як правіла, няма. Толькі ў «Каноне Ісусу» і «Каноне Іаану Прадцечы» замест Т. л. змешчаны гравюры з паяснянльнымі надпісамі. «Апостал» 1525 адкрываецца агульным Т. л. з тэкстам, напісаным кінаварам: «Починаеться книга деяния и посьлания апостольская зовемая Апостол, з божию помочью справълена доктором Францыском Скориною с Полоцька». Зверху і знізу Т. л. упрыгожаны віньеткамі. У кнізе ёсць і другі Т. л.— перад пасланнямі апостала Паўла.

*Я. Л.* Неміроўскі.

**ТЫ́ТУЛЬНЫ ЛІСТ «БІ́БЛІІ»,** гравюра, змешчаная ў *кнізе «Быццё»*, выдадзенай С. у Празе (1519). Друкаванне «Бібліі» часткамі вымушала С. і яго гравёраў ствараць да кожнай з іх асобны *тытульны ліст*. Пачынаючы з *«Псалтыра» 1517* яго мела кожная біблейская кніга. Пасля выхаду з друку паасобных выпускаў неабходна было аб'яднаць іх у адну традыц. кнігу. У сувязі з гэтым трэба было даць агульны тытул да ўсёй «Бібліі» цалкам

Т. л. «Б.» (167×110 мм) друкаваўся з 4 ксілаграф. дошак, аздобленых раслінным арнаментам, умоўнымі выявамі бубнаў, драконаў, вазаў і інш. У рамцы кінаварам дадзены загаловак: «Бівлия руска выложена доктором Франциском Скориною из славнаго града Полоцька богу ко чти и людем посполитымъ к доброму научению». Кінавар на тытуле «Бібліі» ў пражскіх выданнях С. ўжыты ў другі раз (упершыню ў кн. *«Песня песням»*; 1518) з мэтай узмацніць «рэкламнасць» тытула. На думку А. А. *Сідарава*, «чырвонае і чорнае» друкавалася ў два прагоны з дзвюх формаў. Асн. загаловак — «Бівлия руска...» — набраны буйным шрыфтам. Знізу на рамцы на геральдычных шчытах выявы герба — сігнета С.— і знака (вагі). Геральдычны шчыт верхняй часткі рамкі не мае сімвала. Магчыма, спачатку тут быў знак , які аднойчы паяўляўся на партрэце С. (апошні адбітак партрэта ў 4-й кн. «Царствы», 1518). Аднак на час выхаду кн. «Быццё» асоба пад знакам па невядомай прычыне ў выдавецка-друкарскай справе С. не ўдзельнічала і яе знак з геральдычнага шчыта быў зрэзаны. Гэта адзіная незавершаная дэталь на Т. л. «Б.», які з'яўляецца сапраўдным шэдэўрам кніжнай графікі. Кампазіцыя Т. л. «Б.» вылучаецца рэдкай гармоніяй, у ёй дакладныя прапорцыі чорнага, белага і чырвонага колераў, суадносіны выявы і тэксту. Арнаментаваная чорная рамка ўзмацняе гучанне ўнутранага белага поля, якое ў сваю чаргу абвастрае інтэнсіўнасць кінаварнага тэксту, што знаходзіцца ў напружаных суадносінах з белым і чорным. Паглыбленая металаграфія тытула (белым штрыхом па чорным) таксама дасканалая на ўсіх 4 дошках, удала выканана рэнесансавая арнаментыка, геральдычныя шчыты, дэльфіны. У кірылаўскіх выданнях 16—18 ст. няма твора, які мог бы спаборнічаць з Т. л. «Б.» па майстэрству кампазіцыі і гармоніі ўсіх кампанентаў. Выяўленчыя матывы тытула і белаштрыхавая гравіроўка пераклікаюцца з выявамі аналагічных матываў на арх. арцы гравюры *«Узор рыз»*. Магчыма, гэтыя працы выкананы адным майстрам. Па стылю Т. л. «Б.» ўзыходзіць да венецыянскіх выданняў эпохі Рэнесанса. У сваю чаргу тытул С. аказаў уздзеянне на развіццё кніжных тытулаў у Чэхіі (тытул «Кнігі выкладанняў», Прага, 1522, друкарня П. Северына). У 1917 І. А. Шляпкін выкарыстаў гэты тытул для выдання «Пахвалы кнізе» (Петраград, 1917).

*Літ.*: 792. *В. Ф. Шматаў.*

**ТЫЧЫ́НА** Анатоль Мікалаевіч (1897—1986), беларускі сав. графік. Працаваў у галіне станковай і кніжнай графікі. У афармленні першага нумара часопіса «Наш край» за 1926, які быў прысвечаны юбілею бел. кнігадрукавання, выкарыстаў скарынінскія матывы (канцоўкі, заставкі). Аформіў вокладку, форзац і тытульны ліст рамана М. Садковіча і Я. Львова «Георгій Скарына» (1951). Выкарыстаны партрэт С., творча перапрацаваны арнаменты, заставкі і канцоўкі яго выданняў; ціснёны пераплёт упрыгожаны арнаментам і фотаздымкам бюста С. работы скульптара З. *Азгура*. Афармленне вызначаецца лаканічнасцю, вытрымана ў стылі часу С. У 1925 да закрытага конкурса юбілейнага знака, прысвечанага 400-годдзю бел. кнігадрукавання, зрабіў значок, за які мастаку была прызначана першая прэмія. У 1969 выканаў экслібрыс мастацтвазнаўцы Я. Бердзічэўскага (Кіеў), на якім адлюстравана скульптура С. работы А. Глебава, змешчаны картуш у выглядзе шчыта з скарынінскіх заставак.



Да арт. **Тэатральная Скарыніяна.** В. Смірноў у ролі Ф. Скарыны ў спектаклі «Францыск Скарына» («Напісанае застаецца») А. Петрашкевіча. Гродзенскі абласны драматычны тэатр. 1978.





М. Якунін. Эскіз дэкарацыі да спектакля «Францыск Скарына» («Напісанае застаецца») А. Петрашкевіча. Гродзенскі абласны драматычны тэатр. 1978.

**ТЭАТРА́ЛЬНАЯ СКАРЫНІЯ́НА.** Упершыню вобраз С. на бел. сцэне ўвасоблены ў 1926 у спектаклі «Скарына — сын з Полацка», пастаўленым БДТ-1 (бел. тэатр імя Я. Купалы) па п'есе М. *Грамыкі* «Скарынін сын з Полацка». Прэм'ера яго адбылася ў дні святкавання 400-годдзя бел. кнігадрукавання. Дакументальных звестак аб прэм'еры не захавалася. Паводле ўспамінаў удзельнікаў і гледачоў, гэта быў маляўніча аформлены спектакль з цікавымі дэкарацыямі і касцюмамі. Спектакль паставіў рэж. М. Папоў, па другой версіі — В. Базылеўскі.

У рэпертуарны план тэатра імя Я. Купалы 1946—47 была ўключана пастаноўка драмы М. *Клімковіча* «Георгій Скарына» (не ажыццёўлена). У 1964 па скарочаным варыянце гэтай п'есы створаны радыёспектакль (рэж. М. Троіцкая, ролю С. выконваў І. Шаціла).

У 1970-я г. паводле п'есы А. *Петрашкевіча* «Напісанае застаецца. Францыск Скарына» пастаўлены спектаклі «Францыск Скарына» («Напісанае застаецца») у Гродзенскім абл. драм. тэатры (1978, рэж. У. *Караткевіч*) і «Напісанае застаецца» ў бел. драм. тэатры імя Я. Купалы (1979, рэж. А. Шалыгін). Ролю С. выконвалі ў Гродзенскім тэатры С. Смірноў, у Бел. драм. тэатры імя Я. Купалы В. *Та-*

*расаў* і У. *Рагаўцоў*. Асн. канфлікт п'есы — барацьба розных ідэалогій, якая выяўляецца не ў імклівым развіцці дзеяння, а ў псіхал. сутыкненні герояў — носьбітаў процілеглых светапоглядаў. Драматургія твора патрабавала асабліва глыбокай акцёрскай працы над вобразамі, унутранага разумення ідэалаг. барацьбы 16 ст., праблемы адвечнай барацьбы дабра і зла, сутнасці гуманізму і рэакцыйнасці. Тэатр. рэжысура пераканаўча выявіла сутнасць філас. спрэчак, данесла псіхал. накал барацьбы. Падзеі далёкага мінулага эмацыянальна ўзрушваюць сучаснага гледача, выклікаюць роздум пра складаны лёс асветніцтва наогул. Спектакль Гродзенскага драм. тэатра больш пераканальны па сац. і філас. гучанню, вылучаецца сучаснасцю і публіцыстычнасцю. Тэатральная крытыка станоўча адзначыла самабытнасць яго рэжысуры і акцёрскія дасягненні. Выканаўца гал. ролі Смірноў паказаў С. стрыманым у знешнім праяўленні пачуццяў, спакойным, засяроджаным. Акцёр пераканаўча перадае высакароднасць, нар. характар і тонкую далікатнасць С., яго любоў да народа, адданасць радзіме. Знешняе рашэнне вобраза С., як і інш. гіст. асоб, абодва тэатры далі без традыц. выкарыстання іканаграф. матэрыялу, без імкнення да партрэтнага падабенства. Гіст. верагоднасць вобраза дасягаецца імі праз раскрыццё духоўнай сутнасці героя, яго характару, светапогляду. Дэкарацыі і касцюмы добра перадаюць дух эпохі. Сцэнаграфія з'яўляецца ўдачай абодвух спектакляў. Яна найб. адпавядае сутнасці п'есы, яе мэце і пафасу. Афармленне вырашана па-рознаму. Мастак М. *Якунін* (Гродна) уводзіць гледача ў атмасферу далёкага мінулага шляхам умоўна-вобразнага вырашэння прасторы сцэны. Многае ў рэжысёра і мастака пераклікаецца з сучасным кінематографам: мантажны прыём пабудовы дзеяння, выкарыстанне буйнога плана (высветленыя з цемры асобныя эпізоды добра перадаюць адчуванне трывогі, напружанасці, барацьбы). Цікава і сімвалічна вырашана суперзаслона сцэны — з'яднаныя шчыт, крыж і меч. Атмасферу напружанай ідэалаг. барацьбы і выкарыстанне з гэтай мэтай рэлігіі перадае выява распяцця ў глыбіні сцэны. Мастак знайшоў многа цікавых рашэнняў для перадачы філас.-публіцыст. зместу п'есы. Арыгінальная сцэнаграфія Э. *Агуновіча* (тэатр імя Я. Купалы). Сучаснай маст. мовай, простымі, лаканічнымі сродкамі ўзнаўляе ён асяроддзе далёкага мінулага, творча выкарыстоўвае магчымасці святла і колеру. У спектаклі адзіная сцэнічная канструкцыя, але гэта дазволіла мастаку стварыць канкрэтнае і адначасова абагульненае месца дзеяння, перадаць дух эпохі, яе каларыт. Эмацыянальнае гучанне спектакля ўзмацняецца дэкарацыямі— скляпенні касцёла з вобразам мадонны. Мастакі, кожны па-свойму, глыбока і вобразна перадаюць у спектаклі трагізм эпохі барацьбы чалавечага духу з сіламі цемрашальства і фанатызму. Муз. афармленне (І. Сімакіна — Гродна, А. Ќавалёў — Мінск, з фрагментамі музыкі Ч. Немена) паглыбляе ўспрыманне ідэйнага і эстэт. зместу п'есы. Спектаклі з'яўляюцца значным укладам у маст. Скарыніяну.



Да арт. **Тэатральная Скарыніяна.** Э. Агуновіч. Ф. Скарына, М. Гусоўскі, Маргарыта. Эскізы касцюмаў да спектакля «Напісанае застаецца» па п'есе А. Петрашкевіча. Бел. т-р імя Я. Купалы. 1979.

*Літ.*: 880; 881; 888; Вытокі песні. Мн., 1973. С. 44—45; Лабовіч А. Выпрабаванне сцэнай: Штрыхі да партрэта драматурга А. Петрашкевіча//Полымя. 1980. № 5.

*В. Н. Дышыневіч.*



**«УЗО́Р ДВУХ СЛУПО́Ў»**, «Взор двух столпов иже пред храмом», гравюра на арк. 137б біблейскай кананічнай 3-й *кнігі «Царствы»*, выдадзенай С. у Празе (1518).

Ілюструе сюжэт кнігі, у якім апісваюцца два медныя слупы з бабінца Іерусалімскага храма, якія, паводле біблейскага падання, быў пабудаваны па загаду цара Саламона.

На гравюры (105×105 мм) паказаны аднолькавыя слупы з шарападобнымі капітэлямі, багата аздобленымі раслінінай арнаментыкай. Выява мадэліравана кароткімі, крыху закругленымі штрыхамі, фон чысты, што надае малюнку выразны сілуэт. На думку М. *Шчакаціхіна*, гравюра С. запазычвае некат. дэталі з гравюры ў «Каментарыях» *Нікала дэ Ліра*, аднак не зусім тоесная і фактычна гэта самастойны твор мастацтва, які дае непаўторную выяўленчую інтэрпрэтацыю падрабязна апісаных у кн. «Царствы» двух слупоў перад храмам Саламона.

*Літ.*: 564; 792. *В. Ф. Шматаў.*

**«УЗО́Р ДЗЕСЯЦІ ПАДСТА́ВАК»**, «Взор десяти подъставок и баней их», гравюра з 3-й *кнігі «Царствы»*, выдадзенай С. у Празе (1518).

Ілюструе фрагмент апісання Іерусалімскага храма, пабудаванага па загаду цара Саламона. Кожная з 10 падставак размяшчалася на 4 медных колах. Для выканання абраду абмывання на падстаўцы была медная ўмывальніца накшталт антычнай амфары. Паабапал ад уваходу ў храм размяшчалася па 5 такіх падставак (гл. *«Узор храма»*).

Кампазіцыя гравюры (105×104 мм) вырашана ў адпаведнасці з біблейскім апісаннем. Ніжняя частка падставак упрыгожана выявамі птушак і звяроў, змешчаных у кругах, у аркападобных нішах. Выразныя выявы анёла і арла. Гравюра мае аналагі ў ням. выданнях канца 15 ст. На думку М. *Шчакаціхіна*, 2 аналагічныя дрэварыты змешчаны ў «Каментарыях» (Postilla) *Нікала дэ Ліра*, 1481. Падобныя дрэварыты змешчаны ў «Каментарыях» (Нюрнберг, 1481), «Бібліі» і «Каментарыях» (Страсбур, 1492), «Бібліі» (Базель, 1498). Іх кампазіцыя, малюнак падставак, асобныя дэталі сведчаць аб тым, што гравюра С., магчыма, узыходзіць да ням. іканаграфіі гэтага сюжэта. Аднак яе кампазіцыя больш кампактная і гарманічная, а штрыхоўка — дасканалая. Ням. гравюры выканаsuccessы контурам, лініі ў іх празмерна тоўстыя, нязграбныя. У працы С. штрых ясны, чысты, сакавіты. Гравюра вылучаецца дакладнасцю малюнка падставак, выразным сілуэтам. Гэта дазваляе сцвярджаць, што яна спецыяльна рабілася для С., у чым пераконвае адпаведнасць памераў люстры набору.

*Літ.*: 564. *В. Ф. Шматаў.*

**«УЗО́Р ДО́МА»**, «Взор дому древяна царя Саломона», гравюра на арк. 136б біблейскай кананічнай 3-й *кнігі «Царствы»*, выдадзенай С. у Празе (1518). Ілюструе фрагмент апісання буд-ва палаца цара Саламона. На гравюры (104×104,5 мм) трохпавярховы будынак з балюстрадай на першым паверсе і балконам на трэцім. Кампазіцыя нагадвае гравюру «Узор храма», але малюнак дома менш удалы, крыху спрошчаны, штрыхоўка больш сухая. Паводле меркавання М. *Шчакаціхіна*, верхні паверх дома падобны на аналагічную выяву з гравюры ў «Каментарыях» (Postilla) *Нікала дэ Ліра*, 1481, сярэдні — відазменены, а першы з'яўляецца дадаткам да яе. Аднак такая трактоўка некалькі адвольная.

*Літ.*: 564; 792. *В. Ф. Шматаў.*

**«УЗО́Р КІВО́ТА»**, «Взор кивота или скрини завета Господня», гравюра на арк. 45б біблейскай кананічнай *кнігі «Выхад»*, выдадзенай С. у Празе (1519).

Ілюструе фрагмент біблейскай легенды пра стварэнне каўчэга, або ківота, дзе захоўваліся 10 запаведзей Майсеевага закона, што былі запісаны самім богам на дзвюх каменных дошках-скрыжалях. Сімвалізаваў, як і Ноеў каўчэг, выратаванне «выбранага народу».

На гравюры (105×105 мм) выява ківота з двума крылатымі анёламі-херувімамі, якія падтрымліваюць над ім накрыўку. У верхніх вуглах знак [знак] і гербсігнет С., што сцвярджае яго аўтарскія правы на гравюру. Па абодва бакі ад херувімаў архіт. калоны, арнаментыка якіх сугучная *тытульнаму лісту «Бібліі»*. Відаць, што гэтыя гравюры зроблены адным мастаком. Гравюра выканана памайстэрску, вельмі дэкаратыўна, вабіць выдатным малюнкам, багатай і адмысловай арнаментыкай ківота, узорыстасцю дакладнай і разнастайнай штрыхоўкі. Выява ківота са скрыжалямі запаведзей сустракаецца ў выданнях інкунабульнага перыяду друкарства. Аднак параўнаўчы аналіз гравюры С. з ням. ілюстрацыямі сведчыць пра творчую самастойнасць у выданні С. гравёра, які дасканала валодаў шырокім арсеналам маст. сродкаў. У мініяцюры рукапісаў і пазнейшай гравюры аналагічная выява ківота не сустракаецца.

*Літ.*: 564. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**«УЗО́Р МО́РА»**, «Взоръ моря или умывальници медяное», гравюра на арк. 139 біблейскай кананічнай 3-й *кнігі «Царствы»*, выдадзенай С. у Празе (1518).

Ілюструе фрагмент з гэтай кнігі, у якім апісваецца цікавы твор стараж. прыкладнога мастацтва з Іерусалімскага храма, выліты з медзі майстрам Хірамам — вялікі ўмывальнік дыяметрам каля 6,5 м і вышынёю звыш 3 м, падобны формай на кветку лілеі. Корпус умывальніка быў упрыгожаны шнуркам і літымі меднымі «гуркамі». Ён служыў для рытуальнага абмывання і адначасова сімвалізаваў у кн. «Выхад» легендарны эпізод вызвалення ізраільцян з егіпецкага палону, калі перад іх правадыром Майсеем расступіліся воды Чырвонага мора.

На гравюры (104,5×104 мм) умывальнік паказаны ў выглядзе чашы, запрэжанай валамі. Над галовамі валоў краны, з якіх цячэ вада. Ілюстрацыя пры ўсёй умоўнасці задумы вельмі майстэрская, асабліва выразна намаляваны валы. Кароткімі, роўнымі штрыхамі перададзена абмалёўка чашы, што робіць гравюру аб'ёмнай, выразнай. На думку М. *Шчакаціхіна*, гравюра С. мае аналогію ў «Каментарыях» (Postilla) *Нікала дэ Ліра*

1481, але выканана значна лепш. Падобная гравюра ёсць таксама ў «Каментарыях» (Кёльн, 1485), Бібліі і «Каментарыях» (Страсбур, 1494). Але гравюра С., на думку У. Стасава, выканана найб. дасканала.

*Літ.*: 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**«УЗО́Р РЫЗ»**, «Взор ризь греческих еже быша на Аароне», гравюра з *кнігі «Выхад»* (арк. 52), выдадзенай С. у Празе (каля 1519). Ілюструе рытуальна-абрадавае адзенне Аарона — першасвяшчэнніка старазапаветнай царквы. Гравюра (105×105 мм) выдатна скампанавана і намалявана, але яе танальнае вырашэнне некалькі аднастайнае: густая паралельная штрыхоўка за выявай першасвяшчэнніка пазбаўляе гравюру кантрастнасці. Жыццёва пераканаўча пададзена постаць Аарона, яго галава з «канкрэтнымі» рысамі твару, дэталёва распрацаванае адзенне. Кампазіцыйна яна размешчана ў акаймаванні, якое нагадвае трыумфальную арку (у мастацтве Адраджэння служыла сродкам услаўлення асобы). Малюнак дэкору на арцы і яе белаштрыхавая гравіроўка, блізкія да тытульнага ліста «Бібліі», сведчаць, што абедзве гравюры выканаў адзін мастак. Выява Аарона ў рытуальна-абрадавым адзенні сустракаецца ў ням. выданнях 15 ст. (у «Каментарыях», выдадзеных у Нюрнбергу, 1481 і Кёльне, 1485). Гравюра С. розніцца ад іх кампазіцыяй, выявай інтэр'еру (у ням. выданнях ён адсутнічае) і больш жыццёвым, выразным тыпажом. Памеры, адпаведныя люстры набору, герб-сігнет С. ў верхнім левым кутку і знак «вагі» ў правым сведчаць, што яна рабілася спецыяльна для выдання С. Клішэ гравюры «У. р.» выкарыстана таксама ў кн. «Левіт» (арк. 16), дзе яна крыху перароблена і дадзена пад назвай *«Сей есть Аарон»*.

*Літ.*: 564; 792. *В. Ф. Шматаў.*

**«УЗО́Р СВЯЦІЛЬНІКА»**, «Взор светильника златого з ветием его», гравюра на арк. 47б біблейскай кананічнай *кнігі «Выхад»*, выдадзенай С. у Празе (1519).

Паводле біблейскага апісання, па загаду Майсея ў час выхаду стараж. ізраільцян з егіпецкага палону для паходнага храма (скініі) быў зроблены залаты свяцільнік (падсвечнік), на якім мацаваліся лампады. Пра свяцільнік упамінае С. ў прадмове да кн. «Выхад».

Выява свяцільніка, форма якога нагадвае вазон, запаўняе ўсю плошчу гравюры (10×104 мм). Ад сярэдняга, цэнтральнага, сцябла ў левы і правы бакі сіметрычна разыходзяцца галінкі, на іх чашы, званочкі, лісцікі. Унізе разыходзяцца ў бакі выгнутыя ножкі, якія нагадваюць ногі жывёлы. На гравюры змешчаны знак ⩥ злева і герб-сігнет С.— справа. Гравюра выканана па-майстэрску, усе дэталі малюнка напоўнены жыццём, рухам, па-свойму адухоўлены. Аб'ём перададзены жывым, сакавітым контурам, дэталі свяцільніка мадэлірую́цца па форме кароткімі, паўкруглымі штрыхамі; цень унізе дадзены роўнымі паралельнымі лініямі. Выява свяцільніка шырока распаўсюджана ў ням. выданнях 15 ст.: у «Хроніцы» (1493) Г. Шэдэля, «Каментарыях» (Postilla) *Нікала дэ Ліра,* 1481 (падабенства іх да гравюры С. адзначаў М. *Шчакаціхін)*, у Бібліі (Базель, 1498), Бібліі і «Каментарыях» (Страсбур, 1492) і інш. Гравюра спецыяльна рабілася для кніг С., пра што сведчаць выявы яго сімвалаў.

*Літ.*: 564; 792. *В. Ф. Шматаў.*

**«УЗО́Р СТАЛА́»**, «Взор стола на нем же бе хлеб посвященный», гравюра з прадмовы да *кнігі «Выхад»*, выдадзенай С. у Празе (каля 1519).

Ілюструе фрагмент апісання стала, які, паводле біблейскай легенды, быў зроблены з дрэва сітым (акацыі) і абкладзены чыстым золатам. На стол клаліся ахвярныя хлябы, ставіліся залатыя рытуальныя блюды, кадзільніцы, кубкі і келіхі.

На гравюры (104×104 мм) адлюстраваны багата арнаментаваны стол чатырохвугольнай формы з хлябамі, на якіх стаяць вазоны з кветкамі. У левым верхнім кутку знак «вагі», у правым — герб-сігнет С. Ілюстрацыя вылучаецца багатай дэкаратыўнасцю (рамбавідны і кветкападобны арнамент пераклікаецца з бел. народным арнаментам), бездакорнасцю выканання, пераканаўчасцю перспектывы. Гравюра выканана лаканічнымі маст. сродкамі, якімі дасягнута вял. жыццёвасць. Форма мадэлірую́цца гарызантальнымі і вертыкальнымі штрыхамі. Паводле М. *Шчакаціхіна,* аналагічныя творы змешчаны ў «Сусветнай хроніцы» (1493) Г. *Шэдэля* і «Каментарыях» (Postilla) *Нікала дэ Ліра,* 1481. Выявы сталоў з хлябамі сустракаюцца ў ням. выданнях 15 ст.: «Каментарыях» (Нюрнберг, 1481), Бібліі (Базель, 1491), Бібліі і «Каментарыях» (Страсбур, 1491 і 1492) і інш. У параўнанні з ілюстрацыямі ў гэтых выданнях, выкананых схематычна, грубым контурам (з разлікам на размалёўку ад рукі) гравюра С. больш дасканалая, гэта па сутнасці самастойны маст. твор, а адзначанае Шчакаціхіным падабенства гаворыць толькі пра традыцыю, якая існавала ў адлюстраванні дадзенага сюжэта ў кн. «Выхад». Ва ўсіх ням. гравюрах хлябы чатырохвугольнай



**«Узор двух слупоў».** Гравюра з 3-й кнігі «Царствы» Ф. Скарыны.



**«Узор дзесяці падставак».** Гравюра з 3-й кнігі «Царствы» Ф. Скарыны.

формы, а ў С.— круглыя, што адпавядае слав. традыцыі. Арнаментыка значна багацейшая, і выкананне больш тэхнічнае. Адпаведнасць гравюры «У. с.» люстры набору гаворыць аб тым, што яна выконвалася спецыяльна для кн. «Выхад». Апошняе пацвярджаюць і сімвалы першадрукара.

*Літ.:* 564. *В. Ф. Шматаў.*

**«УЗО́Р ТРЭ́БНІКА»**, гравюра на арк. 50б біблейскай кананічнай *кнігі «Выхад»*, выдадзенай С. у Празе (1519). Пад гравюрай надпіс: «То ест образ требника, на нем же приношаше ест Арон жертвы господину богу, он же стоиваше во притворе храмове, и на той крате, еже висить посреди его, поляху жертвы; огонь всегда горяше зысподу не огниши его».

Ілюструе фрагмент тэксту кн. «Выхад», у якім апісваецца трэбнік (ахвярнік, ківот), зроблены з дрэва сітым (акацыя) і пакрыты ліставой меддзю. Пра ахвярнік упамінае С. ў прадмове да кн. «Выхад».

На гравюры (105×105 мм) вялікі ахвярнік у выглядзе скрыні. Над ахвярнікам знак і герб-сігнет С. У мадэліроўцы гэта гравюра не зусім дасканалая: ахвярнік намаляваны з адваротнай перспектывай, малюнак больш чарцёжны, занадта перагружаны ценямі. Ужыты роўныя, шчыльныя паралельныя штрыхі М. *Шчакаціхін* лічыў, што гравюра мае падабенства да аналагічных ілюстрацый, якія знаходзяцца ў «Хроніцы» (1493) Г. *Шэдэля* і «Каментарыях» (Postilla) *Нікала дэ Ліра*, 1481. Выявы ківота вядомы і ў інш. ням. выданнях («Каментарыі», Кёльн, 1485). Аднак гравюра С. значна розніцца ад іх пластычнасцю малюнка і маст. выканання, пазбаўленага рамеснасці, уласцівай ням. гравюрам інкунабульнага перыяду друкарства. Гравюра спецыяльна рабілася для С., аб чым сведчаць яе памеры і герб-сігнет асветніка. У мініяцюры і гравюры Беларусі сюжэт невядомы.

*Літ.:* 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**«УЗО́Р ХРА́МА»**, «Взоръ храму господня от Саламона деланного», гравюра з 3-й *кнігі «Царствы»*, выдадзенай С. у Празе (1518).

Паводле біблейскага падання, храм пабудаваны па загаду цара Саламона. Вакол сцен храма былі зроблены прыбудовы ў 3 ярусы, якія пашыраліся знізу ўверх. У зах. частцы храма асобная сцяна аддзяляла залу, дзе размяшчаўся ківот (гл. *«Узор ківота»*).

На гравюры (105×105 мм) — трохпавярховы будынак з паўкруглымі вокнамі. Паверхі дзеляцца трыма гарызантальнымі балконамі з закругленымі балюстрадамі па вуглах. Аб'ём мадэліруецца кароткімі штрыхамі, маляўніча, жыццёва. Пераканаўча перададзена перспектыва. Паводле М. Шчакаціхіна, ілюстрацыя «вельмі далёка» нагадвае адпаведныя малюнкі ў Сусветнай хроніцы» (1493) Г. *Шэдэля* і «Каментарыях» (Postilla) *Нікала дэ Ліра*, 1481, але адрозніваецца ад іх сваімі прапорцыямі, дэталямі і перспектыўнасцю малюнка. У. Стасаў лічыў гравюру «У. х.» адной з лепшых у кнігах С.

*Літ.:* 564; 792.

*У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**УЛАДА́ЛЬНІЦКІЯ ЗА́ПІСЫ** на выданнях Ф. Скарыны, надпісы на палях, чыстых старонках або форзацах кніг, зробленыя іх уладальнікамі. Змяшчаюць звесткі пра ўладальніка кнігі (уласна У. з.), пра ахвяраванне кнігі ў царкву або манастыр (укладныя запісы) пра продаж, пераплёт кнігі і інш. Да У. з. можна аднесці і розныя паметы (маргіналіі) чытачоў на палях. З'яўляюцца каштоўнай крыніцай для вывучэння твораў друку, працэсаў іх стварэння, распаўсюджання і выкарыстання. У. з. былых уладальнікаў часта знішчаліся. Іх саскрабалі, выціралі або абрэзвалі пры пераплёце кнігі. Таму раннія запісы на скарынінскіх выданнях кніг сустракаюцца вельмі рэдка. Вядомы неразборлівы запіс на бел. мове, датаваны 1525, на экземпляры «Апостала» са збору І. П. Каратаева (Дзярж. б-ка СССР імя У. І. Леніна, ДБЛ), запіс 1551 на польск. мове ў кн. «Плач Ераміі» са збору П. К. Фралова (Дзярж. Публ. б-ка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, ДПБ). У 17 ст. гэты экземпляр належаў смаленскаму бурмістру А. С. Жукаву, які пакінуў на адной з старонак У. з.: «Сия книга смоленскаго... Артемона Семеновича Жукова 7171 (=1663) года». На некат. экземплярах выданняў С. захаваліся недатаваныя запісы 16 ст., напр., на кн. «Другі закон» (ДБЛ): «Сия книга зовемая Бивлия пана Василя Богдановича Чижа, конюшего дворного осподаря короля его милости... державцы кричевского и гаенского»; на кн. «Ісус Сірахаў» са збору Ф. А. *Талстога* — «Сия книга есть власная монастыря Печерского Киевского». У канцы 16 — пач. 17 ст. зроблены У. з. на экземпляры кн. «Прамудрасць божая» (Б-ка АН СССР у Ленінградзе): «Сия книга глаголемая Премудрости божия царя Саломона, Исуса Сираха, Иева праведнаго и Руфь есть властная отца Михаила Конопельского протопопа церкви святого Феодора...». Значна большая колькасць У. з. на выданнях С. захавалася ад 17 ст. Сярод многіх запісаў, зробленых на польск., лац. і бел. мовах на палях


**«Узор дома».** Гравюра з 3-й кнігі «Царствы» Ф. Скарыны.


**«Узор ківота».** Гравюра з кнігі «Выхад» Ф. Скарыны.

«Пяцікніжжа» (Цэнтр. навук. б-ка АН УССР у Кіеве, ЦНБ), ёсць запіс аб смерці кароннага гетмана, старосты сандамірскага Хадкевіча ў 1622, запісы з датамі 23 лютага 1623 і 1624, запісы Сямёна Паповіча ад 1639 і 1644. У 18 ст. гэты экземпляр кнігі належаў сям'і Хазелоўскіх, пра што сведчаць запісы ад 1757 і 1772. У 18 ст. кнігай валодаў бел. свяшчэннік Павел Ляцэвіч. 2 мая 1862 на гэтым экземпляры «местечка Горингрода протоиерей Иосип Опатович» зрабіў запіс пра гарады, з якімі звязана творчая дзейнасць С.: «г. Полоцк Витебской губернии, а г. Прага, где печатана Библия сия, состоит в Богемии». На прыкладзе «Пяцікніжжа» са збору ЦНБ АН УССР па У. з. можна прасачыць лёс кнігі. Запісы паказваюць таксама геаграфію распаўсюджання выданняў С. На «Акафісніку» з «Малой падарожнай кніжкі» (Ягелонская б-ка ў Кракаве) ёсць запіс, што ў 1624 яна належала кракаўскаму сабору св. Барбары ордэна езуітаў. На канвалюце з 4 выданняў С. (Навук. б-ка МДУ) ёсць У. з.: «Рафаил Корсак божою милостю». На думку Г. Я. *Галенчанкі,* гэты запіс зроблены кіеўскім мітрапалітам Р. Корсакам (каля 1595—1640). У экземпляры кн. «Царствы» (Цэнтр. архіў стараж. актаў у Маскве) запісана: «Сия книга Алексеева дому Петровича Гладкова, а взята сия книга в Литовской земли в городе Гродно лета 7163 (=1655) году месяца августа в 27 день». Экземпляр гэты, відаць, быў ваенным трафеем А. П. Гладкова. На «Псалтыры» 1517 са збору ДПБ у 17 ст. зроблены запісы: «Емельянь» и «Сия книга Псалтырь... Емельянова сына», у 18 ст.— «Сия Псалтырь села Даниловского жителя Микиты сына Дреова (?)». Ранейшым з У. з. 18 ст. з'яўляецца запіс, які зроблены на польск. мове паповічам Фёдарам Вішнеўскім у 1725 на экземпляры кн. «Лічбы» (ДБЛ). У 1730 невядомы ўладальнік «Пяцікніжжа», якое потым належала Каратаеву, зрабіў запіс на палях: «Всего сей книге от печатания до сего 730 года 211 лет». Вялікі У. з. ад 1761 захаваўся на палях кн. «Царствы» са збору І. Я. *Лукашэвіча* (ДБЛ): «...по наслецтву от столника Феодора Яковлевича Тевяшова сыну ево Алексею Феодоровичу Тевяшову ж и в лето от воплощения слова божия господа нашева Ісуса Христа тысеща семьсот четыредесят деватаго году месяца маия сия ж книга от Алексея Феодоровича Тевяшова по наслецтву досталась сыну ево в то время... лейб-гвардии Преображенского полку солдату. А поныне подписана число года и месяца подпоручика ему Василью ж Алексееву сыну Тевяшову. А подписал я Василей Тевяшов своею рукою тысяща седмьсот шесдесят перваго году месяца сентября осмога на десять дня в царствующем граде Москве». Гэты запіс сведчыць аб бытаванні выданняў С. сярод ніжэйшых чыноў рус. арміі. У гэтым жа экземпляры ёсць У. з., зроблены па-руску лац. літарамі, у якім называецца імя «производенского попа Петра». У 19 ст. гэту кнігу набыў калекцыянер старадрукаваных выданняў А. К. Качуеў, які пакінуў У. з.: «Из числа книг купца А. Кочуева», потым яна знаходзілася ў б-цы Лукашэвіча, аб чым сведчыць экслібрыс «Из библиотеки Ивана Лукашевича», наклеены на адвароце верхняй вокладкі пераплёту. У. з. на экземпляры з ДБЛ указвае на род Цевяшовых: «Книга именуемая Четырех царств роду Тевяшовых». Аб бытаванні выданняў С. ў воінскім асяроддзі гаворыць таксама запіс, які захаваўся на кн. «Прарок Данііл» (ДПБ): «Сия книга Пантелея Васильева города Черкаскаго... Донскаго войска казака... в городе Селенгинском... подписал 1766 году апреля 4 день». Сярод У. з. 18 ст. шмат недатаваных, якія пераважна ўказваюць на ўладальніка: «Сия книга Семенки Мясникова» ў кн. «Царствы», «Сия книга Данила Юрасова» ў кнізе «Ісус Сірахаў» (абедзве ў б-цы АН СССР). Асабліва каштоўнымі з'яўляюцца У. з., якія сведчаць аб бытаванні выданняў С. ў сялянскім асяроддзі. Адна з такіх ёсць у «Псалтыры» 1517 (Дзярж. Гіст. музей у Маскве): «Сия книга глаголемая Псалтырь Пошехонского уезду Ухтомскай волости вотчины Киррилова монастыря Белоезерского села Климоского... крестьянина Логина Матъвеева». Укладныя У. з. 19 і 20 ст. расказваюць аб дарунках б-кам, якія славіліся зборам старадрукаваных кніг. У «Апостале» 1525 (ДБЛ) ёсць запіс: «Апостол, напечатанный в Вильне доктором Франциском Скориною в 1525 г. Дан в дар в Старообрядческое Рогожское кладбище Иваном Лукичем Силиным 1889 г.».Пры Рагожскіх могілках у Маскве была вял. б-ка стараж.-рус. рукапісаў і слав. старадрукаваных кніг. У 19 ст. часта на кнігах змяшчаліся экслібрысы збіральнікаў старадрукаваных кніг: «Из библиотеки Ив. Ник. Царского», «Из книг Николая Николаевича Бирукова», «Из библиотеки Ивана Прокофьевича Коротаева» і інш., а таксама пячаткі б-к. Бібліятэкары часта рабілі на форзацах і пераплётах запісы аб гісторыі экземпляра кнігі. На кнігах С. ёсць запісы, зробленыя П. М. *Строевым,* А. Я. *Віктаравым*



**«Узор мора».** Гравюра з 3-й кнігі «Царствы» Ф. Скарыны.



**«Узор рыз».** Гравюра з кнігі «Выхад» Ф. Скарыны.

і інш. вучонымі-кнігазнаўцамі. На экземпляры кнігі «Ісус Навін» (Навук. б-ка Саратаўскага ун-та) праф. гэтага ун-та А. А. Гераклітаў зрабіў запіс: «Иисуса Навина, № 10 Сахарова. Бумага без филиграней. На такой бумаге списаны многие акты Литовского государства нач. XVI века. Очевидно, некоторые книги Библии были вторично перепечатаны в Вильне после переезда Скорины из Праги. На пражском издании этой книги бумага с филигранью, вепрь. Бумажная фабрика была учреждена в Вильне в 1520 году». Бібліятэкар Віленскай публ. б-кі пакінуў на пераплёце аднаго з экземпляраў «Апостала» 1525 запіс: «Апостол напечатан в Вильне в типографии Якова Бабича працею доктора Франциска Скорины лета 1525. Переплёт сделан в апреле 1905 года. Ф. Добрянский». У. з.— каштоўная гіст. крыніца, але не ўсе запісы на скарынінскіх выданнях расшыфраваны.

*Літ.:* Лебедев А. Н. Надписи на старинных книгах. М., 1896; Бакланова Н. А. Значение владельческих записей на древнерусских книгах как источника для истории русской культуры//Археографический ежегодник за 1962 год. М., 1963; Поздеева И. В. Записи на старопечатных книгах кирилловского шрифта как исторический источник//Федоровские чтения, 1976. М., 1978. *Я. Л. Неміроўскі.*

**УЛАДЗІМІРАЎ** Леў Іванавіч (н. 1912), літоўскі сав. гісторык кнігі. Канд. гістар. н. (1965), праф. (1980). З 1973 заг. кафедры ў Вільнюскім ун-це. Працуе ў галінах гісторыі культуры, агульнай тэорыі кнігазнаўства, бібліятэчнага буд-ва. Аўтар шэрагу артыкулаў пра С., кніг «Францыск Скарына — першадрукар вільнюскі» (навук.-папулярны нарыс пра жыццё і дзейнасць С., 1975), «Гісторыя кнігі» (т. 1, 1979), у якой спецыяльны раздзел прысвечаны С. У ліст. 1975 па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам У. ў Вільнюсе праведзена навук. канферэнцыя «Францыск Скарына і некаторыя пытанні развіцця кнігі ў Савецкім Саюзе». Выступаў з дакладамі пра С. на *Фёдараўскіх чытаннях* 1977, на *Скарынінскіх чытаннях* 1986. Пад рэдакцыяй У. ў 1979 выдадзена зб. «Кнігазнаўства» (т. 7), прысвечаны С.

*Літ.:* Gudaitis V., Rakutis R. Levas Vladimirovas: Literatūros zodykle. Vilnius, 1982. *Я. Л. Неміроўскі.*

**УЛАДЗІМІРАЎ** Пётр Уладзіміравіч (1854—1902), рускі гісторык л-ры, славіст. Д-р рус. славеснасці (1888), з канца 80-х г. праф. Кіеўскага ун-та. Даследаваў стараж.-рус. і стараж.-слав. л-ру. Значную ўвагу ўдзяляў гісторыі слав. першадрукароў, гал. чынам, С., якому прысвяціў манаграфію «Доктар Францыск Скарына. Яго пераклады, друкаваныя выданні і мова» (1888). Манаграфія адкрывалася грунтоўным аглядам л-ры пытання — першым у скарыназнаўстве гістарыяграф. даследаваннем. Аўтар упершыню разгледзеў дзейнасць С. на фоне духоўнага жыцця Вял. кн. Літоўскага пач. 16 ст. Ён дакладна асвятліў жыццёвы шлях С., падкрэсліў яго «рускае» паходжанне, сувязі з родным Полацкам, любоў да айчыны, першым з даследчыкаў спрабаваў паказаць асяроддзе асветніка. На думку У., С. не быў толькі друкаром, а займаўся ў Празе літаратурнымі перакладамі, пісаў прадмовы да выданняў. Спыненне кнігадрукавання ў Вільні У. тлумачыў абставінамі прыватнага жыцця С., заблытанымі судовымі цяжбамі са сваякамі жонкі, канфіскацыяй маёмасці і інш. У. падрабязна апісаў друкарскія асаблівасці пражскіх і віленскіх выданняў С., прадстаўляючы іх у якасці лепшых узораў кнігадрукавання таго часу, лічыў, што асн. крыніцай для пражскіх перакладаў С. была чэш. Біблія, для віленскіх — царк.-слав. рукапісы. У кнізе прыводзяцца сабраныя даследчыкам звесткі аб распаўсюджанні выданняў С. і ўплыве яго дзейнасці на развіццё кнігадрукавання і пісьменнасці на Беларусі, Украіне, у Расіі. Прааналізаваў спісы выданняў С., асабліва рэдкія рукапісы, якія, магчыма, данеслі тэксты невыдадзеных або страчаных кніг С. (спіс Ануфрыеўскага манастыра, Львоў, Пагодзінскі збор, Пецярбург; збор Варшаўскага ун-та). Другая частка працы У. прысвечана характарыстыцы мовы скарынінскіх перакладаў. На думку аўтара, асаблівай увагі заслугоўвае «руская» (бел.) мова, якая выразней усяго адчуваецца ў пражскіх выданнях С. У. пераканаўча прасачыў сувязь «рускай» мовы С. з папярэднім развіццём «заходнярускай пісьменнасці» (бел. і ўкр.), падкрэсліў, што ў творчасці С. характэрныя асаблівасці «рускай» мовы атрымалі больш поўнае выяўленне. Праца У. фактычна пацвердзіла вывады вучоных аб фарміраванні бел. мовы ў самастойную моўную сістэму да 1-й пал. 16 ст. і садзейнічала далейшаму вывучэнню выданняў С. У дадатку да кнігі надрукаваны 2 акты з *Метрыкі Вялікага княства Літоўскага* 1529 і 1535, якія датычыліся маёмасных спраў С., і некалькі фрагментаў з некат. яго пражскіх выданняў. Кніга аздоблена гравюрамі з віленскіх выданняў, партрэтам першадрукара. У навук. даследаванні У. ўпершыню абагульнены і сістэматызаваны вял. фактычны матэрыял, які ўзяты з дакладных



**«Узор свяцільніка».** Гравюра з кнігі «Выхад» Ф. Скарыны.



**«Узор стала».** Гравюра з кнігі «Выхад» Ф. Скарыны.

крыніц. Манаграфія стала асновай для ўсіх наступных навук. і літаратурных прац, прысвечаных С. Разам з тым У. не пазбег памылак і спрэчных момантаў. Аналіз творчасці С. завужаны і абмежаваны некалькімі галінамі культуры і царк.-рэліг. адносінамі, а сац.-эканам. праблемам удзяляецца нязначная ўвага. Недастаткова вызначана сутнасць некат. прынцыповых паняццяў у адносінах да бел. народнасці і яе мовы, характарыстыка дзейнасці брацтваў і інш. з'яў культ. жыцця 15—16 ст., а таксама некат. дэталі біяграфіі першадрукара. У. выказаў меркаванне, што пачатак «рускага» кнігадрукавання, магчыма, трэба звязваць не толькі з дзейнасцю С., а аднесці да часоў Швайпольта Фіёля (Начатак славянскага і рускага кнігадрукавання ў XV—XVI стст. Кіеў, 1894). Аўтар арт. пра С. ў энцыклапедычным слоўніку Ф. А. Бракгаўза і І. А. Эфрона (Спб., 1900. Т. 59).

*Літ.:* 249. *Г. Я. Галенчанка.*

**УЛА́ШЧЫК** Мікалай Мікалаевіч (1906—1986), беларускі сав. гісторык і археограф. Д-р гіст. н. (1964). У кн. «Нарысы па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі феадальнага перыяду» (1973) ахарактарызаваў шэраг археаграф. выданняў з 1824 па 1940, у т. л. і выданні, якія адносяцца да Полацка, Полацкай зямлі, Вільні, а таксама інш. месцаў, фактаў і падзей з гісторыі Вял. кн. Літоўскага канца 15 — пач. 16 ст., звязаных з жыццём і творчасцю С. Зазначыў адвольнасць прозвішча «Юрый», якое ў дачыненні С. ўжыў рэдактар «Збору дзяржаўных і прыватных актаў...» (Вільня, 1858. Ч. 1, на рус. мове) пры друкаванні тэксту прывілея, які быў выдадзены С. Жыгімонтам I (1532). Гэта недакладнасць, падкрэсліў У., пазней стала зачэпкай для шматгадовай спрэчкі аб сапраўдным імені С.— Францішак ці Юрый (Георгій), хаця С. ўсюды называў сябе толькі Францішкам або Францыскам. У рэц. на кн. «Іван Фёдараў і ўсходнеславянскае кнігадрукаванне» (Вопросы истории. 1986. № 11) падкрэсліў неабходнасць больш паглыбленага і ўсебаковага вывучэння эпохі С., тагачаснага стану бел. культуры, у прыватнасці багатых творчых традыцый Полацка і навакольных зямель.

*А. К. Кайко.*

**У́НГЛЕР** Фларыян (?—1536), кракаўскі друкар. Першая друкарская майстэрня У. працавала ў 1510—16, выпусціла 82 выданні. У 1513 выдаў першую кнігу на польск. мове «Збор малітваў» (захавалася) у перапрацоўцы Бярната з Любліна, які працаваў карэктарам у друкарні У. У 1515 упершыню аднавіў нотны тэкст, выкананы ў тэхніцы ксілаграфіі. У 1516—20 кіраваў друкарняй Яна Галера ў Кракаве. З 1521 аднавіў уласную выдавецка-друкарскую дзейнасць. Да 1536 выдаў 168 кніг, у т. л. 135 кніг на лац. мове, 22 на польскай, 2 на ням. і 9 на інш. мовах. Друкаваў падручнікі і навуч. дапаможнікі для Кракаўскага ун-та, працы Яна з Глогава, Яна са Стобніцы, Гжэгажа з Шамотул і інш., творы л-ры эпохі Адраджэння, навук.-тэхн. л-ру. Выдаў першую польск. прыродазнаўчую навук. энцыклапедыю «Аб травах і іх сіле» (1534). Кніга добра афармлена, мела каля 550 іл. Першы ў Польшчы выкарыстаў шрыфты *антыква* (1513), швабахер (1522), фрактура (1531), яўрэйскія (1533). Сярод выданняў У.— «Арфаграфія» П. Забароўскага (1515), першая карта Польшчы Б. Вапоўскага (1526). С. мог наведваць друкарню У., карыстацца яго выданнямі. *Я. Л. Неміроўскі.*

**УНДО́ЛЬСКІ** Вукал Міхайлавіч (1815—64), рускі бібліёграф, даследчык рукапісных і старадрукаваных кніг, гісторык кнігі. Апублікаваў шэраг помнікаў рус. бібліяграф. л-ры, сярод якіх «Змест кніг, хто іх склаў» (1846), прыпісаны ім Сільвестру Мядзведзеву. У гэтай працы ўпамінаецца «Книга в 4 (долю листа) словенским языком и словами издана в Праге лета Христова 1518, декем. 20, выложена Франциском Скориною, сущим ис Полотцка, ученым мужем в лекарстве». У «Вопісу кнігам узятых у Патрыяршую рызную казну, які складзены 1575 г...» (1847) названа «Книга Царствы, переведена с немецкого языка, печатная белорусская Францышка Скорины». У 1848 выдаў «Вопіс кніг, што знаходзіліся ў класных манастырах, складзены ў XVII ст.», дзе таксама называе выданні С., якія захоўваліся ў кнігазборах Троіца-Сергіева, Наваспаскага, Кірыла-Белазерскага і інш. манастыроў. У «Каталогу славяна-рускіх кніг царкоўнага друку бібліятэкі А. І. Касцерына» (1848) апісаў кнігі С., якія належалі ўладальніку б-кі: «Біблія», «Апостал», «Акафісты і каноны». Надрукаваны пасля смерці У. «Нарыс славяна-рускай бібліяграфіі» (1871) змяшчае апісанне 4705 выданняў кірылаўскім шрыфтам, якія выйшлі ў 1491—1864, у т. л. выданні С. Гэта праца і зараз застаецца найб. поўным каталогам слав. старадрукаў кірылаўскага шрыфту. У. сабраў багатую б-ку рукапісаў і старадрукаў (захоўваецца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна), склаў яе апісанне: «Славяна-рускія рукапісы В. М. Ундольскага» (выд. 1870).



**«Узор трэбніка».** Гравюра з кнігі «Выхад» Ф. Скарыны.



**«Узор храма».** Гравюра з 3-й кнігі «Царствы» Ф. Скарыны.

*Літ.:* Срезневский И. И. Воспоминание о трудах В. М. Ундольского // Записки имп. Акад. наук. Спб., 1865. Т. 6, кн. 2; Рукописные собрания Государственной библиотеки СССР им. В. И. Ленина: Указатель. Т. 1, вып. 1. М., 1983. С. 84—97.

*Я. Л. Немірoўскі.*

**УСХОДНЕСЛАВЯ́НСКАЯ КУЛЬТУРА** 10—15 ст. Асв. дзейнасці С. папярэднічала больш за 400-гадовае развіццё старaж.-рус. і старабел. культуры. Гэта культура разам з зах.-еўрап. рэнесансавай была той традыцыяй, на якую апіраўся С. ў сваёй дзейнасці. Творчасць С. стала новай якаснай ступенню шматвяковых асв. традыцый усх.-слав. народаў, якія пачынаюцца ад Кірыла і Мяфодзія.

Важнае месца тут займае культура Кіеўскай Русі і яе пераемнікаў. У творах старaж.-рус. пісьменнікаў выявіліся 2 процілеглыя тэндэнцыі ў адносінах да свецкай навукі, л-ры і філасофіі: прыняцце іх (у хрысц. інтэрпрэтацыі) і адмаўленне як «паганскіх». Так, хрысц. асветнік Клімент Смаляціч (сярэдзіна 12 ст.) быў знаёмы з творамі Гамера, філас. працамі Платона і Арыстоцеля. Аднак у «Пасланні мітрапаліта Клімента Смаляціча прэсвітэру Фаме» ён апраўдваўся перад артадоксамі, што веданне антычных аўтараў яму неабходна было для больш глыбокага разумення Свяшчэннага пісання. Адукаваныя людзі Кіеўскай Русі знаёміліся з антычнай свецкай культурай пераважна ад сваіх візант. настаўнікаў, таму іх веды ў гэтай галіне былі фрагментарныя, часта ў візантыйска-хрысц. інтэрпрэтацыі. С. вучыўся ў двух еўрап. ун-тах, атрымаў ступень доктара навук у Італіі — тагачасным цэнтры рэнесансавай культуры. Найб. папулярных там карыфеяў антычнай філасофіі і л-ры ён мог вывучаць па першакрыніцах. Ён прадаўжаў традыцыі старaж.-рус. асветнікаў, узбагаціўшы іх важнымі здабыткамі рэнесансавай культуры і перш за ўсё друкаванай кнігай. Адным з такіх асветных людзей, што мог паўплываць на першадрукара, быў Кірыл Тураўскі. Яго казанні і павучальныя «словы» — узоры прамоўніцкага майстэрства, разлічанага не толькі на рэліг., але і на эстэт. уздзеянне. Паэтычны, маст. аспект у іх часам пераважае над царкоўна-дыдактычным. Кірыл Тураўскі не адмаўляў каштоўнасці зямной, пачуццёвай красы, але ставіў яе значна ніжэй за духоўную ў традыцыйнай для хрысціянства іерархіі каштоўнасцей. Краса прыроды, на яго думку, сімвалізуе духоўную божую красу. Малюючы ў паэтычных вобразах адраджэнне зямлі пад уздзеяннем веснавога сонца, цёплага ветру, ён тлумачыў гэтыя з'явы як сімвалы духоўнага адраджэння. Розум, чалавечая духоўнасць для Кірыла Тураўскага — найвышэйшыя каштоўнасці жыцця. Ён заклікаў да асветы, да «кніжнага чытання», якое дае чалавеку душэўную раўнавагу, далучае яго да шчасця, ісціны і дабра (гл.: Працы Аддзела старажытнарускай літаратуры. Т. 12. М.; Л., 1956. С. 340, на рус. мове). Важнае месца ў культуры 11—15 ст. займалі т. зв. фларылегіі — зборнікі афарызмаў і цытат з твораў антычных пісьменнікаў, філосафаў, з біблейскіх кніг і вучэння «айцоў царквы». Асабліва папулярнай у той час была кніга «Пчала», безымоўна, вядомая С. У «Пчале» ёсць раздзел «Аб прыгажосці» — своеасаблівы трактат па эстэтыцы, які грунтуецца не на лагічным доказе, а на інтуітыўным разуменні ісціны аксіяматычных афарызмаў. Кампазіцыйна ён пабудаваны на дыхатаміі (раздзяленні і проціластавўленні) унутрана-духоўнай і вонкава-пачуццёвай красы: першая — часовая, падманлівая, эфемерная; другая — вечная, жыватворная, супадае з ісцінай і дабром. У структуры энцыклапедычных зборнікаў тыпу «Пчалы» выяўляюцца 2 плыні: сярэдневяковы хрысц. спірытуалізм і антычная мудрасць, заснаваная на прынцыпе рэальнага быцця і пачуцці меры. На тэр. Русі і Беларусі ў часы С. вял. папулярнасцю ў асяроддзі адукаваных людзей карысталіся свецкія перакладныя творы, перапрацаваныя ў адпаведнасці з густам і і светапоглядам усх.-слав. сярэдневяковага грамадства. На некат. з іх спасылаецца С. ў прадмове да ўсёй «Бібліі»: «Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей, или книги Махавеев, более и справедливее в них знайдеш, нежели во Алекса[н]дрии или во Тройи» (гл. с. 11). Маюцца на ўвазе прыгодніцкія раманы «*Александрыя*» і «Аповесць аб Трої», вядомыя на Русі з 12 ст. і перакладзеныя на бел. мову ў 15—16 ст. У ідэйнамаст. адносінах гэтыя творы маюць больш гісторыка-літаратурную каштоўнасць, чым эстэтычную. Тое, што С. аддаваў перавагу біблейскім гіст. аповесцям, адзначаным эпічным размахам і драм. напружанасцю, сведчыць пра яго літаратурную дасведчанасць і добры эстэт. густ.

Светапогляд папярэднікаў С.— пісьменнікаў і асветнікаў Ст. Русі і сярэдневяковай Беларусі — грунтаваўся не толькі на хрысц. філасофіі з яе пастулатам духоўнай, ці божай, субстанцыі быцця, але і на стыхійна-рэалістычным нар. уяўленні аб жыцці як адвечнай барацьбе святла і цемры, дабра і зла, праўды і крыўды. Бог мысліўся як крыніца духоўнага святла, ісціны, дабра і прыгажосці, а яго антаганіст д'ябал — як зачыншчык зла і цемры, прычына ўсяго агіднага, у т. л. смерці. Гэтая дыхатамічнасць мыслення, заснаванага на антаганізме і непрымірымасці процілеглых бакоў усяго існага, вызначыла агульны кірунак і стыль сярэдневяковага мастацтва. Яно грунтуецца на апазіцыі ўзнёслага нізкаму, прыгожага агіднаму; яго архітэктоніка — рух знізу ўгору, імкненне з зямлі да неба, спроба пераадолець матэрыяльнасць і далучыцца да чыстай духоўнасці (вертыкальныя арх. канструкцыі, чаргаванне высокіх і нізкіх тонаў у музыцы, кантрастнасць колераў у жывапісе, узнёслыя словы ў паэзіі і красамоўстве). Сярэдневяковы сінкрэтызм навукі, рэлігіі і мастацтва, духоўных каштоўнасцей наогул зафіксаваны і ў катэгорыях старaж.-рускай культуры, напр., благолепие (дабро+краса), благоразумие (дабро++розум) і інш.

Арыентацыя на катэгорыю ўзнёслага ў яе проціластавўленні нізкаму і агіднаму назіралася і ў помніках архітэктуры (Сафійскія саборы ў Кіеве, Ноўгарадзе і Полацку, віцебская Благавешчанская царква, Каложская царква ў Гродне), у жывапісе (іканапіс) і інш. выяўленчых мастацтвах і ў паэзіі, агіяграфіі (біяграфіі святых), гіст. творах (летапісанне), красамоўстве (казанні, павучанні і інш. дыдактычная л-ра). (Гл. таксама *Архітэктура Беларусі* ў 15—16 ст., *Мастацтва Беларусі* ў 15—16 ст. і *Беларуская літаратура* канца 15 — 1-й пал. 16 ст.) Паэтыка «Слова аб палку Ігаравым» поўнасцю адпавядае эстэт. прынцыпам усх.-слав. сярэдневяковай культуры. Гэты твор займае ў ёй асобнае месца, таму што вызначаецца свецкасцю і народнасцю, арган. спалучэннем прафес. мастацтва і фальклорнай паэтыкі. Уласцівыя яму пафас патрыятызму, усведамленне адзінства ўсх.-слав. народаў, узнёсласць гераізму і манумент. гістарызм сталі аб'ектам апалогіі для бел. асветніка і першадрукара. Народнасць творчасці С. абумоўлена яго таленавітасцю і самабытнасцю. Засвоіўшы дасягненні зах.-еўрап. гуманітарнай культуры эпохі высокага Адраджэння, ён узняў духоўныя здабыткі свайго народа на больш высокую ступень, паказаўшы тагачаснаму цывілізаванаму свету іх невычэрпныя магчымасці ў справе асветы і маральнага ўдасканалення. (Гл. таксама *Культура Беларусі* канца 15—1-й пал. 16 ст.)

*У. М. Конан.*



**ФАЛІЯЦЫЯ** (ад лац. folium аркуш), парадкавая нумарацыя аркушаў рукапіснай кнігі або друкаванага выдання з дапамогай калонлічбаў, якія прастаўляюцца на палях знешняга або адваротнага боку аркуша. Ва ўсіх сваіх выданнях С. прастаўляў Ф. на знешнім баку аркуша (выключэнне — кн. «Прамудрасць божая», дзе Ф. прастаўлена на адваротным баку аркуша зверху справа). Як правіла, С. друкаваў калонлічбы ўверсе аркуша. Толькі ў «Псалтыры» 1517 і ў 8 віленскіх акафістах Ф.— унізе. Уверсе аркуша С. размяшчаў калонлічбы як злева (кн. «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў», «Еклесіяст», «Песня песням», «Юдзіф»), так і справа (кн. «Іоў», «Царствы», «Ісус Навін», «Суддзі», «Пяцікніжжа», «Руф», «Эсфір», «Плач Ераміі», «Прарок Данііл», «Псалтыр» 1522, «Часасловец», «Каноны», «Шасцідневец», «Саборнік», «Апостал»). Ф. ўсюды прастаўлена кірылаўскімі лічбамі. У некат. віленскіх канонах Ф. дадзена чырвонай фарбай, ва ўсіх астатніх выданнях — чорнай. У Ф. выданняў С. часам трапляюцца папраўкі. Так, на арк. 34-м «Прытчаў Саламонавых» памылкова надрукавана лічба 35, яна папраўлена чарнілам, відаць, у самой друкарні. Папраўлены таксама памылковая калонлічба 26 на арк. 28-м і 28 на арк. 30-м кн. «Ісус Сірахаў». Памылковая калонлічба 68 на арк. 70-м кн. «Выхад» у экземплярах, якія захаваліся, закрэслена кінаварнай рыскай і папраўлена чарнілам. У «Апостале» Ф. прастаўлена ў 4 падлікі, прычым ва ўсіх экземплярах, якія захаваліся, адсутнічаюць арк. 5—8-ы першага падліку і 1—4-ы — чацвёртага.

*Я. Л. Немiроўскi.*

**ФАЛЬКЕНЕР** Міхал з Вроцлава [1460 (?) — 1534], прафесар Кракаўскага ун-та. З 1478 вучыўся ў Кракаўскім ун-це на аддзяленні «вольных навук». У 1481 атрымаў вучоную ступень бакалаўра, у 1488 — магістра, у 1517 — доктара тэалогіі. Выкладаў фізіку і логіку Арыстоцеля, рыторыку Цыцэрона, граматыку. У 1499 выбраны дэканам аддзялення «вольных навук», у 1505 выбраны паўторна. У гэты час на аддзяленні вучыўся С. З 1512 Ф. выкладчык на тэалагічным аддзяленні. Аўтар прац па астраноміі («Прагностыкум»), падручнікаў па логіцы і астралогіі. Выдаў збор псалмоў і гімнаў з філал. і тэалагічным каментарыямі. Меў багатую асабістую б-ку рукапісаў і друкаваных кніг, многія з якіх захаваліся і зберагаюцца ў б-цы ун-та. Сярод іх творы антычнай л-ры (Арыстоцель, Цыцэрон, Тэрэнцый), пісьменнікаў Адраджэння (Бакача, Пікаламіні), працы па медыцыне (Авіцэна, П'етра д'Абана) і інш. Кнігамі б-кі Ф. мог карыстацца С.

*Я. Л. Немiроўскi.*

**ФАМА АКВІНСКІ** (Thomas Aquinas; 1225 ці 1226—1274), сярэдневяковы філосаф і тэолаг, сістэматызатар артадаксальнай схаластыкі, родапачынальнік тамізму. Вучыўся ва ун-тах Неапаля (1239—44), Парыжа (1245—48), Кёльна (1248—52). Чытаў лекцыі ў Парыжы, Рыме, Неапалі. З 1244 манах-дамініканец, у 1323 занесены да ліку святых каталіцкай царквою. Сярод вял. літаратурнай спадчыны Ф. А. гал. месца займаюць творы «Сума тэалогіі» і «Сума супраць язычнікаў», у якіх распрацаваны прынцыпы сістэматызацыі і схема выкладання хрысц. веравучэння, заснаваныя на ідэі арыстацелізму. Філас.-тэалагічная сістэма Ф. А. з 14 ст. стала афіц. дактрынай царквы, яна была пакладзена ў аснову схаласт. адукацыі. У час С., нягледзячы на рост рэнесансавага асв. гуманізму, у еўрап. ун-тах пераважалі ідэі Ф. А.

Анталагічная канцэпцыя Ф. А. базіруецца на прызнанні бога як першапрычыны і канчатковай мэты існага, як «чыстай формы», а створаных рэчаў — як адзінства формы і матэрыі. Чалавек — адзінства бессмяротнай самаіснай душы і матэр. цела. Розум і вера належаць розным парадкам быцця, але не супярэчаць адзін аднаму (было накіравана супраць вучэння *авераізму* пра *дваістую ісціну*). Догматы веры падзяляў на рацыянальна незразумелыя (прадмет чыстай веры) і рацыянальна зразумелыя (прадмет філас. пазнання). Тэалогія выкарыстоўвае прынцыпы розуму ў сваіх мэтах, таму філасофіі адводзіцца роля «служанкі тэалогіі». У этыцы Ф. А. вышэйшым дабром і канчатковай мэтай чалавека выступаў бог, зразуменне якога вядзе да шчаслівага жыцця. Аснова маралі — «прыродны закон», які захаваны ў сэрцах людзей і патрабуе ажыццяўляць дабро і пазбягаць зла. «Божы закон», паводле Ф. А., узвышаецца над «прыродным», але не можа яму супярэчыць. Мэта маралі — замагільнае шчасце, аднак без садзеяння божай ласкі яно не дасягальна. Ф. А. падзяляў погляды Арыстоцеля на чалавека як грамадскую істоту, гал. мэту дзярж. улады бачыў у садзеянні агульнаму дабру, клопатах пра захаванне міру і справядлівасці ў грамадстве, але царк. ўладу ставіў вышэй. Лічыў, што ўсе гасудары хрысц. свету павінны падначальвацца папе рымскаму.

С. ў час вучобы ў Кракаўскім ун-це і пашыраючы пазней свае веды ў галіне філасофіі для атрымання вучонай ступені «доктара філасофіі» павінен быў грунтоўна пазнаёміцца з вучэннем Ф. А. Некат. істотныя рысы яго поглядаў прама ці ўскосна ўзыходзяць да ідэй Ф. А., хоць С. амаль заўсёды імкнуўся гуманістычна пераасэнсаваць іх. Так, імкненне інтэлектуалізаваць духоўнае жыццё чалавека, узбагаціць і развіць яго розум, напоўніць карыснымі ведамі пабуджае С. да рацыяналіст. трактоўкі Біблії. Як і Ф. А., ён падзяляў біблейскія тэксты на эзатэрычныя, «для великих таин, еже замыкають в собѣ книги сие, понеже суть над розум людскый» (гл. с. 105), якія з'яўляюцца прадметам веры, і даступныя чалавечаму розуму экзатэрычныя кнігі («Ісус Сірахаў», «Прытчы Саламона», «Царствы», «Юдзіф» і інш.). Аднак каштоўнасная шкала ў абодвух мысліцеляў розная: калі Ф. А. аддаваў прыярытэт ісцінам веры і рабіў філасофію інструментам багаслоўя, С. найбольшую каштоўнасць бачыў у філас. мудрасці, імкнучыся да «розмножения мудрости, умения, опатрености, разуму и науки» (гл. с. 46). У адрозненне ад Ф. А. ён сцвярджаў гармонію паміж верай і розумам, схіляўся да авераісцкай канцэп-

цы «дваістай ісціны», таму што, лічыў С., існуе «двоякая правда: божия и человечия» (гл. с. 193). Падзяляючы традыц. крэацыяністцкую канцэпцыю стварэння свету, С. адзначаў як рацыянальна больш прымальнае палажэнне Арыстоцеля «з ни с чего ничто не бысть» (гл. с. 105). Відаць, з ідэямі Ф. А. звязаны разважанні С. пра прыродны маральны закон, які «написан ест в серци единого кажного человѣка» (гл. с. 136) і папярэднічае божаму «писаному закону». Як і Ф. А., ён лічыў, што прыродны і божы маральныя законы не могуць супярэчыць адзін аднаму, таму што паходзяць з адной крыніцы: «Людьское естество двояким законом бываеть справовано от господа бога, то ест прироженым, а написаным» (гл. с. 136). Але калі для Ф. А. гэтыя палажэнні арыентуюць чалавека на дасягненне замагільнага шчасця як гал. маральнай мэты, то ў С. яны звернуты да рэальных жыццёвых імкненняў людзей, якія ўзвышаюць іх для агульнага дабра радзімы і свайго народа: «Единому каждому не хвалитися самому в собѣ божествеными духовными дарованиі. Но яко уды разно имуще в теле деание, вси вкупе собѣ суть помощни, тако каждый хрестианин свое имея дарование к посполитого доброго размножению да уделяеть» (гл. с. 196—197). С. лічыў, што «единый кажный человек, имея розум» (гл. с. 137) здольны сам пазнаць і ажыццявіць свой маральны абавязак, г. зн. С. падрываў этычны антаганізм Ф. А., паводле якога без божай ласкі маральны ідэал недасягальны. Нават глыбокае веданне Свяшчэннага пісання, лічыў С., патрэбна не столькі для забеспячэння будучага райскага жыцця, колькі для таго «абы, научившися мудрости» людзі «добре живучи на свете» (гл. с. 37). Супадаюць погляды Ф. А. і С. ў трактоўцы мэт дзярж. улады, хоць тут агульнай крыніцай для іх выступае вучэнне Арыстоцеля. Аднак С. далёкі ад тэарэтычных пераканняў Ф. А. Прагрэсіўная грамадская думка Беларусі развіла далей скарынінскае крытычнае ўспрыманне ідэй Ф. А., асабліва пасля таго, як яго дактрыну ўзяў на ўзбраенне ордэн езуітаў — гал. ідэйная сіла контррэфармацыі.

*Літ.:* Бронзов А. Аристотель и Фома Аквинат в отношении к их учению о нравственности. Спб., 1884; Боргош Ю. Фома Аквинский: Пер. с пол. 2. изд. М., 1975; Соколов В. В. Средневековая философия. М., 1979. *Г. У. Грушавы.*

**ФЕАДО́СІЙ I** або Вялікі (Theodosius) Флавій (каля 346—395), рымскі імператар з 379. У 382 дабіўся шэрагу перамог над вестготамі. З 381 выдаў шмат строгіх распараджэнняў супраць язычнікаў. Пры ім хрысціянства прызнана канчаткова дзярж. рэлігіяй, было разбурана шмат язычніцкіх храмаў (храм Сератка), спалена значная частка Александрыйскай б-кі. У 394 кароткі час трымаў у сваіх руках уладу над 2 часткамі Рымскай імперыі. У 395 раздзяліў імперыю паміж сынамі Аркадзіем і Ганорыем. С. піша аб Ф. ў прадмове да кн. «Прарок Данііл».

**ФЕАДО́СІЙ КАСЫ́** (г. н. і см. невяд.), рускі рэліг. вальнадумец і прапаведнік 16 ст., ідэолаг сялянска-плебейскага цячэння рус. рэфармацыйнага руху. Вучэнне Ф. К. непасрэдна развівала перадавыя погляды наўгародскіх ерэтыкоў 15 ст. Яно значна паўплывала на развіццё вальнадумства на Беларусі ў 2-й пал. 16 ст. Ёсць падставы лічыць, што Ф. К. быў знаёмы з Сымонам Будным — прадаўжальнікам перадавых традыцый С.

**ФЕРДЫНА́НД I** Габсбург (1503—64), аўстрыйскі эрцгерцаг, імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі з 1556. Малодшы сын эрцгерцага Філіпа Прыгожага і іспанскай каралевы Хуаны Вар'яткі, брат імператара (і караля Іспаніі) Карла V. Нарадзіўся і выхоўваўся ў Іспаніі. У 1521 ажаніўся з Ганнай — адзінай сястрой караля Чэхіі і Венгрыі Людовіка II Ягелона; у 1521—22 атрымаў ад брата аўстр. землі. У адсутнасць брата быў таксама яго намеснікам у Германіі. Пасля смерці ў 1526 Людовіка II Ягелона, які не меў дзяцей, Ф. I быў выбраны каралём Чэхіі і Венгрыі, якія (разам з Сілезіяй і Лужыцай) сталі спадчыннымі землямі аўстр. дынастыі Габсбургаў да 1918. Аднак пасля ўпартай барацьбы з ваяводам Трансільваніі Янашам Запальяі (якога частка венг. феадалаў выбрала таксама каралём Венгрыі) і туркамі ўмацаваўся толькі ў зах. ч. Венгерскага каралеўства. Быў прыхільнікам абсалютызму і на гэтай глебе меў канфлікты з чэшскім і венг. дваранствам, асабліва з магнатамі. У 1531 выбраны ў Кёльне «рымскім каралём» (г. зн. наследнікам імператарскай кароны пасля смерці брата) і каранаваны ў Ахене. Прыняў актыўны ўдзел у Шмалькальдэнскай вайне 1546—48 супраць ням. пратэстанцкіх князёў. У 1547 супраць Ф. I, калі ён хацеў паслаць чэш. войска на вайну з ням. пратэстанцкімі князямі, у Чэхіі пачалося паўстанне, у якім прынялі ўдзел сярэднія і дробныя дваране, гараджане Прагі. У ліп. 1547 Ф. I асадзіў Прагу. Феадалы і гар. вярхі пайшлі на кампраміс з ім. Частка феадалаў была пакарана, а маёнткі канфіскаваны, гар. самакіраванне абмежавана. Сейм («крывавы сейм») у жн. 1547 прызнаў спадчыннасць чэш. трона за дынастыяй Габсбургаў. У аўстр. землях правёў адм. рэформы, накіраваныя на ўзмацненне цэнтр. улады. Пасля адрачэння Карла V (1556) выбраны імператарам (каранаваўся ў 1558). Вёў каталіцкую палітыку ў сваіх землях. У 1551 запрасіў езуітаў у Вену, у 1555 у Прагу, дзе яны заснавалі калегіі. Аднак у выніку пашырэння Рэфармацыі ў Чэхіі і Венгрыі вымушаны быў ажыццявіць мерапрыемствы рэліг. цярпімасці. Менавіта ў караля Ф. I у Празе С. правёў апошнія гады свайго жыцця, працуючы яго асабістым урачом і каралеўскім батанікам (садоўнікам). Гэта пацвярджаецца актам, які быў падпісаны Ф. I у Празе 29.1.1552 (гл. *Дакументы пра Ф. Скарыну*). Правільнае прачытанне гэтага дакумента, якое адкрыла новы раздзел біяграфіі С., належыць А. В. *Флароўскаму.*

*Літ.:* 312; История Чехословакии. Т. 1. М., 1956. *А. П. Грыцкевіч.*



Фердынанд I.

Ю. Сямёнаў. Іван Фёдараў. Гравюра. 1975.



**ФЁДАРАЎ** Іван, Іван Хвёдаравіч (каля 1510—83), рускі асветнік, заснавальнік кнігадрукавання ў Расіі і на Украіне. Месца нараджэння невядома. Зыходзячы з геральдычнай трактоўкі яго друкарскага знака, некат. вучоныя выказалі гіпотэзу пра бел. паходжанне Ф. Паводле асобных звестак, вучыўся ў Кракаўскім ун-це, дзе ў 1532 атрымаў ступень бакалаўра. У 1550-х г. працаваў у т. зв. ананімнай друкарні ў Маскве. З 19.4.1563 да 1.3.1564 разам з Пятром *Мсціслаўцам* выдаў першую дакладна датаваную рус. друкаваную кнігу «Апостал». Рыхтуючы яе да выдання, першадрукары правялі вял. тэксталагічную і рэдактарскую работу, аб чым сведчыць С. *Будны* ў прадмове да «Новага запавету» (Лоск, 1574). 48 заставак кнігі, надрукаваных з 20 дошак, 22 буквіцы і інш. друкарскія аздабленні вызначаюцца высокім маст. майстэрствам, бяручы пачатак ад арнаментальнага ўбранства стараж.-рус. ру-

капісных кніг школы Феадосія Ізографа. Перапрацаваўшы арнаментальныя прыёмы гэтай школы, Ф. стварыў т. зв. старадрукарскі стыль, які ў далейшым атрымаў шырокае распаўсюджанне ў маст. афармленні друкаваных і рукапісных кніг. Шрыфт «Апостала», які ў далейшым ужываўся і ў іншых выданнях Ф., створаны на аснове маскоўскага паўустава канца 15 — пач. 16 ст. На 1.1.1984 выяўлены 61 экз. «Апостала». Затым 29.9 і 29.10.1565 Ф. і Мсціславец выпусцілі ў Маскве два выданні «Часоўніка» — кнігі, якая выкарыстоўвалася для пачатковага навучання грамаце (зберагліся 6 экз.). У 1566 з-за праследавання рэакцыйнымі феадальнымі свецкімі і царк. коламі Ф. і Мсціславец пакінулі Маскву. Новую друкарню яны заснавалі ў Заблудаве (зараз Беластоцкае ваяводства ПНР) у маёнтку гетмана Вял. кн. Літоўскага Р. А. Хадкевіча. У *Заблудаўскай друкарні* ў 1568—69 было надрукавана «Евангелле вучыцельнае» (захавалася 44 экз.) — зборнік гутарак і павучэнняў з тлумачэннем евангельскіх тэкстаў. У ім было змешчана «Слова на Ушэсце» Кірыла Тураўскага — першы друкаваны помнік стараж. усх.-слав. л-ры. На адвароце тытульнага ліста кнігі дадзены ў тэхніцы ксілаграфіі герб Хадкевіча. Потым кнігу неаднаразова перавыдавалі на Беларусі і ў Літве. Пасля ад'езду Мсціслаўца ў Вільню Ф. у Заблудаве ў 1569—70 надрукаваў «Псалтыр з Часаслоўцам» (зберагліся 3 яго экз.). У канцы кнігі змешчана пасхалія ў табліцах. Складаючы яе, Ф., відаць, выкарыстаў і «Пасхалію» з «Малой падарожнай кніжкі» С. (Вільня, каля 1522). Паколькі Хадкевіч рашыў спыніць выдавецкую дзейнасць, Ф. у канцы 1572— пач. 1573 пераехаў у Львоў і заснаваў першую на Украіне друкарню. У 1574 выдаў першую укр. дакладна датаваную друкаваную кн. «Апостал». Яна была паўтарэннем маск. выдання 1564 з дапаўненнем некат. уступных тэкстаў і пасляслоўяў «Повесть... откуду начася и како свершися друкарня сия». Гэта пасляслоўе — першы друкаваны твор рус. мемуарнай л-ры. У кнізе 3 гравюры, кожная на старонку: герб Хадкевіча, выява апостала Лукі і геральдычная кампазіцыя з гербам г. Львова і друкарскім знакам Ф. Вядома 97 экз. «Апостала» 1574, што сведчыць пра вял. першапачатковы тыраж кнігі. У 1574 Ф. надрукаваў у Львове «Азбуку» — першы друкаваны рускі падручнік з практыкаваннямі для навучання грамаце, прыкладамі спражэння дзеясловаў, складання назоўнікаў і прыметнікаў «прасодыяй» (узоры выкарыстання надрадковых знакаў). Кнігу завяршаюць тэксты для замацавання і развіцця навыкаў чытання і пісьма: т. зв. тлумачальная азбука, шырока вядомыя малітвы, урыўкі з біблейскіх кніг падабраны так, што яны фармулююць мэтанакіраваную гуманіст. праграму першапачатковай школьнай адукацыі. Адзін экземпляр «Азбукі» знаходзіцца ў б-цы Гарвардскага ун-та (ЗША), другі знойдзены ў 1984 у Лондане. У 1575 Ф. запрасіў на службу князь Канстанцін


Старонка «Апостала» І. Фёдарава. Масква, 1564.

*Астрожскі.* У 1575—76 Ф. выконваў абавязкі ўправіцеля Дзерманскага манастыра. Каля 1578 заснаваў друкарню ў Астрогу (гл. *Астрожская друкарня).* Тут 18.6.1578 выйшла новае выданне «Азбукі», дапоўненае ў параўнанні з выданнем 1574 паралельнымі грэка-слав. тэкстамі, каб дапамагчы вучням у аваладанні грэч. мовай. У ёй упершыню надрукаваны помнік стараж.-балг. л-ры «Аб писменах» Чарнарызца Храбра пад назвай «Сказание како состави святый Кирил Философ азбуку по языку словеньску». «Азбука» 1578 захавалася ў 2 экз., якія знаходзяцца ў Капенгагене (Данія) і Гоце (ГДР), невял. фрагмент яе знойдзены ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна ў Маскве (ДБЛ). У 1580 Ф. надрукаваў у Астрогу «Псалтыр» і «Новы запавет» элегантным малым фарматам (у «васьмёрку»). Кнігу адкрывае прыгожы тытульны ліст, заключаны ў гравіраваную па дрэве рамку. Гэта — трэці ва ўсх.-слав. кнізе кірыліцкага шрыфту прыклад выкарыстання такіх рамак пасля тытульнага ліста «Біблії» і «Малой падарожнай кніжкі» С. Збераглося 68 экз. «Псалтыра» і «Новага запавету» 1580. У тым жа годзе Ф. выдаў паказальнік да яго: «Кніжку, збор рэчаў самых патрэбных...» — першы ў гісторыі айч. бібліяграфіі і дакументалістыкі алфавітна-прадметны паказальнік і адначасова зборнік афарызмаў і крылатых слоў. Зберагліся 16 экз. выдання. 5.5.1581 у Астрогу лістоўкай надрукаваў «Храналогію» Андрэя Рымшы — першы ўсх.-слав. друкаваны каляндар і першы асобна выдадзены твор бел. паэзіі (адзіны экз. зберагаецца ў Ленінградзе). Да 12.8.1581 Ф. надрукаваў 1-е поўнае выданне слав. Бібліі кірылаўскага шрыфту — т. зв. *«Астрожскую біблію».* Вядомы 275 яе экз. Па зместу і па аздабленню ў ёй адчуваецца ўплыў выданняў С. Арнаментальнае аздабленне Бібліі створана таксама пад пэўным уплывам арнаментыкі скарынінскіх выданняў. Кнігу адкрывае тытульны ліст у гравіраванай рамцы. Прасочваецца тоеснасць і ў некат. загалоўных літарах. У ДБЛ зберагаецца экземпляр Бібліі 1581, дапоўнены рукапіснымі копіямі прадмоў і пасляслоўяў «Бібліі» С. З 1582 Ф. зноў у Львове. Імкнучыся сабраць сродкі на адкрыццё новай друкарні, ён адліваў гарматы, вынайшаў шматствольную марціру з узаемазаменнымі часткамі. У 1583 пабываў у Кракаве, Вене і, магчыма, у Дрэздэне. Захавалася пісьмо Ф. саксонскаму курфюсту Аўгусту, напісанае з Вены 23.7.1583. У канцы 1583 вярнуўся ў Львоў, дзе захварэў і памёр. Пахаваны ў *Ануфрыеўскім манастыры.* На яго надмагільнай пліце, якая захоўвалася да 1883, быў выбіты надпіс «Друкар кніг дагэтуль нябачаных». Дзейнасць Ф. адыграла значную ролю ў гісторыі айч. культуры, у развіцці руска-бел. і руска-укр. культ. сувязей. Вучні Ф. і Мсціслаўца прадаўжалі друкарскую дзейнасць у Расіі, на Украіне і ў Беларусі. Помнікі Ф. ўстаноўлены ў Маскве і ў Львове. У 1977 у Львове адкрыты *Музей Івана Фёдарава.* З 1959 (з 1973 штогод) праводзяцца *Фёдараўскія чытанні,* якія ў 1977 былі прысвечаны С.

*Літ.:* 134; 136; 207; 212; 217; 220; Иван Фёдоров и восточнославянское книгопечатание. Мн., 1984; Запаско Я. П. Мистецька спадщина Івана Федорова. Львів, 1974; Першодрукар Іван Федоров та його послідовники на Україні: (XVI — перша половина XVII ст.): Зб. документів. Київ, 1975; Первопечатник Иван Фёдоров: Описание изданий и указатель литературы о жизни и деятельности. Львов, 1983; Острожская азбука Ивана Фёдорова: Исследование: Словоуказатель. М., 1983.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**ФЁДАРАЎСКІЯ ЧЫТАННІ,** штогодняя навуковая сесія, прысвечаная актуальным праблемам гісторыі кнігі і кніжнай справы. Ф. ч. маюць мемарыяльны характар і праводзяцца звычайна ў сярэдзіне снежня ў гадавіну з дня смерці рус. першадрукара і асветніка Івана *Фёдарава.* Першыя Ф. ч. адбыліся 22.12. 1959 па ініцыятыве чл.-кар. АН СССР А. А. *Сідарава.* Праведзены ў 1960, 1961 і 1964. З 1973 праводзяцца штогод і носяць тэматычны характар. Арганізатарамі з'яўляюцца Камісія комплекснага вывучэння кнігі Навук. савета па гісторыі сусв. культуры АН СССР, Усесаюзная кніжная палата, Дзярж. б-ка СССР ім. У. І. Леніна і Усесаюзнае добраахвотнае т-ва аматараў кнігі.

Ф. ч. 1973 былі прысвечаны 400-годдзю кнігадрукавання на Украіне, 1974— 50-годдзю пераўтварэння Румянцаўскага музея ў Дзярж. б-ку СССР ім. У. І. Леніна, 1975 — гісторыі рэвалюц. друку ў Расіі, 1976 — тэме «Чытач і кніга», 1977 — тэме «Жыццё і дзейнасць беларускага асветніка Францыска Скарыны», 1978 — 60-годдзю Аддзела рэдкіх кніг Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна, 1979 — рабоце б-к са стардрукаванымі і асабліва каштоўнымі зарубежнымі кнігамі, 1981 — 400-годдзю астрожскіх

выданняў І. Фёдарава, 1982 — рус.-літ. кніжным сувязям і гісторыі кнігі ў Літве ў 16—20 ст., 1983 — 400-годдзю з дня смерці Фёдарава, 1985 — крыніцазнаўству і гістарыяграфіі кнігі, 1986 — вывучэнню і ахове кніжных помнікаў. У 1980 і 1984 Ф. ч. не праходзілі ў сувязі з правядзеннем Усесаюзных навук. канферэнцый па праблемах кнігазнаўства. Ф. ч., прысвечаныя С., адбыліся 15—16.12.1977. У сесіі прынялі ўдзел прадстаўнікі н.-д. устаноў АН СССР, АН БССР і АН УССР, ун-таў, буйнейшых б-к, музеяў, архіваў. Сесію адкрыў акад. Б. М. Кедраў, уступнае слова сказаў Сідараў. З асн. дакладамі выступілі М. М. Сікорскі і Я. Л. *Неміроўскі*. Разгледжаны пытанні: уплыў С. на развіццё этычнай думкі на Беларусі (С. А. *Падокшын)*, эстэт. погляды С. (У. М. *Конан)*, роля С. ў станаўленні бел. л-ры (В. А. *Чамярыцкі)*, пражскі этап жыцця і творчасці С. (А. С. *Мыльнікаў*), выдавецкая дзейнасць С. ў Вял. кн. Літоўскім (Л. І. *Уладзіміраў)*, традыцыі С. ў выданнях яго паслядоўнікаў (А. Ф. *Коршунаў)*, лінгвістычныя аспекты дзейнасці С. (А. І. *Жураўскі*, А. М. *Булыка)*, мастацтва выданняў С. (В. Ф. *Шматаў*), вывучэнне ў БССР жыцця і дзейнасці С. (М. Б. *Батвіннік)*, крытычны аналіз бурж.-нацыяналіст. канцэпцый жыцця-дзейнасці С. (Г. Я. *Галенчанка)*, невядомае рус. паведамленне 18 ст. пра С. (С. Р. Далгова), шляхі стварэння зводнага каталога выданняў С. (Неміроўскі), пра паперу пражскіх выданняў С. (В. Я. Мацюк), вобраз С. ў маст. л-ры (А. А. Дробчык), сувязі С. з М. Гусоўскім (В. І. *Дарашкевіч)*, пра першыя выданні С., якія ўпаміналіся ў вопісах Супрасльскага манастыра (Ю. А. *Лабынцаў*). Да Ф. ч. 1977 Дзярж. б-ка СССР імя У. І. Леніна падрыхтавала выстаўку, на якой былі прадстаўлены 40 экз. выданняў С., а таксама л-ра пра яго (з 18 ст. да нашых дзён). Па матэрыялах Ф. ч. 1977 выдавецтва «Навука» выпусціла ў 1979 зб. «Беларускі асветнік Францыск Скарына і пачатак кнігадрукавання на Беларусі і ў Літве». У праграму Ф. ч. 1982 таксама былі ўключаны даклады пра С., сярод іх: Батвінніка — пра гістарыяграфію вывучэння віленскіх выданняў С., Шматава — пра крыніцы іх ілюстравання, Э. П. Гячаўскаса — пра дзейнасць С. ў якасці сакратара віленскага біскупа Яна. На сесіі разглядаліся інш. пытанні гісторыі бел. кнігадрукавання. На Ф. ч. 1983 з дакладам «Францыск Скарына і Іван Фёдараў як мысліцелі» выступіў Конан. На Ф. ч. 1985 зроблены даклады Ю. П. Тумяліса пра крыніцы да гісторыі віленскага кнігадрукавання 16 ст., Батвінніка — па праблемах вывучэння віленскіх выданняў С., В. Н. *Дышыневіч* — пра крыніцазнаўчы аналіз тэкстаў С., Л. А. Званаровай — пра выданні С. ў кнігазборы Сімяона Полацкага. На аснове матэрыялаў сесій выдаецца штогоднік навук. прац «Фёдоровские чтения» (з 1979).

*Літ.:* Бахтина Е. В. К истории «Федоровских чтений» // Федоровские чтения, 1973. М., 1976. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ФІЁЛЬ** Швайпольт (? — памёр пасля 1525), славянскі першадрукар, які арганізаваў 1-ю ў свеце друкарню кірылаўскага шрыфту. Выхадзец з г. Нойштат ням. Франконіі. Вучыўся друкарскай справе ў адной з друкарняў Нюрнберга або Бамберга (ФРГ). У 1479 пераехаў у Кракаў, дзе прыняў гар. юрысдыкцыю. Спачатку займаўся т. зв. гафцярствам — вышываннем золатам па тканіне, вырабам урачыстага адзення для царк. службаў. У 1483 упамінаецца ў адной з актавых кніг кракаўскага цэха залатых спраў майстроў. 9.3.1489 кароль Казімір Ягелончык выдаў Ф. прывілей на вынайдзеную ім машыну для адпампоўвання вады з шахтаў. Машына выкарыстоўвалася на рудніках буйнога горнапрамыслоўца Я. Турзо (1437—1508), які, відаць, фінансаваў 1-ю слав. друкарню. Дакумент ад 18.9.1490 сведчыць, што ў майстэрні Ф. захоўвалася вял. колькасць паперы. На гэты час, магчыма, і прыпадае стварэнне друкарні. 4.2.1491 Ф. заключыў дагавор з Рудольфам Борсдорфам Маладошым, які вучыўся ў Кракаўскім ун-це. Борсдорф абавязаўся вырабіць для Ф. «рускі шрыфт або літары». Захавалася 4 выданні Ф. Два з іх—«Актоіх» («Васьмігалоснік») і «Часаслоў»—маюць калафон з тэкстам «Докончана быс сия книга у великомъ граде оу Кракове при державе великаго короля полского Казимира и докончана быс мещанином краковьскымь Шваиполтомъ Фиоль из немец немецкого родоу Франкъ. И скончашас бо божием нарожениемь 14 съть девять десят 1 лето» (г. зн. у 1491). Дзве інш. кнігі — «Трыёдзь посная» і «Трыёдзь каляровая» — не маюць выхадных звестак. Іх прыпісваюць Ф. таму, што яны надрукаваны з выкарыстаннем тых самых друкарскіх матэрыялаў. Лічаць, што яны надрукаваны ў Кракаве каля 1493. «Актоіх» 1491 надрукаваны ў аркуш дзвюма фарбамі. Аб'ём кнігі 172 арк. Тэксту папярэднічае гравіраваны на дрэве франтыспіс з выявай распяцця. Зберагліся 7 экз. «Актоіха», з іх толькі 1 поўны. «Часаслоў» 1491 надрукаваны ў 4-ю долю аркуша дзвюма фарбамі. Аб'ём кнігі 382 арк. Як арыгінал выкарыстаны рукапіс маскоўскага паходжання. Захаваўся 27 экз. і фрагментаў «Часаслова». У Ягелонскай б-цы ў Кракаве захоўваюцца карэктурныя адбіткі 4 аркушаў «Часаслова», надрукаваныя кінаварам; яны дазваляюць рэканструяваць тэхналогію двухфарбавага друку друкарні Ф. «Трыёдзь посная» надрукавана ў аркуш дзвюма фарбамі. Аб'ём кнігі 314 арк. Захавалася 30 экз. і фрагментаў кнігі (у т. л. карэктурных адбіткі 4 аркушаў), якія захоўваюцца ў Ягелонскай б-цы. «Трыёдзь каляровая» надрукавана дзвюма фарбамі. Аб'ём кнігі 366 арк. Выданне багата арнаментавана: акрамя застаўкі балканскага стылю, у ім ёсць 62 ініцыялы, што надрукаваны з 13 форм. Захавалася 26 экземпляраў і фрагментаў «Трыёдзі каляровай». У адным з экземпляраў (у музеі г. Брашова, СРР) ёсць франтыспіс (распяцце), які дапоўнены стужкай з надпісам «Шбейполть Фіоль». У «Актоіху» і «Часаслове» — друкарскі знак Ф. з выявай герба г. Кракава і надпісам «S. V. з Кракава». У ліст. 1491 Ф. быў арыштаваны кракаўскай інквізіцыяй. Па просьбе горнапрамыслоўцаў Турзо і Я. Цешнара выпушчаны з турмы пад залог у 1000 венг. фларынаў. Суд, што адбыўся ў сак. 1492, апраўдаў Ф., які абвінавачваўся ў ерасі, і прызнаў яго «прававерным і адданым католікам». У студз. 1492 Турзо звярнуўся ў Гнезненскі (ПНР) капітул з просьбай дазволіць яму выпусціць у свет «рускія друкаваныя кнігі», тыя, што ўжо надрукаваны і якія будуць надрукаваны ў далейшым. Гэта яму было забаронена. Менавіта таму «Трыёдзь посная» і «Трыёдзь каляровая» выпушчаны без указання месца выдання і імя друкара. З 1502 Ф. працаваў у сілезскім г. Райхенштайне. Пазней пераехаў у Славакію (г. Левача), дзе займаўся горнай справай. У л-ры ёсць звесткі пра кнігу, якую нібыта надрукаваў Ф. у 1515 у Левачы. Гэта зборнік рэліг. песнапенняў «Залаты калодзеж». Сцвярджалася таксама, што ў пач. 16 ст. Ф. заснаваў друкарню ў закарпацкім Грушаўскім манастыры. Абедзве звесткі дакументальна не пацверджаны.

Большасць экземпляраў выданняў Ф., якія захаваліся, знаходзілася ў кнігасховішчах СССР. У многіх з іх ёсць уладальніцкія і ўкладныя запісы, якія зроблены ў межах Рускай дзяржавы. Гэта сведчыць пра тое, што выданні Ф. былі пашыраны ў Расіі. С., які вучыўся ў Кракаве праз 12—14 гадоў пасля існавання тут друкарні Ф., безумоўна, быў знаёмы з выпушчанымі ёю кнігамі. «Часаслоў» 1491 мог быць выкарыстаны С. пры падрыхтоўцы да друку «Малой падарожнай кніжкі».

*Літ.:* 70; 216; Голубев С. Т. О первопечатных церковнославянских книгах, изданных в Кракове, 1491 г.: Библиогр. заметка// Тр. Киевской духовной академии. 1884. № 2; Каратаев И. Осмогласник 1491 года, напечатанный в Кракове кирилловскими буквами. Спб., 1876; Немировский Е. Л. Описание изданий типографии Швайпольта Фиоля // Описание старопечатных изданий кирилловского шрифта. М., 1979.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**ФІЛАСО́ФСКА-ЭТЫ́ЧНЫЯ ПО́ГЛЯДЫ Ф. СКАРЫ́НЫ**, гл. ў арт. *Светапогляд Ф. Скарыны.*

**ФІЛАТЭЛІ́Я І ФІЛАКАРТЫ́Я** (франц. philatélie ад грэч. philéō люблю+atéleia вызваленне ад аплаты і ад грэч. philéō люблю+лац. carta, charta папера, аркуш). Паштовыя маркі, канверты, паштоўкі з'яўляюцца своеасаблівым летапісам, у якім адлюстраваны гіст. шлях народа, яго культура, дасягненні навукі, тэхнікі, эканомікі. Выпушчаныя шматтысячнымі тыражамі, яны з'яўляюцца прапагандыстамі і агітатарамі, выконваючы важную інтэрнацыянальную ролю ў галіне чалавечых зносін. Паштовыя эмісіі, прысвечаныя С., маюць сусв. значэнне для інфармацыі і прапаганды гісторыі і культуры бел. народа.

У 1918, па інш. звестках у 1921, выйшла серыя з трох м а р а к, адна з іх прысвечана С. У цэнтры маркі выява С. з гра-

вюрнага партрэта з «Бібліі». Вылучаецца выключнай тонкасцю і дакладнасцю прапрацоўкі твару С., постаці, адзення і інш. дэталей. Зверху надпіс кірыліцай «Беларусь. Почта». Знізу лацінкай дробнымі літарамі надпіс «Францыск Скарына з Полацка. 1517—1917». Выдадзена літаграфскім спосабам на тоўстай паперы, коштам 2 рублі, карычневага колеру, у 2 варыянтах (з зубцамі і без зубцоў; 37×25 мм, паштовага хаджэння не мела). У 1967 у сувязі з 450-годдзем бел. кнігадрукавання Мін-ва сувязі СССР выпусціла **к а н в е р т** (№ 4796, кошт з маркай 5 кап., мастак Б. Трафімаў), на якім рэпрадукцыя гравюрнага партрэта С. з «Бібліі» (51×37 мм). На рус. і бел. мовах надпіс: уверсе — «450 год беларускага кнігадрукавання», унізе — «Г. Скарына. Заснавальнік друкавання кніг на беларускай мове». Да 400-годдзя бел. кнігадрукавання Беларускае выдавецкае т-ва ў Вільні ў друкарні М. Кухты выдала **п а ш т о ў к у**, прысвечаную С. На жоўтым фоне рэпрадукцыя гравюрнага партрэта С. з «Бібліі». Унізе надпіс кірыліцай і лацінкай «Францішак Скарына», пасярэдзіне дата «1517—1917». На адваротным баку паштоўкі з левага боку на бел. мове — «Доктар Францішак Скарына родам з Полацка, першы друкар і перакладчык Бібліі на беларускую мову. Друкаваў Біблію ў Празе чэшскай у 1517 г., у 1917 прыпадае 400 лецьце беларуск. друку». Кошт і тыраж не ўказаны, выканана літаграфскім спосабам на тоўстай паперы (142×95 мм). У пач. 20 ст. бел. выд-вам (магчыма, прыватным) выдадзена серыя паштовак з бел. краявідамі і адбіткамі старонак бел. старадрукаў. На адной з гэтых паштовак адлюстраваны факсімільны адбітак загалоўнага аркуша і пачатку тэксту стар. 165-й «Апостала» С. Адваротны бок аформлены як звычайная паштоўка з месцам для маркі. У 1920—30-х г. адным з бел. выд-ваў у Вільні выдадзена серыя паштовак з партрэтамі дзеячаў бел. гісторыі, л-ры і культуры. На адной з гэтых паштовак малюнак гравюрнага партрэта С., пад партрэтам надпіс «Доктар Францішак Скарына. Першы беларускі друкар (1486—1551)». На адваротным баку надпіс на ням. і бел. мовах «Паштовая картка». Папера тонкая, жаўтаватая (155×100 мм). У 1967 Бел. дзярж. выд-вам на паліграфкамбінаце імя Я. Коласа выпушчана каляровая паштоўка «Францыск Георгій Скарына», на якой рэпрадукцыя чорна-белай гравюры мастака А. Салькова. Унізе паштоўкі нібы на раскручаным скрутку надпіс «450 гадоў беларускага кнігадрукавання», ніжэй — арнаментаванае ўпрыгожанне (тыраж 65 тыс. экз., кошт 2 кап., памер 147×106 мм). У гэтым жа годзе Славянская б-ка выпусціла паштоўку, на якой рэпрадукцыя гравюрнага партрэта С. з «Бібліі». Надрукавана літаграфскім спосабам на тоўстай паперы. Кошт і тыраж не ўказаны, памер 155×110 мм. У 1980 Латвійскае аддзяленне Бюро прапаганды сав. кінамастацтва выпусціла ў Рызе камплект з 10 паштовак «Алег Янкоўскі». На адной з паштовак Янкоўскі ў ролі С. ў момант друкавання першага аркуша кнігі ў Пражскай друкарні (кадр з маст. фільма «Я, Францыск Скарына»; Беларусьфільм). Тэкст на рус. мове, надрукаваны фотаспосабам (тыраж 210 тыс. экз., памер 90×140 мм). У 1981 вільнюскае выд-ва «Mintis» («Думка») выпусціла каляровую паштоўку з 4 здымкаў архітэктуры Вільнюса. На адным з іх скульптура «Летапісец» (скульптар В. Круцініс), устаноўленая ў дворыку, дзе, мяркуюць, была першая друкарня ў Вільні, заснаваная бел. першадрукаром каля 1522. Паштоўка выдадзена афсетным друкам, фота М. Сакалоўскага (тыраж 65 тыс. экз., кошт 5 кап., памер 140×100 мм). У 1983 у сувязі з 400-годдзем з дня смерці Івана Фёдарава выд-ва «Планета» выпусціла камплект з 12 каляровых паштовак «Першадрукар Іван Фёдараў». На 5-й паштоўцы здымак старонкі «Евангелля вучыцельнага» (Заблудаў, 1569) і здымак таго ж дворыка ў Вільнюсе, дзе ўстаноўлена скульптура «Летапісец» (фота З. Сабасцінавічуса). На адваротным баку надпіс на рус. мове: «Дворык 16 ст. ў Вільнюсе. Першую друкарню ў Вільнюсе заснаваў каля 1522 г. вялікі беларускі асветнік Францыск Скарына. Але затым кнігадрукаванне славянскіх кніг кірылаўскага шрыфту тут надоўга спынілася...» (афсетны друк, тыраж 100 тыс. экз., кошт 3 кап.). У 1984 Цэнтр. рэкламна-інфармацыйнае бюро «Турыст» (г. Масква) выдала камплект каляровых паштовак «Полацк. Наваполацк», на адной з якіх помнік С. ў Полацку (на адваротным баку памятка пра С. і пра помнік). Афсетны друк, тыраж 25 тыс. экз., кошт камплекту 41 кап.

*Літ.:* К о л о с о в Л. Л. Филателия о Белоруссии. Мн., 1984. *А. Я. Белы, В. М. Целеш.*

**Філатэлія і філакартыя.** Марка. 1918; Канверт. 1967; Паштоўкі. 1915, 1967.



**ФІЛО́Н** Александрыйскі (Philōn Alexandréus, каля 25 да н. э.— каля 50 н. э.) іудзейска-элліністычны філосаф. Прыхільнік эклектычнага платанізму. Праводзіў ідэю блізкасці іудаізму да грэч. філасофіі, даказваў, што ў біблейскіх кнігах змяшчаецца «ўся мудрасць» і задача тлумачальнікаў заключаецца ў раскрыцці іх зместу. Найб. значныя творы Ф.— каментарыі да кнігі Біблії (гал. ч. кн. «Быццё»), якія даюць вытлумачэнне ў духу грэч. філасофіі. У вучэнні Ф. атрымала завяршэнне і абаснаванне ідэя монатэізму. Па Ф. вярх. сілай з'яўляецца логос (слова): «яно ў бога і само яно — бог». Этыка Ф. насіла рысы аскетызму з імкненнем да падаўлення пачуццёвасці і спрашчэння жыцця, мараль — рэліг. афарбоўку, прасякнута думкай пра грахоўнасць чалавека; адзіная крыніца ратавання — бог, поўнае паслушэнства і перайманне бажаству. Вучэнне Ф. атрымала вял. распаўсюджанне ў канцы 2—3 ст. н. э. і аказала ўплыў на ранняе хрысціянства. У прадмовах да кн. «Прамудрасць божая» С. неаднаразова звяртаецца да асобы Ф. *В. У. Чапко.*

**ФІЧЫНА** (Ficino) Марсіліо (1433—1499), італьянскі мысліцель-гуманіст, філосаф-неаплатонік, арганізатар платонаўскай Акадэміі ў Фларэнцыі (1495). Пераклаў на лац. мову творы Платона (1484), помнікі ант. неаплатанізму (Плаціна, Ямвліха, Прокла, Парфірыя і інш.). У тв. «Платонаўская тэалогія пра бессяротнасць душы» (нап. 1469—74) і «Пра хрысціянскую рэлігію» (1476) выкладзена філас. вучэнне Ф., якое злучае ідэйную спадчыну неаплатанічнай традыцыі і містычнае вучэнне позняй антычнасці з асн. догматамі хрысціянства. Уласцівая вучэнню Ф. апалогія кахання, зямной прыгажосці, чалавечай годнасці спрыяла пераадоленню сярэдневяковага аскетызму, аказала ўплыў на развіццё выяўленчага мастацтва і л-ры. У духу гуманіст. культуры Адраджэння Ф. развіваў ідэю «ўсеагульнай рэлігіі», якая заклікана выявіць патаемную сутнасць усіх гістарычна існаваўшых форм рэліг. веры, завяршыць іх развіццё. Гэта ідэя вяла да сцвярджэння прынцыпу верацярпімасці, які адыграў важную ролю ў гуманіст. светапоглядзе. Ідэі Ф. шырока распаўсюдзіліся ў канцы 15— пач. 16 ст. ў Еўропе і карысталіся вял. аўтарытэтам сярод рэнесансавых гуманістаў. Відаць, яны былі вядомы і С., які мог пазнаёміцца з імі ў Кракаўскім ун-це, у б-цы якога былі сабраны многія творы італьян. гуманістаў, ці ў час свайго знаходжання ў Італіі (1512), калі Ф. і яго вучань *Піка дэла Мірандола* былі на вяршыні славы. Імкненне да абуджэння інтэлектуальных сіл чалавека, гуманізацыі рэліг. свядомасці, творчага самасцвярджэння асобы [«да совѣршен будеть человѣк божий и на всяко дѣло добро уготован» (гл. с. 19)] збліжае погляды С. з поглядамі Ф. Падобна італ. мысліцелю С. лічыць мудрацом чалавека, які спалучае ў сабе біблейскую мудрасць з мудрасцю філасофскай. Веды абумоўліваюць гармонію чалавека са светам і з'яўляюцца




Дж. Форна. Францыск Скарына з Полацка. Фрэскавы партрэт. 1942.

неабходнай умовай для шчаслівага жыцця. Гал. мэту дзейнасці чалавека абодва мысліцелі бачылі ў распаўсюджванні навукі, розуму, умельства, мудрасці. Як і Ф., С. першараднае значэнне надае любові як аснове ўсіх дабрачыннасцей: кожны чалавек «наиболей любовь ко всим да соблудаеть, еже ест совершена над все иные дарования, без нея же ничто проспешно ест» (гл. с. 197). У адрозненне ад гуманізму Ф. хрысціянскі гуманізм С. носіць асветны дэмакратычны характар, бо звернуты да народа, «людем простым, посполитым».

*Літ.:* Черняк И. Х. Философия религии Марсилио Фичино // Атеизм, религия, современность. Л., 1976. Вып. 2; Баткин Л. К истолкованию итальянского Возрождения: Антропология Марсилио Фичино и Пико делла Мирандолы // Из истории классического искусства Запада. М., 1980. *Г. У. Грушавы.*

**ФЛАРО́ЎСКІ** Антоній Васілевіч (1884—1968), рускі гісторык-славіст. У 1912—20 дацэнт, праф. Новарасійскага ун-та ў Адэсе. З 1923 у Чэхаславакіі. Выкладаў гісторыю Расіі ў Карлавым ун-це ў Празе. Выдаў шэраг прац па гісторыі Расіі і ўзаемаадносін Чэхіі з усх. славянамі, у т. л. з беларусамі. Даследаваў пытанні, звязаныя з жыццём і дзейнасцю С. ў Чэхіі. У 1930-х г. апублікаваў некалькі артыкулаў, у якіх абагульніў не вядомыя раней факты з біяграфіі С., што дало падставу сцвярджаць пра яго ўдзел у стварэнні ў Празе аднаго з першых у Еўропе бат. саду і працу ў ім у якасці каралеўскага садоўніка. Закрануў пытанне аб наведванні С. Масквы каля 1525, удакладніў дату смерці С. Важная роля ў гісторыі скарыназнаўства належыць манаграфіі Ф. «Чэшская біблія ў гісторыі рускай культуры і пісьменнасці» (Прага, 1940—46), у якой ён прысвяціў С. 4 раздзелы. Ф. падкрэсліў ролю духоўнага жыцця Чэхіі ў пач. 16 ст. ў творчай і кнігавыдавецкай дзейнасці С. На думку даследчыка, С. заснаваў сваю друкарню ў Празе, улічваючы высокі ўзровень чэш. кнігадрукавання. Разам з тым Ф. не выключаў магчымасці службовых сувязей С. з дваром чэш. караля, які паходзіў з дынастыі Ягелонаў. Сцвярджаў, што агульная атмасфера эпохі гуманізму і Рэфармацыі ўздзейнічала на пранікненне жывой нар. мовы ў рэліг. пісьменнасць і кнігадрукаванне славян. Выступаў супраць меркаванняў пра непасрэдныя сувязі С. з чэш. Рэфармацыяй, адмаўляў існаванне сур'ёзнага гусіцкага ўплыву ва Усх. Еўропе 15—16 ст. Асобны раздзел прысвечаны станоўчаму ўздзеянню выданняў С. на бел., рус. і ўкр. кніжнасць 2-й пал. 16—17 ст. У зб. *«450 год беларускага кнігадрукавання»* (1968) Ф. змясціў арт. «Scoriniana», у якім прааналізаваў новую л-ру і новыя крыніцы аб жыцці і дзейнасці С. ў Польшчы, Чэхіі, Даніі, Італіі за 1926 — сярэдзіну 1960-х г.

*Тв.:* 308; 377; 378. *Г. Я. Галенчанка.*

**ФО́РНА** Джакама, італьянскі мастак 20 ст. Аўтар фрэскавага партрэта С. ў зале Сарака Падуанскага ун-та (1942), дзе С. абараняў званне «ў лекарскіх навуках доктар». Уяўляе манум. рэпрэзентатыўны профільны партрэт у традыцыях рэнесансу. С. паказаны ў поўны рост у доўгай аздобленай золатам і футрам доктарскай мантыі без галаўнога ўбору. Позірк скіраваны ў бок кафедры. Шырокі авал твару, тонкія губы, веліч постаці ствараюць уражанне ўсведамлення высокай чалавечай годнасці. Зверху вял. літарамі надпіс «Францыск Скарына з Полацка», ніжэй «год 1512». Невядома, якімі крыніцамі карыстаўся мастак, магчыма, звяртаўся да невядомых даследчыкам малюнкаў і гравюр. Партрэт прынцыпова розніцца ад *гравюрнага партрэта Ф. Скарыны*, хоць рысы падабенства ёсць; шырокі авал твару, прамы нос, кароткая шыя, пачуццё ўласнай годнасці. *В. Дз. Сінякевіч.*

**ФРАКАСТО́РА** (Fracastoro) Джыралама (1478—1553), італьянскі вучоны, урач, астраном, паэт. Вучыўся ў Падуанскім ун-це, з 1502 праф. гэтага ун-та. Аўтар прац па геалогіі, геаграфіі, оптыцы, астраноміі, медыцыне, філасофіі, псіхалогіі. Крытычна ставіўся да геацэнтрычнай сістэмы Пталамея, спрабаваў абнавіць яе («Пра рух нябесных цел па прынцыпах перыпатэтыкаў без эксцэнтраў і эпіцыклаў», 1536). Найб. ўклад унёс у развіццё медыцыны; адхіляў царк. погляд на хваробы як кару божую за грахі людзей, імкнуўся знайсці іх натуральныя прычыны ў чалавечым арганізме; да тэорыі медыцыны прымяніў ідэі атамізму, выказаў здагадку пра існаванне найдрабнейшых нябачных «зародкаў хваробы» — мікраарганізмаў, носьбітаў інфекцыі (упершыню ўжыў і тэрмін «інфекцыя»); апісаў воспу, адзёр, чуму, сухоты, тыф, праказу і інш. Асн. яго праца «Пра кантагію, кантагіёзныя хваробы і лячэнне» [(1546) шмат разоў перавыдадзена ў многіх краінах] — вучэнне пра сутнасць, шляхі распаўсюджання і лячэнне заразных захворванняў, якая залажыла асновы клінікі інфекцыйных хвароб. У сваіх філас. перакананнях схіляўся да матэрыялізму. Працягваючы традыцыі падуанскага вальнадумства, прытрымліваўся тэорыі дваістай ісціны, што ўзыходзіла да авераізму, моцна паўплываў на развіццё навук. і матэр. думкі 16—17 ст. У той час, калі С. прыехаў у Падую здаваць экзамен на ступень доктара медыцыны, Ф. быў адным з вядучых прафесараў медыцыны ва ун-це (1512). Пры падрыхтоўцы да экзаменаў С. мог пазнаёміцца з яго вучэннем. Улічваючы еўрап. славу Ф., можна меркаваць, што С. азнаёміўся з яго асн. мед. працамі. Магчыма, Ф. быў адным з тых, хто абудзіў глыбокую цікавасць у бел. першадрукара да прыродазнаўчанавук. ведаў, уважлівых даследаванняў прыроды. Ідэйная блізкасць С. і Ф. выяўляецца і ў прызнанні тэорыі *двайстай ісціны*, што вызваляла чалавечы розум ад рэліг. дагматызму.

*Г. У. Грушавы.*

**ФУЛЬМАНЭ́ЛІ** (Fulmanelli) Францэска (канец 15 — 1-я пал. 16 ст.), італьянскі ўрач, віцэ-рэктар Падуанскага ун-та. Родам з Вероны. Прысутнічаў на мед. калегіі ун-та пры здачы С. экзаменаў на ступень доктара медыцыны 9.11.1512 у Падуі.

*Літ.:* 342.



**ХА́РКАЎСКАЯ НАВУКО́ВАЯ БІБЛІЯ́ТЭКА** імя У. Г. Караленкі, адна з буйнейшых навук. б-к УССР. Засн. ў 1886. У аддзеле рукапісаў зберагаецца спіс «Апостола» С. (шыфр 819172), які перапісаў Ц. Я. *Гермаген*. Рукапіс паступіў у гады 1-й сусв. вайны з Жытоміра ў складзе фондаў Валынскага епархіяльнага сховішча старажытнасцей.

**ХЛУ́ДАЎ** Аляксей Іванавіч (1818—82), калекцыянер рукапісаў і старадрукаваных кніг, фабрыкант. Сабраў больш за 430 рукапісаў і 624 старадрукаваныя кнігі. У 1866 частку кніг ахвяраваў б-цы Маскоўскай духоўнай акадэміі (зберагаецца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна). Сярод рукапісаў вядомы грэч. Псалтыр 9 ст. з мініяцюрамі на палях (т. зв. хлудаўскі Псалтыр), чэш. Біблія 15 ст. на пергаменце і інш. У б-цы Х. зберагаліся выданні С.: «Псалтыр» 1517 (адзін з двух вядомых экз.), канвалют з пражскім «Пяцікніжжам» (кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон») і «Апостал» 1525. «Пяцікніжжа» пераплецена ў 18 ст. ў дошкі, абцягнутыя скурай, абрэз кнігі афарбаваны, на адвароце верхняй дошкі — экслібрыс: «Из библиотеки А. И. Хлудова № 5». Экземпляр «Апостала» найб. камплектны з усіх захаваўшыхся экз. (не хапае 2 аркушаў). Х. завяшчаў б-ку Нікольскаму аднаверскаму манастыру ў Маскве (з 1917 зберагаецца ў *Гістарычным музеі*).

*Літ.:* 706; 796. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ХМЫ́ЗНІКАЎ** Уладзімір Цімафеевіч (н. 1939), беларускі сав. скульптар. У 1962 выканаў скульптурны партрэт С. (галава, гіпс, вышыня 38 см, Дзярж. маст. музей БССР). У 1965 зрабіў скульптуру С. (гліна, вышыня 3 м, АН БССР) у поўны рост. У апушчанай руцэ — кніга. Скульптура вызначаецца дынамічнасцю, выразнасцю сілуэта, пластычнай напружанасцю форм. Дэталёвы паказ адзення 16 ст. надае ёй гіст. канкрэтнасць. Х. з'яўляецца аўтарам бюста С. (1967, гіпс, вышыня 35 см, Музей мастацтва і этнаграфіі саўгаса «Гарадзец», Шаркоўшчынскі р-н) і партрэта С. ў дрэве (1971, галава, вышыня 67 см, Палац мастацтваў у Мінску). С. паказаны ў стане спакойнага роздуму, унутранай сабранасці і засяроджанасці. Рашэнне вобраза вызначаецца свабоднай, упэўненай буйнаплоскаснай разьбой, якая стварае складаныя святлоценявыя пераходы і ўзмацняе эмацыянальнае ўздзеянне партрэта. *А. К. Лявонава.*

**ХО́ХФЕДАР** Каспер (? — каля 1517), друкар. У 1491—99 працаваў у Нюрнбергу, дзе надрукаваў 56 выданняў. Першае вядомае выданне датавана 23.3. 1491 — «Творы» Ансельма Кентэрберыйскага. Друкарня Х. была добра абсталявана, мела 14 гарнітур шрыфту і 94 ксілаграф. формы. Мяркуецца, што ў 1494 па заказу Яна *Галера* надрукаваў «Брэвіярый Кракаўскі, Гнезненскі і Пазнанскі» (фрагменты ў Ягелонскай б-цы і Дзярж. б-цы ГДР у Берліне). У 1499—1501 працаваў у Метцы (ЧССР), дзе надрукаваў не менш 10 кніг. Сярод іх творы Дж. Бакача і каментарый праф. Кракаўскага ун-та Яна з Глогава да тво́ра Арыстоцеля «Аб душы», надрукаваны па заказу Галера. У 1503 па прапанове Галера размясціў сваю друкарню ў Кракаве ў яго доме. За 1503—05 надрукаваў 35 кніг на лац. мове, пераважна вучэбныя дапаможнікі для Кракаўскага ун-та (працы Яна з Глогава, Яна з Добчыц, Міхала Фалькенера з Вроцлава і інш.). Мяркуецца, што Х. друкаваў і польск. выданні. 1.7.1505 яго друкарня перайшла ва ўласнасць Галера. У 1508—17 Х. зноў друкаваў кнігі ў Метцы. С. мог карыстацца выданнямі Х., бываць у яго друкарні і пазнаёміцца з асновамі друкарскага майстэрства. *Я. Л. Неміроўскі.*

У. Хмызнікаў. Францыск Скарына. Гіпс. 1962.



**«ХРО́НІКА» БЫ́ХАЎЦА,** «Летапіс» Быхаўца, Быхаўца «Хроніка», трэці, найбольш поўны агульнадзярж. летапісны звод; помнік бел.-літ. летапісання 1-й пал. 16 ст. Выяўлена ў 1820-я г. ў б-цы памешчыка А. Быхаўца з маёнтка Магілёўцы (пад Ваўкавыскам). Пачатак і канец «Х.» Б. не зберагліся. Вядома ў адзіным спісе канца 17 — пач. 18 ст., напісаным на бел. мове лацінкай, арыгінал якога згублены ў 2-й пал. 19 ст. Зберaглася дзякуючы Т. Нарбуту, які ў 1846 яе апублікаваў. Крыніцамі «Х.» Б. паслужылі *«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*, *«Беларуска-літоўскі летапіс 1446»*, розныя гіст. паданні, успаміны відавочцаў падзей і уласныя назіранні аўтара. Легендарная гісторыя Літвы дапоўнена аповесцю пра Міндоўга і Войшалка, запазычанай з Галіцка-Валынскага летапісу.

Прысвечана паліт. гісторыі Вял. кн. Літоўскага ад легендарных часоў да пач. 16 ст. (абрываецца на апісанні падзей 1506). Найб. жыва і падрабязна пададзены падзеі ўнутры- і знешнепаліт. жыцця дзяржавы перыяду княжання Вітаўта, Казіміра IV і Аляк-

сандра. Асабліва цікавіла аўтара ваенна-патрыят. тэма, апісанні розных паходаў і бітваў (з крыжакамі, татарамі і інш.). Асобныя старонкі «Х.» Б. маюць выразную публіцыст. і антыпольскую накіраванасць. Гіст. мінулае Беларусі і Літвы пададзена з агульнадзярж. і шляхецкіх пазіцый. Напісана з мэтай стварыць найб. поўную гісторыю Вял. кн. Літоўскага, сцвердзіць паліт. магутнасць і незалежнасць дзяржавы, паказаць веліч і самабытнасць гіст. мінулага бел. і літ. народаў. Храніст імкнуўся таксама зацікавіць сваіх суайчыннікаў багатай герачнай гісторыяй роднай зямлі, абудзіць у іх патрыят. пачуцці. Адначасова ён перацэньваў ролю бел.-літ. феадалаў у гісторыі Вял. кн. Літоўскага. У жанравых адносінах — летапісны звод, у якім арганічна спалучаны асобныя пагадовыя запісы з гіст. апавяданнямі і аповесцямі, традыцыйная, летапісная форма выкладу з прагматычным, звязаным апісаннем мінулага. Характэрная асаблівасць стылю «Х.» Б.— белетрызацыя гіст. апавядання. Складае важны этап у станаўленні бел. гіст. прозы даўняй пары. Асн. частка «Х.» Б. напісана беларусам правасл. веравызнання, блізкім да князёў Слуцкіх. Як летапісны звод завершана, найбольш верагодна, у 1530-я г. Важная крыніца па сярэдневяковай гісторыі Беларусі і Літвы, каштоўны помнік грамадска-паліт. думкі бел. і літ. народаў, бел. мовы і л-ры эпохі Адраджэння. Паслужыла крыніцай «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» М. Стрыйкоўскага, а праз яе пасрэдніцтва «Хронікі Польшчы» М. і І. Бельскіх, «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» А. Гваньіні, бел.-укр. хранографа 17 ст. «Вялікая хроніка», шэрагу інш. хронік і гісторый 17—19 ст.

С. жыў і фарміраваўся ў атмасферы росту агульнай зацікаўленасці не толькі да «свяшчэннай», але і да свецкай гісторыі, асабліва да гіст. мінулага роднай зямлі. Ён, напэўна, добра ведаў і выдатных герояў і найб. значныя падзеі бел.-літ. гісторыі, што апісаны ў «Х.» Б., а некат. з іх (канца 15 — пач. 16 ст.) быў сучаснікам і сведкам.

*Літ.:* Хроника Быховца. М., 1966.

*В. А. Чамярыцкі.*

**«ХРОНІКА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА І ЖАМОЙЦКАГА»,** гісторыка-літаратурны твор, помнік літоўскай грамадска-паліт. думкі і бел. літаратурнай мовы 1-й пал. 16 ст. У творы выкладаецца гісторыя *Вялікага княства Літоўскага* ад легендарнага князя Палемона да Гедыміна. Напісана ў 1520-я г. на бел. мове, відаць, у Вільні ў асяроддзі літ. феадалаў.

У аснову хронікі пакладзена легенда пра высакароднае паходжанне літ. князёў і шляхты ад рымскіх арыстакратаў. Яна была літаратурна апрацавана і храналагічна прывязана да пэўных этапаў еўрап. гісторыі (пачатак падзей аднесены да часоў Нерона, 1 ст. н. э.), набыла выгляд гіст. аповесці пра сапраўдныя падзеі мінулага. Інш. крыніцамі паслужылі розныя гіст. паданні (пра паходы Гедыміна на Украіну, бітвы з татарамі, пра мінулае Вільні, Полацка і Навагрудка, пра язычніцкія звычаі літоўцаў), *Беларуска-літоўскі летапіс 1446*, а таксама Іпацьеўскі летапіс, які быў выкарыстаны адвольна і тэндэнцыйна. У творы прыхарошваецца і герaізуецца мінулае Літвы і прыніжаецца гісторыя Русі. Створана з мэтай сцвердзіць пануючае становішча літ. феадалаў у дзяржаве, абудзіць пачуцці нац. гонару і патрыятызму літоўцаў. Мае шмат фактычных недакладнасцей і свядомых скажэнняў. Напісана ў звязнай форме як гіст. аповесць, але вельмі сцісла, бегла, месцамі схематычна. З літаратурнага боку найб. цікавае ў Хроніцы паэтычнае апавяданне пра заснаванне Гедымінам Вільні, пабудаванае на нар. эпічным паданні. Распаўсюджвалася на Беларусі ў складзе 2-га аднайменнага бел.-літ. летапіснага зводу, які захаваўся ў трох рэдакцыях. Паслужыла крыніцай *«Хронікі» Быхаўца*, «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» М. Стрыйкоўскага, шэрагу іншых бел., польск., літ. гістарычна-літаратурных твораў 16—19 ст.



**«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага».** Старонка з Табольскага спіса. 18 ст.



**«Хрыстос у храме».** Гравюра з тытульнага ліста «Канона Ісусу» з «Малой падарожнай кніжкі» Ф. Скарыны.

У творы ёсць шэраг звестак з гісторыі Полацка. Так, аўтар сцвярджае, што ў эпоху феад. раздробленасці палачане «вечом справовалися, яко Великий Новгород и Псков». Будаўніцтва полацкіх цэркваў Сафійскай, Спаскай, Барысаглебскай ён прыпісаў літ. князю Гінвілу-Барысу, што не адпавядае гіст. сапраўднасці. «Жыціе Ефрасінні Полацкай» было выкарыстана ў Хроніцы для стварэння легендарнай гісторыі пра полацкую манашку Параскоўю, якая спачатку 7 гадоў пражыла ў Спаскім манастыры, «богу служечи и книги пишучи на церков», а пасля паехала ў Рым, прыняла там каталіцтва пад імем Праксэды, пабудавала ў «святым» горадзе касцёл, дзе і была пахавана. С., напэўна, ведаў асн. змест Хронікі, бо яна ствaралася і бытавала ў Вільні, дзе тады якраз жыў першадрукар. Ён асабіста быў знаёмы з канцлерам Вял. кн. Літоўскага А. *Гаштольдам*, біскупам П. *Гальшанскім* і інш. літ. арыстакратамі, у асяроддзі якіх яна ўзнікла.

*В. А. Чамярыцкі.*

**ХРЫСТОС,** гл. *Ісус Хрыстос.*

**«ХРЫСТОС І НЯВЕСТА»,** гравюра без назвы, змешчаная на тытульным лісце кнігі *«Песня песням»*, выдадзенай С. у Празе (1518). Сімвалічна выяўляе скарынінскую інтэрпрэтацыю зместу гэтай кнігі: містычны «шлюб» Ісуса Хрыста і яго зямнога царства — хрысц. царквы, увасобленай у вобразе нявесты. Па кампазіцыі, малюнку, яркім дэкар. рашэнні і асабліваму паэтычнаму настрою гравюра (105×105 мм) належыць да самых лепшых, што выдаваліся С. Выдатна звязаны 2 цэнтр. фігуры, з высокім майстэрствам выкананы выявы херувімаў, воблакі. Плаўныя лініі адзення Хрыста і нявесты ўдала спалучаюцца з упэўненай прапрацоўкай воблакаў. Кампазіцыя гравюры і графічная трактоўка воблакаў збліжаюць яе з гравюрай *«Благавешчанне»*, але першая мае больш пластычную і выразную кампаноўку. Усё гэта дае падставу меркаваць, што яны выкананы адным мастаком. Гравюра «Х. і н.» спецыяльна рабілася для кніг С., аб чым сведчаць адпаведнасць памераў люстры набору і герб-сігнет асветніка. Кампазіцыйна гравюра, магчыма, узыходзіць да франц. «Каранаванне божай маці» (13 ст.) — адной з ранніх еўрап. гравюр. У бел. рукапіснай мініяцюры сюжэт не сустракаецца, не звярталіся да яго і бел. гравёры 16—18 ст.

*Літ.:* 564; 792. *В. Ф. Шматаў.*

**«ХРЫСТОС У ХРАМЕ»,** «Господь наш Ісус Христос во храме навчаеть законовчителей иудейских», гравюра на тытульным лісце *«Канона Ісусу»* з «Малой падарожнай кніжкі» С., выдадзенай у Вільні (1522). Адлюстроўвае эпізод з Евангелля, у якім, паводле біблейскай легенды, апісваецца выпадак з прапаведніцкай дзейнасці Ісуса Хрыста ў юнацкія гады. На гравюры (80×72 мм) выява інтэр'ера храма, у цэнтры на троне сядзіць Ісус, справа і злева ад яго настаўнікі, на тварах іх адбіліся здзіўленне і нейкая разгубленасць. Звонку праз акно на Ісуса з замілаваннем глядзіць маці. Выяўленча-вобразным ладам гра-

вюра супадае з аналагічнай ілюстрацыяй з «Сусветнай хронікі» Г. *Шэдэля* (Нюрнберг, 1493, друкарня Кобергераў). Арыгінал хутчэй за ўсё выканаў настаўнік А. *Дзюрэра* — М. *Вольгемут*, які ілюстраваў кнігу Шэдэля разам з В. Плейдэнвурфам. Аналіз стану ксілаграф. дошак дазваляе меркаваць, што друкары С. ўзялі іх з друкарні Кобергераў. На карысць гэтай думкі сведчыць падабенства асобных дэфектаў на адбітках з «Малой падарожнай кніжкі» і «Сусветнай хронікі». Гравюра таксама дае падставу меркаваць аб наяўнасці кантактаў графікі С. са школай Дзюрэра і яго арыентацыі на больш дасканалых майстроў еўрап. ксілаграф. ілюстрацыі, прадстаўніком якой быў Вольгемут.

*Літ.*: 564; Kunze H. Geschichte der Buchillustration in Deutschland: Das 15. Jahrhundert. [Bd. 1]. Leipzig, 1975.

*В. Ф. Шматаў.*

**ХРЫСЦІЯ́НСТВА** (ад грэч. Christós літар. памазаннік), адна з трох т. зв. сусветных рэлігій (побач з будызмам і ісламам).

Узнікла як рэлігія прыгнечаных у 1 ст. н. э. ва ўсх. правінцыях Рымскай імперыі ва ўмовах распаду рабаўладальніцкага ладу. На пачатку Х. грунтавалася на дзейнасці іудзейскіх сектаў (зелоты, есеі) і паступова распаўсюджвалася сярод народаў Малой Азіі. Ранняе Х. адлюстроўвала думкі і спадзяванні прыгнечаных слаёў пазнейшай антычнай грамадскасці, што выявілася ў поўным адмаўленні ад этнічных і сац. перагародак у пытаннях веры, пропаведзі аскетызму, надзеі на замагільную ўзнагароду. Паводле Ф. Энгельса, яно прадстаўляла сабой рэлігію рабоў і вольнаадпушчанікаў, беднякоў і бяспраўных, пакораных і разагнаных Рымам народаў (Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2. изд. Т. 22. С. 467). Да канца 2 ст. Х. склалася як рэлігія з уласнай дагматыкай, сімвалам веры, абраднасцю, царк. арганізацыяй. Па меры таго, як выяўлялася класавая сутнасць Х., яно ператваралася з рэлігіі, што праследавалася, у ідэйную апору дзярж. улады. Імператар Канстанцін I аб'явіў Х. афіцыйна дазволенай рэлігіяй (311) і склікаў 1-ы Усяленскі сабор (325) з прадстаўнікоў царк. вярхоў, дзе быў афармлены саюз паміж дзярж. уладай і хрысц. царквой. «...Хрысціяне, атрымаўшы становішча дзяржаўнай рэлігіі, «забыліся» аб «наіўнасцях» першапачатковага хрысціянства з яго дэмакратычна-рэвалюцыйным духам» (Ленін У. І. Тв. Т. 25. С. 393). У фарміраванні хрысц. веравучэння вызначальную ролю адыгралі іудаізм, грэка-рымская філасофія (найпершыя *Філон* Александрыйскі і *Сенека*), рэлігія Усходу (егіпецкія, іранскія, індыйскія вераванні). Дагматыка і богаслужэнне ў Х. грунтуюцца на *Бібліі* — Свяшчэнным пісанні. Х. распадаецца на 3 асн. кірункі (каталіцызм, праваслаўе, пратэстантызм) і шэраг адгалінаванняў. Як разнавіднасць тэізму, Х. зыходзіць з асобаснага разумення божага абсалюту, спецыфічная трактоўка якога выражана ў двух асноватворных догматах: траістасці і богаўвасабленні. Догмат аб Тройцы (замацаваны царквою ў 4 ст.) уяўляе сабою адзіную божую сутнасць як унутраныя адносіны 3 асоб — айца, сына і святога духа. Догмат богаўвасаблення ўводзіць цэнтр. для Х. вобраз Хрыста, які спалучыў, паводле хрысц. міфалогіі, усю паўнату божай і чалавечай прыроды і з'явіўся на свет як збавіцель. Значнае месца ў хрысц. веравучэнні займае догмат грэхападзення чалавека (першы акт непаслушэнства богу), у выніку чаго было разбурана яго пачатковае богападабенства. Хрыстос перамог сілу граху і сваёй пакутніцкай смерцю пазбавіў людзей ад вечных мук, зыходзячы з чаго вобраз крыжнага распяцця стаў стрыжнем усёй хрысц. сімволікі. Ад гэтага часу чалавек павінен быў верай, пакорлівасцю і пакутамі апраўдваць ахвяру Хрыста, бо інакш яго чакала вечная пагібель. Да ліку догматаў Х. адносяцца таксама нібыта маючыя адбыцца другое прышэсце Хрыста, страшны суд, нябесная адплата, устанаўленне царства нябеснага і інш. Асобая роля ў Х. належыць таінствам — культавым дзеянням, з дапамогай якіх божае быццам рэальна ўваходзіць у жыццё чалавека. Да таінстваў, што прызнаюць усе веравызнанні Х., адносяцца хрышчэнне і прычашчэнне. Праваслаўе і каталіцызм прызнаюць яшчэ 5 таінстваў, якія адвяргаюцца пратэстантызмам: мірапамазанне, споведзь, свяшчэнства, шлюб, сабораванне. З фарміраваннем царк. арганізацыі дагматыка і культ Х. ўсё больш уніфікаваліся, атрымоўваючы статус безумоўнага аўтарытэту. Хрысц. веравучэнне ў асн. сваіх рысах склалася і было кананізавана ў т. зв. сімвале веры (скарочанае выкладанне хрысц. догматаў для кожнага веруючага) на Нікейскім (325) і Канстанцінопальскім (381) Усяленскіх саборах. У гэты ж час пачаў складвацца інстытут манаства, культ святых і мучанікаў. Набыўшы паліт.-ідэалаг. моц, Х. зазнала шэраг гіст. абумоўленых царк. падзелаў («схізм»). Імкненне рымскіх епіскапаў (з 5 ст. яны называюцца «папамі») да гегемоніі ў хрысц. свеце і іх дамаганні на вярх. свецкую ўладу натыкаліся на супраціўленне канстанцінопальскіх патрыярхаў. Саперніцтва паміж гэтымі царк. арг-цыямі прывяло да раздзелу хрысц. царквы на каталіцкую і праваслаўную, які аформіўся ў 1054.

На Русі Х. ўводзілася пад уплывам Візантыі з канца 10 ст., і да 15 ст. рус. правасл. царква знаходзілася пад кантролем канстанцінопальскіх патрыярхаў (гл. арт. *Каталіцкая царква, Праваслаўная царква*). Працэс хрысціянізацыі праходзіў ва ўмовах жорсткай барацьбы з язычніцтвам, якое было шырока распаўсюджана на слав. землях. Хрышчэнне суправаджалася знішчэннем язычніцкіх ідалаў, ганеннем супраць язычнікаў, знішчэннем эпасу народа. Перажыткі язычніцтва на тэр. Беларусі захаваліся да канца 19 ст. Правасл. царква вымушана была некат. язычніцкія вераванні прымеркаваць да сваіх свят і абрадаў. Хрысціянізацыя Еўропы ў асн. завяршылася ў 13 ст. Х. стала пануючай ідэалогіяй феад. ладу, захапіўшы манаполію на сістэму адукацыі, выхавання, духоўнай культуры. Хрысц. царква па сваёй сацыяльнай ролі, будучы буйным землеўладальнікам, служыла ўмацаванню асноў феадалізму. Разам з тым яна садзейнічала пашырэнню пісьменнасці, кніжнай справы, выкарыстоўваючы ўсё гэта на ўмацаванне рэліг. светапогляду. Схаластыка, якая стала краевугольным каменем сярэдневяковай вучонасці, ператварыла філасофію ў прыдатак багасloўя, рэзка абмежавала рамкі навук. даследавання, стрымлівала развіццё свецкай культуры. Укараняючы дух дагматызму і аўтарытарызму, хрысц. царква жорстка прыгнятала любыя праяўленні вальнадумства, перашкаджала пашырэнню свец-

**«Хрыстос і нявеста».** Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Песня песням» Ф. Скарыны.



кіх ведаў у народных масах. Барацьба супраць засілля феадалізму і яго ідэйнай апоры — хрысц. царквы — ў сярэднявеччы, як правіла, прымала форму ерасяў. Асаблівы ўклад у вызваленне чалавечай думкі ад кайданоў тэалагічнага дагматызму, у пераасэнсаванне духоўных каштоўнасцей Х. ўнесла культура эпохі *Адраджэння*. Ва ўмовах распаду феадалізму барацьба супраць сярэдневяковай каталіцкай царквы і ін-та папства завяршылася ў 16 ст. *Рэфармацыяй*, у выніку якой ад каталіцызму адпаў шэраг цэркваў і склаўся 3-і кірунак Х.— *пратэстантызм*. Абараняючы інтарэсы новых сац. сіл, пратэстантызм выступіў супраць феад. царквы, ідэйна падрыхтоўваючы раннія бурж. рэвалюцыі. У паслярэфарм. час у гісторыі Х. пачаўся т. зв. канфесійны перыяд, калі ў выніку рэліг. войнаў 16—17 ст. замест ідэі ўсяленскай абшчыны хрысціян усталяваўся прынцып дзярж. рэгулявання рэліг. жыцця. Наогул жа Х. як тып сац. ідэалогіі і арганізацыі паўплывала на грамадскапаліт., маральнае, інтэлектуальнае, маст. развіццё еўрап. і сусв. культуры. Асаблівы ўплыў на лёс еўрап. мастацтва аказалі міфалогія і іканаграфія Х.

У 15—16 ст. Х. як пануючая ідэалагічная сіла ўсебакова вызначала духоўную атмасферу і культ. развіццё Еўропы. Далёкія ад дагматычнай вузкасці канфесійнай артадоксіі любога напрамку погляды С. фарміраваліся пад уздзеяннем нормаў і каштоўнасцей хрысц. светаразумення. Засваенне культ. спадчыны мінулых часоў, асэнсаванне новых сац. змен і патрэб у рэліг. форме складала неад'емную рысу прагрэс. рухаў позняга сярэднявечча. Рэнесансава-гуманіст. і рацыяналіст. дух творчасці С. глыбока мадыфікаваў ідэйную сутнасць Х., падрываў і разбураў многія стэрэатыпы традыцыйнай рэліг. свядомасці, змагаўся з коснасцю тэолага-схаласт. думкі, расчышчаў шлях для свецкай культуры. Вальнадумства С. ярка вызначылася ў антыдагматызме, антыаўтарытарызме яго мыслення, падкрэслена дэмакратычным пафасе культ. дзейнасці (гл. *Светапогляд Ф. Скарыны*). Парываючы з многавяковай традыцыяй хрысц. царквы, С. ажыццявіў пераклад Свяшчэннага пісання на блізкую да народнай мову. Тым самым да Бібліі адкрыўся доступ простаму люду (рамеснікам, сялянам, купцам), а біблейскія тэксты сталі прадметам вывучэння. Аддаўшы ідэйны змест хрысц. веравучэння на суд індывідуальнай думкі простага чалавека, С. парушыў тым самым манапольнае права каталіцкага духавенства і правасл. багасло́ўя на тлумачэнне Бібліі. Сыходзячыся ў гэтым з рэфармацыйна-гуманіст. рухам эпохі, С. аднак не паддаўся канфесійнай абмежаванасці, фанатычнаму дагматызму Марціна *Лютэра*, Жана Кальвіна і інш. ідэолагаў пратэстантызму. У духу хрысц. гуманізму адраджэнскага тыпу С. схіляўся да ідэй верацярпімасці, імкнучыся прапагандаваць і культываваць агульначалавечыя каштоўнасці, што зафіксаваны ў Х., незалежна ад унутрырэліг. спрэчак і схізматычных арыентацый. Гуманіст. імкненне С. нараджала смелую думку аб вызваленні не толькі розуму, але і самой веры чалавека ад знешняга дыктату, заняволення царк. аўтарытэтам, пераўтварала яе ва ўнутраны маральны закон кожнага індывіда. Уступаючы ў прамы канфлікт з хрысц. царквой і тэалаг. традыцыяй сярэднявечча, С. паслабляў безумоўную норму прац айцоў і настаўнікаў царквы і пастаноў царк. сабораў, на справе ўраўноўваючы іх у правах з кожным разважным чалавекам. Якасна новы характар хрысц. светаразумення С. бачыў у служэнні роднаму народу, росквіту айчыны; шлях да гэтага не ў пропаведзі пакаяння, а ў адукаванасці народа, пашырэнні ведаў, засваенні жыццёвай мудрасці, чаму ён і прысвяціў усё сваё жыццё. Менавіта гэтым вызначаецца «неартадаксальны» падыход С. да Бібліі як да твора асветніцкага, які абуджае інтэлектуальныя сілы чалавека, раскрывае каштоўнасці розуму і прыродазнаўства. У сваіх каментарыях С. вылучаў тыя аспекты біблейскіх тэкстаў, дзе закранаюцца актуальныя грамадскія і маральна-філас. праблемы часу, што рэзка кантраставала з афіцыйным тлумачэннем артадаксальнага Х. Арыентуючыся на гуманіст. антрапалогію, С. часам даволі свабодна тлумачыў Х. ў духу вучэння аб чалавечай маралі, якая супадае з законам прыроды: «Закон прироженый в том наболей соблюдаем бываеть: то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети» (гл. с. 136).



**«Хрышчэнне ў Іардане».** Гравюра з тытульнага ліста «Канона Іаану Прадцечы» з «Малой падарожнай кніжкі» Ф. Скарыны.

Этыка С. выхоўвала сацыяльна актыўнага чалавека, грамадзяніна і патрыёта, здольнага служыць «пожитку посполитому» ўсімі сваімі сіламі і здольнасцямі, праслаўляла людзей, якія ў імя айчыны не шкадавалі ні сябе, ні сваёй маёмасці. Спалучаючы божую мудрасць Саламона з жыццёвай мудрасцю Арыстоцеля, С. вельмі «ерэтычна» ўраўноўвае клопаты пра замагільнае жыццё з клопатамі пра зямны дабрабыт, «абы, научившися мудрости», людзі «добре живучи на свете». Такое вольнае тлумачэнне Х., пры ўсёй рэліг. абумоўленасці поглядаў С., выклікала рэзка адмоўныя адносіны да яго з боку прадстаўнікоў як артадаксальна-правасл., так і контррэфармац.-каталіцкай цэркваў. С. называлі «гусіцкім ерэтыком», бачылі ў скарынінскай «Бібліі» крыніцу ерасей, сцвярджалі, што яна супярэчыць усім апостальскім і святым канонам. Застаючыся ў межах хрысц. светаразумення, С. ўнёс у яго дух рацыяналіст. вальнадумства, асветніцтва, грамадзянскага гуманізму, патрыятызму, чым зрабіў вял. ўклад у духоўнае абнаўленне свайго народа, станаўленне новай культуры.

*Літ.:* Маркс К., Энгельс Ф., Ленин В. И. О религии. 2. изд. М., 1983; Ленин В. И. О религии и церкви. М., 1966; Крывелев И. А. История религий. Т. 1—2. М., 1975—76; Кубланов М. М. Возникновение христианства: Эпоха. Идеи. Искания. М., 1974; Свенцицкая И. С. От общины к церкви: (О формировании христианской церкви). М., 1985. ***Г. У. Грушавы.***

**«ХРЫШЧЭННЕ Ў ІАРДАНЕ»,** «Святый Іоан Предьтеча крещаеть господа нашего Иисуса Христа», гравюра на тытульным лісце *«Канона Іаану Прадцечы»* з «Малой падарожнай кніжкі», выдадзенай С. у Вільні (1522).

Адлюстроўвае апісаны ў Евангеллі эпізод хрышчэння на Іардане, уведзенага прарокам Іаанам Прадцечай нібыта дзеля духоўнага ачышчэння людзей.

У цэнтры кампазіцыі — Хрыстос. Злева ад яго І. Прадцеча, справа — анёл. Сціпла адзначаны краявід з рэчкай. Паводле кампазіцыі, тыпажу, характару штрыхоўкі і памераў (72×79 мм), гравюра цалкам супадае з аналагічнай ілюстрацыяй да «Сусветнай хронікі» Г. *Шэдэля* (Нюрнберг, 1493, друкарня Кобергераў). У калафоне апошняй гаворыцца, што ілюстрацыя да яе рабілася настаўнікам А. *Дзюрэра* — М. *Вольгемутам* разам з В. Плейдэнвурфам. Адрозненне паміж гравюрамі з «Малой падарожнай кніжкі» і «Сусветнай хронікі» назіраецца толькі ў стане ксілаграф. дошак: у адбітку з выдання С. бачна зношанасць клішэ, забітасць штрыхоў фарбай, асабліва ў зацянёных месцах. Гэта дазваляе меркаваць, што друкары С. карысталіся дошкамі з друкарні Кобергераў.

*Літ.:* 564; Kunze H. Geschichte der Buchillustration in Deutschland: Das 15. Jahrhundert. [Bd. 1]. Leipzig, 1975.

***В. Ф. Шматаў.***



**«ЦАР ДАВІ́Д»,** гравюра на тытульным лісце *«Псалтыра» 1517,* выдадзенага С. у Празе (1517). Паўтараецца на 5-м аркушы гэтай кнігі (абодва адбіткі зроблены з адной дошкі).

Ілюструе старадаўняе ўяўленне пра цара Давіда ў вобразе музыканта і песняра з гуслямі. Старазапаветная аповесць надзяляе Давіда рысамі эпічнага героя, пераможцы шматлікіх ворагаў. У хрысціянстве Давід выступае прадвеснікам, прарокам; малюецца вобраз добрага цара, супраць якога паўсталі блізкія людзі.

На гравюры (61×44 мм) Давід паказаны на каленях у пышным царскім адзенні, з працягнутымі рукамі да бачнай у воблаках галавы Саваофа. На зямлі перад ім ляжыць ліра. Давід падобны на цара з гравюры *«Генеалагічнае дрэва Ісуса»*, змешчанай у гэтай жа кнізе: аднолькавая карона з крыжападобнымі зубцамі, той жа малюнак ліры. Гэта сведчыць аб тым, што абедзве гравюры выканаў адзін майстар. Вобраз Давіда з гравюры «Ц. Д.» больш манументальны, постаць вырашана з большай выразнасцю і экспрэсіяй. Тэхніка выканання гравюры некалькі грубаватая, аднак штрыхі энергічныя, упэўненыя. У трактоўцы фігуры, як і ў ранніх еўрап. гравюрах, дамінуе контур.

*Літ.:* 564; 792. *В. Ф. Шматаў.*

**ЦАРАНКО́Ў** Леанід Антонавіч (н. 1912), беларускі сав. літаратуразнавец і педагог. Працаваў у БДУ імя У. І. Леніна (1964—76). Да 450-годдзя бел. кнігадрукавання выдаў брашуру «Францішак (Георгій) Скарына — першадрукар Беларусі» (1967), у якой змешчаны асн. звесткі аб жыцці і дзейнасці С. У брашуры «Францішак Скарына і яго час» (1975) жыццё і дзейнасць С. разглядаюцца на шырокім гіст. фоне, апавядаецца аб вядомых сучасніках — выхадцах з Польшчы, Беларусі, Украіны. Аўтар называе С. вестуном ідэалаў гуманізму на Беларусі, яго прадмовы разглядае як прапаганду асветы сярод простага люду. Лічыць, што пражскія выданні С., выдадзеныя на мове, блізкай да народнай, прызначаны не для богаслужэння, а для чытання. *У. М. Свяжынскі.*

**ЦАРКО́ЎНА-СЛАВЯ́НСКАЯ ПІСЬМЕННАСЦЬ** на Беларусі. На працягу 15—18 ст. на тэр. Беларусі былі створаны рэлігійныя творы розных жанраў, якія ў моўных адносінах з'яўляліся непасрэдным працягам царк.-слав. пісьменнасці Стараж. Русі. З увядзеннем хрысціянства на Стараж. Русі пачала распаўсюджвацца стараслав. мова, якая ў сваёй аснове з'яўлялася старажытнабалгарскай. У 9—10 ст. у Балгары на гэту мову былі перакладзены з грэч. арыгіналаў паасобныя кнігі Старога і Новага запаветаў, зборнікі жыцій святых, творы айцоў царквы, царк. і манастырскія статуты, служэбнікі, трэбнікі, актоіхі, мінеі, трыёдзі, кандакары, пацерыкі, кормчыя, хранографы, аповесці і інш. Гэтыя жанры царк. л-ры перапісваліся для патрэб царквы ўсх. славянамі. Стараслав. мова такіх твораў пад уздзеяннем мясц. усх.-слав. гаворак змянялася, набывала новыя рысы і страчвала многія старыя. Такую відазмененую на ўсх.-слав. глебе стараслав. мову прынята называць царкоўна-славянскай. У Стараж. Русі паступова паявіліся самаст. пераклады з грэч. мовы («Хроніка» Георгія Амартола, «Гісторыя іудзейскай вайны» Іосіфа Флавія, «Аповесць пра Акіра прамудрага») і арыгінальныя творы на царк.-слав. мове («Жыціе Феадосія Пячэрскага», «Слова аб законе і божай ласцы» мітрапаліта Іларыёна, «Сказанне аб Барысе і Глебе»). Рэліг. пісьменнасць на царк.-слав. мове шырока выкарыстоўвалася і на тэрыторыі Беларусі перыяду Стараж.-рус. дзяржавы. У 19 ст. ў бел. гарадах знойдзены важныя помнікі стараслав. пісьменнасці — самы вялікі па аб'ёму т. зв. Супрасльскі рукапіс, Тураўскае і Дабрылава евангеллі 11—12 ст. і ўрывак стараслав. Псалтыра, вядомы пад назвай «Слуцкія лісткі». Гэтыя помнікі, як мяркуюць даследчыкі, ствараліся ў інш. частках слав. свету, але знаходжанне іх у бел. гарадах сведчыць аб зацікаўленасці продкаў беларусаў да кніжнай царк.-слав. асветы. Такія помнікі служылі ўзорамі для іншых, больш позніх спісаў. З арыгінальных рэліг. твораў таго часу асабліва вылучаюцца словы, прапаведзі, казанні, павучанні, малітвы выдатнага прамоўцы і публіцыста тураўскага епіскапа Кірыла [каля 1130(?) — 1182]. Кірыл Тураўскі — стараж. кніжнік, які дасканала валодаў царк.-слав. мовай. Словы і прапаведзі яго вызначаюцца бліскучай знешняй формай. Ён умела выкарыстоўваў прыёмы красамоўства візант. прапаведнікаў. Творы яго насычаны алегорыямі, проціпастаўленнямі і інш. сродкамі красамоўства. З пісьмовых крыніц вядома,

**«Цар Давід».** Гравюра з тытульнага ліста «Псалтыра» Ф. Скарыны. 1517.



што перапіскай царк. кніг займалася славутая ігумення *Ефрасіння Полацкая*. Пісьменнік таго часу Аўраамій Смаленскі складаў асобныя зборнікі па творах Іаана Златавуста і Яфрэма Сірына. З тагачаснай агіяграфічнай л-ры захаваліся «Жыціе Ефрасінні Полацкай», створанае, відаць, у Полацку неўзабаве пасля яе смерці, і «Жыціе Аўраамія Смаленскага», напісанае яго вучнем Яфрэмам у Смаленску ў пач. 13 ст. Значна больш рэліг. помнікаў з бел. тэрыторыі дайшло ад 13—14 ст. Гэта па-майстэрску напісаны «Псалтыр» 1296, а таксама евангеллі — Аршанскае, Друцкае, Лаўрышаўскае, Мсціжскае і Полацкае, якія захоўваюцца ў б-ках Масквы, Ленінграда і Вільнюса. Царк.-слав. помнікі, створаныя на Беларусі ў 12—14 ст., працягваюць пісьмовыя традыцыі Стараж. Русі, мясц. моўныя рысы ў іх яшчэ не адлюстроўваюцца. Стараж. кніжнікі старанна захоўвалі нормы стараслав. мовы ў рэліг. тэкстах.

Пасля Крэўскай уніі 1385 у Вял. кн. Літоўскім пачала пашырацца каталіцкая вера і царк.-слав. пісьменнасць прыйшла ў заняпад. У рэліг. творы пачалі пранікаць шматлікія бел. моўныя рысы фанетыкі, граматыкі і лексікі. Тыповы ўзор помнікаў гэтага роду — Чэцця 1489, перапісчык якой паповіч Бярозка з Навагрудка імкнууся зблізіць мову царк.-слав. тэксту з мясц. беларускай. Бел. моўныя рысы пранікалі і ў царк.-слав. творы больш позняга часу. У 15—16 ст. рэліг. пісьменнасць на Беларусі бытавала пераважна ў выглядзе рукапісных псалтыроў, евангелляў, пралогаў, міней, чэццяў, зборнікаў жыцій святых і інш. Да рэліг. твораў у моўных адносінах прымыкаюць перакладныя навук. логіка-філас. і мед. трактаты, творы касмаграфічнага і энцыклапедычнага зместу, з якіх цяпер вядомы толькі «Лапатачнік», «Логіка», «Касмаграфія», «Шасцікрыл» і «Арыстоцелевы вароты». Насычэнне царк.-слав. рэліг. і навук. тэкстаў бел. моўнымі рысамі прывяло да ўзнікнення асобнага, бел. варыянта царк.-слав. мовы, які існаваў на працягу 15—17 ст. і прыкметна адрозніваў мову бел. тэкстаў ад мовы рэліг. помнікаў тагачаснай Рускай Дзяржавы.

Яркі ўзор бел. варыянта царк.-слав. мовы — неперакладныя выданні С.: пражскі «Псалтыр» 1517 і віленскія «Малая падарожная кніжка» 1522 і «Апостал» 1525. Традыцыйная царк.-слав. мова гэтых помнікаў значна парушана з-за прыкметнага насычэння яе фанетычнымі, граматычнымі і нават лексічнымі беларусізмамі. У арфаграфіі скарынінскіх выданняў вылучаюцца такія рысы, як змяшэнне **ѣ** і **е**, прычым часцей за ўсё ўжываецца літара **е** на месцы **ѣ** **(вера, ветрѣ, гневѣ, дело, лето)**, адлюстраванне пераходу **у** ў **ў** (нескладовае) **вбогь, вже, вченики, вчинити, навченый**, ужыванне **е** замест **ѧ** **(десеть, паметь, помену, свезати, тысеща)**, наяўнасць прыстаўнога галоснага **и** **(игде, илживый, илняный, ильстивый, иртуть)**, ужыванне **ж** і **ч** замест **жд** і **щ** **(ежь, надежа, одежа, поропчють, стеречи)**. Адрозненні мовы скарынінскіх выданняў ад традыц. царк.-слав. мовы выяўляюцца таксама і ў граматычным ладзе. Адны з іх маюць спарадычны характар, інш. вытрымліваюцца больш паслядоўна і выступаюць у якасці варыянтных форм. У параўнанні з царк.-слав. тэкстамі ў выданнях С. часцей ужываюцца канчатак **-у(-ю)** у родным склоне назоўнікаў муж. роду **(мечу, недостатку; разуму, часу)**, канчатак **-ови(-еви)** у давальным склоне **(еллинови, мужеви, олтареви)**, канчатак **-ове (-еве)** у назоўным склоне мн. ліку **(богове, мужеве, судове)**, формы роднага склону мн. ліку з канчаткам **-ей** **(болезней, дней, людей, путей, скорбей** пры формах **болѣзній, дній, людій, путій, скорбій** царк.-слав. тэкстаў). Асабовы займеннік **ты** і зваротны **себя** ў давальным і месным склонах ужываюцца ў выглядзе **тобе, собе** (пры формах **тебѣ, себѣ** царк.-слав. тэкстаў). Энклітычным царк.-слав. формам займеннікаў **ми, ти, мя, тя** ў С. вельмі часта адпавядаюць поўныя формы **мне, тобе, мене, тебе.** Прыналежныя займеннікі **мой, твой, свой** у назоўным і вінавальным склонах мн. ліку ўжываюцца з канчаткам **-е (мое, твое, свое** пры формах **мои, твои, свои** царк.-слав. тэкстаў). Прыметнікі ў родным склоне адз. ліку часта маюць канчатак **-ого(-его) (вечного, днешнего, доброго, светого).** З такім жа канчаткам выступаюць і дзеепрыметнікі **(венчающего, живущего, лежащего, покорившего, уповающего).** Прыметнікі і дзеепрыметнікі ў родным склоне адз. ліку часта забяспечваюцца канчаткам **-ое(-ее) (доброе, духовное, даное, бывшее, сущее).** У назоўным склоне мн. ліку яны маюць канчатак **-ые,-ие (златые, злые, старые, живущие, приходящие).** У сістэме дзеяслова найб. паказальнай рысай, якая збліжае мову неперакладных выданняў С. з жывой нар. мовай, з'яўляецца паслядоўнае ўжыванне мяккага канчатка **-ть** у формах 3-й асобы цяперашняга часу абодвух лікаў **(береть, живеть, идеть, имуть).** Вылучаюцца таксама формы цяперашняга часу і загаднага ладу 1-й асобы мн. ліку з канчаткамі **-мо** і **-мы (любимо, поспешимо, придемо, живемы, умремы)** і формы загаднага ладу 2-й асобы мн. ліку без ненаціскнога **-и (будьте, видьте, избавте, ненавидьте, очистье** пры формах **будите, видите, избавите, ненавидете, очистите** царк.-слав. тэкстаў). У сістэме прошлага часу ў С. часта ўжываецца перфект у такіх умовах, дзе ў царк.-слав. тэкстах заканамерным выступае аорыст: **избавиль, негодоваль, положиль, возложил** у адпаведнасці з царк.-слав. **избави, негодова, положи, возложиша.**

Шырока адлюстраваны ў С. і лексічныя замены. Напр., слову **страна** царк.-слав. тэкстаў у С. адпавядае **бокѣ**, адпаведна **благий — добрый, владыка — господарь, время — часѣ, глагол — слово, зело — ведми, зрети — видети, конобъ — горнецъ, нищий — бедный, обрести — знаити, послание — листъ, риза — одежа, риторъ — мовца, трапеза — столъ, упование — надежа, усмаръ — кожеделъ, узилище — темница** і г. д. Адносна мовы пражскага «Псалтыра» сам С. заўважыў, што ён выдаў гэту кнігу «не рушаючи самое псалѣтыри ни в чем же». З гэтага можна зрабіць вывад, што падобныя беларусізмы ўжо раней трапілі ў спісы, якімі карыстаўся С. пры выданні сваіх кніг (гл. *Мова «Апостала» Ф. Скарыны, Мова «Псалтыра» Ф. Скарыны*). Усе граматычныя асаблівасці, якія характарызуюць неперакладныя выданні С., выяўляюцца таксама і ў яго перакладных біблейскіх кнігах з той толькі розніцай, што тут яны праводзяцца больш шырока і паслядоўна.

Шматлікія беларусізмы назіраюцца ў многіх рукапісных псалтырах таго часу, а таксама ў інш. царк.-слав. помніках той эпохі. Бел. варыянт царк.-слав. мовы стварыўся не толькі ў выніку стыхійнага пранікнення ў рэліг. пісьменнасць граматычных і лексічных асаблівасцей мясц. бел. гаворак, але і шляхам свядомай апрацоўкі рэліг. твораў у бок збліжэння з нар. мовай. Прыклад — тэксталагічная апрацоўка «Евангелля» Васілём *Цяпінскім*, які каля 1580 пераклаў гэты твор на бел. мову і выдаў яго паралельна з царк.-слав. тэкстам. Імкнучыся найб. дакладна перадаць тонкія сэнсавыя адценні арыгінала і старанна вывучыўшы наяўныя крыніцы, Цяпінскі выяўляў пэўныя тэкставыя разыходжанні ў царк.-слав. рэдакцыях Евангелля. У такіх выпадках ён уносіў у царк.-слав. тэкст свайго выдання лексічныя варыянты, якія здаваліся яму найб. правільнымі, а розначытанні інш. крыніц змяшчаў у *глосах* на палях кнігі.

Бел. моўныя рысы ў друкаваных кнігах на царк.-слав. мове пачалі прыкметна знікаць у апошняй трэці 16 ст. Гэтаму садзейнічала пашырэнне кнігадрукавання, паяўленне на Беларусі маскоўскіх першадрукароў Івана *Фёдарава* і Пятра *Мсціслаўца*, якія друкавалі тут кнігі на царк.-слав. мове маскоўскага тыпу. У 1581 Фёдараў выдаў *«Астрожскую біблію»*, якая стала эталонам царк.-слав. мовы для ўсіх усх. славян. Друкаваныя кнігі канца 16 — пач. 17 ст. служылі ўзорам для рукапіснай рэліг. л-ры, якая цяпер займала ўжо другараднае месца ў параўнанні з друкаванай кніжнай прадукцыяй. Усё гэта прывяло да паступовага выцяснення граматычных і лексічных беларусізмаў, што былі пашыраны ў бел. царк.-слав. пісьменнасці папярэдняй эпохі. Бел. друкаваныя кнігі на царк.-слав. мове 17—18 ст. цалкам арыентаваліся на велікарускі тып царк.-слав. мовы і не адрозніваліся ад царк.-слав. пісьменнасці Рускай дзяржавы.

У 16 і 17 ст. сфера выкарыстання царк.-слав. мовы значна звузілася за кошт пранікнення бел. мовы ў некат. жанры рэліг. л-ры (гл. *Старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова*). Асн. месца сярод друкаваных выданняў таго часу займала богаслужэбная і наогул рэліг. л-ра ў выглядзе евангелля, псалтыра, часаслоўца, служэбніка, малітваслова, паўустава, трыёдзі, канонікa, акафіста, актоіха і г. д. Гэта абмежаваная па сваёй грамадскай ролі пісьменнасць на царк.-слав. мове фактычна аказалася ў баку ад агуль-

нага працэсу развіцця бел. літаратурнай мовы, замыкаючыся ў вузкай галіне свайго выкарыстання і не аказваючы прыкметнага ўздзеяння на мову інш. жанраў бел. пісьменнасці.

У эпоху вострай барацьбы паміж праваслаўем і каталіцызмам прыхільнікамі праваслаўя рабіліся спробы адрадзіць царк.-слав. мову, аднавіць яе ранейшы аўтарытэт і павысіць грамадскую ролю. Царк.-слав. мова стала прадметам абавязковага навучання ў тагачасных брацкіх школах, для якіх выдаваліся азбукі, буквары, граматыкі і слоўнікі. Аднак існуючая рэчаіснасць прымушала і правасл. дзеячаў усё часцей звяртацца да бел. мовы ў творах рэліг. прызначэння. Аб заняпадзе царк.-слав. мовы неаднаразова гаварылі Сымон *Будны*, Цяпінскі, Андрэй *Курбскі*, езуіт П. Скарга і уніят Л. Крэўза. Многія выдаўцы таго часу пераклад рэліг. твораў на бел. мову тлумачылі слабым знаёмствам чытачоў з царк.-слав. мовай. Такія тлумачэнні ёсць у прадмовах да «Евангелля вучыцельнага» 1616, «Духоўных бясед Макарыя» 1627, «Лексікона» П. Бярынды куцеінскага выдання 1653 і царк.-слав.-польскага «Лексікона», выдадзенага ў Супраслі ў 1722. З уз'яднаннем Беларусі з Расіяй мясц. царк.-слав. друкарні паступова спынялі сваю дзейнасць, а патрэбы правасл. царквы задавальняліся прывазнымі кнігамі маскоўскага сінадальнага друку.

*Літ.:* 583; Соболевский А. И. История русского литературного языка. Л., 1980.

*А. І. Жураўскі.*

**ЦА́РСКІ** Іван Мікітавіч (? — 1853), купец, калекцыянер рукапісаў і старадрукаваных кніг, чл. Маскоўскага т-ва гісторыі і старажытнасцей пры Маскоўскім ун-це, Рускага археал. т-ва і Рускага геагр. т-ва. У б-цы Ц. было 850 рукапісаў і 444 старадрукаваныя выданні, у т. л. 18 пражскіх выданняў С., пераплеценых у 5 канвалютаў. У адным канвалюце (пераплецены ў 17—18 ст. у дошкі, пакрытыя скурай з цісненнем на карашку і старонках) кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон», у другім (пераплецены ў 19 ст. ў кардон, пакрыты скурай з залатым цісненнем, на карашку чырвоныя скураныя ярлыкі з надпісам: «Біблія Скарыны» і лічба «2», на адвароце верхняй вокладкі экслібрыс: «Из библиотеки Ив. Ник. Царского») кн. «Ісус Навін», «Суддзі», «Руф», у трэцім — кн. «Царствы», у чацвёртым — кн. «Юдзіф», «Эсфір», «Іоў», у пятым — «Прытчы Саламона», «Еклесіяст», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Ісус Сірахаў», «Прарок Данііл». 3-і, 4-ы і 5-ы канвалюты пераплецены таксама, як і другі. Сярод рукапісаў — позні спіс кн. «Быццё», «Выхад» і «Левіт» і тэкст «Аб Скарыніных кнігах новадрукаваных полацкіх» у зборніку 18 ст. У 1917 б-ка паступіла ў *Гістарычны музей* у Маскве. Каталогі рукапісаў і старадрукаваных кніг б-кі Ц. складзены рус. археографам і гісторыкам П. М. *Строевым* і выдадзены ў 1836 і 1848.

*Літ.:* 752; 754. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ЦІТ** (Titus) Флавій Веспасіян (39—81), рымскі імператар з 79. Сын *Веспасіяна.*




Я. Ціхановіч. Францыск Скарына. 1975.

В. Ціханаў. Слова аб Радзіме. Францыск Скарына. 1980.



У час Іудзейскай вайны захапіў і разбурыў Іерусалім (70). Ц. упамінаецца ў прадмове С. да кн. «Плач Ераміі», дзе гаворыцца аб прароцтве пра разбурэнне Іерусаліма.

**ЦІХАНА́Ў** Віктар Пятровіч (н. 1955), беларускі сав. мастак. Аўтар дыпціха «Слова аб Радзіме. Францыск Скарына» і «Песня-ўспамін. Мікола Гусоўскі» (дрэва, ляўкас, тэмпера, разьба, 132×64 см, Дзярж. музей БССР, 1980). Вобраз С. просты і ўрачысты. С. ў доктарскай мантыі, берэце, з разгорнутай кнігай у руках. Мастак выкарыстаў гравюрны партрэт С. Уверсе злева змешчаны кніжны знак С.—сонца і месяц, справа глобус нябеснай сферы. Рэльефнае разьбяное лісце і кветкі прыгожа пераплятаюцца, запаўняюць свабодную паверхню фону. У 1982 Ц. выканаў (з В. Барабанцавым) вял. сцянны фрэскавы роспіс «Горад юнацтва» (памер сцяны 10×6,5 м у Мінскай СШ № 67), у кампазіцыю якога арганічна ўведзены постаці славутых сыноў бел. народа: С., К. Каліноўскага, бацькі Міная, Р. Шырмы, Б. Тарашкевіча, Я. Купалы і прадстаўнікоў маладога пакалення, якія панясуць далей іх эстафету. С. паказаны ў поўны рост на фоне стараж. горада. Ён у доктарскай мантыі і берэце, правая рука паднята, левая свабодна адкінута ў бок стоса надрукаваных ім кніг і яго кніжнага знака. *А. Я. Белы.*

**ЦІХАНО́ВІЧ** Генрых Яўгенавіч (н. 1937), беларускі сав. мастак. У 1975 выканаў экслібрыс у тэхніцы лінарыту для мастацтвазнаўцы В. Шматава. На экслібрысе сюжэт гравюрнага партрэта С. Аўтар карціны «Францыск Скарына» (1986; палатно, алей, 140×120 см, уласнасць аўтара), на якой С. паказаны з раскрытай кнігай на каленях. У сціплым пакоі вучонага толькі неабходныя рэчы: стараж. рукапісныя кнігі, дакументы, вытанчанай формы гліняныя сасуды, пясочны гадзіннік.

**ЦІХАНО́ВІЧ** Яўген Мікалаевіч (н. 1911), беларускі сав. мастак. Аўтар экслібрыса калекцыянера Б. А. Вілінбахава (1968, лінагравюра), які нагадвае гравюрны партрэт С. У 1975 выканаў у тэхніцы сухой іголкі партрэт С. (28×18,5 см — Дзярж. маст. музей БССР) таксама на аснове партрэта з «Бібліі», дапоўнены радкамі тэксту С. з прадмовы да кн. «Юдзіф». У экслібрысе драматурга А. Петрашкевіча (1980, афорт) выкарыстаў вядомы аўтапартрэт С., дапоўніў яго эмблемамі Вял. кн. Літоўскага і Бел. Сав. Энцыклапедыі. У 1982 у тэхніцы афорта выканаў экслібрыс мастака Я. Куліка. *Б. А. Крапак.*

**ЦЫРКУНО́Ў** Аляксандр Іванавіч (н. 1948), беларускі сав. мастак. У 1984 напісаў карціну «Першадрукар Францыск Скарына» (палатно, алей, 140×130 см; уласнасць аўтара). С. паказаны на фоне друкарскага станка з кнігай і запаленай свечкай у руках — сімвалам святла, ідэі асветніцтва, якой С. прысвяціў сваё жыццё. У 1986 выканаў пагрудны партрэт «Асветнік Францыск Скарына» (палатно, алей, 100×80 см; уласнасць аўтара).

**ЦЫЦЭРО́Н** (Cicero) Марк Тулій (106 — 43 да н. э.), старараж.-рымскі дзярж. дзеяч, прамоўца, пісьменнік, філосаф. Консул у 63 да н. э. Светапогляд Ц. склаўся пад уплывам філасофіі элінізму (акадэмічнай, перыпатэтычнай, стаічнай, эпікурэйскай філас. сістэм) і грамадска-паліт. ідэалаў Рымскай рэспублікі. Як філосаф Ц. гал. задачай лічыў асвету суграмадзян, выхаванне іх у духу любві да мудрасці і дабрачыннасці, імкненне да самаўдасканалення, барацьбу з забабонамі і дагматызмам. Гуманістычнасць яго поглядаў выявілася ў прызнанні высокай годнасці чалавека і яго свабоды, сцвярджэнні магчымасці чалавечага шчасця, абгрунтаванні грамадскіх і маральных абавязкаў людзей, у высокай ацэнцы дружбы, чалавекалюбства, справядлівасці, міласэрнасці. Каб давесці да свядомасці людзей вышэйшыя маральныя ідэалы і каштоўнасці, дапамагчы чалавеку стаць лепшым, Ц. звяртаўся да мовы, даступнай масам, выкарыстоўваў маст. формы выкладання сваіх ідэй. У паліт. тэорыі быў блізкі да ідэі натуральнага права, лічыў ідэалам дзярж. будовы Рымскую рэспубліку, дзе спалучаліся элементы дэмакратыі, арыстакратыі і манархіі. Ц.—адзін са стваральнікаў і класікаў лац. літаратурнай мовы. Яго творы былі шырока вядомы ў перыяд позняй антычнасці і ў сярэднявеччы. Асабліва вял. ўплыў аказалі маральна-філас. і сац.-паліт. ідэі Ц. на фарміраванне гуманіст. культуры эпохі Адраджэння. З вял. літаратурнай спадчыны Ц. захаваліся 58 прамоў, трактаты па рыторыцы («Аб прамоўцы», «Брут»), палітыцы («Пра дзяржаву», «Пра законы»), філасофіі («Аб прыродзе багоў», «Пра лёс» і інш.), маралі («Тускуланскія гутаркі», «Пра дружбу», «Пра абавязкі» і інш.).



Цыцэрон.

Кнігі Ф. Скарыны з **Цэнтральнага Дзяржаўнага архіва старажытных актаў.**

У часы С. творы Ц. былі не толькі абавязковай крыніцай свецкай адукаванасці, але і складанай часткай універсітэцкай падрыхтоўкі ў буйнейшых навучальных установах Еўропы. У 16 ст. яны неаднаразова выдаваліся, уключаліся ў бібліятэчныя зборы на тэр. Вял. кн. Літоўскага. У Кракаўскім ун-це, дзе вучыўся С., на ф-це вольных мастацтваў Ц. вывучалі, як і Арыстоцеля. *Ян са Стобніцы* — універсітэцкі выкладчык С.— напісаў каментарыі да твораў Ц. Успрыняццю С. ідэй Ц. садзейнічала глыбокае засваенне бел. мысліцелем гуманіст. культ. спадчыны Адраджэння, у якой Ц. разглядаўся як узор сапраўднай мудрасці і крыніца творчага натхнення. У светапоглядзе С. адчувальны ўплыў ідэй Ц., іх збліжаюць агульныя для абодвух мысліцеляў гуманіст. ідэалы і асв. пафас дзейнасці. Як і Ц., С. аддаваў перавагу сац.-актыўнаму, дзейнаму, грамадска карыснаму жыццю, прысвечанаму служэнню «посполитому доброму». Гэта абумовіла адзінае для Ц. і С. разуменне філасофіі як практычнай муд-

расці, закліканай даць адказы на праблемы, што стаяць перад чалавекам,— «абы, научившися мудрости», людзі добра жылі на свеце (гл. с. 37). Прызнаючы высокую годнасць чалавека і яго свабоды, С. ўслед за Ц. да ліку гал. дабрачыннасцей адносіў справядлівасць, «братолюбие», «други любие», «незлобие» (гл. с. 186). У прадмове да кн. «Эсфір» С., фармулюючы сваё разуменне грамадскага абавязку — «не толико сами собе народихомся на свет, но более ко служб҄ѣ божией и посполитого доброго» (гл. с. 150), па сутнасці, перафразоўвае выказванні Ц. з яго трактата «Пра абавязкі». Асветніцтва і гуманізм — тыя рысы поглядаў Ц., якія глыбока праламіліся і развіты ў творчасці С.

*Літ.:* Цицерон: Сб. статей. М., 1958; Цицерон: 2000 лет со времени смерти. М., 1959; Утченко С. Л. Цицерон и его время. М., 1972. *Г. У. Грушавы.*

**ЦЭНТРА́ЛЬНАЯ БІБЛІЯТЭ́КА АН ЛІТО́ЎСКАЙ ССР.** Заснавана ў 1941 у Вільнюсе на базе б-к евангеліка-рэфарматарскага сінода (засн. ў 1557), б-кі імя Урублеўскіх (засн. ў 1925) і інш. У аддзеле рэдкай кнігі б-кі захоўваецца экз. кн. «Лічбы» [шыфр $\left(\frac{R-16}{1}\right)$], выдадзенай С. у Празе каля 1519 (аркушы 2—37). Тытульны ліст і арк. 38—74-ы адсутнічаюць. У 1920-х г. кніга належала Бел. музею ў Вільні, рукапісы і старадрукі якога часткова перайшлі ў фонд б-кі (фонд 21 — Vilniaus baltarusių fondas XV—XXV).

*Літ.:* 206; Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974; Lietuvos TSR Mokslų akademijos centrinė biblioteka. Vilnius, 1959.

**ЦЭНТРА́ЛЬНАЯ НАВУКО́ВАЯ БІБЛІЯТЭ́КА АН УССР.** Засн. ў 1919 у Кіеве як Усенародная б-ка Украіны пры Усеўкраінскай АН. З 1948 Дзярж. публ. б-ка УССР, з 1965 наз. Цэнтр. навук. б-ка АН УССР. Тут захоўваюцца канвалют пражскіх выданняў С. (кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон»). Раней ён належаў царк. музею Кіеўскай духоўнай акадэміі, потым — музею Кіева-Пячэрскай лаўры. У аддзеле рукапісаў — 4 пражскія выданні С. (кн. «Ісус Сірахаў», «Юдзіф», «Прамудрасць божая», «Прытчы Саламона»), ўплеценыя ў рукапісны зб. канца 16 — пач. 17 ст.

*Літ.:* 695; История Центральной научной библиотеки Академии наук Украинской ССР. Киев, 1979. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ЦЭНТРА́ЛЬНЫ ДЗЯРЖА́ЎНЫ АРХІ́Ў СТАРАЖЫ́ТНЫХ А́КТАЎ,** найбуйнейшае ў СССР сховішча дакументаў і матэрыялаў па гісторыі феадалізму. Засн. ў 1925 на базе фондаў маскоўскіх архіваў Мін-ва замежных спраў, Мін-ва юстыцыі, Мін-ва двара і інш. дарэвалюц. архіваў як сховішча старажытнасцей Цэнтр. гіст. архіва, з 1931 — Дзярж. архіў феадальна-прыгонніцкай эпохі, з 1941 — сучасная назва. У архіве зберагаюцца: *Метрыка Вялікага княства Літоўскага*, важныя гіст. крыніцы па гісторыі Літвы, Беларусі, Украіны і рус. зямель, якія ўваходзілі ў склад Вял. кн. Літоўскага, шэраг дакументаў аб С., фонд Прыказа кніг друкарскіх спраў — найстарэйшага архіва выдавецка-паліграф. прадпрыемстваў Расіі; збор рукапісных і друкаваных кніг, у т. л. б-кі Маскоўскага Друкарскага двара і Маскоўскага архіва Мін-ва замежных спраў. У апошняй было 2 канвалюты з пражскімі выданнямі С. (у адным — кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон», у другім — 1-я і 2-я кн. «Царствы», кн. «Юдзіф», «Эсфір», «Руф», «Іоў», «Прарок Данііл»), «Псалтыр» і «Часасловец» 1522, «Апостал» 1525, 2-і экз. кн. «Царствы», якія раней належаў б-цы Маскоўскага Друкарскага двара (зберагаецца ў Дзярж. б-цы СССР імя У. І. Леніна). Усяго ў архіве (1984) 15 экз. выданняў С.: 12 пражскіх і 3 віленскія.

*Літ.:* Центральный государственный архив древних актов: Путеводитель. Ч. 1—2. М., 1946—47; Пташицкий С. Л. Описание книг и актов Литовской метрики. Спб., 1887. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ЦЮМЕ́НСКІ АБЛАСНЫ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны пасля Вял. Айчыннай вайны ў г. Цюмень. У б-цы музея захоўваюцца рэдкія кнігі канца 15—16 ст., у т. л. «Пяцікніжжа» С. (кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон»). Паступіла з калекцыі цюменскага і маскоўскага купца пач. 20 ст. Н. Чукмалдзіна, які набываў кнігі ў сталічных антыкварыятах. У бібліяграфіі гэты экз. «Пяцікніжжа» падрабязна не апісаны.

*Літ.:* 671; Покровский Н. Н. Рукописи и старопечатные книги Тюменского областного музея//Археография и источниковедение Сибири. Новосибирск, 1975.



Васіль Цяпінскі.

**ЦЯ́ПІНСКІ** (Амельяновіч) Васіль Мікалаевіч [1530-я г. (?) — 1603 (?)], беларускі пісьменнік, гуманіст, кнігавыдавец, адзін з паслядоўнікаў і прадаўжальнікаў культурна-асв. традыцый С. Нарадзіўся на Полаччыне ў сям'і дробнага гаспадарскага баярына Мікалая Амельяновіча. Імя Ц. ўпершыню ўпамінаецца ў дакумент. актах 1560-х г. Атрымаў універсітэцкую адукацыю. У 1567 Ц.— малодшы афіцэр коннай роты аршанскага старосты Ф. Кміты-Чарнабыльскага. Удзельнічаў у Лівонскай вайне 1558—83. Служыў у падканцлера літ. А. Б. Валовіча. Напэўна ў сваім родавым маёнтку Цяпіна (цяпер Чашніцкі р-н) заснаваў друкарню, дзе выдаў перакладзенае ім на бел. мову «Евангелле» (каля 1580, 2 экз. зберагаюцца ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе і Архангельскім краязнаўчым музеі) з прадмовай — адным з лепшых узораў бел. патрыят. публіцыстыкі 16 ст. (захавалася ў рукапісе). У прадмове Ц. падвяргае крытыцы духавенства, палітыку акаталічвання бел. народа. Кніга надрукавана ў 2 слупкі — на царк.-слав. і бел. мовах, са шматлікімі глосамі, спасылкамі на літаратурныя крыніцы. Пераклад на бел. мову добра апрацаваны. Выданне ўпрыгожана разнастайнымі ініцыяламі, наборным арнаментам. Відавочная стылізацыя пад віленскія выданні С. (падабенства шрыфтоў, ініцыялаў) сведчыць пра пераемнасць друкарска-выдавецкіх традыцый. Асв. праграма Ц. разлічана на ўздым нац. культуры, умацаванне грамадскіх пазіцый бел. мовы, абуджэнне актыўнасці, гіст. і нац. свядомасці бел. народа. Як і С., лічыў неабходным пераўтварыць сістэму школьнай асветы, зрабіць яе больш даступнай, разнастайнай, адпаведнай патрэбам усяго грамадства, у т. л. бедным людзям. Гэтай высакароднай мэце ён ахвяраваў сваю працу і значную частку небагатай маёмасці. Патрыятызм Ц. далёкі ад нац. абмежаванасці. Ён з павагай адзываўся пра народы інш. краін, падкрэсліваў гіст. і моўную роднасць слав. народаў, іх культ. спадчыну. Пры невял. разнастайнасці сац. поглядаў, ілюзорнасці разлікаў на духоўнае адраджэнне пануючых класаў у яго творчасці прысутнічаюць выразныя дэмакр. тэндэнцыі, арыентацыя на ўвесь бел. народ. Дзейнасць Ц. спрыяла зараджэнню, уздыму і кансалідацыі шырокага нац.-культ. і патрыят. руху на Беларусі ў канцы 16 — пач. 17 ст. Ц. блізка супрацоўнічаў з Сымонам *Будным*, падзяляў яго грамадска-паліт. і рэліг. погляды. Удзельнічаў у антытрынітарскіх сінодах 1570-х г., дыспутаваў з прадстаўнікамі радыкальнай Рэфармацыі.

*Літ.:* Довнар-Запольский М. В. В. Н. Тяпинский: Переводчик Евангелия на белорусское наречие//Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи. Киев, 1909. Т. 1; Описание изданий Несвижской типографии и типографии Василия Тяпинского//Описание старопечатных изданий кирилловского шрифта. М., 1985; Коршунаў А. Ф. Васіль Цяпінскі//Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мн., 1968; Галенчанка Г. Я. Васіль Цяпінскі — паслядоўнік скарынінскай справы//450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. *Г. Я. Галенчанка.*



**ЧАМЯРЫ́ЦКІ** Вячаслаў Антонавіч (н. 1936), беларускі сав. літаратуразнавец. Канд. філал. н. (1967). Супрацоўнік Ін-та літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Даследуе бел. стараж. л-ру, гісторыю бел. летапісання. Адзін з аўтараў раздзела «Францыск Скарына» ў кн. «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (на рус. мове, 1977), навукова-папулярнага нарыса «Францыск Скарына» (з Г. Я. Галенчанкам, В. Ф. Шматавым, ЮНЕСКА, Парыж, 1979—80, выд. адпаведна на франц. і англ. мовах). Аўтар арт. «Францыск Скарына і станаўленне беларускай літаратуры» (Беларускі асветнік Францыск Скарына і пачатак кнігадрукавання на Беларусі і ў Літве. М., 1979) і «Друкар кніг, перад тым нязнаных» (Маладосць. 1965. № 6), «Зорны час беларусаў» (Неман. 1969. № 7). У сваіх працах падрабязна асвятляе пытанні літаратурнай спадчыны С., яго ўклад у развіццё жанру прадмоў, перакладчыцкай справы, вершаскладання і інш. Важнае значэнне для правільнага разумення ролі С. ў гісторыі кніжнай паэзіі на землях усх. славян мае вывад Ч. аб тым, што С. празорліва прадугадаў тэндэнцыю будучага развіцця бел. паэзіі — ад свабоднай вершаванай формы праз сілабічную сістэму да сілаба-танічнай.

*Г. Я. Галенчанка.*

**ЧАПКО́** Валянціна Уладзіміраўна (н. 25.2. 1925), беларускі сав. гісторык. Д-р гіст. н. (1969), праф. (1976). Даследуе пытанні сац.-эканам. і паліт. гісторыі Беларусі 18 — 1-й пал. 19 ст. Першай на Беларусі абараніла канд. дысертацыю, прысвечаную С. (Грамадская і культурная дзейнасць Георгія Скарыны, 1953). Аўтар прац пра грамадскую, выдавецкую, перакладчыцкую дзейнасць С., яго сац.-паліт. і філас. погляды [брашура «Беларускі першадрукар Георгій Скарына», 1956, і арт. (з А. П. Грыцкевічам) «Эпоха Ф. Скарыны» ў зб. «450 год беларускага кнігадрукавання», 1968].

**ЧАРТКО́Ў** Аляксандр Дзмітрыевіч (1789—1858), рускі гісторык, археолаг, бібліёграф. Чл.-кар. Пецярбургскай АН (з 1842), з 1836 віцэ-прэзідэнт, у 1849—57 прэзідэнт Маскоўскага т-ва гісторыі і старажытнасцей расійскіх. Атрымаў па спадчыне багатую б-ку, дапоўніў яе і да канца жыцця сабраў каля 17 тыс. тамоў, у т. л. 235 рукапісаў і 716 старадрукаваных выданняў. У ліку апошніх выданні С.— даволі поўны экземпляр «Малой падарожнай кніжкі». Сваю б-ку апісаў у каталогу «Усеагульная бібліятэка Расіі, або каталог кніг для вывучэння нашай айчыны ва ўсіх адносінах і падрабязнасцях» (М., 1838 і 1845). Пасля смерці ўладальніка яго сын Р. А. Чарткоў падарыў б-ку гораду Маскве, потым яна ўвайшла ў склад б-кі *Гістарычнага музея.*

*Літ.:* А. Д. Чертков и его библиотека// Рус. архив. 2 изд. М., 1866. [Вып. 1]; Славяноведение в дореволюционной России: Биобиблиогр. словарь. М., 1979. С. 362—363.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**ЧАС НАРАДЖЭ́ННЯ І СМЕ́РЦІ Ф. СКАРЫ́НЫ.** Дакладных звестак пра час нараджэння і смерці С. не выяўлена. Ёсць толькі гіпотэзы. П. У. *Уладзіміраў* у 1888 выказаў думку, што С. нарадзіўся каля 1490 ці ў апошняй чвэрці 15 ст. Каля 1490, да 1490, у 1485—90 — такія даты прыведзены ў працах некат. сав. даследчыкаў (М. А. *Алексютовіч,* А. І. *Анушкін,* Я. Л. *Неміроўскі* і інш.). І. Галянішчаў-Кутузаў называе дату — каля 1485, С. А. Вярхрацкі — 1485—90. У 1925 М. М. *Шчакаціхін* выступіў з арыгінальнай гіпотэзай пра час нараджэння С., пабудаванай на вытлумачэнні сігнета С. (сонца і месяц), які нібыта адлюстроўвае сонечнае зацьменне, што адбылося ў дзень нараджэння С. Увагу Шчакаціхіна прыцягнулі 4 сонечныя зацьменні апошняй чвэрці 15 ст., адзначаныя ў летапісах 1476, 1486, 1487 і 1491. Не прымаючы пад увагу зацьменні 1476 і 1491 (яны не ўкладваліся ў рамкі яго гіпотэзы), даследчык прыйшоў да вываду, што зацьменне, якое можна звязаць з днём нараджэння С., адбылося 6.3.1486. Зацьменне 1487, на думку Шчакаціхіна, не было відаць у Полацку. Тут даследчык памыляецца. Паласа поўнага сонечнага зацьмення 20.7.1487 сапраўды праходзіла на паўночны ўсход ад Масквы, але яно ўспрымалася як частковае на тэрыторыі Літвы і Беларусі, у т. л. і на Полацкай зямлі. Апрача таго, Шчакаціхін не прыняў да ўвагі сонечныя зацьменні, не адзначаныя ў летапісах, але вядомыя з інш. крыніц. Гіпотэза Шчакаціхіна не вытрымлівае крытыкі і з другога пункту гледжання. Нішто не даказвае, што выява сонца і месяца ў выданнях С. непасрэдна звязана з датай яго нараджэння. Шчакаціхін адхіліў меркаванне Уладзімірава аб тым, што герб С.—знак добрага прадвесця. На яго думку, у традыцыях усх.-слав. і еўрап. сярэдневяковай пісьменнасці ў летапісах і ў астралогіі выява і само зацьменне заўсёды азначалі дрэннае прадвесце. Апісаныя ў рус. і бел. летапісах зацьменні часцей за ўсё прадвяшчалі вял. беды, хоць некат. з іх, паводле звестак летапісцаў, маглі прадвяшчаць і добрае. У вытлумачэнні значэння герба С. можна дапусціць іншыя версіі. Магчыма, што сігнет С. быў распаўсюджаным на той час астралагічным сімвалам, які выражаў дуалістычнае ўяўленне аб свеце (барацьба зла і дабра, цёмных і светлых сіл). Многія біблейскія кнігі, у т. л. выдадзеныя С. у Празе ў 1517—19, адлюстроўвалі гэтыя стараж. ўяўленні, вядомыя ўсім рэлігіям. Магчыма, што ў гэтым знаку С. бачыў сімвалічнае адлюстраванне духоўнай ролі кнігадрукавання, што рассейвае змрок і невуцтва, усталёўвае ідэі ўзвышаныя і нават божыя.

Рэальных фактаў для вызначэння хаця б прыблізнай даты нараджэння С. няшмат. Увагу даследчыкаў найперш прыцягнуў гравюрны партрэт С., дата вырабу — 1517. Спробы вучоных вызначыць узрост С. паводле партрэта

прывялі да нечаканых вынікаў. Уладзіміраў лічыў, што на гравюры С. паказаны ва ўзросце прыкладна 28 гадоў. На думку А. Ясінскага, на аснове партрэта можна зрабіць вывад, што С. нарадзіўся ў 1470-я г. і ў 1517 меў 40—45 гадоў, г. зн. быў сталым мужчынам з вял. жыццёвай практыкай, якая была вельмі патрэбна для такой цяжкай і важнай справы, як пераклад і выданне Біблії. Супастаўленне лічбаў 28 і 45 паказвае, што партрэт С. з'яўляецца вельмі няпэўным сведчаннем яго ўзросту. Больш надзейная аснова — іматрыкуляцыйны (уступны) запіс у альбоме Кракаўскага ун-та ў зімовы семестр 1504: «Францыск сын Лукі з Полацка — 2 грошы ўступнага ўзносу». У Кракаўскі ун-т, як і ў большасць іншых ун-таў Еўропы, студэнтаў запісвалі з 14 гадоў. Аднак здаралася, што, кіруючыся прэстыжнымі меркаваннямі, бацькі ўпісвалі ва універсітэцкія матрыкулы прозвішчы сваіх непаўналетніх дзяцей. Але гэта былі звычайна выхадцы са знатных сямей. «Скаляры», якія не мелі рэгламентаванага статутам ун-та ўзросту, як правіла, не прыносілі прысягі, пра што ў кнізе іматрыкуляцый рабіўся адпаведны запіс. Іматрыкуляцыя С. не мае такой адзнакі. Таму можна лічыць амаль бясспрэчным, што С. быў прыняты ва ун-т пасля дасягнення 14 гадоў. Не выключана, што ў Кракаўскі ун-т мог паступіць «скаляр» у 16—20 і болей гадоў. У іматрыкуляцыйных кнігах ун-таў можна знайсці прозвішчы студэнтаў 30-гадовага ўзросту. Трэба мець на ўвазе, што С. вымушаны быў прайсці дадатковы этап навучання ў адной са школ (Полацка або Вільні), якая знаходзілася ў веданні каталіцкай царквы, бо традыцыйная («руская») сістэма адукацыі не прадугледжвала латыні — абавязковай умовы паспяховага навучання ў любым ун-це тагачаснай Еўропы. Гэта магло адбіцца на тэрмінах паступлення С. ў Кракаўскі ун-т. У першым прадстаўленні С. мед. калегіі Падуанскага ун-та 5.11.1512 віцэ-прыёр Ф. Мусаці двойчы назваў яго адукаваным маладым чалавекам, хоць і бедным. У гэты час С., відаць, споўнілася не менш як 22 гады, але і не намнога больш. Інакш тэрмін «малады чалавек» быў бы неправамерным. У дакументах Падуанскага ун-та ад 6 і 9.11.1512 С. называецца толькі доктарам свабодных навук, майстрам (без указання ўзросту), што хутчэй за ўсё было звязана з афіц. характарам экзаменацыйных актаў. У каралеўскіх актах канца 1520—30-х г. С. часам называецца сталым мужам, вядомым сваёй мед. дзейнасцю і шырокімі ведамі ў інш. навуках. Пры існуючым стане навук. звестак можна прыняць 1490 як умоўную, прыблізную дату нараджэння С.

Зімовы семестр у Кракаўскім ун-це пачынаўся з 19 кастрычніка і працягваўся да 4-га тыдня вял. посту наступнага года, у 1505 ён завяршыўся 1 сакавіка па юліянскім календары. Запісы кракаўскага альбома сведчаць, што студэнты запісваліся ў ун-т на працягу ўсяго семестра. Калі лічыць, што С. сапраўды нарадзіўся ў 1490, то ў дзень іматрыкуляцыі яму было максімум 15 гадоў 2 месяцы, мінімум 13 гадоў 8 месяцаў.

Пра дату смерці С. можна меркаваць гал. ч. па працах А. В. *Флароўскага*. Ён звярнуў увагу на апісанне пажару ў Празе (2.6.1541), складзенае чэшскім храністам В. Гаекам з Лібачан. У той жа год брашура Гаека была надрукавана ў Празе, а таксама ў Аўгсбургу. Упамінаючы пра трох загінуўшых у доме візнага пражскага культ. дзеяча ксяндза Яна з Пухава, Гаек называе ў іх ліку «падлетка Францішка, сына нябожчыка доктара Руса». На думку Флароўскага, размова ідзе пра сына С., які таксама меў імя Францыск. Меркаванне пра тоеснасць С. з упомненым доктарам Русам катэгарычна падтрымаў Алексютовіч, які адзначыў, што невядомы выхадцы з усх. славян, апрача С., якія б у 16 ст. мелі вучоную ступень доктара. Аднак у матэрыялах еўрап. ун-таў 15—16 ст. зрэдку сустракаюцца звесткі пра бел., укр. і рус. студэнтаў, якія атрымалі вучоную ступень (напр., Юрый Катэрнік з Драгобыча, «Рус» атрымаў ступень доктара медыцыны ў 1482). Таму гіпотэзу Флароўскага, нягледзячы на яе значную праўдападобнасць, нельга лічыць поўнасцю даказанай. У 1936 Флароўскі апублікаваў другі важны дакумент, выправіўшы памылкі ранейшага выдання: акт чэш. караля Фердынанда Габсбурга ад 29.1. 1552, які прызнае юрыд. права на маёмасць памёрлага «доктара Францішка Руса Скарыны з Полацка» за яго сынам Сіміёнам. У л-ры выказана меркаванне, што Сіміён Скарына мог прад'явіць свае правы на спадчыну бацькі пасля дасягнення паўналецця, гэта значыць, праз значны час пасля смерці бел. першадрукара. У акце, аднак, не ўпамінаюцца апекуны Сіміёна Руса, якія неслі адказнасць за захаванасць маёмасці яго бацькі, што было звычайнай справай у тых выпадках, калі размова ішла пра маёмасныя інтарэсы асобы, якая не дасягнула яшчэ сталага ўзросту. Аднак гэтыя меркаванні не маюць падставы, так як жонка С. памерла ў 1529, пакінуўшы малалетняга сына Сіміёна, які ў 1552 быў ужо даволі сталым чалавекам. На гэтай падставе можна лічыць, што каралеўскі акт выдадзены хутка пасля смерці С. і што С. памёр не пазней 29.1.1552.

*Літ.:* 6; 39; 69; 312; 332; 344; 377.

*Г. Я. Галенчанка.*

**«ЧАСАСЛО́ВЕЦ»,** «Часословец имея ношъную і дневную служ-бу по уставу Ерусалимское церкви и прочихъ восточъ-нихъ обителем», віленскае выданне С., якое выйшла ў свет каля 1522. Уваходзіць у *«Малую падарожную кніжку»*. На арк. 1-м адв.— 8-м змешчаны тэкст «Полунощъница повседневная», 8—15-м адв.— «Утреня», 15-м адв.— 18-м адв.— «Часъ перъвый», 18-м адв.— 19-м адв.— «Межъдочасие часа перъвагo», 19-м адв.— 20-м адв.— «Часъ трети», 20-м адв.— 22-м — «Межъдочасие третего часа», 22—23-м — «Час шесты», 23-м адв.— «Межъдочасие шесътаго часа», 24-м адв.— 26-м — «Часъ девяты», 26—27-м — «Межъдочасие девятого часа», 27—28-м — «Обедница», (1)—(4)— «Канон молебен пресвятеи Богородици», 1—4-м 2-га ліку — «Покаяльный канонъ», 5—10-м адв. 2-га ліку — «Вечерня вседневная», 10-м адв. — 19-м 2-га ліку — «Павечеръница великая», 19— 20-м адв. 2-га ліку — «Павечеръница малая», 21—28-м 2-га ліку — «Полунощъница по вся недели». На арк. 28-м 2-га ліку змешчана таксама пасляслоўе:



Да арт. **Час нараджэння і смерці Ф. Скарыны.** В. Маркавец. Полацк. 6 сакавіка 1486 года. 1986.

«Доконан ест Часословецъ имея денную и нощную службу працею и пилностию доктора Франциска Скорины с Полоцка у великославном месте Виленском». Гэта адзінае ў «Малой падарожнай кніжцы» ўказанне на месца друкавання выдання. Час выхаду ў свет не ўказаны. Ненумараваныя аркушы паміж аркушамі 1-га і 2-га ліку, а таксама першыя 4 арк. 2-га ліку ў розных экземплярах «Ч.» ўплецены па-рознаму. Так, у экз. Дзярж. Гіст. музея ў Маскве (ДГМ, Меньш. 1430) ненумараваныя аркушы ўплецены пасля арк. 20-га 2-га ліку, у экз. Дзярж. б-кі СССР імя У. І. Леніна (ДБЛ, № 2045) — паміж арк. 28-м 1-га ліку і арк. 5-м 2-га ліку. «Покаялъный» канон існуе і як самастойнае выданне. Мова «Ч.» — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём кнігі — 60 арк., якія сабраны ў 7 васьміаркушавых і адзін 4-аркушавы сшыткі. Фармат выдання — у 8-ю долю аркуша. На паласе 20 радкоў. Набор выкананы віленскім шрыфтам С.— вышыня 10 радкоў 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя змешчана на верхнім баку аркуша ўверсе справа ў 2 лікі: 1—28, 4ннм, арк., 1—28. У верхняй частцы палос — калонтытулы. Кніга надрукавана дзвюма фарбамі. Маст. аздоба «Ч.» — застаўкі-віньеткі (32 адбіткі; падлічана па няпоўным экз.) і ініцыялы (157 адбіткаў, падлічана па няпоўным экз.). Тэкст тытульнага ліста размешчаны ў рамцы з 4 віньетак. Ініцыялы аднаўлены па чарзе чорнай і чырвонай фарбамі.

У навук. ўжытак «Ч.» увёў у 1825 П. І. *Кепен*, якому быў вядомы экземпляр, што знаходзіўся ў зборы граф. К. *Манерта* ў Ландсгуце (Баварыя). Лёс экземпляра невядомы. У 1838 апісаны канвалют са збору А. Дз. *Чарткова*, у якім да акафістаў і канонаў было прыплецена 8 арк. з «Ч.». Канвалют знаходзіцца ў ДГМ (Чартк., 479). У 19 ст. параўнальна поўны экземпляр (адсутнічае толькі тытульны ліст) быў скамплектаваны ў пецярбургскай Публ. б-цы (ДПБ, 1.5.8$^{a/2}$). У 2-м экз. «Малой падарожнай кніжкі» той жа б-кі (ДПБ, 1.5.8$^{б}$) захаваўся толькі арк. 2-гі «Ч.». Фрагменты засталіся, былі перададзены Маскоўскаму публ. і Румянцаўскаму музеям. У 1880 сюды паступіў экземпляр «Ч.», які змяшчаў арк. 2—28-ы, [1]—[4], 5—17-ы, 20—28-ы. Гэты экземпляр знаходзіцца ў ДБЛ (№ 2045). Ён заключаны ў новы пераплёт, на адваротным баку вокладкі якога наклеены экслібрыс: «Московского Публичного и Румянцевского музеев № 2225». У 1879 І. Ф. Такмакоў увёў у навук. ўжытак экземпляр «Ч.», што знаходзіўся ў той час у б-цы Маскоўскага гал. архіва Мін-ва замежных спраў. Цяпер ён знаходзіцца ў Цэнтр. Дзярж. архіве стараж. актаў у Маскве (ЦДАСА, ф. 1250, № 2). Гэта канвалют, у якім разам з «Ч.» пераплецены «Псалтыр» (каля 1522). Кніга ў рэстаўрыраваным пераплёце: дошкі ў скуры з цісненнем на старонках. На форзацы — экслібрыс: «Государственного древлехранилища Памятники письменные». У 1905 экземпляр «Ч.», што добра захаваўся (адсутнічаюць толькі арк. 1—4-ы 2-га ліку), падараваў П. І. Шчукін ДГМ (Меньш. 1430). Гэта канвалют, дзе разам з «Ч.» пераплецены «Псалтыр» (каля 1522), у якім новы пераплёт, дошкі абцягнуты тканінай. Захаваліся медныя засцежкі. На арк. 25—28-м 1-га ліку і арк. 5—6-м 2-га ліку ўладальніцкі запіс: «Сия Псалтирь Петра Иванова




**«Чатырохсотлецце беларускага друку»** Вокладка. 1926.




БЕЛАРУСКАГА КНІГА-ДРУКАВАННЯ

**«450 год беларускага кнігадрукавання».** Вокладка. 1968.

сына Свиридова» (18 ст.). У 1919 з нацыяналізаванага антыкварыяту П. П. Шыбанава ў Румянцаўскі музей паступіў канвалют, дзе, акрамя «Ч.», знаходзіліся «Псалтыр» і «Акафіст Ісусу». Канвалют, што знаходзіцца ў ДБЛ (№ 2044), заключаны ў пераплёт з дошак у чырвонай скуры з залатым цісненнем на вокладках. Экземпляры «Ч.» знаходзяцца ў Каралеўскай б-цы Капенгагена (Данія) і універсітэцкай б-цы Любляны (СФРЮ). Усяго вядома 8 экз. і фрагмент «Ч.». Сярод іх няма ніводнага поўнага экземпляра. Поўны экземпляр рэканструіруецца пры дапамозе аркушаў з экземпляраў некалькіх б-к.

*Літ.*: 206; 648. *Я. Л. Неміроўскі.*

**«ЧАТЫРОХСОТЛЕ́ЦЦЕ БЕЛАРУ́СКАГА ДРУ́КУ». 1521—1925**, зборнік навуковых артыкулаў, прысвечаных аналізу эпохі, дзейнасці і спадчыны С. Створаны на аснове матэрыялаў навук. канферэнцыі БДУ і Інбелкульта з нагоды 400-годдзя выхаду ў свет віленскіх выданняў бел. першадрукара (юбілейныя ўрачыстасці праходзілі ў канцы 1925—1926). Выдадзены ў 1927 (на тытульным лісце пазначаны 1926) у Мінску. Матэрыялы зборніка ўмоўна падзяляюцца на 4 групы. У 1-й — культ.-гіст. агляд эпохі і асяроддзя С.: арт. У. *Перцава* «Гуманізм у Італіі», Дз. Ягорава «Падуанскі універсітэт у XV—XVI сталеццях», А. Ясінскага «З культурнай гісторыі Чэхіі пачатку XVI сталецця». 2-я група прысвечана Беларусі 16 ст.: арт. М. Любаўскага «Літоўска-Беларуская дзяржава ў пачатку XVI сталецця», У. Пічэты «Полацкая зямля ў пачатку XVI сталецця» і «Беларускае Адраджэнне ў XVI сталецці», В. Дружчыца «Места Вільня ў першай палове XVI сталецця». У 3-й групе непасрэдна аналізуецца літаратурна-выдавецкая дзейнасць С. арт. М. Піятуховіча «Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасць», М. *Шчакаціхіна* «Гравюры і кніжныя аздобы ў выданнях Францішка Скарыны», І. *Войковіча Левановіча* «Мова выданняў Францішка Скарыны». 4-я група прысвечана гісторыі бел. друку і бібліяграф. агляду прац пра С.: арт. Пічэты «Друк на Беларусі ў XVI—XVII сталеццях» і «Scoriniana (1776—1926)». Вылучаецца сваёй грунтоўнасцю праца Шчакаціхіна, дзе ён упершыню зрабіў навук. сістэматызацыю ўсяго вядомага ілюстрацыйна-паліграф. матэрыялу кніг С. Пічэта ў арт. «Scoriniana» не толькі абагульніў дасягненні на той час, але ставіў на парадак дня актуальныя задачы скарыназнаўства, зазначыў неабходнасць вывучэння светапогляду С. Зборнік — адметная вяха ў гісторыі скарыназнаўства, яго выхад стаў значнай падзеяй у навук. і культ. жыцці рэспублікі. Ён выклікаў супярэчлівыя ацэнкі ў сучаснікаў, але ў цэлым быў успрыняты станоўча. Сваёй навук. каштоўнасці не страціў да нашых дзён.

*В. Ф. Шалькевіч.*

**«450 ГОД БЕЛАРУ́СКАГА КНІГАДРУКАВА́ННЯ»**, зборнік навуковых артыкулаў, прысвечаных гісторыі бел. кнігадрукавання і важнейшым праблемам скарыназнаўства. Падрыхтаваны на аснове матэрыялаў навук. сесіі АН БССР з нагоды 450-годдзя выхаду ў свет пражскіх выданняў С. (шырока адзначалася ў жн. 1967). Выдадзены ў 1968 у Мінску. У артыкулах кнігазнаўцаў, гісторыкаў, мовазнаўцаў БССР, РСФСР аналізуюцца: эпоха С., яго асяроддзе і светапогляд; развіццё традыцый бел. першадрукара, дзейнасць яго паслядоўнікаў; мова выданняў С. і пытанні станаўлення бел. мовы; развіццё бел. сав. кнігадрукавання. Заканчваецца зборнік арт. «Scoriniana» чэш. даследчыка А. *Флароўскага*, у якім зроблены грунтоўны аналіз стану і праблем скарыназнаўства на той час, падведзены вынік вывучэння пытанняў бел. і ўсх.-слав. кнігадрукавання за 40 гадоў з часу выхаду зб. «Чатырохсотлецце беларускага друку». 1525—1925.

*Літ.:* 166; Батвіннік М. Шлях кнігі // Маладосць. 1969. № 3; Чемерицкий В. Звездный час белорусов // Неман. 1969. № 7.

*В. Ф. Шалькевіч.*

**ЧАХО́ВІЦ** Марцін (1532—1613), ідэолаг левага крыла радыкальна-рэфармацыйнага руху ў Вял. кн. Літоўскім і Польшчы. Каля 1558 у Вільні, працаваў настаўнікам пры Віленскім кальвінскім зборы, які знаходзіўся пад патранатам М. Радзівіла Чорнага. У 1561 наведаў Швейцарыю, дзе сустракаўся з Ж. Кальвінам і Г. Булінгерам. З 1564 стаў падтрымліваць антытрынітарскі (арыянскі) кірунак у рэфармацыйным руху. У 1565 выехаў у Польшчу. Дзеяч абшчыны ў Ракаве (Сандамірскае ваяводства), дзе дыспутаваліся сацыяльныя і тэалагічныя праблемы. З ростам кансерватыўных тэндэнцый у арыянскім руху, наступам ваяўнічага каталіцызму ўплыў Ч. стаў слабейшым. З 1570 у Любліне (да 1589 — «міністр» люблінскага арыянскага збору). Выдаў свой гал. твор «Хрысціянскія размовы» (1575). Выступаў супраць феад. ладу, прыгонніцтва, адмаўляў свецкую ўладу, войны, царкву. Веру лічыў асабістай справай чалавека: патрабаваў рэліг. верацярпімасці, выступаў супраць феад.-каталіцкай рэакцыі, езуітаў на Беларусі. Палемізаваў з Сымонам Будным (сіноды 1581 у Лоску, 1582 у Любчы), цікавіўся бел. і маскоўскімі рукапісамі і старадрукамі, якія захоўваліся пасля Лівонскай вайны 1558—83 у Любчы. Ч., напэўна, ведаў выданні С. Пераклад Ч. Новага запавету (Кракаў, 1577; перавыд. Ракаў, 1594) абапіраецца на розныя, у т. л. ўсх.-слав., пісьмовыя крыніцы. Са С. яго збліжае імкненне служыць грамадскаму шчасцю, простаму, «паспалітаму» люду.

*Літ.:* Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. Мн., 1970; Szczucki L. Marcin Czechowic (1532—1613). Warszawa, 1964.

*Л. С. Іванова.*

**ЧЫСТО́ВІЧ** Іларыён Аляксеевіч (1828—93), рускі рэакцыйны гісторык і багаслоў. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію, у якой потым выкладаў, з 1871 — доктар багаслоўя. У манаграфіі «Гісторыя перакладу Бібліі на рускую мову» (Спб., 1873) дзейнасці С. адвёў некалькі радкоў. Галаслоўна сцвярджаў, што «Біблія» С. не карысталася павагай ні ў Расіі, ні сярод славян. У «Нарысе гісторыі заходне-рускай царквы» (Спб., 1882—84. Ч. 1—2) Ч. падтрымаў погляд Я. Ф. *Галавацкага* аб пратэстанцкім характары выдавецкай дзейнасці С.

**ЧЭШСКАЕ КАРАЛЕ́ЎСТВА** ў канцы 15 — пач. 16 ст.

Узнікла з Пражскага княства ў 2-й пал. 12 ст. (спадчынная каралеўская ўлада з 1198). Каб павялічыць даходы дзярж. казны, чэш. каралі садзейнічалі ням. каланізацыі, якая пачалася з 13 ст. Пры каралю Карлу І [1346—78] стала магутнай дзяржавай. Пад імем Карла IV Карл І стаў імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі, а *Прага* — яе цэнтрам. Дасягнулі росквіту рамёствы і гандаль, л-ра і мастацтва. У 1348 заснаваны Пражскі ун-т. Узмацненне феад. і царк. прыгнёту ў 14 — пач. 15 ст. выклікала ўздым антыфеад., антыкаталіцкай барацьбы чэш. народа, якая ў 1-й пал. 15 ст. перарасла ў гусіцкі рэвалюц. рух. Выступленне шырокіх народных мас са зброяй у руках пад рэвалюц. лозунгамі табарытаў (назва паходзіць ад г. Табар) садзейнічала росту народнай самасвядомасці, павышэнню ролі гарадоў у грамадскім жыцці. Гусіцкія рэвалюц. традыцыі адыгралі важную ролю ў далейшым культурна-паліт. развіцці чэш. народа. Але ваенныя дзеянні табарытаў (1419—34) супраць аб'яднаных сіл чэш. і еўрап. феадальна-каталіцкага лагера, да якога на заключным этапе далучылася згодніцкая, умераная плынь гусітаў-чашнікаў (адным з патрабаванняў якіх было прычашчэнне з чашы, адсюль і назва), пастаянныя апусташэнні ворагамі разбурылі краіну, парушылі міжнар. сувязі. Паражэнне гусіцкага руху прывяло да перастаноўкі паліт. сіл. Адно з першых месц зноў занялі буйныя феадалы, якія ўзбагаціліся за кошт зямель і маёмасці сваіх праціўнікаў, узмацнілі феад.-прыгонніцкую эксплуатацыю сялянства і імкнуліся зламаць супраціўленне з боку гарадоў.

У канцы 15 — пач. 16 ст. ў склад Ч. к. ўваходзілі Чэхія, Сілезія, Верхняя і Ніжняя Лужыца, Маравія. У Чэхіі, Маравіі і Сілезіі існавалі саслоўныя сеймы, функцыі якіх былі вельмі значнымі. Для вырашэння важных пытанняў, што мелі значэнне для ўсіх зямель Ч. к., у Празе склікалі агульны т. зв. генеральны сейм. Землі не былі этнічна аднароднымі, поруч з чэхамі жылі немцы, яўрэі, палякі. Пасля доўгага безуладдзя (не ўлічваючы кароткачасовых і намінальных гасудароў) з Габсбургскага дома Альбрэхта (1437—39) і Ладзіслава (1453—57) у 1458 чэш. сейм выбраў каралём аднаго з кіраўнікоў чашнікаў Іржы Подэбрада, які арыентаваўся на дробнае і сярэдняе дваранства і гар. вярхі, праводзіў курс на ўмацаванне чэш. дзяржавы, яе незалежнасці. Знешняя пагроза асманскай экспансіі стымулявала неабходнасць аб'яднання сіл. У 1464 Іржы Подэбрад прапанаваў план «вечнага міру» ў Еўропе, але яго намаганні практычных вынікаў не далі. У 1456 праціўнікі Іржы Подэбрада ўтварылі т. зв. зеленагорскую канфедэрацыю (узброены саюз чэш. феадалаў-католікаў) і выбралі на прастол польск. караля Казіміра IV Ягелончыка. На вайну супраць Іржы Подэбрада ў 1468 быў справакаваны венг. кароль Маціяш Хуньядзі (Мацвей Корвін), які заняў Маравію і Сілезію, у 1469 быў абвешчаны чэш. каралём. Землі чэш. кароны былі падзелены на 2 часткі, кожная з якіх мела свайго караля. Іржы Подэбрад адмовіўся ад замацавання прастолу за сваім пераемнікам і прыняў адобранае сеймам рашэнне зрабіць сваім пераемнікам сына Казіміра IV — Уладзіслава II (1471—1516). Паміж Уладзіславам II і Маціяшам Хуньядзі ў 1478 было заключана перамір'е, якое пацвердзіла фактычны раздзел зямель на 2 часткі — чэшскую і венгерскую. Пасля смерці Маціяша Хуньядзі ў 1490 венг. каралём быў выбраны Уладзіслаў II, які захаваў за сабой і чэш. трон. Там узнікла чэшска-венг. асабістая унія. Чэш., венг. і польск. прастолы займалі прадстаўнікі адной дынастыі, Габсбургі павялі барацьбу супраць Ягелонаў, каб не дапусціць уніі гэтых 3 дзяржаў. Узмацніліся супярэчнасці ўнутры Ягелонскага дома. У 1507 паміж аўстр. эрцгерцагам і герм. імператарам Максіміліянам І і чэш. і венг. каралём Уладзіславам II быў заключаны дагавор аб шлюбах іх дзяцей і ўнукаў у будучым. Летам 1515 адбылася т. зв. сустрэча 3 гасудароў, у якой удзельнічаў польскі кароль Жыгімонт І Стары (гл. *Венскі кангрэс 1515*). Паводле І. *Добраўскага*, у свіце Жыгімонта І знаходзіўся С., які выбраў Прагу месцам сваёй выдавецкай дзейнасці яшчэ і таму, што чэш. трон у 1516 заняў Людовік, пляменнік польск. караля.

Пасля венскай сустрэчы барацьба паміж Габсбургамі і Ягелонамі працягвалася. Выкарыстаўшы гэта, Асманская імперыя стала дабівацца ліквідацыі польска-венг.-чэш. дынастычнага саюза. Летам 1526 асманская армія разграміла аб'яднаны венг.-чэш. атрад войска, Людовік II загінуў. Дынастыя Ягелонаў на венг. і чэш. прастоле перастала існаваць. Чэш. каралём стаў Фердынанд І Габсбург (правіў у 1526—64). Аўстр. Габсбургі зацвердзіліся на чэш. прастоле. Фердынанд абяцаў перанесці сваю рэзідэнцыю ў Прагу і прытрымлівацца дзярж.-прававых устанаўленняў Ч. к., у т. л. правіць пры ўдзеле чэш. саветнікаў, паважаць свабоду веравызнання і г. д. Але ён пачаў абмяжоўваць і ліквідаваць правы чэш. саслоўяў, усяляк падтрымліваў каталіцкі лагер і ігнараваў прывілеі гарадоў. Абвостраная пры ім сітуацыя і апазіцыя з боку феадалаў і гарадоў прымала часцей за ўсё рэліг. форму барацьбы пратэстантаў супраць католікаў.

Саперніцтва ў вярхах дапаўнялася барацьбой буйных феадалаў з гарадамі, якія падзяляліся на каралеўскія і памесныя. У гарадах існавалі органы самакіравання, якія назначала і кантралявала вярх. ўлада. Насельніцтва дзялілася на заможных мяшчан (патрыцыят), радавых мяшчан, якія мелі некат. правы, і астатняе насельніцтва. У 1487 чэш. сейм прыняў рашэнне аб падрыхтоўцы звода законаў, а ў 1500 быў выдадзены т. зв. «Законнік Уладзіслава», які ўключаў каралеўскія прывілеі, пастановы сеймаў, рашэнні вярх. земскага суда і аналагічныя акты. «Законнік» не толькі замацоўваў феад. эксплуатацыю сялянства, але і ўшчамляў правы каралеўскіх гарадоў. Прадстаўнікі мяшчан у падрыхтоўцы «Законніка» ўдзелу не прымалі, таму паміж імі і панамі адносіны зноў абвастрыліся. Дваранства вымушана было пайсці на некат. ўступкі, замацаваныя ў т. зв. Святавацлаўскім пагадненні 1517, што часткова аслабіла, але поўнасцю не ліквідавала сац. супярэчнасці. Яны дапаўняліся рэліг. супярэчнасцямі ў сувязі з афіц. прызнаннем, поруч з католікамі, статуса чашнікаў. Застаючыся ў рамках каталіцкай царквы, яны згодна з Пражскімі кампактатамі 1433 атрымалі права карыстацца сваімі абрадамі. У 1457 на землях чэш. кароны ўзнікла і атрымала распаўсюджанне Абшчына чэш. братоў. Яе стваральнікі былі паслядоўнікамі П. Хельчыцкага (каля 1390 — каля 1460). Не прызнаючы рэвалюц. шляхоў перабу-

довы, Хельчыцкі марыў шляхам маральнага ўдасканалення людзей пабудаваць грамадства, заснаванае на працы і роўнасці. Пазней прыхільнікі Абшчыны чэш. братоў, рады якіх паступова пашыраліся за кошт заможных слаёў, асн. ўвагу сталі ўдзяляць распаўсюджанню ведаў, зняўшы або памяняўшы найб. радыкальныя патрабаванні пачатковага перыяду сваёй дзейнасці. Пранікненне рэфарм. руху ў чэш. землі выклікала раскол сярод чашнікаў. Гэта прывяло да іх распаду на кансерватыўна-традыцыяналісцкае крыло, схільнае да кампрамісу з каталіцкай царквой (старачашнікі), і на прыхільнікаў арганізацыйнага аддзялення ад рымскай курыі (сімпатызавалі лютэранству — новачашнікі). Рэліг. супярэчнасці дапаўняліся ўздымам барацьбы народных мас супраць узмацнення феад. эксплуатацыі і карыслівай палітыкі гар. патрыцыяту. У гэтых выпадках сац. супярэчнасці часта перапляталіся з рэлігійнымі. Пры Іржы Подэбрадзе ў асн. частцы каралеўскіх гарадоў муніцыпалітэты складаліся гал. ч. з чашнікаў. Пры Уладзіславе II іх імкнуліся замяніць прыхільнікамі каталікаў, перш за ўсё ў Празе і Кутна-Горы, што прывяло да канфлікту ў 1476, а ў 1483 — да паўстання пражскіх гараджан. Вял. водгук атрымалі паўстанні кутнагорскіх рудакопаў (1494, 1496). У 1513 гарнякі адмовіліся працаваць, патрабуючы ад улад прытрымлівацца дадзеных ім прывілеяў. Абвастрэнне сац. супярэчнасцей назіралася і ў памесных гарадах. Да выступлення нярэдка далучалася і гар. бедната. З канца 15 ст. ўзмацнілася барацьба сялян супраць феадальна-панскага прыгнёту. У пач. 16 ст. яна часта вылівалася ў лакальныя бунты супраць памешчыкаў. Пасля падпісання Святавацлаўскага пагаднення паміж панамі і каралеўскімі гарадамі ў Празе і шэрагу іншых зямель чэш. кароны ўспыхнулі вострыя канфлікты патрыцыяту з мяшчанствам і цэхамі. Якраз у гэты час у Празе пачалі выходзіць кнігі С., ён, відаць, не толькі чуў пра падзеі, але і быў іх сведкам.

Складаныя і супярэчлівыя абставіны існавання Ч. к. канца 15 — пач. 16 ст. знайшлі адлюстраванне ў культ. жыцці. У мастацтве, навуцы, побыце, дзе перш за ўсё пераважаў стыль позняй готыкі, сталі з'яўляцца элементы рэнесансава-гуманіст. уяўленняў. Яны адлюстраваліся ў грамадз. і культавым буд-ве, паступова пераўтвараючы знешні воблік чэш. гарадоў, а таксама часткова і ў сельскай мясцовасці. Мастацтва Рэнесанса знайшло ўвасабленне ў чэш. жывапісе (асабліва партрэтным) і скульптуры. Гуманіст. ідэі, што атрымалі пашырэнне з апошніх дзесяцігоддзяў 15 ст. і распаўсюдзіліся ў чэш. адукаваным асяроддзі, прывялі да складвання 2 асн. плыняў — «лацінскай» і «народна-чэшскай». Прадстаўніком апошняй стаў юрыст і пісьменнік, магістр і дэкан ф-та вольных мастацтваў Карлава ун-та Карнеліус Віктарын, які ў 1490-х гадах стварыў працу «Дзевяць кніг пра правы, суды і пра чэшскія земскія кнігі» (2-я рэд. 1508). Праца, напісаная па-чэшску ў час падрыхтоўкі «Законніка Уладзіслава», была адкрытым выклікам дамаганням буйной чэш. арыстакратыі заняць дамінуючае месца ў кіраванні краінай і пазбавіць чэш. гарады права голасу на сейме. Антыдваранская пазіцыя Віктарына прывяла да таго, што ён быў пазбаўлены каралеўскай службы, на якой да гэтага састаяў. Творчасць вучонага-гуманіста адыграла важную ролю ў развіцці чэш. культуры. У наступныя дзесяцігоддзі асн. значэнне ў духоўным жыцці і культуры чэш. зямель атрымоўваюць рэфармацыйна-пратэстанцкія ідэі, якія часткова ўступілі ў сінтэз з ідэямі рэнесансава-гуманістычнымі. Гэты працэс атрымаў адлюстраванне ў розных абласцях чэш. культуры, у т. л. і народнай, паўплываўшы непасрэдна і на *кнігадрукаванне чэшскае* ў канцы 15—16 ст.

*Літ.:* Ванечек В. История государства и права Чехословакии: Пер. с чеш. М., 1981; История Чехословакии. Т. 1. М., 1956; Поп И. И. Искусство Чехии и Моравии IX — начала XVI века. М., 1978; Османская империя и страны Центральной, Восточной и Юго-Восточной Европы в XV—XVI вв.: Главные тенденции политических взаимоотношений. М., 1984; Přehled dějin Československa. T. I/1. [do roku 1526]. Praha, 1980.

*А. С. Мыльнікаў.*



**ШАКУ́Н** Леў Міхайлавіч (н. 1926), беларускі сав. мовазнавец. Д-р філал. н. (1966), праф. (1977). Засл. работнік вышэйшай школы БССР (1979). Выкладчык БДУ імя У. І. Леніна. Працы ў галіне гісторыі бел. літаратурнай мовы і бел. словаўтварэння. У працах «Значэнне царкоўнаславянскай мовы ў развіцці беларускай літаратурнай мовы» (1958) і «Да пытання аб паняцці «старажытная беларуская літаратурная мова» (1960) паказаў значэнне С. ў гісторыі бел. пісьменнасці. Меркаванні даследчыка атрымалі далейшае развіццё ў яго вучэбных дапаможніках «Нарысы гісторыі беларускай літаратурнай мовы» (1960) і «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» (1963, 1984). У апошнім змешчаны раздзел «Мова выданняў Скарыны», дзе аўтар адзначыў, што С. ставіў мэтай зрабіць біблейскія кнігі даступнымі для простага чалавека і таму шырока звярнуўся да сродкаў нар. бел. мовы, асабліва ў сваіх прадмовах, пасляслоўях і вершах. Падкрэслівае неаднароднасць мовы выданняў С. адносна збліжэння яе з нар. гаворкай і кніжна-слав. стылямі, адзначае, што ва ўсіх скарынінскіх выданнях шырока адлюстраваны асаблівасці лексікі, фанет. сістэмы і грамат. ладу тагачаснай жывой гаворкі бел. народа. Адзначае таксама шырокае выкарыстанне С. лексікі кніжна-слав. стыляў, фанет. і грамат. царкоўнаславянізмаў, польск. і чэш. слоў. Паказвае неабгрунтаванасць меркавання, нібыта С.— пачынальнік бел. літаратурнай мовы, бо яшчэ да С. бел. мова шырока выкарыстоўвалася ў розных жанрах пісьменнасці: дзелавой, літаратурна-маст. і нават рэлігійнай. Робіць вывад, што С. быў прадаўжальнікам агульнай справы — замацавання мовы бел. народа як літаратурнай, што з яго дзейнасцю звязана далейшае замацаванне ў стараж.-бел. пісьменнасці многіх важнейшых фанет. і грамат. асаблівасцей жывой бел. гаворкі, яе лексікі і фразеалогіі, развіццё і ўдасканаленне сродкаў і прыёмаў літаратурнага выяўлення за кошт як кніжна-слав. стыляў, так і нар. мовы. У арт. «Ф. Скарына і пытанні гісторыі беларускай літаратурнай мовы» (450 год беларускага кнігадрукавання, 1968) асвятліў перакладчыцкую і выдавецкую дзейнасць С. на шырокім фоне літаратурна-моўнага працэсу тагачаснай Беларусі, паказаў, як традыц. царк.-слав. мова канфесіянальных твораў дэмакратызавалася шляхам пранікнення ў іх рыс нар. бел. мовы і моватворчая дзейнасць С. адлюстравала гэта, як С. адыходзіў ад канонаў царк.-слав. пісьменнасці, своеасабліва сплаўляў славянізмы са сродкамі жывой бел. гаворкі, часам звяртаўся да запазычанняў з суседніх моў і надаваў сваім выданням адпаведны моўны каларыт.
*А. І. Жураўскі.*

**ШАЛЬКЕ́ВІЧ** Вячаслаў Феліксавіч (н. 1941), беларускі сав. філосаф. Канд. філас. н. (1972). Дацэнт БДУ імя У. І. Леніна. Даследуе гісторыю філас. і грамадска-паліт. думкі Беларусі. У працы «Скарына і наш час» (1979) у навук.-папулярнай форме прааналізаваў выдавецкую дзейнасць і светапогляд С., яго сугучнасць сучаснасці. Прапанаваў дваякае тлумачэнне паняцця «Скарыніяна» — вузкае і шырокае. У першым выпадку гутарка ідзе пра навук. л-ру, якая прысвечана жыццядзейнасці і творчасці С., у другім — пра розныя формы папулярызацыі жыцця і ідэйнай спадчыны С. ў творах літаратараў, жывапісцаў, кінематаграфістаў і інш. У працы закрануты і некат. спрэчныя праблемы скарыназнаўства (храналогія, бібліяграфія і інш.). У арт. «Сучаснікі Івана Фёдарава Сымон Будны і Васіль Цяпінскі» (Іван Фёдараў і ўсходнеславянскае кнігадрукаванне, 1984) Ш. разгледзеў развіццё выдавецкіх традыцый С. ў дзейнасці яго паслядоўнікаў у 16 ст. Арт. «Пра Скарыну — замежнаму чытачу» (Неман. 1982. № 10) прысвяціў аналізу зместу і асаблівасцям перакладу *выдання ЮНЕСКА пра Ф. Скарыну. Г. У. Грушавы.*



В. Шаранговіч. Францыск (Георгій) Скарына. 1971.

**ШАРАНГО́ВІЧ** Васіль Пятровіч (н. 1939), беларускі сав. графік. Засл. дз. маст. БССР (1978), лаўрэат Дзярж. прэміі БССР (1987), праф. (1981). Працуе ў галіне кніжнай і станковай графікі. Сярод работ — паясны партрэт С. (1971, лінагравюра, 80×62 см; Дзярж. маст. музей БССР), у аснову якога пакладзены гравюрны партрэт С. з «Бібліі». С. паказаны з кнігай «Біблія» ў руках, злева ў вуглу кампазіцыі друкарскі знак. Пластыка выканання партрэта строгая, лаканічная. Аўтар літаграфіі «А хто там ідзе?» па матывах твораў Я. Купалы для Літ. музея Я. Купалы. Графічная кампазіцыя выканана як трыпціх, у цэнтры С. з кнігай у руках і Я. Купала, побач з якімі іншыя дзеячы асветы, культуры, рэв. руху, што сімвалізуе духоўную сувязь прадстаўнікоў народа розных эпох.
*Б. А. Крапак.*

**«ШАСЦІДНЕ́ВЕЦ»**, «Шестодневець кратъкий на всу неделю

печенши от суботы по обычаю всехъ восточнихъ церквий», недатаванае віленскае выданне С., якое выйшла ў свет каля 1522. Уваходзіць ў склад *«Малой падарожнай кніжкі»*. Адкрываецца тытульным лістом, на якім у рамцы з 2 вял. і 2 малых заставак чырвоным колерам надрукавана назва кнігі. У «Ш.» дадзены кароткія тэксты службаў на ўсе дні тыдня, у склад якіх уведзены чытанні з «Евангелля» і «Апостала». Мова кнігі — царк.-слав. бел. рэдакцыі. Аб'ём 36 арк., сабраных у 5 сшыткаў (чатыры 8-аркушавыя і адзін 4-аркушавы). Фармат выдання ў 8-ю долю аркуша. На паласе 19 радкоў. Набор выкананы віленскім шрыфтам С.— вышыня 10 радкоў 52÷53 мм. Сігнатура адсутнічае. Фаліяцыя на верхнім баку аркуша ўверсе справа, выканана кінаварам. У фаліяцыі зроблена памылка: замест «15» прастаўлена «5». У верхняй частцы аркушаў калонтытулы. «Ш.» надрукаваны дзвюма фарбамі. Маст. аздоба — 9 вял. (63×10 мм) і 22 малыя (63×5 мм) віньеткі, а таксама 112 ініцыялаў (8×10 мм), частка якіх надрукавана чорным, а частка — чырвоным колерам.

Ш. увёў у навук. ўжытак у 1825 П. І. *Кепен*, якому быў вядомы поўны экземпляр «Малой падарожнай кніжкі» са збору К. *Манерта*. Лёс гэтага экземпляра невядомы. У 1838 А. Дз. *Чарткоў* упершыню апісаў экземпляр «Ш.» з уласнага збору (экз. зберагаецца ў Дзярж. Гіст. музеі ў Маскве, ДГМ, Чартк. 480). У 1905 П. І. *Шчукін* падараваў ДГМ канвалют (Меньш., 1430), які ўключаў «Часасловец», «Сабор-нік», «Ш.» і 14 акафістаў і канонаў. «Ш.» з гэтага канвалюта амаль поўны, не хапае толькі апошняга аркуша. Кніга ў новым пераплёце з дошак, абцягнутых тканінай. Вокладкі дэкарыраваны меднымі ражкамі і срэднікам, засцежкамі. Поўны экземпляр «Ш.» зберагаецца таксама ў Дзярж. Публ. б-цы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (1.5.8[a]) у складзе «Малой падарожнай кніжкі», пераплеценай у 19 ст. ў кардон са скуранымі наклейкамі на карашку. Вядома 3 экз. «Ш.».

*Літ.*: 206; 648. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ШАЎЦОВА** Марыя Мітрафанаўна (н. 1928), беларускі сав. мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Аўтар дэкар. вазы «Ф. Скарына» (1977, шамот, дымленне, 44×20×12 см; уласнасць аўтара) у выглядзе стэлы з ажурным завяршэннем. С. паказаны ва ўвесь рост, франтальна (постаць вылучана з агульнага фону рэльефам). Правай рукой ён прыціскае да грудзей кнігу, левай апіраецца на край стала, накрытага тканінай з выявай герба С. Злева — стос кніг і фрагмент друкарскага станка. У тэхніцы контррэльефа выкананы сімвалы яго шматграннай дзейнасці (змешчаны абапал галавы). Унізе скарынінскім шрыфтам у 2 радкі зроблены надпіс: «Докторъ Францискъ Скорина с Полоцъка», на тытульным баку надпіс — «460 год беларускаму кнігадруку 1517—1977», закампанаваны ў стараж. бел. арнамент. У 1984 выканала дэкар. пано «Францыск Скарына» (шамот, 35×20 см; уласнасць аўтара). *М. М. Яніцкая.*



М. Ш а ў ц о в а. Ф. Скарына. Дэкаратыўная ваза. 1977.



В. Ш м а т а ў. Акно (Памяці Ф. Скарыны). 1977.

**ШАФАРЫК,** Ш а ф а р ж ы к (Šafařik) Павел Іосеф (1795—1861), дзеяч чэшскага і славацкага нац. руху, вучоны-славіст. Замежны чл.-кар. Пецярбургскай АН (1839). З 1841 хавальнік, затым дырэктар б-кі Пражскага ун-та. Адзін з заснавальнікаў славяназнаўства. Аўтар фундаментальных прац «Славянскія старажытнасці» (1837), «Славянская этнаграфія» (1842). У ліку першых даследчыкаў звярнуўся да вывучэння выданняў С. (Гісторыя славянскай мовы і літаратуры на ўсіх дыялектах, 1826). У «Славянскай этнаграфіі» асобны раздзел прысвечаны беларусам, дзе разглядаюцца Статуты Вял. кн. Літоўскага, выданні С. На працягу ўсяго жыцця цікавіўся дзейнасцю бел. асветніка і лічыў яго лепшым сярод выдатных прадстаўнікоў славянства. Падкрэсліваў наватарства С. як пісьменніка, перакладчыка і выдаўца, называў яго першым ва ўсх. славян паэтам, які апублікаваў свае вершы.

*Літ.:* М ы л ь н и к о в А. С. Павел Шафарик — выдающийся ученый-славист. М.; Л., 1963. *Ю. А. Лабынцаў.*

**ШАЦІЛА** Іван Браніслававіч (1910—77), беларускі сав. акцёр. Нар. артыст БССР (1953). У 1932—61, 1967—71 працаваў у Бел. тэатры імя Я. Купалы, у 1961—67 у Дзярж. рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага. Выканаў гал. ролю ў радыёспектаклі «Георгій Скарына», пастаўленым у 1964 па драматычнай паэме М. Клімковіча «Георгій Скарына». Стварыў уражлівы, псіхалагічна праўдзівы вобраз С. з яркімі нац. рысамі.

**ШЛЯПКІН** Ілья Аляксандравіч (1850—1918), рускі гісторык. У арт. «Да біяграфіі Францыска Скарыны» (Журнал М-ва нар. просвещения. 1892. № 4) апісаў матэрыялы з актавай кнігі Падуанскага ун-та (просьба С. аб здачы экзамену, здача папярэдняга экзамену і звесткі пра экзамен). На думку Ш., на падставе гэтых дакументаў можна сцвярджаць аб шырокай эрудыцыі С., выдатных здольнасцях і незвычайнай празе да ведаў. Ш. лічыў, што полацкі студэнт не быў прадстаўніком багатых купецкіх слаёў, таму што ён звярнуўся да Мед. калегіі з просьбай дазволіць здаваць экзамены бясплатна. На аснове разгледжаных матэрыялаў Ш. пацвердзіў меркаванне П. У. *Уладзімірава* аб прыналежнасці С. да сям'і полацкага купца Лукі Скарыны, а таксама яго меркаванне пра атрыманне С. ступені доктара медыцыны ў Падуі. *А. А. Варатнікова.*

**ШМАТАЎ** Віктар Фёдаравіч (н. 1936), беларускі сав. мастацтвазнавец, жывапісец і графік. Канд. мастацтвазнаўства (1969). Супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Даследуе стараж. і сучасную бел. графіку, у навук. працах і сваёй творчасці значнае месца адводзіць Скарыніяне. Аўтар кніг: «Беларускі кніжны знак» (з А. М. Тычынам), «Беларуская графіка 1917—1941 гг.» (абедзве 1975), «Беларуская сучасная графіка, 1945—1977» (1979), «Францыск Скарына» [з Г. Я. Галенчанкам, В. А. Чамярыцкім, ЮНЕСКА, выд. на франц. (1979) і англ. (1980) мовах], «Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў» (1984); арт. «Мастацкая аздоба выданняў Ф. Скарыны» ў кн.: З гісторыі кнігі на Беларусі (1976), «Мастацтва выданняў Францыска Скарыны» ў кн.: Беларускі асветнік Францыск Скарына і пачатак кнігадрукавання на Беларусі і ў Літве (1979) і інш. Ва ўступных артыкулах першых трох кніг разглядае С. як пачынальніка кнігадрукавання і заснаваль-

ніка кніжнай гравюры. У кнізе «Францыск Скарына» аналізуе мастацтва кніг бел. першадрукара, уплыў яго выданняў на пазнейшае развіццё кнігадрукавання. У манаграфіі «Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў» асвятляе праблемы аўтарства гравюр, удзел С. ў іх выкананні, пытанні наборнага арнаменту, тэхнікі друку, сувязь гравюр з рукапіснымі слав. мініяцюрамі і з зах.-еўрап. тэхнікай друку. У 1-м томе «Гісторыі беларускага мастацтва» (1987) аналізуе гравюры пражскіх і віленскіх выданняў С. Прысвяціў С. жывапісныя работы «Акно (Памяці Ф. Скарыны)», 1977 і «Беларускія старадрукі», 1978 (абедзве Маст. фонд БССР).

*М. І. Ткачэнка.*

**ШРЫФТ** (ням. Schrift ад schreiben пісаць), сукупнасць літар, прызначаных для перадачы знакаў алфавіта, лічбаў, знакаў пунктуацыі, розных спецыяльных знакаў, лінеек, часам — элементаў арнаменту.

Літара — металічны брусок прамавугольнага сячэння, на верхнім тарцы якога рэльефны люстэркавы адбітак таго ці іншага знака (т. зв. вочка літары). Адлегласць ад ніжняга тарца літары да паверхні вочка вызначае яе рост, а адлегласць ад верхняй да ніжняй сценкі літары — кегель. У склад Ш. уключаюць звычайна сукупнасць т. зв. прабельных элементаў — літар і лінеек, якія не маюць вочка і змяшчаюцца ў прамежках паміж словамі, радкамі, запаўняюць імі прабельныя ўчасткі. Сукупнасць літар рознага абрысу і кеглю, але аднаго малюнка наз. гарнітурай. Лінія, утвораная ніжнімі краямі большасці літар у радку, наз. лініяй Ш. Элементы вочка, якія выступаюць ніжэй лініі Ш., называюцца ніжнімі вынаснымі элементамі, якія ўзвышаюцца над радком,— верхнімі вынаснымі элементамі.

Скарынінскі Ш. можна ўмоўна падзяліць на 2 гарнітуры: пражскую і віленскую. Першай з іх набраны 20 пражскіх выданняў 1517—19, другой — 22 віленскія выданні каля 1522—25. Усе Ш. С. маюць прамыя абрысы — асн. штрыхі іх размешчаны вертыкальна. Курсіўных штрыхоў С. не выкарыстоўваў. У большасці сваёй радковыя Ш. С. не маюць засечак — папярочных элементаў, якія завяршаюць асн. штрыхі літар. Ніжнія і верхнія канцы вертыкальных штрыхоў вял. літар патоўшчаныя, а ў некат. выпадках маюць засечкі ў выглядзе ўсечаных трохвугольнікаў. У склад пражскай гарнітуры Ш. ўваходзяць 6 асн. тыпапамераў: вялікі, сярэдні, малы прапісныя Ш., радковы, з надрадковымі знакамі і лігатурны Ш. (гл. ў арт. *Лігатура*). Вышыня 10 радкоў пражскай гарнітуры Ш.— 75 мм. Кегель пражскай гарнітуры — 7,5 мм, або каля 20 друкарскіх пунктаў, што адпавядае сучаснаму Ш. ў памеры «тэкст». У склад віленскай гарнітуры ўваходзяць 4 асн. тыпапамеры: прапісны, радковы, з надрадковымі знакамі, лігатурны Ш. Для загалоўкаў і калонтытулаў віленскіх выданняў С. выкарыстаны малы прыпісны Ш. пражскай гарнітуры. Вышыня 10 радкоў віленскай гарнітуры Ш. 52÷53 мм. Кегель віленскай гарнітуры — 5,2÷5,3 мм, або каля 14 друкарскіх пунктаў, што адпавядае сучаснаму шрыфту ў памеры «мітэль». Ш. С. мае шэраг асаблівасцей. С. не ўжываў літары ѕ (зяло), а выкарыстоўваў яе толькі ў лікавым значэнні — «6». З ётаваных галосных С. выкарыстоўваў толькі ꙗ (аз) у значэнні «я», не лічачы знака «Ю». Ётаваных ѥ (есть) і ѩ ѭ юсаў у Ш. С. няма, ѧ (юс малы) С. выкарыстоўваў вельмі часта ў значэнні «я». Не ўжываў С. ѫ (юс вялікі). Між тым і ў Швайпольта Фіёля і ў паўд.-слав. друкароў гэты алфавітны знак сустракаецца вельмі часта (у значэнні «у»). Няма ў Ш. С. таксама грэч. па паходжанню знака ѯ (ксі). Знак ѱ (псі) выкарыстоўваецца вельмі рэдка. Нават слова «Псалтыр», якое і ў рукапісах і ў першых друкаваных кнігах кірылаўскага Ш. традыцыйна пісалася праз ѱ (псі), С. ў большасці выпадкаў набірае без гэтага знака. Вельмі рэдка, пераважна ў імёнах уласных («Ісус, Іаан») у параўнанні з Фіёлем і, асабліва, з паўд.-слав. друкарамі выкарыстоўваў С. «і» (дзесяцярычнае). У віленскіх выданнях «і» ўжываецца часцей, чым у пражскіх. Як і ў інш. кірылаўскіх Ш., у радковых Ш. С. ёсць т. зв. парныя знакі (аднайменныя знакі алфавіта рознага абрысу). Сярод іх, напр., 2 знакі «в» (ведзі): адзін графічна блізкі да «в» грамадз. Ш., другі мае абрыс скарапіснага характару. Вертыкальнага штамба тут няма. Верхняя і ніжняя часткі літары ўяўляюць сабой авалы, злучаныя закругленай лініяй. У 2 абрысах паказаны знак «д» (дабро): у першым ніжнія вынасныя элементы нахілены да лініі Ш. і значна выходзяць за яе межы, у другім «ножкі» літары ледзь намечаны. Ні фанетычна, ні граматычна выкарыстанне таго ці іншага варыянта не рэгламентуецца. Літару є (есть) С. выкарыстаў у традыц. для ўсх.-слав. пісьменнасці 2 абрысах: вузкім і шырокім (апошні нагадвае люстэркавы адбітак сучаснай літары «э»). 2 абрысы мае і літара ꙁ (зямля). Графічна яны блізкія да напісання тройкі. Але ў адным з варыянтаў ніжняя частка літары не выходзіць за межы лініі Ш., а ў другім — апускаецца пад яе. Тое ж можна сказаць і пра знак «р» (рцы). Адзін з варыянтаў гэтага знака блізкі да сучаснага «р» (ніжніх вынасных элементаў тут няма), у другім — ножка літары апускаецца значна ніжэй лініі Ш. Двума традыц. абрысамі — вузкім і шырокім — прадстаўлены літары «о» (он) і «с» (слова). Выкарыстаны 2 варыянты літары «Т» (твердо): прамая верхняя перакладзіна з апушчанымі аднosна невял. вертыкальнымі «крыламі» па краях: у другім варыянце замест верхняй перакладзіны 2 закругленыя завіткі. Літара ү (ук) у адным з абрысаў мае нахіленую лінію, якая апускаецца пад радок, у другім — размешчаны па вертыкалі авал, ад якога над радком узнімаюцца 2 нахіленыя ў розныя бакі з закругленнямі ўверсе лініі. Парных знакаў у Ш. С. значна менш, чым у Ш. слав. першадрукароў. Большасць знакаў радковага Ш. С. не мае ні ніжніх, ні верхніх вынасных элементаў. Верхнімі вынаснымі элементамі забяспечаны толькі 2 літары: адзін з варыянтаў ү «ук» і ф (ферт), які мае таксама ніжнія вынасныя элементы. Ніжнія вынасныя элементы маюць таксама знакі х (хер) і ѳ (фіта). Прапісны скарынінскі Ш. мае шэраг цікавых графічных асаблівасцей, якія рэзка вылучаюць яго сярод інш. слав. кірылаўскіх Ш. Ні ў адным з Ш. няма, напр., такога, як у С., прапіснага знака ѵ (чэрвь): ад лініі Ш. ўзнімаецца прыкладна на 2/3 агульнай вышыні літары вертыкальная лінія, ад якой налева адыходзіць гарызантальная і пераходзіць у патоўшчанае вертыкальнае закругленне. Ад апошняга ўжо направа ідзе гарызантальны штрых, які заканчваецца трохвугольнай адсечкай. Характэрна для С. і арыгінальнае графічнае выкананне прапіснай літары Ю (ю): патоўшчаны вертыкальны штамб злучаны тонкім гарызантальным штрыхом з верхнім краем невялікага, прыкладна да палавіны літары, авала. У прапісных Ш (ша) і Щ (шта) сярэдняя вертыкальная лінія вышэй, чым бакавыя. Прапіснае А (аз) хутчэй напамінае «я». Характэрны графічныя формы вял. прапіснога Ш., у якіх выяўляецца ўплыў готыкі [напр., літара N (наш) лац. абрысу]. Да вял. прапіснога Ш. адносяцца і літары, якімі набраны першы радок назвы на агульным аркушы пражскай «Бібліі». У ёй 10 літар, якія не паўтараюцца. Графіка многіх з іх («Б», «В», «И», «І», «К») блізкая да грамадз. кірылаўскага Ш. Надрадковыя знакі С. адліваў разам з літарамі. Таму вельмі многія літары, як радковыя, так і прапісныя, дубліруюцца ў розных варыянтах з рознымі надрадковымі знакамі. Да ліку апошніх адносяцца *дыякрытычныя знакі* і знакі скарачэння — «цітлы». Гэтым скарынінскі Ш. блізкі да Ш. паўд-слав. тыпографа Макарыя, які таксама адліваў надрадковыя знакі разам з літарамі. Слав. першадрукар Фіёль, маскоўскі і укр. першадрукар Іван Фёдараў адлівалі надрадковыя знакі асобна. Літары з «цітламі» можна ўмоўна аднесці і да лігатурнага Ш., у склад якога ўваходзяць таксама шматлікія т. зв. лагатыпы (тры знакі, адлітыя на агульнай ножцы). Адліваючы літары для скарачэнняў, С. размяшчае на адной ножцы алфавітны знак, знак скарачэння — «цітлу» або вынасныя літары. Апошнія змешчаны над асн. алфавітным знакам пад «цітлай» або без яе. Без «цітлы» ў Ш. С. ўжыты вынасныя літары «Д» і «Х», з «цітламі» — вынасныя літары «Г» (глаголь), «М» (мыслеце), «N», «О», «С», «Ү». Не мае аналогій у другіх кірылаўскіх Ш. своеасаблівая графіка вынасных літар «М» і «N». Тут хвалістая лінія «цітлы» апускаецца ўніз (у адным выпадку ўлева, у другім — управа) і паступова пераходзіць у абрыс вынаснай літары. Адна з характэрных асаблівасцей Ш.— шырокае выкарыстанне лагатыпаў. У гэтым таксама можна бачыць зах. або паўд.-слав. уплыў. Ні Фіёль, ні першыя маскоўскія друкары лагатыпаў не ўжывалі. Паўд.-слав. друкары (Макарый, Б. Вукавіч) выкарыстоўвалі іх не так

шырока, як С. Адлічваючы лагатыпы, С. часта 2 знакі ставіў у радок, а адзін выносіў над радком. Асабліва часта ён выкарыстоўваў лагатыпы з паднятымі над радком літарамі «М» і «Н». Кожны з лагатыпаў ствараў найб. распаўсюджаныя склады («вам», «вем», «дом», «зѐм», «ром», «том», «сам» і г. д.). Выкарыстоўваў С. лагатыпы з вынаснымі «Г», «Д», «С». Асобны лагатып — «ест» са знакамі, змешчанымі адзін над другім. Прымяненне лагатыпаў дазваляла паскорыць працэс набору і эканоміць паперу. У выглядзе лагатыпаў С. адліваў і кірылічныя лічбы з двума літарнымі знакамі і «цітлай», размешчанай над імі. Выкарыстанне Ш. з надрадковымі знакамі і лігатурнага Ш. строгімі правіламі не лімітавалася. У С. нярэдка ў межах адной паласы можна сустрэць напісанне аднаго і таго ж слова поўнасцю, з вынаснымі літарамі і з лігатурай. Скарынінскі Ш. уключаў таксама розныя знакі прыпынку. Сярод іх — вялікая кропка, паднятая над лініяй Ш. Такая кропка ставілася звычайна ў канцы сказаў, пасля яе рабіўся прабел у 4—5 літар. Выкарыстоўвалася і коска, ніжні край якой дакранаўся лініі Ш. Зрэдку ўжывалася двукроп'е. Шырока прымянялася т. зв. сцішыца (двукроп'е з адыходзячай ад яго ў сярэдзіне радка хвалістай лініяй). Ставілася ў канцы прадмоў і пасляслоўяў, назваў на тытульных лістах. Ёй завяршаліся калонтытулы і знакі фаліяцыі (нумарацыі аркушаў). Ужывалася сцішыца і ў дэкар. мэтах як адзін з элементаў наборнага арнаменту. Так, напр., тытульныя лісты некат. віленскіх выданняў С. завершаны 3 сцішыцамі, выключанымі па цэнтру. Вышыня вочка літар — розная. Радковыя літары «Н» (іжэ) і «N» (наш) некалькі вышэй за іншыя, а вялікае «О» з надрадковымі знакамі апускаецца ніжэй лініі Ш. С. умела вар'іраваў тыпапамерамі Ш. Літарамі вял. прапіснога Ш. ён пачынаў загалоўныя тэксты, набраныя малым прапісным Ш., а таксама анатацыі асобных глаў, пасляслоўі, калонтытулы. Сярэдні прапісны Ш. выкарыстоўваўся вельмі рэдка, калі неабходна было вылучыць пачатак фразы ў тэксце, набраным малым прапісным Ш. Ім набраны назвы на тытульных лістах, загалоўныя тэксты, абзначэнні глаў, калонтытулы, асобныя тэксты, якія С. хацеў вылучыць. У асноўным у тэксце С. выкарыстоўвае малы прапісны Ш. у многіх выпадках. Прапіснымі набраны першыя літары сказа пасля вял. круглых кропак, першыя літары слоў, значэнне якіх С. хацеў падкрэсліць (напр., «Царь», «Муж», «Доктор»), першыя літары ўласных імён (не ва ўсіх выпадках), злучнік «и», пасля косак і г. д. Прымяненне прапісных літар у асн. тэксце строга не рэгламентавана. Пытанне пра графічныя вытокі Ш. С. падрабязна не вывучана. Існуюць розныя меркаванні. І. *Дабрайскі* лічыў, што Ш. гэты быў зроблены ў Венецыі, і сцвярджаў, што малюнак яго блізкі да Ш. венецыянскіх слав. выданняў. П. У. *Уладзіміраў* сцвярджаў, што для скарынінскага Ш. ў папярэдніх царк.-слав. выданнях не знаходзілася прамога арыгінала. Ён адзначаў падражальны ў адносінах да чэш. і ням. выданняў характар вял. прапіснога Ш. Разам з тым Уладзіміраў указаў на блізкасць скарынінскага Ш. да паўустаўнага пісьма рускіх царк.-слав. помнікаў і некат. грамат на пергаменце, пісаных у Паўд.-Зах. Русі ў 15 ст. Я. Ф. *Карскі* гаварыў пра блізкасць скарынінскага Ш. да почырка бел. рукапісаў 15—16 ст. Л. М. Грыгарчук указала на блізкасць Ш. С. да графікі надпісаў на творах укр. іканапісу 16 ст. Скарынінскі Ш. паўплываў на далейшую друкарскую традыцыю, найперш на выданні Нясвіжскай друкарні Сымона Буднага, Мацея Кавячынскага і Лаўрэнція Крышкоўскага і «Новы запавет» Васіля Цяпінскага. Паводле А. Р. Шыцгалы, Ш. С. аказаў пэўны ўплыў на Ш. амстэрдамскай друкарні Яна Тэсінга, якая на рубяжы 17 і 18 ст. друкавала рус. кнігі па заказу Пятра І. Скарынінскі Ш. паўплываў і на графіку рус. грамадз. Ш., створанага ў пач. 18 ст.



Л. Шчамялёў. Францыск Скарына. 1986.

*Літ.:* 69; 565; 616; 780; 781. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ШТРЫТЭР** Іаан Готгільф (1740—1801), пісьменнік, гісторык. Служыў у Пецярбургу і Маскве ў архівах Калегіі замежных спраў, ад'юнктам (памочнікам акадэміка) Санкт-Пецярбургскай АН. З 1787 ганаровы член АН. Яго працы па гісторыі Русі вядомы ў лац. перакладах. Прымаў удзел у стварэнні гісторыі АН (пад рэд. Г. Ф. Мілера). У працы: «Апісанне першага выдання ў друку і пераклада на расійскую мову свяшчэннай Біблії ў 1517—1519 гадах» (Вопыт прац Вольнага расійскага сходу пры Маскоўскім ун-це. Ч. 6. М., 1783) адзін з першых апісаў скарынінскае выданне і пераклад «Бібліі». Ш. адзначыў выдатны знешні выгляд выдання: «папера такая добрая, як лепш быць не можа, усё размяшчэнне ёсць выключна майстэрскае». Сцвярджаў, што пераклад С. адрозніваецца ад усіх славяна-расійскіх Біблій і перакладаў, бо большая частка яго зроблена з *Вульгаты.* Лічыў мову «Бібліі» С. некалькі падобнай на польскую. У гэтым супярэчыў сам сабе: «Біблію» лічыў расійскай, а мову яе — польскай. Памылкова лічыў, што кнігі С. выдадзены ў варшаўскай Празе, а не ў чэшскай. Ш. даў кароткае апісанне аздаблення скарынінскіх кн. «Царствы», «Эсфір», «Руф», «Іоў» і «Прарок Даніл».

*Літ.:* 69; 249. *А. А. Варатнікова.*

**ШТЭЦІНА** (Štetina) Мікулаш Бакаларж (1450—60-я г.— паміж 1513—20), чэшскі друкар і выдавец. Вучыўся ў Кракаўскім ун-це, дзе атрымаў вучоную ступень бакалаўра (адсюль прозвішча «Бакаларж»), потым пераехаў у Пльзень (каля 1493). Працаваў тут друкаром да 1513, пасля, паводле З. Тобалкі, абсталяванне друкарні Ш. перайшло да М. *Конача з Ходзішкава* (пра гэта сведчыць ідэнтычнасць шрыфтоў). Хоць дзейнасць Ш. мела агульнаслав. значэнне, многае з яго біяграфіі вядома недастаткова. Першае дакладна датаванае выданне Ш. адносіцца да 1498 — гэта быў чэш. пераклад пашыранага ў еўрап. адукаваным асяроддзі твора Б. фон Брайдэнбаха «Трактат пра Святую зямлю». Аднак некат. даследчыкі (Ф. Горак) прыпісваюць Ш. таксама выпуск у Пльзені ў 1488 «Прагностыкі» на наступны год. Друкаваная прадукцыя Ш. складаецца з 28 назваў (без спрэчнай «Прагностыкі на 1489 г.»). Паводле зместу гэта навук. і філас.-павучальныя кнігі, маст. і займальная л-ра, календары, зборнікі царк. песнапенняў, а таксама лац.-чэш. слоўнік (1511). Усе гэтыя выданні выйшлі на чэш. мове. Паводле найноўшых пошукаў (Г. Борша), у 1509 у друкарні Ш. выдадзена грамата пра адпушчэнне грахоў на лац. мове. Сярод выдадзеных ім кніг творы ням. (Г. Танштэтэр) і італ. (Гварына) гуманістаў, а таксама 2 пераклады, зробленыя чэш. гуманістамі канца 15— пач. 16 ст. Карнеліусам Віктарынам з Вшэграда і Ржэгаржам Грубым з Елені. Кнігі, выдадзеныя Ш., звычайна невялікія па фармату і аб'ёму, у іх сціплым маст. афармленні адчуваецца выкарыстанне вопыту ням. друкароў з Аўгсбурга і Нюрнберга. У якасці шрыфту Ш. ўжываў гатычныя літары (швабах) з удасканаленымі ім дыякрытычнымі знакамі, якія перадаюць вымаўленне чэш. мовы. На многіх выданнях Ш. выціснуты яго друкарскі знак (3 кап'і з сэрцападобнымі навершамі на геральдычным шчыце ў картушы). Ш. імкнуўся выпускаць танную кнігу для карыснага і займальнага чытання, арыентаваную на спажыўцоў з чэш. і славацкага гар. асяроддзя. Функцыянальная накіраванасць друкаванай прадукцыі Ш., прасякнутая разуменнем патрэб культуры слав. народаў, шмат у чым нагадвае выхадныя пазіцыі С.

*Літ.:* 216; Mikulaš Bakalár Štetina: Štúdie a materiály o zivote a diele slovenského prvotlačiara v Plzni. Bratislava, 1966.

*А. С. Мыльнікаў.*

**ШЧАКАЦІХІН** Мікалай Мікалаевіч (1896—1940), беларускі сав. мастацтвазнавец, гісторык і тэарэтык мастацтва, педагог. Адзін з першых выпрацаваў стройную канцэпцыю гісторыі развіцця бел. мастацтва.

Асобнае месца ў даследаваннях Ш. занялі жыццё і дзейнасць С. Ён — аўтар арыгінальнай гіпотэзы адносна даты і года нараджэння С. (Калі радзіўся Францішак Скарына//Полымя. 1925. № 5). На думку Ш., С. нарадзіўся ў дзень сонечнага зацьмення 6.3.1486, што атрымала адлюстраванне ў яго друкарскім гербе-сігнеце (гл. таксама арт. *«Час нараджэння і смерці Ф. Скарыны»*). Ш.— хранограф паасобных выданняў С. (Scoriniana: Да пытання аб храналогіі Малое падарожнае кніжыцы//Зап. Аддзелу гуманітарных навук. 1928. Кн. 3. Працы класу гісторыі. Т. 2). Меркаванне вучонага адносна года надрукавання «Малой падарожнай кніжкі», зробленае на падставе аналізу вадзяных знакаў паперы выдання, страціла значэнне пасля знаходкі «Пасхаліі», дзе ўказаны дакладна год выхаду кнігі — 1522. Ш.— знаўца і тонкі інтэрпрэтатар гравюр і аздоб скарынінскіх кніг (Дрэварыты і арнамент у выданнях Скарыны//Наш край. 1926. № 1; Гравюры і кніжныя аздобы ў выданнях Францішка Скарыны//Чатырохсотлецце беларускага друку. 1525—1925, 1926). Яму належаць таксама каментарыі да 30 ілюстрацый навук. зборніка, прысвечанага юбілею С.,— «Чатырохсотлецце беларускага друку. 1525—1925».

Ш. зрабіў мастацтвазнаўчы аналіз 45 гравюр у выданнях С., падзяліўшы іх паводле стылёвых адзнак і ўзроўню выканання на 4 групы. Да першай аднёс гравюры з «Псалтыра» 1517 і «Малой падарожнай кніжкі». Гравёрскае выкананне іх было ніжэй кампазіцыі і рысунку. Пры разглядзе ксілаграфій першай групы Ш. на падставе новых біягр. звестак пра С. і таго, што ў тытуле асветніка быў яшчэ прыдатак «doctor artium bonarum», выказаў думку аб магчымым удзеле першадрукара ў маст. афармленні кніг, аўтарстве паасобных рысункаў або эскізаў да гравюр. Найб. і мастацка завершаную групу дрэварытаў, паводле перакanання Ш., складалі гравюры пражскай «Бібліі» 1517—19. Вучоны дэталёва разгледзеў 12 ксілаграфій гэтага выдання, адзначыў у іх цэльнасць, адзінства ў стылёвых і тэхнічных адносінах, звязаў гэта з прыналежнасцю разглядаемых твораў да адной выдатнай маст. школы. У трэцюю групу Ш. аб'ядноўваў гравюры, якія ўзыходзяць да нямецкіх першаўзораў. Вучоны лічыць іх хоць і высокамастацкімі, але некалькі выпадковымі, не звязанымі з іншымі гравюрамі С. Да чацвёртай групы Ш. адносіў 9 ксілаграфій, цікавых па задуме і рысунку, але выкананых неспрактыкаваным гравёрам. У паасобных гравюрах няправільна, у адваротным напрамку, адбіты рысунак, наглядаецца невыразнасць ліній, заблытанасць штрыхоўкі. Асобна разгледзеў Ш. 11 рысункаў ілюстрацыйна-тлумачальнага характару. Вучоны суаднёс іх з магчымымі першакрыніцамі, высветліў змест і маст. асаблівасці, падкрэсліў, што высокамаст. вартасць паасобных гравюр і наяўнасць у большасці кніжак спец. дэкар. заставак сведчаць аб нейкім асабліва дакладным і чыстамаст. падыходзе да знешняй апрацоўкі выданняў С., у якім прымаўся пад увагу не толькі прадметны і зместавы, але таксама і фармальна-мастацкі сэнс кожнай асобнай гравюры. Надзвычай высока ставіў Ш. кніжныя аздобы пражскіх і віленскіх выданняў С.— загалоўныя аркушы, заставкі і арнаментаваныя літары. У стылёвых адносінах для іх, паводле Ш., характэрны элементы позняй готыкі і італ. рэнесансу, з тэхн. боку — высокая дакладнасць і дасканаласць выканання. Ш. падрабязна прааналізаваў 6 загалоўных аркушаў, адзначыў, што ў іх значную ролю адыгрываюць і самі загалоўкі, надрукаваныя прыгожым «скарынавым» шрыфтам з вял. літар, якія арганічна уключаюцца ў агульныя кампазіцыі аркушаў. Аналіз заставак у пражскіх і віленскіх выданнях С. дазволіў Ш. паказаць іх арыгінальнасць, самабытнасць, падкрэсліць асаблівую тонкасць і маст. дасканаласць. Па колькасці, разнастайнасці рысункаў, высокай тэхніцы выканання сярод графічных аздоб выданняў С. самае выдатнае месца, на думку Ш., належыць прыгожа арнаментаваным загалоўным літарам. Пры разглядзе найб. цікавых узораў літар мастацтвазнавец паказвае іх вобразнае багацце, арыгінальнасць, эстэт. завершанасць. Пры разглядзе ўплыву выданняў С. на айч. кнігадрукаванне 16—17 ст. мастацтвазнавец адзначае, што калі гравюры-ілюстрацыі кніг С. не зрабіліся прадметам пераймання, не сталі ўзорамі для пазнейшых дрэварытаў, то графічная арнаментыка і асаблівасці скарынінскага шрыфту былі выкарыстаны іншымі старабел. друкарнямі. Найб. ўплыў скарынінскай арнаментыкі зазнала віленская друкарская школа, друкарня ў Еўі («Казанне св. Кірыла», «Граматыка» Мялеція Смятрыцкага, «Новы закон і Псалтыр» і інш). Традыцыі С. выкарыстаны ў выданнях Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага і інш. Ш. лічыць выданні С. па агульнай іх пабудове і па дэталях апрацоўкі — у гравюрах і арнаментыцы — адным з найвышэйшых дасягненняў друкарскага і ксілаграф. мастацтва не толькі ў старабел., але і наогул у слав. друку.

*Літ.:* Л і с А. Мікола Шчакаціхін. Мн., 1968.

*А. С. Ліс.*

**ШЧАМЯЛЁЎ** Леанід Дзмітрыевіч (н. 1923), народны мастак БССР (1983). У 1986 выканаў партрэт С. (картон, алей, 50×39 см; калекцыя А. Я. Белага). У цэнтры — паясная выява С. ў доктарскім адзенні і з пяром у руцэ, створаная на аснове яго гравюрнага партрэта з «Бібліі». Перад С. разгорнутая кніга. Мастак стварыў вобраз асветніка, першадрукара, у поглядзе якога адчуваецца шчырасць і дабрыня.

**ШЧАПАЎ** Павел Васілевіч (1848—88), маскоўскі купец, калекцыянер слав. старадрукаваных кніг. Пабудаваў спец. будынак для б-кі, у якой захоўвалася 30 тамоў, у т. л. 1600 выданняў кірылаўскага друку. У яго б-цы было 5 пражскіх выданняў С. (2 канвалюты) і «Апостал» 1525. У адным канвалюце кн. «Іоў», «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў», «Еклесіяст», «Песня песням», у другім — кн. «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы» і «Другі закон». Канвалюты пераплецены ў дошкі, абцягнутыя скурай з залатым цісненнем і змацаваныя меднымі засцежкамі. На карашках залатое цісненне: «Біблія Скарыны». «Апостал» — адзін з трох захаваных экземпляраў з чырвоным друкам у асн. тэксце. Пераплецены ў дошкі, абцягнутыя скурай, з арнаментальным цісненнем на карашку і старонках. Паводле завяшчання Ш. яго б-ка перададзена Гіст. музею ў Маскве.

*Літ.:* С и м о н и П. Московский библиофил П. В. Щапов (1848—1888)//Альманах библиофила. Л., 1929; Собрание книг старой печати П. В. Щапова//Щепкина М. В., Протасьева Т. Н. Сокровища древней письменности и старой печати: Обзор рукописей русских, славянских, греческих, а также книг старой печати Государственного Исторического музея. М., 1958.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**ШЧУКІН** Пётр Іванавіч (1853—1912), калекцыянер твораў мастацтва, рукапісаў, старадрукаваных кніг. Калекцыя размяшчалася ў спецыяльна пабудаваным музеі ў Маскве. У 1905 падарыў разам з будынкам Расійскаму гіст. музею. У зборы 949 экз. рукапісаў, выданні С. («Еклесіяст» і канвалют з віленскімі «Часаслоўцам», «Шасціднеўцам», «Саборнікам», акафістамі і канонамі і няпоўным экземплярам «Псалтыра»).

*Літ.:* Краткое описание Щукинского музея в Москве. М., 1895.

**ШЭДЭЛЬ** (Schedel) Гартман (1440—1514), нямецкі гуманіст, пісьменнік. Вывучаў права і медыцыну, стараж. мовы ў Лейпцыгу і Італіі. У Нюрнбергу (з 1484) падтрымліваў сувязь з вучонымі і мастакамі. У 1493 выдаў «Сусветную хроніку». Кніга, праілюстраваная М. *Вольгемутам,* В. Плейдэнвурфам, А. *Дзюрэрам* (каля 2 тыс. гравюр на дрэве), садзейнічала распаўсюджанню гіст. ведаў, з'яўлялася ўзорам кніжнага мастацтва. На сувязь асобных друкарскіх матэрыялаў (гравюр, аздоб) С. з кнігамі Ш. адзін з першых указаў П. *Уладзіміраў* у манаграфіі «Доктар Францыск Скарына. Яго пераклады, друкаваныя выданні і мова» (Спб., 1888). І. *Добраўскі,* Ф. Булгакаў, М. Вішнеўскі, А. *Флароўскі* пры аналізе кніг С. згадвалі Нюрнберг, не ўказваючы на Ш. Меркаванне Уладзімірава, што шэраг гравюр С. запазычаны з «Сусветнай хронікі», прааналізаваў М. *Шчакаціхін* і адзначыў, што яно заснавана на «непаразуменні». Погляд Шчакаціхіна правільны — пераважная большасць ксілаграф. клішэ С. з «Сусветнай хронікай» Ш. не маюць нічога агульнага. Разам з тым 2 дошкі гравюр у «Малой падарожнай кніжцы» С. («Хрыстос у храме» і «Хрышчэнне ў Іардане») выкарыстаны з «Сусветнай хронікі» (гл. у арт. *Кобергер).*

*В. Ф. Шматаў.*



**ЭЛЬЗЕВІ́РЫ** (Elsevier), сям'я галандскіх друкароў і выдаўцоў, фірма якіх існавала з 1581 па 1712 і садзейнічала распаўсюджанню навук. і навуч. кніг у Еўропе. Цэнтрамі іх выдавецкай дзейнасці былі ў канцы 16 — 1-й пал. 17 ст. Лейдэн, у 2-й пал. 17 ст.— Амстэрдам. Іх філіялы або агенцтвы размяшчаліся ў Германіі, Францыі, Англіі, Італіі, Даніі. Найб. вядомыя прадстаўнікі: Лодэвейк Э. Старэйшы [1546 (?) — 1617] — заснавальнік фірмы; Матыяс Э. (1564—1640); Бонавентура Э. (1583—1652); Ісаак Э. (1595—1651); Лодэвейк Э. Малодшы (1604—70). Э. выдалі больш за 2,2 тыс. кніг, каля 3 тыс. дысертацый. Выданні вылучаліся высокім узроўнем паліграф. выканання, выразным і прыгожым шрыфтам, прастатой і зграбнасцю аздаблення. Найб. вядомасць атрымалі невялікія (1/12 аркуша) выданні. Выданні Э. называюць эльзевірамі. У. В. *Стасаў,* высока ацэньваючы віленскую «Малую падарожную кніжку» (каля 1522) С., называў яе слав. эльзевірам.

*Літ.:* Аронов В. Р. Эльзевиры. М., 1975.
*В. Ф. Шматаў.*

**Э́НДЭ** Міхаіл Георгіевіч (1892—1932), беларускі сав. графік. Аформіў (з М. Лебедзевай) юбілейны зборнік *«Чатырохсотлецце беларускага друку» 1525—1925.* Зрабіў вокладку, загалоўныя літары, застаўкі, канцоўкі. Вокладка стылізавана пад выданні С. На светлым фоне чырвонай фарбай выкананы раслінны арнамент, у якім аб'яднаны традыцыйныя скарынінскія (сонца і месяц) і новыя (серп і молат) сімвалы і лічбы 1525, 1925. У пачатку кнігі фотарэпрадукцыя з партрэта С. мастака Я. Кругера. Большасць загалоўных літар, частка заставак, канцовак стылізаваны пад скарынінскія. Некат. застаўкі і канцоўкі нагадваюць кніжную графіку мастакоў «Свету мастацтва» і еўрап. «мадэрна». Усе элементы афармлення выкананы ў чорна-белай графіцы. Сінтэз двух маст.-стылявых пачаткаў у афармленні стварае адзінства маст. вобраза кнігі.
*В. Я. Буйвал.*

**ЭПІКУ́Р** (Epikuros; 341—270 да н. э.), старажытнагрэчаскі філосаф-матэрыяліст. Заснавальнік філас. школы ў Афінах («Сад» Э.), якая існавала больш за 8 стагоддзяў. Пакінуў каля 300 твораў, з якіх дайшлі 3 пісьмы і зборнік афарызмаў. Філасофія Э. ўключала вучэнні пра пазнанне (каноніка), прыроду (фізіка) і этычнае вучэнне. Успрыняўшы атаміст. тэорыю *Дэмакрыта,* Э. матэрыялістычна тлумачыў свет як сукупнасць непадзельных і вечных часціц-атамаў, якія рухаюцца ў пустаце. Мэта філасофіі — дапамагчы чалавеку вызваліцца ад страху перад смерцю і грознымі з'явамі прыроды, дасягнуць ціхамірнасці духу. Для тлумачэння свабоды волі Э. вылучыў палажэнне аб спантанным адхіленні атамаў ад прамалінейнай траекторыі. Прызнаючы існаванне багоў, лічыў, што яны не ўмешваюцца ў зямныя справы. Этыка Э. заклікала чалавека стаць на шлях шчаслівага жыцця, што заключаецца ў спакоі душы, дабрачыннасці, свабодзе і асалодзе. Э. высока цаніў мудрасць, справядлівасць і дружбу, якія выяўляюць сапраўдную годнасць чалавечай асобы. Ідэі Э. і створанай ім школы (эпікурэізму) значна паўплывалі на развіццё грамадскай думкі. У эпоху Адраджэння атамістыка Э. была ўспрынята натурфіласофіяй, а гуманісты выкарыстоўвалі яго этычнае вучэнне ў барацьбе супраць сярэдневяковага аскетызму.

Ідэі Э. ў іх гуманіст. трактоўцы не толькі былі вядомы С., але і ў асобных рысах, апасродкавана знайшлі адлюстраванне ў яго этычных поглядах. Так, бел. мысліцель, аддаючы прыярытэт духоўным каштоўнасцям, імкнуўся гарманічна спалучаць іх з каштоўнасцямі плоцевымі, падкрэсліваў значнасць для чалавека, што чалавеку важна жыць не толькі в «богатстве», «во множестве имения и статку», але і в «здравии, в красоте и в крѣпости телесной» (гл. с. 51). Блізкі С. да сапраўднага Э. і ў разуменні розуму, мудрасці як важных умоў маральных паводзін, набыцця «добрые обычае», дабрачыннасці, шчаслівага жыцця, бо «кажный человек, имея розум, познаеть, иже непослушание, убийство, прелюбыдеание, ненависть, татба, несправедливость, злоимание, неволя, досаждение, гордость, злоречение, нелютость, клеветание, зависть и иная тым подобная злая быти» (гл. с. 137). Як і Э., да вышэйшых чалавечых каштоўнасцей С. адносіў мудрасць, справядлівасць, чалавекалюбства. Разам з тым бел. гуманіст не дапускаў вульгарызаванай версіі эпікурэізму, які ўзносіць вышэй за ўсё пачуццёвую асалоду. Гаворачы пра людзей, якія «покладают мысли и кохания своя...» «во множестве имения и статку, а нецин в роскошном ядении и питании и в любодеянии» (гл. с. 51), С. адхіляе этыку нястрымнага геданізму, лічачы, што «без мудрости и без добрых обычаев не ест мощно, почтиве жити людем посполите на земли» (гл. с. 37). Непрыхільны быў С. і да ідэі ціхамірнасці (атараксіі), самаўхілення ад грамадскіх і дзярж. спраў, што сустракаецца ў Э. Наадварот, С. лічыў патрыятызм вышэйшай чалавечай дабрачыннасцю, заклікаў, каб людзі «всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея не лютовали» (гл. с. 94). Этыка С. выхоўвала грамадзяніна і патрыёта, які аддаваў усе сілы служэнню свайму народу. Разам з тым сваім жыццесцвярджальным пафасам і дэмакратызмам яна была блізкай да поглядаў Э.

*Літ.:* Маркс К. Различие между натурфилософией Демокрита и натурфилософией Эпикура//Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Т. 40; Шакир-заде А. С. Эпикур. М., 1963; Лосев А. Ф. История античной эстетики: Ранний эллинизм. М., 1979.
*Г. У. Грушавы.*

**ЭРА́ЗМ РАТЭРДА́МСКІ** (Erasmus Roterodamus) Дэзідэрый (1469—1536), нідэрландскі мысліцель, гуманіст, пісьменнік, багаслоў, прадстаўнік паўн. Адраджэння. Жыў у Францыі, Італіі, Германіі, Швейцарыі, пакінуў вял. літаратурную спадчыну. Ажыццявіў перадрукаванае выданне грэч. арыгінала Новага запавету з уласнымі каментарыямі (1517)

і яго лац. пераклад (1519), якія далі пачатак навук. крытыкі Новага запавету. Погляды Э. Р.— філасофска-тэалагічная сістэма гуманіст. маралі, т. зв. «філасофія Хрыста». У цэнтры яе чалавек, які глыбока ўсведамляе свой маральны абавязак перад богам і адначасова поўны гармоніі з прыродай, розумам, прыгажосцю. Не прымаў фанатычны дагматызм і схаласт. мудрасць царкоўнікаў, сляпы культ і паказную набожнасць, паразітызм і прадажнасць кліру, што зрабіла яго ідэйным папярэднікам Рэфармацыі. Э. Р. не далучаўся ні да адной з рэліг. партый, стаў заснавальнікам надканфесіянальнага кірунку «хрысц. гуманізму». Светапогляд С., яго ўяўленні пра мэты сваёй творчай дзейнасці, што была накіравана да «розмножения мудрости, умения, опатрености, разуму и науки» (гл. с. 46), шмат у чым адпавядаюць імкненням Э. Р. ўзбагаціць хрысціянства духоўнымі каштоўнасцямі класічнай старажытнасці, пашырыць межы агульначалавечай культуры, сцвердзіць ідэалы розуму і свабоды. Як і Э. Р., С. ацэньваў прызначэнне філасофіі, якая ў адрозненне ад схаластыкі павінна адказваць на жыццёва важныя, маральна-практычныя пытанні, «абы, научившися мудрости», людзі «добре живучи на свете» (гл. с. 37). Пра блізкасць шляхоў ідэйнага развіцця Э. Р. і С. сведчыць і тое, што першыя скарынінскія выданні біблейскіх кніг («Псалтыр», «Прытчы Саламона», кн. «Іоў», «Ісус Сірахаў») выйшлі ў свет у адзін год з публікацыяй Новага запавету Э. Р. (1517). Абодва гуманісты разглядалі Біблію як маральна-асв. твор, які раскрывае каштоўнасць чалавечага розуму, вучыць дабрачыннаму і грамадска-карыснаму жыццю: «В сей книзе всее прироженое мудрости зачало и конець» (гл. с. 9). С., як і Э. Р., высока ацэньваў значэнне антычнай культ. спадчыны, лічыў неабходным ведаць «все науки быти минущие» (с. 11), а ідэал мудраца бачыў у чалавеку «духа святога и философии исполненных» (гл. с. 43). Сугучныя погляды мысліцеляў і ў тлумачэнні чалавекалюбства, цярплівасці, справядлівасці як важнейшых маральных каштоўнасцей: кожны чалавек, сцвярджаў С., «наиболей любовь ко всим да соблудаеть, еже ест совершена над все иные дарования, без нея же ничто проспешно ест» (гл. с. 197). З гэтай прычыны Э. Р. і С. пазбягалі фанатычнай артадоксіі любога веравызнання, больш давяралі прыроднаму розуму, чым аўтарытарнаму канону, таму што «и нынѣ единый кажный человек, имея розум, познаеть» ісціну (гл. с. 137). Імкненне гуманізаваць рэліг. свядомасць чалавека, зрабіць сваё вучэнне сродкам духоўна-маральнага ўдасканалення людзей, сцвердзіць каштоўнасць разумнага пазнання свету, узбагаціць хрысц. мудрасць скарбніцай антычнай культуры ставіць С. ў адзін рад з буйнейшымі прадстаўнікамі хрысц. гуманізму эпохі Адраджэння — Э. Р., Т. *Морам*, Дж. Колетам і інш.

*Літ.:* 232; Маркиш С. П. Знакомство с Эразмом из Роттердама. М., 1971; Смирин М. М. Эразм Роттердамский и реформационное движение в Германии. М., 1978; Соколов В. В. Философское дело Эразма из Роттердама // Эразм Роттердамский: Филос. произв. М., 1986. *Г. У. Грушавы.*




Выдавецкая марка **Эльзівіраў**.



Эпікур.



Эразм Ратэрдамскі.

**ЭСТЭТЫ́ЧНАЯ ДУ́МКА НА БЕЛАРУ́СІ** ў 16 ст. У гісторыі еўрап. культуры 15—16 ст. вядомы як эпоха Адраджэння, ці Рэнесанса. Сярод яе найб. прыкметных падзей Ф. Энгельс назваў «вынаходства пораху і кнігадрукавання» (Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Т. 7. С. 346). На думку К. Маркса, яны сталі «неабходнымі передумовамі буржуазнага развіцця» (там жа. Т. 30. С. 262). Усх.-слав. кнігадрукаванне 16 ст., найперш дзейнасць С. і яго паслядоўнікаў (Івана *Фёдарава,* Пятра *Мсціслаўца,* Сымона *Буднага,* Васіля *Цяпінскага),* было не выпадковасцю, а заканамернай з'явай пашырэння рэнесансавай культуры на ўсх.-слав. рэгіён. Яе істотныя рысы выявіліся ў эстэт. думцы і маст. культуры Беларусі гэтага перыяду, якія па сваёй светапогляднай аснове былі гуманіст., накіраванымі на ўдасканаленне чалавека і грамадства.

Асв. дзейнасць С. на Беларусі падрыхтавала глебу для развіцця нацыянальна-своеасаблівых форм эстэт. думкі, у пэўнай ступені адэкватных рэнесансаваму тыпу культуры. Найважнейшым дасягненнем было ўзнікненне л-ры і друкаванай кнігі на роднай мове, станаўленне свецкай паэзіі і інш. відаў мастацтва, пачатак фарміравання нац. самасвядомасці як фактару, які стабілізуе цэласнасць народа і нацыі. С. належаць першыя спробы сілабічнага вершаскладання. Аднак тады для свецкай паэзіі на ўсх.-слав. моўнай аснове яшчэ не хапала вопыту і літаратурных традыцый. Затое ў перыяд, калі С. друкаваў свае кнігі (1517—25), на Беларусі, у Польшчы і Літве адносна высокага развіцця дасягнула новалац. паэзія Міколы *Гусоўскага,* Яна Вісліцкага і інш. У паэме «Песня пра зубра» (1523) Гусоўскі адлюстраваў рэнесансава-гуманіст. канцэпцыю жыцця і мастацтва (усведамленне грамадскай і духоўнай каштоўнасці чалавека, прыроды і прыгажосці; погляд на л-ру як адлюстраванне жыцця; прынцып наследавання прыродзе, што вынікаў з пастулата пра адзінства праўды і прыгажосці). У перыяд ранняга Адраджэння на Беларусі (1-я пал. 16 ст) вызначыліся 2 плыні эстэт. думкі. Першая фарміравалася на традыцыях старараж.-рус. культуры, узбагачаных дасягненнямі еўрап. Адраджэння, і адлюстроўвала працэс развіцця бел. народнасці (дзейнасць С., пазней Фёдарава і Мсціслаўца). Другая плынь узнікла на аснове адраджэння антычнай (новалац.) паэзіі, якая раскрыла не толькі красу роднага краю, але і трагічныя канфлікты паміж ідэалам (веліч і прыгажосць Радзімы, яе гераічнае мінулае) і суровай рэальнасцю (сац. несправядлівасць, бесчалавечная жорсткасць, братазабойчыя войны), адлюстраваныя ў паэзіі Гусоўскага і Вісліцкага. С. і Гусоўскі ішлі рознымі шляхамі, але іх творчасць і светапогляд мелі агульную трывалую аснову ў дэма-

кратызме, гуманізме, народнасці, у звароце да роднай мовы (С.) і нар. творчасці (Гусоўскі). Цэнтр. катэгорыя, у якой выявіліся іх эстэт. адносіны да рэчаіснасці,— прыгожае. Яна арыентавала іх на сцвярджэнне гарманічных суадносін чалавека і грамадства. Разам з тым Гусоўскі адлюстраваў глыбокія супярэчнасці свайго часу, якія пазней (2-я пал. 16—17 ст.) востра праявіліся ў класавай і нац.-рэліг. барацьбе, у трагічнай раздвоенасці бел. культуры. Спецыфічная для Беларусі эпоха позняга Адраджэння (з сярэдзіны 16 ст.) адзначана гэтымі супярэчнасцямі — фарсіраваннем апалячання феад. вярхоў краю, рэфарм. рухам, а потым каталіцка-езуіцкай рэакцыяй. У адрозненне ад раннерэнесансавай асв. эстэтыкі, заснаванай на веры ў магчымасць гармоніі паміж класамі і народамі, асобай і грамадствам, позняе Адраджэнне на Беларусі характарызавалася адказам ад гэтых спадзяванняў і настойлівай барацьбой 3 ідэалаг. кірункаў — праваслаўя, каталіцызму і Рэфармацыі — за сцвярджэнне сваіх светапоглядных і ў прыватнасці эстэт. арыентацый. Выдавецкая дзейнасць і публіцыстыка паслядоўнікаў С. ў Расіі, на Беларусі і Украіне Фёдарава і Мсціслаўца арыентавалася на праваслаўе і айч. асв. традыцыі. Іх эстэтыка грунтавалася на прызнанні зямной красы, велічы з'яў прыроды і культуры, якія тлумачыліся як сімвалы мудрага і спрадвечнага мастака — бога. Прыродная краса, акрамя свайго непасрэднага значэння, мела яшчэ вышэйшы, духоўны сэнс — тлумачылася як вобраз духоўна-божага свету. Шырока ўжывалася паняцце «ўпрыгожваць», якім падкрэслівалася эстэт. каштоўнасць маст. і ўсякай стваральнай працы чалавека. Фёдараў і Мсціславец у прадмовах і пасляслоўях да сваіх кніг працягвалі гэту ўсх.-слав. асв. традыцыю эстэтыкі С. (урачыстыя і шчырыя звароты да чытача, дзе падкрэслівалася неабходнасць руху ўверх — ад цемры да святла; увага акцэнтавалася на катарсічным, выхаваўчым уздзеянні ісціны і красы ў кнігах, патрэбных нам «для выпраўлення душэўнага і цялеснага»).

Асветніцтва С. аб'ектыўна садзейнічала ўзнікненню рэфарм. руху, крытыцы святога пісьма і артадаксальнай хрысц. традыцыі наогул з боку Буднага і яго паслядоўнікаў. Агульным для С. і Буднага быў падыход да Бібліі як аб'екта не толькі веры, але і навук., нават эстэт. ацэнкі. Аднак для С. характэрны цэласны погляд на Стары і Новы запаветы як абагульненне ўсіх стараж. навук і мастацтваў і адпаведна з гэтым — пераважна этыка-эстэт. аналіз іх зместу. У Буднага ж пераважае фармальна-лагічны і тэксталагічны аналіз гэтых кніг. Як ідэолаг радыкальнага пратэстантызму (антытрынітарызму) і рацыяналізму ён не аддаваў вял. увагі пытанням эстэтыкі. Пры вызначэнні сутнасці бога Будны не ўключаў у яго атрыбут абсалютна прыгожага, эстэтычна дасканалага, хоць прызнаваў, што ўсе створаныя богам рэчы «дзіўныя, цудоўныя». Адносіны Буднага да мастацтва супярэчлівыя і недастаткова выяўленыя. У яго іканаборчай пазіцыі быў відавочны аспект адмаўлення пэўных, пераважна царк. традыцый выяўленчага мастацтва. Выступаў ён таксама супраць нар. карнавалаў з танцамі, скамарохамі і музыкай. Але ён высока цаніў дыдактычную л-ру, унёс пэўны ўклад у развіццё палемічнай публіцыстыкі. Народна-патрыятычны аспект эстэтыкі С. працягваў Цяпінскі, ацэньваючы як «шкарэдную» (агідную і нізкую) пазіцыю свецкіх і духоўных феадалаў, што выракліся роднай мовы, духоўных каштоўнасцей бел. народа. Ад С. і Цяпінскага пачынаецца традыцыя абароны роднай мовы як агульнанар. духоўнай і эстэт. каштоўнасці.

Эстэт. погляды С.— заканамерны этап у развіцці эстэт. думкі Беларусі ад яе сярэдневяковых сінкрэтычных форм (стараж.-рус. раннехрысц. асветніцтва, традыцыі старабел. л-ры, выяўленая ў фальклоры нар. эстэтыка) да развітых і адносна дыферэнцыраваных поглядаў на эстэт. катэгорыі і мастацтва.

*Літ.:* 110; 156; 229; Иван Фёдоров и восточнославянское книгопечатание. Мн., 1984.

*У. М. Конан.*

**ЭСТЭТЫ́ЧНЫЯ ПО́ГЛЯДЫ Ф. СКАРЫНЫ**, гл. ў арт. *Светапогляд Ф. Скарыны.*



**«Эсфір перад Асверам».** Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Эсфір» Ф. Скарыны.

**«ЭСФІ́Р ПЕ́РАД АСВЕ́РАМ»** «Эсъферь царица пришла предь Асвера царя», гравюра тытульнага ліста старазапаветнай кананічнай *кнігі «Эсфір»*, выдадзенай С. у Празе (1519).

У аснове біблейскага сюжэта — аповесць пра выратаванне персідскай царыцай Эсфір'ю іудзеяў, якія жылі на тэрыторыі Персідскай імперыі пасля іх «вавілонскага палону». Вялікі візір Аман дабіўся ад цара Асвера (Ксеркс І) дазволу на знішчэнне яго аднаверцаў у Персіі. Рызыкуючы жыццём, Эсфір прыйшла да цара прасіць за свой народ і змагла яго пераканаць. На шыбеніцы, якая была прыгатавана Аманам для айчыма Эсфіры, быў павешаны сам Аман. У гэтым творы С. бачыў увасабленне маральнага закону, звернутага да ўсіх людзей: «Не копай под другом своим ямы, сам ввалишся в ню» (гл. с. 150).

У кампазіцыі гравюры (105×104 мм) цэнтр. месца займае выява Эсфіры (вядома ў творчасці Мікеланджэла, Рэмбранта і інш. вял. мастакоў). Адчуваецца імкненне мастака да гераізацыі — не выпадкова тыпаж Эсфіры, яе поза, сагнутая ў калене правая нага, складкі адзення выяўляюць падабенства з вобразам Юдзіфі (гл. *«Юдзіф і Алаферн»*), дзе падкрэслена не яе прыгажосць, а сіла духа, неўтаймаваны характар. Тэхніка гравіроўкі «Э. і А.» разнастайная: у трактоўцы інтэр'ера — раскошны царскі палац, фігуры мадэліраваны закруглены-

мі штрыхамі. Зацянёныя месцы на адзенні цара і служанак дадзены перакрыжаванай штрыхоўкай. Блізкая па кампазіцыі да гэтай гравюры ілюстрацыя ў Бібліі, выдадзенай у Страсбуру (1485). Рысамі падабенства з'яўляюцца кампазіцыйнае размяшчэнне цара на троне і групы жанчын, аднолькавая колькасць персанажаў. Аднак ёсць і разыходжанні ў дэталях самой сцэны і ў позах персанажаў. Ням. гравюра тэхнічна выканана даволі груба. Гравюра С. адрозніваецца большай дасканаласцю, разнастайнасцю вырашэння асвятлення, пластыкі чалавечых фігур і інтэр'ера.

*Літ.:* 564. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**ЭТЫЧНАЯ ДУМКА НА БЕЛАРУСІ** ў 16 ст. Вядучая тэндэнцыя прагрэсіўнай, рэнесансава-гуманіст. думкі Беларусі, тыповым прадстаўніком якой быў С.,— паступовае пераадоленне пануючага тады сярэдневякова-феад., царк.-тэалагічнага погляду на чалавека і станаўленне рацыяналістычна-натуралістычных, ранбуржуазных. ідэй і ўяўленняў пра мараль. Хоць этычныя погляды рэнесансавых мысліцеляў Беларусі абумоўлены саслоўна-класавымі адносінамі, феад. ўяўленнямі, хрысц.-тэалагічным і філас. вучэннем, яны не былі тоеснымі сярэдневяковай феад.-хрысц. артадоксіі, бо істотна змяніліся пад уздзеяннем грамадскіх працэсаў, рэфармацыйна-гуманіст. дактрын, ідэй антычнай этычнай думкі. Калі артадаксальная хрысц. этыка зыходзіла з прынцыпаў фатальнай непаўнацэннасці маральнай прыроды чалавека, няздольнасці пераадолець гэту непаўнацэннасць без царк. ўдзелу, то рэнесансава-гуманіст. вучэнні пра мараль, і ў прыватнасці скарынінскае вучэнне, грунтаваліся на даверы да натуральнай прыроды чалавека, перакананні ў магчымасці яе ўдасканалення праз індывідуальныя намаганні. Істотную ролю адыграла пратэстанцкая ідэя пра мірское прызначэнне чалавека. Рэнесансавыя мысліцелі Беларусі абвясцілі задачу маральнага абнаўлення і абміршчэння чалавека не толькі праз свецкія вучэнні аб маралі, але і праз гуманізаваную і секулярызаваную хрысц. этыку, у якую ўваходзілі новыя кампаненты, запазычаныя з антычных вучэнняў *Платона, Арыстоцеля, Цыцэрона, стаіцызму,* эпікурэізму, рэфарм. дактрын і інш. Асн. праблема этычнай думкі эпохі *Адраджэння* на Беларусі, асабліва яе памяркоўна-гуманіст. разнавіднасці,— праблема чалавека і грамадства. С. належыць прыярытэт у пастаноўцы гэтай праблемы і рэнесансава-гуманіст. трактоўцы яе аспектаў: прызначэння, сэнсу жыцця і духоўнага свету чалавека, яго годнасці, каштоўнасцей і ідэалаў, духоўна-маральнай свабоды, суадносін індывідуальнага і агульнага дабра, грамадскай актыўнасці, паходжання маральных уяўленняў, узаемасувязі духоўна-маральнага ўдасканалення чалавека з удасканаленнем грамадскіх інстытутаў і інш. (гл. ў арт. *Светапогляд Ф. Скарыны*). Абвешчаная або акрэсленая С. этычная праблематыка далей інтэнсіўна распрацоўвалася ў айч. думцы, узбагачалася канкрэтным зместам (Мікола *Гусоўскі, Міхалон Літвін*).

Адна з найб. яскравых рэнесансава-гуманіст. выяў у этычнай думцы 16 ст.— сцвярджэнне ідэі духоўна-маральнай свабоды. Працэс гэты цесна звязаны з паступовым усведамленнем неабходнасці вызвалення маральнай свядомасці чалавека не толькі ад царк. апекі, але і ад падпарадкавання веры. Канкрэтна-гіст. формы абгрунтавання духоўна-маральнай аўтаноміі чалавека былі самыя разнастайныя. Асноўная асаблівасць развіцця айч. этыка-гуманіст. думкі заключалася ў тым, што вучэнне пра неабмежаваную духоўна-маральную свабоду чалавека мае на ўвазе асуджэнне крайняга індывідуалізму, уседазволу. Мысліцелі Беларусі ад С. да Сімяона Полацкага пастаянна імкнуліся да ўзгаднення прынцыпу духоўнай свабоды з прынцыпам агульнага дабра, настойліва падкрэслівалі прыярытэт грамадскіх інтарэсаў перад асабістымі. Важнейшыя праблемы, што знаходзіліся ў цэнтры ўвагі рэнесансава-гуманіст. філасофска-этычнай думкі на Беларусі ў 16 ст.,— пераемнасць і сінтэз духоўна-маральных каштоўнасцей антычнасці, сярэднявечча, Адраджэння, паходжанне маральных паняццяў. Гуманістычна арыентаваныя мысліцелі Беларусі гэту праблему вырашалі кампрамісна. З мэтай сінтэзу антычных і хрысц. маральных норм рэабілітаваліся філасофска-этычныя вучэнні Ст. Грэцыі і Рыма, антычная этыка істотна збліжалася з хрысціянскай, рабіліся спробы выяўлення універсальных, прыродных, агульначалавечых крыніц маральных дактрын хрысціянства і антычнасці і інш. Гэта тэндэнцыя была ўласціва С. і С. Буднаму, аднак найб. яскрава яна выяўлена ў Станіслава *Кашуцкага,* Бенеша Буднага, С. Полацкага і інш. Віднае месца ў філас. этычных пошуках айч. мысліцеляў-гуманістаў займалі праблемы шчасця, індывідуальнага дабра, этычнага ідэалу і інш. Усе яны разглядаліся С., Гусоўскім, Літвінам, Кашуцкім, Б. Будным, С. Полацкім, аднак найб. грунтоўна, па-філасофску яны разгледжаны ў творах Андрэя *Волана.* Этычны ідэал Волана вынікаў з спецыфічнага разумення ім ролі і месца маралі ў жыцці грамадства. Для яго, як і інш. рэнесансавых мысліцеляў Беларусі (С., М. Літвін), характэрна імкненне да выяўлення прычынна-выніковай сувязі паміж індывідуальнай і грамадскай мараллю і сац.-дзярж. ін-тамі. Мараль і правы ён лічыў асновай сац. арганізма, якая захоўвае яго адзінства, падтрымлівае грамадскую згоду і саслоўна-класавую гармонію. Адсюль пафас, з якім ён крытыкаваў маральныя заганы саслоўяў Рэчы Паспалітай і перш за ўсё шляхты. У трактаце «Пра гасудара і ўласцівыя яму дабрачыннасці» (1608) Волан стварыў вобраз дзярж. дзеяча, які з'яўляўся адначасова і эталонам ідэальнага чалавека і грамадзяніна, дабрачыннасці якога — мудрасць, умеранасць, справядлівасць, мужнасць, шчодрасць і інш. Катэгорыі антычнай этыкі ён пераасэнсоўваў з пазіцый эпохі Адраджэння, асабліва мудрасць, якую атаясамліваў з навукай і культурай. Імкнуўся таксама сінтэзаваць рэнесанса-гуманіст. ідэал з хрысціянскім, дабрачыннасцю лічыў набожнасць, этычным ідэалам — дасканалага ва ўсіх адносінах чалавека, прадстаўніка інтэлектуальнай эліты эпохі Адраджэння.

Рэліг.-этычныя погляды ідэолагаў айч. радыкальнай Рэфармацыі мелі пэўную спецыфіку. Антыфеад. накіраванасць іх сац.-этычнага вучэння спалучалася з яго знешне мірным, непрацiўленскім характарам, які быў абумоўлены асаблівасцямі грамадскай сітуацыі. У абставінах феад. рэакцыі, якая ўзмацнялася, радыкальныя ідэолагі заклікалі не да насільнага звяржэння, а да байкоту пануючых сац.-дзярж. і ідэалагічных ін-таў. Яны імкнуліся падтрымаць нар. нізы, не даць ім прымірыцца з існуючай рэчаіснасцю. Таму ў якасці маральных дабрачыннасцей яны сцвярджалі братэрства, справядлівасць, самаадданасць, чалавекалюбства, альтруізм і інш. Паводле плебейска-сялянскіх ідэолагаў, чалавек мае маральную свабоду, ён павінен свядома і добраахвотна зрабіць свой сац. выбар: ці застацца ва ўладзе «свету», г. зн. старога свету, ці прымкнуць да «ісцінных хрысціян», г. зн. змагароў за новы свет. У апошнім выпадку чалавек павінен духоўна абнавіцца, парваць не толькі з маёмаснымі і сац. сувязямі «свету», але і адмовіцца ад яго маральных ідэалаў і каштоўнасцей. У выпадку, калі ўнутраныя маральныя перакананні чалавека ўступаюць у канфлікт са знешнімі абставінамі, неабходна прытрымлівацца загаду сумлення, якое радыкальныя мысліцелі атаясамлівалі са «словам божым». Нягледзячы на абстрактна-гуманіст., евангельска-непраціўленскія тэндэнцыі, сац.-этычнае вучэнне ідэолагаў радыкальнай Рэфармацыі выяўляла нар. пратэст супраць існуючай грамадскай несправядлівасці, пануючай феадальна-царк. маралі, сац. і духоўнага прыгнёту чалавека працы.

Вяршыня і заканамерны вынік развіцця рэнесансава-гуманіст. этычнай думкі Беларусі — безрэліг. маральнае вучэнне Стэфана Лована, К. Бекеша, крыніцамі якога з'яўляецца айч. рацыяналіст. і натураліст. этычная традыцыя, антычная этыка і перш за ўсё эпікурэйскае вучэнне пра мараль, атэіст. і матэрыяліст. ідэі эпохі Адраджэння. Яркім выразнікам канцэпцыі безрэліг. маралі ў айч. этыцы таксама быў Лышчынскі, погляды якога грунтаваліся на атэістычна матэрыяліст. анталогіі. Рэлігія, сцвярджаў ён,— цынічны і наўмысны падман меншасцю (свяшчэннаслужыцелямі, тэолагамі) большасці (простага народа). Яна трымаецца на невуцтве і страху і таму не можа служыць асновай маральных павадзін. Абвяргаў прыроджаны характар маральных паняццяў, разглядаў іх як вынік сац.-пазнавальнага вопыту чалавека. Прагрэсіўная этычная думка на Беларусі ў 16 ст. істотна паўплывала на фарміраванне асн. сац.-маральных каштоўнасцей, станаўленне грамадскай і нац. самасвядомасці, рэв.-дэмакр. традыцый бел. народа наступнага часу.

*Літ.:* 130; 231; 232. *С. А. Падокшын.*



**«ЮДЗІ́Ф І АЛАФЕ́РН»,** «І у д и ф ь в д о в и ц а о т с е ч е г л а в у О л ф е р н у в о е в о д е», гравюра на тытульным лісце старазапаветнай некананічнай *кнігі «Юдзіф»*, выдадзенай С. у Празе (1519).

У аснове сюжэта твора — біблейская легенда пра выратаванне народа мудрай жанчынай. Цар вавілонскі (у Бібліі — «асірыйскі») Навуханаданосар агнём і мячом падпарадкаваў усе суседнія народы, а на непакорную Іудзею паслаў намесніка Алаферна, які асадзіў крэпасць Вецілую (у С.— «Вефулию»). Падзенне крэпасці адкрывала ворагам шлях да г. Іерусаліма. Маладая ўдава Юдзіф са сваёй служанкай прыйшла ў стан ворага і заваражыла Алаферна, які запрасіў яе на пір. Ягоным жа мячом соннаму Алаферну Юдзіф адсекла галаву і вярнулася ў родны горад. На ворагаў, якія раніцай убачылі адсечаную галаву свайго правадыра, напаў жах, і яны панічна адступілі. На думку С., вобраз Юдзіфі — узор гераізму ў імя любві да сваёй радзімы.



**«Юдзіф і Алаферн».** Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Юдзіф» Ф. Скарыны.

Старазапаветны сюжэт пра ўдаву Юдзіф, якая выратавала родны горад ад нашэсця асірыйцаў, у мастацтве Адраджэння быў вельмі папулярны (працы Батычэлі, Джарджоне, фрагмент размалёўкі Мікеланджэла на столі Сікстынскай капэлы ў Ватыкане і інш.).

У цэнтры гравюры С. (105×104 мм) буйным планам ва ўвесь рост паказана Юдзіф. Вобраз яе далёкі ад біблейскага: яна не прыгажуня, але ў яе мужны, валявы, амаль мужчынскі профіль, дужая фігура, гордая пастава. Гераіня адлюстравана, магчыма, некалькі наіўна (пэўны схематызм малюнка асабліва прыкметны ў трактоўцы рук, носа, падбародка), але выразна і востра. Правай рукой Юдзіф упэўнена трымае меч, левай кідае ў мяшок (трымае яго служанка) адсечаную галаву Алаферна. Дзеянне адбываецца на фоне шатра, у якім бачна абезгалоўленае цела заваёўніка. У глыбіні кампазіцыі выява абнесенага сцяной горада. Кампазіцыя гравюры выглядае ідовішчнай, «карцінная», яе, несумненна, гравіраваў вопытны майстар. Доўгія паралельна-гарызантальныя штрыхі на зямлі ўдала спалучаюцца з кароткімі, закругленымі штрыхамі на выявах людзей. «Цякучыя» вертыкальныя лініі на адзенні Юдзіфі і яе служанкі падкрэсліваюць пластыку фігур. Танальнасць гравюры падпарадкавана раскрыццю задумы, блікі святла акцэнтуюць увагу на тварах Юдзіфі і служанкі, а таксама на шатры і целе Алаферна. Яе агульны серабрыста-светлы тон як бы ўзмацняе ўрачыстасць перамогі Юдзіфі над ворагам. Кампазіцыя гравюры мае некат. агульныя рысы з

ілюстрацыямі Біблій, выдадзеных у Аўгсбургу, Страсбуру, Любеку, Кёльне. Але скарынінская гравюра адрозніваецца ад нямецкіх. Апошнія (за выключэннем гравюры з «Аўгсбургскай біблii» (маюць выцягнуты па гарызанталі фармат, гал. персанажы ў іх як бы «ўраўнаваны» з акружэннем, у некат. акружэнне нават пераважае. Ням. гравюры не пазбаўлены наіўнай ілюстрацыйнасці, апавядальнасці і схематызму, што характэрна для ранніх ням. ксілаграфій. Выкананыя ў стылі готыкі, яны як бы разлічаны на далейшую размалёўку ўручную. Ням. ілюстратары «цытуюць» біблейскі сюжэт, С., наадварот, пластычнымі сродкамі выяўляе яго ідэйную сутнасць. Замест падоўжнага ён выбірае амаль квадратны фармат, што як бы сціскае гравюру, адрэзваючы нязначныя дэталі. Фігуры Юдзіфі і служанкі свядома манументалізаваны, набліжаны да гледача, што ўзмацняе «павучальнасць» сюжэта. У позе гал. гераіні (у адрозненне ад ням. гравюры) рысы вялікасці, усведамлення выкананага абавязку, у служанкі замест рабскай угодлівасці — пачуццё годнасці. Гэта ўжо не раба, не служанка, а гераіня, саўдзельніца адважнага ўчынку. Другарадныя дэталі ў гравюры С. паказаны лаканічна, абагульнена, яны толькі дапаўняюць гал. сэнс. У скарынінскай гравюры адчуваецца свядомае імкненне да гераізацыі цэнтральнага вобраза (яго трактоўка пераклікаецца з вобразам Эсфір з гравюры *«Эсфір перад Асверам»*), які ў гравюры выступае ідэалам грамадзянскасці і патрыятызму. Задума гравюры С. і яе выяўленчая трактоўка блізкія да апісання падзей у прадмове С. да кн. «Юдзіф». Відаць, С. кансультаваў гравёраў, абмяркоўваў з імі трактоўку вобразаў. «Аўтарскія правы» С. на гравюру пацвярджае яго герб-сігнет.

*Літ.:* 564; 792. *У. М. Конан, В. Ф. Шматаў.*

**ЮХО** Іосіф Аляксандравіч (н. 1921), беларускі сав. прававед. Д-р юрыд. н. (1982), праф. (1983). Працуе на кафедры тэорыі дзяржавы і права юрыд. ф-та БДУ. Даследуе гісторыю дзярж. права Беларусі, Вял. княства Літоўскага і іх паліт. устаноў феад. часу, грамадскія і прававыя погляды С. Аўтар работ «Прававое становішча насельніцтва Беларусі ў XVI ст.» (1978), «Хто складаў Літоўскі статут?» (Беларусь. 1958. № 3), «Статуты Вялікага княства Літоўскага» (Полымя. 1966. № 11), «Грамадскія і прававыя погляды Скарыны» (Тамсама. 1967. № 6), «Уніі Вялікага княства Літоўскага з Польшчай» (Тамсама. 1972. № 1). Упершыню выказаў гіпотэзу аб непасрэдным удзеле С. ў распрацоўцы і падрыхтоўцы *Статута Вялікага княства Літоўскага 1529.* Аналіз асн. дзяржаўна-прававых ідэй С. даў даследчыку падставу зрабіць вывад, што многія з іх (прыярытэт народа ў дзяржаве і праватворчасці, адзінства права для ўсёй дзяржавы і ўсіх людзей, неабходнасць законаў, якія б былі аднолькава годнымі для выканання, карыснымі для насельніцтва і адпавядалі звычаям, часу і месцу, мэтазгоднасць падзелу права на розныя галіны і інш.) увайшлі як самастойныя раздзелы і артыкулы ў гэты Статут і знайшлі заканадаўчае замацаванне ў далейшых прававых кодэксах Вял. кн. Літоўскага. (Гл. таксама арт. *Светапогляд Ф. Скарыны.*) *С. Ф. Сокал.*



**ЯГЕЛО́НСКАЯ БІБЛІЯТЭ́КА,** адна з буйнейшых універсальных бібліятэк ПНР. Засн. ў 1364 у Кракаве як б-ка ун-та. У б-цы зберагаюцца матрыкульныя і прамацыёнпыя кнігі Кракаўскага ун-та з запісам аб паступленні С. ў 1504 у ун-т і аб атрыманні ім 10.10. 1506 вучонай ступені бакалаўра філасофіі. Мае канвалют віленскіх выданняў С. («Акафіст магіле гасподняй», «Канон магіле гасподняй», «Акафіст архангелу Міхаілу», «Канон Іаану Прадцечы», «Акафіст Іаану Прадцечы», «Канон святому Міколе», «Акафіст святому Міколе», «Акафіст святому Пятру і Паўлу», «Акафіст крыжу гасподняму», «Канон багародзіцы», «Акафіст багародзіцы», «Канон Ісусу», «Акафіст Ісусу». На агульным тытульным лісце і на 4-м арк. надпіс аб прыналежнасці кнігі Кракаўскаму сабору св. Барбары ордэна езуітаў. Кніга пераплецена ў дошкі, пакрыта скурай з цісненнем. Зберагаюцца таксама 11 арк. фрагментаў з пражскіх выданняў С., якія часткова захаваліся,— 2 арк. з кн. «Ісус Навін», 1 — з кн. «Быццё», 4 — з кн. «Юдзіф», 4 — з кн. «Прарок Данііл». У 1972 усе фрагменты пераплецены разам. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ЯКУ́Б З КАЛІ́НАЎКІ** (Каліноўскі; ? — 1583), гуманіст, ідэолаг левай, плебейска-сялянскай плыні радыкальна-рэфармац. руху на Беларусі і ў Літве. Паходзіў, магчыма, з Падляшша ці зах. Беларусі. З пач. 1560-х г. і прыкладна да 1567 пратэстанцкі прапаведнік у пратэктара кальвінізму ў Вял. кн. Літоўскім, брэсцкага і кобрынскага старосты А. Валовіча. Як сведчыць Сымон Будны ў кн. «Аб свецкай уладзе» (1583), Якуб вымушаны быў пакінуць гэту пасаду з прычыны актыўнай антытрынітарскай дзейнасці (гл. *Антытрынітарыі*). Удзельнічаў у арыянскіх сінодах у Скрыне (Польшча, 1567), Іўі (Навагрудскі пав., 1568), Бялжыцах (Малая Польшча, 1569). На сінодзе ў Іўі дыспутаваў з Будным, выступаў супраць усякай эксплуатацыі, свецкай улады, за свабоду веравызнання. Мяркуюць, што з 1569 дзейнічаў у Польшчы. Быў адным з заснавальнікаў абшчыны ў Ракаве (Сандамірскае ваяв.), дзе радыкальна настроеныя арыяне намагаліся рэалізаваць некат. з сваіх сацыяльна-утапічных прынцыпаў. У перыяд свайго знаходжання ў Вільні Я. з К. мог пазнаёміцца з выданнямі С. Пэўныя «біблейскія» тэксты, якія адлюстроўвалі ідэалогію ранняга хрысціянства, былі асн. крыніцай яго радыкальных поглядаў.

*Літ.:* Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. Мн., 1970. *Л. С. Іванова.*

М. Якунін. Афіша да спектакля Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра «Францыск Скарына» («Напісанае застаецца»). 1978.




**ЯКУ́НІН** Мікалай Міхайлавіч (1924—85), беларускі сав. тэатральны мастак. Аўтар афішы, эскізаў дэкарацый і касцюмаў да спектакля Гродзенскага абл. драм. тэатра «Францыск Скарына» А. Петрашкевіча (1978). У аснову афішы пакладзена супрацьпастаўленне гуманізму і дабра ўладзе цемры, злу і насіллю. На фоне сімвала асветніцтва — сонечных праменняў — выява С. з кнігай у руках, вакол якой размешчаны сцэны катавання ў засценках інквізіцыі.

**ЯЛУ́ГІН** Эрнест Васілевіч (н. 1936), беларускі сав. пісьменнік. Аўтар аповесцей пра паслядоўніка першадрукара Пятра Мсціслаўца «Мсціслаўцаў посах...» (1971, 2-е выд. 1978; у аповесці ёсць сцэна магчымай сустрэчы С. і Мсціслаўца ў Вільні) і «Апошні князь» (1977), артыкулаў аб прадаўжальніках справы С. «Убачыць Мсціслаўца» (Неман. 1975. № 10), «Іван да Пётр...» (там жа. 1983. № 9), «Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец» (Іван Фёдараў і ўсходнеславянскае кнігадрукаванне, 1984). Напісаў сцэнарый дакумент. фільма «Мсціслаў: звенні часу» (1984).

**ЯН** (Януш; 1499—1538), віленскі каталіцкі біскуп, пазашлюбны сын *Жыгімонта I* і Катажыны Охстат Цельнічанкі (магчыма, паходзіла з Цельніч у Маравіі). Выхоўваўся ў Кракаве. Каля 1510 кракаўскі канонік пад імем Яна дэ Цельніч. У 1515 вучыўся ў Балонскім ун-це (відаць, праву) пад імем Яна з князёў літоўскіх. Працаваў у каралеўскай канцылярыі. Канонік пазнанскі (1516), епіскап віленскі і фактычны намеснік бацькі ў Вял. кн. Літоўскім (1519—36). Праводзіў палітыку бацькі ў адносінах абмежавання ўлады свецкіх магнатаў. Для ўмацавання ўлады дынастыі Ягелонаў распрацаваў разам з Юрыем Радзівілам праект прызнання Вял. кн. Літоўскага каралеўствам (1526), але польскія магнаты не дапусцілі гэтага. Атрымаў ад караля Жытомір, Камянец, Шаўлі (цяпер Шаўляй) і тытул ваяводы. Прыхільнік пашырэння каталіцызму ў Вял. кн. Літоўскім. Да

19.5.1536 быў віленскім, а з 1537 — пазнанскім епіскапам. Па меркаванню некат. даследчыкаў, яго прыдворным лекарам і сакратаром быў С. *В. П. Грыцкевіч.*

**ЯН З ГЛО́ГАВА,** Ян Глогаўчык, Глогаўскі Ян (1445—1507), прафесар Кракаўскага ун-та. З 1462 вучыўся ў Кракаўскім ун-це, у 1465 атрымаў вучоную ступень бакалаўра, у 1468 — магістра. З 1470 выкладчык ун-та, у 1478 і 1489—90 выконваў абавязкі дэкана аддзялення «вольных навук». У час вучобы С. чытаў лекцыі: у 1504 па логіцы Арыстоцеля, лагічных трактатах Пятра Іспанскага, у 1505 па фізіцы і логіцы Арыстоцеля, граматыцы Даната, у 1506 па астраноміі Яна Сакрабоска, логіцы і філасофіі Арыстоцеля. Аўтар навук. прац па філасофіі, метафізіцы, логіцы, астраноміі, астралогіі, фізіялогіі, псіхалогіі і практычнай медыцыне. Яго працы садзейнічалі фарміраванню прыродазнаўча-навук. поглядаў С. Астранам. і астралаг. працы вучонага выкарыстаны С. пры падрыхтоўцы каляндарных раздзелаў у «Малой падарожнай кніжцы». Кнігі Я. з Г. ў канцы 15 — 1-й пал. 16 ст. выдаваліся ў Кракаве, Лейпцыгу, Страсбуру. Вучні Я. з Г., акрамя С.,— М. *Капернік, Войцех з Брудзева, Ян са Стобніцы,* М. *Фалькенер,* М. *Бем.*

*Літ.:* Szczególa H. Jan Iłogowczyk. Katowice, 1967. *Я. Л. Неміроўскі.*

**ЯН СА СТО́БНІЦЫ** (каля 1470—1518, па інш. звестках — 1530), польскі географ, філосаф. Вучыўся ў Кракаўскім ун-це, дзе ў 1494 атрымаў вучоную ступень бакалаўра, а ў 1498 — магістра. У 1498—1514 праф. Кракаўскага ун-та, дзе ў час вучобы С. чытаў студэнтам лекцыі па філасофіі Іаана Дунса Скота (каля 1266—1308), англ. філосафа-схаласта. У 1507 і ў 1513—14 быў дэканам аддзялення «вольных навук». Філасофская праца Яна са Стобніцы «Parvulus philosophiae naturalis» («Дзіця прыроднай філасофіі», 1503) перавыдавалася ў 1507, 1513, 1517 (усе ў Кракаве), у 1516 у Базелі. У 1512 у Кракаве выйшла праца «Уводзіны ў касмаграфію Пталамея», у якой упершыню ў Польшчы былі змешчаны геагр. карты, звесткі пра нядаўняе на той час адкрыццё Амерыкі. Неаднаразова выдаваліся падрыхтаваныя ім да друку працы Леанарда Бруні Арэцінскага, Арыстоцеля, польск. філосафа Міхала з Быстжыкава (н. 1520) і інш. С., несумненна, быў знаёмы з гэтымі выданнямі. У асабістай б-цы Яна са Стобніцы былі працы па сярэдневяковай філасофіі, працы па геаграфіі, тэалогіі, граматыцы, дзе С. мог пазнаёміцца з інкунабуламі, выдадзенымі друкарнямі розных краін Еўропы. У яго б-цы быў, напр., «Кракаўскі Місал», надрукаваны ў Нюрнбергу па заказу Я. Галера і багата арнаментаваны кракаўскімі майстрамі.

*Літ.:* Bibliografia literatury polskiej. «Novy Korbut». T. 3. Warszawa, 1965; Szelińska W. Biblioteki profesorów Uniwersytetu Krakowskiego w XV i początkach XVI wieku. Wrocław etc., 1966. S. 243—248.

*Я. Л. Неміроўскі.*

**ЯНКО́ЎСКІ** Алег Іванавіч (н. 1944), савецкі акцёр тэатра і кіно, нар. арт. РСФСР (1984). Творчую дзейнасць пачаў у 1967 у Саратаўскім драм. т-ры ім. К. Маркса. З 1973 акцёр Маскоўскага т-ра ім. Ленінскага камсамола. У бел. фільме «Я, Францыск Скарына...» (1970) — выканаўца ролі С., якая патрабавала ад акцёра ведання эпохі, грамадзянскай сталасці. Я. выразна акрэсліў асн. рысы бел. асветніка, паказаў шматграннасць таленту яго асобы. Дапытлівы позірк, натхнёны твар, шчырасць пачуццяў — сродкі, выкарыстаныя акцёрам для абмалёўкі характару чалавека абаяльнага і няўрымслівага. Экранны С. здольны захапляцца, марыць, абараняць свае перакананні, служыць высакароднай мэце асветы народа. У адпаведнасці з сцэнарнай абмалёўкай (драматург М. Садковіч) і рэжысёрскай трактоўкай (Б. Сцяпанаў) акцёр стварыў яркі вобраз С. (Гл. таксама арт. *Кінематаграфічная Скарыніяна*). *Е. Л. Бондарава.*

**ЯНЧУ́К** Мікалай Андрэевіч (1859—1921), беларускі, рускі і ўкраінскі вучоны-славіст (гісторык, этнограф, фалькларыст, літаратуразнавец, лінгвіст). Праф. (1919). У працы «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Старажытны перыяд» (1922) зрабіў спробу ахарактарызаваць светапогляд С.: у якасці асн. рыс скарынінскай этыкі выдзяляў прымат грамадскіх інтарэсаў над асабістымі, гарачы патрыятызм; у поглядах С. на паходжанне і пазнавальнасць свету адзначаў характэрную для дзеячаў Адраджэння і Рэфармацыі ідэю *дваістай ісціны.* Вывады Я. аб светапоглядзе С. пацверджаны сучаснымі даследчыкамі. Разам з тым аўтар неправамерна проціпаставіў дзейнасць С. дзейнасці яго паслядоўнікаў — Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага, сцвярджаючы, што апошнія, у адрозненне ад С., не адыгралі ніякай ролі ў развіцці бел. мовы і літаратуры.

*У. М. Свяжынскі.*



# ДАКУМЕНТЫ ПРА ФРАНЦЫСКА СКАРЫНУ

Тэкст дакументаў размешчаны ў храналагічным парадку. Археаграфічная апрацоўка і афармленне зроблены ў адпаведнасці з «Правіламі выдання гістарычных дакументаў у СССР» (М., 1969). Кожны дакумент мае парадкавы нумар і рэдакцыйны загаловак, у якім коратка перададзены змест дакумента. Дата і месца складання дакумента ставяцца пад загалоўкам. Дзеля скарачэння аб'ёму раздзела ў некаторых дакументах апушчаны звесткі, што не маюць прамога дачынення да жыцця і дзейнасці Ф. Скарыны або яго родзічаў. Пропускі ў кожным выпадку пазначаны шматкроп'ем у дужках. У канцы кожнага дакумента прыведзена легенда (спасылка на яго месцазнаходжанне або крыніцу публікацыі), дзе пазначаны назва архіва, нумар фонду, вопісу і справы, з якой мовы зроблены пераклад.

Тэксты дакументаў выкладзены ў адпаведнасці з правіламі сучаснай арфаграфіі з захаваннем стылістычных асаблівасцей дакумента. Прапушчаныя або недапісаныя словы дапоўнены ў тэксце і ўзяты ў квадратныя дужкі. Некаторыя тэрміны, якія звязаны са складам, зместам і асаблівасцямі тэкстаў дакументаў ці патрабуюць дадатковай інфармацыі, тлумачацца ў каментарыях, што змешчаны ў канцы раздзела і пазначаны адпаведнай лічбай. Падрыхтоўка дакументаў і каментарыі да іх зроблены канд. філал. н. В. І. Дарашкевічам. Пераклад тэкстаў В. І. Дарашкевіча (дакументы № 2, 4—7, 9, 20—23, 42, 46, 50); В. І. Дарашкевіча і А. А. Жлутко (дакументы № 8, 10, 12—19, 24—32, 47, 48, 52); В. І. Дарашкевіча і Т. М. Кароткай (дакумент № 45); В. І. Дарашкевіча і І. І. Лучыц-Федарца (дакументы № 43, 53); В. І. Дарашкевіча і Л. П. Ляхавай (дакументы № 3, 33, 34, 44); В. І. Дарашкевіча і В. П. Маслюка (дакумент № 51); В. І. Дарашкевіча і Г. А. Скакун (дакументы № 37—41).

### № 1. ФРАГМЕНТ СПІСА СКАРГАЎ, ДАДЗЕНАГА ВЯЛІКІМ МАСКОЎСКІМ КНЯЗЕМ ІВАНАМ III ВАСІЛЬЕВІЧАМ СВАЙМУ ПАСЛУ ІВАНУ БЕКЛЯМІШАВУ, ЯКІ НАКІРОЎВАЎСЯ ДА КАРАЛЯ ПОЛЬШЧЫ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА КАЗІМІРА IV ЯГЕЛОНЧЫКА

*18 мая 1492 г.* *Масква*

(...) А се жалобы великог[о] князя людем Новгородские земли на королевых людей. (...) Да бѣжали шесть голов Сенкиных людей Носковых лучаниновых в Пуповичи, а взяли у нег[о] мерин в рубль в рижской и в три[д]цать грошей; и Сенька тѣх своих людей наѣхал у Глѣбова Остаф[ь]ева ч[е]л[ове]ка у проселка, и бил челом Глѣбу, чтобы ему его людей велѣл выдати, и он их ему не выдал, а свел их в Лит[ву] за Поло[т]ско, а мерин его себѣ взял. Да в Поло[т]ску пограбили лучанина[1] Дороню Иванова купци полотцкіе Лукіан Скорина[2] да Прокофьев; а взяли грабеж[у] на сорок рублев на рижскую[3] и на два рубля. (...)

Дакумент зберагаецца ў ЦДАСА, ф. 79, кн. 1, л. 81 адв.—83. Адаптацыя са старарус.

### № 2. ФРАГМЕНТ МЕТРЫКІ КРАКАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭТА АБ ПАСТУПЛЕННІ Ф. СКАРЫНЫ ВА УНІВЕРСІТЭТ

*1504 г.* *Кракаў*

У [перыяд] рэктарства шаноўнага айца пана Яна Аміцына[4] з Кракава, доктара мастацтваў і кананічнага права, міласцю бога і апостальскага прастола біскупа лаадзіцэнскага і суфрагана[5] кракаўскага, а таксама плябана[6] [касцёла] святога Мікалая па-за сценамі Кракава, у зімні семестр у лета господне 1504 наступныя [асобы] упісаны (...)

Франциск сын Лукі з П[о]лацка, 2 грошы[7].

Зберагаецца ў Кракаўскай універсітэцкай бібліятэцы, рукапіс № 258, Metrica, t. 1, f. 500 a. Пераклад з лац.

### № 3. АКТАВЫ ЗАПІС КРАКАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭТА ПРА НАДАННЕ Ф. СКАРЫНЕ ГОДНАСЦІ БАКАЛАЎРА

*14 снежня 1506 г.* *Кракаў*

(...) У лета господне 1506 г. у [перыяд] дэканства магістрата[8] Леанарда з Добшыч[9], бакалаўра кананічнага права, адразу ў пачатку зімняга семестра быў правераны адносна свайго звання Іаан з Фрэйштата, бакалаўр Кёльнскага універсітэта, і, даўшы дастатковае пацвярджэнне свайго ўзвядзення, ён быў дапушчаны і ўключаны ў лік бакалаўраў [Кракаўскага універсітэта] і займае месца перад узведзенымі ў бакалаўры ў бліжэйшы дзень пасля свята святой Люцыі[10], на які прыпадае сухаядзенне.

У тым жа годзе, у час дэканства таго ж магістрата Леанарда і інш., у бліжэйшы дзень пасля свята святой Люцыі, на які прыпадае сухаядзенне, узведзеныя ў ступень бакалаўра, [былі] размеркаваны ў наступным парадку месцаў: Мацей з Семніклош, Андрэй з Зінты, Іаан з Гараў, Тамаш з Падляшша, Францыск з Полацка[11], літвін[12], Павел з Марынборга (прэфект, ён жа стараста), Іаан з Шкокі, Андрэй з Стжэльна, Якаб з Эльбінга, Іаан з Марынборга, Іаан з Фрэйштата, Конрад з Монтэ-Рэгіі, Андрэй з Монтэ-Рэгіі, Іаан з Враціславы, Валянцін з Нова-Вілы, Андрэй з Пакост, Гнезненскі вікарый[13] і пракуратар[14]), (...).

Дакумент зберагаецца ў Кракаве ва універсітэцкай бібліятэцы: рукапіс Bj 263 «Liber Promotionum philosophorum ordinis...», f. 62. Пераклад з лац.

### № 4. АКТАВЫ ЗАПІС ПАДУАНСКАГА УНІВЕРСІТЭТА АБ ДАПУШЧЭННІ Ф. СКАРЫНЫ ДА ВЫПРАБАВАННЯ НА ГОДНАСЦЬ ДОКТАРА МЕДЫЦЫНСКІХ НАВУК

*5 лістапада 1512 г.* *Падуя*

Езус Марыя[15]

Прысваенне звання ў галіне медыцыны, з ласкі божай, магістру[8] Францыску, русіну[16], сыну нябожчыка пана Лукі.

У імя Хрыста, амін. У год ад яго нараджэння тысяча пяцьсот дванаццаты, індыкта XV, у пятніцу, пятага лістапада, у Падуі[17], у храме святога Урбана, а гадзіне 17-й на скліканай і ў звычайным парадку сабранай святой Калегіі слаўнейшых падуанскіх дактароў мастацтваў і медыцыны па даручэнню найдастойнейшага доктара мастацтваў і медыцыны пана Тадэя Мусаці, віцэ-прыёра вышэйназванай Калегіі, са згоды райцаў указанай Калегіі, ва ўводным слове прыёр[18] сказаў: «Найдастойнейшыя паны дактары! Прычына склікання Вашых Дастойнасцей наступная: прыбыў нейкі вельмі вучоны малады чалавек, доктар мастацтваў[19], бедны, родам з надзвычай далёкіх краёў, магчыма на чатыры тысячы міляў і больш ад гэтага слаўнага горада, для таго, каб узвялічыць славу і бляск Падуі, а таксама красуючай супольнасці філосафаў гімназіі і святой нашай Калегіі. Ён звярнуўся да Калегіі з просьбай дазволіць яму ў якасці дару і асобай міласці падвергнуцца з ласкі божай выпрабаванням у галіне медыцыны пры гэтай святой Калегіі. Калі, Вашы Дастойнасці, дазволіце, прадстаўляю яго самога. Малады чалавек і вышэйзгаданы доктар носіць імя пана Францыска, сына нябожчыка Лукі Скарыны з Полацка[11], русін».

Пасля гэтага запрасілі магістра Францыска, і ён пакорліва і ветліва прасіў з ласкі божай дапусціць яго да выпрабаванняў па медыцыне, як было вышэй сказана выступаўшым раней панам віцэ-прыёрам. Ён абяцаў шырыць усюды славу, гонар і карысць гэтай Калегіі і кожнага з дактароў паасобку.

Пасля гэтых слоў Калегія прыступіла да абмеркавання і апытання яго. Вышэйзгаданы пан віцэ-прыёр сказаў: «Паны дактары, Вы выслухалі гэтага беднага і вучонага юнака. Калі хто-небудзь хацеў бы што-небудзь сказаць, няхай устане і скажа, дапоўніць яго». І нарэшце, пасля шматлікіх прамоў і выказванняў гэтых паноў дактароў, пан віцэ-прыёр сказаў асобам ніжэй названым[20] галасаваць такім спосабам, а менавіта: «Хто згаджаецца, каб гэтаму пану Францыску надаць з ласкі божай медыцынскую годнасць пры захаванні ўсіх патрабаванняў, хай кіне свой голас у урну пацвярджальную, чырвоную; хто не згаджаецца, хай кіне ў адмоўную, зялёную». І праведзенае такім чынам галасаванне не дало ніводнага голасу супраць.

Дакумент зберагаецца ў архіве Падуанскага ун-та, Mstt., vol, 321. Sacri Collegii Dominorum Artistarum et Medicorum, 1512—1523, f. 5, 6 r-v. Пераклад з лац.

## № 5. АКТАВЫ ЗАПІС ПАДУАНСКАГА УНІВЕРСІТЭТА АБ ПРОБНЫМ ЭКЗАМЕНЕ Ф. СКАРЫНЫ НА ГОДНАСЦЬ ДОКТАРА МЕДЫЦЫНСКІХ НАВУК

*6 лістапада* *Падуя*

Езус Марыя[15]

Пробны [экзамен] па медыцыне пана магістра[8] Францыска, русіна.

У 1512 [годзе] у суботу, шостага лістапада, у Падуі[17] ў храме святога Урбана, у 22 гадзіны, па даручэнню выдатнага доктара мастацтваў і медыцыны магістра Тадэя Мусаці, віцэ-прыёра і доктара прыгожых мастацтваў, былі скліканы і сабраліся на ўстаноўленым месцы найдастойнейшыя вучоныя святой Калегіі падуанскіх дактароў мастацтваў і медыцыны. Пан магістр Францыск, сын нябожчыка пана Лукі Скарыны з Полацка[11], русін[16], на прапанаваныя яму раніцай гэтага дня пытанні па медыцыне бліскуча адказаў па памяці і адхіліў выказаныя яму пярэчанні, выдатна аргументуючы, ён праявіў сябе найлепшым чынам. У сувязі з гэтым усімі там прысутнымі вучонымі, з агульнай згоды ён быў ацэнены як падрыхтаваны і варты быць дапушчаным да асобага экзамену па медыцыне. Такім чынам, ён быў заслужана дапушчаны да гэтага экзамену. Прамотарамі[21] былі пан магістр Францыск дэ Наалі, пан магістр Францыск дэ Эстэ, пан магістр Геранім а Мулло, пан магістр Барталамей Барызон і пан магістр Геранім дэ Урбіна.

Гэты пан Францыск даў таксама, паводле ўстаноўленай формы, прысягу.

Імёны прысутных вучоных:

Пан магістр Тадэй Мусаці, віцэ-прыёр
Пан магістр Барталамей а Вольта



Старонка актавага запісу Падуанскага універсітэта аб пробным экзамене Ф. Скарыны на годнасць доктара медыцынскіх навук. 6.11.1512.

Пан магістр Францыск дэ Наалі
Пан магістр Францыск дэ Эстэ
Пан магістр Геранім а Мулло
Пан магістр Мікола дэ Наалі
Пан магістр Аўрэлі Банета
Пан магістр Геранім Рубэус
Яснавяльможны пан Барталамей дэ Санкта Віта
Пан магістр Геранім Марыепетра
Пан магістр Барталамей Барызон
Пан магістр Геранім дэ Урбіна
Пан магістр Антоні дэ Санціна і
Пан магістр Марк Антоні дэ Януа.

Месца зберажэння тое ж, што і дакумента № 4. Пераклад з лац.

## № 6. АКТАВЫ ЗАПІС ПАДУАНСКАГА УНІВЕРСІТЭТА АБ АСОБНЫМ ЭКЗАМЕНЕ Ф. СКАРЫНЫ НА ГОДНАСЦЬ ДОКТАРА МЕДЫЦЫНСКІХ НАВУК

*9 лістапада 1512 г.* *Падуя*

Езус Марыя[15]

Асобы экзамен па медыцыне пана магістра[8] Францыска, русіна[16]. 1512 (год), у аўторак, дзевятага лістапада, ва ўстаноўленым месцы біскупскага палаца ў Падуі[17], экзамен.

Былі склікаsuccessfully і па звычаю ўрачыста сабраліся найдастойнейшыя і славутыя дактары святой Калегіі паноў майстроў мастацтваў і медыцыны, дактары мастацтваў і медыцыны, а таксама дактары мастацтваў па даручэнню пана Тадэя Мусаці, выдатнага вучонага ў галіне мастацтваў і медыцыны, віцэ-прыёра, і райцаў. У прысутнасці яснавяльможнага ў Хрысце айца і пана Паула Забарэлла і біскупа Аргелiскага па міласці апостальскай сталіцы, яснавяльможнага ў Хрысце айца і пана ўладара Сікста пры царкве Божай міласэрнасці і св. Пятра ў аковах міласці кардынала прэсвітэра[22] святой царквы рымскай віцэ-канцлера і нязменнага пачэснейшага адміністратара Падуанскай царквы ды райцы сацентынскага, а таксама адданага слаўнай Падуанскай апостальскай

канцыляры суфрагана[5] і галоўнага вікарыя[13] ў духоўных справах. Пад старшынствам славутага доктара мастацтваў і медыцыны пана Тадэя Мусаці і пры ўдзеле выдатнага доктара мастацтваў і медыцыны пана Францыска Фульманэлі з Вероны[23], віцэ-рэктара, паноў падуанскіх [майстроў] мастацтваў, а таксама перад усімі прысутнымі дактарамі гэтай калегіі, знакаміты доктар мастацтваў пан Францыск, сын нябожчыка пана Лукі Скарыны з Полацка[11], русін, быў экзаменаваны ў асобым і строгім парадку па пытаннях, прапанаваных яму раніцай гэтага дня. Ён праявіў сябе настолькі слаўна і дастойна ў час гэтага свайго строгага экзамену, калі выкладаў адказы на зададзеныя яму пытанні і калі абвяргаў прапанаваныя яму доказы, што атрымаў аднадушнае ўхваленне ўсіх прысутных вучоных без выключэння і было прызнана, што ён мае дастатковыя веды ў галіне медыцыны.

Вышэйназваны яснавяльможны пан віцэ-прыёр абвясціў яго ва ўстаноўленым парадку доктарам медыцынскіх навук. Пасля гэтага выдатны доктар мастацтваў і медыцыны пан магістр Барталамей Барызон, прамотар, ад свайго імя і калег, што ніжэй падпісалі, уручыў яму знакі медыцынскай годнасці[24].

Імёны прысутных дактароў:
Пан магістр Тадэй Мусаці, віцэ-прыёр
Пан магістр Барталамей а Вольта
Пан магістр прэсвітэр Якаб дэ Курта
Пан магістр Геранім дэ Катанеіс
Пан магістр Мікола дэ Януа
Пан магістр Бапціста а Гальта
Пан магістр Францыск дэ Наалі[24]
Пан магістр Францыск дэ Эстэ
Пан магістр Геранім а Мулло
Пан магістр Мікола дэ Наалі
Пан Аўрэлі Банета
Пан магістр Геранім Рубэус
Пан яснавяльможны Барталамей дэ Санкта Віта
Пан магістр Геранім Марыепетра
Пан магістр Барталамей Барызон
Пан магістр Геранім дэ Урбіна
Пан магістр Францыск Парэцініус
Пан магістр Караль дэ Януа
Пан магістр Антоні дэ Санціна
Пан магістр Павел а Соле
Пан магістр Пётр дэ Надалі
Пан магістр Андрэй дэ Аліёціс
Пан магістр Марк Антоні дэ Януа і
Пан магістр Хрыстафор а Лігарантэ.

Месца захоўвання дакумента тое ж, што і дакумента № 4. Пераклад з лац.

## № 7. ПРАТАКОЛ БІСКУПСКАЙ КУРЫІ АБ ЭКЗАМЕНЕ Ф. СКАРЫНЫ НА ГОДНАСЦЬ ДОКТАРА МЕДЫЦЫНСКІХ НАВУК

*9 лістапада 1512 г.* *Падуя*

Ісус Хрыстос[25]

1512 [год], індыкта XV. У аўторак, 9 лістапада месяца. Асобы экзамен у галіне медыцыны знакамітага мужа пана магістра[8] Францыска, сына нябожчыка пана Лукі Скарыны з Полацка[11], русіна[16], сакратара караля Дацыі[26]. У прысутнасці архіепіскапа яснавяльможнага пана суфрагана[5] і вікарыя[13], славутая Калегія паноў [майстроў] мастацтваў Падуі, пры ўдзеле дастойнага мастацтваў і медыцыны доктара пана магістра Францыска Фульманэлі, віцэ-рэктара універсітэта [майстроў] мастацтваў, экзаменавала. Усе былі аднадушныя і адзінагалосныя, без ніводнага голасу супраць, каб годнасць [Скарыны] у галіне медыцыны прызнаць. Пад апекаю сваіх прамотараў[21] дактароў мастацтваў і медыцыны, паноў магістраў

Барталамея Барызона, які ўручыў знакі [доктара медыцыны],
Францыска дэ Наалі,
Францыска Эстэнзі,
Гераніма а Мулло і
Гераніма дэ Урбіна.

Дастойныя сведкі, дактары магістратаў, паны магістры
Алаізі Зухатус Гуісінус і
Даніэль дэ Фараюліа, падуанін.

Выдатныя студэнты мастацтваў, паны Міхаіл Зарцібонус, сын нябожчыка пана Якаба, грамадзянін (...) венецыянскі, і Гаспар дэ Габрыеліс, сын пана Пятра, грамадзянін падуанскі, пан Валеры дэ Ларгіс, клірык падуанскі.

Дакумент зберагаецца ў архіве г. Падуі: Archivio antico della Curia Vescoville di Padova, Doctoratuum, vol. 49, f. 122. Пераклад з лац.

## № 8. ДЭКРЭТ КАРАЛЯ ПОЛЬШЧЫ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ЖЫГІМОНТА І АБ ВЫЗВАЛЕННІ АД ГРАШОВЫХ ПРЭТЭНЗІЙ АНДРЭЯ З ЛЬВОВА ВІЛЕНСКІХ ГРАМАДЗЯН

*Снежань 1518 г.* *Бярэсце*

Жыгімонт[27] і інш. Паведамляем і інш., што як дазволена, Андрэй з Львова выклікаў да нас на аўторак, найбліжэйшы пасля свята Святога Мікалая, нядаўна мінулага, шаноўных Міхаіла Мацвеевіча Цішы, смальняніна, Івана Скарыніча[28], палачаніна, і Сеўкі Андрыевіча, грамадзян нашых віленскіх, каб яны далі сведчанне для справядлівага вырашэння справы супраць шаноўнага Дашкі, таксама і віленскага грамадзяніна, узбуджанай тым жа Андрэем адносна канфіскацыі, якая была зроблена [ім] у Вільні. І таму што, у той час, калі раней названыя сведкі па згаданаму распараджэнню з'явіліся перад намі, сам названы Андрэй не з'явіўся і не патурбаваўся з'явіцца, дык мы лічым, што гэтыя грамадзяне віленскія павінны быць вызвалены ад гэтага тэрміну для дачы сведчання супраць названага Дашкі, якога, зрэшты, мы знаходзім менш за ўсё падлягаючым адшукванню і канфіскацыі таго ж Андрэя з Львова, як і заявілі ў іншых нашых пастановах, і вызваляем [іх] назаўжды і жадаем, каб лічыліся вызваленымі, што даводзім і давесці жадаем гэтым дэкрэтам да ведама ўсіх разам і кожнага паасобку саноўнікаў, [ніжэйшыйх земскіх] ураднікаў, бурмістраў[29] і радцаў[30] гарадоў і мястэчак, упраўляючых і суддзяў усякіх месцаў і іншых падданых нашых у каралеўстве і ў панствах нашых, дзе б [яны ні знаходзіліся]. Загадваем не дапускаць і не дазваляць, каб раней названыя і іншыя віленскія грамадзяне былі прыцягнуты да вашага суда або арыштаваны па раней прыведзенай справе. А прыгаданага Андрэя і яго іск, калі такі іншы, акрамя гэтага [узбуджанага], дзеля яго канфіскацыі супраць [вышэй] згаданых віленскіх грамадзян, будзе мець і ад якога [іску] яны і сам Дашка з'яўляецца незалежнымі, накіроўвайце да нас, які ў стане здзейсніць неабходнае правасуддзе адносна кожнага, хто паскардзіцца, для перадачы яго [іску] суду. І нічога па намаганню названага Андрэя супраць гэтых жа віленскіх грамадзян не распачынайце. Так рабіце, а не інакш, па міласці нашай (...) і інш. Да ўказа і інш.

Дакумент зберагаецца ў Гал. архіве стараж. актаў у Варшаве. Archiwum Główne Akt dawnych, księgi Metryki Koronnej, Nr. 33, 165. Пераклад з лац.

## № 9. ФРАГМЕНТ АКТАВАГА ЗАПІСУ КРАКАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭТА АБ ШКОДЗЕ ЎЛАСНАСЦІ ФРАНЦЫСКА З ПОЛАЦКА

*17 сакавіка 1523 г.* *Кракаў*

У [перыяд] рэктарства паважанага пана магістра Марціна зІлькуша, прафесара тэалогіі, каноніка царквы брацтва святога Фларыяна ў Клепаршы падаюцца акты, складзеныя ў зімні семестр 1522 [-1523] гг. (...)

У аўторак 17 сакавіка па патрабаванню паважанага Францыска з П[о]лацка[31] на законнай аснове быў выкліканы на суд Аўгусцін з Вальборжа, навучэнец нашага універсітэта, з нагоды трох кніг, якія ён тайна забраў і якія ў яго выявіў [Францыск]. Хоць [Аўгусцін] прызнаўся, што кнігі ў яго, і ён іх пакінуў у нейкай жанчыны, ён тым не менш папрасіў вышэйпрыгаданага Францыска пацвердзіць і паручыцца, што ён зрабіў шкоду [яго] уласнасці.

Вышэйназваны Аўгусцін з'явіўся для разгляду на першае патрабаванне ўлады, і тут жа пан пастанавіў, каб вышэйназваны Аўгусцін прынёс прыгаданыя кнігі і вярнуў іх у прысутнасці пана.

Дакумент перадрукоўваецца з кн.: Acta rectoralia almae Universitatis studii Cracoviensis inde ab anno MCCCCLXIX. Editionem curavit dr. Wladislaus Wislocki. T. 1, f. 1. Crocoviae, 1893. P. 605, 622—623. Пераклад з лац.

### № 10. ФРАГМЕНТ ФУНДУША НА ЗАСНАВАННЕ КАСЦЁЛА, ШКОЛЫ І ПАРАФІІ Ў МЯСТЭЧКУ ВЕСІЧЫ, ПРЫ ЗАЦВЯРДЖЭННІ ЯКОГА Ф. СКАРЫНА ВЫСТУПАЕ СВЕДКАЙ

*18 верасня 1526 г.* *Варшава*

(...) У імя госпада, амін! На вечную памяць аб справе. Тое, што робіцца для ўшанавання гасподнята, павінна ўвекавечыцца ў граматах або ў ... (henticis). Мы, Жыгімонт[27], з божай ласкі кароль Польшчы, вялікі князь Літвы, княжа Мазовіі, Русі, Прусіі, Жамойціі і інш. гаспадар і дзедзіч[32], прадбачліва абвяшчаем зместам гэтай [граматы] усім і кожнаму, цяперашнім і будучым [жыхарам], каму будзе патрэбна тое ведаць:

Найяснейшы пан Георгій[33], князь слуцкі, дзедзіч спадчыннага ўладання, нядаўна адданага ў арэнду і званага па-народнаму Весічы[34], асабіста з'явіўшыся перад Вялікасцю нашай, прад'явіў надзейныя пергаментныя граматы на фундуш[35], надзяленне і залажэнне парафіяльнага касцёла, ажыццёўленыя нядаўна там жа ў Весічах, і біў чалом, каб мы зацвердзілі і ўхвалілі гэтыя граматы, каб на ўсё, у іх змешчанае, і на ўтрыманне рэктараў[36] і служыцеляў дараванае, мы пагадзіліся і каб пастанавілі, што такога роду новае залажэнне не будзе на шкоду іншым старым касцёлам нашага патранатнага права.

Змест грамат аб гэтым залажэнні падаецца ніжэй і такі:

У імя госпада, амін! На вечную памяць аб справе. Трэба ўсім прававерным біскупам рупліва дбаць, каб заўжды яны былі палымянымі і падвойвалі свой талент, божым натхненнем ім дадзены, і каб штодзённа шчыравалі ў вінаградніку гасподнім. І калі каго-небудзь з іх стану такая патрэба толькі закранае, то нас яна турбуе і гняце. Бо нам дастаўся вінаграднік, не так даўно ўзяты для дагляду, які аж да гэтага дня застаецца непраходным і пароcлым ліянамі, цярноўнікам і гэткімі ж няплоднымі і шкоднымі хмызнякамі. Вось такая дыяцэзія наша, якая, як вядома, яшчэ больш запоўнена далёкімі і чужымі святой каталіцкай веры рытуаламі. І што яшчэ больш небяспечна і не менш згубна і агідна, дык гэта тое, што вялікая частка людзей нашых епархіяльных пакідае яшчэ свет падобна паўзунам або іншым бяздушным жывым істотам, не будучы шчыра і глыбока перакананымі ў сваёй веры. А гэта — не ад чаго іншага, як ад ненаведання храмаў і рэдкіх сустрэч людзей са сваімі плябанамі[6], ад якіх залежыць іх ачышчэнне і настаўленне да закону божага.

Такім чынам, каб папярэдзіць гэтыя і іншыя шкодныя праявы нядбайнасці і больш за ўсё таму, каб, пахваліўшы найлепшы ўчынак найяснейшага пана Георгія Сямёнавіча, князя слуцкага, дзедзіча ў Весічах, ухваліць таксама святы клопат і жаданне таго, хто прасіў нас настойліва вырашыць справу з нядаўна цалкам пабудаваным ім касцёлам, мы, Ян[37] з князёў літоўскіх, з божай ласкі выбраны і зацверджаны [біскуп] віленскі, паведамляем усім і кожнаму, як цяперашнім, так і будучым [жыхарам], каму будзе патрэба тое ведаць:

Прыйшоў да нас, памянёны найяснейшы пан Георгій, князь слуцкі, дзедзіч спадчыннага ўладання, нядаўна адданага ў арэнду і па-народнаму званага Весічы і інш. у нашай дыяцэзіі, выклаў, што людзі абодвух полаў з павета і тэрыторыі той і іншай, што прылягае да яе, як нядаўна так і раней аддавай у арэнду, якія па сваёй волі падпарадкаваліся парафіяльным касцёлам у Осшы і Вялікай Мерачы, як больш блізкім, з-за вялікай адлегласці [тых] месц — пяць вялікіх міляў[38], на якой яны знаходзяцца і ад таго і ад другога з гэтых, бліжэйшых цяпер касцёлаў, не могуць наведваць іх без цяжкасцей, стомы і страт, і найбольш парафіяльны касцёл у Вялікай Мерачы з-за вялікага, вельмі частага, шырокага і глыбокага разводдзя ракі Нёман. Таму тут часцей не ўспрымаюць царкоўных таінстваў і не клапоцяцца, каб узняць сябе да ўшанавання божага і выратавання душы. Вось чаму многія з жыхароў гэтага месца і тэрыторыі без споведзі і ўспрыняцця царкоўных таінстваў, а іх дзеці без хрышчэння адыходзяць з гэтага свету, а тыя, якія выпраўляліся для споведзі або ўспрыняцця іншых таінстваў, шмат разоў тапіліся ў вышэй названай рацэ Нёман.

Такім чынам, прасіў нас з адпаведнай настойлівасцю і пачцівасцю той жа пан, князь слуцкі, каб мы далі згоду пэўнымі захадамі зменшыць шкоду, небяспеку і цяжкасць для жыхароў гэтага месца і паставіць парафіяльны касцёл у раней сказаным мястэчку Весічы, згодна з надзяленнем і фундушам, прызначаным, даным і падараваным вольна і бяскоштна самім найяснейшым панам Георгіем, князем слуцкім, гэтаму касцёлу і яго цяперашнім рэктарам і ў граматах яго назаўсёды і навечна ўпісаным і перапісаным, з далучэннем да гэтага асаблівай згоды каралеўскай Вялікасці. (...)

На веру і сведчанне ўсяго папярэдняга разам і паасобку [узятага], мы загадалі падпісаць і абнародаваць гэтыя нашы граматы ніжэй пазначанаму публічнаму натарыю і пісцу ўчынкаў нашых, а таксама загадалі і прымусілі змацаваць падвешваннем нашай вялікай пячаці.

Дзеялася і дадзена ў Вільні, у лета гасподне тысяча пяцьсот дваццаць шостае, у трынаццаты індыкт, пры пантыфікаце найсвяцейшага айца ў Хрысце і ўладара нашага пана Клемента, волею божай папы сёмага[39], у год яго [папства] трэці, у аўторак, у дваццаты дзень месяца сакавіка, у прысутнасці вялебных, правялебнага і вяльможных паноў: Якаба Сташкоўскага[40], схаластыка[41] віленскага, каноніка кракаўскага і сандамірскага касцёлаў, канцлера[42] нашага: Яна Сільвія Амата, доктара абодвух правоў, каноніка нашага віленскага і афіцыяла генеральнага; Георгія Хвалькоўскага[43], у Азярросдах і Лынтупе плябана, падскарбія[44] нашага, а таксама Пятра Газніскага, маршалка нашай куры, і выдатнага мужа пана Францыска[45], доктара медыцыны,— пакліканых і запатрабаваных сведкамі да папярэдняга. Подпіс натарыя і мой, Андрэя Мікалая з Надбораў, клірыка Гнёзненскай дыяцэзіі, святой апостальскай воляй публічнага натарыя і пісца ўчынкаў і справы гэтай, у прысутнасці згаданага найяснейшага князя і найдастойнейшага айца ў Хрысце, пана Яна з князёў літоўскіх, з божай ласкі выбранага і зацверджанага (біскупа) віленскага. І паколькі я пры ўсім сказаным прысутнічаў з вышэйназванымі сведкамі ў той час, калі ўсё гэта дзеялася і ўсё, як яно рабілася, бачыў і чуў, то і падпісаў гэтыя граматы, пісаныя рукой іншага[45], бо я тады быў заняты іншымі справамі. Я таксама, закліканы для зацвярджэння і засведчання ўсіх і кожнай са спраў раней названых, заверыў іх [граматы] знакам і імем сваім звычайнымі і ўжыванымі і змацаваў вялікай пячаццю самога пана епіскапа віленскага.

Такім чынам, мы, Жыгімонт, кароль і вялікі князь, раней згаданы, узрушаныя не толькі просьбамі самога князя слуцкага Георгія, законнымі і пабожнымі, але і ўлічваючы тое, што такое залажэнне касцёла ў раней названым мястэчку Весічы крайне неабходнае і не будзе на шкоду ніводнаму касцёлу нашага патранатнага права, прагледзеўшы раней граматы, і, ведаючы іх змест, пастанавілі, з ласкі нашай асаблівай, зацвердзіць, ухваліць і ратыфікаваць іх і зараз зацвярджаем, ухваляем і ратыфікуем гэтай [граматай], згаджаючыся, што яны правамоцныя ва ўсіх сваіх пунктах, артыкулах і клаўзулах і ў агульным іх змесце і маюць сілу законнасці. На сведчанне пра гэту справу да яе [граматы] падвешана пячаць наша. Дадзена ў Варшаве, у аўторак[46] перад святам святога Мацвея апостала і евангеліста, у лета гасподне тысяча пяцьсот дваццаць шостае, каралеўства ж нашага — дваццатае. (...).

Дакумент зберагаецца ў ЦДАСА, ф. 389, кн. 12, л. 607 адв.— 612. Копія. Пераклад з лац.

### № 11. СУДОВЫ ДЭКРЭТ КАРАЛЯ ПОЛЬШЧЫ ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ЖЫГІМОНТА І І ПАНОЎ-РАДЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА АБ ЗАМАЦАВАННІ ЗА ЖОНКАЮ Ф. СКАРЫНЫ ЎСЕЙ ЯЕ СПАДЧЫННАЙ МАЁМАСЦІ

*Студзень 1529* *Вільня*

Вырок[47] мещанину виленскому Мартину Субочовичу и жоне его и Миколаю Чуприну з жоною доктора Францышка Скорины о дом в месте Виленском и о иные речи.

Жикгимонт[27].

Смотрели есмо тог[о] дела с п[а]ны радами нашыми. Стояли перед нами очивисто, жаловал нам мещанин виленски[й] Мартин Субочович от жоны своее Ганны, дочки Станиславовое Дороты, и сын Одверного нашог[о] Богданов Чуприн Микола[й] на Малкгорету, жону доктора Францышъка Скоринину, которая перед тым была за рядцою[30] виленьским Юрем Одверником, о том, што ж жона держыть дом в месте Виленьском, которыи лежыт на рынку подле дому Иванова Плешывцова и Василева Воропанева и иншое имене и статьки, которые бы пришли по близкости на того то Мартина и на его жону Анну по смеръти тещы его Дороты, матки жоны его, и по Зофеи Зеновъевое сестры рожоное Доротиное и Богдановое Чуприное, а им того поступитися не хочять, яко ж деи и первее сего жаловали они о том на них перед правом гаиным[48] виленьским и отозвалися в том до нас менячы, иж бы им в том праве кривъда ся деяла. И покладал перед нами тот Мартин лист без печати, менячи его тастаментом тещы своее Станиславовое Дороты, который был зламал судом своим княз[ь] Ян[37], бискуп виленьский, в котором жо тая Дорота тот вышеи писаный дом и инъшое именье и статки по смеръти своее отдала дочце своее, жене его Анне, и ему, зятю своему. И доктор Францышко от жоны своее мовил и покладал перед нами выпис с книг права гайного под печатю места нашого Виленского и тех другии лист судовыи, сказане князя Яна, бискупа виленьског[о], в котором жо выписе местском и в листе судовом князя бискупа его м[и]лости сказано: тот дом и иншое именье и въси рухомые речы держати и въжывати тое Маркгорете, жоне доктора Францышка Скорининое, и детем ее, а тот Мартин з жоною своею Анною и сын Богданов Чуприн Миколаи к тому ничого не мают мети. А так мы с п[а]ны радами нашими о том досмотревъшы и выслухавъшы того выпису с права гайного виленьского и листу судового князя бискупа его милости и зърозумели есмо, кгды ж войт[49] с буръмистры[29] и радъцы водле права своего майтборского[50] тую Маръкгорету и ее дети при том дому и въсих статках водле права майтборского зоставили и княз[ь] бискуп его милости виленьскии так жо то знашол. Мы теж тот дом вышеи писаныи и иные речы и въси статъки вышеи писаные присудили жоне доктора Францышъка Скорины Маркгорете держати и въжывати супокойне на вечные часы подле суда и сказа[н]я первого места нашого Виленьского и подле теж суда и листу судового князя Яна, бискупа виленьского, а тому Марътину и его жоне Анне и тому Миколаю Чуприну и их потомъком казали есмо в том вечное молчане мети, и на то есмо доктору Францышъку и его жоне Малкгорете дали сес[ь] [гэты] наш лист з нашою печатю. При том были панове рада княз[ь] Ян, бискуп виленъскии, княз[ь] Микола[и][51], бискуп киевские, воевода троцкии, гетман[52] наш, староста[53] бряс[лавский] и вениц[кий], княз[ь] Констянтин Иванович Острозский[54], пан виленьский, стар[оста] гор[оденский], мар[шалок] двор[ный][55], пан Юри[й] Миколаевич Радивиловича[56] и иные панове рады Великого князства Литовъского. Копоть писар[57].

Дакумент зберагаецца ў ЦДАСА, Літ. метрыка, ф. 389, № 224, л. 297 адв.— 298. Адаптацыя са старабел.

## № 12. ПЕРШЫ АКТАВЫ ЗАПІС КРЭДЫТОРАЎ ІВАНА СКАРЫНЫ

*Ліпень 1529 г.* *Познань*

Клаус Габерланд цераз свайго паверанага Барт[аламея] Г[лінфіцкага] вызначыў першы тэрмін суда на выязным пасяджэнні па справе (...) тавараў або маёмасці [у тары] пад домам Якаба Корба, [якія належалі] Івану Скарыне[28], віленскаму грамадзяніну, [на належных] яму [Габерланду] прыблізна 500 фларэнаў[58] доўгу. Дзеялася ў суботу, у дзень святога Аляксея[59] 1529 [года].

Другі тэрмін па справе аб той жа маёмасці ў пятніцу пасля свята святой Марыі Магдалены[60] 1529 [года].

Дакумент зберагаецца ў Пазнанскім архіве: Archiwum Państwowe w depozycie Archiwum Miasta Poznania, Advoc. 1516—33, f. 54 v. Пераклад з лац.

## № 13. ДРУГІ АКТАВЫ ЗАПІС КРЭДЫТОРАЎ ІВАНА СКАРЫНЫ

*Ліпень 1529 г.* *Познань*

Яцка Фалькові́ч вызначыў першы тэрмін суда па справе маёмасці, канфіскаванай у падвале пад домам Якаба Корба, якая раней належала Івану Скарыне[28], на суму дзвесце фларэнаў[58]. Дзеялася ў панядзелак пасля Petri ad uincula[61].

Зберагаецца там жа, дзе дакумент № 12. Пераклад з лац.

## № 14. ТРЭЦІ АКТАВЫ ЗАПІС КРЭДЫТОРАЎ ІВАНА СКАРЫНЫ

*2 жніўня 1529 г.* *Познань*

Доктар Францыск [Скарына] з Вільні вызначыў першы тэрмін суда па справе маёмасці, канфіскаванай у падвале пад домам Якаба Корбы, на суму ў 400 фларэнаў[58] (...). У дзень, як вышэй.

Дакумент зберагаецца ў Пазнанскім архіве: Archiwum Państwowe w depozycie Archiwum Miasta Poznania, Advoc. 1516—33, f. 55. Пераклад з лац.

## 15. ЧАЦВЕРТЫ АКТАВЫ ЗАПІС КРЭДЫТОРАЎ ІВАНА СКАРЫНЫ

*2 жніўня 1529 г.* *Познань*

Корбава [жонка Корба] вызначыла першы тэрмін суда па справе маёмасці або [тавараў], якія некалі належалі Івану Скарыне[28], на [належных ёй] 30 фларэнаў[58] доўгу. У дзень, як вышэй.

Зберагаецца там жа, дзе дакумент № 14. Пераклад з лац.

## № 16. ПЯТЫ АКТАВЫ ЗАПІС КРЭДЫТОРАЎ ІВАНА СКАРЫНЫ

*1529 г.* *Познань*

Яцка Фальковіч, а таксама доктар Францыск [Скарына] з Вільні, кожны з іх вызначыў другі тэрмін суда па справе канфіскаванай у падвале пад домам Якаба Корбы маёмасці, якая некалі належала Івану Скарыне[28]. Таксама Корбава [вызначыла] другі тэрмін па справе той жа маёмасці.

Дакумент зберагаецца ў Пазнанскім архіве: Archiwum Państwowe w depozycie Archiwum Miasta Poznania, Advoc, 1516—33, f. 58. Пераклад з лац.

## № 17. АКТАВЫ ЗАПІС АБ ПАДЗЕЛЕ МАЁМАСЦІ ІВАНА СКАРЫНЫ

*23 кастрычніка 1529 г.* *Познань*

Дзеялася ў аўторак перад святам святых апосталаў Сімона і Іуды[62] ў год 1529.

З'явіўшыся асабіста перад неабходным гайным судом, слаўны Раман Іванавіч Скарынін[63], грамадзянін з Вільні[64], заявіў: што паколькі па патрабаванню шаноўных Клауса Габерланда, грамадзяніна, купца і радцы пазнанскага, Маргарыты[65], саўладальніцы выдатнага мужа Францыска, званага доктар Скарынін, і Ешкі Стэфановіча, з той жа Вільні — прэтэндэнтаў на маёмасць і тавары нябожчыка Івана Скарыніна[28], свайго законнага бацькі, пакінутыя пасля яго смерці тут, у Познані[66], у падвале пад домам альбо камяніцаю Якаба Корбы, ён быў і ёсць выкліканы ў суд як наследнік маёмасці свайго бацькі па пісьмовай позве, выдадзенай пад надпісам і пячаццю рады горада Познані, з трэцяга тэрміну суда, зацверджанага ў судовым парадку, на чацвёрты тэрмін для свайго паручыцельства за канфіскаваныя маёмасць і тавары свайго бацькі або інакш для таго, каб бачыць і чуць па [свайму] грамадзянскаму абавязку, як размяркоўваюцца маёмасць і тавары і як ад суда прызначаюцца ацэншчыкі і інш.

І баючыся, што з-за самой канфіскацыі і правядзення ў будучым суда ці ад расходаў і выдаткаў цяжбы, ці ад яе спынення, а таксама з-за пашкоджання ад часу такога роду тавараў, якія не трывалыя, яму можа быць прычынена шкода і ўбытак, і каб што-небудзь, у згаданых таварах з-за яго няяўкі ў суд пад час правядзення суда не панесла страты, ён запатрабаваў з належнай для паручыцельства за такога роду маёмасць свайго бацькі настойлівасцю, каб у прысутнасці згаданых прэтэндэнтаў для дакладнай і згодна з іхняй

дамоўленасцю ацэнкі названых тавараў такога роду яму і самім прэтэндэнтам былі прызначаны і дадзены ацэншчыкі — людзі сумленныя і дасведчаныя ў гандлярскай справе, а іменна: шаноўныя Себасцьян Шлюсельфельдар і Мікалай Сяленскі, грамадзяне і купцы пазнанскія, а таксама ад суда — два лаўнікі з пісарам.

Паны ж, якія засядаюць у судовым парадку, уважліва выслухаўшы, што гэта справядлівая справа залежыць ад ходу суда, па згодзе згаданых старон, па суду і праву прызначылі і далі для ацэнкі згаданай маёмасці згаданых Себасцьяна і Мікалая, купцоў і разам з імі двух лаўнікаў: Альберта Езафа і Леанарда Будніка з пісарам.

Ацэншчыкі, якія прыйшлі нарэшце праз нейкі прамежак часу, згаданыя Себасцьян Шлюсельфельдар і Мікалай Сяленскі, прызначаныя і дадзеныя па згодзе саміх старон, у прысутнасці гэтых старон і перад судом заявілі: што дакладна, па іхняй дамоўленасці і пры згодзе старон, у прысутнасці лаўнікаў і пісара, пасля папярэдняга ўважлівага абдумвання і [наступнага] абмеркавання яны ацанілі тавары ў самім [склепе] або падвале пад [домам] Якаба Корбы, пакладзеныя [там] на захаванне і канфіскаваныя раней адзначаным чынам, а іменна: скуры большыя, [так] званыя юхтовыя[67], якія былі ў колькасці дзвесце пяцьдзесят восем, па аднаму фларэну[58] кожная паасобку або па трыццаць грошаў[7] польскіх. Таксама іншыя скуры, меншыя, [так] званыя чымшавыя, якія былі ў колькасці пяцьсот, кожная сотня па дзесяць фларэнаў [палічаных] па трыццаць грошаў польскіх. Таксама дзесяць шкур, [так] званых рысіных, па тры з паловаю фларэны [або] па трыццаць грошаў польскіх. Таксама скуры звычайныя, якіх было сорак шэсць тысяч семсот, кожная тысяча па дваццаць фларэнаў [або] па трыццаць грошаў польскіх. Там жа перш за ўсё згаданы Клаус Габерланд як першы прэтэндэнт атрымаў ад згаданага Рамана, згодна са сваёй прэтэнзіяй і распіскай, напісанай на простай рускай мове[68], якую той жа Раман прызнаў сапраўднай па зместу, на [суму] пяцьсот мінус чатыры фларэнаў, палічаных па трыццаць грошаў польскіх; усе скуры большыя, [так] званыя юхтовыя — дзвесце пяцьдзесят восем і ўсе скуры меншыя, [так] званыя чымшавыя,— пяцьсот; таксама дзесяць шкур, [так] званых рысіных; таксама звычайных скур — сем з паловаю тысяч і сто пяцьдзесят.

Таксама выдатны муж Францыск Скарынін, доктар з Вільні, як галоўны апякун паважанай Маргарыты, сваёй саўладальніцы, і ў сілу сапраўднага ўказа і паўнамоцтва, прадстаўленага ў [гэтых паперах] пад надпісам і пячаццю горада Вільні і сапраўды атрыманага ад гэтага ж [горада] па форме грамадзянскага права на дзвесце чатыры капы доўгу, [не выплачанага] згаданай Маргарыце, сваёй законнай саўладальніцы; згодна з [абавязацельствам], напісаным на рускай мове, якое Раман атрымаў ад Івана, нябожчыка, бацькі свайго, які быў вінен, і згодна з канфіскацыяй і размеркаваннем ходу суда — у літоўскай манеце, што пасля [пераліку] на польскія з дадаткам дзевяць грошаў да кожнай капы[69] складае дзвесце трыццаць чатыры капы трыццаць чатыры грошы; спагнаў і атрымаў спаўна ад таго ж Рамана на ўсю гэту суму грошай дваццаць тры з паловаю тысячы скур звычайных, кожная тысяча па дваццаць фларэнаў у польскай манеце; палічаных па трыццаць грошаў.

Таксама той жа выдатны муж Францыск Скарына, доктар з Вільні, ад таго ж Рамана на дваццаць венгерскіх фларэнаў, палічаных па сорак чатыры грошы на падставе зробленых у цяжбе расходаў і на адзінаццаць коп за нейкі адрэз лівонскай тканіны, не аддадзены нябожчыкам Іванам, яго бацькам, [за] які Раман таксама згадзіўся [заплаціць] у польскай манеце; атрымаў дзве тысячы пяцьсот скур звычайных, кожная тысяча па дваццаць раней згаданых фларэнаў.

Таксама шаноўны Ешка Стэфановіч з Вільні, згодна са сваёй прэтэнзіяй на сто коп грошаў у літоўскай манеце за жалаванне па службе, затрыманае яму Іванам Скарынінам, нябожчыкам, за дзесяць гадоў, за кожны год па дзесяць коп, якія згаданы Раман як законны наследнік прызнаў, атрымаў ад таго ж Рамана, законнага наследніка, пасля [пераліку], зробленага на польскую манету з дадаткам дзевяць грошаў да кожнай капы, адзінаццаць тысяч пяцьсот скур звычайных, раней згаданых, кожная тысяча па дваццаць фларэнаў польскіх, палічаных як раней.

Таксама паважаная Барбара Корбава, на падставе ацэнкі не аддадзенага [доўгу] — пятнаццаці фларэнаў і іншых пятнаццаці, на падставе пазыкі, як яна заявіла, і палічаных па трыццаць грошаў, атрымала ад таго ж Рамана рэшту скур, а іменна тысячу пяцьсот.

Там жа, з'явіўшыся асабіста, выдатны муж Валянцін са Старагарды, доктар і грамадзянін пазнанскі, з сапраўдным указам і як упаўнаважаны шаноўнага Клауса Габерланда, грамадзяніна і радцы пазнанскага, на спыненне і скасаванне [іску] па даручэнню ад яго імя, якое [паўнамоцтва] ён прад'явіў у прысутнасці [і] пад надпісам і пячаццю рады горада Познані; прызнаў і згадзіўся, што Клаусу Габерланду сапраўды і спаўна выплачана ў згаданых таварах, згодна з абследаваннем двух ацэншчыкаў, прызначаных і дадзеных па праву і згодзе старон, пяцьсот мінус чатыры фларэнаў польскіх, палічаных па трыццаць грошаў, ад паважанага Рамана, грамадзяніна віленскага, згодна з абавязацельствам, зробленым яму, Клаусу, нябожчыкам Іванам, бацькам самога [Рамана], і канфіскацыяй і пастановай суда. Ад гэтых пяцісот фларэнаў сам доктар Валянцін у сілу таго ж указа і паўнамоцтва гэтага ж Рамана вызваліў, а само абавязацельства і пастанову суда ў сілу гэтых [дакументаў] знішчыў і ліквідаваў, і гэтага ж [Рамана] адпусціў свабодным ад гэтых даўгоў назаўсёды і навечна.

Там жа, з'явіўшыся асабіста, выдатны муж доктар Францыск Скарынін з Вільні, прадстаўляючы пісьмова ў прысутнасці [рады] указ і паўнамоцтва паважанай Маргарыты, сваёй законнай саўладальніцы, на спыненне грашовага [іску] і па [яе] даручэнню на скасаванне [яго], пад націскам і пячаццю горада Вільні, і як яе галоўны апякун прызнаў і згадзіўся, што Маргарыце, у яе рукі цалкам і спаўна выплачана ў згаданых таварах згодна з абследаваннем двух згаданых ацэншчыкаў на суму дзвесце чатыры капы літоўскіх грошаў, палічаных па шэсцьдзесят грошаў, ад паважанага Рамана Скарыніна з Вільні (згодна з абавязацельствам], напісаным на рускай мове і зробленым нябожчыкам Іванам Скарынінам, бацькам гэтага ж Рамана пры жыцці, і [згодна] з канфіскацыяй і праводзеннем суда. Ад гэтых двухсот чатырох коп згаданых грошаў сам доктар Францыск у сілу ўказа і як упаўнаважаны і галоўны апякун сваёй саўладальніцы гэтага Рамана вызваліў, а само абавязацельства і [пастанову] суда ў сілу гэтых [дакументаў] знішчыў і ліквідаваў і вызваліў гэтага ж [Рамана] ад раней названых [даўгоў] назаўсёды і навечна.

Там жа, з'явіўшыся асабіста, выдатны муж Францыск Скарынін, доктар з Вільні, свабодна і выразна прызнаў, што яму выплачана паважаным Раманам Скарынінам, віленскім грамадзянінам, згодна з абследаваннем двух згаданых ацэншчыкаў, дваццаць венгерскіх фларэнаў на падставе расходаў, зробленых у цяжбе, і адзінаццаць коп за [адрэз лівонскай тканіны], які быў вінен яму і затрымаў Іван Скарынін, нябожчык, бацька самога Рамана. Ад гэтых [даўгоў] гэтага ж [Рамана] ён вызваліў і гэтымі [дакументамі] вызваляе і адпускае свабодным назаўсёды і навечна.

Там жа, з'явіўшыся асабіста, шаноўны Ешка Стэфановіч з Вільні, слуга памёршага Івана Скарыніна з той жа Вільні, па сваёй волі і свабодна прызнаў і згадзіўся, што яму выплачана згодна з абследаваннем двух згаданых ацэншчыкаў паважаным Раманам Скарынінам, грамадзянінам віленскім, сто коп літоўскіх грошаў згодна з канфіскацыяй і пастановай суда, зробленай ім на падставе жалавання за службу па дзесяць коп за кожны год, затрыманага яму нябожчыкам Іванам Скарынінам, бацькам самога Рамана. Ад гэтых ста коп гэтага ж Рамана як наследніка пасля смерці яго бацькі ён вызваляе і адпускае свабодным назаўсёды і навечна.

Там жа, з'явіўшыся асабіста, паважаная Барбара Корбава, саўладальніца шаноўнага Якаба Корбы, грамадзяніна пазнанскага, свабодна і выразна заявіла і згадзілася, што ёй выплачана, згодна з абследаваннем двух згаданых ацэншчыкаў, паважаным Раманам з Вільні пятнаццаць фларэнаў на падставе ацэнкі [утрымання маёмасці] з падвала і іншых пятнаццаці фларэнаў, палічаных па трыццаць грошаў на падставе пазыкі на пэўнага возчыка для перавозкі, якая была

ўзята нябожчыкам Іванам Скарыніным, бацькам гэтага ж Рамана, [і не аддадзена] згаданаму Якабу, яе мужу, пры жыцці. Ад гэтых [даўгоў] таго ж [Рамана] яна вызваляе і адпускае свабодным як наследніка назаўсёды і навечна.

Дакумент зберагаецца ў Пазнанскім архіве: Archiwum Państwowe w depozycie Archiwum Miasta Poznania, Advoc. 1521—33, 93—96. Пераклад з лац.

### № 18. ПЕРШЫ АКТАВЫ ЗАПІС АБ ВЫБАРЫ РАМАНАМ СКАРЫНАЙ УПАЎНАВАЖАНАГА

*23 кастрычніка 1529 г.* *Познань*

Там жа, з'явіўшыся асабіста, перад неабходным гайным[48] судом, Раман[63], законны сын нябожчыка Івана Скарыны[28], грамадзяніна віленскага, юнак у належным узросце, устанавіў і афіцыйна абвясціў сваім сапраўдным, законным і бясспрэчным апекуном і ўпаўнаважаным вяльможнага і шаноўнага Мікалая Лямскага ва ўсіх і асобных справах і захадах, якія ён мае, або будзе мець у будучым. І хай вядзе [іх] перад любым суддзёй і судом ад яго імя і з поўным правам супраць любых асоб. Дзеялася ў дзень, як вышэй.

Дакумент зберагаецца ў Пазнанскім архіве: Archiwum Państwowe w depozycie Archiwum Miasta Poznania. Advoc. 1521—33, f. 96. Пераклад з лац.

### № 19. ДРУГІ АКТАВЫ ЗАПІС АБ ВЫБАРЫ РАМАНАМ СКАРЫНАЙ УПАЎНАВАЖАНАГА

*25 кастрычніка 1529 г.* *Познань*

Дзеялася ў панядзелак, у дзень святых Крыспіна і Крыспініяна[70], 1529 [года]. Там жа, Раман[63], сын нябожчыка Івана Скарыны[28], віленскі грамадзянін, юнак па ўзросту, законна ўстанавіў і афіцыйна абвясціў сваім паверaным ва ўсіх сваіх [судовых] справах, якія ён мае, або будзе мець, вяльможнага Мікалая Лямскага. У дзень, як вышэй.

Зберагаецца там жа, дзе дакумент № 18. Пераклад з лац.

### № 20. ЛІСТ ПРУСКАГА ГЕРЦАГА АЛЬБРЭХТА ДА ВІЛЕНСКАГА ВАЯВОДЫ ГАШТОЛЬДА Ў АБАРОНУ Ф. СКАРЫНЫ

*16 мая 1539 г.* *Кёнігсберг*

Да пана Гаштольда[71], 16 мая

Паклон [шлём] і ўсякае зычэнне з шчырай гатоўнасцю нашай да ўчынення рознага роду міласцяў. Знакаміты і высакародны, з выдатных сяброў найдаражэйшы.

Не так даўно прыбыў пад нашу ўладу выдатны і шматвопытны муж Францыск Скарына з Полацка[11], доктар пры-

Фрагмент з ліста прускага герцага Альбрэхта да віленскага ваяводы Гаштольда ў абарону Ф. Скарыны. 16.5.1530. Копія.


Pro D. Francisco Scorina de polozko
Medicinę Doctori.

Ad d(omi)n(u)m Gasl(old), dat. 16 Mai.

Salutem et omnem beneuolentiam, cum a(n)i(m)i n(ost)ri, quęq(ue) gratissima prestandi, obuia promptitudine Magnifice ac generose,
singularium amicorum longe nobis gratissimus. Commigrauit
n(ost)rę ditioni, non ita pridem Egregius ac multifarię
experientię uir, Franciscus Scorina de polozko Arcium
bonarum atq(ue) Medicinę Doctor fęlixq(ue) professor Amplissimę
Mag. V(est)rę subditus, atq(ue) ex laudatissimę ciuitatis Vuilnę
municipibus. Cuius animaduerso cum ingenio prompto mirabili
t(ame)n artis preclarissimę, quam profitetur, mira fęlicitate atq(ue)
experientia, quam anni demum ac uigiliis suis multarumq(ue)
rerum cognoscendarum peregrinationibus collegisse uidetur:
subditorum ac aulicorum n(ost)rorum fidelium albo numeroq(ue) benigne
scripsimus, atq(ue) in eorum locum quibus ubiq(ue) bene uolumus
ip(su)m reposuimus. Et q(uia) urgentia uiri negotia quantum
intelleximus, priuataq(ue) suę res ac bona, quę in Ciuitate
Vuilnen(si), cum uxore, ac liberis reliquerat, ip(su)m hinc isthuc adegeru(n)t

гожых мастацтваў і медыцыны, даравіты выкладчык, падданы Вашай высокай міласці і найслаўнейшага горада Вільні[64] грамадзянін. Звярнуўшы ўвагу як на яго сапраўды і дзівосны талент, так і найвышэйшае майстэрства, якое ён дэманструе са здзіўляючым бляскам і вопытнасцю, якую набыў, відаць, не інакш як толькі праз сваю шматгадовую працу і падарожжа дзеля пазнання мноства ведаў, мы міласціва прыпісалі яго да ліку і кола нашых падданых і верных мужоў і паставілі яго ў рад тых, да каго прыхільна адносімся.

А паколькі, мы зразумелі, неадкладныя абставіны, [што] да яговых асабістых спраў і маёмасці, пакінутай у горадзе Вільні разам з жонкай і дзецьмі, вымусілі яго падацца адсюль туды, ён пераканаўча прасіў нас даць яму рэкамендацыйны ліст да Вашай Вялікасці.

Настойліва просім Вашу Вялікасць, калі гэта дапаможа яго справядлівай справе, гэтым нашым адкрытым лістом жаданы [ім дакумент], а таксама лісты пасрэдніцтва Вашай Вялікасці падаць Віленскаму сенату, якіх ён перш за ўсё дамагаецца. І, нарэшце, ён пакорліва просіць аб дапамозе, парадзе і спрыянні ў яго справах, несправядліва заблытаных. Просім, каб вышэйназваны доктар Францыск, наш падданы і слуга, не быў пакінуты на волю лёсу, але, згодна з нашым пажаданнем і дзеля неабходнасці і нашага цеснага сяброўства няхай Ваша слаўная Вялікасць будзе ласкавы да яго, параіць і дапаможа ў яго справе з бесстароннасцю і справядлівасцю, як чалавеку дастойнаму, рэкамендаванаму. За гэта мы Вам як сябру вельмі прыязнаму і ўсім Вашым з усякай рупнасцю і дбайнасцю аддзякуем.

У пацвярджэнне чаго на адвароце [ліста] прыціснута пячаць.

Дадзена ў Кёнігсбергу[72] 16 мая [15]30 [года].

Дакумент зберагаецца ў Зах. Берліне ў Тайным дзярж. архіве: GSTAPK, XX. HASTA Königsberg, Ostpreußische Foliant 48, s. 528—529. Копія. Пераклад з лац.

### № 21. ПАДАРОЖНАЯ ГРАМАТА ПРУСКАГА ГЕРЦАГА АЛЬБРЭХТА, ДАДЗЕНАЯ Ф. СКАРЫНЕ

*16 мая 1530 г.* *Кёнігсберг*

(...) Альберт[73] з Божай ласкі і г. д.

Усім і кожнаму паасобку, усякага стану, становішча і годнасці, да каго толькі дайшла б гэта наша грамата,— пашана, добразычлівасць, міласць і ўсё, чым мы можам выказаць удзячнасць, як гэта дазволена і павінна быць, адпаведнае стану, становішчу, годнасці, прыстойнасці і славутасці. Таксама жадаем, каб усім і кожнаму было вядома, і абвяшчаем гэтым.

Мы прынялі і прыпісалі да ліку падданых і верных нам слуг выдатнага, шырокай эрудыцыі мужа Францыска Скарыну з Полацка[11], доктара прыгожых мастацтваў і медыцыны. Далей, паколькі ў цяперашні момант абставіны, маёмасныя і асабістыя [справы] адклікаюць яго адсюль у іншае месца, мы па-прыяцельску прапануем і ветліва просім вас усіх і кожнага, згодна з нашым пажаданнем, каб дапамаглі вышэйназванаму доктару Францыску, вернаму слузе нашаму, у яго судовых справах і калі таго запатрабуюць абставіны, нечаканых падзеі і выпадак (бо справы людскія больш чым няпэўныя, зменлівыя, слабыя і непастаянныя), каб не ўчынілі яму ў чым-небудзь крыўды якой, але апекаю ахінулі. Прыміце яго як чалавека вартага належным чынам, з непрадузятасцю і справядлівасцю. І дазвольце яму падарожнічаць і пераходзіць праз землі, уладанні, акругі і ўласнасці вашы ў гэтай яго вандроўцы бяспечна, свабодна і без усякіх перашкод. Як з увагі да выдатнага мужа непараўнальнага розуму і мастацкага дару, светлага лекарскага таленту і слаўнага вопыту, так і дзеля ўвагі на наш гонар, удзел і спагад усякую прыхільнасць, апякунства і дапамогу чыніць яму. За гэта мы зробім паслугу вам усім і кожнаму паасобку паводле яго стану, становішча і годнасці з аднолькавым стараннем, рупнасцю і прыхільнасцю. А на лепшую цвёрдасць [гэтага] сведчання і веры пячаць нашу мы загадалі прывесіць.

Дадзена ў Кёнігсбергу[72], дня шаснаццатага мая, года ад збавення свету праз Хрыста 1530.

Дакумент зберагаецца ў Зах. Берліне ў тайным архіве: GSTAPK, XX. HASTA Königsberg, Ostpreußische Foliant 48, s. 530—531. Копія. Пераклад з лац.

## № 22. ЛІСТ ПРУСКАГА ГЕРЦАГА АЛЬБРЭХТА ДА ВІЛЕНСКАГА МАГІСТРАТА І ЧЛЕНАЎ РАДЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА Ў АБАРОНУ Ф. СКАРЫНЫ

*18 мая 1530 г.* *Кёнігсберг*

(...) Паважаным, мудрым і дастойным сенатарам[74], бурмістрам[29], радцам[30], грамадзянам і жыхарам слаўнага горада Вільні[64] ў Літве шанаванне, зычлівасць і міласць наша.

Паважаныя, мудрыя і дастойныя сенатары, бурмістры, радцы, грамадзяне і жыхары горада Вільні, каго датычыць і да каго дойдзе гэта наша пасланне.

Паведамляем вам усім і кожнаму вышэйназванаму гэтым нашым адкрытым лістом. Не вельмі даўно прынялі мы прыбыўшага ў наша ўладанне і Прускае княства слаўнага мужа Францыска Скарыну з Полацка, доктара медыцыны, шаноўнейшага з вашых грамадзян як нашага падданага, двараніна і любімага намі вернага слугу. Далей, паколькі справы, маёмасць, жонка, дзеці, якіх у вас пакінуў,— адсюль яго клічуць, то ад'язджаючы туды, пакорліва прасіў нас, каб лістом нашым паручылі Вашай апецы, чаго яму як нашаму вернападданаму слузе мы не маглі адмовіць.

Вось чаму, высокашаноўныя мужы, мы шчыра жадаем і па-сяброўску просім вас усіх і кожнага прыняць гэтага доктара Францыска як чалавека асабліва рэкамендаванага. І дзеля нашага імя і згодна з нашым пажаданнем, як [гэтага] вымагае правасуддзе і непрадузятасць, каб яго права і справядлівая справа не панесла страты і ніхто не адважыўся прычыніць шкоду, але слаўнаму мужу справядлівасць і непрадузятасць учынілі. А калі ў яго адсутнасць што з яго маёмасці якім-небудзь беззаконнем было аднята, дык няхай міласціва будзе вернута. І аб ім, яго жонцы, дзецях, як аб іх, так і аб іншым дабры паклапаціцеся і правам ад усякай крыўды абараніце.

Мы, з нашага боку, гэту дастойнасць, сумленнасць і Ваша апякунства і Вас усіх і кожнага падобнымі спагадаю, удзелам і міласцю не забудзем аддзякаваць.

У пацвярджэнне чаго на адвароце [ліста] прыціснута наша пячаць.

Дадзена ў Кёнігсбергу[72] 18 [дня] месяца мая, года ад увасаблення Хрыста 1530.

Дакумент зберагаецца ў Зах. Берліне ў Тайным дзярж. архіве: GSTAPK, XX. HASTA Königsberg, Ostpreußische Foliant 48, s. 529—530. Копія. Пераклад з лац.

## № 23. ЛІСТ ПРУСКАГА ГЕРЦАГА АЛЬБРЭХТА ДА ВІЛЕНСКАГА ВАЯВОДЫ ГАШТОЛЬДА АБ ПРЭТЭНЗІЯХ ДА Ф. СКАРЫНЫ

*26 мая 1530 г.* *Кёнігсберг*

(...) Не вельмі даўно, калі мы былі ў Кракаве[76], звярнуўся да нас нейкі іудзей, заяўляючы, што ён займаецца медыцынай, і дакучлівымі просьбамі прыставаў, каб з нашай згоды і волі дазволілі яму паўсюдна ў нашым уладанні практыкаваць яго гаючае лекарскае мастацтва для карысці нашых падданых, прыгнечаных хваробаю. Палічыўшы яго просьбы небескарыснымі для нашых падданых, мы міласціва падпісалі [іх] і дазволілі, і ён разам [з намі] прыехаў у наш горад Кёнігсберг, уладкаваўся і шмат хворых і іншых занядужалых узяў там жа пад свой дагляд. Між тым прыбывае таксама доктар нейкі Францыск Скарына, якога мы прынялі ў наша прыдворнае акружэнне. Ён, адпраўляючыся адсюль з нашымі лістамі да Вашай Вялікасці па сваіх справах, якія меў у Вільні[64], дзе ён спадзяваўся затрымацца, зводніцкім сваім нагаворам гэтага чалавека, іудзея і нашага друкара, тайком забраў з сабою, пакідаючы тым часам тут, праз іудзея, без дапамогі мноства абяссіленых і недалечаных, якіх той пачаў лячыць, не без шкоды і ўпадку для здароўя гэтых няшчасных хворых. Нарэшце, з не меншай стратай і для нашых спраў, якія ён меў намер здзейсніць і надрукаваць у друкарні. Гэты дзёрзкі ўчынак чалавека выклікае ў нас прыкрасць з-за крыўды [нанесенай] як нам, так і нашым [падданым].

Таму мы ветліва просім Вашу слаўную Вялікасць, няхай гэтага доктара Францыска Скарыну павучаць аб неадпаведнасці тайнага вываду нашых людзей і асудзіць і зазначыць, што мы адносімся да яго з незадавальненнем і непрыхільнасцю, і што мы ад яго не спадзяваліся на такі незаслужаны ўчынак, як гэты. І няхай чым хутчэй адашле ад сябе вышэйназванага іудзея да сваіх, тут пакінутых і недалечаных [хворых] і верне нам сюды нашага друкара. Гэтага, лічым, мы заслугоўваем за нашу прыхільнасць да Вашай слаўнай Вялікасці, каму найлепш з жонкай і мілымі дзецьмі жадаем жыць у здароўі.

Дадзена ў Кёнігсбергу[72] 26 мая 1530 года.

Дакумент зберагаецца ў Зах. Берліне ў Тайным дзярж. архіве: GSTAPK, XX. HASTA Königsberg, Ostpreußische Foliant 48, s. 535—537. Копія. Пераклад з лац.

## № 24. ПЕРШЫ ЎКАЗ КАРАЛЯ ПОЛЬШЧЫ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ЖЫГІМОНТА І СУПРАЦЬ Ф. СКАРЫНЫ

*5 лютага 1532 г.* *Кракаў*

Жыгімонт[27], з ласкі божай кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, мазавецкі і інш., гаспадар і дзедзіч.

Усім і кожнаму з ваяводаў[77], кашталянаў[78], саноўнікаў,ураднікаў[79], старостаў[53] (...) і (...) вяльможным гарадоў і мястэчак бурмістрам[29], радцам[30], войтам[49] і іншым нашым падданым, у якім бы стане, чыне і вартасці яны ні былі ў каралеўстве, панам нашым вяльможным пастаўленым [намі], да якіх дойдзе гэта наша шчырая грамата, а таксама паважаным даверанным — [наша] каралеўскае благаславенне! Шчыра паважаныя даверання нашы, калі мы зусім нядаўна былі ў горадзе нашым Вільні, паскардзіліся нам Лазар, сын, і Майсей, зяць старога Майсея, іудзея нашага варшаўскага, што слаўны памёршы Іван Скарына[28], наш віленскі грамадзянін, застаўся вінен яму дзвесце шэсць коп[69] грошаў[7], а таксама заявілі і давялі, што доктар Францыск, яго брат, узяў сабе ўсё дабро, якое засталося пасля смерці самога [Івана]. Загадваем гэтаму доктару Францыску заплаціць ім раней названую суму ў дзвесце шэсць коп грошаў. А таму, што гэтыя самыя іудзеі Лазар і Майсей скардзіліся нядаўна ў нашай прысутнасці, што названы доктар Францыск уцёк з горада Вільні, пераязджае з аднаго месца ў другое, бадзяецца і зрабіць ім выплату названай сумы не хоча, загадваем вам, каб для гэтых варшаўскіх іудзеяў Лазара і Майсея [у адносінах да] наконт раней названага доктара Францыска Скарыны, у якім бы месцы яны самі або іх паверанныя або слугі не знайшлі яго, каб вы цераз іх адшукалі неабходнае і неадкладнае правасуддзе і скарысталі [яго да Скарыны] як да чалавека беглага і маёмнага, і каб не вызвалялі яго да таго часу, пакуль сапраўды не задаволіць іх на суму ў дзвесце шэсць коп грошаў. І, па нашай міласці, не рабіце па-іншаму. Дзеялася ў Кракаве[76], у панядзелак пасля Dominicam Sexagesim[80] у год божы тысяча пяцьсот трыццаць другі, у год праўлення нашага дваццаць шосты.

Да ўласнага ўказу Каралеўскай Вялікасці.

Дакумент зберагаецца ў Пазнанскім архіве: Archiwum Państwowe w depozycie Archiwum Miasta Poznania, Brul. Consul. 1531—32, f. 135 v — 136 v. Пераклад з лац.

## № 25. АКТАВЫ ЗАПІС АБ УСТАНАЎЛЕННІ ЎПАЎНАВАЖАНАГА ДЛЯ КРЭДЫТОРА ІВАНА СКАРЫНЫ

*12 красавіка 1532 г.* *Познань*

Там жа іудзей Майсей з Варшавы зрабіў і ўстанавіў сваім сапраўдным упаўнаважаным у найбольш правамоцнай форме Якаба Бжоску, іудзея з Познані[66], для справы, якую ён мае з панам доктарам Скарынам, доктарам медыцыны, з-за чатырохсот дванаццаці фларэнаў[58], згодна з больш падрабязным выкладам указа святой Каралеўскай Вялікасці. Дзеялася, як вышэй, [у] 1532 [годзе].

Дакумент зберагаецца ў Пазнанскім архіве: Archiwum Państwowe w depozycie Archiwum Miasta Poznania, Consul. Advoc. 1512—33, f. 122. Пераклад з лац.

## № 26. ПЕРШЫ АКТАВЫ ЗАПІС АБ ПАСРЭДНІЦТВЕ РАМАНА СКАРЫНЫ Ў СПРАВЕ Ф. СКАРЫНЫ З КРЭДЫТОРАМІ ЯГО БРАТА

*26 красавіка 1532 г.* *Познань*

(...) Асабіста прыйшоўшы да рэзідэнцыі радцаў[30], войта[49] і лаўнікаў[75], Раман Скарына[63], сын і прыродны наследнік

нябожчыка Івана Скарыны, віленскага грамадзяніна, малады паўналетні юнак, цераз свайго паверанага Валянціна, пераплётчыка, паведаміў: так як выдатны муж Францыск Скарына, доктар медыцыны, яго дзядзька, згодна з указам святой Каралеўскай Вялікасці па патрабаванню іудзея з Варшавы, на падставе неабгрунтаванай і нічым не падмацаванай даўгавой прэтэнзіі да яго, хоць доўг гэты, па сведчанню самога іудзея, быў зроблены яго раней згаданым бацькам, быў пасаджаны ў турму; то ён, шкадуючы яго [дзядзьку] бязвіннага і спачуваючы долі няшчаснага, прыбыў сюды ў Познань[66] з Гданска[81], каб быць яго пасрэднікам. Таму ён законна заяўляе, што знаходзіцца тут, каб быць пасрэднікам свайго дзядзькі, паручыцца за яго самога і вызваліць, згодна з патрабаваннямі права, [уступіўшы ў судовую справу] супраць раней названага іудзея. І таму што сам іудзей па патрабаванню яго самога [Рамана], згодна з грамадзянскім звычаем, цераз070 вознага[82] горада быў выкліканы да [судовай] установы, аднак ні ён сам, ні яго ўпаўнаважаны не былі знойдзены, хоць увогуле, згодна з патрабаваннямі права, ён, як ісцец, павінен у такім выпадку заўсёды прысутнічаць або сам, або яго паверанны, то той жа Раман запатрабаваў, каб з-за няяўкі ў суд і адсутнасці самога іудзея ён быў прызнаны паручыцелем і пасрэднікам свайго дзядзькі, а гэты яго дзядзька на падставе сапраўды зробленага паручыцельства быў аб'яўлены свабодным і выпушчаны з турмы. Бо сам юнак хацеў бы, як наследнік свайго бацькі і сапраўды знаходзячыся пад юрысдыкцыяй святой Каралеўскай Вялікасці, досыць маёмасны, самому іудзею з выпадку даўгавой прэтэнзіі адказаць і апраўдаць сябе перад ім, а таксама, калі суд пастановіць, зрабіць выплату або задаволіць іншым чынам. Паны ж бурмістр[29], радцы, войт і лаўнікі, пасля таго, як даведаліся ад прызначанага для гэтага гарадскога служкі, што ім быў зроблены выклік самога іудзея ў суд, згодна з грамадзянскім звычаем, і што ні сам іудзей, ні яго ўпаўнаважаны не былі знойдзены, заявілі, што яны абмяркуюць гэта, і нарэшце, адкажуць яму. Свае довады той жа Раман Скарына запатрабаваў занатаваць у кнігу актаў, што і было выканана. Дзеялася ў пятніцу перад Dominicam cantate[83], у год божы 1532.

Дакумент зберагаецца ў Пазнанскім архіве: Archiwum Państwowe w depozycie Archiwum Miasta Posnanie, Brul. Consul. 1531—32, f. 118—118 v. Пераклад з лац.


Intercessio Skorina erga Iudei

Старонка актавага запісу аб пасрэдніцтве Рамана Скарыны ў справе Ф. Скарыны з крэдыторамі яго брата Івана. 29.4.1532.

### № 27. ДРУГІ АКТАВЫ ЗАПІС АБ ПАСРЭДНІЦТВЕ РАМАНА СКАРЫНЫ Ў СПРАВЕ Ф. СКАРЫНЫ З КРЭДЫТОРАМІ ЯГО БРАТА

*29 красавіка 1532 г.* *Познань*

(...) У прысутнасці радцаў[30], войта[49] і лаўнікаў[75] горада Познані[66], з'явіўшыся асабіста, Раман Скарына[63], сын, прыродны і законны наследнік нябожчыка віленскага грамадзяніна Івана Скарыны, малады юнак, паўналетні і ў законных гадах, па сваёй волі і ясна заявіў: пасля таго, як ён зразумеў, што выдатны муж Францыск Скарына, доктар медыцыны, яго родны дзядзька, згодна з указам святой Каралеўскай Вялікасці, па патрабаванню варшаўскіх іудзеяў Майсея і Лазара незаконна на падставе даўгавой прэтэнзіі да яго ў дзвесце шэсць коп[69] грошаў[7] быў пасаджаны ў турму, хоць доўг гэты, як сведчаць самі іудзеі, быў зроблены яго бацькам [Іванам], ён [Раман] пашкадаваў яго з выпадку напаткаўшага яго [дзядзьку] няшчаснага лёсу, і каб яго [дзядзьку] без прычыны занадта не ўціскалі, прыбыў сюды з Гданска[81], каб быць яго пасрэднікам, як сапраўдны і законны наследнік і наступнік свайго раней згаданага бацькі, [наследнік], які пасля смерці яго самога, пакінутае ім дабро ўзяў у сваю ўласнасць, а за тавары, утрыманыя тут, у Познані, пэўнымі крэдыторамі, ён сам, а не яго дзядзька, пра што больш падрабязна выкладае судовая кніга горада Познані і выпіска з яе, зробленая там жа, пад пячаццю той жа ўстановы, паручыўся і вызваліў іх, самых жа крэдытораў і свайго [ужо] названага дзядзьку ён задаволіў, уносячы сваё імя і свае словы да раней згаданай кнігі і выпіскі з яе.

І цяпер дзеля яго ён прыбыў сюды ў Познань з Гданска і знаходзіцца тут, каб быць пасрэднікам за аб'яўлены доўг, згодна з патрабаваннямі права, і з выпадку гэтага доўгу прад'явіць судовым уладам пэўны залог, патрабуючы назначыць суд для ацэнкі такога залогу. І калі б не хапала да сумы даўгавой прэтэнзіі, як наследнік свайго бацькі ён сам, які знаходзіцца пад юрысдыкцыяй святой Каралеўскай Вялікасці і досыць маёмасны, хацеў бы сам разам з ацэненым залогам быць падуладным самім іудзеям Майсею і Лазару аж да расследавання справы і яе вырашэння. Таму настойваў гэты юнак, каб Якаб, пазнанскі іудзей, як упаўнаважаны названых іудзеяў, сапраўды прызначаны для гэтага, згодна з пастановай суда, быў прымушаны і абавязаны прысутнічаць на судзе па справе пасрэдніцтва, паручыцельства і прад'яўленага залогу, а таксама, каб сам яго дзядзька быў аб'яўлены вызваленым з турмы.

З супрацьлеглага боку, раней згаданы пазнанскі іудзей Якаб, выкліканы для гэтага, згодна з пазнанскім звычаем і з'явіўшыся асабіста, заявіў, што яму добра вядома, што любы крэдытор можа быць змушаны да прыняцця залогу ад свайго даўжніка, калі сам даўжнік не з'яўляецца правамоцным. Аднак ён не хацеў бы, каб прад'яўлены залог ацэньваўся цераз суд, а двума чалавекамі, якіх патрэбна даць з таго і другога боку. З другога боку, [ужо] названы Раман Скарына заявіў, што іудзей не павінен унікаць судовай ацэнкі, паколькі і святая Каралеўская Вялікасць у сваім указе, прад'яўленым супраць [ужо] названага яго дзядзькі, лічыць належным загадаць названым патрабуючым крэдыторам, з выпадку раней згаданага доўгу чыніць права-

суддзе, а здзяйсненне гэтага правасуддзя, у любым выпадку, не можа адбыцца без судовай ацэнкі залогу. Тым не менш, ён заявіў, што згодна з прадпісаннем таго ж указа, ён хацеў бы абысціся справядліва з самімі крэдыторамі з выпадку доўгу. Таму ён патрабуе самога іудзея, упаўнаважанага, згодна з пастановай суда, прымусіць і абавязаць прысутнічаць на судзе па справе пасрэдніцтва, паручыцельства і прад'яўленага залогу аж да расследавання справы.

Такім чынам, паны бурмістр[29], радцы, войт і лаўнікі, уважліва слухаючы, як сам Раман Скарына, юнак законнага ўзросту, заяўляе, што ён з'яўляецца сапраўдным наследнікам і наступнікам свайго бацькі, даўжніка, да якога прад'яўлены даўгавыя прэтэнзіі, і што пакінутыя маёмасць і тавары, канфіскаваныя тут, у Познані, пасля смерці Івана Скарыны, ён, а не яго дзядзька, як больш падрабязна выкладае прад'яўленая выпіска, узяў сабе і выплаціў даўгі гэтым крэдыторам і самому дзядзьку. І таму што гэты наследнік прадстаўляе сябе як першага [наследніка] і паручыцеля за дзядзьку з выпадку даўгавой прэтэнзіі на дзвесце шэсць коп[69] грошаў[7], ён у сілу пасрэдніцтва прад'яўляе залог, які патрабуе афіцыйна ацаніць у радзе. І калі б не хапала да сумы такога доўгу, ён хацеў бы сам разам з ацэненым залогам быць падуладным самім іудзеям Майсею і Лазару і іх упаўнаважанаму аж да расследавання і вырашэння справы. Пастанавілі: зацвердзіць само пасрэдніцтва і паручыцельства першага [наследніка] і прад'яўлены залог, які павінен быць па праву ацэнены, а сам іудзей Якаб як упаўнаважаны патрабуючага крэдытора ніякім чынам не павінен перашкаджаць або замяняць такому паручыцельству і пасрэдніцтву першага [наследніка] і ацэньванню залогу. І калі б не хапала да сумы часта называнага доўгу, то за гэта каб сам Раман Скарына, як наследнік свайго бацькі, разам з ацэненым залогам быў падуладны самім крэдыторам бацькі аж да поўнага расследавання і вырашэння справы. Зыходзячы з гэтай пастановы, іудзей Якаб, упаўнаважаны ад імя іудзеяў Майсея і Лазара, апеляваў да яснавяльможнага пана і ўладара Лукі з Горкі, кашталяна[78] пазнанскага і генеральнага старосты[53] Вялікай Польшчы. Канчатковы тэрмін для гэтай апеляцыі паны аднеслі на заўтрашні дзень, [каб] з'явіцца перад яго высокасцю а семнаццатай [гадзіне]. Дзеялася ў найбліжэйшы панядзелак перад святам святых Піліпа і Якава апосталаў[84], у год божы 1532.

Дакумент зберагаецца ў Пазнанскім архіве: Archiwum Państwowe w depozycie Archiwum Miasta Poznania, Brul. Consul. 1531—32, f. 144—145. Пераклад з лац.

## № 28. УКАЗ АБ ПРЫЗНАЧЭННІ ЎПАЎНАВАЖАНАГА РАМАНУ СКАРЫНЕ Ў СПРАВЕ Ф. СКАРЫНЫ З КРЭДЫТОРАМІ

*29 красавіка 1532 г.* *Познань*

[Мы], бурмістр[29] і радцы[30] горада Познані[66], абвяшчаем і нагадваем зместам гэтага [указа], у якім ёсць важнае для ўсіх, што мы, як абаронцы няшчасных і пакінутых, па хадайніцтву і настойлівай просьбе Рамана Скарыны[63], віленскага грамадзяніна, даводзячага, што ён з'яўляецца чалавекам чужаземным, сіратой і асобай, вартай спачування, даём і прызначаем данай нам уладай Іаана Г[ісіц...кага] з Вальсова гэтаму самаму Раману Скарыне сапраўдным і законным упаўнаважаным з дастатковымі паўнамоцтвамі і ўладаю ў справе пасрэдніцтва, паручыцельства і прыняцця на сябе нейкай даўгавой прэтэнзіі да бацькі, на падставе якой выдатны муж Францыск Скарына, доктар медыцыны, быў абвінавачаны і пасаджаны ў турму, супраць Майсея і Лазара, іудзеяў з Варшавы, і Якаба з Познані, іх упаўнаважанага [з правамі] апякаць, абараняць і рабіць усё ў адпаведнасці з формай, звычаем і патрабаваннем права. Дзеялася ў найбліжэйшы панядзелак перад святам святых Піліпа і Якава, апосталаў[84], у лета гасподне 1532.

Дакумент зберагаецца ў Пазнанскім архіве: Archiwum Państwowe w depozycie Archiwum Miasta Poznania, Brul. Consul. 1531—32, f. 123—123 v. Пераклад з лац.

## № 29. ДРУГІ ЎКАЗ КАРАЛЯ ПОЛЬШЧЫ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ЖЫГІМОНТА І СУПРАЦЬ Ф. СКАРЫНЫ

*2 мая 1532 г.* *Кракаў*

(...) Шаноўным бурмістру[29] і радцам[30] горада нашага Познані[66], дарагім давераным — наша каралеўскае благаславенне. Дарагія давераныя, расказаў нам, прыйшоўшы сюды, іудзей Майсей, зяць старога Майсея з Варшавы, што вы, атрымаўшы наша пасланне, прад'яўленае вам ім [самім], зрабілі так, каб там [на месцы] быў затрыманы доктар Францыск з Вільні, [так] званы Скарына, на якога скардзіцца сам Майсей з Лазарам, сынам згаданага старога іудзея з Варшавы, што той [Скарына], забраўшы маёмасць і тавары, пакінутыя пасля смерці свайго брата, нябожчыка Івана Скарыны[28] з Вільні[64], не хоча выплаціць ім дзвесце шэсць коп[69] грошаў[7], якія, як яны даносяць і выкладаюць у скарзе, застаўся ім вінен раней названы Іван Скарына. Мы ўхваляем стараннасць вашу, якую вы праявілі пры выкананні нашага ўказа, прадстаўленага вам, як [ужо] сказана, згаданым іудзеем Майсеем. Даручаем вам, каб вы здзейснілі належнае і неадкладнае правасуддзе да згаданага Францыска на падставе сумы ў дзвесце шэсць коп на карысць гэтым жа Майсею і Лазару і не вызвалялі датуль гэтага доктара Францыска, пакуль над ім там жа на месцы не завяршыцца правасуддзе, і інакш не рабіце па абавязку вашаму і па міласці нашай. Дадзены ў Кракаве ў чацвер пасля свята святых Піліпа і Якава[84], апосталаў у год божы тысяча пяцьсот трыццаць другі, у год праўлення нашага дваццаць шосты.

Да ўласнага ўказу Каралеўскай Вялікасці.

Дакумент зберагаецца ў Пазнанскім архіве: Archiwum Państwowe w depozycie Archiwum Miasta Poznania, Brul. Consul. 1531—32, f. 161 v — 162 v. Пераклад з лац.

## № 30. УКАЗ КАРАЛЯ ПОЛЬШЧЫ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ЖЫГІМОНТА І АБ ВЫЗВАЛЕННІ Ф. СКАРЫНЫ

*24 мая 1532* *Кракаў*

(...) Жыгімонт[27], з ласкі божай кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі і прускі, мазавецкі і інш., гаспадар і дзедзіч.

Шаноўным бурмістру[29] і радцам[30] горада нашага Познані[66], паважаным давераным — наша каралеўскае благаславенне. Паважаныя давераныя нашы, дабіліся тут ад нас апошнімі днямі іудзеі нашы варшаўскія [указа] супраць шаноўнага Францыска Скарыны, грамадзяніна нашага віленскага, заяўляючы, што ён усё дабро свайго шаноўнага брата, нябожчыка, віленскага грамадзяніна Івана Скарыны[28], пасля яго смерці ўзяў сабе; і як быццам у гэтыя дні ён заставаўся вінен гэтым жа іудзеям дзвесце шэсць коп[69] грошаў[7], [і патрабуючы], каб супраць згаданага Францыска, якога яны без усякага права раней назвалі чалавекам без заняткаў, бадзягай і немаёмным, у якім бы месцы яго ні знайшлі, ім было дазволена карыстацца тымі сродкамі права, якія звычайна ўжываюць да людзей беглых і ўбогіх. [Таму] ён і быў несправядліва пасаджаны там у вас у турму і ў адносінах да яго раней не было знойдзена ніякага правасуддзя па яго праву, па якому ён з'яўляецца чалавекам маёмным. Мы даведаліся з данясення некаторых нашых саветнікаў, з тагачаснай пастановы вашага суда і з адкрытага сведчання, што гэты самы Францыск Скарына з'яўляецца вельмі паважаным і маёмным чалавекам, што нічога з рэчаў брата ў яго няма і што існуе дастатковая маёмасць і наследнікі згаданага Івана Скарыны, ад якога маглі патрабаваць свае даўгі згаданыя іудзеі. Пагэтаму пры такім стане спраў загадваем вам гэтым (указам) неадкладна адпусціць згаданага Францыска Скарыну, які ў вас пасаджаны ў турму. Мы не хочам, каб нашы падданыя, перш за ўсё маёмныя, па простым абвінавачванні кожнага так ганебна саджаліся ў турму. Названыя ж вышэй іудзеі, калі б мелі якія-небудзь прэтэнзіі да шаноўнага Францыска, то няхай па праву судзяцца з ім. Па міласці нашай інакш не рабіце. Дадзены ў Кракаве[76], у найбліжэйшую пятніцу пасля свята Penthe-

costes[85] у год божы тысяча пяцьсот трыццаць другі, у год праўлення нашага дваццаць шосты.

[Да] уласнага указа святой Каралеўскай Вялікасці.

Дакумент зберагаецца ў Пазнанскім архіве: Archiwum Pánstwowe w depozycie Archiwum Miasta Poznania. Brul. Consul. 1531—32, f. 163 v — 164 v. Копія. Пераклад з лац.

### № 31. АКТАВЫ ЗАПІС АБ СУДОВАЙ СПРЭЧЦЫ РАМАНА СКАРЫНЫ З ІУДЗЕЕМ ПА СПРАВЕ Ф. СКАРЫНЫ

*4 чэрвеня 1532 г.* *Познань*

(...) У прысутнасці радцаў[30], войта[49] і лаўнікаў[75] горада Познані[65], з'явіўшыся асабіста, Майсей, іудзей варшаўскі, запатрабаваў, каб выдатны доктар Францыск Скарына быў змушаны да выдачы яму рэшты ўжо ацэненых у судовым парадку залогаў.

Супраць жа Валянцін як паверраны ад імя Рамана Скарыны[63], сына і наследніка нябожчыка Івана Скарыны з Вільні[64], прад'явіў пастанову [суда], якая адносіцца да яго, пад пячаццю горада Познані, выкладаючы пра пасрэдніцтва, паручыцельства і ацэнку залогаў, а таксама [прад'явіў] зацвярджэнне яснавяльможнага пана і ўладара Лукі з Горкі, кашталяна[78] пазнанскага і генеральнага старосты[53] Вялікай Польшчы, дзе выкладаецца, што яго высокасць зацвярджае неабходнасць судовай ацэнкі залогаў. І [Валянцін] адказвае, што сам Раман Скарына, як раней, так і зараз, згодна са зместам гэтай грамадзянскай пастановы, выступае як пасрэднік раней згаданага доктара Скарыны, свайго дзядзькі. І таму што сам іудзей уступіў з ім у судовую спрэчку і ацэненыя залогі ён прыняў не ад доктара Скарыны, а на самай справе ад юнака, то з уступленнем [іудзея] у судовую спрэчку і прыняццем залогаў, сам яго дзядзька зрабіўся свабодным ад іудзея. Той жа Валянцін патрабаваў як паверраны ад імя названага юнака аб'явіць самога доктара вызваленым з турмы.

З другога боку, іудзей Майсей заявіў, што ён засведчыў перад грамадзянскім судом горада Познані, што гэтыя залогі ён атрымаў не ад Рамана, а ад доктара, і ён патрабуе, каб сам доктар быў прымушаны да выдачы яму рэшты ўжо ацэненых залогаў. Зноў Валянцін як паверраны ад імя часта называнага Рамана заявіў, што такое сведчанне, калі яно і было зроблена, не мае ніякай сілы. Бо само яно было зроблена не перад пачаткам судовай спрэчкі і нават не адразу пасля вынесенага судом рашэння па справе пасрэдніцтва і паручыцельства, а гэта ён [іудзей] абавязаны быў зрабіць па закону, калі заслугоўвае павагі, а не незаконным парадкам, ужо пасля таго, як былі прыняты залогі.

Такім чынам, паны бурмістр[29], радцы, войт і лаўнікі, беручы пад увагу тое, што ў судовым парадку адбылася неабходная і ўстаноўленая ацэнка залогаў, якая была зацверджана прыгаданым яснавяльможным панам, гаспадаром пазнанскім, даручылі перадаць рэшту залогаў, так як яны ацэнены, самому іудзею Майсею. І таму, што яго высокасць у сваім зацвярджэнні нічога не згадвае пра пасрэдніцтва і паручыцельства, устаноўленыя радай горада Познані, яны у моц першай апеляцыі, зробленай ад прыгаданай пастановы аб пасрэдніцтве і паручыцельстве, адаслалі і той і другі з гэтых прыгаданых [старон] да яго высокасці, вызначаючы ім тэрмін для з'яўлення перад яго высокасцю на бліжэйшую пятніцу а васемнаццатай гадзіне. Дзеялася ў аўторак пасля актáў цела Хрыстова, у лета гасподне 1532.

Дакумент зберагаецца ў Пазнанскім архіве: Archiwum Pánstwowe w depozycie Archiwum Miasta Poznania, z lat 1531—32, sygn. I 114, f. 145 v. Пераклад з лац.

### № 32. АКТАВЫ ЗАПІС АБ ВЫРАШЭННІ СПРАВЫ Ф. СКАРЫНЫ З КРЭДЫТОРАМІ НА ЯГО КАРЫСЦЬ

*17 чэрвеня 1532 г.* *Познань*

(...) У прысутнасці бурмістра[29], радцаў[30], войта[49] і лаўнікаў[75] горада Познані[66], з'явіўшыся асабіста, выдатны муж Францыск Скарына, мастацтваў і медыцыны доктар, з Вільні[64], цераз Мацея Лонгія, магістра навук, свайго паверанага, прад'явіў указ святой Каралеўскай Вялікасці, у якім прадпісвалася неадкладна вызваліць самога вышэй згаданага Францыска Скарыну з гарадской турмы, куды ён быў пасаджаны па патрабаванню Майсея, варшаўскага іудзея, згодна з указам святой Каралеўскай Вялікасці. Той жа Францыск Скарына запатрабаваў, каб, згодна са зместам прад'яўленага ўказа, яму гарантавалі ранейшыя правы і законным парадкам, па пастанове суда, быў аб'яўлены вызваленым з турмы, заяўляючы, што ён, як патрабуе права, звярнуўся да пана бурмістра з настойлівым хадайніцтвам пра неабходнасць выкліку ў суд іудзея Майсея або яго паверанага. Таму ён [Францыск] настойваў, каб пан бурмістр перад гарадской радай, а таксама перад земскім возным[82] пазнанскай зямлі тут жа аб'явіў прысутным пра выклік у суд іудзея і пра тэрмін для заявы іудзея [пра падставы свайго іску], вызначаны на сённяшні дзень.

Тады паважаны пан Валянцін Скаргардыян, абодвух правоў і медыцыны доктар, бурмістр пазнанскі, выконваючы свой абавязак, выклікаў гарадскога служку Іаана Кракоў[скага], якога ён, як патрабуе права, прызначыў для выкліку ў суд самога іудзея Майсея. Той жа служка ясна заявіў, што ён у мінулую суботу быў пасланы, каб па патрабаванню гэтага доктара [Францыска] выклікаць у суд, згодна з грамадзянскім звычаем, варшаўскага іудзея Майсея да прысутных радцаў, войта і лаўнікаў. Прыйшоўшы па гэтаму выкліку ў пазнанскую раду, сам [гэты] іудзей з'явіўся да пана бурмістра.

Пан жа бурмістр паведаміў, што сам іудзей Майсей тады ў мінулую суботу з'явіўся да яго ў пазнанскую раду і спасылаўся на суботняе свята, у час якога яму не можна нічога рабіць або распачынаць. І паколькі заўтрашні дзень — нядзеля, папрасіў гэты самы іудзей, каб тэрмін, вызначаны яму ў позве, быў прадоўжаны да панядзелка, заяўляючы, што ён [зможа] займацца справамі ў гэты тэрмін, што сам іудзей Майсей зацвердзіў.

Гэта тлумачэнне пана бурмістра, а таксама гарадскога служкі гэты ж доктар Скарына абскардзіў перад самім згаданым земскім возным, там жа прысутнічаючым і слухаючым. Тым не менш ён патрабаваў запісаць гэта тлумачэнне пана бурмістра і гарадскога служкі ў кнігу актаў, чаго і дамогся.

І паколькі сам іудзей Майсей ні асабіста, ні цераз свайго ўпаўнаважанага ўпарта не падпарадкоўваецца [позве], гэты ж Скарына цераз згаданага магістра Мацея Лонгія, свайго паверанага, заяўляе вусна і ў прадстаўленых паперах пратэст.

Паважаныя паны, перад вамі, вусна і пісьмова, як прадугледжана ўмовай, заступнік выдатнага мужа пана Францыска Скарыны, мастацтваў і медыцыны доктара, сакратара і лекара яснавяльможнага і шаноўнага пана і гаспадара, біскупа віленскага[37], які прысутнічае і дапамагае ў справе супраць хлуслівага іудзея Майсея, асабіста і законным парадкам выкліканага ў суд, і яго саўладальнікаў іудзеяў з Варшавы, заяўляе, што гэты хлуслівы іудзей разам з саўдзельнікам цяжбы, ілжывым расказам, зробленым перад святой Вялікасцю, у якім ён ілжыва заявіў, што ён [Скарына] пасля смерці свайго роднага, вечная яму памяць, брата быў і ёсць вінен яму [Майсею] дзвесце шэсць коп[69] і што з-за гэтага доўгу [Скарына] уцёк з Вільні і блукае ўсюды, і падманам дамогся ўказа, які звычайна пашыраецца толькі на злачынцаў і яўных бадзяг або на абвінавачаных даўжнікоў, якія не могуць выплаціць доўг, што з'явілася найбольшай несправядлівасцю для майго прынцыпала[86]. У сілу патрабаванняў гэтага ўказа ён дамогся зняволення самога доктара Скарыны, майго прынцыпала, абвінавачанага як злачынца без усякага на тое права, насуперак усякай справядлівасці, без усякага на тое грамадзянскага іску і раней чым законным чынам зроблена гэта абвінавачванне, у гарадскую турму, а таксама спагнання вялікай пені і спагнання на дзесяць [septiniaris], з найвялікшай шкодай, цяжарам і стратамі для самога доктара, як сведчыць і змест указа святой Каралеўскай Вялікасці, а таксама са [стратамі] для яснавяльможнага і паважанага пана і гаспадара біскупа віленскага, свайго міласцівага гаспадара, у якога знаходзіўся на службе як прыбліжаны і слуга сам доктар. Усе гэтыя несправядлівасці і зняволенне ў турму, спагнанні і страты для яго асобы з-за названага іудзея

Майсея і звязаных з ім [людзей], пан доктар ацаніў на суму шэсць тысяч залатых венгерскіх фларэнаў[58] сапраўднай і належнай вагі. І паколькі хлуслівы іудзей, выкліканы па позве ў тэрмін, перанесены панам бурмістрам па просьбе самога іудзея на сённяшні дзень, як заявіў тут перад радай і возным пан бурмістр, расследаванню якога я даручаю сябе і майго прынцыпала, беспадстаўна не з'яўляецца і не збіраецца з'яўляцца перад вамі, [дык] пан доктар Скарына з-за няяўкі іудзейскага боку і згодна з умовай другога распараджэння саксонскага права, якое прымяняецца ў гэтым слаўным Польскім каралеўстве, запатрабаваў, каб судовая справа, на якой грунтуецца іск, была вырашана на яго карысць, а сам хлуслівы іудзей Майсей, як прайграўшы быў асуджаны згодна з найбольш відавочнымі палажэннямі права. Ён патрабуе таксама, каб ён і яго [паверáны] былі ахаваны згодна з гэтымі правамі. Таго ж самага патрабуе пан доктар Скарына і яго паверáны ад яго імя, і [імення], каб па абавязку вашай рады справа была вырашана ў судовым парадку [на яго карысць] і каб ён быў вызвалены з турмы згодна з пастановай суда, пра што нізка просіць міласцівую раду і суддзяў.

Такім чынам, пан бурмістр, радцы, войт і лаўнікі з найвялікшай павагай, як належыць, чытаючы ўказ святой Каралеўскай Вялікасці, прад'яўлены самім доктарам Скарынай, і ўважліва слухаючы, што сам іудзей Майсей быў асабіста выкліканы ў суд, і што ён сам, з'явіўшыся паводле зробленага выкліку перад панам бурмістрам у пазнанскай радзе, папрасіў перанесці тэрмін на сённяшні дзень. І паколькі сам іудзей адсутнічае і не з'яўляецца, то з выпадку няяўкі самога іудзея ў суд і згодна са зместам гэтага каралеўскага ўказа пастанавілі і аб'явілі таго ж самага доктара Скарыну вызваленым з гарадской турмы. І дазволілі ўсе довады і сведчанні самога доктара, зробленыя прадугледжаным чынам, занатаваць у кнігу актаў, што сам доктар прыняў з удзячнасцю, як справу вырашаную і зацверджаную. Дзеялася ў найбліжэйшы панядзелак[87] перад святам святога Іаана ў год божы 1532.

Дакумент зберагаецца ў Пазнанскім архіве: Archiwum Państwowe w depozycie Archiwum Miasta Poznania, Brul. Consul. 1531—1532, sygn. I—114, f. 161—165. Пераклад з лац.

### № 33. ПЕРШАЯ ПРЫВІЛЕЙНАЯ ГРАМАТА КАРАЛЯ ПОЛЬШЧЫ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ЖЫГІМОНТА І У АБАРОНУ Ф. СКАРЫНЫ

*21 лістапада 1532 г.* *Кракаў*

(...) Жыгімонт[27] і г. д. Абвяшчаем і г. д. З'явіўшыся асабіста перад намі прадбачлівы юнак у правамоцным узросце Раман Скарына[63], віленскі грамадзянін, растлумачыў, што ён даведаўся, як выдатны і слаўны Францыск Скарына з Полацка[11], доктар медыцыны, ягоны дзядзька, праз некаторых іудзеяў і іншых крэдытораў яго бацькі, некалі слаўнага Івана Скарыны[28], віленскага грамадзяніна, прыцягнуты да суда за бацькавы даўгі, якіх нібыта не хоча сплачваць з быццам бы забранай цалкам і па частках маёмасці рухомай і нерухомай, што засталася пасля смерці таго ж Івана, віленскага грамадзяніна; і зазначыў [Раман] публічна перад намі, што вышэйназваны доктар Францыск ніякага дабра, якое засталося пасля смерці згаданага Івана Скарыны, яго бацькі, не атрымліваў, бо ён сам, Раман, атрымаў у спадчыну цалкам і па частках маёмасць таго ж Івана як праўдзівы і законны сын і спадчыннік, і некаторыя бацькавы даўгі, прызнаныя законнымі, ён ужо сплаціў, а яшчэ нясплачаныя гатоў сплаціць.

Мы [кароль] жадаем засведчыць гэта ўсім, каго датычыць, і загадваем гэтай граматай: каб вышэйназванага доктара Францыска Скарыну не выклікалі ні ў якія вашы судовыя інстанцыі і не судзілі за якія б ні было даўгі і маёмасць яго роднага брата, названага Івана Скарыны, віленскага грамадзяніна, і каб пазбавілі яго ад нападкаў і дамаганняў з боку ўсякіх крэдытораў, якога б там ні былі абраду, і каб вызвалілі яго ад даўгоў, зробленых самім яго братам, нябожчыкам Іванам Скарынам. І няхай не з'явяцца таму перашкодай якія б ні было лісты, любога зместу і даты, выдадзеныя нашай канцылярыяй супраць таго, каго мы вызваляем і аб'яўляем свабодным ад іх выплаты гэтай граматай. У пацвярджэнне чаго прыціснута наша пячаць. Дадзена ў Кракаве, у чацвер, на свята Ахвяравання святой Марыі[88], у год 1532 праўлення нашага 26-ы (...).

Дакумент зберагаецца ў Галоўным архіве стараж. актаў у Варшаве: Archiwum Główne Akt dawnych, Księgi Metryki koronnej, Nr. 48, f. 310. Пераклад з лац.

### № 34. ДРУГАЯ ПРЫВІЛЕЙНАЯ ГРАМАТА КАРАЛЯ ПОЛЬШЧЫ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ЖЫГІМОНТА І У АБАРОНУ Ф. СКАРЫНЫ

*25 лістапада 1532 г.* *Кракаў*

(...) Жыгімонт[27] і г. д. ... Абвяшчаем і г. д. ... Далучаючыся да шчырых просьбаў некаторых нашых дарадчыкаў і лічачы вартай даверу дабрачыннасць, незвычайную вучонасць у мастацтве медыцыны, дасведчанасць і ўменне выдатнага Францыска Скарыны з Полацка[11], доктара мастацтваў і медыцыны, ды жадаючы дзеля гэтага адарыць яго асаблівай нашай ласкай, мы знайшлі патрэбным даць яму гэтыя льготы і прывілей. Яму мы іх даём і пастанаўляем гэтай граматай наступнае:

Няхай ніхто, апрача нас саміх альбо спадчыннікаў нашых, як у Каралеўстве, так і ў Вялікім княстве Літоўскім, на землях Прусіі і Жамойціі ды ў іншых уладаннях нашых не мае права прыцягваць яго да суда і судзіць, якой бы ні была важнай ці нязначнай прычына яго выкліку ў суд.

Зразумела, аказваючы доктару Францыску такую ласку, мы [гэтым самым] адказваем за яго поўную бяспеку і бярэм пад нашу ахову і апеку з тым, каб з іх дапамогай ва ўсіх месцах нашага Каралеўства, раней згаданага Вялікага княства Літоўскага нашага ды іншых уладаннях нашых ён быў ахаваны ад усякага насілля з боку розных асоб. І няхай ніхто не адважыцца затрымліваць альбо арыштоўваць яго самога ці яго маёмасць пад страхам цяжкай кары паводле нашага асуджэння.

Фрагмент прывілейнай граматы караля Польшчы і вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Жыгімонта І у абарону Ф. Скарыны. 25.11.1532.


Littere pro Doctore Fran
cisco Skorzina de Pologzko

І няхай прыгаданы доктар Францыск у тым горадзе і ў тым месцы, якія ён сабе выбера для жыхарства, будзе вызвалены і свабодны ад усякіх павіннасцей і гарадскіх службаў. Мы вызваляем яго ад грамадскіх павіннасцей, а таксама з-пад юрысдыкцыі і ўлады ўсіх і кожнага паасобку — ваяводаў[77], кашталянаў[78], старастаў і іншых саноўнікаў, [ніжэйшых земскіх]ураднікаў[79] і ўсякіх суддзяў.

Аднак, каб названы доктар Францыск Скарына мог свабодней і паўней карыстацца тымі прывілеямі ды льготамі, якія мы яму міласціва ўчынілі, мы даручаем і настойліва загадваем гэтай граматай усім і кожнаму, усякага звання і стану саноўнікам, і [ніжэйшым земскім] ураднікам, а таксама ўсякім суддзям Каралеўства і Вялікага княства Літоўскага, Жамойціі ды іншых уладанняў нашых, а таксама бурмістрам[29] і радцам[30] гарадоў і мястэчак, войтам, лаўнікам[75], усім грамадзянам і наогул усім нашым падданым у Каралеўстве і Вялікім Княстве Літоўскім ды іншых уладаннях нашых.

Дайце названаму доктару Францыску, якога мы прынялі пад сваю апеку, [магчымасць] карыстацца і валодаць вышэйпрыгаданымі правамі, ільготамі і прывілеямі, і абыходзьцеся з ім з захаваннем іх.

Не смейце наогул умешвацца ў яго справы, якія б ні былі яны важныя ці нязначныя, учыняць яму якое-небудзь насілле ці арыштоўваць альбо затрымоўваць яго маёмасць, альбо прымушаць прыгаданага доктара Францыска да выканання якіх-небудзь павіннасцей ці гарадскіх службаў роўна з іншымі жыхарамі таго горада, які ён сабе выбера для пражывання.

І няхай ніхто з вас не адважыцца [на гэта] пад страхам кары адпаведна нашаму меркаванню, як сказана вышэй.

Гэта мы жадаем давесці і даводзім да ведама ўсіх і кожнага, каго гэта датычыць.

У пацвярджэнне граматы прыціснута наша пячаць.

Дадзена ў Кракаве[76] ў панядзелак, на свята святой дзевы Кацярыны[89], у год божы тысяча пяцьсот трыццаць другі нашага праўлення 26-ы. Ж[ыгімонт] К[ароль], як вышэй.

Дакумент зберагаецца ў Гал. архіве стараж. актаў у Варшаве: Archiwum Główne Akt dawnych, Księgi Metryki koronnej, Nr. 48, f. 308. Копія. Пераклад з лац.

### № 35. ПЕРШЫ АКТАВЫ ЗАПІС АБ СУДОВАЙ СПРЭЧЦЫ ПАМІЖ ЗЯЦЯМІ ІВАНА СКАРЫНЫ МІХНАЙ АЎСЯНІКАМ І ЕСЬКАМ СЦЯПАНАВІЧАМ

*18 чэрвеня 1535 г.* — *Полацк*

(...) Про память пан его м[и]л[о]сть казал записати. Што жаловал перед его м[и]л[о]стью мещанин г[оспо]д[а]ръский полоцький Михно Овсяников на мещанина полоцъкого ж, свояка своего ж, Еська Степановича о том: штож есми по ц[ес]тю своем Ивану Скориничу[28], мещанину места Виленъског[о][64] Петру Соколовъскому сорок коп[69] и полъторы копы грошей[7], и, будучы в той паруце, заплатилом за него тому Петру тые п[е]н[е]зи[90] а над то и две копе грошей за шкоды его. Якож и лист на то вызнаный от места Рызъского[91] перед нами указы вал и поведил, иж тот тесть его умер, а Еськo, свояк его, имен[ь]е того цъстя своего Ивана Скорынинича, держить и его вживаеть, а ему тых п[е]н[е]зей с того именья платити не хочеть. И тот Еськo напротив того поведил: иж тое именье цтя нашого Ивана Скорынича, ач ест у моей опеце, вшакож я не повинен в том отказу чинити без шурына своего Романа[63], которого ж поведил иж в Немъцах служить.

И мы, убачывши то, кгдыж тот Еськo именье его у своей опеце маеть, иж Михно не повинен тех в тых п[е]н[е]зех шкоды приймовати, положили есмо ему, водле Статут прав писаных, тры роки по чотыры недели, абы того шурына своего перед нами поставил, и ему в том отказе был. А естли его на остаточный рок, то ест в пятницу по нароженьи Пречыстое Богородицы, опошнее перед нами не поставить, тогды мы маем Михну в тое именье его в тых п[е]н[е]зех веръху писаных увязанье дати, до заплаты ему тых п[е]н[е]зей.

А при том были: пан Дмитрей Богданович, пан Яцько Быстрейский, пан Иван Глебович городничий[93] полоцъкий, пан Глеб Иванович Зенов[ь]евича, пан Тиша Быковъский.

Писан у Полоцъку[11], июн[ь] 18 д[е]нь, инъдикт[94] 8.

Дакумент перадрукоўваецца з кн.: Беларускі архіў. Мн., 1928. Т. 2. С. 263—264. Адаптацыя са старабел.

### № 36. ДРУГІ АКТАВЫ ЗАПІС АБ СУДОВАЙ СПРЭЧЦЫ ПАМІЖ ЗЯЦЯМІ ІВАНА СКАРЫНЫ, МІХНАЙ АЎСЯНІКАМ І ЕСЬКАМ СЦЯПАНАВІЧАМ

*4 кастрычніка 1535 г.* — *Полацк*

А кгдыж тот останочъный рок пришол, и мы над звыш того року ждали еще Еську тры недели, абы был того шурына своего перед нами поставил. Он его и на тот час перед нами не поставил.

А так мы, за тым его на тые роки перед нами непоставленьем, дали есмо Михну в тых его сороку копах[69] и в полъчетверъту копах грошей[7] увязанье во все именье того ц[ес]тя их Ивана Скорыны[28] и в дворыща, што в замъку Полоцъком суть, которыи тот Иван Скорына держал. Маеть он именье и дворыща в тых п[е]н[е]зех[90] держати и того вживати поки от того Романа[63], шурына их, будуть ему тые п[е]н[е]зи заплачоны. А естли бы ся божъя воля над тым Романом, шурыном их, стала, а хотел ли бы, по его животе, тот Еськo половицу того именья и дворыщ к сво[и]м рукам от Михна взяти, тогды маеть перъвей Михну половицу тых п[е]н[е]зей его, то ест двадцат[ь] коп и две копе без пятинадцати грошей, заплатити, тож половицу того именья и дворыщ Скорыниных к своим рукам мети.

А што поведил тот Еськo, их бы в том же именьи цесця его была часть доктора Франъцышка Скорыны и поведил, иж бы доктор тую часть свою ему у вопеку полецил, мы его пытали: естли бы от доктора на то який лист мел. Он на то жадного листу его перед нами мети не поведил.

И мы за таковым способом во все именье того Ивана Скорыны Михну увязанье дали, а будеть ли Франъцышку доктору, або кому кольвек, до того именья о якие части их которое дело, тогды тые з Михном мають о том мовити.

А при том были: пан Ян Хръсчонович, пан Дмитрей Богданович, пан Яцъко Быстрейский, пан Иван Глебович городничий[93] полоцъкий.

Писан у Полоцъку[11], ок[тябрь] 4 д[е]нь, инъдикт[94] 9.

Перадрукоўваецца з той жа крыніцы, што і дакумент № 35. Адаптацыя са старабел.

### № 37. ПЕРШЫ ФРАГМЕНТ З ПЕРАПІСКІ БАГЕМСКАЙ КАМОРЫ З КАРАЛЁМ ФЕРДЫНАНДАМ І

*22 мая 1535 г.* — *Вена*

(...) Фердынанду І[95] Грыспеку: Фларыяну[95а].

(...) Дарагі верны сябра. Паколькі ты не раз пісаў нам, што мы павінны накіраваць табе садоўніка[96] для работы ў Празе[97], дык мы пасылаем табе з прад'яўнікам ліста; ты зможаш выкарыстаць яго пры неабходнасці для арганізацыі новага саду. Мы далі яму на харч і ўтрыманне 20 фларэнаў[58], цябе просім паклапаціцца аб астатнім утрыманні на час яго знаходжання (...).

Дакумент зберагаецца ў архіве Пражскага града — архіў каморы, ч. 17, чарнавік. Пераклад з нованерхненям.

### № 38. ДРУГІ ФРАГМЕНТ З ПЕРАПІСКІ БАГЕМСКАЙ КАМОРЫ З КАРАЛЁМ ФЕРДЫНАНДАМ І

*27 чэрвеня 1538 г.* — *Прага*

(....) Багемская камора паведамляе каралю Фердынанду І[95] таксама наступнае:

(...) Адносна садаводства тут, усеміласцівейшы кароль і пан, Ваша Вялікасць, дык расходы на яго даволі вялікія, як Ваша Вялікасць усеміласціва маглі заўважыць па той долі, якая адпраўляецца Вашай Вялікасці і будзе адпраўляцца штомесячна за яго; мы не можам не данесці пакорліва Вашай Вялікасці нашы меркаванні і тое, якія нястачы ёсць у нас у гэтай працы, з вельмі пакорлівай просьбай да Вашай Вялікасці зразумець гэта так, як мы думаем. (...)

На садоўніка, майстра Францыска[96], у яго настаўленні, а яно напісана па-лацінску і мы яго разумеем, ускладзены абавязак працаваць у садзе і выконваць любую працу садоўніка, як Ваша Вялікасць усеміласціва даведалася з копіі гэтага настаўлення; ён працуе таксама мала. Мы бачым яшчэ малавытанчаных учыненняў, чым ён займаецца ў садзе; і апрача італьянскіх дрэў — цытрын, памяранцаў і ім падобных, якія толькі ўзыходзяць, мы нічым асабліва не можам пацешыць Вашу Вялікасць. Гэта мы пішам толькі, каб пакорліва паведаміць Вашай Вялікасці, каб Ваша Вялікасць ведала пра гэта. З фруктаў няма яшчэ нічога, што можна было б пасдаць Вашай Вялікасці; (...)

Дакумент зберагаецца ў Дзярж. архіве Прагі, кніга копій № 15, т. 156—160. Пераклад з нававерхненям.

## № 39. ТРЭЦІ ФРАГМЕНТ З ПЕРАПІСКІ БАГЕМСКАЙ КАМОРЫ З КАРАЛЁМ ФЕРДЫНАНДАМ І

*4 ліпеня 1538 г.* *Крэмс*

Кароль Фердынанд І[95] піша Багемскай каморы ў адказ на яе данос ад 22 чэрвеня таксама столькі, колькі на гэты раз у спешцы ў нашым падарожжы можна і неабходна:

(...) А што да майстра Францыска[96], нашага садоўніка ў Празе[97], што ён з малым стараннем выконвае працу ў садзе, якую ён павінен выконваць на сваёй пасадзе, дык наш загад, каб вы ад нашага імя з дбайнасцю і сур'ёзнасцю прачасылі за ім, каб ён, паколькі мы спадзяёмся на яго, такую працу ў садзе выконваў больш старанна, чым дагэтуль, асабліва па добраўпарадкаванню і па вырошчванню ўсялякіх садовых раслін, і гэтым самым адпавядаў сваім абавязкам і сваёй пасадзе. Калі ж ён і далей не будзе руплівым, дык паведаміце нам аб гэтым і яму скажыце, што ў вас ёсць загад паведаміць нам. (...)

Дакумент зберагаецца ў Дзярж. архіве Прагі, кніга копій № 19, т. 31—33. Пераклад з нававерхненям.

## № 40. ЧАЦВЁРТЫ ФРАГМЕНТ З ПЕРАПІСКІ БАГЕМСКАЙ КАМОРЫ З КАРАЛЁМ ФЕРДЫНАНДАМ І.

*6 лютага 1539 г.* *Прага*

Багемская камора паведамляе каралю Фердынанду І[95] пра будаўніцтва ў дварцовым садзе яго Каралеўскай Вялікасці ў Празе:[97]

Усеміласцівы пан! Ліст Вашай Вялікасці ад 30 дня мінулага месяца студзеня мы пакорна атрымалі і зразумелі з яго, што Ваша Вялікасць хоча ведаць, як некаторыя асобы, разбіўшы высечаныя камяні [скульптуры] і ссекшы маладыя дрэвы ў садзе Вашай Вялікасці, здзейснілі тут злачынства і самавольства, і што Ваша Вялікасць былі вельмі здзіўлены, што пра гэта мы нічога не паведамілі. Мы атрымалі таксама прыкладзены да яго строгі загад, каб мы тэрмінова паведамлялі Вашай Вялікасці аб стане пасля зробленага злачынства разам з указаннем Вашай Вялікасці, як павінны абысціся са злачынцамі і гэтак далей, пазнаёміўшыся з далейшым зместам гэтага ліста Вашай Вялікасці.

На гэта мы пакорліва паведамляем Вашай Вялікасці, што мы не толькі не ведалі пра злачынства — знішчэнне скульптур ці маладых дрэў, як напісана ў лісце, але і нічога не чулі да атрымання загада Вашай Вялікасці, таму і не маглі нічога данесці ці паведаміць пра гэта Вашай Вялікасці. Праўда, некалькі тыдняў таму назад прыйшоў да нас майстар Паоло дэ ля Стэла, каменячос, разам з некалькімі сваімі сябрамі і паведаміў, што ноччу з іх домікаў у садзе былі ўкрадзены і вынесены інструменты і жалеза, якімі яны карыстаюцца ў працы, і што яны з-за недахопу такіх жалязяк менш будуць працаваць, а большую частку часу бяздзейнічаць, пакуль не будуць падрыхтаваны іншыя і новыя жалязякі. На гэта мы загадалі паставіць ля домікаў варту. Але паколькі пасля іх паведамлення ніхто не быў злоўлены, то мы распарадзіліся, каб у майстроў па інструменту і ў галоўных слесараў, таксама на рынку і дзе яшчэ патрэбна і карысна будзе, асабліва ўважліва сачылі за тым, хто прадае такія інструменты, якіх від і форму мы пры гэтым апісалі і ўказалі, і як з імі трэба абыйсціся. Дзякуючы такому дбайнаму распараджэнню чатыры злачынцы былі злоўлены і пасаджаны ў турму; і паколькі і іншыя падазрэнні да іх былі, дык іх вельмі старанна дапыталі і было ўстаноўлена, што гэтыя чатыры былі замешаны і вінаваты не толькі ў крадзяжы, але і ў іншых больш значных злачынствах, такіх, як забойства, вулічныя рабункі і іншых падобных злачынствах. (...)

Але ў тое, што быццам бы знішчаны некаторыя скульптуры і ссечаны дрэвы, як напісана ў лісце Вашай Вялікасці, няхай Ваша Вялікасць не верыць. Таму што хоць мы і адразу ведалі, што гэта няпраўда, мы ўсё ж пасля атрымання загаду Вашай Вялікасці запрасілі да сябе майстра Паола, каменячоса, а таксама майстра Францыска[96], садоўніка, і апыталі іх з гэтай нагоды. Ніводзін з іх нічога пра гэта не ведае, і абодва гавораць, што ніякія скульптуры не разбіты і ніякія дрэвы не ссечаны. А названыя злачынцы зрабілі свае злачынствы не дзеля кашчунства і не па чужому падбухторванню, а толькі дзеля простай малой выгады, якой яны чакалі ад продажу жалязяк, як яны самі сказалі, прызнаючыся ў сваім злачынстве.

Дакумент зберагаецца ў Дзярж. архіве Прагі, кніга копій № 15, т. 261—263. Пераклад з нававерхненям.

## № 41. ПЯТЫ ФРАГМЕНТ З ПЕРАПІСКІ БАГЕМСКАЙ КАМОРЫ З КАРАЛЁМ ФЕРДЫНАНДАМ І.

*4 красавіка 1539 г.* *Прага*

(...) Багемская камора паведамляе каралю Фердынанду І[95]:

Доктар[98] з Фландрыі[99], які прыбыў для пашырэння саду Вашай Вялікасці ў яры за мастамі, у якім раней распараджаўся адзін толькі стралок [гвардыі] Вашай Вялікасці, узяты Вашай Вялікасцю, перадаў нам загад Вашай Вялікасці аб гэтым і копію свайго прызначэння. Мы адвялі яму агаворанаую частку саду згодна з загадам Вашай Вялікасці і забяспечылі яго жыллём, пасцеллю, роўна як і ўсім неабходным для працы ў садзе. Але ён лічыць, што там нічога асабліва пашырыць і наладзіць нельга, па-першае, з-за вузкасці, а па-другое, з-за вады, якая ў час разліву пашкодзіць пасевам і саджанцам, пра што мы таксама непакоімся. Мы лічым, што сад трэба даручыць аднаму з садоўнікаў і гэтым самым сэканоміць расходы, якія ідуць на дваіх; але Ваша Вялікасць усеміласціва змогуць выказаць сваю волю і пажаданні. Гэтаму доктару згодна з дагаворам павінны выплаціць ужо за два месяцы, люты і сакавік, таму што плата яму ідзе з першага лютага. Ён таксама патрабуе грошы і гаворыць, што без грошай ён не можа больш утрымліваць сябе і сваіх работнікаў; тое ж — майстар Францыск, яму аднаму мы павінны да двухсот гульдэнаў[100]. Мы пакорліва паведамляем усё гэта Вашай Вялікасці для таго толькі, каб Ваша Вялікасць дазволіла даць хуткае і неабходнае распараджэнне наконт згаданых грошай.

Дакумент зберагаецца ў Дзярж. архіве Прагі, кніга копій № 15, т. 279—280. Пераклад з нававерхненям.

## № 42. ШОСТЫ ФРАГМЕНТ З ПЕРАПІСКІ БАГЕМСКАЙ КАМОРЫ З КАРАЛЁМ ФЕРДЫНАНДАМ І

*21 ліпеня 1539 г.* *Чэхія*

(...) Фердынанд І[95] Грыспеку[95]а:

(...) Па-першае, адносна майстра Францыска[96], італьянскага садоўніка[101]; Багемскай каморы быў аддадзены наш загад аплаціць яго працу па часе і разлічыцца з ім, каб вы яго больш не затрымлівалі. Пра ўсё гэта мы апавешчаны дастаткова, таму што ён пасля гэтага прыбыў да нашага двара і затрымаўся нейкі час тут і ў Нойштаце[102]. Нам паведамілі таксама, што прыгаданы Францыск перад сваім ад'ездам не прычыніў дрэвам ніякай шкоды, было паведамлена таксама, што памяранцы, смакоўніцы, фігавыя і іншыя дрэвы стаяць у такім жа добрым парадку, як мы іх пакінулі, чым мы задаволены. (...)

Дакумент зберагаецца ў архіве Пражскага града, архіў каморы, ч. 40, чарнавік. Пераклад з нававерхненям.

**№ 43. ПАВЕДАМЛЕННЕ ХРАНІСТА В. ГАЕКА ПРА ПАЖАР У ПРАЗЕ**

*2 чэрвеня 1541 г.* *Прага*

(...) Вось гэтыя людзі з-за агню загінулі ў пражскім крамлі: у доме дэкана ў склепе згарэла адна кухарка, старая жанчына; у вуглавым доме насупраць Яна Жыцецкага — ксёндз Мікулаш Кульгавы, вікарый[13]; з ім таксама згарэў і сын Яна Цукраржа, хлопчык дванаццацігадовы Лоранц і другі хлопчык, трохі меншы за яго; у доме ксяндза Яна[103] з Пухава[104], прапаведніка,— кухарка Магдалена, а таксама хлопчык Францішак, сын колішняга доктара Руса[105], і яшчэ адзін хлопчык. (...)

Перадрукоўваецца з выдання: Beckovský J. F. Poselkyně starých pžiběhův českých. Dil 2, sv. I. Praha, 1879. S. 100. Пераклад з чэш.

**№ 44. ФРАГМЕНТ З ІНСТРУКЦЫІ КАРАЛЯ ПОЛЬШЧЫ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ЖЫГІМОНТА АЎГУСТА СВАЙМУ ПАСЛУ АЛЬБЕРТУ КРЫЧКУ ПРЫ ПАПЕ ЮЛІЮ ІІІ АБ СПАЛЬВАННІ Ў МАСКВЕ КНІГ «БІБЛІІ», ВЫДАДЗЕНЫХ НА РУСКАЙ МОВЕ**

*1552 г.* *Вільня*

Інструкцыя, у адпаведнасці з якой каралеўскі пасол павінен гаварыць з рымскім папай.

(...) Гэта добра ведалі папы Аляксандр чацвёрты[106] і Леў дзесяты[107], пагэтаму, калі Васіль[108], бацька таго, хто зараз кіруе маскавіцянамі, таксама як цяпер гэты[109], але з яшчэ большай упартасцю і ў больш сталым узросце з намерам, адправіўшы у Рым бліскучае пасольства, дамагаўся ад іх кароны (і шмат паабяцаў ім, і гэтак жа спрыялі яму кароль Максімілян[110] і некаторыя іншыя хрысціянскія князі), аднак нічога не атрымаў. Таму што, апрача лжывых абяцанняў, яны не выявілі ні ў яго, ні ў каго іншага з маскавіцян ніякіх прыкмет шчырай прыхільнасці да каталіцкай рымскай царквы; і нават, калі пры панаванні нашага боскага бацькі[111] нейкі яго падданы, кіруючыся набожным жаданнем і вырашыўшы надрукаваць і выдаць на рускай мове святое пісанне[112], прыбыў да маскавіцян, гэтыя кнігі былі публічна па загаду князя спалены, таму што былі выдадзены падданым[113] рымскай царквы і ў месцах, якія падлягаюць яе ўладзе. Такая ўселеная ў гэты народ непрыязнасць да лацінскага і рымскага імені. (...).

Дакумент перадрукоўваецца з выдання: Fiedler J. Ein Versuch der Vereinigung der russischen mit der römischen Kirche im sechzehnten Jahrhunderte //Sitzungsberichte der Kaiserlichen Akademie der Wissenschaften. Philosophisch-Historische Classe. Wien, 1862. Bd. 40, h. I. S. 110. Пераклад з лац.

**№ 45. АДКРЫТАЯ ГРАМАТА КАРАЛЯ ФЕРДЫНАНДА І, ДАДЗЕНАЯ СЫНУ Ф. СКАРЫНЫ СІМЯОНУ**

*29 студзеня 1552 г.* *Прага*

(...) Мы, Фердынанд І[95] і г. д., абвяшчаем гэтай граматай усіх, што доктар Францішак Рус Скарына з Полацка[11], [,які] некалі [жыў,] наш садоўнік, у гэтым каралеўстве Чэшскім быў чужынцам,— сышоў на вечны спакой і пакінуў пасля сябе сына Сімяона Руса[121] і пэўную маёмасць, паперы, даўгі і іншае яму належнае. І прасіў нас вышэйзгаданы Сімяон [выдаць] грамату і агульны ўказ на выпадак таго, што калі б ён знайшоў што-небудзь з маёмасці вышэйзгаданага свайго бацькі, то каб яму была выдадзена і аказана дапамога. На такую слушную і пакорлівую просьбу яго ўсім вясковым старостам[53] нашым, бурмістрам[29], членам магістрата ў гарадах і ўсім іншым нашым падданым у каралеўстве Чэшскім гэтай граматай загадваем, што калі б вышэйзгаданы Сімяон Рус знайшоў што-небудзь з маёмасці, папер, даўгоў, кніг і іншых рэчаў, якія належалі некалі гэтаму ж доктару Францу, бацьку яго, і калі б ён з таго што-небудзь дамагаўся або ў віну ставіў, то каб яму як наследніку і сыну гэта выдалі і заплацілі і сапраўды, улічваючы справядлівасць яго патрабаванняў, неадкладна дапамаглі. А па-іншаму не чыніць.

Дадзена ў градзе нашым Пражскім[97], у чацвер[122] пасля святых Фабіяна і Себасцьяна, лета ад нараджэння сына божага тысяча пяцьсот пяцьдзесят другога і панавання




Фрагмент граматы караля Фердынанда І, дадзенай сыну Ф. Скарыны Сімяону 29. І.1552.

нашага ў каралеўстве Рымскім дваццаць другога, а ў іншых — дваццаць шостага.

Дакумент зберагаецца ў Дзярж. архіве ў Празе: Hátní-ústřední archiv, Registra (Kopiaře) sv. 51, f. 276. Копія. Пераклад з чэш.

**№ 46. ФРАГМЕНТЫ З ПОЛАЦКАЙ РЭВІЗІІ, У ЯКІХ ДАЕЦЦА ВОПІС МАЁМАСЦІ СКАРЫНАЎ**

*9 сакавіка 1552 г.* *Полацк*

(...) Каля яе тры гародні[114] асвейскія пана Станіслава Шышкі. Каля іх гародня Івана Мітраполега з Няшчэрды і Івана Нікіновіча Трайдзевіча, Ваські Скарыны, ігумена[115] Пятніцкага, Лукіяна Галавенчыніча. (Гэта частка тэкста перакладзена з польск.).

(...) На первей посад Великий отца Воскресенского и Офанасовского. (...) Еска Скорына; на яго земли мещан (21), с которых ему позма[116] прыходит две копы и семнадцать грошей.

(...) А то суть мещане под тым же прысудом права майдыборского[50], которые имене свои мають.

(...) Еско Степанович[92], Марко Михъновичь маюць именье село Тройдевичы, тому Марку и жоне Степанове отчызна, дворец с пашнею. К тому дворцу людей волных дымов[117] тры; с тых людей прыходеть им со всякого збожа четьвертая часть. В том же именю маюць дерево бортное и ловы.

Дакумент перадрукоўваецца з выдання: Чтения в О-ве ист. и древностей рос. 1905. Кн. 2/213. С. 2, 16, 42. Адаптацыя са старабел.

**№ 47. ПЕРШЫ СУДОВЫ ДЭКРЭТ КАРАЛЯ ПОЛЬШЧЫ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ЖЫГІМОНТА АЎГУСТА АДНОСНА СПРАВЫ ГАНКОВІЧА І ТОЎСЦІКА З-ЗА МАЁМАСЦІ НЯБОЖЧЫКА Ф. СКАРЫНЫ**

*17 жніўня 1552 г.* *Гданьск*

(...) Так, як дайшлі да нас праз апеляцыю ад рады віленскай іск і справа паміж вяльможным Марцінам Ганковічам[120], істцом і апелюючым, і шаноўным Янам Тоўсцікам, грамадзянінам і лаўнікам[75] віленскім, прыцягнутым або адказчыкам з-за пэўных рэчаў або маёмасці, адпісаных у цяжбе або адчужаных, пакінутых пасля смерці доктарам Францыскам Скарынаю і ацэненых там жа на сто пяцьдзесят коп[69] у літоўскай манеце, як больш поўна выкладзены ў актах і дакументах цяжбы па гэтай справе, у якой адказчык раней запатрабаваў адаслаць яго да гайнага[48] суда, таму

што [менавіта] там быў зроблены іск з-за гэтай маёмасці, і таму згаданая рада адаслала яго [да гайнага суда]. І сённяшні тэрмін апеляцыі, які вынікае з нашага агульнага заключэння, і прадоўжаны абодвум старанам дагэтуль. [Абедзве гэтыя стараны] з'явіліся перад намі, прадстаўленыя іх упаўнаважанымі, іскавая — шаноўным Андрэем Капустам[118], а адказная Марцінам з Венцлавіч[119], і абмеркавалі тэрмін [суда]. Мы, пераглядзеўшы праз нашых камісараў у нашай судовай грамадзянскай установе акты і дакументы і добра зразумеўшы ход самой гэтай справы, лічым правільнай і законнай пастанову згаданай рады, пацвярджаем і ўхваляем [яе] гэтай граматай і адсылаем староны да грамадзянскага гайнага суда для далейшага разбору гэтай справы па форме права. Гэтай нашай [пастановай] і інш.

Дакумент зберагаецца ў Гал. архіве стараж. актаў у Варшаве, Літоўская метрыка, кніга І. В. 31: «Acta seu decreta palatinatus Podlaciae et nonnulla M. D. L. utpote civitatum Vilnensis, Brestensis, Caunensis ac aliarum», f. 259 v. Копія. Пераклад з лац.

Фрагмент судовага дэкрэта караля Польшчы і вялікага князя Вялікага княства Літоўскага адносна справы Ганковіча і Тоўсціка з-за маёмасці нябожчыка Ф. Скарыны. 17.8.1552.



## № 48. ДРУГІ СУДОВЫ ДЭКРЭТ КАРАЛЯ ПОЛЬШЧЫ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ЖЫГІМОНТА АЎГУСТА АДНОСНА СПРАВЫ АНКОВІЧА І ТОЎСЦІКА З-ЗА МАЁМАСЦІ НЯБОЖЧЫКА Ф. СКАРЫНЫ

*15 снежня 1552 г.* *Вільна*

(...) Так, як дайшлі да нас праз апеляцыю ад рады віленскай іск і справа паміж вяльможным Марцінам Анковічам[120], прыдворным нашым, істцом, і шаноўным Янам Тоўсцікам, лаўнікам[75] віленскім, адказчыкам, [прыцягнутым] па праву чужаземцаў для вяртання маёмасці, якая была пакінута па канфіскацыі, зробленай [ужо] нябожчыкам Янам Тоўсцікам, бацькам самога адказчыка, на дабро нябожчыка доктара Францыска Скарыны, як больш поўна выкладзена ў актах і дакументах цяжбы па гэтай справе, у якой адказчык раней запатрабаваў адасланць яго самога да гайнага[48] суда, бо гэта канфіскацыя была зроблена менавіта гэтым судом, а яшчэ раней у гэтай справе бацька адказчыка зрабіў іск супраць істца, з-за чаго гэта рада перадала саму справу на гайны суд, ад якога сам ісцец апеляваў да нас. І сённяшні тэрмін апеляцыі, які вынікае з нашай агульнай пастановы: і прадоўжаны абедзьвюм старанам дагэтуль. (Абедзве гэтыя стараны) законным чынам з'явіліся перад намі, прадстаўленыя іх упаўнаважанымі, іскавая — шаноўным Андрэем Капустам[118] і адказная — Марцінам з Венцлавіч[119] і абмеркавалі тэрмін [суда]. Мы, пераглядзеўшы праз нашых камісараў у судовай грамадзянскай установе акты і дакументы і добра зразумеўшы ход цяжбы па гэтай справе, лічым правільнай пастанову гэтай рады і ўхваляем яе з той, аднак, папраўкай, што паколькі ў цяжбе [адна] старана імкнулася да спынення справы, што выкладзена ў актах лаўнікаў, то мы пастанаўляем, каб на першым судзе, адкрытым пасля свята божага нараджэння, старана адказная была вінна перарываючай [старане] і адсылаем [абедзве] стараны да таго ж самага, раней згаданага суда і на ім староны будуць мець перарываючы тэрмін; і каб правы абедзвюх старон не былі парушаны, але мелі належную сілу і моц (...). Гэтай нашай [пастановай] і інш.

Дакумент зберагаецца ў Гал. архіве стараж. актаў у Варшаве, Літоўская метрыка, кніга І. В. 31: «Acta seu decreta palatinatus Podlaciae et nonnulla M. D. L. utpote, civitatum Vilnensis, Brestensis, Caunensis ac aliarum», f. 345 v. Копія. Пераклад з лац.

## № 49. ФРАГМЕНТ ГРАМАТЫ БУРМІСТРАЎ І РАДЦАЎ ПОЛАЦКА ДА БУРМІСТРАЎ І РАДЦАЎ РЫГІ

*19 лютага 1553 г.* *Полацк*

(...) На которую нашу жалобу и на отповеть князя кунтора невгинского[123] государь наш, милостивыи король Жикгимонт[124], лист свои государьский до князя меистера его милости в тых кривдах и отповедях казати писати рачил, с которым листом государя нашего милостивого послали есмо братью свою Еска Скорину[92] а Гаврила Олексеевича, двух рядцеи, до князя меистера его милости, и вашеи милости за то жедаем, яко то приятелеи и суседов наших, абы ваша милость нам и тым посланцом нашим помочни были, иж быхмо до вас до Риги доброволную дорогу мели, а затым мы также хочем напротив вас чинити, в чом можемись придати. Писана в Полоцку[11] лета божьяго народженья 1553 мъсяца февраля 19 дня, индикта[94] 11.

Бурмистры и рядцы места Полоцкого.

Дакумент перадрукоўваецца з выдання: Russisch-livländische Urkunden. Gesammelt von K. E. Napiersky. Herausgegeben von der archäographischen Kommission. St. Petersburg, 1868. S. 380—381. Адаптацыя са старабел.

## № 50. ПАВЕДАМЛЕННЕ ХРАНІСТА В. БЖЭЗАНА ПРА СІМЯОНА РУСА

*Май 1577 г.* *Прага*

У лета гасподне 1577. (...) 22 мая князь Іржык Чэтл[125], старшы свяшчэннік краю Бехінскага[126] і крумлёўскі парафіяльны свяшчэннік, скончыў жыццё ў Крумлёве[127]. Ён карыстаўся паслугамі доктара, нейкага паляка Сімяона па прозвішчы Рус[121] з Полацка[11]. Той парафіяльны свяшчэннік пахаваны 24 мая. (...)

Дакумент перадрукоўваецца з выдання: Březan V. Źiwot Wiléma z Rosenberka//Stáročeska Bibliotheka. Praha, 1847 Č. 2. S. 227. Пераклад з чэш.

### № 51. РЭКАМЕНДАЦЫЯ РЫМСКАГА КАРДЫНАЛА ІАСАФА ПОЛАЦКАМУ АРХІЕПІСКАПУ НА ІААНА ХРЫЗАСТОМА СКАРЫНУ

*25 красавіка 1558 г.* *Рым*

Святлейшы і шаноўнейшы брат Іаан Хрызастом Скарына[128] ўручыць дадзенае маё пасланне тваёй Правялебнасці. Ён у гэтым гарадскім калегіуме быў абучаны добрым звычаям і навукам і ўзведзены ў сан свяшчэнніка. Цяпер ён вяртаецца ў тваю дыяцэзію[129], каб выконваць свой доўг на карысць яе паствы, і на падставе гэтага майго паслання ён шчыра спадзяецца, што будзе ў цябе карыстацца тваёй прыхільнасцю. Таму, улічваючы як яго здольнасці і асаблівае благачэсце, я рэкамендую яго табе. Калі ж так здарыцца, што ён усвядоміць, што гэта рэкамендацыя мела якоесьці значэнне, дык зробіш ты вельмі добрую справу Святой Кангрэгацыі[130] і мне. Тым часам малюся Усявышняму і Усядобраму Госпаду, каб ён клапаціўся пра тваю поўную зберажонасць. (...)

Дакумент зберагаецца ў ДПБ, ф. 73, Більбасаў В. А., Краеўскі А. А., № 66. Копія. Пераклад з лац.

### № 52. ФРАГМЕНТ РАЗВАЖАННЯЎ БАРТАЛАМЕЯ КОПІТАРА АБ СУСТРЭЧЫ Ф. СКАРЫНЫ Ў ВІТЭНБЕРГУ З М. ЛЮТЭРАМ І Ф. МЕЛАНХТАНАМ

*1839 г.* *Славакія*

Гістарычнае пытанне пра доктара Францыска Скарыну з Літвы — медыцынскага факультэта [універсітэта] Прагі[131], які рабіў падкопы супраць доктара Марціна Лютэра[132].

Усім вядомы жыццяпіс Лютэра і тое, што ён у 1525 г. шчасліва пазбегнуў падкопаў доктара Францыска паляка[133], які пасля прыезду ў Вітэнберг[134] і знешнасцю і манерамі і featured рознабаковай вучонасцю настолькі заваяваў давер Меланхтана[135], што той ахвотна запрасіў яго да сябе. Трэцім на вячэру запрашаецца сам Лютэр, які не менш брата Меланхтана і настолькі быў захоплены талентамі чужаземнага доктара, што запрасіў яго на снеданне і для гульні ў шахматы. Аднак, калі Лютэр павячэраў і амаль у поўнач вярнуўся дадому, яму раптам прыйшла на думку зробленая сябрамі чатыры гады назад перасцярога, каб ён асцерагаўся нейкага доктара Францыска паляка, найхітрэйшага прайдзісвета, падбухторанага епіскапамі за дзве тысячы залатых зжыць яго, Лютэра, са свету. Муж, які не раз ужо зведаў падкопы д'ябла і пагэтаму не мог ставіцца да іх абыякава, да таго быў усхваляваны, што раніцаю на золку збег з Вітэнберга ў Таргау[136], пакінуўшы распараджэнне слузе, каб ён не толькі паведаміў [доктару] паляку пра яго [Лютэра] нечаканы ад'езд, але каб забараніў яму [доктару] падыходзіць да спачывальні, каб часам ён не зачараваў яе. Аднак слуга, які, безумоўна, не быў героем..., не асмеліўся забараніць такому далікатнаму і важнаму чужаземцу зірнуць на спачывальню вялікага мужа. Калі пра гэта даведаўся ў Таргау Лютэр, ён не толькі як след прабраў слугу, але запатрабаваў ад магістрата Вітэнберга, каб гэтага інтрыгана ад д'ябла Францыска падверглі катаванню. Але з магістратам здарылася тое ж, што з Меланхтанам і слугой Лютэра: вучоны і далікатны чужаземец быў адпушчаны з простай парадай пакінуць [Вітэнберг].

Ужо калі б хто-небудзь [уважліва] разгледзеў тое, што ў 1517—1519 г. у багемскай Празе[97] доктар медыцыны універсітэта Францыск Скарына выдаў з густам Біблію рускую і следам за гэтым у 1525 г. ў Вільні[64] іншыя шматлікія евангельскія [ecclesiastica] літоўска-рускія кнігі, то ці не зарадзілася б у яго цалкам натуральнае дапушчэнне, што падазрэнне тое адносілася да гэтага доктара Скарыны, грэка-католіка, які, перакладаючы з Вульгаты[137], быў праціўнікам Лютэра, які перакладаў з арыгінала. І па гэтай самай прычыне ён [Скарына] больш за ўсё мог быць непрыемным гэтаму рэфарматару, пратэстанту (hierowonacho), да таго ж жанатаму. Для ператварэння гэтай гіпотэзы ў гістарычны факт не хапае самага малога: каб хто-небудзь натрапіў у архіве Вітэнберга на рэшткі [дакументаў], якія дакладна падавалі б хоць імя Скарыны. Аднак не з'яўляецца фактам тое, што Скарына сапраўды рабіў падкопы супраць жыцця Лютэра, а толькі тое, што ён падазраваўся ў такім злачынстве супраць сяброў Лютэра і самога Лютэра. Але ні Меланхтан, ні магістрат Вітэнберга, сапраўды, калі ў гэтым падазрэнні ёсць хоць доля праўды, не змаглі б не выканаць высокай волі Лютэра. Мы не пярэчым, што гэта трохі інакш трактуецца Сэкендорфам, аднак мы прытрымліваемся [меркавання] пра гэту справу найноўшых даследчыкаў Лютэра. Мы імкнемся ні да чаго іншага, як да таго, каб высветліць з архіваў наша дапушчэнне пра гэтага доктара Францыска, паляка.

Дакумент перадрукоўваецца з выдання: Kopitar B. Hessychii Glosographi dischipulus et epiglossistis russus in ipsa Constantinopoli sec. XII — XIII... Vindobonae, 1839. XXIV. P. 33—34. Пераклад з лац.

### № 53. ПАВЕДАМЛЕННЕ ФРАНЦЫСКА ТЭПЛАГА ПРА СІМЯОНА РУСА

*1929 г.* *Чэхія*

(...). Садоўнікі. У паноў у Градцы[138] было два сады. Адзін сад быў ля старога хмельніка (сад пана Зуды на Нэжарцы); у яго хадзілі праз драўляны плот і ўзгорак паміж новай будоўляй дубільшчыкаў і фарбавальняй. Другі панскі сад знаходзіўся ля панскага маёнтка ў Зарыбніччы — спадчыннай карчмы і саду ля яе [у раёне бальніцы], праз які праходзяць трубы замкавага водаправода ад оцінскага сасонніка (1667, 1720). Яхім з Градца прывёз сабе недзе ў 1555 г. з Мікулава мараўскага новахрышчонага [тоўфара][139] Якуба на пасаду садоўніка, таму што тоўфары выдатна ведалі садаводства. Тоўфар Якуб з тоўфарам Марцінам, які меў склеп з замкавымі вінамі, вырошчвалі ў горадзе турэцкі гарох, фасоль, агуркі, у аранжарэі — апельсіны, кавуны і іншыя зялёныя расліны. Дрэвы яны паляпшалі, прышчэпваючы «чарэшні на вішнях», таму што жоўтыя і сэрцападобныя чарэшні (чорныя чарэшні) вельмі любіла есці пані Катажына з Градца, забыўшыся пра тое, што тоўфары не былі, як яна, каталікамі. З імі спаборнічаў стары садоўнік Рус з Полацка[11] Шымон Роўсак[12], якога з-за ягонай нядужасці паслаў ягамосць пан у 1584 г. лячыцца ў Добрай Водзе[140] ля Капліцы, даўшы яму 1 капу[69] і 30 грошаў[7]. (...)

Фрагмент перадрукоўваецца з выдання: Teply F. Dějiny města Jindřichova Hradce. Díl 2, č. 1. Jindřichova Hradce, 1929. S. 354. Пераклад з чэш.

## КАМЕНТАРЫІ ДА ДАКУМЕНТАЎ

[1] Лучанін — жыхар г. Лукі (цяпер г. Вялікія Лукі ў Пскоўскай вобл.).

[2] Лукіян Скарына — бацька С. (гл. арт. *Скарына* Лука). Скарга на яго звязана з парубежнай вайной канца 15 ст., у час якой рабаванне было тыповай з'явай.

[3] Сорак рублёў манетай, што чаканілася ў Рызе (шылінгі, фердыцы, маркі, талеры). Якой манетай канкрэтна — невядома.

[4] Гл. арт. *Аміцынус*.

[5] Суфраган — намеснік біскупа.

[6] Плябан — прыходскі свяшчэннік.

[7] Грош — буйная сярэбраная і залатая манета ў еўрап. краінах. С. ўнёс ва універсітэцкую касу сярэднюю суму грошай, аб чым сведчыць спіс шкаляраў гэтага ж ф-та, па якому Венцаслаў сын Ванцаслава са Слуцка заплаціў 4 грошы. Георгій сын Якуба з Ваўкавыска — 2 грошы. Мікалай сын Андрэя з Ашмян — 7 грошаў. Гэта дае падставу меркаваць, што С. жыў у бурсе для бедных.

[8] Магістр — наступная пасля бакалаўра вучоная ступень у сярэдневяковых ун-тах.

[9] Гл. арт. *Леанард* з Добчыц.

[10] Свята святой Люцыі адзначалася 13 снежня.

[11] Гл. арт. *Полацк*.

[12] Гл. арт. *Ліцвіны*.

[13] Вікарый — наменнік біскупа або памочнік прыходскага святара.
[14] Пракуратар — юрыст-паверанны, які меў практыку адваката.
[15] Езус Марыя — тыповы зварот сярэдневяковага пісьменства.
[16] Русін — назва жыхара Беларусі і Украіны ў 16 ст.
[17] Гл. арт. *Падуя.*
[18] Прыёр — пасада, якая адпавядае пасадзе дэкана сярэдневяковага ун-та.
[19] Гэта сведчыць аб тым, што ў 1512 г. С. быў ужо доктарам вольных мастацтваў (вольных навук). Дзе ён атрымаў гэту ступень, невядома. Упершыню С. называе сябе «в навуках вызволеных и в лекарстве доктором» толькі ў 1518 у пасляслоўі да кн. «Ісус Навін» (гл. с. 90).
[20] Гэта дазваляе меркаваць, што ў канцы актавага запісу павінен быў знаходзіцца спіс прысутных вучоных, які, відаць, згубіўся.
[21] Прамотары — апекуны, якіх калегія прызначала кожнаму дактаранту. Іх абавязкам было даваць парады, аказваць дапамогу, падрыхтоўваць да экзаменаў.
[22] Прэсвітэр — духоўны апякун, свяшчэннік.
[23] Верона — стараж. італьян. горад.
[24] Знакамі мед. годнасці на той час з'яўляліся: чырвоны круглы берэт, пярсцёнак, кніга афарызмаў Гіпакрата або Біблія.
[25] Ісус Хрыстос — тыповы зварот сярэдневяковага пісьменства.
[26] Дацыя атаясамліваецца даследчыкамі як з Даніяй, так і з Румыніяй, Малдавіяй. Лацінізаваная назва Даніі ў 15—16 ст. была «Dacia», «Datia». У 1483—1513 каралём Даніі быў Іаан І.
[27] Гл. арт. *Жыгімонт І.*
[28] Іван Скарына — брат С. (гл. арт. *Скарына* Іван).
[29] Бурмістр — службовая асоба гар. ўпраўлення, якая старшынствавала ў магістраце.
[30] Радца — член магістрата — органа гар. самакіравання.
[31] Не выключана, што размова тут ідзе пра С.
[32] Дзедзіч — спадчынны ўладальнік.
[33] Алелькавіч Георгій (Юрый) Сямёнавіч (1492—1542), князь слуцкі. Удзельнічаў у абароне зямель Вял. кн. Літоўскага ад набегаў крымскіх татараў. Вызначаўся талерантнасцю поглядаў. Быў знаёмы са С. і мог быць адным з апекуноў яго кнігадрукарскай дзейнасці.
[34] Весічы (Вяйсеі, Вясейі, Вешычы) — мястэчка ў былым Гродзенскім павеце. Цяпер г. Вейсеяй Ладзійскага р-на Літ. ССР.
[35] Фундуш — зацвярджальная грамата на ажыццяўленне якойнебудзь справы.
[36] Слова «рэктар» ужываецца тут у сэнсе кіраўнік прыкасцёльнай школы і касцёла.
[37] Гл. арт. *Ян.*
[38] Міля — мера адлегласці, розная ў еўрап. краінах. У Вял. кн. Літоўскім складалася з 5 вёрст (малая 1559, 7 м, вялікая 1948,2 м).
[39] Клемент VII (1478—1534), паходзіў з роду Медычаў, папа рымскі (з 1523). Апякун навукі і мастацтва.
[40] Сташкоўскі Якаб (? — 1537), вучыўся ў Кракаве ў 1488; велікакняжацкі сакратар (1503), канцлер біскупа (1523—1526), схаластык віленскі, афіцыял, канонік кракаўскі і сандамірскі.
[41] Схаластык — канонік, пад апекай якога былі кафедральныя, прыкасцёльныя школы.
[42] Канцлер — саноўнік, які ўзначальваў каралеўскую ці царкоўную канцылярыю; распараджаўся дзярж. пячаццю, вёў нагляд над судаводствам у краі і г. д.
[43] Хвалькоўскі Георгій, канонік (1529), кантар (1534), епіскап луцкі (1536—1549), плябан у Гедройцах, Азяросдах, Лынтупах і Віцебску, падскарбій.
[44] Падскарбій — казначэй, пад апекай якога знаходзілася дзяржаўная і каралеўская казна, уладанні і г. д.
[45] Маецца на ўвазе С., які мог пісаць фундушавыя граматы.
[46] Аўторак перад святам святога Мацвея, апостала і евангеліста, у 1526 прыпадаў на 18 верасня. Свята адзначалася 21 верасня.
[47] Вырок, вырак (старабел.) — прыгавор, рашэнне суда.
[48] Гайны — значыць законна пачаты суд.
[49] Войт — асоба, якая ўзначальвала мясцовае (гар. ці сельскае) кіраванне або самакіраванне ў Вял. кн. Літоўскім у 15—16 ст.
[50] Майтборскае, майдыборскае права — тое самае, што магдэбургскае права.
[51] Маецца на ўвазе Вежкгал (Вежгайла) Мікалай (? — 1533), князь, член паноў-рады. Вял. кн. Літоўскага, сакратар Жыгімонта І (1524), біскуп кіеўскі (1525—31) і жамойцкі (1531—33).
[52] Гетман — начальнік войска.
[53] Староста — выбраная або прызначаная каралём асоба са шляхты, якая выконвала адм. і судовыя функцыі ў павеце.
[54] Гл. арт. *Астрожскі* К.
[55] Маршалак дворны — каралеўскі чыноўнік, які выконваў адм.-распарадчыя функцыі ў сенаце і пры каралеўскім двары.
[56] Гл. арт. *Радзівілы.*
[57] Копаць Васілевіч (памёр у 1531), «рускі» пісар (1507—30) Жыгімонта І.
[58] Фларэн — залатая або сярэбраная манета Фларэнцыі, якая ў 12—19 ст. шырока ўжывалася ў некаторых еўрап. дзяржавах.
[59] Свята святога Аляксея адзначалася 17 ліпеня.
[60] Свята святой Марыі Магдаліны адзначалася 22 ліпеня. Пятніца прыпадала тады на 23 ліпеня.
[61] Свята Petri ad nincula адзначалася 1 жніўня. Панядзелак прыпадаў тады на 2 жніўня.
[62] Свята святых апосталаў Сімяона і Іуды адзначалася 28 кастр. Аўторак тады прыпадаў на 23 кастр.
[63] Раман Іванавіч Скарынін—пляменнік С., сын Івана Скарыны.
[64] Гл. арт. *Вільня.*
[65] Маргарыта — жонка С. (гл. арт. *Маргарыта).*
[66] Гл. арт. *Познань.*
[67] Юхт — спецыяльна апрацаваная скура буйной рагатай жывёлы, коней, свіней.
[68] Маецца на ўвазе старабел. мова.
[69] Капа — грашовая адзінка, якая адпавядала 60 грошам.
[70] Свята святых Крыспіна і Крыспіяна адзначалася 25 кастр.
[71] Альбрэхт Гаштольд (г. н. невяд.— 1539), ваявода віленскі і канцлер літ. (1522).
[72] Гл. арт. *Кёнігсберг.*
[73] Гл. арт. *Альбрэхт* Гогенцолерн.
[74] Сенатар — назначаны член сената, які ў Вял. кн. Літоўскім прыраўноўваўся да рады.
[75] Лаўнік — прысяжны засядацель, член магістрата.
[76] Гл. арт. *Кракаў.*
[77] Ваявода — начальнік войска і горада. У Вял. кн. Літоўскім — сенатар, кіраўнік ваяводства (буйнейшай адміністрацыйнатэрытарыяльнай адзінкі).
[78] Кашталян — камендант замка, памочнік ваяводы.
[79] Ураднік — прадстаўнік улады ў Вял. кн. Літоўскім.
[80] Свята Dominicam Sexagesime адзначалася на восьмым тыдні перад вялікаднем.
[81] Гданск — партовы горад у Польшчы, у 16 ст. буйны цэнтр гандлю і культуры.
[82] Возны — службовая асоба, якая звычайна назначалася ваяводам для абвяшчэння судовых дэкрэтаў, уручэння позваў ад судовых устаноў ці караля.
[83] Свята Dominicam cantate адзначалася на чацвёртым тыдні пасля вялікадня. Пятніца прыпадала тады на 26 крас.
[84] Свята святых апосталаў Піліпа і Якава адзначалася 1 мая, панядзелак тады прыпадаў на 29 крас.
[85] Свята Penthecostes адзначалася на сёмым тыдні пасля вялікадня, чацвер тады прыпадаў на 24 мая.
[86] Прынцыпал — высокі падапечны.
[87] Панядзелак тады прыпадаў на 17 чэрвеня.
[88] Свята Ахвяравання святой Марыі адзначалася 21 лістапада.
[89] Свята святой дзевы Кацярыны адзначалася 25 лістапада.
[90] Пенезь — дробная манета. У Вял. кн. Літоўскім 10 пенезяў складалі адзін літ. грош.
[91] Места Рызъское — г. Рыга.
[92] Еська Сцяпанавіч — зяць Івана *Скарыны* — брата С.
[93] Гараднічы — начальнік замка (горада). Прызначаўся са шляхты, засядаў у замкавым (гродскім) судзе, узначальваў гарнізон замка пры адсутнасці кашталяна або старасты.
[94] Індыкт — летазлічэнне па 15-гадовых цыклах.
[95] Гл. арт. *Фердынанд* І.
[95a] Грыспек Фларыян (1504—88), сакратар караля *Фердынанда* І (з 1532) і сакратар Багемскай каморы. Пад яго кіраўніцтвам С. працаваў у пражскім батанічным садзе.
[96] Верагодней за ўсё маецца на ўвазе С.
[97] Гл. арт. *Прага.*
[98] Маецца на ўвазе Хуга Веліум.
[99] Фландрыя — правінцыя ў Бельгіі.
[100] Гульдэн — залатая і сярэбраная манеты. Чаканілася на ўзор фларэна.
[101] Падставай для назвы С. «італьянскім садоўнікам» магчыма быў дыплом доктара медыцыны, які ён атрымаў у Падуанскім ун-це.
[102] Вядома некалькі Нойштатаў (прыгарад Фрыштата ў аўстр. Сілезіі, гарадок ля Вены), але верагодней за ўсё тут згадваецца горад, які размешчаны на ўсходзе Чэшскага каралеўства.
[103] Ян з Пухава — архідыякан храма св. Віта, адміністратар пражскай епархіі (1543—54).
[104] Пухаў — горад у паўн.-зах. Славакіі.
[105] На падставе паведамлення Гаека многія даследчыкі лічаць, што С. памёр у 1540—41 г. Аднак са зместу дакументаў № 46—48 вынікае, што ён памёр у 1551 ці ў студз. 1552. Пагэтаму выраз «колішняга доктара Руса» адносіцца хутчэй за ўсё не да С., а да нейкага інш. ўсходнеславянскага дзеяча. Разам з тым нельга выключаць, што размова ідзе аб жывым С., які некалі тут жыў.
[106] Аляксандр IV, папа рымскі (1254—61).
[107] Леў X, папа рымскі (1513—1521).
[108] Васіль III Іванавіч (1479—1533) — вял. маскоўскі князь (з 1505), змагаўся за цэнтралізацыю дзяржавы.
[109] Іван IV Васілевіч Грозны (1530—84) — вял. маскоўскі князь (з 1533), першы рус. цар (з 1547), спрыяў арганізацыі рус. кнігадрукавання.
[110] Максіміліян І (1459—1519), аўстр. эрцгерцаг, імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі (1493—1519).

[111] Маецца на ўвазе вял. князь Вял. кн. Літоўскага і кароль Польшчы Жыгімонт І, бацька Жыгімонта II Аўгуста.

[112] У часы праўлення Жыгімонта I (1506—48) вядомы толькі адзін друкар, які выдаваў Біблію на рус. мове,— С.

[113] Указанне на каталіцкае веравызнанне С. Пра тое, што ён быў каталікам, сведчыць наступнае: імя Францыск — каталіцкае, быў жанаты на каталічцы Маргарыце, служыў сакратаром і лекарам у каталіцкага біскупа Яна. Але, нягледзячы на гэта, уся яго асветніцкая дзейнасць была адрасавана ў першую чаргу праваслаўным слаям насельніцтва.

[114] Гародня — дворышча, агароджаная пабудова або ўчастак.

[115] Ігумен — настаяцель манастыра.

[116] Позма (старабел.) — даход, плата за карыстанне зямлёй.

[117] Дым — падатковая адзінка (дом і двор аднаго ўладальніка).

[118] Капуста Андрэй Цімафеевіч — староста аўруцкі, кашталян брацлаўскі (з 1566).

[119] Венцлавічы — магчыма, пасяленне ў аўстр. Сілезіі, непадалёку ад Цешына.

[120] Анковіч Марцін і Ганковіч Марцін — верагодней за ўсё адна асоба (гл. дакумент № 46).

[121] Гл. арт. *Скарына Сіяэон Рус.*

[122] Чацвер прыпадаў тады на 29 студз.

[123] Няўгіння — г. Дынабург, цяпер Даўгаўпілс (Лат. ССР).

[124] Жыгімонт II Аўгуст (1520—72), вял. князь Вял. кн. Літоўскага (1544—72) і кароль Польшчы (1548—72), сын *Жыгімонта* I, апошні кароль з дынастыі Ягелонаў.

[125] Іржык Чэтл быў архідыяканам Бехінскага краю.

[126] Бехінскі край — мясцовасць на поўдні Чэхіі.

[127] Крумлёў — горад у паўд. Чэхіі.

[128] Іаан Хрызастам Скарына — нявысветленая асоба; магчыма, з полацкага роду Скарынаў.

[129] Дыяцэзія — епархіяльная акруга, падначаленая архіепіскапу або біскупу.

[130] Кангрэгацыя — саюз абшчын аднаго ордэна ў рымска-каталіцкай царкве або кардынальскі камітэт рымскай курыі, якому даручаліся асобныя сферы царкоўнага кіравання.

[131] Копітар лічыць С. доктарам медыцыны Пражскага ун-та, але гістарычных крыніц не называе. Відаць, гэта яго дапушчэнне.

[132] Гл. арт. *Лютэр.*

[133] У Зах. Еўропе ў 16 ст. палякамі называлі не толькі выхадцаў з Польшчы, але часам і з Вял. кн. Літоўскага.

[134] Гл. арт. *Вітэнберг.*

[135] Гл. арт. *Меланхтан.*

[136] Торгау — горад на Эльбе, цяпер акруга Лейпцыга (ГДР).

[137] Гл. арт. *Вульгата.*

[138] Градцы (Градчаны) — стараж. частка Прагі.

[139] Тоўфар — так называлі ў паўд. Маравіі пратэстантаў.

[140] Добра-Вода — гарадок у паўд. Чэхіі, які ў мінулым славіўся курортамі з жалезістай вадой.

# ЛІТАРАТУРА

## І. ЖЫЦЦЁ, ДЗЕЙНАСЦЬ І СВЕТАПОГЛЯД Ф. СКАРЫНЫ


1. **Александровіч С.** Недакладнасць ці застарэлыя погляды? // Александровіч С. Старонкі братняй дружбы. Мн., 1960.

2. Яго ж. Францішак, Скарынін сын з Полацка // Александровіч С. Па слядах паэтычнай легенды. Мн., 1965.

3. Яго ж. З майго падарожжа // Полымя. 1969. № 8.

4. Яго ж. Па слядах Францыска Скарыны // Александровіч С. Слова — багацце. Мн., 1981.

5. Яго ж. Францыск, Скарынін сын з Полацка // Александровіч С. Тут зямля такая. 2. выд. Мн., 1985.

6. **Алексютовіч М. А.** Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мн., 1958.

7. Яго ж. Святло ў цемры. Мн., 1960.

8. Яго ж. Слаўны сын свайго народа // Беларусь. 1961. № 11.

9. Яго ж. Белорусский первопечатник и гуманист Скорина // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962.

10. Яго ж. Імя яго гучыць у стагоддзях // Полымя. 1967. № 7.

11. Яго ж. Гуманистические идеи в Белоруссии: Скорина и его последователи // История философии в СССР. М., 1968. Т. 1.

12. Яго ж. Францыск Скарына // Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мн., 1968.

13. Яго ж. Светапогляд Ф. Скарыны // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968.

14. **Алексютович Н. А.** и др. Развитие общественно-политической и философской мысли в Белоруссии в эпоху феодализма // Очерки по истории философской и общественной мысли народов СССР. М., 1955.

15. **Анічэнка У. В.** Кніжна-царкоўнаславянскія традыцыі ва ўкраінскай і беларускай перакладной пісьменнасці XVI—XVII ст. // Slavia (Praha). 1966. № 1.

16. Яго ж. Скарынінскія традыцыі на Украіне // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968.

17. Яго ж. Франциск (Георгий) Скорина // Рус. речь. 1970. № 3.

18. **Анушкин А. И.** Во славном месте Виленском: Очерки из истории книгопечатания. М., 1962.

19. Яго ж. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970.

20. Яго ж. Тайны старопечатной книги: Поиски, находки, загадки. Симферополь, 1972.

21. Яго ж. Виленская типография Скорины // Книга: Исслед. и материалы. М., 1975. Сб. 30.

22. **Апрымене А.** Скарынінскія чытанні ў Вільнюсе // Беларуская лінгвістыка. Мн., 1985. Вып. 28.

23. **Архангельский А. С.** Борьба с католичеством и умственное пробуждение южной Руси к концу XVI в. // Киевск. старина. 1886. Т. 15. Июнь.

24. Яго ж. Очерки из истории западно-русской литературы конца XVI — первой половины XVII в. // Чтения в О-ве истории и древностей рос. 1888. Кн. 1.

25. Яго ж. Образование и литература в Московском государстве конца XV—XVII вв. Вып. 3. Казань, 1901.

26. Яго ж. Из лекций по истории русской литературы: Литература Московского государства (кон. XV—XVII вв.). Казань, 1913.

27. **Ахрыменка П. П.** Беларуска-ўкраінскія літаратурныя сувязі // Полымя. 1956. № 3.

28. Яго ж. К вопросу о влиянии Георгия Скорины на украинскую книжность XVI века // Учен. зап. Гомел. гос. пед. ин-та. 1956. Вып. 2.

29. Яго ж. Фальклорна-літаратурныя сувязі ўкраінскага і беларускага народаў. Мн., 1959.

30. **Ахрыменка П. П., Ларчанка М. Р.** Старажытная беларуская літаратура. Мн., 1968.

31. **Баренбаум И. Е., Давыдова Т. Е.** История книги. М., 1971.

32. **Барсов Е. В.** Творцы книгопечатного дела в Москве // Древности: Тр. имп. Моск. археол. о-ва. 1914. Т. 23, вып. 2.

33. **Баршчэўскі А.** Георгі Францішак Скарына — вялікі сын беларускага народа // Ніва (Беласток). 1957. 8 сак.

34. **Бас И.** Предисловия и послесловия старопечатных книг // Ист. журнал. 1941. № 4.

35. **Бахтиаров А. А.** История книги на Руси. Спб., 1890.

36. Яго ж. История первой печатной книги: (В связи с началом книгопечатания на Руси). 2. изд. Спб., 1914.

37. Белоруссия в печати XVI столетия: Библиогр. указ. на иностранных яз. Мн., 1985.

38. Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. док. и материалов. Т. 1—2. Мн., 1959—60.

39. Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979.

40. **Белоусов О.** Монограмма Франциска Скорины // Вокруг света. 1979. № 1.

41. **Бендасюк С. Ю.** Общерусский первопечатник Иван Федоров и основанная им Братская Ставропигийская печатня во Львове. Львов, 1934 (на обл. 1935).

42. **Беркаў П. Н.** Ф. Скарына і пачатак усходнеславянскага вершаскладання // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968.

43. Библейские переводы // Новый энцикл. словарь. Спб., [1912]. Т. 6.

44. **[Болховитинов Е. А.]** О славяно-русских типографиях // Вестн. Европы. 1813. Ч. 70, № 14.

45. Яго ж. Франциск Скорина // Сын отечества. 1821. Ч. 21, № 30.

46. Яго ж. Иоанн Федоров // Болховитинов Е. А. Словарь исторический о бывших в России писателях духовного чина грекороссийския церкви. 2. изд. Спб., 1827. Ч. 1.

47. Яго ж. Скорина (Франциск) // Болховитинов Е. А. Словарь русских светских писателей, соотечественников и чужестранцев, писавших в России. М., 1845. Т. 2.

48. **Ботвинник М. Б.** У истоков учебной книги. Мн., 1964.

49. Яго ж. Скорининские традиции и первая грамматика и диалектика восточных славян // Докл. к XI конф. молодых ученых БССР (Нояб. 1967 г.). Мн., 1967.

50. Яго ж. Лаврентий Зизаний. Мн., 1973.

51. Яго ж. В. Н. Перцев. Мн., 1978.

52. Яго ж. Изучение жизни и деятельности Франциска Скорины в БССР // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979.

53. Браты Скарыны // Беларусь. 1946. № 1.

54. **Брик І.** Йосиф Добровський і українознавство // Зап. Науков. тов-ва ім. Шевченка (Львів). 1925. Т. 141—143.
55. **Буганов В. И.** Скорина, Франциск (Георгий) // Сов. ист. энцикл. М., 1969. Т. 12.
56. **Будовниц И. У.** Словарь русской, украинской, белорусской письменности и литературы. М., 1962.
57. **Булахов М. Г.** Евфимий Федорович Карский: Жизнь, науч. и общественная деятельность. Мн., 1981.
58. **Булгаков М. П.** История русской церкви. Т. 9, кн. 4. История западно-русской или литовской митрополии. Спб., 1879.
59. **Булгаков Ф. И.** Иллюстрированная история книгопечатания и типографского искусства. Т. 1. Спб., 1889.
60. **Василев М.** Общо и приложно книгознание. София, 1970.
61. **Василев М., Ватрацки Б.** Книгознание. София, 1971.
62. **Василенок С. И.** Фольклор и литература Белоруссии эпохи феодализма (XIV—XVIII вв.). М., 1961.
63. Яго ж. Георгий Скорина // В мире книг. 1965. № 5.
64. **Вахнянин А.** О докторе Франциску Скорине и его литературной деятельности. Львов, 1879.
65. Великий белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979.
66. **Верхратский С. А.** Жизнь и деятельность доктора медицины Франциска Георгия Скорины // Из истории медицины: Сб. статей. Рига, 1957. Вып. 1.
67. **Владимиров Л. И.** Франциск Скорина — первопечатник вильнюсский // Франциск Скорина и некоторые вопросы развития книги в Советском Союзе. Вильнюс, 1979. [Knygotyra; 7 (14)].
68. Яго ж. Издательская деятельность Франциска Скорины в Великом княжестве Литовском // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979.
69. **Владимиров П. В.** Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. Спб., 1888.
70. Яго ж. Начало славянского и русского книгопечатания в XV и XVI вв. Киев, 1894.
71. **Владимировас Л. И.** Франциск Скорина — первопечатник вильнюсский. Вильнюс, 1975.
72. **Возняк М.** Історія української літератури. Т. 2, ч. 1. Львів, 1921.
73. **Вольскі В.** Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізма. Мн., 1958.
74. **Воўк-Левановіч Я.** Гістарычнае вывучэнне беларускай мовы ў славянскай філалогіі. Мн., 1925.
75. **Вяземский П. П.** Собрание факсимиле и материалов по книгопечатному делу в портфелях Тихона Федоровича Большакова // Памятники древней письменности. 1879. Вып. 5.
76. **Гайдук М.** Слаўны сын беларускай зямлі // Беларускі каляндар. Беласток, 1967.
77. **Гальперин И.** Забыли о Скорине // Лит. газ. 1967. 27 сент.
78. **Гарбуноў Ц.** З гісторыі друку ў Беларусі (з XVI ст. да 1917 г.) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1962. № 4.
79. **Гарэцкі М.** Гісторыя беларускае літаратуры. 4. выд. Мн., 1926.
80. **Гарэцкі М., Дзяржынскі У., Каравай П.** Выпісы з беларускае літаратуры. Ч. 1. М.; Л., 1925.
81. **Гатцук А.** Очерк истории книгопечатного дела в России // Рус. вестн. 1872. Т. 99, кн. 5.
82. Георгій Скарына: Да 450-годдзя беларускага друку // Беларускі каляндар на 1967. Беласток, 1967.
83. Георгий Скорина и Ренессанс // Преподавание истории в школе. 1967. № 4.
84. Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1—2. Мн., 1968—69.
85. **Глебка П. Ф.** Францыск Скарына і яго дзейнасць // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1972. № 4.
86. **Голенищев-Кутузов И. Н.** Гуманизм у восточных славян (Украина и Белоруссия). М., 1963.
87. Яго ж. Славянские литературы: Статьи и исслед. М., 1973.
88. **Голенченко Г. Я.** Русские первопечатники и Симон Будный // Книга: Исслед. и материалы. М., 1965. Сб. 10.
89. Яго ж. Кнігадрукаванне // Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Мн., 1972. Т. 1.
90. Яго ж. Астранамічныя звесткі ў «Малой падарожнай кніжыцы» Скарыны // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1974. № 4.
91. Яго ж. «Календарь» Франциска Скорины // Из истории книги в Белоруссии. Мн., 1976.
92. Яго ж. Новое о Франциске Скорине // Проблемы рукописной и печатной книги. М., 1976.
93. Яго ж. Студенты Великого княжества Литовского в Краковском университете XV—XVI вв. // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в.: Пробл. взаимоотношений Польши, России, Украины, Белоруссии и Литвы в эпоху Возрождения. М., 1976.
94. Яго ж. Критика буржуазно-националистических построений в изучении жизни и деятельности Франциска Скорины // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979.
95. Яго ж. Астрономические сведения в изданиях Франциска Скорины // Франциск Скорина и некоторые вопросы развития книги в Советском Союзе. Вильнюс, 1979. [Knygotyra; 7 (14)].
96. Яго ж. Итоги Скоринианы // Белороссика: Книговедение, источники, библиогр. Мн., 1980.
97. **Горбачевский Б. С.** С первой печатной строки... М., 1964.
98. Яго ж. Кресты, костры и книги. М., 1965.
99. **Греч Н.** Опыт краткой истории русской литературы. Спб., 1822.
100. **Грицкевич В. П.** Место Белоруссии и Литвы в распространении естественнонаучных знаний в XVI в. // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в.: Пробл. взаимоотношений Польши, России, Украины, Белоруссии и Литвы в эпоху Возрождения. М., 1976.
101. **Грицкевич В. П., Фединец А. А.** Из прошлого белорусско-чехословацких связей в области медицины // Сов. здравоохранение. 1968. № 5.
102. **Грунский Н. К.** Национальная школа Юго-западной Руси // Рус. школа. 1908. № 11.
103. **Грушевський М. С.** Історія української літератури. Т. 5, вип. 1. Культурні і літературні течії на Україні в XV—XVI вв. і перше відродженне (1580—1610 рр.). Київ, 1926.
104. **Грынчык М. М.** Ля вытокаў беларускага вершаскладання // Праблемы мовы і літаратуры. Мн., 1972.
105. **Гусакова Н. А.** Чешский период издательской деятельности Ф. Скорины // Вопр. истории. Мн., 1981. Вып. 8.
106. **Дабрынін М. К.** Беларуская літаратура. Старажытны перыяд. Мн., 1952.
107. **Дварчанін І.** Аб годзе нараджэння Фр. Скарыны // Родныя гоні (Вільня). 1927. Кн. 1.
108. **Дмитриченко В. С.** Нариси з історії суспільно-політичної та філософської думки народів СРСР доби феодалізму. Кіїв, 1961.
109. **Долгова С. Р.** Неизвестное русское сообщение XVIII в. о Франциске Скорине // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979.
110. **Дорошевич Э. К., Конон В. М.** Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972.
111. **Дорошкевич В. И.** Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Первая половина XVI в. Мн., 1979.
112. Яго ж. Франциск Скорина и Николай Гусовский // Неман. 1979. № 1.
113. **Дышыневіч В.** Новае аб Францыску Скарыне // Літ. і мастацтва. 1982. 2 крас.
114. Яе ж. Скориноведение: Некоторые вопросы историографии и библиографии // Книга в Белоруссии: Книговедение, источники, библиогр. Мн., 1983. Вып. 2.
115. Яе ж. Аб крыніцазнаўчым аналізе спадчыны Ф. Скарыны // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1985. № 3.
116. **Евсеев И. Е.** Толкования на Книгу пророка Даниила в древне-славянской и старинной русской письменности // Древности: Тр. Слав. комис. имп. Моск. археол. о-ва. 1902. Т. 3.
117. Яго ж. Очерки по истории славянского перевода Библии // Христианское чтение. 1912. № 12.
118. **Зайцаў В. К.** Перадумовы гуманізму ў Беларусі // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968.
119. Яго ж. Ф. Скарына і еўрапейская Рэфармацыя // Там жа.
120. Яго ж. Францыск Скарына // Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Мн., 1968. Т. 1.
121. Яго ж. Скарына ў Падуі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1968. № 4.
122. Яго ж. О мировоззренческой ориентации Франциска Скорины // Неман. 1968. № 10.
123. **Запаско Я. П.** Першодрукар Іван Федоров: Нарис. Львів, 1964.
124. **Зернова А. С.** Начало книгопечатания в Москве и на Украине. М., 1947.
125. Яе ж. Методика описания старопечатных книг кирилловской печати // Тр. Гос. б-ки СССР. М., 1960. Т. 4.
126. **Змеев Л. Ф.** Русские врачи-писатели. Вып. 1. До 1863 г. Тетр. 2. Спб., 1886.
127. Яго ж. Чтения по врачебной истории России. Спб., 1896.
128. **Зямкевіч Р.** Францішк Скарына // Беларускае жыццё (Вільня). 1919. № 3.
129. Иван Федоров первопечатник. М.; Л., 1935.
130. Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977.
131. Идеи материализма и диалектики в Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1980.
132. Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962.
133. **Иконников В. С.** Опыт русской историографии. Т. 1, кн. 1. Киев, 1891.
134. **Исаевич Я. Д.** Иван Федоров и возникновение книгопечатания на Украине // Федоровские чтения, 1973. М., 1976.

